МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

# СЛОЎНІК
# МОВЫ
# ЯНКІ КУПАЛЫ

У ВАСЬМІ ТАМАХ

## Том 8

**Кніга 1**
**К–Р**
**(ДАДАТАК)**

**Гомель**
**ГДУ імя Ф. Скарыны**
**2012**

# СПІС
# УМОЎНЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

А – Аўтабіяграфія / Пяцьдзесят чатыры дарогі. – Мн., 1963. – С. 327–328.
АБ – Абудова Беларусі / Спадчына – 1990, № 2. – С. 16.
Ан – Антанта. / Спадчына. – 1990, № 2. – С. 18–19.
АК – Арлiныя крыллi. Беларусь – 1963, № 3.
АЛ – Адкрыты ліст Янкі Купалы. Камуністычнае выхаванне. – 1930, № 2.
АПЖ – Акоў паломаных жандар… // Купала Янка. 1918–1928. Творы. – Мн., 1930.
АР – Адчуваньняў разьліў. Чырвоны сейбіт, – 1928, № 4.
Б – Беларушчына. / Купала Я. Спадчына. – Мн., 1922. – С. 18.
Бц – Бацька. / Купала Я. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 74.
Бч – Перад будучыняй. Полымя – 1988, № 10. – С. 10.
ББ – А ў бары, бары… // Купала Янка. 1918–1928. Творы. – Мн., 1930.
БрБ – Брату-беларусу. / Полымя – 1988, № 10.
БЗ – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Будзь здаровы бацька, маці. / Рунь, 1920, № 4.
БН – У бяссонную ноч // Купала Я. Вершы. Спадчына: – Мн., 1922. – С. 91–93.
БС – Больш самачыннасьці. / Беларусь – 1919, 22 кастрычніка.
БСУ – Беларускі сьцяг уваскрос! / Беларусь – 1919, 30 кастрычніка.
В – Вялікдзень. / Наша ніва – 1909, 26 сакавіка.
Вб – Выбары. // Купала Я. У 6 т. Т. IV. – Зб.тв.: Мн., 1953. – С. 236–238 .
ВБ – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Ой, вяду, бяду..// Купала Янка. 1918–1928: Творы. – Мн., 1930.
ВБЛ – Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары… / Полымя, – 1926, № 3. – С. 80–83.
ВВ – На выбары выйшлі. / Зб. тв. Купала Я. У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 263.
ВГ – Вялікі гнеў. / ЛіМ, 1938, 6 жніўня.
ВГР – Вялікая, гордая радасць. / ЛіМ, 1953, 31 студзеня.
ВД – “Не вельмі даўно..” / Наша ніва, 1907, 13 апрыля.
ВМ – Верасень месяц. Купала Я. Ад сэрца: Вершы. Мн., 1940. – С. 72.
ВМР – Выбары да Мястовай Рады. Беларусь, 1919, 28 кастрычніка.
ВН – Вайна і налогі. / Наша ніва, 1914, 9 кастрычніка.

ВНЗ – Ворагі народу павінны быць знішчаны! ЛіМ, 1937, 28 студзеня.
ВР – Як вучыць рэлігіі. / Наша ніва, 1912, 15 сакавіка.
ВС – Вайна і самапомач. / Наша ніва, 1914, 25 верасня.
ВСп – Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год. Полымя, – 1923, № 2, студзень. № 2, – С. 89–91.
ВЧ – “Як ня выйдуць чорнасотники…” / Наша ніва. – 1908, – 24 серпня.
Г – Годзе…// Купала Я. Спадчына. Вершы. – Мн., 1922. – С. 16–17.
Гр – Груганы // Купала Я. Спадчына. Вершы. – Мн., 1922. – С. 215.
ГВУ – Я з гордасцю выбіраю свой народны ўрад. / ЛіМ, – 1937, – 22 кастрычніка.
ГЖУ – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Габруся ў жаўнерку ўзялі.. / – Рунь 1920, № 2.
ГНД – Пад рубрыкай “Грамадскія і навуковыя дзеячы аб гістарычнай пастанове ўраду”. Янка Купала. Народны паэта БССР. // Звязда, – 1932 – 14 кастырчніка.
ГП – Гадаўшчына–памінкі // Полымя. 1988. № 10. – С. 8.
Д – На заходне–беларускія матывы: Дзед // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 72 – 73.
Дз – На Дзяды // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т.II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 187–192.
ДД – Думка за думкай // Беларусь. 1920. 18 чэрвеня.
ДЖ – Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна: Прамова // ЛіМ. 1935. 31 мая.
ДК – Дэмакратычная камедыя // Беларусь. 1919. 31 кастрычніка.
ДНСП – Дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў // ЛіМ. 1932. 15 мая.
ДПЛС – Дзякую партыі Леніна–Сталіна // Полымя. 1941. № 3.
ЕЯП – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Едзе Янка ў поле… // Рунь, 1920, № 4.
ЁЯ – Ёсць жа яшчэ…// Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн., 1993. – С. 403.
Ж – Жыды // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922.
ЖН – Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца: Прамова // Звязда, 1935, 14 снежня.
З – Забабон // Беларусь. 1919. 5 лістапада.
ЗК – “Забраны край” // ЛіМ. 1988. 7 кастрычніка.
ЗС – Зямельная спекуляцыя // Спадчына: 1990. № 2. С. 17–18.
ЗЯЗ – Засвяціла ясна зорка // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн. 1940. – С. 89–90.
ІХ – Ізі Хадыку // Літаратура і мастацтва, 1935, 17 лістапада.

К – Каб.. // Полымя. 1926. № 6.
Кз – Як у казцы // Спадчына. 1990. № 2. С. – 17–18.
Кр – Крыўда // Купала Янка. Спадчына. Вершы. – Мн., 1922. – С. 77.
Кц – На Куцьцю // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 192–197.
КП – Казка аб песьні // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922. – С. 170–171.
КЧ – “Не каханак чорнавокіх…” // Полымя. 1930. № 5–6.
ЛПК – Лямант пана Кавалюка // Полымя. 1966. № 10.
ЛР – Ліст у рэдакцыю. Вельмі паважаны пане Рэдактар! // Беларусь. 1920. 23 сакавіка.
М – Матцы // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922. – С. 18.
МД – З мінуўшых дзён // Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн.. 1993. – С. 117.
Мц – На заходне-беларускія матывы: Маці // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 74–75.
МІ – Моладзь ідзе! // Спадчына. 1990. № 1. – С. 17–18.
МК – “Я мець ад кагосьці…” // Полымя. 1930. № 5–6.
МП – Над чым мы працуем // ЛіМ, 1938, 10 сакавіка.
МПв – Мала іх павесіць … // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 218–220.
МСП – Маё мне сонца правадыр… // Купала Янка. Зб. тв. : У 6 т. Т. IV. – Мн.. 1953. – С. 218–220.
Н – Над Нёманам // ЛіМ. 1988. 7 кастрычніка.
Нз – Незалежнасць // Спадчына. 1990. № 2. – С. 14–15.
НГ – Наша гаспадарка // Купала Янка. Жыве Беларусь. Мн., 1993. – С. 286.
НГд – Новы год // Полымя. 1988. № 10. – С. 8.
НД – Нашы дэпутаты // Полымя. 1966. № 10.
НДп – Нашаму дэпутату // Купала Янка. Зб. тв. : У 4 т. Т. IV. – Мн., – С. 229 – 230.
НДН – Незалежная дзяржава і яе народы // Спадчына. 1990. № 1. – С. 18 – 19.
НК – Нашым кандыдатам у Вярхоўны Савет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову // ЛіМ, 1938, 6 чэрвеня.
НКУС – Народнаму камісару ўнутраных спраў тав. Ежову // ЛіМ, 1937, 31 кастрычніка.
ОШМ – Окупанты на шэсць месяцаў // Звон, 1919. 18 кастрычніка.
Пп – Папросту // Полымя. 1988. № 10. – С. 5.
Пц – Прыяцелі // Полымя. 1966. № 10.

Пт – Паўстань // Купала Янка. 1918 – 1928: Творы. – Мн., 1930.
ПБН – Пісьмо беларускага народу Вялікаму Сталіну // Чырвоная змена. 1936, 11 ліпеня.
ПБП – “Пара ў рукі браць паходні…” // Наш шлях. № 4. – С. 1.
ПВ – Пазвалі вас… // Купала Янка. 1918–1928: Творы. – Мн., 1930.
ПГ – Пабудаван з густам: Да адкрыцця Дома Чырвонай Арміі // Чырвоная змена.1936, 18 лістапада.
ПД – Прамінулі дзянькі… // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 83.
ПДз – Прапаўшае дзиця // Наша ніва. 1907, 28 верасня.
ПЛ – На пачатку лета // Родная прырода. 1974, № 3.
ПЛП – Прамова на 15–годдзі літаратурнай працы // ЛіМ, 1988, 7 кастрычніка.
ПН – Песня і народ: (Трохі казка) // Каляндарная пісанка. – Вільня. 1913. – С. 46 – 48.
ПНд – Паўстаў народ // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 314.
ПС – Паэт аб сабе / З аўтабіяграфічных матэрыялаў Янкі Купалы // Піянер Беларусі. 1947, 25 чэрвеня.
ПСД – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Гэй, паехаў сын Даніла… // Купала Янка. 1918–1928. Творы. – Мн., 1930.
ПСп – Пад прыкрыццём спадніц // Раздавім фашысцкую гадзіну. 1942. № 50.
ПСС – Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 231–232.
ПТ – Песня трактарысткі // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 206–208.
ПЧ – Падарожжа па Чэхаславакіі (Гутарка з народным паэтам рэспублікі Янкам Купалам) // ЛіМ, 1935, 29 кастрычніка.
Р – На рынку // ЛіМ, 1988, 7 кастрычніка.
РКр – Хай рунь красуе... // Наша ніва, 1914, 4 верасьня.
РКП – Радзіма кліча да помсты! Савецкая Беларусь, 1941, 7 лістапада.
С – Сваякі // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922. – С. 209.
См – Сьмейся // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922. – С. 90–91.
СА – Сталінскія арляняты // Зборнік для гурткоў мастацкай самадзейнасці. – Мн., 1938. – С. 178–182.
СБ – Слава бясстрашным: З прычыны вяртання папанінцаў на Радзіму // Чырвоная змена, 1936, 16 сакавіка.
СБНГ – Справа беларускага нацыянальнага гымну // Рунь, 1920, № 4.

СД – Славуты домік // Піянер Беларусі, 1947, 25 чэрвеня.
СЗГ – Смерць забойцам А. М. Горкага // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 252.
СК – На смерць таварыша Кірава // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 158.
СМ – Сярод магіл // Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн., 1993. – С. 268.
СНБ – Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год. Ч. І. // Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн., 1993. – С. 336–340; Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год. Ч. 2. // Беларусь. 1920, 14 студзеня.
СП – Старыя праўды на новы лад // Наша ніва. 1907, 3 серпня.
СС – Аб Сталіне-сейбіту // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 300–303.
ССА – Сонца свяціла нам аднолькава … // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 294.
СТ – Слава творцу новага, шчаслівага жыцця // ЛіМ, 1935, 24 лістапада.
СЧ – Старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякову // Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн., 1993. – С. 432–433.
Т – Тутэйшыя: Трагічна-смяшлівыя сцэны ў 4-х дзеях // Полымя. 1988. № 9. – С. 19–62.
Тж – Торжышча // Спадчына. 1990. № 2. – С. 15–16.
Тр – Трэба // Беларусь. 1924, 5 студзеня.
ТЗУ – Ты з Заходняй, я з Усходняй… // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 293.
ТП – Табе, правадыр… // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 213–217.
ТС – Тае сьнег // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 74.
У – Увага // Полымя. 1929. № 3.
Ун – Унук // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 73.
УП – Аб усім патроху // Наша ніва. 1907, 28 верасня.
УрП – Урывак з паэмы // Полымя. 1930. № 5–6.
УПУВ– Уваскрашэньне Польскага Універсітэту у Вільні // Звон. 1919, 17 кастрычніка.
УР – На ўсе рукі // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922.
Ф – Фінляндыі // Звязда. 1939, 9 снежня.
Х – Хаўрусьнікам // Полымя. 1929. № 3.
ХБ – Хараство Беларусі // Беларускі каляндар на 1921 год. – Вільня. 1920. – С. 27–30.
ХЛБ – Хто к лесу, а хто к бесу: Жарт // Наша ніва. 1907, 17 жніўня.

ХХ – Хоць за хмараю хмара … // Беларускі каляндар на 1921год. – Вільня. 1920.
ЦСБ – Цуда, створанае бальшавікамі (Ураженні ад паездкі на Беламорска-Балтыйскі канал) // ЛіМ, 1933, 18 верасня.
Ч – Чараўнік: (Забытая казка) // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 319–325.
Чж – Чужым // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 146–147.
ЧС – У чужой старане // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. VI. Вершы і пераклады дакастрычніцкага і савецкага перыяду. – Мн., 1932. С. 50–51.
ЧЧШ – Чым чорт ня шуціць: Маленькі фельетон // Наша ніва. 1913, 24 кастрычніка.
Ш1 – Шарада № 1: (З наградай) // Наша ніва. 1913, 21 снежня.
Ш2 – Шарада № 2. // Наша ніва. 1914, 17 студзеня.
Ш3 – Шарада № 3. // Наша ніва. 1914, 7 марта.
Ш4 – Шарада № 4. // Наша ніва. 1914, 3 красавіка.
Ш5 – Шарада № 5. // Наша ніва. 1914, 3 красавіка.
ШБСЯ– Што было сном, тое стала явай. – (Пісьмо народнага паэта БССР Янкі Купалы) // Звязда, 1934, 17 студзеня.
ШН – Шчаслівы ты, ці нешчаслівы … // Маладое жыццё. 1922. № 2, чэрвень.

# К

**К** (89) *прыназ. з Д.* Спалучэнне з прыназоўнікам “к” выражае:
Прасторавыя адносіны (29).

**1.** Пры абазначэнні кірунку руху або дзеяння да каго-н., чаго-н. *Зайшоў гэта я неяк к рэдактару, папрасіў у яго, ці не дасць якой работы.* Ан, 18. *Я* [Нёман] *іх* [людзей] *не ваблю сваею ўжо красай: Вецер інакшы ім дзьме ў галаве, – Вісла адным ўсміхаецца ласа, Тыя заплюшчыўшысь пруцца к Няве.* Н. Ан, 19; АБ, 16; Бч, 9; БН, 92; ВБЛ, 82 (2); Г, 17 (2); ЗК, 42, 43; Нз, 14 (2); НД; Пп, 5 (2); Пц, (2); ПВ; ПЛП; СМ; Т, 60; ТП, 217; УрП, 51; Ч, 319, 323; ЧС, 50–51; $Ш_1$.

Часавыя адносіны (6).

**2.** Пры абазначэнні накіраванасці дзеяння да пэўнай часавай мяжы. *Да 21 года гаспадарыў* [Купала] *дома – араў, касіў, сек дровы. К таму часу памерлі бацька, малодшы брат і дзве меншыя сястры.* А, 328. *Як вымераны ўтоптаныя сьцежкі! Бо дорага яйцо к хрыстосаваму дню, Бліны к калядам, к сёмусе адзежка, Ды тое, што хаціна ўстала на краю.* ВБЛ, 81. СНБ, 339; Т, 60.

Аб’ектныя адносіны (51).

**3.** Пры абазначэнні матыву, мэты якога-н. дзеяння. *Хай жа гэтая думка, што мы* [беларусы] *будуем сваю Бацькаўшчыну ня толькі для сягодняшняга бурлівага часу, але і для будучых прыхільнейшых вякоў, павядзе нас “к свабодзе, роўнасьці і знаньню”.* БСУ. *Час ішоў. К жыццю новаму клікі пачуліся; Ўсе народы паўсталі на бітву за права свае.* Б, 18.

**4.** Пры абазначэнні асобы, прадмета, з якімі звязана якое-н. дзеянне, стан, прыкмета, якасць. *У нявольніка заўсёды ёсць больш помства нянавісці к другім, чымся ў чалавека вольнага.* НДН, 19. *За другім* [сынам] *была ахвота К лежні, к панаванню; За чужой-бы жыў работай, Спаў-бы да зьмяркання.* Дз, 189. // Ужываецца ва ўстойлівых спалучэннях. [Мікіта]: *К чорту пажарніцкую каманду!*

*К чорту пажарніцкую кар'еру! І нямецкае шпрэхэн к чорту! І нямецкая губарнатарская канцэлярыя к чорту!* Т, 33.

**5.** Пры абазначэнні далучэння да чаго-н. *Калі, пасля падзелу Польшчы, Беларусь адышла к Маскоўшчыне, беларусаў гналі ваяваць, хоць аб беларускім войску ніхто не адважыўся і падумаць.* БВ, 16. *К таму ж , на лік мы* [беларусы] *народ вялікі – каля 12 мільёнаў.* Нз, 15.

АБ, 16; АК (2); Б, 18; Бч, 9; БС (2); В; ВБЛ, 83; ВН; Г, 17 (2); Дз, 187, 189 (3); ДК; Ж; Кц, 195, 196; ЛР; М, 20; Нз, 14; Пп, 5; ПВ; РС, 40; СНБ, 340; СНБ; Т, 43, 50; Тж, 15; ТС, 74; УПУВ; УрП, 49; ХБ, 28(2); Ч, 322 (2); Чж, 147; ЧС, 50–51.

Мэтавыя адносіны.

**6.** Пры абазначэнні таго, да чаго заклікаюць, пабуджаюць. *І ты, брат, не бядуй, рьвіся к сонцу душой, яшчэ раз не засьні, не засьні.* ХХ. *Гаспадары мы* [беларусы] *ў сябе, а ня госьці, Час к панаваньню нам сьлед церабіць!* Г, 17.

**7.** Пры абазначэнні мэты дзеяння або прадмета. *Станем к змаганьню мы* [беларусы] *з ведзьмаю-крыўдай Дружна, адважна, плячо ў плячо: Рухне старое, хоць крэпкае з віду, Яснае, вольнае створым жыцьцё*. Г, 17.

**Хто к лесу, а хто к бесу**.

**КА** (5) *прыназ. з Д.* У значэнні прыназоўніка "ка" ў спалучэнні "ка мне". *Адчапіся, дзеўка! Што ты ка мне маеш? Бачыш, еду на пабеду, А ты замінаеш.* ЕЯП. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46. Т, 23, 29, 40.

**КАБ**[1] (160) *злучн.* 1. *мэтавы* (94). Падпарадкоўвае даданыя сказы мэты або прызначэнне таго, аб чым гаворыцца ў галоўным сказе. *Сына маці выпраўляла, Крыж на памяць дала. Каб матулю родну помніў, Як паедзе з сяла*. ПСД. *І ніхто з гэтых апекуноў навет і пальцам не кінуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса, каб падбаць аб яго родным краю.* Нз, 15. // Далучае інфінітыўныя звароты са значэннем мэты. *Газэта выквалілася ў мяне з рук. Патупіўшы вочы, я ўзяўся за клямку, каб выйсці.* Ан, 19. // У спалучэнні з узмацняльнай часціцай "хоць". [Мікіта]: *Нешчаслівым для гандлю і мне сягоняшні дзень выпаў. Каб хто хоць на смех запытаўся аб марках.* Т, 34. // У складзе састаўных злучнікаў мэты: "дзеле таго каб", "для таго каб". *Мы пішам гэта ня дзеле таго, каб надрукаваць і даць магчымасць прачытаць*. ОШМ. *Імпэрыялістычная заграінчная буржуазія адзіным фронтам з рэшткамі капіталістычных элементоў у СССР напружвае ўсе свае сілы для таго, каб перашкодзіць гэтай творчай рабоце працоўных мас..* АЛ. *Параўн.* дабы, чтобы. Ан, 18 (3), 19; АБ, 16 (2); АЛ (3); БЧ, 9;

БрБ, 6 (2); БВ, 16; ВМР; ВН; ВР (5); ВС (2); ВСп, 90, 91; Д, 73; ДК; ЗЯЗ, 89; Кз, 17; Кц, 193; М, 19, 20 (2); МІ, 17; Нз, 15; ОШМ (2); Пп, 5 (2); Пр (5); ПДз; ПС; ПСД (2); РКП (3); СК, 158; СНБ, 338; СП; СС, 302, 303; СЧ; Т, 20, 23, 27, 29, 32, 34, 35, 40 (2), 42, 45 (3), 48, 52, 53, 56, 60; Тр; Тж, 15 (3), 16; ТП, 217; ХЛВ, 316 (2); Ч, 321 (2), 323, 325 (2).

**2.** *умоўны* (5). Падпарадкоўвае даданыя ўмоўныя сказы. *Ня шкода б было гэтых грощай, каб яны шлі на карысць чалавеку.* УП. [Дама]: *У мяне з'явілася цудоўная ідэя: той вечар у вас на імянінах, перад выхадам немцаў, такое мілае ўражанне пакінуў, што я вельмі была б шчаслівай, каб сягоння яго паўтарыць.* Т, 51. Т, 36, 44; ХБ, 29.

**3.** *тлумачальны* (60). а) Падпарадкоўвае даданыя дапаўняльныя сказы. *Вядома, не абходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засыпаў, а коні тым часам траплялі ў шкоду*. ПС. *Мы* [беларусы] *толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь*. БВ, 17. // Далучае інфінітыўныя выразы для тлумачэння або ўдакладнення галоўнага сказа. *Слабейшыя народы, асабліва уваскросшыя на тэрыторыі быўшай Расіі, змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць, не папускаючы свайго і не захопліваючы чужога*. СНБ. [Мікіта]: *Страшэнна, меджду протчым, адпаведная хвіліна, каб паўтарыць мамзэль Насце сваю адвечную пропозыцыю*. Т, 42; б) Падпарадкоўвае даданыя дзейнікавыя сказы. *Трэба, каб само нашае грамадзянства ўзялося шчыра за гэту работу*. АБ, 16. [Мікіта]: *Для нас адно важна: каб тавар куплялі, каб тавар не залежваўся*. Т, 34; в) Падпарадкоўвае даданыя азначальныя сказы. [Мікіта]: *Меджду протчым, я не з такіх, мамаша, каб упутацца*. Т, 56. *..не было больш-менш вялікшага – ці то палітычнага, ці то навучнага здарэння на Захадзе, каб яно не адгукнулася на Усходзе.* Тж, 15; г) Падпарадкоўвае даданыя сказы характару і спосабу дзеяння ў адпаведнасці з суадносным словам “так”. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я залезу сюды, а вы станьце так, каб мяне засланіць.* Т, 52. *Гусьлямі, лукам і сьвятлом Будзіце* [ганцы], *клічце і сьвяціце, І так спануйце іхнім* [людзей] *сном, Каб сон іх счэз і ўсталі жыці.* Кц, 196. АБ, 16; АЛ (2); АПЖ; БВ, 17; БС (3); ВБ; ВБЛ, 83; ВМР; ВР; ВС (2); ВСп, 89 (2); ГВУ; ДД (2); ДК (2); ЖН; З; Нз, 14 (2); ОШМ (2); См, 90; СБНГ; СНБ (3); Т, 21, 22 (2), 23, 25, 34, 35 (2), 36, 40, 48 (3), 50, 52, 56 (2); ХБ, 30.

**4.** Уводзіць пабочныя і ўстаўныя словазлучэнні і сказы. *Прададзены ўжо (каб не быць галаслоўным) двор Беларучы ў Менск. павеце..* ЗС, 18.

**КАБ²** (19) *часц.* Ужываецца пры выказванні пажадання, праклёну. [Мікіта]: (*Набок*). *Каб яго* [дакумент] *за Буг вынесла, меджду протчым.* Т, 61. *Зрабілі з вас гаспадароў. І вы з рабоў пайшлі ў цары...– О, каб не ў краты толькі з крат!? Паклон аддаў вам азіят..* ПВ. К (6); МПв, 220 (2); Т, 23, 32, 33, 48, 49, 54, 61 (2).

**Каб…**

**[КАБАЛА]** *ж.* Поўная залежнасць ад каго-н.; прыгнёт. *Яны* [ворагі народа] *рыхтавалі зноў нам* [людзям] *бізун памешчыка, урадніка і кабалу фабрыканта.* ВНЗ.

Адз. В. *кабалу*: ВНЗ.

**[КАБЕТА]** *ж. Разм.* Сталая жанчына. [Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, паклаліся ўпоперак вуліцы: “Хай высяляюць!” – сказалі сабе гэтак: “Хай праз нашы галовы ўвойдуць у нашы родныя хаты!”* Т, 43.

Мн. Н. *кабеты*: Т, 43.

**[КАБЫЛА]** *ж.* Самка каня. [Аленка]: *А я чула, што і цётка Бадунова таксама едзе на белай кабыле з Смаленску.* Т, 55.

Адз. М. *кабыле*: Т, 55.

**[КАВА]** *ж.* Жалудовы напітак. *Беларус-жа ім на тое: – Сваячкі мае вы: Смачны жолудзь вам на каву, Дый высока дрэва!* С, 209.

Адз. В. *каву*: С, 209.

**[КАВАДЛА]** *н.* Жалезная падстаўка для ручной коўкі металу. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня з душы і гартоўна, як сталь, Якую пяе арлоў горных сям’я, Якую пяе пры кавадле каваль.* СС, 300.

Адз. М. *кавадле*: СС, 300.

**КАВАЛЬ** (2) *м.* Майстар па коўцы металу. . *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня з душы і гартоўна, як сталь, Якую пяе арлоў горных сям’я, Якую пяе пры кавадле каваль.* СС, 300. *Арлы-самалёты Ўсё неба ўзялі, І волю здабылі Сабе кавалі.* Там жа.

Адз. Н. *каваль*: СС, 300. Мн. Н. *кавалі*: СС, 300.

**[КАВАЦЦА]** *незак. перан.* Гартавацца. *Агнём і жалезам куецца моц, гарт, доля і воля народная.* ПЛП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *куецца*: ПЛП.

**КАВАЦЬ** (4) *незак. перан.* Закоўваць (у кайданы). Ствараць што-н., дамагацца чаго-н. *Ох, видаци вельми хочэцца Пурышкевичам, Дубровинцам Ковы новые каваць, Изноў турмы напаўняць…* ВЧ. *Ад хаты да хаты йшла* [крыўда] *з хвалай, Узьвялічвала троны, кароны; Нявольнікам путы кавала, Пладзіла сусьветныя стогны.* Кр, 77.

Інф. *каваць*: ВЧ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *куе* (2): ДЖ (2). Пр. адз. ж. *кавала*: Кр, 77.

**[КАГЦІСТЫ]** *прым. перан. Разм.* Захопніцкі, сквапны. *З-пад ног, з утоптанай нары Паўзе ўжо збэшчаны павук І ў сто, у сто кагцістых рук Хапае вас рабы-цары, – Як бы ўжо вы не ўладары…* ПВ.

Мн. Р. *кагцістых*: ПВ.

**[КАДРЫ]** *толькі мн.* Асноўны састаў кваліфікаваных рабочых. *Бацяя рыхтуе для сябе “кадры” рабочых, арганізаваўшы для падлеткаў заводскія школы.* ПЧ.

В. *кадры*: ПЧ.

**КАДЭТ[1]** *м.* Выхаванец кадэцкага корпуса. *У кажусе і ў куртцы новай Сінявокі хлопчык кадэт У канаве злажыў пад Растовам За цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81.

Адз. Н. *кадэт*: ВБЛ, 81.

**[КАДЭТ][2]** *м.* Член контррэвалюцыйнай канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі ў дарэвалюцыйнай Расіі. *Мушу* [Купала] *ўспомніць тагочасную адну пашыраную чутку, паводле якое польскія “эндэкі” і расійскія “кадэты” ўжо тады падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя – палякам, усходняя – расійцам.* У.

Мн. Н. *кадэты*: У.

**[КАЖАН]** *м.* Лятучая мыш. *Лапацяць крыламі жутка Кажаны, начніцы, Як-бы суд спраўлялі тутка Ведзьмы-чараўніцы.* Дз, 191.

Мн. Н. *кажаны*: Дз, 191.

**КАЖНЫ** *гл.* **КОЖНЫ**.

**[КАЖУХ]** *м.* Доўгая верхняя вопратка з вырабленых аўчын. *У кажусе і ў куртцы новай Сінявокі хлопчык кадэт У канаве злажыў пад Растовам За цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81.

Адз. М. *кажусе*: ВБЛ, 81.

**КАЖУЧЫ** (9) *дзеепрысл. да* казаць *у* 1 *знач.* [Аленка]: *(..сур’ёзна кажучы). Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы.* Т, 30.

◊ **Агулам кажучы** (*у знач. пабочн.*) – падводзячы вынік, падагульняючы вышэй сказанае. *Агулам кажучы, трэба больш за ўсё надзеіцца на свае сілы і не агіляцца па баках.* ВС. **Іначай кажучы** (*у знач. пабочн.*) – іншымі словамі. [Мікіта]: *..па-трэцяе: вось пападаецца па дарозе якая-небудзь контрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупы, бульба, сала, масла, цыбуля, рэдзька і гэтаму, медждў протчым, падобнае.* Т, 45. **Не пры людзёх кажучы** (*у знач. пабочн.*) – выражае пажаданне, каб тое непрыемнае, пра што ідзе размова, мінала ўдзельнікаў гутаркі. [Янка]: *(да Аленкі і Гарошкі). Як вам спадабаліся гэтыя, не пры людзёх кажучы, вучоныя?* Т, 27. **Ня кажучы аб чым** (*у знач. пабочн.*) – аб чым-н. добра зразумелым. *Яго* [беларускага края] *балоты, калі пакуль што не даюць карысьці, нікому не замінаюць, а з часам дадуць багацейшы запас тарповага апалу, ня кажучы ўжо аб тым, што торпа, прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае паляпшэньне зямлі.* ХБ, 30. **Паміж намі кажучы** (*у знач. пабочн.*) – аб чым.-н. такім, чаго не варта гаварыць іншым, аб якім-н. сакрэце. [Мікіта]: *Паміж намі кажучы, медждў прочым, а дзеля ўсякага*

*такога здарэння з пару дзён хадзіў на такія курсы, але нічога ў галаву не палезла.* Т, 56. **Па праўдзе кажучы; праўду кажучы** (*у знач. пабочн.*) – гаварыць шчыра, адкрыта. *Па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэтае вучылішча, я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай.* А, 328. [Аленка]: *Ды, праўду кажучы, доўга ці коратка – гэта не важна. Але ў нас, цётачка, важнейшая бяда.* Т, 54. СНБГ.

**КАЗА** (4) *ж.* Свойская жывёліна. [Аленка]: *Напрыклад, вы* [Мікіта] *болей прынеслі б для сябе і для грамадзянства карысці, каб узяліся... ну хоць бы...* [Янка]*: (перабіваючы). ...на Камароўцы козы пасвіць? І чаму б, самдзеле, не так?* Т, 36. [Янка]: *Ездзі сабе са сваімі манаткамі ды ездзі сабе, як гандляр з козамі з кірмашу на кірмаш, туды-сюды ездзі сабе ды ездзі.* Т, 55.

◊ **Дойная каза** – пра крыніцу матэрыяльных даброт. [Янка]: *Як уважаю, дойная каза выйшла з вашай* [Мікіты] *свабоднай прафэсіі аратара: столькі грошай, ды яшчэ дармовыя пайкі!* Т, 46. **Як з козамі на торг** *гл.* торг.

Адз. Н. *каза*: Т, 46. Мн. В. *козы*: Т, 36. Т. *козамі* (2): Т, 25, 55.

**[КАЗАК]** (2) *м.* Радавы асобых вайсковых часцей. [Гарошка]*: Ну, разумеецца, казакі не спалохаліся гэтага.* Т, 43. [Гарошка]: *Нагналі гібель казакаў, сам нават спраўнік з Менску прыехаў.* Там жа.

Мн. Н. *казакі*: Т, 43. Р. *казакаў*: Т, 43.

**КАЗАЦЬ** (92) *незак.* **1.** Выказваць вусна думкі, меркаванні; расказваць, гаварыць. *Калі пачаўся беларускі рух, калі цёмные дагэтуль сяляне нашы, убачыўшы крыху сьвету, зразумелі, хто яны такіе, і сталі голасна казаць, што яны – беларусы, заварушыліся тады і польскіе, і расейскіе нацыяналісты.* ВР. *– Добра, – кажа рэдактар. – А пісаць умееш? – Яшчэ і як! – кажу яму.* Ан, 18. // *перан.* Заяўляць, абвяшчаць. *Польшча, каторая .. і цяпер кажа суседнім народам, што хоча з імі жыць "як вольны з вольным, роўны з роўным", гэта Польшча павінна даць беларусам магчымасць бараніць свае граничныя слупы войскам беларускім.* БВ, 17. *"Быть по сему", казаў Петраград, і .. было.* НДН, 18. // *перан.* Выклікаць, абуджаць у каго-н. якія-н. пачуцці, думкі. *А ня шкодзіла б ужыць крыху сьмеласьці й замяніць гэтыя чужатворы, якія нічога ня кажуць ні розуму ні сэрцу, болей зразумелымі беларускімі наватворамі – было-б прасьцей і мілагучней.* ВСп, 89.

**2.** *У безас. знач.* Ходзяць чуткі, пагалоскі; говораць. *Цяпер, кажуць, Пангерманія будзе замяняць Антанту, пакуль яна вылечыцца.* Ан, 19. [Янка]: *Эге! Пляшку бачу. А кажуць, што няможна дастаць.* Т, 21.

**3.** *перан.* Абавязваць, загадваць. *Гэту думку мае і закон, каторы кажэ навучаць дзяцей іх веры у роднай мове.* ВР. *..калі-ж беларусы, аткідваючы польшчыну, дамагаюцца правоў для беларушчыны,*

*цёплая ”хаўрузія” кажэ: не, вы павінны зрабіцца расейцамі, а ня быць беларусамі!* Там жа.

**4.** *перан.* Сведчыць. *Нешчасьце людзей мучыць – кажэ прыказка*. ВС.

◊ **Казаць доўга жыці** – прадказваць. *Так сказаў чараўнік, І казаў доўга жыці – Спадкі цень свой на памяць аставіў...* Ч, 320. **Казаў той** (5); **як (то, там) кажуць** (5) (*у знач. пабочн.*) – як прынята гаварыць. *Апрача таго, супрацоўнікамі в-ва зьявіліся тыя людзі, якія, казаў той, працавалі не за страх, а за совесьць.* ВСп, 91. [Гануля]: *Ды яно ж гэтак, мой сваток. Каму па каму, а нам, казаў той, дык два кашы.* Т, 44. *Сынам, як кажуць, маім* [маці] *быў ён млечным, - Хай-бы магілу лепш гэткі сын парыў*. Мц, 74. *Ня слухаймо благіх языкоў, што разсеваюць такіе ці сякіе плёткі, бо, як кажуць, у мор намруцца, а ў вайну налгуцца*. РКр. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць, як то кажуць – “да разбору дзела”, цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту бессістэмную куплю-прадажу*. ЗС, 18. [Гануля]: *Гэтая вайна ды бязладдзе, ці, як там кажуць, рэвалюцыя, пахавалі тыя хвіліны, калі людзі маглі думаць і аб падарунках.* Т, 20**. Няма чаго казаць** (*іран.*) – сапраўды, на самай справе. [Янка]: *Няма чаго казаць – баранілі! У лапці абувалі, з торбамі пушчалі ды ў сібірскія катаргі вывозілі. Гэта называецца – баранілі!* Т, 21.

Інф. *казаць* (4): ВР; Т, 21 (2), 25. Абв. цяп. адз. 1 ас. *кажу* (9): Ан, 18 (4), 19; З; Т, 34, 44, 60. 3 ас. *кажа* (28): Ан, 18 (4), 19; БрБ, 6; БВ, 17; Вб, 236 (2), 237 (2); ЕЯП; ЗЯЗ, 89; Т, 21, 23 (2), 31, 44 (3), 45, 54, 56, 57; УПУВ; Ч, 319; *кажэ* (6): ВС; ВР (2); Дз, 192; РКр; ХЛБ. Мн. 2 ас. *кажаце* (4): Т, 34, 40, 49, 59. 3 ас. *кажуць* (18): Ан, 18 (2), 19; ВСп, 89; ЗС, 18; Мц, 74; РКр; СП; Т, 20, 21, 31, 33, 34 (2), 44, 54; 57; ХБ, 28; *кажаць*: ХБ, 28. Пр. адз. м. *казаў* (13): Б,18; ВСп, 91; Н; НДН, 18; Т, 26, 34, 40 (3), 44 (2), 45; Ч, 320. ж. *казала* (2): Т, 30, 55. Мн. *казалі* (4): БС; Т, 30, 44, 52. Заг. адз. 2 ас. *кажы*: Т, 49. Мн. 2 ас. *кажэце* (2): Т, 22, 60.

**КАЗАЧНА** *прысл.* Незвычайна, дзівосна, цудоўна. *Гэта – курорты Карлавы вары, Марыянскія лазні, гэта казачна прыгожыя Мацохскія пяшчоры*. ПЧ.

**[КАЗАЧНЫ]** *прым.* Які існуе толькі ў казках. *Мы* [людзі] *прайшлі гэты шлях, як казачныя асілкі – сямімільнымі, ленінскімі крокамі.* ВГР.

Мн. Н. *казачныя*: ВГР.

**[КАЗАХСКІ]** *прым.* Які адносіцца да казахаў. *Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у адзіна дэмакратычных у свеце выбарах*. ГВУ.

Адз. м. Р. *казахскага*: ГВУ.

**[КАЗЁННЫ]** (2) *прым.* ◊ **Казённая хата** *гл.* хата. **Садзіць на казённы хлеб** *гл.* садзіць.

Адз. м. В. *казённы*: Т, 21. ж. Р. *казённай*: НД.

**[КАЗІНЫ]** (2) *прым.*: ◊ **Заганяць у казіны рог** *гл.* заганяць. **Загнаць у казіны рог** *гл.* загнаць.

Адз. м. В. *казіны* (2): МІ, 17; Т, 57.

**КАЗКА** (23) *ж.* **1.** Апавядальны твор вуснай народнай творчасці. *Але больш за ўсё, я* [Купала] *думаю, зрабілі на мяне ўплыў беларускія народныя казкі, чутыя мною ў дзяцінстве.* ПС. *Край, дзе жыццё я* [Нёман] *сваё пачынаю, Шмат весялей прыглядаўся на свет, Песні і казкі інакшыя баіў, Шчасце цвіло ў ім, як макавы цвет*. Н. // *перан*. Нешта незвычайнае, дзівоснае, цудоўнае. *Ракочуць гуслі звону-звон, На мір-сьвет розгалас нясецца, Як мір-сьвет, коціцца разгон І ў думцэ казкай раздаецца.* Кц, 197.

**2.** Небыліца. *Азірнуўшыся ясным вокам і ўдумаўшыся шчырай думкай на пройдзеныя гэтыя 15 год, мы бачым якіх, – здавалася-б недасягаемых – дасяглі мы* [савецкія людзі] *перамог у вялікім соцыялістычным будаўніцтве: што было сном, тое стала явай, што было казкай, тое стала рэчаіснасцю.* ШБСЯ. *Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, Што буду я вольны, што буду шчаслівы... Што яваю станецца сон міліёнаў, Цудоўныя казкі ў жыццё ператворыш* [Сталін].. ТП, 217. // Быль. *Воля і доля над доламі, горамі Госціць у нас цудатворнаю казкаю.* ДПЛС. *..Кожны край, што дачэсна завецца забраным Гэткіх казак забытых шмат знае*. Ч, 326.

**Казка аб песьні. Песня і народ. (Трохі казка). Чараўнік (Забытая казка). Як у казцы.**

Адз. Н. *казка* (3): КП, 170; ПН, 46; Ч, 319. Т. *казкай* (2): Кц, 197; ШБСЯ; *казкаю*: ДПЛС. М. *казцы* (2): БрБ, 6; Кз, 17. Мн. Н. *казкі*: ПС. Р. *казак*: (2): СС, 301; Ч, 326. В. *казкі* (9): М, 19; Н; ПС (4); ПТ, 206; ТП, 217; Чж, 146. М. *казках* (3): ЗЯЗ, 90; Кз, 17; НК.

**КАЗНА** *ж.* Дзяржава як уладальнік казны. *Але як бы казна не была багата, то пры над'звычайных здарэньнях, як напрыклад вайна, голад, патрабуюцца і над'звычайные расходы.* ВН.

Адз. Н. *казна*: ВН.

**[КАЗЫРОК]** (4) *м.*: ◊ **Браць (беручы) "пад казырок"** *гл.* браць.

Адз. В. *казырок*: Т, 32 (2), 33, 42.

**[КАЙДАНЫ]** (5) *толькі мн.* **1.** Жалезныя кольцы, якія надзяваюцца на рукі і ногі абвінавачаных у цяжкіх злачынствах. *Паўстань з народу нашага, псняр, Былых і будучых вякоў баян, І ў бурны кліч, як буры ўдар, З віхрамі загудзі пад звон кайдан!* Пт. *Брат, паэт! І ты тут – як быльлё, ў ланцугох... Дзе свабодны твой дух, што ня рвеш ты кайдан?* БН, 92. *Параўн.* аковы ў 1 *знач.*

**2.** *перан.* Тое, што скоўвае, абмяжоўвае што-н. *Ды мінулі годы бедаў і кайданаў, Прыйшла радасць, воля Ў хату Сулеймана.* ПСС, 232. *Параўн.* аковы ў 2 знач.; ковы; прасла.

◊ **Адзеты ў кайданы** *гл.* адзеты. **Разбіваць кайданы** *гл.* разбіваць.

Р. *кайданаў*: ПСС, 232; *кайдан* (2): БН, 92; Пт. В. *кайданы* (2): ПБН; ПЛП.

**КАК** *прысл. Руск. Тое, што* як[1] у 4 *знач.* [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говоре, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі кароткі пяткі.* Т, 39.

**КАКАО** *нескл., н. Ісп.* Какава. [Дама]: *Амерыканскае какао..* Т, 51.

**КАКО** *злучн. Руск. Тое, што* як[2] у 5 *знач.* [Поп]: *Душа мая возрадавалася пры созерцаніі, како агнцы сіі возвращяшэсе в стадо свое.* Т, 51.

**[КАКОЙ-ЛІБО]** *займ. Руск. Тое, што* які-небудзь. [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают, бо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47.

Мн. М. *какіх-лібо*: Т, 47.

**[КАЛАМАЖКА]** (8) *ж. Разм.* Лёгкая павозка. [Мікіта]: *Выносьце* [Ганулю] *перашым чынам начоўкі з бялізнай, а я, меджду протчым, вытарабаню каламажку.* Т, 50. [Аленка]: *(прабуючы падымаць паасобку партфелі ў каламажцы). Ну і цяжкія ж гэтыя торбы!* Т, 46.

Адз. Р. *каламажкі*: Т, 46. В. *каламажку* (5): Т, 45 (3), 50 (2). М. *каламажцы* (2): Т, 46 (2).

**[КАЛАСАВАЦЦА]** (3) *незак. перан. Разм. Тое, што* каласіцца. *Цвіці-ж, каласуйся, мой край, Ці сонейка захад, ці ўсход! Аб Сталіне песні спявай! Спявай, беларускі народ!* ТП, 217.

Заг. адз. 2 ас. *каласуйся* (3): ТП, 216, 217 (2).

**[КАЛАСІЦЦА]** (2) *незак. перан.* Набірацца моцы. *Цвіце, каласіцца мой край, Ці сонейка захад, ці ўсход. Спявай, маё шчасце, спявай! Спявай, беларускі народ!* ТП, 214. *Параўн.* каласавацца.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *каласіцца* (2): ТП, 214, 215.

**[КАЛАТНЯ]** (2) *ж. Разм.* **1.** Сварка. *Дзеле чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб палітычнай лучнасьці з Польшчай, калі ўсё робіцца на задор, на сварку, на калатню і варажнечу.* ОШМ. *Параўн.* калачэча.

**2.** *перан.* Бойка, вайна. *Не будзе, не будзе тады Вайны, калатні між людзей; Дзяўчына, юнак малады Не зложаць без часу касцей.* ТП, 216.

Адз. Р. *калатні*: ТП, 216. В. *калатню*: ОШМ.

**[КАЛАЧЭЧА]** *ж. Разм. Тое, што* калатня ў 1 *знач. У гэтай страшнай калачэчы дзеўчынка згубілася и папала пад хунхузоў*. ПДз.

Адз. М. *калачэчы*: ПДз.

**[КАЛГАС]** (6) *м*. Кааператыўная арганізацыя сялян для сумеснага вядзення гаспадаркі. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з калгаса ў калгас пацёк-разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме*. СТ. *Растуць і буйнеюць у сіле, у звеце – Калгасы, соўгасы і гарады*. ПБН.

Адз. Р. *калгаса*: СТ. В. *калгас*: СТ. М. *калгасе* (2): Вб, 237; ЖН. Мн. Н. *калгасы*: ПБН. В. *калгасы*: ВНЗ.

**[КАЛГАСНА-ЗАМОЖНЫ]** *прым*. Багаты, развіты ў галіне сельскай гаспадаркі. *І мне* [Купалу] *тут – у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне час хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі для таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай, Беларуссю вольнай нацыянальна і соцыяльна*. ЖН.

Адз. ж. Т. *калгасна-заможнай*: ЖН.

**[КАЛГАСНІК]** (4) *м*. Член калгаса. *На гэтых папарах, Засевах і пашах Сёння гаспадарацъ Калгаснікі нашы*. КБ. *Гэты* [стаханаўскі] *рух дае магчымасці росквіту нашай радзімы, узбагачэння яе і праз гэта-ж такога палепшання добрабыта рабочых і калгаснікаў, што цяжка нават прадбачыць зараз у марах.* СТ.

Мн. Н. *калгаснікі* (2): КБ; ШБСЯ. Р. *калгаснікаў* (2): СТ; ШБСЯ.

**[КАЛГАСНІЦА]** *ж. Жан. да* калгаснік. *Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых Як гімн перамогі совецкіх жанчын.* ПБН.

Мн. Р. *калгасніц*: ПБН.

**[КАЛГАСНЫ]** (8) *прым*. **1.** Які належыць калгасу. *Частавацца будзем разам З кожным новым годам Верашчакаю калгаснай І калгасным мёдам*. ТЗУ, 293. *На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца колгасныя нівы, навейшыя дасягненні агрономіі, тэхнікі і плодатворчай колектыўнай працы*. АЛ.

**2.** Заснаваны на калектыўнай форме гаспадаркі. *Намі* [савецкімі людзьмі] *пройдзен вялікі і цяжкі шлях. Ад саматужных майстэрняў да Сталінгрэса, да Гомсельмаша; ад мазольнай сахі да трактара і камбайна; ад палыновых вежаў вузкіх палосак да калгасных палёў, каторых не акінуць вокам; ад кулацкага памешчыцкага зняволення да светлага заможнага культурнага жыцця – вось вялікі і складаны шлях Совецкае Беларусі*. ВГР.

Адз. м. Р. *калгаснага*: ВГР. Т. *калгасным*: ТЗУ, 293. ж. Т. *калгаснай*: ТЗУ, 239. М. *калгаснай*: ТЗУ, 239. М. *калгаснай*: СА, 180. Мн. Н. *калгасныя* (3): АЛ; ЖН; ПБН. Р. *калгасных*: ВГР.

**КАЛЕЖСКІ** (5) і **КОЛЕЖСКІ** (4) *прым. Уст*. Як састаўная частка назваў чыноў у цывільных установах дарэвалюцыйнай Расіі.

[Мікіта]: *Колежскі рэгістратар Нікіці Зносілов, меджду протчым.* Т, 60. [Янка]: *Жычу вам* [Мікіту] *надзець калежскага асэсара.* Там жа, 21.

Адз. м. Н. *колежскі* (3): Т, 25, 48, 60; *калежскі* (3): Т, 19, 24, 32. Р. *колежскага* (2): Т, 36, 38; *калежскага*: Т, 41.

**[КАЛЕЙДАСКОП]** *м.*: ◊ **Як у калейдаскопе** – хутка. *У апошнія годы палітычныя перамены ў Еўропе, упадкі і паўставанні малых і вялікіх дзяржаў праходзілі і праходзяць перад нашымі вачыма, як у калейдаскопе.* СНБ.

Адз. М. *калейдаскопе*: СНБ.

**[КАЛЕКТЫЎ]** *м.* Група людзей, аб'яднаных агульнай дзейнасцю. *Ну, як пры такіх справах, пры такіх перспектывах не захапіцца паэту новай бадзёрай песняй, не запець яе разам з усім родным працоўным калектывам.* ЖН.

Адз. Т. *калектывам*: ЖН.

**[КАЛЕНА]** (4) *н.* Частка, месца згібу нагі. *Янка дае яму* [Мікіту] *грошы, Мікіта падыходзіць да Немца, становіцца на адно калена і падае грошы.* Т, 33. *Становіцца* [Мікіта] *на лаўцы перад Настай на калені, засланяючы збольшага яе й сябе распушчаным парасонам.* Там жа, 42.

Адз. В. *калена*: Т, 33. Мн. Н. *калені* (3): СЗГ, 252; Т, 33, 42.

**[КАЛЁНІЯ]** *ж. Разм. Тое, што* калонія. *Тое самае рабіла Нямеччына з палякамі, эльзасцамі ды ўсялякімі заморскімі калёніямі.* НДН, 18.

Мн. Т. *калёніямі*: НДН, 18.

**КАЛІ**[1] (44) *прысл.* **1.** Абстрактнае абазначэнне часу. *Вось калі прыдуць* [чырвонаармейцы], *калі іх пабачу, Вылажу праўду я* [дзед] *ўсю перад імі..* Д, 72.

**2.** Калі-небудзь. – *Ци ты бачыў кали слабоду? – пытае адзін мужык другога.* ХЛБ. [Нёман]: *Чую, ах чую цяпер яшчэ ясна Той неўгамонны расходзісты звон… Сціх, занямеў, аглушылі напрасна; Ці адзавецца калі болей ён?..* Н. Кз, 17; СНБ, 336; Т, 28; ТП, 213 (3), 214 (2), 215 (2), 216 (2), 217 (2).

**3.** Злучальнае слова: а) падпарадкоўвае даданыя азначальныя сказы назоўніку галоўнага сказа, які абазначае пэўны час. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага..* ПЛ. *Мы жывём у такі час, калі амаль кожны дзень прыносіць падзеі вялікай палітычнай важнасці.* МП; б) падпарадкоўвае даданыя дапаўняльныя сказы выказнікам галоўнага сказа. *Паказала гэта палітыка царскага ўрада, калі змучаныя, абарваныя перасяленцы варочаліся з далёкай чужыны ў сваю, быўшую ім вечна мачыхай, родную Беларусь.* ЗС, 18; в) злучае даданыя дзейнікавыя сказы з выказнікам галоўнага сказа. [Гануля]: *Добра ж, калі*

*хто са знаёмых не бачыў, а іначай пойдзе чутка, што і мой сын у грабежнікі ўпісаўся – а яшчэ чыноўнік, скажуць*! Т, 57. БСУ; Вб, 236; ДЖ; ЖН (2); МІ, 17; ПЛ (2); ПЧ; РКП; СБНГ; СНБ, 336, 338 (2), 340; Т, 20, 54; УПУВ (4); ЦСБ.

**КАЛІ²** (157) *злучн.* **1.** (52) У пачатку дададзенага сказа часу выражае: а) частковае або поўнае супадзенне ў часе дзеяння галоўнага і дададзенага сказаў; абазначае: у той час як. *Калі мы* [сям'я Луцэвічаў] *жылі ў Прудзішчах (тады, я* [Купала] *быў яшчэ хлопчыкам), у нас служыў рабочы, нехта Пасляк (нават прозвішча памятаю).* ПС. *Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасьне на яе аграбленые абшары з вялікім разгонам рынуліся з усходу – расійскіе бальшавікі, з захаду – польскіе нацыяналісты.* СНБ; б) паслядоўнасць дзеяння; абазначае: пасля таго, як. *Мы памятаем, як польская соймавая камісія была вельмі нездаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыў слова окупацыя.* ОШМ. *Вольна ўздыхнулася, калі пераехалі мы* [дэлегаты] *праз мяжу ў СССР, адчулі сябе дома.* ПЧ. А, 328; АБ, 16; АЛ (2); АПЖ (2); БрБ, 6; БВ, 16 (2); БС; Вб, 237; ВГ; ВГР; ВМР (2); ВН; ВР (3); ДК; ДНСП; Ж; ЖН; ЗС, 17; МІ, 17; Нз, 14; НДп, 229; ОШМ (2); ПЧ; СНБ (2); Т, 22 (2), 32, 34, 35, 36, 40 (2), 41 (3), 43, 58, 62; Тж, 15; ХБ, 29. *Параўн.* когда, гды.

**2.** (94) У пачатку дададзенага сказа рэальнай умовы абазначае: пры ўмове, калі. *Хіба можа цёмны беларускі абыватаь пажадаць беларускае школы, калі ён ня ведае, ці прынясе яна яму карысьць!* ДК. *На помач са стараны малая надзея, калі ідзе на цэлым сьвеце крывавае змаганьне за істнуваньне цэлых народаў, цэлых гасударствоў*. ВС. // Ужываецца ва ўстаўных сказах з адценнем умоўнасці. *У той час – калі ня мыляюся – "Gazeta Godzienna" была органам віленскіх "эндэкаў"*... У. *Палякі, як і бальшавікі, калі верыць адозьве начальніка Польскай дзяржавы, нясьлі з сабой вызваленьне Беларусі з адвечнага ярма.* СНБ. *Параўн.* ежэлі. Ан, 19; АБ, 16; БВ, 16; БС (3); ВН; ВР (3); ВС; ДК (7); ЖН (3); З; ЗС, 18; Кз, 17; МІ, 17; МП (3); Нз, 14 (2); НДН, 18 (3); ОШМ (2); ПЛП; ПС; ПЧ (2); СБНГ (2); СНБ (3); СП (3); Т, 20, 21, 22 (5), 25, 27 (3), 28, 29 (2), 30 (4), 33 (2), 34, 37 (2), 41 (2), 42 (2), 45, 49, 50 (2), 52, 53, 55, 60, 61; УПУВ; УР; ХБ, 29, 30; ХЛБ; $Ш_2$; $Ш_3$.

**3.** Падпарадкоўвае дадзеныя дапаўняльныя сказы галоўным. *Не працуйся, кали гоняць дарогу правиць не сваю дый дарма.* СП.

◊ **Калі ласка** *гл.* ласка. **Калі што якое** *гл.* што.

**[КАЛІБР]** *м.*: ◊ **Featured розная калібру** – неаднолькавы, розны па сацыяльнаму становішчу. *Праз усю дзею праходзяць то сюды, то туды рознага калібру грамадзяне, грамадзянкі і йграе напераменку лера і шарманка*. Т, 33.

Адз. Р. *калібру*: Т, 53.

**КАЛІ-НЕБУДЗЬ** (2) *прысл.* У няпэўны час. [Гарошка]: *(дабрадушна). Табакі не табакі, а перцу калі-небудзь дастанеш ты* [Аленка] *ў мяне за свой доўгі язык.* Т, 39. [Гарошка]: *Як прышпілюць вам* [Янку] *калі-небудзь хвост на гэтах пасядзінах, то прападзе вам ахвота і стаяць, не толькі што сядзець.* Там жа, 44.

**КАЛІ-НІКАЛІ** *прысл.* Зрэдку, час ад часу. *Слых адно праходзе Калі-нікалі У жывым народзе На жывой зямлі.* СС, 302.

**КАЛІСЬ** (19) *і разм.* **КОЛІСЬ** *прысл.* **1.** Тое, што калісьці. *Калісь у гэтым часе, выходзіў селянін у поле і кідаў зерне ў сьвежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні.* ДД. *Пакрыўленыя колісь нашы душы Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ; Снуёмся, ў думках зводных затануўшы, А хтось, а штось і мучыць і пячэ.* Бч, 9.

**2.** *Разм.* Калі-небудзь у будучым. [Янка]: *Калісь вы, пане рэгістратар, апомніцеся, але каб не было запозна.* Т, 49. *Людзі чужые! Хтось калісь злічэ Вашу нам шкоду: Злічэ праступкі… к суду паклічэ Крыўда народу.* Чж, 147. Бц, 74; БН, 92; ЗК, 42; МД (2); МІ, 17; НК; Р; СК, 158; СНБ, 336; Т, 25, 35 (2), 49; ТП, 215; ХБ, 28.

**КАЛІСЬЦІ** (6) *прысл.* Некалі ў мінулым, даўней. *А нашы* [беларускія] *балоты! Клялі іх калісьці. Сягоння – наш скарб яны, спраўджаны сон.* ПБН. *Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы; На стражы пастаўлен сынок; У поўных калісьці ад шчасця сьвятліцах Чужак зняважае дачок.* ЗК, 42. БрБ, 6; ПБН; Ч, 326; $Ш_3$. *Параўн.* калісь, колісь у 1 *знач.*

**КАЛІШНІ** (2) *прым. Разм.* Які адносіцца да мінулага. *Калішні расійскі ўрад гэту справу развязываў лёгка. Ён беларусаў-хлебаробаў зманіваў за Урал, у Сібір, у Туркестан, а то і ў Амерыку.* ЗС, 18. *Калішнія лёзунгі “за нашу і вашу волю”, “вольны з вольным, роўны з роўным” пашлі ў няпамяць..* СНБ.

Адз. м. Н. *калішні*: ЗС, 18. Мн. Н. *калішнія*: СНБ.

**[КАЛМАТЫ]** *прым.* Касматы, кудлаты. *Усходні вучоны – носіць велікарускую вопратку – “падзёўку”, “касаваротку” і доўгія боты, барада калматая.* Т, 19.

Адз. ж. Н. *калматая*: Т, 19.

**КАЛОДА** (3) *ж.* **1.** Кароткае тоўстае бервяно. *У параўн.* [Янка]: *Прытым, якое тут чорта чыноўніцкае productionовішча, калі яно ўжо не стаіць, а ляжыць, ды як яшчэ ляжыць – як трухлявая калода!* Т, 21.

**2.** Вулей з камля дуплістага дрэва. *Паглядзець хоць на гэтае: скрозь каля поля, засеянага грэчкаю, на краёх лесу, каля лугоў, што заліваюцца ў разводзьдзе, стаяць вялікія цяжкія калоды.* ХБ, 30. *Часамі яны* [калоды] *стаяць на зямлі, часамі ўмацаваны на дрэве; іншы стары дуб бывае абвешан гэтымі калодамі…* Там жа.

Адз. Н. *калода*: Т, 21. Мн. Н. *калоды*: ХБ, 30. Т. *калодамі*: ХБ, 30.

**[КАЛОНІЯ]** *ж.* Гвалтоўна захопленая і эксплуатуемая імперыялістычнай дзяржавай краіна. *Нашу дзівосную Совецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх стагоддзяў рабства і нацыянальнага прыгнечання, трацкісцкія вырадкі хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызма.* ВНЗ. *Параўн.* калёнія.

Адз. В. *калонію*: ВНЗ.

**[КАЛОССЕ]** і **[КАЛОСЬСЕ]** *н., зб.* Каласы. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да .. ніў родных, калосьсем ярка маляваных, Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных, Гдзе жоўтая сьвірэпка, гдзе грэчка бяленька.* ХБ, 28. *Шасцяць у калоссі сярпы, Сцяною дабро залягло, Кладуцца снапы ў снапы, – Такога жніва не было.* ТП, 213.

Адз. Т. *калосьсем*: ХБ, 28. М. *калоссі*: ТП, 213.

**[КАЛОЦЦЕ]** *н.*: ◊ **Калоццем у баку** – перашкаджаць, дакучаць. *Мушу вам, сябры, прызнацца, што гэта Антанты сядзіць ужо ў мяне соляй у воку, косткай у горле, калоццем у баку.* Ан, 18.

Адз. Т. *калоццем*: Ан, 18.

**[КАЛЫСКА]** (2) *ж.* **1.** Дзіцячы ложак. *Над калыскай з бегам ночак Песьні роднай не жалей* [маці], *Каб, як вырасьце сыночак, Верным вечна ён быў ей.* М, 19.

**2.** *перан.* Дзяцінства. *Роднай песні вясёлы напеў Не ўзлунаў над калыскай маёй..* ЧС, 50–51.

Адз. Т. *калыскай* (2): М, 19; ЧС, 50–51.

**[КАЛЫХАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* калыхаць у 1 *знач. Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз, 191.

Кар. мн. Н. *калыханы*: Дз, 191.

**[КАЛЫХАЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Гайдацца, хістацца. *Вербы і вольхі калышуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць.* Н.

**2.** *перан.* Акрыляцца, цешыцца. *Пры песельным звоне народ акрылеў, Глядзеў, калыхаўся свабодай, У бітвах верх браў, боль сваю адалеў, Не страх быў змагацца з прыродай.* ПН, 47.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *калышуцца*: Н. Пр. адз. м. *калыхаўся*: ПН, 47.

**[КАЛЫХАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Гайдаць, хістаць. *Пшаніца і жыта Калышуць свой колас у колас.* ВВ, 263.

**2.** Гайдаючы калыску, усыпляць (дзіця). *Ты гадуй сынка, матуля, У пялёнкі спавівай, Калышы, пей люлі-люлі, Пей паціху баю-бай!* М, 19.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *калышуць*: ВВ, 263. Заг. адз. 2 ас. *калышы*: М, 19.

**КАЛЫШУЧЫ** *дзеепрысл. да* калыхаць. *перан.* Парушаючы (спакой, цішыню). *А сёння... Сёння што? Ад рання і да рання, Калышачы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне, Аж рэха далятае да каўказскіх гор.* СК, 158.

**КАЛЯ** (30) *прыназ. з Р.* Спалучэнне з прыназоўнікам “каля” выражае:

Прасторавыя адносіны (26).

**1.** Пры абазначэнні паблізу размешчаных месца, прадмета. *Будзь здаровы, бацька, маці,- Мы пайшлі ужо ваяваці. Сьвішча куля, йяй-ха-ха! Каля вуха дзяцюка.* БЗ. *Наста круціцца каля люстр.* Т, 24. Ан, 19; БЗ, (9); Нз, 14; ПСп; ПТ, 207; СНБ, 336 (2); Т, 43, 48, 52, 58, 60; ХБ, 29 (2), 30 (2).

Колькасныя адносіны (4).

**2.** Пры абазначэнні прыблізнай велічыні, колькасці чаго-, каго-н. *Я* [Купала] *пераклаў ужо каля пяці тысяч радкоў і мяркую перакласці яшчэ тысяч з пяць.* МП. *К таму ж, на лік мы* [беларусы] *народ вялікі – каля 12 мільёнаў*. Нз, 15. ВН; ВСп, 91.

**КАЛЯДНЫ** *прым.* Які бывае на каляды. [Мікіта]: *Во ён гэты, медджу протчым, дакумэнт. (Набок) Каб яго* [Начальніка] *калядны пярун спаліў!* Т, 61.

Адз. м. Н. *калядны*: Т, 61.

**[КАЛЯДЫ]** *толькі мн. Абрад.* Хрысціянскае свята нараджэння Хрыста. *Як вымераны ўтоптаныя сьцежкі! Бо дарага яйцо к хрыстосаваму дню, Бліны к калядам, к сёмусе адзежка, Ды тое, што хаціна ўстала на краю*. ВБЛ, 81.

Д. *калядам*: ВБЛ, 81.

**КАЛЯНДАР** *м.* Даведачнае выданне. *Быў у бацькі каляндар, у якім маю* [Купалы] *ўвагу звярнулі асабліва словы – “дазволена цэнзурай”.* А, 328.

Адз. Н. *каляндар*: А, 328.

**[КАЛЯЯ]** *ж.* Чыгуначны пуць. *Мы* [дэлегаты] *бадай што не бачылі па дарозе таварных цягнікоў, калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ.

Мн. Н. *калеі*: ПЧ.

**КАМАНДА** (6) ж. **1.** Кароткі вусны загад. *Сцяпан падаў каманду: – Па спадчынаму войску – агонь!* ПСп.

**2.** Невялікае вайсковае падраздзяленне. [Мікіта]: *Генэрал… генэрал… пажарная каманда… Ооей! Ооей! Мая ты босая каманда. Няма ў слоўніку*. Т, 32. [Мікіта]: *К чорту пажарніцкую каманду! К чорту пажарніцкую кар’еру.* Там жа, 33.

Адз. Н. *каманда* (4): Т, 32 (2), 33 (2). В. *каманду* (2): ПСп; Т, 33.

**[КАМАНДАВАЦЬ]** *незак.* Быць камандзірам чаго-н. *У нас ляоянскай битвы афицэр камандаваў ротаю и жыў з жонкаю и дачкою ў китайским доме (фаизе).* ПДз.

Абв. пр. адз. м. *камандаваў*: ПДз.

**КАМАНДЗІР** (3) м. Начальнік вайсковай часці. *У Доме Чырвонай Арміі мы нібы ўбачылі разумны, культурны твар камандзіра*

*нашай роднай Чырвонай Арміі*. ПГ. *Прывітанне будаўнікам! Прывітанне нашым камандзірам!* Там жа.

Адз. Н. *камандзір*: БЗ. Р. *камандзіра*: ПГ. Д. *камандзіру*: ПГ. Мн. Т. *камандзірам*: ПГ.

**[КАМБАЙН]** *м.* Сельскагаспадарчая машына. *Ад саматужных майстэрняў да Сталінгрэса, да Гомсельмаша; ад мазольнай сахі да трактара і камбайна.. – вось вялікі і складаны шлях Совецкае Беларусі.* ВГР.

Адз. Р. *камбайна*: ВГР.

**[КАМБІНАТ]** *м.* Прамысловае прадпрыемства. *У Празе мы* [дэлегаты] *наведалі "дабрачынны камбінат" імя Масарыка, дом спартыўнай чэшскай арганізацыі "Сокал"..* ПЧ.

Адз. В. *камбінат*: ПЧ.

**КАМЕДЫЯ** і **КАМЭДЫЯ (5)** *ж. перан.* **1.** Смешная, забаўная сцэнка. [Янка]: *Не справа, мой пане, а такая маленькая камэдыя ў вялікай трагікамэдыі.* Т, 27.

**2.** Крывадушныя паводзіны, прытворнае разыгрыванне якой-н. сцэны, ролі з пэўнай мэтай. *Гэта дэмократычная камэдыя, каторая толькі выклікае ня сьмех, а горкіе сьлёзы, бо чыніцца над жывым, змучаным, абездоленым народам..* ДК. *Мы былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак і яму пагражала камедыя "таварыскага суда", выдаленне з інтэрната, з Бацяўскага "фабзавуча".* ПЧ.

**Дэмократычная камэдыя**.

Адз. Н. *камэдыя* (5): ВР; ДК (3); Т, 27; *камедыя*: ПЧ.

**КАМЕННЕ** (3) і **[КАМЕНЬНЕ]** *н., зб.* Камяні. [Аленка]: *Ну і цяжкія ж гэтыя торбы! Ці не каменне ў іх напакавана?* Т, 46. *Не было, праўда, ўзнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных..* Кз, 17.

◊ **Краявуглавое каменьне** – аснова, важнейшая частка чаго-н. *Няхай жыве Беларуская Соцыялістычная Савецкая рэспубліка, адзін з краявуглавых каменьняў Савецкага Саюзу!* АЛ.

Адз. Н. *каменне*: Т, 46. Р. *камення*: Кз, 17. Мн. Н. *каменні*: РКП. Р. *каменьняў*: АЛ.

**КАМЕНЬ** (7) *м.* Цвёрдая горная парода. *Ой, чалавеча, змярцвелы ў сне!.. Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?.. Камень і вольха перш поймуць мяне!..* Н. *Ідзі* [беларус] *на ўзгор, на камень сядзь, Што пашчапаў пярун на часці, Глядзіся ў зоры, што мігцяць На небе ў радасці і ў шчасці.* БрБ, 6.

Δ **Камень-хлеб:** *Патрасала* [судзьбіна] *пасады, скідала кароны; Тым, другім была каменем-хлебам, Выдавала народам старыя законы, Кіравала зямлёю і небам.* Ч, 322.

◊ **Трымаючы за пазухай камень** *гл.* трымаючы.

Адз. Н. *камень* (4): ВБЛ, 82; ЗК, 43; Н; Ч, 321. В. *камень* (2): БрБ, 6; З. Т. *каменем*: Ч, 322.

**КАМЕНЬНЕ** *гл.* **КАМЕННЕ.**

**[КАМІЗЭЛЬКА]** *ж.* Кароткая адзежка без рукавоў і каўняра. *Жыцьцё за камізэльку аддаеш ты* [бежанец] *без агіды, На соль мяняючы сваё сумленьне.* ВБЛ, 81.

Адз. В. *камізэльку*: ВБЛ, 81.

**КАМІСАР** (7) *м.* Чыноўнік з паліцэйскімі функцыямі; прыстаў. [Рэдактар]: *Дзіўлюся, як гэны камісар прыняў тваю просьбу і перапустку даў. На, чытай!* Ан, 19. *Пісаў нават прашэнне раз на імя павятовага камісара, каб ён даў перапустку ў Радашковічы.* Там жа, 18.

**Масква, Крэмль. Народнаму камісару унутраных спраў тав. Ежову.**

Адз. Н. *камісар*: Ан, 19. Р. *камісара* (2): Ан, 18 (2). Д. *камісару*: НКУС. Мн. Н. *камісары*: СНБ, 340. Р. *камісараў* (2): СНБ, 337, 338.

**КАМІСАРЫЯТ** (6) *м.* Установа на чале з камісарам. *..п. Бэрсан так спужаўся гэтага, што, каб не было ні вам, ні нам, скасаваў увесь камісарыят нацыянальных меншасцей.* СНБ, 338. [Гануля]: *Служыў* [Мікіта] *у камісарыяце паліцыі нейкім там разношчыкам; нейкія "пшэпусткі" іхнія ды іншыя дакументы разносіў.* Т, 57.

Адз. Н. *камісарыят*: СНБ, 337. В. *камісарыят*: СНБ, 338. М. *камісарыяце* (4): СНБ, 338 (2), 339; Т, 57.

**КАМІСІЯ** (3) і **[КОМІСІЯ]** *ж.* Група асоб як орган для выканання пэўных задач. *Мы памятаем, як польская соймавая камісія была вельмі нездаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыў слова окупацыя.* ОШМ. *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, гэтых кіруючых штабах нацыянал-дэмократызму,.. я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Адз. Н. *камісія:* ОШМ. Р. *камісіі*: ГНД. В. *камісію*: АБ, 16. М. *комісіі*: АЛ.

**[КАМІТЭТ]** (2) *м.* Выбарны орган для кіравання якой-н. работай. *Прыйшлі палякі, уцяклі саветы, камітэты і чразвычайка, а мы* [беларусы] *ізноў сабе сядзім і чакаем.* БС. *Пашлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г. д.* Там жа.

Мн. Н. *камітэты* (2): БС (2).

**[КАМОРА]** *ж.* Памяшканне для захоўвання запасаў ежы, хатніх рэчаў. *Летась нягодна, сёлета горай Проста жылося, проста жывецца, Красці ж не пойдзем, хоць у каморы Кожны к нам* [беларусам] *прэцца.* Пп, 5.

Мн. В. *каморы*: Пп, 5.

**КАМПАНІЯ[1]** (8) *ж.* Група асоб, блізка знаёмых для правядзення вольнага часу. [Янка]: *Калі тут кампанія ваша ўладзіла танцкляс для акупантаў, дзе кожны з іх заходзіць і танцуе сваё "Гоцаца", дык чаму ж бы мне ў гэтым танцклясе і не пайграць.* Т, 52. [Мікіта]: *Мамзэль Наста была ў тэй самай кампаніі, дзе выпівалі, і бачыла, што я начальнікавы рэчы ўсе там складаў.* Там жа, 60.

◊ **Цёплая кампанія** – цесна звязаная група людзей, што сумесна праводзяць час за якім-н. непахвальным заняткам. [Начальнік]: *(да Спраўніка і Дамы ). Вашы дакументы. І вы, здаецца, мае старыя знаёмыя? Во цёплая кампанія* Т, 61. *Параўн.* цёплая "хаўрузія".

Адз. Н. *кампанія* (2): Т, 52, 61. Р. *кампаніі*: Т, 53. В. *кампанію* (2): Т, 29, 48. Т. *кампаніяй*: Т, 49. М. *кампаніі*: Т, 60. Мн. Н. *кампаніі*: Т, 49.

**КАМПАНІЯ[2]** (2) *ж.* Сукупнасць мерапрыемстваў для ажыццяўлення якой-н. задачы. *Кампанія гэта нам зразумела, бо гэту рэформу зацвердзіў совецкі ўрад, за гэту рэформу стаяла наша большэвіцкая партыя..* ШБСЯ. *Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыяналфашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса.* Там жа.

Адз. Н. *кампанія*: ШБСЯ. М. *кампаніі*: ШБСЯ.

**КАМУНІЗМ** *м.* Грамадска-эканамічная фармацыя. *Але іхні* [бальшавіцкі] *"камунізм" не мог памірыцца з "нацыяналізмам" беларускага народа.* СНБ, 338.

Адз. Н. *камунізм*: СНБ, 338.

**[КАМУНІСТ]** і **КОМУНІСТ** (2) *м.* Член камуністычнай партыі. ..[праф. Ігнатоўскага] *бальшавікі па нагавору польскіх віленскіх камуністаў арыштавалі і вывезлі ў Смаленск, як заложніка.* СНБ, 339.

Δ **Паэт-комуніст** *гл.* паэт.

Адз. Н. *комуніст*: ПЧ. Р. *комуніста*: ПЧ. Мн. Р. *камуністаў*: СНБ, 339.

**КАМЭДЫЯ** *гл.* **КАМЕДЫЯ.**

**[КАНАВА]** (3) *ж.* Неглыбокі і нешырокі роў для сцёку вады. *У кажусе і ў куртцы новай Сінявокі хлопчык кадэт Ў канаве злажыў пад Растовам За цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81. *Агні, аганькі, дзе зірнеш, – Не страшны канавы і вір… То свецяць, не знаючы меж, Паходні твае, правадыр.* ТП, 215.

Адз. М. *канаве*: ВБЛ, 81. Мн. Н. *канавы*: ТП, 215. Р. *канаваў*: Бч, 10.

**КАНАЛ** (5) *м.* Напоўненае вадой штучнае рэчышча. *Па моры плывуць караблі, Плывуць паміж рыфаў і скал. А рэчкі іначай ляглі, А лёг за каналам канал.* ТП, 215. *Плывуць па Беламорскаму каналу… А лес шуміць… азёры ў хвалях па бакох… Плывуць*

*таварыш Кіраў і таварыш Сталін, Прад імі даль Зямлі Савецкай і вякоў*. СК, 158.

**Цуда, створанае бальшавікамі** *(Уражанні ад паездкі на Беламорска-Балтыйскі канал).*

Адз. Н. *канал*: ТП, 215. Д. *каналу*: СК, 158. В. *канал*: ЦСБ. Т. *каналам* (2): МСП, 187; ТП, 215.

**[КАНАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* канаць. *Прадсмертнаю кляцьбой канаючага раба, Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку, Звярнуся к сонцу..* СМ.

Адз. м. Р. *канаючага*: СМ.

**[КАНАЦЬ]** (2) *незак. Разм.* Паміраць у муках. *Яна* [думка] *аглядала бязьмежна прастор, І пасынкаў бачыла долі, Што рукі з зямлі працягалі да зор, І ў цемры каналі паволі.* КП, 170.

Абв. пр. мн. *каналі* (2): КП, 170; ПНд, 46.

**[КАНДЫДАТ]** (6) *м.* Той, хто намечаны для выбрання куды-н. *Вылучаючы вас, таварыш Ежоў, кандыдатам у Вярхоўны Совет СССР, мы просім даць сваю згоду балатыравацца па Менскай выбарчай акрузе.* НКУС. *Мая песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандыдатах У Совет Вярхоўны.* НК.

**Нашым кандыдатам у Вярхоўны Совет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову**.

Адз. Т. *кандыдатам* (2): НКУС (2). Мн. Р. *кандыдатаў* (2): НК (2). Д. *кандыдатам*: НК. М. *кандыдатах*: НК.

**[КАНЕЦ]** (13) і **КОНЕЦ** (2) *м.* **1.** Край чаго-н. *Мікіта хапае чырвоную хустачку, чапляе на канец парасона і вывешвае празваконную фортачку*. Т, 59.

**2.** Апошні момант чаго-н.; працягласць у часе. *Распасьцер свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да краю, па усім нязьмерным сьвеце, і пачатку яго не найці і канца яму не дабачыць*. З. *А тут* [на Меншчыне] *– у канцы верасьня я* [С. Меч] *працаваў каля адчыненага вакна..* ХБ, 29.

◊ **Без канца й пачатку** – велічны, усемагутны. *Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку, Звярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку, Хай спаліць мне душу, як ствол разбіты граба..* СМ. **Конец-концам** – нарэшце. *Трэба-ж, конец-концам, уцяміць, што тут не Расія і ня Польшча, а Беларусь, каторая ня хоча ніякіх плебісцытаў,.. і ніхто ня мае ніякага “дэмократычнага” права залазіць да яе у хату і пытацца: ці гэта твая хата, ці мая?* ДК.

Адз. Н. *конец*: ДК. Р. *канца* (5): БН, 93; ВН; З; СМ; ТП, 214. В. *канец* (4): ВС; ДПЛС; Т, 40, 59. Т. *концам*: ДК. М. *канцы* (3): Кц, 195; ХБ, 29; ЧЧШ. Мн. Н. *канцы*: Т, 40.

**КАНЕЧНА[1]** *пабочн*. Само сабой зразумела, без сумнення. *Справа гэта вельмі важная, і трэба, канечна, каб наша ідэёвая інтэлігенцыя – поэты і композытары заняліся ёй паважна*. СБНГ.

**КАНЕЧНА[2]** *часц*. Зразумела, вядома. *Гэтые падвышкі канечна не павінны нас пужаць, бо і палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідалі у сваім часе на гарэлку..* ВН.

**КАНЕЧНЕ** *прысл*. Абавязкова, што б там ні было. *Наша вярнуцца к нам мусіць канешне, – Гэткі ўжо быту народаў закон.* Г, 17.

**[КАНКУРЭНТ]** *м.* Сапернік. [Янка]: *Вельмі прыемна пазнаёміцца з новым канкурэнтам у маёй профэсіі.* Т, 30.

Адз. Т. *канкурэнтам*: Т, 30.

**[КАНКУРЭНЦЫЯ]** *ж*. Саперніцтва ў чым-н. [Наста]: *Ацей, што я бачу?! Без усякае цэрамоніі нашаму дзявоцкаму стану канкурэнцыю робіце: – як кокетка фліртуеце* [Мікіта] *з люстэркам*. Т, 24.

Адз. В. *канкурэнцыю*: Т, 24.

**КАНОПЛІ** *толькі мн.* Травяністая расліна сямейства канаплёвых. *А нашы* [беларускія] *балоты! Клялі іх калісьці. Сягоння – наш скарб яны, спраўджаны сон. Сягоння там жыта, з якога не выйсці, Мурожныя травы, каноплі і лён*. ПБН.

Н. *каноплі*: ПБН.

**[КАНТАКТ]** *м. перан*. Цесная ўзаемасувязь чаго-н. з кім-н. *Пажаданні нашы: даць камандзіру годную дома работу і забяспечыць жывы кантакт дома з нашым атрадам работнікаў мастацтваў.* ПГ.

Адз. В. *кантакт*: ПГ.

**[КАНТОРСКІ]** *прым.* Які адносіцца да канторы. *За "плебісцыт" паліцыя пры помачы сьлёсара улезла у рэдакцыю беларускай газэты і забралі усе канторскіе і рэдакцыйные матэрыялы.* СНБ.

Мн. В. *канторскіе*: СНБ.

**[КАНТРАСТАВАЦЬ]** *незак.* Быць процілеглым чаму-н.; адрозніваццa ад чаго-н. *Значна кантрастуе з сельскай гаспадаркай чэхаславацкая прамысловасць, моцна развітая ў краіне*. ПЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *кантрастуе*: ПЧ.

**[КАНТРОЛЬ]** *м*. Захаванне з мэтай праверкі. *Рэшта яго* [падлетка] *грошай, што хаваецца ў Бацяўскай "ашчадкасе" – пад суровым кантролем.* ПЧ.

Адз. Т. *кантролем*: ПЧ.

**[КАНФІСКАВАНЫ]** і **[КАНФІСКОВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* [канфіскаваць]. *У знач. вык*. Забаронены. *Мая* [Купалы] *першая кніжка "Жалейка" была канфіскавана, выдаўцу яе выклікалі ў суд.* А, 328. *Так першая мая кніжка ... "Жалейка" была канфіскована двойчы: пецербургскай цэнзурай і віленскім генерал-губернатарам*. ГВУ.

Кар. адз. ж. Н. *канфіскавана*: А, 328; *канфіскована*: ГВУ.

**КАНЦЫЛЯРЫЯ** (3) і **КАНЦЭЛЯРЫЯ** (2) *ж.* Аддзел установы па справаводству. [Наста]: *А я чула ад пэўнай асобы, што немцы як прыходзяць, то першым чынам направа і налева хапаюць усіх на работу – капаць акопы, а гэта не губарнатарская канцылярыя.* Т, 24. [Мікіта]: *К чорту пажарніцкую кар'еру! (Пускаючы аб зямлю кнігамі).. І нямецкая губарнатарская канцэлярыя к чорту!* Там жа, 33.

Адз. Н. *канцылярыя*: Т, 24; *канцэлярыя*: Т, 33. М. *канцыляры*і (2): Т, 24, 48; *канцэляры*і: Т, 20.

**КАНЧАТКОВА** (2) *прысл.* Беспаваротна, да канца. *Праўду сказаць, я* [Купала] *і да гэтага не быў вельмі рэлігійным, але гэты цынічны торг ксяндза канчаткова выбіў з мяне рэшткі веры.* А, 328. *..я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты горкі мой вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая ..канчаткова ня прышла да пераканаными, што.. толькі аддаючы свае сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна не будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабскага мінулага.* АЛ.

**[КАНЧАЦЦА]** (2) *незак.* Заканчвацца, завяршацца. *Справа канчаецца тым, што школа не адчыняецца, бо трэ' было адчыніць адну, а тут дамагаюцца трох.* ДК. *Калі была якая вайна, то паваююць, колькі трэба, ды і кінуць, пасунуўшы гранічныя слупы ў той ці іншы бок, і на гэтым, бывала, справа канчалася.* СНБ, 336.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *канчаецца*: ДК. Пр. адз. ж. *канчалася*: СНБ, 336.

**[КАНЧАЦЬ]** (2) *незак.* Заканчваць, завяршаць. *Гэтак канчае сваё апісаньне Меншчыны расейскі географ С. Меч.* ХБ, 30. *Вучоныя канчаюць пісаць адначасова, бяруцца за падзорныя трубы, азіраюцца.* Т, 26.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *канчае*: ХБ, 30. Мн. 3 ас. *канчаюць*: Т, 26.

**КАНЧАЮЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* канчаць. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойму і нацыянальнага войска і канчаючы мясцовымі і валаснымі самаўрадамі, - павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці..* НДН, 19. *Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі..* Там жа, 18.

**КАНЮХ** (2) *м. Разм.* Каня. *У параўн. Купляюць, збываюць, гандлююць чужынцы Народным дабром , як сваім… Заплачэ ў пагоду канюх па расінцэ, "Забраны край" жаліцца з ім.* ЗК, 42. *Па шчасьці нязьведаным грэшны народ Ўздыхаў, як канюх за вадою.* ПН, 46.

Адз. Н. *канюх* (2): ЗК, 42; ПН, 46.

**[КАПА]** *ж.* Куча сена, стажок. *Відна з густых коп сена, што на сенажатцы Зьвёздачкамі мігаюць; ..Што там цьвіцець дастатак, праўда і парадак.* ХБ, 28.

Мн. Р. *коп*: ХБ, 28.

**КАПАЦЬ** (2) *незак.* **1.** Рабіць паглыбленне ў зямлі. [Наста]: *А я чула ад пэўнай асобы, што немцы як прыходзяць, то першым чынам направа і налева хапаюць усіх на работы – капаць акопы, а гэта не губарнатарская канцылярыя.* Т, 24.

**2.** Выкопваць (бульбу). *Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72.

Інф. *капаць*: Т, 24. Абв. пр. мн. *капалі*: ВМ, 72.

**[КАПАШЫЦЦА]** (2) *незак. Разм.* Шавяліцца, мітусліва рухацца. *Хутка ўсе ўбачылі, як каля нямецкага ДЗОТ'а капашыліся спадніцы.* ПСп. // *перан.* Турбаваць. *Думы цяжкія роем снуюць, Капашацца чмяльмі ў галаве, Сноў спазнаць залатых не даюць, Кожна мучыць, к загубе заве.* ЧС, 50-51.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *капашацца*: ЧС, 50–51. Пр. мн. *капашыліся*: ПСп.

**КАПЕЙКА** (9) *ж.* **1.** Грашовая адзінка. *Рэдактар закашляўшыся, пасля кажа: – Будзеш атрымліваць, хлопец, па 4 $^1/_2$ капейкі ад радка.* Ан, 19. *Так у сяле Мікалаеўшчына, Мин. губ. прапита грошай ад новаго года да 1 аўгуста (за 6 мес.) 5010 руб. 94 $^1/_2$ кап<ейкі>.* УП.

**2.** *зб. Разм.* Грошы, грашовыя адзінкі. *Супрацоўнікі зірнулі на мяне* [аўтара] *з нейкай літасцяй, як бы хацелі даць мне капейку на хлеб.* Ан, 19. [Мікіта]: *..(пролетарыят) працаваў, ды йшчэ за гэтую мізэрную працу цягнуў крывавую капейку з беднай буржуазіі.* Т, 40.

◊ **Жывая капейка** – пра ўсё, што дае прыбытак, даход. [Ганулям]: *Ну латаў бы* [Мікіта боты], *і капейка жывая была б у хаце, а так…* Т, 20**. Лішняя капейка** – пра запас грошай. *Таргуюцца* [Захад з Усходам] *за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца, каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд рублёў.* Тж, 15.

Адз. Н. *капейка*: Т, 20. Р. *капейкі* (2): Ан, 19; УП. В. *капейку* (3): Ан, 19; Т, 40; Тж, 15. Мн. Р. *капеек* (2): Ан, 19 (2). В. *капейкі*: ГНД.

**[КАПЕЛЮШ]** *м.* Галаўны ўбор. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы, цягнучы за сабой каламажку, у якой:.. вялікая, быццам з-пад капелюша, пудэлка з пудрай, некалькі сучкоў дроў, букетнік для кветак, тры чаркі.* Т, 45.

Адз. Р. *капелюша*: Т, 45.

**[КАПЕЦ]** (7) *м.* **1.** Куча агародніны, пакрытая саломай і прысыпаная зямлёй. *Так мая* [маці] *краса завяла У маёй сялібы! Ліхата апанавала І капцы і Ськібы.* Дз, 191.

**2.** Межавы знак. *Вы, другі верныя, ганцы, Як летась, сёлета, на лета Ўсе пагранічныя капцы Абходзьце зноў з маім* [князя] *прыветам.* Кц, 196. *Калі ён* [Варашылаў], *бывала, да нас на манеўры*

*Прыедзе агледзець капцы, рубяжы, – О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!* НДп, 229.

**3.** *Разм.* Надмагільны насып, курган. *То паказвае* [душа] *на плечы, То капец абойме... Бог яго ўсё дарэчы Зразумее, пойме!* Дз, 191. *Хто там стогне так на ўзьмежку, На капцы у полі? Як згубіўшы к долі сьцежку, Як незнаўшы долі.* Дз, 187.

Адз. В. *капец*: Дз, 191. М. *капцы*: Дз, 187. Мн. Р. *капцоў*: Кц, 193. В. *капцы* (4): Дз, 191; Кц, 196; НДп, 229; ТП, 217.

**[КАПІТАЛ]** *м. перан.* Капіталісты, буржуазія. ..[беларускія нацыянал-дэмакраты] *добра ведалі, што ня ўласнымі сіламі, а толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвенцыі змогуць зьнішчыць ненавісную ім дыктаатуру пролетарыяту, каб падмяніць яе дыктатурай капіталу.* АЛ.

Адз. Р. *капіталу*: АЛ.

**[КАПІТАЛІЗМ]** (2) *м.* Грамадска-эканамічная фармацыя. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і організатара контр-рэволюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм..* АЛ. *У нашу векапомную эпоху гэроічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму.. праступна ўтвараць нацыянальную адмежаванасьць, асноўваючыся на самабытнасьці, гэта значыць, на пазаклясавасьці якой-бы ні было нацыі ці народу.* Там жа.

Адз. Р. *капіталізму* (2): АЛ (2).

**[КАПІТАЛІСТ]** *м.* Прадстаўнік пануючага класа капіталістычнага грамадства. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і організатара контр-рэволюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм, выступаючы пад сьцягам.. звароту капіталістам фабрык і заводаў, памешчыкам – зямлі, пад сьцягам падняволеньня рабочых і сялянскіх працоўных мас.* АЛ.

Мн. Д. *капіталістам*: АЛ.

**КАПІТАЛІСТЫЧНЫ** (6) *прым.* Які мае адносіны да капіталізму. *Капіталістычны сьвет ўсё з большай і большай трывогай, азьвярэннем і нянавісьцю сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй..* АЛ. *Адгэтуль незвычайнае абвастрэнне клясавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў усім пачынаньням і мерапрыемствам савецкай улады.* Там жа.

Адз. м. Н. *капіталістычны*: АЛ. Д. *капіталістычнаму*: ДНСП. ж. Р. *капіталістычнае*: ВГР. Мн. Р. *капіталістычных* (2): АЛ (2). Т. *капіталістычнымі*: АЛ.

**[КАПЛІЦА]** (2) *ж. Рэл.* Царкоўны будынак; малельня. *Між гор шапталіся крыніцы, Ляпіўся мох да стрэх з драніц, Тарчэлі хвойныя капліцы, Цьвілі магілкі ля капліц.* КрП, 47.

Мн. Н. *капліцы*: УрП, 47. Р. *капліц*: УрП, 47.

**[КАПЛЯ]** *ж.*: ◊ **З каплю** – крыху. *Дасцё* [вясёлыя людзі] *крыві з каплю, з гарошынку чэсці – І – ваша душа ва усей хвале..* . Р.

Адз. В. *каплю*: Р.

**[КАПУСТА]** *ж.*: ◊ **Зрэзаць на капусту** *гл.* зрэзаць.

Адз. В. *капусту*: Т, 43.

**[КАПЦІЛКА]** *ж. Разм.* Самаробнае асвятляльнае прыстасаванне на газе. *І хціва мерыць* [абываталь] *шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак*. ВБЛ, 81.

Мн. Р. *капцілак*: ВБЛ, 81.

**[КАПЫЛ]** *м.*: ◊ **На свой капыл** – чыім-н. спосабам, на чый-н. манер. *І ці не пара ўжо праканацца людзям, што на свой капыл беларускага народу не пераробіш*. ДК.

Адз. В. *капыл*: ДК.

**КАРА** (5) *ж.* Суровае пакаранне, спагнанне за правіннасць. *Гібелі зноў людзі у сьпеку, ў мароз, Як чэрві сьляпые у плесьні, – Аж страшная кара дасьцігла з нябёс; Забыўся народ сваей песьні.* ПН, 47. *Спіце вы, нявінна Згінуўшы, ахвяры! Пакараем катаў Самай лютай карай!* МПв, 219.

Адз. Н. *кара* (3): Пц (2); ПН, 47. Т. *карай*: МПв, 219; *караю*: ХЛВ, 315.

**[КАРАБЕЛЬ]** і **[КАРАБЛЬ]** *м.* Марское судна. *Глянь, карабль плыве дасужна Дыміць комін параходны, – Камсамольцы сям'ёй дружнай Рэжуць хвалі ў шляху водным*. СА, 180. *Па моры плывуць караблі, Плывуць паміж рыфаў і скал*. ТП, 215.

Адз. Н. *карабль*: СА, 180. Мн. Н. *караблі*: ТП, 215.

**[КАРАБІН]** *м.* Баявая вінтоўка. *На фарпостах, на граніцах Безгранічных нашых земляў З карабінамі ля стражніцаў Комсамолец не задрэмле*. СА, 181.

Адз. Т. *карабінам*: СА, 181.

**КАРАБЛЬ** *гл.* **КАРАБЕЛЬ.**

**[КАРАВАЙ]** *м.* Спечаная булка для ўрачыстасці, свята. *Паважна старыя вітаюць наркома, Падносяць хлеб-соль, караваі і мёд.* НДп, 229. *Пячом караваі З пшанічнага цеста І спяваем песні Сталінскага зместу.* АЧ.

Мн. В. *караваі* (2): АЧ; НДп, 229.

**[КАРАГОД]** (3) *м.* Масавая народная гульня. *Як песня, жыве яго* [Сталіна] *імя ў народзе, У кожным здарэні, у кожнай прыгодзе, Ці майскае свята ў жывым карагодзе, Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць, Як песня, жыве яго імя ў народзе*. СС, 302. // *перан.* Масавы збор, сукупнасць чаго-н. [Князь]: *Адзін, адзін раз толькі ў год Зьбірацца можэм з ласкі Рока, Каб лет іржавы карагод Зганяць з мінуўшчыны далёкай*. Кц, 193. // *У параўн. Як толькі стаў*

[цудадзей] *паміж народам, Заціх вячовы пераклік, І ўзьбегла песня карагодам, Ей пакарыўся мал, вялік.* УрП, 47.

Адз. В. *карагод*: Кц, 193. Т. *карагодам*: УрП, 47. М. *карагодзе*: СС, 302.

**[КАРАЛЕЎСТВА]** *н.* Манархічная дзяржава на чале з каралём. *З далёкіх заморскіх старон – з зямлі Варшаўскай, з царства Візантыйскага і з другіх знамянітых гасударстваў і каралеўстваў прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі..* Кз, 17.

Мн. Р. *каралеўстваў*: Кз, 17.

**[КАРАПУЗІК]** *м. перан. Разм., жарт.* Пра маленькую рэч. [Мікіта]: *(Дастаючы чацвёрты апошні партфель). А ў гэтым карапузіку важнейшыя дакуманты: прафсаюзу, біржы працы, культасветы, нашага № 157348 дамкому,.. і гэтак, меджду протчым, далей..* Т, 46.

Адз. М. *карапузіку*: Т, 46.

**КАРАЦЬ** *незак.* Падвяргаць пакаранню, кары. *Давіць мы* [хлопчык і лётчык] *іх* [фашыстаў] *будзем, як вошаў, як гадкіх смярдзючых клапоў, Караць штораз караю горшай Сягонняшніх рыцараўпсоў.* ХЛВ, 315.

Інф. *караць*: ХЛВ, 315.

**[КАР'ЕРА]** (9) і **[КАРЬЕРА]** *ж.* **1.** Вядомасць, слава. [Мікіта]: *Але, як уважаю, то вы* [Янка] *яшчэ не ведаеце, што для стварэння сабе новай кар'еры пакінуў чыноўніцтва і перайшоў на свабодную прафэсію.* Т, 36. [Янка]: *Цяпер гэта наймаднейшая свабодная профэсія, і кожны жук і жаба хоча на беларушчыне рабіць сабе кар'еру.* Там жа, 55.

**2.** Прафесія, занятак. – *Хэ-хэ! – патурае яму* [польскаму пану] *расійскі чыноўнік, прыдыбаўшы сюды ў дзюравых атопках шукаць карьеры, а сягодня вайной і рэволюцыяй загнаны у гарадзкіе безработные.* З. [Мікіта]: *Мой профэсар гэр Спічыні працуе са мной у даным кірунку ўжо некалькі часу і памагае мне расцярэбліваць дарогу да будучай маёй кар'еры ў губарнатарскай канцылярыі.* Т, 48.

Адз. Р. *кар'еры* (3): Т, 36, 48, 56; *карьеры*: З. В. *кар'еру* (4): Т, 33, 40, 47, 55. М. *кар'еры*: Т, 55. Мн. Р. *кар'ераў*: Т, 39.

**[КАРКАЛОМНЫ]** (2) *прым. Польск.* Круты, небяспечны, рызыкоўны. *І паліліся ізноў па віленскім каркаломным бруку гаротные сьлёзы, сьлёзы кракадылевы.* ЧЧШ. *Як чорная поліўка, ліліся яго* [рэдактара] *буйные сьлёзы на васкаваную падлогу, каціліся за дзьверы на вуліцу, і, як свой с сваім, мешаліся з расхляпаным балотам віленскіх каркаломных брукоў.* Там жа.

Адз. м. М. *каркаломным*: ЧЧШ. Мн. Р. *каркаломных*: ЧЧШ.

**КАРМІЦЦА** *незак. перан.* Задавальняцца. *..вы беларусы – ісконі-рускіе людзі з сваім неразьвітым языком, можаце і нашай* [рускай] *культурай карміцца, але калі так хочаце – можна і вам даць правы, але толькі у ... сенях*. З.

Інф. *карміцца*: З.

**КАРМІЦЬ** (2) *незак. перан.* Мець каго-н. на сваім утрыманні. *Скора сын бацьку, а бацька сыночка Не распазнаюць адзін аднаго; Дзеці чужацкія корме ўжо дочка, Маці працуе на злыдню свайго*. Н. // Служыць сродкам для пражыцця, крыніцай даходу. *Яго* [беларускага краю] *нівы ўраджайныя, дзякуючы вельмі добраму клімату і пры рацыянальнай гаспадарцы маглі-б карміць вялікае насяленьне*. ХБ, 30.

Інф. *карміць*: ХБ, 30. Абв. цяп. адз. 3 ас. *корме*: Н.

**[КАРОВА]** *ж.* Буйная свойская жывёліна. *Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна – аруцьваламі, найчасцей каровамі*. ПЧ.

Мн. Т. *каровамі*: ПЧ.

**[КАРОЛЬ]** (3) *м.* Асоба, якая мае гэты тытул. *У гэтые дні адбылося вялікае і урачыстае сьвято уходзін Віленскага Універсытэту іменьня караля Сьцяпана Баторага*. УПУВ. *Шлі дні. І вас* [Жыдоў] *у ланцугі скавалі Бязбожны каралі і дэспаты-цары*. Ж.

Адз. Р. *караля* (2): УПУВ (2). Мн. Н. *каралі*: Ж.

**[КАРОНА]** (6) *ж.* **1.** Галаўны убор – знак улады (князя). *Шла мая* [душы] *ў даль дзіва-сіла, Як-бы хвалі Нёмну; На касе сваёй насіла Княжэцку карону*. Дз, 188.

**2.** *перан*. Дзяржаўная ўлада. *І дрогнула Крыўды ўся ўлада, Разьлёгся скрозь кліч пяруновы; Апалі кароны, пасады, З няволь-нікаў спалі аковы*. Кр, 77. *Свет там выдумкі хітрые знае – Троны, кароны, вісельні, кулі, – Выдумаць гэта мы* [беларусы] *ў сваім краі Неяк мінулі*. Пп, 5.

Адз. В. *карону*: Дз, 188. Мн. Н. *кароны* (2): Кр, 77; Тж, 15. В. *кароны* (3): Кр, 77; Пп, 5; Ч, 322.

**[КАРОННЫ]** (2) *прым.* **1.** Карановаіы; надзелены манархічнай уладай. *Былых не выклічаш вякоў І ты, Масквы кароннай гразь, Парваных не скуеш акоў, З якой брахнёй не вылазь!* АПЖ.

**2.** Спрадвечна належачы каму-н. *Паўстань з народу нашага, Ўладар, Адбудаваць свой збураны пасад, Бо твой народ забыў, хто гаспадар І хто яго абдзёр з каронных шат*. Пт.

Адз. ж. Р. *кароннай*: АПЖ. Мн. Р. *каронных*: Пт.

**КАРОТКА** *гл.* **КОРАТКА**.

**[КАРОТКІ]** (6) *прым.* **1.** Непрацяглы па часе. *Каб лягчэй было абхапіць і разабрацца ў тым, што зроблена за такі кароткі працяг часу, якім зьяўляецца адзін год, мы спачатку памяшчаем*

*падробную табліцу усяго надрукаванага за гэты час..* ВСп, 89. *Кароткая паўза.* Т, 30.

**2.** Сціслы; лаканічны. *Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясьніў, на сколькі гэта магчыма было у кароткай газэтнай стацьці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь..* СНБ.

◊ **Кароткая памяць** *гл.* памяць.

Адз. м. В. *кароткі*: ВСп, 89. ж. Н. *кароткая* (2): ДК; Т, 30. Р. *кароткай*: ВСп, 91. М. *кароткай*: СНБ. Кар. адз. ж. *каротка*: ВГ.

**[КАРОЦЕНЬКІ]** *прым. Памянш. да* кароткі ў 2 *знач. Кароценькая вестка, адтрыманая намі учора з Варшавы, што у чацьвер, 23 кастрычніка селетнега году Польшча падпісала дэкрэт аб фармаванні Беларускага нацыянальнага войска, павінна збудзіць у кожнага беларуса.. вялікае здаволеньне і сьвяточную радасьць.* БСУ.

Адз. ж. Н. *кароценькая*: БСУ.

**[КАРТЫ]** *толькі мн.*: ◊ **У карты прагуляцца** *гл.* прагуляцца.

В. *карты*: Т, 21.

**[КАРШУНОВЫ]** *прым.*: ◊ **Заграбіць пад каршуновае крыло** *гл.* заграбіць.

Адз. н. В. *каршуновае*: НДН, 18.

**КАРЫСНЫ]** (2) *прым.* Які прыносіць карысць. *Але сваёй карыснай працы гэты аддзел не мог як следна праявіць.* СНБ, 339. *Але як-бы сабе там не было, мы ва ўсім гэтым бачым адну вельмі карысную для ўсіх рэч – гэта падаходны налог.* ВН.

Адз. ж. Р. *карыснай*: СНБ, 339. В. *карысную*: ВН.

**КАРЫСТАЦЦА** *незак.* Выкарыстоўваць для сваіх патрэб. *Кожны грамадзянін нашага краю павінен карыстацца і з роўнай пашаны, з роўнай абароны ў вачах права свету.* НДН, 19. *Параўн.* карыстаць у 1 *знач.*

Інф. *карыстацца*: НДН, 19.

**КАРЫСТАЦЬ** (2) *незак.* **1.** Тое, што карыстацца. *Разумеецца, свае паступкі ён* [абываталь] *будзе тлумачыць па своему, але сэнс у гэтым, і з гэтага карыстаюць усе старые, вядомые і прывычные для яго сілы.* ВМР.

**2.** Выкарыстоўваць што-н. у сваіх інтарэсах, атрымліваць выгаду. *Хай багацейшые укладаюць у гэта грошы, каб бяднейшые маглі з іх у гэты цяжкі час карыстаць.* ВС.

Інф. *карыстаць*: ВС. Абв. цяп. мн. 3 ас. *карыстаюць*: ВМР.

**КАРЫСТАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* карыстаць у 2 *знач. Карыстаючы з гэтаго, "Gaz. Godz." у № 67 клічэ, каб усе, хто хочэ, каб яго дзеці вучыліся ў школе рэлігіі па польску, запісывалі сябе ў палякі.* ВР.

**КАРЫСЦЬ** (8) і **[КАРЫСЬЦЬ]** (4) *ж.* **1.** Спрыяльны вынік для чаго-н. *Вашу карысць нам і вашы заслугі Добра ўжо скеміў*

*таптаны народ; Добра вядомы і путы і пугі, Песьціў якімі ваш Захад і Усход.* Г, 17. *Хіба можа цёмны беларускі абываталь пажадаць беларускае школы калі ён ня ведае, ці прынясе яна яму карысьць!* ДК.

**2.** Выгада, прыбытак. *Яго* [беларускага краю] *балоты, калі пакуль што не даюць карысьці, нікому не замінаюць, а з часам дадуць багацейшы запас тарповага апалу…* ХБ, 30. *Сыны зямлі роднай чужые палеткі У чужую карысьць засяюць, На родных папарах галодные дзеткі Чужую жывёлу пасуць...* ЗК, 42.

◊ **На карысць** (4) – са станоўчымі вынікамі для каго-, чаго-н. *Ня шкода б было гэтых грошай, каб яны шлі на карысць чалавеку.* УП. *Слава іх* [папанінцаў] *радуе сэрцы мільёнаў і заклікае да такога-ж гераізму, да такой-жа барацьбы са стыхіяй на карысць нашай непераможнай сонечнай радзімы, на карысць усяго чалавецтва.* СБ.

Адз. Н. *карысць*: УП. Р. *карысці*: Т, 36; *карысьці*: ХБ, 30. В. *карысць* (6): Г, 17; ЗС, 18; СБ (2); Т, 21; УП; *карысьць* (3): БСУ; ДК; ЗК, 42.

**КАРЫСЬНЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* [карысна]. Выгадней. *У хаўрусе шмат лягчэй і карысьней гэта рабіць.* ВС.

**[КАРЫТЦА]** *н. Памянш.* Драўляная пасудзіна для кармлення жывёлы. [Янка]: *Ці не паспяшаліся, пане рэгістратар, пляваць у карытца – каб не прышлося напіцца.* Т, 50.

Адз. В. *карытца*: Т, 50.

**КАРЬЕРА** *гл.* **КАР’ЕРА.**

**[КАРЭЛЬСКІ]** *прым.* Які адносіцца да Карэліі. *Шумам задумным карэльскія сосны, Бурнай Вуоксы-ракі вадаспады Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.* Ф.

Мн. Н. *карэльскія*: Ф.

**[КАРЭННЕ]** *н., зб.* Карані. *..увесь стары парадак дзяржаўнага жыцця рухнуў, як падгніўшае ў карэнні адвечнае дрэва.*СНБ, 336.

Адз. М. *карэнні*: СНБ, 336.

**[КАРЭТА]** *ж.* Закрыты конны экіпаж на рысорах. *Да багатай пани и афицэра, каторые тольки што вышли с карэты, падашла дзеўчынка-убогая и працягнула да их руку, каб падарыли.* ПДз.

Адз. Р. *карэты*: ПДз.

**КАСА**[1] (4) *ж.* Доўгія заплеценыя валасы. *А што тут? Разам тут і дзяўчынка-краса… Я галубіў калісь… Твар чаму твой бляды? Пакрываўлены грудзі, зблытана каса…* БН, 92. *А вецер гуляе, Абівае росы, Косы расплятае, Мае русы косы.* ПТ, 206.

Адз. Н. *каса*: БН, 92. М. *касе*: Дз, 188. Мн. Н. *косы* (2): ПТ, 206 (2).

**КАСА**[2] (9) *ж.* **1.** Сельскагаспадарчая прылада для зразання травы, збожжа і інш. *Звініць песня ў полі, звініць, Уторыць сярпу і касе, Бурліцца вадзіца з крыніц, Купаецца сонца ў расе.* ТП, 214. *Чые звоняць звонка косы На мурожнай сенажаці?* СА, 180.

**2.** *перан*. Узмоцнены рух; праяўленне чаго-н. *Нас не кранулі косы змен: Царызм мы ў дум жывых гэйнале Хоць на падмурах гэтых сцен Другія наш пасад занялі*. Кц, 193.

Адз. Н. *каса*: БН, 92. Д. *касе*: ТП, 214. Т. *касою*: ТП, 213. М. *касе*: Дз, 188. Мн. Н. *косы* (3): Кц, 193; СА, 180. В. *косы* (2): ТП, 206 (2).

**[КАСАВАРОТКА]** *ж*. Мужчынская кашуля са стаячым каўняром. *Усходні вучоны – носіць велікарускую вопратку – "падзёўку", "касаваротку" і доўгія боты, барада калматая.* Т, 19.

Адз. В. *касаваротку*: Т, 19.

**[КАСАВАЦЬ]** (3) *незак*. Ліквідаваць. *Бальшавікі займаюць Вільна, касуюць "незалежную беларускую і г. д. рэспубліку"..* СНБ, 339. *Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясьніў, на сколькі гэта магчыма было у кароткай газэтнай стацьці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь..* СНБ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *касуюць*: СНБ, 339. Пр. мн. *касавалі* (2): СНБ, 339; СНБ.

**[КАСАТЬСЯ]** *незак. Руск*. Датычыцца. [Усходні вучоны]: *Что касается поліцічэскіх граніц обласці, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очень туманны*. Т, 47.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *касается*: Т, 47.

**КАСАЦЕЛЬНО** *прыназ. з Р. Руск*. Адносна. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Необходзімо почэрпнуць от вас сведенія касацельно церрыторыальных данных обласці, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38.

**КАСЕЦ** (2) *м*. Той, хто косіць (касой). *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон. Махае касою касец, Пазбыўшы галодны прыгон*. ТП, 213. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сэрца і звонка, як медзь, Якую ў жніво пяе ў полі жняя, Якую ў касьбу пяе ў лузе касец.* СС, 302.

Адз. Н. *касец* (2): СС, 302; ТП, 213.

**[КАСІЦЬ]** (2) *незак*. Зразаць траву касой. *Да 21 года гаспадарыў* [Купала] *дома – араў, касіў, сек дровы.* А, 328. *Працавітаго быў першы* [сын] *Складу і нагібу, Так, здаецца, што й памершы, Ўсё араў, касіў-бы*. Дз, 189.

Абв. пр. адз. м. *касіў* (2): А, 328; Дз, 189.

**КАСКА** (3) *ж. Спец*. Галаўны ўбор. *На сценах у рамках колькі тандэтных абразоў – партрэтаў высокапастаўленых асоб, балалайка, пажарніцкая куртка і каска.* Т, 19. *Знімае* [Мікіта] *з сцяны і надзяе пажарніцкую куртку і каску*. Там жа, 24.

Адз. Н. *каска*: Т, 19. В. *каску*: Т, 24. Т. *каскай*: Т, 32.

**[КАСТЛЯВЫ]** *прым.* Сухарлявы, худы. *Божа! Золата йскрыцца ў кастлявых руках… Песьняй роднай таргуе* [паэт], *як коньмі цыган*. БН, 92.

Мн. М. *кастлявых*: БН, 92.

**[КАСТРЫЧНІК]** (2) *м.* Дзесяты месяц каляндарнага года. *Дні 10, 11, 12 кастрычніка г.г.. астануцца на вякі не зацертымі у памяці насяленьня Літоўска-Беларускай сталіцы – Вільні.* УПУВ. *..у чацьвер, 23 кастрычніка селетнега году Польшча падпісала дэкрэт аб фармаваньні Беларускага нацыянальнага войска..* БСУ.

Адз. Р. *кастрычніка* (2): БСУ; УПУВ.

**[КАСЦЁР]** (2) *м.* Распалены агонь, вогнішча. *Памятаю, яшчэ ў Прудзішчы, калі бацька пасылаў мяне* [Купалу] *з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі і пры свеце кастра або месяца чытаў.* ПС. *Забабон спаліў бязлітасна на кастры вялікага сьветлага Гуса.* З.

Адз. Р. *кастра*: ПС. М. *кастры*: З.

**КАСЦЮМ** (2) *м.* **1.** Камплект адзення. [Дама]: *У вас, мусье рэгістратар, фасон касцюму, як і ў мяне з іх родзіем, – а ля-басяк.* Т, 58.

**2.** Адзенне спецыяльнага прызначэння. [Мікіта]: *Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады, а ў мяне во і гатоў маскарадны касцюм.* Т, 24.

Адз. Н. *касцюм*: Т, 24. Р. *касцюму*: Т, 58.

**[КАСЬБА]** *ж.* Сенакосная пара. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сэрца і звонка, як медзь, Якую ў жніво пяе ў полі жняя, Якую ў касьбу пяе ў лузе касец.* СС, 302.

Адз. В. *касьбу*: СС, 302.

**[КАСЬЦЁЛ]** *м. Польск., царк.* Каталіцкі храм. *Ведама, што калі даць беларусу-католіку вольны выбар: ці вучыцца рэлігіі па польску, ці па расейску, забараніўшы перш навуку па беларуску, дык ён выбярэ польскую мову, якую заўсягды чуе ў касьцелі, якой яго прывучылі маліцца.* ВР.

Адз. М. *касьцелі*: ВР.

**[КАСЬЦЁЛЬНЫ]** *прым.* Прызначаны для касьцёла. *Вучыць па расейску – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўселякіх Солоневічоў, бо яна толькі мацней прывязывае цёмнага беларуса да польскай мовы, каторую ён лічыць ”сьвятой”, “касьцёльнай” мовай.* ВР.

Адз. ж. Т. *касьцёльнай*: ВР.

**КАТ** (12) *м.* Асоба для выканання смяротнага прыгавору. *Забабон стварыў для гішпанскай інквізіцыі крыважаднага ката Тарквомаду.* З. // *У параўн. Служка польскага пана, твой брат і мой брат, З бізуном над табою, як кат той стаіць…* БН, 92. // *перан.* Жорсткі мучыцель, прыгнятальнік. *За катам кат на нашы гоні Прыходзіў, грабіў, знішчажаў, Людзей закованых палоніў, На той свет без пары саджаў.* ГП, 8. *І зробім чуць-чуць астаноўку, Каб сцерве папасці ў папад: Для Гітлера скінем вяроўку Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316.

Адз. Н. *кат* (5): БН, 92 (2); ГП, 8; ХЛВ, 316; ЧС, 50-51. Р. *ката* (2): З; Ч, 320. Д. *кату*: Ч, 323. Т. *катам* (3): БН, 92; ГП, 8; Дз, 189. Мн. Р. *катаў*: МПв, 219.

**КАТАВАННЕ** *н.* Мучэнне, пакуты. *Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі, дзе распасціраецца панаванне над часткай Беларусі белага арла, – голад, здзекі, катаванне працоўнага народу, як і за царом Нікалаем.* ЖН.

Адз. Н. *катаванне*: ЖН.

**КАТАВАЦЬ** (5) *незак.* Моцна, балюча біць, жорстка мучыць. *І гітлераўскім бандам, фашыстоўскім крывапійцам Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны.* ПНд, 314. *Ходзюць, гонюць сухавеі Праўданьку святую; Брата брат не разумее, Брата брат катуе.* Дз, 191.

Інф. *катаваць*: ПНд, 314. Абв. цяп. адз. 3 ас. *катуе*: Дз, 191. Мн. 3 ас. *катуюць*: ПБН. Пр. адз. м. *катаваў*: Мц, 74. Мн. *каталі*: ТП, 214.

**[КАТАЛІК]** (9) *м.* Католік. *Для беларусаў праваслаўных выкладаецца рэлігія па расейску; для каталікоў – па польску.* ВР. *І нашым каталікам так задурылі галаву, што яны зусім пагадзіліся з навучаньнем асноў веры па польску.* Там жа.

Δ **Беларус-каталік** *гл.* беларус. ***Каталік-беларус****: А каб давясьці Думе, што тые каталікі-беларусы – гэта зусім не беларусы, а "чыстакроўные" варшавякі, іх стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер і такі фальшывы "тавар" будуць паказываць Думе.* ВР. *І расейскіе націоналісты, і ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас: лепей ніхай палякі з'ядуць зусім каталікоў-беларусоў, чым беларускаму народу пазволіць развівацца у сваім націанальным духу.* Там жа. **Селянін-каталік** *гл.* селянін.

Адз. Д. *каталіку*: ВР. Мн. Н. *каталікі* (2): ВР (2). Р. *каталікоў* (5): ВР (5). Д. *каталікам*: ВР.

**[КАТАРГА]** (2) *ж.* Від пакарання засуджаных. *Ён* [жандар] *сніць былую моц і шыр: Цары, царыцы, цэрквы, трон, Пагромы, катаргі, Сібір… О, Русь! Прымі раба паклон!* АПЖ. [Янка]: *Няма чаго казаць – баранілі! У лапці абувалі, з торбамі пушчалі ды ў сібірскія катаргі вывозілі.* Т, 21.

Мн. Н. *катаргі*: АПЖ. В. *катаргі*: Т, 21.

**КАТНІ** *прым.* Які належыць кату. *І там, і тутка без упыну Шалее катні здзек і гнеў.* ГП, 8.

Адз. м. Н. *катні*: ГП, 8.

**[КАТОМКА]** *ж. Руск.* Кайстра, торба, клунак. *Уваходзяць шнурам з катомкамі за плячыма і з кіямі ў руках: Дама, Поп, Спраўнік і Пан.* Т, 37.

Мн. Т. *катомкамі*: Т, 37.

**КАТОРЫ** (47) *займ.* **1.** Які-небудзь, некаторы. *Кали маеш брата, ци дарослаго сына, абходзься з ими ласкава, бо як высьвеницица часам каторы на стражника, то аддасьць за лычка рэменьчыкам.* СП.

**2.** Ужываецца для сувязі даданага сказа з галоўным і замяняе ў даданым сказе назоўнік галоўнага сказа. *Як-жа можа беларускі народ хіліцца да Польшчы, калі ён бачыць у ёй таго самага пана, каторы праз вякі зьдзекаўся з яго і проці каторага ён падняу паустаньне у часе рэволюцыі.* ОШМ. *Зямельнае пытанне, каторае і дагэтуль было так запутаным у нашым краю, яшчэ больш запутываецца зямельнай спекуляцыяй у нашыя дні*. ЗС, 18. // Тое ж пры словах той, такі у галоўным сказе. *Тут рада адна: ..паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі, загадаўшы ім, прышчапляць вучням любасьць да роднага краю, разьвіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны жывуць, і гатаваць з іх добрых, сумленных і працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры.* ДК.

**3.** Не першы, не адзін. *Гордасцю напоўнілася маё сэрца, калі я* [Купала] *даведаўся, што байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям. І каторы ўжо раз!* ВГ. [Гануля]: *Як толькі ўлада мяняецца*, [мянчане] *робяць сабе запас да новай перамены; мяняецца ўлада зноў – зноў робяць сабе запас да новай перамены; і гэтак ужо каторы год.* Т, 55.

◊ **Падсякаць сук, на каторым сядзіш** *гл.* падсякаць.

Адз. м. Н. *каторы* (9): АБ, 16; ВГ; ВГР; ВР; ОШМ; ПЛП; СП; Т, 55; ХБ, 28. Р. *каторага* (3): ДК; ОШМ (2). В. *каторы*: УПУВ. М. *каторым* (2): Нз, 14; ОШМ. ж. Н. *каторая* (13): АБ, 16; БВ, 17 (2); БСУ (2); ВМР (2); ДК (2); ЗС, 18; МІ, 17 (2); ПДз. В. *каторую* (3): ВР; ДК; ПДз. Т. *каторaю*: ДК. М. *каторай*: БСУ. н. Н. *каторае* (5): БВ, 16; ВН; ЗС, 18; ХБ, 29 (2). Мн. Н. *каторые* (6): ВМР; ВР; ВС; ДК; ОШМ; ПДз; *каторыя*: ВГР. Р. *каторых* (3): ВГР; ВМР; ДК.

**[КАТУЗКА]** *ж. Уст*. Турма, арыштанцкая камера. *Нават жыду – ў доўг як просе – "Гутэ-моргэн!" – буркне ў носе. Калі-ж сядзе у катузку, Ўсіх кляне пабеларуску.* УР.

Адз. В. *катузку*: УР.

**КАТЭГОРЫЧНА** *прысл.* Рашуча, безумоўна, неаспрэчна. *Парываючы сам катэгорычна і беспаваротна ідэйна і організацыйна з беларускім нацыянал-дэмократызмам, як з нейкай хваробліваі зданьню, якая палоніла мяне* [Купалу] *на працягу доўгіх год майго сьвядомага жыцьця, я шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмократычнага шалупіньня..* АЛ.

**[КАЎКАЗЕЦ]** *м.* Ураджэнец Каўказа. *Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі – палякамі, украінцамі, беларусамі і іншымі*. НДН, 18.

Мн. Р. *каўказцаў*: НДН, 18.

**[КАЎНЕР]** (2) *м.* Верхняя частка адзення. [Мікіта]: *(У выцвіўшым чыноўніцкім асеннім пальце з настаўленым каўняром, з парасонам уваходзіць справа; да Ганулі). Меджду протчым, мамаша, прадалі што-небудзь ці не?* Т, 34. *О, абываталь, белая за каўняром ты гніда! Як страшны аб табе сказ-абурэньне: Жыцьцё за камізэльку аддаеш ты без агіды, На соль мяняючы сваё сумленьне.* ВБЛ, 81.

Адз. Т. *каўняром* (2): ВБЛ, 81; Т, 34.

**[КАЎТУН]** *м.* Хвароба скуры на галаве. *Я мець ад кагосьці І штосьці прывык.. Ад польскага пана – Прыгон і бізун. Ад роднай зямелькі – Няўрод і каўтун*. МК.

Адз. В. *каўтун*: МК.

**[КАХАНКА]** *ж.* Любая, каханая (дзяўчына). *Не каханак чорнавокіх, Што скрозь сеюць дзіўны чар, – Я – пясьняр стапоў шырокіх Краю вольнага пясьняр!* КЧ.

Мн. Р. *каханак*: КЧ.

**КАХАННЕ** (4) *н.* **1.** Сардэчнае пачуццё да асобы другога полу. *Каханне хлапца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу…* ПЧ. [Мікіта]: *Мадоністая мамзэль Наста! Каханне маё, меджду протчым, вульканічнае!* Т, 42.

**2.** *Тоё, што* любоў у 2 *знач*. *І пашлю ад сонца Табе* [трактару] *прывітанне Аб маім* [трактарысткі] *вялікім Да цябе каханні*. ПТ, 207.

Адз. Н. *каханне* (2): ПЧ; Т, 42. М. *каханні*: ПТ, 207. Мн. Р. *каханняў*: Т, 42.

**[КАХАЦЬ]** *незак.* Мець сардэчнае пачуццё да асобы другога полу. *Той, хто волю занядбае, Хоць у золаце хай сьпіць, Хоць царэўну хай кахае, – А ня будзе ў шчасьці жыць.* КЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *кахае*: КЧ.

**[КАЦІЦЦА]** (10) *незак.* **1.** *перан.* Разносіцца, раздавацца (пра гукі). *Ракочуць гуcьлі звон-у-звон, На мір-сьвет розгалас нясецца, Як мір-сьвет, каціцца разгон І ў думцэ казкай раздаецца*. Кц, 197. *Гудзеў, каціўся звон вячовы, Тужліва бор-лес падцінаў..* УрП, 47. // Аддаляцца, адступаць. *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зблiжаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51.

**2.** Цячы, струменіцца (пра ваду). *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмана, у цёмную даль..* Н. *Як чорная поліўка, ліліся яго* [рэдактара] *буйные сьлёзы на васкаваную падлогу, каціліся за*

*дзьверы на вуліцу..* ЧЧШ. // *перан.* Расцякацца; паволі, плаўна перамяшчацца. *Абняліся* [здані] *з сабой у шалёну гульню, Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым…* БН, 92. *Тады ізноў пачуўся голас Дажбога вернага слугі, – Шуміць насьпелы гэтак колас, Па ніве коцяцца кругі..* УрП, 49. // *перан.* Цягнуцца, размяшчацца. *Па другой* [дарозе] *пайсці – Абняволіцца. Гэй, гэй, гэй, абняволіцца! Бо ў заходні бок Шлях той коціцца.* ББ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *коціцца* (5): ББ (2); БН, 92; Кц, 197; ЧС, 50–51. Мн. 3 ас. *коцяцца* (3): Н (2); УрП, 49. Пр. адз. м. *каціўся*: УрП, 47. Мн. *каціліся*: ЧЧШ.

**[КАЦІЦЬ]** (2) *незак.* Рухаць, перамяшчаць што-н. [Гануля]: *А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу самакатам коцяць і коцяць на вяроўках.* Т, 55.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *коцяць* (2): Т, 55 (2).

**КАЧАРГА** *ж.*: ◊ **Ні богу свечка, ні чорту качарга** *гл.* свечка.

Адз. Н. *качарга*: Т, 57.

**[КАЧАРЭЖКА]** (4) *ж. перан.* Рэвальвер. [Начальнік патруля]: *(спаткаўшы на парозе Мікіту з выстаўленымі рэвальверамі). Стаць! Ні з месца! Рукі ўверх! Гэта што ў вас у руках?* [Мікіта]: *Гэта… Гэта… ваша чырвонае благародзіе… гэта… як яно… качарэжкі! даліпан, качарэжкі!* Т, 60. [Гануля]: *(паказваючы на рэвалюверы). А гэты качарэжкі на якое безгалоўе?* Там жа, 58.

Мн. Н. *качарэжкі* (4): Т, 58, 60 (3).

**[КАША]** (2) *ж. перан. Разм.* Сумятня, неразбярыха, беспарадак. [Гануля]: *Кажа* [Мікіта] *– не ўпутаюся, а ўчора ў такую кашу ўлез, ажно сорам казаць.* Т, 57.

◊ **На кашу з зямлёй змяшаць** *гл.* змяшаць.

Адз. В. *кашу* (2): Т, 43, 57.

**[КАШЛАТЫ]** (2) *прым. Разм.* Разгалісты, з густым веццем, шырокімі лапкамі. *Назіральнік сядзеў на кашлатай яліне і вымаўляў незвычайныя для баявой абстаноўкі словы..* ПСп. *І многа паляжа адважных герояў У бітвах з панамі на выспах балот. Шумяць аб іх долі кашлатыя хвоі, Ды верас ружовы іх славіць паход.* ПБН.

Адз. ж. М. *кашлатай*: ПСп. Мн. Н. *кашлатыя*: ПБН.

**КАШМАР** (2) *м. перан. Разм.* Што-н. жахлівае, цяжкае, агіднае. *Над Менскам павіс крывавы кашмар.* СНБ, 340. *З кашмарамі спадчыны няўдачнага мінулага паузе у пары паганы забабон і хіхікае з-за вугла і у вочы, строіць жарты – над кім?* З.

Адз. Н. *кашмар*: СНБ, 340. Мн. Т. *кашмарамі*: З.

**[КАШМАРНЫ]** (2) *прым.* **1.** Які суправаджаецца, напоўнены кашмарам. *Але гэты чад, як сон кашмарны, мінуў!* АЛ.

**2.** *перан. Разм.* Жахлівы, агідны. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР*

*аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў?* МП.

Адз. м. Н. *кашмарны*: АЛ. Мн. М. *кашмарных*: МП.

**[КАШТАВАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Мецць цану, грашовую вартасць. [Мікіта]: *Новая ўлада гарэлку забараняе, а што забаронена, тое смачна і дорага каштуе.* Т, 58.

**2.** Абыходзіцца ў якую-н. суму, патрабаваць якіх-н. затрат. [Мікіта]: *Гэта таксама даходная стацця, прытым яны* [рэвальверы] *мне нічога не каштуюць..* Т, 58.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *каштуе*: Т, 58. Мн. 3 ас. *каштуюць*: Т, 58.

**КАШУЛЯ** (4) *ж.* Сарочка, рубашка. [Аленка]: *З нашага лёну гэта кашуля і з нашай воўны гэты пояс.* Т, 30. *Дастае* [Аленка] *з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае Янку..* Там жа.

Адз. Н. *кашуля* (2): Т, 30, 31. Р. *кашулі*: Бч, 9. В. *кашулю*: Т, 30.

**КАЯЦЦА** *незак.* Шкадаваць аб зробленым. *Не прациўся, кали гоняць дарогу правиць не сваю дый дарма: можэ часам и цябе будуць па ёй вясьци, дык ня будзеш каяцца..* СП.

Інф. *каяцца*: СП.

**[КВАДРАТНЫ]** *прым.* Здабыты ад памнажэння якога-н. ліку на самога сябе. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16.

Мн. Р. *квадратных*: АБ, 16.

**[КВАКАЦЬ]** *незак.* Утвараць гукі, падобныя на "ква-ква". *Верасень месяц абходзіў палеткі, Птушкі не пелі, не квакалі жабы..* ВМ, 72.

Абв. пр. мн. *квакалі*: ВМ, 72.

**[КВАС]** *м. перан.* Прапанова. [Наста]: *Толькі тады з гэтага квасу будзе пітва, калі я з пэўных крыніц напэўна даведаюся, што вы* [Мікіта] *не рэгістратар толькі, а ўжо асэсар.* Т, 42.

Адз. Р. *квасу*: Т, 42.

**[КВАТАРАВАЦЬ]** (2) *незак.* Часова жыць у каго-н., наймаць кватэру, памяшканне. [Мікіта]: *Я сказаў, што адзін такі тып кватаруе ў мяне, – вось, відаць, і прышлі* [вучоныя] *паглядзець.* Т, 26. [Гануля]: *А начуйце, мае дзеткі.. Гэны пакой, дзе вы кватаравалі, свабодны, дык і лезьце пакуль што туды.* Там жа, 49.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *кватаруе*: Т, 26. Пр. мн. *кватаравалі*: Т, 49.

**[КВАТАРАНТ]** *м.* Той, хто часова наймае жылое памяшканне ў домаўласніка. [Мікіта]: *Апрача таго, здаецца, што ад нашага кватаранта бальшавіцкім духам пахне, а мне ад гэтага паху ў носе круціць.* Т, 22.

Адз. Р. *кватаранта*: Т, 22.

**[КВАТЭРА]** (11) *ж.* Жылы дом або яго частка з асобным выхадам. *Пасля прывітання госці рассаджваюцца і крытычным вокам аглядаюць кватэру.* Т, 24. *Так хітра прыкрываючы эксплуататарства, Бацл закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ.

Адз. Р. *кватэры* (3): ЛР; Т, 44, 60. В. *кватэру* (3): Т, 24, 46, 60. М. *кватэры* (3): ЛР; Т, 21, 55. Мн. Р. *кватэр*: ПЧ. В. *кватэры*: ПДз.

**[КВАТЭРНЫ]** *прым.* Які валодае кватэрай. [Янка]: *Майму кватэрнаму гаспадару нізка кланяюся!* Т, 21.

Адз. м. Д. *кватэрнаму*: Т, 21.

**[КВЕТКА]** (19) *ж.* **1.** Частка расліны ў выглядзе вяночка з пялёсткамі. *Травы пахнуць кветкамі, Кветкі пахнуць зорамі. Зоры над палеткамі – Лесам і азёрамі.* ПЛ. *Гадавала* [маці] *дзетак І чэкала з іх пацехі, Як вясною с кветак.* Дз, 188. // Гэтая частка расліны разам са сцяблом. *Работніцы перадалі старшыні дэлегацыі т. Кальцову букет чырвоных кветак.* ПЧ. *Пасыпаюць буйна людзі Кветкамі дарогі.* ЗЯЗ, 297. // *перан.* Увасабленне ў чым-н. чаго-н. лепшага. *Таму кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленьнем прывітае новую кветку ў бясьсьмертным вянку культурнага будаўніцтва ў БССР – Беларускую Акадэмію Навук.* ГНД. *Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй, – Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць, Хоць наш магільнік кветкай апрануўся, Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць..* Ж. *Параўн.* краска ў 1 *знач.*

**2.** Травяністая расліна. *Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы, цягнучы за сабой каламажку, у якой: ..пудэлка з пудрай, некалькі сучкоў дрэў, букетнік для кветак, тры чаркі.* Т, 45.

**3.** *Вобразн.* Ласкавы зварот да жанчыны. [Мікіта]: *А цяпер, высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.* [Галасы]: *Хай цвітуць нашы кветкі, наша асалода!* Т, 28.

Δ **Кветка-вяночак**: *І кветкі-вяночкі дзяўчаты, вядома, Падносяць яму* [Варашылаву] *на шчаслівы паход.* НДп, 229. **Кветка-вясянка**: *Партрэт Варашылава ўбралі дзяўчаты Ў чырвоныя кветкі-вяснянкі.* ВВ, 263.

Адз. В. *кветку* (2): ГНД; СМ. Т. *кветкай*: Ж. Мн. Н. *кветкі* (6): ВМ, 72; НДп, 229; ПЛ; СС, 301; Т, 28; Чж, 146. Р. *кветак* (5): Дз, 188; ПЧ (2); Т, 45, 46. В. *кветкі*: ВВ. Т. *кветкамі* (4): ЗЯЗ, 90; ПЛ; ПТ, 207; СК, 158.

**[КВІТНЕЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* [квітнець]. *перан.* Працвітаючы. *А ў нас стаў квітнеючым край беларускі, Змяніліся людзі, аблічча зямлі..* ПБН.

Адз. м. Т. *квітнеючым*: ПБН.

**[КВОЛЫ]** (2) *прым.* **1.** Які дрэнна расце, развіваецца (пра расліны*). З кволых ніў палыны быццам зводзіць, ня зводзіць* [трэці сын], *Часам косьці зачэпіць нарогам..* Ч, 321.

**2.** Слабы, нязначны. [Ганец]: *А як я ўдарыў па струне, заметушыліся* [людзі], *як пчолы, І на гарэ, і нізіне Мне падавалі голас кволы.* Кц, 195.

Адз. м. В. *кволы*: Кц, 195. Мн. Р. *кволых*: Ч, 321.

**[КВЯЦІСТЫ]** (5) *прым.* **1.** Каляровы, яркі. *Кветкі збіраючы ў лузе квяцістым, Дзяўчына вянок табе* [Сталіну] *вяжа.* СС, 301. *Бо хто калі думаў, што я* [Купала] *жыці буду, Як птушка, як вецер над нівай квяцістай..* ТП, 213.

**2.** *перан.* Бліскучы, пышны, прыгожы. *Мы* [беларусы] *самі з'яўляемся сведкамі таго, што кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.* ПЛП. *Новая доля, шчаслівая доля Ясна з Усходу квяцістай дарогай Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле, Сее вясёласць, зганяе трывогу.* Мц, 75.

**3.** *перан.* Радасны, шчаслівы. *З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.* ПЛП.

Адз. м. М. *квяцістым*: СС, 301. ж. Т. *квяцістай* (3): Мц, 75; ПЛП; ТП, 213. Мн. Т. *квяцістымі*: ПЛП.

**[КВЯЦІЦЬ]** *незак. перан. Польск.* Пракладаць, азараць. *Шляхі ён* [Сталін] да *шчасця і радасці квеціць, Каб гора не зналі старыя і дзеці, – Са Сталіным лёгка жывецца на свеце.* СС, 302.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *квеціць*: СС, 302.

**[КЕМІЦЬ]** (2) *незак. Разм.* Разумець, разбірацца, цяміць. *Днём ваюем, ночкай дрэмем, А што блізка вораг – кемім.* БЗ. [Мікіта]: *Хай знаюць, што і мы тое-сёе ў палітыцы кемім.* Т, 22. *Параўн.* кемкаць.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *кемім* (2): БЗ; Т, 22.

**КЕМКАЦЬ** *незак. Разм.* Тое, што кеміць. *Аўтарнымі слугамі багоў гэтых былі варажбіты-вешчуны – старцы мудрыя і ў справах божых кемкаць маючыя.* Кз, 17.

Інф. *кемкаць*: Кз, 17.

**[КЕМНАСЦЬ]** *ж. Разм.* Кемлівасць. [Мікіта]: *Медждy протчым, мамаша, я вам не адзін раз казаў і яшчэ кажу: у вас няма зусім гандлярскай жылкі, у вас не хапае нават чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах..* Т, 24.

Адз. Р. *кемнасці*: Т, 24.

**КЕПСКА** (6) *прысл. да* кепскі. – *Кепска, кепска, пане воўк!* – *Першы крук закракаў* [азваўся]. – *Войнаў, бунтаў гул замоўк, Трупаў ані знаку.* Пц. [Мікіта]: *Вы, мусье профэсар, кепска прачыталі і кепска пераглумачылі.* Т, 61. Т, 61 (2).

**КЕПСКІ** (2) *прым*. Дрэнны. *Гаспадар з мяне* [Купалы] *выйшаў кепскі*. А, 328. *Мы, так сама, людзі ня кепскія, – хоць і дэмократы ды яшчэ й соцыялісты.* ДК.

Адз. м. Н. *кепскі*: А, 328. Мн. Н. *кепскія*: ДК.

**[КІВАЦЬ]** (3) *незак.* Рабіць лёгкія рухі галавой. *Янка насмешліва ківае галавой, Гарошка пыхкае мацней люлькай і плюе.* Т, 33. [Мікіта]: *Як яно… гэта… меджду протчым… я так захапіўся найяснейшымі гасцямі (госці ківаюць галовамі), што і забыўся зняць* [касцюм]. Там жа, 24.

◊ **У гэты бок і пальцам не ківаць** – не зрабіць ніякіх намаганняў для ажыццяўлення чаго-н. [Мікіта]: *Буржуазія з усіх жыл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата або кусок якога маёнтку, а пролетарыят, меджду протчым, у гэты бок і пальцам не ківаў..* Т, 40.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ківае*: Т, 33. Мн. 3 ас. *ківаюць*: Т, 24. Пр. адз. м. *ківаў*: Т, 40.

**[КІДАЦЦА]** (2) *незак*. Паспешна, імкліва пачынаць якое-н. дзеянне. *Хадзілі калісьці сюды партызаны, На смерць не глядзелі, кідаліся ў бой.* ПБН.

◊ **Трасцай кідацца нялёгкай** – выяўляць ва ўчынках і ў паводзінах вялікую нястрыманасць, узбуджанасць. *Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні, й азьвярэлыя вятры.. Яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну, Што ад Растова ўсе чырвоныя далёка Й няма што трасцай кідацца нялёгкай..* ВБЛ, 80.

Інф. *кідацца*: ВБЛ, 80. Абв. пр. мн. *кідаліся*: ПБН.

**КІДАЦЬ** (14) *незак*. **1.** Шпурляць. *Калісь у гэтым часе, выходзіў селянін у поле  і кідаў зерне ў сьвежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні*. ДД. // Нядбайна класці. [Мікіта]: *(пакінуўшы кідаць партфелі). Чаму, меджду протчым?* Т, 50. [Мікіта]: *Кідайце* [Гануля] *сюды ў павозку бялізну, а наверх стаўляйце начоўкі..* Там жа.

**2.** *перан.* Хутка перамяшчаць, накіроўваць, пасылаць куды-н. *Лёс кідае майго* [Купалы] *бацьку з месца на месца, як пазней і мяне*. А, 327.

**3.** Ісці ад каго-н., пакідаць. *Дзяцей сваіх маткі кідаюць у зьдзеку; За "мамак" к наездцам ідуць, А тые за іх малако, за апеку "Забраны край" болей гнятуць.* ЗК, 42. *Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам..* Ч, 324.

**4.** *перан*. Гаварыць, выказваць што-н. рэзка, нечакана. *А цяпер вы* [паны-абшарнікі] *ўсе – і з Захаду, і з Усходу – усе кідаеце блудны кліч на староны, што вы ваявалі за вызваленне нявольнікаў, за самаазначэнне народаў…* Тж, 16.

◊ **Кідаць агрызкі** – падаваць міласціну. *А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі Засеў за наш бяседны, сытны стол І кідае, як з ласкі,*

*нам* [беларусам] *агрызкі, А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.* Бч, 9. **Кідаць балотам на што-н.** – выстаўляць што-н. у непрыглядным святле; ачарняць, ганьбіць. *Кідае* [забабон] *балотам на усе сьвятое, спакон веку жывучае, з малаком матчыным упоенае; кідае балотам на адвечнае цярпеньне, на крывавые сьлёзы..* З. **Кідаць за дзьверы** – губляць, страчваць што-н. *Засядаць, панаваць на хватаным багацьці Ня кідае* [брат другі] *за дзьверы надзеі..* Ч, 320. **Кідаць лозунг** – заклікаць да чаго-н., абвяшчаць што-н. *Дык не кідайце ж* [паны] *вялікіх абманных лозунгаў аб сваіх заходніх ці ўсходніх пяршынствах.* Тж, 16**. У вочы кідаць** – гаварыць прама, адкрыта. *Ён* [першы брат] *рад і ня рад, а пуцьця меней штодзень На тэй выбранай сьцежцы, і ные ; Ўжо адны ў вочы кідаюць – здраднік, звыродзень, На пагібель, на звод шлюць другія.* Ч, 320.

Інф. *кідаць* (2): Т, 50 (2). Абв. цяп. адз. 3 ас. *кідае* (5): А, 327; Бч, 9; З (2); Ч, 320. Мн. 2 ас. *кідаеце*: Тж, 16. 3 ас. *кідаюць* (2): ЗК, 42; Ч, 320. Пр. адз. м. *кідаў* (2): ДД; Ч, 324. Заг. мн. 2 ас. *кідайце* (2): Т, 50; Тж, 16.

**КІДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* кідаць у 1 *знач.* [Мікіта]: *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору). К чорту пажарніцкую каманду!* Т, 33.

**[КІЁК]** *м.*: ◊ **З кійком жабрачым** – у прыгнечаным становішчы. *З кійком жабрачым так мы* [беларусы], *паўналеткі, Брыдзём, паўзём у свет – скрозь неўпапад.* Бч, 9.

Адз. Т. *кійком*: Бч, 9.

**[КІЙ]** (2) *м.* **1.** Палка для апоры пры хадзьбе. *Уваходзяць шнурам з катомкамі за плячыма і з кіямі ў руках: Дама, Поп, Спраўнік і Пан.* Т, 37.

**2.** *перан.* Зброя. *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасьць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК.

Адз. В. *кій*: ДК. Мн. Т. *кіямі*: Т, 37.

**[КІЛЕЧКА]** *ж. Ласк.* Невялікая прамысловая рыба сямейства селядцовых. [Мікіта]: *Вось тут селядцы, во цыбуля да іх, а тут… меджду протчым – кілечка… пальцы госцікі абліжуць.* Т, 21.

Мн. Н. *кілечка*: Т, 21.

**КІНДАР** (2) і **КІНДЭР** *м. Ням.* Дзіця. [Мікіта]: *Оей! гэр, гэрманіш, кіндар фатэрлянд!* Т, 33. [Мікіта]: *(Да немца). Кіндэр фравуву, меджду протчым, фатэрлянд, гэр германіш…* Там жа, 32.

Адз. Н. *кіндар* (2): Т, 31, 33; *кіндэр*: Т, 32.

**[КІНЕМАТАГРАФІЯ]** *ж.* Род мастацтва, творы якога ствараюцца пры дапамозе кіназдымкі падзей рэчаіснасці. *Зірнуць толькі на .. дасягненні нашай мастацкай літаратуры, нашых тэатраў, нашай кінематаграфіі, на рост рабочых клубаў, на тысячы ясляй і дзіцячых*

*садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне і рыхтуецца стаць будаўнікамі разумнага і шчаслівага жыцця.* ШБСЯ.

Адз. Р. *кінематаграфіі*: ШБСЯ.

**КІНУТЫ** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* кінуць. *перан.* **1.** Перададзены ў спадчыну. *Але гэта адначасне паказвае, як кінутае здаровае зерне дарма не прападае.* МІ, 17. *Мы самі з'яўляемся сведкамі таго, што кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй..* ПЛП.

**2.** Абвешчаны. *Кінуты нядаўна амерыканскім прэзідэнтам лозунг – мір на аснове самаазначэння народаў – не быў выдуманы так сабе.* НДН, 18.

Адз. м. Н. *кінуты*: НДН, 18. н. Н. *кінутае*: МІ, 17. Мн. Н. *кінутыя*: ПЛП.

**КІНУЎШЫ** *дзеепрысл. да* кінуць: ◊ **Кінуўшы ў вочы** – абвясціўшы. *Урэшце, забабон у наш ХХ-ты век апляваў паскуднай сьлінай увесь культурны сьвет, кінуўшы яму у вочы процэс Бэйліса.* З.

**[КІНУЦЦА]** (2) *зак.* Спешна накіроўвацца, бегчы да каго-н., куды-н. *Яна* [пані] *ўдруг страшна закрычала и кинулася да дзеўчынки, каторая зарас жа апынулася на руках пани, и афицэра.* ПДз. *Потым у стычцы пабили часць хунхузоў, другие кинулися уцекаць..* Там жа.

Абв. пр. адз. ж. *кинулася*: ПДз. Мн. *кинулися*: ПДз.

**КІНУЦЬ** (22) *зак.* **1**. *Зак. да* кідаць у 1 *знач. Разарваў-бы, здаецца, я грудзі свае, Сэрца-б вырваў і кінуў на ўцеху ўрагом…* БН, 91. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па портфэлі, што летась схавалі.* Т, 59.

**2.** *Зак. да* кідаць у 2 *знач. Багоў я* [аўтарнік] *вашых* [людзей] *ім* [новым богам ] *адстрашу І кіну вас да яго ног.* УрП, 52.

**3.** *Зак. да* кідаць у 3 *знач. Атплацілі роднай матцэ Княжэняты-дзеці: Відмай кінулі бадзяцца, Сіратой гібеці.* Дз, 191. *Вы* [паны] *аплявалі людзей і народы і кінулі сваіх нядаўніх рабоў у анархію, каб далей у мутнай вадзе рыбу лавіць.* Тж, 16. // Перастаць рабіць што-н., займацца чым-н. *Кінуў* [Купала] *і гэтую работу і папаў у Вільню, дзе выходзіла газета "Наша ніва".* А, 328. *Просім* [беларусы] *папросту: кіньце нас мучыць, Ляхі, маскалі!* Пп, 5.

◊ **Дзе вокам ні кінь** *гл.* вока. **Кінуць кліч** (3) – звярнуцца з заклікам. *Дзяды, унукі, ўнучкі – усе паўсталі На вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны, Які нам кінуў правадыр наш родны Сталін.* ПНд, 314. *Польшча, каторая у сваім часе кінула кліч: "за вашу і нашу волю".. павінна даць беларусам магчымасць бараніць свае граничныя слупы войскам беларускім.* БВ, 17. **У холад кінуць** – збянтэжыцца. *Паглядзеў я* [аўтар], *і мяне аж у холад кінула.* Ан, 19.

Інф. *кінуць*: ШБСЯ. Абв. пр. адз. м. *кінуў* (5): А, 328 (2); Ан, 19;

БН, 19; БН, 91; ПНд, 314. ж. *кінула*: БВ, 17. н. *кінула*: Ан, 19. Мн. *кінулі* (3): ВБЛ, 82; Дз, 191; Тж, 16. Буд. адз. 1 ас. *кіну* (2): АПЖ; УрП, 52. Мн. 3 ас. *кінуць* (4): СНБ, 336; ТП, 217; Ч, 323; ШБСЯ. Заг. адз. 2 ас. *кінь* (3): ПБН; См; СП. Мн. 2 ас. *кіньце* (2): Пп, 5; Т, 59.

**КІПЕЦЬ** (4) *незак. перан.* Адбывацца, працякаць ажыўлена, імкліва, бурна. *..нацыянальнае беларускае жыццё пачынае кіпець, палаць праўдзівым, вечным і жыватворным полымем.* МІ, 17. *У Бельгіі таксама кіпіць работа ў гэтым напрамку, якой прымушаны дапамагаць немцы, – а ў нас? ..* АБ, 16.

Інф. *кіпець*: МІ, 17. Абв. цяп. адз. 3 ас. *кіпіць*: АБ, 16. Пр. адз. м. *кіпеў*: УПУВ. ж. *кіпела*: Н.

**[КІПЦЮР]** *м.*: ◊ **У кіпцюрах трымаць** *гл.* трымаць**.**

Мн. М. *кіпцюрох*: АПЖ.

**КІРАВАЦЬ** (4) *незак.* Накіроўваць дзейнасць чаго-н., узначальваць. *Словы вялікага Леніна, аб тым, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржавай, – здзяйсняюцца.* ГВУ. *Ён* [Сталін] *дзяржаваю кіруе, Ў крыўду не падасца..* НК. // Мець уладу, распараджацца. *Выдавала* [судзьбіна] *народам старыя законы, Кіравала зямлёю і небам.* Ч, 322.

Інф. *кіраваць*: ГВУ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *кіруе*: НК. Пр. адз. ж. *кіравала*: Ч, 322. Мн. *кіравалі*: СНБ, 338.

**[КІРАЎНІК]** (3) *м.* Той, хто кіруе чым-, кім-н. *Мы* [людзі] *прайшлі гэты шлях пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі большэвікоў Беларусі, – адзінага кіраўніка, адзінага арганізатара нашых перамог.* ВГР. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў..* ВСп, 91. *Параўн.* кіраўнічы.

Адз. Р. *кіраўніка* (2): ВГР; СНБ, 339. Т. *кіраўніком*: ВСп, 91.

**[КІРАЎНІЦТВА]** (10) *н. Дзеянне па дзеяслову* кіраваць у 2 *знач. Слава ленінска-сталінскай партыі, пад кіраўніцтвам якой маглі выхавацца такія героі.* СБ. *Мы прайшлі гэты шлях пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі большэвікоў Беларусі, – адзінага кіраўніка, адзінага арганізатара нашых перамог.* ВГР.

Адз. Т. *кіраўніцтвам* (10): АЛ (4); ВГР (2); ДЖ; ДНСП; НКУС; СБ.

**[КІРАЎНІЧЫ]** *прым. У знач. наз. Тое, што* кіраўнік. *Гэта – маладая, нарастаючая* [беларуская] *сіла, каторая з часам запануе уладарнай гаспадыняй, – запануе і скажа: “ Проша здаць ключы майму кіраўнічаму, а самі пашукайце пасады у іншым месцы”.* ВМР.

Адз. м. Д. *кіраўнічаму*: ВМР.

**КІРКА** *ж.* Ручная прылада для драблення цвёрдай пароды. *Чыя кірка ў падзямеллі Першай пласт вугля цярэбіць І чый трактар першым сцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180.

Адз. Н. *кірка*: СА, 180.

**[КІРМАШ]** (2) *м.* Вялікі святочны базар, звычайна з народным гуляннем. [Янка]: *Ездзі сабе са сваімі манаткамі ды ездзі сабе, як гандляр з козамі з кірмашу на кірмаш, туды-сюды ездзі сабе ды ездзі.* Т, 55.

Адз. Р. *кірмашу*: Т, 55. В. *кірмаш*: Т, 55.

**[КІРУНАК]** (2) *м.* Напрамак, бок, у які накіравана якое-н. дзеянне. [Мікіта]: *Мой профэсар гэр Спічыні працуе са мной у даным кірунку ўжо некалькі часу..* Т, 48. *Вайна і рэвалюцыя выкінула ў дабавак два лёзунгі, два ня згодные з сабой – як агонь і вада, – кірункі ў змаганьні за культурна-палітычные правы народаў і дзяржаваў.* СНБ.

Адз. М. *кірунку*: Т, 48. Мн. В. *кірункі*: СНБ.

**[КІРУЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* кіраваць у 2 *знач. Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, гэтых кіруючых штабах беларускага нацыянал-дэмократызму.. я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Мн. М. *кіруючых*: АЛ.

**КІРУЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* [кіравацца]. Дзейнічаючы адпаведна чаму-н., у залежнасці ад чаго-н. *..усе* [людзі] *вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць і кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны – Беларусі.* НДН, 19.

**[КІТАЙСКІ]** *прым.* Які належыць кітайцам, Кітаю. *У час ляонскай битвы афицэр камандаваў ротаю и жыў з жонкаю й дачкою ў китайским доме (фаизе).* ПДз.

Адз. м. М. *кітайскім*: ПДз.

**[КІЎНУЦЬ]** (2) *зак.* : ◊ **Пальцам не кіўнуць у той бок; пальцам ня кіўнуць** – не рабіць ніякіх намаганняў для ажыццяўлення чаго-н. *І ніхто з гэтых апекуноў навет і пальцам не кіўнуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса..* Нз, 15. *А самі-ж* [беларусы] *і пальцам ня кіўнулі, каб гэтым сваім апякунам паказаць іх належнае мейсцо.* БС.

Абв. пр. адз. м. *кіўнуў*: Нз, 15. Мн. *кіўнулі*: БС.

**КІХАЦЬ** (2) *незак. Польск.* Чмыхаць. [Янка]: *Але дзядзька густа іх сваёй піпкай падкурваў. Бачыў, як насамі пакручвалі ды кіхалі.* Т, 29. [Мікіта]: *А ў мяне.. душа рэальная: хто мне лепей плаціць, таму і служу і кіхаць хачу на ўсякія ідэі.* Т, 22.

Інф. *кіхаць*: Т, 22. Абв. пр. мн. *кіхалі*: Т, 29.

**[КІШАНЁВЫ]** (2) *прым.*: ◊ **Кішанёвыя інтарэсы** *гл.* інтарэс. **Кішанёвыя справы** *гл.* справа.

Мн. Р. *кішанёвых*: Тж, 15. В. *кішанёвыя*: Тж, 15.

**[КІШЭНЯ]** (8) *ж.* Частка адзення. [Спраўнік]: *Дастае з кішэні пагоны і прышпільвае.* Т, 25. *Патрульны робіць рэвізію, зна-*

*ходзіць у кішэнях Спраўніка пагоны і падае іх Начальніку.* Там жа, 61.

◊ **Выцягаць грошы з кішэні** *гл.* выцягаць.

Адз. Р. *кішэні* (3): Т, 25, 43; УП. М. *кішэні*: Т, 33. Мн. Р. *кішэняў*: Т, 61. М. *кішэнях* (3): Т, 43, 60, 61.

**КЛАДУЧЫ** *дзеепрысл. да* класці ў 1 знач. [Мікіта]: *(стаўляючы кошык з пакупкамі і кладучы на стале рэвальверы, вітаючыся з гасцямі). Меджду протчым, мадам-сіньёра, цалую ручкі.* Т, 58.

**КЛАНЯЦЦА** (12) *незак.* **1.** Рабіць паклоны на развітанне або ў знак прывітання. *Абодва* [вучоныя] *кланяюцца адзін аднаму і прысутным*. Т, 26.

**2.** Перадаваць прывітанне, выражаць павагу. *І ўсім чыста, што не забыліся на мяне* [Купалу] *у гэты жудкі час, нізка кланяюся і шчыра дзякую*. ЛР.

**3.** *перан.* Звяртацца з просьбай, уніжацца прасіць аб чым-н.; пакланяцца. *Прывучан* [брат-беларус] *кланяцца, уніжацца, Паганіш скарб свой дарагі.* БрБ, 6.

Інф. *кланяцца* (3): БрБ, 6; Т, 41, 50. Абв. цяп. адз. 1 ас. *кланяюся* (3): ЛР; Т, 21, 51. Мн. 3 ас. *кланяюцца* (6): Т, 26, 38, 47 (2), 51, 61.

**КЛАНЯЦЬСЯ** *незак. Руск. Тое, што* кланяцца ў 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *Чэсць імею кланяцься.* Т, 27.

Інф. *кланяцься*: Т, 27.

**КЛАНЯЮЧЫСЯ** (2) *дзеепрысл. да* кланяцца ў 1 *знач.* [Мікіта]: *(беручы "пад казырок" і нізка кланяючыся). Гута морган, гэр гэрманіш.* Т, 32. *Мікіта, кланяючыся, праводзіць іх* [вучоных] *да дзвярэй..* Там жа, 27.

**[КЛАПАТЛІВЫ]** *прым. Іран.* Дбайны, руплівы. *Заработак падлетка амаль не ўвесь ідзе на аплату яго ўтрымання "клапатлівым" Бацем*. ПЧ.

Адз. м. Т. *клапатлівым*: ПЧ.

**[КЛАПАЦІЦЦА]** *незак.* Турбавацца, непакоіцца, праяўляць клопат. *Аб гэтых вульлёх, аб гэтых пчолах ніхто не клапоціцца…* ХБ, 30.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *клапоціцца*: ХБ, 30.

**[КЛАС]** (3) і **[КЛЯС]** (8) м. Вялікая група людзей, аб'яднаных аднолькавымі адносінамі, агульнымі інтарэсамі. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала устоі самаўладства..* ДЖ. [Мікіта]: *Можа чалавек, а можа, і не, бо з нашымі рангамі і клясамі абходзіцца зусім не па-чалавецку*. Т, 22. *Параўн.* кляса.

Адз. Р. *класа* (2): ДЖ; СТ. Т. *класам*: ВГР. Мн. Н. *клясы* (3): Т, 20, 22, 34. Р. *клясаў* (3): Т, 28 (2), 50. Т. *клясамі*: Т, 22. М. *клясах*: Т, 38.

**КЛАСАВЫ** (2) і **КЛЯСАВЫ** (4) ) *прым. да* кляс (клас). *Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам ахоплівае народы нашай вялікай радзімы..* ВГР. *Арэнай такой*

*абвостранай клясавай барацьбы зьяўляецца, зразумела, і БССР.* АЛ.

Адз. м. Р. *клясавага*: ВГР. Т. *класавым*: ВГР. ж. Р. *клясавай* (2): АЛ (2). В. *клясавую* (2): АЛ; Т, 55.

**КЛАСЦІ** (6) *незак.* **1.** Надаваць ляжачае становішча, змяшчаць. [Начальнік патруля]: *Качарэжкі! Ну, палажыце іх на стол. (Мікіта кладзе).* Т, 60. *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі..* Там жа, 43.

**2.** Устаўляць. [Аўтарнік]: *Дык вось жалейкі вы* [людзі] *бярэце, Ў дванаццаць мейсц кладзеце сьлед..* УрП, 50.

**3.** Ствараць умовы для дасягнення чаго-н. *..трэба было толькі класці сцены і завяршыць будову светлага, незалежнага існавання Беларускай дзяржавы.* СНБ, 337.

◊ **Класці аковы** – забараняць думаць аб чым-н. *Дыхнуць свабодымі грудзямі Й зірнуць арліна не дадуць, – На ўзьлёты дум кладуць аковы, Як на рабоў сьляпых кладуць.* РС, 39.

Інф. *класці*: СНБ, 337. Абв. цяп. адз. 3 ас. *кладзе* (2): Т, 43, 60. Мн. 3 ас. *кладуць* (2): РС (2). Заг. мн. 2 ас. *кладзеце*: УрП, 50.

**[КЛАСЦІСЯ]** (4) *незак.* Размяшчацца пэўным чынам. *Шасцяць у калоссі сярпы, Сцяною дабро залягло, Кладуцца снапы у снапы, – Такога жніва не было.* ТП, 213. *Кладуцца заломы… Дабро зьмей валочэ… Цянюе ля хат ваўкалак…* ЗК, 42. // Распасціравацца, сцяліцца. *А як пойдзе хто першай* [дарогай], *– ён* [чараўнік] *кажа ім* [сынам] *гэтак, – Што на ўсход шляхам чорным кладзецца, – Напаткаці чужацкі крывавы палетак, І ў крывавай скупаецца рэчцы.* Ч, 319. *А як пойдзе другім хто гасьцінцам-дарогай, Што на захад кладзецца вужакай, – Свой палетак любіць стане горай чужога, Прыпадзе к чужой рэчцы, як п'яўка.* Там жа.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *кладзецца* (2): Ч, 319 (2). Мн. 3 ас. *кладуцца* (2): ЗК, 42; ТП, 213.

**КЛЕВАЦЬ** *гл.* **КЛЯВАЦЬ.**

**КЛЕІЦЦА** *незак. перан. Разм.* Атрымлівацца, ладзіцца. [Мікіта]: *Колькі раз рабіў ужо ёй [Насце] асведчыны, каб, значыцца, аддала мне сваю руку, але штось не клеіцца.* Т, 23.

Інф. *клеіцца*: Т, 23.

**КЛЕІЦЬ** *незак.:* ◊ **Дурня клеіць** – прыкідвацца кім-н., строіць з сябе каго-н. [Немец]: *О-о! Што я бачу? Рыхтык рускі генэрал. (Набок). Але хоча дурня клеіць, каб выкруціцца з палону.* Т, 32.

Інф. *клеіць*: Т, 32.

**[КЛЕНЧАЧЫ]**[1] *дзеепрым. незал. цяп. да* кленчыць. [Абарванец]: *(увайшоўшы з таго боку, куды Наста вышла, да кленчачага з працягнутымі рукамі Мікіты). Пажэртвуйце, таварыш, безработнаму!* Т, 42.

Адз. м. Р. *кленчачага*: Т, 42.

**КЛЕНЧАЧЫ**[2] *дзеепрысл. да* кленчыць. [Мікіта]: *(яшчэ кленчачы і працягнуўшы з парасонам рукі ўслед Насце). О, ранга мая асэсарская!* Т, 42.

**КЛЕНЧЫЦЬ** *незак*. Прасіць. [Наста]: *Пакіньце* [Мікіта] *кленчыць на лаўцы, а так сабе на зямлі чакайце*. Т, 42.

Інф. *кленчыць*: Т, 42.

**[КЛЕТАЧКА]** *ж*. Чатырохвугольная форма на паверхні чаго-н. *У клетачку... у палоску... блакітнага колеру.. Хутка ўсе ўбачылі, як каля намецкага ДЗОТ'а капашыліся спадніцы.* ПСп.

Адз. В. *клетачку*: ПСп.

**[КЛЕЦЬ]** *ж*. Свіран, кладоўка. *Зварухнуцца ня сьмее* [трэці брат] *ў заплесьнеўшай клеці, На браточкаў зубамі скрыгочa.* Ч, 321.

Адз. М. *клеці*: Ч, 321.

**КЛЕШЧЫ** і **КЛЯШЧЫ** *толькі мн. Вобразн.* Тое, што пазбаўляе чалавека свабоды, волі, радасці. *Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым народам свабоды што раз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі.* ДЖ. *Захапіў яго* [першага брата] *похмур лядачны, крывавы, Жалезнымі клешчамі сьціснуў..* Ч, 320.

Т. *кляшчамі*: ДЖ; *клешчамі*: Ч, 320.

**[КЛЁЗЭТ]** *м. Польск*. Туалет. *Хай час ідзе, хістаючыся ў дыме, І хай ляжыць стары ў абломках сьвет, – Ў грызьні за іх і з гэтымі і з тымі Ты скарыстаеш іх на свой клёзэт*. ВБЛ, 81.

Адз. В. *клёзэт*: ВБЛ, 81.

**[КЛЁК]** *м. Разм*. Розум, развага. [Янка]: *Бо вы* [Мікіта] *ад гэткіх вучоных чэрпаеце сабе ўзяткадайны клёк для падтрымання сваіх рэгістратарскіх кар'ераў у тутэйшым краі.* Т, 39.

Адз. В. *клёк*: Т, 39.

**[КЛІК]** *м. Высок*. Кліч, вокліч. *Час ішоў. К жыцьцю новаму клікі пачуліся; Ўсе народы паўсталі на бітву за права сваё*. Б, 18.

Мн. Н. *клікі*: Б, 18.

**КЛІКАЦЬ** (11) *незак.* **1.** Запрашаць, зазываць. *Пад рогат Пірравых пабед Саветы кліча* [Еўропа] *на "савет"*. ПВ. *І прысягаем* [беларусы], *клічам Бога ў сведкі, Што мы – не мы, што нехта вінават..* Бч, 9. // Крычаць. *Можаш сэрца рваць, выці і клікаць, – Можаш з сэрца свайго молат выкуць, Толькі ўдарыць ня сьмей ім, а сьмейся!* См, 90.

**2.** Заклікаць. *І з ветрамі, з бурамі бьюць* [косці прадзедаў] *на трывогу: "Забраны край" клічуць устаць.* ЗК, 43. *Гусьлямі, лукам і сьвятлом Будзіце* [ганцы], *клічце і сьвяціце, І так спануйце іхнім* [людскім] *сном, Каб сон іх счэз і ўсталі жыцці.* Кц, 196. // *перан. Я цябе* [трактар] *пакіну На вольную волю, – Даляцець да сонца Мяне* [трактарыстку] *кліча доля*. ПТ, 207. *Нашы* [беларускія] *загоны даўно ўжо нас*

[беларусаў] *клічуць, Нашы загоны, што зеллем зраслі..* Г, 17.

**Радзіма кліча да помсты**.

◊ **Клікаць у госці** – запрашаць куды-н. *Яшчэ жар-цвет бунтарскіх дум у вас* [бальшавікоў] *не згас: Еўропа кліча ў госці вас*. ПВ.

Інф. *клікаць*: См, 90. Абв. цяп. адз. 3 ас. *кліча* (4): ПВ (2); ПТ, 207; РКП; *клічэ* (2): ВР; РКр. Мн. 1 ас. *клічам*: Бч, 9. 3 ас. *клічуць* (2): Г, 17; ЗК, 43. Заг. мн. 2 ас. *клічце*: Кц, 196.

**[КЛІКНУЦЬ]** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* клікаць у 1 *знач. Высыпаў* [пан] *ягады, збіў* [маці], *клікнуў варту..* Мц, 75.

**2.** *Зак. да* клікаць у 2 *знач. Адна на вас надзея, богі, Нясём належную вам дань, Зірнеце ў нашыя парогі, Паўстанем – клікнеце: паўстань!* УрП, 48.

Абв. пр. адз. м. *клікнуў*: Мц, 75. Буд. мн. 2 ас. *клікнеце*: УрП, 48.

**[КЛІМАТ]** *м.* Метэаралагічныя ўмовы пэўнай мясцовасці ў залежнасці ад геаграфічных абставін. *Яго* [беларускага краю] *нівы ўраджайныя, дзякуючы вельмі добраму клімату.. маглі-б карміць вялікае насяленьне*. ХБ, 30.

Адз. Д. *клімату*: ХБ, 29–30.

**[КЛІМАЦІЧЭСКІЙ]** *прым. Руск*. Кліматычны. [Усходні вучоны]: *..благодара врэдным клімацічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце*. Т, 47.

Мн. Д. *клімацічэскім*: Т, 47.

**[КЛІРАС]** *м*. Месца для пеўчых у царкве. – *Ух-ці! – выйшаў на царкоўны дзядзінец беларускі дзяк "расійскай культуры" напханы за кліpaсам славянскімі псальмамі Давідавымі.* З.

Адз. Т. *кліpaсам*: З.

**КЛІЧ** (18) *м*. **1.** Заклік. *Кліч "Зямля і воля працоўнаму люду!", сціхшы сягодня ў нашым краю праз варункі ваеннай завірухі, як бы адышоў на другі план, на апошні закутак.* ЗС, 17. *На мой кліч, на сход Гмін народу йшло, Шоў ваяк з ваякам, – Кожны смел, ахвоч..* ВБ.

**2.** Крык, вокліч.. *I душыць кліч: ці доўга будзе нам* [беларусам] *заломам Варшава панская і царская Масква.* НГ. *А цяпер вы* [паны] *ўсе – і з Захаду і з Усходу – усе кідаеце аблудны кліч на староны, што вы ваявалі за вызваленне нявольнікаў, за самаазначэнне народаў…* Тж, 16.

∆ **Кліч-заклінанне**: *I кліч пушчу.. Кліч-заклінанне векавечнага зароку, Што ў гуслях толькі дрэмле, ў песню ўчараваны*. СМ.

◊ **Кінуць кліч** *гл.* кінуць. **Кліч пусціць** *гл.* пусціць.

Адз. Н. *кліч* (10): Бч, 10 (2); БСУ (2); ЗС, 17 (3); Кр, 77; НГ; ТП, 217. В. *кліч* (8): БВ, 17; ВБ; Пт; ПНд, 314 (2); СМ; Тж, 16; ТП, 217.

**[КЛОК]** *м. Руск.* Кавалак, частка, кусок чаго-н. *Я* [воўк] *з ваўчыцай рву сцягно, Мяса тнём па клоку.* Пц.

Адз. Д. *клоку*: Пц.

**[КЛОП]** *м.* Невялікае насякомае-паразіт. *У параўн. Давіць мы* [савецкія людзі] *іх* [фашыстаў] *будзем, як вошаў, Як гадкіх смярдзючых клапоў..* ХЛВ, 315.

Мн. В. *клапоў*: ХЛВ, 315.

**[КЛОПАТ]** (5) *м.* 1. Турбота, справа. *Беларуская сіла ня можа запэўніць абываталю таго, да чаго ён звык, а перамен і зьвязанага з імі клопату прынясе шмат.* ВМР. *Слава таварышу Сталіну, чые клопаты натхняюць совецкіх людзей да такіх гераічных подзвігаў.* СБ.

2. Увага да патрэб і запатрабаванняў. *Не магу* [Купала] *не сказаць пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага яднання з членамі нашай дэлегацыі, асабліва старшынёй дэлегацыі т. Кальцовым, які ні на хвіліну не пакідаў сваіх таварыскіх клопатаў пра кожнага удзельніка дэлегацыі.* ПЧ. *Я* [Купала] *хачу з усёй шчырасцю ў гэты ўрачысты для мяне дзень падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку большэвіцкай партыі і совецкай улады.* ЖН.

Адз. Р. *клопату* (2): ВМР; Т, 27. Мн. Н. *клопаты*: СБ. Р. *клопатаў*: ПЧ. В. *клопаты*: ЖН.

**[КЛУБ]**[1] *м.* Культурна-асветная ўстанова. *Зірнуць толькі.. на рост рабочых клубаў, на тысячы ясляй і дзіцячых садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне і рыхтуецца стаць будаўнікамі разумнага і шчаслівага жыцця.* ШБСЯ.

Мн. Р. *клубаў*: ШБСЯ.

**[КЛУБ]**[2] *м. перан.* Лятучая маса іскраў, дыму. *У параўн. Акрыляў сам* [другі брат] *самога асілкавай славай, Паўставаў проць хапанага клубам.* Ч, 324.

Адз. Т. *клубам*: Ч, 324.

**[КЛУБ]**[3] *м.* Знешні бок верхняй часткі бядра. [Спічыні]: *Левую руку абапрыце* [Мікіта] *на левы клуб.* Т, 40.

Адз. В. *клуб*: Т, 40.

**КЛЭЎСІ** *мн. Разм.* Літоўцы. *Так, Литоўцы (клэўси) цяпер паразумнели и цэлыми вёсками адрэкаюцца пиць гарэлку..* УП.

Н. *клэўси*: УП.

**[КЛЮЧ]** (3) *м.* Металічная прылада для замыкання і адмыкання замка. [Гануля]: *Пільнаваў бы* [бацюшка] *лепей ключоў ад архірэйскага дому.* Т, 58. *Проша здаць ключы майму* [беларускай сілы] *кіраўнічаму, а самі* [абываталі] *пашукайце пасады ў іншым месцы.* ВМР.

Мн. Р. *ключоў*: Т, 58. В. *ключы* (2): ВМР; Т, 58.

**[КЛЯВАЦЬ]** і **КЛЕВАЦЬ** *незак.* **1.** Дзяўбці. *Чорны груган клюе панскія косці, З трупаў гербоўных складае запасы.* Мц, 75.

**2.** п*еран.* Даймаць, дапякаць, крыўдзіць.. *Яны* [нацыяналісты], *як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць быццым-то мёртвае цела нашаго* [беларускага] *народу..* ВР.

Інф. *клеваць*: ВР. Абв. цяп. адз. 3 ас. *клюе*: Мц, 75.

**[КЛЯМКА]** *ж.* 1. Прыстасаванне для адчынення дзвярэй. *Патупіўшы вочы, я ўзяўся за клямку, каб выйсці.* Ан, 19.

Адз. В. *клямку*: Ан, 19.

**[КЛЯС]** *гл.* **[КЛАС]**.

**КЛЯСА** (5) *ж. Польск. Тое, што* клас (кляс). *У СССР ..рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы найгеніальнейшых настаўнікаў і праваdыроў працоўнага люду – Маркса і Леніна..* АЛ. *..толькі працуючы пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, гэтага авангарду рабочае клясы, толькі аддаючы свае сілы на социялістычнае будаўніцтва, яна* [інтэлігенцыя] *ня будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабскага мінулага.* Там жа.

Адз. Н. *кляса* (3): АЛ (2); Т, 42. Р. *клясы* (2): АЛ (2).

**[КЛЯСАВЫ]** *гл.* **[КЛАСАВЫ].**

**[КЛЯСЦІ]** (3) *незак*. Праклінаць. *Калі-ж сядзе ў катузку, Ўсіх кляне па беларуску*. УР. *А нашы* [беларускія] *балоты! Клялі іх калісьці*. ПБН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *кляне*: УР. Мн. 3 ас. *клянуць*: ПБН. Пр. Мн. *клялі*: ПБН.

**[КЛЯСЫЧНЫ]** *прым.* Класічны. *Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісаньня хараства нашага краю А. Міцкевіча ў яго несьмяротнай паэме "Пан Тадэуш"?* ХБ, 27.

Адз. н. Р. *клясычнага*: ХБ, 27.

**КЛЯЦЬБА** (5) *ж.* **1.** *Дзеянне па дзеяслову* клясці. *Табе слухмян быў мал, вялік, Быў славен ты* [рускі "язык"] *сваёй кляцьбой*. АПЖ. *Цябе* [рускага "гражданіна"] *тваім* ["языком"] *жа у кляцьбе Ён* [хлопчык] *не забудзе памянуць*. Там жа.

**2.** *перан.* Малітва. *Прадсмертнаю кляцьбой канаючага раба.. Звярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку*. СМ. *Ён* [бесхацінец] *цябе* [край чужы]*, як і роднай мяжы, Не забудзе ў прадсмертнай кляцьбе.* ЧС, 50–51. // *У параўн. ..часам жальба, як кляцьба, разлягалася Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад*. Б, 18.

Адз. Н. *кляцьба*: Б, 18. Т. *кляцьбой* (2): АПЖ; СМ. М. *кляцьбе* (2): АПЖ; ЧС, 50–51.

**[КЛЯШЧЫ]** *гл.* **[КЛЕШЧЫ].**

**КНІГА** (33) *ж.* **1.** Друкаванае выданне. *Кнігі для школ. Усяго*

*дванаццаць назваў васьмёх розных аўтараў і рознага зьместу..* ВСп, 89. *Наш мужык беларус не пазнаў ешчэ смаку у чытанню газэт, книг..* УП. // Твор больш-менш значнага памеру, надрукаваны асобным выданнем. *Перад намі расейская кніга "Расія. Географический сборникъ" С. Меча.* ХБ, 28. *Мае* [Купалы] *кнігі разыходзяцца ў дзесятках і сотных тысяч экземпляраў..* А, 328.

**2.** *перан.* Тое, з чаго можна атрымаць якія-н. звесткі; што знайшло адбітак, адлюстраванне. *Агністымі літарамі гэты надзвычайны дзень будзе упісан у векавечную кнігу гісторыі народау і дзяржавау, асабліва гісторыі Беларускага народу і Беларускай Дзяржавы.* БСУ. *..бліскавічнымі літарамі будзем* [беларусы] *упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў.* ПЛП.

Адз. Н. *кніга* (3): ВСп, 89; ХБ, 28, 29. Р. *кнігі*: ХБ, 28. В. *кнігу* (3): БСУ; ПЛП; УП. Мн. Н. *кнігі* (7): А, 328; ВСп, 89 (3), 90, 91; ПС. Р. *кніг* (13): А, 328; ВСп, 89 (5); 91 (4); УП (2); ХБ, 27. В. *кнігі* (5): ВСп, 89 (2); ПС (3). Т. *кнігамі*: Т, 33.

**[КНІЖАЧКА]** *ж. Памянш. да* кніжка. *З іншых выдавецтваў прыходзіцца ўспомніць Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва "Госиздат", якое за ўвесь год вымучыла дзьве кніжачкі – абедзьве разам 6 3/8 друк. арк..* ВСп, 91.

Мн. В. *кніжачкі*: ВСп, 91.

**КНІЖКА** (13) *ж. Тое, што* кніга ў 1 *знач. Так першая мая* [Купалы] *кніжка – "Жалейка" была канфіскована двойчы: пецербургскай цэнзурай і віленскім генерал-губернатарам.* ГВУ. *Гаспадарку я* [Купала] *не любіў, а вазіўся заўсёды з кніжкамі, за што даставалася мне ад бацькі.* А, 328.

Адз. Н. *кніжка* (5): А, 328; ВСп, 89, 90 (2); ГВУ. В. *кніжку*: СЧ. Т. *кніжкай*: ВСп, 89. М. *кніжцы*: ВСп, 89. Мн. Н. *кніжкі*: ВСп, 89. Р. *кніжак* (2): А, 328, Т, 30. В. *кніжкі*: ПС. Т. *кніжкамі*: А, 328.

**[КНІЖНЫ]** *прым.* Характэрны для пісьмовага літаратурнага тэксту. *Змог ён* [народ] *не толькі знаць штукі з заломам – Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.* Н.

Адз. м. В. *кніжны*: Н.

**КНУТ** *м. Руск.* Пуга, бізун. *Лунае груганнё ў прыволлі На ўсход, на захад, там і тут І сочыць косці ў чыстым полі, Дзе вые куля, вые кнут.* ГП, 8.

Адз. Н. *кнут*: ГП, 8.

**КНЯЖНА** (8) *ж.* Жонка князя. *І княжна з князем п'е да дна.* Кц, 194. *Уваходзяць тры ганцы ў сьвятліцу, Ідуць суважнаю ступой І князю, й княжне пакланіцца.* Там жа.

Δ **Мучаніца-княжна** *гл.* мучаніца.

Адз. Н. *княжна* (3): Кц, 193, 194, 196. Д. *княжне* (5): Кц, 194 (3), 195, 196.

**[КНЯЖСКІ]** *прым. Тое, што* княжэцкі. *Іскрыстым, блескатным сьвятлом, Заліты княжскіе сьвятліцы..* Кц, 192.

Мн. Н. *княжскіе*: Кц, 192.

**КНЯЖЭНЯТА** і **КНЯЖЭНЯТЫ** *толькі мн. Гіст.* Дзеці князя. *І расьлі яны, расьлі так Мае* [маці] *княжэнята На багацце, на прыбытак, На вось тое сьвята.* Дз, 188.

Δ **Княжэняты-дзеці**: *Атплацілі роднай матцэ Княжэнятыдзеці: Відмай кінулі бадзяцца, Сіратой гібеці.* Дз, 191.

Н. *княжэнята*: Дз, 188; *княжэняты*: Дз, 191.

**[КНЯЖЭЦКІ]** *прым.* Які належыць князю. *Шла мая* [маці] *ў даль дзіва-сіла, Як-бы хвалі Нёмну; На касе сваёй насіла Княжэцку карону.* Дз, 188.

Адз. ж. В. *княжэцку*: Дз, 188.

**КНЯЗЬ** (19)*м. Гіст.* **1.** Правадыр войска і правіцель вобласці. *З вольнай дружынаю князь на пасадзе Вольнаму люду законы пісаў; Слухалі князя, а князь што не ўладзіў – Слухаў, што веча яму звон казаў.* Н.

**2.** Асоба, якая мае тытул князя. *Усіх званых зблізу і здалёк Саколім вокам князь акінуў.* Кц, 193. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны, паходзіць з дробных засцянковых арандатараў, выгнаных нейкім польскім князем з зямлі.* А, 327.

Адз. Н. *князь* (8): Кц, 192 (2), 193, 194, 195, 196; Н (2). Д. *князю* (4): Кц, 194 (3), 195. В. *князя*: Н. Т. *князем* (3): А, 327; Кц, 193; Т, 43. Мн. Н. *князі* (3): МД; ПСС, 231; УрП, 48.

**КОВАЛЮКІ** *толькі мн.* Прыхільнікі Ковалюка. *Тутака пачалася благая камедыя: Солоневічы, Ковалюкі, Тепловы і ўся іх "хаўрузія" крычаць аб "распалячэньні" Беларусі.* ВР.

М. *Ковалюкі*: ВР.

**[КОВЫ]** *толькі мн. Паэт.* Кайданы. *Ох, видаци вельми хочэцца Пурышкевичам, Дубровинцам Ковы новые каваць, Йзноў турмы напаўняць…* ВЧ.

В. *ковы*: ВЧ.

**[КОВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* каваць. *У знач. прым.* Выраблены з металу. *Дубовай кованай лапатай Глыбокі выкапалі дол, Злажылі брата ці ня брата Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.* УрП, 52.

Адз. ж. Т. *кованай*: УрП, 52.

**КОГДА** *злучн. Тое, што* калі$^2$ ў 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают, ібо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із запада.* Т, 47.

**КОЖНЫ** (87) і *разм.* **КАЖНЫ** (2) *займ.* **1.** Усякі. *Кожны край, што дачэсна завецца забраным Гэткіх казак забытых шмат знае.* Ч, 326. *Дзень і ноч працуюць дружна Фабрыкі, заводы, Землі родзяць ураджайна, Буйней з кожным годам.* НК.

**2.** *У знач. наз.* Усякі чалавек. *Чагосьці чакалі грамадзяне, Ў вачох палаў надзеі жар, – Пад сьмерць, здаецца, кожны стане, Адвагай мятусіўся твар.* УрП, 47. *Першы* [склад] *– муж вучоны, важны; Носіць чын такі не кажны, Хоць па-просту на наш лік Ён ня больш як чараўнік.* Ш 4.

◊ **І кожны жук і жаба** *гл.* жук.

Адз. м. Н. *кожны* (42): Ан, 18 (2); Б, 18; БСУ (2); ВБ; ВН (2); ВС; ВСп, 90; ГНД; ДК; ЖН; Кц, 196; МІ, 17; МП; Н; Нз, 14; НДН, 19; Пп, 5; Пр (2); РКр (2); РКП (2); СНБ; Т, 27, 34, 39, 47, 52, 55; УрП, 47, 49 (2); Ч, 320, 322 (2), 326; ЧЧШ; $Ш_4$; *кажны* (2): Ч, 323; $Ш_4$. Р. *кожнага* (7): БСУ (2); ВСп, 89 (2); ДК; ПЛП; ПЧ. Д. *кожнаму* (4): ВВ, 263; ЛР; ПЧ; Р. В. *кожны* (3): Т, 19, 36, 45. Т. *кожным* (4): НК; ОШМ; Т, 40; ТЗУ, 293. М. *кожным* (5): ДН; МП; ПЧ (3). ж. *кожная* (6): АПЖ; ВС; ГВУ; Нз, 14; НДН, 18; СНБ. Р. *кожнай*: ПТ, 207. В. *кожную* (2): ВГ; СНБ, 340. Т. *кожнай*: МСП, 187. М. *кожнай* (3): ПБН; СС, 301, 302. н. Н. *кожнае* (2): БСУ; РКП. В. *кожнае* (2): МІ, 17 (2). М. *кожным*: СС, 302. Кар. адз. м. Н. *кожын*: ВР. ж. Н. *кожна* (3): БН, 92; Ч, 321; ЧС, 50–51.

**КОКЕТКА** *ж.* Жанчына з імкненнем падабацца мужчынам, звярнуць іх увагу. *У параўн.* [Наста]: *Аей, што я бачу? Без усякае цэрамоніі нашаму дзявоцкаму стану канкурэнцыю робіце* [Мікіта]: *– як кокетка, фліртуеце з люстэркам.* Т. 24.

Адз. Н. *кокетка*: Т, 24.

**КОКІНАКІ** *толькі мн. нескл.* Паслядоўнікі Кокінакі. *Тысячы Чкалавых, Грачавых, Кокінакі памчацца на сваіх быстракрылых самалётах на абарону мацеры-радзімы.* ВГ.

Р. *Кокінакі*: ВГ.

**[КОЛ]** *м.*: ◊ **Хай калом магіла будзе** *гл.* магіла.

Адз. Т. *калом*: МПв, 220.

**КОЛАС** (5) *м.* **1.** Суквецце з пладамі, насеннем гэтых раслін. *Тады ізноў пачуўся голас Дажбога вернага слугі, – Шуміць насьпелы гэтак колас, Па ніве коцяцца кругі..* УрП, 49. *На выбары вышлі. Пшаніца і жыта Калышуць свой колас у колас.* ВВ, 263.

**2.** *Вобразн.* Дабрабыт. *Не жылося мне* [душы] *даўней так, (Льецца гэткі голас), Не такі мой быў палетак, Іншы меў ён колас.* Дз, 188.

Адз. Н. *колас* (2): УрП, 47, 49. В. *колас* (3): ВВ, 263 (2); Дз, 188.

**КОЛЕЖСКІ** *гл.* **КАЛЕЖСКІ.**

**КОЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ** (2) *ж.* Аб'яднанне сялянскіх гаспадарак у калгасы. *Шкодніцтва, дыверсія, шпігоўства, інтэрвенцыя, – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны социялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя..* АЛ. *У гэтай контррэволюцыйнай рабоце беларускія нацыянал-дэмократы апіраліся, з аднаго боку на кулацтва, якое ліквідуецца ва ўмовах колектывізацыі

*як кляса, а з другога боку, на зарубежныя сілы..* Там жа.

Адз. Н. *колектывізацыя*: АЛ. Р. *колектывізацыі*: АЛ.

**[КОЛЕКТЫЎНЫ]** *прым.* Агульны, сумесны. *На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца колгасныя нівы, навейшыя дасягненьні агрономіі, тэхнікі і плодатворчай колектыўнай працы.* АЛ.

Адз. ж. Р. *колектыўнай*: АЛ.

**[КОЛЕР]** (5) *м.* **1.** Светавы тон. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы…* Т, 45. – *У клетачку… у палоску… блакітнага колеру… ой, што там робіцца… Хутка ўсе ўбачылі, як каля нямецкага ДЗОТ'а капашыліся спадніцы*. ПСп.

**2.** Тон, каларыт (у адлюстраванні чаго-н.) [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, вы крыху не ў тых колерах адмалявалі ўсю гэту трагічную гісторыю*. Т, 46.

**3.** *перан*. Манер. *А каб давясьці Думе, што тые каталікі-беларусы – гэта зусім не беларусы, а "чыстакроўные" варшавякі, іх стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер..* ВР.

Адз. Р. *колеру* (2): ПСп; Т, 45. В. *колер*: ВР. Т. *колерам*: СА, 178. Мн. М. *колерах*: Т, 46.

**КОЛЕЧЫ** (2) *часц. Разм*. У спалучэнні з займеннікамі надае ім значэнне няпэўнасці. *Трудны цяпер час на гэта, але ўсё-ж такі што колечы ды можна рабіць..* ВС. *Асабісты ваенны налог будзе выбірацца з тых, што па якой колечы прычыне увольнены ад адбываньня воінскай павіннасьці..* ВН.

**[КОЛЁНА]** і **[КОЛЁННА]** *ж. Разм.* Калона. *У параўн. ..роўныя сосны стаяць бы колённы гішпанскага храма*. ХБ, 29.

◊ **Зьлітнымі колёнамі ісьці** *гл.* ісці.

Мн. Н. *колённы*: ХБ, 29. Т. *колёнамі*: АЛ.

**КОЛІСЬ** *гл.* **КАЛІСЬ**.

**[КОЛЬКАСЦЬ]** *ж.* Лік. *..Паліграфадзел ня мог ці не хацеў даць патрэбную колькасьць шрыфтаў і наборшчыкаў*. ВСп, 91.

Адз. В. *колькасць*: ВСп, 91.

**КОЛЬКІ**[1] (5) *займ.* **1.** Абазначае колькасць чаго-н. *О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!* НДп, 229. *Сталін, друг наш, друг народаў, Друг людзей свабоды, Колькі радасці прыносіць, Шчасця ў нашы годы!* НК.

**2.** Ужываецца як злучальнае слова ў даданых сказах меры і ступені. [Ганулля]: *А начуйце, дзеткі, начуйце, колькі хочаце!* Т, 49.

Мн. Н. *колькі* (5): Ан, 19; НДп, 229 (2); НК; Т, 49.

**КОЛЬКІ**[2] (6) *прысл.* **1.** Абазначае вялікую колькасць чаго-н.; як многа. [Янка]: *І ні колькі лет і ні колькі зім, а ўсяго восем месяцаў, пане рэгістратар, як мы бачыліся.* Т, 45. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпеня*

*і за два тыдні наперад дармовыя, меджду протчым, пайкі:.. не ведаю колькі газы, паўчверці фунта і два лоты солі..* Там жа, 46. СНБ, 336; Т, 32 (2).

**2.** Наколькі. *І перад тым, як сыйсці мне ў магілу, Колькі мне сілы і дум старых хваце, Я* [дзед] *пракляну іх* [паноў] *праклятую сілу.* Дз, 73.

**КОЛЬКІ**[3] (8) *ліч. Разм.* Некалькі. *Мікіта, адступіўшы колькі крокаў назад, выцягвае рукі ўверх.* Т, 59. *Вельмі паважаны Пане Рэдактар. Не адкажэце надрукаваць у Вашай газэце гэтых колькі слоў.* ЛР. Т, 19, 23, 33, 41, 45, 54.

◊ **Колькі лет! Колькі зім!** – прывітанне пры сустрэчы з тым, каго даўно не бачыў. [Мікіта]: *Якое прыемнае, меджду протчым, спатканне, таварыш профэсар! Колькі лет! Колькі зім!* Т, 45. **Колькі ўлезе** *гл.* улезці.

**[КОМ]** (3) *м.* Зацвярдзелы кавалак чаго-н. [Гануля]: *Дык яно ж гэтак, мой сваток. Каму па каму, а нам дык два камы.* Т, 44.

◊ **Станавіцца жорсткім комам** *гл.* станавіцца.

Адз. Д. *каму*: Т, 44. Т. *комам*: НГ. Мн. Н. *камы*: Т, 44.

**КОМІН** (2) *м.* Труба для адводу дыму з печы. *Глянь карабель плыве дасужна, Дыміць комін параходны..* СА, 180. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфэлі – можа, дзе пад комін куды іх падсуньце.* Т, 50.

Адз. Н. *комін*: СА, 180. В. *комін*: Т, 50.

**КОМІСІЯ** *гл.* **КАМІСІЯ.**

**КОМПОЗЫТАР** (4) *м.* Асоба па стварэнню музычных твораў. *Пачатак гэтага зрабіў композытар Рагоўскі, які стварыў музыку да слоў верша Янкі Купалы: "А хто там ідзе?" і назваў гэта гымнам.* СБНГ. *Гэтым павінно заняцца само грамадзянства у асобах сваіх ідэёвых прадстаўнікоў – поэтаў і композытараў.* Там жа.

Адз. Н. *композытар* (2): СБНГ (2). Мн. Н. *композытары*: СБНГ. Р. *композытараў*: СБНГ.

**[КОМСАМОЛ]** *м.* Камуністычны саюз моладзі. *Я шчаслівы, што я разам Пяю песні з комсамолам, Пяём песні складным сказам Ажно рэхі йдуць вакола.* СА, 182.

Адз. Т. *комсамолам*: СА, 182.

**КОМСАМОЛЕЦ** (11) *м.* Член камсамола. *На фарпостах, на граніцах Безгранічных нашых земляў З карабінам ля стражніцаў Комсамолец не задрэмле.* СА, 181. *Ці то сушы, ці то моры, Ці то высі паднябесся, Усюды стрэнеш непакораў – Комсамольцаў нашых з песняй.* Там жа, 179.

∆ **Комсамолец-вярнігоры**: *Далей, вышай, у прасторы Па ўраджай з сяўбы багаты, Комсамольцы-вярнігоры, Сталінскія арляняты!* СА, 180.

Адз. Н. *комсамолец*: СА, 181. Мн. Н. *комсамольцы* (9): СА, 178

(2), 179 (2), 180 (3), 181 (2). Р. *комсамольцаў*: СА, 179.

**[КОМСАМОЛКА]** *ж. Жан. да* комсамолец. *Гэй, ты, моладзь, наша змена, Комсамольцы, комсамолкі, як-жа светла, як адменна Свецім колерам вясёлкі!* СА, 178.

Мн. Н. *комсамолкі*: СА, 178.

**[КОМСАМОЛЬСКІ]** *прым.* Які належыць да камсамолу, камсамольцам. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль твае пачуе вуха Комсамольскі гарт юначы.* СА, 179.

Адз. м. В. *комсамольскі*: СА, 179.

**КОМУНІСТ** *гл.* **[КАМУНІСТ]**.

**[КОМУНІСТЫЧНЫ]** *прым.* Які адносіцца да камунізма. *..яго* [стаханаўскі рух] *спарадзіла геніяльнае прадбачанне правадыра ўсіх працоўных – мудрага Сталіна, які паказвае далейшае развіццё гэтага руху аж да комуністычнай грамады.* СТ.

Адз. ж. Р. *комуністычнай*: СТ.

**[КОМХОЗ]** *м. Руск.* Камуністычная гаспадарка. [Мікіта]: *Цяпер я, пане профэсар, маю шаснаццаць дзенных і восем вячэрніх, меджду протчым, пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрскіх Саўхозах, Нархозах, Комхозах, Домхозах і іншых аддзелах..* Т, 46.

Мн. М. *комхозах*: Т, 46.

**КОНЕЦ** *гл.* **КАНЕЦ.**

**[КОНІК]** *м. Памянш.* Цацка. *Сеў Данілка, выразае Коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Вб, 238.

Адз. В. *коніка*: Вб, 238.

**[КОНСКІ]** *прым.*: ◊ **Конскі хлеб** *гл.* хлеб.

Адз. м. Д. *конскаму*: Т, 45.

**[КОНСТЫТУЦЫЯ]** *ж.* Асноўны закон дзяржавы. *..я* [Купала] *.. прыняў самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмократаў, якія на грунце констытуцыі Савецкае Беларусі.. праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмократычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

Адз. Р. *констытуцыі*: АЛ.

**КОНТРАБАНДА** (2) *ж.* Усё, што нельга правозіць праз мяжу. [Мікіта]: *..вось пападаецца па дарозе якая-небудзь контрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупы, бульба, сала..* Т, 45. [Мікіта]: *Значыцца, выгандляваў цішком каб ніхто не бачыў, тое-сёе з гэтай контрабанды на якую-сякую панчоху ці шкарпэтку, палажыў сабе.. на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы.* Там жа, 46.

Адз. Н. *контрабанда*: Т, 45. Р. *контрабанды*: Т, 46.

**[КОНТРАТАКА]** *ж.* Сустрэчная атака з мэтай адбіць наступленне ворага або перайсці ў наступленне самім. *Немцы пад прыкрыццём спадніц думалі наладзіць ДЗОТ, а пасля пайсці ў контратаку.* ПСп.

Адз. В. *контратаку*: ПСп.

**[КОНТРРАЗВЕДКА]** *ж.* Спецыяльныя органы дзяржавы для процідзеяння разведцы праціўніка, для барацьбы са шпіянажам, дыверсіямі і пад. *У прыёмных нямецкіх і японскіх контрразведак трацкісцкія шпіёны і здраднікі гандлявалі нашаю крывёю і нашым нацыянальным гонарам.* ВНЗ.

Мн. Р. *контрразведак*: ВНЗ.

**КОНТРРЭВАЛЮЦЫЙНЫ** (2), **КОНТРРЭВОЛЮЦЫЙНЫ** (8) і **КОНТР-РЭВОЛЮЦЫЙНЫ** *прым.* Варожы рэвалюцыі, накіраваны супраць яе. [Мікіта]: *Рэволюцыйная самадысцыпліна ..мае два канцы – то яна ўсіх б'е, то яе ўсе б'юць, бо контррэволюцыйная дысцыпліна не спіць у шапку.* Т, 40. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і організатара контр-рэволюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка капіталізму ўзяў на сабе беларускі нацыянал-дэмократызм..* АЛ.

Адз. ж. Н. *контррэвалюцыйная*: Т, 40. Р. *контррэвалюцыйнай*: СЧ. В. *контррэволюцыйную*: АЛ. М. *контррэволюцыйнай* (3): АЛ (3). Мн. Н. *контррэволюцыйная*: АЛ; *контр-рэволюцыйныя*: АЛ. Р. *контррэволюцыйных* (2): АЛ (2); *контр-рэволюцыйных*: АЛ.

**[КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ]** і **[КОНТРРЭВОЛЮЦЫЯ]** *ж.* Рэакцыйная барацьба эксплуататарскіх класаў; удзельнікі гэтай барацьбы. *Ніколі не быў* [Купала] *контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся.* СЧ. *Жалезнай рукой вы* [Ёжоў] *грамілі і граміце змяіныя гнёзды трацкісцкай, бухарынскай і нацыянал-фашысцкай контррэволюцыі, выкурваючы ворагаў з усіх гнёзд.* НКУС.

Адз. Р. *контррэвалюцыі*: СЧ; *контррэволюцыі*: НКУС.

**[КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯНЕР]** *м.* Прыхільнік, удзельнік контррэвалюцыі. *Ніколі не быў* [Купала] *контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся.* СЧ.

Адз. Т. *контррэвалюцыянерам*: СЧ.

**[КОНТРРЭВОЛЮЦЫЙНЫ]**, **[КОНТР-РЭВОЛЮЦЫЙНЫ]** *гл.* **[КОНТРРЭВАЛЮЦЫЙНЫ].**

**КОНТРРЭВОЛЮЦЫЯ** *гл.* **КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ.**

**КОНТРЫБУЦЫЯ** *ж.* Плацяжы краіне-пераможцы пераможанай краінай. [Мікіта]: *Вось вам, ясне мусье немец, гэр гэрманіш, пакуль што контрыбуцыя, заўтра дам энэксыю, а там, калі не хопіць, жонак, дзяцей залажу..* Т, 33.

Адз. Н. *контрыбуцыя*: Т, 33.

**[КОНФЭДЭРАТКА]** *ж. Польск.* Польская нацыянальная шапка з чатырохвугольным верхам. *Заходні вучоны – носіць польскі строй – кунтуш і "конфэдэратку", барада голеная, вусы завесістыя.* Т, 19.

Адз. В. *конфэдэратку*: Т, 19.

**КОНЬ** (13) *м.* Свойская аднакапытная жывёліна. *А наперадзе ўсіх едзе Наш Даніла з вайны, Шабля бліскае пры боку, Конь пад ім*

*буланы.* ПСД. *Вядома, не абходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засыпаў, а коні тым часам трапялі ў шкоду.* ПС. // *Вобразн. Паўстань з народу нашага, ваяк, І волатам на вогненым кані Народ аграблены – бы з торб жабрак – За бацькаўшчыну павядзі ў агні!* Пт.

Адз. Н. *конь* (3): Ан, 18; ПСД; Т, 45. В. *каня*: А, 328. М. *кані*: Пт. Мн. Н. *коні* (3): ПС; ТЗУ, 293 (2). В. *коней*: ПС; *коні*: Т, 48. Т. *коньмі*: БН, 92. М. *канях*: Вб, 238; *конях*: Т, 43.

**[КООПЕРАЦЫЙНЫ]** (2) *прым. Разм.* Кааператыўны. [Мікіта]:.. *важу, але ўжо толькі са службы, усялякія пайкі, кооперацыйны тавар і іншае..* Т, 45. *Наладжанае ў красавіку мінулага году кооперацыйнае В-ва "Адраджэньне" шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91.

Адз. м. В. *кооперацыйны*: Т, 45. н. Н. *кооперацыйнае*: ВСп, 91.

**КОРАТКА** і **КАРОТКА** *прысл.*: ◊ **Доўга ці коратка (каротка)** *гл.* доўга.

**[КОРОТКІЙ]** *прым. Руск.*: ◊ **Короткі пяткі** *гл.* пятка.

Кар. мн. Н. *короткі*: Т, 39.

**КОРЧ** (2) *м.* Пень, вывернуты з зямлі з карэннем. *У параўн. Ён, як дрэва, корч нягодны – Ні ў ім сэрца, ні душы.* КЧ. *Волочуць* [людзі] *ёрмы за сабою Ці ўбачуць корч, ці ўбачуць цьвет, Аднэю жаляцца сьлязою.* Кц, 195.

Адз. Н. *корч*: КЧ. В. *корч*: Кц,195.

**[КОСТАЧКА]** (2) *ж. Памянш. да* косць у 2 *знач. А ўспомні-прыпомні шчасьліў, несчасьлівы, Аб тых, што ў сьвітаньні на век адыйшлі, – Усе костачкі тые на гонях папарных, – Жывых, што ў бязпуцьці акуцьцем зьвіняць...* В.

◊ **З костачкамі** – зусім. [Мікіта]: *Оеей! Оеей! зусім прапаў і з костачкамі нават!* Т, 60.

Мн. Н. *костачкі*: В. Т. *костачкамі*: Т, 60.

**[КОСТКА]** *ж.*: ◊ **Косткай у горле** – перашкаджаць, дакучаць. *Мушу вам, сябры, прызнацца, што гэта Антанта сядзіць ужо ў мяне соляй у воку, косткай у горле, калоццем у баку.* Ан, 18.

Адз. Т. *косткай*: Ан, 18.

**КОСЦЬ** (13) і **[КОСЬЦЬ]** (5) *ж.* **1.** Асобная састаўная частка шкілета хрыбетных жывёлін і чалавека. [Груган]: *З'еўшы сэрца, я ляту косці падбіраю.* Пц.

**2.** *толькі мн.* Астанкі, прах, цела нябожчыка. *Аж прадзедаў косьці ня ўлежаць пад крыжам, – Што ночы выходзяць з магіл.* ЗК, 43. *..зямля, засеяная касцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх; спаленую хату беларускі мазоль адбудуе, а сваю сяўбу ён сам будзе жаць.* ПЛП.

◊ **Есьці аб'едкі і косьці** *гл.* есьці. **Злажыць косці** *гл.* злажыць. **Косці парыць** *гл.* парыць. **Касцямі палегчы** *гл.* палегчы. **Косці пасеяць** *гл.* пасеяць. **Па касцях** – цаной вялікіх ахвяр. *Намыліліся*

*старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсемагутны Бог..* Кз, 17. **Сеяць спрацаваныя косці** *гл.* сеяць. **У горле косць** – пра таго, хто вельмі перашкаджае, даймае каго-н. *У хлебе восць, у горле косць. Сабою самі ўстаць з руін Вам не хапіла смагі, сіл..* ПВ.

Адз. Н. *косць*: ПВ. Мн. Н. *косьці*: ЗК, 43. Мн. Р. *касцей*: ТП, 216. В. *косці* (7): БВ, 16; ГП, 8; Мц, 75; МПв, 220; НГ, 8; Пц; Т, 35; *косьці* (4): Г, 17; См, 90; Ч, 321, 325. Т. *касцямі* (3): ПБН; ПЛП; Т, 35. М. *касцях*: Кз, 17.

**КОТ** *м.*: ◊ **Як кот з салам** – пра таго, хто імкнецца выклікаць зацікаўленасць каго-н. [Гарошка]: *Гэты настаўнік ..сам носіцца, як кот з салам, з усялякімі мудрымі думкамі, дык яшчэ, як на тое ліха, і маёй Аленцы ў галаве ўсё дагары нагамі перакуліў.* Т, 44.

Адз. Н. *кот*: Т, 44.

**[КОЎДРА]** *ж.* Пасцельная рэч для накрывання. [Мікіта]: *Мед-жду протчым, мамаша, завесьце чым-небудзь вокны, можа – коў-драмі…* Т, 24.

Мн. Т. *коўдрамі*: Т, 24.

**КОЎЗАЦЦА** *незак. перан. Разм.* Сноўдацца. [Аленка]: *А чаму б вам, пане Нікіці, замест коўзацца па слізкіх і небяспечных для ва-шай асобы пуцявінах, не заняцца чым-небудзь болей рэальным і грунтоўным.* Т, 36.

Інф. *коўзацца*: Т, 36.

**[КОЎШ]** (3) *м.* Кубак. *Бярэ* [князь] *коўш соладка віна, П'е за дружыну маладую.* Кц, 193. *Золататканы абрусы З сталоў зьвіса-юць дыванамі, На абрусах чысьцей расы Віно красуецца каўшамі.* Там жа, 192.

Адз. В. *коўш*: Кц, 193. Мн. Р. *каўшоў*: УрП, 51. Т. *каўшамі*: Кц, 192.

**[КОФТАЧКА]** *ж.* Кофта з лёгкай тканіны. *Высыпаў* [пан] *яга-ды, збіў, клікнуў варту, Хустачку здзёр мне* [маці] *і кофтачку, зло-дзей.* Мц, 75.

Адз. В. *кофтачку*: Мц, 75.

**[КОШТ]** *м.*: ◊ **Коштам** – выкарыстоўваючы каго-н. для якой-н. мэты. *Мацнейшыя народы хочуць павялічыць сваю тэрыторыяль-ную і збройную сілу коштам слабейшых.* СНБ.

Адз. Т. *коштам*: СНБ.

**[КОШЫК]** (7) *м.* Невялікая плеценая з лазы, карэння пасудзіна. *Вымае* [Мікіта] *з кошыка, то стаўляе назад бутэлькі.* Т, 58. *Мікіта хапае то за кошык, то за рэвальверы, не ведаючы, што куды па-дзець.* Там жа, 59.

Адз. Р. *кошыка*: Т, 58. В. *кошык* (6): Т, 58 (3), 59 (2), 60.

**КРАВЕЦ** *м.* Спецыяліст па шыццю адзення. [Мікіта]: *..гэта* [кас-цюм] *…меджду протчым, прынёс мне мой прыдворны кравец для меркі..* Т, 24.

Адз. Н. *кравец*: Т, 24.

**[КРАДЗЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* красці. *У знач. прым.* Украдзены. *Брат другі шоў на нетры сьляпые аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам.* Ч, 324.

Адз. м. В. *крадзены*: Ч, 324.

**[КРАЁВЫ]** *прым. Польск.* Нацыянальны. *Ядыная бадай расійская краёвая часопісь, якая друкуе артыкулы й пабеларуску, гэта "Вестник Комиссариата Народного Просвещения С.С.Р.Б."* ВСп, 90.

Адз. ж. Н. *краёвая*: ВСп, 90.

**КРАІНА** (36) *жс.* **1.** *Тое, што* край у 5 *знач.* *Краіна* [Чэхаславакія] *ўзгоркаватая, нагадвае некаторыя раёны нашай Беларусі.* ПЧ. *Трутнёў ня будзеце забавай, Краіны вольнае сыны, Прамчыцца бурна ваша слава На ўсе чатыры стараны.* УрП, 50. *Параўн.* страна.

**2.** *Тое, што* дзяржава. *Цяжкае ўражанне робіць гэтая ні то памершая, ні то паміраючая краіна…* ПЧ. *Мы* [савецкія людзі] *зараз з усёй краінай будуем соцыялізм.* ВГР.

**3.** Рэспубліка. *З туманаў, з імглы, з цемнаты Паўстала краіна мая.* ТП, 214.

• **Гордая краіна** – Каўказ. *У краіне гордай, горы дзе пад неба, Дзе быў прыкаваны Праметэй да скалы, Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС, 231. **Краіна Леніна** – Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. *Мы* [дэлегаты] *з вялікай чуласцю выслухалі яе* [маці] *апавяданне пра вялікую любоў да Леніна, да краіны Леніна. Вось гэту вялікую, заслужаную, гордую радасць пераможцаў падзяляем з усімі народамі краіны Советаў і мы, ягоныя пісьменнікі..* ВГР. ..[Савецкая Армія] *..калі гэта трэба будзе, ад любога ворага абароніць краіну Советаў.* ЖН. **Совецкая краіна** – *тое, што* краіна Леніна. *..З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Совецкай краіны сыны.* ПБН.

Адз. Н. *краіна* (9): АЛ; ВГР (2); ДНСП; ПБН; ПТ, 214; ПЧ (2); Ф. Р. *краіны* (13): ВГР; ДЖ; Ж; ЖН; НКУС; ПБН; ПСС, 232; ПЧ (5); УрП, 50. Д. *краіне*: ПТ, 206. В. *краіну* (4): АЛ; ЖН; НКУС; ПСД. Т. *краінай* (2): ВГР; ПЧ; *краінаю*: ПЛ. М. *краіне* (5): АЛ (2); ПБН; ПСС, 231; ПЧ. Мн. Р. *краін*: ПЧ.

**КРАЙ** (106) *м.* **1.** Канечная лінія, якая абмяжоўвае якую-н. паверхню. *Паглядзеце хоць на гэтае: скрозь каля поля, засеянага грэчкаю, на краёх лесу, каля лугоў, што заліваюцца ў разводзьдзе, стаяць вялікія цяжкія калоды.* ХБ, 30. // Ускраіна. *Бліны к калядам, к сёмусе адзежка, Ды тое, што хаціна ўстала на краю.* ВБЛ, 81.

**2.** Мясцовасць, старонка. *Край, дзе жыццё сваё я* [Нёман] *пачынаю, Шмат весялей прыглядаўся на свет..* Н. *Як ачысцілі ваякі Край ад ворага свой, Важна ехалі дадому, Як тых пчол буйных рой.* ПСД. // Айчына, рэспубліка. *А ў нас стаў квітнеючым край*

*беларускі, Змяніліся людзі, аблічча зямлі..* ПБН. *У нашым краю шмат жыве палякоў, расійцаў, жыдоў, татараў.* НДН, 19. // Краіна. *Сям'ёю народаў шчаслівага краю Табой узгадаваных у барацьбе – Свайго вызвалення мы дзень услаўляем І песню пра шчасце прыносім табе* [Сталіну]. ПБН. *Язэп Пілсудзкі заявіў у Менску, што "хацеў-бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі".* СНБ. *Параўн.* краіна.

**Забраны край**.

Δ **Край-сірата**: *Над пакаленьнем неакрэпшым, Над бедным краем-сіратой Груган з начніцаю сьляпою Банкет спраўляюць чорны свой*. РС, 40.

• **Забраны край** (7) – Беларусь. *Заплачэ ў пагоду канюх па расінцэ, "Забраны край" жаліцца з ім.* ЗК, 42. *Нячысцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы, "Забраны край" тузаюць так.* Там жа. **Край савецкі** – СССР. *Не вам край совецкі Знішчыць, крывапіўцы… У нашых чэкістаў зоркія зраніцы!* МПв, 219.

◊ **Ад (з) краю да (у) краю (край)** – ва ўсіх напрамках. *Распасьцёр свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да краю, на усім нязьмераным сьвеце, і пачатку яго не найці і канца яму не дабачыць.* З. *Гудзі над Беларусяй з краю ў край, У сэрцах спячых распалі пажар, Над курганамі і перуном зайграй! Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!* Пт. **На край свету** – кудынебудзь вельмі далёка. *..тысячы з медзі літых званоў хвалу яму* [богу] *разносяць, а так далёка, як зямля наша вяліка, і яшчэ далей, ажно на край свету*. Кз, 17.

Адз. Н. *край* (20): АБ, 16; ГП, 8; ЗК, 42 (3); КЧ; МД; Н (2); Нз, 15; ПБН; Т, 47; ТП, 214, 215, 216, 217 (2); ХБ, 27, 29; Ч, 326. Р. *краю* (29): БВ, 16; БС; ВР; ВС; Дз, 191; ДД; ДК; З (2); КЧ; Н (2); НДН, 19; Пт; ПБН; СНБ, 336, 339; СНБ; СС, 301 (2), 302 (2); Т, 47; УПУВ; ХБ, 27 (2), 28, 30; *края* (2): Ф (2). В. *край* (26): БрБ, 6; ЗК, 42 (3), 43; ЗС, 18; Кз, 17; КЧ; М, 20; МД; МПв, 219; Н; Нз, 14; НГд, 8 (4); Пт (2); ПСД; СНБ; ТП, 214; УПУВ; Ф; Х; ХЛВ, 316. Т. *краем* (4): Кц, 193; КЧ; РС, 40; ХБ, 27. М. *краю* (16): АБ, 16; БСУ; ВБЛ, 81; ВС; ЗС, 17 (3), 18 (2); Нз, 14, 15; НГ; НДН, 19; ОШМ; Т, 47; ХБ, 28; *краі* (5): МІ, 17; Пп, 5; СНБ, 337, 340; Т, 39. Кл. *краю*: ЧС, 50–51. Мн. Р. *краёў* (2): ХБ, 27, 29. М. *краёх*: ХБ, 30.

**[КРАКАДЫЛЕЎ]** *прым.*: ◊ **Кракадылевы сьлёзы** *гл.* сьляза.

Мн. Н. *кракадылевы*: ЧЧШ.

**[КРАМА]** (4) *ж.* Магазін, лаўка. [Гарошка]: *Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску – як у шабас, усе крамы пазачыняны.* Т, 39. *Ешчэ трэба сказаць аб хаўрусных крамах і баначках па вёсках.* ВС.

Мн. Н. *крамы* (2): ВС; Т, 39. В. *крамы*: Т, 57. М. *крамах*: ВС.

**[КРАМОЛА]** (2) *ж.* Мяцеж, бунт. *Гэй, Дубровін чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу*

*скараніці*. ЛПК. *Вось газетку надрукую, Чорна-чорную такую, Жыдоў біці і палякаў І з крамолай біцца ўсякай.* Там жа.

Адз. В. *крамолу*: ЛПК. Т. *крамолай*: ЛПК.

**[КРАНУЦЬ]** *зак. перан.* Нанесці шкоду. *Нас* [духаў] *не кранулі косы зьмен: Царым мы ў дум жывых гэйнале, Хоць на падмурак гэтых сьцен Другіе наш пасад занялі.* Кц, 193.

Абв. пр. мн. *кранулі*: Кц, 193.

**[КРАПІДЛА]** *н. Польск., царк.* Пэндзаль для апырскавання вадой пры царкоўных абрадах. *Адбіваючы тут-жа паклоны плашмя, Нейкі нехрысьць крапідлам махае, пяе Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя..* БН, 92.

Адз. Т. *крапідлам*: БН, 92.

**КРАСА** (9) *ж.* **1.** Хараство, прыгажосць. *Гаспадар той суважна свой шнур па святочнаму Абыходзіці будзе, красой любавацца, Прыслухоўвацца шэлесту нівы няўрочнаму І маліцца к сваей зямлі матцэ.* ТС, 74. *Я* [Нёман] *іх* [людзей] *не ваблю сваею ўжо красай: Вецер інакшы ім дзьме ў галаве..* Н.

**2.** Прывабны выгляд. [Душа]: *Так мая краса завяла І маёй сялібы! Ліхата апанавала І капцы, і ськібы.* Дз, 190.

**3.** Упрыгожанне, слава. *Будзеш Суомі йсці яснай дарогай, Новага будзеш складаць Калеваду З рунаў красы, барацьбы, перамогаў*. Ф. *Будзеш жыць ты* [Сулейман Стальскі] *ў сэрцах Думкаю арлінай На красу і славу Роднае краіны*. ПСС, 232.

Δ **Дзяўчынка-краса** *гл.* дзяўчынка.

Адз. Н. *краса* (3): БН, 92; Дз, 190; НДп, 229. Р. *красы*: Ф. В. *красу* (2): НК; ПСС, 232. Т. *красой*: ТС, 74; *красай*: Н. Мн. Т. *красамі*: НДН, 19.

**[КРАСАВАЦЦА]** (5) *незак.* **1.** Прыцягваць увагу, вылучацца сваёй прыгажосцю. *На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца колгасныя нівы, навейшыя дасягненьні агрономіі, тэхнікі і плодатворчай колектыўнай працы.* АЛ. *Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы, Зіхацела ў ім кожна часьціна..* Ч, 321. *Параўн.* красавацца ў 2 *знач.*

**2.** Знаходзіцца на відным месцы. *Залататкaны абрусы З сталоў зьвісаюць дыванамі, На абрусах чысьцей расы Віно красуецца каўшамі.* Кц, 192. *Параўн.* красавацць у 3 *знач.*

**3.** *перан.* Быць у духоўным і фізічным росквіце. *З табою* [Сталіным] *дабром у нас поўны засекі, З табою не страшны для нас небяспекі, Жыві і красуйся нам вечныя векі!* СС, 303. *Жыві і красуйся нам вечныя векі, Як вечна плывуць жыватворныя рэкі!* Там жа.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *красуецца*: Кц, 192. Мн. 3 ас. *красуюцца*: АЛ. Пр. адз. м. *красаваўся*: Ч, 321. Заг. адз. 2 ас. *красуйся* (2): СС, 303 (2).

**[КРАСАВАЦЬ]** (6) *незак.* **1.** Цвісці (пра злакавыя расліны). *На небе – шлях млечны, на небе – вясёлкі, На гонях красуе пшаніца і жыта…* ТП, 217. *Засеваймо свае нівы – хай рунь красуе.* РКр.

**2.** *Тое, што* красавацца ў 1 *знач. Жалейкі, дуды красавалі – Прылады свойскія музык, – Цапы і вілы ў высь сягалі, Як быў абшар далёк, вялік.* УрП, 47.

**3.** *Тое, што* красавацца ў 2 *знач. Хто наперадзе са сцягам, На якім красуе Сталін, Пакарыў сваёй адвагай Неразгаданыя далі?* СА, 178.

**4.** *перан.* Квітнець, паспяхова развівацца. *Хай жыве і красуе ленінска-сталінская партыя, якая адна толькі магла вывесці Беларусь на вольны шырокі прастор шчаслівага жыцця!* ЖН.

**Хай рунь красуе**…

Абв. цяп. адз. 3 ас. *красуе* (5): ЖН; РКр (2); СА, 178; ТП, 217. Пр. мн. *красавалі*: УрП, 47.

**[КРАСАВІК]** *м.* Чацвёрты месяц года. *Наладжанае ў красавіку мінулага году кооперацыйнае В-ва “Адраджэньне” шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91.

Адз. М. *красавіку*: ВСп, 91.

**[КРАСКА]**[1] (2) *ж. Разм.* **1.** *Тое, што* кветка ў 2 *знач. Дзе ні ступіць* [чараўнік] *– згібаюцца краскі і травы, І пракляцьце шуміць бескарысна.* Ч, 320.

**2.** *Вобразн.* Любоў, душэўная цеплыня. *Іх* [сыноў] *пясьціла* [маці], *як умела, Ласкаю вясёлай; Красак, сонца не жалела Я для іх, саколаў.* Дз, 188.

Мн. Н. *краскі*: Ч, 320. Р. *красак*: Дз, 188.

**[КРАСКА]**[2] *ж. Руск.* Фарба. *Усе сілы – соцыялістычнаму будаўніцтву на зацьвітаючай новымі агняцьветнымі краскамі індустрыяльна-колгаснай глебе Савецкай Соцыялістычнай Беларусі!* АЛ.

Мн. Т. *краскамі*: АЛ.

**[КРАСНЫ]** (2) *прым. Руск., нар.-паэт.* Прыгожы. *Цяпер то, як ты* [родная зямелька] *красна, я чую, я бачу, – І апішу, бо ўсьпяж па табе плачу.* ХБ, 28. *Гдзе дзяцеліна гарыць, вось красна паненка, А ўсё мяжой прыбіта бачыцца істужкай, Там, сям, быццам к адзежцы прышпілена йгрушкай.* Там жа.

Кар. адз. ж. Н. *красна*: ХБ, 28 (2).

**КРАСЦІ** (2) *незак.* Употай браць, прысвойваць сабе чужое. *Летась нягода, сёлета горай Проста жылося, проста жывецца, Красці-ж не пойдзем, хоць у каморы Кожны к нам прэцца.* Пп, 5. *Каб яго* [Пасляка] *падбадзёрыць, не раз краў я* [Купала] *ў маці сала або сыр і нёс яму ў узнагароду за казкі.* ПС.

Інф. *красці*: Пп, 5. Абв. пр. адз. м. *краў*: ПС.

**[КРАТАЦЬ]** *незак.* Кранаць, чапаць. *Пачуеш* [брат-беларус], *як шмат лет таму Тваё было тут панаванне; Паслушна голасу тваймy, Цябе не кратала скаранне.* БрБ, 6.

Абв. пр. адз. н. *кратала*: БрБ, 6.

**[КРАТЫ]** (2) *толькі мн. перан. Тое, што* турма ў 1 *знач. Зрабілі з вас* [бальшавікоў] *гаспадароў. І вы з рабоў пайшлі ў цары... – О, каб не ў краты толькі з крат!? Паклон аддаў вам азіят..* Пв.

Р. *крат*: ПВ. В. *краты*: ПВ.

**[КРАЯВУГЛАВЫ]** *прым.*: ◊ **Краявуглавое каменьне** *гл.* каменьне.

Мн. Р. *краявуглавых*: АЛ.

**[КРОВЬ]** *ж. Руск.* Род, паходжанне людзей. [Усходні вучоны]: *Іоан Здольніков. Ісціно-рускій ціп Северо-Западной Обласці і безусловно з прымесью монгольско-фінской крові.* Т, 26. *Параўн.* крэв.

Адз. Р. *крові*: Т, 26.

**КРОК** (14) *м.* **1.** Рух нагой уперад, назад пры хадзьбе. *Дама, Поп, Спраўнік, Пан, Мікіта, акружыўшы Чырвонаармейца, выходзяць маршавым крокам.* Т, 53. *Мікіта, адступіўшы колькі крокаў назад, выцягвае рукі ўверх.* Там жа, 59.

**2.** *перан.* Тэмп развіцця. *Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і эканомічнае будаўніцтва Беларусі.* АЛ.

**3.** *перан.* Дзеянне, учынак. *Няхай не палічаць нашые словы за покліч к бунтарству, – Божа ухавай нас* [людзей] *ад гэтага кроку!* ДК. *..ня раз ужо беларускіе політычные кругі прасілі уладу зрабіць патрэбныя крокі, каб прыпыніць злачынства проці яе-ж уласных законаў..* ОШМ.

◊ **З першых крокаў** – адразу. *З першых-жа крокаў у Чэхаславакіі, наша дэлегацыя апынулася ў атмасферы надзвычайна шчырай прыязні і сімпатыі да нас, да нашае бацькаўшчыны.* ПЧ. **За крокам крок** – паслядоўна, адзін за другім. *Мах за крокам крок! Войска йдзе ў паход, Быццам тая хмура.* ВБ. **Крок у крок** – *дзейнічаць нараўне з іншымі. А вам не страх, а вам не страх!.. Чатыры годы крок у крок.* ПВ. **Махаць крокі** *гл.* махаць. **Першы крок** – пачатковы перыяд якой-н. дзейнасці. *Але адно скажу – як рад я* [Купала] *за першыя крокі свае ў літаратуры, калі разам з беднатой беларускай вёскі я горача пратэставаў супраць паноў і царства.* ЖН. **Сямімільнымі крокамі** – вельмі хутка (развівацца). *Мы* [савецкія людзі] *прайшлі гэты шлях, як казачныя асілкі – сямімільнымі, ленінскімі крокамі.* ВГР.

Адз. Н. *крок* (2): ВБ; ПВ. Р. *кроку* (2): ДК; Т, 52. В. *крок*: ПВ. Т. *крокам* (2): ВБ; Т, 53. Мн. Р. *крокаў* (2): ПЧ; Т, 59. В. *крокі* (3): ЖН; ОШМ; Т, 41. Т. *крокамі* (2): АЛ; ВГР.

**КРОСНЫ** *толькі мн.* Ткацкі станок. *Глядзіш – для яе, маладой, Ткуць кросны атласы, шаўкі, Паважнаю ходзіць хадой, Шуршаць залатыя пяскі!* ТП, 215.

Н. *кросны*: ТП, 215.

**КРОТ** *м.* Млекакормячая жывёліна атрада насякомаедных. *У параўн. І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны, Хоць пад права твае падрываецца шмат хто, як крот, – Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына: Зразумеў і ўспомніў цябе твой мільённы народ*. Б, 18.

Адз. Н. *крот*: Б, 18.

**КРОЎ** (31) *ж.* **1.** Чырвоная вадкасць для забеспячэння абмену рэчываў у арганізме. *Крыві расіны заблішчэлі На чорнай стоптанай зямлі..* УрП, 52. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві, Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі..* БН, 93. // *перан*. Жыццё. *У прыёмных нямецкіх і японскіх контрразведак трацкісцкія шпіёны і здраднікі гандлявалі нашаю крывёю і нашым нацыянальным гонарам*. ВНЗ.

**2.** *перан*. Забойства, кровапраліцце. *Адлогам лягуць скора нівы, Узьняты нашаю рукой, Крыніц жывыя пераліўы Закалутушацца крывёй*. УрП, 48. *Ну, а трэцьця с чацьвёртай Рэчка ў дальню даль запёрта, Слаўна золатам для нас І крывёй ў вапошні час*. $Ш_4$.

**3.** *перан*. Здольнасць або прыродная схільнасць да чаго-н. [Мікіта]: *І гэтае, меджду протчым, здарэнне пераканала мяне, што кроў свабодных профэсій у маіх жылах яшчэ цячэ..* Т, 46.

• **Кроў зямлі** – вада. *Ад хваль, што шэпчуцца так міла, Ты дойдзеш праўданькі усёй, Што рэчкі – гэта зямлі жылы, Вада ў іх – кроў зямлі тваёй*. БрБ, 6.

◊ **Кроў ліць** *гл.* ліць. **Кроў льецца (цячэ)** – пра вялікія ахвяры, масавае забойства. *Мне* [хлопчыку] *мамку зарэзалі немцы, Сястрычку спалілі жыўём, Дык хай-жа кроў чорная льецца, Іх псіная кроў ручаём*. ХЛВ, 315. *А на магілах крыўда свішча Ды кроў гарачая цячэ*. ГП, 8. **Кроў псаваць** *гл.* псаваць. **Кроў ссаць** *гл.* ссаць. **Кроўю плакаць** *гл.* плакаць. **Праліваць гарачую кроў** *гл.* праліваць. **Смактаць кроў** *гл.* смактаць. **У жылах кроў ледзянее** – пра пачуццё жаху, моцнага перапуду. *Цёплая ў жылах мне кроў ледзянее, Сонца не сонца мне ў свеце прыгожым.* Бц, 74.

Адз. Н. *кроў* (7): Бц, 74; БрБ, 6; ГП, 8; Т, 46, 49; ХЛВ, 315 (2). Р. *крыві* (4): Р; СЗГ, 252; СНБ, 340; УрП, 52. В. *кроў* (9): АР; БрБ, 6; БВ, 16; БСУ; Г, 16; Гр, 215; Мц, 75; ПВ; Т, 22. Т. *крывёй* (5): БН, 92; Тп, 216; УрП, 48; ЧС, 50-51; $Ш_4$; *кроўю* (3): БрБ, 6; См, 90; Ч, 325; *крывёю* (2): ВНЗ; См, 91. М. *крыві*: БН, 93.

**[КРОЧЫЦЬ]** *незак.* Хадзіць, ісці. *Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць*. Ф.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *крочыць*: Ф.

**[КРУГ]** (4) *м.* **1.** Хваля па акружнасці. *Тады ізноў пачуўся голас Дажбога вернага слугі,- Шуміць насьпелы гэтак колас, Па ніве коцяцца кругі.* УрП, 49.

**2.** Замкнуты ланцужок. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг, Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг, Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.* БН, 92.

**3.** *перан.* Сацыяльная, грамадская групоўка людзей. *..ня раз ужо беларускіе палітычные кругі прасілі уладу зрабіць патрэбныя крокі, каб прыпыніць злачынствы проці яе-ж уласных законаў..* ОШМ.

Адз. В. *круг*: БН, 92. Т. *кругам*: БН, 92. Мн. Н. *кругі* (2): ОШМ; УрП, 49.

**КРУГОМ[1]** (4) *прысл.* 1. Навокал, з усіх бакоў. *Дайце сьмерць, хай ня чую, што ноч мне пяе! Дайце сілы!.. О, Божа! Нікога кругом!* БН, 91. *Садзіцца княжна, князь, кругом Садзіцца вольная дружына; Шуміць бяседа за сталом, Плыве часіна за часінай.* Кц, 196. // *Разм.* Усюды. *Цяпер, што бачу я кругом? Пасад маўклівы збуран скрозь…* АПЖ. ХБ, 28.

**КРУГОМ[2]** (4) *прыназ. з Р.* Вакол каго-, чаго-н. *Ну, а усе – кругом цябе І ты з імі разам, Ажно цешыцца душа Адным гэтым сказам.* $Ш_2$. [Князь:] *А покуль поўначь не прыйшла, Вясьці бяседу будзем далей; Засядзьце ўсе кругом стала; Хай зазьвініць віно ў крыштале.* Кц, 196. БрБ, 6; Кц, 192.

**[КРУК][1]** (3) *м.* Вялікі цвік з загнутым тупым канцом. *Каб таму крукамі Пакрыўляла ногі І да роднай хаты Не знайшоў дарогі,- Хто крыўляў нам праўду..* К.

◊ **Адрабляць крукам** *гл.* адрабляць. **Гнуцца крукам** *гл.* гнуцца.

Адз. Т. *крукам* (2): Д, 73; ССА, 294. Мн. Т. *крукамі*: К.

**КРУК[2]** *м. Польск.* Груган. – *Кепска, кепска, пане воўк! – Першы крук закракаў* [азваўся]. Пц.

Адз. Н. *крук*: Пц.

**КРУМУ** (2) Гукапераймальнае (гругана). *І давай паміж сабой* [груганы] *Гутарыць, хваліцца: – Круму! Круму! Што за рай! Ёсць чым пажывіцца!* Гр, 215 (2).

**[КРУПІЦКІЙ]** *прым.*: • **Мацер крупіцкая** *гл.* мацер.

Адз. ж. Н. *крупіцкая*: Т, 38.

**КРУПЫ** (2) *толькі мн.* Прадукт харчавання з цэлых або сечаных зярнят. [Мікіта]: *..пападаецца па дарозе якая-небудзь кантрабанда – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупы, бульба, сала, масла, цыбуля, рэдзька і гэтаму, меджду протчым, падобнае.* Т, 45. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпеня і за два тыдні наперад дармовыя, медж-*

*ду протчым, пайкі: сем фунтаў адборнай атрубяной мукі, паўтара фунта з асьмушкай круп..* Там жа, 46.

Н. *крупы*: Т, 45. Р. *круп*: Т, 46.

**[КРУТКІ]** *прым. Польск.*: ◊ **Крутке пенты** *гл.* пента.

Мн. В. *крутке*: Т, 39.

**КРУТНЯ** *ж. перан. Разм.* Падман, махлярства. *Мы ў страху… дум крутня… разбежнасць… Без толку крыллем лопаем, як цьмы.* Бч, 9.

Адз. Н. *крутня*: Бч, 9.

**[КРУТЫ]** *прым.*: ◊ **Гнесці ў крутой пятлі** *гл.* гнесці.

Адз. ж. М. *крутой*: Ж.

**[КРУЦІЦЦА]** (3) *незак.* **1.** Пастаянна знаходзіцца каля чаго-н. *Ганула завешвае вокны. Наста круціцца каля люстра.* Т, 24.

**2.** Рухацца, хадзіць. [Мікіта]: *Медждy протчым, мамаша, не круцецеся без толку па хаце, а лепей глядзеце ў вакно..* Т, 59.

**3.** *перан.* Знаходзіцца дзе-н. [Янка]: *Цікава толькі, як гэта вы* [Мікіта] *з сваім апошнім саўбураўскім становішчам дапасуецеся да самай навейшай палітычнай сітуацыі, што круціцца ўжо каля Пярэспы?* Т, 48.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *круціцца* (2): Т, 24, 48. Заг. мн. 2 ас. *круцецеся*: Т, 59.

**[КРУЦІЦЬ]** (6) *незак.* **1.** Узнімаць. *Круціць вецер пласконны падол. Вецер весел ды цёмен дол.* ВБЛ, 82.

**2.** *перан. Разм.* Па-свойму распараджацца. *Хто круціў нам сцежкі Да жыцця і славы, Засцілаўшы вочы Туманом крывавым.* К. *І круцілі цябе* [Беларушчыну], *як каму падабалася, Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад..* Б, 18.

◊ **Круціць галавой** – старацца зразумець што-н. [Мікіта]: *А то круці галавой над языкамі, як баран які над студняй.* Т, 48. **Носам круціць** – выказваць незадавальненне. [Янка]: *Але дзядзька густа іх* [гасцей] *сваёй піпкай падкурваў. Бачыў, як насамі круцілі да кіхалі.* Т, 29. **У носе круціць** *гл.* нос.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *круціць* (2): ВБЛ, 82; Т, 22. Пр. адз. м. *круціў*: К. Мн. *круцілі* (2): Б, 18; Т, 29. Заг. адз. 2 ас. *круці*: Т, 48.

**КРУЦЯЧЫ** *дзеепрысл.* Верцячы. [Начальнік]: *(круцячы пагоны ў руках, да Спраўніка). Што гэта?* Т, 61.

**[КРЫВАБОКІ]** *прым. перан.* Цёмны, незразумелы. [Янка]: *Ваша* [Мікіты] *лінія не простая, а крывабокая, – цямняцкая ваша лінія.* Т, 22.

Адз. ж. Н. *крывабокая*: Т, 22.

**[КРЫВАВІЦЬ]** (2) *незак.* Разбіваць да крыві. *Добра запомніў я* [бацька] *панскую палку, Панскі бізун, што крывавіў мне плечы.* Бц, 74. *Над старэйшым братам ставіў* [сярэдні брат] *Стражы і*

*запоры, Цела ранамі крывавіў, Зьдзекаваўся ў горы.* Дз, 190.

Абв. пр. адз. м. *крывавіў* (2): Бц, 74; Дз, 190.

**КРЫВАВЫ** (31) *прым.* **1.** *перан.* Заліты кроўю; акрываўлены. *І вось к вам вылез цень з магіл: Крывавы грош і "гаспадзін", А іх закон адзін, адзін.* ПВ. *А як пойдзе хто першай* [дарогай] *– ён* [чараўнік] *кажа ім* [сынам] *гэтак, – Што на ўсход шляхам чорным кладзецца, – Напаткаці чужацкі крывавы палетак..* Ч, 319.

**2.** Кровапралітны. *Яшчэ далятае да нас* [беларусаў] *грознае і жуткае водгулле крывавага змагання на беларускім полі, паміж нашымі суседзямі – палякамі ды маскалямі..* ЗС, 17. *Забіралі* [усемагутныя дзяржавы] *ў падняволеных народаў іх дабро, забіралі іх сыноў і гналі на крывавы бой за эгаістычныя вялікадзяржаўныя мэты.* НДН, 18. // Люты, разбойніцкі. *Сцеражыся, крывавы самурай!* ВГ. *Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам Атрутай будзе і сляпіць крывавыя іх вочы.* ПНд, 314.

**3.** *перан.* Цяжкі, пакутлівы. *Хай вас, браты беларусы, не палохае цяперашні бурны крывавы час.* ПЛП. *Таўкуцца душы скамянелы, Крывавы пот цячэ са шчок, А ўсьлед над імі і за імі Імчацца гібелі наўскок.* РС, 40.

◊ **Крывавы сьлёзкі раняць** *гл.* раняць. **Скупацца ў крававай рэчцы** *гл.* скупацца.

Адз. м. Н. *крывавы* (6): ВГ; ПВ; ПЛП; РС, 40; СНБ, 340; Ч, 320. Р. *крывавага* (2): АЛ; РКр. В. *крывавы* (3): МД; НДН, 18; Ч, 319. Т. *крывавым* (2): К; СНБ. М. *крывавым*: ГП, 8. ж. Р. *крывавай*: ПБН. В. *крывавую* (2): СНБ; Т, 40. Т. *крывавай* (3): СНБ, 339; УП; Ф. М. *крывавай* (2): МПв, 218; Ч, 319. н. Н. *крывавае*: ВС. Р. *крывавага*: ЗС, 17. Мн. Н. *крывавыя* (2): АБ, 16; Тж, 15. Р. *крывавых*: ВГ. В. *крывавыя* (2): ПНд, 314; ХЛВ, 315; *крывавые*: З. Кар. мн. В. *крывавы*: ХБ, 28.

**[КРЫВАДУШНЫ]** *прым.* Няшчыры, хлуслівы. ..[нацыянал-дэмакраты] *прыкрываючыся хлусьліва заслонай фальшывых крывадушных дэкляарацый і запэўненьнем, праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмакратычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

Мн. Р. *крывадушных*: АЛ.

**КРЫВАДУШЫЦЬ** (3) *незак. Разм.* Крывадушнічаць. *Просты быў народ, і крывадушыць не ўмеў ён у веры сваёй.* Кз, 17. *Проць сваіх, проць чужых крывадушыць* [брат першы] *і грэшыць, І так вязьне, як камень у ціне.* Ч, 321.

Інф. *крывадушыць* (2): Кз, 17; Пп, 5. Абв. цяп. адз. 3 ас. *крывадушыць*: Ч, 321.

**[КРЫВАЖАДНЫ]** *прым. Руск.* Крыважэрны. *Забабон стварыў для гішпанскай інквізыцыі крыважаднага ката Тарквомаду.* З.

Адз. м. В. *крыважаднага*: З.

**[КРЫВАПІВЕЦ]** *м. Пагардл.* Прыгнятальнік, эксплуататар. *Не вам край совецкі Знішчыць, крывапіўцы… У нашых чэкістаў Зоркія зраніцы!* МПв, 219. *Параўн.* крывапійца.

Мн. Н. *крывапіўцы*: МПв, 219.

**[КРЫВАПІЙЦА]** (2) *аг. Разм. Тое, што* крывапівец. *Смерць крывапійцам, раз'юшаным гадам, Вынішчыць след іх сабачы.* СЗГ, 252. *І гітлераўскім бандам, фашыстоўскім крывапійцам Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны..* ПНд, 314.

Мн. Д. *крывапійцам* (2): ПНд, 314; СЗГ, 252.

**КРЫВАСЕЙНА** *прысл. Наватв.* Не роўна. *Ўспомні, выклічы родныя ўсе загаворы І зводзь імі прыблудаў заломы, Што ляглі на твае крывасейна разоры, Што страчаеш за домам і дома.* Ч, 323.

**[КРЫВАСМОЧЫ]** *прым. перан. Пагардл.* Жорсткі, люты. *Хай хлеба нашага кусок распаленым жалезам Абернецца ў ворагавым горле крывасмочым..* ПНД, 314.

Адз. н. М. *крывасмочым*: ПНд, 314.

**[КРЫВІЦКІ]** *прым. Гіст.* Які мае адносіны да крывічоў. *Злажылі брата ці ня брата Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.* УрП, 52.

Мн. Р. *крывіцкіх*: УрП, 52.

**КРЫВІЧЫ** (2) *толькі мн. Гіст.* Усходнеславянскае племянное аб'яднанне. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі..* Кз, 17. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Там жа.

Н. *крывічы* (2): Кз, 17 (2).

**[КРЫВУЛЯ]** *ж. Разм.* Крывуліна. *Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся "лапцюжнік" над "крывуляй" сахой, – важна пахаджваюць тысячы трактараў..* ШБСЯ.

Адз. Т. *крывуляй*: ШБСЯ.

**[КРЫВЯПРАЛІЦЦЕ]** *н.* Забойства, масавая гібель (людзей). [Спраўнік]: *Наколькі я разумею стратэгію, то, здаецца, справа абыйдзецца без крывяпраліцця.* Т, 52.

Адз. Р. *крывяпраліцця*: Т, 52.

**КРЫЖ** (20) *м. Царк.* Сімвал і прадмет культу хрысціянскай рэлігіі. *Крыж пастаўце, як ставіце ўсім, – Мае* [бесхацінца] *путы павесці на ім: Мае слёзы з магілы расой Выйдуць путы з'ядаці іржой.* ЧС, 50–51. *Сына маці выпраўляла, Крыж на памяць дала, Каб матулю родну помніў, Як паедзе з сяла.* ПСД.

◊ **На крыж весці** *гл.* весці. **Расьпінаць на крыжы** *гл.* расьпінаць. **Распяць на крыжу** *гл.* расьпяць.

Адз. Н. *крыж* (3): БН, 92, 93 (2). В. *крыж* (7): Дз, 191; ПСД; Р; СМ (2); ЧС, 50–51; ЧЧШ. Т. *крыжам* (4): ЗК, 43; Кз, 17; М, 20; ХХ,

128. М. *крыжы*: Ч, 322; *крыжу*: Дз, 190. Мн. Н. *крыжы* (3): ГП, 8; НГ; ТП, 217. Р. *крыжоў*: ЧС, 50–51.

**КРЫК** (3) *м.* Вокліч, выкрык. [Гарошка]: *Вылез* [Юрка] *на вуліцу і давай з іншымі на чым свет шумець і крычаць: “Зямлі і волі!” Разумееца за такі крык жандармы і збяёдалі яго з гэтага свету!* Т, 44. *Пасля некалькіх мінут раптоўна ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі, граючай цырыманіяльны марш, і крыкі: Ура! Ура!* Там жа, 43.

Адз. Н. *крык*: Т, 44. В. *крык*: Т, 44. Мн. Н. *крыкі*: Т, 43.

**[КРЫКНУЦЬ]** *зак.* Закрычаць. *Тут пан як наскочыў, Крыкнуў ды гікнуў, і выстрал раздаўся.* Ун, 73.

Абв. пр. адз. м. *крыкнуў*: Ун, 73.

**КРЫЛАТА** *прысл. перан.* Узнёсла. *Я Сталіну мудраму песню спяваю, А песня ад сэрца, з-пад сэрца, такая, Крылата лунае над полем, над гаем..* С, 302.

**[КРЫЛО]** (11) *н.* **1.** Орган у птушак, насякомых і некаторых млекакормячых для лятання. *Лапацяць крыламі жутка Кажаны, начніцы, Як-бы суд спраўлялі тутка Ведзьмы-чараўніцы.* Дз, 191. *Залопаў крыльлямі пятух, – І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы.* // *Вобразн.* Праяўленне. *Быў жыць адзінока надзел бедакоў, Нішто іх с сабой не лучыла – Ні крыллі свабоды, ні скруты акоў... Адна толькі матка-магіла.* ПН, 46. // *Вобразн. Гэты* [стаханаўскі] *рух паказвае, што чалавек усур’ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду, але той чалавек, які вырваўся з нядолі і ланцугоў старога ладу і разгарнуў арліныя крыллі вызваленай працы.* СТ.

**2.** *Вобразн.* Самалёты. *Лёталі гордыя за акіяны Советаў арліныя крыллі.* СС, 302.

**Арліныя крыллі**.

• **Арліныя крыллі** – узнёсласць. *Арліныя крыллі Душа твая мае, К красе яна й сіле Свой сцяг уздымае.* АК.

◊ **Заграбіць пад каршуновае крыло** *гл.* заграбіць. **Пад крыльлямі сваімі грэць** *гл.* грэць.

Адз. В. *крыло*: НДН, 18. Мн. Н. *крыллі*: СС, 302; *крыльлі*: ПН, 46. В. *крыллі* (3): АК (2); СТ. Т. *крыльлямі* (2): Ж; Кц, 197; *крыламі*: Дз, 191; *крыллем*: Бч, 9. М. *крыллях*: СС, 301.

**[КРЫНІЦА]** (21) *ж.* **1.** Вадаём на месцы выхаду падземных вод. *А як пойдзе хто трэцяй сьцяжынай-пуцінай, Што сваёй не мінае граніцы, Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай, Сьмягнуць будзе над роднай крыніцай.* Ч, 319. *Між гор шапталіся крыніцы, Ляпіўся мох да стрэх з драніц..* УрП, 47. // *Вобразн. Б’ецца жыццё жыватворнай крыніцаю, Песні напевамі звоняць вясёлымі, Воля жывая лунае арліцаю, Воля шчаслівая дружыцца з сёламі*. ДПЛС. *Аб Сталіне мудрым, аб жыцці шчаслівым, Што бурліць сягоння залатой крыніцай,.. Былі твае песні, ашуг Дагестана..* ПСС, 232.

**2.** *перан.* Тое, з чаго бярэцца, чэрпаецца што-н.; тое, што дае пачатак чаму-н. *Крыніцы жыцьця пацякуць сваім спрадвеку вызначаным справядлівым парадкам.* СНБ. [Наста]: *З пэўных крыніц я напэўна даведалася, што ўжо "нашы" занялі Менск.* Т, 49.

**3.** *перан.* Месца. [Наста]: *Мушу збегаць у вадну пэўную крыніцу.* Т, 42.

Адз. В. *крыніцу*: Т, 42. Т. *крыніцай* (2): ПСС, 232; Ч, 319; *крыніцаю*: ДПЛС. Мн. Н. *крыніцы* (3): СНБ; Т, 52; УрП, 47. Р. *крыніц* (13): ПНд, 314; Т, 23, 24, 29, 41, 42 (2), 49, 55 (2), 59; ТП, 214; УрП, 48. В. *крыніцы*: Т, 59.

**[КРЫТЫК]** (2) *м.* Той, хто аналізуе і ацэньвае чыю-н. дзейнасць. *Гэтаму з'яўляюцца сведкай мае* [Купалы] *творы, аб гэтым раскажуць вам крытыкі.* ДЖ. *Апрача таго, М. Кудзелька даў паэму "Босыя на вонішчы", зьвярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў.* ВСп, 89.

Мн. Н. *крытыкі*: ДЖ. Р. *крытыкаў*: ВСп, 89.

**КРЫТЫЧНЫ** (4) *прым.* **1.** Які заключае крытыку. *Трэцяя кніжка – гэта крытычны нарыс Ігнатоўскага: "Матывы лірыкі бел. песняра М. Чарота".* ВСп, 89. *Пасля прывітання госці рассаджваюцца і крытычным вокам аглядаюць кватэру.* Т, 24.

**2.** Вельмі цяжкі, небяспечны. [Мікіта]: *Не бядуйце, меджду протчым, мамаша, – Я заўсёды знайду выхад з найгоршага крытычнага становішча.* Т, 34.

Адз. м. Н. *крытычны*: ВСп, 89. В. *крытычны*: ВСп, 90. Т. *крытычным*: Т, 24. н. Р. *крытычнага*: Т, 34. Мн. Н. *крытычныя*: ВСп, 89.

**КРЫЎДА** (22) *ж.* **1.** Несправядлівы ўчынак, паводзіны ў дачыненні да каго-н. *Дзедка, таксама я* [унук] *здам справаздачу, Крыўды шмат маю зімою і летам..* Ун, 73. *Трэба прызнацца, што якое бы ліхо нас* [беларусаў] *і з намі самімі не рабілося, якіх бы мы не перажывалі нягод і крыўд – мы гэтага як бы ня бачым..* БС. // Пачуццё горычы. *Я* [бацька] *раскажу ім* [вызваленцам] *– яны зразумеюць. Сталіну крыўду маю хай даложаць.* Бц, 73. *Лунай жа, саколе, У гэтых міражах,.. Пакуль на растопча Жыццё крыўдай грудзі, А сэрца дзявоча Не высушаць людзі.* АК.

**2.** Зло, несправядлівасць. *Цягалася Крыўда па сьвеце, Ад хаты да хаты блудзіла; Тым строіла вечныя сеці, Тых гнала бяз часу ў магілы.* Кр, 77. *Творыць* [забабон] *праступные легэнды, творыць праступные веры, творыць крыўду і няславу людзкую.* З.

**3.** *Вобразн.* Няпраўда. *Не здарма быць хацеў царам ночы, І сваіх і чужых расьпінаў на крыжы ты* [першы брат]*; Крыўдай праўдзе сьмяяўся у вочы.* Ч, 322.

**Крыўда.**

Δ **Ведзьма-крыўда** *гл.* ведзьма. **Ласка-крыўда** *гл.* ласка.

◊ **Крыўдзе не дацца**; **не (ня) дацца ў крыўду** *гл.* дацца. **Пабратацца з Крыўдай** *гл.* пабратацца. **Папусціць у крыўду** *гл.* папусціць. **У крыўду падацца** *гл.* падацца.

Адз. Н. *крыўда* (5): ГП, 8; Кр, 77 (2); ТП, 214; Чж, 147. Р. *крыўды* (2): Кр, 77; Ун, 73. Д. *крыўдзе*: ЁЯ. В. *крыўду* (6): Бц, 73; ВН; З; М, 20; НК; Т, 58. Т. *крыўдай* (6): АК; Г, 17; Кр, 78; Пп, 5; Ч, 319, 322. М. *крыўдзе*: Дз, 190. Мн. Р. *крыўд*: БС.

**[КРЫЎЛЯЦЬ]** *незак.* Манернічаць. *Хто крыўляў нам праўду, Застаўляў у прыгоне Бежанцамі гінуць На бацькоўскіх гонях.* К.

Абв. пр. адз. м. *крыўляў*: К.

**КРЫХУ** (23) *прысл.* **1.** Трошкі, нямнога. [Спраўнік]: *Мы ўжо паспелі не толькі закусіць, але й выпіць крыху.* Т, 51.

**2.** У нязначнай ступені. *Я* [Купала] *шчаслівы і крыху зайздрошчу, што наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні вялікага Кастрычніка*. ЖН. *Мы* [беларусы] *крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора*. Нз, 14. ВР; ВСп, 89; ДД; Кц, 195; СНБ, 337; Т, 19 (2), 22, 24, 29, 32, 36 (2), 40 (2), 42, 44, 46, 49, 50.

**[КРЫЦЬ]** *незак.*: ◊ **Крый, Божа** *гл.* бог.

Заг. адз. 2 ас. *крый*: Р.

**КРЫЧАЦЬ** (9) *незак.* **1.** Утвараць прарэзлівыя гукі. [Мікіта]: *Толькі не грамафон. Вельмі ён крычыць, а я чалавек асцярожны, меджду протчым*. Т, 29.

**2.** Голасна звяртацца да каго-н. з заклікам. [Гарошка]: *Вылез* [Юрка] *на вуліцу і давай на чым свет шумець і крычаць: "Зямлі і волі!"* Т, 44. ..[Антанта] *абымаецца з Троцкім і Калмановічам і крычыць: "Хай жыве савет салдацкіх, работніцкіх, сялянскіх ды іншых дэпутатаў!"..* Ан, 19.

Інф. *крычаць* (2): Т, 41, 44. Абв. цяп. адз. 3 ас. *крычыць* (4): Ан, 19; Т, 29, 43, 50. Мн. 3 ас. *крычаць*: ВР. Пр. адз. м. *крычаў*: Т, 44. Заг. мн. 2 ас. *крычыце*: ВР.

**[КРЫШТАЛЬ]** *м. перан.* Крыштальны бакал. *А покуль поўначь не прыйшла, Вясьці бяседу будзем далей; Засядзьце ўсе* [госці] *кругом стала, Хай зазьвініць віно ў крыштале*. Кц, 196.

**Адз**. м. *крыштале*: Кц, 196.

**КРЭВ** (5) *м. Польск. Тое, што* кровь. [Заходні вучоны]: *Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральскей*. Т, 26.

◊ **Пся крэв** (3) – выражэнне раптоўнага раздражнення, злосці. [Заходні вучоны]: *Пся крэв!* Т, 38.

Адз. Н. *крэв* (4): Т, 26, 38, 47, 49. Р. *крві*: Т, 26.

**[КРЭПАСЦЬ]** *ж. перан.* Моцнасць, сіла. ..*калі мае* [Купалы] *вершы зараз сугучны нашаму вялікаму часу, калі яны ўносяць сваю*

*долю ў крэпасць дружбы народаў, – дазвольце мне радавацца разам з вамі* [людзьмі] *гэтай дружбе вялікай радасцю паэта*. ЖН.

Адз. В. *крэпасць*: ЖН.

**[КРЭПКІ]** (2) *прым*. **1.** Дужы, моцны. *Яны* [людзі] *скрануліся ў прасоньні, І столькі, столькі крэпкіх рук К маёй паціснуліся броні*. Кц, 195.

**2.** *перан*. Непарушны, моцны. *Рухне старое, хоць крэпкае з віду, Яснае, вольнае створым жыццё.* Г, 17.

Адз. н. Н. *крэпкае*: Г, 17. Мн. Р. *крэпкіх*: Кц, 195.

**[КРЭСІВА]** *н*. Красала. *Лявон Гарошка – паважны селянін, заўсёды з люлькай, агонь да яе крэсіць крэсівам.* Т, 19.

Адз. Т. *крэсівам*: Т, 19.

**[КРЭСІЦЬ]** *незак.* Высякаць агонь крэсівам. *Лявон Гарошка – паважны селянін, заўсёды з люлькай, агонь да яе крэсіць крэсівам.* Т, 19.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *крэсіць*: Т, 19.

**[КРЭСЛА]** (7) *н*. Мэбля для сядзення аднаго чалавека. *Пайшлі ў госці мама, тата, Голас свой панеслі, Ну, а я пільную хату, Сяджу сабе ў крэсле*. Вб, 236. *Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў, на адных з іх грамафон, крэслы венскія і мяккія плюшавыя.* Т, 19. // Такі прадмет мэблі з мяккай абіўкай і ручкамі-падлакотнікамі. *Мікітавы пакой выглядае збольшага – як у першай дзеі, разумеецца, без грамафона, люстра і мяккіх крэслаў*.. Т, 53. [Янка]: *Мусіць, для гэтага палітычнага чалавека вы, цётачка, і крэслы свае плюшавыя аддалі, каб мякчэй было яму сядзець, бо гэтых крэслаў штось не бачу я тут?* Там жа, 45.

Адз. М. *крэсле*: Вб, 236. Мн. Н. *крэслы* (2): Т, 19, 45. Р. *крэслаў* (3): Т, 43, 45, 53. В. *крэслы*: Т, 45.

**[КРЭСЫ]** (3) *толькі мн. Польск*. Былая назва Заходніх Беларусі і Украіны. *І адны, і другія глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога.* Нз, 15. *Загнаны ў падполле там лепшыя людзі, На "крэсах усходніх" лютуе жандар*. ПБН.

В. *крэсы*: Нз, 15. М. *крэсах* (2): ПБН; Т, 39.

**КСЁНДЗ** (4) *м. Польск*. Каталіцкі святчэннік. *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, якія памерлі ў адзін час, ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне*. А, 328. *Кс<ёндзу> рэктару Абрантовічу, п. Гіркант, п. Якобіні, п. Вайтовіч прыношу сваю шчырую падзяку за іх добрую апеку ў трудные дні маей* [Купалы] *хваробы*. ЛР.

Адз. Н. *ксёндз*: А, 328; Р. *ксяндза*: А, 328. В. *кс<ёндзу>*: ЛР. Мн. В. *ксяндзоў*: А, 328.

**КСТАЦІ** *прысл. Руск*. Дарэчы. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Очэнь кстаці, что вы, господзін белорус, здесь.* Т, 38.

**КУДА-НІБУДЗЬ** *прысл. Руск. Тое, што* куда-небудзь. [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкавы] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

**КУДЫ** (15) *прысл.* **1.** *пытальнае* У якім напрамку? У якое месца? *І куды ж і к чаму ведзяце вы сягодняшнюю гісторыю, усе антанты, проціантанты і вам падобныя?* Тж, 15. – *Куды йдзеш ты, мая баба, – Кажа ўнук бабулі. – То сядзіць, не злазіць з печкі, Цяпер, во, на гулі.* Вб, 237. МІ, 17; Т, 31, 32, 37, 46, 54, 59 (3).

**2.** *неазначальнае. Разм.* Куды-небудзь. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфэлі – можа, дзе пад комін ці куды іх падсунеце.* Т, 50.

**3.** *адноснае. У знач. злучн.* У даданых сказах месца, напрамку дзейнасці. *Я* [Купала] *вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы росквіт нашай долі, і веру, што ты яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвалася сягнуць..* ЖН. *За ім – за сонейкам мой шлях, Куды яно з сваёю ласкай, Ляцець, плысці, як той жарптах, На полюсах рабіць папаску.* МСП, 187.

**4.** *У знач. часц.* Значна, намнога. *..свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх* [палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў], *чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19.

**КУДЫ-НЕБУДЗЬ** *прысл.* Усё роўна куды. [Мікіта]: *Я растыцкаю куды-небудзь пляшкі!.* Т, 59. *Параўн.* куда-нібудзь.

**[КУЛАК]**[1] (9) *м.* Кісць рукі з прыгнутымі к далоні пальцамі. [Спічыні]: *Правая рука застаецца свабоднай – гэта, каб у патрэбных момантах вашай араторыі можна было, заціснуўшы кулак, патрасаць ёю над аўдыторыяй.* Т, 40 [Мікіта]: *(стукаючы кулаком па стале). Меджду протчым.. вы* [Янка] *мяне абражаеце.* Там жа, 22.

◊ **Пад кулаком трымаць** *гл.* трымаць.

Адз. Р. *кулака*: СНБ. В. *кулак*: Т, 40. Т. *кулаком* (4): СНБ; Т, 22, 40, 43. Мн. В. *кулакі*: БС. Т. *кулакамі* (2): Т, 40 (2).

**[КУЛАК]**[2] *м.* Вясковы буржуа. *Прайшлі яго* [шлях], *скідаючы з дарогі ўсіх і ўсялякіх ворагаў: кулакоў, нэпманаў, трацкістаў, зіноўеўцаў,.. каторыя сядзелі ці хацелі сесці на шыю працоўных.* ВГР.

Мн. В. *кулакоў*: ВГР.

**[КУЛАЦКІ]** (2) *прым.* Які належыць кулаку[2] . *..я* [Купала] *падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму..* АЛ. *..ад кулацкага і памешчыцкага зняволення да светлага заможнага культурнага калгаснага жыцця – вось вялікі і складаны шлях Совецкае Беларусі.* ВГР.

Адз. м. Р. *кулацкага*: АЛ. н. Р. *кулацкага*: ВГР.

**[КУЛАЦТВА]** *н., зб.* Кулакі. *У гэтай контррэвалюцыйнай рабоце беларускіе нацыянал-дэмократы апіраліся, з аднаго боку на кулацтва, якое ліквідуецца ва ўмовах колектывізацыі як кляса..* АЛ.

Адз. В. *кулацтва*: АЛ.

**[КУЛЬТАСВЕТА]** *ж.* Установа для пашырэння культуры, асветы. [Мікіта]: *А ў гэтым карапузіку важнейшыя дакуманты: профсаюзу, біржы працы, культасветы..* Т, 46.

Адз. Р. *культасветы*: Т, 46.

**КУЛЬТУРА** (29) *ж.* **1.** Сукупнасць дасягненняў грамадства ў вытворчым, грамадскім і культурным жыцці. *Наша паездка ў Чэхаславакію была ..маніфестацыяй дружбы і супрацоўніцтва Чэхаславакіі і СССР у справе барацьбы за мір, у справе абароны агульначалавечай культуры.* ШБСЯ. *Усе* [народы] *роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць..* НДН, 19.

**2.** Узровень дасягненняў у пэўную эпоху. *Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура – з усходнім адзічэннем, і таргуюцца за што?* Тж, 15. *У Савецкай Беларусі росквіт культуры такі магутны, пра які я* [Купала] *не мог сніць у дарэвалюцыйныя часы.* А, 328. // *Пагардл. А давалі* [усемагутныя дзяржавы], *гвалтам накідалі ім свае так званыя "культуры", пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру, праўду...* НДН, 18.

**3.** Ступень развіцця якой-н. асобнай галіны. *Рэформа правапіса, – што я мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць, – з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы.* ШБСЯ.

**4.** Адукаванасць, культурнасць, выхаванасць. *Высокая ступень культуры ўласціва ўсім ім* [драматургам], *шмат хто з іх ведае 3–4 мовы.* ПЧ.

Адз. Н. *культура* (6): АЛ (2); Нз, 14 (2); Тж, 15, 16. Р. *культуры* (17): А, 328; АЛ; Г, 16; ГНД; ДК; З (3); МІ, 17; ПЧ (4); УПУВ; ШБСЯ (3). В. *культуру* (2): НДН, 19; ШБСЯ. Т. *культурай* (3): З; Тж, 15 (2). Мн. В. *культуры*: НДН, 18.

**КУЛЬТУРНА** *прысл. да* культурны ў 2 *знач. Наша Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, як бы фарпост на рубяжы двух соцыяльных сістэм – развівалася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН.

**[КУЛЬТУРНА-НАЦЫЯНАЛЬНЫ]** *прым.* Які адносіцца да нацыянальнай культуры. *..ці польская ўлада павяла ў нашым краі гаспадарку так, як гэтага вымагаюць культурна-нацыянальныя інтарэсы нашай бацькаўшчыны, – аб гэтым у другі раз.* СНБ, 340.

Мн. Н. *культурна-нацыянальныя*: СНБ, 340.

**[КУЛЬТУРНА-ПОЛІТЫЧНЫ]** *прым.* Які адносіцца да культуры і палітыкі. *Вайна і рэвалюцыя выкінула ў дабавак два лёзунгі, два ня згодные з сабой – як агонь і вада,- кірункі ў змаганьні за культурна-політычные правы народаў і дзяржаваў.* СНБ.

Мн. В. *культурна-політычные*: СНБ.

**[КУЛЬТУРНАСЦЬ]** *ж.* Узровень, ступень культуры. *Дайце волю народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці – ці то заходняй, ці то ўсходняй.* Тж, 16.

Адз. М. *культурнасці*: Тж, 16.

**[КУЛЬТУРНЫ]** (16) *прым.* **1.** Які адносіцца да культуры ў 1 *знач.* *Гэта наша знаёмства з культурнымі дзеячамі Чэхаславакіі з'яўляецца пачаткам цеснай культурнай сувязі абодвух краін.* ПЧ. *Луцкевічы, Станкевічы і т. д. служаць адзінай мэце – адарваць Совецкую Беларусь ад Совецкага Саюза і кінуць яе ў падняволле – соцыяльнае, нацыянальнае і культурнае..* ШБСЯ.

**2.** Які адносіцца да культуры ў 2 *знач.* *Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і экономічнае будаўніцтва Беларусі.* АЛ. *Я* [Купала] *віншую Карэльскую аўтаномную сацыялістычную рэспубліку, тэрыторыю якой перасек Беламорска-Балтыйскі водны шлях і даў надзвычай вялікія магчымасці для яе далейшага бурнага эканамічнага і культурнага развіцця.* ЦСБ.

**3.** Які стаіць на высокім узроўні культуры. *Урэшце, забабон у наш XX-ты век апляваў паскуднай сьлінай увесь культурны сьвет, кінуўшы яму у вочы процэс Бэйліса.* З.

**4.** Звязаны з пашырэннем культуры. *І трэба нам помніць тое, што гэта вялікая, культурная і творчая беларуская праца.* ВСп, 91. *На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.* АЛ.

Адз. м. В. *культурны* (2): З; ПГ. М. *культурным*: АЛ. ж. Н. *культурная* (2): ВСп, 91: УПУВ. Р. *культурнай*: ПЧ. н. Р. *культурнага* (4): ВГР; ГНД; ЦСБ; УПУВ. В. *культурнае* (2): АЛ; ШБСЯ. М. *культурным*: АЛ. Мн. Н. *культурныя*: АЛ; *культурные*: УПУВ. Т. *культурнымі*: ПЧ.

**КУЛЯ** (14) *ж.* Невялікі свінцовы прадаўгаваты снарад. *Будзь здаровы, бацька, маці, – Мы пайшлі ужо ваяваці: Сьвішча куля, йяй-ха-ха! Каля вуха дзяцюка.* БЗ. *Ніхто не ўратуецца ад трапнай кулі совецкага снайпера.* ВГ.

◊ **Вылецець гарматняй куляй** *гл.* вылецець.

Адз. Н. *куля* (11): БЗ (9); ГП, 8; СА, 181. Р. *кулі*: ВГ. Т. *куляй*: Ан, 19. Мн. Н. *кулі*: Пп, 5.

**[КУЛЯМЁТ]** (3) *м.* Аўтаматычная скарастрэльная зброя. *Ты* [лётчык] *будзеш глядзець самалёта, А бомбы скідаць буду я* [хлопчык],

*І буду страляць з кулямёта Ў сабачыя сэрцы звяр'я.* ХЛВ, 315. *Пасылай* [Варашылаў] *байцоў адважных, Стрэльбы, кулямёты, танкі, трактары, гарматы, Птахі-самалёты!* ЗЯЗ, 90.

Адз. Р. *кулямёта*: ХЛВ, 315. Мн. В. *кулямёты*: ЗЯЗ, 90. Т. *кулямётамі*: СНБ, 337.

**КУМПЯК** *м.* Бядровая частка свіной тушы. [Спраўнік]: *Амэрыканскі кумпяк…* [Пан]: *Амэрыканская булка…* Т, 51.

Адз. Н. *кумпяк*: Т, 51.

**КУПАЦЦА** (2) *незак. Вобразн.* Ззяць. *Звініць песня ў полі, звініць, Уторыць сярпу і касе, Бурліцца вадзіца з крыніц, Купаецца сонца ў расе.* ТП, 214.

◊ **Купацца, як сыр у масле** – пра прывольнае, бесклапотнае жыццё. [Мікіта]: *Не сягоння – заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца, як сыр у масле.* Т, 36.

Інф. *купацца*: Т, 36. Абв. цяп. адз. 3 ас. *купаецца*: ТП, 214.

**[КУПІНА]** *ж.* • **Мацер неопалімыя купіны** *гл.* мацер.

Мн. Н. *купіны*: Т, 38.

**КУПІЦЬ** (17) *зак. да* купляць. *Хай бяруць з магазыноў толькі тые, хто папраўдзе не мае за што купіць, а сем'яніны яго на ваеннай службе.* ВС. [Мікіта]: *(да немца). Меджду протчым, гэр гэрманіш, можа, купіце германскія маркі?* Т, 42.

Інф. *купіць* (8): ВС; ПЧ; СП; Т, 20 (2), 38, 42, 43. Абв. пр. адз. м. *купіў* (3): Т, 34, 42, 60. Буд. адз. 1 ас. *куплю*: Т, 56. Заг. адз. 2 ас. *купі*: Т, 56. Мн. 2 ас. *купіце* (2): Т, 34, 42; *купеце* (2): Т, 34 (2).

**КУПЛЯЦЬ** (8) *незак*. Набываць за грошы. *У 1890 г. ён* [бацька] *развітваецца часова са становішчам найміта ў маёнтках і пераязджае ў Мінск, дзе купляе каня і ездзіць некаторы час фурманам.* А, 328. *Купляюць усе тыя, каму гэта зямля патрэбна толькі для эксплуатацыі яе чужой працай.* ЗС, 18.

Інф. *купляць*: Т, 34. Абв. цяп. адз. 3 ас. *купляе*: А, 328. Мн. 3 ас. *купляюць* (5): ЗК, 42; ЗС, 18 (4). Пр. мн. *куплялі*: Т, 34.

**[КУПЛЯ]** (2) *ж.* Набыццё чаго-н. за грошы. *Маленькая рэч,- як матыль ці стрынатка… Ўсёй куплі – душа беларуса.* Р.

◊ **Купля-прадажа** – здзелка па пакупцы і продажы чаго-н. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць.. цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту бессістэмную куплю-прадажу.* ЗС, 18.

Адз. Р. *куплі*: Р. В. *куплю*: ЗС, 18.

**[КУПЛЯЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* купляць. *У знач. наз.* Пакупнік. [Мікіта]: *..у вас* [Ганулі] *не хапае нават чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах, дзе вымагаецца ад прадаўца пэўнай веды ў пазнаванні душы купляючага і яго грамадзянскага і социяльнага становішча.* Т, 34. [Мікіта]:

*Таксама паміж купляючымі трэба выдзяляць іхнія рангі і клясы.* Там жа.

Адз. м. Р. *купляючага*: Т, 34. Мн. Т. *купляючымі*: Т, 34.

**[КУРАЛЬ]** (2) *м. Разм*. Куродым, курава. [Янка]: *Але дзядзька густа іх* [гасцей] *сваёй піпкай падкурваў. Бачыў, як насамі круцілі ды кіхалі.* [Гарошка]: *А як іначай з гэткімі? – куралём іх, куралём!* Т, 29.

Адз. Т. *куралём* (2): Т, 29 (2).

**КУРГАН** (16) *м*. Высокі магільны насып. *Я ведаю, знаю старонку такую, Спавітую ў вечны туман, Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе, Ляжыць на кургане курган.* ЗК, 42. *Ой, не плачэ брат над братам На мяжы кургана, А бядуе так душа там Зьвязана, скавана.* Дз, 187.

Адз. Н. *курган*: ЗК, 42. Р. *кургана*: Дз, 187; *кургану* (2): СМ (2). В. *курган*: СК, 158. М. *кургане* (3): Дз, 191; ЗК, 42; Кц, 196. Мн. Н. *курганы* (3): ГП, 8; ПБН; СНБ, 340. Р. *курганоў*: ЧС, 50-51. Т. *курганамі* (2): ГП, 8; Пт. М. *курганах*: МД; *курганох*: МД.

**[КУР'ЕР]** *м*. Пасыльны. [Ануля]: *Я мыла людзям бялізну, а ён* [муж] *прыстроіўся ў акружным судзе: быў там пры вешалках і кур'ерам*. Т, 20.

Адз. Т. *кур'ерам*: Т, 20.

**КУРНА** *прысл*. Задымлена. *Курна дыміцца ў хаціне лучына, Ліпа шуміць адзінока над хатай.* ВМ, 72.

**[КУРОК]** *м*. Частка ўдарнага механізма ў ручной агнястрэльнай зброі. *Як няведаньнем мы багаты, – Гэта маці і неўнамёк, – Можа быць гэта ён для брата У стрэльбе націснуў курок*. ВБЛ, 82.

Адз. В. *курок*: ВБЛ, 82.

**[КУРОРТ]** *м*. Мясцовасць з прыроднымі лекавымі сродкамі. *У часе свайго падарожжа мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў. Гэта – курорты Карловы вары, Марыянскія лазні..* ПЧ.

Мн. Н. *курорты*: ПЧ.

**КУРС** (7) *м*. **1.** Аб'ём якога-н. навучання. [Аленка]: *Там праслухала настаўніцкія курсы, і цяпер я ваш* [Янкі] *таварыш: я таксама настаўнік!* Т, 30. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і "Нашай ніве", пасля чаго апынуўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, на якіх правучыўся чатыры гады*. А, 328.

**2.** Цана продажу і куплі каштоўных папер. [Мікіта]: *..схаджу на мінутку на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаіць курс на валюту.* Т, 34.

Адз. Н. *курс*: Т, 34. В. *курс*: Т, 29. Мн. В. *курсы* (4): Т, 30, 56 (3). М. *курсах*: А, 328.

**[КУРСІСТКА]** *ж. Гіст.* Слухачка вышэйшых жаночых курсаў. [Аленка]: *А цяпер я хачу вучыцца на курсістку, потым на доктара...* Т, 30.

Адз. В. *курсістку*: Т, 30.

**[КУРТАЧКА]** *ж.* Памянш. да куртка. [Мікіта]: *..папрасілі* [апошнія ўцякаючыя паны] *мяне пастаяць, самі знялі куртачку, сказаўшы, што гэта з іхняга сукна.* Т, 58.

Адз. В. *куртачку*: Т, 58.

**КУРТКА** (5) *ж.* Верхняя вопратка. *На сценах у рамках колькі тандэтных абразоў – партрэтаў высакапастаўленых асоб, балалайка, пажарніцкая куртка і каска.* Т, 19. *У кажусе і ў куртцы новай Сінявокі хлопчык кадэт Ў канаве злажыў пад Растовам За цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81.

Адз. Н. *куртка*: Т, 19. Р. *курткі*: Т, 58. В. *куртку* (2): Т, 24, 50. М. *куртцы*: ВБЛ, 81.

**КУРЫЦЬ** (4) *незак.* Удыхаць і выдыхаць дым тытуню. *Зноў пачуўся голас: - Дымок, другі, трэці... Кураць чэрці! – усклікнуў назіральнік.* ПСп. *Рэдактар навет і не адвярнуўся. Глядзеў на сцяну і ўсё курыў і курыў.* Ан, 19.

◊ **Хвіміямы курыць** – лісліва ўсхвальваць каго-н. *Намыліліся старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсемагутны Бог, сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму курыць.* Кз, 17.

Інф. *курыць*: Кз, 17. Абв. цяп. мн. 3 ас. *кураць*: ПСп. Пр. адз. м. *курыў* (2): Ан, 19 (2).

**[КУСАЦЦА]** *незак. перан.* Крыўдзіць, дапякаць каго-н. чым-н. [Янка]: *Што, кусаецца* [рэвалюцыя]*? Вы* [Мікіта], *пэўна б, хацелі і з печкі зваліцца і патыліцы не адбіць?* Т, 37.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *кусаецца*: Т, 37.

**КУСОК** (6) *м. Руск.* Кавалак. *Шпалеры павыдзіраны і кускамі звісаюць к долу.* Т, 43. // Частка чаго-н. *Месца дзеі – кусок Катадральнага пляца, называнага іначай мянчанамі "Брахалка"..* Т, 33. *Мікіта хапае ў Дамы рэвальверы.. але ўваходзяць і спатыкаюцца з ім на парозе: Начальнік патруля, Двух патрульных, Грамадзянін, у якога выразана кусок барады, і Спічыні.* Там жа, 59.

Адз. Н. *кусок* (4): ПНд, 314; Т, 33, 40, 59. Мн. В. *кускі*: К. Т. *кускамі*: Т, 43.

**[КУСОЧАК]** (3) *м. Руск. Памянш. да* кусок. [Гануля]: *(да Дамы). Панечка... Мадама музей! Калі ласка, вось гэты далікатны кусочак яшчэ!..* Т, 28. [Гануля]: *(да Папа). Бацюшка духавы, святы ўгоднік! Калі ласка, яшчэ вось гэты таўсцейшы кусочак.* Там жа.

Адз. В. *кусочак* (3): Т, 20, 28 (2).

**[КУТ]** (3) *м. перан.* Мясцовасць. *Мы гітлерцаў будзем ніштожыць, Гаціць імі тонкую гаць, З кутоў нашых родных прыгожых*

*Грабежніцкі зброд выганяць*. ХЛВ, 315. *Параўн*. куток у 2 *знач*.

◊ **Біцца з кута ў кут** *гл*. біцца.

Адз. Р. *кута*: Бч, 10. В. *кут*: Бч, 10. Мн. Р. *кутоў*: ХЛВ, 315.

**КУТОК** (3) *м*. **1.** Покуць. *У кутку злева вялікае люстра (трумо).* Т, 19.

**2.** *Тое, што* кут. [Мікіта]: *Беларусь, мая старонка, Куток цемнаты, Жыве Шыла, Грыб, Мамонька, - Будзеш жыць і ты*. Т, 56. *..песні мае* [Купалы] *спяваюцца ва ўсіх кутках вялікага Савецкага Саюза.* А, 328.

Адз. Н. *куток*: Т, 56. М. *кутку*: Т, 19. Мн. М. *кутках*: А, 328.

**[КУТОЧАК]** (2) *м. Памянш. да* куток у 2 *знач*. *Нас* [беларусаў] *узнімае, нас натхняе гераізм, каторы мы наглядаем у любым куточку нашай Совецкай Беларусі, ўсяго Саюза*. ВГР. *..у кожным куточку Саюза Советаў, у любым калгасе, на любым заводзе можна заваяваць сабе сусветную славу*. ЖН.

Адз. М. *куточку* (2): ВГР; ЖН.

**КУХАРКА** *ж*. Паварыха. *Словы вялікага Леніна, аб тым, што кожная кухарка павінна умець кіраваць дзяржавай,- здзяйсняюцца*. ГВУ.

Адз. Н. *кухарка*: ГВУ.

**[КУЧА]** (2) *ж*. **1.** Гурт людзей. *Нацыянальная рэволюцыя не страміцца к аднаму богу на зямлі, і не зьбівае ў вадну кучу ўсіх народаў пад адзін сьцяг*. СНБ.

**2.** *Разм*. Мноства. *Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы*. Нз, 14.

Адз. В. *кучу* (2): Нз, 14; СНБ.

**[КУЧКА]** (2) *ж*. Невялікая група людзей агульных інтарэсаў. *Калі немцы занялі большую частку нашай тэрыторыі, кучка бальшавіцкіх камісараў, гаспадарыўшая раней у Менску, уцякла ў Смаленск*. СНБ, 337. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў.., аб'яднаных у адной смярдзючай кучцы "права-трацкісцкага блока"?* МП.

Адз. М. *кучцы*: МП.

**[КУЦЦЯ]** (2) *ж*. Урачыстая вячэра. *Духі мінуўшчыны куцьцю На старасьвецкі лад спраўляюць. Даўно бываламу жыцьцю Дары належные складаюць*. Кц, 193.

◊ **На Куцьцю**.

Адз. В. *куцьцю* (2): Кц, 192, 193.

# Л

**ЛАВІЦЬ** (3) *незак.* Здабываць (рыбу). *..не зачынялі нашы прашчуры .. дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем..; нават калі выхадзілі з сялібаў сваіх рыбу ў невадах лавіць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17.

◊ **Лавіць вострым вухам** – прыслухоўвацца. *Там* [за мяжою] *..затоена ловяць* [людзі] *вострым вухам нашы* [савецкія] *песні, шумы трактароў нашых..* ЖН**. У мутнай вадзе рыбу лавіць** – мець выгаду з чаго-н., карыстаючыся няяснасцю абставін. *Вы* [паны гандляры] *аплявалі людзей і народы і кінулі сваіх нядаўніх рабоў у анархію, каб далей у мутнай вадзе рыбу лавіць.* Тж, 16.

Інф. *лавіць* (2): Кз, 17; Тж, 16. Абв. цяп. мн. 3 ас. *ловяць*: ЖН.

**[ЛАГЕР]** (2) *м. перан.* Грамадска-палітычная групоўка, аб'яднанне. *Беларускі народ самабытны – гэта прызнаюць ужо навет і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагеру.* Нз, 14. *..мы павінны зьвярнуць увагу на праціўны лагер, на правадыроў нацыянальнай рэволюцыі..* СНБ.

Адз. Р. *лагеру*: Нз, 14. В. *лагер*: СНБ.

**[ЛАГОДНЫ]** (2) прым. **1.** Радасны, ясны. *Дзень варажыўся быць лагодным..* УрП, 47.

**2.** *перан.* Дабрадушны, ласкавы. *Шэсць год вайны, вайны цяжкай, бязупыннай, выбілі ў думках беларуса-хлебароба і яго супакой – гэткі зьмірны, лагодны..* ДД.

Адз. м. В. *лагодны*: ДД. Т. *лагодным*: УрП, 47.

**[ЛАГЧЫНА]** *ж.* Нізкае месца сярод адхонных схілаў, нізіна, даліна. *..якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводзьдзе вадою..* ХБ, 29.

Мн. М. *лагчынах*: ХБ, 29.

**ЛАД** (25) *м.* **1.** Дзяржаўная сістэма, фармацыя. *..ролю зьбіральшчыка і организатара контр-рэволюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-*

*дэмократызм, выступаючы ..пад сьцягам рэстаўрацыі буржуазнага ладу..* АЛ. *За 10 год* [вырасці] *з тэрміналёгічнай камісіі да Акадэміі навук – гэта размах, на які пры іншым палітычным ладзе патрабаваліся-б не гада, а можа сотні гадоў.* ГНД.

**2.** *Разм.* Згода, зладжанасць. *..і жандармы і бальшавіцкіе "чрэзвычайкі" не завядуць на зямлі вечнага парадку і ладу..* СНБ. *Цёмныя людзі, ..не чакаючы ні ладу, ні парадку, з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17.

**3.** Манера, узор. *Духі мінуўшчыны куцьцю На старасьвецкі лад спраўляюць.* Кц, 193. [Спраўнік]: *Выражаючыся на сучасны лад, бяру сабе слова і ўношу пропозыцыю пакінуць спрэчкі і без рэзолюцыі пайсці дамоў!* Т, 29.

**4.** Спосаб. [Гануля]: *Я мыла людзям бялізну, а ён* [муж] *прыстроіўся ў акружным судзе.. Гэткім ладам недастачы вялікай не цярпелі.* Т, 20. *Хай жэ дома знойдуць яны* [сыны і браты] *ўсё ў парадку.. Такім ладам мы споўнім сьвяты свой абавязак перад бацькоўшчынай і перад яе сынамі на вайне.* РКр.

**Песьні на ваяцкі лад**.

◊ **На свой лад** – па-свойму. *Што такое Антанта? ..гэта такая аркестра, у якой кожны музыка на свой лад заводзе..* Ан, 18. **Цераз лад** – празмерна, залішне. [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, вы цераз лад ка мне міласцівы.* Т, 29. **Як прыстала на добры лад і парадак** – так, як патрэбна; па-справядліваму. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі і што гэтай зямлі для яго хопіць, абы толькі падзяліць яе па справядлівасці, як прыстала на добры лад і парадак.* ЗС, 18.

Адз. Н. *лад* (6): Кц, 193; МД; Т, 41 (4). Р. *ладу* (5): АЛ; ЗС, 17; СНБ; РС, 40; ЦСБ. В. *лад* (8): Ан, 18; Б, 18; ЗС, 18; ЕЯП; Кц, 193; Т, 29 (2); УрП, 49. Т. *ладам* (4): БС; СС, 303; РКр; Т, 20. М. *ладзе* (2): ГДН; Т, 41.

**[ЛАДЗІЦЬ]** (2) *незак. Разм.* **1.** Будаваць, ствараць, рабіць, узводзіць. *Схову новую ладзь, больш твае скуль прыпасы-б Не валок зводны зьмей і начніцы..* Ч, 323.

**2.** *перан.* Засцілаць, слаць. *Гануля прыбірае стол, пасля ладзіць для Гарошкі пасцель на падлозе.* Т, 31.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ладзіць*: Т, 31. Заг. адз. 2 ас. *ладзь*: Ч, 323.

**ЛАЗА** (3) *ж.* **1.** Кусты некаторых парод вярбы. *Сотні лет, непрыяцелем-братам прыбітая, Зарастаючы зельлем чужым, Як лазой сенажаць, Ты* [Беларусь] *ляжала няпамяці пылам пакрытая..* Б, 18.

**2.** Лыка з лазовай кары. *Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47.

◊ **Лазой зарастаць** *гл.* зарастаць.

Адз. Н. *лаза*: УрП, 47. Т. *лазой* (2): Б, 18; Н.

**ЛАЗІЦЬ** (2) *незак.* **1.** Узбірацца неаднаразова на што-н. ..[Мікіта] *варочаецца* [у пакой] *пераадзеты па-пажарніцку з каскай на галаве, з тапаром пры поясе і з жалязякамі, што лазіць па слупах, пры нагах..* Т, 32.

**2.** *перан. Разм.* Хадзіць, снаваць. *I так жывём* [беларусы], *сябе саміх не знаўшы, Учора, сёння лазім між канаў..* Бч, 10.

Інф. *лазіць*: Т, 32. Абв. цяп. мн. 1 ас. *лазім*: Бч, 10.

**[ЛАЗУРНЫ]** *прым. Руск.* Блакітны. *Між небам лазурным і чорнай зямлёй Прывольная думка лунала.* ПН, 46.

Адз. н. Т. *лазурным*: ПН, 46.

**[ЛАМАКА]** *м. перан.* Нязграбны, няздатны чалавек. *Мы – ваякі, забіякі, Сцеражыцеся, ламакі!* БЗ.

Мн. Н. *ламакі*: БЗ.

**[ЛАМАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ламаць. Псаваны. [Мікіта]: *Оей! Оей! Ужо ломяцца* [бальшавікі]. *(Трэск ламаных дзвярэй).* Т, 59.

Мн. Р. *ламаных*: Т, 59.

**[ЛАМАЦЦА]** *незак. перан.* Лезці напралом. [Мікіта]: *Оей! Оей! Ужо ломяцца* [бальшавікі]. Т, 59.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *ломяцца*: Т, 59.

**[ЛАМАЦЬ]** (2) *незак.*: ◊ **Ламаць мазгі** – імкнуцца зразумець што-н. *..самі, грамадзяне, пасудзіце, як я ламаў сабе мазгі і ногі праз гэту, згінь-прападзі, Антанту.* Ан, 18. **Ламаць ногі** – шмат хадзіць. *.. самі, грамадзяне, пасудзіце, як я ламаў сабе мазгі і ногі праз гэту, згінь-прападзі, Антанту.* Ан, 18. **Ламаць рукі** – жэстыкулюючы выражаць узрушэнне, гора. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, не ламеце рук, а бярэцеся хутчэй за работу.* Т, 59.

Абв. пр. адз. м. *ламаў*: Ан, 18. Заг. мн. 2 ас. *ламеце*: Т, 59.

**ЛАМПА** *ж. Разм.* • **Электрычная лампа** – лямпа са свячэннем напаленай ніці. *..там, дзе дымілася дапатопная лучына, зіхаціць сонечная электрычная лампа..* ШБСЯ.

Адз. Н. *лампа*: ШБСЯ.

**[ЛАНТУХ]** *м. Польск.* Партфель. [Янка]: *А* [што] *ў гэтым другім лантуху?* [Мікіта]: *А ў гэтым, меджду протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты..* Т, 46.

Адз. М. *лантуху*: Т, 46.

**ЛАНЦУГ** (10) *м.* **1.** Рад металічных калец, паслядоўна злучаных. *Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў Усіх іх* [здані] *у жалезны ржавелы ланцуг.* БН, 92. // Аковы, кайданы. *У гэту нашу гадаўшчыну Звініць ланцуг, як і звінеў.* ГП, 8. *Брат, паэт! I ты тут – як быллё, ў ланцугох..* БН, 92.

**2.** *перан. Тое, што* пазбаўляе свабоды. *Спадзе ланцуг наш і зазьзяе ўсім вясна.* Ж. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад казак, чароўных тых сноў, Што слаліся яваю нашага дня,*

*Што збавілі долю ад пут, ланцугоў*. СС, 301.

**3.** *перан*. Аб'яднанне (моўных груп, сямей). *У твой ланцуг былі, о Русь, Уплецены з усіх бакоў Украйна, Польшча, Беларусь І сотні іншых "языкоў"*. АПЖ.

Адз. Н. *ланцуг* (3): ГП, 8; Ж (2). В. *ланцуг* (2): АПЖ; БН, 92. Т. *ланцугом*: З. Мн. Р. *ланцугоў* (2): СС, 301; СТ. В. *ланцугі*: Ж. М. *ланцугох*: БН, 92.

**[ЛАНЦУЖНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да ланцуга ў 2 *знач*. *Табой* [рускім "языком"] *сам самадзержац цар Пісаў ланцужны свой закон..* АПЖ.

Адз. м. В. *ланцужны*: АПЖ.

**[ЛАПА]** (2) *ж. Разм., зняваж*. Рука (чалавека). *А калісь мусіў паганую лапу – Парабак я – цалаваці з пакорай.* Бц, 74.

◊ **У лапах** – у залежнасці ад каго-н. *Горды народ твой* [Фінляндыі] *не будзе згібацца ў ёрмах прыгонных, у здрадніцкіх лапах..* Ф.

Адз. В. *лапу*: Бц, 74. Мн. М. *лапах*: Ф.

**ЛАПАТА** (2) *ж.* Прылада для капання зямлі з доўгім дзяржаннем і шырокім плоскім завостраным канцом. *..жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука – яе лапата, яе гарматні пярун*. АБ, 16. *Дубовай кованай лапатай* [сыны крывіцкіх сёл] *Глыбокі выкапалі дол..* УрП, 52.

Адз. Н. *лапата*: АБ, 16. Т. *лапатай*: УрП, 52.

**[ЛАПАЦЕЦЬ]** *незак*. Лапатаць (крыламі). *Лапацяць крыламі жутка Кажаны, начніцы..* Дз, 191.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *лапацяць*: Дз, 191.

**[ЛАПАЦЬ]** (7) *м*. Плецены з лыка, бярosты ці вяровак абутак. *Лезла на вопратцы дзірка на дзірку, Лапцяў і тых не дастаў я* [унук] *ад пана*. Ун, 73. *Спужаўся* [жандар], *што хлапчук ў лапцёх, Напаўдзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?..* АПЖ.

◊ **Уздзець лапці** *гл*. уздзець. **У лапці абуваць** *гл*. абуваць.

Мн. Р. *лапцяў*: Ун, 73; *лапцей*: УрП, 47. В. *лапці* (2): Т, 21; Чж, 147. М. *лапцёх* (2): АПЖ; ХЛБ; *лапцях*: З.

**ЛАПЦЮЖНІК** *м. Разм*. Селянін-бядняк. *Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся "лапцюжнік" над "крывуляй" сахой,- важна пахаджваюць тысячы трактараў..* ШБСЯ.

Адз. Н. *лапцюжнік*: ШБСЯ.

**ЛАСА** (3) *прысл*. **1.** Прагна, сквапна. *Як днём начніцы, разбегліся госці, Што з беларуса смакталі кроў ласа.* Мц, 75.

**2.** *перан.* Спакусліва, прывабна. *..хлёбалі зладзюгі* [трацкісты] *з адной міскі страву, Страву, што Гітлер Варыў смачна, ласа..* МПв, 218. *Вецер інакшы ім* [людзям] *дзьме ў галаве, – Вісла адным усміхаецца ласа, Тыя заплюшчыўшысь пруцца к Няве*. Н.

**ЛАСКА** (31) *ж.* **1.** Выражэнне любві і пяшчоты. *Іх* [сыноў] *пясціла* [маці], *як умела, ласкаю вясёлай.* Дз, 188. // Лагоднасць. *Зьдзекі далей* [меншы сын] *строіць дай-жэ, Ласку з сэрца выжыў..* Дз, 190.

**2.** Спачувальныя, прыхільныя адносіны. [Янка]: *Дзякую вам* [Ганулі] *за шчырасць і ласку..* Т, 19. *Чаму на словах нам* [беларусам] *абяцаюць ласку, прыхільнасьць і дапамогу, а на дзеле – зьдзек і паняверку?* ОШМ.

**3.** Міласць, спагада. *І не важся да сэрца ўздыхаці, Ласкі ждаць… Хоць крывёю, а сьмейся.* См, 91. *Ён з начальствам знае дзела: Па расейску валіць сьмела, Ліжа, выйшаўшы за вёску, Ласку панскую папольску.* УР, 215.

**4.** *перан.* Ласкавасць, лагоднасць. *Тае сьнег, таюць сковы зімы ледзяністые, Сонцэ з ласкай ажыўчай гуляе ў прывольлі..* ТС, 74. *За ім – за сонейкам мой шлях, Куды яно з сваёю ласкай, Ляцець, плысці, як той жар-птах..* МСП, 187.

**5.** *перан.* Багацце. *Мы* [беларусы] *вас прынялі хлебам і соляй, Людзі чужыя, Устрэлі вас ласкай нашага поля Кветкі жывыя.* Чж, 146.

**6.** *перан.* Жаданне. *Ня прыслужнем будзь ласцы прыблуднага сына, Будзь прakляцьцем яму – свайму кату.* Ч, 323.

**7.** *перан.* Жыццё. *І сярэдні, і малодшы, Родные дзяціны, Як мая – пашлі к салодшай Ласцэ без прычыны.* Дз, 189.

∆ **Ласка-крыўда**: *Той шлях трэці і трэцяя рэчка сьляпою ласкай-крыўдай апутаюць грудзі…* Ч, 320.

• **Рымскія ласкі** – варожы настрой. *..у прадчуваньні рымскіх ласк Свой разрахунак меркантыльна зьнізіў І ..ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80. **Цямрычная ласка** – здзек. *Відны сьляды цямрычнай ласкі.* Кц, 194.

◊ **Быць у ласцы** *гл.* быць. **Бяз чужой ласкі** – без дапамогі з боку каго-н. *Бай* [маці] *яму* [сыну] *даўнейшы казкі Аб бацькох сваёй зямлі, Як жылі бяз чужой ласкі, як слугамі былі.* М, 20. **З ласкі** (3) – па чыйму-небудзь жаданню, дазволу. [Мікіта]: *Можа, з ласкі сваёй купіце* [грамадзянін] *у мяне маркі?* Т, 34. *Адзін, адзін раз толькі ў год Зьбірацца можам* [духі] *з ласкі Рока..* Кц, 193. **Калі ласка** (8) – пабуджэнне, просьба. [Ганна]: *Калі ласка! Заходзьце* [Янка]*!* Т, 19. [Аленка]: *Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы.* Там жа, 30. **На ласку Боскую** – калі ласка. *Ну хіба-ж гэта дэмакратызм, скажэце на ласку Боскую?* ДК.

Адз. Н. *ласка* (8): Т, 19, 21, 23, 27, 28 (2), 30, 37. Р. *ласкі* (7): Бч, 9; Кц, 193; М, 20; Мц, 75; См, 91; Т, 34; Ч, 323. Д. *ласцы*: Ч, 323; *ласцэ*: Дз, 189. В. *ласку* (6): Дз, 190; ДК; ОШМ; Т, 19, 31; УР, 215. Т. *ласкай*

(6): Дз, 188; ДПЛС; МСП, 187; ТС, 74; Ч, 320; Чж, 146. М. *ласцы*: БрБ, 6. Мн. Р. *ласк*: ВБЛ, 80.

**ЛАСКАВА** *прысл.* Ветліва, пачціва. *Калі маеш брата ци дарослаго сына, абыходзься з ими ласкава..* СП.

**[ЛАСКАВЫ]** *прым.*: ◊ **Бэндзе ласкав** *гл.* быць.

Кар. адз. м. Н. *ласкав*: Т, 26.

**[ЛАСЫ]** *прым. перан.* Захапляльны. [Мікіта]: *Беларускае асэсарства, апрача ўсялякіх іншых плюсаў, мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік – гэта тое, што і па-беларуску.. можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай імпэрыі.* Т, 56.

Адз. м. В. *ласы*: Т, 56.

**ЛАТАТЫ** *ж.*: ◊ **Даваць лататы** *гл.* даваць.

Адз. В. *лататы*: Т, 37.

**ЛАТАЦЬ** (2) *незак.* Ставіць, зашываць (латкі). [Гануля]: *Хоць бы ўзяў, як іншыя, ды падвучыўся* [Мікіта] *боты шыць або хоць латаць. Ну латаў бы, і капейка жывая была б у хаце, а так…* Т, 20.

Інф. *латаць*: Т, 20. Абв. пр. адз. м. *латаў*: Т, 20.

**[ЛАТЫШЫ]** *мн.* Народ асноўнага насельніцтва Латвіі. *Пры ўрадзе быў створаны камісарыят нацыянальных меншасцей (літвінаў, палякаў, латышоў, жыдоў), апрача беларусаў.* СНБ, 338.

Мн. Р. *латышоў*: СНБ, 338.

**[ЛАЎКА]** (13) *ж.* Лава для сядзення. [Гарошка]: *Я – і такія важныя асобы… яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду.* Т, 27. [Аленка]: *(сеўшы на лаўку). Як вы заўсёды, дзядзька настаўнік, мудра вельмі разважаеце..* Там жа, 35.

Адз. Р. *лаўкі* (3): Т, 27, 41, 42. В. *лаўку* (5): Т, 35, 42, 43 (3). М. *лаўцы* (4): Т, 40, 42 (2), 43. Мн. Р. *лавак*: Т, 33.

**ЛАХІ** *толькі мн. Разм.*: ◊ **Лахі пад пахі** – свае пажыткі браць з сабою, хутка сабрацца. [Янка]: *Не адкладаючы справы ў доўгі мех, лахі пад пахі, ды яшчэ заўтра – марш на свежае паветра!* Т, 30.

Н. *лахі*: Т, 30.

**[ЛАХМОЦЦЕ]** *н., зб.* Старое, падзёртае адзенне. *І сёння там* [за Сулою] *ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны..* ПБН.

Адз. М. *лахмоцці*: ПБН.

**[ЛАЦІНКА]** *ж.* Лацінскі алфавіт. *"Сокі Цаліны" Цішкі Гартнага і "Дудка Беларуская" і "Смык Беларускі".. пасьля болей як паўвяковага працягу часу, перашы раз надрукаваны "гражданкай".. (дагэтуль гэтыя кніжкі друкаваліся "лацінкай"..).* ВСп, 89.

Адз. Т. *лацінкай*: ВСп, 89.

**[ЛАЯЦЬ]** (2) *незак*. Ганьбіць, бэсціць. [Гарошка]: *Паны былі польскія, законы – рускія; польскія лаюць рускіх, рускія лаюць польскіх..* Т, 44.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *лаюць* (2): Т, 44 (2).

**[ЛЕВЫ]** (4) *прым*. Размешчаны з боку сэрца. [Спічыні]: *Левую руку абапрыце* [Мікіта] *на левы клуб*. Т, 44. // Размешчаны па левай руцэ. *..чуваць стук у дзверы з левага боку..* Т, 19. *З правага боку..- адны дзверы, з левага – двое*. Там жа, 19.

Адз. м. Р. *левага* (2): Т, 19 (2). В. *левы*: Т, 40. ж. В. *левую*: Т, 40.

**[ЛЕГІЁН]** *м. Гіст. перан*. Вялікая колькасць польскіх ваенных часцей, войска. *..сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму* [новаму Богу] *курыць..* Кз, 17.

Мн. Н. *легіёны*: Кз, 17.

**[ЛЕГЧЫ]** (18) *зак.* **1.** Прыняць ляжачае, гарызантальнае становішча. *Ляж* [брат-беларус], *прытуліся да зямлі, Паслухай шчыра, што гавора табе, сям'і і ўсёй радні..* БрБ, 6. *Песьню выюць* [здані] *хаўтурна: Ты ляж, а ты ўстань!..* БН, 93.

**2.** Апусціцца, паваліцца на што-н. *Сцены і запоры Палачан, мянчан Леглі ў разоры Зможаных палян.* МД.

**3.** Укласціся. *Ляжэ ўсходняе зерне ў пахаць сырую*. ТС, 74.

**4.** Заняць, ахапіць пэўную плошчу. *Ляглі нязгледжаныя далі..* УрП, 46. // Пралегчы, працягнуцца. *А рэчкі іначай ляглі, А лёг за каналам канал*. ТП, 215. *А стужкай чыгунка лягла, Дзе ўчора стаяў лес яшчэ*. Там жа. // *Вобразн*. З'явіцца. *Нашы мінуліся дні беспрасветныя, Леглі ад сонца на свеце праталіны..* ДПЛС.

**5.** *перан*. Апанаваць. *Так камень не ляжа, як змора падання Лягла ад мяжы да мяжы*. ЗК, 43.

**6.** *перан.* Загінуць. *За тэй тая з хвалай легла галава*. МД.

◊ **Легчы трупам** – загінуць. *..ворагі трупам ляглі..* ХЛВ, 316.

Абв. пр. адз. м. *лёг* (2): ТП, 215; УрП, 52. ж. *лягла* (2): ЗК, 43; ТП, 215; *легла*: МД. Мн. *ляглі* (6): ПБН (2); ТП, 215; УрП, 46; ХЛВ, 316; Ч, 323; *леглі* (2): ДПЛС; МД. Буд. адз. 3 ас. *ляжэ* (2): ЗК, 43; ТС, 74. Мн. 3 ас. *лягуць*: УрП, 48. Заг. адз. 2 ас. *ляж* (2): БрБ, 6; БН, 93.

**[ЛЕГЭНДА]** *ж. Лац.* Народнае паданне. *Творыць* [забабон] *праступные легэнды..* З.

Мн. В. *легэнды*: З.

**[ЛЕДАВІТЫ]** *прым*. Ледніковы. *Распасцёр свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі, ..і да ледавітага "паўночнага зіяньня"..* З.

Адз. н. Р. *ледавітага*: З.

**[ЛЕДЗЯНЕЦЬ]** *незак.* ◊ **У жылах кроў ледзянее** *гл.* кроў.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ледзянее*: Бц, 74.

**[ЛЕДЗЯНІСТЫ]** *прым*. Ледзяны. *Тае сьнег, таюць сховы зімы ледзяністые..* ТС, 74.

Мн. Н. *ледзяністые*: ТС, 74.

**[ЛЕЖНЯ]** *ж. Польск*. Гультайства. *За другім* [сынам] *была ахвота К лежні, к панаваньню..* Дз, 189.

Адз. Д. *лежні*: Дз, 189.

**ЛЕЗЦІ** (8) і *разм*. **ЛЕЗЦЬ** *незак.* **1.** Размяшчацца. [Ануля]: *Гэны пакой, дзе вы* [Янка] *кватаравалі, свабодны, дык і лезьце пакуль што туды*. Т, 49.

**2.** Пранікаць куды-н. *У хату вораг лезць не будзе*. БЗ.

**3.** *перан. Разм.* Настойліва дамагацца чаго-н. *Рэспублікі!? ды з "языком" З іх лезе кожная ўсур'ёз.* АПЖ. // Прыставаць, дакучаць. [Спічыні]:.. *як будзе* [па-польску]: *не лезь, бо дастанеш поўху?* Т, 49.

◊ **Лезці ў людзі** – імкнуцца заняць больш высокае становішча. *Слуцк – павятовы гарадок – куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай*. МІ, 17. **Лезці ў рукі** – прыставаць да каго-н. *Дзе ж то бачана да нашых дзён, Каб дзяўчына лезла ў рукі сама..* ВБЛ, 83. **Лезці ў чужацкую скуру** – імкнуцца быць падобным да каго-н. *Роднага ж краю тутэйшыя людзі Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом.* Н. **Лезла дзірка на дзірку** – пра старую парваную вопратку. *Лезла на вопратцы дзірка на дзірку.* Ун, 79.

Інф. *лезці* (2): МІ, 17; Т, 48; *лезць*: БЗ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *лезе*: АПЖ. Мн. 3 ас. *лезуць*: Н. Пр. адз. ж. *лезла* (2): Ун, 73; ВБЛ, 83. Заг. адз. 2 ас. *лезь*: Т, 49. Мн. 2 ас. *лезьце*: Т, 49.

**[ЛЕКІ]** *толькі мн. Разм*. Лякарства. *На што лек на горэ, больки, Кали маем манапольки?* $Ш_1$.

Р. *лек*: $Ш_1$.

**[ЛЕКАРСКІ]** *прым. Разм*. Доктарскі. *На земствах ляжыць ешчэ іншы важны абавязак – гэта агранамічная і лекарская помач селянам*. ВС.

Адз. ж. Н. *лекарская*: ВС.

**[ЛЕКЦЫЯ]** (9) *ж*. Заняткі. [Мікіта]: *..напомніце* [мамаша] *яму* [Спічыні], *што я ўжо яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва..* Т, 34. *Вучні працуюць на заводзе, наведваюць лекцыі.* ПЧ. // Урок. [Мікіта]: *Бяру ў яго* [Спічыні] *лекцыі таго "языка", з якім прыходзіць новая сытуацыя.* Т, 48.

Адз. Р. *лекцыі*: Т, 40. В. *лекцыю* (2): Т, 34, 50. М. *лекцыі*: Т, 50. Мн. Р. *лекцый*: Т, 32; *лекцыяў*: Т, 40. В. *лекцыі* (3): ПЧ; Т, 48, 49.

**[ЛЕНІНСКА-СТАЛІНСКІ]** (4) *прым*. **1.** Які належыць Леніну і Сталіну. *Пойдзем, як йшлі мы, у сонечнай далі Ленінска-сталінскім следам.* СЗГ, 252.

**2.** Створаны Леніным і Сталіным. *Няхай жыве і красуе ленінска-сталінская партыя..* ЖН. *Слава ленінска-сталінскай партыі..*

СБ. // Названы ў гонар Леніна і Сталіна. *Мы* [беларусы] *прайшлі гэты шлях пад сцягам Ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б).* ВГР.

Адз. м. Р. *ленінска-сталінскага*: ВГР. Т. *Ленінска-сталінскім*: СЗГ, 252. ж. Н. *ленінска-сталінская*: ЖН. Д. *ленінска-сталінскай*: СБ.

**[ЛЕНІНСКІ]** (5) *прым.* **1.** Названы ў гонар У. І. Леніна. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян-беднякоў і сераднякоў розных нацыянальнасьцяй Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, контр-рэвалюцыйныя беларускія нацыянал-дэмакраты супроцьставілі лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі..* АЛ. *Няхай жыве культура, зьмест і форма якое выпісаны на ленінскім сьцягу найвялікшым сучасным правадыром пролетарыяту т. Сталіным..* Там жа.

**2.** Які створаны У. І. Леніным. *Ленінская нацыянальная палітыка дала майму* [Купалы] *народу.. дзяржаўнасць*. А, 328. // Які адпавядае прынцыпам ленінізма. *Мы* [беларусы] *прайшлі гэты шлях, як казачныя асілкі – сямімільнымі, ленінскімі крокамі*. ВГР.

Адз. м. Р. *ленінскага*: ДНСП. Т. *ленінскім*: АЛ. М. *ленінскім*: АЛ. ж. Н. *ленінская*: А, 328. Мн. Т. *ленінскімі*: ВГР.

**ЛЕПЕЙ** (25) *прысл. Тое, што* лепш у 1 *знач. З беларускай марсэльезай справа стаіць як бы лепей..* СБНГ. [Спічыні]: *Гэта* [араторыя] *ў вас* [Мікіты] *выйшла нібы лепей.* Т, 40. Вб, 237; ВР; ВСп, 90; ПБН; СБНГ; СЧ; Т, 22 (2), 29, 32, 36, 50, 54 (2), 58 (2), 59, 61; УрП, 51; Ч, 319 (2), 322 (2).

**ЛЕПШ** (7) *прысл.* **1.** *Пар. ст. да* добра ў 1 *знач. Становішча прамысловасці Чэхаславакіі, яе сістэму лепш за ўсё характарызуе "абутковы горад" Баці ў Зліне*. ПЧ. *Ды ну-ж гаманіці, Ўхмыляцца пад вусам, Як лепш атуманіць Мазгі беларусам*. Х. *Параўн.* лепей, лучша. Вб, 237. Мц, 74; ОШМ; Пп, 5; Р.

**2.** *Пар. ст. да* добры ў 4 *знач*. *Лепш мне* [гругану] *быў той час стары..* Пц.

**[ЛЕПШЫ]** (25) *прым.* **1.** *Пар. ст. да* добры ў 2 *знач. Для беларуса самаго і для яго бацькаўшчыны прыдзе лепшая доля, лепшая слава*. ВС. [Гарошка]: *..прыязджайце* [Ануля] *да нас на вёску, там сонца весялей свеціць, і людзі там лепшыя*. Т, 57.

**2.** Самы добры. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства..* ДЖ. *Як першая* [нацыянальная], *так і другая* [сацыяльная рэвалюцыя] *стараюцца ўсіх пераканаць, што кожная з іх змагаецца за лепшые ўсясьветные ідэалы..* СНБ. // *У знач. наз. ..гэта* [царская] *рэакцыя, здавалася, задушыла ў народах падняволеных расійскім царом ўсё, што было лепшага ў думках*. ДЖ. *Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцяй ад Масквы, а на лепшае нічога не змянілася*. Нз, 14.

Адз. м. Р. *лепшага* (2): ДЖ; НК. Т. *лепшым*: БС. ж. Н. *лепшая* (3): ВС (2); ДК. Р. *лепшай*: ВМР. В. *лепшую* (8): БВ, 16; БСУ (2); ДД; МІ,

18; ПЛП (3). н. В. *лепшае* (2): БСУ; Нз, 14. Мн. Н. *лепшыя* (3): НДН, 19; ПЧ; Т, 57. Р. *лепшых* (2): ДЖ; МІ, 17. В. *лепшыя*: УПУВ; *лепшые*: СНБ. Т. *лепшымі*: СНБ.

**ЛЕРА** (2) *ж. Разм*. Ліра. *..йграе напераменку лера і шарманка*. Т, 33. *Пры падняцці заслоны першым праходзіць справа ўлева Лернік з лерай, а пасля Шарманшчык з шарманкай.* Там жа.

Адз. Н. *лера*: Т, 33. Т. *лерай*: Т, 33.

**ЛЕРНІК** *м*. Музыкант, які іграе на ліры. *Пры падняцці заслоны першым праходзіць справа ўлева Лернік з лерай, а пасля Шарманшчык з шарманкай.* Т, 33.

Адз. Н. *лернік*: Т, 33.

**ЛЕС** (23) *м*. Вялікая колькасць дрэў на значнай прасторы. *Зямлі маем* [беларусы] *шмат, лесу яшчэ болей*. Нз, 15. *Маўчаць урачыста лясы і курганы..* ПБН

**Хто к лесу, а хто к бесу**.

∆ **Бор-лес** *гл.* бор.

Адз. Н. *лес* (6): БрБ, 6; ВБ; СК, 158; ТП, 215; УрП, 47; ХБ, 29. Р. *лесу* (3): Нз, 15; Т, 55; ХБ, 30. В. *лес* (4): БрБ, 6; ПБН; Т, 47; ХБ, 29. Т. *лесам*: ПЛ. М. *лесе*: Ч, 321. Мн. Н. *лясы* (2): Кз, 17; ПБН. Р. *лясоў*: УрП, 48. В. *лясы* (2): УрП, 48; ХБ, 29. Т. *лясамі*: ХБ, 29. М. *лясох* (2): УрП, 49; ХБ, 29.

**ЛЕТА** (15) *н*. **1.** Самая цёплая пара года. *Лета было*. Мц, 75. *..лета* [на Меншчыне] *гарачае..* ХБ, 29.

**2.** *Разм.* Год. *Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь*. Тж, 16. *Бегам беглі дні і ночкі, леты за летамі*. Дз, 189.

**На пачатку лета**.

◊ **Колькі лет! Колькі зім!** *гл.* колькі[2] .

Адз. Н. *лета* (2): Мц, 75; ХБ, 29. Р. *лета*: ВБЛ, 82. В. *лета*: Кц, 196. Мн. Н. *леты* (2): Дз, 189; Т, 45. Р. *лет* (9): Б, 18; БрБ, 6; ВБЛ, 81; Н; Т, 45 (2); Тж, 16; НГд, 8; Чж, 147.

**ЛЕТАМ** (5) *прысл*. У летні час, летняй парой. *Аставалася адна я* [маці], *сын адзін са мною, як той путнік на разстаю, Летам і зімою.* Дз, 190. *..летам жджэ расы трава*. НГ. НК; СА, 178; Ун, 73.

**ЛЕТАСЬ** (5) *прысл. Разм*. У мінулым годзе. *Хай, як і летась, закрасуе і сёлета рунь*. РКр. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па портфэлі, што летась схавалі.* Т, 59. Кц, 196; Пп, 5; Т, 60.

**[ЛЕТАШНІ]** *прым. Разм*. Папярэдні, мінулагодні. *..леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай.* ВСп, 89.

Адз. ж. Н. *леташняя*: ВСп, 89.

**[ЛЕТНІ]** *прым*. Звязаны з летам, які адбываецца летам. *У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку, Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока..* ПБН.

Адз. ж. В. *летнюю*: ПБН.

**[ЛЕТУЦЕННЕ]** *н.* Мара, уяўленне, фантазія. *Тыя думкі і летуценні, якія прабудзіліся ў нашым народзе ў часе першай расійскай рэвалюцыі (1905г.), разліліся шырокаю хваляй на неабнятых абшарах нашага краю*. СНБ, 336.

Мн. Н. *летуценні*: СНБ, 336.

**ЛЕЎ** *м. Заал.* Драпежнік з сямейства кашэчых. *Ты так ня страшны, сільны леў!* УрП, 51.

Адз. Н. *леў*: УрП, 51.

**ЛЕЧАЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* лячыцца. *Лечачыся на сонечным Каўказе, ..я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі ..беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса..* ШБСЯ.

**[ЛЁГІЧНЫ]** *прым. Разм.* Лагічны. [Спічыні]: *У сваёй араторыі вы* [Мікіта] *пераблуталі лёгічныя тэрміны..* Т, 40.

Мн. В. *лёгічныя*: Т, 40.

**ЛЁГКА** (6) *прысл. да* лёгкі. *Калішні расійскі ўрад гэту справу* [зямельнае пытанне] *развязываў вельмі лёгка.* ЗС, 18. [Дама]: *А ведаеце, мусье Зносілов, – бяду гэту можна лёгка паправіць.* Т, 51. // *перан.* Радасна, спакойна. *Дзядом хай нашым лёгка стане, Што вера, песьня, госьце ў нас.* УрП, 50. СС, 302 (2); СЧ.

**ЛЁГКІ** (6) *прым. перан.* Просты. [Янка]: *Лёгкі і танны спосаб у вас* [Мікіты] *дапасоўвацца да сытуацыі.* [Мікіта]: *Надта лёгкі і танны.* Т, 48. *Але шлях гэтага будаўніцтва ня лёгкі.* АЛ.

• **Мяккая і лёгкая зямля** *гл.* зямля. **“Легкі” хлеб** *гл.* хлеб.

Адз. м. Н. *лёгкі* (3): Т, 48 (2), 55. Р. *лёгкага*: А, 328. ж. Р. *лёгкай*: ВБЛ, 82. Мн. Н. *лёгкіх*: АЛ.

**[ЛЁД]** *м. перан.* Холад. *Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць* [чараўнік]. Ч, 325.

Адз. Т. *лёдам*: Ч, 325.

**[ЛЁЗГАТ]** *м.* Лязг. *Сніць далей гэты царадвор, Калі надыдзе яму дзень, Ізноў пад лёзгат царскіх шпор Свой распасцерці чорны цень.* АПЖ.

Адз. В. *лёзгат*: АПЖ.

**ЛЁЗУНГ** *гл.* **ЛОЗУНГ.**

**ЛЁН** (3) *м.* **1.** Валакністая расліна, з семя якой атрымліваюць алей. *Сягоння там* [на балотах] *жыта, ..Мурожныя травы, каноплі і лён.* ПБН. *Ой, і рэдкі ў палетку лён.* ВБЛ, 82.

**2.** Валакно з гэтай расліны. [Аленка]: *З нашаго лёну* [выраблена] *гэта кашуля..* Т, 30.

Адз. Н. *лён* (2): ВБЛ, 82; ПБН. Р. *лёну*: Т, 30.

**ЛЁНД** *м. Польск. Тое, што* суша. [Заходні вучоны]: *Пшырода на Польскіх Крэсах Всходніх надзвычай буйна і богата; эгзыстуе лёнд і водозбёры..* Т, 47.

Адз. Н. *лёнд*: Т, 47.

**[ЛЁРНЭТКА]** *ж. Франц.* Складныя акуляры з ручкай. [Дама]: *(прыглядаючыся праз лёрнэтку на Мікіту). У вас, мусье рэгістратар, фасон касцюму – а-ля-басяк*. Т, 58.

Адз. В. *лёрнэтку*: Т, 58.

**ЛЁС** (4) *м.* Доля. *Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы У панстве фашызма крывавай імглы.* ПБН. *Вы* [заходнія беларусы] *над сахою гнуліся крукам І праклінালі свой лёс пракляты.* ССА, 294. // Далейшае існаванне, будучыня. *..лёс рабства і гібелі яны* [трацкісцкія дыверсанты] *рыхтавалі нашаму беларускаму народу і нашай Совецкай Беларусі*. ВНЗ.

Адз. Н. *лёс*: А, 327. В. *лёс* (3): ВНЗ; ПБН; ССА, 294.

**ЛЁТАЦЬ** (3) *незак. Разм.* **1.** Перамяшчацца ў паветры. *Імя тваё* [Сталіна] *ўспамінае ўрачыста Хлапчук, які лётаць наважыў.* СС, 301. *Лёталі гордыя за акіяны Советаў арліныя крыллі.* Там жа.

**2.** *перан.* Хутка хадзіць. *Рэдактар, як бура, лётае па хаце..* Ан, 19.

Інф. *лётаць*: СС, 301. Абв. цяп. адз. 3 ас. *лётае*: Ан, 19. Мн. *лёталі*: СС, 301.

**ЛЁТЧЫК** (5) *м.* Вадзіцель самалёта, пілот. *Мой мілы таварыш, мой лётчык, Вазьмі мяне* [хлопчыка] *ўрэшце з сабой..* ХЛВ, 315. *У Празе ..нам* [дэлегатам] *лётчыкі паказалі майстэрства пілатажа*. ПЧ.

**Хлопчык і лётчык на вайне**.

Адз. Н. *лётчык* (4): ХЛВ, 315 (3), 316. Мн. Н. *лётчыкі*: ПЧ.

**ЛІ** *часц. Руск. Тое, што* ці[2]. [Поп]: *Не врэмя лі подумаць нам і о ложэ в очаге домашнем*. Т, 28.

**ЛІЗАЦЬ** (2) *незак. Разм., зневаж.* Карыстацца чыёй-н. міласцю. *Ліжа, выйшаўшы за вёску, ласку панскую папольску*. УР, 215.

◊ **Лізаць ногі** – уніжацца, падхалімнічаць перад кім-н. *Адна часць* [Беларусі] *Варшаве Лізаць ногі будзе, Маскве хай – другая Нясе свае грудзі*. Х.

Інф. *лізаць*: Х. Абв. цяп. адз. 3 ас. *ліжа*: УР, 215.

**ЛІК** (14) *м.* **1.** Колькасць каго-н., чаго-н. *..на лік мы* [беларусы] *народ вялікі – каля 12 мільёнаў*. Нз, 15. *..ў працягу некалькіх месяцаў вышла ў свет 15 кніг, лікам страніц 1950*. ВСп, 91.

**2.** *перан.* Думка. *Хоць па-простаму на наш лік Ён* [муж вучоны] *ня больш як чараўнік.* $Ш_4$.

◊ **Бяз ліку** (2) – у вялікай колькасці, многа. *Жыццё лет бяз ліку на шнурык свой ніжэ, Бяз ліку няволя ёсць сіл..* ЗК, 43. **У тым ліку (і)** (2) – уключаючы што-н. *..несла* [пролетарская рэволюцыя] *сапраўднае социяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўным былой царскай Расіі, у тым ліку і Беларусі*. АЛ. *Пад Вашым* [Ежова] *кіраўніцтвам совецкая зямля, у тым ліку і Совецкая Беларусь, з*

*поспехам ачышчаецца ад германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў.* $Ш_4$.

Адз. Н. *лік* (3): ВСп, 89 (3). Р. *ліку* (3): ЗК, 43 (2); СБНГ. В. *лік* (3): ДК; Нз, 15; $Ш_4$. Т. *лікам*: ВСп, 91. М. *ліку* (4): АЛ; ВСп, 91; НКУС; Т, 47.

**[ЛІКВІДАВАЦЦА]** *незак.* Спыняць існаванне. ..[кулацтва] *ліквідуецца ва ўмовах колектывізацыі як кляса..* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ліквідуецца*: АЛ.

**[ЛІКВІДАЦЫЯ]** *ж.* Спыненне існавання чаго-н. *..беларускі нацыянал-дэмократызм* [выступае] *пад сьцягам ліквідацыі ўсіх завааяваньняў Кастрычніцкай рэволюцыі..* АЛ.

Адз. Р. *ліквідацыі*: АЛ.

**ЛІКЁР** (2) *м.* Салодкі спіртны напітак. [Мікіта]: *Гэта… гэта не гарэлка, а, медджу протчым, лікёр пазнанскі..* Т, 60. [Мікіта]: *Там, у нумары, ..сядзелі нейкія маладыя, медджу протчым, мусьі ў форме і нейкія маладыя, медджу протчым, мамзэлі без формы ды выпівалі пазнанскі лікёр.* Там жа.

Адз. Н. *лікёр*: Т, 60. В. *лікёр*: Т, 60.

**[ЛІЛЬЯ]** *ж.* Лілія. *Хай* [сонца] *вочы высмаліць, як кветку ў лільі слабай, Але і крыж мой спапяліць хай папарадку!* СМ.

Адз. М. *лільі*: СМ.

**[ЛІНГВІСТЫЧНЫ]** *прым.* Мовазнаўчы. [Заходні вучоны]: *Пшы баданю бялорусіна высветлёно надзвычайнон особлівосць, а мяновіце: вбрэв гісторычным, географічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.* Т, 26. *Параўн.* лінгвісцічэскі.

Мн. Д. *лінгвістычным*: Т, 26.

**[ЛІНГВІСЦІЧЭСКІЙ]** *прым. Руск. Тое, што* лінгвістычны. [Усходні вучоны]: *Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенносць, а іменно: вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

Мн. Д. *лінгвісцічэскім*: Т, 26.

**ЛІНІЯ** (5) *ж.* **1.** Паласа, граніца, край чаго-н. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16.

**2.** *перан.* Напрамак, спосаб думкі, поглядаў. [Мікіта]: *Мая лінія жыцця вельмі простая.* [Янка]: *Ваша лінія не простая – а крывабокая, - цямняцкая ваша лінія..* Т, 22.

**Δ Па лініі якой** – па якіх-небудзь органах. *..на працягу раду год*

[група контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентоў] *вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, накіроўваючы галоўныя ўдары па лініі культуры і зямельнай эканомікі.* АЛ.

Адз. Н. *лінія* (3): Т, 22 (3). В. *лінію*: АБ, 16. М. *лініі*: АЛ.

**ЛІПА** (3) *ж.* Лісцёвае дрэва. *Ліпа шуміць адзінока над хатай..* ВМ, 72. *Стогнуць ветрам калыханы ліпы ды бярозы..* Дз, 191.

Адз. Н. *ліпа*: ВМ, 72. Мн. Н. *ліпы* (2): Дз, 191; ХБ, 29.

**[ЛІПЕНЬ]** (4) *м.* Сёмы месяц года. [Мікіта]: *У гэтым* [партфелі] *толькі грошы – мая пэнсія за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад*. Т, 46. *Ліпень, жнівень і верасень я* [С.Меч] *пражыў у Меншчыне, на беразе Сьвіслачы..* ХБ, 28.

Адз. Р. *ліпня* (2): Т, 46 (2). В. *ліпень*: ХБ, 28. М. *ліпні*: Т, 19.

**[ЛІС]** (2) *м. перан.* Хітры, пранырлівы чалавек. *Цямрук ілжывы, прайдзісьвета, Пасол ты ліса ці ваўка!* УрП, 52. *На хварбованых лісох даўно ўжо людзі пазналіся*. Тж, 16.

Адз. Р. *ліса*: УрП, 52. М. *лісох*: Тж, 16.

**ЛІСТ** (4) *м.* Пісьмо. [Аленка]: *Вы* [Янка] *ўжо аб гэтым павінны ведаць з майго лісту*. Т, 29. [Янка]: *..атрымаў ліст з вёскі ад сваёй быўшай вучаніцы..* Там жа, 23.

**Адкрыты ліст Янкі Купалы. Ліст у рэдакцыю**.

Адз. Н. *ліст* (2): АЛ; ЛР. Р. *лісту*: Т, 29. В. *ліст*: Т, 23.

**[ЛІСТАПАД]** *м.* Адзінаццаты месяц года. *..12 лістапада была адкрыта сесія Рады Б.Н.Р.* СНБ.

Адз. Р. *лістапада*: СНБ.

**[ЛІСТОК]** *м. Памянш.* Невялікі ліст дрэва. *Дакуль свайго не здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк не сьцягне і лістка*. УрП, 50.

Адз. Р. *лістка*: УрП, 50.

**[ЛІСТОЎКА]** *ж.* Друкаваны або рукапісны лісток палітычнага зместу. *..“Палітпрасьвета” ..надрукавала пабеларуску, як-бы адчэпнага, чатыры лістоўкі..* ВСп, 91.

Мн. В. *лістоўкі*: ВСп, 91.

**[ЛІСЦЕ], ЛІСЬЦЕ** (2) і **[ЛІСЬЦЁ]** *н., зб.* Лісты расліны. *І гайдае* [зводнік] *зялёнае лісьце*. Ч, 326. *..цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын*. ХБ, 29.

Адз. Н. *лісьце*: Ч, 326. В. *лісьце*: Ч, 326. Т. *лісьцём*: ХБ, 29. Мн. Р. *лісцяў*: Т, 33.

**ЛІТАРА** (6) *ж.* Пісьмовы знак са значэннем гуку мовы. *Хоць ты літара ўсяго, Дый мая ж за-тое*. $Ш_1$. *..вельмі ўжо многа гэтых тэрмінаў чужаземных, якія былі незразумелымі, так і засталіся – іх толькі перапісалі беларускімі літарамі..* ВСп, 89.

Адз. Н. *літара*: $Ш_1$. Мн. Т. *літарамі* (5): БСУ; ВСп, 89 (3); ПЛП.

**ЛІТАРАТУРА** (13) *жс.* **1.** Від мастацтва. *..ў галіне літаратуры, мастацтва гэтакіх посьпехаў і такога шпаркага разьвіцьця не адчувалася.* ДНСП. *Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру.* Нз, 14. *Параўн.* мастацкая літаратура.

**2.** Сукупнасць твораў па спецыяльных пытаннях. *Нелегальная літаратура, якую я* [Купала] *тады чытаў, была прасякнута нянавісцю да царызма і любоўю да свабоды і незалежнасці.* ПС. *..наш Камісарыят Земляробства абавязан ..падумаць аб тым. Каб поўнасьцю задаволіць літаратурай аб сельскай гаспадарцы нашых земляробаў..* ВСп, 90.

• **Мастацкая літаратура** – *тое, што* літаратура ў 1 *знач.* *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі ..на дасягненні нашай мастацкай літаратуры..* ШБСЯ.

Адз. Н. *літаратура* (2): АЛ; ПС. Р. *літаратуры* (4): ВСп, 89; ДНСП; ПЧ; ШБСЯ. В. *літаратуру* (3): ВСп, 89; Нз, 14; ПЧ. Т. *літаратурай* (3): ВСп, 90; Т, 56 (2). М. *літаратуры*: ЖН.

**ЛІТАРАТУРНА-ВЫДАВЕЦКІ** (2) *прым.* Які звязаны з выданнем літаратуры. *І літаратурна-выдавецкі аддзел рассыпаўся.* СНБ, 339. *Пры менскім камісарыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел.* Там жа.

Адз. м. Н. *літаратурна-выдавецкі*: СНБ, 339. В. *літаратурна-выдавецкі*: СНБ, 339.

**[ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ]** (2) *прым.* Які адносіцца да літаратуры і мастацтва. *Гістарычная пастанова ЦК Усе КП (б) рэарганізацыі літаратурна-мастацкіх арганізацый мае ня толькі ўсесаюзнае, але і сусьветнае значэньне.* ДНСП. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* Там жа.

Адз. ж. Д. *літаратурна-мастацкай*: ДНСП. Мн. Р. *літаратурна-мастацкіх*: ДНСП.

**[ЛІТАРАТУРНЫ]** (6) *прым.* **1.** Які адносіцца да беларускай літаратуры. ..[літаратурна-выдавецкі аддзел] *папраўдзе шчыра заняўся падгатоўкай літаратурнага беларускага матэрыялу.* СНБ, 339.

**2.** Звязаны са стварэннем літаратурных твораў. *Якую ролю я* [Купала] *асабіста і мая літаратурная творчасьць адыгралі ў гэтай контррэволюцыйнай дзейнасьці беларускага нацыянал-дэмакратызму?* АЛ. *На літаратурную ніву я* [Купала] *уступіў у 1905г., надрукаваўшы свой першы верш "Мужык".* Там жа.

**Прамова на 15-годдзі літаратурнай працы**.

Адз. м. Р. *літаратурнага*: СНБ, 339. ж. Н. *літаратурная*: АЛ. Р. *літаратурнай* (2): АЛ; ПЛП. В. *літаратурную*: АЛ. М. *літаратурнай*: АЛ.

**[ЛІТАСЦЬ]** (2) *ж.* Спагада. *Супрацоўнікі зірнулі на мяне з нейкай літасцяй*. Ан, 19.

◊ **Не даваць літасці** *гл.* даваць.

Адз. Р. *літасці*: РКП. Т. *літасцяй*: Ан, 19.

**[ЛІТВІНЫ]** (4) *мн. Уст. Тое, што* літоўцы. *Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі..* НДН, 18. *..Віленскі Баторaўскі Унівэрсытэт павінен і абавязан здаволіваць духоуные культурные патрэбы гэтых усіх трох народаў: палякоў, літвіноў і беларусаў.* УПУВ.

Р. *літвінаў* (3): НДН, 18; СНБ, 338; УПУВ; *літвіноў*: УПУВ.

**ЛІТОЎЦЫ** *мн.* Народ асноўнага насельніцтва Літвы. *..літоўцы (клеўен) цяпер паразумнели и цэлыми вёсками адрэкаюцца пиць гарэлку..* УП. *Параўн.* літвіны.

Н. *літоўцы*: УП.

**[ЛІТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ліць. Адліты з металу. *..сталі.. тысячы з медзі літых званоў хвалу яму* [Богу] *разносіць..* Кз, 17.

Мн. Р. *літых*: Кз,17.

**ЛІТЭРАЛЬНА** *прысл.* Дакладна, даслоўна. *..ураднік публічна адказаў літэральна вось што: "My – okupanci na szes'c tiesksy", а дзеле таго, ня маем патрэбы разумець беларускай мовы.* ОШМ.

**ЛІХА** (6) і *разм.* **ЛІХО** (3) *н.* **1.** Няшчасце, гора; бяда. *Цікавые людзі мы – беларусы! ..якое бы ліхо навокал нас і з намі саміми не рабілося, ..мы гэтага як бы ня бачым..* БС. *Мамкай служыла я на сваё ліха Некалі ў пані, так, з ласкі, задарма*. Мц, 75. *Параўн.* ліхата.

**2.** Нячыстая сіла. *..не вызывай лиха, кали яно спиць!* СП.

◊ **Што за ліха?** – вокліч незадавальнення. *Едзе* [Налівайка] *з шыкам і няціха, Тут рагатка – што за ліха?* НД. **Як на тое ліха** – не да месца. [Гарошка]: *..мала таго, што сам* [настаўнік] *носіцца ..з усялякімі мудрымі думкамі, дык яшчэ як на тое ліха, і маёй Аленцы ў галаве ўсё дагары нагамі перакуліў.* Т, 44.

Адз. Н. *ліха* (2): НД; Т, 53; *ліхо*: БС. Р. *ліха*: БС. В. *ліха* (3): Мц, 75; СП; Т, 44; *ліхо* (2): БС (2).

**[ЛІХАЛЕЦЦЕ]** (2) і **[ЛІХАЛЕЦЬЦЕ]** *н.* Час вялікай нягоды; ліха, гора, няшчасце ў такі час. *Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецьця – гэта мы самі.* БС. *Я* [Купала] *нарадзіўся і рос у цёмнае царскае ліхалецце..* ЖН.

Адз. Р. *ліхалецця*: ПБН; *ліхалецьця*: БС. В. *ліхалецце:* ЖН.

**ЛІХАНЬКА** *н. Ласк. да* ліха ў 1 *знач.* [Мікіта]: *О, ліханька! Каб хаця не ўваліліся* [немцы] *на імяніны..* Т, 24.

Адз. Н. *ліханька*: Т, 24.

**ЛІХАТА** *ж. Разм. Тое, што* ліха ў 1 *знач. Ліхата апанавала I капцы, і ськібы.* Дз, 191.

Адз. Н. *ліхата*: Дз, 191.

**[ЛІХІ]**[1] *прым.* Паганы, нядобры, злы. *Хай ідуць* [жаўнеры] *вайной На маю бяду – На ліхога звера.* ВБ.

Адз. м. В. *ліхога*: ВБ.

**[ЛІХІ]**[2] *прым. Руск.* Смелы, удалы, храбры. [Мікіта]: *(..напявае). Оруж'ем на сонцэ сверкая, Под звукі ліхіх трубачэй По уліцам пыль подымая, Проходзіл полк усачэй…* Т, 53.

Мн. Р. *ліхіх*: Т, 53.

**[ЛІХТАР]** *м.* Асвятляльны прыбор. *Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні..* ВБЛ, 80.

Адз. М. *ліхтары*: ВБЛ, 80.

**[ЛІЦЦА]** (6) *незак.* **1.** Ісці (пра дождж). *Верасень – мой* [С. Меча] *любімы месяц, але ў нас* [ у Расеі] *звычайна псуюць яго дажджы, што ліюцца цэлыя тыдні..* ХБ, 29. // *перан.* Хутка, імкліва капаць (пра слёзы). *Як чорная поліўка, ліліся яго* [пана рэдактара] *буйныя сьлёзы..* ЧЧШ.

**2.** *перан.* Разносіцца, раздавацца. *Не жылося мне даўней так, (льецца гэткі голас), Не такі мой быў палетак, Іншы меў ён колас.* Дз, 188. *I наўсцяж краінаю, Радасць услаўляючы, Песні салаўіныя Льюцца несціхаючы.* ПЛ.

◊ **Кроў льецца** *гл.* кроў.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *льецца* (2): Дз, 188; ХЛВ, 315. Мн. 3 ас. *льюцца*: ПЛ; *ліюцца*: ХБ, 29. Пр. адз. ж. *лілася*: ІП. Мн. *ліліся*: ЧЧШ.

**[ЛІЦЦА-ЗЛІВАЦЦА]** *незак. перан.* Аб'ядноўвацца. *Хай льюцца-зыльюцца ад хаты да хаты У вадно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!* В.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *льюцца-зыльюцца*: В.

**[ЛІЦЬ]** *незак.*: ◊ **Ліць кроў** – гінуць, змагаючыся за што-н. *Тварыць вы* [бальшавікі] *шлі і кроў лілі Сваю, чужую на зямлі.* ПВ.

Абв. пр. мн. *лілі*: ПВ.

**ЛІЧАЧЫ** *дзеепрысл. да* лічыць у 1 *знач. ..лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стапу, атрымаем 2650 пуд., г. ё. каля трох вагонаў беларускіх выданьняў.* ВСп, 91.

**[ЛІЧБА]** *ж. Разм.* Колькасць каго-н. *..толькі тое государство зможэ не дацца у крыўду або і перэмагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэных военнаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН.

Адз. В. *лічбу*: ВН.

**ЛІЧЫЦЦА** (2) *незак.* Адносіцца з увагай, павагай да чаго-н. *...ёсьць яшчэ і чацьвертая сіла* [на Беларусі]*, каторая прымусіць з сабою лічыцца. Гэта – сіла беларуская.* ВМР. *Ён* [абываталь] *лічыцца з тым, што ёсьць.* Там жа.

Інф. *лічыцца*: ВМР. Абв. цяп. адз. 3 ас. *лічыцца*: ВМР.

**ЛІЧЫЦЬ** (11) *незак.* **1.** Вызначаць колькасць, суму; падлічваць. [Аленка]: *..штук з сем* [люлек] *то пэўна ж татка выпыкаў.* [Гарошка]: *Не табе іх лічыць, сарока!* Т, 44. // *перан.* Назіраць, любавацца. *Днём смяецца* [лётчык] *сонцу у вочы, Ночкай зорнай зоры ліча.* СА, 191.

**2.** Расцэньваць, успрымаць, прызнаваць. [Гануля]: *..хоць вы* [Янка] *у нас нядаўна закватаравалі, а ўжо лічу вас як свайго чалавека.* Т, 19. ..[польскую мову] *ён* [беларус] *лічыць "сьвятой, касьцёльнай" мовай.* ВР.

Інф. *лічыць* (5): ДК; З; Т, 44; ХЛВ, 315 (2). Абв. цяп. адз. 1 ас. *лічу* (2): ЛР; Т, 19. 3 ас. *лічыць* (2): ВР; ПЧ; *ліча*: СА, 181. Пр. адз. м. *лічыў*: МІ, 17.

**[ЛІШКА]** (2) *ж.* Лішак. *Палякі мелі магчымасьці перарабляць беларусаў на палякоў цэлые трыста год з лішкаю і нічога ня ўскуралі.. Тое самае рабілі на працягу 125-ех год з лішкаю расійцы і гэтак сама нічога не зрабілі..* ДК. *Параўн.* лішніца.

Адз. Т. *лішкаю* (2): ДК (2).

**ЛІШНІ** (9) *прым.* **1.** Які застаецца звыш вядомай колькасці. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўнікам С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў featured рознага зместу рукапісаў..* ВСп, 91.

**2.** Непатрэбны, без якога можна абысціся. *..зямля пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым* [беларускім] *краю людзей.* ЗС, 18. *Баця лічыць іх* [гуманітарныя навукі] *"лішнімі" для сваіх рабочых.* ПЧ.

**3.** Дадатковы. *..страціць лишни грош на гэтые рэчы* [газеты і кнігі] *нашаму беларусу и у голаву не прыходзиць.* УП. *Таргуюцца* [паны гандляры] *за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, ..каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд рублёў.* Тж, 15.

Адз. м. Н. *лішні*: УП. Т. *лішнім* (2): ВСп, 91; УПУВ. ж. В. *лішнюю* (2): Т, 20; Тж, 15. н. Р. *лішняго*: ВН. Мн. Р. *лішніх* (2): ЗС, 18; Т, 23. Т. *лішнімі*: ПЧ.

**ЛІШНІЦА** *ж. Разм. Тое, што* лішка. *Мусім лучыцца ў гуртку і гэткім манерам закупліваць збожжэ для цэлай вёскі там, дзе яго ёсьць лішніца.* ВС.

Адз. Н. *лішніца*: ВС.

**ЛОГ** *м. Разм. Тое, што* луг. *Знай, хавалі нас* [жаўнераў] *Поле, бор, і лог*. ВБ.

Адз. Н. *лог*: ВБ.

**[ЛОЖА]** *н. Польск. Тое, што* ложак, пасцель. [Поп]: *Не врэмя лі подумаць нам і о ложэ в очаге домашнем.* Т, 28.

Адз. М. *ложэ*: Т, 28.

**[ЛОЖАК]** *м.* Мэбля, месца для пасцелі. [Гануля]: *Ложкаў, праўда, лішніх няма, дык во тут на падлозе што-небудзь падмосцім..* Т, 23. *Параўн.* ложа.

Мн. Р. *ложкаў*: Т, 23.

**ЛОЗУНГ** (7) і **[ЛЁЗУНГ]** (5) *м.* **1.** Заклік, зварот з пэўнымі задачамі. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і селян-беднякоў і сераднякоў розных нацыянальнасьцяй Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, контр-рэволюцыйныя бяларускія нацыянал-дэмократы супроцьставілі лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі, сэпаратысцкага разьяднаньня..* АЛ. *Калішніе лёзунгі "За нашу і вашу волю", "вольны з вольным, роўны з роўным" пашлі ў няпамяць..* СНБ.

**2.** Плакат з заклікам. *Па ўсіх свабодных мясцох расклеены па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты, лозунгі, загалоўкі тагачасных газет, плакаты*. Т, 43.

◊ **Выкінуць лозунг** *гл.* выкінуць. **Кідаць лозунг** *гл.* кідаць. **Кінуты лозунг** *гл.* кінуты.

Адз. Н. *лозунг* (2): НДН, 18; СНБ, 336. Д. *лёзунгу*: АЛ. В. *лозунг* (3): СНБ, 336; СНБ; Тж, 15; *лёзунг*: АЛ. Т. *лёзунгам*: СНБ. Мн. Н. *лозунгі*: Т, 43; *лёзунгі*: СНБ. Р. *лозунгаў*: Тж, 16. В. *лёзунгі*: СНБ.

**[ЛОКАЦЬ]** *м.* Частка рукі. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі.., – Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты..* К.

Адз. В. *локаць*: К.

**[ЛОМ]** *м. перан. Разм*. Пра таго, хто шмат і цяжка працуе. *..ад тых* [старэйшых сыноў] *быў гаспадаршы, Хоць быў* [малодшы сын] *у іх за лома*. Дз, 190.

Адз. В. *лома*: Дз, 190.

**ЛОМЯЧЫ** (3) *дзеепрысл. да* ламаць. [Гануля]: *(ломячы рукі, да немца). А мой жа паночак, а мой жа немчык! Не бярыце ў мяне апошняга Мікітку*. Т, 32. [Гануля]: *(ломячы рукі). Што тут рабіць? Што тут рабіць?* Там жа, 59. Т, 33.

**[ЛОТ]** *м. Уст.* Адзінка вагі (12г.). [Мікіта*]: Далей ідуць мае ..пайкі: сем фунтаў адборнай атрубянай мукі, ..два лоты солі.* Т, 46.

Мн. Н. *лоты*: Т, 46.

**[ЛОПАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Крыллем лопаць** – прыкладаць дарэмныя намаганні. *Без толку крыллем лопаем* [беларусы], *як цьмы*. Бч, 9.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *лопаем*: Бч, 9.

**[ЛУГ]** (5) *м.* Сенажаць, пераважна заліўная. *Твае коні, мае коні Пасля дзён трывожных Будуць пасвіціся разам На лугу мурожным.* ТЗУ, 293. *..скрозь каля поля, ..на краёх лесу, каля лугоў ..стаяць вялікія цяжкія калоды.* ХБ, 30. *Параўн.* лог.

Адз. Т. *лугам*: ЗЯЗ, 90. М. *лузе* (2): СС, 301, 302; *лугу*: ТЗУ, 293. Мн. Р. *лугоў*: ХБ, 30.

**ЛУГАНСКІ** *прым.* Родам з Луганска. *Наш слесар Луганскі, Нарком Абароны, Засядзе ў Вярхоўным Совеце ад нас.* НДп, 229.

Адз. м. Н. *луганскі*: НДп, 229.

**[ЛУЗАЦЬ]** (3) *незак.* Ачышчаць ад шалупіння. [Наста]: *..хто калі да рэвалюцыі у Менску лузаў семечкі? – ніхто! А цяпер усе і ўсюды – і дома, і на вуліцы, і нават у тэатры лузай сабе ды лузай, шапку на вушы нацягнуўшы.* Т, 28.

Абв. пр. адз. м. *лузаў*: Т, 28. Заг. адз. 2 ас.: *лузай* (2): Т, 28 (2).

**ЛУК** (6) *м.* Старажытная ручная зброя для стрэл. *Ямчэй нацягваецца лук, Цэль рассекаюць агнестрэлы..* Кц, 196. *..калі выхадзілі* [прашчуры] *з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17.

Адз. Н. *лук*: Кц, 196. В. *лук* (2): Кц, 194, 195. Т. *лукам* (2): Кз, 17; Кц, 196. Мн. В. *лукі*: УрП, 48.

**[ЛУНАЦЦА]** *незак. Тое, што* лунаць у 2 *знач. Лунаўся розгалас сьляпы…* УрП, 52.

Абв. пр. адз. м. *лунаўся*: УрП, 52.

**[ЛУНАЦЬ]** (12) *незак.* **1.** Плаўна лятаць, рухацца ў паветры. *Лунае груганнё ў прыволлі На ўсход, на захад, там і тут.* ГП, 8. *..у крывавым пыле Луналі груганы-крукі.* Там жа. // *перан.* Праносіцца (пра думку). *Між небам блакітным і чорнай зямлёй Сьвятляная думка лунала.* КП, 170.

**2.** *перан.* Раздавацца, шырыцца. *А песня ад сэрца, з-пад сэрца такая, Крылата лунае над полем, над гаем..* СС, 302. *Песні-вяснянкі ў далёкія далі Лунаюць у кожнай прыгодзе.* Там жа, 301. // *Вобразн.* Панаваць, адчуваецца. *Воля жывая лунае арліцаю..* ДПЛС. *Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі..* БН, 93. *Параўн.* лунацца.

◊ **Лунаць у міражах** – забывацца пра рэальнасць. *Лунай жа, саколе, у гэтых міражах, Пакуль цябе доля к зямлі не прывяжа.* АК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *лунае* (6): АК; БН, 93; ГП, 8; ДПЛС; ПЛП; СС, 302. Мн. 3 ас. *лунаюць*: СС, 301. Пр. адз. ж. *лунала* (2): КП, 170; ПН, 46. Мн. *луналі*: ГП, 8. Заг. адз. 2 ас. *лунай* (2): АК; См, 90.

**[ЛУНАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* лунаць у 1 *знач. Тыя шчыра дэмакратычныя думкі, лунаючыя яснымі красамі па цэлым свеце, аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай, найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН, 19.

Мн. Н. *лунаючыя*: НДН, 19.

**[ЛУЧНАСЦЬ]** *ж. Разм.* Еднасць. *Дзеле чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб палітычнай лучнасьці з Польшчай, калі усе робіцца на задор, на сварку, на калатню і варажнечу.* ОШМ.

Адз. М. *лучнасьці*: ОШМ.

**ЛУЧША** *прысл. Руск. Разм. Тое, што* лепш у 1 *знач. Я "Вестник" – пусьць лучша Маскоўскім прот* ["Виленский Вестник"] *шляхам!* Х.

**ЛУЧЫНА** (2) *ж.* Доўгая сасновая шчэпка для асвятлення (хаты). *Курна дыміцца ў хаціне лучына.* ВМ, 72. *..там, дзе дымілася дапатопная лучына, зіхаціць сонечная электрычная лампа..* ШБСЯ.

Адз. Н. *лучына* (2): ВМ, 72; ШБСЯ.

**[ЛУЧЫНКА]** *ж. Памянш. да* лучына. *..вокны ў хатах лучынками ды анучами пазалатываны..* ХЛБ.

Мн. Т. *лучынками*: ХЛБ.

**ЛУЧЫЦЦА** *незак. Разм.* Аб'ядноўвацца, яднацца, злучацца. *Мусім* [сяляне] *лучыцца у гурткі і гэткім манерам закупліваць збожэ для цэлай вёскі там, дзе яго ёсьць лішніца.* ВС.

Інф. *лучыцца*: ВС.

**[ЛУЧЫЦЬ]** (3) *незак.* Аб'ядноўваць, яднаць, злучаць. *Нешчасьце людзей лучыць – кажэ прыказка.* ВС. *Нішто іх* [бедакоў] *с сабой не лучыла – Ні крыльлі свабоды, ні скруты акоў…* ПН, 46.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *лучыць* (2): ВС; Пп, 5. Пр. адз. ж. *лучыла*: ПН, 46.

**[ЛУШЧЫЦЬ]** *незак. перан.* Раздзіраць. *Кроўю цёплай сьцюдзёныя вогнішчы тушыць* [чараўнік], *Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць.* Ч, 325.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *лушчыць*: Ч, 325.

**ЛЫЖКА** (4) *ж.* Сталовы прыбор для зачэрпвання стравы. [Янка]: *Праўдзівая кашуля, праўдзівы пояс і праўдзівая лыжка.* Т, 30. [Гарошка]: *(падаючы новую, дзераўляную, па-мастацку зробленую лыжку). А ад мяне прымеце* [Янка] *вось гэта…* Там жа.

◊ **Запрадаць за лыжку поснай поліўкі** *гл.* запрадаць. **Утапіць у лыжцы вады** *гл.* утапіць.

Адз. Н. *лыжка*: Т, 30. В. *лыжку* (2): ПЛП; Т, 30. М. *лыжцы*: Нз, 14.

**[ЛЫКА]** *н.* Палоска лубу з карой. ..[у каламажцы] *два селядцы, звязаныя лыкам..* Т, 45.

Адз. Т. *лыкам*: Т, 45.

**[ЛЫЧКА]** *н.* Нашыўка на пагоне. *Кали маеш брата, ци дарослаго сына, абходзься з ими ласкава, бо як высьвенцицца часам каторы на стражника, то аддасьць за лычка рэменьчыкам.* СП.

Адз. В. *лычка*: СП.

**[ЛЬДЗІНА]** *ж.* Кавалак лёду. *У параўн. Сонца сэрца яго* [сына] *растапіла, як льдзіну.* Ч, 324.

Адз. В. *льдзіну*: Ч, 324.

**ЛЮБАВАЦЦА** (2) *незак.* Паглядаць, разглядаць з задавальненнем, захапленнем. *Гаспадар той суважна свой шнур па святочнаму Абыходзіці будзе, красой любавацца..* ТС, 74. *..і ўсё мае жыцьцё любаваўся-б* [С.Меч] *гэтымі ляснымі дарожкамі, бягучымі некуды ў цень паміж соснаў.* ХБ, 29.

Інф. *любавацца*: ТС, 74. Абв. пр. адз. м. *любаваўся*: ХБ, 29.

**[ЛЮБАСЬЦЬ]** *ж. Разм. Тое, што* любоў у 2 знач. *..трэба ..паадчыняць усе чыста школы, якія існавалі на Беларусі, загадаўшы ім прышчапляць вучням любасьць да роднага краю..* ДК.

Адз. В. *любасьць*: ДК.

**[ЛЮБІМЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* любімы ў 2 *знач. Вы, таварыш Ежоў, адзін з любімейшых сыноў вялікай совецкай краіны..* НКУС.

Мн. Р. *любімейшых*: НКУС.

**ЛЮБІМЫ** (4) *прым.* **1.** Якому аддаецца перавага. *Верасень – мой* [С.Меча] *любімы месяц..* ХБ, 29.

**2.** Дарагі, блізкі сэрцу, які падабаецца. *Хай жыве вялікі, любімы і мудры правадыр народаў, - Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.* ЖН. *Мая* [Купалы] *песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандыдатах У Совет Вярхоўны.* НК.

Адз. м. Н. *любімы* (3): НК; ЖН; ХБ, 29. Мн. М. *любімых*: НК.

**ЛЮБІЦЬ** (16) *незак.* **1.** Кахаць, адчуваць сардэчную прыхільнасць. *Далі волю любіць Колю, Цяпер хочуць яе* [дзяўчыну] *ўняць..* ВБЛ, 82.

**2.** Адчуваць глыбокую адданасць. *Ты* [матка] *вучы яго* [сына] *любіці Усё сваё ў пашане мець.* М, 19.

**3.** Мець цягу, цікавасць. *..надзвычай цікавяцца яны* [культурныя дзеячы Чэхаславакіі] *і любяць совецкую літаратуру.* ПЧ. *Гаспадарку я* [Купала] *не любіў..* А, 328. // Быць схільным да чаго-н. *Перш, чым што зрабіць, абыватаь любіць распытацца людзей і параіцца з суседам.* ВМР. // Быць задаволеным чым-н. [Спічыні]: *..тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе.* Т, 40.

**4.** Падабацца, быць да спадобы. *Ніва! Як ня любіць мне таемны твой шум?* АР. [Янка]: *..не люблю я гораду: вельмі ўжо ў ім цяжкае паветра.* Т, 21.

Інф. *любіць* (6): АР; ВМР; ЕЯ; Т, 40; ВБЛ, 82; Ч; *любіці*: М, 19. Абв. цяп. адз. 1 ас. *люблю* (2): Т, 21, 41. 3 ас. *любіць* (4): ВМР; НДп, 229; НК; Т, 23. Мн. 3 ас. *любяць*: ПЧ; *любюць*: $Ш_3$. Пр. адз. м. *любіў* (2): А, 328; НДп, 229.

**ЛЮБОЎ** (5) *ж.* **1.** Каханне. *Радасць, гора мы* [сяброўкі] *дзялілі, А любоў не падзяліць.* ВБЛ, 82.

**2.** Пачуццё адданасці, сімпатыі, пакланення. *Мы* [дэлегаты] *з вялікай чуласцю выслухалі яе* [жанчыны] *апаваданне пра вялікую любоў яе сына да Леніна..* ПЧ. *Нелегальная літаратура, якую я* [Купала] *тады чытаў, была прасякнута нянавісцю да царызма і любоўю да свабоды і незалежнасці.* ПС. *Параўн.* каханне, любасць.

Адз. Н. *любоў*: ПЧ. В. *любоў* (3): ПЧ; СТ; ВБЛ, 82. Т. *любоўю*: ПС.

**ЛЮБЫ** (3) *прым.* Блізкі, мілы сэрцу. ..[публіка] *падхоплівала прывітанні, прымала нас як любых гасцей сваёй краіны.* ПЧ. *Як толькі находзіў вечар, я* [С.Меч] *выхадзіў на адну з сваіх любых дарожак.* ХБ, 29.

Адз. м. Н. *любы*: Пц. Мн. Р. *любых* (2): ПЧ; ХБ, 29.

**ЛЮД** (11) *м., зб.* **1.** *Тое, што* народ у 4 *знач. З вольнай дружынаю князь на пасадзе Вольнаму люду законы пісаў..* Н. *Каб таму па локаць адсушыла рукі.., - хто сушыў у няволі Люд наш працавіты..* К. // Людзі. *Зірнуць-жа.. На край, адкуль веяла цемрай, трывогай, Дзе люд катавалі ўразброд і агулам..* ТП, 214. // Пэўная сацыяльная група. *Люд рабочы, люд сялянскі Не засне ўжо болей.* ЗЯЗ, 90. *..за мае ранейшыя заслугі перад беларускім працоўным людам надалі мне* [Купалу] *высокую годнасьць Народнага паэты.* АЛ.

**2.** Зборышча каго-н., натоўп. *Але як скончыў* [чараўнік], *люд ня змоўчыў: Разгаманіўся, закрычаў..* УрП, 52.

Адз. Н. *люд* (4): ЗЯЗ, 90; МД; НК; УрП, 52. Р. *люду*: АЛ. Д. *люду*: Н. В. *люд* (3): К; Нз, 14; ТП, 214. Т. *людам* (2): АЛ; ЛПК.

**[ЛЮДАЖОР]** *м.*: Δ **Нямчур-людажор** *гл.* нямчур.

Мн. Р. *нямчур*: ХЛВ, 315.

**[ЛЮДАРЭЗ]** *м.*: Δ **Звер-людарэз** *гл.* звер.

Мн. Д. *людарэзам*: ПНд, 314.

**ЛЮДЗІ** (149) *толькі мн.* **1.** *Мн. да* чалавек. *Пад царамі, пад панамі мучыліся людзі..* ЗЯЗ, 89. *Цэлы свет ведае, самыя крывавыя бітвы, самае дзікае знішчэнне людзей і іх дабра ў гэту вайну – было на Беларусі.* АБ, 16. // Асобы пэўнага асяроддзя, саслоўя. *Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё сваё жыццё згубілі пад палкамі палачнага цара Мікалая І.* БВ, 16. *Слава таварышу Сталіну, чые клопаты натхняюць савецкіх людзей да такіх гераічных подзвігаў.* СБ.

**2.** Няпэўна дзеючыя асобы, пабочныя асобы. [Гануля]: *Але сам ён* [Спічыні] *кажа, што ён немец, людзі кажуць, што італьянец..* Т, 31. // *У параўн. Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей..* Нз, 14.

Δ **Людзі-героі**: *Аб людзях-героях, аб цвітучых нівах.. Былі твае песні, ашуг Дагестана.* ПСС, 232.

◊ **Вывесці ў людзі** *гл.* вывесці. **Выпраўляць у людзі** *гл.* выпраўляць. **Лезці ў людзі** (*іран.*) – імкнуцца стаць вядомым. *Слуцк –*

*павятовы гарадок – куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай!* МІ, 17. **Не пры людзях кажучы** *гл.* кажучы. **Пхнуцца ў людзі** *гл.* пхнуцца. **У людзі выйсці** *гл.* выйсці.

Н. *людзі* (70): АБ, 16 (3); БВ, 16; БЗУ; БН, 92; БС; В; ВВ, 263; ВМР; ВН; ВСп, 91; Г, 17; ГП, 8; ДК (5): ДПЛС; ЕЯ; Ж; ЖН; З (2); ЗС, 17; ЗЯЗ, 89, 90; Кц, 196; МІ, 17; МПв, 220; Н (2); Нз, 14; НДп, 229; НК (2); ПБН (3); ПГ; ПЛП; ПН, 47; ПСС, 231; ПТ, 207; ПЧ; СНБ, 340; СС, 300; ССА, 294; Т, 20 (2), 22, 31, 39, 44, 48 (2), 53, 54 (2), 57, 58; Тж, 15, 16; Ф; ХБ, 30; ХЛБ; Чж, 146, 147; $Ш_3$. Р. *людзей* (35): АБ (2); АР; ВМР; ВР; ВС (2); ДК (2); ЖН (2); З; ЗС, 18; М, 20; МІ, 17 (3); МП; Нз, 14; НДН, 19; НК; ПН, 47; ПЧ; СНБ, 336; СНБ; СС, 301; Т, 36, 47, 57; ТП, 216; УрП, 47 (2); ХБ, 30; ЦСБ; ЧС, 50-51. Д. *людзям* (11): Бч, 9; ГЖУ; ДК (2); НК; СНБ, 340; Т, 20 (2), 22, 36; ТП, 214. В. *людзей* (14): БВ, 16; ГП, 8; ЗК, 42; ЗЯЗ, 89; ПЧ; СБ; СЗГ, 252; СП; Т, 30, 43, 46; Тж, 16; УПУВ; ЦСБ; *людзі* (7): Вб, 237; ДПЛС; М, 20; МІ, 17; ПСС, 232; ПТ, 206; СС, 303. Т. *людзьмі* (9): ДЖ; ЗС, 18; Кз, 17; КЧ; МІ, 17; НДН, 18; УрП, 51; Ч, 324; ЧС, 50–51; *людзямі*: БрБ, 6. М. *людзях*: ПСС, 232; *людзёх*: Т, 27.

**[ЛЮДАЕД]** (2) *м. перан.* Чалавек-забойца. *Ён* [народ беларускі] *перарэжа горла людаеду, убійцу..* ПНд, 314. *Мы, згартаваныя сталінскай воляй, Смерцю сатром людаедаў..* СЗГ, 252.

Адз. Д. *людаеду*: ПНд, 314. Мн. Р. *людаедаў*: СЗГ, 252.

**ЛЮДЗКА** *прысл. Разм.* Чалавечна, пачціва, па-людску. *І шанавалі* [беларусы] *людзка, сьвяточна Ў будні, у нядзелі* [людзей чужых]. Чж, 146.

**[ЛЮДЗКІ]** (8) і **[ЛЮДСКІ]** (3) *прым.* **1.** Які належыць людзям, мае адносіны да людзей. *Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46. *Аплятае* [забабон] *зьмяіным ланцугом і душы і сэрцы людзкіе.* З. // Які ажыццяўляецца чалавекам. *Людзкое помсты рух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым.* УрП, 52. *..надзейся, што ..не згіне Уся прысяга твая ў горнай ціне перасудаў людскіх…* См, 91.

**2.** Чалавечы, уласцівы чалавеку. *..мілай пацехай зазьзяла І доля і слава людзкая..* Кр, 77. *А нашы дарогі! Праз немарач, нетры, На радасць людскую, як стрэлы ляглі.* ПБН.

Адз. ж. Н. *людзкая*: Кр, 77; *людская*: Тж, 15. Р. *людзкое*: УрП, 52. В. *людзкую*: З; *людскую*: ПБН. н. Р. *людзкага*: СНБ. Д. *людскому*: ПЛП. В. *людзкое*: З. Т. *людзкім*: УрП, 46. Мн. Р. *людзкіх*: См, 91. В. *людзкіе*: З.

**ЛЮДНОСЦЬ** і **[ЛЮДНОСТЬ]** *ж. Польск. Тое, што* насельніцтва. [Заходні вучоны]: *Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэнзі родове: племен бялорусінув і племен тэж-бялорусінув з походзэня рэнэгатув і дэгэнэратув.* Т, 26. [Заходні вучоны]: *Цо сень тычы граніц політычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людності вшэхпольскей пшэдставене бардзо не яснэ.* Там жа, 47.

Адз. Н. *людносць*: Т, 26. Р. *людності*: Т, 47.

**[ЛЮДЦЫ]** *толькі мн. Разм. Ласк. да* людзі ў 1 *знач. Мучыць вораг нас заўзяты: Папаліў нам нашы хаты, Патапіў нам наша поле, Пакараў людцоў няволяй*. ГЖУ.

В. *людцоў*: ГЖУ.

**[ЛЮЛЬКА]** (7) *ж*. Піпка, прылада для курэння, якая складаецца з цыбука і галоўкі, пустой унутры, у якую насыпаюць тытунь. *..сядзіць Гарошка і пыхкае люльку*. Т, 43. *Лявон Гарошка – паважаны селянін, заўсёды з люлькай*. Там жа, 19.

Адз. Р. *люлькі*: Т, 25. В. *люльку* (3): Т, 29, 43, 52. Т. *люлькай* (3): Т, 19, 33, 37.

**ЛЮЛІ-ЛЮЛІ** *выкл.* Прыпеў пры закалыхванні дзіцяці. *Калышы* [сынка], *пей* [маці] *люлі-люлі, Пей паціху баю-бай!* М, 19.

**ЛЮСТРА** (6) *н*. Адшліфаваная паверхня шкла, у якой адбіваюцца прадметы. *Наста круціцца каля люстра*. Т, 24. *Дастае* [Мікіта] *з шуфляды ў стале чыноўніцкія адзнакі і перад люстрам прымяркоўвае іх.* Там жа.

Адз. Н. *люстра* (2): Т, 19, 43. Р. *люстра* (2): Т, 24, 53. Т. *люстрам*: Т, 45. Мн. Т. *люстрамі*: Т, 24.

**[ЛЮСТЭРКА]** *н. Памянш. да* люстра. [Наста]: *Без усякае цэрэмоніі дзявоцкаму стану канкурэнцыю* [Мікіта] *робіце: - як кокетка, фліртуеце з люстэркам*. Т, 24.

Адз. Т. *люстэркам*: Т, 24.

**[ЛЮТАВАЦЬ]** *незак*. Праяўляць лютасць, жорсткасць у дзеяннях, учынках. *На "крэсах усходніх" лютуе жандар.* ПБН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *лютуе*: ПБН.

**[ЛЮТЫ]**[1] *прым. перан*. Бязлітасны, жорсткі. *Пакараем катаў Самай лютай карай!* МПв, 219.

Адз. ж. М. *лютай*: МПв, 219.

**[ЛЮТЫ]**[2] *м*. Другі месяц каляндарнага года. *1-я дзея* [у п'есе "Тутэйшыя"] *адбываецца ў лютым 1918г. ..* Т, 19.

Адз. М. *лютым*: Т, 19.

**ЛЮЦЫПАР** *м. Міф*. Сатана. [Янка]: *Толькі ж думак нашых і сам люцыпар не раскідае..* Т, 22.

Адз. Н. *люцыпар*: Т, 22.

**ЛЯ**[1] (12) *прыназ. з Р. Разм. Тое, што* каля ў 1 *знач. Ля цёмнай вецьвістай дубравы Народ зьбіраўся і чакаў.* УрП, 47. *У Прасценаве нас* [дэлегатаў] *ля будынку ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых воклічамі ў гонар СССР.* ПЧ. ВБ; ГЖУ (3); ЗК, 42; ПСС, 231; ПЧ; СА, 181; УрП, 47 (2).

**ЛЯ**[2] (3) *артыкль Франц*.: ◊ **А ля** *гл*. а.

**ЛЯВОНІХА** *ж. Вобразн*. Завея. *Лявоніха, мяцеліца… Без памяці вяселіца…* Бз.

Адз. Н. *лявоніха*: Бз.

**ЛЯГЧЭЙ** (2) *прысл. Пар. ст. да* лёгка. *У хаўрусе шмат лягчэй і карысьней гэта рабіць*. ВС. *Каб лягчэй было абхапіць і разабрацца ў тым, што зроблена за такі кароткі працяг часу, ..мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час..* ВСп, 89.

**ЛЯДАЧНЫ** *прым. Польск*. Распусны. *Захапіў яго* [першага сына] *похмур лядачны, крывавы.* Ч, 320.

Адз. м. Н. *лядачны*: Ч, 320.

**ЛЯЖАЦЬ** (20) *незак*. **1.** Знаходзіцца, размяшчацца на якой-н. паверхні нерухома. *..перада мной* [Купалам] *ляжыць беларуская часопісь "Наша Каляіна"*. МІ, 17.

**2.** Займаць якую-н. прастору, размяшчацца. [Янка]: *..асабліва павінна яго* [Мікіту] *пацягнуць туды, адкуль прыйшоў – на вёску, дзе столькі поля някратанага ляжыць*. Т, 20. *Меншчына ляжыць трошкі больш на поўдзень за Маскву..* ХБ, 29.

**3.** Праходзіць, пралягаць; мець напрамак куды-н. *Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся…* Кз, 17.

**4.** *перан*. Знаходзіцца на чыёй-н. адказнасці. *На земствах ляжыць ешчэ іншы важны абавязак – гэта агранамічная і лекарская помач селянам*. ВС.

◊ **Сэрца ляжыць** *гл.* сэрца. **Ляжаць у аснове** – з'яўляцца асновай чаго-н. *I хаця ў аснове закону ляжыць справядлівы наказ, але ў жыцьці ён сілы ніякай ні мае..* ВР.

Інф. *ляжаць*: ПСп. Абв. цяп. адз. 3 ас. *ляжыць* (14): ВБЛ, 81; ВР; ВС; ЗК, 42; МІ, 17; Т, 20, 21 (3), 29 (4); ХБ, 29. Пр. адз. ж. *ляжала* (4): Ан, 19 (2); Б, 18; Кз, 17. Мн. *ляжалі*: СНБ, 336.

**[ЛЯЖАЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* ляжаць у 1 *знач*. [Гарошка]: *Рынулі* [казакі] *ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ..* Т, 43.

Адз. м. В. *ляжачы*: Т, 43.

**ЛЯМАНТ** і **[ЛЯМЭНТ]** *м*.: ◊ **Лямэнт, галосячы у пустыні** – безадказны заклік, мальба. *..ўсё гэта засталося лямэнтам, галосячым у пустыні*. ОШМ.

**Лямант пана Кавалюка**.

Адз. Н. *лямант*: ЛПК. Т. *лямэнтам*: ОШМ.

**[ЛЯМКА]** *ж*.: ◊ **Цягнуць лямку** *гл.* цягнуць.

Адз. В. *лямку*: ВС.

**ЛЯМЭНТ** *гл.* **ЛЯМАНТ.**

**[ЛЯОЯНСКІ]** *прым. Кіт*. Які мае адносіны да Ляояну. *У час ляоянской битвы афицэр камандаваў ротаю и жыў з жонкаю й дачкою ў китайским доме (фаизе).* ПДз.

Адз. ж. Р. *ляоянской*: ПДз.

**[ЛЯПІЦЦА]** *незак. перан. Разм.* Прыліпаць, вырастаць. *Між гор шапталіся крыніцы, Ляпіўся мох да стрэх з драніц.* УрП, 47.

Абв. пр. м. адз. *ляпіўся*: УрП, 47.

**[ЛЯСІСТЫ]** *прым.* Пакрыты лесам. *Пакуль жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў..* ХБ, 28.

Мн. Р. *лясістых*: ХБ, 28.

**[ЛЯСНЫ]** *прым.* Які знаходзіцца ў лесе, уласцівы яму. *Усё маё жыццё любаваўся-б* [С.Меч] *гэтымі ляснымі дарожкамі..* ХБ. 29.

Мн. Т. *ляснымі*: ХБ, 29.

**[ЛЯТАЦЬ]** *незак. Тое, што* ляцець. *А вернемся стуль, дзе лятaлі* [хлопчык і лётчык], *Дзе ворагі трупам ляглі..* ХЛВ, 316.

Абв. пр. мн. *лятaлі*: ХЛВ, 316.

**[ЛЯТУЦЕНЬНЕ]** *н.* Мара. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год ..не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму*. АЛ.

Мн. Р. *лятуценьняў*: АЛ.

**[ЛЯХ]** (2) *м. Уст.* Паляк. *“Gazeta” бармоча: Нех бэндзе ён* [беларус] *ляхам..* Х. *Просім папросту: кіньце нас* [беларусаў] *мучыць, Ляхі, маскалі!* Пп, 5.

Адз. Т. *ляхам*: Х. Мн. Н. *ляхі*: Пп, 5.

**ЛЯЦЕЦЬ** (11) *незак.* Нерамяшчацца, рухацца ў паветры пры дапамозе крылаў у пэўным кірунку. *З’еўшы сэрца, я* [груган] *ляту, Косці падбіраю.* Пц. // Перамяшчацца ў паветры пры дапамозе механізмаў. *Цяпер не малы я ўжо хлопчык – Сам-раз ляцець разам у бой.* ХЛВ, 315. // *перан.* Разносіцца ў паветры, распаўсюджвацца (пра гукі). *..рэха ляцела дарогаю слаўнаю..* ПСС, 232. *Звіні звонка, мая песня, Ляці вышай, далей!* НК. // *Вобразн.* Вяртацца. *Ажно часам жальба, як кляцьба, разьлягалася, Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад*. Б, 18. *Параўн.* лятаць.

Інф. *ляцець* (3): МСП, 187; ХЛВ, 315, 316. Абв. цяп. адз. 1 ас. *ляту*: Пц. 3 ас. *ляціць*: СС, 301. Пр. адз. м. *ляцеў* (3): МСС, 187 (3). ж. *ляцела* (2): Б, 18; ПСС, 232. Заг. адз. 2 ас. *ляці*: НК.

**ЛЯЧЫЦЦА** *незак.* Набірацца сіл. *Антанта ..тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца.* Ан, 19.

Інф. *лячыцца*: Ан, 19.

# М

**МАБЫЦЬ** (16) *пабоч.* Напэўна, магчыма, відаць. [Мікіта]: .. *яна* [Наста Пабягунская] *першая ды, мабыць апошняя слабасць майго сэрца.* Т, 23. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, мабыць папраўдзе немец стукае, бо далікатна.* Там жа, 32. *Параўн.* магчы ў *4 знач.*

Т, 20,30,32 (2), 37 (2), 44, 45 (2), 54, 56, 57, 58, 62.

**МАГА** (2): ◊ Як **мага** – колькі ёсць сілы, магчымасці. *Што хто ні кажа, а мы* [сяляне] *як мага засейваймо свае шнуры.* РКр. *...паныабшарнікі стараюцца перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17.

**[МАГАЗІН]** *м.* Крама. *Так хітра прыкрываючы эксплуататарства, Баця закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ.

Мн. Р. *магазінаў*: ПЧ.

**МАГАЗЫН** (3) *м. Уст.* Будынак для захавання збожжа. *Вось-жэ калі с толкам пажычаць будзе магазын.. збожа, то не адна сем'я запаснога будзе як сьлед накормлена.* ВС. *Хай бяруць з магазыноў толькі тые, хто папраўдзе не мае што купіць..* Там жа.

Адз. Н. *магазын*: ВС. Мн. Р. *магазыноў*: ВС. М. *магазынах*: ВС.

**МАГІЛА** (23) *ж.* **1.** Яма для пахавання. *Я пракляну іх* [паноў] *праклятую сілу, Каб і ў магіле іх грызла пракляцце.* Д, 73. *Аж прадзедаў косьці ня ўлежаць пад крыжам, – Што ночы выходзяць з магіл. ЗК, 43.* // Магільны насып. *Яшчэ дыміцца скрозь пажарышча... Растуць магілы скрозь яшчэ..* ГП, 8. *Раслі магілы... зваў прарок... Рос вашай* [бальшавікоў] *моцы блеск і мрок.* ПВ. // Месца пахавання. .. [т. Кальцоў] *перадаў ёй* [жанчыне] *букет кветак з просьбай ускласці на магілу сына.* ПЧ.

**2.** *перан.* Мінулае. *I вось к вам* [бальшавікам] *вылез цень з магіл: Крывавы грош і "гаспадзін"..* ПВ.

**3.** *вобраазн.* Разваліны ..[ Польшча] *ўваскрэсла на магіле быўшай Расіі ды Нямеччыны і Ааўстрыі ..* СНБ.

**Сярод магіл.**

∆ **Акопы-магілы** *гл.* акопы. **Матка-магіла** *гл.* матка**.**

◊ **Гнаць у магілу** *гл.* **гнаць. Ісці ў магілу** *гл.* ісці. **Загнаць ў магілу** *гл.* загнаць. **Хай калом магіла будзе –** ужываеццы як праклён шкоднаму чалавеку. *Хай калом магіла Для вас, злыдні, будзе..* МПв, 220. **Магілу парыць** *гл.* парыць. **Сыйсці ў магілу** *гл.* сыйсці.

Адз. Н. *магіла* (2): МПв, 220; ПН, 46. Р. *магілы* (2): МПв, 220; ЧС, 50–51. В. *магілу* (4): Дз, 73; 3; Мц, 74; ПЧ. Т. *магілай* (3): Дз, 187; КЯ; СА, 158. М. *магіле* (2): Д, 73; СНБ. Мн. Н. *магілы* (2): АБ, 16; Кр. М. *магілах*: ГП,8.

**[МАГІЛКА]** *ж. Памянш.* да магіла ў 1 *знач. Тарчэлі хвойныя капліцы, цьвілі магілкі для капліц.* УрП, 47.

Мн. Н. *магілкі:* УрП, 47.

**МАГІЛЬНІК** *м. Руск.* Могільнік. *Вы ускрэсьнеце, жыды, усьлед за Беларусяй, – Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць, Хоць наш магільнік кветкай апрануўся, Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць!* Ж.

Адз. Н. *магільнік:* Ж.

**МАГІЛЬНЫ** (4) *прым.* **1.** Які мае адносіны да магілы ў 1 знач. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай Жылы белыя чорным патрэбам, ..Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека, Даць папас на магільным папасе..* Ч, 325.

**2.** Такі, як ў магіле. *Салодкі сон, магільны сон Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.* Кц, 197. *Шле* [неба] *буры, громы з перунамі, Каб сон збудзіць магільны твой* [беларус]. БрБ, 6.

Адз. м. Н. *магільны (2):* Кц, 192, 197. В. *магільны:* БрБ, 6. М. *магільным:* Ч, 326.

**[МАГІСТРАТ]** *м. Гіст.* Гарадское ўпраўленне. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны.. мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах, у магістратах..* ПЧ.

Мн. М. *магістратах:* ПЧ.

**МАГНЭС** *м. Польск.* Магніт. [Ганулэ]: *Хацел*і [вучоныя] *даведацца, які магнэс болей вас* [Янку] *да сябе цягне – усходні ці заходні.* Т.54.

Адз. Н. *магнэс:* Т, 54.

**МАГУТНА** *прысл.* Моцна, значна. *І ў апошнія гады я* [Купала] *усімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне..* АЛ.

**[МАГУТНАСЦЬ]** (2) і **[МАГУТНАСЬЦЬ]** (2) *ж.* Сіла, моц. *Ці ж ён* [беларускі народ], *вякі ваюючы для славы і магутнасьці сваіх суседзяў, ня варт быў таго, каб адваяваць хоць крыху гэтай славы і магутнасьці для самога сябе, для свайго краю.* ДД. *Гэта*

*раз'юшаная антысовецкая брахня.. разаб'ецца, як аб недаступную скалу, аб магутнасць і з'яднанасць рабочых і калгаснікаў Савецкай Беларусі..* ШБСЯ.

Адз. Р. *магутнасьці* (2): ДД (2); *магутнасці:* БВ, 16. В. *магутнасць:* ШБСЯ.

**МАГУТНЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* магутна. *І чым бліжэй да яе* [комуністычнай грамады], *тым магутней будзе папаўняцца гэты* [стаханаўскі] *рух мільенамі працоўных.* СТ.

**[МАГУТНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* магутны *ў 1 знач. Забабон жывы і на Беларусі, а уладаньне яго тут, бадай, магутнейшае.. як на цэлым сьвеце.* З.

Адз. н. Н. *магутнейшае:* З.

**МАГУТНЫ** (11) *прым.* **1.** Вялікі, значны. *У Савецкай Беларусі росквіт культуры такі магутны, пра які я* [Купала] *і не мог сніць у дарэвалюцыйныя часы.* А, 328.

**2.** Заможны. *Дружба* [Фінляндыі] *з магутным усходнім суседам Будзе граніц непахіснаю стражай.* Ф.

**3.** Уладарны. *І пабачыў ён* [Сталін], *магутны, Сваім вокам ясным, Што находзіць час расплаты За людзей няшчасных.* ЗЯЗ, 89. *Засяе* [Сталін] *рукою* [шчасце] *Дбалаю, магутнай, Толькі чутны песні, Радасць толькі чутна.* РКр. *Параўн.* магучы.

**4.** Надзелены вялікай баяздольная сілай. *У Прасценаве нас* [дэлегатаў] *ля будынку ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых воклічамі ў гонар СССР, яго магутнай Чырвонай арміі.* ПЧ. *Я* [Купала] *вітаю сардэчнымі словамі паэта нашу магутную Чырвоную армію..* ЖН.

Адз. м. Н. *магутны* (2): А, 328; ЗЯЗ, 89.Т. *магутным* (2): ПЛП; Ф. ж. Н. *магутная*: НДН; 18. Р. *магутнай*: ПЧ. В. *магутную:* ЖН. Т. *магутнай* (2): РКр; СТ. н. В. *магутнае* (2): З; Пт.

**[МАГУЧЫ]** (2) *прым. Руск.* **1.** *Тое, што* магутны ў 3 *знач. Як сільным, магучым праз песьню стаў ён* [народ], *– Зноў пошэсць есьць стала памалу..* ПН, 47.

**2.** Дужы, здаровы. *Так магучы, яснасьветны На пагляд былі ўсе* [сыны], *Хоць да бою з апраметнай… Ажно сьвет дзівіўся!* Дз, 189.

Адз. м. Т. *магучым*: ПН, 47. Кар. мн. Н. *магучы*: Дз, 189.

**МАГЧЫ** (142) *незак.* **1.** *Быць у стане зрабіць што-н. ..хай пойдзе кліч па усей Беларускай зямлі, ..што надыйшоў дзень беларускага народу, калі ён можа збройна заступіцца за сябе самога і за сваю Айчыну.* БСУ. *Зямельная спекуляцыя небяспечна цяпер для ўсіх – і для тых, што прадаюць, і для тых, што купляюць, а нават і для тых, што могуць спыніць гэта злачінства.* ЗС, 18. // Мець магчымасць. *Далі такія ў нас ясныя і прыгожыя, людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх можа стаць героем у любы час, у любы*

*міг.* ЖН. *Адзін, адзін раз толькі ў год Зьбірацца можам* [духі] *з ласкі Рока, Каб лет іржавы карагод Зганяць з мінуўшчыны далёкай..* Кц, 93. // Быць здольным здейсніць што-н. *А потым настаў ціхі, залаты вечар, такі вечар, што каб я мог, я* [С.Меч] *спыніўбы яго ды зрабіў яго бясконцым..* ХБ, 29.

**2.** Мець права. *Аб "Думе" можэш думаць, колькі ўлезе, але гаварыць голасно асьцерагайся..* СП. [Спічыні]: *Можаце думаць усё, што толькі вам* [Мікіту] *падабаецца, але гаварыць* [перад аўдыторыяй] *абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца.* Т, 40.

**3.** Абазначае магчымасць якога-н. дзеяння. *Не старайся зямли хаця-бы и купиць, бо са стараны часам могуць падумаць, што дамагаешся "зямли и свабоды"* .. СП.

**4.** Абазначае верагоднасць дзеяння. [Мікіта]: *Медждy протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфелі – можа дзе пад комін ці куды іх падсуньце.* Т, 50. [Мікіта]: *Вы* [Янка], *можа, параіце мне яшчэ і вашага Тарашкевіча граматыку зубрыць?* Там жа, 48. *Параўн.* мо, можа[2].

◊ **І рэчы быць не можа –** нельга нават і гаварыць. [Аленка]: *Але толькі – беларускіх* [кніг], *дзядзька настаунік* [набяром]! [Янка]: *Аб іншых і рэчы быць не можа.* Т, 30. **Можаце сабе ўявіць** *гл.* уявіць. **Не можа быць –** воклiч, які выражае сумненне. *Гэта-ж ня можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам для нас, як мы* [беларусы] *самі для сябе.* БС.

Інф. *магчы* (2): Т, 35, 40. Абв. цяп. адз. I ас. *магу* (9): ЖН; ЛР (2); ПЧ; Т, 22, 32, 33, 41, 62. 2 ас. *можаш* (6): Бч, 9; 36, 17 (2); См, 90 (2); Т, 37; *можэш*: СП. 3 ас. *можа* (69): Бч, 9; Бц, 74; БС; БСУ (2); ВБЛ, 80, 82; ВМР; ВСп, 90; ГНД (2); ДК (3); ЖН (2); ЛПК; МП (2); Нз, 15; НДН, 18; (3); Р; РКр; СБНГ; СМ; Т, 22 (2), 23 (2), 24, 26, 28, 29, 30, 32 (2), 34 (4), 35 (2), 36 (2), 37, 38 (2), 41, 42 (2), 45, 47, 48 (2), 49, 50, 52, 54, 55, 56, 58, 61 (2), 62; Ч, 322; ШБСЯ; *можэ* (5): ВС (2); Дз, 187, 191; СП. Мн. 1 ас. *можам* (7): Кц, 193; СБНГ; Т, 31, 35 (2), 40, 49; *можэм*: В; *можамо*: СБНГ. 2 ас. *можаце* (11): 3 (2); ПС; ПЧ; Т, 19, 40, 41 (2), 49, 53, 54; *можэце*: Т. 39. 3 ас. *могуць* (8): ВМР; ВН; ВС (2); ЗС, 18; СНБ; СП. Пр адз. м. *мог* (13): А, 328; АЛ; ВСп, 91; ГЖУ; З; СК, 158; СНБ, 338, 339; УрП, 46, 47,49; ХБ, 28, 29. ж. *магла* (2): ЖН; ХБ, 30. Мн. *маглі* (6): ВС; НДН, 18; СБ; Т, 20,54; ЧС, 50-51.

**МАГЧЫМА** (3) *прысл.* Напэўна, мабыць, можа быць. *Магчыма, што і быў* [беларускі гымн] *– можа яго замяніла якая выдатная духоўная песьня.* СБНГ.

**2.** У *знач. вык.* Рэальна, здзяйсняльна. *Ці магчыма будзе гэтак устроіцца з галоднымі на зямлю людзмі і ў будучыне – вось пытанне?* ЗС, 18. *Прошлы раз я* [Купала] *ужо выясніў, на сколькі гэта магчыма было ў кароткай газетная стацьці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь..* СБНГ.

**[МАГЧЫМАСЬЦЬ]** (10) і **[МАГЧЫМАСЦЬ]** (4) *ж.* **1.** Магчымае ажыццяўленне, здзяйсненне чаго-н. *Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасці Цішку Гартнаму надрукаваць увесь матар'ял, які павез з сабой у Нямеччыну.* ВСп, 91. *Мы пішам гэта не дзеле таго, каб надрукаваць і даць магчымасьць прачытаць.* ОШМ.

**2.** Умовы для здзяйснення чаго-н. *Палякі мелі магчымасьці перарабляць беларусаў на палякаў цэлые трыста год з лішкаю і нічога ня ускуралі..* ДК. *Але ўсе-ж такі ў гэтым напрамку я зрабіў вельмі мала, не зважаючы на тыя магчымасьці, якія мне давала партыя і савецкая ўлада.* АЛ.

**3.** *перан. толькі мн.* Сродкі. *Мы* [Дэлегаты] *былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак і яму пагражала камедыя "таварыскага суда"..* ПЧ.

◊ **Па магчымасьці –** наколькі магчыма. *.. мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час, а пасьля, па магчымасьці, пяройдзем да характарыстыкі паасобных кніг і выдавецтваў.* ВСп, 89. **Па сіле магчымасьці** *гл.* сіла.

Адз. Р. *магчымасьці* (4): ВС; ВСп, 91; ОШМ; РКр. В. *магчымасьць* (3): БСУ; ОШМ (2); *магчымасць*: БВ, 17. М. *магчымасьці*: Вса, 89. Мн. Р. *магчымасцей*: ПЧ. В. *магчымасьці* (2): АЛ; ДК; *магчымасці* (2): СТ; ЦСБ.

**[МАГЧЫМЫ]** *прым.* Дапушчальны, верагодны. *На першай чародзе стаіць у нас пытаньне, як забяспечыцца перэд магчымай нестачай харчоў для сябе і для жывёлы.* ВС.

Адз. *ж.* Т. *магчымай*: ВС.

**МАДАМ** (29) *і разм.* **МАДАМА** (11) *ж. Франц.* Зварот да жанчыны. [Дама]: (*вітаючыся з Гануляй*). *Ах, мадам, да чаго мы дажыліся.* Т, 57. [Мікіта]: *А цяпер, высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.* Т. 28.

∆ **Мадама музей** (2): [Гануля]: *Панечка... Мадама музей! Калі ласка, вось гэты далікатны кусочак яшчэ!..* [Мікіта]: *Между протчым, мамаша, не мадам музей, а мадам-сіньёра...* Т, 28. Мадам-сіньёра (20) [Мікіта]: *Ах! Каго я, меджду протчым, бачу! Мадам-сіньёра – цалую ручкі.* Т, 51 [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, я ўвесь да вашых, меджду протчым, услугаў!* Там жа.

Адз. Н. *мадам* (29): Т, 22 (2), 24, 25, 28 (6), 29 (3), 34, 37 (4), 38, 51 (3), 52, 53, 57 (2), 58, 59 (2); *мадама* (4): Т, 28, 34 (2), 54. Т. *мадамай*: Т, 22. Мн. Н. *мадамы* (5): Т, 28, 29, 40,43, 58. В. *мадамаў*: Т, 28.

**[МАДОНІСТЫ]** *прым. Нaватв.* Вельмі прыгожы. [Мікіта]: *Мадоністая мамзэль Наста! Падаруйце ж мне, нарэшце, сваю.. руку і ..сэрца.* Т., 42.

Адз. ж. Н. *мадоністая*: Т, 42.

**[МАЁМАСЦЬ]** *ж.* • **Рухомая маёмасць** – маёмасць з каштоўнасцей, мэблі, рэчаў. [Спічыні]: *..стоячы на скверы каля вадакачкі, бачыў, як вы* [Мікіта] *з іншымі цягалі рухомую маёмасць з кватэры таварышча Боршчыка.* Т, 60.

Адз. В. *маёмасць*: Т, 60.

**[МАЁНТАК]** (8) *м. Польск.* Зямельнае ўладанне. [Мікіта]: *Буржуазія з усіх сіл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата або кусок якого маёнтку..* Т, 40. *Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй, якая тут толькі аб адным дбала, каб як цяплей пагрэць рукі ды захапіць "маёнтак".* Нз, 14. // Сядзіба, двор. *У 1883 г. Ён* [Бацька Купалы] *служыў у маёнтку Юзэфава ў памешчыка Багдановіча..* А, 328.

Адз. Р. *маёнтку*: Т, 40. В. *маёнтак*: Нз, 14. М. *маёнтку* (4): А, 327, 328 (3). Мн. Р. *маёнткаў*: Т, 28. М. *маёнтках*: А, 329.

**МАЖЫЦЬ** (2) *незак. Польск. Тое, што* думаць у 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа не мажон і мажыць собе не жычон* [белорусы].. Т, 47.

Інф. *мажыць*: Т, 47. Абв. Цяп. мн. 3 ас. *мажон*: Т, 47.

**[МАЗОЛІСТЫ]** *прым.* Пакрыты мазалямі; з мазалямі. *Мы самі сведкамі таго, што кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачах буйнай квятністай руняй..* ПЛП.

Адз. ж. Т. *мазолістай*: ПЛП.

**МАЗОЛЬ** (2) *м. перан.* Працаўнік, работнік. *..спаленую хату беларускі мазоль адбудуе..* ПЛП. *Яны* [беззямельныя] *назіраюць толькі.., як гэта зямля, каторая па боскаму праву павінна была дастацца іхнім працавітым мазалям, – зямля пападае рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* ЗС, 18.

Адз. Н. *мазоль*: ПЛП. Мн. Т. *мазалям*: ЗС, 18.

**[МАЗОЛЬНЫ]** *прым.* Які націрае мазалі. *Намі пройдзен вялікі і цяжкі шлях. Ад саматужных майстэрняў да Сталінграда, да Гомсельмаша і ад мазольнай сахі да трактара і камбайна..* ВГР.

Адз. ж. Р. *мазольнай*: ВГР.

**[МАЙ]** (2) *м.* Пяты месяц года. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага.* ПЛ. *Юны чэрвень молада Больш за май вяселіцца.* Там жа.

Адз. В. *май* (2): ПЛ (2).

**[МАЙСКІ]** *прым.* Першамайскі. *Ці майскае свята ў жывым карагодзе, Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць, Як песня жыве яго* [Сталіна] *імя ў народзе.* СС, 302.

Адз. н. Н. *майскае*: СС, 302.

**МАЙСТРА** *м. Разм.* Майстар. *..ён* [Пасляк] *быў ..надзвычайны майстра расказваць казкі..* ПС.

Адз. Н. *майстра* ПС.

**[МАЙСТЭРНЯ]** (2) *ж.* Прадпрыемства па выбару чаго-н. і памяшканне для яго. *..там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пралетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі..* ШБСЯ. *Намі пройдзен вялікі і цяжкі шлях. Ад саматужных майстэрняў да Сталінгрэса, да Гомсельмаша..* ВГР.

Адз. М. *майстэрні*: ШБСЯ. Мн. Р. *майстэрняў*: ВГР.

**[МАЙСТЭРСТВА]** *н.* Уменне, мастацтва. *..аглядалі* [дэлегаты] *ваенны аэрадром, .. дзе нам лётчыкі паказалі майстэрства пілатажа. ПЧ.*

Адз. В. *майстэрства*: ПЧ.

**МАК** (3) *м.* Расліна, кветка. *Каб свет атуляўся, як сонцам, свабодай, Чырвоныя макі цвілі ў агародах, – Ён* [Сталін] *піша законы стагоддзям, народам.* СС., 303. // *У параўн. Як-жа ў розум убярэцца Твой сынок, як мак у цвет,.. Выпраўляй* [маці] *яго ў людзі, На дарогу блаславі.* М, 20.

◊ **Услаць макам** *гл.* услаць.

Адз. Н. *мак*: М, 20. Т. *макам*: ВБ. Мн. Н. *макі*: СС, 303.

**МАКАВЫ** *прым.* Які мае адносіны да маку. *Шчасце цвіло ў ім* [краі], *як макавы цвет.* Н.

Адз. м. Н. *макавы*: Н.

**МАЛА** (11) *прысл.* **1.** Нямнога. *А быў тут хто, або ня быў, – І так і гэтак мала веры..* Кц, 197. *Але ўсё-ж такі ў гэтым напрамку я* [Купала] *зрабіў вельмі мала, не зважаючы на тыя магчымасьці, якія мне давала партыя і савецкая ўлада.* АЛ. ЗС, 17.

**2.** Недастаткова. *Мала падпалаў, ім* [здраднікаў] *трэба атруты, Дай ім крыві па калені.* СЗГ, 252. *Мала іх* [трацкістаў] *павесіць на сухой асіне, Бо нават асіна Ад сябе адкіне.* МПв, 218. Т, 44 (2).

**3.** *Разм*. Рэдка, не часта. [Мікіта]: *..мяне злаславыя гутаркі людзей мала абходзяць.* Т, 36.

**4.** У спалучэнні з займеннікам азначае: нямногае. *Аказываецца, мэтоды дзяржаўнай гаспадаркі польскіх эндэкаў мала чым розьняцца ад мэтодаў расійскіх бальшавікоў.* СНБ.

**Мала іх павесіць.**

◊ **Мала таго** *(у знач. пабочн.)* – акрамя таго. *Мала: гэта часопісь* [“Наша Каляіна”] *з’яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці “Кветка Папараці”* .. МШ, 17.

**МАЛА-ВЕЛЕ** *прысл. Разм.* Крыху, трохі. *Кожны мала-веле справядлівы чалавек заплачэ над гэткай нямецкай несправядлівасьцю.* ЧЧШ.

**МАЛАГРАМАТНЫ** *прым. Руск. У знач. наз*. Пра малапісменнага чалавека. *І пішаш ты разборчыва? Малаграматны прачытае?* АН, 18.

Адз. м. Н. *малаграматны*: Ан, 18.

**[МАЛАДЗЕЦЬ]** *незак. перан.* Станавіцца прыгажэйшым. *Як двурог-маладзік, маладзеў* [брат другі] *сярод зломаў..* Ч, 324.

Абв. пр. адз. м. *маладзеў*: Ч, 324.

**МАЛАДЗІК** *м.*: ◊ **Двурог-маладзік** *гл.* двурог.

Адз. Н. *маладзік*: Ч, 324.

**[МАЛАДОСЦЬ]** (2) *ж.* Юнацтва. [Мікіта]: *Оей! гэр гэрманіш..! Не губі маёй маладосці – не бяры ў палон!* Т, 33. *Усе дзіцячыя гады і маладосць правёў* [Купала], *бадзяючыся па Барысаўскаму і Мінскаму паветах.* А, 327.

Адз. Р. *маладосці*: Т, 33. В. *маладосць*: А, 327.

**МАЛАДЫ** (25) *прым.* **1.** Юны. *Не будзе, не будзе тады Вайны, калатні між людзей, Дзяўчына, юнак малады Не зложаць без часу касцей.* ТП, 216. [Мікіта]: *Мамзель Наста загадзя папярэдзіла мяне.., што пры новай політычнай сытуацыі будуць дабравольна браць маладых мусьі і дабравольна адпраўляць іх на Урангелеўскі фронт.* Т, 55. // Ужываецца для абазначэння дзяцей у адрозненне ад бацькоў. [Янка]: *Дзе ж гэта гаспадар ваш* [Ганулі] *малады?* Т, 19.

**2.** *перан*. Новы. Які не існаваў раней. *Але есьць яшчэ чацьвёртая сіла, каторая прымусіць з сабою лічыцца. Гэта – сіла.. беларуская. Гэта – маладая, нарастаючая сіла, каторая з часам запануе уладарнай гаспадыняй..* ВМР. *Але, паўтараем, гэта сіла маладая, сіла будучыны.* Там жа. *..усё сэрца аддае ў сваёй творчасці вялікім дням нашага маладога гераічнага слаўнага жыцця.* ЖН. // Які нядаўна дзейнічае ў якой-н. галіне. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, заёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасьць, пра "гразь, балота і пясок" у Беларусі.* ХБ, 27. *Наша краіна, наша партыя выхавала таленавітых маладых паэтаў і пісьменнікаў.* ВГР.

**3.** Юнацкі. *Ніпачым ім* [камсамольцам] *рыфы, скалы, Ані смерчы, ні бураны, – З маладым плывуць запалам Цераз моры-акіяны.* СА, 180.

**4.** Нядаўна прыгатаваны. [Гануля]: *Маладое піва заўсёды шуміць.* Т,44.

**5.** *перан. У знач. наз.* Радзіма. *Глядзіш, для яе, маладой, Ткуць кросны, атласы, шаўкі..* ТП, 215.

◊ **Стары і малады** *гл.* стары.

Адз. м. Н. *малады* (6): Ж; Т, 19,20 (3); ТП, 216. Р. *маладога*: БС. Т. *маладым* (2): СА, 180; Т, 55. ж. Н. *маладая* (2): ВМР (2). Р. *маладой*: ТП, 215. В. *маладую*: Кц, 193. Т. *маладой*: СА, 178. н. Н. *маладое*: Т, 44. Р. *маладога*: ЖН. Мн. Н. *маладыя* (4): А, 328; Т, 60; ХБ, 27; Ч, 320. Р. *маладых*: А, 327. В. *маладых* (2): ВГР; Т, 55; *маладые*: Дз, 190. Кар. Адз. м. Н. *молад*: Кц, 194.

**[МАЛАЗЯМЕЛЬНЫ]** (2) *прым.* Без дастаковай колькасці зямлі. *..расійскую сацыяльную рэвалюцыю зрабілі беззямельныя і малазямельныя сялянскія грамады..* ЗС, 18. *А тыя беззямельныя, убогія земляробы, а тыя малазямельныя вузкашнурыя вёскі і сялібы – што яны? Яны назіраюць толькі.., як гэта зямля.. пападзе ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* Там жа.

Мн. Н. *малазямельныя* (2): ЗС, 18 (2).

**[МАЛАКО]** (3) *н.* Белая пажыўная вадкасць. *Дзяцей сваіх маткі кідаюць у здзеку, За "мамак" к наездцам ідуць, А тые за іх малако, за апеку "Забраны край" болей гнятуць.* ЗК, 42. *Гэта ўсе ўпаі дзіцяці З малаком сваіх грудзей, Бо іначай пойдзеш, маці Жабраваць хлеб у людзей.* М, 20.

Адз. В. *малако*: ЗК, 42. Т. *малаком* (2): З, М, 20.

**МАЛАНКА** (3) *ж.* Разрад атмасфернай электрычнасці. *Каб таму маланкай Асьляпіла вочы І блукаў Абмацкам Ён у дзень і у ночы, – Хто для нашых дзетак хоча асьляплення..* К. *Краса б'е з князеўных зраніц, Як блеск маланак развуглёны.* Кц, 193.

◊ **Як маланка –** вельмі хутка. *Доўга ці каротка ваяваў наш Янка, Ажно ў вёску ён дарожнай прэцца, як маланка.* ЕЯП.

Адз. Н. *маланка*: ЕЯП. Т. *маланкай*: К. Мн. Р. *маланак*: Кц, 193.

**МАЛА-ПАМАЛУ** *прысл. Разм.* Пастулова, паціху. *Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя.* Кз, 17.

**[МАЛЕЙШЫ]** *прым. Пар.* ст. да малы *ў 3 знач. Я* [Купала] *шчасліў, што ў час малейшай трывогі беларускі народ паднімаецца як адзін на абарону совецкіх межаў.* ДЖ.

Адз. ж. Р. *малейшай*: ДЖ.

**МАЛЕНЬКІ** (9) *прым. Памянш.-ласк.* **1.** *Памянш.-ласк.* да малы ў 1 *знач.* [Ганулs]: *Мой нябожчык гаспадар жыў пры бацьках на маленькім надзеле.* Т, 20. // Кароткі. ..[я] *узяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон".* Ан, 19. [Купала:] *Прывяду рэзультат маленькай цыфравой спраўкі.* ВСп, 91.

**2.** *Памянш.-ласк.* да малы ў 2 *знач. Узяць хоць бы бураў: цэлы год гэты маленькі народ мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.* НДН, 18.

**3.** Неістотны. [Начальнік]: *Мы ўсё-такі маленькія агледзіны зробім вашых* [Мікіты] *рэчаў..* Т, 60. *Там* [у Смаленску], *на чале з Калмановічам, Мясніковым і Яркіным,* [кучка бальшавіцкіх камісараў] *зрабіла маленькі ўнутраны пераварот.* СНБ, 337.

**Маленькі фельетон.**

Адз. м. Н. *маленькі*: НДН, 18. В. *маленькі* (2): Ан, 19; СНБ, 337. М. *маленькім*: Т, 20. ж. Н. *маленькая* (3): ВСп, 90; Н; Т, 27. Р. *маленькай*: ВСп, 91. Мн. В. *маленькія*: Т, 60.

**МАЛЕНЬКІЙ** *прым. Руск. Памянш.-ласк.* да малы ў 3 *знач.* [Усходні вучоны]: *Ешчо одзін маленькій вопрос: Вашы землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтоб со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

Адз. м. Н. *маленькій*: Т, 47.

**МАЛІНА** (2) *ж.* Ягада. *У параўн. Едзе Янка ў поле, Едзе ваяваці, А дзяўчынка, як маліна, Выйшла праважаці.* ЕЯП. *І дамоў прыехаў* [Янка] *З тэй вайны, здалёку, А дзяўчына, як маліна, пазірае збоку.* Там жа.

Адз. Н. *маліна* (2): ЕЯП (2).

**МАЛІТВА** (3) *ж.* **1.** Тэкст, які чытаюць пры звяртанні да бога ці святых. *Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку, Звярнуся к сонцу..* СМ.

**2.** *перан.* Прадказанне, прароцтва. *Аўтарнік тайную малітву Паціху над людзьмі тварыў, – Ён бачыў будучыя бітвы, Ён новых ворагаў адкрыў.* Урп, 51.

Δ **Песня – малітва** *гл.* песня.

Адз. Н. *малітва*: Урп, 48. В. *малітву*: Урп, 51. Т. *малітвай*: СМ.

**МАЛІЦЦА** (5) *незак.* Звяртацца з малітвай да бога ці святых. *..калі даць беларусу-католіку вольны выбар: ці вучыцца рэлігіі па польску, ці па расейску, дык ён выбярэ польскую мову, .. якой яго прывучылі маліцца.* ВР *Вычытаў ён* [рэдактар] *у сваей-жэ газэці, што ў Прусах Заходніх ..забараняюць.. дзеткам чытаць і маліцца Богу у сваей роднай мове.* ЧЧШ.

Інф. *маліцца* (4): ВР; ТС, 74; ЧЧШ (2). Абв. цяп. мн. 3 ас. *моляцца*: УрП, 50.

**МАЛКУ:** ◊ **З дзён малку** *гл.* дзень.

**МАЛОДШЫ** (2) *прым.* Маладзейшы. *І сярэдні, і малодшы, Родные дзяціны, Як мая – пашлі к салодшай ласцэ без прычыны.* Дз, 189. *К таму часу памерлі бацька, малодшы брат і дзве меншыя сястры.* А, 328. *Параўн.* меншы ў 2 *знач.*

Адз. Н. *малодшы* (2): А, 328; Дз, 189.

**[МАЛОЙЦА]** *м. Нар.-паэт.* Маладзец, храбрэц. *Пасыпалі кветкі, Дзе ішлі малойцы, А на ясным небе Цешылася сонца...* ІП.

Мн. Н. *малойцы*: ІП.

**МАЛЫ** (23) *прым.* **1.** Невялікі [па памерах, веялічыні]. *Усяго* [надрукавана] *адна кніжка* [па сельскай гаспадарцы] *і тая маленькая, усяго 16 страніц малога разьмеру.* ВСп, 90. *Справа ў належным месцы* [стаіць] *стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў..* Т, 19. // Нізкі [ростам]. *Дый йшчэ кажа* [маці], *што малая* [Галінка], *Урны не дастану...* Вб, 236. *Але вось з захаду, з-за бору, На від ня мал і не вялік, У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.* УрП, 51.

**2.** Невялікі [па колькасці]. *.. за сваю незалежнасць шмат малых народаў ваявала ці то словам, ці сталлю.* НДН, 18. *..мы бачым адно, што гэтыя* [вялікія] *дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзніштажаючым паходзе мелі адну ярка зарысованную мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і падняволіць іх сваёй нацыі, свайму дзяржаўнаму правапарадку.* Там жа.

**3.** Нязначны, слабы. *На земства малая надзея – яно недаўно у нашым краю заведзена і дзеле таго ня можэ ешчэ аказаць вялікай падмогі.* ВС. *На помач са стараны малая надзея, калі ідзе на цэлым сьвеце крывавае змаганьне за істнуваньне цэлых народаў, цэлых гасударстваў.* Там жа.

**4.** Малалетні. *Мой мілы таварыш, мой лётчык, Вазьмі мяне ўрэшце з сабой, Цяпер не малы я ўжо хлопчык – Сам-раз ляцець разам ў бой.* ХЛВ, 315. [Спічыні]: *А як вы* [Мікіта] *прывітаеце, спаткаўшы ..малое немчанё?* Т, 31. // *У знач. наз.* [Янка]: *Хаця не пабецеся стары з малой за табаку.* Т, 39.

◊ **Без малага –** амаль**.** *..ўвесь* [беларускі] *народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызвалення.* ПЛП. **З малых дзён** *гл. дзень.* **Мал, вялік** (2) – усе. *О ты, о рускі мой "язык"! Мой "общарускі", што з табой? Табе слухмян быў мал, вялік, Быў славен ты сваёй кляцьбой.* АПЖ. *І ўзьбегла песьня карагодам, Ён пакарыўся мал, вялік.* УрП, 47. **Стары і малы** [стар і мал] *гл.* стары.

Адз. м. Н. *малы*: ХЛВ, 315. Р. *малога*: ВСп, 90. ж. Н. *малая* (4): ВБ, 236; ВС (2); Т, 55. Р. *малой*: Вб, 236. В. *малую*: СНБ, 340. Т. *малой*: Т, 39. н. Р. *малага*: ПЛП. В. *малое*: Т, 31. Мн. Н. *малыя*: СНБ, 336. Р. *малых* (6): ЗС, 17; НДН, 18 (2); СНБ; Т, 19, 45. В. *малых*: НДН, 18. Кар адз. м. Н. *мал* (4): АПЖ; НК; Урп, 47, 51.

**МАЛЮНАК** (4) *м.* Ілюстрацыя, рысунак. *Малюнак дзіўны змешчан быў у газетах, Малюнак, што ў жывых у памяці жыве. .. Плывуць таварыш Кіраў і таварыш Сталін. Прад імі даль Зямлі Савецкай і вякоў*. СК, 158. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга, ніякі малюнак .. не давалі мне* [С. Мечу] *гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага васеньняга сонца.* ХБ, 29.

Адз. Н. *малюнак* (3): СК, 158(2); ХБ, 29. Мн. Н. *малюнкі*: Т, 43.

**[МАЛЯВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр.* да [маляваць]. *Вобразн.* Упрыгожаны. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні.. Да ніў родных, калосьем ярка маляваных..* ХБ, 28.

Мн. Р. *маляваных* ХБ, 28.

**МАМА** (2) *ж. Тое, што* маці. *Будуць рады татка, мама, Калі падрасту я, І за Сталіна таксама Я прагаласую.* Вб, 236. *Пайшлі ў госці мама, тата..* Там жа.

Адз. Н. *мама* (2): Вб, 236(2).

**[МАМАЧКА]** *ж. У знач. выкл. Разм.* Ужываецца для перадачы спалоху. [Гануля]: *А мамачкі ж мае! Завярнуліся* [бальшавікі] *сюды да нас.* Т, 59. *Параўн.* матачка.

Мн. Н. *мамачкі*: Т, 59.

**МАМАША** (41) *ж. Руск. Тое, што* маці. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па потрфэлі, што летась схавалі.* Т, 59. [Мікіта]: *(падае грошы). Вось вам, ясне мусье немец,.. пакуль што котрыбуцыя, заўтра дам энэксыю, а там, калі не хопіць, жонак, дзяцей залажу, ..мамашу, толькі.. не цягнеце ў палон!* Там жа, 33.

Адз. Н. *мамаша* (37): Т, 21, 22 (3), 24 (2), 25, 27 (2), 28 (2), 31, 32, 34 (5), 46, 49, 50 (4), 51 (2), 52, 56 (2), 58 (3), 59 (4), 61. Р. *мамашу*: Т, 33 Т. *мамашай* (3): Т, 29, 60, 62.

**МАМЕНТ** *м. Руск.* Момант. *..быў мамент, калі Смаленскі ўрад хацеў іх* [беларускі бальшавіцкі ўрад] *арыштаваць.* СНБ, 338.

Адз. Н. *мамент*: СНБ, 338.

**МАМЗЭЛЬ** (28) і **[МАМЗЭЛЯ]** (4) *ж. Франц., разм.* Мадэмуазэль.[Мікіта]: *Ах, і мамзэль Аленка тут?! Дзень добры, мамзэль, меджду протчым.* Т, 54 [Мікіта]: *.. высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.* Там жа, 28.

Адз. Н. *мамзэль* (28): Т, 23(3), 24(2), 41(2), 42(5), 46, 48, 50(2), 52(2), 54(3), 55(2), 58, 59(3), 60. Т. *мамзэляй*: Т, 23. Мн. Н. *мамзэлі* (2): Т, 50, 60. Р. *мамзэляў*: Т, 28.

**МАМКА** (5) *ж. Ласк. да* мама. *Мяне ўзяць з сабой* [на выбары] *прасіла, Але ўзяць не ўзялі, Адно кажа мамка міла: – Ты йшчэ сходзіш, Галя.* Вб, 236. *Мне мамку зарэзалі немцы..* ХЛВ, 315.

**2.** *Уст.* Нянька. *Мамкай служыла я на сваё ліха Некалі з пані, так з ласкі, задарма.* Мц, 75. *Дзяцей сваіх маткі кідаюць у здзеку, За "мамак" к наездцам ідуць..* ЗК, 42.

Адз. Н. *мамка*: Вб, 236. В. *мамку* (2): ХЛВ, 315, 316. Т. *мамкай*: Мц, 75. Мн. В. *мамак*: ЗК, 42.

**[МАНА]** (4) *ж.* Няпраўда, хлусня. *І сёння там* [у Заходняй Беларусі] *ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны..* ПБН. [Янка]: *..мы* [беларусы] *павінны растаптаць, знічтожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе.* Т, 35.

Адз. Р. *маны* (2): ПБН; Т, 35. В. *ману* (2): Г, 17; Т, 35.

**МАНАПОЛЬКА** (3) *ж. Уст., разм.* Крама па продажу гарэлкі. *У м. Новым Свержэне ..манаполька таргуе за год на 20000 руб.* УП. *..Манапольки закрываюцца ў Литве, бо нима гандлю.* Там жа.

Адз. Н. *манаполька* (2) УП (2). Мн. Н. *манапалькі*: УП.

**[МАНАТКІ]** (5) *толькі мн. Разм.* Рэчы, пажыткі. *Некалькі быўшых паняў, стоячы радам, прадаюць усялякія хатнія манаткі.* Т, 33. *Гануля, а за ёй Пані з манаткімі шнурам выходзяць.* Там жа, 34.

В. *манаткі* (3): Т, 33, 34, 62. Т. *манаткамі* (2): Т, 34, 55.

**[МАНГОЛЫ]** *мн.* Народ асноўнага насельніцтва Манголіі. *..Расія падняволіла сабе ..слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі – палякамі, украінцамі, беларусамі і інш.* НДН, 18.

Мн. Р. *манголаў*: НДН, 18.

**[МАНЕР]** (2) *м.* Узор, лад. [Спічыні]: *Перакулеце* [Мікіта] *на наш манер такі зварот: ешчэ Польска не згінэла.* Т, 49. // Спосаб дзеяння. *Мусім лучыцца у гурткі і гэткім манерам закупліваць збожэ для цэлай вёскі, там, дзе яго ёсць лішніца.* ВС.

Адз. В. *манер*: Т, 49. Т, *манерам*: ВС.

**[МАНЕРКА]** *ж.* Паходная пляшка, біклага. [Немец]: *Ці няможна ў вас* [Мікіты] *папрасіць у гэту манерку трохі вады?* Т, 32.

Адз. В. *манерку*: Т, 32.

**МАНЕЎРЫ** (2) *толькі мн.* Тэхнічныя заняткі вялікай колькасці войск. *Варашылава я знаю, Сам я з ім вітаўся, Ён калі былі манеўры, У нашым быў калгасе.* Вб, 237. *Калі ён* [Варашылаў], *бывала, да нас на манеўры Прыедзе агледзець капцы, рубяжы, – О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы.* НДп, 229.

Н. *манеўры*: Вб, 237. В. *манеўры*: НДп, 229.

**[МІНІФЕСТАЦЫЯ]** *ж. перан.* Выражэнне, праяўленне, сведчанне чаго-н. *Наша паездка у Чэхаславакію была ..маніфестацыяй дружбы і супрацоўніцтва Чэхаславакіі і СССР у справе барацьбы за мір, у справе абароны агульначалавечай культуры.* ПЧ.

Адз. Т. *маніфестацыяй*: ПЧ.

**[МАНІФЭСТ]** (2) *м.* Адозва вярхоўнай улады да народа. *Але вышаў им* [чарнасотнікам] *ды з памяци Акцябра дзянёк семнадцаты: Той вялики манифэст, – Ды што ў турмах нима мест!* ВЧ. *Я* [мужык*] пытаю аб слабодзе, што дарована манифэстам?!* ХЛБ.

Адз. В. *манифэст*: ВЧ. Т. *манифэстам*: ХЛБ.

**[МАНІЦЦА]** (8) *незак. Абл.* Мець намер рабіць што-н. *.. урад маніцца ешчэ у скорым часе завясьці падаходны і асабісты ваенны налог.* ВН. [Мікіта]: *А чаму той* [немец], *што маніўся мяне ў палон, меджду протычым, узяць, як рэпу сек па-нашаму* [па-беларуску]*?* Т, 42.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *маніцца* (4): ВН (2); Т, 21, 34. Пр. адз. м. *маніўся* (3): Т, 20, 42, 55. Мн. *маніліся*: Т, 55.

**[МАРА]**[1] (3) *ж.* Уяўленне, фантазія. *Песьні рвуцца з трывожных, бунтарных грудзей, Поўны мараў ружовых і сьветлых надзей..* АР.

*Гэты* [стаханаўскі] *рух дае такія магчымасці росквіту нашай радзімы, ..што цяжка нават прадбачыць зараз у марах.* СТ.

Δ **Цень-мара** *гл.* цень.

Мн. Н. *мары*: Кц, 192. Р. *мараў*: АР. М. *марах*: СТ.

**МАРА**[2] *ж. Абл.* Прывід, здань. *У параўн. Грудзі смактаў мне* [маці] *паніч недапечны, Высахла там я на шчэпку, як мара ..* Мц, 75.

Адз. Н. *мара*: Мц, 75.

**[МАРАКАВАЦЬ]** *незак. перан. Разм.* Імкнуцца ў думках да чаго-н., марыць [Гануля]: *Адно маракуе* [Мікіта] *ўсе аб тым, як гэта ізноў вернуцца нейкія там яго рангі і клясы і усялянскае дабро само пасыпецца з неба.* Т, 20.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *маракуе*: Т, 20.

**МАРАЛЬНА** і **МОРАЛЬНА** *прысл. да* маральны. *Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г.д. – усе яны маюць права на гэта* [на незалежнасць], *усіх іх можна прызнаць, навет можна і дапамагаць ці то фізічна, ці то маральна.* Нз, 14. *..я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх* [установкі і мерапрыемствы Інбелкульта, Бана], *але наадварот моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

**[МАРАЛЬНЫ]** *прым.* Унутраны, душэўны. *Мы ведаем, што вайна.. патрабуе шмат ахвяр, шмат высілкоў маральных і матэр'яльных.* ВС.

Мн. Р. *маральных*: ВС.

**[МАРКА]** (12*) ж.* Грашовая адзінка ў Германіі. [Мікіта]: *Ну і немец, меджду протчым! Сваіх жа нямецкіх марак не захацеў купіць.* Т, 42. [Мікіта]: *А ці то не ведаеце, мамзэль Наста, можа, яму* [немцу] *на дарогу маркі патрэбны..* Там жа.

Мн. Р. *марак* (3): Т, 42, 43, 56. В. *маркі* (7): Т; 34(2), 35, 36, 38, 42(2). Т. *маркамі*: ШБСЯ. М. *марках*: Т, 34.

**МАРКОТНА** *прысл. да* маркотны. [Аленка]: *Як вам, цётачка, будзе надта маркотна, прыязджайце да нас на вёску..* Т, 37.

**[МАРКОТНЫ]** *прым.* Сумны, тужлівы. *Эй, годзе ужо песень маркотных, пясьняр!* Пр.

Мн. Р. *маркотных*: Пр.

**МАРНА** (2) *прысл.* Дарэмна, бескарысна. *І гінем марна пад чужой апекай, Адбіўшыся ад родных межаў, вех.* Бч, 9. *Прыпомні, дай слова ня счэзнуці марна, Пачатую справу шырыць расшыраць!* В.

**[МАРНАВАЦЦА]** *незак. Разм.* Мучыцца, пакутаваць. *Быдлам зрабілі нас панскія здзекі, Век марнаваліся ў слёзах і поце.* Д, 73.

Абв. пр. мн. *марнаваліся*: Д, 73.

**[МАРОЗ]** (2) *м.* Холад, сцюжа. *Гібелі зноў людзі ў сьпёку, ў мароз, Як чэрві сьляпые ў плесьні..* ПН, 47. *Ночка ці дзень, ці марозы, ці спёкі, – Вечна ў ярме, ў паднявольнай рабоце.* Д, 73.

Адз. В. *мароз*: ПН, 47. Мн. Н. *марозы*: Д, 73.

**[МАРСЭЛЬЕЗА]** (2) *жс. Франц.* Рэвалюцыйная песня. *З беларускай марсэльезай справа стаіць якбы лепей: маемо "Адвеку ма спалі" і іншых вершаў з музыкай, называных беларускімі марсэльезамі, штосьці ня чуваць.* СБНГ.

Адз. М. *марсэльезай*: СБНГ. Мн. Т. *марсэльезамі*: СБНГ.

**[МАРШ]**[1] (2) *м.* Музычны твор. *..раптоўна ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі, граючай цырыманіяльны марш..* Т, 43.

Адз. В. *марш*: Т, 43.

**МАРШ**[2] (3) *выкл.* Загад пайсці куды-н. [Мікіта]: (*да чырвонаармейца*). *Шагам марш у палон!* Т, 53. [Начальнік]: *А цяпер – марш* [Мікіта] *за мной.* Там жа, 62. Т, 30.

**[МАРШАВЫ]** *прым.* Мерны, рытмічны. *Чырвонаармеец выходзіць маршавым крокам.* Т, 53.

Адз. м. Т. *маршавым* Т, 53.

**МАРШАЛ** *м.* Асоба вышэйшага ваеннага чыну. *Дык ведайце: маршал даўно ужо і стала Любіў Беларусь нашу й любіць, браты!* НДп, 229.

Адз. Н. *маршал*: НДп, 229.

**[МАРШЫРАВАЦЬ]** *незак. Разм.* [Спічыні]: *сюды маршыруе нейкі немец.* Т, 41.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *маршыруе*: Т, 41.

**МАРШЫРУЮЧЫ** *дзеепрысл. да* маршыраваць. Шагаючы. *Становіцца* [Мікіта] *на лаўку і, ..маршыруючы пад музыку на адным месцы, махае каля галавы парасонам.* Т, 43.

**[МАСА]** (10) *жс., зб.* Народ. *Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі.* Нз, 14. *І я* [Купала] *ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэспублікі.* ЖН.

Мн. Н. *масы* (2): АЛ; Н, 14. Р. *мас* (7): АЛ (6); ЖН. Т. *масамі*: АЛ.

**[МАСКА]** *жс.:* ◊ **Блудзіць пад маскай** *гл.* блудзіць.

Адз. Т. *маскай*: Бч, 9.

**[МАСКАЛЬ]** (3) *м. Абразл.* Рускі. *Просім папросту: кіньце нас* [беларусаў] *мучыць, Ляхі, маскалі!* Пп, 5. *Яшчэ далятае да нас грознае і жуткае водгулле крывавага змагання на беларускім полі, паміж нашымі суседзямі – палякамі і маскалямі.* ЗС, 17.

Мн. Н. *маскалі*: Пп, 5. Р. *маскалёў*: УПУВ. Т. *маскалямі*: ЗС, 17.

**[МАСКАРАД]** *м.* Касцюміраваны баль. [Мікіта]: *Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады, а ў мяне во і гатоў маскарадны касцюм.* Т, 24.

Мн. Н. *маскарады*: Т, 24.

**МАСКАРАДНЫ** *прым.* Які мае адносіны да маскараду. [Мікіта]: *Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады, а ў мяне во*

*і гатоў маскарадны касцюм.* Т, 24.

Адз. м. Н. *маскарадны*: Т., 24.

**МАСКОЎСКІ** (9) *прым.* **1.** Які знаходзіцца ў Маскве. *..незалежную беларускую рэспубліку стварылі смаленскія і маскоўскія "беларусы".* СНБ, 338.

**2.** *перан.* Рускі. *Маскоўсукі чыноўнік, таксама як польскі пан, глядзіць на беларуса як на "скот"* [той – як на "быдло"]. Нз, 14. *..закон і права народныя вырашаць усе балючыя пытанні, пакінутыя нам* [беларусам] *у спадчыну маскоўскім царызмам.* ЗС, 17.

Адз. м. Н. *маскоўскі* (3): БС; ДК; Нз, 14. Р. *маскоўскага*: БВ, 16. Т. *маскоўскім* (2): БВ, 16; ЗС, 17. ж. Н. *маскоўская*: Нз, 14. Т. *маскоўскай*: Нз, 14. Мн. Н. *маскоўскі*: СНБ, 338.

**МАСЛА** (2) *н.* Харчовы тлушч. [Мікіта]: *..пападаецца па дарозе контрабанда, інačай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менк забаронена: мука, крупы, бульба, сала, масла.. і гэтаму, меджду протчым, падобнае.* Т, 45.

◊ **Купацца, як сыр у масле** *гл.* купацца.

Адз. Н. *масла*: Т, 45. М. *масле*: Т, 36.

**[МАСТАК]** *м.* Творчы работнік выяўленчага мастацтва. *..гісторыя Совецкай Беларусі чакае сваёй песні, свайго мастака, свайго гісторыка.* ШБСЯ.

Адз. Р. *мастака*: ШБСЯ.

**[МАСТАЦКІ]** (3) і *разм.* **[МАСТАЯЦКІ]** *прым.* **1.** Уласцівы творам мастацства. *У нашы ўжо часы* [пасьля 1905 г.] *зьявілася на сьвет божы некалькі беларускіх гімнаў, такой ці іншай ідэёвай і мастаяцкай вартасьці.* СБНГ. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме беднату, цемнату.. беларускае вёскі.* АЛ.

**2.** Эстэтычны. *Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ.

• **Мастацкая літаратура** *гл.* літаратура.

Адз. м. Т. *мастацкім*: ПГ. ж. Р. *мастацкай* : ШБСЯ; *мастаяцкай*: СБНГ. М. *мастацкай*: АЛ.

**[МАСТАЦТВА]** (8) *н.* **1.** Перадача рэчаіснасці ў мастацкіх вобразах. *Совецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як драматургі Гонзль, Бурыян, пісьменнікі Ольбрахт, Томан, Гора, Кубка і інш.* ПЧ. *Пажаданні нашы: даць камандзіру годную дома работу і забяспечыць жывы кантакт з нашым атрадам работнікаў мастацтваў.* ПГ.

**2.** Галіна мастацкай дзейнасці. [Спічыні]: *..тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аудыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе.* Т, 40. [Мікіта]: *Калі спаткаеце*

[мамаша] *прафэсара гэр Спічыні, то напомніце яму, што я яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва..* там жа, 34.

Адз. Р. *мастацтва* (7): ДНСП; ПЧ (2); Т, 34, 40, 45; УПУВ. Мн. Р. *мастацтваў*: ПГ.

**МАТАР'ЯЛ** *гл.* **МАТЭРЫЯЛ.**

**МАТАР'ЯЛЫ** *гл.* **МАТЭРЫЯЛЬНЫ.**

**[МАТАЧКА]** (2) *ж. Тое, што* мамачка. [Гануля]: *А матачкі ж мае! Гэта ж гарэлка! ..* Т, 58. [Гануля]: *Матачкі мае родныя, бацечкі мае хрышчоныя! Што гэта робіцца?* Там жа, 33.

Мн. Н. *матачкі* (2) Т, 38, 58.

**[МАТАЦЦА]** *незак.* Матляцца. *Пры боку меч матаўся голы..* УрП, 51.

Абв. пр. адз. м. *матаўся*: УрП, 51.

**МАТАЮЧЫ** *дзеепрысл.* да [матаць]. Махаючы чым-н. *Вось, матаючы нагайкай, Загамоне Налівайка..* НД.

**МАТКА** (13) *ж. Тое, што* маці. *Габруся ў жаўнерку ўзялі, Ад дамоўства адарвалі, Зажурыўся стары татка, Цяжка стогне, плача матка.* ГЖУ. *Не прышлось мне жыць на сьвеці У славе і дастатку: Загубілі родны дзеці, Загулібі матку.* Дз, 189.

**Матцы.**

Δ **Зямля-матка** *гл.* зямля. **Матка-зямля**: *Пошасць улелася ў матку-зямлю.* Н. **Матка-магіла**: *Быў жыць адзінока надзел бедакоў, Нішто іх с сабой не лучыла, – Ні крыльлі свабоды, ні скруты акоў... Адна толькі матка-магіла.* ПН, 46.

Адз. Н. *матка* (2): ГЖУ; ПЧ, 46. Р. *маткі*: М, 19. Д. *матцэ* (2): Дз, 191; ТС, 74; *матцы*: М, 20. В. *матку* (3): Дз, 189; Н; СМ. Т. *маткаю*: ПДз. Мн. Н. *маткі* (2): ЗК, 42; Чж, 146. Р. *матак*: БВ, 16.

**[МАТУЗ]** *м. Разм.* Абрывак, палоска чаго-н. [Мікіта]: *.. прышпільвайце* [мамаша] *чым-небудзь адвіслыя матузы ад шпалераў..* Т, 50.

Мн. В. *матузы*: Т, 50.

**[МАТУЛЬКА]** *ж. Ласк. да* матуля. *Дзе-ж, ой, матулькі, вашы дзеці?* ВБЛ, 81.

Мн. Н. *матулькі*: ВБЛ, 81.

**МАТУЛЯ** (3) *ж. Разм., ласк. да* маці *ў* 1 *знач. Ці там вецер водзіць гулі Так на самагубе, – Бы сваё дзіця матуля Песьціць ды галубе? Дз, 187. Сына маці выпраўляла, Крыж на памяць дала, Каб матулю родну помніў, Як паедзе з сяла.* ПСД.

Адз. Н. *матуля* (2): Дз, 187; М, 19. В. *матулю*: ПСД.

**[МАТУШКА]** *ж. Руск., ласк:* Δ **Матушка-Расія** *гл.* Расія.

Адз. М. *матушкі*: 3.

**[МАТЧЫН]** *прым.* Які належыць матцы. *Кідае* [забабон] *балотам на усё сьвятое, спакон веку жывучае, з матчыным малаком упоенае.* 3.

Адз. н. Т. *матчыным*: 3.

**МАТЫЛЬ** *м.* Матылёк. *Маленькая рэч, – як матыль ці стрынатка ... Усёй куплі – душа беларуса.* Р.

Адз. Н. *матыль*: Р.

**[МАТЭМАТЫКА]** (2) *ж.* Навука аб колькасных суадносінах і прасторавых формах. *..асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы.* ВСп, 89.

• **Элементарная матэматыка** – працейшая матэматыка. *Хаця ў гэтай кніжцы* [Беларускай навуковай тэрміналёгіі] *і зьмешчаны тэрміны па элементарнай матэматыцы, але некаторыя з паміж іх дужа не элементарны..* ВСп, 89.

Адз. М. *матэматыцы* (2): ВСп, 89 (2).

**[МАТЭРЫЯЛ]** (4) і *разм.* **[МАТАР'ЯЛ]** (3) *м.* **1.** Звесткі аб чым-н., крыніцы. *Я* [Купала] *яшчэ не паспеў сістэматызаваць усяго матэрыялу, таму толькі з большага раскажу пра бачанае, чутае* [у Чэхаславакіі]. ПЧ. *Іду я, падскаківаючы, на другі дзень, каб узяць матэрыял для чацвёртай стацці..* Ан, 19 // Твор. *Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасьці Цішку Гартнаму надрукаваць увесь матар'ял, які павёз быў з сабой у Нямеччыну.* ВСп, 91.

Адз. Р. *матэрыялу* (2): ПЧ; СНБ, 339; *матар'ялу* (2): ВСп, 90 (2). В. *матэрыял*: Ан, 19; *матар'ял*: ВСп, 91. Мн. В. *матэрыялы*: СНБ.

**[МАТЭРЫЯЛЬНЫ]** і *разм.* **[МАТАР'ЯЛЬНЫ]**, **[МАТЭР'ЯЛЬНЫ]** *прым.* Звязаны з валоданнем маёмасцю, грашыма. *..вайна.. патрабуе шмат ахвяр, шмат высілкоў маральных і матэр'яльных..* ВС. ..[Навукова Літаратурны аддзел] *выхлапатаў матар'яльныя сродкі і заарганізаваў выданьне беларускіх кніг за граніцай.* ВСп, 91. [Янка]: *Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас* [беларусаў] *ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй.* Т, 35.

Мн. Р. *матэр'яльных*: ВС. В. *матар'яльныя*: ВСп, 91. Т. *матэрыяльнымі*: Т, 35.

**МАЎКЛІВЫ** *прым. перан.* Пакорны, слухмяны. *Цяпер, што бачу я кругом? Пасад маўклівы збуран скрозь... Рэспублікі!? Ды з "языком" з іх лезе кожная ўсур'ёз.* АПЖ.

Адзэ м. Н. *маўклівы*: АПЖ.

**МАЎЛЯЎ** *часц. Разм.* Ужываецца пры ускоснай перадачы чужой уяўнай мовы. *Быццам. Родная зямелька! Ты, маўляў, здароўе.* ХБ, 28.

**МАЎЧАЦЬ** (13) *незак.* **1.** Не гаварыць, не падаваць голасу. *З пакорай зьвесіўшы галовы Стаіць народ, маўчыць народ..* УрП, 49. *Сказаўшы так, маўчаць ганцы. Маўчыць і князь крыху часіны..* Кц, 195. // Не пісаць, не тварыць. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў,*

*дыверсантаў, ..агентаў царскай ахранкі, аб'яднаных у адной смярдзючай кучцы "права-трацкісцкага блока"?* МП. // Быць ахутаным цішынёй. *Маўчаць лясы і курганы..* ПБН.

**2.** Захоўваць што-н. у тайне, не выказваць. *Далей буду ўжо маўчаць, Бо й так можна адгадаць.* $Ш_4$.

**3.** *перан.* Не скардзіцца, не пратэставаць. *А народ твой* [Беларусі] *быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.* Б, 18. *І беларус маўчаў, пазіраў сумным вокам і чакаў...* БВ, 16.

Інф. *маўчаць* (4): Б, 18; МП; Т, 22; $Ш_4$. Абв. цяп. адз. 3 ас. *маўчыць* (3): Кц, 195; КЧ; УрП, 49. Мн. 3 ас. *маўчаць* (4): 3; Кц, 195 (2); ПБН. Пр. адз. м. *маўчаў* (2): БВ, 16; УрП, 52.

**МАХ** (2) *м.* Узмах. *Мах за крокам крок.* ВБ.

◊ **За адным махам –** адразу, за адзін прыём. [Мікіта]: *Кідайце, мамаша, сюды ў павозку бялізну, а наверх стаўце начоўкі – гэтак за адным махам усё выцягнем.* Т, 50.

Адз. Н. *мах*: ВБ. Т. *махам*: Т, 50.

**[МАХАЦЬ]** (4) *незак.* Рабіць узмах; размахваць. *Нейкі нехрысць крапідлам махае ..* БН, 92. ..[Мікіта] *махае каля галавы парасонам.* Т, 43.

◊ **Махаць крокі** – вяртацца. [Наста]: *Як мне напэўна вядома з пэўных крыніц, то гэта апошні з роду Магіканаў, які, згодна з Берасцейскай умовай, пакідае сягоння нашы менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прыйшоў.* Т, 41.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *махае* (4): БН, 92; Т, 41, 43; ТП, 213.

**МАХНУЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* махнуць. [Ануля]: *(махнуўшы рукой). У нос дык у нос* [гаварыць]. Т, 23. [Гарошка]: *А вы, бацюшка, таксама за імі* [рускімі] *(махнуўшы пугай) туды – у прочкі? ..* Там жа, 38.

**[МАХНУЦЬ]** (4) *зак.* да махаць. *Закончыў князь, махнуў рукой; Уходзяць тры ганцы ў сьвятліцу..* Кц, 194. [Ануля]: *Ну боты латаў бы* [Мікіта], *і капейка жывая была б у хаце, а так... (махнула рукамі).* Т, 20.

◊ **Махнуць рукой на што-н.** (2) – перастаць звяртаць увагу на што-, каго-н. [Мікіта]: *Я ўжо махнуў рукой на усе свабодныя прафэсіі* Т, 46. [Антанта] *..махнула на іх* [Пятлюру і г.д.] *усіх рукою, узяла паехала ў Маскву, і цяпер сядзіць у Крамлі з Леніным і Троцкім..* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *махнуў* (2): Кц, 194; Т, 46. ж. *махнула* (2): Ан, 19; Т, 20.

**[МАХРАСТЫ]** *прым.* Галінасты. *..ўсё маё* [С. Меча] *жыцьцё любаваўся-б гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі..* ХБ, 29.

Мн. Т. *махрастымі*: ХБ, 29.

**[МАХРЫСТЫ]** *прым. Вобразн. Гэты шум, з пераборaў махрыстых вятроў, Апалымвае сонечна-сьветлую кроў.* АР.

Мн. Р. *махрыстых*: АР.

**[МАЦАЦЦА]** *незак. Разм. Тое, што* мацаць. [Мікіта]: *Мо, шаноўныя мадамы і мусьі, патрабуецца купіць марак? (Мацаецца па кішэнях.) ..Дзе ж яны?* Т, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *мацаецца*: Т, 43.

**МАЦАЦЬ** *незак.* Шукаць вобмацкам. *Мацае* [Мікіта] *па кішэні.* Т, 33. *Параўн.* мацацца.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *мацае*: Т, 33.

**МАЦЕР** (4) *ж.*: Δ **Мацер–Беларусь:** *..хто не перашкаджае інтарэсам свае бацькаўшчыны і жадае лепшай долі сваёй мацеры-Беларусі, – той пойдзе* [на выбарах] за *беларусамі.* ВМР. **Мацер-радзіма:** *Тысячы Чкалавых, Грачавых, Кокінакі памчацца на сваіх быстракрылых самалётах на абарону мацеры-радзімы.* ВГ.

• **Мацер неопалімыя купіны** – божая мацер, якая засцерагае ад пажару. *Мацер крупіцкая – святая.* [Поп]: *(ідучы ўслед за адыходзячымі, паказваючы на іх рукой). Да храніт іх в странствіі мацер неопалімыя купіны і мацер крупіцкая!* Т, 38.

Адз. Н. *мацер* (2): Т, 38 (2). Р. *мацеры* (2): ВГ; ВМР.

**МАЦІ** (24) *ж.* **1.** Жанчына ў адносінах да сваіх дзяцей. *Плача горка ўдоўка, Плача горка маці Па забітым мужу. Спаленым дзіцяці.* МПв, 219. *Ня журбуйце, тата, маці! Я ўсядзець ня мог у хаце..* ГЖУ. *Параўн.* мама, мамаша, матка.

**2.** *перан.* Радзіма. *Каб таго парвала з сэрцам на тры часці.. Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы Маці роднай цела.* К. *Параўн.* маць.

**Маці. Будзь здаровы, бацька, маці.**

Δ **Айчызна-маці** *гл.* Айчызна. **Беларусь-маці** *гл.* Беларусь. **Маці-Беларусь:** *Ваш* [Жыдоў] *сьветач там, дзе Палестына, Наш* [беларусаў] *ясны сьветач – Маці–Беларусь адна..* Ж. **Маці-Русь:** *Табой* [рускай мовай] *самадзержац цар Пісаў ланцужны свой закон, Што маці-Русь есі жандарм Усёй Еўропы!* АПЖ. **Ніўка-маці** *гл.* ніўка.

Адз. Н. *маці* (17): А, 328; АПЖ; БЗ (2); ВБЛ, 82; ВМ, 72; ГЖУ; Ж; М, 20; Мц, 74; МПв, 219; Н. ПСД; Т, 19, 29, 43; ХБ, 28. Р. *маці* (4): ВБ; К; ПС; ПЧ. Д. *маці* (3): ГП, 8; ПСД; Т, 20.

**МАЦНЕЙ** (3) *прысл. Пар. ст. да* моцна. **1.** *Пар. ст.* да моцна ў 1 *знач.* *Вучыць* [рэлігіі] *па расейску – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўсялякіх Солоневічоў, бо яна толькі мацней прывязывае цёмнага беларуса да польскай мовы* ВР.

**2.** Інтэнсіўней. *Гарошка мацней пыхкае люлькай.* Т. 33.

**3.** Гучней. [Спічыні]: *Спачатку* [Мікіта] *кажаце ціхім-ціхім голасам, пасля штораз – мацней..* Т, 40.

**МАЦНЕЙШЫ** (3) *прым. Пар. ст.* да моцны. **1.** Магутнейшы. *Мацнейшыя народы хочуць павялічыць сваю тэрыторыяльную і збройную сілу коштам слабейшых.* СНБ.

**2.** Які робіцца большай сілай. [Мікіта]: *Оей! Оей1 Ужо ломяцца* [бальшавікі]. (*Мацнейшы стук у дзверы*). *Оей! Оей! Куды тут што падзець.* Т, 59. *Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай ад нашых мацнейшых суседзяў.* Нз, 14.

Адз. м. Н. *мацнейшы*: Т, 59. Мн. Н. *мацнейшыя*: СНБ. Р. *мацнейшых*: Нз, 14.

**МАЦЬ** *ж. Руск. Тое, што* маці *ў 2 знач. Табе такой служыць па гроб Не кіну я* [жандар] *я, і расцярзаць Не дам дзяржаўнасці "оплот", цябе, "единую, о, маць!* АПЖ.

Адз. Н. *маць*: АПЖ.

**[МАЦЯРЫНСКІ]** (2) *прым. перан.* Родны. [Мікіта]: *Медждну протчым, пане беларус, мне ваш "дэмократычны" язык непатрэбен, калі я маю свой, мацярынскі рускі язык.* Т, 49. [Янка]: *О так, так! Для вашага гонару падавай вам мацярынскі язык цароў..* Там жа.

Адз. м. В. *мацярынскі* (2): Т, 49 (2).

**[МАЧЫХА]** *ж. Вобразн.* Пра што-н. чужое, няроднае. *Беларус доўга ў чужыне не ўседзіць. Паказала гэта палітыка царскага ўрада, калі змучаныя, абарваныя перасяленцы варочаліся з далёкай чужыны ў сваю, быўшую ім вечна мачыхай, родную Беларусь.* ЗС, 18.

Адз. Т. *мачыхай*: ЗС, 18.

**[МАЧЫЦЬ]** *незак.* Рабіць мокрым. *Сьпім на ўзьмежку пад ігрушай. Дождҗык моча, сонца суша.* БЗ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *моча*: БЗ.

**МАШНА** *ж. Уст.* Мяшочак для грошай. *Дзе ж то бачана да нашых дзён, Каб дзяўчына лезла ў рукі сама, Абы поўнай была дзеўчая машна.* ВБЛ, 83.

Адз. Н. *машна*: ВБЛ, 83.

**МАШЫНА** (3) *ж.* Транспартны сродак. *З вокан вагона мы* [дэлегаты] *не бачылі ніводнай грузавой машыны.* ПЧ.

Δ **Чалавек-машына** *гл.* чалавек.

• **Друкарская машына** – механізм для друкавання наборнага тэксту. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінутага з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ..* ВСп, 89.

Адз. Н. *машына*: ПЧ. Р. *машыны* (2): ВСп, 89; ПЧ.

**МАЮЧЫ**[1] (4) *дзеепрым. незал. цяп. да* мець. **1.** *Дзеепрым.* да мець *у 1 знач. Гэтым* [паходным] *налогам будуць ападкаваны толькі багацейшые людзі, маючые ня меней 2000 р. у год даходу.* ВН.

**2.** *Дзеепрым.* да мець *у 2 знач.* [Спічыні]: *Аратар, маючы кожны раз напагатове адшліфаваны практыкай язык, заўсёды патрапіць выпутацца з бяды.* Т, 36.

**3.** *Дзеепрым.* да мець *у 7 знач. Аўтарнымі слугамі багоў гэтых* [Сонца, Пяруна, Каляды да іншых яшчэ] *былі варажбіты-вешчуны – старцы мудрыя і ў справах божых кемкаць маючыя.* Кз, 17. *..адно толькі варажбіты-вешчуны ..у законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся..* Там жа.

Адз. м. Н. *маючы*: Т, 36. Мн. Н. *маючыя* (2): Кз, 17(2); *маючые*: ВН.

**МАЮЧЫ²** *дзеепрысл. да* мець. *перан.* Ведаючы. [Мікіта]: *Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларускі язык..* Т, 48.

**[МГЛА]** *ж. Руск.* Імжа. *Назад сумысьля азіраецца ён* [бежанец] *у мгле..* ВБЛ, 80.

Адз. М. *мгле*: ВБЛ, 80.

**МЕДЖДУ** (262) *прыназ. Руск., разм.*: ∆ **Меджду протчым** (262) – дарэчы, дарэчы сказаць. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэр гэрманіш, можа, купіце германскія маркі?* Т, 42. [Мікіта]: *Меджду протчым, пане профэсар, новая палітычная сытуацыя і ўсё такое прымусілі мяне аб гэтай кар'еры.* Там жа, 55. Т, 21 (9), 22 (10), 23 (5), 24 (8), 25 (5), 26 (2), 27 (5), 28 (5), 29 (5), 31 (2), 32 (6), 33 (8), 34 (9), 35 (3), 36 (9), 37 (5), 38 (2), 39 (2), 40 (12), 41 (10), 42 (8), 43 (2), 44 (2), 45 (5), 46 (12), 47, 48 (13), 49 (8), 50 (11), 51 (9), 52 (5), 53, 54 (4), 55 (10), 56 (12), 58 (8), 59 (7), 60(13), 61 (5), 62 (4).

**МЕДЗЬ** (2) *ж.* Каляровы метал. *..тысячы з медзі літых званоў хвалу яму* [Богу] *разносяць*, Кз, 17. // *У параўн. Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сэрца і звонка, як медзь.* СС, 302.

Адз. Н. *медзь*: СС, 302. Р. *медзі*: Кз, 17.

**[МЕЖАНЬКА]** (2) *ж. Памянш.-ласк. да* мяжа *ў 4 знач. Выбіраў жаўнер Трэццю сцежаньку. Гэй, гэй, гэй, трэццю сцежаньку! Бо вяла яна У родну межаньку. Гэй, гэй, гэй, ў родну межаньку!* ББ.

Адз. В. *межаньку* (2): ББ(2).

**[МЕЙСЦА]** (5) і *разм.* **[МЕЙСЦО]**, **[МЕЙСЦЭ]** *н. Польск.* **1.** *Тое, што* месца *ў 2 знач.* [Дух князя:] *Прашу паклікаці ганцоў І мейсца даці ім пачэсьці.* Кц, 143.

**2.** Становішча, якое займае што-н. у чым-н. *..Калі ўжо нарадзілася беларуская сіла, то ні пальонізацыя, ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі.* ДК. *..і гэты налог, аснованы на справядлівасьці, знойдзе нарэшце сабе мейсца у Расейскім гасударстве.* ВН.

◊ **Паказаць належнае мейсцо** *гл.* паказаць. **Сядзець на мейсцы** *гл.* сядзець.

В. *мейсца* (2): ДК; Кц, 193; *мейсцо*: БС; *мейсцэ*: ВН. М. *мейсцы* (2): БС; ВСп, 91. Мн. Р. *мейсц*: УР П, 50.

**[МЕЙСЦОВЫ]** *прым. Польск. Тое, што* месцовы. [Заходні вучоны]: *На запытанне, як сень далеко распотшэня овэ “далей” .., муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго “далей” наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутне пенты,* Т, 39.

Адз. н. Т. *мейсцовым*: Т, 39.

**МЕЛЁДЫЯ** *ж.* Матыў, напеў. *Хор запеяў нейкую песьню – якая азначала на афішах: “беларускі гымн”, але мелёдыя была незнаёмая, і ніхто ня ўстаў, абражаючы гэтым, якбы здавалося, гонар беларускай нацыі.* СБНГ.

Адз. Н. *мелёдыя*: СБНГ.

**МЕНЕЙ** (4) *прысл. Разм.* **1.** *Пар. ст. да* мала *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: *..вы* [мамаша] *..меней ужывайце простых выразаў, калі з мадамай зойдзе гутарка..* Т, 22.

**2.** З дзеепрыметнікамі і прыслоўямі ўтварае апісальную форму ступені параўнання. *Гэтым* [падаходным] *налогам будуць ападатkаваны толькі багацейшые людзі, маючые ня меней 2000 р. у год даходу.* ВН. *Гдзе мужыки больш свядомы и граматны, там шмат меней прапиваюць грошай и больш чытаюць книг и газет.* УП. Ч, 320.

**[МЕНСКІ]** (13) і **[МІНСКІ]** (2) *прым.* Які адносіцца да Менска [Мінска]. *Пры менскім камісарыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел..* СНБ, 339. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Соверо-Западного края о процяжэні і занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

Адз. м. М. *менскім* (4): СНБ, 339; Т, 36, 55, 61. ж. Н. *менская*: Т, 39. Р. *Менскай* (3): Т, 32, 48, 61; *мінской*: Т, 39; *Мінскей*: Т, 39. В. *Менскую.*: Т, 24. М. *Менскай*: НКУС. Мн. В. *менскія* (2): Т, 41, 45. М. *Менскіх*: Т, 46.

**МЕНШ** *прысл. Пар. ст. да* мала. ◊ **Больш-менш** *гл.* больш.

**[МЕНШАСЦЬ]** (6) *ж.*: • **Нацыянальная меншасць** (6) – меншая па колькасці нацыянальнасць у параўнанні з асноўным насельніцтвам. *Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай..* НДН, 18. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах ..павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці..* Там жа, 19.

Адз.Р. *меншасці* (2): НДН, 18, 19. Мн. Н. *меншасці*: НДН, 19. Р. *меншасцей* (3): СНБ, 337, 338 (2).

**МЕНШЫ** (5) *прым.* **1.** *Пар. ст. да* малы *ў* 1 *знач. Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя, вялізныя партфелі, а чацвёрты – меншы..* Т, 45.

**2.** *Тое, што* малодшы. *Вызнай* [другі брат], *кім цябе бацька на сьвеце пакінуў, – Станься тым, ды йдзі к меншаму брату..* Ч, 323.

*К таму часу памерлі бацька, малодшы брат і дзве меншыя сястры* [Купалы]. А, 328. // *У знач. наз. Як дамоў вярнуўся меншы* [сын], *Сьвету як увідзеў, – Аказаўся дасьціпнейшы, Чым сярэдні, ў крыўдзе.* Дз, 190.

◊ **Самае меншае** – не менш чым. [Мікіта]: *..толькі што, не разгледзеўшы дакладна, хто які йдзе, кажаце* [мамаша] *проста з моста: панечка, меджду протчым! А па-мойму, зусім не панечка, а самае меншае, мадама, а можа, нават і мадам-сіньёра.* Т, 34.

Адз. м. Н. *меншы* (2): Дз, 190; Т, 45. Д. *меншаму*: Ч, 323. н. Н. *меншае*: Т, 34. Мн. Н. *меншыя*: А, 328.

**[МЕРА]** (4) *ж.* **1.** Адзінка вымярэння. *І дзялілі цябе* [Беларусь], *усімі мерамі мерылі, Што памерла ўжо ты, – не адзін так казаў чалавек.* Б, 18.

**2.** *перан.* Памер. *Зямлю ў сваёй адвечнай казцы Трымае* [неба] *без граніц і мер...* БрБ, 6.

**3.** Сродак для ажыццяўлення чаго-н. *Захацелі* [тры браты] *ў судзьбіны даведацца меры, як жыць лепей, памерці як лепей.* Ч, 322.

◊ **Па меры сіл** –адпаведна з сіламі. *Рад таму, што песні і думы мае* [Купалы] *па меры сіл маіх і здольнасцей – знаходзяць водгук ва ўсім Совецкім Саюзе, служаць узмацненню дружбы народаў, усіх працоўных усяго свету!* ЖН.

Адз. Р. *меры*: Ч, 322. М. *меры*: ЖН Мн. Р. *мер*: БрБ, 6. Т. *мерамі*: Б, 18.

**[МЕРАПРЫЕМСТВА]** (2) *н.* Сукупнасць дзеянняў для дасягнення якой-н. мэты. *Адгэтуль незвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленьнне капіталістычных элементаў усім пачынаньням і мерапрыемствам савецкай улады.* АЛ. *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, ..бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з інтэрэсамі беларускіх працоўных мас і запатрабаваньнямі партыі і савецкае ўлады ўстаноўкі і мепрапрыемствы ў культурным будаўнітстве, я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але, наадварот, маральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* Там жа.

Мн. Д. *мерапрыемствам*: АЛ. В. *мерапрыемствы*: АЛ.

**МЕРАЧЫ** *дзеепрысл. да* [мераць]. Вызначаючы адлегласць. *Яны* [бежанцы] *з абозам на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях.* ВБЛ, 80.

**[МЕРКА]** *ж. Разм.* Прымерка. [Мікіта]: *.. гэта .., меджду протчым, прынёс мне мой прыдворны кравец* [касцюм] *для меркі..* Т, 24.

Адз. Р. *меркі*: Т, 24.

**МЕРКАВАЦЦА** *незак. перан.* Мірыцца, жыць у згодзе. *І вось мы, беларусы, гаворачы аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці, не павінны*

*абходзіць моўчкі таго балючага пытання, як гэта мы, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі.* НДН, 18.

Інф. *меркавацца*: НДН, 18..

**[МЕРКАВАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Разважаць, думаць. [Янка]: *А я спачатку меркаваў іначай.* Т, 20.

**2.** Мець намер. *Я* [Купала] *пераклаў ужо каля пяці тысяч радкоў і мяркую перакласці яшчэ тысяч з пяць.* МП.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *мяркую*: МП. Пр. адз. м. *меркаваў*: Т, 20.

**МЕРКОНТЫЛЬНА** *прысл. перан.* Разважліва, абачліва. *..у прадчуваньні рымскіх ласк, Свой разрахунак меркантыльна зьнізіў І як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80.

**[МЕРЫЦЬ]** (2) *незак. Разм.* **1.** Вызначаць тэрыторыю. *І дзялілі цябе* [Беларусь], *усімі мерамі мерылі..* Б, 18.

**2.** Прымяраць. *І хціва мерыць* [абываталь] *шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.* ВБЛ, 81.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *мерыць*: ВБЛ, 81. Пр. мн. *мерылі*: Б, 18.

**[МЕСЦА]** (8) *н.* **1.** *Уст.* Горад. *..есьць яшчэ і чацьвертая сіла, каторая прымусіць з сабою лічыцца. Гэта – сіла сапраўдных гаспадароў нашага месца, – сіла беларуская.* ВМР. *..маем* [беларусы] *вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы, да шмат іншага дабра.* Нз, 15.

**2.** *Руск.* Служба, работа. *У Маскве Грыцко доўга шукаў места..* ПДз.

**3.** *Руск. Тое, што* месца *ў 1 знач. Але вышаў ім ды з памяци Акцябра дзянёк семнадцаты: Той вялики манифэст, – Ды што ў турмах нима мест!* ВЧ.

Адз. Р. *места* (5): БСУ (2); ВМР; ПДз; Т, 61. В. *места*: СНБ, 339. Мн. Р. *мест*: ВЧ. В. *месты*: Нз, 15.

**[МЕСТНЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* месцовы. [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное “далей”, мой собеседнік із племені белоруссов об”ясніл на местном обшчэруском говоре, что для посціжэнія сего “далей” у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

Адз. м. М. *местном*: Т, 39.

**МЕСЦА** (34) і *разм.* **МЕСЦО** *н.* **1.** Прастора зямной паверхні. *На месцы некалі гнілых, дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі.* АЛ. *На месцы ўбогіх палосак красуюцца калгасныя нівы..* Там жа. // Прастора размяшчэння чаго-н. *Месца дзеі – Катадральнага пляца..* Т, 33. *Па ўсіх свабодных мясцох расклеены на сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты..* Там жа. // Пункт прызначэння чаго-н. [Янка]: *..ці няможна будзе ў вас*

*мне з маёй кампаніяй пераначаваць? Шукаці іншага месца для начлегу нияк не хочацца.* Т, 49. // Пункт знаходжання чаго-н., арыенціроўкі ў прасторы. [Дама]: *Мусье беларус, вы ..напоўнены павевамі новага часу і належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?* Т, 37. *Мікіта ..становіцца на лаўку і, маршыруючы пад музыку на адным месцы, махае каля галавы парасонам.* Т, 43. *Параўн.* места *ў 3 знач.*

**2.** Прастора, на якой можна размясціцца. *Публіка паднялася з месц і наладзіла нам* [дэлегатам] *авацыю.* ПЧ. *Параўн.* мейсца *ў 1 знач.*

◊ **З месца на месца** – з аднаго месца на іншае. *Лёс кідае майго* [Купалы] *бацьку з месца на месца..* А, 317. **Каб я з гэтага месца не зышоў** *гл* зысці. **Ні** [ані] **з месца** – а) не рухацца, стаяць нерухома. [Начальнік патруля]: *Ні з месца* [Мікіта]*! Рукі ўверх!* Т, 59; б) **нікуды.** [Янка]: *А так, пане рэгістратар, – ў нашай граматыцы без націскаў ані з месца.* Т, 56. **Паказаць належнае месца** *гл.* паказаць. **Сядзець на мейсцы** *гл.* сядзець. **Цёплае месца** – пра даходную службу. *Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую.* Нз, 14.

Адз. Н. *месца*: Т, 33; *месцо*: З. Р. *месца* (5): А, 327; Т, 20, 49, 56, 59. Д. *месцу*: СНБ, 340. В. *месца* (9): А, 327; ГВУ; НД; НДН, 19; Т, 22, 36, 45, 62; Тж, 16. М. *месцы* (11): АЛ (3); ВМР; ЛР; ПСп; СНБ, 336; Т, 19, 37, 43 (2); *месьце* (2): ВМР (2). Мн. Р. *месц*: ПЧ. В. *месцы* (2): АБ, 16; Нз, 14. М. *мясцох* (2): Т, 19, 43.

**[МЕСЦОВЫ]** *прым.* Звязаны з пэўнай мясцовасцю, уласцівы гэтай мясцовасці. [Заходні вучоны]: *Цо сень тычы граніц палітычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людності вшэхпольскей пшэдставене бардзо не яснэ.* Т, 47. Т, 39. *Параўн.* мейсцовы, местный.

Адз. ж. Р. *месцовэй*: Т, 47.

**МЕСЯЦ** (16) *м.* **1.** Планета, самая блізкая да Зямлі. *..Залаты месяц радасна плаваў.* Ч, 321. *Памятую, яшчэ ў Прудзішчы, калі бацька пасылаў мяне з сястрой на начлег пасвіць коней я* [Купала] *браў з сабой кнігі і пры свецe кастра або месяца чытаў.* ПС.

**2.** Адрэзак часу. *Верасень – мой* [С. Меча] *любімы месяц..* ХБ, 29. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага..* ПЛ. // На працягу месяца. *Але ішлі дні, месяцы, годы, сталецці.* Тж, 15. *Пасыпаліся з друку адна за аднэй кнігі і ў працягу некалькіх месяцыў вышла ў сьвет 15 кніг.* ВСп, 91.

**Верасень месяц. Окупанты на шэсьць месяцаў.**

◊ **Мядовы месяц** – першы месяц пасля якой-н. важнай падзеі. *Але мядовы месяц савецкай улады на Беларусі цягнуўся нядоўна.* СНБ, 339.

Адз. Н. *месяц* (5): ВМ, 72 (2); СНБ, 339; ХБ, 29; Ч, 321. Р. *месяца* (3): ПЛ; ПС; Т, 46. В. *месяц*: Т, 46. Мн. Н. *месяцы* (2): Т, 45; Тж, 15. Р. *месяцаў* (4): ВСп, 91; ОШМ; Т, 45, УП. В. *месяцы*: Ан, 19.

**МЕСЯЧЫК** *м. Ласк. да* месяц *у* 1 *знач. Месячык святляны Служыць нам* [трактару і трактарыстцы] *за варту.* ПТ, 206.

Адз. Н. *месячык*: ПТ, 206.

**МЕТКА** *прысл. Руск.* Трапна, дакладна. *Сцеражыся подлы вораг! Яго* [камсамольца] *метка цэліць куля, – Змеле злыдзеня на порах.* СА, 181.

**[МЕХ]** *м.*: ◊ **Не адкладаючы справы ў доўгі мех** *гл.* адкладаючы.

Адз. В. *мех*: Т, 30.

**МЕЦІ** *гл.* **МЕЦЬ.**

**[МЕЦІЦЦА]** (2) *незак.* Намервацца зрабіць што-н. *Ганула меціцца ісці адчыняць, але заклапочана тым, у якія дзверы ўперад пайсці.* Т, 25. *Мікіта ..меціцца бегчы з настаўленнымі рэвальверамі ў дзверы..* Там жа, 59.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *меціцца* (2): Т, 25, 59.

**[МЕЦЦА]** (4) *незак. Разм.* Адчуваць сябе. *– Як маемся, пане...-рэдактар? – прагаварыў я, заікаючыся. – Маемся, маемся! – перакрывіў рэдактар.* Ан, 19. [Наста]: *Добры дзень! Як маецеся?* Т, 59.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *маемся* (3): Ан, 19 (3). 2 ас. *маецеся*: Т, 59.

**МЕЦЬ** (130) і **МЕЦІ** *незак.* **1.** Уладаць чым-н. *– Як напішаш мільён радкоў, то будзеш мець... палічы, колькі выйдзе? Я палічыў. –Выходзе 45 тысяч рублёў! – Ну, вось, бачыш, колькі будзеш мець грошай, хлопец.* Ан, 19. *Зямлі маем* [беларусы] *шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі..* Нз, 15. // Быць у роднасных адносінах. [Мікіта]: *У гэтым портфэльчыку ..дакументы на права ўставаць рана і не ўставаць рана, хадзіць на службу і не хадзіць на службу, ..мець сабе жонак і дзяцей і не мець сабе жонак і дзяцей..* Т. 46. *Кали маеш брата, ци дарослага сына, абходзься з ими ласкава ..* СП.

**2.** Валодаць чым-н. *..мы* [беларусы] *верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і парупіцца зрабіць усе, што вымагае ад яго дзяржауная мудрасцьць, справядлівасьць і яго уласны інтарэс, і забяспечыць Беларусі яе пануючае палажэньне.* ОШМ. *..людзей слухай, а свой розум мей.* СП. // Быць якога-н. выгляду. *Такі мае абраз нашая старонка у вачох вялікага паэты* [А. Міцкевіча]. ХБ, 28.

**3.** Уключыць, аб'ядноўваць. [Мікіта]: *Беларускае асэсарства, апрача ўсякіх іншых плюсаў, мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік – гэта тое, што і па-беларуску ..можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную націю вялікія руска-ісціныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійская ..імпэрыі.* Т, 56.

**4.** Пазнаваць, зазнаваць, адчуваць. *Зазнаў* [Купала] *там* [у Броварах] *такога пекла, якога яшчэ дагэтуль не меў.* А, 328.

***5.*** *перан.* Пакланяцца, маліцца. *Заезджыя госці ..не разумелі, як гэта можна заместа аднаго мець некалькі багоў.* Кз, 17. *Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяперака, бо не однаго бога мелі, а некалькі .* Там жа.

**6.** У спалучэнні з В. і Р. склонамі назоўнікаў азначае: а) дзеянне па значэнню гэтага назоўніка: мець выгляд – *выглядаць. ..лясы* [паўночнай палавіны Меншчыны] *і цяпер, калі іх не чапалі, маюць выгляд прыгажэйшых паркаў..* ХБ, 29; мець думку – *думаць. Гэту думку мае і закон, каторы кажэ навучаць дзяцей іх веры ў роднай мове*. ВР; мець значэнне – *значыць. А дружба народаў Совецкага Саюза, як сказаў таварыш Сталін, мае нават большае значэнне, чым нашы гаспадарчыя поспехі..* ЖН; мець канец – *канчацца. Мы .. ведаем, што кожная вайна маіць свой канец.* ВС; мець магчымасьць – *магчы. Палякі мелі магчымасьці перарабляць беларусау на палякоу цэлые трыста год з лішкаю і нічога ня ўскуралі.* ДК; мець панаванне – *панаваць. А ўся* [разгадка] – *знаёмая: мае панаваньне У посьце прад Вялікаднямі У селянскім стане.* ШЗ; б) быць, знаходзіцца ў якім-н. стане. *Крыўды шмат маю [унук] зімою і летам..* Ун, 73.

**7.** У спалучэнні асабовай формы і інф. выражае: быць павінен. *..у хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.* БВ, 16.

◊ **Мець гонар** (5) – удастоіцца. [Мікіта]: *Маю гонар пазнаёміць – меджду протчым, мая мамаша, а гэта – мамзэль Наста Пабягунская.* Т, 24. [Спічыні]: *Маю гонар кланяцца!* Т, 41. **Мець мейста** – быць, існаваць. *Мы толькі зазначаем, што калі ужо нарадзілася беларуская сіла, то ні пальонізацыя, ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі..* ДК. **Мець на ўвазе** – падразумяваць. *Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю..* Нз, 14. **Мець у госьцях** – прымаць гасцей. *Верны славянскім спадкам, браточна, У гоцьцях вас* [людзей чужых] *мелі* [беларусы] .. Чж, 146. **Мець навоку** – браць пад увагу. [Мікіта]: *Быўшае, цяперашняе і будучае начальства заўсёды і ўсюды трэба шанаваць і мець навоку..* Т, 50. **У пашане мець** – шанаваць. *Ты* [маці] *вучы яго* [сына] *любіці Усё сваё ў пашане мець.* М, 19. **Як мая** – як павінна быць. *І сярэдні, і малодшы, Родныя дзяціны, Як мая – пашлі к салодшай Ласцэ без прычыны.* Дз, 189.

Інф. *мець* (17): Ан, 19 (2); БВ, 16; ВС; ДК (2); Кз, 17 (2); М, 19; МК; Нз, 14; НДН, 19; Т, 46 (2), 50, 54, 56; *меці*: Ч, 324. Абв. цяп. адз. 1 ас. *маю* (15): Нз, 14; Т, 24 (2), 32, 33, 40, 41, 42, 46, 49, 50, 58, 60; Ун, 73; ЧС, 50-51; *мам*: Т, 27. 2 ас. *маеш* (2): ЕЯП; СП. 3 ас. *мае* (31): АК; БВ, 16; ВМР; ВН (4); ВР (2); ВС; ДЖ (2); ДК; ДНСП; ЖН; ЗС, 18;

Нз, 14 (3); ОШМ; ПЧ; СНБ; Т, 33, 40 (2), 56; УПУВ; ХБ, 28; Ч, 321; ШБСЯ; $Ш_3$; *мая*: Дз, 189; *маіць*: ВС. Мн. 1 ас. *маем* (10) ВР; Нз, 15 (2); ОШМ; СБНГ (2); Т, 47 (3), 53; *маема*: БСУ; *маемо* (2): СБНГ (2). 2 ас. *маеце* (2): Т, 42, 52. 3 ас. *маюць* (12): АБ, 16; БВ, 16 (2); ВМР (2); Нз, 14 (2); РКр; СНБ; Т, 23; Тж, 16; ХБ, 29; *маён*: Т, 47. Пр. адз. м. *меў* (18): А, 328; Ан, 19; БрБ, 6; ГЖУ; Дз, 188, 189; Кз, 17 (2); Кц, 194 (4); Н; Р (2); Ч, 322; ЧС, 50-51 (2). ж. *мела* (2): РС, 40 (2). Мн. *мелі* (10): Дз, 188; ДК; Кз, 17 (4); НДН, 18; Т, 47; Ч, 321; Чж, 146. Заг. адз. 2 ас. *мей*: СП.

**МЕЧ** (2) *м.* Халодная зброя. *Пры боку меч матаўся голы..* УрП, 51. *Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы дзень змучанага аграбленага нашага народу.* ПЛП.

Адз. Н. *меч*: УрП, 51. Р. *меча*: ПЛП.

**[МЕШАЕЦЦА]** *неказ.* Змешвацца, злучацца з чым-н. *Як чорная поліўка, ліліся яго* [рэдактара] *буйные сьлёзы на васкаваную падлогу, каціліся за дзьверы на вуліцу, і, як свой с сваім, мешаліся з расхляпаным балотам віленскіх каркаломных брукоў.* ЧЧШ.

Абв. пр. мн. *мешаліся*: ЧЧШ.

**МЁД** (8) *м.* Пчалінае рэчыва. *Літва і Беларусь справедку славяцца багацьцем пахучага мёду.* ХБ, 30. *Мы* [беларусы] *самі сабе збожжа збіралі і частавалі мёдам суседзяў..* ССА, 294.

◊ **Не вялікі мёд –** не вельмі добра, дрэнна. [Ганулля]: *Мы наракаем, што цяпер цяжка жывецца, а як падуманш, дык і ўперад не вялікі мёд быў.* Т, 44.

Адз. Н. *мёд* (3): Дз, 189; Т, 44, 60. Р. *мёду*: ЗХБ, 30. В. *мёд* (2): НДп, 229; Т, 60. Т, мёдам (2): ССА, 294; ТЗУ, 293.

**[МЁРТВЫ]** (2) *прым.* **1.** Пазбаўлены жыцця; нежывы. *Яны* [польскіе і расейскіе націоналісты], *як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць бытцым-то мёртвае цела нашаго народу і, убачыўшы, што гэты народ ажывае, спудзіліся, што ім пажывы не хваце!* ВР.

**2.** *перан. У знач. наз.* Той, пра каго забылі. [Мікіта]: *..каму і нашто патрэбна гэта ваша з мёртвых паўстанне.* Т, 21.

Адз. н. В. *мёртвае*: Мн. Р. *мёртвых*: Т, 21.

**[МІГ]** *м.* Вельмі кароткі прамежак часу; імгненне, момант. *Далі такія ў нас ясныя і прыгожыя, людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх можа стаць героем у любы час, у любы міг..* ЖН.

Адз. В. *міг*: ЖН.

**[МІГАЦЕЦЦА]** *незак.* Паказвацца на кароткі час і знікаць; мігацець. *З самалётам днём і ночай Мігаціцца* [камсамолец] *ў безгранічны..* СА, 180. *Параўн.* мігацца.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *мігаціцца*: СА, 180.

**МІГАЦЦА** *незак. Разм.* З'яўляцца. *Есць жа яшчэ ў мяне сіла Крыўдзе не дацца, змагацца, Над спячых продкаў магілай Вольна маланкай мігацца.* ЁЯ.

Інф. *мігацца*: ЁЯ.

**[МІГАЦЬ]** *незак. перан.* Вырысоўвацца, бачыцца. *Відна, што ніўка – маці тутка чалавеку! Відна з густых коп сена, што на сенажатцы Зьвездачкамі мігаюць..* ХБ, 28.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *мігаюць*: ХВ, 28.

**[МІГІ]** (5) *толькі мн.* ◊ **На мігі** (5) – жэстыкуляцыяй. *Немец паказвае на мігі, што не разумее, у чым рэч.* Т, 42. *Мікіта дастае партманэ, а з яго грошы і на мігі паказвае немцу, каб купіў.* Там жа.

В. *мігі* (5): Т, 23,32,42(3).

**[МІГЦЕЦЬ]** (2) *незак.* Мігацець, свяціць. *На небе зоры ўжо мігцяць..* Кц, 192. *Глядзіся* [брат-беларус] *ў зоры, што мігцяць На небе ў радасці і шчасці.* БрБ, 6. *Параўн.* міргаць.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *мігцяць* (2): БрБ, 6; Кц, 192.

**МІЖ** (17) *прызн.* з *Р.* і *Т.* выражае:

Прасторавыя адносіны (11):

**1.** *з Р. і Т.* Для ўказання на прадметы, пасярод якіх адбываецца, знаходзіцца што-н. *Між гор шапталіся крыніцы..* УрП, 47. *Між небам лазурным і чорнай зямлёй прывольная думка лунала.* КП, 170. //Тое ж пры ўказанні на групу прадметаў. – *Што-ж? – разгулівай, сыты чужак, Між забраных крыжоў, курганоў.* УрП, 50-51. Бч, 10; Кц, 194; ПН, 46,. 47; УрП, 48; ХБ, 28; ЧС, 50-51; $Ш_{4.}$

**2.** *з Р. і Т.* Для ўказання на групу асоб з узаемаадносінамі. *Не будзе, не будзе тады Вайны, калатні між людзей.* ТП, 216. *Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі..* Кз, 17. Н.

**3.** *з Р. або Т.* Для ўказання на супастаўленне каго-н. *Хто-ж маўчыць, чый край бяз волі Стогне ў горы сіратой, – Той благое зельле ў полі, Між людзьмі скаціна той!* КЧ. Т, 60;УрП, 49.

◊ **Між іншым** *гл.* іншы.

**[МІЗЭРНЫ]** *прым.* Нязначны. [Мікіта]: *..толькі, меджду протчым, працаваў* [пралетарыят], *ды йшчэ за гэтую мізэрную працу цягнуў крывавую капейку з беднай буржуазіі.* Т, 40.

Адз. ж. В. *мізэрную*: Т, 40.

**МІКАДА** *м.* Тытул японскага імператара. *Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву. Страву, што ім Гітлер Варыў смачна, ласа, Страву, што мікада Запраўляў закрасай.* МПв, 218.

Адз. Н. *мікада*: МПв, 218.

**МІЛА** (4) *прысл. да* мілы *ў 1 знач. Ад хваль, што шэпчуцца так міла, Ты* [беларус] *дойдзеш праўданькі усёй..* БрБ, 6. [Мікіта]: *Як гэта міла з вашага боку, што нават і ў гэтакі трывожны крыху час вы* [Спічыні] *не забываецеся аб маёй адукацыі.* Т, 49. М, 20; ПТ, 208.

**[МІЛАВАЦЬ]** *незак.* Дараваць каму-н. віну. *Вядома, не абыходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засынаў* [на начлезе], *а коні тым часам траплялі ў шкоду. Разумееца, бацька за гэта мяне не мілаваў..* ПС.

Абв. пр. адз. м. *мілаваў*: ПС.

**МІЛАГУЧНА** *прысл.* Прыемна на слых. [Янка]: *Але чаму б вам, колежскі рэгістратар Нікіцкій Зносілов, не стацца тым, чым вы самдзеле ёсць: Мікіта Зносак – і мілагучна, і па-тутэйшаму..* Т, 48.

**МІЛАГУЧНЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* мілагучна. *А ня шкодзіла-б ужыць крыху сьмеласьці й замяніць гэтыя чужатворы.. болей зразумелымі беларускімі наватворамі – было-б прасьцей і мілагучней.* ВСп, 89.

**МІЛАСЦІВЫ** *гл.* **МІЛАСЬЦІВЫ.**

**МІЛАСЦЬ** (3) і **[МІЛАСЬЦЬ]** *ж.* Добразычлівасць, міласэрнасць. *О, богі рэк, лясоў і ніваў! Дажбог, багамі сьвету дан, Пярун блыскотны і грымлівы, І ты, Купала, сьветыч тайн. Зірнеце міласьцяй сваею, Усе моцы вышлеце на бой, Хай распапеляць зла навею над упадаўшай стараной.* УрП, 48.

◊ **Ваша таварыская [чырвоная] міласць** [*уст., іран*] – пачцівы зварот да бальшавіка. [Мікіта]: *Ваша таварыская міласць! Пакіньце мяне з мамашай. .. пайду памагаць вам забіраць Варшаву, толькі не забірайце мяне!* Т, 62. [Мікіта]: (*падазрона ўзіраючыся на Начальніка*). *Калі вашай чырвонай міласці падабаецца, то мы знаёмы..* Т, 60. **Міласці прашу** *гл.* прасіць.

Адз. Н. *міласць*: Т, 62. Р. *міласці*: Т, 24. Д. *міласці*:Т, 60. Т. *міласьцяй*: УрП, 48.

**[МІЛАСЬЦІВЫ]** (3) і **[МІЛАСЦІВЫ]** *прым. да* [міласць.]. *Другі ганец за першым князю сказ І княжне скажэ міласьцівай: Я абышоў іх* [людзей] *тройчы раз І ёдзеў, што яны ўсе жывы.* Кц, 195. // *У знач. вык.* [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, вы цераз лад ка мне міласціvы.* Т, 29.

Адз. ж. Д. *міласьцівай* (3): Ч, 194 (2), 195. Кар. мн. Н. *міласцівы*: Т, 29.

**МІЛАСЬЦЬ** *гл.* **МІЛАСЦЬ.**

**[МІЛАСЭРДЗЕ]** *н. Польск.*: • **Сястра міласэрдзя** *гл.* сястра.

Адз. Р. *міласэрдзя*: Т, 52.

**МІЛЁН** *гл.* **МІЛЬЁН.**

**[МІЛІТАРНА-ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНЫ]** *прым. Разм.* Мілітарыстычна-імперыялістычны.. *Соцыяльные рэволюцыянеры з усходу і нацыянальные "рэволюцыянеры" з заходу ў мінулы год паказалі сваю праўдзівую натуру. І тые і гэтые ў сваім мілітарна-імпэрыялістычным паходзе стараюцца сьцерці па дарозе ўсё, што стаіць на перашкодзе дзеле дасьціжэньня сваіх мэт.* СНБ.

Адз. м. М. *мілітарна-імпэрыялістычным*: СНБ.

**[МІЛІТАРНЫ]** (2) *прым. Разм.* Мілітарысцкі. *..гэтыя дзяржавы* [Расія, Нямеччына, Англія, Японія і ім падобныя] *ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзніштажаючым паходзе мелі адну .. мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і падняволіць іх сваёй нацыі..* НДН, 18. *Вы* [паны гандляры] *ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сціралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе, а усё для панавання ўсясільнага молаха-золата.* Тж, 16.

Адз. м. М. *мілітарным* (2): НДН, 18; Тж, 16.

**[МІЛІЦЫЯ]** *ж., зб.* Орган для аховы грамадскага парадку і бяспекі. *Пэўнага дня вядома беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску, выдаць ей дазваленьне на перавозку школьных рэчау з аднаго будынку у другі.* ОШМ.

Адз. Р. *міліцыі*: ОШМ.

**МІЛІЦЭЙСКІ** *прым. да* міліцыя. *Міліцэйскі ураднік просьбы* [напісанай па-беларуску] *не прыняў, сказаўшы, што усе просьбы да ураду павінны пісацца па-польску.* ОШМ.

Адз. м. Н. *міліцэйскі*: ОШМ.

**МІЛЫ** (23) *прым.* **1.** Прыемны. [Мікіта]: *Каго я бачу, медждy протчым! Якое мілае, неспадзяванае спатканне!* Т, 37. *Гналі, высмявалі багачы і князі, – Яго* [Сулеймана Стальскага] *песні-думы былі ім не мілы.* ПСС, 231. // Абаяльны. [Янка]: *Праўдзівая Пабягунская. Хто яна такая?* [Мікіта]: *Так сабе – надта мілая і сымпатычная, медждy протчым, мамзэль.* Т, 23.

**2.** Дарагі, любімы, блізкі сэрцу. *А дзяўчына, міла сэрцу, Правяла [Данілу] за сяло. І дала на памяць персцень, Каб у бойках вязло.* ПСД. *Мяне ўзяць з сабою прасіла* [на выбары], *Але ўзяць не ўзялі, Адно кажа мамка міла: – Ты йшчэ сходзіш, Галя.* Вб, 326.

**3.** *У знач. наз.* Ужываецца пры сяброўскім звароце. [Гануля]: *Ці вы не з Дуброўкі?* [Гарошка]: *Але, мая мілая, з Дуброўкі!* Т, 25. [Аленка]: *Ды ў яго* [Гарошкі] *яшчэ ўнукаў і няма.* [Гануля]: *Дык будуць, мае мілыя, будуць.* Там жа, 54.

**4.** *У знач. наз.* Каханая. *Хто там стогне так на ўзьмежку, На капцы ў полі? Ці над бацькаўскай магілай Жаліцца сіротка, Ці сваёй шукае мілай Хлопец-адзінотка?* Дз, 187.

Адз. м. Н. *мілы* (6): БН, 92; ПТ, 206, 207 (3); ХЛВ, 315. ж. Н. *мілая* (3): Т, 23, 25, 35. Р. *мілай*: Дз, 187. Д. *мілай*: ПСД. В. *мілую*: Т, 27. Т. *мілай* (2): Кр, 77; Пц. н. Н. *мілае*: Т, 37. Р. *мілага*: Т, 32. В. *мілае*: Т, 51. Мн. Н. *мілыя*: (2): Т, 25, 54. Р. *мілых*: ЧС, 50–51. Кар. ж. Н. *міла* (2): Вб, 326; ПСД. Мн. Н. *мілы*: ПСС, 231.

**[МІЛЬЁН]** (14) і **[МІЛІЁН]** *м.* **1.** Лічбавая колькасць. *..на лік мы* [беларусы] *народ вялікі – каля 12 мільёнаў.* Нз, 15 *..расейскі ўрад*

*у сваім часе шмат зьбіраў* [каля тысячы мільёноў рубл.] *налогаў на гарэлку.* ВН.

**2.** *мн*. Мноства. *Здарма ж двуглавы твой арол Праз векі ў кіпцюрох трымаў Мільёны ўбогіх хат і сёл..* АПЖ. *Я* [Купала] *ганаруся і гарджуся, ..што над маёй хатай, як і над мільёнамі хат неабсяжнай маёй бацькаўшчыны – краіны советаў развіваецца чырвоны неперaможны сцяг.* ДЖ. // Народ, людскія масы. *І мірныя людзі – іх сотні імёнаў – Вартуюць нядрэнна свае рубяжы. А ў часе трывогі паўстануць мільёны, І вораг не пройдзе совецкай мяжы.* ПБН. *Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, ..Што яваю станецца сон міліёнаў..* ТП, 217.

Адз. В. *мільён*: Ан, 19. Мн. Н. *мільёны* (2): ВР; ПБН. Р. *мільёнаў* (2): Нз, 15; СБ; *мільёноў* (2): ВН; РКр; *міліёнаў*: ТП, 217. В. *мільёны* (4): АПЖ (2); СС, 301; Тж, 16. Т. *мільёнамі* (3): ДЖ; ПН, 314; СТ.

**МІЛЬЁННЫ** *прым. да* мільён *у 2 знач. Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына: Зразумеў і ўспомніў цябе твой мільённы народ.* Б, 18.

Адз. м. Н. *мільённы*: Б, 18.

**[МІЛЬШЫ]** *прым. Польск.* Мілейшы. *Яму* [цудадзею] *слухмяны былі хмары, Народу сказ даваў свайму: Якія мільшыя ахвяры Багам панятлівым яму.* УрП, 47.

Мн. Н. *мільшыя*: УрП, 47.

**[МІЛЬЯРД]** *м.* Лічбавая колькасць. *Таргуюцца* [паны гандляры] *за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца, каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд рублёў.* Тж, 15.

Адз. В. *мільярд*: Т., 15.

**[МІЛЯ]** *ж. Уст.* Дарожная мера даўжыні. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16.

Мн. Р. *міль*: АБ, 16.

**МІМА**[1] (2) *прысл.* Не спыняючыся, не затрымліваючыся дзе-н. [Гануля]: *Ідуць, ідуць* [бальшавікі]*! Не! Міма прайшлі.* Т, 59. [Гануля]: *Ідуць, ідуць,* [бальшавікі]*, мой сынок, ідуць!* [Мікіта]: *Можа, йзноў міма медждy протчым!* Там жа.

**МІМА**[2] *прыз. з Р.* Указвае на асобу, мінаючы якую адбываецца дзеянне. [Янка]: (*да праходзячага міма яго Мікіты*). *У вас сягодня, пане рэгістратар, праўдзівы арыстакратычны баль.* Т, 27.

**МІМАВОЛІ** *прысл.* Незалежна ад волі, свядомасці. *Мімаволі родзіцца трывога перад заўтрашнім днём.* РКр. *Параўн.* мімавольна.

**МІМАВОЛЬНА** *прысл. Тое, што* мімаволі. *..я* [С. Меч] *мімавольна зазіраўся на гэты лес і забываўся пра сваю работу.* ХБ, 29.

**[МІНАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Прайсці міма. *А як пойдзе хто трэцяй сьцяжынай – пуцінай, Што сваёй ня мінае граніцы, Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай, Сьмягнуць будзе над роднай крыніцай.* Ч, 319.

**2.** Праходзіць [пра час]. *Годы міналі..* СЗГ, 252.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *мінае*: Ч, 319. Пр. мн. *міналі*: СЗГ, 252.

**[МІНІСТР]** *м.* Член урада, які стаіць на чале міністэрства. *..прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны ..мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах у магістратах, з міністрам замежных спраў п. Бенешам..* ПЧ.

Адз. Т. *міністрам*: ПЧ.

**МІНСКІ** *гл.* **МЕНСКІ.**

**МІНУЛЫ** (19) *прым.* **1.** Які прайшоў, мінуў. *Мінулы 1922 год быў самым ураджайным годам у справе росквіту беларускага друкаванага слова.* ВСп, 89. *Наладжанае ў красавіку мінулага году коопэрацыйнае в-ва "Адраджэньне" шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91. *Параўн.* прошлы *ў 1 знач.*

**2.** *У знач. наз.* Былое. *Парываючы.. з беларускім нацыянал-дэмократызмам, .. толькі аддаючы сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна* [інтэлігенцыя] *ня будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабскага мінулага.* АЛ. *У нашу векапомную эпоху гэроічнага змагальня пролетарыяту за вызвалененьне працоўных з-пад няволі капіталізму.. праступна ўваскрашаць мінулае..* Там жа. *Параўн.* прошлы *ў 2 знач.*

**Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год.**

Адз. м. Н. *мінулы* (3): ВСп, 89; СНБ (2). Р. *мінулага*: (3): ВСп, 89, 91; НК. В. *мінулы* (7): ВСп, 90(2), 91 (2); СНБ (2); ТП, 214. н. Р. *мінулага* (2): АЛ; З. В. *мінулае* (2): АЛ (2). М. *мінулым*: АЛ. Мн. М. *мінулых*: ПНд, 314.

**[МІНУТА]** (3) і *разм.* **[МІНЮТА]** *ж.* Адзінка часу [60 секунд]. *Пасля некалькіх мінут раптоўна ўрываюцца зыкі вайковай музыкі.* Т, 43. // Адрэзак часу; які-н. момант. [Ганулья]: *Як я рада, што вы* [Янка і Аленка] *не забыліся нас у гэтыя трывожныя мінуты.* [Янка]: *Ці ж першыя для Менску гэтыя трывожныя мінуты?* Т, 53. *Выбіла часіна і для нас* [беларусаў]. *Выбіла можа у найцяжэйшую мінуту нашага палітычнага жыцьця.* БСУ. *Параўн.* хвіліна.

Адз. В. *мінюту*: БСУ. Мн. Н. *мінуты*: Т, 53. Р. *мінут*: Т, 43.

**[МІНУТКА]** (2) *ж. Ласк.* Кароткі прамежак часу. [Мікіта]: *Калі спаткаеце* [мамаша] *Спічыні, то напомніце яму, што я яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва, вось толькі схаджу на мінутку на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаў*

*курс на валюту.* Т, 34. [Спічыні]: *Затрымайцеся* [Мікіта] *на мінутку.* Там жа, 40.

Адз. В. *мінутку* (2): Т, 34, 40.

**МІНУЎШЧЫНА** (7) *ж.* Мінулае, былое. *Адзін, адзін раз толькі ў год Зьбірацца можэм* [духі] *з ласкі Рока, Каб лет іржавы карагод Зганяць з мінуўшчыны далёкай.* Кц, 193. *Калі мы зірнем у нядаўнюю мінуўшчыну вылікіх дзяржаў, .. то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы .. мелі адну ярка зарысованную мэту – гэта заграбіць як найбольш пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і падняволіць іх сваёй нацыі..* НДН, 18.

Адз. Н. *мінуўшчына*: Нз, 14. Р. *мінуўшчыны* (4): Кц, 192, 193, 196; Н. В. *мінуўшчыну* (2): НДН, 18; СБНГ.

**МІНУЎШЫ** (5) *дзеепрым. незал. пр. да* мінуць. **1.** *Дзеепрым. да* мінуць *у 2 знач. З гэтага боку мінуўшы год быў вельмі для нас цікавы..* СНБ, 337. *Мы хочам толькі акінуць вокам нашае грамадзянска-палітычнае жыццё за мінуўшы год ..* Там жа.

**2.** Ранейшы, былы. *Пачуем дзіўную аповесць Мінуўшай славы і жыцця..* БрБ, 6.

**З мінуўшых дзён.**

Адз. м. Н. *мінуўшы*: СНБ, 337. В. *мінуўшы*: СНБ, 337. ж. Н. *мінуўшая*: Т, 51. Р. *мінуўшай*: БрБ, 6. Мн. Р. *мішуўшых*: МД.

**[МІНУЦЦА]** *зак.* Скончыцца, прайсці. *Нашы мінуліся дні беспрасветныя..* ДПЛС.

Абв. пр. мн. *мінуліся*: ДПЛС.

**[МІНУЦЬ]** (9) *зак.* **1.** Пазбегнуць чаго-н. *Свет там выдумкі хітры знае. Троны, кароны, весельні, кулі – Выдумаць гэта мы* [беларусы] *ў сваім краі Неяк мінулі.* Пп, 5.

**2.** Прайсці, скончыцца [пра час, падзеі]. *Год мінуў, як ваяваці Шоў Даніла з сяла.* ПСД. *Засядаць, панаваць, на хватаным банацьці Ня кідае* [другі сын] *за дзьверы надзеі, Хоць мінула даўно яго сьвята па сьвяце, Хоць пасад свой на выдмах разьвеяў.* Ч, 320.

Абв. пр. адз. м. *мінуў* (2): АЛ; ПСД. ж. *мінула* (2): КП, 170; ПН, 46. н. *мінула* (3): МД (2); Ч, 320. Мн. *мінулі* (2): Пп, 5; ПСС, 232.

**МІНЧАНІН** *гл.* **МЯНЧАНІН.**

**МІНЮТА** *гл.* **МІНУТА.**

**МІР**[1] (8) *м.* **1.** Згода. [Поп]: *Мір очагу сему!* Т, 51.

**2.** Адсутнасць вайны. *У самую гушчу Чэхаславацкога народу пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Савецкі Саюз як на адзіны аплот міру.* ПЧ. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі, следуючы волі совецкага народа і яго жаданню захаваць мір, змагаюцца не пераходзячы на тэрыторыю ворага, мужна адстойваюць кожную пядзь свяшчэннай зямлі.* ВГ.

Адз. Н. *мір*: Т, 51. Р. *міру* (3): ПЧ (2); СНБ. В. *мір* (3): ВГ; НДН, 18; ПЧ. М. *міру*: ДД.

**МІР$^2$** (2) *м.*: Δ **Мір-сьвет** (2): *Ракочуць гусьлі звон-у-звон, На мір сьвет розгалас насецца, Як мір-сьвет, коціцца разгон І ў думцэ казкай раздаецца.* Кц, 197.

Адз. Н. *мір*: Кц, 197. В. *мір*: Кц, 197.

**[МІРАЖ]** *м.*: ◊ **Лунаць у міражах** *гл.* лунаць.

**[МІРГАЦЬ]** (2) *незак. перан.* **1.** *Тое, што* мігцець. *Не аб сонцы, што нам свеціць і зімой і летам, Не аб зорах, што міргаюць Ночкамі над светам, .. Мая* [Купалы] *песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандыдатах у Совет Вярхоўны* НК.

**2.** Мільгаць. *Зварухнуўся полк, А за ім другі, Толькі сцяг міргае.* ВБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *міргае*: ВБ. Мн. 3 ас. *міргаць*: НК.

**МІРНА** *прысл.* Мірным шляхам. *Мы* [беларусы] *павінны яе* [незалежнасці] *дамагацца і мірна, і з аружжам у руках..* Нз, 15.

**[МІРНЫ]** (4) *прым.* **1.** Міралюбівы, стваральны. *Я* [Купала] *вітаю сардэчнымі словамі паэта нашу магутную Чырвоную Армію, якая .. вартуе нашу мірную працу, наша радаснае жыццё.* ЖН. *І калі цяпер .. шмат якія дзяржавы, перайшоўшыя на мірнае жыццё, прыступілі к адбудове ваенных руін, – у нашым краю .. нічога аб гэтым не чуваць.* АБ, 16.

**2.** *Прым. да* мір$^1$ *у* 2 *знач. І мірныя людзі – іх сотні імёнаў – Вартуюць нядрэнна свае рубяжы.* ПБН.

Адз. ж. В. *мірную*: ЖН. н. В. *мірнае*: АБ, 16. Мн. Н. *мірныя*: ПБН. В. *мірныя*: Ф.

**[МІСІЯ]** (6) *ж.* Прызначэнне каго-н. [Янка]: *Мне здаецца, пане рэгістратар, што вы так запуталіся ў сваіх рангах, клясах і свабодных профэсіях, што ўжо не здольны да ніякай місіі – нават да тэй сваёй роднай, ісціна-рускай місіі.* Т, 38. [Мікіта]: *.. нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад'язджаючы, на гэтую місію багаславіў.* Там жа.

Адз. Р. *місіі* (2): Т, 38 (2). В. *місію* (4): Т, 38(2), 49(2).

**[МІСКА]** (2) *ж.* Круглай формы пасудзіна для ежы. *На беларускай зямлі было і ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэгенацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам..* ПЛП.

◊ **Хлёбаць з адной міскі страву** *гл.* хлёбаць.

Адз. Р. *міскі* (2): МПв, 218; ПЛП.

**[МІСТЭРЫЯ]** *ж. Уст.* Сярэдневяковая рэлігійная драма. *Верце, што мы* [беларусы] *з'яўляемся дзейнымі асобамі – героямі чараўнічай песні, чудатворнай містэрыі, якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыццё.* ПЛП.

Адз. Р. *містэрыі*: ПЛП.

**МІТРЭНГА** *ж. Польск.* Перашкода, затрымка. [Янка]: *Але ўсё ж такі, чаму вы не паехалі?* [Мікіта]: *Вышла малая мітрэнга.* Т, 55.

Адз. Н. *мітрэнга*: Т, 55.

**МІТЫНГ** (6) *м.* Масавы збор людзей для абмеркавання кога-н. пытання. [Спічыні]: *Вось, напрыклад, як вы разумееце мітынг?* [Мікіта]: *Мітынг – гэта тое з вушамі таварыства, дзе араторыць буду я, а слухаць будуць яны.* Т, 41.

Адз. Н. *мітынг* (4): Т, 41 (4). В. *мітынг*: Т, 41. М. *мітынгу*: МП.

**[МІФАЛОГІЯ]** *ж.* Сукупнасць міфаў. *Захапляўся* [Купала] *народнай міфалогіяй, чытаў аб ёй кнігі.* ПС.

Адз. Т. *міфалогіяй*: ПС.

**МЛЕЧНЫ** (2) *прым. Польск.* Малочны. *Сынам, як кажуць, маім быў ён* [паніч] *млечным..* Мц, 74.

• **Шлях млечны** *гл.* шлях.

Адз. м. Н. *млечны*: ТП, 217. Т. *млечным*: Мц, 74.

**МНОГА** (16) *прысл.* Шмат; у вялікай колькасці, у значнай ступені. *Чытанне ўсякіх кніжак без разбору – а чытаў я* [Купала] *іх вельмі многа – разбудзіла маю фантазію..* А, 328. *Не дзіва, што многа жалю, многа смутку і жальбы было ў маіх* [Купалы] *песнях, бо незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.* ЖН. ВСп, 89, 91; Дз, 128(2); ЖН (2); ПБН (2); ПДз; Т, 20, 40; УП; ХЛВ, 316.

**[МНОГАВЯКОВЫ]** *прым.* Які існуе на працягу многіх стагоддзяў. *Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галавамі мур прабіваць – адбудоўваць сваю закаваную у многавяковыя кайданы бацькаўшчыну, а сягоння без малага ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызвалення.* ПЛП.

Мн. В. *многавяковыя*: ПЛП.

**[МНОГАМІЛЬЁННЫ]** *прым.* Які налічвае многа мільёнаў. *Усяго пятнаццаць год вялікая ідэя вызвалення з паднявольля Беларусі лунае і пашыраецца сярод многамільённага беларускага грамадзянства.* ПЛП.

Адз. н. Р. *многамільённага*: ПЛП.

**[МНОГАПАКУТНЫ]** *прым.* Шматпакутны. *У 1905 годзе пачаў і я* [Купала] *падаваць сільней свой голас ад імя многапакутнага беларускага працоўнака народа.* ДЖ.

Адз. м. Р. *многапакутнага*: ДЖ.

**[МНОГІЯ]** *толькі мн.*: ◊ **На многія годы** *гл.* год.

Мн. В. *многія*: НКУС.

**[МНОЖЫЦЬ]** *незак. перан.* Услаўляць. *Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыццё.* УрП, 46.

Абв. пр. мн. *множылі*: УрП, 46.

**МО** (6) *Разм. Усеч.* Можа. *Мо якому народу і прышла гэта вясна, але беларускі народ гэта “вясна народаў” неяк усё абмінае.* ДД. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз, 17. Т, 20, 43; Шз.

**МОВА** (36) *жс.* **1.** Сукупнасць гукавых і лексіка-граматычных сродкаў. *Беларуская мова з пагарджанай і паднявольнай стала роўнапраўнай і дзяржаўнай, як і мовы ўсіх народаў Совецкага Саюза.* ШБСЯ. *Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру.* Нз, 14. Прадмет вывучэння. *“Практычная граматыкі” Я. Лёсіка ўжо зрабіліся незамененымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзянінна, які захоча акуратна пазнаць і вывучыць сваю мову.* ВСп, 89. *Параун.* язык, нажэча.

**2.** Выражэнне думак. *Вучыць рэлігіі* [католікоў-беларусаў] *па расейску – гэта дрэнная і шкодная ўселякіх Солоневічоў, бо яна толькі мацней прывязвае цёмнага беларуса да польскай мовы, каторую ён лічыць “сьвятой”, “касьцёльнай” мовай.* ВР.

∆ **Душа-мова** *гл.* душа.

◊ **Найці супольную мову** *гл.* найці.

Адз. Н. *мова* (7): ВМР; ВР; З; ОШМ; Т, 26; ШБСЯ (2). Р. *мовы* (7): ВР (2); ОШМ (3); СНБ, 339; ШБСЯ. В. *мову* (8): ВР; ВСп, 89; М, 19; Нз, 14; ОШМ; ПЧ; СНБ; ШБСЯ. Т. *мовай* (2): ВР; З. М. *мове* (8): АПЖ; ВР (4); ВСп, 89; ЧЧШ; ШБСЯ. Мн. Н. *мовы*: ШБСЯ. Р. *моваў*: Т, 46. В. *мовы*: ПЧ. М. *мовах*: СНБ, 339.

**МОГУЧЫ** *дзеепрысл. да* магчы *ў 1 знач. Ня могучы кожнаму з асобку падзякаваць, як на гэта яны заслужылі сваімі шчырымі адносінамі к майму няшчасьцю, я* [Купала] *лічу сваім сьвятым абавязкам хоць на гэтым месцы* [у газеце] *успомніць гэтых асоб добрым словам.* ЛР.

**МОЖА** *гл.* **МАГЧЫ**.

**МОЖНА** (38) *безас.* **1.** Ёсць магчымасць. *..справы такія ў нас пашлі, што ў кожным куточку Саюза Советаў, у любым калгасе, на любым заводзе можна заваяваць сабе сусветную славу.* ЖН. [Дама] : *Цяпер такую закуску можна спаткаць толькі ў надта высокіх асоб.* Т, 38.

**2.** Дазваляецца. [Наста]: (*высоўваючы галаву з правых дзвярэй*). *Ці можна?* [Мікіта]: *Калі ласка.* Т, 23. [Чырвонаармеец]: *Ці можна у вас, таварышы, перасядзець, пакуль сцямнее?* Т, 52. Вб, 238; ВС (2); ДК (2); З; Кз, 17; МП (3); Нз, 14 (3); ОШМ (2); ПЛП; ПЧ; СБНГ; СНБ 338, 340; СЧ; Т, 21, 23(3), 27, 32(2), 37, 40, 50, 51, 56; $Ш_4$.

**МОЖЭ**[1] (5) *н. Польск. Тое, што* мора *ў 1 знач.* [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон* [беларусы].. Т, 47. [Заходні вучоны]: *Пшырода*

*на Польскіх Крэсах Всходніх надзвычай буйна і богата;.. край тэн посядал навэт можэ, але завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэ тэ пшэісточыло сень в Пінске блото.* Там жа.

Адз. Н. *можэ*: Т, 47. Р. *можа* (3): Т, 47(3). В. *можэ*: Т, 47.

**МОЖЭ**[2] *пабочн. Польск. Тое, што* магчы *ў 4 знач.* [Заходні вучоны]: (*да Янкі*). *Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яке собе закрэсляце граніцэ політычнэ.* Т, 47.

**[МОЗГ]** (4) *м.*: ◊ **Атуманіць мазгі** *гл.* атуманіць. **Ламаць мазгі** *гл.* ламаць. **Сушыць мазгі** *гл.* сушыць.

Мн. Р. *мазгоў*: МІ, 17. В, *мазгі* (3): Ан, 18; Т, 49; Х.

**МОЙ** (284) *займ.* **1.** Які мае адносіны да мяне, належыць мяне. *Мой* [С. Меча] *пісьменны стол стаяў каля акна, каторае выходзіла ў сад..* ХБ, 29. *..ўсё маё* [Купалы] *юнацтва прайшло на чужой зямлі ў безупыннай залежнасці і пад гнётам польскага панства.* А, 328. // Які надежыць мне як аўтару, дзеючай асобе. *Мая* [Купалы] *першая кніжка "Жалейка" была канфіскавана, а выдаўцу яе выклікалі ў суд.* А, 328. [Усходні вучоны]: *Мої научныя ісследованія на сегодняшній дзень окончэны.* Т, 27. // Які адносіцца да мяне, як да аб'екта чыёй-н. дзейнасці. [Дама]: *Што гэта у вас, мусье, за такі арыгінальны ўбор?* [Мікіта]: *Гэта ..прынёс мне мой прыдворны кравец для меркі..* Т, 24. [Янка]: *Не была б то* [Аленка] *мая найздальнейшая вучаніца.* Там жа, 29–30. // Які належыць мне разам з іншымі, уключаючы і мяне. *Ленінская нацыянальная палітыка дала майму народу, побач з іншымі народамі нашай Радзімы, дзяржаўнасць.* А, 328. *З туманаў, з імглы з цемнаты Пасўтала краіна мая.* ТП, 214.

**2.** Які належыць мне на сваяцкіх, сяброўскіх апдносінах. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны, паходзіць з дробных засцянковых арандатараў, выгнаных нейкім polькім князем з зямлі.* А, 327. [Мікіта]: *(паказваючы). Гэта, медждy протчым, мая мамаша.* Т, 61. // Пры зваротах. [Ануля]: (*гледзячы ў другое вакно*). *Ідуць, ідуць, мой сынок, ідуць* [бальшавікі]*!* Т, 59. – *Куды йдзеш ты, мая бабка, – Кажа ўнук бабулі.* Вб 237. // *У знач. наз.* Муж, гаспадар. [Ануля]: *Пасля мой памёр, вечны яму пакой, а я засталася адна са сваім Мікіткай.* Т, 20. // Пра любімую жанчыну. [Мікіта]: *Зменяцца політычныя сытуацыі, атрымаю ад начальства асэсарскую рангу, і мамзэль Наста будзе маёй.* Т, 23.

**3.** Уласцівы мне. *Гэй ты, першая мая! Мы одно з табою; Хоць ты літара ўсяго, Дый мая ж за-тое.* $Ш_1$.*Параўн.* муй.

**4.** У спалуч. з назоўнікам выступае ў ролі выклічніка для перадачы спалоху. [Ануля]: *Матачкі мае родныя, бацечкі мае хрышчоныя! Што гэта робіцца?* Т, 33. [Ануля]: (*зірнуўшы ў кошык*). *А матачкі ж мае! Гэта ж гарэлка! ..* Там жа, 58.

**Маё мне сонца правадыр ...**

◊ **На маю галаву** *гл.* галава. **Я – ня я і хата ня мая** *гл.* хата.

Адз. м. Н. *мой* (70): А, 327; АЛ; АПЖ (2); Бц, 74; БН, 92 (2); ГВУ; Дз, 188; МСП, 187; Н (5); НК; Пц; ПН, 314 (3); ПТ, 206, 207 (4); Т, 20 (4), 21, 24, 27, 32 (2), 33, 36 (2), 39, 42, 44 (3), 45, 48, 52, 53, 57 (3), 58 (2), 59; ТП, 214, 215, 216 (2), 217 (5); УрП, 52; ХБ, 29 (2); ХЛВ, 315 (3); ХХ, 128; ЧС, 50-51 (2); $Ш_2$. Р. *майго* (3): Дз, 188; Т, 29, 52. Д. *майму* (3): А, 328; ВМР; Т, 21. В. *мой* (10): ВБ; ЁЯ; СМ; СЧ; Т, 27, 31, 37, 58, 62; ТП, 214; *майго* (3): А, 327; Т, 54, 62. Т. *маім* (3): Кц, 196; Мц, 74; ПС. ж. Н. *мая* (41): А, 328 (2); АЛ; Вб, 327; ВБЛ, 83; ГВУ; Дз, 188, 190; ДЖ (2); ДК (2); МПв, 220; НК; (2); СС, 300 (2), 301 (2), 302; Т, 22, 24, 25 (3), 30, 32, 33, 42 (2), 45, 46, 51 (2), 53, 56, 61 (2); ТП, 214; $Ш_1$ (2). Р. *маёй* (12): А, 328; АЛ; Дз, 190; ДЖ; ЖН; ЛР (2); СЧ; Т, 33, 46, 48; ТП, 215; *мае* (2): ВГР; ПЧ. Д. *маёй* (3): Кц, 195; ПЛП; Т, 44. В. *маю* (16): А, 328 (2); Бц, 73, 74; ВБ; ГВУ; ДПЛС; Т, 29, 30, 46(3), 47, 58; УрП, 46; ХЛВ, 316. Т. *маёй* (7): Ан, 19; ДЖ; Т, 23, 36, 49, 50; ЧС, 50-51. М. *маёй* (5): А, 328; АЛ; Т, 28, 30, 57. н. Н. *маё* (21): А. 328; Ан, 18, 19; ВГ; МСП, 187(3); Т, 20, 29, 31, 37 (2), 41 (2), 42, 46, 49, 54; ТП, 214, 215 (2); *моё* (3): Т, 27, 38, 51. Р. *майго* (5): АЛ; Т, 23, 34, 48, 56. Д. *майму*: ЛР. В. *маё* (3): Т, 42; ТП, 213; ХБ, 29. М. *маім* (2): ЖН; ПТ, 207. Мн. Н. *мае* (49): А, 328 (3); АЛ; ВБЛ, 83; Дз, 188; ДЖ; ЖН (5); ЛР; Н; ПТ, 206 (2); С, 209; Т, 22, 24, 28, 33 (2), 37 (2), 40 (2), 42, 43, 46, 53 (2), 54 (2), 58, 59 (2), 61 (2), 62 (2); Тж, 15; ТЗУ, 293; ТП, 213, 214, 215 (2), 216, 217; ЧС, 50-51; *мoі* (3): Т, 27, 52 (2). Р. *маіх* (7): Дз, 128; ДЖ (2); ЖН; Т, 25, 26, 51. В. *мае* (7): АЛ; ЖН; Т, 22, 29, 42; ЧС, 50-51 (2). Т. *маімі* (2): СЧ; Т, 25. М. *маіх* (3): ЖН (2); Т, 46.

**МОЛАДА** *прысл.* Па-маладзецку. *Юны месяц молада Больш за май вяселіцца.* ПЛ.

**МОЛАДЗЬ** (15) *ж.* Маладое пакаленне. *Адбудаванне незалежнасці Беларускай дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь.* МІ, 18. *Сягоння у нас* [на Беларусі] *творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі..* Там жа, 17.

**Моладзь ідзе.**

Адз. Н. *моладзь* (12): БВ, 16; ЖН (4); МІ, 17(3); 18(3); СА, 178. Р. *моладзі* (2): МІ, 17 (2). В. *моладзь*: ДЖ.

**[МОЛАТ]** (2) *м.* Вялікі, цяжкі малаток. *Можаш з сэрца свайго молат выкуць, Толькі ўдарыць ня сьмей ім, а сьмейся.* См, 90. *Іскрыцца пад молатам сталь. А молат ня біў так калісь.* ТП, 215.

Адз. В. *молат*: См, 90. Т. *молатам*: ТП, 215.

**[МОЛАХ]** *м.*: Δ **Молах-золата**: *Вы* [паны-гандляры] *ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сцiралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе, а ўсё для панавання ўсясільнага молаха-золата.* Тж, 16.

Адз. Р. *молаха*: Тж, 16.

**[МОЛЬБІШЧА]** і **[МАЛЬБІШЧА]** *н. Разм., рэл.* Месца рэлігійных маленняў. *Быў гэта верны і праўдзівы Паганскіх мольбішчак стражак.* УрП, 47. *Мальбішкам чужым б'е пакора паклоны..* ЗК, 42.

Мн. Р. *мольбішчак*: УрП, 47. Д. *мальбішчам*: ЗК, 42.

**[МОМАНТ]** (2) *м.* Імгненне, міг. [Спічыні]: *Правая рука застаецца свабоднай – гэта, каб у патрэбных момантах вашай* [Мікіты] *араторыі можна было, заціснуўшы кулак, патрасаць ёю над аўдыторыяй.* Т, 40.

◊ **На момант** – на імгненне. *У сваім вялікім паходзе па адбудаванні культуры на руінах былое царскае Расіі савецкая ўлада на працягу ўжо 11 год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паўдарозе.* ГНД.

Адз. В. *момант*: ГНД. Мн. М. *момантах*: Т, 40.

**[МОНГОЛЬСКО-ФІНСКІЙ]** *прым. Руск.* Які мае адносіны да манголаў і фінаў. [Усходні вучоны]: (..*запісваючы*..). *Іоан Здольніков. Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Обласці с прымесью монгольско-фінской крові.* Т, 26.

Адз. ж. Р. *монгольско-фінской*: Т, 26.

**МОР** (2) *м. Уст.* Эпідэмія. *Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй, – Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць, Хоць наш магільнік кветкай апрануўся, Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць!* Ж. *Ня слухаймо* [сяляне] *благіх языкоў, што разсеваюць такіе ці сякіе плёткі, бо, як кажуць, у мор намруцца, а ў вайну налгуцца.* РКр.

Адз. Н. *мор*: Ж. В. *мор*: РКр.

**МОРА** (17) і *разм.* **МОРО** *н.* **1.** Частка акіяна, адасобленая сушай. *Мы* [беларусы] *крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора.* Нз, 14. *Па моры плывуць караблі, Плывуць паміж рыфаў і скал.* ТП, 215. *Параўн.* можэ, море, морэ.

**2.** *перан.* Вялікая, неабсяжная прастора чаго-н. ..*Заместа палосак убогіх і вузкіх, Калгасныя нівы, як мора ляглі.* ПБН. *Параўн.* морэ.

**3.** *перан.* Народ, насельніцтва. *Хочацца верыць, што закалышацца беларускае моро і змые сваімі бурлівымі водамі з свайго уладарства усе забабоны, ад якой бы "культуры" яны у нас не панавалі.* З.

Δ **Мора-акіян** (3): *Хто стрымае хвалі мора-акіяна, Хто стрымае голас песні раскаванай?!* ПСС, 231. *З маладым плывуць запалам* [камсамольцы] *Цераз моры-акіяны.* СС, 180.

◊ **За мора** – у чужыя краіны. *Буйным жыццём ўсё чыста кіпела, Слава далёка за мора ішла..*

Адз. Н. *мора*: ПБН; *моро*: З. Р. *мора* (8): Нз, 14(4); НК; ПСС, 231; Т, 47; Ф. В. *мора* (3): Н; Нз, 14; Т, 47. М. *моры* (3): ЗЯЗ, 90; Кз 17; ТП, 215. Мн. Н. *моры*: СА, 179. В. *моры*; СА, 180.

**МОРАЛЬНА** *гл.* **МАРАЛЬНА.**

**МОРГЭН** (3) *м. Ням.*: ◊ **Гута моргэн** (2), **гутэ-моргэн** – добрай раніцы! [Мікіта]: *Гута моргэн, гэр гэрманіш!* Т, 31. *Нават жыду – ў доўг як просе – "Гутэ-моргэн!" – беркне ў носе.* УР, 215.

Адз. Н. *моргэн* (3): Т, 31, 32; УР, 215.

**[МОРЕ]** і **МОРЭ** (5) *н.* **1.** *Тое, што* мора *ў* 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях .. не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают.* Т, 47 // Умоўная назва вялікага возера. [Усходні вучоны]: *Прырода в Руском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное імелось, но благодара врэдным кліматічэскім веяніям с запада поіменованное морэ утонуло в пінском болоце.* Т, 47. [Усходні вучоны]: .. *Вашы землякі не собіраются в будушчэм прыобресці себе морэ вместо утонувшего..* Там жа.

**2.** *Тое, што* мора *ў* 2 *знач. Шырокаю фаляй разлілося морэ вайны па цэлым сьвеці.* РКр.

◊ **За морэм –** у чужой краіне. *Сяк, ці так, жылось паволі ў палавіне з горэм Тым у хаце, тым на полі, А другім за морэм.* Дз, 190.

Адз. Н. *морэ* (3): РКр; Т, 47(2). В. *морэ*: Т, 47. Т. *морэм*: Дз, 190. М. *морях*: Т, 47.

**МОРО** *гл.* **МОРА.**

**[МОРСКІ]** (2) *прым. Польск. За ім* [азіятам] *Еўропы жыхары Шлі к вам* [бальшавікам] *праз морскія віры.* ПВ.

• **Белы морскі шлях** *гл.* шлях. **Чорны морскі шлях** *гл.* шлях.

Адз. м. В. *морскі*: ПВ. Мн. В. *морскія* ПВ.

**МОРЭ** *гл.* **МОРЕ.**

**[МОСТ]** *м.*: ◊ **Проста з моста** *гл.* проста.

Адз. Р. *моста*: Т, 34.

**МОТАШНА** *безас. перан. У знач. вык.* Пра адчуванне тугі, адзіноты. [Янка]: .. *бачыце, неяк моташна зрабілася аднаму сядзець, дык вось і прыйшоў да вас* [Ганулі] *у госці.* Т, 19.

**МОЎЧКІ** (2) *прысл.* **1.** Нічога не гаворачы. *Колькі хвілін Янка і Наста застаюцца на сцэне моўчкі, не ведаючы, што з сабой рабіць.* Т, 50.

**2.** *перан.* Не звяртаючы ўвагі. *І вось мы, беларусы, .. не павінны абходзіць моўчкі таго балючага пытання, як гэта мы, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі.* Нз, 18.

**МОХ** (2) *м.* Расліна без каранёў і кветак. *Стрэхі саламяные: мох на іх парос..* ХЛБ. *Ляпіўся мох да стрэх з драніц..* УрП, 47.

Адз. Н. *мох* (2): УрП, 47; ХЛБ.

**[МОЦ]** (7) *ж.* **1.** Магутнасць, сіла. *Раслі магілы... зваў пракок... Рос вашай* [бальшавікоў] *моцы блеск і мрок.* ПВ. *Ён* [жандар] *сніць*

*былую моц і шыр: Цары, царыца, цэрквы, троны, Пагромы, катаргі, Сібір...* АПЖ.

**2.** Намаганне. *Зірніце міласьцяй сваею, Ўсе моцы вышлеце на бой, Хай распапеляць зла навею Над упадаўшай старaной.* УрП, 48.

**3.** У спалучэнні з дзеясловам выражае найвышэйшую ступень дзеяння. *Як ня выйдуць чорнасотники На благое ўсё ахвотники, Дый на ўсю моц закрычаць: "Думу трэба разаграць!"* ВЧ.

• **Вышэйшая моц небных сіл –** бог. *Вось я* [аўтарнік] *пастаўлены над вамі* [людзьмі] *Вышэйшай моцай небных сіл, Старэйшы думкай і гадамі, Зьмятаю ашуканства пыл.* УрП, 49.

Адз. Р. *моцы*: ПВ. В. *моц* (3): АПЖ; ВЧ; ПЛП. Т. *моцай*: УрП, 49. М. *моцы*: Бч, 9. Мн. В. *моцы*: УрП, 48.

**МОЦНА** (3) *прысл.* **1.** Надзейна. *Ня падаючы духам, мы* [беларусы] *павінны ісьці праз жыцьцё ў гэты новы год моцна трымаць сьцяг змаганьня .. за незалежнасьць сваей бацькаўшчыны Беларусі.* СНБ.

**2.** У значнай ступені. *Значна кантрастуе з сельскай гаспадаркай Чэхаславацкая прамысловасць, моцна развітая ў краіне.* ПЧ.

**3.** *перан.* Цвёрда, пастаянна. [Мікіта]: *Можна мець светагляд адзін, думаць другое, гаварыць трэцяе, рабіць чацвертае, як навучае мой прафэсар гэр Спічыні. І я пастанавіў у сваёй аратарскай прафэсіі моцна прытрымлівацца гэтай мудрасці.* Т, 36.

**[МОЦНА]** (2) *прым.* **1.** Надзейны, устойлівы, трывалы. *Моцны падмур быў зроблены, трэба было толькі класці сцены і завяршыць будову светлага незалежнага існавання Беларускай дзяржавы.* СНБ, 337.

**2.** *перан.* Здольны аказаць значнае ўздзеянне на каго-н., магутны. *..апалячываньне беларусоў страшэньне пашыраецца: навука рэлігіі па польску – гэта моцнае аружжэ ў руках польскіх націоналістоў.* ВР. *Параўн.* сільны *ў 2 знач.*

Адз. м. Н. *моцны*: СНБ, 337. н. Н. *моцнае*: ВР.

**МРОК** *м. Разм.* Змрок. *Раслі магілы... зваў прарок... Рос вашай* [бальшавікоў] *моцы блеск і мрок.* ПВ.

Адз. Н. *мрок*: ПВ.

**[МСЬЦІВЫ]** *прым.* Помслівы. *Як дагэтуль, яму* [селяніну] *не дадуцца ўжо ў знакі Тые сілы з усходу і захаду мсьцівыя, Што даймаюць цяпер, як вужакі.* ТС, 74.

Мн. В. *мсьцівыя*: ТС, 74.

**МУДРА** *прысл. да* мудры *ў 1 знач.* [Аленка]: *Як вы заўсёды, дзяцька настаўнік, мудра вельмі разважаеце, ажно мяне часам страх бярэ!* Т, 35.

**МУДРАСЦЬ** (2) і **МУДРАСЬЦЬ** *ж.* Уласцівасць і якасць мудрага ў 2 знач. [Мікіта]: *Можна мець светагляд адзін, думаць другое,*

*гаварыць трэцяе, рабіць чацвертае, як навучае мой профэсар гэр Спічыні. І я пастанавіў ў сваёй аратарскай профэсіі моцна прытрымліваца гэтай мудрасці.* [Янка]: *Баюся, што гэта мудрасць дасць вам чэк на свабоднае месца ў Менскім астрозе.* Т, 36. *Гэтак далей ня можна, мы* [беларусы] *верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і парупіцца зрабіць усе, што вымагае ад яго дзяржаўная мудрасьць..* ОШМ.

Адз. Н. *мудрасць*: Т, 36; *мудрасьць*: ОШМ. Р. *мудрасці*: Т, 36.

**МУДРЫ** (29) *прым.* **1.** Празорлівы. *Хай жыве вялікі, любімы і мудры правадыр народаў, – Іосіф Васарыёнавіч Сталін.* ЖН. *.. не аднаго бога мелі* [нашы продкі], *а некалькі, .. называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды іншыя яшчэ. Аўтарнымі слугамі багоў гэтых былі варажбіты- вешчуны – старцы мудрыя і ў справах божых кемкаць маючыя.* Кз, 17.

**2.** Разумны. *Беларусь мая ўсяго толькі за пятнаццаць год пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна-Сталіна сягнула ў сваім творчым размаху наперад, як-бы 150 год прайшла.* ДЖ. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, Тваёй Канстытуцыі і мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы, Аковы, дзе йшчэ звоняць трупнай заразай.* ТП, 216.

**Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна.**

Адз. м. Н. *мудры* (2): ЖН; ДЖ. Р. *мудрага* (3): ДЖ (2); СТ. Д. *мадраму* (3): ДПЛС; СС, 302; ШБСЯ. М. *мудрым* (2): ПСС, 232; СС, 302. ж. Н. *мудрая*: СТ. Р. *мудрай*: ЦСБ. н. Т. *мудрым* (4): ВГР; ДЖ; Пт; УПУВ. Мн. Н. *мудрыя* (7): Кз, 17 (3); НК; ПБН; Т, 39; ТП, 216. Д. *мудрым*: Пп, 5. В. *мудрых* (2): Кз, 17; УПУВ; *мудрыя* (2): СС, 301; Ч, 323. Т. *мудрымі*: Т, 44.

**МУЖ** (5) *м.* **1.** Женаты мужчына. [Янка]: *Цяпер яна мая жонка назаўсёды.* [Аленка]: *І ён таксама – мой муж.* Т, 53. *Плача горка ўдоўка, Плача горка маці Па забітым мужу, Спаленым дзіцяці.* МПв, 219.

**2.** *перан.* Дзеяч у якой-н. галіне. *Першы* [склад] – *муж вучоны, важны; Носіць чын такі не кажны.* $Ш_4$.

Адз. Н. *муж* (3): ВБЛ, 83; Т, 53; $Ш_4$. Т. *мужам*: 3. М. *мужу*: МРв, 219.

**МУЖНА** *прысл.* Адважна, храбра. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі мужна адстойваюць кожную пядзь свяшчэннай зямлі.* ВГ.

**[МУЖНАСЦЬ]** *ж.* Адвага, храбрасць. *У гэтыя грозныя дні* [вайны] *.. я* [Купала] *ўсю сваю песянную сілу, усю сваю мужнасць аддаю вам, сыны нашага вялікага народа!* РКП.

Адз. В. *мужнасць*: РКП.

**[МУЖЧЫНА]** *м.* Асоба мужчынскага полу. [Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты .. паклаліся ўпоперак вуліцы: “Хай высяляюць!” – сказалі сабе гэтак ..* Т, 43.

Мн. Н. *мужчыны*: Т, 43.

**МУЖЫК** (7) *м.* **1.** *Уст.* Селянін. *Ци ты бачыў кали слабоду? – пытае адзин мужык другога.* ХЛБ. *Цяпер, браты, ідуць сыны беларускіх мужыкоў, ідзе наша моладзь.* МІ, 17.

**2.** *Разм.* Муж. *Усе з вайной у расходзе мужыкі; На бязмужжы і дурань муж.* ВБЛ, 83.

Адз. Н. *мужык* (3): УП (2); ХЛБ. Мн. Н. *мужыкі* (3): ВБЛ, 83; 3(2). Р. *мужыкоў*: МІ, 17.

**[МУЖЫЦКІ]** (2) *прым. да* мужык *у 1 знач. Нихто и ништо не выцягае так многа грошай з мужыцкай кишэни, як праклятая манаполька.* УП. [Мікіта]: *Меджду протчым, пане настаўнік, яшчэ я не ўпаў з сваім гонарам так нізка, каб лезці ў вашу, выбачайце, мужыцкую беларускую кампанію.* Т, 48.

Адз. ж. Р. *мужыцкай*: УП. В. *мужыцкую*: Т, 48.

**[МУЖЫЧОК]** *м.*: ◊ **Цёплы мужычок** – пра таго, хто мае шмат грошай. *Купляюць* [маёмасць] *спекулянты з мэтай перапрадаць яшчэ даражэй другому спекулянту; купляюць “цёплыя мужычкі” – багатыры, буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на гарадскім галадаючым насяленні.* ЗС, 18.

Мн. Н. *мужычкі*: ЗС, 18.

**МУЗЫКА** (14) *ж.* **1.** Твор мастацтва ў гукавых вобразах. *Пачатак гэтага* [стварэння гымнаў] *зрабіў композытар Рагоўскі, які стварыў музыку да верша Янкі Купалы: “А хто там ідзе?! І назваў гэта гымнам. Далей гэты самы композытар напісаў музыку да верша Каганца “О, Божа, Спасе наш!” і так сама часта нашы сьпевакі называюць гэта гымнам.* СБНГ.

**2.** Выкананне гэтых твораў на інструментах. *Мікіта ўскаквае і пад тахт музыкі топчацца на адным месцы.* Т, 43. *Пачынаецца танец Ценяў пад музыку шарманкі.* Там жа.

Адз. Н. *музыка* (3): НДп, 229, 230; ХБ, 29. Р. *музыкі* (3): СК, 158; Т, 43(2). В. *музыку* (6): СБНГ (3); СК, 158; Т, 43 (2). Т. *музыкай* (2): СБНГ; Т, 29.

**[МУЗЫКА]** (3) *м. Разм.* Музыкант. *Грайце гучна музыку геройскую, музыкі!* СК, 158. *Жалейкі, дуды, красавалі – Прылады свойскія музык..* УрП, 47.

Адз. Н. *музыка*: Ан, 18. Мн. Н. *музыкі*: СК, 158. Р. *музык*: УрП, 47.

**МУЙ** *займ. Польск. Тое, што* мой *у 3 знач.* [Заходні вучоны]: *На запы танне, як сень далеко распотшэня овэ “далей”, муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім*

*нажэчу, Іж для осёнгненця онэго “далей” наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня апосяда за крутке пенты.* Т, 39.

Адз. Н. *муй*: Т, 39.

**МУ́К□** (з) *□.* Пакута. *Ах, як страшна мне гэта бясонная ноч! Колькі мукі, цярпеньня прыносіць з сабой!* БН, 91. *А душа сама – без хаты, Знаць, з вялікай мукі То зрывае з сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі!..* Дз, 191.

Адз. Р. *мукі* (3): БН, 91; Дз, 191; К**.**

**МУКА́**(3) *ж.* **1.** Прадукт размолу збожжа. [Мікіта]: .. *вось пападаецца па дарозе якая-небудзь контрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупа, бульба, сала.* Т, 45. [Мікіта]: *далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя ..пайкі: сем фунтаў адборнай атрубянай мукі, паўтара фунта з асьмушкай круп..* Там жа.

**2.** *перан.* Пра перанесеныя пакуты. [Янка]: *Ліха перамелецца і мука будзе.* Т, 53.

Адз. Н. *мука* (2): Т, 45, 53. Р. *мукі*: Т, 46.

**МУНДЗІР** (2) *м.* Форменнае адзенне. [Дама]: *Ах, мусье! але вы фарсун: у вас мундзір са шліфамі!* Т, 25. [Спраўнік]: *Тады дазвольце і я свой мундзір удастоню.* (*Дастае з кішэні пагоны і прышпільвае*). Там жа.

Адз. Н. *мундзір*: Т, 25. В. В. *мундзір*: Т, 25.

**[МУР]** *м.*: ◊ **Галавой мур прабіваць** *гл.* прабіваць.

Адз. В. *мур*: ПЛП.

**[МУРАЎЁВЫ]** *толькі мн.*: Δ **Мураўёвы-вешацелі:** [Янка]: *Для вашага* [Мікіты] *гонару падавай вам мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў.. і ўсея кампані і падобных ім..* Т, 49.

Мн. Р. *Мураўёвых*: Т, 49.

**[МУРОЖНЫ]** (3) *прым.* **1.** Які з’яўляецца мурагом. *Сягоння там* [на балотах] *жыта, з якога не выйсці, Мурожныя травы, каноплі і лён.* ПБН.

**2.** На якім расце мурог. *Твае коні, мае коні Пасля дзён трывожных Будуць пасвіціся разам На лугу мурожным.* ТЗУ, 292. *Чые звоняць звонка косы На мурожнай сенажаці?* СА, 180.

Адз. м. М. *мурожным*: ТЗУ, 293. ж. М. *мурожнай*: СА, 180. Мн. Н. *мурожныя*: ПБН.

**МУСІЦЬ** (26) *незак.* **1.** Быць прымушаным да чаго-н. [Янка]: *Вось я ўспомніў, цётачка, адну сваю справу і мушу прасіць вашай у гэтым помачы.* Т, 23. *Праз два гады на Беларусі Народ аб радасці не сніў, А галасіць і плакаць мусіў На папялішчы хат і ніў.* ГП, 8.

**2.** Быць абавязаным зрабіць што-н. [Мікіта]: *Хоць, можа, я гэтак рызыкую нават сваёй, меджду протчым, пэрсонай, але місію*

*сваю мушу стойка выпаўняць.* Т, 37–38. *Сказаць аўтарнік мусіць слова, Ня дарма з неба вядзе род.* УрП, 49.

**3.** *У знач. пабочн.* Мабыць, напэўна. [Янка]: *Мусіць, для гэтага палітычнага чалавека* [Гізульскага] *вы, цётачка, і крэслы свае плюшавыя аддалі.* Т, 45. [Ануля]: *.. ён* [Гізульскі], *мусіць, не зусім іхні* [паляк], *бо нешта не збіраецца выязджаць, хоць іхнія амаль ужо ўсе выехалі.* Там жа.

Інф. *мусіць* (3): Т, 45(3). Абв. цяп. адз. 1 ас. *мушу* (11): Ан, 18; Т, 23, 28, 29, 38, 39, 42, 50, 59; У; ШБСЯ. 3 ас. *мусіць* (5): Г, 17; ВС; Т, 23, 35; УрП, 49. Мн. 1 ас. *мусім* (2): БС; ВС. 3 ас. *мусяць* (2): ВМР; Нз, 14. Пр. адз. м. *мусіў* (3): Бц, 74; ГП, 8; Т, 20.

**МУСЬЕ** (67) *м. Франц.* Пан. [Спічыні]: *Можам прыступіць* [да заняткаў], *мусье рэгістратар!* [Мікіта]: *Я ужо гатоў, мусье профэсар!* Т, 49. [Дама]: *Мусье беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу і належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы.* Там жа. 37. Т, 24, 25, 27(2), 28(3), 29(6), 31(3), 32, 33(3), 34, 36, 37(5), 40(3), 41(5), 42(2), 43, 49(4), 50(5), 51(5), 52(3), 55, 58(3), 60, 61, 62.

**[МУТНЫ]** (2) *прым. перан.* Беспрасветны, змрочны. *Родныя з пут вызваляці загоны, Сонцам разьдніваць мутныя ночы Побач з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць.* Ф.

◊ **У мутнай вадзе рыбе лавіць** *гл.* лавіць.

Адз. ж. М. *мутнай*: Тж, 16. Мн. В. *мутныя*: Ф.

**[МУХА]** *ж.* Насякомае. *У параўн. Біў* [Сталін], *як мух, белагвардзейцаў, Не даў ходу зброду, І савецкую краіну Вывеў на свабоду.* НК.

Мн. В. *мух*: НК.

**[МУЧАНІЦА]** *ж.*: Δ **Мучаніца-княжна**: *Сваёй забранай старане, скаванай мучаніцы-княжне, ўзнясуць* [людзі] *пасад на кургане на панаваньне недасяжне.* Кц, 196.

Адз. Д. *мучаніцы*: Кц, 196.

**[МУЧЫЦЦА]** (2) *незак.* Цярпець мукі, пакутаваць. *Пад царамі, пад панамі Мучыліся людзі..* ЗЯЗ, 89. *І гэтыя людзі мучыліся, працавалі, аддавалі ўсё сваё найлепшае здароўе, жыццё за беларускае вольнае слова, за беларускую святую справу.* МІ, 17.

Абв. пр. мн. *мучыліся* (2): ЗЯЗ, 89; МІ, 17.

**МУЧЫЦЬ** (10) *незак.* Прычыняць мукі, пакуты каму-н. *На што мучыць яго* [беларускі народ], *на што выстаўляць на зьдзек яго нацыянальную несьвядомасьць?* ДК. *Трэці* [сын] *ўсіх-бы толькі мучыў – Склад меў быці катам..* Дз, 189.

Інф. *мучыць* (2): ДК; Пп, 5. Абв. цяп. адз 3 ас. *мучыцць* (6): Бч, 9; ГЖУ (3); ЧС, 50–51 (2). Пр. адз. м. *мучыў* (2): Дз, 189; НДН, 18.

**[МУЧЭНЬНЕ]** *н.* Мука, пакута. *..нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю д-ру Казубоўскаму і д-ру Маліноўскаму: першаму – за апэрацыю, .. а другому за шчыра-бацькоўскі даглёд і перавязкі, якімі стараўся аблягчыць мае цяжкіе мучэньні.* ЛР.

Мн. В. *мучэньні*: ЛР.

**[МУШТРАВАЦЬ]** *незак.*: Δ **Муштраваць бажкоў** – шаманіць. *Распасьцер свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон.. па усім сьвеце Афрыкі, .. і да ледавітага "пауночнага зіяньня", дзе на сьцюдзёных галодных раунінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоў сваіх.* З.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *муштруе*: З.

**МЫ** (505) *займ.* **1.** Ужываецца для абазначэння дзвюх і болей асоб. [Мікіта]: *А я думаў, што сягоння ўжо не прыдзеце.* [Спічыні]: *Справы затрымалі. Але мы затое пазней пазаймаемся.* Т, 31. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, ці не далі б чаго закусіць нам.* Там жа. // Група людзей агульных поглядаў, заняткаў. *А мы, беларусы, – праўда, дзякуючы гістарычным і геаграфічным варункам нашай бацькаўшчыны, – мы нічога дагэтуль не змаглі зрабіць, каб мець сваё войска, якое бараніла б межы ад чужой навалы.* Бв, 16. *Наша краіна перавыхавала нас – старэйшае пакаленне пісьменнікаў. ВГР.* // Няпэўна-дзеючая асоба. *Стаім мы перад будучыняй нашай I усё варожым, сочым ейны ход..* Бч, 9. *Не аб сонцы, што нам свеціць I зімой і летам, Не аб зорах, што міргаюць Ночкамі над светам,.. Мая* [Купалы] *песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандыдатах у Совет Вярхоўны.* НК.

**2.** З прыназрўнікам "з" і Т. склонам іншых займеннікаў і назоўнікаў абазначае гаворачую і іншую асобы. [Аленка]: *Бачыце* [цётачка], *мы з таткам шукаем нашага настаўніка Здольніка.* Т, 25. *Ой, сяброўка з вечарынкі, Нам з табою. Ня дружыць, – Радасць, гора мы дзялілі, А любоў не падзяліць.* БВЛ, 82.

**3.** *Тое што* ты *ў 1 знач.* [Янка]: *Ого! Мы* [Аленка] *нават сур'ёзнымі зрабіліся.* Т, 30.

**Сонца свяціла нам аднолькова...**

◊ **Ні вам, ні нам** *гл.* вы. **Паміж намі кажучы** *гл.* кажучы.

Мн. Н. *мы* (258): АБ, 16 (3); БЧ, 9 (11); БВ, 16 (4), 17 (2); БЗ; БС (23); БСУ (5); В; Вб, 236 (2); ВБ (2); ВБЛ, 80,82; ВГР (5); ВМР (2); ВН (3); ВС (3); ВСп, 89 (3), 91(2); ВР (5); Г, 16 (2), 17 (5); Гр, 215; ГЖУ; ДЖ; ДК (4); ДНСП; З; МД; МІ, 17; МП (2); МПв, 220 (5); Кц, 193, 195 (2); Нз, 14, 15 (3); НГ (2); НДп, 229; НДН, 18 (7); НК (4); НКУС; ОШМ (9); Пп, 5 (4); Пр; Пц (2); ПБН (8); ПГ; ПЛП (7); ПТ, 206 (2), 207 (3); ПЧ (15); Р (2); РКр (2); СБНГ (4); СЗГ, 252 (2); СНБ, 336, 337, 340; СНБ (4); Т, 20, 21 (4), 22 (2), 25 (3), 27 (4), 29, 30, 31 (4), 34, 35, 49 (2), 50, 51 (2), 53, 57 (2), 60 (3); Тж, 15; УрП, 50, 82 (2); УПУВ (2); ХБ, 28; ХЛВ,

315 (4); Чж, 146; $Ш_1$; ШБСЯ (2). Р. *нас* (78): Ан, 18; АБ, 16 (3); Бч, 9, 10; БВ, 16; БС (4); БСУ; В; ВБЛ, 83; ВН; ВМР; ВС (2); ГНД; Дз, 192; ДПЛС; ЖН (3), 3 (2); ЗС, 17; МІ, 17 (2); НДп, 229 (2); НДН, 19; НК; ПЛП; ПС; ПЧ (3); Р; РКр; СНБ, 337, 340; СС, 303 (2); Т, 19, 20, 21, 22 (2), 23 (4), 27, 32, 34, 35 (3), 45 (3), 49 (2), 51, 52, 53, 54 (2), 59, 62; УрП, 50, 51; ХБ, 29, 30; $Ш_2$; $Ш_4$; $Ш_5$. Д. *нам* (103): АБ, 16; Бч, 9 (3); БЗ (2); БС (5); БСУ; ВБ; ВБЛ, 80, 82; ВМР; ВН (2); ВСп, 91 (2); ВЧ; Г, 16, 17 (5); ГВУ; ГЖУ (2); Дз, 192; ДЖ; ЗС, 17 (2); ЗЯЗ, 89; К (2); Кц, 193, 194; МП, Нз, 15; НГ (2); НДп, 229; НДН, 18 (2); НК (5); ОШМ; Пп, 5; ПБН (2); ПЛП; ПМ (2); ПНд, 314; ПТ, 206 (2); ПЧ (3); РС, 40; СЗГ, 252 (2); СНБ, 338; СНБ (2); СС, 302 (2); ССА, 294 (4); Т, 22, 23, 27 (2), 28 (2), 29, 31, 38 (2), 39, 44 (3), 47, 51, 52, 53, 57; УрП, 49 (2), 51 (2); ХЛБ; Чж, 147; $Ш_1$; ШБСЯ. В. *нас* (43): АБ, 16; Бч, 9 (4), 10; БС (2); БСУ; ВБ; ВГР (4); ВМР; Г, 17; ГЖУ; Д, 73; ДК; Ж; Кц, 193; КН (2); ОШМ; Пп, 5 (2); ПЛП; ПТ, 207; ПЧ (5); РКр; ССА, 294; Т, 38, 45, 53; УрП, 48, 51 (2), 52. Т. *нам* (22): БС (5); БСУ; ВГР; ВМР; Г, 17; МІ, 17; Ж (3); З; МПв, 218; ПЛП; ССА, 294 (2); Т, 56, 58; УрП, 48; ХБ, 28. М. *нас*: Т, 44.

**[МЫЛА]** *н.* Мыйны сродак. *Эх, памыйся, мой дружок, Мылам ды вадою..* $Ш_2$.

Адз. Т. *мылам*: $Ш_2$.

**МЫЛЯЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* [мыляцца]. *Разм.* Памыляючыся. *У той час – калі ня мыляюся – “Gazeta Godienna” была органам віленскіх “эндэкаў”.* У.

**[МЫСЬЛІЦЕЛЬ]** *м.* Мудрэц, філосаф. *Здавалася, той мэсыянізм, які быў прывіты польскаму народу, у часе яго паднявольля, лепшымі польскімі мысьліцелямі, павінен быў выгадаваць у гэтым народзе штось ці сьветлае, разумнае, што магло-бы служыць прымерам і для другіх быўшых у паднявольлі народаў.* СНБ.

Мн. Т. *мысьліцелямі*: СНБ.

**[МЫСЬЛЬ]** *ж. Тое, што* думка *ў 2 знач. Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46.

Адз. Т. *мысьляй*: УрП, 46.

**[МЫЦЦЁ]** *н. Разм. Дзеянне да дзеяслову* мыць. [Янка]: *Даўненька мы з вамі не бачыліся.* [Ануля]: (*пакінуўшы мыццё*). *О, даўненька.* Т, 44.

Адз. В. *мыццё*: Т, 44.

**МЫЦЬ** (3) *незак.* Ачышчаць ад гразі, бруду; паласкаць, прамываць. [Ануля]: *Як падумаю, што бяда зноў прыцісне, што зноў прыдзецца людзям бялізну мыць, дык аж рукі вянуць ад нейкага жалю горкага.* Т, 20. *Гануля, закасаўшы рукі, мые бялізну ў начоўках..* Там жа, 43.

Інф. *мыць*: Т, 20. Абв. цяп. адз. 3 ас. *мые*: Т, 43. Пр. адз. ж. *мыла*: Т, 20.

**[МЫШ]** *ж.*: ◊ **Як мыш пад жорсткім венікам** – з усіх бакоў. *Заціснуты, задушаны* [беларусы], *як мышы Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў..* Бч, 9.

Мн. Н. *мышы*: Бч,9.

**МЭ** *н.*: ◊ **Ні бэ, ні мэ** *гл.* бэ.

**МЭРСІ** (2) *часц. Франц.* Дзякуй. [Дама]: *Мэрсі, мэрсі, мадам!* Т, 28.

**[МЭСЫЯ]** (2) *м. Кніжн.* У іудзейскай і хрысціянскай рэлігіі – пасланец бога для выратавання людзей ад зла і пакут. *Раськіданыя гібнуць па і ўсім сьвеце Вы мэсыі чакаеце яшчэ, Жыды, – Тэй Мэсыі ждуць Беларусі дзеці I з вамі пойдуць, як вы з намі, усе тады.* Ж.

Адз. Р. *мэсыі* (2): Ж (2).

**МЭСЫЯНІЗМ** *м.* Вучэнне аб збавіцельнай ролі якога-н. народа ў лёсе чалавецтва. *Здавалася, той мэсыянізм, які быў прывіты польскаму народу, у часе яго паднявольля, лепшымі польскімі мысьліцелямі, павінен быў выгадваць у гэтым народзе штось ці сьветлае, разумнае, што магло-бы служыць прымерам і для другіх быўшых у паднявольлі народаў.* СНБ.

Адз. Н. *мэсіянізм*: СНБ.

**МЭТА** (17) *ж.* Тое, да чаго імкнуцца, чаго жадаюць дасягнуць. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і паднявольле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі..* АЛ. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засільля чужынцаў і уваскрасіць стары Менск, калі панавалі тут продкі нашы, калі прыгожа зычэла мова наша і справавало беларускае права.* ВМР. // Намер. *Купляюць спекулянты* [маёмасць] *з мэтай перапрадаваць яшчэ даражэй другому спекулянту..* ЗС, 18. [Мікіта]: *Меджду протчым, я заказаў сабе гэты віц-мундзір з пэўнай мэтай...* Т, 24.

Адз. Н. *мэта*: АЛ. Р. *мэты* (4): АЛ; ВМР; Т, 30, 35. Д. *мэце*: ШБСЯ. В. *мэту*: НДН, 18. Т. *мэтай* (4): ЗС, 18; СНБ, 338; СНБ; Т, 24. Мн. Р. *мэтаў* (2): СНБ, 338; ПЧ; *мэт*: СНБ. В. *мэты* (2): ВМР; НДН, 18. М. *мэтах*: ВС.

**МЭТАМОРФОЗА** (3) *ж. Кніжн.* Змяненне, пераўтварэнне каго-н. [Янка]: *Перакуліцца з нічога ў нішто – не вялікая мэтаморфоза.* Т, 50. [Наста]: *Я захоплена вашай, мусье Нікіці, мэтаморфозай!* Там жа.

Адз. Н. *мэтаморфоза* (2): Т, 50 (2). М. *мэтаморфозай*: Т, 50.

**[МЭТОД]** (2) *м.* Спосаб. *Аказываецца мэтоды дзяржаўнай гаспадаркі польскіх эндэкаў мала чым розьняцца ад мэтодаў расійскіх бальшавікоў.* СНБ.

Мн. Н. *мэтоды*: СНБ. Р. *мэтодаў*: СНБ.

**МЯДЗВЕДЗЬ** (2) і **[МЯДЗЬВЕДЗЬ]** *м.* Драпежная жывёліна. *.. з пургой, з завірухай разам Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць.* ПСС. *Вы так ня рушыцесь, мядзьведзі, Ты так ня страшны, сільны леў!* УрП, 51.

◊ **Мядзведзь здох** – пра нешта нечаканае, незвычайнае. [Мікіта]: *Каго я бачу, медждy протчым. Якое мілае, неспадзяванае спатканне! Ці не мядзведзь здох? Сядайце, калі ласка, сядайце!* Т, 37.

Адз. Н. *мядзведзь*: Т, 37. Мн. Н. *мядзведзі*: ПСС; *мядзьведзі*: УрП, 51.

**МЯДОВЫ** *прым.*: ◊ **Мядовы месяц** *гл.* месяц.

Адз. м. Н. *мядовы*: СНБ, 339.

**[МЯЖА]** (27) *ж.* **1.** Лінія падзелу паміж палямі. *Намі* [беларусамі] *пройдзен вялікі і цяжкі шлях. ..ад палыновых межаў вузкіх палосак да калгасных палёў..* ВГР. // Край чаго-н. *Ой, не плачэ брат над братам На мяжы кургана, А бядуе так душа там Звязана, скавана.* Дз. 187.

**2.** Дзяржаўная граніца. *О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!* НДп, 229. ..[беларуская армія] *павінна выйсьці на ваенные шляхі і бараніць беларускіе акрываўленые межы.* БСУ. *Параўн.* вяха *ў 1 знач.*

**3.** *Толькі мн.* Тэрыторыя. *На беларускае йдзеш* [Новы год] *поле, На акрываўленыя межы, Дзе закаванай дрэмле воля, Дзе звоне звон хаўтурны з вежы.* НГд, 8. *Ужо адно тое, што мы* [беларусы] *дамагаемся быць самі гаспадарамі толькі таго абшару, дзе жывуць беларусы ў яго этнаграфічных межах, – ужо гэта даводзе, што мы падняволіць нікога не думаем.* НДН, 18.

**4.** *Уст.* Край, старана. *Гэй ты, краю халодны, чужы, Прытулі бесхацінца к сабе: Ён цябе, як і роднай мяжы, Не забудзе ў прадсмертнай кляцьбе.* ЧС, 50–51. *І гінем* [беларусы] *марна пад чужой апекай, адбіўшыся ад родных вехаў, меж.* Бч, 9. *Параўн.* вяха *ў 2 знач.*

Δ **Мяжа-граніца:** *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад шчасця, ад радасных дзён, Якая на крыллях ляціць салаўя За межы-граніцы да будзіць там сон.* СС, 301.

◊ **За мяжою –** у замежнай дзяржаве. *Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі, дзе распасціраецца панаванне над часткай Беларусі белага арла,– голад, здзекі, катаванне працоўнага народу, як і за царом Нікалаем.* ЖН.

Адз. Р. *мяжы* (7): БСУ; ЗК, 43(2); НДп, 229; Пт; ПБН; ЧС, 50-51. В. *мяжу*: ПЧ. Т. *мяжой*: ХВ, 28; *мяжою*: ЖН. М. *мяжы* (3): Дз,. 187, 192; ПЧ. Мн. Р. *меж* (3): Бч, 9; ТП, 215, 216; *межаў* (3): ВГР; ДЖ; ССА, 294. В. *межы* (7): АБ, 16; БВ, 16; БСУ; ГЖУ: НГд, 8; ПБН; СС, 301. М. *межах*: НДН, 18.

**[МЯККІ]** (5) *прым.* **1.** Няжорсткі, няцвёрды. *.. крэслы венскія і мяккія плюшавыя.* Т, 19. *Люстра, грамафона і мяккіх крэслаў няма:* Там жа, 43.

**2.** *перан.* Спагадлівы, чулы. *Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся...* Кз, 17.

◊ **Мяккая і лёгкая зямля** *гл.* замля.

Адз. ж. Т. *мяккай*: ВБЛ, 82. н. Р. *мяккага*: Кз, 17. Мн. Н. *мяккія*: Т, 19. Р. *мяккіх* (2): Т, 43, 53.

**МЯКЧЭЙ** *прысл. Пар. ст. да* [мякка]. Больш мякка, не жорстка. [Янка]: *Мусіць, для гэтага палітычнага чалавека вы, цётачка, і крэслы свае плюшавыя аддалі, каб мякчэй было яму сядзець..* Т, 45.

**МЯНОВІЦЕ** *прысл. Польск.* Менавіта. [Заходні вучоны]: *(запісваючы). Пшы баданю бялорусіна высветлёно надзвычайнон особлівосць, а мяновіце: вбрэв гісторычным, географічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнен свон бялорусіны называён Бялорусь.* Т, 26.

**[МЯНЧАНІН]** (4) і **[МІНЧАНІН]** *м.* Жыхар Мінска. [Ганулля]: *А нашыя некаторыя мянчане, асабліва з Камароўкі і Пярэспы, гэткім спосабам апошнія гады і жывуць. Як толькі ўлада мяняецца, робяць сабе запас да новай перамены..* Т, 55. *Праца гэта мінчанам добра вядома.* СНБ, 340.

Мн. Н. *мянчане*: Т, 55. Р. *мянчан*: МД. Д. *мінчанам*: СНБ, 340. Т. *мянчанамі* (2): Т, 19, 33.

**[МЯНЯЦЦА]** (3) *незак.* **1.** Змяняцца [Ганулля]: *Як толькі ўлада мяняецца, робяць* [мянчане] *сабе запас да новай перамены, мяняецца ўлада зноў – зноў робяць сабе запас да новай перамены..* Т, 55.

**2.** Рабіцца іншым. *Палажэньне гістарычнае і географічнае Беларусі было і есьць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых падобных да яе, вызваленых з царска-рабскага гнету, дзяржаваў. І вось цяпер гэта палажэньне мяняецца на лепшае.* БСУ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *мяняецца* (3): БСУ; Т, 55(2).

**МЯНЯЦЬ** *незак.* Замяняць адно чым-н. другім. [Янка]: *Але чаму б вам, колежскі рэгістратар Нікіцкій Зносілов, не стацца тым, чым вы самдзеле ёсць: Мікіта Зносак – і мілагучна і па-тутэйшаму, ды языкоў не трэба мяняць, як цыган коні.* Т, 48.

Інф. *мяняць*: Т, 48.

**МЯНЯЮЧЫ** *дзеепрысл. да* мяняць. Абменьваючы адно на што-н. другое. *Жыцьцё за камізэльку аддаеш ты* [абыватель] *без агіды, На соль мяняючы сваё сумленьне.* ВБЛ, 81.

**[МЯРЦЬВЯК]** *м.* Мёртвы чалавек. *Дасюль елі мерцьвякоў, А цяпер затое Будзем піць мы* [груганы] *кроў жывых, Мяса есьць жывое.* Гр, 215.

Мн. В. *мерцьвякоў*: Гр, 215.

**[МЯСА]** (3) *н.* Мышачная частка цела каго-н. *Дасюль елі мерцьвякоў, А цяпер затое Будзем піць мы* [груганы] *кроў жывых, Мяса есьць жывое!* Гр, 215. *Каб таго парвала з сэрцам на тры часці І звяр'ё збрылося мяса параскрасці, – Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы маці роднай цела.* К.

Адз. В. *мяса* (3): Гр, 215. К; Пц.

**[МЯСТА]** (2) *н. Польск.* Горад. [Спічыні]: *Дазвольце, таварыш, я прачытаю.* [Чытае.] *..”Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі службы пшы Комісарыяце поліцыі мяста Мінска, яко доносіцель”.* Т, 61 [Спічыні]: *У гэтым* [дакуменце] *напісана: “рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Мінска”.* Там жа.

Адз. Р. *мяста* (2): Т, 61 (2).

**[МЯСТОВЫ]** (2) *прым. Польск. Тое, што* мясцовы. *Пачынаюцца выбары да мястовай Рады.* ВМР.

**Выбары да Мястовай Рады.**

Адз. ж. Р. *мястовай* (2): ВМР (2).

**[МЯСТЭЧКА]** (2) *н.* Пасёлак гарадскога тыпу. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны ..мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах у магістратах, на спатканні з міністрам замежных спраў п. Бенешам.. і ў кожным горадзе, мястэчку, вёсцы на шляху нашага двухтыднёвага падарожжа.* ПЧ. *Сягоння .. ствараюцца па гарадох, мястэчках і вёсках беларускія нацыянальныя камітэты..* МІ, 17.

Адз. М. *мястэчку*: ПЧ. Мн. М. *мястэчках*: МІ, 17.

**[МЯСЦІЦЦА]** *незак.* Мець месца. [Ганулля]: *Адзін* [муж] *яшчэ сяктак мясціўся ў сям’і, а як жаніўся, дык і не хапіла абаім месца.* Т, 20.

Абв. пр. адз. м. *мясціўся*: Т, 20.

**МЯСЦОВАСЬЦЬ** *ж.* Тэрыторыя. *Граб зусім звычайнае дрэва ў лясох, гдзе мясцовасьць больш вільготная..* ХБ, 29.

Адз. Н. *мясцовасьць*: ХБ, 29.

**[МЯСЦОВЫ]** *прым.* Пасялковы. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойму і нацыянальнага войска і канчаючы мясцовымі і валаснымі самаўрадамі, – павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці..* НДН, 18. *Параўн.* мястовы.

Мн. Т. *мясцовымі*: НДН, 18.

**[МЯТУСІЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Бязладна і мітусліва рухацца, насіцца. *Разыграліся гурмай за заданяю здань, Як вужакі ў гаршку мятусяцца яны..* БН, 93.

**2.** *перан.* Свяціцца, ззяць. *Адвагай мятусіўся твар.* УрП, 47.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *мятусяцца*: БН, 93. Пр. адз. м. *мятусіўся*: УрП, 47.

**МЯЦЕЛІЦА** *ж.* Народны танец. *Лявоніха, мяцеліца... Бяз памяці вяселіца... – Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!* Бз.

Адз. Н. *мяцеліца*: Бз.

**[МЯШЭЧАК]** *м. Памянш.-ласк. Разм.* Мяшочак. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфелі, а чацвёрты – меншы; пад імі: колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы..* Т, 45.

Мн. Р. *мяшэчкаў*: Т, 45.

# Н

**НА**[1] (1028) *прыназ.* з *В.* і *М.* Спалучэнне з прыназоўнікам “на” выражае:

П р а с т о р а в ы я   а д н о с і н ы (487).

**1.** *з В.* Пры абазначэнні накіраванага дзеяння, руху на месца ці прадмет. *Новая доля, шчаслівая доля Ясна з Усходу кваціѕтай дарогай Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле, Сее вясёласць, зганяе трывогу.* Мц, 75. .. [т. Кальцоў] *перадаў ей* [маці] *букет кветак з просьбай ускласці на магілу сына.* ПЧ. // Ужываецца пры ўказанні на прадмет, на які надзяваецца іншы прадмет. [Наста]: *..хто калі да рэволюцыі ў Менску лузаў семечкі? – ніхто. А цяпер усе і ўсюды – .. лузай сабе ды лузай, шапку на вушы нацягнуўшы...* Т, 28. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры вялізныя партфелі, а чацверты – меншы; пад імі: колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы, .. тры воблы нанізаныя на аборку..* Т, 45.

**2.** *з В.* Указвае на канцавы пункт руху. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328. *Бясстрашныя сыны вялікага совецкага народа вярнуліся на сваю радзіму.* СБ. // Ужываецца пры абазначэнні пачатковага і канцавога пунктаў дзеяння. *Лёс кідае майго бацьку з месца на месца.* А, 327. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з калгаса ў калгас пацёк – разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме.* СТ. // Абазначэнне кірунку. *Трутнёў ня будзеце забавай, Краіны вольнае сыны, Прамчыцца бурна ваша слава На ўсе чатыры стараны.* УрП, 50. // Ужываецца пры абазначэнні месца, у межы якога накіравана дзеянне. [Мікіта]: *Дарма толькі на вакзал з рэчамі сцягаўся.* Т, 55 // Пры абазначэнні сферы дзейнасці як месца з накіраваным на яго рухам. .. *бацька пасылаў мяне з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі і пры свечцы кастра чытаў.* ПС. [Спічыні]: *Заўтра, мусье рэгістратар, пойдзем на практычныя лекцыі.* Т, 50.

**3.** *з М.* Абазначэнне месца дзеяння, дзе знаходзіцца што-, хто-н. *На небе зоры ўжо мігцяць, На полі срэбны сьнег іскрыцца..* Кц, 192. *Хутка жаўранак песьняй сваей галасістаю Прывітае аратых на полі.* ТС, 74. // Указанне на жывую істоту як сродак перамяшчэння. *Рынуліся* [казакі] *ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ ..* Т, 43. *І волатам на вогненным кані Народ аграблены – бы з торб жарбак – За бацькаўшчыну павядзі* [ваяк] *ў агні!* Пт. // Абазначэнне прадмета, як месца выканання, знаходжання чаго-н. [Янка]: .. *калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасць, напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: "Амэрыка для амэрыканцаў", Павінны пайсці і мы па яе слядох і напісаць агністымі рунамі на сваім сцягу: "Беларусь" ...* Т, 35. *Перад намі расейская кніга "Россія. Географическій сборникъ» С. Меча. На страніцы 105 ёсьць нарыс аўтара гэтае кнігі, – "На берегах Свислочи».* ХБ, 28. // Указанне на прадмет, на якім што-н. замацавана. *Мікіта хапае чырвоную хустачку, чапляе на канец парасона і вывешвае праз ваконную фортачку.* Т, 59. *Крыж пастаўце, як ставіце ўсім, – Мае* [бесхацінца] *путы павесце на ім ..* ЧС, 50–51. // *перан.* Указанне на паняцце ці прадмет з месцам засяроджвання пачуццяў, стану. *А хто хаваецца ад сонца, у таго на душы цёмна.* Кз, 17.

**4.** *з М.* Абазначэнне прасторы, дзе адбываецца якое-н. дзеянне. *Не магу .. ня ўспомніць добрым словам д-ра Малькевіча, які на кватэры аказаў мне першую помач..* ЛР. *Цэлы свет ведае, што самыя крывавыя бітвы, самае дзікае знішчэнне людзей і іх дабра ў гэту* [першую сусветную] *вайну – было на Беларусі.* АБ, 16. // Абазначэнне месца з назвамі прадпрыемстваў. [Гарошка]: *Служыў тады ён* [сын] *у Маскве на нейкай фабрыцы.* Т, 44. *Вучні працуюць на заводзе, наведваюць лекцыі.* ПЧ. // Адначасовае абазначэнне сферы месца і непасрэднага дачынення да дзеяння. *У Вільні* [Купала] *працаваў у бібліятэцы і "Нашай ніве", пасля чаго апынуўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, на якіх правучыўся чатыры гады.* А, 328. [Янка]: *Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі.* Т, 54.'

А, 327, 328 (5); Ан, 19 (4); АБ, 16 (6); АЛ (6); Бч, 9; ББ; БрБ, 6 (3); БВ, 16 (4); БЗ; БС (4); БСУ (5); В (4); Вб, 237 (2), 238; ВБЛ, 80 (3), 81(3); ВГ (2); ВГР; ВМР; ВН; ВНЗ; ВС (5); ВСп, 89 (2), 91 (3); Гр, 215 (2); ГНД (2); ГП, 8 (5); Дз, 187 (3), 188, 189 (2), 190 (3), 191 (2), 192; ДЖ; ДК (5); ДПЛС (2); Ж (2); ЖН (8); З (5); ЗК, 42 (2), 43; ЗС, 17 (4); ЗЯЗ, 90; ІП; К; Кз, 17; Кр, 77; Кц, 192 (2), 193 (3), 194, 195 (2), 196 (2), 197 (3); ЛР; ЛПК; М, 20; Мц, 75 (2); МД; МІ, 17; МП (2); МПв, 218, 219; МСП, 187 (4); Н (2); Нз, 14 (4), 15; НГ, 8 (3); НДп, 229; НДН, 18 (5), 19; НК (2); ОШМ (6); ПБН (5); ПВ; ПД, 83 (2); ПДз (2); ПЛ; ПЛП (6); ПНд, 314 (3); ПС; ПСп

(2); ПСД (2); ПСС, 231 (2), 232; ПЧ (14); Р (3); РКр (5); См, 91 (2); СА, 178, 180 (2), 181 (2); СБНГ (3); СМ; СНБ, 336, 337 (2), 338, 339, 340 (2); СНБ (16); СС, 302 (2); СТ (2); Т, 19 (4), 20 (4), 21 (4), 23, 24 (2), 26, 27, 28, 30 (5), 31 (2), 32, 33, 34, 35 (4), 36 (3), 37 (4), 39 (2), 40 (5), 42 (5), 43 (8), 44 (4), 45 (2), 46 (4), 47 (3), 48 (4), 49, 50 (2), 51, 53 (3), 54 (4), 55 (5), 56 (3), 57 (4), 58 (2), 59 (2), 60 (3), 61 (2), 62 (3); Тж, 15 (4), 16 (4); Тр (4); ТЗУ, 293 (2); ТП, 213, 217 (4); Ун, 73 (3); УПУВ; УрП, 46, 50, 51 (2), 52 (4); Ф; Х; ХБ, 28 (5), 29 (6), 30 (3); ХЛВ, 316; ЦСБ; Ч, 319 (5), 320 (4), 321 (4), 322 (2), 323 (2), 325; Чж, 147 (2); ЧС, 50–51 (3); ЧЧШ (3); ШБСЯ (4).

Часавыя адносіны (33).

**5.** *з В.* Указанне на час і месца, калі і дзе адбываецца дзеянне [Гануля]: *Як толькі немцы вышлі, то ён* [Мікіта] *ўжо на другі дзень палез на Трэку недзе на вышкі і давай, на чым свет, падбухторываць людзей.* Т, 46. *На Вялікдзень палякі забралі Вільню.* СНБ. [Спічыні]: *Выбачайце, мусье Зносілов, але мы на сягоння лекцыю спынім.* Т, 50.

**6.** *з В.* Абазначэнне тэрміну распаўсюджання пэўнага стану, дзеяння. *Спаў народ, і ты* [Беларусь] *спала, і ворагі верылі, Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула на век.* Б, 18. [Спічыні]: *Затрымайцеся* [Мікіта] *на мінутку.* Т, 40.

**7.** *з М.* Абазначэнне часу, калі што-н. адбываецца. *Тое самае рабілі на працягу 125-ех год з лішкаю расійцы і гэтак сама нічога не зрабілі..* ДК. *Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны* [людзі] *Раз хочуць сонца, славы, песьні; Забьюць ім зычные званы Прабудным звонам на прадвесьні.* Кц, 196.

**8.** *з М.* Адначасовае абазначэнне часу і сферы дзеяння. *На пахаванні* [брата і сястры] *я* [Купала] *пазнаў усю хцівасць ксяндзоў.* А, 328. Ан, 19; АЛ (3); Бц, 74; В; ВС; ВСп, 90; ГНД; Дз, 189, 190; Кц, 195; ПВ; ПЛ; ПЛП; Т, 27 (2), 38, 41, 47; ТС, 74; УПУВ; УрП, 49, 52.

Аб'ектныя адносіны (245).

**9.** *з В.* Абазначэнне часткі цела як апоры чаго-н. *Становіцца* [Мікіта] *на лаўцы перад Настай на калені..* Т, 42. *Мікіта прыходзіць да Немца, становіцца на одно калена і падае грошы.* Там жа. 33.

**10.** *з В.* Абазначэнне прадмета як сродку дзеяння. *Вось газетку надрукую, чорна-чорную такую. Думаў, вёску з хамскім людам на такую злаўлю вуду..* ЛПК.

**11.** *з В.* Абазначэнне арганізацыі, на якую што-н. залічваецца. .. *ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і арганізатара контр-рэволюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм..* АЛ.

**12.** *з В.* Абазначэнне асобы, прадмета, куды накіравана дзеянне. *Але больш за ўсё, я* [Купала] *думаю, зрабілі на мяне ўплыў беларускія народныя казкі..* ПС. *Азірнуўся* [Даніла] *на хаціну Ды змахнуў слязіну.* ПСД.

**13.** *з В.* Абазначэнне асобы або з'явы з разлікам і спадзяваннем. *Адна на вас надзея, богі, Нясём належную вам дань..* УрП, 48. *Рэвалюцыя 1905 года .. запаліла ярка і непераможна надзею на свабоду..* ЖН. // Указанне на тое, да чаго прыходзяць у сваіх дзеяннях. *Хіба можа ён* [абываталь] *адважыцца на беларускую школу, калі беларушчына цэлымі соткамі год ганьбілася і выганялася адусюль, адкуль можна было?* ДК. *На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую.* Нз, 14. // *Абл.* Абазначэнне забытага ці чакаемага аб'екта. *Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру.* Нз, 14. *Жывуць* [старыя багі], *як даўней жылі, – у песнях, казках, былінах і чакаюць ... чакаюць на новых старцоў мудрых, на вешчуноў – прарокаў златавустых.* Кз, 17.

**14.** *з В.* Указанне на аб'ект увагі, тэму размовы. *Цяпер мы павінны зьвярнуць увагу на праціўны лагер, на правадыроў нацыянальнай рэволюцыі – на Польшчу..* СНБ. [Спічыні]: *Цяпер папробуйце* [Мікіта] *сказаць араторыю на тэму: "Рэволюцыйная самадысцыпліна".* Т, 40.

**15.** *з В.* Указанне на аб'ект для характарыстыкі асобы. *На ўсе рукі.* УР. // Указанне на галіну з праяўленнем якой-н. прыкметы. *Ці магчыма будзе гэтак* [як у царскай Расіі] *устроіцца з галоднымі на зямлю людзьмі і ў будучыне – вось пытанне?* ЗС, 18. // Указанне на назву хваробы. *Антанта, прымаючы пад увагу, што захварэла на вар'яцыю ад дыпламацыі, тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца.* Ан, 19.

**16.** *з М.* Указанне на частку цела для апоры чаго-н. ..[Мікіта] *уваходзіць пераадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усімі адзнакамі, акручваючыся на пяце.* Т, 50.

**17.** *з М.* Указанне на асобу як аб'ект выяўлення дзеяння. *.. купляюць* [маёмасць] *"цёплыя мужыкі" – багатыры, буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на гарадскім галадаючым насяленні.* ЗС, 18. *На земствах ляжыць ешчэ іншы важны абавязак – гэта агранамічная і лекарская помач селянам.* ВС.

**18.** *з М.* Абазначэнне прадмета – утваральніка дзеяння. [Гануля]: *А сёлета .. дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу самакатам* [мянчане] *коцяць і коцяць на вяроўках.* Т, 55. [Дама]: *Я папарашу гэтага мусье* [Янку].., *каб сыграў на балалайцы.* Там жа, 52. // Абазначэнне сродку перамяшчэння. *Тысячы Чкалавых, Грачавых, Кокінакі памчацца на сваіх быстракрылых самалётах на абарону мацеры-радзімы.* ВГ. *Аб Сталіну-сейбіту песня мая, А песня ад шчасця, ад радасных дзён, Якая на крыллях ляціць салаўя За межы-граніцы ды будзіць там сон.* СС, 301.

**19.** *з М.* Указанне на аснову чаго-н. .. *мы павінны ўсюды заяўляць, што мы – беларусы, і на фундамэнці закона дамагацца, каб рэлігіі і ў школах беларускіх дзяцей вучылі .. па беларуску.* ВР. .. *нам астаецца толькі цешыцца, што .. гэты* [падаходны] *налог, аснованы на справядлівасьці, знойдзе нарэшце сабе мейсцэ у Расейскім гасударстве.* ВН. // Абазначэнне мовы як сродку зносін. [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26.

А, 328; Ан, 18 (3), 19 (3); АБ, 16; АЛ (10); АПЖ; Бч, 9; БВ, 16; БЗ; БС (2); ВБ (3); ВБЛ, 82; ВГ; ВГР; ВМР (2); ВН (2); ВР; ВС (4); ВСп, 89 (4), 90 (3); ВЧ (2); Г, 17; Дз, 191; ДЖ (2); ДК; ЖН; З (4); ЗК, 43 (2); ЗС, 17, 18; Кз, 17; Кц, 192; ЛР (3); МД; МП (3); Н; НГ (2); Нз, 14 (12); 15 (4); НД (2); НДН, 18; НК; ОШМ; ПБН (4); Пт; ПВ; ПДз; ПЛП; ПНд, 314; ПС; ПЧ (3); РКр; РС, 39 (2); С, 209; СБНГ (4); СНБ, 336 (2), 337 (5), 338, 339 (4), 340; СНБ (4); Т, 19, 20, 21, 22, 24 (2), 25, 26 (3), 29 (3), 30, 32, 33, 34, 35 (2), 37, 38, 39 (4), 40 (2), 41 (2), 42 (4), 43 (3), 44 (2), 46 (3), 49, 50, 52, 53, 54, 55 (2), 56 (2), 58 (3), 59 (2), 60 (2); ТП, 213, 214 (3); ТС, 74 (2); УП (2); УПУВ (5); ХБ, 29, 30; Ч, 319, 321, 323, 324; ШБСЯ (4).

Адносіны пераўтварэння (18).

**20.** *з В.* Указанне на прадмет, у які ператвараецца ранейшы прадмет. ..*паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17. *Палякі мелі магчымасьці перарабляць беларусау на палякоу цэлые трыста год з лішкаю і нічога ня ускуралі..* ДК. // Указанне на пераход з аднаго стану ў другі. *Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцяй ад Масквы, на лепшае нічога не змянілася.* Нз, 14. АБ, 16 (2); АЛ; БСУ; ВБ; СА, 181; СНБ, 337; СНБ (2); Т, 36 (3), 43 (2); Ч, 324.

Адносіны меры і ступені (19).

**21.** з *В.* Абазначэнне паўнаты якога-н. дзеяння або прыкметы. *Як ня выйдуць чорнасотники на благое ўсё ахвотники, Дый на ўсю моц закрычаць: "Думу трэба разагнаць!".* ВЧ. .. *справа вызваленьня Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ. // Састаўная частка прыслоўных выразаў: *"на зьдзіў", "на жарт". Ў руцэ меў* [першы ганец] *сьветач, што на зьдзіў Усе усюдах зводзіў цені.* Кц, 194. *Знай, жаўнеры мы, Вышлі не на жарт Біцца, ваяваці..* ВБ.АЛ; ВС; З; Кз, 17; Мц, 75; МІ, 17; НДН, 18; СНБ (2); Т, 23, 35, 40, 44; ТП, 217.

Колькасныя адносіны (22).

**22.** *з В.* Абазначэнне колькасці для вызначэння мяжы чаго-н. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16. [Мікіта]: *А я папрашу пардону ў гасцей і на хвіліну адлучуся змяніць свой знадворны*

*выгляд..* Т, 50. // Абазначэнне месца, з’явы ў радзе да іх падобных. *Але на гэты раз нас цікавіць ня так самые выпадкі нарушэньня дробнымі урадлікамі распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкаў ахварбоўка, або, лепш сказаць, апраўданьні.* ОШМ.

**23.** *з В.* Абазначэнне колькаснай прыкметы для вызначэння прызначэння чаго-н. – *Глыток вады. – Нам на сям’ю вядро.* ВБЛ, 80.

**24.** *з* В. Указанне на часавую розніцу. *Брат* [Купалы] *памёр на тыдзень раней, чым сёстры.* А, 328. ГНД (2); Нз, 15; НКУС; ОШМ (2); ПЧ; Т, 20, 23, 34 (3), 47, 49, 52; УП; ШБСЯ.

Размеркавальыя адносіны (13).

**25.** *з В.* Указанне на колькасны паказчык раздрабнення, падзелу чаго-н. *Ідзі* [брат-беларус] *на ўзгор, на камень сядзь, Што пашчапаў пярун на часці..* БрБ, 6. *Спрачаліся* [хаўрусьнікі] *доўга, Як край наш раскрасьці, Дый сьпеліся ўрэшце... Парваць на дзьве часьці.* Х. БрБ, 6; ВБЛ, 81; ГП, 8; К (2); МПв, 219; НГд, 8; ПЛП; Т, 26 (2); У.

Азначальныя адносіны.

**26.** *з В.* Указанне на прыкмету прадмета. *Старыя праўды на новы лад.* СП.

Адносіны характару і спосабу дзеяння (40).

**27.** *з В.* Абазначэнне характару дзеяння. *І ці не пара ужо пераканацца людзям, што на свой капыл беларускага народу не пераробіш.* ДК. *Кожны строіў, наводзіў цябе* [Беларусь] *на свой строй, на свой лад, Ажно часам жальба, як кляцьба разьлягалася..* Б, 18. // Ва ўстойлівым звароце “на пагляд”. *Так магучы, яснасьветны На пагляд былі ўсе* [сыны].. Дз, 189.

**28.** *з В.* Указанне на пераход да іншага характару дзеяння. [Мікіта]: *..хачу перайсці на ваш беларускі бок.* Т, 55. [Спічыні]: *Перакулеце на наш* [беларускі] *манер такі зварот: ешчэ Польска не згінэла.* Там жа. 49.

**29.** *з М.* Указанне на абставіны, пры якіх выяўляецца якая-н. прыкмета. *На бязмужжы і дурань муж..* ВБЛ, 83.

**30.** *з М.* Указанне на стан знаходжання або дзейнасць, якой хто-н. займаецца. *Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы; На стражы пастаўлен сынок..* ЗК, 42. *Хай бяруць з магазыноў* [збожжа] *толькі тые, хто папраўдзе не мае што купіць, а сем’яніны яго на ваеннай службе.* ВС. Ан, 18; Б, 18; БрБ, 6; ВР; ВС; ДЖ; ЗК, 42; ЗС, 17, 18; Кц, 192; МІ, 17; Пт; ПНд, 314; Т, 21, 23, 29, 32, 34, 37 (2), 42 (3), 46, 49, 55; ТЗУ, 293; УрП, 49; Ч, 321; $Ш_5$; ШБСЯ.

Прычынныя адносіны (10).

**31.** *з В.* Указанне на падставу, абгрунтаванне якога-н. дзеяння. *І кветкі-вяночкі дзяўчаты, вядома, Прыносяць яму* [Варашылаву] *на шчаслівы прыход.* НДп, 229. *І дасьць* [князь] *адвет такі ў канцы*

*Ганцам на іхніе навіны: “Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны* [людзі] *Раз хочуць сонца, славы, песьні”..* Кц, 195.

**32.** *з М.* Указанне на аснову якога-н. стану. [Спічыні]: *Можаце* [Мікіта] *думаць усё, што толькі вам падабаецца, але гаварыць абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца. Толькі такім чынам вы зробіце сабе на свабоднай аратарскай профэсіі якследную асэсарскую кар'еру.* Т, 40. БВ, 16; ВСп, 90; М, 20; ОШМ; ПНд, 314; Т, 24, 45.

М э т а в ы я   а д н о с і н ы (141).

**33.** *з В.* Указанне на мэту, прызначэнне якога-н. дзеяння. *Ўсе народы паўсталі на бітву за права сваё.* Б, 18. [Мікіта]: *..рэдактар Гізульскі, што жыў да апошняга часу ў нашай кватэры, абяцаў мне вылатвіць “пшэпустку” на выезд, але падашукаў.* Т, 55. // Указанне на прадмет або стан як дасягальную мэту дзеяння. *Цяперака, калі спынена продаж на гарэлку, урад павінен ня толькі дастаць грошы на гасударственные расходы, каб пакрыць гэту акцызную нядоімку, але ешчэ павінен дастаць іх і на ваенные расходы.* ВН. *Ён* [чараўнік] *ідзе... Сям і там набіваецца ў госьці, Упіваецца ў сэрцы нямыя, І сьцібрае на путы струхнеўшыя косьці..* Ч, 325. // Указанне на мэту ў выразах, блізкіх да прыслоўяў. *Сына маці выпраўляла, Крыж на памяць дала, Каб матулю родну помніў, Як паедзе з сяла.* ПСД. *Хто пакінуў свой дом на пасьмешышча нетрам, Дом чужы таму будзе астрогам..* Ч, 323. // Указанне на прызначэнне прадмета. *Беларус-жа ім на тое: – Сваячкі ж мае вы* [маскалі і ляхі]: *Смачны жолудзь вам на каву, Дый высока дрэва!* С, 209. [Мікіта]: *А ці не ведаеце, мамзэль Наста, можа, яму* [немцу] *на дарогу маркі патрэбны..* Т, 42. // Указанне на выпадак, нагоду. *.. ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, .. прыкладам творы: пераклад “Інтэрнацыяналу”, “На сьмерць С. Булата”, .. “З угодкавых настрояў” (на дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай рэвалюцыі).. і інш.* АЛ. *На смерць таварыша Кірава.* СК, 158. // Указанне на эмацыянальную ацэнку якога-н. дзеяння, падзеі. *Журыцца дзяўчына, што Янук пакінуў... Той паехаў на пацеху Бараніць Айчыну.* ЕЯП. *А нашы дарогі! Праз немарач, нетры, На радасць людскую, як стрэлы, ляглі.* ПБН.

**34.** *з В.* Указанне на асобу, у інтарэсах якой што-н. адбываецца. *Дзеці чужацкія корме ўжо дочка, Маці працуе на злыдню свайго.* Н. [Мікіта]: *Медждду протчым, ідэя – вельмі скупая пані: ні шэлега сваім слугам не плаціць – хоча, каб на яе ўсе дарма працавалі.* Т, 22.

**35.** *з В.* Указанне на званне, прафесію, з мэтай дасягнення ці аваладвання якой абдываецца дзеянне. *Кали маеш брата, ци дарослаго сына, абходзься з ими, ласкава, бо як высьвенцицца часам каторы на стражника, то аддасьць за лычка рэменьчыкам.* СП. [Аленка]:

*А цяпер хачу вучыцца на курсістку, потым на доктара ...* Т, 30.

Ан, 18, 19; БрБ, 6; БВ, 16; БН, 91; В; ВБ (2); ВБЛ, 81; ВВ, 263 (2); ВГ; ВН (9); ВС (2); ГВУ; ГНД; Дз, 188 (3), 189, 190; ДД; ДЖ ДК (2); ДНСП; ЕЯП; З (3); ЗС, 18; К; Кз, 17; Кц, 196; М, 20; Мц, 75; МПв, 220 (2); Н; Нз, 14; НГд, 8; НКУС; ОШМ (4); ПВ (2); ПЛ; ПСД; ПСС; ПТ, 207; ПЧ; РК; РС, 40 (2); См, 90; СБ (2); СС, 301; Т, 20, 24 (4); 25, 30, 32 (3), 33, 34, 35, 36, 38 (2), 40, 41, 44, 45 (2), 46 (10), 55, 57, 58 (2), 60 (4), 62; ТП, 216 (2); УП (2); УрП, 48, 50; Ч, 50; 320 (4); $Ш_1$ (2); $Ш_4$.

**НА²** (2) *часц.* Вазьмі, бяры. *Тут рэдактар схапіў адну з падлогі газэту, кінуў мне проста ў вочы і гукнуў: – На, чытай!* Ан, 19. *– На, чытай! – закончыў ён* [рэдактар], *шпурнуўшы мне сто і адну газэту.* Там жа.

**НААГУЛ** *гл.* **НАОГУЛ.**

**НААДВАРОТ** (3) *прысл. У знач пабочн.* У процілегласць чаму-н. *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, .. бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з інтарэсамі беларускіх працоўных мас .. ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ. *..леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай, г.ё. выдаўцы ня прытрымліваліся, каб друкаваць або толькі школьныя кнігі, або прыгожае пісьменства, але наадварот: не забыліся аб усіх галінах друкаванага слова.* ВСп, 89. СНБ, 340.

**[НАБАЖЭНСТВА]** *н.* Богаслужэнне, малебен. *І сёння там* [у Заходняй Беларусі] *ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны..* ПБН.

Адз. Р. *набажэнства*: ПБН.

**[НАБЕГЧЫ]** *зак.* Збегчыся. *Як пачалося атступленне рускаго войска, следам за японскими салдатами набегли хунхузы и начали палиць афицэрския кватэры.* ПДз.

Абв. пр. адз. м. *набегли*: ПДз.

**[НАБІВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* набіваць. З набітым узорам. *Не было, праўда,* [у продкаў нашых] *узнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных..* Кз, 17.

Мн. Р. *набіваных*: Кз, 17.

**[НАБІВАЦЦА]** *незак. Разм.:* ◊ **Набівацца ў госьці** – напрошвацца, навязвацца да каго-н. *Ён* [чараўнік] *ідзе ... Сям і там набіваецца ў госьці..* Ч, 325.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *набіваецца*; Ч, 325.

**[НАБІРАЦЬ]** *незак.* Браць, адбіраць нейкую колькасць. *..кожны агітатар набірае сабе пэўны лік прыхільнікаў.* ДК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *набірае*: ДК.

**[НАБЛІЖАЦЦА]** *незак.* Станавіцца больш блізкім па часе. *Тыя, хто трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часціцай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі..* БВ, 16.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *набліжаецца*: БВ; 16.

**[НАБЛІЗІЦЦА]** *зак. да* набліжацца. *Шчаслівы наблізіцца век..* ТП, 216.

Абв. буд. адз. 3 ас. *наблізіцца*: ТП, 216.

**НАБЛУДЗІЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* наблудзіцца. Нахадзіўшыся, навандраваўшыся. *Трох братоў, сваёй кожны дарогай-пуцінай, Наблудзіўшыся, выхад спаткалі..* Ч, 322.

**НАБОЖНА** (2) *прысл. да* набожны. .. [рэдактар] *ўзяў пяро, набожна перахрэсьціўся, набожна пацалаваў крыж і напісаў у .. газэту .. стацьцю пад .. загалоўкам Якім парадкам прымусіць дзяцей-беларусоў вучыцца і маліцца па-польску.* ЧЧШ.

**НАБОЖНЫ** *прым.* Які верыць у бога, звышнатуральныя сілы. *..на сьцюдзеных галодных руінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоў сваіх..* З.

Адз. м. Н. *набожны*: З.

**НАБОК** (26) *прысл.* **1.** Убок. *Стаўляе* [Мікіта] *набок пляшку.* Т, 21. [Янка]: (*адвёўшы набок Мікіту*). *Дайце яму* [немцу] *тры рублі, і адчэпіцца.* Там жа, 33.

**2.** *У знач. выкл.* Прэч. *Набок з дарогі, панове і гаспада з Захаду і Усходу! Беларуская моладзь ідзе!* МІ, 18. Т, 20, 23, 25, 27, 28 (2), 31, 32 (6), 42 (2), 43 (2), 51 (2), 60 (2), 61 (2).

**[НАБОРШЧЫК]** (2) *м.* Рабочы друкарні, які робіць набор тэкстаў. *..у нас наборшчыкі наконта беларускага пісьма, дык ні бэ, ні мэ.* Ан, 18. *..Паліграфадзел ня мог ці не хацеў даць патрэбную колькасьць шрыфтаў і наборшчыкаў..* ВСп, 91.

Мн. Н. *наборшчыкі*: Ан, 18. В. *наборшчыкаў*: ВСп, 91.

**НАБРАЦЬ** (3) *зак.* **1.** Узяць нейкую колькасць чаго-н. *Можаце і вы* [Янка] *набраць* [патакі], *меджду протчым.* Т, 54.

**2.** Захапіць з сабой. [Янка]: *Не адкладваючы справы ў доўгі мех, лахі пад пахі, ды яшчэ заўтра – марш на свежае паветра* [у вёску]! [Аленка]: *Але і кніжак з сабой набяром?* Т, 30.

◊ **Набраць у губу вады** – нічога не гаварыць. [Мікіта]: *Не магу ж я, меджду протчым, мамаша, набраць у губу вады і маўчаць, калі ён* [Янка] *бэсціць мае жыццёвыя погляды.* Т, 22.

Інф. *набраць*: Т, 22, 54. Абв. буд. мн. 1 ас. *набяром*: Т, 30.

**НАБЫЦЬ** *зак.* Купіць. *Каханне хлопца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу...* ПЧ.

Інф. *набыць*: ПЧ.

**[НАВАЖЫЦЬ]** *зак.* Рашыць, вырашыць. *Імя тваё* [Сталіна] *ўспамінае ўрачыста Хлапчук, які лётаць наважыў.* СС, 301.

Абв. пр. адз. м. *наважыў*: СС, 301.

**НАВАКОЛА**[1] *прысл. Разм.* Кругом. *Навакола далёка-далёка расьцілаецца раўніна, ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...* ХБ, 29.

**НАВАКОЛА**[2] *прыназ. з* Р. Навокал. *З табою* [трактарам] *аб'едзем Навакола света, Людзі нас сустрэнуць З вясёлым прыветам.* ПТ, 207.

**[НАВАЛА]** (5) *ж.* **1.** Напад. *А мы, беларусы .. нічога дагэтуль не змаглі зрабіць, каб мець сваё войска, якое бараніла б нашы межы ад чужой навалы.* БВ, 16. *Хай ставяць* [людзі] *цьвёрдыя запоры перад навалаю чужой..* УрП, 50.

**2.** Вялікая колькасць чаго-н. *Пад магіл навалай Дрэмле Русь, Літва..* МД. *Грудзі здавілі мне* [Нёману] *хмары навалай..* Н.

Адз. Р. *навалы* (2): БВ, 16; Т, 21. Т. *навалай* (2): МД; Н; *навалаю*: УрП, 50.

**[НАВАЛЬНІЦА]** *ж.* Непагода з маланкай, громам, дажджом і ветрам. *.. лета* [на Беларусі] *гарачае, але яно асьвяжаецца такімі навальніцамі, якіх я* [С. Меч] *ня бачыў у Расеі ...* ХБ, 29.

Мн. Т. *навальніцамі*: ХБ, 29.

**[НАВАСПЕЧАНЫ]** *прым. Разм., іран., перан.* Які нядаўна стаў кім-н. [Мікіта]: *А што вы, наваспечаныя рэспубліканцы, хэ-хэ-хэ! беларусы ці як там ... што вы маніцёся бараніць..?* Т, 21.

Мн. Н. *наваспечаныя*: Т, 21.

**НАВАТ** (45) і *разм.* **НАВЕТ** (14) *часц.* **1.** Узмацненне сэнсавай выразнасці слоў і словазлучэнняў. *Беларускі народ самабытны – гэта прызнаюць ужо навет і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагеру.* Нз, 14. *Так камень не ляжэ, як змора падання Лягла ад мяжы да мяжы З надзеяй, што нават і думку змагання "Забраны край" вырве з душы.* ЗК, 43. *Параўн.* дажэ *ў 1 знач.,* нат. Ан, 18 (2), 19 (2); БрБ, 16; БВ, 16; БС; ВСп, 89; ГНД; ЖН; З (2); ЛР; МІ, 17 (2); МПв, 218; Нз, 14; Р; СТ; Т, 23, 27, 30 (2), 34 (2), 38, 47 (2), 49, 55, 60 (2); Тж, 15.

**2.** *У знач. далуч. злучн.* Далучае члены сказа і сказы ў якасці паказчыка самай высокай ступені чаго-н. [Янка]: *На маю думку, найлепей пакуль што ехаць на вёску і там прывучаць да навукі людзей і самой* [Аленцы] *ад іх вучыцца.* [Аленка]: *..на вёску дык на вёску! Нават хоць у пекла, калі вы параіце...* Т, 30. *Хай толькі асвеціць Вас* [беларусаў] *адна вялікая думка, – аддаць усё для сваёй Бацькаўшчыны, нават жыццё, калі яна Вас да гэтага пакліча.* ПЛП. *Параўн.* дажэ *ў 2 знач.* ДК; З; ЗС, 18; Кз, 17; МІ, 17 (2); Нз, 14; ПС; СНБ, 337, 338; Т, 20, 28, 38, 41, 43, 51, 56; УР, 215; $Ш_5$.

**[НАВАТВОР]** *м. Спец.* Новае слова. *..вельмі ўжо многа гэтых тэрмінаў чужаземных, якія былі незразумелымі, так і засталіся – іх толькі перапісалі беларускімі літарамі.. А ня шкодзіла-б .. замяніць гэтыя чужатворы .. болей зразумелымі беларускімі наватворамі – было-б прасьцей і мілагучней.* ВСп, 89.

Мн. Т. *наватворамі*: ВСп, 89.

**[НАВЕДАЦЬ]** (4) *зак. да* наведваць. *У часе свайго падарожжа* [па Чэхаславакіі] *мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў.* ПЧ. [у Празе] *мы* [дэлегаты] *наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна..* Там жа.

Абв. пр. мн. *наведалі* (4): ПЧ (4).

**[НАВЕДВАЦЬ]** (2) *незак.* Бываць, прысутнічаць дзе-н. *Вучні працуюць на заводзе, наведваюць лекцыі..* ПЧ. *Гэтая сімпатыя выказвалася нам* [дэлегатам] *і шматлікай публікай, якая прымала нас як любых гасцей сваёй краіны. І так на кожным вакзале, у кожным, які мы наведвалі, горадзе.* Там жа.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *наведваюць*: ПЧ. Пр. мн. *наведвалі*: ПЧ.

**[НАВЕДЗЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* [навесці]. Настроены. *Наведзены струны ў скрыпках па-свойску Чужая зрывае рука..* ЗК, 43.

Кар. мн. Н. *наведзены*: ЗК, 43.

**[НАВЕЙШЫ]** (5) *прым.* **1.** *Пар. ст. да* новы *ў 2 знач. На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца калгасныя нівы, навейшыя дасягненні аграноміі, тэхнікі і пладатворнай калектыўнай працы.* АЛ. *.. павінны мы адмеціць "Мэтодыку арытмэтыкі" Лукашэвіча і Валасковіча, якая ўкладзена паводле самых навейшых навуковых досьцігаў і якая павінна стацца незамененай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытмэтыку.* ВСп, 89.

**2.** *Пар. ст. да* новы *ў 4 знач.* [Янка]: *Цікава толькі, як гэта вы* [Мікіта] *з сваім апошнім саўбураўскім становішчам дапасуецеся да самай навейшай палітычнай сытуацыі..* Т, 48. [Мікіта]: *А я паппрашу пардону ў гасцей і на хвіліну адлучуся змяніць свой знадворны выгляд, згодна з самай навейшай, меджду протчым, палітычнай сытуацыяй.* Там жа, 50.

Адз. ж. Р. *навейшай*: Т, 48. Т. *навейшай*: Т, 50. Мн. Н. *навейшыя*: АЛ. Р. *навейшых*: ВСп, 89. В. *навейшыя*: ШБСЯ.

**НАВЕК** (6) і **НАВЕКІ** (3) *прысл.* Назаўсёды, назаўжды. *Спаў народ, і ты* [Беларушчына] *спала, і ворагі верылі, Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек.* Б, 18. *Няхай гэтыя здраднікі* [памешчык, ураднікі, фабрыканты] *будуць пракляты навекі.* ВНЗ. Бч, 10; ВВ, 263; ДЖ; Ж; СС, 300; ТП, 214.

**НАВЕРХ** *прысл.* На верхнюю частку чаго-н. [Мікіта]: *Кідайце* [Наста] *сюды ў павозку бялізну, а наверх стаўляйце начоўкі..* Т, 50.

**[НАВЕСЦІ]** *зак.* Выклікаць якім-н. учынкам што-н. непажаданае. [Поп]: *Прогрэшэнія нашы несчыслімыя. Навождзяху оне на себя возмездзіе необозрымое.* Т, 37.

Абв. пр. мн. *навождзяху*: Т, 37.

**НАВЕТ** *гл.* **НАВАТ.**

**[НАВЕЯ]** *ж. перан.* Заслона. *Хай распапеляць* [небныя моцы] *зла навею Над упадаўшай стараной.* УрП, 48.

Адз. В. *навею*: УрП, 48.

**[НАВЕЯЦЬ]** *зак. перан.* Выклікаць у каго-н. што-н. *Светларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліўю І навеяла шмат абунтараных дум...* АР.

Абв. пр. адз. ж. *навеяла*: АР.

**[НАВІЗНА]** *ж. Тое, што* навіна *ў 2 знач. ..адзначаецца сваёй навізной першая "Беларуская разразная азбука".* ВСп, 89.

Адз. Т. *навізной*: ВСп, 89.

**[НАВІНА]** (5) *ж.* **1.** Вестка. [Наста]: *Смутную вам* [Мікіту] *прыношу навіну.* Т, 59. *Засвяціла ясна зорка Добраю навінай Над Заходняй Беларусяй І над Украінай.* ЗЯЗ, 89.

**2.** Нешта новае, раней невядомае. *Як навіну ў гэтых творах трэба адзначыць выхад у сьвет першага беларускага рамана – гэта "Сокі цаліны" Цішкі Гартнага і "Дудка Беларуская" і "Смык Беларускі", якія пасьля болей як паўвяковага працягу часу першы раз надрукаваны гражданкай..* ВСп, 89. *Параўн.* навізна.

Адз. В. *навіну* (2): ВСп, 89; Т, 59. Т. *навінай* (2): ЗЯЗ, 89, 90. Мн. В. *навіны*: Кц, 195.

**[НАВОДЗІЦЬ]** *незак. перан.* Мяняць, перарабляць. *Кожны строіў, наводзіў цябе* [Беларусь] *на свой строй, на свой лад.* Б, 18.

Абв. пр. адз. м. *наводзіў*: Б, 18.

**НАВОДЗЮЧЫ** *дзеепрысл. да* наводзіць. *перан.* Унушаючы, навяваючы. *Слабые душою і целам апускаюць рукі, і як вол доўбні чэкаюць нечаго негаданаго, благога, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу.* РКр.

**НАВОКАЛ** *прыназ. з Р.* Выражэнне прасторавых адносін пры назве каго-н. *Трэба прызнацца, што якое бы ліхо навокал нас і з намі самімі не рабілося, якіх бы мы* [беларусы] *не пражывалі нягод і крыўд – мы гэтага як бы ня бачым..* ВС. *Параўн.* навакола *ў 2 знач.*

**НАВОКУ** *прысл.:* ◊ **Мецъ навоку** *гл.* мецъ.

**НАВУКА** (14) *ж.* **1.** Сістэма ведаў аб заканамернасцях развіцця прыроды, грамадства, мыслення і спосабы ўздзеяння на навакольны свет. ..[у вышэйшых навучальных установах] *тысячы пралетарскага студэнства пасцягаюць самыя навейшыя здабыткі сусветнай навукі..* ШБСЯ. .. *на высшую вучэльню у Вільне зьвернуты*

*цяпер вочы ня толькі польскага народу, – на гэту зьмясьціну навукі і мастацтва пазіраюць цяпер і сумные вочы літвіноу і беларусау.* УПУВ. *Параўн.* наука.

**2.** Асобая галіна навуковых ведаў. *Вучні працуюць на заводзе, наведваюць лекцыі, але ў школьных прадметах вы не знойдзеце гуманітарных навук.* ПЧ.

**3.** Практычны, трэніровачны навык. [Мікіта]: *Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, "па", то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танц-клясісту Грачаніну. У яго я скончыў курс гэтых навук.* Т, 29.

**4.** Урок. *..я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмократычнага шалупіньня..* АЛ.

**5**. *Разм.* Навучанне, вучоба. *..апалячываньне беларусоў страшэнне пашыраецца і навука рэлігіі па польску – гэта моцнае аружжэ ў руках польскіх націоналістоў.* ВР. [Янка]: *На маю думку, найлепей пакуль што ехаць на вёску і там прывучаць да навукі людзей і самой* [Аленцы] *ад іх вучыцца.* Т, 30.

Адз. Н. *навука* (3): ВР (2); Т, 61. Р. *навукі* (4): Т, 29, 30; УПУВ; ШБСЯ. В. *навуку*: ВР. Т. *навукай* (2): АЛ; Т, 32. М. *навуцы*: Т, 49. Мн. Р. *навук* (2): ПЧ; Т, 29. В. *навукі*: Т, 20.

**[НАВУКОВА-ТЭРМІНОЛЁГІЧНЫ]** *прым.* Які займаецца пытаннямі навуковай тэрміналогіі. *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, гэтых кіруючых штабах беларускага нацыянал-дэмократызму, бачачы.. іхнія ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але, наадварот, маральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Адз. ж. М. *навукова-тэрмінолёгічнай*: АЛ.

**[НАВУКОВЫ]** (6) *прым. Які мае адносіны да* навукі ў 1 *знач. На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.* АЛ. *..павінны мы адмеціць "Мэтодыку арытметыкі" Лукашэвіча і Валасковіча, якая ўкладзена паводле самых навейшых навуковых досьцігаў і якая павінна стацца незамененай падручнай кніжнай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытмэтыку.* ВСп, 89. *Параўн.* навучны, научны.

Адз. ж. Н. *навуковая*: ВСп, 89. Мн. Н. *навуковыя*: АЛ; *навуковэ*: Т, 27. Р. *навуковых* (3): ВСп, 89 (2); МП.

**[НАВУЧАЛЬНЫ]** (3) *прым.* Які мае адносіны да вучобы, навучання. *Мы* [беларусы] *сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі на дзесяткі*

*тысяч школ,.. на дзесяткі вышэйшых навучальных установ..* ШБСЯ. *..нязначны час* [Купала] *вучыўся ў Мінску ў прыватнай школе: нейкі стары чалавек падрыхтоўваў групу вучняў у навучальныя ўстановы г. Мінска.* А, 328.

Мн. Р. *навучальных*: ШБСЯ. В. *навучальныя* (2): А, 328; АЛ.

**[НАВУЧАННЕ]** (3) і **[НАВУЧАНЬНЕ]** *н.* Вучоба, асвета. [Мікіта]: *Мы з вамі высока трымаем свае сцягі: вы* [Спічыні] *сцяг, меджду протчым, навучання, а я – сцяг, меджду протчым, вартавання.* Т, 49. [Янка]: *.. да навукі і навучання* [ляжыць сэрца Аленкі]. Там жа, 29. // Прывіццё ведаў. *І нашым* [беларускім] *католікам так задурылі галаву, што яны зусім пагадзіліся з навучаньнем асноў веры па польску.* ВР.

Адз. Р. *навучання* (3): Т, 29 (2), 40. Т. *навучаньнем*: ВР.

**НАВУЧАЦЬ** (6) *незак.* **1.** Перадаваць якія-н. навыкі, веды. [Янка]: *Цікава, да каго ж у цябе, Аленка, сэрца ляжыць?* [Аленка]: *Вучыцца і навучаць, навучаць і вучыцца. Вось да чаго маё сэрца ляжыць.* Т, 29. *Гэту думку мае і закон, каторы кажэ навучаць дзяцей іх веры у роднай мове.* ВР.

**2.** *Разм.* Настаўляць. *Гэткай рдзее душой чараўнік-сьлепаводнік, Што сыноў навучаў трох калісьці, А за ім сучыць сьледам, цянюючы, зводнік.* Ч, 326.

Інф. *навучаць* (4): ВР; ВСп, 91; Т, 29 (2). Абв. цяп. адз. 3 ас. *навучае*: Т, 36. Пр. адз. м. *навучаў*: Ч, 326.

**[НАВУЧНЫ]** *прым. Руск. Тое, што* навуковы. *..не было больш-менш вялікшага – ці то палітычнага, ці то навучнага здарэння на Захадзе, каб яно не адгукнулася на Усходзе.* Тж, 15.

Адз. . Р. *навучнага*: Тж, 15.

**[НАВУЧЫЦЦА]** (2) *зак.* Засвоіць, набыць навыкі, уменне рабіць што-н. *Па руску я* [Купала] *навучыўся ад сваёй нянькі.* А, 328. *Як навучыцца* [сын] *хадзіці, Маткі мову разумець, Ты* [матка] *вучы яго любіці Усё сваё ў пашане мець.* М, 19.

Абв. пр. адз. м. *навучыўся*: А, 328. Буд. Адз. 3 ас. *навучыцца*: М, 19.

**[НАВУЧЫЦЬ]** (2) і *разм.* **НАЎЧЫЦЬ** (2) *зак.* **1.** Перадаць уменне рабіць што-н. *І ў сабе шанаваць чалавечага духу Не патрапіў* [трэці брат] *наўчыць брата-зьвера.* Ч, 323.

**2.** Прымусіць зразумець што-н., пераканацца ў чым-н. *.. мінуўшы год.. шмат чаму на практыцы нас навучыў.* СНБ, 337. *Хіба можна вымагаць, каб турэцкі янычар падаў голас за хрысьціяніна, калі навучылі ненавідзець храсьціянства?* ДК.

Інф. *наўчыць*: Ч, 323. Абв. пр. адз. м. *навучыў*: СНБ, 337; *наўчыў*: СНБ Пр. мн. *навучылі*: ДК.

**[НАГАВОР]** *м.* Данос. *.. бальшавікі па нагавору польскіх віленскіх камуністаў арыштавалі і вывезлі* [проф. Ігнатоўскага] *ў Смаленск, як заложніка.* СНБ, 339.

Адз. Д. *нагавору*: СНБ, 339.

**НАВЫВАРАТ** *прысл. перан. Разм.* Наадварот. [Спічыні]: *Заўтра пачнём* [вучыць] *прывітанні навыварат.* Т, 32.

**НАГА** (18) *ж.* Частка цела чалавека. [Мікіта]: *Ага, ячшэ адно: як будзеце* [мамаша] *вітацца, то адну нагу назад адцягвайце..* Т, 22. *Каб таму крукамі Пакрыўляла ногі І да роднай хаты не знайшоў дарогі, – Хто крыўляў нам* [беларусам] *праўду..* К.

Δ **Дагары нагамі** *гл.* дагары. **Душыць пад нагой** *гл.* душыць. **Звязаны рукі і ногі** *гл.* звязаны. **Ламаць ногі** *гл.* ламаць. **Лізаць ногі** *гл.* лізаць.

Адз. Н. *нага*: Ч, 323. В. *нагу*: Т, 22. Т. *нагой*: БСУ. Мн. Н. *ногі*: ДД. Р. *ног* (4): Кц, 194; ПВ; ПСп; УрП, 52. В. *ногі* (7): Ан, 18, 19; БЗ; ЗС, 17; К; Х; ШБСЯ. Т. *нагамі* (2): Ан, 19; Т, 44. М. *нагах*: Т, 32.

**[НАГАВАРЫЦЬ]** *зак.* Сказаць многа чаго-н. *А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці ... Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы.* Нз, 14.

Абв. буд. мн. 3 ас. *нагавораць*: Нз, 14.

**[НАГАДВАЦЬ]** (2) *незак.* Быць падобным да чаго-н. *Баця мае своеасаблівую сістэму, якая вельмі нагадвае амерыканскага Форда.* ПЧ. *Краіна* [Чэхаславакія] *узгоркаватая, нагадвае некаторыя раёны нашай Беларусі.* Там жа.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *нагадвае* (2): ПЧ (2).

**НАГАЙКА** (11) *ж.* **1.** Бізун. *Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі нашых людзей на Мурман, пад Урал і г.д.* БВ, 16. *З неадступнаю нагайкай Едзе, сыпе Налівайка..* НД.

**2.** *перан.* Сімвал прыгнёту, уціску. *Прыбыла толькі польска-жандармская нагайка.* Нз, 14. *Я* [беларус] *мець ад кагосьці І штосьці прывык: Ад рускага чына – Нагайку і штык..* МК.

Адз. Н. *нагайка* (4): ДЖ; Нз, 14; НД (2). Р. *нагайкі*: БВ, 16. В. *нагайку*: МК. Т. *нагайка* (4): НД (4). Мн. Т. *нагайкамі*: ХЛБ.

**[НАГІБ]** *м. перан. Разм.* Схільнасць. *Працавітаго быў першы* [сын] *Складу і нагібу, Так, здаецца, што й памершы Ўсё араў, касіў-бы.* Дз, 189.

Адз. Р. *нагібу*: Дз, 189.

**[НАГЛЯДАЦЬ]** *незак.* Бачыць, назіраць. *Нас узнімае, нас натхняе гераізм, каторы мы наглядаем у любым куточку нашай Савецкай Беларусі, ўсяго Саюза.* ВГР.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *наглядаем*: ВГР.

**[НАГЛЯДЗЕЦЦА]** *зак. перан.* Навучыцца, засвоіць, пераняць. [Янка]: *Ён* [Мікіта] *гэтак хоча заўсёды сябе паказаць, як бы сам губарнатар.* [Ганна]: *Гэта, мабыць, ён наглядзеўся, бо служыў*

*у губарнатарскай канцэлярыі за нейкага там рэгістратара.* Т, 20.

Абв. пр. адз. м. *наглядзеўся*: Т, 20.

**[НАГНАЦЬ]** (2) *зак.* Сабраць у адным месцы вялікую колькасць каго-н. *Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край* [беларускі] *усялякай маскоўскай чорнай галытнёй..* Нз, 14. [Гарошка]: *Нагналі гібель казакоў, сам нават спраўнік з Менску прыехаў.* Т, 43.

Абв. пр. мн. *нагналі* (2): Нз, 14; Т, 43.

**[НАГРАБЛЕНЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* награбіць. *Руск.* Нарабаваны. [Начальнік]: *А гэта не награбленая гарэлка?* Т, 60. [Мікіта]: *Гэта патака, якую сам з мамашай буду есці.* [Начальнік]: *Награбленая?* Там жа.

Адз. ж. Н. *награбленая* (3): Т, 60 (2), 62.

**[НАГРЭЦЬ]** *зак.* Зрабіць гарачым. *Каб вады гарачай На таго нагрэлі І ня ўстаў ён болей са сваёй пасьцелі, – Хто над Беларусяй Хоча распасьцерці Свой бізун чужацкі І народ усьмерціць.* К.

Абв. пр. мн. *нагрэлі*: К.

**НАД** (112) *прыназ. з Т.* выражае:

П р а с т о р а в ы я  а д н о с і н ы (47). **1.** Размяшчэнне, знаходжанне каго-н. зверху каго-, чаго-н. *Над жывымі і трупамі плачам Ты лунай, вочы рві сабе... й сьмейся!* См, 91. *Стань, нахіліся* [брат-беларус] *над ракою, У плакучы ўгледзься пераліvы.* БрБ, 6. // Указанне на размяшчэнне ў непасрэднай блізкасці да чаго-н. *Скалы і долы над Фінскай затокай, Прыстані, выспы Балтыцкага мора Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф. // Указанне на пэўнае пануючае становішча. *Зірніце* [богі] *міласьцяй сваею, Ўсе моцы вышлеце на бой. Хай распапеляць зла навею Над упадаўшай стараной.* УрП. 48. *Параўн.* нада. АБ, 16; БН, 92; ВБЛ, 81, 82 (3); ВМ, 72; ГП, 8; ДЖ (2); ДПЛС (2); ЕЯ; ЗЯЗ, 89 (2), 90 (2); Кц, 196 (2); М, 19; МІ, 17; Н; НГ, 8; Пт (2); ПБН; ПЛ (2); См, 91; СК, 158; СС, 302 (2); СНБ, 340; Т, 40, 48; ТП, 213; УрП, 49; Ч, 319, 321; ЧС, 50-51; $Ш_5$; ШН.

**Над Нёманам.**

А б ‘ е к т н ы я  а д н о с і н ы (65). **2.** Адносіны дзеяння да якіх-н. аб’ектаў. *Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла.* АБ, 16. *Што значыць – над чым я* [Купала] *працую? Задаць такое пытанне паэту – рызыкоўна. Можна атрымаць адказ “ні над чым”, але можна і сказаць – “над усім”.* МП. // Абазначэнне кіруючага становішча ў адносінах да каго-, чаго-н. *Вось я* [аўтарнік] *пастаўлены над вамі* [людзьмі] *Вышэйшай моцай небных сіл..* УрП, 49. *Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі.* БВ, 16.

**3.** Абазначэнне праяўлення якога-н. пачуцця ў адносінах да каго-, чаго-н. *Ой, не плачэ брат над братам На мяжы кургана, А бядуе так душа там Завязана, скавана.* Дз, 187. *Кожны мала-веле справядлівы чалавек заплачэ над гэткай нямецкай несправядлівасьцю.* ЧЧШ. БрБ, 6; Бч, 10; БВ, 17; БН, 92 (2); БС (2); ВГР; ГП, 8; Дз, 187, 190; ДК; Ж; ЖН; З (8); К; Кц, 195; МІ, 17 (4); Нз, 14 (2); НДН, 18 (2); ПЛП; ПНд, 314; ПЧ; РС, 40 (2); СНБ (2); ССА, 294; Т, 32, 35 (3), 48, 49; ТП, 216; УрП, 51, 52; Ч, 319, 324 (2); ШБСЯ.

**НАДА** *прыназ. з Т. Тое, што* над *у 1 знач. Ён* [сын] *насыпе курган нада мною* [чараўніком], *І таптаці курган гэты будзе.* Ч, 320.

**[НАДАВАЦЬ]** *незак.* Вызначаць, абумоўліваць. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* ДНСП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *надае*: ДНСП.

**[НАДАЕСЦІ]** *зак. Руск.* Надакучыць. *Надаелі* [дзяўчыне] *адны* [хлопцы], *Будуць новыя.* ВБЛ, 83.

Абв. пр. мн. *надаелі*: ВБЛ, 83.

**НАДАЦЬ** (2) *зак.* **1.** Прысвоіць [званне]. *Комуністычная партыя і совецкая ўлада даравалі мне* [Купалу] *гэтыя грубыя нацыяналдэмократычныя памкненьні ў маёй творчасьці, і за мае ранейшае заслугі перад беларускім працоўным людам надалі мне высокую годнасьць народнага поэты.* АЛ.

**2.** Прыдаць. [Мікіта]: *Усё гэта* [змена палітычнай сытуацыі] *вымагае тое-сёе змяніць і ў хатніх абставінах, каб такім спосабам надаць болей, меджду протчым, дэмократычнасці і прасты.* Т, 48.

Інф. *надаць*: Т, 48. Абв. пр. мн. *надалі*: АЛ.

**[НАДВОРНЫ]** *прым. Разм.* Знешні. *Няхай зразумеюць тые, хто глядзіць на наш горад* [Менск] *вачыма чужынца, што раней ці пазней, а ён будзе беларускім ня толькі па назове, а й па істоце і па надворнаму выгляду свайму.* ВМР.

Адз.м. Д. *надворнаму*: ВМР.

**НАДЗВЫЧАЙ** (6) *прысл. Разм.* **1.** У высокай ступені. *Прырода Чэхаславакіі надзвычай прыгожая.* ПЧ. *Параўн.* надзвычайна.

**2.** Вельмі, надта. *Большасць* [дзеячоў культуры Чэхаславакіі] *добра ведае рускую мову, надзвычай цікавяцца яны і любяць совецкую літаратуру.* ПЧ. *Нас* [дэлегатаў] *надзвычай узрушыла адна сустрэча на абедзе ў Прасценаўскай ратушы..* Там жа. ПЧ; Т, 47; ЦСБ.

**НАДЗВЫЧАЙНА** *прысл. Тое, што* надзвычай *у 1 знач. Надзвычайна багатыя і разнастайныя ўражанні* [у Купалы] *ад гэтай паездкі* [па Чэхаславакіі]. ПЧ.

**НАДЗВЫЧАЙНЫ** (4) і **[НАД’ЗВЫЧАЙНЫ]** (2) *прым.* **1.** Выключны. *..як бы казна не была багата, то пры над’звычайных здарэньнях, як напрыклад вайна, голад, патрабуюцца і над’звычайные расходы.* ВН.

**2.** Значны па колькасці. *..як бы казна не была багата, то пры над’звычайных здарэньнях, як напрыклад вайна, голад, патрабуюцца і над’звычайные расходы.* ВН.

**3.** Важны. *Агністымі літарамі гэты надзвычайны дзень будзе упісан у векавечную кнігу гісторыі народау і дзяржавау..* БСУ. *Вяртаецца яна* [гераічная чацвёрка папанінцаў] *з свайго надзвычайнага дрэйфа не толькі поўнасцю выканаўшы план навуковых работ, але і яшчэ раз давёўшы ўсяму свету, хто такія большэвікі.* МП.

**4.** Незвычайны. *..ён* [Пасляк] *быў надзвычайны майстра расказваць казкі.* ПС. [Заходні вучоны]: *Пшы баданю бялорусіна высветлёно надзвычайнон особлівосць..* Т, 26.

Адз. м. Н. *надзвычайны* (2): БСУ; ПС. Р. *надзвычайнага*: МП. ж. В. *надзвычайнон*: Т, 26. Мн. В. *над’звычайные*: ВН. М. *над’звычайных* ВН.

**НАДЗЕЦЦА** *гл.* **НАДЗЕЯЦЦА.**

**НАДЗЕЙНА** *прысл.* Неаслабна, пільна. *Я* [Купала] *вітаю сардэчнымі словамі паэта нашу магутную Чырвоную армію, якая надзейна і пільна сталёвай аховай вартуе совецкія граніцы..* ЖН.

**НАДЗЕЛ** (2) *м.* **1.** Зямельны ўчастак. [Гануля]: *Мой нябожчык гаспадар жыў пры бацьках на маленькім надзеле.* Т, 20.

**2.** *перан.* Доля, лёс. *Быў жыць адзінока надзел бедакоў, Нішто іх с сабой не лучыла..* ПН, 46.

Адз. Н. *надзел*: ПН, 46. М. *надзеле*: Т, 20.

**НАДЗЕЦЬ** (3) *зак. Вобразн.* Упрыгожыць. *Паўстала радзіма, замок Няволі зламала навек, Надзела з пралесак вянок І слёзы сагнала з павек.* ТП, 214.

◊ **Надзець торбу** – зрабіць жабраком. *Сьлепа зракліся* [людзі чужыя] *сораму, ўвагі, У хорамы селі, – Брацьцям-жэ ўзьдзелі лапці, сермягі, Торбы надзелі...* Чж, 147. **Надзець шліфы каго** – атрымаць пасаду каго. [Янка]: *Жычу вам* [Мікіту] *надзець шліфы калежскага асэсара.* Т, 21.

Інф. *надзець*: Т, 21. Абв. пр. адз. ж. *надзела*: ТП, 214. Мн. *надзелі*: Чж, 147.

**НАДЗЕЯ** (22) *ж.* **1.** Вера ў што-н. *Чагось чакалі грамадзяне, У вачох палаў надзеі жар..* УрП, 47. *Так камень не ляжэ, як змора падання Лягла ад мяжы да мяжы З надзеяй, што нават і думку змагання “Забраны край” вырве з душы.* ЗК, 43.

**2.** Спадзяванне на што-н. *Адна на вас надзея, богі..* УрП, 48. *На помач са стараны малая надзея, калі ідзе на цэлым сьвеце крыва-*

*вае змаганьнене за істнуваньне цэлых народоў, цэлых гасударстваў..* ВС.

◊ **Падаваць надзею** *гл.* падаваць.

Адз. Н. *надзея* (7): ВМ, 72; ВС (2); ЖН; ПЧ; УрП, 48; Ч, 321. Р. *надзеі* (5): НГ; Т, 23, 50; УрП, 47; Ч, 320. В. *надзею* (2): ЖН; СНБ, 339. Т. *надзеяй* (5): ЗК, 43; НГ (2); ПЛП; УрП, 49. Мн. Р. *надзей*: АР. В. *надзеі*: СНБ, 320. Т. *надзеямі*: ВМР.

**[НАДЗЕЯЦЦА]** і *разм.* **НАДЗЕІЦЦА** *незак. Руск.* Спадзявацца на што-н. *..трэба больш за ўсё надзеіцца на свае сілы і не агіляцца па бакох.* ВС. *Душу сваю выні, Палажы на далонь і надзейся, Што паверaць табе..* См, 91.

Інф. *надзеіцца*: ВС. Заг. адз. 2 ас. *надзейся*: См, 91.

**НАДЗІРАЦЕЛЬ** *м. Руск., уст.* • **Акалодачны надзірацель** – паліцэйскі чын. [Спраўнік]: *"Акалодачны надзірацель сёмай часці места Менску"* [тут напісана]*, гаспадзін таварыш.* Т, 61.

Адз. Н. *надзірацель*: Т, 61.

**[НАДЗЯВАЦЬ]** *незак.* Апранаць. *Знімае* [Мікіта] *з сцяны і надзяе пажарніцкую куртку і каску.* Т, 24.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *надзяе*: Т, 24.

**[НАДЗЯЛЯЦЬ]** *незак.* Адараць [Янка]: *Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас* [беларусаў] *не надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівымі, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй.* Т, 35.

Абв. пр. мн. *надзялялі*: Т, 35.

**НАДОВЕЧЫ** (3) *прысл. Разм.* Надоечы. *Надовечы Беларуская вайсковая Каміся пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў афіцэраў, дактароў і інш.* БВ, 16. [Мікіта]: *Сустрэў іх* [вучоных] *надовечы на Губарнатарскай вуліцы, дзе шукалі праўдзівых тыпаў беларускіх.* Т, 26. Т, 23.

**[НАДРУКАВАНЫ]** (8) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. да* надрукаваць у 1 *знач. Усе, надрукаваныя ўперад сьпеўнікі з нотамі разышліся, а запатрабаваньне на іх вялікае..* ВСп, 90. *.. лік надрукаваных страніц – 1148 (!).* Там жа. // *У знач. вык. На гэты нарыс* (Матывы лірыкі бел. песьняра М. Чарота) *зьвярнулі ўвагу, нават, у Маскве, скуль была прыслана і надрукавана ў сваім часе ў расійскай газэце "Звязда" напісаная т. Кнорыным антыкрытыка на гэты крытычны нарыс.* ВСп, 89–90. *.."Сокі цаліны" Цішкі Гартнага і "Дудка Беларуская" і "Смык Беларускі" ..пасьля болей як паўвяковага працягу часу, першы раз надрукаваны "гражданкай" ..* Там жа, 89.

**2.** *У знач. наз. ..мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час..* ВСп, 89.

Адз. н. Р. *надрукаванага* (2): ВСп, 89, 90. Мн. Н. *надрукаваныя*: ВСп, 90. Р. *надрукаваных* (2): ВСп, 89, 90. Кар. адз. ж. Н. *надрукавана*: ВСп, 90. н. Н. *надрукаваны*: ВСп, 89.

**НАДРУКАВАЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* надрукаваць *у 2 знач. На літаратурную ніву я* [Купала] *ўступіў у 1905 г., надрукаваўшы свой першы верш "Мужык".* АЛ. *Верш мой справакавалі: 1. Лёсік, надрукаваўшы яго побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму..* СЧ.

**НАДРУКАВАЦЬ** (9) *зак.* **1.** Узнавіць тэкст друкарскім спосабам. *Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасьці Цішку Гартнаму надрукаваць матар'ял, які павёз быў з сабой у Нямеччыну.* ВСп, 91. *Вось газетку надрукую* [пан Кавалюк]*, Чорна-чорную такую..* ЛПК.

**2.** Змясціць у друку. *Вельмі паважаны Пане Рэдактар. Не адкажэце надрукаваць у Вашай газэце гэтых колькі слоў.* ЛР. *І гэтак далей пісаў я і насыпаў аж тысячу радкоў. Рэдактар надрукаваў.* Ан, 19.

Інф. *надрукаваць* (4): Ан, 19; ВСп, 91; ЛР; ОШМ. Абв. пр. адз. м. *надрукаваў* (2): Ан, 19 (2). ж. *надрукавала* (2): ВСп, 90, 91. Буд. адз. 1 ас. *надрукую*: ЛПК.

**НАДСКАКВАЮЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* надскакваць. *Разм.* Прытацоўваючы, падскакваючы. [Мікіта]: *(вітаючыся, надскакваючы). Каго я бачу...* Т, 37. [Мікіта]: *(як госці ўвайшлі і раздзеліся, надскакваючы). Міласці прашу!* Там жа, 24.

**НАДТА** (12) *прысл.* Вельмі, надзвычай. [Мікіта]: *Я асцярожны, надта асцярожны, і за мяне, сябра беларус, не турбуйцеся.* Т, 56. [Мікіта]: *..надта трудная для майго рускага ўразумення ваша* [беларуская] *граматыка..* Там жа. Т, 28, 30, 44, 45, 48 (2), 52, 55, 57 (2).

**[НАДУМАЦЦА]** (2) *зак.* Задумаць зрабіць што-н. [Мікіта]: *..я надумаўся дабівацца беларускага асэсарства.* Т, 55. [Мікіта]: *Вось я й надумаўся звярнуцца, меджду протчым, з просьбай да вас, каб вы* [Янка] *мне ..памаглі* [пазнаёміцца з беларускай літаратурай]. Там, жа, 56.

Абв. пр. адз. м. *надумаўся* (2): Т, 55, 56.

**[НАДУМЛЯЦЦА]** (2) *незак. Разм.* Раздумваць. *Стаў, глядзіць жаўнер, Сумняваецца. Гэй, гэй, гэй, сумняваецца Па якой пайсці* [дарожаньцы], *Надумляецца. Гэй, гэй, гэй, надумляецца!* ББ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *надумляецца* (2): ББ (2).

**НАДХАЎТУРНЫ** *прым. Разм*. Пахавальны. *Узняўся гоман надхаўтурны..* УрП, 52.

Адз. м. Н. *надхаўтурны*: УрП, 52.

**[НАДХОДЗІЦЬ]** *незак. Разм.* Наставаць, набліжацца. *І пабачыў ён* [Сталін]*, магутны, сваім вокам ясным, Што надходзіць час расплаты, За людзей няшчасных.* ЗЯЗ, 90. *Параўн.* наступать, находзіць.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *находзіць*: ЗЯЗ, 89.

**[НАДЫЙСЦІ]** (3) і **[НАДЫСЦІ]** *зак.* да находзіць. *Хай пойдзе кліч ад места да места, ад вёскі да вёскі, .. хай пойдзе кліч па усей*

*Беларускай зямлі, .. што надыйшоў дзень беларускага народу, калі ен можа збройна заступіцца за сябе самога і за сваю Айчыну.* БСУ. *Сніць далей гэты царадвор* [жандар], *Калі надыдзе яму дзень, Ізноў пад лёзгат царскіх шпор Свой распасцерці чорны дзень.* АПЖ.

Абв. пр. адз. м. *надыйшоў* (2): БСУ; УПУВ. Буд. адз. 3 ас. *надыйдзе*: НДп, 279; *надыдзе*: АПЖ.

**НАДЧАЛАВЕК** *м. Разм.* Звышчалавек. *І вот у гэтую часіну Да іх* [людзей] *там дабыў цудадзей, Слуга пратайнасьці прадзіўнай, Надчалавек, хоць і з людзей.* УрП, 47.

Адз. Н. *надчалавек*: УрП, 47.

**[НАЕЗД]** *м. перан.* Прыгнёт, уціск. *На Украіне .. паўстала ўкраінскае войска, каторае .. сягоння змагаецца за незалежнасць з маскоўскім наездам – з бальшавікамі і дзянікінцамі.* БВ, 16.

Адз. Т. *наездам*: БВ, 16.

**[НАЕЗДЗЕЦ]** *м. Разм.* Захопнік. *Дзяцей сваіх маткі кідаюць у зьдзеку, За "мамак" к наездцам ідуць..* ЗК, 43.

Мн. Д. *наездцам*: ЗК, 43.

**[НАЕХАЦЬ]** *зак.* Нечакана з'явіцца. *..наехалі там "госьци" и па-свойму слабаджанаў абучали нагайками..* ХЛБ.

Абв. пр. мн. *наехалі*: ХЛБ.

**[НАЖЫВА]** *ж.* Лёгкі даход. *Цёмныя людзі, ..п'яныя атрутай нажывы і самалюбствам, не чакаючы ні ладу, ні парадку, з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17.

Адз. Р. *нажывы*: ЗС. 17.

**[НАЖЫВАЦЬ]** *незак.* Атрымліваць, набываць. *Жылі* [людзі, якія працавалі ў "Нашай ніве"] *– як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажывалі сабе сухоты і галодна-халодныя хваробы і да самае смерці не складалі аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.* МІ, 17.

Абв. пр. мн. *нажывалі*: МІ, 17.

**НАЖЫЦЦА** *зак.* Абагаціцца. *Таргуюцца* [Захад з Усходам] *за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а усё для таго, каб нажыцца, каб .. вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд рублёў.* Тж, 15.

Інф. *нажыцца*: Тж, 15.

**[НАЖЫЦЬ]** *зак. да* нажываць. *Што ж нажылі мы, як глянуць наўкола, Што нам* [беларусам] *апека тут наша дала?* Г, 16.

**[НАЖЭЧА]** (2) *н. Польск. Тое, што* мова *ў 1 знач.* [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26. [Заходні вучоны]: *На запытанне, як сень далеко распотшэня овэ "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго далей наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Там жа, 39.

Адз. М. *нажэчу* (2): Т, 26, 39.

**НАЗАД[1]** (10) *прысл.* **1.** У адваротным напрамку. *Мікіта, адступіўшы некалькі крокаў назад, выцягвае рукі ўверх.* Т, 59. [Мікіта]: *.. як будзеце вітацца* [мамаша]*, то адну нагу назад адцягвайце..* Там жа, 22.

**2.** У процілеглы бок. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку, Азіраўся назад, А Даніла ўсюды ўперад Выступаці быў рад.* ПСД. *І потым, адыходзячы ў глухую ночку, Назад сумысьля азірнецца ён* [бежанец] *у мгле ..* ВБЛ, 80.

**3.** На ранейшае месца, у ранейшае становішча. *Вымае* [Мікіта] *з кошыка, то стаўляе назад бутэлькі.* Т, 58. [Мікіта]: *Адварачывайце* [мамаша] *назад абразы..* Там жа, 59. // *перан.* У мінулае. *Мы* [беларусы] *не пакінем свае папялішчы, З сьцежкі – наперад, ня пойдзем назад.* Г, 17. *Я* [першы ганец] *абышоў іх* [людзей] *тройчы раз І відзеў, што ешчэ ўсе жывы. А толькі ўсё той самы лад: З вачэй не зняты йшчэ павязкі, Ці йдуць у перад, ці назад..* Кц, 194. Б, 18; Т, 27.

**НАЗАД[2]** (8) *прыназ. з В.* Выражае адрэзак часу якой-н. з’явы ад моманту паведамлення аб ёй. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз, 17. // У спалуч. са словам “таму”. *Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаваў і народаў.* Тж, 16. *Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць небяспечна..* ПЛП. Ан, 19; ДЖ; ПЛП (2); Тж, 16.

**НАЗАДЗЁР** *прыназ. з Д. Разм.* Выражае з’яву, насуперак якой што-н. адбываецца. *..незалежную беларускую рэспубліку стварылі смаленскія і маскоўскія “беларусы” па загаду з Масквы. А зроблена гэта .. назадзёр беларускай “буржуазіі”, якая стаіць на грунце незалежнасці свайго краю.* СНБ, 338–339.

**[НАЗАЛЯЦЦА]** *незак.* Назаляць, турбаваць. [Янка]: *Выбачайце, цётачка, што так часта назаляюся вам, але, бачыце, неяк мотальна зрабілася аднаму сядзець, дык вось і прыйшоў да вас у госці.* Т, 19.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *назаляюся*: Т, 19.

**НАЗАЎСЁДЫ** (6) *прысл.* На ўвесь час, на усё жыццё; назаўжды. *Гэты* [стаханаўскі] *рух паказвае, што чалавек усур’ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду..* СТ. [Янка]: *Цяпер яна* [Аленка] *мая жонка назаўсёды.* Т, 53. АЛ; СС, 303; Ч, 322.

◊ **І раз назаўсёды** *гл.* раз.

**НАЗВА** (5) *ж.* **1.** Найменне. [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26. *..шмат яшчэ ёсць усялякіх песен і вершаў,*

*якіх ахрысьцілі гымнамі, ня зважаючы на тое, ці яны заслугоўваюць на такую назву, ці не.* СБНГ. *Параўн.* назова.

**2.** *Спец.* Друкаваны твор розных аўтараў. *Усяго тры назвы трох розных аўтараў; лік страніц – 292.* ВСп, 89. *Кнігі для школ. Усяго дванаццаць назваў васьмёх розных аўтараў і рознага зьместу.* Там жа.

Адз Н. *назва*: Т, 26. В. *назву*: СБНГ. Мн. Н. *назвы*. ВСп, 89. Р. *назваў* (2): Всп, 89 (2).

**[НАЗВАЦЬ]** (2) *зак. да* называць *у 2 знач.* ..[кампазытар Рагоўскі] *стварыў музыку да слоў верша Янкі Купалы: " А хто там ідзе?" і назваў гэта гымнам.* СБН. *..да верша Я. Купалы "Не пагаснуць зоркі ў небе..." улажыў музыку Янчук, так сама назваў гэта гымнам.* Там жа.

Абв. пр. адз. м. *назваў* (2): СБНГ (2).

**НАЗВІСКО** *н. Польск. Тое, што* прозвішча *ў 2 знач.* [Заходні вучоны]: *Паньскі імен і назвіско?* [Янка]: *Янка Здольнік, пан вучоны.* Т, 26.

Адз. Н. *назвіско*: Т, 26.

**НАЗІРАЛЬНІК** (2) *м.* Наглядальнік. *Дымок, другі, трэці... Кураць, чэрці! – ускрыкнуў назіральнік.* ПСп. *Назіральнік сядзеў на кашлатай яліне..* Там жа.

Адз. Н. *назіральнік* (2): ПСп (2).

**[НАЗІРАННЕ]** *н.* Нагляд. *Устанавілі назіранне за праціўнікам.* ПСп.

Адз. В. *назіранне*: ПСп.

**[НАЗІРАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Сузіраць. *Яны* [беззямельныя земляробы] *назіраюць толькі сумным вокам, як гэта зямля.. пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* ЗС, 18.

**2.** Бачыць, наглядаць. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры.* ШБСЯ.

Абв. цяп. мн. 1. ас. *назіраем*: ШБСЯ. 3 ас. *назіраюць*: ЗС, 18.

**НАЗНАЧАНЫ** *дзеепрым. зал. да* назначыць. Прызначаны на якую-н. пасаду. *Старшынёй урада быў назначаны Жылуновіч..* СНБ, 338.

Адз. м. Н. *назначаны*:СНБ, 338.

**[НАЗНАЧЭНЬНЕ]** *н.* Роля, функцыя чаго-н. *І калі гэта высокае вучэльня* [Віленскі універсытэт] *ня пойдзе шырокай дарогай толеранцыі і роуных правоу для усяго насяленьня нашага краю, – яна ня споуніць таго культурнага назначэньня, якое ей сягодня суліць гісторыя.* УПУВ.

Адз. Р. *назначэньня*: УПУВ.

**[НАЗОВА]** *ж. Разм. Тое, што* назва *ў 1 знач. Няхай зразумеюць тые, хто глядзіць на наш горад* [Менск] *вачыма чужынца,*

*што раней ці пазней, а ен будзе беларускім ня толькі па назове, а й па істоце і па надворнаму выгляду свайму.* ВМР.

Адз. Д. *назове*: ВМР.

**[НАЗЫВАНЫ]** (3) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. да* называць у 1 *знач. Месца дзеі – кусок Катадральнага пляца, называнага іначай "Брахалка"..* Т, 33. *2 дзея* [адбываецца] – *на Катэдральным пляцы, называным мянчанамі "Брахалка".* Там жа, 19.

**2.** *Дзеепрым. да* называць *у 2 знач. З беларускай марсэльезай справа стаіць як бы лепей: маемо "Адвеку мы спалі" і іншых вершаў з музыкай, называных беларускімі марсэльезамі штосьці ня чуваць.* СБНГ.

Адз. м. Р. *называнага*: Т, 33. М. *называным*: Т, 19. Мн. Р. *называных*: СБНГ.

**[НАЗЫВАЦЦА]** (5) *незак.* **1.** Мець якую-н. назву, прозвішча. [Янка]: *Маем поле і лес, горы і даліны, рэчкі і вазёры, нават мора мелі – называлася Пінскае, але акупанты змяшалі яго з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота.* Т, 47. *..прозвішчы багі* [нашых продкаў] *мелі не такія, як цяпер; называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды іншыя яшчэ.* Кз, 17.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *называецца*: Т, 21. Пр. адз. м. *называўся*: Н. н. *называлася* (2): ДЖ; Т, 47. Мн. *называліся*: Кз, 17.

**[НАЗЫВАЦЬ]** (4) *неказ.* **1.** Даваць назву каму-, чаму-н. [Усходні вучоны]: *..оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26. // Аб'яўляць, даваць азначэнне. *Хор Тэраўскага у Менску пяе песьню: "Працуй, беларусе..." і так сама называе гэта гымнам.* СБНГ. *Далей гэты самы композытар* [Рагоўскі] *напісаў музыку да верша Каганца: "О, Божа, спасе наш!" і так сама часта нашы сьпевакі называюць гэта гымна.* Там жа.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *называе*: СБНГ. Мн. 3 ас. *называюць*: СБНГ; *называют*: Т, 26; *называён*: Т, 26.

**[НАІЎНЫ]** *прым.* Без жыццёвага вопыту. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасьць, пра "гразь, балота і пясок" у Беларусі.* ХБ, 27.

Мн. Н. *наіўныя*: ХБ, 27.

**[НАЙАДКАЗЬНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* [адказны] ..Самы адказны, важны. *Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраць у свае рукі найадказьнейшыя вучасткі Савецкага дзяржаўнага апарату.., контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы спадцішка, але няўхільна, падточвалі социялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці, падменьваючы іх нацыянальна-буржуазнымі.* АЛ.

Мн. В. *найадказьнейшыя*: АЛ.

**[НАЙБЛІЖЭЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* блізкі. Які хутка наступае [пра падзею]. [Спічыні]: *..найбліжэйшая палітычная сытуацыя, пры якой першы раз прыдзецца выступаць вам* [Мікіту] *публічна, апіраецца на пэўных пляцформах.* Т, 40–41.

Адз. ж. Н. *найбліжэйшая* Т, 40.

**НАЙБОЛЕЙ** (7) *прысл. Пар. ст. да* болей. **1.** *Тое, што* найбольш. [Наста]: (*да Янкі*). *Вельмі цікава з вамі пазнаёміцца! Нам такіх як найболей патрэбна.* Т, 23. *Калі мы зірнем у нядаўнюю мінуўшчыну вялікіх дзяржаў, як, напр., царская Расія, імператарская Нямеччына і інш., а таксама калі возьмем за прымер цяперашнія некаторыя дзяржавы, хоць-бы – Англію, Японію і ім падобныя, то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы .. мелі адну зарысованую мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў..* НДН, 18. СНБ (2).

**2.** У спалучэнні з прыметнікам утварае найвышэйшую ступень апошняга. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар'ялу й друкаваньні ..аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі і быўшае В-ва "Адраджэньне" – цяпер "Савецкая Беларусь".* ВСп, 90-91. Т, 43.

**НАЙБОЛЬШ** *прысл. Пар. ст. да* больш. Больш за усё, больш за іншых. .. [беларускі] *край найбольш вынес на сваіх плячах буру сусветнай вайны..* АБ, 16. *Параўн.* найболей *у 1 знач.*

**[НАЙВЯЛІКШЫ]** (3) *прым.* **1.** *Пар. ст. да* вялікі *ў 2 знач. З пачуццём найвялікшага гневу я* [Купала] *прачытаў паведамленні ТАСС аб разбойнічым нападзе японскай ваеншчыны на свяшчэнныя граніцы нашай радзімы.* ВГ. *Слава творцу новага шчаслівага жыцця – вялікаму Сталіну, заслужыўшаму найвялікшую павагу .. усяго працоўнага чалавецтва.* СТ.

**2.** *Пар. ст. да* вялікі *ў 3 знач. Няхай жыве культура, зьмест і форма якое выпісаны на ленінскім сьцягу найвялікшым сучасным правадыром пролетарыяту т. Сталіным..* АЛ.

Адз. м. Р. *найвялікшага*: ВГ. Т. *найвялікшым*: АЛ. ж. В. *найвялікшую*: СТ.

**[НАЙГЕНІАЛЬНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* геніяльны *ў 1 знач. У СССР .. рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы найгеніальнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду – Маркса і Леніна..* АЛ.

Мн. Р. *найгеніальнейшых*: АЛ.

**НАЙГЛЫБЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* глыбока. *Тыя шчыра дэмакратычныя думкі ..аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай, найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН, 19.

**НАЙГОРШ** *прысл. Пар. ст. да* горш. *У знач вык.* Вельмі дрэнна. [Мікіта]: *Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды: адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі – што ў карты прагуляўся, а трэці – што скнэра, а гэта – найгорш, і так пайшла пісаць губэрня – не ацярэбішся.* Т, 26.

**[НАЙГОРШЫ]** *прым. Пар. ст. да* горшы. [Мікіта]: *Не бядуйце, меджду протчым, мамаша, – я заўсёды знайду выхад з найгоршага крытычнага становішча.* Т, 34.

Адз. н. Р. *найгоршага*: Т, 34.

**НАЙГУСЦЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* густа. *перан.* [Мікіта]: *А важней за ўсё старайцеся* [гаварыць] *як найгусцей у нос.* Т, 22.

**НАЙЗДАЛЬНЕЙШЫ** (3) *прым. Пар. ст. да* здольны. [Мікіта]: *Меджду протчым, не забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча.* Т, 38. [Янка]: *Гэта, цётачка,.. мая найздальнейшая вучаніца Аленка, а гэта бацька яе, Лявон Гарошка – найлепшы гаспадар з усяго сяла.* Там жа, 25.

Адз. м. Н. *найздальнейшы*: Т, 38. ж. Н. *найздальнейшая* (2): Т, 25, 30.

**НАЙЛЕПЕЙ** (4) *прысл. Пар. ст. да* лепей *у 1 знач. Беларускае в-ва за граніцай на чале з т. Жылуновічам* [Цішка Гартны] *выпаўніла сваё заданьне як найлепей.* ВСп, 91. *Наш адказ, наша спачуванне да маці, страціўшай сына, наша пашана да памяці паэта-комуніста як найлепей выказаны былі т. Кольцовым..* ПЧ. *Параўн.* найлепш. Кз, 17; Т, 30.

**НАЙЛЕПШ** *прысл. Тое, што* найлепей. *Добра ўсе там ваявалі, – Уміралі ў баю. А найлепш Даніла біўся За краіну сваю.* ПСД.

**НАЙЛЕПШЫ** (5) *прым. Пар. ст. да* лепшы *ў 2 знач. Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецьця – гэта мы* [беларусы] *самі.* БС. *.. торпа прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае палепшаньне зямлі.* ХБ, 30.

Адз. м. Н. *найлепшы* (3): БС (2); Т, 25. н. В. *найлепшае* (2): МІ, 17; ХБ, 30.

**[НАЙМАДНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* [модны]. Самы модны. [Мікіта]: *.. я надумаўся дабівацца беларускага асэсарства.* [Янка]: *О, так! зусім зразумела. Цяпер гэта наймаднейшая свабодная профэсія..* Т, 55.

Адз. ж. Н. *наймаднейшая*: Т, 55.

**[НАЙМЕНШЫ]** (2) *прым. Пар. ст. да* малы. *перан.* Самы нязначны. *..Расійскіе бальшавікі, гэтыя заўзятые праціўнікі найменшага праяўленьня нацыянальнага будаўніцтва, і яны змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў, і такім чынам стваралі "незалежные" рэспублікі, як напр. Беларускую, Украінскую.*

СНБ. *Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясьніў, на сколькі гэта магчыма было у кароткай газэтнай стацьці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь, як то падносілі, то таптали найменшые праявы беларускага нацыянальнага духу.* Там жа.

Адз. н. Р. *найменшага*: СНБ. Мн. В. *найменшыя*: СНБ.

**[НАЙМІЛЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* мілы *ў 1 знач.* [Мікіта]: *А цяпер, высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.* Т, 28.

Мн. В. *наймілейшых*: Т, 28.

**[НАЙМІТ]** *м.* Парабак. *У 1890 г. ён* [бацька Купалы] *развітваецца часова са становічшам наміта ў маёнтках і пераяджае ў Мінск, дзе купляе каня і ездзіць некаторы час фурманам.* А, 328.

Адз. Р. *найміта*: А, 328.

**НАЙНІЖЭЙ** *прысл. Пар. ст. да* [нізка]. Зусім нізка. [Мікіта]: *Мудрыя людзі – гэтыя вучоныя. Я заўсёды схіляю перад імі сваю, меджду протчым, галаву.* [Янка]: *Асабліва перад гэтымі вы павінны як найніжэй схіляць.* Т, 39.

**[НАЙНІЖЭЙШЫ]** (3) *прым. Пар. ст. да* нізкі. *перан.* Самы пачцівы. [Мікіта]: *Наша найніжэйшае, меджду протчым, ушанаванне, мамзэль Насце!* Т, 41. [Мікіта]: *Маё найніжэйшае ўшанаванне, мусье профэсару?* Там жа, 31.

Адз. н. Н. *найніжэйшае* (3): Т, 31, 37, 41.

**[НАЙПРЫГАЖЭЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* прыгожы. *Такі край, як паўночная палавіна Меншчыны, мог-бы пры дапамозе чалавека абярнуцца ў адзін з найпрыгажэйшых краёў..* ХБ, 29.

Мн. Р. *найпрыгажэйшых*: ХБ, 29.

**[НАЙСЛАВУТНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* славуты *ў 2 знач.* [Мікіта]: *А гэта зроблена спэцыяльна для маіх, меджду протчым, найславутнейшых гасцей: хацеў прыняць іх, як і калісь прымаў розных дастойных асоб.* Т, 25.

Мн. Р. *найславутнейшых*: Т, 25.

**НАЙХУТЧЭЙ** (5) *прысл. Пар. ст. да* хутка. *Мы толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.* БВ, 17. *..справа беларускага гымну павінна быць вырашана і то як найхутчэй.* СБНГ. АБ, 16 (2); Т, 51.

**НАЙЦІ** (2) *зак. Руск. Тое, што* знайсці *ў 1 знач. Распасьцёр свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю, па ўсім нязьмераным сьвеце, і пачатку яго не найці і канца яму не дабачыць.* З.

◊ **Найці супольную мову** – дасягнуць узаемаразумення, згоды. *І з часам народы патрапляць найці супольную мову, каб па суседзку дагаварыцца паміж сабой ды наладзіць і свае граніцы і свае дзяржаўные правы на незалежнасьць.* СНБ.

Інф. *найці* (2): З; СНБ.

**НАЙЦЯЖЭЙ** (2) *прысл. Пар. ст. да* цяжка ў 2 *знач. Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй.* Нз, 14. *Тая вялікая разруха і тое страшэннае знішчажэнне, выкліканыя вайной, найцяжэй адбіліся на нашай бацькаўчшыне, на нашым полі і на нашых сялібах.* АБ, 16.

**[НАЙЦЯЖЭЙШЫ]** (2) *прым. Пар. ст. да* цяжкі ў 2 *знач.* Самы цяжкі. *Выбіла* [часіна] *можа ў найцяжэйшую мінуту нашага палітычнага жыцьця* БСУ. *Палажэньне гістарычнае і географічнае Беларусі было і есьць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых падобных да яе, вызваленых з царска-рабскага гнету, дзяржавау*. БСУ.

Адз. ж. В. *найцяжэйшую*: БСУ. н. Н. *найцяжэйшая* БСУ.

**НАЙЧАСЦЕЙ** (2) *прысл. Пар. ст. да* часта. *..аруць* [сяляне] *валамі, найчасцей каровамі.* ВС. [Гарошка]: *Але найчасцей ад гэтага шуму нам, бацькам, галава баліць.* Т, 44.

**[НАЙШЧЫРШЫ]** *прым. Разм. Тое, што* найшчырэйшы. *Хто найшчыршыя парывы Сваіх думак, свайго сэрца Аддае Совецкім нівам, Дрогнуць светам з сэрцам рвецца?* СА, 179.

Мн. В. *найшчыршыя*: СА, 179.

**[НАЙШЧЫРЭЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* шчыры *ў 1 знач. Слава творцу новага шчаслівага жыцця – вялікаму Сталіну, заслужыўшаму найвялікшую павагу і найшчырэйшую любоў усяго працоўнага чалавецтва.* СТ. *Параўн.* найшчыршы.

Адз. ж. В. *найшчырэйшую*: СТ.

**[НАЙШЫРЭЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* шырокі. Які ахоплівае многіх. *І я* [Купала] *ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэспублікі..* ЖН.

Мн. Р. *найшырэйшых*: ЖН.

**[НАЙЯСНЕЙШЫ]** (4) *прым. Польск. Пар. ст. да* ясны. Шаноўны. [Мікіта]: *Але, выбачайце, найяснейшыя госці, – пайду ўжо скіну* [касцюм], *меджду протчым.* Т, 25. [Мікіта]: *..я так захапіўся найяснейшымі гасцямі, што і забыўся зняць* [касцюм]. Там жа, 24.

Мн. Н. *найяснешыя* (3): Т, 25, 27, 28. Т. *найяснейшымі*: Т, 24.

**НАКАЗ** (4) *м.* Павучальнае настаўленне. *Трэці брат ад судзьбіны наказ пераслухаў.* Ч, 323. *Жалейку кожны атрымае І пераймае такі наказ: З жалейкай кожны хай сваею Не расстаецца на ўвесь век, Заве і верай і надзеяй Сьлязу і ўцеху з-пад павек.* УрП, 49.

Адз. Н. *наказ*: ВР. В. *наказ* (3): УрП, 49; Ч, 322, 323.

**[НАКАРМІЦЬ]** (2) *зак.* Даць дастатковую колькасць ежы; наталіць чый-н. голад. [Янка]: .. *мы* [беларусы] *павінны .. знішчожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае*

*нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе.* Т, 35. *Яны* [беларусы] *мусяць цьвёрда зазначыць свае дамаганьні, асьвяціць тые свае мэты і заданьні, і сказаць усім..: "Ідзеце за намі, каб не сказалі вам потым: чаму не памаглі нам, як мы былі слабые, чаму не накармілі нас, як мы былі галодные?"* ВМР.

Абв. пр. адз. м. *накарміў*: Т, 35. Мн. *накармілі*: ВМР.

**НАКАСЯК** *прысл. Разм.* Наўскасяк. *З-пад сьвіткі чорнай даўгаполай Блішчэла бляха накасяк..* УрП, 51.

**[НАКІДАНЫ]** (2) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. да* накідаць. *Трэба-ж, конец-концам, уцяміць, што тут не Расія і ня Польшча, а Беларусь, каторая ня хоча ніякіх плебісцытаў, накіданых ей седня аднымі, а заўтра другімі..* ДК.

**2.** *У знач. вык.* Параскіданы. *У беспарадку накідана ўсякіх хатніх рэчаў..* Т, 43.

Мн. Р. *накіданых*: ДК. Кар. адз. н. Н. *накідана*: Т, 43.

**[НАКІДАЦЬ]** *зак. перан. Разм.* Увесці, распаўсюдзіць. *А давалі, гвалтам накідалі* [усемагутныя дзяржавы] *ім* [паднявольным народам] *свае так званыя "культуры", пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру, праўду..* НДН, 18.

Абв. пр. мн. *накідалі*: НДН, 18.

**НАКІНУЦЬ** (2) *зак. да* накідаць. *Польскія эндэкі, заместа таго, каб праводзіць у жыцьцё даўнейшы лёзунг: "вольны з вольным, роўны з роўным", накінулі нам "плебісцыт" і прынятую соймам "рэволюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ.

◊ **Накінуць чары** – начараваць. *Зрабіць, раскідаць мог ён дзівы, Накінуць чары сяк і так; Быў гэта верны і праўдзівы Паганскіх мольбішак стражак.* УрП, 47.

Інф. *накінуць*: УрП, 47. Абв. пр. мн. *накінулі*: СНБ.

**[НАКІПЕЦЬ]** *зак. перан.* Накапіцца, сабрацца ў душы, сэрцы [пра непрыемные пачуцці]. [Спічыні]: *..тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе.* Т, 40.

Абв. пр. адз. н. *накіпела*: Т, 40.

**[НАКІРОЎВАЦЬ]** *незак. перан.* Натхняць, заахвочваць. *Мы зараз з ўсёй краінай будуем социялізм. Нас накіроўваюць новыя радасныя песні.* ВГР.

Абв.цяп. мн. 3 ас. *накіроўваюць*: ВГР.

**НАКІРОЎВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* накіроўваць. Сканцэнтроўваючы што-н. на чым-н. *.. група контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентоў .. на працягу раду год вяла шкодніцкую работу на усіх вучастках социялістычнага будауніцтва,*

*накiроўваючы галоўныя ўдары па лiнii культуры i зямельнай эканомiкi.* АЛ.

**[НАКЛIКАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* наклiкаць. Запрошаны. *Князi, наклiканыя намi, Разьлiкi мiж сабой вядуць..* УрП, 48.

Мн. Н. *наклiканыя*: УрП: 48.

**[НАКЛIКАЦЬ]** *зак. перан.* Выклiкаць якiм-н. учынкам непрыемнасць , непажаданасць. [Ганудя]: *.. чуць не наклiкаў* [Мiкiта] *на сваю галаву безгалоўя.* Т, 46.

Абв. пр. адз. м. *наклiкаў*: Т, 46.

**НАКОЛЬКI** (2) *прысл.* У якой ступенi, меры. [Спраўнiк]: *Наколькi я разумею стратэгiю, то, здаецца, справа абыйдзецца без крывяпралiцця.* Т, 52. *Прыехаўшы ў Беларусь савецкую я* [Купала] *раскажу, наколькi ў мяне хопiць сiл, большэвiцкую праўду аб гэтым герaiчным будаўнiцтве* [Беламорска-Балтыйскага воднага шляху].. ЦСБ. *Параўн.* насколькi.

**НАКОНТА** *прызан. з Р. Разм.* Наконт. *Бо, бачыце, у нас наборшчыкi наконта беларускага пiсьма, дык нi бэ, нi мэ.* Ан, 18.

**[НАКОРМЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* накармiць. *У знач. вык. Вось жэ калi с толкам пажычаць будзе магазын гэта збожа, то не адна сем'я запаснога будзе як сьлед накормлена.* ВС.

Кар. адз. ж. Н. *накормлена*: ВС.

**НАКРУЦIЦЬ** *зак. Разм.* Прывесцi спружыну ў дзеянне. [Дама]: *А цяпер, мусье Зносiлов, дазвольце накруцiць грамафон...* Т, 51.

Iнф. *накруцiць*: Т, 51.

**[НАКРЫВАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Накрываць стол** – рыхтаваць стол для яды [Ганудя] *накрывае стол.* Т, 22.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *накрывае*: Т, 22.

**НАЛАДЗIЦЬ** (3) *зак.* **1.** Устанавiць. *Немцы пад прыкрыццём спаднiц думалi наладзiць ДЗОТ, а пасля пайсцi ў контратаку.* ПСп.

**2.** Вызначыць. *I з часам народы патрапяць найцi супольную мову, каб па суседзку дагаварыцца памiж сабой ды наладзiць i свае гранiцы i свае дзяржаўныя правы на незалежнасьць.* СНБ.

**3.** *Зак. да* наладжываць. *Публiка паднялася з месц i наладзiла нам* [дэлегатам] *авацыю.* ПЧ.

Iнф. *наладзiць* (2): ПСп; СНБ. Абв. пр. адз. ж. *наладзiла*: ПЧ.

**НАЛАДЖАНЫ** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* наладзiць. Створаны, адкрыты, заснаваны. *У вёсцы Блонь .. сяляне-беларусы не забылi ўсяго свайго роднага. У iх цяпер наладжаны беларускi прасветны гурток..* МI, 17. *З балотам змешаны старые законы, Наладжэн нявольнiчы шлях.* ЗК, 42.

Адз. м. Н. *наладжаны*: МI, 17. н. *наладжанае*: ВСп, 91. Кар. адз. м. Н. *наладжэн*: ЗК, 42.

**[НАЛАДЖЫВАЦЬ]** *незак.* Арганізоўваць што-н. *..у вёсцы Блонь.. сяляне-беларусы не забылі ўсяго роднага. У іх цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток, які .. наладжывае беларускія прадстаўленні і г.п.* МІ, 17.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *наладжывае*: МІ, 17.

**[НАЛГАЦЦА]** *зак. Руск., разм.* Напляткарыцца. *Ня слухаймо благіх языкоў, што разсеваюць такіе ці сякіе плёткі, бо, як кажуць, у мор намруцца, а ў вайну налгуцца.* РКр.

Абв. буд. мн. 3 ас. *налгуцца*: РКр.

**НАЛЕВА** *прысл.*: ◊ **Направа і налева** *гл.* направа.

**НАЛЕЖАЦЬ** (5) і *разм.* **[НАЛЕЖЭЦЬ]** *незак.* **1.** Знаходзіцца ў распараджэнні каго-н. *..зямля, засеяная касцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх..* ПЛП.

**2.** Уваходзіць у склад чаго-н., якой-н. групы. *..у вёсцы Блонь, каторая калісь належала да двара вядомага расійскага эсэра П. Бонч-Асмалоўскага, сяляне-беларусы не забылі ўсяго свайго роднага.* МІ, 17. *Не вельми даўно ў нас не было следства па дзелу аб вучыцельскім саюзе. З вучыцелёў, што да таго саюза належэли, ўзяли падписку, каб никуды не выежджали без дазвалення палиции.* ВД.

**3.** *У знач. вык.* Быць неабходным. [Янка]: *То ж належала і аб падарунку якім падумаць.* Т, 20.

◊ **Як належыць** – як патрэбна. *Я* [Купала] *і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся як гэта належала, абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнага асяродзішча..* АЛ. *Параўн.* як належна.

Інф. *належаць*: ПЛП. Абв. цяп. мн. 2 ас. *належыце*: Т, 37. Пр. адз. ж. *належала* МІ. н. *належала* (2): АЛ; Т, 20. Мн. *належэлі*: ВД.

**НАЛЕЖНА** *прысл.* ◊ **Як належна** – *тое, што* як належыць. *Ворагаў зніштожым, Хатніх і замежных, Сонцам апранешся, Як табе* [радзіме] *належна.* МПв, 220.

**[НАЛЕЖНЫ]** (5) *прым.* Неабходны, патрэбны. *Адна на вас надзея, богі, Нясём належную вам дань..* УрП, 48. *Справа ў належным месцы* [стаіць] *стол..* Т, 19.

◊ **Паказаць належнае месца [мейсцо]** *гл.* паказаць.

Адз. ж. В. *належную*: УрП, 48. н. В. *належнае* (2): БС; Т, 22. Т. *належным*: Т, 19. Мн. В. *належныя*: Кц, 192.

**НАЛЕТА** *прысл. Разм.* У будучым годзе. *Вы, другі верные, ганцы, Як летась, сёлета, на лета Ўсе пагранічные капцы Абходзьце зноў з маім* [князя] *прыветам.* Кц, 196.

**НАЛОГ** (18) *м. Руск. Тое, што* падатак. *Падаходны налог падобна простаму выбіраецца с тых, хто болей зарабляе ці хто болей с чаго мае даходу.* ВН. *Трэба ешчэ тут сказаць, што*

*праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы, і толькі цяпер, дзякуючы вайне, гэты закон увойдзе у жыццё.* Там жа.

**Вайна і налогі.**

• **Просты [беспасрэдні] налог** – падатак з прадпрыемстваў і ўласнікаў, які ўстанаўліваецца дзяржавай. *Гасударственные налогі бываюць дваякіе: простые [беспасрэдніе] і пабочныя. Простые налогі – гэта падаткі з зямлі, с фабрык, з насьледзтва і інш. Агулам простые налогі – гэта такіе, дзе кожны уласьнік плаціць безпасрэдня пэўныя падаткі за сваё дабро.* ВН. *Пабочные налогі – падаткі, якія ўключаюцца ў прадажную цану тавару; акцыз. Пабочные-ж налогі зусім іншые: збіраюцца яны не с таго, хто штось мае, а с таго што паступае на продаж, як напр. акцыз на табаку, цукер.. і інш., або таможэнны збор з заграні́чных тавароў.* Там жа.

Адз. Н. *налог* (3): ВН (3). В. *налог* (2): ВН (2). Т. *налогам*: ВН. М. *налогу*: ВН. Мн. Н. *налогі* (7): ВН (7). Р. *налогаў*: ВН; *налогоў*: ВН. В. *налогі* (2): ВН (2).

**[НАМАГАЦЦА]** *незак.* Старацца што-н. зрабіць. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва..*АЛ.

Абв. пр. адз. м. *намагаўся*: АЛ.

**НАМАРНА** *прысл. Разм.* Марна, дарэмна. *– Га, а цяперака што гаварыці?.. Ўсё мае* [Нёмна] *скарбы намарна ідуць..* Н.

**[НАМЕРЦІСЯ]** *зак. Разм.* Памерці. *Ня слухаймо благіх языкоў, што разсеваюць такіе ці сякіе плёткі, бо, як кажуць, у мор намруцца, а ў вайну налгуцца.* РКр.

Абв. буд. мн. 3 ас. *намруцца*: РКр.

**НАМЕСЬ** *часц. Разм.* Іменна, менавіта. *Між такімі палямі – намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам..* ХБ, 28.

**[НАМЕЦІЦЬ]** (2) *зак. перан.* Вызначыць што-н. *Пэўная часьць польскага грамадзянства, так званая "народова-дэмократыя", асьлепленая пабедамі польскага салдата, сышла з тэй дарогі, якую паляком намецілі сьвятлейшые іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славацкіе і інш.* СНБ. *Абсееш* [правадыр] *пасевам жывучым загоны І сцежкі намеціш да сонца і зораў.* ТП, 217.

Абв. пр. мн. *намецілі*: СНБ. Буд. адз. 2 ас. *намеціш*: ТП, 217.

**[НАМЁК]** (2) *м.* Ускоснае ўказанне на што-н. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку. Зато гумно – важна! Пры ім стажкі ўжатку. Ня стоўпілісь ў гарудах, – пабачыш з намеку.* ХБ, 28. *..у* [адозве Пілсудскага] *.. былі намёкі на незалежнасць і непадзельнасць Беларусі.* СНБ, 340.

Адз. Р. *намёку*: ХБ, 28. Мн. Н. *намёкі*: СНБ, 340.

**[НАНІЗАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* нанізаць. Надзеты, пасаджаны на што-н. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфелі, а чацверты – меншы; пад імі: колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы, звязаныя лыкам, тры воблы, нанізаныя на аборку..* Т, 45.

Мн. Н. *нанізаныя*: Т, 45.

**[НАМЫЛІЦЦА]** *зак. перан. Разм.* Заўпарціцца. *Намыліліся старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсемагутны Бог, сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму курыць..* Кз, 17.

Абв. пр. мн. *намыліліся*: Кз, 17.

**НАОГУЛ** (4) і **НААГУЛ** *прысл.* **1.** Увогуле. *За беларускаю сілай пойдуць тые, хто, наогул, ідзе уперад і рухае жыцьцё.* ВМР. [Мікіта]: *Ну, як вам* [Янку] *сказаць? Наогул, медждү протчым, хачу перайсці на ваш беларускі бок, ці як там.* Т, 55.

**2.** У цэлым. [Заходні вучоны]: *На запытане, як сень далеко распостшэня овэ "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39. *Абедзьве газэты, як маглі, змагаліся с "Нашай нівай" і наогул – з беларускім рухам.*У. *Параўн.* вообшчэ.

**3.** Ужываецца для далучэння часткі сказа, якая выражае думку больш агульную ў параўнанні з выказанай ў папярэдняй частцы. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.* Нз, 14.

**НАПАГАТОВЕ** *прысл.* У запасе. [Мікіта]: *Аратар, маючы кожны раз напагатове адшліфаваны практыкай язык, заўсёды патрапіць выпутацца з бяды.* Т, 36.

**НАПАД** (3) *м.* Нападзенне. *Гэй, паехаў сын Даніла Ваяваць на вайну, Ад нападу, ад нявол Бараніць старану.* ПСД. *З пачуццём найвялікшага гневу я* [Купала] *прачытаў паведамленне ТАСС аб разбойнічым нападзе японскай ваеншчыны на свяшчэнныя граніцы нашай радзімы.* ВГ. *Параўн.* напасьць.

Адз. Р. *нападу* (2): ГЖУ; ПСД. М. *нападзе*: ВГ.

**[НАПАДАЦЬ]** *незак.* Раптоўна ахопліваць [пра душэўны стан]. *..калі вораг прыбліжаецца к якому месцу і пачне даносіцца да вуха жыхароў страляніна, то гэтым нападае на ўсіх жудасць і паніка.* СНБ, 340.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *нападае*: СНБ, 340.

**[НАПАКАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* напакаваць. *Разм. У знач. вык.* Напоўнены чым-н. [Аленка]: *Ну і цяжкія ж гэтыя торбы! Ці не каменне ў іх напакавана?* Т, 46.

Кар. адз. н. Н. *напакавана*: Т, 46.

**НАПАЛАВІНУ** *прысл. Разм.* Напалам. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.* Нз, 14.

**[НАПАМІНАЦЬ]** *незак.* Быць падобным да чаго-н. [Дама]: *Што гэта ў вас, мусье, за такі арыгінальны ўбор? Напамінае сабой форму а-ля-кум пажарны.* Т, 24.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *напамінае*: Т, 24.

**[НАПАМЫКАЦЬ]** *незак. перан.Разм.* Падбухторваць, падбіваць каго-н. на што-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, вы напамыкаеце, сябра беларус, каб я стаў не на свой, а на ваш – беларускі, хэ-хэ-хэ! грунт.* Т, 48.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *напамыкаеце*: Т, 48.

**[НАПАСЦЬ]** (2) і **НАПАСЬЦЬ** (3) *ж.* Бяда, няшчасце. *Дзе толькі ступіце, зьнямее Нямая чорная напасьць, Ніхто чапіць вас* [людзей] *не пасьмее, Усякі вам дарогу дасьць.* УрП, 50. *Край разрываны ўвесь на часці – Народ аграблены яго – Не ўбараніўся ад напасці І ад пагібелля свайго.* ГП, 8.

Адз. Н. *напасьць*: УрП, 50. Р. *напасьці* (2): ГЖУ; Ч, 321; *напасці*: ГП, 8. Мн. В. *напасці*: ВВ, 263.

**НАПАСЬМЕХ** *прысл. Разм.* Насмех. *Калі ў Гішпаніі ўзбунтаваны людзі З сваёй краіны выгналі вас* [Жыдоў] *напасьмех, На беларускім полі вашы грудзі Навек знайшлі дняваньне, страву і начлег.* Ж.

**НАПАТКАЦІ** *зак. Разм.* Натрапіць на што-н. *А як пойдзе хто першай,* [дарогай] *– ён* [чараўнік] *кажа ім* [сынам] *гэтак, – Што на ўсход шляхам чорным кладзецца, – Напаткаці чужацкі крывавы палетак, І ў крывавай скупаецца рэчцы.* Ч, 319.

Інф. *напаткаці*: Ч, 319.

**НАПАЎАДЗЕТЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* напаўадзець. *У знач прым. перан.* Бедны *Спужаўся* [жандарм], *што хлапчук ў лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?..* АПЖ.

Адз. м. Н. *напаўадзеты*: АПЖ.

**[НАПАЎБАСЯЦКІ]** *прым. Разм.* Бядняцкі, жабрацкі. *Янка і Аленка выходзяць і спатыкаюцца на парозе ў напаўбасяцкім абарваным адзенні Даму і Спраўніка..* Т, 57.

Адз. н. М. *напаўбасяцкім*: Т, 57.

**[НАПАЎНЯЦЦА]** *незак. перан.* Быць поўнасцю занятым якімі-н. пачуццямі. *Ці-ж не напаўняецца сэрца вялікай радасцю і гордасцю? Мы ідзём сонечным шляхам яшчэ да болей сонечных дзён.* ДЖ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *напаўняецца*: ДЖ.

**НАПАЎНЯЦЬ** *незак.* Запаўняць кім-н. *Ох, видаць вельми хочэцца Пурышкевичам, Дубровицким ковы новые каваць, Изноў турмы напаўняць ..* ВЧ.

Інф. *напаўняць*: ВЧ.

**[НАПАЎСОННЫ]** *прым.* Дрымотны. *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.* Т, 43.

Адз. ж. В. *напаўсонную*: Т, 43.

**НАПАЧАТКУ** *прысл. Разм.* Упачатку, спачатку. [Гануля]: *А нешта нейкае аб высяленні была ў цябе, сваток, гутарка напачатку.* Т, 43.

**НАПЕРАД** (11) *прысл.* **1.** Далей, у будучыню *..з верай у лепшую долю і волю пойдзем* [беларусы] *усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.* ПЛП. *Мы ідзём наперад Пераможна, ў сонцы...* МПв, 220. // *У знач. вык.* Заклік да чаго-н. *Дык наперад, таварышы, да новых перамог, да новых радасцей, да соцыялізму!* ДЖ. *Наперад, па шчасце!* ВГ, 17; ДЖ.

**2.** Авансам. [Мікіта]: *У гэтым* [портфелі] *толькі грошы – мая пэнсія за першыя дзесяць дзён гэтага ліпня месяца і за два тыдні наперад.* Т, 46. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя, меджду протчым, пайкі..* Там жа.

◊ **Забягаць наперад** гл. забягаць. **Задам наперад** (2) – павярнуўшы задняй часткай наперад. [Мікіта]: *Мамзэль Наста, перакульвайце задам наперад абразы.* Т, 52. [Янка]: *Такія сур'ёзныя* [вучоныя], *пане совбур, як і сягонешні выгляд вашай хаты, асабліва гэтыя хвасты ад шпалераў ды абразы задам наперад.* Там жа, 48.

**НАПЕРАДЗЕ**[1] (2) *прысл.* Сярод, у ліку першых. *Хто наперадзе са сцягам, На якім красуе Сталін, Пакарыў сваёй адвагай Неразгаданыя далі?* СА, 179. *Да сонца выходзяць шчаслівыя вёскі, Наперадзе – горад шчаслівы.* ВВ, 263.

**НАПЕРАДЗЕ**[2] *прыназ. з Р.* Выражае пpасторавыя адносіны. Ужываецца пры назве асобы, на некаторай адлегласці перад якой хто-н. знаходзіцца. *А наперадзе ўсіх едзе Наш Даніла з вайны..* ПСД.

**НАПЕРАМЕНКУ** *прысл. Разм.* Па чарзе. *..йграе напераменку лера і шарманка.* Т, 33.

**НАПЕЎ** (2) *м.* Мелодыя, матыў. *Роднай песні вясёлы напеў Не ўзлунаў над калыскай маёй..* ЧС, 50–51. *Песні напевамі звоняць вясёлымі..* ДПЛС.

Адз. Н. *напеў*: ЧС, 50–51. Мн. Т. *напевамі*: ДПЛС.

**[НАПІСАНЫ]** (4) *дзеепрым. зал. пр. да* напісаць. **1.** *Дзеепрым. да* напісаць у 1 *знач. У знач вык. Нам* [беларусам] *новыя далі раскрыты сягоння, Вялікія сілы сабраны табой* [Сталіным], *І самыя мудрыя ў свеце законы Напісаны смела тваёю рукой.* ПБН.

**2.** *Дзеепрым. да* напісаць у 2 *знач. На гэты нарыс зьвярнулі ўвагу, нават, у Маскве, скуль была прыслана і надрукавана ў сваім часе ў расійскай газэце "Звязда" напісаная т. Кнорыным антыкрытыка на гэты крытычны нарыс.* ВСп, 89–90.

**3.** Складзены. *Пэўнага дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску..* ОШМ.

4. *У знач. вык.* Перададзены на паперы літарамі. [Спічыні]: *У гэтым* [дакуменце] *напісана "рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Мінска".* Т, 61.

Адз. ж. Н. *напісаная*: ВСп, 90. Т. *напісанай*: ОШМ. Кар. адз. н. Н. *напісана*: Т, 61. Мн. Н. *напісаны*: ПБН.

**НАПІСАЦЬ** (8) *зак.* **1.** *Зак. да* пісаць у 2 *знач. Канстытуцыі векпомнай Слова залатое Напісаў* [Сталін] *нам добрым сэрцам, Дбалаю рукою.* НК.

**2.** *Зак. да* пісаць у 3 *знач. Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон".* Ан, 19. *Далей гэты самы композытар напісаў музыку да верша Каганца "О, божа, спасе наш!"* СБНГ.

Інф: *напісаць*: Т, 35. Пр. адз. м. *напісаў* (6): Ан, 18, 19 (2); НК; СБНГ; ЧЧШ. Буд. адз. 2 ас. *напішаш*: Ан, 19.

**НАПІТАК** *м.* Пітво. [Дама]: *Але напітак ваш, мусье Зносілов, цудоўны – нічым амброзія.* Т, 28.

Адз. Н. *напітак*: Т, 28.

**НАПІЦЦА** *зак.* Папіць. [Янка]: *Ці не паспяшыліся, пане рэгістратар, пляваць у карытца – каб не прышлося напіцца.* Т, 50.

Інф. *напіцца*: Т, 50.

**[НАПЛАДЗІЦЬ]** *зак. перан.* Стварыць што-н. у вялікай колькасці. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэр Спічыні таму не вінен, што напладзілі сабе людзі языкоў..* Т, 48.

Абв. пр. мн. *напладзілі*: Т, 48.

**НАПЛЯВАЦЬ** *зак. да* пляваць *у 2 знач.* [Янка]: *Для вашага гонару падавай вам* [Мікіту] *мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў, Распуцінаў, Азэфаў і ўсея кампаніі падобных ім, а на свой, папраўдзе для вас родны, як вы кажаце, язык вам напляваць.* Т, 49.

Інф. *напляваць*: Т, 49.

**[НАПОМНІЦЬ]** (2) *зак.* Прывесці на памяць каму-н. што-н. *Няўжо настолькі коратка памяць японскіх ваяк, што яны забылі ўрокі 1921–22 г. Напомнім ім гэтыя ўрокі!* ВГ. [Мікіта]: *Ага! Калі спаткаеце* [мамаша] *профэсара гэр Спічыні, то напомніце яму, што я ўжо яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва..* Т, 34.

Абв. буд. мн. 1 ас. *напомнім*: ВГ. Заг. мн. 2 ас. *напомніце*: Т, 34.

**[НАПОЎНЕНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* напоўніць. **1.** Запоўнены да верху. *Уваходзіць* [Мікіта] *з напоўненым вядром.* Т, 54.

**2.** *У знач. вык. перан.* Які запоўнены, заняты цалкам [пра думкі]. [Дама]: *Мусье беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу і належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?* Т, 37.

**[НАПОЎНІЦЦА]** (2) *зак. да* напаўняцца. *Гордасцю напоўнілася маё сэрца, калі я* [Купала] *даведаўся, што байцы доблеснага чырвонасцяжнага Далёка-ўсходнягя фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* ВГ. *Шчасцем напоўняцца хатаў святліцы, Воляй акрыляцца горы, даліны*. Ф.

Абв. пр. адз. н. *напоўнілася*: ВГ. Буд. мн. 3 ас. *напоўняцца*: Ф.

**НАПРАВА** *прысл.*: ◊ **Направа і налева** – без разбору. [Наста]: *А я чула ад пэўнай асобы, што немцы, як прыходзяць, то першым чынам направа і налева хапаюць усіх на работу – капаць акопы..* Т, 24.

**НАПРАМАК** (3) *м. перан.* Шлях развіцця чаго-н. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* ДНСА. *У Бельгіі таксама кіпіць работа ў гэтым напрамку* [па адбудове краіны], *якой прымушаны дапамагаць немцы, – а ў нас* [на Беларусі]*?..* АБ, 16.

Адз. Н. *напрамак*: ДНСП. М. *напрамку* (2): АБ, 16; АЛ.

**НАПРАСНА** *прысл. да* напрасны. *Сціх* [звон], *занямеў, аглушылі напрасна; Ці адазвецца калі болей ён?..* Н.

**НАПРАСНЫ** *прым. Руск.* Дарэмны, марны. *Няўжо кліч вечны будзе ў нас* [беларусаў] *напрасны – Кліч бураломны: вызваленне з пут?!* Бч, 10.

Адз. м. Н. *напрасны*: Бч, 10.

**НАПРОЦЬ** *прысл. Разм. Тое, што* насупроць. *З правага богу.. – адны дзверы, з левага – двое. Напроць два вакны на вуліцу.* Т, 19.

**[НАПРУЖВАЦЬ]** *незак. перан.* Павышаць дзейнасць, праяўленне чаго-н. *Імпэрыялістычная заграпічная буржуазія адзіным фронтам з рэшткамі капіталістычных элемэнтоў у СССР напружвае ўсе свае сілы для таго, каб перашкодзіць гэтай творчай рабоце працоўных мас, каб зьнішчыць соцыялістычную дзяржаву..* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *напружвае*: АЛ.

**НАПРЫГЛЯДКУ** *прысл. Разм.* Навідавоку. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку.* ХБ, 28.

**НАПРЫКЛАД** (17) *пабочн.* Для прыкладу. *Калі трэба, напрыклад, адчыніць школу, дык склікаюць бацькоў і ставяць ім пытаньне: якую яны хочуць школу – расійскую, польскую ці беларускую?* ДК. *77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых сьветлых часінах, калі яе унівэрсытэт кіпеў мудрым жыцьцём, калі давау ён і Польшчы і цэламу сьвету мудрых і слаўных людзей, як напр.*

*Адам Міцкевіч, Сьнядэцкі.. і шмат іншых.* УПУВ АЛ; ВН (4); ВСп, 89; НДН, 18; ПЧ; СНБ; Т, 28, 34 (2), 35, 36, 41. *Параўн*. прыкладам.

**НАПУЖАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* напужаць. Спалоханы, спужаны. *І ручыла, шанцавала Ў бітвах цяжкіх яму* [Данілу], *Ажна вораг напужаны Дзіваваўся таму.* ПСД.

Адз. м. Н. *напужаны*: ПСД.

**НАПУТСТВОВАЦЬ** *незак. Руск.* Даваць наказ. [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, я только провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.* Т, 38.

Інф. *напутствоваць*: Т, 38.

**НАПХАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* напхаць *перан. Разм.* Які засвоіў што-н. *–Ух-ці! – выйшаў на царкоўны дзядзінец беларускі дзяк "расійскай культуры" напханы за кліpасам славянскімі псальмамі Давідавымі.* З.

Адз. м. Н. *напханы*: З.

**НАПЭЎНА** (7) *прысл.* Пэўна, беспамылкова. [Наста]: *Можаце віншавацца, панове! З пэўных крыніц я напэўна даведалася, што ўжо "нашы"* [палякі] *занялі Менск.* Т, 49. [Гануля]: *Хто ён* [Спічыні] *родам – напэўна не ведаю.* Там жа, 31. ВМР; ЗС, 18; Т, 41, 42, 59.

**[НАПЯВАЦЬ]** (4) *незак.* Спяваць напаўголаса. [Мікіта]: (*Напявае.*) *Немцы едуць, нашы йдуць, Немцы нашых падвязуць.* Т, 31. [Мікіта] *вясёлы, пасвістае і напявае.* Там жа.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *напявае* (4): Т, 31 (2), 32, 53.

**НАПЯРЭДАДНІ** *прыназ. з Р.* Указвае на падзею, перад якой што-н. адбываецца. *Сёння мы напярэдадні вялікіх урачыстасцяй – XV гадавіны БССР і XV з'езда нашай слаўнай пераможнай комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.* ШБСЯ.

**НАПЯЦІ** *зак. Разм.*: ◊ **Напяці гладзейшую скуру** – апынуцца ў больш выгодным становішчы. *Брат другі яе* [судзьбіны] *мудрыя выслухаў рэчы: – Ня туды цэлы век пёрся здуру; На быдлячы мяняў воблік свой чалавечы, Каб напяці гладзейшую скуру.* Ч, 323.

Інф. *напяці*: Ч, 323.

**[НАРА]** (2) *ж.* **1.** *перан.* Падземны ход. З-*пад ног, з утоптанай нары Паўзе ўжо збэшчаны павук І ў сто, у сто кагцістых рук Хапае вас рабы-цары..* ПВ.

**2.** *перан. Разм.* Месца для прытулку; хованка. *Акоў паломаных жандар, Сліўнём зарыўшыся ў нару, Сядзіць расійскі чынадрал, "Слуга ацечаству, цару".* АПЖ.

Адз. Р. *нары*: ПВ. В. *нару*: АПЖ.

**[НАРАБІЦЬ]** (2) *зак.* Натварыць, учыніць. [Мікіта]: *Дзе той Спічыні? Які нячысцік выкруціў у гэтую небяспечную для мяне хвіліну? Оеей! Што ён нарабіў мне.* Т, 32. [Пан]: *А так, прыходзіцца* [даваць лататы], *толькі хай там ваша вёска вельмі ў двор мой*

*не прэцца, бо як вярнуся...* [Мікіта]: (*перабіўшы*). *І ўсё гэта праклятая, меджду протчым, рэволюцыя нарабіла.* Там жа, 37.

Абв. пр. адз. м. *нарабіў*: Т, 32. ж. *нарабіла*: Т, 37.

**НАРАВІСТЫ** *прым.* Упарты, з норавам. *Адны кажуць, што гэта* [Антанта] *наравісты конь, другія кажуць, што гэта пудзіла на вераб'ёў..* Ан, 18.

Адз м. Н. *наравісты*: Ан, 18.

**[НАРАДЗІЦЦА]** (3) *зак.* **1.** З'явіцца на свет. *Нарадзіўся я* [Купала] *25 чэрвеня* (*старога стылю*) *1882 г. непадалёк ад Радашковіч, былога Вілейскага павета, у фальварку Вязынка.* А, 327. *Я* [Купала] *нарадзіўся і рос у цёмнае царскае ліхалецце..* ЖН.

**2.** *перан.* Узнікнуць, сфарміравацца. *Мы толькі зазначаем, што калі ужо нарадзілася беларуская сіла, то ні пальонізацыя, ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі..* ДК.

Абв. пр. адз. м. *нарадзіўся* (2): А, 327; ЖН. ж. *нарадзілася*: ДК.

**НАРАКАЦЬ** (2) *незак.* Выказваць нездавальненне кім-, чым-н. [Гануля]: *Яно ж і наракаць на яго* [Мікіту] *роднай маці гэтак не выпадае, але падчас, як прыдзе нешта нейкае, дык і гаворыш, і гаворыш..* Т, 20. *Мы наракаем, што цяпер цяжка жывецца, а як падумаеш, дык і ўперад не вялікі мёд быў.* Там жа, 44.

Інф. *наракаць*: Т, 20. Абв. цяп. мн. 1 ас. *наракаем*: Т, 44.

**[НАРАСТАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* [нарастаць]. *перан.* Які робіцца больш моцным; узрастаючы. *Гэта* [сіла беларуская] – *маладая, нарастаючая сіла, каторая з часам запануе уладарнай гаспадыняй..* ВМР.

Адз. ж. Н. *нарастаючая*: ВМР.

**НАРАСХВАТ** *прысл.* Ахвотна, попытна. *А вось нашы "Правда" і "Известия" у Чэхаславакіі ідуць проста нарасхват.* ПЧ.

**НАРАЎНЕ** (3) *прысл.* На роўных, у роўных умовах. *На зробленую увагу, што яго вымова парушае прыказ вышэйшай улады, падлуг каторага беларуская мова ужываецца нараўне з польскай, –ураднік адказаў, што ён не разумее беларускай мовы..* ОШМ. *..права нацыянальнай меншасці павінны стаяць у нас нараўне* [прапарцыянальна] *з правам нашай беларускай большасці.* НДН, 19. БСУ.

**[НАРВАЦЦА]** *зак. Разм.* Нечакана сустрэцца з кім-н., натрапіць на каго-н. [Наста]: *У іх* [немцаў]*, як мне з пэўных крыніц вядома, ёсць спэцы ад усялякіх языкоў, ну вы* [Мікіта] *нарваліся на гэткага спэца.* Т, 42.

Абв. пр. мн. *нарваліся*: Т,42.

**НАРКОМ** (3) *м. Скар.* Народны камісар. *Наш слесар луганскі, Нарком Абароны, Засядзе ў Вярхоўным Совеце ад нас.* НДп, 229.

*на тое, ці яны заслугоўваюць на такую назву ці не.* СБНГ. Ж; НДН, 18; Т, 22, 34.

**4.** Значэнне няпэўнасці, няпоўнага адмаўлення, непаўнаты дзеяння ці стану: а) пры паўтаральных назоўніках. *Домік у Горках абвеяны хваляй, Домік – не домік, – бядняцкая хата.* СД. [Аленка]: *Якое няшчасце! Гэта ж як у таткі пачнецца вялікі табачны пост, дык задасць ён усім нам табакі!* [Гарошка]: *Табакі не табакі, а перцу калі-небудзь дастанеш ты ў мяне за свой доўгі язык.* Т, 39; б) паміж паўтаральнымі дзясловамі. [Мікіта]: *Вось я, не зважаючы на тое – выеду ці не выеду, і пастараўся не выглядаць маладым.* Т, 55. *Не адзін аб ёй ведаў і разам ня ведаў, Чуў – ня чуў аб ёй, бачыў – ня бачыў, Кожны толькі яе* [судзьбіны] *папільновываў сьледу, Плакаў, выў, як было што іначай.* Ч, 322; в) у спалучэнні з прыслоўямі “вельмі”, “зусім”. *І вось з гэтага вялікага ліку “гымнаў” мы* [беларусы] *ўсё такі ня маемо – сказаў бы я – прызнанага і усьвенчанага – беларускага нацыянальнага гымну. Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народу і няраз ставіць публіку у прыкрае палажэньне, як і было гэта ня вельмі даўно.* СБНГ. [Мікіта]: *Я не зусім такі ўжо несвядомы, меджду протчым, беларус, – нават з вашай* [беларускай] *літаратурай знаёмы.* Т, 56. *не*: Кц, 197; Т, 44, 45, 50, 56; СБНГ; Ч, 320, 321.

**5.** У спалучэнні з часціцай “ці” ў пытальных сказах выражае мадальнае значэнне сцвярджэння або няпэўнасці, здагадкі. *І ці не пара ужо пераканацца людзям, што на свой капыл беларускага народу не пераробіш.* ДК. *Ужо раз палякі загналі Беларусь у рукі маскоўскага барбара, – ці ня робіцца гэта й цяпер?* ОШМ. *не*: Ан, 18; ДД; ДЖ; МП; Т, 25, 27, 28, 37, 39, 42, 45, 46, 50 (2), 51, 53, 56, 58, 59; *ня*: БС; ДК; ЕЯП; ОШМ.

**6.** У спалучэнні з пытальнымі займеннікамі і прыслоўямі пры асаблівай інтанацыі вымаўлення са станоўчым адказам. *Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці?* Нз, 15. *Ніва! Як ня любіць мне таемны твой шум?* АР. *не*: Т, 24, 36 (3), 48, 50, 52, 60. *ня*: ХБ, 27.

**7.** У складзе словазлучэння. [Спраўнік]: *Мы ўжо паспелі не толькі закусіць, але й выпіць.* Т, 51. *Няхай зразумеюць тые, хто глядзіць на наш горад вачыма чужынца, што раней ці пазней, а ен* [Менск] *будзе беларускім ня толькі па назове, а й па істоце і па надворнаму выгляду свайму.* ВМР. *Параўн. ні; не:* АЛ; ГВУ; Т, 35. *ня*: АЛ; ГНД; УПУВ.

**8.** У складзе ўстойлівых словазлучэнняў. [Мікіта]: *А дзе тут таго немца зловіш, калі – па чутках – амаль не ўсе ўжо з гораду вышлі.*

Т, 34. *Ня зыходзіць са шляху свайго і другі сын – Чуць ня йдзе сьледам першага брата.* Ч, 320. *не*: ЛР; Н; НДп, 229; ПС; ПЧ; Т, 22, 46, 57. *ня*: ОШМ (3); $Ш_4$.

**9.** *Тое, што* ні *ў 2 знач. Але як бы казна не была багата, то пры над'звычайных здарэньнях, як напрыклад вайна, голад, патрабуюцца і над'звычайные расходы.* ВН. *.. праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы, і толькі цяпер, дзякуючы вайне, гэты закон увойдзе ў жыцьцё. Але як-бы сабе там не было, мы ва ўсім гэтым бачым адну вельмі карысную для ўсіх рэч – гэта падаходны налог.* Там жа. ЁЯ.

**То не рыцары казак... Чым чорт ня шуціць. Як ня выйдуць чорнасотнікі...**

**[НЕАБНЯТЫ]** (2) *прым. Разм. Тое, што* неабсяжны. *..на сьцюдзёных галодных раунінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоу сваіх..* З. *Тыя думкі і летуценні, якія прабудзіліся ў нашым народзе ў часе першай расійскай рэвалюцыі (1905г.), разліліся шырокаю хваляй па неабнятых абшарах нашага краю.* СНБ, 336. *Параўн.* нязгледжаны, нязмерны, нязьмераны.

Адз. ж. Р. *неабнятай*: З. Мн. М. *неабнятых*: СНБ, 336.

**[НЕАБСЯЖНЫ]** *прым.* Бязмежны, бяскрайні. *.. над маёй* [Купалы] *хатай, як і над мільёнамі хат неабсяжнай маёй бацькаўшчыны – краіны советаў развіваецца чырвоны непераможны сцяг.* ДЖ. *Параўн.* неабняты, нязгледжаны, нязмерны, нязьмераны.

Адз. ж. Р. *неабсяжнай*: ДЖ.

**[НЕАДМЕННЫ]** *прым. Разм.* Абавязковы, неабходны. *Гэты перыяд нашых дамаганняў і змаганняў за свае неадменныя правы на ўласнае незалежнае існаванне астаўляем разабраць як следна ..гісторыкам.* СНБ, 337 *Параўн.* неадымны.

Мн. В. *неадменныя*: СНБ, 337.

**[НЕАДРЫЎНЫ]** *прым.* Неад'емны. *Ад усяго сэрца, поўнага вялікай творчай радасцю мае радзімы – вялікага Савецкага Саюза і неадрыўнае часткі яго – Совецкай Беларусі, дазвольце мне, шчасліваму народнаму паэту, прынесці сваё гарачае прывітанне гаспадара зямлі беларускай – XI з'езду КПБ(б) .., комуністычнай партыі, Іосіфу Вісарыёнавічу таварышу Сталіну.* ВГР.

Адз. ж. Р. *неадрыўнае*: ВГР.

**[НЕАДСТУПНЫ]** *прым.* Які знаходзіцца заўсёды пры кім-н. *З неадступнаю нагайкай Едзе, сыпе Налівайка: Едзе з шыкам і няціха, Тут рагатка – што за ліха?* НД.

Адз. ж. Т. *неадступнаю*: НД.

**[НЕАДЫМНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* неадменны. [Янка]: *Мы* [беларусы] *павінны душу нашу народную выявіць у сваім "я",*

*у сваёй самабытнасці і смела сягнуць па сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім “я”.* Т, 35.

Адз. н. В. *неадымнае*: Т, 35.

**[НЕАКРЭПШЫ]** *прым. Разм.* Непадужэлы, непамацнелы. *Над пакаленнем неакрэпшым, Над бедным краем-сіратой Груган з начніцаю сьляпою Банкет спраўляюць чорны свой.* РС, 40.

Адз. н. Т. *неакрэпшым*: РС, 40.

**[НЕАПУШЧЭНЫ]** *прым. Разм.* Незанядбаны, незапушчаны. *Хай-жэ дома* [нашы браты і сыны] *знойдуць усё ў парадку – неапушчэную хату, хлеб на стале.* РКр.

Адз. ж. В. *неапушчэную*: РКр.

**НЕБА** (36) *н.* **1.** Атмасфера, якая відна з зямлі, прастора ў форме купала. *..неба было ўсё сіняе бяз ніводнае плямачкі..* ХБ, 29. *Між небам лазурным і чорнай зямлёй Прывольная думка лунала.* ПН, 46.

**2.** *Рэл.* Месца, прастора для бога, анёлаў. *Ах! Што гэта? – Раскрылася неба й зямля, Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну..* БН, 91. // Боскія, вышэйшыя сілы. *Сказаць аўтарнік мусіць слова, Ня дарма з неба вядзе род.* УрП, 49. *Агонь аўтарны разлажыце, Ахвяру небу аддадзім.* Там жа, 50.

◊ **Пад неба –** вельмі высока. *У краіне гордай, горы дзе пад неба, Дзе быў прыкаваны Праметэй да скалы, Рос і гадаваўся ў бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС, 321. **Дабро пасыпецца з неба** *гл.* дабро.

Адз. Н. *неба* (4): БрБ, 6 (2); БН, 91; ХБ, 29. Р. *неба* (5): БрБ, 6; МІ, 17; Т, 20; УрП, 49; Ч, 321. Д. *небу*: УрП, 50. В. *неба* (6): БЗ; Кз, 17; МСП, 187; ПСС, 231; СС, 300; ТП, 213. Т. *небам* (6): Кз, 17; Кц, 194; КП, 170; ПН, 46; Ч, 322, 325. М. *небе* (12): БрБ, 6; Вб, 237; Дз, 189; ІП; ЗЯЗ, 90; Кц, 192, 197; ПСС, 232; СБНГ; ТП, 217 (2); Ч, 324. Мн. Р. *нябёс*: ПНд, 47; *нябёсаў*: ХБ, 28.

**[НЕБАЖЫЧНЫ]** *прым.*: • **Святыня небажычная** *гл.* святыня.

Мн. Р. *небажычных*: Кз, 17.

**[НЕБЕСНЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* нябесны. [Поп]: (*ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой*). *Акі птіцы небесныя, отлетающы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

Мн. Н. *небесныя*: Т, 38.

**[НЕБНЫ]** *прым. Разм.*: ◊ **Вышэйшая моц небных сіл** *гл.* моц.

Мн. Р. *небных*: УрП, 49.

**[НЕБЫВАЛЫ]** і **[НЯБЫВАЛЫ]** *прым.* Незвычайны. *Я* [Купала] *вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы росквіт нашай долі..* ЖН. *Калі ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў .. дасьцігла нябывалых і нячуваных посьпехаў.., то ў галіне літаратуры, мастацтва гэткіх посьпехаў і такога шпаркага разьвіцця не адчувалася.* ДНСП.

Адз. м. В. *небывалы*: ЖН. Мн. Р. *нябывалых*: ДНСП.

**НЕБЯСПЕКА** (2) *ж.* Пагроза, небяспечнасць. *Тыя, хто трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі.* БВ, 16. *З табою* [Сталіным] *дабром у нас поўны засекі, З табою не страшны для нас небяспекі.* СС, 303.

Адз. Н. *небяспека*: БВ, 17. Мн. Н. *небяспекі*: СС, 303

**НЕБЯСПЕЧНА** *прысл. да* небяспечны. *У знач. вык. Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці* [Беларусі] *і падумаць было небяспечна..* ПЛП.

**[НЕБЯСПЕЧНЫ]** (3) *прым.* Рызыкоўны. [Аленка]: *А чаму б вам, пане Нікіці, замест коўзацца па слізкіх небяспечных для вашай асобы пуцявінах, не заняцца чым-небудзь болей рэальным і грунтоўным.* Т, 36. *Зямельная спекуляцыя небяспечна цяпер для ўсіх – і для тых, што прадаюць, і для тых, што купляюць, а навет і для тых, што могуць спыніць гэта злачынства.* ЗС, 18.

Адз. ж. В. *небяспечную*: Т, 32. Мн. М. *небяспечных*: Т, 36. Кар. адз. ж. Н. *небяспечна*: ЗС, 18.

**[НЕВАД]** *м.* Рыбалоўная сетка вялікіх памераў. *..навет калі выхадзілі* [прашчуры нашы] *з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнога сачыць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17.

Мн. В. *невады*: Кз, 17.

**НЕВАЖНА** (2) *прысл.* **1.** *Прысл. да* неважны. [Гануля]: *Не важна, паночкі, як бачу, дажыліся* ..Т, 57.

**2.** *У знач. вык.* Не мае вялікага значэння. [Аленка]: *..доўга ці коратка* [прыдзецца чакаць вяселля] – *гэта не важна.* Т, 54.

**[НЕВАЖНЫ]** *прым.* Малазначны, дрэнны. *Там жыццё неважнае, Людзі шчасьце губюць.* $Ш_3$.

Адз. н. Н. *неважнае:* $Ш_3$.

**[НЕВЕДОМЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* нявядомы. [Поп]: *.. я только провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.* Т, 38.

Адз. м. В. *неведомый*: Т, 38.

**[НЕВІНОЎНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* нявінны ў 1 *знач. Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі "Наша Ніва" ўрываліся жандармы і "ахраннікі", здзекваліся над людзьмі, працуючымі там, забіралі рукапісы і ўрэшче цягнулі ў вастрог у нічым невіноўных людзей.* МІ, 17.

Мн. В. *невіноўных*: МІ, 17.

**НЕВЫГОДНА** *прысл. Разм. У знач. вык.* Нязручна. [Мікіта]: *Значыцца, выгандляваў цішком, каб ніхто не бачыў гэтай контрабанды на якую-сякую панчоху ці шкарпэтку, палажыў сабе, меджду протчым, на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы. Ну, і ці ж невыгодна?* Т, 45–46.

**НЕВЯДОМА** і *разм.* **НЯВЕДАМА** *безас. У знач. вык.* Няма звестак аб кім-, чым-н. [Аленка]: *Татку ж майго йзноў у абоз пагналі. Ужо тут, у Менску, мы даведаліся, што перш адны гналі, пасля – другія, потым зноў тыя самыя, потым зноў другія, а там далей і няведама, хто гоніць і куды гоніць.* Т, 54.

◊ **Невядома адкуль** – выражае няведанне таго, на што ўказвае займеннае слова. *..даўгое белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося, ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29.

**НЕВЯЛІКІ** (2) *прым.* Нязначны па памерах і велічыні. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку.* ХБ, 28. // Невысокі. *Між такімі палямі – намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам ..* ХБ, 28. *Параўн.* невялічкі.

Адз. м. Н. *невялікі*: ХБ, 28. М. *невялікім*: ХБ, 28..

**[НЕВЯЛІЧКІ]** *прым. Разм. Тое, што* невялікі. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы, цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфелі, а чацвёрты – меншы, пад імі: колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы, звязаныя лыкам, .. невялічкая стограмовая пляшка з газай..* Т, 45.

Адз. ж. Н. *невялічкая* Т, 45.

**[НЕВЯСЁЛЫ]** (2) *прым. перан.* 1. Непрыемны, дрэнны. [Мікіта]: *Меджду протчым, такіх невясёлых рэзультатаў і быць не можа.* Т, 36.

**2.** Бедны, запушчаны. *А нашы хаты, нашы сёлы Хай з думкай носяцца аднэй: Як гэты вобшар невясёлы Абхарашыці багацей.* УрП, 50.

Адз. м. В. *невясёлы*: УрП, 50. Мн. Р. *невясёлых*: Т, 36.

**[НЕГАДАНЫ]** (3) *прым.* Нечаканы, нeспадзяваны, непрадбачаны. *Люд рабочы, люд сялянскі не засне ўжо болей. Негаданай доляй, воляй У яго ваконца Глядзець будзе век-да-веку Сталінскае сонца.* ЗЯЗ, 90. *Не аб сяміцвет-вясёлках Фарбаў негаданых, Што красу ў сябе ўбіраюць з мора акіянаў; .. Мая* [Купалы] *песня сёння будзе Радасцямі ройнай Аб любімых кандыдатах у Совет Вярхоўны.* НК. // *У знач. наз. Слабые душою і целам апускаць рукі, і як вол доўбні чэкаюць нечаго негаданаго, благога, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу.* РКр.

Адз. ж. Т. *негаданай*: ЗЯЗ, 90. н. Т. *негаданаго*: РКр. Мн. Р. *негаданых*: НК.

**[НЕДАБІТЫ]** *прым. перан.* Не ліквідаваны. *Мяне* [Купалу] *зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы* [аб рэформе правапісу] *нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына ў БССР і раз'юшаная зграя паслугачоў польсканямецкага фашызма ў Заходняй Беларусі.* ШБСЯ.

Адз. ж. Н. *недабітая*: ШБСЯ.

**[НЕДАВОЛЬСТВА]** *н. Руск.* Нездавальненне. *Народ чагосьці зьнябываўся, Гул недавольства плыў і плыў, – Прызваньне чулася ня ў часе, Нясьпелы колас рваўся з ніў.* УрП, 47.

Адз. Р. *недавольства*: УрП, 47.

**НЕДАГАДЛІВЫ** *прым. Руск.* Нездагадлівы. [Мікіта]: *Аб якіх жа гасцёх яшчэ* [гаворыце], *меджду протчым!* [Наста]: *Які ж вы недагадлівы!* Т, 24.

Адз. м. Н. *недагадлівы*: Т, 24.

**НЕДАЛЁКА** (4) *прыназ. з Р. Тое, што* непадалёк. *Палову адной зімы вучыўся* [Купала] *ў народнай школе ў Сенніцы, недалёка ад г. Мінска ..* А, 328. *.. недалёка ад Менску, у вёсцы Блонь .. сяляне-беларусы не забылі ўсяго свайго роднага.* МІ, 17. ГНД; ХЛБ.

**[НЕДАЛІКАТНЫ]** *прым. перан.* Грубы, некультурны. [Беларускі шляхціч:] *Гэтые нашы мужыкі нават з панам "па-простэму" гавораць. Якіе недалікатные людзі!* З.

Мн. Н. *недалікатные*: З.

**[НЕДАЛЮБЛІВАЦЬ]** *незак.* Адчуваць непрыязь, непрыхільнасць да каго-н. [Мікіта]: *Вы, пане настаўнік, як я заўважыў, чагосьці недалюбліваеце нашай чыстай інтэлігенцыі.* Т, 38.

Абв.цяп. мн. 2 ас. *недалюбліваеце*: Т, 38.

**[НЕДАПЕЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр.* да недапячы. *перан. Разм. У знач. прым.* Малавопытны. [Янка]: *Лепей быць добрым пастухом, чымся недапечаным рэгістратарам ці аратарам.* Т, 36.

Адз. м. Т. *недапечаным*: Т, 36.

**НЕДАПЕЧНЫ** *дзеепрым. незал. пр.* да недапячы *перан. Разм., лаянк. У знач. прым.* Прыдуркаваты. *Грудзі смактаў мне* [маці] *паніч недапечны..* Мц, 75.

Адз. м. Н. *недапечны*: Мц, 75.

**[НЕДАРЭЧНАСЦЬ]** *ж.* Бязглуздзіца, абсурд. *А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці .. Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што вушы вянуць слухаючы. Нз, 14.*

Мн. Р. *недарэчнасцяў*: Нз, 14.

**[НЕДАСТАТАК]** *м. Руск. Тое, што* недастача. [Мікіта]: *Буржуазія з кожным днём ад недастаткаў таўсцела – казаў той – расла не ўвышкі, а ўпапярэчкі, меджду протчым..* Т, 40.

Мн. Р. *недастаткаў*: Т, 40.

**[НЕДАСТАЧА]** *ж.* Нястача, беднасць. [Гануля]: *Я мыла людзям бялізну, а ён* [муж] *прыстроіўся ў акружным судзе.. Гэткім ладам недастачы вялікай не цярпелі..* Т, 20. *Параўн.* недастатак.

Адз. Р. *недастачы*: Т, 20.

**[НЕДАСТУПНЫ]** *прым.* Непрыступны. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня .. разаб'ецца, як аб недаступную скалу,*

*аб магутнасць і з' яднанасць рабочых і калгаснікаў Совецкай Беларусі ..* ШБСЯ.

Адз. ж. В. *недаступную*: ШБСЯ.

**[НЕДАСЯГЛЫ]** *прым. Польск. Тое, што* недасяжны. *Азірнуўшыся ясным вокам і ўдумаўшыся шчырай думкай на пройдзеныя гэтыя 15 год, мы бачылі якіх, – здавалася-б недасяглых – дасяглі мы перамог у вялікім социялістычным будаўніцтве..* ШБСЯ.

Мн. Р. *недасяглых*: ШБСЯ.

**[НЕДАСЯГНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* не дасягнуць. Якога цяжка дабіцца, атрымаць. *Гэткіх думаў сягнуць* [першы сын] *недасягнутых чынаў ...* Ч, 324.

Мн. Р. *недасягнутых*: Ч, 324.

**[НЕДАСЯЖНЫ]** (2) *прым.* Недаступны. *Сваёй забранай старане, Скаванай мучаніцы-княжне. Ўзнясуць* [людзі] *пасад на кургане На панаванне недасяжне.* Кц, 196. *З зор сатканы былі недасяжныя сьцены, Росы ўнізе ірдзелі яскрава..* Ч, 321. *Параўн.* недасяглы.

Адз. н. В. *недасяжне*: Кц, 196. Мн. Н. *недасяжныя*: Ч, 321.

**[НЕДАЎГАВЕЧНЫ]** *прым.* Непрацяглы па часе. *І мілай пацехай зазьзяла І доля і слава людзкая, Дый толькі знаць слава і хвала Недаўгавечнай бывае.* Кр, 77.

Адз. ж. Т. *недаўгавечнай*: Кр, 77.

**НЕДАЎНА** *гл.* **НЯДАЎНА.**

**НЕДАЎНЫ** *гл.* **НЯДАЎНІ.**

**НЕДАХВАТ** *м. Разм.* Недахоп. *Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасьці Цішку Гартнаму надрукаваць увесь матар'ял, які павёз быў з сабой ў Нямеччыну.* ВСп, 91. *Параўн.* недахватка *ў 1 знач.*

Адз. Н. *недахват*: ВСп, 91.

**[НЕДАХВАТКА]** (2) *ж. Разм.* **1.** *Тое, што* недахват. [Ануля]: *Выбачайце толькі за недахватку ў ядзе.* Т, 28.

**2.** Памылка, хіба. *Абмінаючы ўсе іншые недахваткі нашага палітычна-дзяржаўнага і нацыянальнага жыцця, я* [Купала] *хачу тут зьвярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гымну.* СБНГ.

Адз. В. *недахватку*: Т, 28. Мн. Н. *недахваткі*: СБНГ.

**НЕДАЧАКАННЕ** *н. Польск.* ◊ **Недачаканне іх –** не бываць гэтаму**.** [Гарошка]: *І цяпер тая* [Аленка] *ўжо, як папуга, паўтарае за ім* [Янкам]: *"Недачаканне іх! – кажа, – будзем самі сабе гаспадарамі!"* Т, 44.

Адз. Н. *недачаканне*: Т,44.

**НЕДВУЗНАЧНА** *прысл.* Адназначна. *Польскія эндэкі .. накінулі нам "плебісцыт" і прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ.

**НЕДЗЕ** (9) *прысл.* **1.** Дзесьці. [Спічыні]: *Нехта ці нешта, здаецца, недзе стукае?* Т, 32. [Мікіта]: *Ужо нават едзе і старшыня Беларускага Рэўкому Чарвякоў – толькі затрымаўся недзе. за Менскам на папаску.* Там жа, 55. Дз, 190; Т, 46, 58.

**2.** Некуды. *Вас* [беларусаў] *бізуном паны частавалі* [у Заходняй Беларусі], *Ад бед схавацца вам было недзе.* ССА, 294.

**3.** Невядома куды; кудысьці. *Цябе чакаем, будучыні нейкай, Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш.* Бч, 9. *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зпліжаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51. Т, 45.

**НЕЗАБЫТЫ** (2) *прым.* **1.** Запамінальны. *Стань* [брат-беларус], *нахіліся над ракой. Ў плакучы ўгледзься пералівы: Ў іх адаб'еецца воклік твой, І ўбачыш незабыты дзівы.* БрБ, 6.

**2.** Які захаваўся ў памяці. *Першы брат ад яе* [судзьбіны] *меў наказ незабыты..* Ч, 322.

Адз. м. Н. *незабыты*: Ч, 322. Кар. мн. В. *незабыты*: БрБ, 6.

**[НЕЗАБЫЎНЫ]** *прым.* Такі, што нельга забыць. *Не дзіва, што многа жалю, многа смутку і жальбы было ў маіх* [Купалы] *песнях, бо незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.* ЖН. *Параўн.* непазбыты.

Адз. н. Н. *незабыўнае*: ЖН.

**НЕЗАВОДНЕ** *прысл. Польск.* Несумненна; безумоўна. [Заходні вучоны]: (*запісваючы ў нататкі, голасна*). *Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральской.* Т, 26.

**НЕЗАДОЎГА** (2) *прысл.* У хуткім часе, хутка. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, прымыкуйце закуску, бо незадоўга і госці збяруцца.* Т, 21. [Мікіта]: *На зло ім* [людзям] *незадоўга пераходжу яшчэ на адну свабодную профэсію.* Там жа, 36.

**НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ** (33) і **[НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ]** (8) *ж.* Дзяржаўная самастойнасць, суверэнітэт. *І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму* [беларускаму] *народу.* Нз, 15. *Ня падаючы духам, мы павінны ісьці праз жыцьцё ў гэты новы год і моцна трымаць сьцяг змаганьня за незалежнасьць сваёй бацькаўшчыны Беларусі.* СНБ. *Параўн.* незалежніцтва.

**Незалежнасць. Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год**.

Адз. Н. *незалежнасць* (7): Бч, 9; ГП, 8; Нз 14 (4), 15. Р. *незалежнасці* (9): МІ, 17; Нз, 14 (2), 15; НДН, 18; ПС; СНБ, 336, 337, 339; *незалежнасьці* (4): СНБ (4). В. *незалежнасць* (8): БВ, 16 (2); МІ, 17; Нз, 14 (2); НДН, 18; ПЛП; СНБ, 340; *незалежнасьць* (4): СНБ (4). Т. *незалежнасцю*: СНБ, 337. М. *незалежнасці* (6): Нз, 14 (2); НДН, 18; ПЛП; СНБ, 339, 340. Мн. Р. *незалежнасцей*: БВ, 16. Т. *незалежнасцямі*: БВ, 16.

**[НЕЗАЛЕЖНІЦТВА]** *н. Разм. Тое, што* незалежнасць. *Прасякнуты нацыянал-дэмократычнай заразай, прышчэпленай мне нашаніўскім пэрыодам маёй літаратурнай працы, калі я* [Купала] *стаў быў адным з ідэолёгаў буржуазна-дэмократычнага адраджэнцтва і "незалежніцтва", я і пасля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся .. абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнага асяродзішча..* АЛ.

Адз. Р. *незалежніцтва*: АЛ.

**[НЕЗАЛЕЖНЫ]** (20) *прым.* **1.** Самастойны, свабодны. *Частка яго* [жыдоўства] *пойдзе сваею незалежнаю сьцежкаю, але частка напэўна адколецца і далучыць свае галасы* [на выбарах] *да расійцаў..* ВМР. *Дык больш самачыннасьці, больш сьмеласьці к будаваньню свайго новага незалежнага жыцьця.* БС.

**2.** Суверэнны. *Калі заглянуць у далёкую мінуўшчыну, у тые часы, калі існавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава, – мы з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць – ці быў тады гымн нацыянальны ці ня быў.* СБНГ. *..бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь, .. то падносілі, то таптлі найменшыя праявы беларускага нацыянальнага духу.* СНБ.

**Незалежная дзяржава і яе народы.**

Адз. ж. Н. *незалежная* (2): Нз, 14; НДН, 18. Р. *незалежнай*: МІ, 17. В. *незалежную* (6): БВ, 17; СБНГ; СНБ, 338, 339; СНБ (2). Т. *незалежнаю*: ВМР. М. *незалежнай* (2): НДН, 19 (2). н. Р. *незалежнага* (4): БС (2); БСУ; СНБ, 336. В. *незалежнае* (3): Нз, 14; СНБ, 337; УПУВ. Мн. В. *незалежные*: СНБ.

**[НЕЗАМЕНЕНЫ]** (2) *прым. Разм.* Незаменны, незамянімы. .. ["Мэтодыка арытметыкі" Лукашэвіча і Валасковіча] *павінна стацца незамененай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытметыку.* ВСп, 89. *А "Практычныя граматыкі" Я. Лёсіка ўжо зрабіліся незамененымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзяніна, які захоча акуратна пазнаць і вывучыць сваю мову.* Там жа.

Адз. ж. Т. *незамененай*: ВСп, 89. Мн. Т. *незамененымі*: ВСп, 89.

**[НЕЗАСЛУЖАНЫ]** *прым.* Несправядлівы. *Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная.* СЧ.

Адз. ж. Н. *незаслужаная*: СЧ.

**НЕЗВЫЧАЙНЕ** *прысл. Польск.* Выключна. [Заходні вучоны]: *Мова ойчыста* [Януша Здольніцкага] *– огульно-польска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.* Т, 26.

**НЕЗВЫЧАЙНЫ** (8) і **НЯЗВЫЧАЙНЫ** *прым.* **1.** Выключны. .. *супрацоўнікамі в-ва* ["Адраджэньне"] *зьявіліся тыя людзі, якія, казаў той, працавалі не за страх, а за совесьць. І разумеецца,*

*рэзультат працы нязвычайны.* ВСп, 91. [Гануля]: *Незвычайные вы* [Янка і Аленка] *людзі, калі яшчэ можаце сягоння хваліцца шчасцем.* Т, 53. // Вельмі моцны па сіле праяўлення. *Шкодніцтва, дыверсія, шпігоўства, інтэрвенцыя – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя, абы толькі ўзарваць пяцігадовы план, які ажыццяўляецца нячуваным уздымам і захапленнем рабочай клясы.. Адгэтуль незвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы..* АЛ. *Параўн.* необыкновенный.

**2.** Асаблівы. *На сход, незвычайны свой сход, Да новых нявіданых дзён Ідзе наш совецкі народ З далёкіх і блізкіх старон.* ТП, 217.

**3.** Непрывычны. *Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі.* Кз, 17.

Адз. м. Н. *незвычайны*: Т, 48; *нязвычайны*: ВСп, 91. Д. *незвычайнаму*: Кз, 17. В. *незвычайны*: ТП, 217. н. Н. *незвычайнае*: АЛ. Мн. Н. *незвычайныя* (2): Т, 53 (2). В. *незвычайныя* (2): ЖН; ПСп.

**НЕЗДАВАЛЬНЕНЬНЕ** *н.* Непрыязь, неадабрэнне чаго-н. *..мы чакаем таго, каб яна* [Польшча] *зазначыла сваю політыку на Беларусі, бо час не чакае, нездавальненьне расьце з кожным днём..* ОШМ. *Параўн.* нездавольства.

Адз. Н. *нездавальненьне*: ОШМ.

**[НЕЗДАВОЛЕНЫ]** *прым. У знач. вык.* Незадаволены. *Мы памятаем, як польская соймавая камісія была вельмі нездаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ею ужыў слова окупацыя.* ОШМ.

Кар. адз. ж. Н. *нездаволена*: ОШМ.

**НЕЗДАВОЛЬСТВА** *н. Разм. Тое, што* нездавальненьне. *Так расьце нездавольства ў сыноў чарадзея – Ў іх саміх і на іх, на ўсім сьвеце..* Ч, 321.

Адз. Н. *нездавольства*: Ч, 321.

**НЕЗМЕРНЕ** *прысл. Польск*. Празмерна. [Заходні вучоны]: *Незмерне пану вдзенчны естэм.* Т, 27.

**[НЕЗНАЁМЕЦ]** *м.* Незнаёмы чалавек. – *Скажы: скуль ты? якому сонцу Твая паклон б'е старана? – Зьвярнуўся так да незнаёмца Прыбочнік верны Пяруна.* УрП, 51.

Адз. Р. *незнаёмца*: УрП, 51.

**НЕЗНАЁМЫ** (2) *прым.* **1.** *У знач. вык.* Невядомы. *Хор* [Тэраўскага] *запеяў нейкую песьню – якая азначала на афішах: "беларускі гымн", але мэлёдыя была незнаёмая, і ніхто ня ўстаў, абражаючы гэтым, як бы здавалася, гонар беларускай нацыі.* СБНГ.

**2.** *У знач. наз.* Чужы чалавек. *Лёг незнаёмы на пасьцелі, На тэй, дзе ўсе на той сьвет шлі.* УрП, 52.

Адз. м. Н. *незнаёмы*: УрП, 52. ж. Н. *незнаёмая*: СБНГ.

**[НЕЗНАЎШЫ]** *дзеепрысл. да* не знаць. *Руск.* Не ведаўшы. *Хто там стогне на ўзьмежку, На капцы ў полі? Як згубіўшы к долі сьцежку, Як незнаўшы долі.* Дз, 187.

**[НЕЗРАЗУМЕЛЫ]** *прым.* Які цяжка, немагчыма зразумець; няясны. *..вельмі ўжо многа гэтых тэрмінаў чужаземных, якія былі незразумелымі, так і засталіся – іх толькі перапісалі беларускімі літарамі ..* ВСп, 89. *Параўн.* незрозумялы, непонятный.

Мн. Т. *незразумелымі*: ВСп, 89.

**[НЕЗРАЎНАНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* непараўнаны. *Я* [Купала] *з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру, незраўнанаму будаўнічаму новага светлага жыцця тав. Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну ..* ШБСЯ.

Адз. м. Д. *незраўнанаму*: ШБСЯ.

**[НЕЗРОЗУМЯЛЫ]** *прым. Польск. Тое, што* незразумелы. [Заходні вучоны]: *Мова ойчыста* [Януша Здольніцкага] *– огульно-польска, незвычайне ўдосконолёна, ено з велькон домешком незрозумялых слув.* Т, 26.

Мн. Р. *незрозумялых*: Т, 26.

**[НЕІСЧЫСЛІМЫЙ]** *прым. Руск.* Незлічоны. [Поп]: *Ох, дзелеса-чудзеса! Прогрэшэнія нашы неісчыслімыя. Навожджзяху оне на себя возмездзіе необозрымое.* Т, 37.

Мн. Н. *неісчыслімыя*: Т, 37.

**НЕЙКІ** (48) і **[НЕЯКІ]** *займ.* **1.** Невядома які; незнаёмы. *У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.* УрП, 51. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны, паходзіць з дробных засцянковых арандатараў, выгнаных нейкім польскім князем з зямлі.* А, 327. // Няясны, незразумелы. *Вецер блытаў валасы* [хлопчыка] *ночкай І нейкія словы спяваў..* ВБЛ, 81. // Якісьці. *.. у душы маёй* [Купалы] *заўсёды быў нейкі пякельны разлад.* А, 328. *Супрацоўнікі зірнулі на мяне з нейкай літасцяй, як бы хацелі даць мне капейку на хлеб.* Ан, 19.

**2.** *Пагардл.* Вядомы [Гануля]: *Служыў* [Мікіта] *у камісарыяце паліцыі нейкім там разночыкам..* Т, 57. [Мікіта]: *Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларускі язык..* Там жа, 48.

**3.** Не вызначаны дакладна [час]. *Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла.* АБ, 16. *На Вялікдзень палякі забралі Вільню. Па нейкім часе удалося там склікаць Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.* СНБ.

Адз. м. Н. *нейкі* (11): А, 328 (2); Бч, 9; БН, 92; Т, 31, 34, 41, 45; ПТ, 208; УрП, 51 (2). Р. *нейкага* (3): АБ, 16; Т, 20, 45. Д. *нейкаму*: Т, 45. В.

*нейкі* (2): Т, 45, 48. Т. *нейкім* (2): А, 327; Т, 57. М. *нейкім*: СНБ. ж. *нейкая* (8): СБНГ; СНБ, 338; Т, 34 (4), 55; $Ш_4$. Р. *нейкай*: Бч, 9 В. *нейкую* (2): СБНГ; Т, 50. Т. *нейкай* (2): Ан, 19; АЛ. М. *нейкай*: Т, 57. н. Н. *нейкае* (5): НДН, 18; Т, 20, 35, 43, 45; *неякае*: УрП, 47. Р. *нейкага* (2): БС; Т, 20. Д. *нейкаму*: Т, 48. М. *нейкім*: ХЛБ. Мн. Н. *нейкія* (5): ВБЛ, 81; Т, 20, 48, 60; ХЛБ. В. *нейкія*: Т, 57.

**НЕКАЛІ** (3) *прысл.* Калісьці, даўно. *Сумна мне* [Нёману], *што ўсё тут іначай Некалі бераг мой бачыў і знаў..* Н. *Мамкай служыла я* [маці] *на сваё ліха Некалі ў пані, так, з ласкі, задарма.* Мц, 75. АЛ.

**НЕКАЛЬКІ** (14) *ліч.* Няпэўная колькасць. *У нашы ўжо часы* (*пасля 1905 г.*) *з'явілася на сьвет божы некалькі беларускіх гымнаў, такой ці іншай ідэёвай і мастацкай вартасьці.* СБНГ. *Я, каб доўга не гаварыць, сеў і напісаў некалькі радкоў.* Ан, 18.

Н. *некалькі* (6): ВСп, 90; ПЛП; СБНГ; Т, 33 (2), 45. Р. *некалькіх* (3): ВСп, 91; Т, 43 (2). В. *некалькі* (5): Ан, 18; ВСп, 90; Кз, 17; Т, 31, 48.

**[НЕКАТОРЫ]** (12) *займ.* **1.** Нейкі, дакладна не вызначаны. *У 1890 г. ён* [бацька Купалы] *развітваецца часова са становішчам найміта ў маёнтках і пераязджае ў Мінск, дзе купляе каня і ездзіць некаторы час фурманам.* А, 328.

**2.** *толькі мн.* Паасобныя з агульнага ліку. *Краіна* [Чэхаславакія] *ўзгоркаватая, нагадвае некаторыя раёны нашай Беларусі.* ПЧ. *"Істіно-польскіе" дэпутаты ад нашаго краю падалі ў Думу запрос, чаму ў некаторых школах, дзе вучацца каталікі-беларусы, ім выкладаюць рэлігію не па польску, а па расейску?* ВР. *Параўн.* нектуры.

Адз. м. В. *некаторы*: А, 328. Мн. Н. *некаторыя* (4): ВСп, 89; ПЧ; Т, 53, 55; *некаторые*: РКр. Р. *некаторых* (2): ВН; Т, 41. В. *некаторыя*: НДН, 18; *некаторые*: ВН. М. *некаторых* (2): АЛ; ВР.

**[НЕКТУРЫ]** *прым. Польск. Тое, што* некаторы *ў 2 знач.* [Заходні вучоны]: *Для взбогацэня нашэй ведзы польскей потшэбнэ сон ешчэ нектурэ шчэгулы о нібы вашым* [беларускім] *краю.* Т, 47.

Мн. Н. *нектурэ*: Т, 47.

**НЕКУДЫ** *прысл.* Кудысьці, недзе. *..ўсё маё жыццё любаваўся-б* [С. Меч] *гэтымі ляснымі дарожкамі, бягучымі некуды ў цень паміж соснаў..* ХБ, 29.

**[НЕЛЕГАЛЬНЫ]** (2) *прым.* Падпольны, забаронены. ..[барацьба за вызваленьне] *і ў гэты пэрыод, хоць прыдушана, але хвалявалася, узбуралася ў імкненьнях і парывах працоўных мас (нелегальная рэволюцыйная літаратура, забастоўкі і гэтак далей).* АЛ. *Нелегальная літаратура, якую я* [Купала] *тады чытаў, была прасякнута нянавісцю да царызма і любоўю да свабоды і незалежнасці.* ПС.

Адз. ж. Н. *нелегальная* (2): АЛ; ПС.

**НЕМАВЕДАМА** (2) *прысл.* Невядома, незразумела. [Ганўля]: *Сцягнулі гвалтам з вышак і немаведама куды б зацягнулі* [Мікіту]. *Але, на шчасце, заступілася мамзэль Наста і сяк-так выпутала з гэтай бяды.* Т, 46. [Ганўля]: *А хай бы лепей не складалі* [візыту], *а то скачы перад імі* [гасцямі] *немаведама як!* Там жа, 22.

**НЕМАЛА** (4) і **НЯМАЛА** (3) *прысл.* Даволі многа. *У абчэственных магазынах ёсьць немала у запасе уселякага збожа.* ВС. *Трэба, трэба дзён нямала тысяч з беларускім сэрцам, думай Мерыць сьветы, каб вышэй узвысіць Вызваленьне наша з глуму.* Тр. ВНЗ; КП, 170; НДп; ПН, 46; ШБСЯ.

**[НЕМАЛЫ]** *прым.* Даволі вялікі, значны па велічыні, памерах, колькасці. [Заходні вучоны]: (*запісваючы ў нататкі, голасна*). *Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральскей.* Т, 26.

Адз. ж. Т. *немалон*: Т, 26.

**[НЕМАРАЧ]** *ж. Абл.* Глухое месца. *А нашы дарогі! Праз немарач, нетры, На радасць людскую, як стрэлы, ляглі.* ПБН.

Адз. В. *немарач*: ПБН.

**НЕМЕЦ** (41) *м.* Прадстаўнік нямецкага народа. [Ганўля]: *Хто ён* [Спічыні] *родам – напэўна не ведаю. Але сам ён кажа, што ён немец, людзі кажуць, што італьянец, мне здаецца, што ён проста, як і мы, тутэйшы.* Т, 31. *Мікіта дастае партманэ, а з яго грошы і на мігі паказвае немцу, каб купіў.* Там жа, 42. // *У знач. мн.* Немцы. *Немец гаспадарыў, як сам хацеў над намі, над нашым дабром – ня горай навет ад царскіх і бальшавіцкіх гаспадароў, а мы* [беларусы] *што рабілі?* БС. *Прадавалі немцу, Немцу ды японцу Нашую радзіму, Долі нашай сонца.* МПв, 218.

Адз. Н. *немец* (26): БС; Т, 19 (2), 31, 32 (9), 33 (5), 41 (4), 42 (4). Р. *немца* (6): Т, 32 (3), 33 (2), 42. Д. *немцу* (4): МПв, 218 (2); Т, 34, 42. В. *немца* (3); Т, 31, 34 (2). Т. *немцам* (2): Т, 33, 41.

**[НЕМКА]** *ж. Жан. да* немец. [Спічыні]: *А цяпер, як вы* [Мікіта] *прывітаеце* [па-нямецку], *спаткаўшы немку?* Т, 31.

Адз. В. *немку*: Т, 31.

**НЕМЦЫ** (30) *мн.* **1.** Народ асноўнага насельніцтва Германіі. *Вычытаў ён* [рэдактар] *у сваей-жэ газэці, што ў Прусах Заходніх бязбожнікі немцы вучаць дзяцей-палякаў па-нямецку; забараняюць бедным чытаць і маліцца Богу у сваей роднай мове.* ЧЧШ. *У Бельгіі таксама кіпіць работа ў гэтым напрамку* [па адбудове краіны], *якой прымушаны дапамагаць немцы, – а ў нас?..* АБ, 16.

**2.** *перан.* Акупанты. *Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасьне на яе аграбленые абшары з вялікім разгонам рынуліся з усходу – расійскія бальшавікі, з захаду – польскія нацыяналісты.* СНБ. [Дама]: *У мяне з'явілася цудоўная ідэя: той*

*вечар у вас* [Мікіты] *на імянінах, перад выхадам немцаў, такое мілае ўражанне пакінуў, што я вельмі была шчаслівай, каб сягоння яго паўтарыць.* Т, 51. // Гітлераўцы. *Мне мамку зарэзалі немцы, Сястрычку спалілі жыўём, Дык хай-жа кроў чорная льецца, Іх псіная кроў ручаём.* ХЛВ, 315. *Бліскуча распрацаваная немцамі спаднічная аперацыя бліскуча правалілася.* ПСп.

Н. *немцы* (22): АБ, 16; БС (2); ПСп (2); СНБ, 337, 338; СНБ; Т, 24 (3), 28, 31 (3), 32, 35, 37, 46, 48; ХЛВ, 315; ЧЧШ. Р. *немцаў*: Т, 51. Д. *немцам*: Т, 41. В. *немцаў* (2): ОШМ; Т, 28. Т. *немцамі* (3): ПСп; СНБ, 337; Т, 57. М. *немцах*: Т, 24.

**[НЕМЧАНЁ]** *н. Разм.* Нямецкае дзіця. [Спічыні]: *А як вы* [Мікіта] *прывітаеце, спаткаўшы вось такое ...* [паказвае] *малое немчанё?* Т, 31.

Адз. В. *немчанё*: Т, 31.

**НЕМЧЫК** *м. Ласк. да* немец. [Гануля]: (*ломячы рукі, да немца*). *А мой жа паночак, а мой жа немчык! Не бяры ў мяне апошняга Мікітку.* Т, 32.

Адз. Н. *немчык*: Т, 32.

**НЕНАВІДЗЕЦЬ** *незак.* Адчуваць нянавісць да чаго-н. *Хіба можна вымагаць, каб турэцкі янычар падаў голас за хрысьціяніна, калі яго навучылі ненавідзець хрысьціянства.* ДК.

Інф. *ненавідзець*: ДК.

**[НЕНАВІСНЫ]** *прым.* Які выклікае нянавісць, агіду. *..яны* [беларускія нацыянал-дэмократы] *добра ведалі, што ня ўласнымі сіламі, а толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвенцыі змогуць зьнішчыць ненавісную ім дыктатуру пролетарыяту.* АЛ.

Адз. ж. В. *ненавісную*: АЛ.

**НЕНАГЛЯДНЫ** *прым.* Дарагі, любы, мілы. [Мікіта]: *Оей! гэр гэрманіш, кіндар фатэрлянд! балабостачка мой ненаглядны! Не губі маёй маладосці – не бяры ў палон!* Т, 33.

Адз. м. Н. *ненаглядны*: Т, 33.

**[НЕНАСЫТНАСЦЬ]** *ж.* Прагнасць. *На чале "чрэзвычайкі" стаў не Яркін, вядомы Ў Смаленску сваёй крывавай ненасытнасцю, а нейкая другая асоба.* СНБ, 338.

Адз. Т. *ненасытнасцю*: СНБ, 338.

**[НЕОБОЗРЫМЫЙ]** *прым. Руск., перан.* Такі, што цяжка ўявіць; страшэнны. [Поп]: *Ох, дзелеса-чудзеса! Прогрэшэнія нашы неісчыслімыя. Навождзяху оне на себя возмездзіе необозрымое.* Т, 37.

Адз н. В. *необозрымое*: Т, 37.

**НЕОБХОДЗІМО** *прысл. Руск.* Неабходна. [Усходні вучоны]: *Необходзімо почэрпнуць от вас* [Янкі] *сведенія касацельно церрыторыяльных данных обласці, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38.

**[НЕОБЫКНОВЕННЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* незвычайны *ў 1 знач.* [Усходні вучоны]: (*запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным*). *Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенносць, а іменно: вопрэкіісторычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

Адз. ж. В. *необыкновенную*: Т, 26.

**[НЕОПАЛІМЫ]** *прым.*: **• Мацер неопалімыя купіны** *гл.* мацер.

Мн. Н. *неопалімыя*: Т, 38.

**[НЕПАГОДА]** (2) *ж.* Непагадзь. *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмана, у цёмную даль, Толькі ў часе глухой непагоды З берагу Нёман не выйдзе амаль.* Н. *Гэтакі ў часе глухой непагоды чуецца ў Нёманавай гутарцы жаль.* Там жа.

Адз. Р.*непагоды* (2): Н (2).

**[НЕПАГОДНЫ]** *прым. перан.* Цяжкі, змрочны. *Сьціхнуць віры, заціхне пара непагодная, Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыцьцю.* Б, 18.

Адз. ж. Н. *непагодная*: Б, 18.

**НЕПАДАЛЁК**[1] *прысл.* Паблізу. *..Гануля, закасаўшы рукі, мые бялізну ў начоўках, нападалёк сядзіць Гарошка, пыхкае люльку.* Т, 43.

**НЕПАДАЛЁК**[2] (2) *прыназ. з Р.* Указвае на блізкі прадмет ці месца. *Непадалёк ад паняў такі самы тавар прадае Гануля.* Т, 33. *Нарадзіўся я* [Купала] *25 чэрвеня* (*старога стылю*) *1882 г. непадалёк ад Радашковіч, былога Вілейскага павета, у фальварку Вязынка.* А, 327. *Параўн.* недалёка.

**[НЕПАДЗЕЛЬНАСЦЬ]** (2) *ж.* Уласцівасць непадзельнага *ў 2 знач. .. у* [адозве Пілсудскага] *.. былі намёкі на незалежнасць і непадзельнасць Беларусі.* СНБ, 340. [Мікіта]: *.. і па-беларуску, як я пераканаўся, можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, меджду протчым, імпэрыі.* Т, 56.

Адз. В. *непадзельнасць*: СНБ, 340. М. *непадзельнасці*: Т, 56.

**[НЕПАДЗЕЛЬНЫ]** (2) *прым.* **1.** Адзіны, агульны. [Мікіта]: *Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы.* Т, 48.

**2.** Нераздзельны. [Мікіта]: (*дастаючы другі партфель*). *А ў гэтым, меджду протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы, загады, рэзолюцыі, інструкцыі аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў, усіх нацый і паднацый, усіх народаў і паднародаў, усіх моваў і падмоваў у нашай ядынай і непадзельнай Літбеларускай рэспубліцы.* Т, 46.

Адз. м. В. *непадзельны*: Т, 48. ж. М. *непадзельнай*: Т, 46.

**[НЕПАДКУПНЫ]** *прым.* Чэсны. *Вы – непадкупныя суддзі, Што ж яшчэ хочацца Вам?!* ЁЯ.

Мн. Н. *непадкупныя*: ЁЯ.

**[НЕПАЗБЫТЫ]** *прым. Разм. Тое, што* незабыўны. *Каб таму па локаць адсушыла рукі І аб сценку біўся Ад балеснай мукі, – Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты, Задаваў вужача Раны непазбыты.* К.

Кар. мн. В. *непазбыты*: К.

**НЕПАМЕРНА** *прысл. да* непамерны. *Купляюць спекулянты* [маёмасць] *з мэтай перапрадаць яшчэ даражэй другому спекулянту, купляюць "цёплыя мужычкі" – багатыры, буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэволюцыю на гарадскім галадаючым насяленні.* ЗС, 18.

**[НЕПАМЕРНЫ]** *прым.* Празмерны. *Дзьве, сказаў-бы непамерные сілы змагаюцца цяпер паміж сабой за панаваньне над народнымі ідэяламі на ўсім сьвеце: .. Гэта – рэволюцыя нацыянальная і рэволюцыя социяльная.* СНБ.

Мн. Н. *непамерные*: СНБ.

**[НЕПАКОРА]** *м. Разм.* Такі, якога немагчыма скарыць. *Ці то сушы, ці то моры, Ці то высі паднябесся, Усюды стрэнеш непакораў – Комсамольцаў нашых з песняй.* СА, 179.

Мн. В. *непакораў*: СА, 179.

**[НЕПАРАЎНАНЫ]** *прым. Разм.* Непараўнальны. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях, гэта нябачнае цуда, створанае рукамі большэвікоў чэкістаў па ініцыятыве геніяльнага правадыра пролетарыята непараўнанага будаўніка тав. Сталіна.* ЦСБ. *Параўн.* незраўнаны.

Адз. м. Р. *непараўнанага*: ЦСБ.

**[НЕПАРАДАК]** *м.* Беспарадак. [Гарошка]: *А там – помніш – у дзевяцьсот пятым годзе пайшлі забастоўкі ды іншыя непарадкі.* Т, 44.

Мн. Н. *непарадкі*: Т, 44.

**НЕПАРУШНА** *прысл.* Нерухома. *.. я* [Купала] *спыніў-бы яго* [вечар] *ды зрабіў яго бясконцым, і ўсё маё жыцьцё любаваўся-б гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што аж гараць на фоне сасновага бору і стаяць непарушна, бы заварожаныя спакойнаю урачыстасьцю заходу сонца.* ХБ, 29.

**[НЕПАРУШНЫ]** *прым.* Магутны. *Наша зямля святая і непарушная.* ВГ.

Адз. ж. Н. *непарушная*: ВГ.

**[НЕПАТРЭБНЫ]** (4) *прым.* Лішні. *Вось жа усе тые, што асталіся дома, .. павінны аткінуць ат сябе усякую слабасьць душы і цела, усякую непатрэбную трывогу, ды дружнаісьці да працы на сваіх загонах..* РКр. *Яны* [земляробы] *назіраюць толькі сумным вокам, як гэта .. зямля пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* ЗС, 18. // *У знач. вык.* [Мікіта]: *Меджду протчым, пане беларус, мне ваш* (*з націскам*) *"дэмократычны" язык непатрэбен, калі я маю свой, меджду протчым, мацярынскі рускі язык.* Т, 49. [Спраўнік]: *Па-мойму, таксама універсітэт непатрэбен, бо завядуцца студэнты, а з імі заўсёды столькі для поліцыі клопату.* Там жа, 27.

Адз. ж. В. *непатрэбную*: РКр. Мн. Р. *непатрэбных*: ЗС, 18. Кар. адз. м. Н. *непатрэбен* (2): Т, 27, 49.

**[НЕПАЎНАЛЕТНІ]** *прым.* Які не дасягнуў паўналецця. *Ён* [пан] *і дачку мне маю абясчэсціў Непаўналетнюю, дзеспат пракляты.* Бц, 74.

Адз. ж. В. *непаўналетнюю*: Бц, 74.

**[НЕПАЧУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* не пачуць. Які не пачулі; на які не адазваліся. *.. гэты лозунг, які мы бачым сваімі вачыма, не прайшоў непачутым.* СНБ, 336.

Адз. м. Т. *непачутым*: СНБ, 336.

**[НЕПАХІСНЫ]** *прым.* Надзейны. *Дружба* [Фінляндыі] *з магутным усходнім суседам Будзе граніц непахіснаю стражай..* Ф.

Адз. ж. М. *непахіснаю*: Ф.

**НЕПЕРАМОЖНА** *прысл. да* непераможны. *Рэволюцыя 1905 года страсянула царызм, запаліла ярка і непераможна надзею на свабоду ..* ЖН.

**НЕПЕРАМОЖНЫ** (4) *прым.* Які нельга перамагчы. *Слава іх* [бясстрашных сыноў народа] *радуе сэрцы мільёнаў і заклікае да такога-ж гераізму, да такой-жа барацьбы са стыхіяй на карысць нашай непераможнай сонечнай радзімы, на карысць усяго чалавецтва.* СБ. *Выраслі і далей растуць і гартуюцца непераможныя будаўнікі бяскласавай соцыялістычнай грамады.* ШБСЯ.

Адз. м. Н. *непераможны*: ДЖ. ж. Р. *непераможнай*: СБ. М. *непераможнай*: ЦСБ. Мн. Н. *непераможныя*: ШБСЯ.

**[НЕПОНЯТНЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* незразумелы. [Усходні вучоны]: *Родной язык* [Іоана Здольнікова] – *общерусскій, веліколепно усовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов.* Т, 26.

Мн. Р. *непонятных*: Т, 26.

**[НЕПРАГЛЯД]** *м. Наватв.* Перашкода. *Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе Важны ўзносіўся хорам-сталіца, Чорнабожнік над ім непрагляды завесіў, Каб нялёгка было прыступіцца.* Ч, 321.

Мн. В. *непрагляды*: Ч, 321.

**[НЕПРАГЛЯДНЫ]** *прым. перан.* Бязрадасны, гаротны. *Закалыхалося тады магутнае балото расійскай непрагляднай сучаснасьці, закалыхалося і ... прыціхло.* З.

Адз. ж. Р. *непрагляднай*: З.

**[НЕПРЫЕМНЫ]** *прым.* Які выклікае разгубленасць, збянтэжанасць. *Непрыемная паўза. Усе пераглядаюцца паміж сабой.* Т, 28.

Адз. ж. Н. *непрыемная*: Т, 28.

**НЕПРЫЯЦЕЛЬ** і **[НЯПРЫЯЦЕЛЬ]** м.: Δ **Непрыяцель-вораг**: *Гэй, выходзь, бяда, Гэй, выходзь, хто нам – Непрыяцель-вораг..* ВБ. **Няпрыяцель-брат:** *Сотні лет, няпрыяцелем-братам прыбітая, Зарастаючы зельлем чужым, як лазой сенажаць, Ты ляжала няпамяці пылам пакрытая, А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.* Б, 18.

Адз. Н. *непрыяцель*: ВБ. Т. *няпрыяцелем*: Б, 18.

**[НЕРАЗБЛЫТНЫ]** *прым.*: Δ **Распасьціраць павучыные, неразблытные сеці** *гл.* распасьціраць.

Мн. В. *неразблытные*: З.

**[НЕРАЗГАДАНЫ]** *прым. перан.* Нязведаны, няведомы. *Хто наперадзе са сцягам, На якім красуе Сталін, Пакарыў сваёй адвагай Неразгаданыя далі?* СА, 178.

Мн. В. *неразгаданыя*: СА, 178.

**[НЕРАЗУМНЫ]** (2) *прым.* Разумова абмежаваны. *Мы пішам гэта дзеле таго, каб польская ўлада паклапацілася выясьніць палажэньне, каб яна супыніла сваіх неразумных урадпікау, каторые падсякаюць той сук, на каторым свядзяць..* ОШМ.

**2.** Непрадуманы. *Сваёй неразумнай захватнай політыкай яны* [соцыяльныя рэволюцыянеры] *толькі зацягіваюць процэс праўдзіва-дэмократычнага разьвіцця нацыянальна-культурных ідзей і пашырэньне на зямлі нясьмертных ідэялаў свабоды, роўнасьці і брацтва.* СНБ.

Адз. ж. М. *неразумнай*: СНБ. Мн. В. *неразумных*: ОШМ.

**НЕРАЗЬБЯРЫХА** *ж. Разм.* Няяснасць. *Бо, папраўдзе кажучы, з беларускім нацыянальным гымнам выходзіць нейкая неразьбярыха, Мы і маем свой гымн і ня маем.* СБНГ.

Адз. Н. *неразьбярыха*: СБНГ.

**[НЕРАЗЬВІТЫ]** *прым.* Недасканалы. *..мы – "рускіе дэмократы" заусёды стаялі і стаім за раунапрауе усіх народау, якіе жывуць у матушцы-Расіі, але вы беларусы – ісконі рускіе людзі з сваім неразьвітым языком, можаце і нашай культурай карміцца, але калі так хочаце – можна і вам даць правы, але толькі у ... сенях.* З.

Адз. м. Т. *неразьвітым*: З.

**НЕРАЎНУЮЧЫ** *дзеепрысл. да* не раўнаць. *Разм.* Непараўноўваючы. [Янка]: *Паддаецца эвакуацыі ў сягонешні час толькі той,*

*у каго або нячыстае сумленне, або ён сядзеў тут з боку-прыпёку, нераўнуючы, як пустазелле на сялянскайградзе.* Т, 37.

**[НЕСАМАВІТЫ]** *прым.* Не зусім добры; дрэнны. [Наста]: *Вывешвайце хутчэй праз акно чырвоны сцяг. У падобных несамавітых сытуацыях такое часам памагае.* Т, 59.

Мн. М. *несамавітых*: Т, 59.

**НЕСВЯДОМА** *прысл.* Неўсвядомлена. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пролетарыятам эпосе.* ЖН.

**НЕСВЯДОМАСЦЬ** і **[НЕСЬВЯДОМАСЬЦЬ]** *ж.* Бессвядомасць. [Янка]: *Значыцца, вы цвёрда пастанавілі дабівацца сабе гэтай новай кар'еры? Баюся я толькі, каб вы не вышлі на ёй, як залетась на аратарстве, прытым ваша поўнае дагэтуль ігнараванне гэтай справы й несвядомасць...* Т, 56. *На што мучыць яго* [беларускі народ], *на што выстауляць на зьдзек яго нацыянальную несьвядомасьць.* ДК.

Адз. Н. *несвядомасць*: Т, 56. В. *несьвядомасьць*: ДК.

**НЕСВЯДОМЫ** *прым.* Пазбаўлены класавай свядомасці. [Мікіта]: *Я не зусім такі ўжо несвядомы, меджду протчым, беларус – нават з вашай* [беларускай] *літаратурай знаёмы.* Т, 56.

Адз. м. Н. *несвядомы*: Т, 56.

**[НЕСМЯРОТНЫ]** і **[НЕСЬМЯРОТНЫ]** *прым.* Бяссмертны. *..наш край адзін з прыгажэйшых краёў у сьвеце. Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісаньня харства нашага краю А. Міцкевіча ў яго несьмяротнай паэме "Пан Тадэуш"?* ХБ, 27. [Янка]: *..калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасць, напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: "Амэрыка для амэрыканцаў".* Т, 35.

Адз. ж. М. *несьмяротнай*: ХБ, 27. Мн. В. *несмяротныя*: Т, 35.

**НЕСПАДЗЕЎКА** (3) *ж. Разм.* Неспадзяванасць. [Мікіта]: *Я не зусім такі ўжо несвядомы, меджду протчым, беларус – нават з вашай літаратурай знаёмы.* [Янка]: *Цікава! Цікава! Гэта для мяне неспадзеўка.* Т, 56. [Дама]: (*да Мікіты.*) *Вы, мусье рэгістратар, зрабілі нам сягоння папраўдзе мілую неспадзеўку гэнымі дзвюма пэрсонамі, якія толькі што вышлі.* Там жа, 27.

Адз. Н. *неспадзеўка*: (2): Т, 56, 59. В. *неспадзеўку*: Т, 27

[**НЕСПАДЗЯВАНЫ]** (3) *прым.* Нечаканы, непрадбачаны. [Янка]: *Во, неспадзяванае спатканне. Як маецеся, пане рэгістратар?* Т, 35. [Мікіта]: *Каго я бачу, меджду протчым. Якое мілае, неспадзяванае спатканне!* Там жа, 37.

Адз. ж. Н. *неспадзяваная*: Т, 59. н. Н. *неспадзяванае* (2): Т, 35, 37.

**[НЕСПАКОЙНЫ]** *прым.* Няўрымслівы. [Ануля]: *Ох, неспакойная натура ён* [Мікіта] *у мяне!* Т, 57.

Адз. ж. Н. *неспакойная*: Т, 57.

**НЕСПРАВЕДЛІВА** *прысл.* Няправільна. *Але і навука дзяцей па польску – гэтак сама зусім несправедліва: родная мова нашых селян-каталікоў ня польская, а беларуская.* ВР.

**[НЕСПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ]** *ж.* Несправядлівыя адносіны да каго-н. *Кожны мала-веле справядлівы чэлавек заплачэ над гэткай нямецкай несправядлівасьцю.* ЧЧШ.

Адз. М. *несправядлівасьцю*: ЧЧШ.

**[НЕСТАЧА]** *ж.* Недахоп, недастача. *На першай чарадзе стаіць у нас пытаньне, як забяспечыцца перэд магчымай нестачай харчоў для сябе і для жывёлы.* ВС.

Адз. Т. *нестачай*: ВС.

**[НЕСУМЯШЧАЛЬНЫ]** *прым.* Які не можа існаваць сумесна, адначасова з чым-н. *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, .. бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з інтарэсамі беларускіх працоўных мас і запатрабаваньнямі партыі і савецкае ўлады ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурым будаўніцтве, я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Мн. В. *несумяшчальныя*: АЛ.

**НЕСЦІ** (10) і **[НЯСЬЦІ]** *незак.* **1.** Перамяшчаць, дастаўляць што-н. куды-н. *Даме, Спраўніку, Спічыні і Грамадзяніну* [Начальнік] *дае несці па пары бутэлек..* Т, 62. // Заносіць што-н. куды-н. *Я* [груган] *нясу ў гняздо Сэрца або вока.* Пц. // *перан.* Распаўсюджваць. *Я* [аўтарнік] *вам* [людзям] *нясу другую веру, Я вам нясу багоў другіх..* УрП, 51.

**2.** *перан.* Абвяшчаць. *Ён* [абываталь] *бачыць, што беларушчына нясе новыя парадкі і зьмену усяго таго, з чым ён зжыўся, да чаго прывык і дапасаваў уклад свайго жыцьця..* ВМР. *Палякі, як і бальшавікі, калі верыць адозьве начальніка польскай дзяржавы, нясьлі з сабой вызваленьне Беларусі з вечнага ярма.* СНБ.

◊ **Нялёгкае нясе –** пра непажаданае з’яўленне каго-н. [Мікіта]: *Каго там яшчэ нялёгкае нясе?!* Т, 25. **Несці грудзі** – быць у чыім-н. падпарадкаванні; залежаць ад каго-н. *Адна часьць* [Беларусі] *Варшаве Лізаць ногі будзе, Маскве хай – другая Нясе свае грудзі.* Х.

Інф. *несці*: Т, 62. Абв. цяп. адз. 1 ас. *нясу* (3): Пц; УрП, 51 (2). 3 ас. *нясе* (3): ВМР; Т, 25; Х. Мн. 1 ас. *нясём*: УрП, 48. Пр. адз. м. *нёс*: ПС. ж. *несла*: АЛ. Мн. *нясьлі*: СНБ.

**[НЕСЦІСЯ]** *незак. перан.* Распаўсюджвацца [пра гукі]. *Ракочуць гусьлі звон-у-звон, На мір-сьвет розгалас нясецца..* Кц, 197.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *нясецца*: Кц, 197.

**[НЕСЦІХАЮЧЫ]**[1] (2) *дзеепрым. незал. цяп. да* не сціхаць. Незаціхаючы. *Там* [у Заходняй Беларусі] *не чутно песень вясёлых, адно толькі сумныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок – на ўсход, чака-*

*ючы вызвалення і затоена ловяць вострым вухам шумы трактароў нашых, несціхаючыя гукі нашых фабрык і заводаў.* ЖН. *Пасля паўмінутнай паўзы, пад несціхаючыя гукі песні, паволі апускаецца Заслона.* Т, 62.

Мн. В. *несціхаючыя* (2): ЖН; Т, 62.

**НЕСЦІХАЮЧЫ**[2] *дзеепрысл. да* не сціхаць. Увесь час, пастаянна. *І наўсцяж краінаю, Радасць услаўляючы, Песні салаўіныя Льюцца несціхаючы.* ПЛ.

**НЕСЬВЯДОМАСЬЦЬ** *гл.* **НЕСВЯДОМАСЦЬ**.

**НЕСЬМЯРОТНЫ** *гл.* **НЕСМЯРОТНЫ**.

**НЕТ** *часц. Руск. Тое, што* не *ў 2 знач.* [Гарошка]: (*да Папа*). *А вы бацюшка, таксама за імі* [рускімі] *туды – упрочкі?..* [Поп]: *Нет, чадо моё.* Т, 38.

**[НЕТРЫ]** (3) *мн.* **1.** Непраходныя глухія мясціны. *А нашы дарогі! Праз немарач, нетры На радасць людскую, як стрэлы, ляглі.* ПБН.

**2.** *перан. Разм.* Нечысць, нячысты дух. *Хто пакінуў свой дом на пасьмешышча нетрам, Дом чужы таму будзе астрогам..* Ч, 323. *Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам..* Там жа, 324.

Д. *нетрам*: Ч, 323. В. *нетры* (2): ПБН; Ч, 324.

**[НЕЎГАМОННЫ]** *прым.* Які не змаўкае. [Нёман:] *Чую, а чую цяпер яшчэ ясна Той неўгамонны, расходзісты звон...* Н.

Адз. м. В. *неўгамонны*: Н.

**НЕЎНАМЁК** *прысл. Руск., разм. У знач. вык.* Няўцям. *Як няведаньнем мы багаты, – Гэта маці і неўнамёк, – Можа быць, гэта ён* [хлопчык] *для брата У стрэльбе націснуў курок.* ВБЛ, 82.

**НЕЎНАРАЙ** *прысл. Наватв.* Ненарокам. [Нёман:] *Так, так, мой дружа, іначай бывала, – Не называўся забытым мой край, "Поўнач" не раз у ім схову шукала, "Захад" знаў сілу яго неўнарай.* Н.

**НЕЎПАПАД** *прысл.* Не да месца. *З кійком жабрачым так мы, паўналеткі, Брыдзём, паўзём у свет – срозь неўпапад.* Бч, 9.

**НЕЎСПАДЗЕЎКІ** *прысл. Разм.* Нечакана, раптоўна. *І вось апошняя вайна і рэвалюцыя не застала беларуса неўспадзеўкі.* СНБ, 337.

**НЕХ** (2) *часц. Польск. Тое, што* няхай. *"Gazeta" бармоча: Нех бэндзе ён* [белорус] *ляхам, А "Вестник» – пусць Маскоўскім прот шляхам!* Х. [Спічыні]: *А цяпер, як будзе: не лезь, бо дастанеш поўху?* [Мікіта]: *Нех се пан не наставя, бо достанеш по пыску і ўтонеш в Немідзе.* Т, 49.

**НЕХРЫСЦЬ** *м. Разм.* Бязбожнік. *Адбіваючы тут-жа паклоны плашмя, Нейкі нехрысць крапідлам махае, пяе Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя, І за золата гэта імя прадае...* БН, 92.

Адз. Н. *нехрысць*: БН, 92.

**НЕХТА** (9) *займ.* **1.** Невядома хто. [Спічыні]: *Нехта ці нешта, здаецца, як бы недзе стукае.* Т, 32. *І прысягаем, клічам бога ў сведкі, Што мы – не мы, што нехта вінават.* Бч, 9.

**2.** Мала каму вядомы. *Калі мы жылі у Прудзішчах* (*тады я* [Купала] *быў яшчэ хлопчыкам*), *у нас служыў рабочы нехта Пасляк..* ПС.

**3.** Які-н. чалавек; хто-н. *Гэта-ж ня можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам для нас, як мы самі для сябе.* БС. *..павінны пакінуць мы* [беларусы] *благую прывычку думаць, што нехта прыдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі.* БС.

Н. *нехта* (9): Бч; БС (4); ПЛП; ПС; Т, 32, 43.

**[НЕЦІКАВЫ]** *прым. У знач. вык.* Які не выклікае цікавасці. [Янка]: *А для нас і нецікава і непатрэбна такое знаёмства.* Т, 23.

Кар. адз. н. Н. *нецікава*: Т, 23.

**НЕЧАГА** *безас. У знач. вык.* Не трэба, няма патрэбы. [Янка]: *Ды тут нечага й думаць.* Т, 56.

**[НЕЧУВАНЫ]** (2) *прым.* Небывалы. *На аснове ўсіх нечуваных дасягненняў вырасла і адточваецца адзін з важнейшых сродкаў партыі ў барацьбе за соцыялізм – беларуская мова.* ШБСЯ. *Наша Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, як бы фарпост на рубяжы двух соцыяльных сістэм – развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН.

Мн. Р. *нечуваных* (2): ЖН; ШБСЯ.

**НЕШТА**[1] (15) *займ.* Нейкі прадмет, нейкая з’ява. [Спічыні]: *Нехта ці нешта, здаецца, як бы недзе стукае?* Т, 32. *Слабые душою і целам апускаюць рукі, і .. чэкаюць нечаго негаданаго, благога, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу*. РКр.

Н. *нешта* (6): Т, 20, 30, 32, 35, 41, 43. Р. *нечаго*: РКр. В. *нешта* (7): Ан, 18; АЛ; БС; РКр; Т, 34, 35, 54. Т, 34, 35, 54. Т. *нечым*: Т, 44.

**НЕШТА**[2] *прысл.* Чамусьці, невядома чаму. [Ануля]: *..як відаць з усяго, то ён* [рэдактар Гізульскі], *мусіць, не зусім іхні, бо нешта не збіраецца выязджаць, бо іхнія* [палякі] *амаль ужо ўсе выехалі.* Т, 45.

**[НЕШТОДЗЁННЫ]** *прым.* Незвычайны. [Мікіта]: *Выбачайце за мой нештодзённы выгляд. Мяне толькі што спаткала ў дарозе смешная прыгода.* Т, 58.

Адз. м. В. *нештодзённы*: Т, 58.

**[НЕШЧАСЛІВЫ]** і **НЕШЧАСЬЛІВЫ** (4) *прым.* **1.** Няшчасны. *Шчасьлівы ты, ці нешчасьлівы Будзі сыноў сваей зямлі, Над беларускай соннай нівай Нязгаслы сьветач распалі.* ШН. // *У знач. наз. Зірні-ж, азірніся, шчасьліў, нешчасьлівы І заўтра на поле да сох, як адзін!* В. *А ўспомні-прыпомні, шчасьліў, нешчасьлівы, Аб тых, што ў сьвітаньні на век адыйшлі..* Там жа.

**2.** Няўдалы, непаспяховы. [Мікіта]: *Нешчаслівым для гандлю і мне сягонешні дзень выпаў.* Т, 34.

Адз. м. Н. *нешчасьлівы* (4): В (3); ШН. Т. *нешчаслівым*: Т, 34.

**НЕШЧАСЬЦЕ** *гл.* **НЯШЧАСЦЕ**.

**НЕЯК** (12) *прысл.* **1.** Нейкім чынам, спосабам. [Янка]: *(азіраючыся на пакоі, да Ганулі*). *Але ваша хата, цётачка, неяк змянілася ад таго часу, як я выехаў ад вас..* Т, 45. *Свет там выдумкі хітрыя знае – Троны, кароны, вісельні, кулі, – Выдумаць гэта мы ў сваім краі Неяк мінулі.* Пп, 5. // Чамусьці. [Мікіта]: *..выступаць, меджду протчым, з трыбуны без практычнай лекцыі неяк ні сёе ні тое.* Т, 40. [Янка]: *.. неяк моташна зрабілася аднаму сядзець, дык вось і прыйшоў да вас* [Ганулі] *у госці.* Там жа, 19. ДД; СНБ, 338; Т, 44, 49.

**2.** Аднойчы. *Два дружкі – груган з ваўком Неяк раз сышліся, Важнай гутарцы ўдваём Важна аддаліся.* Пц. *Зайшоў гэта я неяк к рэдактару, папрасіць у яго, це не дасць якой работы.* Ан, 18. Т, 57; Ун, 73.

**НЕЯКІ** *гл.* **НЕЙКІ**.

**НІ**[1] (54) *часц. узмацняльная.* **1.** Указвае на поўную адсутнасць чаго-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, ідэя – вельмі скупая пані: ні шэлега сваім слугам не плаціць – хоча, каб на яе дарма працавалі.* Т, 22. [Мікіта]: *Але што гэта – ці ён* [немец] *нямы, што ні слова не адказаў мне на запытанне?* Там жа, 42. // Узмацняе адмоўе. *Нідзе ні ладу, ані праўды, Званы хаўтурныя зьвіняць...* РС, 40. *У сваім вялікім паходзе па адбудаваньні культуры на руінах былое царскае Расіі савецкая ўлада на працягу ўжо 11 год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паўдарозе.* ГНД. *Параўн.* ані[3] *ў 2 знач.* ВСп, 90; Дз, 191; КЧ; ПНд, 46; ПЧ; Т, 20, 44, 45 (2); ТП, 213 (2).

**2.** У дадaных сказах абазначае ажыццяўленне дзеяння галоўнага сказа пры любых абставінах. *І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, – усё гэта будзе абманам.* НДН, 18. *Дзе ні ступіць* [першы сын] *– згібаюцца краскі і травы, І пракляцьце шуміць бескарысна.* Ч, 320. // Пры аднародных членах сказа ўзмацняе папярэдні сцвярджальны сказ. *Хто забудзе край свой родны, Аб такім так і пішы – Ён як дрэва, корч нягодны – Ні ў ім сэрца, ні душы.* КЧ. АЛ; МІ; 17; ПБН; РКр.

**3.** *адмоўная.* У безасабовых адмоўных сказах абазначае катэгарычную забарону якога-н. дзеяння. [Начальнік патруля]: (*спаткаўшы на парозе Мікіту з выстаўленымі рэвальверамі*). *Стаяць! Ні з месца! Рукі ўверх!* Т, 59.

**4.** У складзе ўстойлівых спалучэнняў. *І пішаш ты разборчыва? Малаграматны прачытае? Бо, бачыш, у нас наборшчыкі наконта беларускага пісьма, дык ні бэ, ні мэ.* Ан, 18. [Мікіта]: *.. выступаць,*

*меджду протчым, з трыбуны без практычнай лекцыі неяк ні сёе ні тое*. Т, 40. АБ, 16 (2); АЛ; ГВУ; Нз, 15; НДН, 18; СНБ, 338 (2); Т, 34, 57 (2); Ч, 321 (4).

**5.** *Тое, што* не *ў 1 знач. Ніў маіх ніхто-б не зьмерыў, Ні зьлячіў сялібаў; Мела ў пушчах многа зьвера, Многа ў водах рыбы.* Дз, 188. *І хаця ў аснове закону ляжыць справядлівы наказ, але ў жыцьці ён сілы ніякай ні мае ..* ВР. ВБЛ, 30; МД; МП; ПБН (3); Т, 54 (2).

**6.** *Тое, што* не *ў 7 значэнні. Цяжкае ўражанне робіць гэтая ні то памершая. Ні то паміраючая краіна* [Польшча]... ПЧ.

**НІ**[2] (36) *злучн*. Ужываецца ў адмоўных сказах: а) пры наяўнасці адмоўя. *Ні адно на свеце адраджэнне, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народу.* ПЛП. *Чыім краем не шамоча ні няволя, ні бяда, Хай жыве, як сабе хоча, – Хоць як труцень, як нуда.* КЧ; б) пры ўяўным адмоўі. [Гануля]: *Стары згарусціў быў лішнюю сотню, маніўся кусочак зямлі з хатай купіць, але не ўспеў. А яму, свайму Мікітку, што я наталкавалася, каб з'ісціў бацькаву думку – не паслухаў. Цяпер ні зямелькі з хатай, ні грошай...* Т, 20. [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* [Спраўнік]: *Ні паліцыі, ні паліцмэйстраў!..* [Пан]: *Ні маёнткаў, ні бравароў!* Т, 28. Ан, 19 (2); ВБЛ, 82 (2); ВР (2); ВСп, 89 (2); Дз, 190 (2); ДК (2); ЗС, 17 (2); Кз, 17 (2); ПС (2); СА, 180; Т, 28 (4), 41 (2); УрП, 46.

**НІ**[3] (5) *прыстаўка.* Аддзяляецца ад адмоўных займеннікаў пры спалучэнні з прыназоўнікамі. *Трох сыноў дала судзьбіна Да майго парога, А такіе – сын у сына, Як нідзе, ні ў кога!* Дз, 188. *І гітлераўскім бандытам, фашыстоўскім крывапійцам Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны.* ПНд, 314. БС; СЧ; Т, 48.

**НІБЫ**[1] (4) *злучн. параўнальны*. Быццам, як быццам. *І ў Галінкі-дзіцяняткі Ад такой гаворкі Ажно йскрацца вачаняткі, Нібы ў небе зоркі.* Вб, 237. *Маладой юнацкай славай, Ці то ўзімку, ці то летам, Нібы сонца, цуднай з'явай Прамянееш ты* [камсамол] *ў сусветах.* СА, 178. ТП, 213, 216. *Параўн.* нічым.

**НІБЫ**[2] *часц.* **1.** Ужываецца пры ўмоўна-ўяўнай дапушчальнасці, няўпэўненасці выказвання. *У Доме Чырвонай Арміі мы нібы ўбачылі разумны, культурны твар камандзіра нашай роднай Чырвонай Арміі.* ПГ. [Спічыні]: *Затрымайцеся* [Мікіта]. *Гэта ў вас вышла нібы лепей.* Т, 40.

**2.** Указвае на неадпаведнасць выказвання яго рэальным фактам. *Супрацоўнікі прыціснуліся к сцяне і штось нібы вельмі пільна пішуць.* Ан, 19. [Гануля]: *Былі ж і сягоння гэныя нібы вучоныя Мікітавы. Аб вас, пане настаўнік, пыталіся.* Т, 54. СБНГ, Т, 47.

**НІВА** (40) *жс.* **1.** Апрацаванае пад сяўбу або засеянае поле. *Ніва! Як ня любіць мне таёмны твой шум?* АР. *Засеваймо свае нівы – Хай рунь красуе.* РКр. // *перан.* Радзіма. *Шчасьлівы ты, ці нешчасьлівы Будзі сыноў сваей зямлі, Над беларускай соннай нівай Нязгаслы сьветач распалі.* ШН. *Хто найшчыршыя парывы Сваіх думак, свайго сэрца Аддае Совецкім нівам, Дрогнуць светам з сэрцам рвецца?* СА, 179. // *перан.* Кут. *Хай льюцца – зыльюцца ад хаты да хаты У вадно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!* В.

**2.** *перан.* Галіна дзейнасці. *На літаратурную ніву я* [Купала] *ўступіў у 1905 г., надрукаваўшы свой першы верш "Мужык".* АЛ. *Успамінаюцца страшэнна цяжкія варункі працы на беларускай вызваленчай ніве ў часе панавання ў нашым краі расійска-царскага самаўласця.* МІ, 17.

◊ **Ад нівы да нівы** (3) – *тое, што* ад краю да краю. *Два сьвяты на сьвеце – ад нівы да нівы: Хрыстос уваскрос! наступае весна!* В. *Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы Заводзе бацькоў сваіх песеньку сын...* Там жа.

Адз. Н. *ніва*: АР. Р. *нівы* (7):В (6); ТС, 74. В. *ніву*: АЛ. Т. *нівай* (2): ТП, 213; ШН; *ніваю* ДПЛС. М. *ніве* (5): ДК; МІ, 17; ПЛП; РКр; УрП, 49. Мн. Н. *нівы* (6): АЛ; ПБН; ПТ, 206; ТП, 216; УрП, 48; ХБ, 29. Р. *ніў* (9): АР (2); БрБ, 6; В; ГП, 8; Дз, 128; УрП, 47; ХБ, 28; Ч, 321; *ніваў* (2): Мц, 83; УрП, 48. Д. *нівам*: СА, 179. В. *нівы* (2): МПв, 220; РКр. Т. *нівамі*: ХБ, 29. М. *нівах* (2): ВВ, 263; ПСС, 232.

**[НІВОДНЫ]** (3) *займ. адмоўны.* Ні адзін. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ, навуковых і прыгожага пісьменства.* ВСп, 89. *..неба было ўсё сіняе бяз ніводнае плямачкі..* ХБ, 29.

Адз. м. М. *ніводным*: ВСп, 89. ж. Р. *ніводнай*: ПЧ; *ніводнае*: ХБ, 29.

**НІДЗЕ** (3) *прысл.* Няма ні ў якім месцы. *Нідзе ні ладу, ані праўды, Званы хаўтурныя зьвіняць...* РС, 40. *У сваім вялікім паходзе па адбудаваньні культуры на руінах былое царскае Расіі савецкая ўлада на працягу 11 год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паўдарозе.* ГНД.// *У параўн. Трох сыноў дала судзьбіна Да майго парога, А такіе – сын у сына, Як нідзе, ні ў кога!* Дз, 188.

**НІЖЭЙ** *прысл. Пар. ст. да* нізка. *перан.* Горш. [Мікіта]: *.. я хачу, каб яны ведалі, што і радня мая стаіць не ніжэй ад іхняй радні.* Т, 22.

**[НІЖЭЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* нізкі. *перан.* Малодшы па пасадзе, падначалены. [Гануля]: *А вядома, у судзе: народу ўсялякага прыходзіць шмат, ды пакуль там хто дойдзе да вышэйшага начальства, пачынаць мусіў спярша ад ніжэйшага.* Т, 20.

Адз. н. Р. *ніжэйшага*: Т, 20.

**[НІЗАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Нізаць на шнурык** – адлічваць, налічваць [гады]. *Жыццё лет бяз ліку на шнурык свой ніжэ..* ЗК, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ніжэ*: ЗК, 43.

**[НІЗІНА]** *ж.* Нізкае месца. *А як ударыў па струне* [другі ганец], *Заметушыліся* [людзі], *як пчолы, І на гарэ, і нізіне Мне падавалі голас кволы.* Кц, 195.

Адз. М. *нізіне*: Кц, 195.

**НІЗКА** (6) *прысл. да* нізкі. *Ня журбуйце тата, маці! Буду вас яшчэ вітаці, Як з вайны здароў вярнуся І вам нізка пакланюся.* ГЖУ. *І ўсім чыста, што не забыліся на мяне у гэты жудкі час, нізка кланяюся* [Купала] *і шчыра дзякую.* ЛР. Т, 21, 32, 48, 51.

**НІЗКІ** *прым. перан.* Глыбокі. *Першым чынам нізкі паклон і дзякую ад сэрца шлю* [Купала] *д-ру Казубоўскаму...* ЛР.

Адз. м. В. *нізкі*: ЛВ.

**[НІКНУЦЬ]** *незак. перан.* Знікаць. *Танцуючыя цені нікнуць.* Т, 43.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *нікнуць*: Т, 43.

**НІКОЛІ** (14) *прысл*. Ні ў які іншы час; ні пры якіх умовах. [Ганула]: *Мы ўжо да вас* [Янкі] *так прывыклі, што мне здавалася, ніколі не разлучымся.* Т, 21. *Ніколі не быў* [Купала] *контррэвалюцыянерам..* ПС. ВМР; ВР (3); НДН, 18; ПБН; РКр; Т, 33, 35, 61; ХБ, 29.

**НІКУДЫ** *прысл*. Ні ў якое месца; ні ў якім напрамку. *З вучыцелёў, што да таго* [вучыцельскага] *саюза належэли, узяли падписку, каб никуды не выежджали без дазваления палиции.* ВД.

**[НІКЧАМНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* нікчэмны *ў 1 знач. Забабон жыве і на Беларусі, а уладаньне яго тут, бадай, магутнейшае, цяжэйшае і нікчамнейшае як на цэлым сьвеце.* З.

Адз. н. Н. *нікчамнейшае*: З.

**НІКЧЭМНЫ** (2) *прым*. **1.** Непатрэбны. *А ты, змарнелы чалавек, Нікчэмны пасынак былога, Сваю пушчаеш песню ў здзек, Чужою славіш нават Бога!* БрБ, 6.

**2.** Маральна нізкі, нягодны. *Скіне* [народная армія] *з тваіх* [Фінляндыі] *плеч ярмо плутакратаў, Здрайцаў паганых нікчэмную зграю, Святкаваць будзем вялікае свята Волі народнай ад края да края.* Ф.

Адз. м. Н. *нікчэмны*: БрБ, 6. ж. В. *нікчэмную:* Ф.

**НІМА** *гл.* **НЯМА**.

**НІМАШТО** *займ. Разм.:* ◊ **За німашто** – ні за што, без падстаў. [Гарошка]: *.. у мяне апрача Аленкі быў і сын – Юрка. Удалы дзяцюк быў, ах які ўдалы І таксама шумеў, занадта, ўжо шумеў. І што? Самахоць за німашто асіраціў мяне.* Т, 44.

В. *німашто*: Т, 44.

**[НІНЕЙШЫЙ]** *прым. Польск.* Гэты, дадзены. [Спічыні]: *(Чытае). "Оказіцель нінейшего Нікіціуш Зносіловскі служы пшы Комісарыяце поліцыі мяста Мінска, яко доносіцель".* Т, 61.

Адз. н. Р. *нінейшего*: Т, 61.

**НІПАЧЫМ** (2) *прысл. Руск., разм. У знач. вык.* Хоць бы што. *Людзкое помсты дух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым..* УрП, 52. *Ніпачым* [камсамольцам] *рыфы, скалы, Ані смерчы, ні бураны, – З маладым плывуць запалам Цераз моры-акіяны.* СА, 180.

**[НІТКА]** (2) *ж.*: Δ **Нітка-валакно:** *Аграбленыя з гонару й кашулі, З свайго прыпынку выгнаныя вон, Мы* [беларусы] *дзякуем, што торбы Апранулі на нас ды з нашых нітак-валакон.* Бч, 9.

◊ **Выразнай ніткай "шчасця" праходзіць** *гл.* праходзіць.

Адз. Т. *ніткай*: ПЧ. Мн. Р. *нітак*: Бч, 9.

**НІЎКА** (2) *ж. Ласк. да* ніва *ў 1 знач. Відна што ніўка – маці тутка чалавеку!* ХБ, 28. *Хто жыў калісь на ніўцы тваёй* [роднай зямлі]*, як у раю, І вось крывавы сьлёзкі роніць у чужым краю.* Там жа.

Адз. Н. *ніўка*: ХБ, 28. М. *ніўцы*: ХБ, 28.

**НІХАЙ** *гл.* **НЯХАЙ**.

**НІХТО** (33) *займ.* Ні адзін чалавек. *У нас усё спіць, ніхто не падае голасу, ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з дапамогай дзеля яго адбудавання, дзеля яго ратавання ад галоднай і халоднай смерці.* АБ, 16. [Янка]: *.. яны* [Аленка з бацькам] *тут не маюць нікога знаёмага..* Т, 23. // *У знач. вык.* Ні адной душы. *Дайце сьмерць, хай ня чую, што ноч мне пяе! Дайце сілы! .. О, Божа! Нікога кругом!* БН, 91.

Адз. Н. *ніхто* (26): Ан, 18; АБ, 16 (3); Б, 18; БрБ, 6 (2); БВ, 16; ВГ; ГЖУ; Дз, 128; ДК (2); ЗЯЗ, 90; Нз, 14, 15; ПБН; РКр; СБНГ; СНБ; Т, 28, 34, 45; УП; УрП, 50; ХБ, 30. Р. *нікога* (3): БН, 91; Дз, 188; Т, 23. Д. *нікому* (2): Нз, 14; ХБ, 30. В. *нікога* (2): НДН, 18; Т, 59.

**[НІЦЫ]** *прым.* Які мае доўгія галіны (пра дрэва). *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага, Калі вербы ніцыя Рвуцца ўвысь галінамі..* ПЛ.

Мн. Н. *ніцыя*: ПЛ.

**НІЧЫМ** *злучн. Разм. Тое, што* нібы[1]. [Дама]: *Але напітак ваш, мусье Зносілов, цудоўны – нічым амброзія.* Т, 28.

**НІШТО** (47) *займ.* **1**. Ні адзін прадмет, ніякая з'ява *Быў жыць адзінока надзел бедакоў, Нішто іх с сабой не лучыла – Ні крыльлі свабоды, ні скруты акоў ... Адна толькі матка-магіла.* ПН, 46. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, прадалі што-небудзь ці не?* [Гануля]: *А ні на іголачку.* (*Паказваючы на паняў.*) *У тых таксама ніхто нічога не купіў.* Т, 34.

**2.** *У знач. наз.* Пра каго-н., хто нічога сабой не ўяўляе. [Янка]: *Ваш рэгістратар быў вялікае нішто і застаўся вялікім нічым.* Т, 57. [Мікіта]: *(уваходзіць пераадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усімі адзнакамі, акручваючыся на пяце). Ну, як, шаноўныя, меджду протчым, мамзэлі і мусі? Той самы ці не той самы! Ці ж не мэтамарфоза?* [Янка]: *Перакуліцца з нічога ў нішто – не вялікая мэтамарфоза.* Там жа, 50.

◊ **Без ніякага нічога** – смела. [Гарошка]: *Наш настаўнік, Янка, дык той без ніякага нічога, як тапаром сячэ: "Пакуль, кажа, не зробімся самі сабе гаспадарамі, датуль ніякага ладу ні складу ў нас не будзе".* Т, 44. **Зводзіцца на няма нішто** *гл.* зводзіцца. **Нічога не варты** *гл.* варты. **Нічога не выйдзе** *гл.* выйсці. **Нічога не значыць** *гл.* значыць. **Нічога падобнага –** рашучае адмаўленне. [Начальнік]: *Скажэце мне: вы ўчора грабілі кватэру грамадзяніна Боршчыка на Архірэйскім завулку?* [Мікіта]: *Нічога падобнага, мусье таварыш.* Т, 60. **Нічога сабе** – нядрэнна, добра. [Гануля]: *Спачатку было вельмі цяжка, а пасля нічога сабе. Я мыла людзям бялізну, а ён* [муж] *прыстроіўся ў акружным судзе: быў там пры вешалках і кур'ерам.* Т, 20 [Янка]: *Але, мабыць, цяжкія вашы справы, што так цяжка вам час плыве: месяцы ў цэлыя леты і зімы замяніліся?* [Мікіта]: *Так сабе, нічога сабе, меджду протчым, плыве.* Там жа, 45.

Н. *нішто* (2): ДК; ПН, 46. Р. *нічога* (43): А, 238; Ан, 18 (2), 19; АБ, 16 (2); БВ, 16; ВС; ВБЛ, 82; ВСп, 89; ДК (3); ЛПК; МІ, 17; Нз, 14 (2), 15; СНБ; СТ; Т, 20, 21 (2), 34, 36, 39, 41, 43, 44 (2), 45, 46, 50, 51, 54 (2), 56 (3), 58, 60 (2); УП. В. *нішто* (3): СНБ; Т, 50, 57. Т. *нічым*: Т, 57.

**НІШТОЖЫЦЬ** (3) *незак. Разм.* Знішчаць. *Мы гітлераўцаў будзем ніштожыць, Гаціць імі тонкую гаць..* ХЛВ, 315. *У нашу векапомную эпоху гэроічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму, калі пролетарыят усё старое ніштожыць і на руінах гэтага старога будуе новае соцыялістычнае існаваньне, – праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі традыцыямі..* АЛ. *Параўн*. нішчыць.

Інф. *ніштожыць* (2): СНБ; ХЛВ, 315. Абв. цяп. адз. 3 ас. *ніштожыць*: АЛ.

**[НІШЧЫЦЬ]** *незак. Разм. Тое, што* ніштожыць. *Нішчыць ворага ўшчэнт Совецкім законам Варашылаў Клімент З арміяй Чырвонай.* ПД, 83.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *нішчыць*: ПД, 83.

**НІЯК** (4) *прысл*. Ніякім чынам. *Ніяк не мог я* [Купала] *пагадніць акружаючае рэальнае жыццё са светам думак, фантазій, якія пачэрпнуў з кніг.* А, 328. [Аленка]: *Як татку, бывала, бяруць у абоз,*

*дык ён заўсёды кажа, што едзе акупантаў вывозіць. Але, бедны, возіць, возіць, ды ніяк вывезці не можа.* Т, 54. ВСп, 90; Т, 54.

**НІЯКІ** (21) і *разм.* **[АНІЯКІ]** *займ.* Ніводны. Ужываецца ў адмоўных сказах. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга, ніякі малюнак, ніякі спэктакль не давалі мне* [С. Мечу] *гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага васеньскага сонца.* ХБ, 29. [Мікіта]: *Медждý протчым, мамаша, я ўважаю, што апрача ўсяго іншага, сягоння ў дабавак нейкі выключны дзень, і вам ніякай гандлёвай "здзелкі", бадай, не ўдасца ўжо правесці.* Т, 34.

◊ **Без нічога** *гл.* нішто.

Адз. м. Н. *ніякі* (2): ХБ, 29 (2). Р. *ніякага* (2): Т, 39, 44. Т. *ніякім*: ВС. ж. Н. *ніякая* (2): ХБ, 29 (2). Р. *ніякай* (6): ВР; СНБ, 339; Т, 20 (2), 34; Тж, 16; *ніякае*: Т, 38; *аніякай*: Т, 40. М. *ніякай*: СЧ. н. Р. *ніякага* (2): ДК; Т, 44. Мн. Р. *ніякіх* (2): ДК; Нз, 14. В. *ніякія*: Кз, 17. Т. *ніякімі*: АЛ.

**НО** (2) *злучн. Руск. Тое, што* але[1] *ў 1 знач.* [Усходні вучоны]: *Родной язык* [Іоана Здольнікова] *обшчэрусскій, веліколепно усовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов.* Т, 26. [Усходні вучоны]: (*запісваючы у нататнік*). *Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное імелось, но благодара врэдным клімацічэскім веяніям с Запада поіменованное море утонуло в Пінском болоце.* Там жа, 47.

**[НОВЕНЬКІ]** (2) *прым. Разм. Ласк. да* новы *ў 1 знач.* [Мікіта]: *Мо, шаноўныя мадамы і мусьі, патрабуеце купіць марак?* (*Мацаецца па кішэнях.*) *Новенькія... Але новенькія... Дзе ж яны?* Т, 43.

Мн. Н. *новенькія*: Т, 43.

**[НОВІЗНА]** *ж.* Штосьці новае, невядомае. *Было знаць неякае сьвята Няшлюбных з новізнай людзей, – Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47.

Адз. Т. *новізнай*: УрП, 47.

**НОВЫ** (108) *прым.* **1.** Зроблены або набыты нядаўна. *У кажусе і ў куртцы новай сінявокі хлопчык кадэт ў канаве злажыў пад Растовам за цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81. [Гарошка]: (*падаючы новую, дзераўляную, па-мастацку зробленую лыжку*). *А ад мяне прымеце* [Янка] *вось гэта...* Т, 30. // Які ўзнік, з'явіўся нядаўна. *Таму кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленьнем прывітае новую кветку ў бясьсьмертным вянку культурнага будаўніцтва ў БССР – Беларускую Акадэмію Навук.* ГНД. .. *там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – вырaслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ.

**2.** Адкрыты, вынайдзены нядаўна; раней невядомы. *Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі У самасейным паходзе сталецьцяў,*

*Што пранікнуць яна* [судзьбіна] *можа ў тайныя далі І адкрыць сьветы новыя ў сьвеце.* Ч, 322. // *У знач. наз. Тое, што* нядаўна з’явілася. *Кожны дзень штось прынося, кожны дзень творыць штось новае, вялікае.* БСУ.

**3.** Незнаёмы, малавядомы каму-н. *Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя: прывезлі яны новага Бога з крыжам.* Кз, 17. *Нам новыя далі раскрыты сягоння, Вялікія сілы сабраны табой, І самыя мудрыя ў свеце законы Напісаны смела тваёю* [Сталіна] *рукой.* ПБН.

**4.** Які прыйшоў на змену чаго, каго-н. [Нёман:] *Людзі чужыя змагаюць мне грудзі З новым парадкам, з адменным жыццём, – Роднага ж краю тутэйшыя людзі Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом.* Н. *Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі.* ПЛП. // Наступны, чарговы. *Ня падаючы духам, мы* [беларусы] *павінныісьці праз жыцьцё ў гэты новы год і моцна трымаць сьцяг змаганьня за сваё вызваленьне, за незалежнасьць сваей бацькаўшчыны Беларусі.* СНБ. *Пройдзе зімка, пройдзе лета, Як сказаці слова, Дачакаюся я* [Галінка] *гэтак І выбараў новых.* Вб, 236.

**5.** Не той, што раней; іншы. [Дама]: *Мусье беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу і належыце, мабыць, да партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?* Т, 37. [Спраўнік]: *Усё былое вялічча прышлося загнаць у казіны рог і дапасоўвацца да новага часу і новых людзей.* Там жа, 57.

**Новы год. Слава творцу новага шчаслівага жыцця.**

• **Новы год** *гл.* год.

◊ **Узносіць новы сьцены** *гл.* узносіць.

Адз. м. Н. *новы* (8): ДНСП; ДПЛС; Кз, 17; НГ, 8 (2); ПЛ; ПТ, 208; СНБ, 337. Р. *новага* (3): Т, 37, 57; УП. В. *новы* (5): ПТ, 206 (2); СНБ, 338; СНБ (2). Т. *новым* (4): Н; Т, 30; ТЗУ, 293; ЦСБ. М. *новым*: НК; ж. Н. *новая* (10): Мц, 75; РК; СНБ, 340; Т, 36 (3), 47, 48, 55, 58. Р. *новай* (6): Кз, 17; Нз, 14; Т, 36, 37, 55, 56; *новае*: Т, 52. В. *новую* (7): ВН; ГНД; СС, 302; Т, 30, 55 (2); Ч, 323. Т. *новай* (4): ЖН; Т, 51, 55, 56. М. *новай* (2): ВБЛ, 81; Т, 39. н. Н. *новае*: ШБСЯ. Р. *новага* (8): АЛ; БС (3); ДЖ; СТ (2); ШБСЯ. Д. *новаму*: Б, 18. В. *новае* (6): АЛ; Б, 18; БСУ; ДЖ; СНБ; СТ. Т. *новым*: ЖН. Мн. Н. *новыя* (12): АЛ (2); ВБЛ, 83; ВГР; ПЛП (2); СД; Т, 30, 54, 60; ХХ; ШБСЯ; *новые* (2): БС; ВН. Р. *новых* (7): Вб, 236; ДЖ (2); ЖН (2); Т, 57; ТП, 217. Д. *новым* (2): Г, 17; Т, 22. В. *новыя* (6): ВС; ДЖ; ПБН; Т, 60; Ч, 322, 324; *новые* (3): ВМР; ВН; ВЧ; *новых* (3): Кз, 17; Т, 44; УрП, 51. Т. *новымі* (2): АЛ; Т, 57. М. *новых* (2): СНБ; ТЗУ, 293. Кар. мн. В. *новы*: Ч, 323.

**[НОЖ]** м.: ◊ **Нож пад сэрца тачыць** *гл.* тачыць.

Адз. В. *нож*: СЗГ, 252.

**[НОС]** (11) *м.* Выступ паміж вачамі і ротам на твары чалавека. [Мікіта]: *А важней за ўсё старайцеся* [гаварыць] *як найгусцей у нос.* [Гануля]: (*махнуўшы рукой*). *У нос дык у нос!* Т, 22-23.

◊ **Буркнуць у носе** *гл.* буркнуць. **На носе** (2) – вельмі хутка, блізка. [Гануля]: *А мне ўжо старасць на носе.* Т, 20. [Гарошка]: *Тое-гэта, палякі на носе, .. а яны* [Аленка і Янка] *швэндаюцца сабе!* Там жа, 44. **Нос спусціць** *гл.* спусціць. **Носам круціць** *гл.* круціць. **У носе круціць** – *тое, што* **носам круціць**. [Мікіта]: *..здаецца, што ад нашага кватаранта бальшавіцкім духам пахне, а мне ад гэтага паху ў носе круціць.* Т, 22.

Адз. В. *нос.* (6): Пц; Т, 22, 23 (2), 28 (2). М. *носе* (4): Т, 20, 22, 24; УР. Мн. Т. *насамі*: Т, 29.

**[НОТА]** (3) *ж.* **1.** Умоўны графічны знак для запісу гукаў музыкі. *Усе, надрукаваныя ўперад сьпеўнікі з нотамі разышліся, а запатрабаваньне на іх вялікае..* ВСп, 90. *Беларускія песьні з нотамі. № 28. Гэта – сьпеўнік Тэрраўскага "Лірнік"* (*92 стр., 99 песьняў*). Там жа.

**2.** *перан.* Матыў. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пролетарыятам эпосе!* ЖН.

Мн. Н. *ноты*: ЖН. Т. *нотамі* (2): ВСп, 90 (2).

**[НОТКА]** (2) *ж.* **1.** *Ласк. да* нота *ў 2 знач. Праўда, да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі..* ХБ, 29.

**2.** Асобы гук пэўнай вышыні ў музыцы. *У параўн. Ды ўдаліся, ой, сынкі мне Не аднэй натуры, Як бы тые ноткі ў гымне Цішы і віхуры.* Дз, 189.

Мн. Н. *ноткі* (2): Дз, 189; ХБ, 29.

**НОЧ** (25) *ж.* **1.** Частка сутак з вечара да раніцы. *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зблiжаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51. [Гануля]: *.. во тут на падлозе што-небудзь падмосцім, і пераспяць* [госці Янкі] *ноч.* Т, 23.

**2.** *перан.* Пра што-н. змрочнае, беспрасветнае. *Здавалася, ноч не пяройдзе, Іржа ня згрызе вечных путаў, – Аж бліснуў пажар на усходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр, 77. *Родныя з пут вызваляці загоны, Сонцам развідніваць мутныя ночы, Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць.* Ф.

**У бяссонную ноч.**

• **Цар ночы** *гл.* цар.

◊ **Дзень і ноч, дні і ночы, днямі і ночай** *гл.* дзень. **Днём і ночай** *гл.* днём.

Адз. Н. *ноч* (5): БН, 91, 93; Дз, 191; Кр, 77; ЧС, 50. Р. *ночы* (5): Кц, 197; ТП, 214; УрП, 52; Х; Ч, 322. В. *ноч* (6): БН, 91, 92; НК; ПБН; СНБ, 340; Т, 23. Т. *ночай* (4): НК; СА, 180; Ч, 321; Чж, 147; *ноччу*: ВГ. М. *ночы*: ЗК, 42. Мн. В. *ночы* (3): ПБН; СС, 302; Ф.

**НОЧКА** (20) *ж.* **1.** *Ласк. да* ноч *у* 1 *знач. Ночка ці дзень, ці марозы ці спекі, – Вечна ў ярме, ў паднявольнай рабоце.* Д, 73. *Ці апомняцца сыночкі ў сваёй павіне? Ці загінуць сярод ночкі., Што і сьлед загіне?* Дз, 191. // *У знач. прысл.* У начны час. *Днём ваюем, ночкай дрэмлем, А што блізка вораг – кемім.* БЗ. *Стань* [беларус] *нахіліся над ракой, Ў плакучы ўгледзься пераліўы: У іх адаб'еццa воклік твой, І ўбачыш незабыты дзівы. Як там* [у рацэ] *русалкі – твае дзеці – Днём аддыхаюць у жальбе, Каб ночкай, блудзячы па свеце, Шукаці долі для цябе.* БрБ, 6.

**2.** *Ласк. да* ноч *у* 2 *знач. Песні сонцам не яснелі У вясну, ў прадвесне, Ночка цёмная шумела Ў паднявольных песнях.* ЗЯЗ, 89. *Нас* [беларусаў] *гадавалі віхры і ночкі, Крыўдай паілі нас ад пялёнкі.* Пп, 5.

∆ **Ночка-чараўніца:** *На бел-сьвет дзівы выпраўляць Пляцецца ночка-чараўніца.* Кц, 192. **Цьвет-ночка** *гл.* цьвет.

◊ **Днём, ночкай** *гл.* днём. **З бегам ночак** *гл.* бег.

Адз. Н. *ночка* (5): Д, 73; ЗЯЗ, 89; Кц, 192; ПСС, 231; Ч, 326. Р. *ночкі*: Дз, 191. В. *ночку* (2): ВБЛ, 80; Ч, 320. Т. *ночкай* (7): БрБ, 6; БЗ; ВБЛ, 80; Дз, 190, 192; СА; 180; ХЛВ, 315. Мн. Н. *ночкі* (2): Дз, 188; Пп, 5. Р. *ночак*: М, 19. В. *ночкі*: СС, 301. Т. *ночкамі*: НК.

**НУ**[1] (13) *выкл.* **1.** Пры пабуджэнні або закліку да якога-н. дзеяння. [Спічыні]: *Ну, цяпер пачынайце* [Мікіта] *араторыю на тэму: "Пралетарыят і буржуазія".* Т, 40. [Начальнік патруля]: *Качарэжкі! Ну, палажэце* [Мікіта] *іх на стол.* Там жа, 60. // Ужываецца пры закліку спыніць якон-н. дзеянне. [Начальнік]: *Ну, досыць! Пасля разбяром.* Т, 61. [Гарошка]: *Пайшлі* [Янкі і Аленкі] *і прапалі, а мне сядзі тут у чужой хаце і чакай на іх.* [Янка]: *Ну, не бурчэце, дзядзька: у вельмі пільнай справе прышлося нам заседзецца крыху.* Там жа, 44.

**2.** Пры абурэнні, гневу, здзіўленні (*звычайна ў спалучэнні з наступным "і"*). [Мікіта]: *Ну і немец, меджду протчым! Сваіх жа нямецкіх марак не хацеў купіць.* Т, 42. [Ануля]: *Ну і госці! Адкуль ты* [Мікіта] *іх выкапаў?* Там жа, 22. Т, 29, 30, 31, 46, 48, 53; ХЛБ.

**НУ**[2] (37) *часц.* **1.** *пытальная* (2). У значэнні пытальнага слова "як"? [Мікіта]: (*уваходзіць пераадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усімі адзнакамі, акручваючыся на пяце*). *Ну, як, шаноўныя, меджду протчым, мамзэлі і мусьі? Той самы ды не той самы!* Т, 50. *Ну, а людзі? Сябры, суседзі, тут, там?* ЁЯ.

**2.** *узмацняльная.* (23) Надае сказу большую выразнасць. *Ну, – кажа пасля* [рэдактар], *– будзеш у мяне пісаць стацці аб Антанце.* Ан, 18. [Ануля]: *Ну латаў бы* [Мікіта боты], *і капейка жывая была б у хаце, а так...* (*махнула рукамі*). Т, 20. // У такім жа значэнні ў пытальных і пытальна-рытарычных зваротах. [Гарошка]: *Ну і што там цікавага?* Т, 44. *Ну хіба-ж гэта дэмакратызм, скажэце*

*на ласку Боскую?* ДК. Бч, 9; Вб, 236, 238; ЖН; Нз, 14; Т, 23, 25, 36, 42, 43, 44, 46, 50, 54, 55, 56; ХЛБ (3).

**3.** Для абазначэння рэзкага пачатку дзеяння. *Ды ну-ж гаманіці, Ухмыляцца пад вусам, Як лепш атуманіць Мазгі беларусам.* Х.

**4.** *У знач. злучн.* [11] Пры падагульненні вынікаў папярэдняй думкі. *Ну, адным словам, кожны нешта кажа, а ніхто аб гэтым нічога добра не ведае.* Ан, 18. [Мікіта]: *Глядзеце!* (*Знімае з сцяны і надзяе пажарніцкую куртку і каску.*) [Наста]: *І што гэта значыць?* [Мікіта]: *А тое, што немцы пажарнікаў на работы не бяруць. Ну вось я і падумаў аб гэтым раней і ўпісаўся ў Менскую пажарную дружыну.* Т, 24. Ан, 19; Р; СЧ; Т, 50, 52, 61; Тж, 15; $Ш_3$; $Ш_4$.

**НУДА** (3) *ж.* **1.** Сум, туга. *І сёння там* [у Заходняй Беларусі] *ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны, І сёння там слёзы, нуда, безрабоцце, Ды горкія песні, ды скаргі адны.* ПБН. *За ім* [сонцам]*, не знаючы нуды, Каналам плыў-бы Беламорскім, Ляцеў-бы вызнаць гарады – Магнітагорскі й Краматорскі.* МСП, 187.

**2.** *Разм.* Нудны чалавек. У *параўн. Чыім краем не шамоча Ні няволя, ні бяда, Хай жыве, як сабе хоча, – Хоць як труцень, як нуда.* КЧ.

Адз. Н. *нуда* (2): КЧ; ПБН. Р. *нуды*: МСП, 187.

**[НУМАР]** (3) *м.* Прадмет, абазначаны пэўным лікам па парадку. *Газэце "Савецкая Беларусь" з прывітаньнем выхаду яе тысячнага нумару.* Тр. [Купала:] *Бяру нумары паводле сьпісу: 1, 2, 3, 4, 5, 21, 22, 23, 34.* ВСп, 89.

Адз. Р. *нумару*: Тр. Мн. Р. *нумароў*: СНБ, 339. В. *нумары*: ВСп, 89.

**[НУТРО]** (2) *н.*: ◊ **Не па нутру** (2) – не да спадобы. *Не па нутру, як смерць, яму* [жандару]*, Што беларускае дзіцё Бяжыць у сцюжную зіму У школу пазнаваць жыццё.* АПЖ. [Мікіта]: *..ў мяне сягоння важныя госці будуць, дык, можа, вашым госцём гэта не па нутру.* Т, 23.

Адз. М. *нутру* (2): АПЖ; Т, 23.

**НЫНЕ** (2) *прысл. Руск. Уст. Тое, што* цяпер *у 1 знач.* [Усходні вучоны]: (*..запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным*). *Народносць ныне распадается на две родовые веткі: племя белорусы і племя – тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.* Т, 26. [Поп]: *Развepзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* Там жа, 28.

**[НЫНЕШНІЙ]** *прым. Руск. Тое, што* цяперашні. [Поп]: *В нынешнія времена дажэ его прэосвяшчэнство воззавідовало бы сіім блюдам.* Т, 28.

Мн. В. *нынешнія*: Т, 28.

**[НЫЦЬ]** *незак. перан.* Быць незадаволеным чым-н., скардзіцца на што-н. *Ён* [першы сын] *і рад і ня рад, а пуцьця меней штодзень На тэй выбранай сьцежцы, і ные..* Ч, 320.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ные*: Ч, 320.

**[НЭПМАН]** *м. Разм.* Гандляр, прадпрыймальнік першага перыяду нэпа. *Намі* [народамі] *пройдзен вялікі і цяжкі шлях. Прайшлі яго, скідаючы з дарогі ўсіх і ўсялякіх ворагаў: кулакоў, нэпманаў, трацкістаў, зіноўеўцаў, нацыяналістаў, беларускіх нацдэнаў і ўсе падонкі класавага ворага..* ВГР.

Мн. В. *нэпманаў*: ВГР.

**[НЭРВАВАЦЬ]** *незак.* Даводзіць каго-н. да нервовага стану. [Спічыні]: *Усякі стук мяне нэрвуе: не магу спакойна выкладаць лекцый.* Т, 32.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *нэрвуе*: Т, 32.

**НЭРВЫ** *толькі мн.* Сістэма валокнаў для вызначэння дзейнасці арганізма, стану і паводзін чалавека. [Спічыні]: (*ускочыўшы з лаўкі*). *Пардон! У мяне разбушаваліся нэрвы.* Т, 41.

Н. *нэрвы*: Т, 41.

**[НЭСЭСЭР]** *м. Франц.* Набор дробных прадметаў для туалету. [Ганулля]: (*да праходзячай грамадзянкі*). *Панечка, купеце ў мяне пацеркі, а можа, дамскі нэсэсэр, а можа, во гэта? – усё за паўцаны аддам, усё за паўцаны.* Т, 34.

Адз. В. *нэсэсэр*: Т, 34.

**НЮХ** *м. перан.* Чуццё, інтуіцыя. *Паглядзеў я* [газеты], *і мяне аж у холад кінула. – У тых, – кажу, – што я глядзеў, было іначай. – Іначай! Іначай! – перадражніў мяне рэдактар. – А дзе пісьменскі нюх?* Ан, 19.

Адз. Н. *нюх*: Ан, 19.

**[НЮХАЦЬ]** *незак. Разм., перан.* Выведваць, высочваць, выяўляць. *О так, як цьмы, як спуджаны вароны* [беларусы]*!.. І слухаем і нюхаем тут, там: Які павеяў вецер на загоны, – Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?* Бч, 9.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *нюхаем*: Бч, 9.

**НЯ** *гл.* **НЕ**.

**[НЯБАЧНЫ]** *прым. Разм.* Нябачаны. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях, гэта нябачнае цуда, створанае рукамі большэвікоў чэкістаў па ініцыятыве геніяльнага правадыра пролетарыята непараўнанага будаўніка тав. Сталіна.* ЦСБ. *Параўн.* нявідзімы.

Адз. н. В. *нябачнае*: ЦСБ.

**[НЯБЕСНЫ]** (2) *прым.* Які мае адносіны да неба *ў 1 знач. Зямля ёй* [душы] *зацесна, Ей трэба прастору, Той высі нябеснай, Дзе*

*царствуюць зоры.* АК. *І шкода зрабілася думцэ людзей. Спусьцілася з высі нябеснай І ў душах пакорных зямелькі дзяцей Зьмянілася вольнаю песьняй.* ПН, 47. *Параўн.* небесный.

Адз. ж. Р. *нябеснай*: АК; ПН, 47.

**НЯБОЖА** і **НЯБОЖЭ** *м.* Бядак, сірата. *Хто умее слухаць, – можэ Шмат пачуць чаго там* [на ўзмежку]*; Як прычытвае нябожэ, Бы Лазар пад плотам.* Дз, 187–188.

Δ **Дубровінка-нябожа** *гл.* дубровінка.

Адз. Н. *нябожа*: ЛПП; *нябожэ*: Дз, 188.

**НЯБОЖЧЫК** (3) *м.* Мярцвяк. *Над курганамі перуном зайграй! Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!* Пт. // Ужываецца для таго, каб паказаць, што той, аб кім гаворыць, ужо не жыве. [Гануля]: *Мой нябожчык гаспадар жыў пры бацьках пры маленькім надзеле.* Т, 20.

Δ **Нябожчык-труп:** *Смерць вам, жывыя нябожчыкі-трупы, Смерць за пісьменніка-генія!* СЗГ, 252.

Адз. Н. *нябожчык*: Т, 20. Мн. Н. *нябожчыкі*: СЗГ, 252. В. *нябожчыкаў*: Пт.

**НЯБЫВАЛЫ** *гл.* **НЕБЫВАЛЫ**.

**[НЯБЫЦЦЁ]** *н.*: Δ **Вырвацца з нябыцця** *гл.* вырвацца.

Адз. Р. *нябыцця*: ЁЯ.

**НЯВАЖНА** *прысл. У знач. вык.* Не зусім добра. [Аленка]: *Мы* [з Янкам] *прыехалі татку з палону вызваляць. То ж у мяне адзін татка на цэлым свеце, павінна ратаваць.* [Мікіта]: *Так, так! Было б няважна, каб звезлі з хаты апошняга, меджду протчым, бацьку.* Т, 35–36.

**НЯВЕДАМА** *гл.* **НЕВЯДОМА**.

**[НЯВЕДАМЫ]** (4) *прым. Разм.* Невядомы, невызначаны. [Мікіта]: *Бяда толькі, меджду протчым, што вось новая, па ліку трэцяя, палітычная сытуацыя спыняе на няведамы час гэту маю рэгістратарска-совбурскую кар'еру.* Т, 47. *Пад звоны зброі, путаў звоны, Пад свіст раз'юшаных прыблудаў Брыдзеш* [Новы год] *з няведамых старонаў, Як здань няведамага цуду.* НГд, 8. *Параўн.* неведомый.

Адз. м. Р. *няведамага*: НГд, 8. В. *няведамы*: Т, 47. Мн. Р. *няведамых* (2): НГд, 8; Т, 19.

**[НЯВЕДАНЬНЕ]** *н.* Адсутнасць звестак аб чым-н. *Як няведаньнем мы багаты, – Гэта маці і неўдамёк, – Можа быць гэта ён* [хлопчык] *для брата У стрэльбе націснуў курок.* ВБЛ, 82.

Адз. Т. *няведаньнем*: ВБЛ, 82.

**НЯВЕСЕЛА** *безас. У знач. вык.* Сумна, журботна. [Янка]: *Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі..* Т, 54.

**[НЯВІДАНЫ]** (5) *прым. Руск.* Небывалы. *У СССР .. рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі .. з нявіданым творчым энтузыазмам і запалам будуе соцыялістычнае грамадзтва.* АЛ. .. *і ў гэтай галіне* [рэарганізацыі літаратурна-мастацкіх організацый] *мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* ДНСП.

**Дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.**

Адз. м. Т. *нявіданым*: АЛ. Мн. Р. *нявіданых* (3): ДНСП (2); ТП, 217. В. *нявіданыя*: АЛ.

**[НЯВІДЗІМЫ]** *прым. Руск. Тое, што* нябачны. *Плыве шумліва, як рака, Бяседа вольная такая, А ўжо нявідзіма рука На небе поўнач адзначае.* Кц, 197.

Кар. адз.ж. Н. *нявідзіма*: Кц, 197.

**НЯВІННА** (2) *прысл. да* нявінны *ў 1 знач. Курганы сотняў нявінна расстрэляных аб гэтым і цяпер сведчаць.* СНБ, 340. *Спіце вы, нявінна Згінуўшы, ахвяры!* МПв, 219.

**[НЯВІННЫ]** (2) *прым.* **1.** Невінаваты. *Астрогі там поўны нявінных ахвяр.* ПБН. *Параўн.* бязвінны, невіноўны.

**2.** Наіўны. [Мікіта]: *Што ж гэта вы, мамзэльНаста, не самі адны, а з гэрам немцам, як з нявіннай ахвярай свайго, меджду протчым, чарадзейскага сэрца?* Т, 41.

Адз. ж. Т. *нявіннай*: Т, 41. Мн. Р. *нявінных*: ПБН.

**[НЯВОЛЕНЫ]** *прым. Тое, што* паднявольны *ў 1 знач. Але вось надыйшоў час вялікай усесьветнай разрухі, час вялікіх змаганьняў за лепшыя ідэялы, калі няволеная сотню год Польшча адважна узялася за дзяржаунае незалежнае жыцьцё..* УПУВ.

Адз. ж. Н. *няволеная*: УПУВ.

**НЯВОЛЬНІК** (11) *м.* **1.** Раб. *Забабон старадаунаму славяніну загадваў, каб жонка ішла з мужам разам у магілу, або нявольнік свайго уладыкі уміраў так сама з ім разам.* З. *Пан гуляў панам, нявольнікам быў я.* Д, 73. // *У параўн. Усе гэтыя чыны "апеквалі-ся", а мы* [беларусы] *шчыра служылі ім, як нявольнікі ..* БС.

**2.** Зняволены. *І рухнуць апоры Фашысцкіх цямніц, Нявольнікі выйдуць Да ясных зарніц.* СС, 301.

Адз. Н. *нявольнік* (2): З; Кр, 78. Р. *нявольніка*: НДН, 19. Т. *нявольнікам*: Д, 73. Мн. Н. *нявольнікі* (3): БС; Ж; СС, 301. Р. *нявольнікаў* (3): Кр, 77; Тж, 16 (2). Д. *нявольнікам*: Кр, 77.

**[НЯВОЛЬНІЦКА-БУРЖУАЗНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да нявольнікаў і буржуазіі. *У нашу векапомную эпоху гэроічнага змаганьня протетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму, калі пролетарыят усё старое ніштожыць і на руінах гэтага старога будуе новае соцыялістычнае існаваньне, – праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае

*нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі традыцыямі..* АЛ.

Мн. Т. *нявольніцка-буржуазнымі:* АЛ.

**НЯВОЛЬНІЦТВА** *н.* Няволя, прыгнёт, уціск. *Нявольніцтва й жабрацтва так нас* [беларусаў] *з'ела I так нам высмактала з сэрца сок, Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела Не смеем, стоптаныя на пясок.* Бч, 9.

Адз. Н. *нявольніцтва*: Бч, 9.

**НЯВОЛЬНІЧЫ** (2) *прым. Разм.* Нявольніцкі. *Мальбішчам чужым бье пакора паклоны; Упадку вялічыцца сьцяг; З балотам змешаны старые законы, Наладжэн нявольнічы шлях.* ЗК, 42.

**Запрэгчы ў нявольнічы плуг** *гл.* запрэгчы.

Адз. м. Н. *нявольнічы*: ЗК, 42. В. *нявольнічы*: Г, 16.

**НЯВОЛЯ** (19) *ж.* Адсутнасць незалежнасці, свабоды; падпарадкаванне. *Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай, бо яны на сваіх плячах вынеслі чужы здзек і паніжэнне.* НДН, 18. *Пад царамі, пад панамі Мучыліся людзі, – У нядолі, у няволі Чахлі, сохлі грудзі.* ЗЯЗ, 89.

• **Ягіпецкая няволя** – палон. [Мікіта]: *Мусье немец .. хоча* [мяне] *ў палон цягнуць.. Пане настаўнік, ..выбаўляй з ягіпецкай няволі!* Т, 33.

Адз. Н. *няволя* (2): ЗК, 43; КЧ. Р. *няволі* (12): АЛ; БС; ВГР; ДЖ (2); НДН, 18; ПСД; СД; СНБ; Т, 33, 35; ТП, 214. В. *няволю* (2): ДЖ; ПТ, 206. Т. *няволяй*: ГЖУ. М. *няволі* (2): ЗЯЗ, 89; К.

**НЯГЛЕДЗЯЧЫ** *прыназ. з В.* Не прымаючы пад увагу чаго-н., насуперак чаму-н. *Нягледзячы на тое, што дырэктар прымаў мяне* [Купалу] *без экзамена, бацька парашыў не аддаваць мяне ў школу, а пакінуць на гаспадарцы.* А, 328.

**[НЯГОДА]** (2) *ж. Разм.* **1.** Няшчасце, ліхая гадзіна. *Цікавыя людзі мы – беларусы! Трэба прызнацца, што якое бы ліхо навокал нас і з намі самімі не рабілося, якіх бы мы не перажывалі нягод і крыуд – мы гэтага як бы ня бачым, а калі і бачым, то ціха церпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэтае наша ліхо забярэ з сабою.* БС.

**2.** *перан.* Жыццё. *Простым словам мы* [беларусы] *з светам гаворым, Песні аб цяжкай творым нягодзе..* Пп, 5.

Адз. М. *нягодзе*: Пп, 5. Мн. Р. *нягод*: БС.

**НЯГОДНА** *прысл. да* нягодны. *Летась нягодна, сёлета горай Проста жылося, проста жывецца, Красці ж не пойдзем, хоць у каморы Кожны к нам* [беларусам] *прэцца.* Пп, 5.

**[НЯГОДНІК]** *м. Лаянк.* Паганец, мярзотнік, вырадак. *Гісторыя чалавецтва ведае не мала ворагаў народу, але няма роўнага таму*

*здрадніцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкісцкіх нягоднікаў – Пятакова, Радэка і іншых, на чале з обер-шпіёнам Троцкім.* ВНЗ.

Мн. Р. *нягоднікаў*: ВНЗ.

**НЯГОДНІЦКІ** *прым. Тое, што* нягодны. *Годы прайшлі. Паніч вырас дубінай, Звычай з ім вырас нягодніцкі, панскі.* Мц, 74.

Адз. м. Н. *нягодніцкі*: Мц, 74.

**НЯГОДНЫ** (4) *прым.* Паганы, нядобры. *І мы ў шапку спаць ня будзем, І пакажам сьвету, людзям, Як баронім межы родны Ад напасьці, ад нягоднай.* ГЖУ. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў, што дыванамі пры Нёмне сьвецяць з-пад нябёсаў.* ХБ, 28. // *У знач. наз. З кашмарамі спадчыны няўдачнага мінулага паўзе у пары паганы забабон і хіхікае з-за вугла і ў вочы, строіць жарты, – над кім? Над жывым старасьвецкім народам ... Хіхікаюць дурні, хіхікаюць нягодные.* З. *Параўн.* нягодніцкі.

Адз. м. Н. *нягодны*: КЧ. ж. Р. *нягоднай*: ГЖУ. Мн. Н. *нягодныя*: З. Кар адз. ж. В. *нягодну*: ХБ, 29.

**НЯДАЎНА** (8) і **НЕДАЎНА** (3) *прысл. да* нядаўні *ў 1 знач. Я раскажу, як за хлеб, за зацірку Ў пана служыў пастухом я нядаўна..* Ун, 73. *На земства малая надзея – яно недаўна у нашым краю заведзена і дзеле таго не можэ ешчэ аказаць вялікай падмогі.* ВС. НДН, 18; ПДз (2); ПТ, 206, 207, 208; СК, 158; ССА, 294; Т, 19.

**[НЯДАЎНІ]** (2) і [**НЕДАЎНЫ**] *прым.* **1.** Які адносіцца да недалёкага мінулага. *Калі мы зірнем у нядаўнюю мінуўшчыну вялікіх дзяржаў, як, напр., царская Расія, імператарская Нямеччына і інш., а таксама, калі возьмем за прымер цяперашнія некаторыя дзяржавы, хоць бы – Англію, Японію і ім падобныя, то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзніштажаючым паходзе мелі адну ярка зарысаваную мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў..* НДН, 18. *Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы. Забыў не адзін з нас недаўные дні..* В.

**2.** Які быў кім-н. незадоўга да сучаснага моманту. *Вы* [Захад і Усход] *аплявалі людзей і народы і кінулі сваіх нядаўніх рабоў у анархію, каб далей у мутнай вадзе рыбу лавіць.* Тж, 16.

Адз. ж. В. *нядаўнюю*: НДН, 18. В. *недаўные*: В. Мн. Р. *нядаўніх*: Тж, 16.

**НЯДБАЛЫ** *прым*. Нядбайны. *Гэй, не дзівуйся, мой дружа нядбалы, Што я* [Нёман] *сягоння так злосна шумлю: Грудзі здавілі мне хмары навалай, Пошасць уелася ў матку-зямлю.* Н.

Адз. м. Н. *нядбалы*: Н.

**[НЯДЗЕЛЯ]** *ж*. Сёмы дзень тыдня, агульны дзень адпачынку. *Верны славянскім спадкам, браточна У госьцях вас* [людзей чужых]

*мелі* [беларусы]*, I шанавалі людзка, сьвяточна Ў будні, у нядзелі.* Чж, 146.

Мн. В. *нядзелі*: Чж, 146.

**НЯДОБРЫ** (2) *прым.* Благі. *..толькі выражбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся і народу сваайму за яго такую нястрыманую памаўклівасць нядобрыя варожбы выражалі.* Кз, 17.

◊ **Веяць нядобрым ветрам** *гл.* веяць.

Адз. м. Н. *нядобры*: УрП, 51. Мн. В. *нядобрыя*: Кз, 17.

**[НЯДОІМКА]** *ж.* Нявыплачаны падатак. *Цяперака, калі спынена продаж на гарэлку, урад павінен ня толькі дастаць грошы на гасударственые расходы, каб пакрыць гэту акцызную нядоімку, але ешчэ павінен дастаць іх і на ваенные расходы.* ВН.

Адз. В. *нядоімку*: ВН.

**[НЯДОЛЯ]** (8) *ж.* Цяжкі лёс; гора. *Панясуцца, як звон, песні вольныя, родныя, Апяваючы долю, нядолю народу, тваю.* Б, 18. *Пад царамі, пад панамі Мучыліся людзі, – У нядолі, у няволі Чахлі, сохлі грудзі.* ЗЯЗ, 89.

Адз. Р. *нядолі* (2): СС, 302; СТ. В. *нядолю* (3): АЛ; Б, 18; РКр. Т. *нядоляй*: ПБН. М. *нядолі* (2): ЗЯЗ, 89; Пр.

**НЯДОЎГА** (2) *прысл.* На працягу невялікага адрэзку часу. *I гітлераўскім бандам, фашыстоўскім крывапійцам Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны..* ПНд, 314. *Але гэты мядовы месяц савецкай улады на Беларусі цягнуўся нядоўга.* СНБ, 339.

**[НЯДРЭМЛЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп.* да не драмаць. *У знач. прым. перан. Разм.* Актыўны, інтэнсіўны. *Наладжанае ў красавіку мінулага году коопэрацыйнае В-ва “Адраджэньне” шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91.

Адз. ж. Р. *нядрэмлючай*: ВСп, 91.

**НЯДРЭННА** *прысл.* Даволі добра. *I мірныя людзі – іх сотні імёнаў – Вартуюць нядрэнна свае рубяжы.* ПБН.

**[НЯЗВАНЫ]** *прым. Руск.* Які з’явіўся куды-н. без запрашэння. *..не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым і нязваным госцем падарожным..* Кз, 17.

Адз. м. Т. *нязваным*: Кз, 17.

**[НЯЗВЕДАНЫ]** *прым.* Незнаёмы. *Па шчасьці нязведаным грэшны народ Ўздыхаў, як канюх за вадою.* ПН, 46.

Адз. н. М. *нязведаным*: ПН, 46.

**НЯЗВЫЧАЙНЫ** *гл.* **НЕЗВЫЧАЙНЫ**.

**НЯЗГАДНЫ** *прым. Разм.* Якога не пазналі; незнаёмы. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46.

Адз. м. Н. *нязгадны*: УрП, 46.

**НЯЗГАСЛЫ** (2) *прым. Разм.* Нязгасны. *Ісці ўперад будуць вякі, пакаленні, – Законы-ж твае* [Сталіна]*, нібы светач нязгаслы, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням..* ТП, 216. *Шчасьлівы ты, ці нешчасьлівы Будзі сыноў сваёй зямлі, Над беларускай соннай нівай Нязгаслы сьветач распалі.* ШН.

Адз. м. Н. *нязгаслы*: ТП, 216. В. *нязгаслы*: ШН.

**[НЯЗГЛЕДЖАНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* неабсяжны. *Ляглі нязгледжаныя далі* (*Як сокал бачыць мог я усё*)*, Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыцьцё.* УрП, 46. *Параўн.* неабняты, нязмерны, нязьмераны.

Мн. Н. *нязгледжаныя*: УрП, 46.

**[НЯЗЛОМНЫ]** (2) *прым. перан.* **1.** Неперамажны. *З гэтага для маема магчымасьць будаваць сваю беларускую армію, сваю аружную, нязломную сілу..* БСУ.

**2.** Непахісны. *З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем* [беларусы] *усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.* ПЛП.

Адз. ж. В. *нязломную*: БСУ. Т. *нязломнай*: ПЛП.

**[НЯЗМЕРНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* неабсяжны. *Ідзі* [беларус] *у лес, што стаў кругом Тваіх нязмерных ніў на стражы, Што толькі думаў аб адном...* БрБ, 6. *Параўн.* неабдымны, неабняты, нязгледжаны, нязьмераны.

Мн. Р. *нязмерных*: БрБ, 6.

**[НЯЗНАЧНЫ]** *прым.* Невялікі па працягласці [пра час]. *.. нязначны час* [Купала] *вучыўся ў Мінску ў прыватнай падрыхтоўчай школе: нейкі стары чалавек падрыхтоўваў групу вучняў ў навучальныя ўстановы г. Мінска.* А, 328.

Адз. м. В. *нязначны*: А, 328.

**[НЯЗЬЛІЧАНЫ]** *прым. Разм.* Шматлікі. *Мы прывялі адзін з нязьлічаных выпадкаў няпрызнаньня права беларускага народу на яго родную мову.* ОШМ.

Мн. Р. *нязьлічаных*: ОШМ.

**[НЯЗЬМЕРАНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* неабсяжны. *Распасьцер свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да краю, па усім нязьмераным сьвеце, і пачатку яго не найці і канца яму не дабачыць.* З. *Параўн.* неабдымны, неабняты, нязгледжаны, нязмерны.

Адз. м. М. *нязьмераным*: З.

**[НЯКРАТАНЫ]** *прым. Наватв.* Некрануты. [Янка]: *Калі ён* [Мікіта] *вышаў родам з сялян, то ніякай працы не павінен чурацца, асабліва павінна яго пацягнуць туды, адкуль прыйшоў, – на вёску, дзе столькі поля някратанага ляжыць.* Т, 20.

Адз. н. Р. *някратанага*: Т, 20.

**НЯЛЁГКА** *прысл. У знач. вык.* Цяжка, складана. *Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе Важны ўзносіўся хорам-сталіца, Чорнабожнік над ім непраглядны завесіў, Каб нялёгка было прыступіцца.* Ч, 321.

**[НЯЛЁГКІ]** (2) *прым.*: ◊ **Нялёгкае нясе** *гл.* несці. **Трасцай кідацца нялёгкай** *гл.* кідацца.

Адз. ж. Т. *нялёгкай*: ВБЛ, 80. н. Н. *нялёгкае*: Т, 25.

**НЯЛЬГА** *прысл. Разм.* Нельга. *– Глаток вады. – Няльга, запёрта будка.* ВБЛ, 80.

**НЯМА** (32) і **НІМА** (4) *безас. У знач. вык.* Не быць у наяўнасці, адсутнічаць. *Цяперака час жытняй сяўбы. Дык жыва за плуг і севалку. Памагаймо тым, у каго німа каму выйсьці на поле с сеўняю.* РКр. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я вам не адзін раз казаў і яшчэ кажу: у вас няма зусім гандлярскай жылкі..* Т, 34. // Не існуе, не бывае зусім. *Адзіным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы* [беларусы] *скінулі і патапталі даўгавечную брахню, – што Беларусі не было і няма.* ПЛП. *Перш, чым што зрабіць, абываталь любіць распытацца у людзей і параіцца з суседам; людзі-ж яму скажуць, а сусед падцьвердзіць, што Беларусі няма, есьць толькі Польшча і Расія...* ВМР. *Параўн.* нямашака, няхват. Ан, 18, 19 (2); БН, 93 (2); ВБЛ, 80; ВН; ВНЗ; ВЧ; ДД (2); ПБН; СБНГ (2); Т, 23, 32 (2), 40, 43, 46, 52, 54; ТП, 213; УП; ХБ, 30 (2).

◊ **Зводзіцца на няма нішто** *гл.* зводзіцца. **Няма на іх доўгай пугі** *– пра немагчымасць пакараць каго-н.* [Гарошка]: *Няма на іх* [гасцей Мікіты] *доўгай пугі.* Т, 29. **Няма ўпынку** *гл.* упынак. **Няма чаго (што) –** не трэба. *На беларускай зямлі было і ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца.* ПЛП. **Няма чаго казаць** *гл.* казаць.

**НЯМАЛА** *гл.* **НЕМАЛА**.

**НЯМАШАКА** *безас. У знач. вык. Разм. Тое, што* няма. [Ганна]: *Так, што, як бачыце* [Янка], *ніякай далікатнасці* [у Мікіты] *нямашака.* Т, 20.

**[НЯМЕЦКА-РАСІЙСКІ]** *прым.* Які мае адносіны да немцаў і расійцаў. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16.

Мн. Р. *нямецка-расійскіх*: АБ, 16.

**НЯМЕЦКІ** (18) *прым.* **1.** Які мае адносіны да немца ў *1 знач.* [Мікіта]: *Ну і немец, меджду протчым. Сваіх жа нямецкіх марак не хацеў купіць.* Т, 42. [Мікіта]: *Каб хто хоць на смех запытаўся аб марках. “Рускія” – кажуць – давай, а нямецкія, кажуць, меджду протчым, немцу прадай.* Там жа, 34.

**2.** Які мае адносіны да немца *ў 2 знач.* [Немец]: *Я вас* [Мікіту] *павінен, як верны нямецкі салдат, забраць у палон, бо вы рускі генэрал.* Т, 32. *Атрад выбіў нямецкіх акупантаў з вёскі.* Т. ПСп.

Адз. м. Н. *нямецкі*: Т, 32. Р. *нямецкага* (3): ВНЗ; ПСп; ШБСЯ. В. *нямецкі*: Т, 32. Т. *нямецкім*: РКП. ж. Н. *нямецкая*: Т, 33. Т. *нямецкай* (2): Т, 48; ЧЧШ. н. Н. *нямецкае*: Т, 33. Мн. Р. *нямецкіх* (4): ВНЗ; НКУС; Т, 42; ХЛВ. В. *нямецкія* (2): Т, 34, 43; *нямецкіх*: ПСп. Т. *нямецкімі*: Т, 33.

**[НЯМІЛАСЬЦЬ]** *ж.* Непрыхільнасць, непрыязнасць. *Пры вельмі цяжкіх тэхнічных варунках, бо Поліграфаддзел ня мог ці не хацеў даць патрэбную колькасць шрыфтаў і наборчыкаў, пры тых перашкодах і няміласьцях, якія прыходзілася й прыходзіцца спатыкаць беларускаму друкаванаму слову з боку яго няпрыхільнікаў, – такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці "Адраджэньня" быў проста гэраічным.* ВСп, 91.

Мн. М. *няміласьцях*: ВСп, 91.

**[НЯМІНУЧАСЦЬ]** *ж.* Непазбежнасць. *Гэтае захапленьне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмократычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я* [Купала] *і ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі ня змог ад іх пазбавіцца ды ўразумець і ўсьвядоміць усю веліч і гістарычную немінучасьць пролетарскае рэволюцыі..* АЛ.

Адз. В. *нямінучасьць*: АЛ.

**НЯМНОЖКА** *прысл. Руск.* Трошкі, крышку. [Мікіта]: *Мадамы і мусьі! мы з мамашай, меджду протчым, вас нямножка правядзём.* Т, 29.

**НЯМОЖНА** (7) *безас. У знач. вык.* **1.** Нельга. [Аленка]: *Але ведаеце што ... як ...* [Янка]: *Не, не ведаю.* [Аленка]: *Няможна перабіваць, пане настаўнік, калі хто гавора.* Т, 30. [Наста]: *Ці няможна ад гэтых паноў на хвілінку мне схавацца?* Там жа, 23. Т, 32, 49.

**2.** *Разм.* Немагчыма. [Янка]: *Гучны, як уважаю, баль у вас будзе.* [Мікіта]: *О так! У нашым чыноўніцкім становішчы іначай няможна.* Т, 21. [Янка]: *Эгэ! І пляшку бачу. А кажуць, што няможна дастаць.* Там жа. Т, 45.

**[НЯМЧУР]** *м.*: Δ **Нямчур-людажор:** *Лічыць з табой будзем не зоры, Галовы мы* [хлопчык і лётчык] *станем лічыць, Галовы нямчур-людажораў, Што будзем смяротна глушыць.* ХЛВ, 315.

Мн. Р. *нямчур*: ХЛВ, 315.

**НЯМЫ** (7) *прым.* **1.** Пазбаўлены здольнасці ці магчымасці гаварыць. [Мікіта]: *Але ён што гэта – ці ён нямы, што ні слова не адказаў мне на запытанне?* [Наста]: *Не нямы, а толькі немец і панашаму не разумее.* Т, 42.

**2.** *перан.* Маўклівы, ціхі. *Шапаціць тое лісьце заснуўшым палянам, – Чуе ночка глухая, нямая: Кожны край, што дачэсна завецца забраным Гэткіх казак забытых шмат знае.* Ч, 326. // Які не

суправаджаецца, не выражаецца словам. *Вылазе з цемры бледны звод, Глядзіць сьліўнём на долы, горы, І тут і там пускае ў ход Свае нямые загаворы.* Кц, 192.

**3.** *перан.* Згубны. *Дзе толькі ступіце* [людзі]*, зьнямее Нямая чорная напасьць, Ніхто чапіць вас не пасьмее, Усякі вам дарогу дасьць.* УрП, 50.

**4.** *перан.* Раўнадушны. *Не асталася глухой і нямой на гэта і наша бацькаўшчына Беларусь.* СНБ, 336.

Адз. м. Н. *нямы* (2): Т, 42 (2). ж. Н. *нямая* (2): УрП, 50; Ч, 325 Т. *нямой*: СНБ, 336. Мн. В. *нямыя*: Кц, 192; Ч, 325.

**[НЯНАВІСЦЬ]** (3), **[НЯНАВІСЬЦЬ]** і **[НЕНАВІСЬЦЬ]** *ж.* Непрыязнасць, варожасць. *У нявольніка заўсёды ёсць больш помствы, нянавісці к другім, чымся ў чалавека вольнага.* НДН, 19. *Масква й Варшава аплюлі вам* [Жыдам] *імя І дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам.* Ж. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай, азьвярэньнем і нянавісьцю сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй, добра ведае і адчувае, што справядлівай гісторыяй ужо палічаны апошнія гадзіны яго існаваньня.* АЛ.

Адз. Р. *нянавісці* (2): МП; НДН, 19 В. *ненавісьць*: Ж. М. *нянавісцю*: ПС; *нянавісьцю*: АЛ.

**[НЯНЬКА]** (2) *ж.* **1.** Жанчына, якая даглядае дзяцей у сям'і. *Парускy я* [Купала] *навучыўся ад сваёй нянькі.* А, 328.

**2.** *перан.* Апякун. *Масква й Варшава аплюлі вам імя І ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам, А Беларусь пад крыльлямі сваімі Вас* [Жыдоў] *грэла й вашым нянькаю была дзяцям.* Ж.

Адз. Р. *нянькі*: А, 328. Т. *нянькаю*: Ж.

**[НЯПАМЯЦЬ]** (2) *ж. Польск.:* ◊ **Няпамяці пылам пакрыты** *гл.* пакрыты. **Пайсці ў няпамяць** *гл.* пайсці.

Адз. Р. *няпамяці*: Б, 18. В. *няпамяць*: СНБ.

**[НЯПРАЎДА]** (2) *ж.* Хлусня, мана. *Агонь аўтарны разлажыце* [людзі]*, Ахвяру небу аддадзім, Няпраўды толькі ня будзіце, – Хай сьпіць пад полагам сваім.* УрП, 50.

Δ **Праўда-няпраўда** *гл.* праўда.

Адз. Р. *няпраўды*: УрП, 50. Д. *няпраўдзе*: Ч, 320.

**[НЕПРЫЗНАНЬНЕ]** *н.* Неадабрэнне. *Мы прывялі адзін з нязьлічаных выпадкаў няпрызнаньня права беларускага народу на яго родную мову.* ОШМ.

Адз. Р. *няпрызнаньня*: ОШМ.

**[НЯПРЫХІЛЬНІК]** (2) *м.* Той, хто не падтрымлівае якія-н. ідэі, погляды. *Пры вельмі цяжкіх тэхнічных варунках, пры тых перашкодах і няміласьцях, якія прыходзілася й прыходзіцца спатыкаць беларускаму друкаванаму слову з боку яго няпрыхільнікаў, – такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці "Адраджэньня" быў про-*

*ста гэраічным.* ВСп, 91. *.. М. Кудзелька даў паэму “Босыя на вогнішчы”, зьвярнуўшы на сябе ўвагу розных крытыкаў, якія падзяліліся на прыхільнікаў і няпрыхільнікаў паэмы – адны хваляць, а другія ганяць.* Там жа, 89.

Мн. Р. *няпрыхільнікаў*: ВСп, 91. В. *няпрыхільнікаў*: ВСп, 89.

**[НЯПРЫХІЛЬНЫ]** *прым. перан.* Неспрыяльны. *Я* [Купала] *кажу аб забабоне, каторы у нас толькі мог вытварыцца, дзякуючы нашай няпрыхільнай гісторыі, дзякуючы нашай доўгіе годы бездзяржаўнасьці, дзякуючы нашаму паднявольнаму жыцьцю.* З.

Адз. ж. Д. *няпрыхільнай*: З.

**НЯПРЫЯЦЕЛЬ** *гл.* **НЕПРЫЯЦЕЛЬ**.

**НЯПЭЎНЫ** (2) *прым.* **1.** Ненадзейны, недакладны. [Мікіта]: *Ой-ей! Ой-ей! .. Мамзель Наста, якія ж гэта няпэўныя вашы пэўныя крыніцы.* Т, 52.

**2.** *перан. У знач. наз.* Пра незнаёмага, чужога чалавека. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, .. глядзеце вось лепей, ці не снуе хто няпэўны каля вакон.* Т, 58.

Адз. м. Н. *няпэўны*: Т, 58. Мн. Н. *няпэўныя*: Т, 52.

**НЯРАЗ** *прысл.* Часта. *І вось з гэтага вялікага ліку “гымнаў” мы ўсё такі ня маемо .. прызнанага і усьвенчанага – беларускага нацыянальнага гымну. Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народу і няраз ставіць публіку у прыкрае палажэньне..* СБНГ.

**НЯСЛАВА** (2) *ж.* Благая слава, ганьба. *Рынкам жывога тавару няслава Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой, Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава Торг груганавы вядуць між сабой.* Н. *Творыць* [забабон] *праступные легэнды, творыць праступные веры, творыць крыўду і няславу людзкую.* З.

Адз. Н. *няслава*: Н. В. *няславу*: З.

**[НЯСТРЫМАНЫ]** *прым.* Нясцерпны, невыносны. *..народу свайму за яго такую нястрыманую памаўклівасць* [богі] *нядобрыя варожбы выражалі.* Кз, 17.

Адз. ж. В. *нястрыманую*: Кз, 17.

**[НЯСЬМЕРТНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* бяссмертны. *Сваей неразумнай захватнай палітыкай яны* [соцыяльные рэволюцыянеры з усходу і нацыянальные “рэволюцыянеры” з заходу] *толькі зацягіваюць процэс праўдзіва-дэмократычнага разьвіцьця нацыянальна-культурных ідэй і пашырэньне на зямлі нясьмертных ідэялаў свабоды, роўнасьці і брацтва.* СНБ.

Мн. Р. *нясьмертных*: СНБ.

**НЯСЬПЕЛЫ** *прым.* Які не дасягнуў спеласці. *Нясьпелы колас рваўся з ніў.* УрП, 47.

Адз. м. Н. *нясьпелы*: УрП, 47.

**НЯСЬЦІ** *гл.* **НЕСЦІ**.

**[НЯСЬЦЮДЗЁНЫ]** *прым. Руск.* Нясцюжны. *..зіма* [на Меншчыне] *нясьцюдзёная, часамі зусім бяз сьнегу..* ХБ, 29.

Адз. ж. Н. *нясьцюдзёная*: ХБ, 29.

**[НЯЎДАЧА]** (2) *ж.* Адсутнасць удачы, поспеху. *Гэтыя ваенныя няўдачы прывялі бальшавікоў у дзікую злосць.* СНБ, 340. *Я* [Купала] *дзякую тав. Гікало, які заўсёды ўважліва адклікаўся на мае ўдачы і няўдачы на творчым шляху.* ЖН.

Мн. Н. *няўдачы*: СНБ, 340. В. *няўдачы*: ЖН.

**[НЯЎДАЧНЫ]** *прым. да* няўдача. *З кашмарамі спадчыны няўдачнага мінулага паўзе у пары паганы забабон.* З.

Адз. н. Р. *няудачнага*: З.

**НЯЎЖО** (4) *часц.* Хіба. *Няўжо настолькі коратка памяць японскіх ваяк, што яны забылі ўрокі 1921-1922 г.г.* ВГ. *Няўжо кліч вечны будзе ў нас* [беларусаў] *напрасны – Кліч бураломны: вызваленне з пут?!* Бч, 10. Бч, 10; Т, 24.

**[НЯЎЛАДНЫ]** *прым. Разм.* Безуладны. *Гэткай паняй* [цьветночка] *ясьнела у хораме зорным Цараўладнай і разам няўладнай..* Ч, 322.

Адз. ж. Т. *няўладнай*: Ч, 322.

**[НЯЎРОД]** *м. Разм.* Неўраджай, недарод. *Я*[ беларус] *мецъ ад кагосьці і штосьці прывык: Ад рускага чына – Нагайку і штык, Ад польскага пана – Прыгон і бізун, Ад роднай зямелькі – няўрод і каўтун.* МК.

Адз. В. *няўрод*: МК.

**[НЯЎРОЧНЫ]** *прым. перан.* Чароўны, прыемны, незвычайны. *Гаспадар той суважна свой шнур па святочнаму Абыходзіці будзе, красой любаваццa, Прыслухоўваццa шэлесту нівы няўрочнаму..* ТС, 74.

Адз. м. Д. *няўрочнаму*: ТС, 74.

**НЯЎХІЛЬНА** *прысл.* Пастаянна, нязменна. *..контррэволюцыйныя нацыянал-дэмакраты спадціишка, але няўхільна, падточвалі соцыялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці, падменьваючы іх нацыянальна-буржуазнымі..* АЛ.

**НЯХАЙ** (18) і *разм.* **НІХАЙ** *часц.* З дзеясл. 3 ас. адз. і мн. ліку буд. часу выражае: а) загад, пабуджэнне. *Але няхай скажа партыя, няхай скажа совецкі ўрад, няхай скажа таварыш Сталін – і нашы байцы насцігнуць зарваўшагася ворага і разгромяць яго на ўласнай яго зямлі.* ВГ. *Няхай зразумеюць тыя, хто глядзіць на наш горад вачыма чужынца, што раней ці пазней, а ен будзе беларускім ня толькі па назове, а й па істоце і па надворнаму выгляду сваймy.* ВМР; б) дазвол, згоду, уступку. *І расейскіе націоналісты, і ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас: лепей ніхай палякі з'ядуць*

*зусім каталікоў-беларусоў, чым беларускаму народу пазволіць развівацца у сваім нацыональным духу.* ВР; в) заклік, пажаданне. *Няхай гэтыя здраднікі* [трацкісты] *будуць пракляты навекі.* ВНЗ. *Няхай-жа ў зямлі вам* [трацкістам] *Не будзе спагады За ваша зладзейства, За вашыя здрады.* МПв, 219. *Параўн.* пусьць. АЛ; ВМР (2); ДК; НКУС; ПБН; ПЧ; СЧ.

◊ **Няхай жыве** *гл.* жыць.

**НЯХВАТ** *безас. Н准ватв. Тое, што* няма. *Столькі іх, гэтых мілых часін! А забыці іх сілы няхват.* ЧС, 50-51.

**НЯЦІХА** *прысл.* Хутка, шпарка. *З неадступнаю нагайкай Едзе, сыпе Налівайка, Едзе з шыкам і няціха, Тут рагатка – што за ліха.* НД.

**[НЯЧУВАНЫ]** (4) *прым*. Незвычайны, небывалы. *Адбываюцца нячуваныя, грандыёзьнейшыя ў гісторыі чалавецтва падзеі.* АЛ. *Калі ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў дасьцігла нябывалых і нячуваных посьпехаў.., то ў галіне літаратуры, мастацтва гэткіх посьпехаў і такога шпаркага разьвіцця не адчувалася.* ДНСП.

Адз. м. Т. *нячуваным*: АЛ. Мн. Н. *нячуваныя*: АЛ. Р. *нячуваных*: ДНСП. В. *нячуваныя*: АЛ.

**НЯЧУТНА** *прысл. Разм.* Нечувана. *..да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты шум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29.

**[НЯЧУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* не чуць. Непачуты. *І круцілі цябе* [Беларусь]*, як каму падабалася, Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад; Ажно часам жальба, як кляцьба, разлягалася Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.* Б, 18.

Адз. ж. Т. *нячутай*: Б, 18.

**[НЯЧЫСТЫ]** (4) *прым. перан.* **1.** Кепскі, нядобры. [Ганулья]: *Адно ідзі* [Мікіта] *асцярожна, каб цябе ў палон не схапілі або сам у якую нячыстую гісторыю не ўпутаўся.* Т, 56.

**2.** Няшчыры. [Янка]: *Паддаецца эвакуацыі ў сягонешні час толькі той, у каго або нячыстае сумленне, або ён сядзеў тут з боку-прыпёку, нераўнуючы, як пустазелле на сялянскай градзе.* Т, 37. *І вось, з нашага, беларускага пагляду усе гэтые плебісцыты і сходы бацькоў есьць нішто іншае, як дэмократычная камэдыя, каторую людзі прыкрываюць свае нячыстае сумленьне.* ДК.

◊ **Нячыстая сіла** *гл.* сіла.

Адз. ж. Н. *нячыстая*: Т, 49. В. *нячыстую*: Т, 56. н. Н. *нячыстае*: Т, 37. В. *нячыстае*: ДК.

**НЯЧЫСЦІК** (2) *м. Разм.* Нячыстая сіла, чорт. *Нячысцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы, “Забраны край” тузаюць так.* ЗК. 42.

◊ **Які яго нячысцік выкруціў** *гл.* выкруціць.

Адз. Н. *нячысцік*: Т, 32. Мн. Н. *нячысцікі*: ЗК, 42.

**[НЯШЛЮБНЫ]** *прым.* Пазашлюбны. *Было знаць неякае сьвята Няшлюбных з новізнай людзей, – Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47.

Мн. Р. *няшлюбных*: УрП, 47.

**НЯШЧАСНЫ** (3) *прым.* **1.** Нешчаслівы. *Сярод разьюшаных сатрапаў Паганы зладзіўшы хаўрус, Свае таргуюць і чужыя Табой, няшчасны беларус.* РС, 39. *І бачыў ён* [Сталін], *магутны, Сваім вокам ясным, Што надходзіць час расплаты За людзей няшчасных.* ЗЯЗ, 89.

**2.** Які прыносіць няшчасце. *Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў.* Нз, 14.

Адз. м. Н. *няшчасны*: РС, 39. ж. Д. *няшчаснай*: Нз, 14. Мн. В. *няшчасных*: ЗЯЗ, 89.

**НЯШЧАСЦЕ** (2), [**НЯШЧАСЬЦЕ**] і **НЕШЧАСЬЦЕ** *н.* Бяда, гора. [Аленка]: *Якое няшчасце! Гэта ж як у таткі пачнецца вялікі табачны пост, дык задасць ён усім нам табакі!* Т, 39. *Нешчасьце людзей лучыць – кажэ прыказка.* ВС. *Ня могучы кожнаму з асобку падзякаваць, як на гэта яны заслужылі сваймі шчырымі адносінамі к майму няшчасьцю, я* [Купала] *лічу сваім сьвятым абавязкам хоць на гэтым месцы успомніць гэтых асоб добрым словам.* ЛР.

Адз. Н. *няшчасце*: Т, 39, 59; *нешчасьце*: ВС. Д. *няшчасьцю*: ЛР.

# О

**О**[1] (9) *прыназ. Руск. Тое, што* аб *у 2 знач*. [Поп]: *Не врэмя лі подумаць нам і о ложэ в очаге домашнем.* Т, 28. [Усходні вучоны]: *Пры опросе оборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Там жа, 39. Т, 39(2), 47(5).

**О**[2] (35) *выкл.* **1.** Ужываецца для выказвання здзіўлення, дакору. [Мікіта]: О*, меджду протчым, і профэсар у нас!* Т, 21. *Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?.. О, стыдна, рускі "гражданин"!* АПЖ.

**2.** Ужываецца для ўзмацнення экспрэсіўнасці выказвання ў рытарычных сказах і рытарычных зваротах. *О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо мяжы!* НДп, 229. *О богі рэк, лясоў і ніваў!* УрП, 48.

**3.** Ужываецца для ўзмацнення сцвярджэння або адмаўлення. [Спічыні]: *А я страшэнна не люблю спатыкацца з ворагам, калі ён наступае і калі ён адступае.* [Мікіта]: *О так!* Т, 41. *Калісь... О, не! .. Зусім нядаўна было гэта...* СК, 158. АПЖ (5); Бч, 9; БН, 91; ВБЛ, 81; Ж; ПВ; РС, 40; Т, 20, 21, 24, 27, 28, 30, 32, 36, 38, 41, 42(2), 44, 45, 51, 55, 56, 58. *Параўн.* ой *у* 3 *знач.*

**[ОБЕР-ШПІЁН]** *м. Ням.* Галоўны, асноўны шпіён. *..няма роўнага таму здрадніцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкісцкіх нягоднікаў – Пятакова, Радэка і іншых на чале з обер-шпіёнам Троцкім.* ВНЗ.

Адз. Т. *обер-шпіёнам*: ВНЗ.

**[ОБІЛЬНЫЙ]** (20) *прым. Руск*. Багаты, шчодры. [Поп]: *Трапеза была обільная, яствы упітацельныя: амэрыканскае сала...* Т, 51. [Усходні вучоны]: *Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна..* Там жа, 47.

Адз. ж. Н. *обільная*: Т, 51. Кар. адз. ж. Н. *обільна*: Т, 47.

**[ОБІЦЕЛЬ]** *ж. Руск., уст.* Месца жыхарства, жыллё. [Поп]: (*пільна ўгледзеўшыся ў вакно, потым да танцуючых*). *В сію обіцель градзе большэвік.* Т, 52.

Адз. В. *обіцель*: Т, 52.

**[ОБЛАСЦЬ]** (3) *ж. Руск. Тое, што* вобласць. [Усходні вучоны]: (*да Янкі*). *Необходзімо почэрпнуць от вас сведенія касацельно церрыторыальных данных області, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю областць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Там жа, 39.

Адз. Р. *області* (2): Т, 38, 47. В. *область*: Т, 39.

**[ОБЛАЧЭНІЕ]** *н. Руск. Тое, што* адзенне. [Поп]: *Мої облачэнія зашчытой мне от всякіх зол земных.* Т, 52.

Мн. Н. *облачэнія*: Т, 52.

**ОБМАЦКАМ** *прысл. Разм.* Вобмацкам. *Яна* [моладзь] *інстынктыўна, обмацкам даходзіла да тэй свядомаці аб патрэбе свайго беларускага войска.* БВ, 16.

**ОБО** *злуч. Руск. Тое, што* аба. [Поп]: *Не суеціцеся обо мне, сын мой!* Т, 52.

**ОБРЭТАЦЬ** *незак. Руск., перан.* Ствараць. [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне абрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27.

Інф. *обрэтаць*: Т, 27.

**[ОБШЧЭРУСКІЙ]** (2), **ОБШЧЭРУССКІЙ** і **ОБШЧАРУСКІ** *прым. Руск.* Агульнарускі. [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в часносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39. [Усходні вучоны]: *Родной язык – обшчэрусскій, веліколепно усовершэнствавнный, но с большой прымесью непонятных слов.* Там жа, 26. *А ты, о рускі мой "язык"! Мой обшчарускі, што з табою?* АПЖ.

Адз. м. Н. *обшчарускі*: АПЖ; *обшчэрусскій*: Т, 26. М. *обшчэруском*: Т, 39. Мн. Р. *обшчэрускіх*: Т, 47.

**[ОБ'ЯСНІЦЬ]** *зак. Руск.* Растлумачыць. [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в часносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

Абв. пр. адз. м. *об'ясніл*: Т, 39.

**[ОБЭЦНЫ]** *дзеепрым. Польск.* Які прысутнічае. [Заходні вучоны]: (*да Янкі*): *Бардзо на часе, жэ пан обэцным ест.* Т, 47.

Адз. м. Т. *обэцным*: Т, 47.

**[ОВЭ]** (2) *займ. Польск. Тое, што* гэты *ў* 3 *знач.* [Заходні вучоны]: *На запытанне, як сень далеко распостшэня овэ “далей”, муй інформатор.. ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго “далей” наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39. [Заходні вучоны]: *Еднак, спостшэга сень донжэне розшэжыць овэ граніцэ на Всхуд.* Там жа, 47.

Адз. н. Н. *овэ*: Т, 39. Мн. В. *овэ*: Т, 47.

**ОГО** (2) *выкл.* Вокліч, які выказвае здзіўленне. [Мікіта]: *.. хай сабе ідуць* [немцы], *гэта мне пад руку – буду зноў засядаць у губарнатарскай канцылярыі.* [Наста]: *Ого! так адразу.* Т, 24. [Аленка]: *Няможна перабіваць, калі іншы хто гавора.* [Янка]: *Ого! Мы нават сур’ёзнымі зрабіліся.* Там жа, 30.

**[ОГУЛЬНОПОЛЬСКІ]** (2) *прым.* Агульнапольскі. [Заходні вучоны]: *.. муй інформатор.. ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго “далей” наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39. [Заходні вучоны]: *Мова ойчыста – огульнопольска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.* Там жа, 26.

Адз. н. М. *огульнопольскім*: Т, 39. Кар. адз. ж. Н. *огульнопольска*: Т, 26.

**ОД** (2) *прыназ. Польск.* **1.** *Тое, што ад у* 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *.. муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго “далей” наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

**2.** *Тое, што* ад *у* 2 *знач.* [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон* [беларусы].. Т, 47.

**ОДЗІН** (2) *ліч. Руск.* **1.** *Тое, што* адзін *у* 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *Ешчо одзін маленькій вопрос: Вашы* [Янкавы] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ..?* Т, 47.

**2.** *Тое, што* адзін *у* 4 *знач.* [Поп]: *І прышэд я с німі, дабы одн<br>ім веселіем возвеселіціся з вамі, чадо мое, рэгістратор!* Т, 51.

Адз м. н. *одзін*: Т, 47. н. Т. *однім*: Т, 51.

**ОЙ** (26), **ОЕЙ** (19), **ОЕЕЙ** (10) і **ОЙ-ЕЙ** (3) *выкл.* **1.** *Паэт.* Ужываецца ў якасці зачыну ў вершах. *Ой, сяброўка з вечарынкі, Нам з табою не дружыць..* ВБЛ, 82. *Ой, не плачэ брат над братам На мяжы кургана..* Дз, 187.

**2.** Выказвае пачуццё страху, трывогі. [Мікіта]: *.. Я не хачу быць генералам і не хачу ў палон цягнуцца. Оей! Оей! Пане настаўнік, бацька беларус! выбаўляй з ягіпецкай няволі!* Т, 33. [Мікіта]: *Дзе той Спічыні? Оеей! Што ён нарабіў мне.* Там жа, 32.

**3.** *Тое, што* о$^2$ *ў* 3 *знач*.. [Спічыні]: *А як вы прывітаеце, спаткаўшы.. малое немчанё?* [Мікіта]: *Шабас гут, гэр кіндар фатэрлянд, меджду протчым!* [Спічыні]: *Ой, куды вы заехалі..?* Т, 31. [Спічыні]: *Вы што-небудзь ведаеце аб савецкім ладзе?* [Мікіта]: *Оей! Нават добра ведаю.* Там жа, 41.

**4.** *Тое, што* ох. [Ганупя]: *Не цягне яго* [Мікіту] *і туды* [у вёску], *мой саколік, ой, не цягне!* Т, 20. [Мікіта]: *А казалі, што іх* [бальшавікоў] *ужо няма... Ой-ей! Ой-ей! Мамзэль Наста, якія ж гэта няпэўныя вашы крыніцы!* Там жа, 52.

**Ой, вяду бяду.**

ВБ; ВБЛ, 81, 82(2); ГЖУ (2); Дз, 189; Н; ПСп; Т, 28, 29, 32(8), 33(6), 39, 52, 54, 59(6), 60(4), 61(2), 62(6).

**[ОЖЭЦЬ]** *зак. Польск.* Выказаць думку. [Заходні вучоны]: *.. муй інформатор .. ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

Абв. пр. адз. м. *ожэкл*: Т, 39.

**[ОЙЧЫЗНА]** *ж. Польск. Тое, што* айчына. [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26. [Заходні вучоны]: *.. вбрэв гісторычным, еографічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні називаён Бялорусь.* Там жа, 26.

Адз. Р. *ойчызны*: Т, 26. В. *ойчызнэн*: Т, 26.

**[ОЙЧЫСТЫ]** *прым. Польск.* Айчынны; родны. [Заходні вучоны]: *Мова ойчыста – огульно-польска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.* Т, 26.

Адз. ж. Н. *ойчыста*: Т, 26.

**[ОКОНЧЭНЫЙ]** *дзеепрым. зал. пр. да* окончить. *Руск. У знач. вык.* Скончаны, закончаны. [Усходні вучоны]: *Мої научныя ісследованія на сегодняшній дзень окончэны.* Т, 27.

Кар. мн. Н. *окончэны*: Т, 27.

**[ОКОШКО]** (2) *н. Руск., перан., разм.* Выхад куды-н. [Усходні вучоны]: (*запісваючы*). *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают..* Т, 47.

◊ **Пробіць окошко** *гл.* пробіць.

Адз. В. *окошко*: Т, 47. Мн. М. *окошках*: Т, 47.

**[ОКРАІНА]** *ж. Руск.* Ускраіна. *І адны* [палякі], *і другія* [рускія] *глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога.* Нз, 15.

Адз. В. *окраіну*: Нз, 15.

**[ОКУПАНТ]** м.: **Окупанты на шэсьць месяцаў.**

Мн. Н. *окупанты*: ОШМ.

**[ОКУПАЦЫЯ]** *ж. Руск.* Акупацыя. .. *польская соймавая камісія была вельмі нездаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыў слова окупацыя.* ОШМ.

Адз. В. *окупацыя*: ОШМ.

**ОНЕ** (2) *займ. Руск. Тое, што* яны ў 1 *знач.* [Поп]: *Прогрэшэнія нашы неісчыслімыя. Навождзяху оне на себя возмездзіе необозрымое.* Т, 37. [Усходні вучоны]: *Что касается паліцічэскіх граніц обласці, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очень туманны.* Там жа, 47.

Мн. Н. *оне* (2): Т, 37, 47.

**[ОНЫЙ]** (2) *займ. Руск., уст. Тое, што* той *у* 3 *знач.* [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік.. об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39. [Заходні вучоны]: *На запытанне, як сень далеко распостшэня овэ "далей", муй інформатор .. ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Там жа, 39.

Адз. н. Н. *оное*: Т, 39. Р. *онэго*: Т, 39.

**[ОПЕРА]** (2) *ж.* Музычна-драматычны твор. *..А. Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на савецкай сцэне оперы Смятаны "Прадaная нявеста"..* ПЧ. // Такі твор, пастаўлены на сцэне. *Праглядалі мы* [дэлегаты] .. *оперу кампазітара Смятаны "Прадaная нявеста" ў тэатры "Народнае дзівадла".* ПЧ.

Адз. Р. *оперы*: ПЧ. В. *оперу*: ПЧ.

**[ОПРОС]** (2) *м. Руск.* Апытанне. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39. [Усходні вучоны]: *Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенносць, а іменно: вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Там жа, 26.

Адз. М. *опросе* (2): Т, 26, 39.

**[ОРГАН]** (2) *м.* Перыядычнае выданне. *..гэта часопісь* ["Наша Каляіна"] *з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці "Кветка Папараці"..* MI, 17. .. *"Gazeta Codziennа" была органам віленскіх "эндэкаў"* .. У.

Адз. Т. *органам* (2): MI, 17; У.

**ОРГАНІЗАЦЫЙНА** *прысл.* У адносінах да арганізацыі. *Парываючы .. ідэйна і организацыйна з беларускім нацыянал-*

*дэмакратызмам.., я* [Купала] *шчыра жадаю, каб .. мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіньня..* АЛ.

**ОРГАНІЗАЦЫЯ** *гл.* **АРГАНІЗАЦЫЯ**.

**ОРГАНІЗМ** *м. перан. Тое, што* сэрца *ў* 2 *знач.* [Наста]: *А іншых залётаў ды іншых каханняў мой организм не прыме.* Т, 42.

Адз. Н. *организм*: Т, 42.

**[ОРДЭНАНОСЕЦ]** *м.* Той, хто ўзнагароджаны ордэнам. *Я* [Купала] *вітаю нашых ордэнаносцаў – Нікалая Фёдаравіча Гікало і Нікалая Мацвеевіча Галадзеда ..* ЖН.

Мн. В. *ордэнаносцаў*: ЖН.

**ОРЫГІНАЛЬНЫ** *гл.* **АРЫГІНАЛЬНЫ**.

**[ОСЁНГНЕНЦЕ]** *н. Польск.* Разуменне. [Заходні вучоны]: *.. для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

Адз. Р. *осёнгненця*: Т, 39.

**[ОСОБЕННОСЦЬ]** *ж. Руск. Тое, што* асаблівасць. [Усходні вучоны]: *Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенносць..* Т, 26.

Адз. В. *особенносць*: Т, 26.

**[ОСОБЛІВОСЦЬ]** *ж. Польск. Тое, што* асаблівасць. [Заходні вучоны]: *Пшы баданю бялорусіна высветлёно надзвычайнон особлівосць..* Т, 26.

Адз. В. *особлівосць*: Т, 26.

**[ОСТАНОВІЦЦА]** *зак. Руск.* Спыніцца. [Поп]: *(пільна ўгледзеўшыся ў вакно, потым да танцуючых). Чады мої, остановіцесь! В сію обіцель градзе большэвік.* Т, 52.

Заг. мн. 2 ас. *остановіцесь*: Т, 52.

**ОСТАЦЬСЯ** *зак. Руск. Тое, што* застацца *ў* 1 *знач.* [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх..* Т, 38.

Інф. *остацься*: Т, 38.

**[ОСЯДЛЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* осенсць. *Польск.* Які пражывае, жыве дзе-н. [Заходні вучоны]: *Падчас баданя тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх .. зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

Мн. Р. *осядлых*: Т, 29.

**ОТ** (3) *прыназ. Руск. Тое, што* ад *у* 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Необходзімо почэрпнуць от вас сведенія касацельно церрыторыяльных данных області, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38. [Поп]: *Мої облачэнія зашчытой мне от всякіх зол земных.* Там жа, 52. Т, 26.

**[ОТЛЕТАЮШЧЫЙ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* [отлетать]. *Руск.* Які адлятае. [Поп]: *(ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой). Акі птіцы небесныя, отлетаюшчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

Кар. мн. Н. *отлетаюшчы*: Т, 38.

**ОФІЦЫЁЗ** *м. Руск.* Афіцыйны орган. .. *"Виленский Вестник» – офіцыёз віленскага генерал-губарнатара.* У.

Адз. Н. *офіцыёз*: У.

**[ОФІЦЫЯЛЬНЫ]** *прым. Руск.* Афіцыйны. [Мікіта]: *.. на службу і са службы важу патрэбныя сабе офіцыяльныя, меджу протчым, паперы..* Т, 45.

Мн. В. *офіцыяльныя*: Т, 45.

**ОХ** (3) *выкл.* Вокліч, які выражае шкадаванне, жаль. [Гануля]: *Ох, неспакойная натура ён* [Мікіта] *у мяне.* Т, 57. [Поп]: *Ох, дзелеса – чудеса! Прогрэшэнія нашы неісчыслімыя.* Там жа, 37. ВЧ.

**[ОЦЕЧЭСТВО]** *н. Руск. Тое, што* айчына. [Усходні вучоны]: .. *вопрэкіісторычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскімісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

Адз. В. *оцечэство*: Т, 26.

**[ОЧАГ]** (2) *м. Руск.* Ачаг, сімвал роднага дому, сям'і. [Поп]: *Мір очагу сему!* Т, 51. [Поп]: *Не врэмя лі подумаць нам і о ложэ в очаге домашнем.* Там жа, 28.

Адз. Д. *очагу*: Т, 51. М. *очаге*: Т, 51.

**ОЧЕНЬ** і **ОЧЭНЬ** *прысл. Руск. Тое, што* вельмі. [Усходні вучоны]: *Что касается поліцічэскіх граніц обласці, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очень туманны.* Т, 47. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Очэнь кстаці, что вы, господзін белорус, здзесь.* Там жа, 38.

# П

**ПА**[1] (195) *прыназ. з Д, В, М.* Спалучэнне з прыназоўнікам “па” выражае:

П р а с т о р а в ы я  а д н о с і н ы (76).

**1.** *з М.* Ужываецца пры абазначэнні месца, дзе адбываецца што-н. або знаходзіцца хто- ці што-н. *Рэдактар, як бура, лётае па хаце і што мамэнт п’е з бутэлькі халодную ваду.* Ан, 19. *Гэта чыніцца цяпер па усім абшары зямлі беларускай.* ОШМ.

**2.** *з Д.* Ужываецца пры словах, што абазначаюць прадмет, паверхня якога служыць месцам выяўлення чаго-н. [Спічыні]: *не “разношчыкам”, а “даношчыкам”, – чорнае па беламу стаіць, грамадзянін Зносілов.* Т, 61.

**3.** *з В., М.* Ужываецца пры абазначэнні прасторавай мяжы, за якой або перад якой гэта дзеянне адбываецца. *.. хай пойдзе кліч па усей Беларускай зямлі, – па гэты і па той бок ваеннай мяжы, – што надыйшоў дзень беларускага народу, калі ён можа збройна заступіцца за сябе самога і за сваю Айчыну.* БСУ (2). *А лес шуміць... азёры ў хвалях па бакох...* СК, 158.

**4.** *з В.* Ужываецца для ўказання на прасторавую мяжу, да якой дасягае дзеянне. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі І аб сьценку біўся ад балеснай мукі, – Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты..* К.

А, 327; Ан, 19; АБ, 16 (2); АЛ; ББ (3); БрБ, 6; БВ, 16; БСУ (2); ВВ, 263; ВМ, 72; ВС; ВСп, 90, 91; Ж; ЖН (2); З; ЗК, 42; Кз, 17 (3); МІ, 17; МП (2); НДН, 19; НКУС; ПБН; ПМГ; ПСД; ПТ, 206; ПЧ; РКр; РС, 47; СД; СК, 158; СМ; СНБ, 336; СНБ; СП; Т, 20, 32, 33 (2), 35, 36, 41, 43, 44, 45, 58, 59 (2); ТП, 214, 215; УП; УрП, 49 (3), 51; ХБ, 28; Ч, 324; ЧЧШ; $Ш_5$.

Ч а с а в ы я  а д н о с і н ы (7).

**5.** *з В., М.* Ужываецца пры абазначэнні часу ці тэрміну, да якога што-н. адбываецца, існуе. *О, Русь! Прымі раба паклон. Табе такой служыць па гроб Не кіну я, і расцярзаць Не дам дзяржаўнасці*

*“аплот”.* АПЖ. *Ты, дзяўчына чужая, закрый Па скананні мне зрэнкі мае..* ЧС.

**6.** *з М.* Ужываецца для абазначэння часу, пасля якога што-н. адбываецца ці адбудзецца. *На Вялікдзень палякі забралі Вільню. Па нейкім часе удалося там склікаць Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.* СНБ. *Гануля, а за ёй Пані з манаткамі шнурам выходзяць. Па хвілі ўваходзяць Янка і Аленка.* Т, 34. Т, 39, 51; Ч, 320.

А б ‘ е к т н ы я  а д н о с і н ы (70).

**7.** *з М.* Ужываецца для ўказання на прадмет, на які накіравана дзеянне. *А як ударыў* [ганец] *па струне, Заметушыліся* [людзі]*, як пчолы, І на гарэ, і нізіне Мне падавалі голас кволы.* Кц, 195. [Мікіта]: *(стукаючы кулаком па стале). Меджду протчым... вы* [Янка] *мяне абражаеце.* Т, 22.

**8.** *з М.* Ужываецца для абазначэння прадмета, асобы, аб якіх сумуюць, тужаць, бядуюць. *Не свята светлае спраўляці Сягоння будзе наш народ. А трызну па айчызне-маці Ён справе ў гэты цяжкі год.* ГП, 8. *Плача горка ўдоўка, Плача горка маці Па забітым мужу, Спаленым дзіцяці.* МПв, 219.

**9.** *з М.* Ужываецца са значэннем: **а)** у галіне чаго-н., у сферы якой-н. дзейнасці. *Не вельмі даўно у нас было следства па дзелу аб вучыцельскім саюзе.* ВД. *У сваім вялікім паходзе па адбудаванні культуры на руінах былое царскае Расіі савецкая ўлада на працягу ўжо 11 год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паўдарозе.* ГДН. **б)** пры ўказанні блізкасці, роднасці. *.. яна, гэта моладзь – мае* [Купалы] *дарагія таварышы па пяру – усё сэрца аддае ў сваёй творчасці вялікім дням нашага маладога гераічнага слаўнага жыцця.* ЖН. *.. мы* [беларусы]*, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі.* НДН, 18. **в)** згодна з чым-н. *Во каго мы ў дэпутаты Па новым законе У парламент беларускі Выбярэм сягоння!* НК. *Я* [дзед] *раскажу ім* [вызваліцелям]*, як следна, па плану, Як мне гаротнаму пот вочы выеў.* Д. 73. **г)** у адпаведнасці з чым-н. [Мікіта]: *А дзе таго немца зловіш, калі – па чутках – амаль не ўсе ўжо з гораду вышлі.* Т, 34. *Ураздроб, агулам Намі гандлявалі – Па цане даступнай, Па цане крывавай.* МПв, 218. **д)** згодна з чыімі-н. жаданнямі, звычкамі. *У гэтыя грозныя дні, калі п’яныя дзікуны па ўказцы свайго звар’яцелага бандыцкага атамана па-зверску знішчаюць усе тое, што пабудавана намі .. я* [Купала] *усю сваю песянную сілу, усю сваю мужнасць аддаю вам, сыны нашага вялікага народа!* РКП. **е)** на аснове якіх-н. прызнакаў. [Спраўнік]: *О так, так! Пазнаць адразу пана па халявах.* Т, 58.

**10.** *з М., Д.* Ужываецца пры ўказанні на падставу, аснову якога-н. дзеяння. *Няхай зразумеюць тые, хто глядзіць на наш*

*горад вачыма чужынца, што раней ці пазней, а ён будзе беларускім ня толькі па назове, а й па істоце і па надворнаму выгляду свайму.* ВМР (3).

**11.** *з М.* Ужываецца пры абазначэнні фінальнасці дзеяння ў несвабодных канструкцыях. *Вось на чым, па сутнасці, я* [Купала] *і працую.* МП.

Ан, 19 (2); АЛ; АПЖ; АР; ВН; Вн; ВСп, 89 (7), 90; Дз, 187; ЖН (2); З; ЗК, 42; ЗС, 18 (2); МПв, 218 (2); НДН, 19; НКУС; ПН, 46; ПЛП; ПСп; ПЧ; СНБ, 338, 339; Т, 20, 21, 28, 33, 37, 40, 41, 43, 45, 46, 48, 60; ЦСБ; ШБСЯ (3).

Р а з м е р к а в а л ь н ы я  а д н о с і н ы (20).

**12.** *з Д., В., М.* Ужываецца для абазначэння: **а)** паслядоўнасці, паступовасці. [Мікіта]: *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору). К чорту пажарніцкую каманду!* Т, 33. [Мікіта]: *Бяда толькі, меджу протчым, што вось новая, па ліку трэцяя, палітычная сытуацыя спыняе на няведамы час гэту маю рэгістратарска-совбурскую кар'еру.* Там жа, 47. **б)** колькасці, якая прыпадае кожнаму. [Воўк:] *Я з ваўчыцай рву сцягно, Мяса тнём па клоку.* Пц. *Але з ёмкаю нагайкай Знае дзела Налівайка, Гайда ў шынк па пратаколе І шумі яшчэ там болей.* НД. **в)** колькасці, якая прыпадае за кожны, лічачы кожны. *Рэдактар закашляўся, пасля кажа: – Будзеш атрымліваць, хлопец, па $4^1/_2$ капейкі ад радка.* Ан, 19. *Цяпер прашу вас адабрацца Ў вянок адборных галасоў: Дзяўчат дванаццаць па дванаццаць І столькі сама дзяцюкоў.* УрП, 50. ВД (2); ВН; ВСп, 91; См, 91; СЗГ, 252; Т, 44, 50 (2), 59 (2), 60, 62 (2).

А д н о с і н ы  с п о с а б у  д з е я н н я (12).

**13.** *з М.* Ужываецца пры абазначэнні спосабу дзеяння. *Колю знаю па хадзе я – Вось к вакенцу падышоў.* ВБЛ, 82. *Але разбяром па парадку.* Нз, 14. А, 328; ВС; ГЖУ; ЖН; ЗС, 18; Кц, 193; МІ, 17; Нз, 14, 15; Т, 23.

М э т а в ы я  п д н о с і н ы (10).

**14.** *з В.* Ужываецца для абазначэння аб'екта, які з'яўляецца мэтай дзеяння. *Далей, вышай, у прасторы Па ўраджай з сяўбы багаты, Комсамольцы-вярнігоры, Сталінскія арляняты!* СА, 178. *Наперад па шчасьце! Хай, злой дрогне, ..Весна ўжо на сьвеце, – Хрыстос уваскрос!* В. СА, 179 (2), 180 (2), 181 (2); Т, 58, 59.

**Падарожжа па Чэхаславакіі.**

**ПА²** (2) *н., нескл.* Асобная фігура ў танцы; танцавальны крок. [Дама]: *Я ачаравана вашымі* [Мікіты] *віртуознымі "па".* Т, 29. [Мікіта]: *Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, "па", то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танцклясісту Граніčаніну.* Там жа, 29.

**ПААДЧЫНЯЦЬ** *зак.* Адкрыць што-н. для чаго-н. *.. трэба ухіліць і паляка і расійца і паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі ..* ДК.

Інф. *паадчыняць*: ДК.

**ПА-АРЛІНАМУ** *прысл.* Падобна арлу. *Калі мы выйдзем у гэтым змаганьні пабеднікамі, калі вольнага народнага духу не апануе цёмная сіла і ён будзе далей сягаць па арлінаму, то і справа вызваленьня Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ.

**ПААСОБКУ** (2) *прысл.* Не разам, а асобна. .. [пойдзем] *з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку, і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы цяпер святкуем.* ПЛП. [Аленка]: *(прабуючы падымаць паасобку партфелі ў каламажцы). Ну і цяжкія ж гэтыя торбы!* Т, 46.

**[ПААСОБНЫ]** *прым. Разм.* Асобны. *..пасьля, па магчымасьці, пяройдзем да характарыстыкі паасобных кніг і выдавецтваў.* ВСп, 89.

Мн. Р. *паасобных*: ВСп, 89.

**ПАБАЧЫЎШЫ** *дзеепрысл. да* пабачыць *у* 1 *знач.* Убачыўшы, успрыняўшы зрокам. [Гарошка]: *(Пабачыўшы Мікіту). І вы тут, ды яшчэ з парасонам?* Т, 37.

**[ПАБАЧЫЦЦА]** (2) *зак.* Сустрэцца з кім-н. асабіста. [Мікіта]: *(Да Янкі і Аленкі.) З вамі яшчэ пабачуся – вярнуся хутка.* Т, 56. [Янка]: *Мабыць, і не скора пабачымся* [з Мікітай]. Там жа, 56.

Абв. буд. адз. 1 ас. *пабачуся*: Т, 56. Мн. 1 ас. *пабачымся*:Т, 56.

**ПАБАЧЫЦЬ** (7) *зак.* **1.** Сустрэць каго-н. *Вось калі прыдуць, калі іх* [вызваленцаў] *пабачу, Вылажу праўду я* [дзед] *ўсю перад імі..* Д, 72. [Мікіта]: *Та-а-к, гэта важныя вучоныя. Але мы не такіх яшчэ пабачым, як будзе ў нас у Менску, меджду протчым, унівэрсытэт.* Т, 27.

**2.** Убачыць многае. [Гануля]: *Але затое татка твой* [Аленкі] *хоць свету пабачыць – пад старасць будзе мець што ўнукам расказваць.* Т, 54.

**3.** Даведацца пра што-н., упэўніцца ў чым-н. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16. [Мікіта]: *Асэсарам буду я, вось пабачыце* [Наста]*, што буду!* Т, 42.

Інф. *пабачыць*: АБ, 16. Абв. пр. адз. м. *пабачыў*: ЗЯЗ, 89. Буд. адз. 1 ас. *пабачу*: Д, 72. 2. ас. *пабачыш*: ХБ, 28. 3 ас. *пабачыць*: Т, 54. Мн. 1 ас. *пабачым*: Т, 27. 2 ас. *пабачыце*: Т, 42.

**[ПАБАЯЦЦА]** *зак. да* баяцца. [Гануля]: *Я так і падумала, але не сказала, бо пабаялася, што не патраплю вучоным па-вучонаму адказаць.* Т, 54.

Абв. пр. адз. ж. *пабаялася*: Т, 54.

**[ПАБЕГЧЫ]** (4) *зак. Разм.* **1.** Хутка пайсці, накіравацца куды-н. з якой-н. мэтай. [Наста]: *Вывешвайце* [Гануля і Мікіта] *хутчэй праз вакно чырвоны сцяг. А я пабягу.* Т, 59. *Трэба спадзявацца, што гэтыя прафэсары дадуць нам агульна даступную сельскагаспадарчую літаратуру для беларускага селяніна, бо не пабяжыць жа ён пытацца кожны раз у Інстытут, як, што і дзе лепей сеяць..* ВСп, 90.

◊ **Дрыжыкі пабеглі па скуры** *гл.* дрыжыкі.

Абв. пр. мн. *пабеглі*: Ан, 19. Буд. адз. 1 ас. *пабягу* (2): Т, 24, 59. 3 ас. *пабяжыць*: ВСп, 90.

**ПАБЕДА** (9) *ж. Руск.* **1.** *Тое, што* перамога. *Падыйдзі, дзяўчынка, – Ці-ж мяне не знаеш? Бачыш, еду я* [Янка] *з пабеды, А ты ані дбаеш.* ЕЯП. *Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты і апьяненые пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасці.* СНБ.

**2.** Паўны поспех, трыумф. *У гэтых чарах, у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духа – наша пабеда, наша слава і шчасце – цяпер і ў будучыні.* ПЛП.

◊ **Піррава пабеда –** перамога, здабытая вялікімі ахвярамі і таму роўная паражэнню. *Еўропа кліча ў госці вас: Пад рогат Пірравых пабед Саветы кліча на "савет".* ПВ.

Адз. Н. *пабеда* (2): ПЛП; СНБ. Р. *пабеды*: ЕЯП. В. *пабеду*: ЕЯП. Мн. Н. *пабеды*: БВ, 17. Р. *пабед*: ПВ. Т. *пабедамі* (3): СНБ (3).

**[ПАБЕДНІК]** (2) *м. Наватв. Тое, што* пераможца. *Але і жандармы і бальшавіцкіе "чрэзвычайкі" не завядуць на зямлі вечнага парадку і ладу, як і нацыянальна-соцыяльных пытаньняў не пакіраваць у свой бок часовым пабеднікам.* СНБ.

◊ **Выйсці пабеднікам** *гл.* выйсці.

Мн. Д. *пабеднікам*: СНБ. Т. *пабеднікамі*: СНБ.

**[ПАБЕДНЫ]** *прым. Руск. Тое, што* пераможны. *Соцыяльная рэволюцыя.. стараецца ў сваім пабедным паходзе ніштожыць усялякіе нацыянальные перагародкі і злучыць пад чырвоным знамем усе народы усяго сьвету.* СНБ.

Адз. м. М. *пабедным*: СНБ.

**ПА-БЕЛАРУСКУ** (9) *прысл.* На беларускай мове. *Пэўнага дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску, выдаць ей дазваленьне на перавозку школьных рэчаў з аднаго будынку у другі.* ОШМ. *Некалькі вершаў па-беларуску надрукавала і другая расійская тутэйшая часопісь "Юный пахарь".* ВСп, 90. ВР (2); ВСп, 90 (2), 91; Т, 56; УР, 215.

**[ПАБІЦЦА]** *зак.* Пабіць адзін аднаго. [Янка]: *Хаця не пабецеся стары з малой за табаку.* Т, 39.

Заг. мн. 2 ас. *пабецеся*: Т, 39.

**[ПАБІЦЬ]** *зак. да* біць. *Потым ў стычцы пабили часць хунхузоў, другие кинулися ўцекаць и пакинули дзеўчынку, которую забрали нашы салдаты.* ПДз.

Абв. пр. мн. *пабили*: ПДз.

**ПАБЛАЖЛІВА** *прысл*. Мякка, велікадушна. *–Хі-хі! насьмяхаецца польскі пан-абшарнік, седзячы на беларускай зямлі. Хі-хі! – паблажліва ен хлопае вам па плячу..* З.

**ПА-БОЖАМУ** *прысл*. *Царк*. Згодна хрысціянскім нормам, традыцыям. *Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя пракрокі і будуць па-божаму над фальшывымі пракрокамі і прадажнымі душамі суды судзіць..* ПЛП.

**[ПАБОЧНЫ]** (4) *прым*. Не асноўны, другарадны. *Государственые налогі бываюць дваякіе: простые (безпасрэдніе) і пабочные.* ВН. *Апрача падвышэньня некаторых пабочных налогаў, урад маніцца ешчэ у скорым часе завясьці падаходны і асабісты ваенны налог.* Там жа.

Мн. Н. *пабочные* (3): ВН (3). Р. *пабочных*: ВН.

**[ПАБРАТАЦЦА]** (2) *зак.*: ◊ **Пабратацца з Крыўдай –** зведаць гора, бяду. *Раскованы раб сябе выдаў – Ня ўзнёсься ўвысь дух чалавечы, – Нявольнік пабратаўся з Крыўдай ў помач ёй даў свае плечы.* Кр, 78. **Пабратацца з шчасцем** – стаць шчаслівым, свабодным. *Народ беларускі, таптаны вякамі, Навекі пабратаўся з шчасцем, Радзіму – краіну ўпрыгожыў садамі, Варожыя знішчыў напасці.* ВВ, 263.

Абв. пр. адз. м. *пабратаўся* (2): ВВ, 263; Кр, 78.

**[ПАБУДАВАНЫ]** (4) *дзеепрым. зал. пр. да* пабудаваць. Зроблены, узведзены, збудаваны. *Гэта можа пацьвердзіць хоць-бы нацыянальна-культурная палітыка, якая праводзіцца недалёка ад нас – за пагранічнымі слупамі, дзе ня толькі не ствараюць акадэмій, а разбураюць нават беларускія школы, пабудаваныя на апошнія капейкі саміх-жа грамадзян.* ГДН. *Падлеткі жывуць у інтэрнатах, у якіх пабудаваны двухпавярховыя нары.* ПЧ.

**Пабудован з густам.**

Мн. В. *пабудаваныя*: ГДН. Кар. адз. м. Н. *пабудован*: ПГ. н. В. *пабудавана*: РКП. Мн. Н. *пабудаваны*: ПЧ.

**ПАБЫЦЬ** (3) *зак.* Прабыць нейкі час дзе-н. *За ім* [сонцам] *ляцеўбы я ў прастор, Туды – у высь, у стратасферу, Пабыць гасцём у ясных зор, Жыццё планетнае праверыць.* МСП, 187. *Ну, за гэтага дык можна, Чалавек вядомы. Галасуй ідзі, бабулька, Я* [унук] *пабуду дома.* Вб, 238.

Інф. *пабыць*: МСП, 187. Абв. буд. адз. 1 ас. *пабуду*: Вб, 238. Заг. адз. 2 ас. *пабудзь*: Вб, 237.

**ПАБЯЛЯНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* пабяліць. *Разм*. Пакрыты, пафарбаваны вапнай. .. [дом] *кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, – увесь пабяляны..* ХБ, 28.

Адз. м. Н. *пабяляны*: ХБ, 28.

**[ПАВАГА]** (4) *ж* **1.** Пачуццё пачцівасці да каго-н. *Слава творцу новага шчаслівага жыцця – вялікаму Сталіну, заслужыўшаму найвялікшую павагу і найшчырэйшую любоў усяго працоўнага чалавецтва.* СТ. *Параўн.* паважанне.

**2.** Сур’ёзнасць, годнасць. *Людзі ходзяць урачыста У святочных строях, – А з павагай, з санавітай, Ходзяць, як героі.* НК.

**3.** Аўтарытэт, значнасць. *Прэч, прэч! З сваёй сьвятой павагай Прышоў* [незнаёмец] *нас* [людзей] *толькі зьневажаць!* УрП, 53.

Адз. В. *павагу*: СТ. Т. *павагай* (2): НК; УрП, 52. М. *павазе*: МД.

**[ПАВАДЗІЦЦА]** *зак. да* вадзіцца. [Гануля]: *(увайшоўшы пры апошніх словах Мікітавых). Ты ізноў з ім* [Янкам] *павадзіўся?* Т, 22.

Абв. пр. адз. м. *павадзіўся*: Т, 22.

**[ПАВАДОК]** *м.*: ◊ **Ісці на чужым павадку** *гл.* ісці.

Адз. М. *павадку*: Г, 17.

**[ПАВАЖАННЕ]** *н. Польск. Тое, што* павага *ў* 1 *знач. Важны быў гэты народ, і паміж суседзямі меў ён добрую песню і праўдзівае паважанне.* Кз, 17.

Адз. В. *паважанне*: Кз, 17.

**ПАВАЖАНЫ** (7) *прым.* Які выклікае пачуццё павагі. *Лявон Гарошка – паважаны селянін, заўсёды з люлькай..* Т, 19. // Ужываецца ў якасці эпітэта ў ветлівым звароце. *Вельмі паважаны Пане Рэдактар. Не адкажэце надрукаваць у Вашай газэце гэтых колькі слоў.* ЛР. *Паважаны тав. рэдактар, прашу зьмясьціць у вашай газэце наступнае: Адбываюцца нячуваныя, грандыёзьнейшыя ў гісторыі чалавецтва падзеі.* АЛ.

Адз. м. Н. *паважаны* (3): АЛ; ЛР; Т, 19. Р. *паважанага*: СНБ, 339. Д. *паважанаму*: Т, 49. Мн. Н. *паважаныя* (2): Т, 40 (2).

**ПАВАЖНА** (3) *прысл.* Сур’ёзна, важна. *Паважна старыя вітаюць наркома, Падносяць хлеб-соль, караваі і мёд.* НДп, 229. *Справа гэта вельмі важная, і трэба, канешна, каб наша ідэйная інтэлігенцыя – паэты і кампазітары – заняліся ёй паважна.* СБНГ. СНБ, 340.

**[ПАВАЖНЫ]** (2) *прым.* Поўны важнасці, самавітасці. *Паглёд паважны і пахмурны На час адзела старана.* УрП, 52. *Глядзіш – для яе* [радзімы], *маладой, Ткуць кросны атласы, шаўкі, Паважнаю ходзіць хадой, Шуршаць залатыя пяскі.* ТП, 215.

Адз. м. В. *паважны*: УрП, 52. ж. Т. *паважнаю*: ТП, 215.

**[ПАВАЛІЦЦА]** (2) *зак. да* валіцца. Упасці, зваліцца. *Я* [ўнук] *паваліўся, падняўся. Ах, вочы... Вочы пан выбіў, сляпым я застаўся.* Ун, 73. *.. мне* [пану Кавалюку] *халэмус прыйдзе, Ці павешуся на жыдзе. Ці палякам удаўлюся, Ці уп’юся, павалюся.* ЛПК.

Абв. пр. адз. м. *паваліўся*: Ун, 73. Буд. адз. 1 ас. *павалюся*: ЛПК.

**[ПАВАЛЬНЫ]** *прым*. Пагалоўны. *Людзі на вуліцах баяліся галасна гаварыць. Кожную ноч – павальныя вобыскі.* СНБ, 340.

Мн. Н. *павальныя*: СНБ, 340.

**[ПАВАРАЖЫЦЬ]** *зак. да* варажыць *перан*. Памеркаваць, падумаць. [Аленка]: *І ён* [Янка] *таксама – мой муж, але ці назаўсёды – яшчэ паваражу.* Т, 53.

Абв. буд. адз. 1 ас. *паваражу*: Т, 53.

**ПАВАРАЧВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* паварачваць. Варочаючы, змяняючы становішча чаго-н. [Мікіта]: *(то апускаючы, то падымаючы па чарзе рукі і згодна з гэтым паварачваючы то ўправа, то ўлева галавой). Гэта... Гэта .. качарэжкі!* Т, 60.

**ПА-ВАШАМУ** (2) *прысл*. На вашу думку. [Янка]: *А што ж ён* [Мікіта]*, па-вашаму, павінен рабіць у гэтае чыноўніцкае безрабоцце?* Т, 20. [Янка]: *Што ж гэта? Па-вашаму – гандаль на Койданаўскай біржы валютай – свабодная прафэсія?* Там жа, 36.

**[ПАВАЯВАЦЬ]** (2) *зак. да* ваяваць *у* 1 *знач. Паваюем, пагаруем. Зато дома запануем. Свішча куля, йяй-ха-ха-ха! Каля вуха дзецюка.* БЗ. *Калі была якая вайна, то паваююць, колькі трэба, ды кінуць, пасунуўшы гранічныя слупы ў той ці іншы бок..* СНБ, 336.

Абв. буд. мн. 1 ас. *паваюем*: БЗ. 3 ас. *паваююць*: СНБ, 336.

**[ПАВЕДАМЛЕННЕ]** (2) *н.* Звесткі аб чым-н. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў..* МП. *З пачуццём найвялікшага гневу я* [Купала] *прачытаў паведамленні ТАСС аб разбойнічым нападзе японскай ваеншчыны на свяшчэнныя граніцы нашай радзімы.* ВГ.

Адз. В. *паведамленне*: МП. Мн. В. *паведамленні*: ВГ.

**[ПАВЕЗЦІ]** *зак. да* везці. Паехаць, каб адвезці, даставіць куды-н. што-н. *Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасьці Цішку Гартнаму надрукаваць увесь матар'ял, які павёз быў з сабой у Нямеччыну.* ВСп, 91.

Абв. пр. адз. м. *павёз*: ВСп, 91.

**[ПАВЕКА]** (2) *н.* Рухомая складка скуры на воку. *З жалейкай кожны хай сваею Не расстаецца на ўвесь век, Заве і верай і надзеяй Сьлязу і ўцеху з-пад павек.* УрП, 49. // *Вобразн. Паўстала радзіма, замок Няволі зламала навек, Надзела з пралесак вянок І слёзы сагнала з павек.* ТП, 214.

Мн. Р. *павек* (2): ТП, 214; УрП, 49.

**ПАВЕРЫЦЬ** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* верыць *у* 2 *знач.* [Немец]: *Не магу паверыць, ваша прэвасходзіцельства!* Т, 33. [Мікіта]: *І зразумеў і не паверыў.* Там жа, 33.

**2.** *Зак. да* верыць *у* 3 *знач.* [Спічыні]: *Пазвольце вам, гражданін рэгістратар, не паверыць.* Т, 60. *Душу сваю выні, Палажы*

*на далонь і надзейся, Што паверацць табе..* См, 91.

Інф. *паверыць* (2): Т, 33, 60. Абв. пр. адз. м. *паверыў*: Т, 33. Буд. мн. 3 ас. *паверацць*: См, 91.

**ПАВЕСІЦЦА** (5) *зак.* Кончыць жыццё самагубствам праз павешанне. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон".* Ан, 19. *Для Гітлера скінем вяроўку Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316.

Інф. *павесіцца*: Ан, 19. Абв. пр. адз. м. *павесіўся* (2): СЧ; ХЛВ, 316. Буд. адз. 1 ас. *павешуся*: ЛПК. Заг адз. 2 ас. *павесься*: См, 91.

**ПАВЕСІЦЬ** (4) *зак.* **1.** Надаць чаму-н. вісячае становішча. *Крыж пастаўце, як ставіце ўсім, – Мае путы павесце на ім, Мае слёзы з магілы расой Выйдуць путы з'ядаці іржой.* ЧС, 50-51.

**2.** Пакараць смерцю праз павешанне. *Мала іх* [ворагаў] *павесіць На сухой асіне, Бо нават асіна Ад сябе адкіне.* МПв, 218. *Ён* [народ] *перарэжа горла людаеду, ўбіўцу, Ён Гітлера павесіць на сухой асіне.* ПНд, 314.

**Мала іх павесіць...**

Інф. *павесіць* (2): МПв, 216 (2). Абв. буд адз. 3 ас. *павесіць*: ПНд, 314. Заг. мн. 2 ас. *павесце*: ЧС, 51.

**[ПАВЕСЦІ]** (6) *зак.* **1.** *Зак. за* весці *ў* 1 *знач. Хай жа гэтая думка .. павядзе нас .. "к свабодзе, роўнасці і знанью".* БСУ. *Народ аграблены – бы з торб жабрак – За бацькаўшчыну павядзі* [ваяк] *у агні!* Пт.

**2.** *Зак. да* весці *ў* 3 *знач. Бальшавікі павялі свае парадкі і гаспадарку, ня гледзячы на тое ці смачна нам гэта ці ня смачна.* БС. *..прыйшлі* [бальшавікі] *і павялі сваю гаспадарку у нас, а мы глядзелі і чакалі, што нехта прыдзе ды бальшавікоў прагоніць.* БС.

**3.** *перан.* Пачаць. *І княжна з князем п'е да дна; Князь гутарку павёў такую.* Кц, 193.

Абв. пр. адз. м. *павёў*: Кц, 193. Мн. *павялі* (2): БС (2). Буд. адз. 2 ас. *павядзеш*: Бч, 9. 3 ас. *павядзе*: БСУ. Заг. адз. 2 ас. *павядзі*: Пт.

**ПАВЕСЯЛІЦЬ** *зак. да* весяліць. Забавіць, пацешыць каго-н. [Мікіта]: *Але пакуль што якое, мне ад сэрца, меджу протчым, хацелася б дастойна пачаставаць і павесяліць высокіх пэрсон.* Т, 51.

Інф. *павесяліць*: Т, 51.

**[ПАВЕТ]** (5) *м.* Дарэвалюцыйная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка. *Прададзены ўжо (каб не быць галаслоўным) двор Беларучы ў Менск. <ім> павеце..* ЗС, 18. *Усе дзіцячыя гады і маладосць правёў* [Купала], *бадзяючыся па Барысаўскаму і Мінскаму паветах.* А, 327.

Адз. Р. *павета*: : А, 327. В. *павет*: МІ, 17. М. *павеце* (2): Мн. М. *паветах*: А, 327.

**ПАВЕТРА** (4) *н.* **1.** Сумесь газаў, якія акружаюць зямлю і складаюць яе атмасферу. [Янка]: *.. не люблю я гораду: вельмі ўжо ў ім цяжкае паветра.* Т, 21. [Янка]: *Не адкладаючы справы ў доўгі мех, лахі пад пахі, ды яшчэ заўтра – марш на свежае паветра.* Там жа, 30.

**2.** Свабодная прастора над зямлёй. *..даўгое белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося, ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29.

Адз. Н. *паветра*: Т, 21. В. *паветра*: Т, 30. М. *паветры* (2): ПБН; ХБ, 29.

**ПАВЁЎ** (2) *м.* **1.** *перан.* Уздзеянне, уплыў чаго-н. [Дама]: *Мусье беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу..* Т, 37.

**2.** Адчуванне чаго-н. *Супраціўны скрозь мучыць павеў, Як за хлебам пашоў да людзей.* ЧС, 50.

Адз. Н. *павеў*: ЧС, 50. Мн. Т. *павевамі*: Т, 37.

**[ПАВЕЯЦЬ]** (2) *зак. да* веяць *у* 2 *знач. І слухаем і нюхаем тут, там: Які павеяў вецер на загоны, – Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?* Бч, 9. [Янка]: *Нам і без мора, пане вучоны, хапае дзе тапіцца, як павее пошасцяй праз усходнія ці заходнія "акошкі".* Т, 47.

Абв. пр. адз. м. *павеяў*: Бч, 9. Буд адз. 3 ас. *павее*: Т, 47.

**ПАВІНЕН** (73) *прым. У знач. вык.* Абавязаны, вымушаны што-н. рабіць. [Янка]: *А што ж ён* [Мікіта]*, па-вашаму, павінен рабіць у гэтае чыноўніцкае безрабоцце?* Т, 20. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць, як то кажуць – "да разбору дзела", цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту бессістэмную куплю-прадажу.* ЗС, 18. // Пра тое, што абавязкова здарыцца. *Не спыняймо працы дома і за домам, якая ішла да вайны, і якая павінна далей ісьці.* РКр. *Войска беларускае павінна быць, і яно будзе.* БВ, 16.

**Ворагі народу павінны быць знішчаны.**

Адз. м. Н. *павінен* (18): ВН (2); ВР; НДН, 19; ОШМ; ПЛП; ПС; РКр; СБНГ; СНБ (2); Т, 20 (2), 23, 32, 41, 57; УПУВ. ж. Н. *павінна* (15): БВ, 17; БСУ (2); ВС; ВСп, 89; ГВУ; ЗС, 18 (2); Нз, 14; НДН, 19; РКр; СНБ, 337; СЧ; Т, 20, 35. н. Н. *павінна* (6): БВ, 16; ВН; Нз, 14; НДН, 19; СБНГ; Т, 40; *павінно*: СБНГ. Мн. Н. *павінны* (33): АБ, 16; БВ, 17; БС; БСУ; ВМР (2); ВН(2); ВНЗ; ВР (2); ВСп, 89; ДК; Нз, 15; НДН, 18, 19; ОШМ (2); РКр; СНБ (2); Т, 27, 29, 31, 34, 35 (4), 39, 41, 53, 55.

**ПАВІННАСЦЬ** і **[ПАВІННАСЬЦЬ]** (2) *ж.* Абавязак насельніцтву ад дзяржавы. *.. да чаго клічэ ешчэ нас сьвятая павіннасьць працаваць і за тых, што аддаюць сваё жыцьцё дзесь там далёка ці блізка.* РКр. *Нават рэвалюцыя 1905 году не змагла адваяваць .. хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі.* БВ, 16.

Адз. Н. *павіннасьць*: РКр. Р. *павіннасьці*: ВН. В. *павіннасць*: БВ, 16.

**ПАВІНШАВАЦЬ** *зак.* Уславіць каго-н. з выпадку для нараджэння. [Янка]: *Апрача гэтага пазвольце, пане рэгістратар, павіншаваць вас з імянінамі.* Т, 21.

Інф. *павіншаваць*: Т, 21.

**[ПАВІСНУЦЬ]** *зак. перан.* Узнікнуць, з'явіцца. *Над Менскам павіс крывавы кашмар.* СНБ, 340.

Абв. пр. адз. м. *павіс*: СНБ, 340.

**ПАВОДКА** (2) *ж. перан.* Скорасны рух. [Мікіта]: *Савецкі лад, меджду протчым .. гэта такая чырвоная паводка... такая, меджу протчым, паводка, аб якой не снілася ні Фараону, ні Салямону...* Т, 41 (2).

Адз. Н. *паводка* (2): Т, 41 (2).

**ПАВОДЛЕ** (3) *прыназ. з Р.* Спалучэнне з прыназоўнікам выражае аб'ектныя адносіны і абазначае: у адпаведнасці з чым-н. *Прыгожае пісьменства. Бяру* [Купала] *нумары паводле спісу: 1, 2, 3, 4, 5, 21, 22, 23, 34.* ВСп, 89. *Мушу ўспомніць тагочасную адну пашыраную чутку, паводле якое польскія "эндэкі" і расійскіе "кадэты" ўжо тады падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя – палякам, усходняя – расійцам.* У. ВСп, 89.

**[ПАВОЗКА]** (2) *ж.* Колавы экіпаж. [Мікіта]: *.. калі конь можа цягаць павозку, то чалавек і пагатове.* Т, 45. [Мікіта]: *Кідайце* [Гануля] *сюды ў павозку бялізну, а наверх стаўляйце начоўкі..* Там жа, 50.

Адз. В. *павозку* (2): Т, 45, 50.

**ПАВОЛІ** (4) *прысл.* **1.** Няспешна. *Пасля паўмінутнай паўзы, пад сціхаючыя гукі песні, паволі апускаецца заслона.* Т, 62. *Сяк, ці так, жылось паволі Ў палавіне з горэм Тым у хаці, тым на полі, А другім за морэм.* Дз, 190.

**2.** Паступова. *Яна* [думка] *аглядала бязьмежна прастор, І пасынкаў бачыла долі, Што рукі з зямлі працягалі да зор І ў цемры каналі паволі.* КП, 170. *Яна* [думка] *аглядала бязмерны прастор, І пасынкаў бачыла долі, Як рукі з зямлі працягалі да зор, І ў цемры каналі паволі.* ПН, 49.

**ПАВОЎЧАМУ** *прысл.* Падобна ваўку. *Песьню выюць хаўтурна: ты ляж, а ты ўстань! .. Здалі чутна, павоўчаму выюць званы.* БН, 93.

**ПАВУК** (3) *м.* **1.** Членістаногая жывеліна, што пляце павуціну. *Ямчэй нацягваецца лук, Цэль рассекаюць агнестрэлы, Дрыжыць паўціна і павук.* Кц, 197.

**2.** *Разм., перан.* Эксплуататар. *З-пад ног, з утоптанай нары Паўзе ўжо збэшчаны павук І ў сто, у сто кагцістых рук Хапае вас рабы-цары, – Як бы ўжо вы не ўладары...* ПВ.

Δ **Бог-павук** *гл* бог.

Адз. Н. *павук* (2): Кц, 197; ПВ. Р. *павука*: УрП, 52.

**[ПАВУЦІНА]** (2) і **ПАЎЦІНА** (2) *ж.* **1.** Сетка з павуціны. *Ямчэй нацягваецца лук, Цэль рассекаюць агнестрэлы, Дрыжыць паўціна і павук.* Кц, 196. // *У параўн. А як пойдзе хто трэцяй сьцяжынай-пуцінай, Што сваёй ня мінае граніцы, Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай..* Ч, 319.

**2.** Тое, што падпарадкоўвае сабе, аблытвае каго-н. *Загубіў* [брат] *сваю скуру, чужая-ж ня цешыць Абадранай душы ў павуціне ..* Ч, 321.

◊ **Ткаць павуціну** *гл.* ткаць.

Адз. Н. *паўціна*: Кц, 196. В. *павуціну*: ПЧ. Т. *паўцінай*: Ч, 319. М. *павуціне*: Ч, 321.

**ПА-ВУЧОНАМУ** (2) *прысл.* Як прынята ў вучоных. [Ганула]: *Я так і падумала, але не сказала, бо пабаялася, што не патраплю вучоным па-вучонаму адказаць.* Т, 54. [Ганула]: *Нічога, толькі паміж сабой тое-сёе па-вучонаму пагаманілі* [вучоныя]*, праз свае падзіральнікі туды-сюды зірнулі ды пайшлі.* Там жа, 54.

**[ПАВУЧЫНЫ]** *прым.* Які адносіцца да павуціны. *А забабон далей ідзе і распасьцірае свае павучыные, неразблытные сеці, у якіх душыць і вольнага духа, і сьветлую прауду, і сумленьне людзкое.* З.

Мн. В. *павучыные*: З.

**ПАВУЧЫНЬНЕ** *н. зб.* Павуцінне. *.. даўгое белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося, ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29.

Адз. Н. *павучыньне*: ХБ, 29.

**[ПАВЫДЗІРАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* павыдзіраць. Выдраны, вырваны. *Шпалеры павыдзіраны і кускамі звісаюць к долу.* Т, 43.

Кар. мн. Н. *павыдзіраны*: Т, 43.

**[ПАВЫРАСЦІ]** *зак. да* вырасці *ў* 1 *знач. Разм. Бегам беглі дні і ночкі, Леты за летамі. І павыраслі-ж сыночкі Самі, як не самі.* Дз, 189.

Абв. пр. мн. *павыраслі*: Дз, 189.

**[ПАВЯЗКА]** *ж.*: ◊ **З вачэй знята павязка** *гл.* зняты.

Мн. Н. *павязкі*: Кц, 194.

**[ПАВЯЛІЧАННЕ]** *н. Разм.* Павялічванне, узвышэнне. *Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу, для павялічання магутнасці маскоўскага самадзяржаўнага цара.* БВ, 16.

Адз. Р. *павялічання*: БВ, 16.

**[ПАВЯЛІЧВАЦЬ]** *незак.* Рабіць большым па сіле, інтэнсіўнасці, ступені. *Гэтыя сустрэчы яшчэ больш павялічваюць прыемнае ўражанне ад мае паездкі.* ПЧ..

Абв. цяп. мн. 3 ас. *павялічваюць*: ПЧ.

**ПАВЯЛІЧЫЦЬ** (2) *зак.* **1.** Зрабіць большым па велічыні, колькасці. *Мацнейшыя народы хочуць павялічыць сваю тэрытарыяльную і збройную сілу коштам слабейшых.* СНБ.

**2.** Узмацніць. *І "чрэзвычайка" сваю працу "павялічыла".* СНБ, 340.

Інф. *павялічыць*: СНБ. Абв. пр. адз. ж. *павялічыла*: СНБ, 340.

**[ПАВЯНЧАЦЦА]** (2) *зак.* Уступіць у шлюб вянчаннем у царкве. [Ануля]: *Пашлі вам* [Янку і Аленцы]*, долечка, ўсяго найшчаслівейшага. І павянчаліся ўжо?* [Янка]: *Абавязкова павянчаліся, ды яшчэ як урачыста.* Т, 53 (2).

Абв. пр. мн. *павянчаліся* (2): Т, 53 (2).

**ПАВЯРНУЦЬ** (3) *зак. перан.* Змяніць ход; даць іншы напрамак. *Вы* [панове] *таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок..* Тж, 16. *Цяпер я* [Купала] *бачу ўсю шкоднасьць і гібельнасьць таго шляху, па якім памыкаліся беларускія нацыянал-дэмократы павярнуць ход гісторыі.* АЛ.

Інф. *павярнуць* (2): АЛ; Тж, 16. Абв. пр. адз. м. *павярнуў*: М, 20.

**[ПАВЯСЦІ]** *зак. да* весці *ў* 3 *знач. Ці апраўдала гэта адозва затоеныя думкі і надзеі беларускага грамадзянства, ці польская ўлада павяла ў нашым краі гаспадарку так, як гэтага вымагаюць.. інтарэсы нашай бацькаўшчыны..* СНБ, 340.

Абв. пр. адз. ж. *павяла*: СНБ, 340.

**ПАВЯТОВЫ** (2) *прым.* Служачы ў павеце. *Пісаў навет прашэнне раз на імя павятовага камісара, каб ён мне даў перапустку ў Радашковічы.* Ан, 18. // Галоўны ў павеце. *Слуцк – павятовы гарадок – куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай?* МІ, 17.

Адз. м. Н. *павятовы*: МІ, 17. Р. *павятовага*: Ан, 18.

**[ПАГАДЗІЦЦА]** *зак.* Прымірыцца з чым-н., прывыкнуць да чаго-н. *І нашым каталікам так задурылі галаву, што яны зусім пагадзіліся з навучаньнем асноў веры па польску.* ВР.

Абв. пр. мн. *пагадзіліся*: ВР.

**ПАГАДНІЦЬ** *зак.* Прывесці ў адпаведнасць з чым-н. *Ніяк не мог я* [Купала] *пагадніць акружаючае рэальнае жыццё са светам думак, фантазій, якія пачэрпнуў з кніг.* А, 328.

Інф. *пагадніць*: А, 328.

**[ПАГАМАНІЦЬ]** *зак. да* гаманіць *у* 1 *знач. Разм.* [Гануля]: *Нічога, толькі паміж сабой тое-сёе па-вучонаму пагаманілі* [вучоныя].. Т, 54. [Гануля]: *Давайце* [Аленка і Янка] *лепей аб чым іншым пагамонім.* Там жа, 54.

Абв. пр. мн. *пагаманілі*: Т, 54. Буд. мн. 1 ас. *пагамонім*: Т, 54.

**ПАГАНА** *прысл. да* паганы. *Маладыя гады мае* [Купалы] *прайшлі страшэнна пагана.* А, 328.

**ПАГАНІН** *м. Уст., абл.* Нехрысць, бязбожнік. *Я хрысціянін, не паганін, Стварыў вобчаства “Крестьянин”.* ЛПК.

Адз. Н. *паганін*: ЛПК.

**[ПАГАНІЦЬ]** (2) *незак.* Ганьбіць. *А ты, змарнелы чалавек.. Прывучан кланяцца, ўніжацца, Паганіш скарб свой дарагі.* БрБ, 6. *Разбудзі сам сябе і той бацькавы насып, Што паганіць нага чужаніцы.* Ч, 323.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *паганіш*: БрБ, 6. 3 ас. *паганіць*: Ч, 323.

**[ПАГАНСКІ]** *прым. Уст.* Нехрысціянскі, язычніцкі. *Быў гэта верны і праўдзівы Паганскіх мольбішак стражак.* УрП, 47. *Наша трэцяя – другая Будзь нейкая такая: Знала рэчкі берагі І паганскіе багі.* $Ш_4$.

Мн. Р. *паганскіх*: УрП, 47. В. *паганскіе*: $Ш_4$.

**ПАГАНЫ** (7) *прым*. Мярзотны, подлы. *А калісь мусіў паганую лапу – Парабак я – цалаваці з пакорай.* Бц, 74. *Змяцём з беларускіх загонаў Паганыя банды прыблуд..* ХЛВ, 316. // Дрэнны, нядобры. *Сягодня ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую.* Тж, 15. *Яны* [людзі]*, як цені, ў грамадзе маўчаць і йдуць на пір паганы.* Кц, 195.

Адз. м. Н. *паганы* (2): З; Тж, 15. В. *паганы* (2): Кц, 195; РС, 39. ж. Р. *паганай*: Т, 35. В. *паганую*: Бц, 74. Мн. В. *паганыя*: ХЛВ, 316.

**[ПАГАНЯКА]** *ж. Абл.* Плётка. *Трэці* [сын] *ўсіх-бы толькі мучыў – Склад меў быці катам, С паганякаю на ўзруччы К зьдзекам быў заўзятым.* Дз, 189.

Адз. Т. *паганякаю.*: Дз, 189.

**[ПАГАРАВАЦЬ]** *зак. да* гараваць. *Паваюем, пагаруем, Зато дома запануем. Свішча куля, йяй-ха-ха! Каля вуха дзецюка.* БЗ.

Абв. буд. мн. 1 ас. *пагаруем*: БЗ.

**[ПАГАРАЧЫЦЦА]** *зак.* Выказаць залішнюю гарачнасць, нярвовасць. [Янка]: *Выбачайце* [Мікіта]*, я крыху пагарачыўся.* Т, 22.

Абв. пр. адз. м. *пагарачыўся*: Т, 22.

**[ПАГАРДЖАНЫ]** *прым.* Тое, да чаго адносяцца з пагардай, чым пагарджаюць. *Беларуская мова з пагарджанай і паднявольнай стала раўнапраўнай і дзяржаўнай..* ШБСЯ.

Адз. ж. Р. *пагарджанай*: ШБСЯ.

**ПАГАРДЖАЦЬ** *незак*. Адносіцца да каго-, чаго-н. з пагардай. *А народ твой* [Беларусі] *быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.* Б, 18.

Інф. *пагарджаць*: Б, 18.

**ПАГАСЦІЦЬ** *зак.* Гасціць некаторы час. [Спраўнік]: *Ацец духоўны таксама паспеў пагасціць у нас.* Т, 51. [Мікіта]: *Пагасцілі б, мадам-сіньёра і мусы, яшчэ хоць з хвіліну!..* Там жа, 38.

Інф. *пагасціць*: Т, 51. Абв. пр. мн. *пагасцілі*: Т, 38.

**ПАГАТОВЕ** *прысл. Польск.* Тым больш. [Мікіта]: *Цяпер так: калі конь можа цягаць павозку, то чалавек і пагатове.* Т, 45.

**[ПАГІБЕЛЛЕ]** *н. Разм. Тое, што* пагібель. *Край разрываны ўвесь на часці – Народ аграблены яго – Не ўбараніўся ад напасці І ад пагібелля свайго.* ГП, 8.

Адз. Р. *пагібелля*: ГП, 8.

**[ПАГІБЕЛЬ]** *ж.* Смерць, гібель. *Ужо адны ў вочы кідаюць – здраднік, звыродзень, На пагібель, на звод шлюць другія.* Ч, 320. *Параўн.* гібель, пагібелле.

Адз. В. *пагібель*: Ч, 320.

**[ПАГЛАДЗІЦЬ]** (2) *зак.*: ◊ **Пагладзіць проці шэрсці** – гаварыць каму-н. непрыемнае. [Мікіта]: .. *крычаць будуць* [слухачы] .. *– далоў, рэгістратар Зносілов! – калі пагладжу іх проці шэрсці, меджду протчым.* Т, 41. **Па шэрсці пагладзіць** – *тое, што* гладзіць па шэрсці. [Мікіта]: .. *крычаць* [слухачы] *будуць: віват, рэгістратар Зносілов – калі іх па шэрсці пагладжу..* Там жа, 41.

Абв. буд. адз. 1 ас. *пагладжу* (2): Т, 41 (2).

**[ПАГЛЁД]** *м. Разм., перан.* Выгляд. *Паглёд паважны і пахмурны На час адзела старана.* УрП, 52. *Параўн.* пагляд *у* 1 *знач.*

Адз. В. *паглёд*: УрП, 52.

**[ПАГЛЯД]** (2) *м. Разм.* **1.** *Тое, што* паглёд. *Так магучы, яснасьветны На пагляд былі ўсе* [сыны], *Хоць да бою з апраметнай... Ажно сьвет дзівіўся!* Дз, 189.

**2.** *Тое, што* погляд. *І вось, з нашага беларускага пагляду усе гэтые плебісцыты і сходы бацькоў ёсьць нішто іншае, як дэмократычная камэдыя..* ДК.

Адз. Р. *пагляду*: ДК. В. *пагляд*: Дз, 189.

**[ПАГЛЯДАЦЬ]** *незак.* Наглядаць за чым-н. *Чырвонаармеец палажыў убок абломак стрэльбы і паглядае, не разумеючы, у чым справа.* Т, 52.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *паглядае*: Т, 52.

**ПАГЛЯДЗЕЦЬ** (12) *зак.* **1.** Накіраваць позірк на што-н.; паназіраць за чым-н. [Ануля]: *Пайшоў* [Мікіта] *паглядзець на Захараўскую вуліцу, як там паны турбуюць жыдоўскія крамы й спальні.* Т, 57. *..паглядзеце, якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводзьзе вадою..* ХВ, 29.

**2.** Зрабіць прадметам сваёй увагі. *Паглядзіце, азірніцеся, таварышы, на нашу моладзь, на нашу слаўную Чырвоную армію, якая стаіць на стражы нашых граніц.* ДЖ. // Упэўніцца, пераканацца ў чым-н. *Паглядзім, што зробіць у гэтай справе "Белтрэстдрук"..* ВСп, 91.

**3.** Пазнаёміцца з чым-н.; прачытаць. *Рэдактар паглядзеў* [фельетон], *пакруціўся галавой і нічога не сказаў.* Ан, 18. *Паглядзеў* [газеты] *я, і мяне аж у холад кінула.* Там жа, 19.

Інф. *паглядзець* (2): Т, 26, 57. Абв. цяп. адз. 3 ас. *паглядзіць* (2): Т, 34 (2). Пр. адз. м. *паглядзеў* (2): Ан, 18, 19. ж. *паглядзела* (2): Т, 34 (2). Буд мн. 1 ас. *паглядзім*: ВСп, 91. Заг. мн. 2 ас. *паглядзеце* (2): ХБ, 29, 30; *паглядзіце*: ДЖ.

**ПАГНАЎШЫ** *дзеепрысл.*: ◊ **Пагнаўшы ў абоз** *гл.* абоз.

**[ПАГНАЦЬ]** (3) *зак.*: ◊ **Пагнаць у абоз** *гл.* абоз.

Абв. пр. мн. *пагналі* (3): Т, 35, 54 (2).

**ПАГОДА** (2) *ж.* **1.** Добрае надвор'е. *Заплача ў пагоду канюх па расінцы "Забраны край" жаліцца з ім.* ЗК, 42.

**2.** *перан.* Умовы, час. *Віхор праміне і прыдзе ясная жыватворная пагода для ўсіх.* СНБ.

Адз. Н. *пагода*: СНБ. В. *пагоду*: ЗК, 42.

**[ПАГОН]** (6) *м. Спец.* Наплечны знак адрознення. [Спраўнік]: *Спраўніцкія пагоны, гаспадзін таварыш: памятка былога вялічча.* Т, 61. [Начальнік]: *(круцячы пагоны ў руках, да Спраўніка). Што гэта?* Там жа, 61.

Мн. Н. *пагоны*: Т, 61. В. *пагоны* (5): Т, 25, 61 (3), 62.

**[ПАГОСТ]** *м. Уст.* Могільнік. *Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты, Касцямі палягуць яны на пагост.* ПБН.

Адз. В. *пагост*: ПБН.

**[ПАГРАЖАЦЬ]** (3) *незак.* З'яўяцца пагрозай, ствараць пагрозу для каго-н. .. *яму* [падлетку] *пагражала камедыя "таварыскага суда", выдаленне з інтэрната, з Бацяўскага "фабзавуча".* ПЧ. *Палякі занялі Радашковічы і паважна пагражалі Менску.* СНБ, 340.

Абв. пр. адз. ж. *пагражала*: ПЧ. Мн. *пагражалі* (2): СНБ, 340 (2).

**[ПАГРАНІЧНІК]** *м.*: Δ **Баец-пагранічнік** *гл.* баец.

Мн. Н. *пагранічнікі*: ВГ.

**[ПАГРАНІЧНЫ]** (3) *прым.* Які знаходзіцца ўздоўж граніцы; паказвае граніцу. *Вы, другі верные, ганцы, Як летась, сёлета, на лета Ўсё пагранічные капцы Абходзьце зноў з маім прыветам.* Кц, 196. *Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі, дзе распасціраецца панаванне над часткай Беларусі белага арла, – голад, здзекі, катаванне працоўнага народу..* ЖН.

Мн. В. *пагранічные*: Кц, 196. Т. *пагранічнымі* (2): ГНД; ЖН.

**[ПАГРОМ]** (3) *м.* Разарэнне чаго-н., разгром. *Ён* [расійскі чынадрал] *сніць былую моц і шыр: Цары, царыцы, цэрквы, трон, Пагромы, катаргі, Сібір...* АПЖ. *Супроць банд фашысцкіх, пагромаў, пажараў Народ беларускі пастане з табой* [Варашылаў]. НДп, 229.

Мн. Н. *пагромы*: АПЖ. Р. *пагромаў* (2): НДп, 229; ПБН.

**ПАГРЭЦЬ** *зак.*: ◊ **Пагрэць рукі** – нажыцца за чый-н. кошт. *Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй, якая тут толькі аб адным дбала, каб як цяплей пагрэць рукі ды захапіць "маёнтак".* Нз, 14.

Інф. *пагрэць*: Нз, 14.

**[ПАГУДКА]** *ж. У параўн.* Напеў, мелодыя, песня. *Радзімым словам у цярпеньні Зьвініць* [жалейка] *пагудкаю братом, І з пакалення ў пакаленне Перадавае сваяком.* УрП, 49.

Адз. Т. *пагудкаю*: УрП, 49.

**ПАД** (104) *прыназ. з В. і Т.* Спалучэнне з прыназоўнікам “пад” выражае:

П р а с т о р а в ы я  а д н о с і н ы (82).

**1.** *з В.* Ужываецца для абазначэння накіраванасці дзеяння ўніз, ніжэй чаго-н. [Мікіта]: *.. мамаша, схавайце гэтыя портфелі – можа, дзе пад комін ці куды іх падсунеце.* Т, 50. *А яны, здрайцы вольных народаў, Нож нам пад сэрца тачылі.* СЗГ, 252.

**2.** *з В.* Ужываецца для абазначэння месца, у непасрэдную блізкасць да якога накіравана дзеянне. *Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну..* БВ, 16. *Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі .. нашых людзей на Мурман, пад Урал і г.д., як і за даўных царскіх часаў.* Там жа, 16. // Ужываецца для канкрэтызацыі прасторавага паняцця. *У краіне гордай, горы дзе пад неба, Дзе быў прыкаваны Праметэй да скалы Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС, 231.

**3.** *з В.* Ужываецца пры абазначэнні паняцця, пры назве дзеяння ці стану, у зону якіх накіравана іншае дзеянне. *Чагось чакалі грамадзяне. Ў вачах палаў надзеі жар, – Пад сьмерць, здаецца, кожны стане, Адвагай мятусіўся твар.* УрП, 47. *І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны, Хоць пад права тваё падрываецца шмат хто, як крот, – Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына..* Б, 18. // У значэнні “ва ўладу каго-, чаго-н.” *Луцкевічы, Станкевічы і т.д. служаць адзінай мэце – .. кінуць яе* [Беларусь] *ў падняволле – соцыяльнае, нацыянальнае і культурнае – пад ногі нямецкага, польскага, беларускага жандара, памешчыка-фашыста.* ШБСЯ. *.. я* [Купала] *падпаў пад ўплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму.* АЛ.

**4.** *з Т.* Ужываецца пры абазначэнні прадмета, ніжэй якога адбываецца дзеянне або знаходзіцца хто-, што-н. *Так хваляваўся гмін народны, Пад высяй тэй, дзе я стаяў..* УрП, 47. *Хто умее слухаць, – можэ Шмат пачуць чаго там; Як прычытвае нябожэ, Бы Лазар пад плотам.* Дз, 188. *Перад ім* [рэдактарам] *ляжала сто і адна свежых газэт; адна з іх парваная, а газэта з маёй стаццёй ляжала ў рэдактара пад нагамі.* Ан, 19.

**5.** *з Т.* Ужываецца пры абазначэнні прадмета, унізе каля якога адбываецца дзеянне. *Сьпім на ўзьмежку пад ігрушай. Дождзык*

*моча, сонца суша.* БЗ. *Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72.

**6.** *з Т.* Ужываецца пры ўказанні на месца, блізка ад якога знаходзіцца хто-, што-н. *У кажусе і ў куртцы новай Сінявокі хлопчык кадэт У канаве злажыў пад Растовам За цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81. *Граб зусім звычайнае дрэва ў лясох, гдзе мясцовасьць больш вільготная, а хто бачыў яго пад Масквою?* ХБ, 29.

**7.** *з Т.* Ужываецца пры ўказанні на стан, у якім што-, хто-н. знаходзіцца. *Рэшта яго* [падлетка] *грошай, што хаваецца ў Бацяўскай "ашчадкасе" – пад суровым кантролем.* ПЧ. *Цябе чакаем, будучыні нейкай, Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш, І гінеш марна пад чужой апекай, Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.* Бч, 9. // *Разм.* У значэнні "ва ўладзе каго-, чаго-н". *Спрадвеку ходзім пад панам і пад царам На недруга й на бліжняга свайго вайной..* НГ. *Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаваў і народаў.* Тж. 16.

А. 328; Ан, 19 (4); АЛ (9); Бч, 9; БВ, 16 (2), 17; БН, 93; БСУ; ВВ, 263; ВГР (3); ДЖ; ДНСП; ДПЛС; Ж; ЗК, 42; 43 (2); ЗЯЗ, 89 (2); Кз, 16; МПв, 220; НГ; НДН, 18; НКУС; ПБН (2); ПДз; ПЛП; ПС; ПСД; СБ; УрП, 50; Х; ШБСЯ.

Ч а с а в ы я   а д н о с і н ы (4).

**8.** *з В.* Ужываецца пры ўказанні на час, блізка перад якім што-н. адбываецца. *Позняя восень. Сцюдзёна. Пад вечар. Месца дзеі – кусок Катадральнага пляца..* Т, 33. *.. трэба табе* [мужык] *ведаць, што пад той час, як я быў, наехалі там "госьци" и па-свойму слабаджанаў абучали нагайками…* ХЛБ. Т, 40, 54.

А б ' е к т н ы я   а д н о с і н ы (12)

**9.** *з В.* Ужываецца пры абазначэнні ўмоў, абставін, гукавога фону, якімі суправаджаецца дзеянне. *Еўропа кліча ў госці вас* [бальшавікоў]: *Пад рогат Пірравых пабед Саветы кліча на "савет".* ПВ. *Пасля паўмінутнай паўзы, пад сціхаючыя гукі песні, паволі апускаецца заслона.* Т, 62. НГ (2); Пт; РС, 40; ПБН (2); Т, 43 (3).

**10.** *з. Т.* Ужываецца для ўказання на прадмет, пад уздзеянне якога што-н. пападае. *Іскрыцца пад молатам сталь, А молат не біў так калісь.* ГП, 215.

А з н а ч а л ь н ы я   а д н о с і н ы (2).

**11.** *з Т.* Ужываецца пры ўказанні на адметную ўласцівасць. *Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі...* БВ, 16. .. [рэдактар] *напісаў у сваю яснавельможную газэту горка-сьлязьлівую стацьцю пад такім загалоўкам якім парадкам прымусіць дзяцей-беларусоў вучыцца і маліцца папольску.* ЧЧШ.

А д н о с і н ы с п о с а б у д з е я н н я (2).

**12.** *з Т.* Ужываецца пры ўказанні на спосаб якога-н. дзеяння. *Немцы пад прыкрыццём спадніц думалі наладзіць ДЗОТ, а пасля пайсці ў контратаку.* ПСп. *Сягоння мы* [беларусы] *жывём і ўдзень мы блудзім Пад маскай, асляпляючаю нас.* Бч, 9.

П а р а ў н а л ь н ы я а д н о с і н ы (2).

**13.** *з В.* Ужываецца пры абазначэнні прадмета, падобна да якога што-н. робіцца, з якім што-н. параўноўваецца. *А каб давясьці Думе, што тые каталікі-беларусы – гэта зусім не беларусы, а "чыстакроўные" варшавякі, іх стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер..* ВР. [Спічыні]: *Аб гэтым у вас* [Мікіты] *павінен быць ясны, дужа ясны светапогляд, адным словам – пад арэх.* Т, 41.

**Пад прыкрыццём спадніц.**

**[ПАДАБАЦЦА]** (5) *незак*. Быць прыемным, адказваць пэўным патрабаванням. [Спічыні]: *Можаце* [Мікіта] *думаць усё, што толькі вам падабаецца, але гаварыць абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца.* Т, 40 [Мікіта]: *Калі вашай чырвонай міласці падабаецца, то мы знаёмы; самдзеле знаёмы.* Там жа, 60. // Атрымліваць задавальненне ад чаго-н. *А народ твой* [Беларушчыны] *быў змушан маўчаць і табой пагарджаць. І круцілі цябе, як каму падабалася..* Т, 18.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падабаецца* (4): Т, 40 (2), 50, 60. Пр. адз. ж. *падабалася*: Б, 18.

**[ПАДАБАЦЬ]** *незак*. Любіць рабіць што-н., ужываць з прыемнасцю. *Жаднага прымусу ці, барані Божа, гвалту: сам народ робіць ўсё так, як яму жадаецца, як ён падабае.* ДК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падабае*: ДК.

**[ПАДАБЕНСТВА]** *н. перан.* Від, воблік. [Мікіта]: .. *мамаша, трэба хутчэй залю прывесці да чалавечага падабенства.* Т, 50.

Адз. Р. *падабенства*: Т, 50.

**ПАДАБРАЎШЫ** *дзеепрысл. да* падабраць. Прыўзняўшы ўверх. *І фрыцы, падабраўшы спадніцы, задалі такога драпака, што і ўявіць цяжка.* ПСп.

**ПАДАБРАЦЬ** *зак*. Сабраць неабходнае, адбіраючы для пэўнай мэты. *Дзеля ясьнейшага ўразуменьня пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму сьпісу згодна з іх зьместам.* ВСп, 89.

Інф. *падабраць*: ВСп, 89.

**ПАДАВАЦЬ** (13) *незак*. **1.** Даваць, падносячы, аказваючы паслугу. [Дама]: *Тады дазвольце мне балалайку. Мікіта падае.* Т, 51. *Патрульны .. знаходзіць у кішэнях Спраўніка пагоны і падае іх Начальніку.* Там жа, 61.

**2.** Прыносіць, ставіць на стол (ежу). *Ганууля падае закускі*. Т, 27.

**3.** З многімі назоўнікамі ўтварае спалучэнні са значэннем таго ці іншага дзеяння ў залежнасці ад сэнсу назоўніка. [Мікіта]: *І хоць*

*ты ёй* [Насце] *з пальца выссі тое асэсарства, а падавай, і ўсё тут.* Т, 23. [Янка]: *Для вашага* [Мікіты] *гонару падавай вам мацярынскі язык цароў..* Там жа, 49.

◊ **Не падаваць голасу** – маўчаць; бяздзейнічаць. *У нас усё спіць, ніхто не падае голасу, ніхто не дамагаецца ад народаў, што край наш здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з падмогай дзеля яго адбудавання..* АБ, 16. **Падаваць голас** – **а)** абзывацца, выгукваць што-н., паказваючы на сваю прысутнасць. *А як я* [ганец] *ўдарыў па струне, Заметушыліся, як пчолы, І на гарэ, і нізіне Мне падавалі голас кволы.* Кц, 195. **б)** выказвацца пра каго-, што-н. *У 1905 годзе пачаў і я* [Купала] *падаваць сільней свой голас ад імя многапакутнага беларускага працоўнага народа.* ДЖ. *Я* [Купала] *падаваў свой голас супроць тыраніі і царызма праз песні..* ГВУ. **Падаваць надзею** – абнадзеіваць. *Першыя дні бальшавіцкай гаспадаркі, асабліва тут, у Менску, падавалі надзею, што беларуская справа стане на добры дэмакратычны грунт.* СНБ, 339.

Інф. *падаваць*: ДЖ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *падае* (7): АБ, 16; Т, 27, 30, 33, 52 (2), 61. Пр. адз. м. *падаваў*: ГВУ. Мн. *падавалі* (2): Кц, 195; СНБ, 339. Заг. адз. 2 ас. *падавай* (2): Т, 23, 49.

**[ПАДАГРЭТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* падагрэць. *перан.* Узбуджаны, зроблены мацнейшым. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня, падагрэтая злотымі і маркамі полька-нямецкай дыфензывы, разаб'ецца..* ШБСЯ.

Адз. ж. Н. *падагрэтая*: ШБСЯ.

**[ПАДАДДЗЕЛ]** *м.* Частка якога-н. аддзела. [Мікіта]: *Цяпер я, пане профэсар, маю шаснаццаць дзенных і восем вячэрніх, медждy протчым, пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрскіх Саўхозах,.. аддзелах і пададдзелах..* Т, 46.

Мн. М. *пададдзелах*: Т, 46.

**ПАДАЗРОНА** (2) *прысл.* З недаверам. *Грамадзянін іранічна і падазрона змераў яго* [Мікіту] *вачыма ды пайшоў.* Т, 34. [Мікіта]: *(падазрона ўзіраючыся на Начальніка) Калі вашай чырвонай міласці падабаецца, то мы знаёмы..* Т, 60.

**[ПАДАННЕ]** *н.* Вуснае апавяданне, якое жыве ў народзе і перадаецца з пакалення ў пакаленне. *Так камень не ляжэ, як змора падання Лягла ад мяжы да мяжы З надзеяй, што нават і думку змагання "Забраны край" вырве з душы.* ЗК, 43.

Адз. Р. *падання*: ЗК, 43.

**[ПАДАРАВАЦЬ]** (2) *зак.* Падарыць. *Так, знясільваючая праца бурлакаў робіцца проста святочнай, калі бурлакам падаруюць гумавыя бацявы боты – бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* ПЧ.

◊ **Падараваць абымальную руку і трапятлівае сэрца** – прапанова выйсці замуж. [Мікіта]: *Падаруйце ж* [Наста] *мне, нарэшце:*

*сваю абымальную руку і сваё трапятлівае сэрца.* Т, 42.

Абв. буд. мн. 3 ас. *падаруюць*: ПЧ. Заг. мн. 2 ас. *падаруйце*: Т, 42.

**[ПАДАРВАЦЦА]** *зак.* Захварэць ад цяжкай працы або падымання чаго-н. цяжкага. [Ануля]: .. *бедны Мікіта як не падарваўся, цягаючы футры ды спадніцы.* Т, 57.

Абв. пр. адз. м. *падарваўся*: Т, 57.

**[ПАДАРВАЦЬ]** *зак. перан.* Нанесці шкоду, аслабіць. *Геоічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства, устоі векавечнай цемры, няволі.* ДЖ.

Абв. пр. адз. ж. *падарвала*: ДЖ.

**ПАДАРОЖЖА** (4) *н.* Паездка на чым-н. або пешы паход. *У часе свайго падарожжа мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў.* ПЧ. *Гэтую прыязнь да савецкае культуры, да нашае краіны, у якой народ Чэхаславакіі бачыць адзінага абаронца міру і цывілізацыі, мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі .. ў кожным горадзе, мястэчку, вёсцы па шляху нашага двухтыднёвага падарожжа.* Там жа.

**Падарожжа па Чэхаславакіі.**

Адз. Н. *падарожжа*: ПЧ. Р. *падарожжа* (2): ПЧ (2). М. *падарожжы*: НК.

**[ПАДАРОЖНІК]** *м.* Вандроўнік. [Янка]: *Гэта, цётачка, тыя самыя падарожнікі, аб якіх я вам успамінаў..* Т, 25.

Мн. Н. *падарожнікі*: Т, 25.

**[ПАДАРОЖНЫ]** *прым.* Які знаходзіцца ў дарозе. .. *не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным..* Кз, 17.

Адз. м. Т. *падарожным*: Кз, 17.

**[ПАДАРУНАК]** (5) *м. Тое, што* дораць, што падорана. [Янка]: *То ж належала і аб парадунку якім падумаць.* Т, 20. [Мікіта]: *(Убачыўшы Янкавы падарункі). Меджду протчым, што гэта ў вас, пане профэсар?* Т, 31.

Адз. М. *падарунку*: Т, 20. Мн. В. *падарункі* (3): ПСД; Т, 20, 31. М. *падарунках*: Т, 20.

**[ПАДАРЫЦЬ]** *зак.* Даць, як міласціну. *Да багатай пани и афицэра, каторые тольки што вышли с карэты, падашла дзеўчынка – убогая и працягнула да их руку, каб падарыли.* ПДз.

Абв. пр. мн. *падарыли*: ПДз.

**[ПАДАТАК]** (3) *м.* Абавязковы збор з насельніцтва. *Першы падатак будуць уносіць тые, што прызываліся у апошніе 4 гады.* ВН. *Простые налогі – гэта падаткі з зямлі, с фабрык, з насьледзтва і інш.* Там жа. *Параўн.* налог.

Адз. В. *падатак*: ВН. Мн. Н. *падаткі*: ВН. В. *падаткі*: ВН.

**ПАДАТЛІВЫ** *прым.* Згаворлівы, уступчывы. [Наста]: *Я з пэўных крыніц ведаю, што беларусы падатлівы народ.* Т, 29.

Адз. м. Н. *падатлівы*: Т, 29.

**ПАДАЎШЫ** *дзеепрысл. да* падаць *у* 1 *знач.* [Гануля]: *(падаўшы закуску, да Янкі, Аленкі і Гарошкі). Калі ласка, прашу за стол.* Т, 27.

**ПАДАХОДНЫ** (4) *прым.* Які бярэцца, вылічваецца згодна з памерам даходаў. *Падаходны налог падобна простаму выбіраецца с тых, хто болей зарабляе ці хто болей с чаго мае даходу..* ВН. *Трэба ешчэ тут сказаць, што праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы..* Там жа.

Адз. м. Н. *падаходны* (2): ВН (2). В. *падаходны*: ВН. М. *падаходным*: ВН.

**[ПАДАЦЦА]** *зак.*: ◊ **У крыўду не падацца** – сумець пастаяць за сябе. *Ён* [Сталін] *дзяржаваю кіруе Ў крыўду не падасца. Люд рабочы яго любіць, Ворагі баяцца.* НК.

Абв. буд. адз. 3 ас. *падасца*: НК.

**П□ДАЦЬ** *незак. перан.* Пераставаць існаваць. *Вы* [паны-гандляры] *стварылі ўсясветную вайну за свае кішанёвы інтарэсы; .. а далей, калі пачалі трашчаць і падаць вашы крывавыя троны і кароны, што вы сказалі?* Тж, 15.

Інф. *падаць*: Тж, 15.

**П□Д□ЦЬ** (9) і *разм.* **ПАД□ЦІ** *зак.* **1.** *Зак. да* падаваць *у* 2 *знач.* [Гануля]: *Калі не хочаце да ўсіх, то я вам* [Аленцы, Гарошку, Янку] *сюды падам закускі.* Т, 27.

**2.** Звярнуцца куды-н. з просьбай; прадставіць у пісьмовай форме. *Трэба стварыць камісію, каторая б аб'ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы, падлічыла ўсе страты і падала рахунак.* АБ, 16. *"Істіно-польскіе" дэпутаты ад нашага краю падалі ў Думу запрос, чаму ў некаторых школах, дзе вучацца каталікі-беларусы, ім выкладаюць рэлігію не па польску, а па расейску?* ВР.

**3.** З многімі назоўнікамі ўтварае спалучэнні са значэннем таго ці іншага дзеяння ў залежнасці ад сэнсу назоўніка. *Сцяпан падаў каманду: – Па спаднічнаму войску – агонь!* ПСп.

◊ **Падаць голас** (5) – прагаласаваць за каго-н. на выбарах. *Што ты ведаеш, Данілка, Лепш пабудзь во ў хаце. То-ж на выбары іду я, Голас свой падаці.* Вб, 237. *..я* [Купала] *падам свой голас за Сталіна.* ГВУ.

Інф. *падаць*: ВР; *падаці*: Вб, 237. Абв. пр. адз. м. *падаў* (2): ДК; ПСп. ж. *падала*: АБ, 16. Мн. *падалі*: ВР. Буд адз. 1 ас. *падам* (3): ГВУ (2); Т, 27.

**[ПАДАШУКАНСТВО]** *н. Тое, што* ашуканства. *.. беларускі народ застаўся беларускім народам, ня гледзячы на усе падашуканство,*

*якое пускаў маскоўскі урад, каб абмаскаліць наш народ.* ДК.

Адз. В. *падашуканство*: ДК.

**[ПАДАШУКАЦЬ]** *зак.* Крыху ашукаць. [Мікіта]: .. *рэдактар Гізульскі, што жыў да апошняга часу ў нашай кватэры, абяцаў мне вылатвіць “пшэпустку” на выезд, але падашукаў.* Т, 55.

Абв. пр. адз. м. *падашукаў*: Т, 55.

**ПА́ДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* п□даць: ◊ **Ня падаючы духам** – не трацячы ўпэўненасць, бадзёрасць; адчайваючыся. *Ня падаючы духам, мы павінны ісьці праз жыцьцё ў гэты новы год і моцна трымаць сьцяг змаганьня, за незалежнасьць сваей бацькаўшчыны Беларусі.* СНБ.

**ПАДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* пад□ць. Даючы, падносячы, аказваючы паслугу. [Гарошка]: *(падаючы новую, дзераўляную, па-мастацку зробленую лыжку). А ад мяне прымеце вось гэта...* Т, 30. [Аленка]: *(падаючы* [Янку] *руку.) Згода!* Там жа, 30.

**ПАДБАДЗЁРЫЦЬ** *зак.* Падбавіць сілы; падняць настрой. *Каб яго* [Пасляка] *падбадзёрыць, не раз краў я* [Купала] *ў маці сала або сыр і нёс яму ў узнагароду за казкі.* ПС.

Інф. *падбадзёрыць*: ПС.

**ПАДБАЦЬ** *зак. да* дбаць. *І ніхто з гэтых апекуноў навет і пальцам не кіўнуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса, каб падбаць аб яго родным краю*. Нз, 15.

Інф. *падбаць*: Нз, 15.

**ПАДБЕГШЫ** *дзеепрысл. да* падбегчы. Наблізіўшыся бягом. [Наста]: *(падбегшы да Ганулі). Вы, мадам, ідзеце адчыняць тыя дзверы, а я адчыню гэныя.* Т, 25.

**[ПАДБІРАЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Сабіраць, паднімаць што-н. з зямлі, падлогі. – *З’еўшы сэрца, я* [груган] *ляту, Косці падбіраю.* Пц. *Гануля падбірае параскіданае.* Т, 33.

**2.** Адбіраючы, выбіраць нешта патрэбнае, адпаведнае. *А бабуля яму кажа, Падбірае словы: – Што ты ведаеш, Данілка, Лепш пабудзь во ў хаце.* Вб, 237.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *падбіраю*: Пц. 3 ас. *падбірае* (2): Вб, 237; Т, 33.

**[ПАДБЛІЗІЦЦА]** *зак.* Наблізіцца. *Падходзь жа, паночку! знімі акуляры – Лепш будзе агледзіць пакупку; Ты, барынька, так жа падбліжся!.. мы нары Дамо нават з ёю, галубкай...* Р.

Заг. адз. 2 ас. *падбліжся*: Р.

**ПАДБУХТОРЫВАЦЬ** *незак. Разм.* Падгаворваць каго-н. да якога-н. дзеяння. [Гануля]: *..ён* [Мікіта] *ужо на другі дзень палез на Трэку недзе на вышкі і давай на чым свет, падбухторываць людзей.* Т, 46.

Інф. *падбухторываць*: Т, 46.

**[ПАДВАЛ]** *м.* Памяшканне пад першым паверхам будынка ніжэй узроўню зямлі. *Жылі* [людзі] *– як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажывалі сабе сухоты і іншыя галодныя-халодныя хваробы..* МІ, 17.

Мн. М. *падвалах*: МІ, 17.

**[ПАДВАЛІНА]** (2) *ж. перан.* Аснова чаго-н. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі..* Т, 28. *Шчыры голас і праца ідэёвая людзей .. палажылі свае векапомныя падваліны дзеля адраджэння свайго народу..* СНБ, 336.

Мн. В. *падваліны* (2): СНБ, 336; Т, 28.

**[ПАДВЕЗЦІ]** *зак.* Узяць каго-н. па дарозе на воз, машыну. [Мікіта]: *(Напявае). Немцы едуць, нашы йдуць, Немцы нашых падвязуць.* Т, 31.

Абв. буд. мн. 3 ас. *падвязуць*: Т, 31.

**[ПАДВОЙНЫ]** *прым.* Двайны. *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, якія памерлі ў адзін час, ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне.* А, 328.

Адз. ж. В. *падвойную*: А, 328.

**[ПАДВУЧЫЦЦА]** *зак. Разм.* Павучыцца дадаткова. [Гануля]: *Хоць бы ўзяў, як іншыя, ды падвучыўся боты шыць або хоць латаць.* Т, 20.

Абв. пр. адз. м. *падвучыўся*: Т, 20.

**[ПАДВЫШАНЫ]** і **[ПАДВЫШЭНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* падвысіць. *У знач. вык.* Павялічаны (пра цэны). *І вось мы бачым, што ужо на некаторые рэчы падвышэны у нас да канца вайны акцыз, як напр. на табаку, падвышана пачтовая аплата і інш.* ВН.

Кар. адз. ж. Н. *падвышана*: ВН. Мн. Н. *падвышэны*: ВН.

**[ПАДВЫШКА]** *ж. Польск. Тое, што* падвышэньне. *Гэтыяе падвышкі, канечна, не павінны нас пужаць..* ВН.

Мн. Н. *падвышкі*: ВН.

**ПАДВЫШЫЦЬ** (2) *зак. Разм.* Падвысіць, павялічыць. *Таксама маніцца урад зрабіць новую перэацэнку зямлі і падвышыць, стасоўна да яе вартасьці, гасударственны пазямельны налог.* ВН. *Спосабы ёсць два: або пажычыць у суседоў, або падвышыць старые ці прыдумаць новые налогі.* Там жа.

Інф. *падвышыць* (2): ВН (2).

**[ПАДВЫШЭНЬНЕ]** (2) *н.* Узвышэнне, павышэнне. *Апрача падвышэньня некаторых пабочных налогаў, урад маніцца ешчэ у скорым часе завясьці падаходны і асабісты ваенны налог.* ВН. *Усе гэтые новые налогі і падвышэньне старых урад праводзіць па 87 стацьці асноўных законаў.* Там жа. *Параўн.* падвышка.

Адз. Р. *падвышэньня*: ВН. В. *падвышэньне*: ВН.

**ПАДВЫШЭНЫ** *гл.* **ПАДВЫШАНЫ.**

**[ПАДВЯЗАЧКА]** *ж.*: ◊ **Ані падвязачкі** – нічога. [Мікіта]: *Ані падвязачкі не прыцягнуў! Ага! Маю нават сведку.* Т, 60.

Адз. Р. *падвязачкі*: Т, 60.

**[ПАДГАТОЎКА]** (2) *ж. Руск.* Падрыхтоўка. *Пры менскім камісарыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел, які папраўдзе шчыра заняўся падгатоўкай літаратурнага беларускага матэрыялу.* СНБ, 339. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар'ялу й друкаваньні .. аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі і быўшае В-ва "Адраджэнне" – цяпер "Савецкая Беларусь".* ВСп, 90.

Адз. Т. *падгатоўкай*: СНБ, 339. М. *падгатоўцы*: ВСп, 90.

**[ПАДГАТОЎЧЫ]** *прым. Руск.* Падрыхтоўчы. *Ужо распачата падгатоўчая праца і адбываецца агітацыя.* ВМР.

Адз. ж. Н. *падгатоўчая*: ВМР.

**[ПАДГНІЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* падгніць. Які падгніў. .. *ўвесь стары парадак дзяржаўнага жыцця рухнуў, як падгніўшае ў карэнні адвечнае дрэва.* СНБ, 336.

Адз. н. Н. *падгніўшае*: СНБ, 336.

**[ПАДДАВАЦЦА]** (3) *незак.* **1.** Згадзіцца з кім-н. [Мікіта]: *Паддаюся, толькі ж не большасці, а вашаму аднаму голасу, мадам-сіньёра.* Т, 29.

**2.** У спалучэнні з некаторымі назоўнікамі абазначае дзеянне па значэнню гэтага назоўніка. [Янка]: *Паддаецца эвакуацыі ў сягонешні час толькі той, у каго або нячыстае сумленне, або ён сядзеў тут з боку-прыпёку..* Т, 37. [Дама]: .. *належыце,* [Янка] *мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?* Там жа, 37.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *паддаюся*: Т, 29. 3 ас. *паддаецца*: Т, 37. Мн. 3 ас. *паддаюцца*: Т, 37.

**ПАДДАВАЦЬ** (2) *незак.*: ◊ **Паддаваць духу** – падбухторыць, садзейнічаць узмацненню якіх-н. пачуццяў. *Трэба горда цягнуць лямку жыцьця, як цягнулі яе і да вайны, да болей ешчэ адзін аднаму паддаваць духу да вытрываласьці на сваім загоне, у сваіх жыцьцявых мэтах.* ВС.

Інф. *паддаваць*: ВС.

**[ПАДДАНЧЫ]** *прым. Уст.* Угодлівы. *Дома дрэме* [трэці брат], *сціскаецца стульна, як злодзей, Б'е падданчы паклон за парогам.* Ч, 321.

Адз. м. В. *падданчы*: Ч, 321.

**[ПАДЗЕЛ]** (2) *м.* Раздзел. *Калі, пасля падзелу Польшчы, Беларусь адышла к Маскоўшчыне, беларусаў гналі ваяваць, хоць аб беларускім войску ніхто не адважыўся і падумаць.* БВ, 16. *Каб*

*таго парвала З сэрцам на тры часьці .. Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы Маці роднай цела.* К.

Адз. Р. *падзелу*: БВ, 16. Д. *падзелу*: К.

**[ПАДЗЕЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* падзяліць *у* 1 *знач. У знач. вык. Старшынёй урада быў назначаны Жылуновіч (Ц. Гартны), а рэшта "портфелей" былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным ды іншымі.* СНБ, 338.

Кар. мн. Н. *падзелены*: СНБ, 338.

**[ПАДЗЕРЦІСЯ]** *зак.* Парвацца; знасіцца. *– Так і так, – кажу, – пане рэдактар: боты падзерліся, табакі няма, селядцы дарагія, дык вось патрабую пільна зарабіць якую дытку.* Ан, 18.

Абв. пр. мн. *падзерліся*: Ан, 18.

**ПАДЗЕЦЦА** (2) *зак.* Знайсці для сябе прытулак. [Мікіта]: *Оеей! Куды ж я падзенуся?* Т, 32. // Схавацца, уцячы. [Ануля]: *А мамачкі ж мае. Завярнуліся* [патруль] *сюды да нас. Куды ж тут цяпер падзецца.* Т, 59.

Інф. *падзецца*: Т, 59. Абв. буд. адз. 1 ас. *падзенуся*: Т, 32.

**ПАДЗЕЦЬ** (2) *зак. Разм.* Схаваць. [Мікіта]: *Куды тут што падзець. (Совае рэвальверы асадкамі ў адну і другую руку Даме).* Т, 59. *Мікіта хапае то за кошык, то за рэвальверы, не ведаючы, што куды падзець.* Там жа, 59.

Інф. *падзець* (2): Т, 59 (2).

**ПАДЗЕЯ** (4) *ж.* Важная, выдатная з'ява. *І ў гэтыя-ж дні – другая падзея сусветнага значэння: на радзіму вяртаецца гераічная чацвёрка папанінцаў.* МП. *Адбываюцца нячуваныя, грандыёзнейшыя ў гісторыі чалавецтва падзеі.* АЛ.

Адз. Н. *падзея*: МП. Мн. Н. *падзеі*: АЛ. В. *падзеі*: МП (2).

**[ПАДЗЁЎКА]** *ж.* Доўгае мужчынскае верхняе адзенне са зборкамі па таліі. *Усходні вучоны – носіць велікарускую вопратку – "падзёўку", "касаваротку" і доўгія боты, барада калматая.* Т, 19.

Адз. В. *падзёўку*: Т, 19.

**[ПАДЗІРАЛЬНІК]** *м. Разм.* Падзорная труба. [Ануля]: .. *паміж сабой тое-сёе па-вучонаму пагаманілі* [вучоныя]*, праз свае падзіральнікі туды-сюды зірнулі ды пайшлі.* Т, 54.

Мн. В. *падзіральнікі*: Т, 54.

**[ПАДЗОРНЫ]** (3) *прым.*: • **Падзорная труба** *гл.* труба.

Адз. ж. В. *падзорную*: Т, 25. Мн. В. *падзорныя* (2) Т, 26, 38.

**[ПАДЗЯКА]** (4) *ж.* **1.** Удзячнасць за што-н. добрае. *Кс. рэктару Абрантовічу, п. Гіркант, шчырую падзяку за іх добрую апеку ў трудные дні маей* [Купалы] *хваробы.* ЛР. *Ігнат Булава з падзякай паціснуў ім* [падрыўнікам] *рукі.* ПСп.

**2.** Узнагарода. *Хоць нам за нашу кроў падзякаю адной – Крыжы і хаты нашы скошаны пажарам!* НГ.

Адз. В. *падзяку*: ЛР. Т. *падзякай* (2): Бч; ПСп; *падзякаю*: НГ.

**ПАДЗЯКАВАЦЬ** (3) *зак.* Выказаць падзяку за што-н. добрае. *Ня могучы кожнаму з асобку падзякаваць, .. я лічу сваім сьвятым абавязкам хоць на гэтым месцы успомніць гэтых асоб добрым словам.* ЛР. [Дама]: *Ах, якія ж усё-такі яны* [паны] *джэнтльмэны! Нават падзякавалі.* Т, 58.

Інф. *падзякаваць*: ЛР. Абв. пр. мн. *падзякавалі* (2): Т, 58 (2).

**[ПАДЗЯЛІЦЦА]** *зак.* Распасціся, раздзяліцца. *Апрача таго. М. Кудзелька даў паэму "Босыя на вогнішчы", зьвярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў, якія падзяліліся на прыхільнікаў і няпрыхільнікаў паэмы..* ВСп, 89.

Абв. пр. мн. *падзяліліся*: ВСп, 89.

**ПАДЗЯЛІЦЬ** (3) *зак.* **1.** Размеркаваць паміж кім-небудзь, раздзяліць. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі і што гэтай зямлі для яго хопіць, абы толькі падзяліць яе па справядлівасці..* ЗС, 18. *.. расійскія "кадэты" ўжо тады падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя – палякам, усходняя – расійцам.* У.

**2.** *Зак. да* дзяліць *у 3 знач. Ой, сяброўка з вечарынкі, Нам з табою ня дружыць, – Радасць, гора мы дзялілі, А любоў не падзяліць.* УрП, 82.

Інф. *падзяліць* (2): ЗС, 18; УрП, 82. Абв. пр. мн. *падзялілі*: У.

**[ПАДЗЯЛЯЦЬ]** *незак. перан.* Перажыць што-н. разам. *Вось гэту вялікую, заслужаную, гордую радасць пераможцаў падзяляем з усімі народамі краіны Советаў і мы, ягоныя пісьменнікі, ягоныя песняры.* ВГР.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *падзяляем*: ВГР.

**[ПАДЗЯМЕЛЛЕ]** *н. перан.* Шахта. *Чыя кірка ў падзямеллі Першай пласт вугля цярэбіць І чый трактар першым сцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180.

Адз. М. *падзямеллі*: СА, 180.

**ПА-ДЗЯРЖАЎНАМУ** *прысл.* Сур'ёзна. *.. сягоння нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым па-дзяржаўнаму гаворaць з намі* [беларусамі], *як з народам, каторы заслужыў па людскому і божаму праву гэту незалежнасць* ПЛП.

**[ПАДКАЗВАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Падказваць на мігі** – размаўляць пры дапамозе жэстаў, знакаў. *Падказвае* [Мікіта] *на мігі, што ўлле яму* [Немцу] *вады.* Т, 32.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падказвае*: Т, 32.

**[ПАДКАЛОДНЫ]** *прым.*: ◊ **Падкалодная (яшчарыца) гадзюка** *гл.* гадзюка.

Мн. Р. *падкалодных*: СК, 158.

**[ПАДКАСІЦЬ]** *зак. перан.* Нанесці шкоду чаму-н.; разладзіць,

паслабіць. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі..* Т, 28.

Абв. пр. адз. н. *падкасіла*: Т, 28.

**[ПАДКАСЬЦЕЛЬНЫ]** *прым.*: ◊ **Разводзіць падкасьцельную філезофію** *гл.* разводзіць.

Адз. ж. В. *падкасьцельную*: З.

**ПАДКРЭСЛІЦЬ** (2) *зак. перан.* Звярнуць увагу на што-н. важнае, значнае. *Рэформа правапіса, – што я* [Купала] *мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць, – з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы..* ШБСЯ. *Я* [Купала] *хачу з усёй шчырасцю ў гэты ўрачысты для мяне дзень падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку большэвіцкай партыі і совецкай улады.* ЖН.

Інф. *падкрэсліць*: ЖН; ШБСЯ.

**[ПАДКУПЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* падкупіць. Схілены на чый-н. бок пры дапамозе грошай. *Годзе брахні ўжо, падкупленых зводаў. Годзе таптаньня праўд вечных, сьвятых!* Г, 16.

Мн. Р. *падкупленых*: Г, 16.

**[ПАДКУРВАЦЬ]** *незак.* Абдаваць дымам. [Янка]: *Але дзядзька густа іх* [гасцей] *сваёй піпкай падкурваў. Бачыў, як насамі круцілі ды кіхалі.* Т, 29.

Абв. пр. адз. м. *падкурваў*: Т, 29.

**ПАДЛЕТАК** (4) *м.* Хлопчык у пераходным узросце. *Мы* [дэлегаты] *былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак і яму пагражала камедыя "таварыскага суда" ..* ПЧ. *Баця рыхтуе для сябе "кадры" рабочых, арганізаваўшы для падлеткаў заводскія школы.* Там жа.

Адз. Н. *падлетак*: ПЧ. Р. *падлетка*: ПЧ. Мн. Н. *падлеткі*: ПЧ. Р. *падлеткаў*: ПЧ.

**[ПАДЛІЧВАЦЬ]** *незак. перан.* Падводзіць вынікі. *Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам ахоплівае народы нашай вялікай радзімы, калі яны глядзяць на пройдзены шлях і падлічваюць свае перамогі.* ВГР.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *падлічваюць*: ВГР.

**[ПАДЛІЧЫЦЬ]** *зак.* Палічыўшы, вызначыць суму, колькасць чаго-н. *Трэба стварыць камісію, каторая б аб'ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы, падлічыла ўсе страты і падала рахунак.* АБ, 16.

Абв. пр. адз. ж. *падлічыла*: АБ, 16.

**[ПАДЛОГА]** (5) *ж.* Насціл у памяшканні, па якім ходзяць. *Тут рэдактар схапіў адну з падлогі газэту, кінуў мне проста ў вочы і*

*гукнуў: – На, чытай!* Ан, 19. *Ганула прыбірае стол, пасля ладзіць для Гарошкаў пасцель на падлозе.* Т, 31.

Адз. Р. *падлогі*: Ан, 19. В. *падлогу*: ЧЧШ. М. *падлозе* (3): Ан, 19; Т, 23, 31.

**ПАДМЕНЬВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* падменьваць. *перан*. Напаўняючы іншым зместам. .. *контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы спадцішка, але, няўхільна, падточвалі социялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці, падменьваючы іх нацыянальна-буржуазнымі.* АЛ.

**[ПАДМОВА]** *ж. Н672ватв*. Разнавіднасць мовы. [Мікіта]: *А ў гэтым, медждy протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы, загады, рэзолюцыі, інструкцыі аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў, усіх нацый і паднацый, усіх народаў і паднародаў, усіх моваў і падмоваў – у нашай ядынай і непадзельнай Літбеларускай рэспубліцы.* Т, 46.

Мн. Р. *падмоваў*: Т, 46.

**[ПАДМОГА]** (4) *ж. Разм.* Дапамога, падтрымка. *На земства малая надзея – яно недаўна ў нашым краю заведзена і дзеле таго ня можэ ешчэ аказаць вялікай падмогі.* ВС. .. [край беларускі] *могбы пры падмозе чалавека абярнуцца ў адзін з найпрыгажэйшых краёў..* ХБ, 29.

Адз. Р. *падмогі*: ВС. В. *падмогу*: Т, 35. Т. *падмогай*: АБ, 16. М. *падмозе*: ХБ, 29.

**[ПАДМОСЦІЦЬ]** *зак. Разм.* Паслаць. [Ганула]: *Ложкаў, праўда, лішніх няма, дык во тут на падлозе што-небудзь падмосцім, і пераспяць* [Гарошкі] *ноч.* Т, 23.

Абв. буд. мн. 1 ас. *падмосцім*: Т, 23.

**ПАДМУР** (2) *м. Разм., перан.* Апора, аснова чаго-н. *Моцны падмур быў зроблены, трэба было толькі класці сцены і завяршыць будову светлага, незалежнага існавання Беларускай дзяржавы.* СНБ, 337. *Нас не кранулі косы зьмен: Царым мы ў дум жывых гэйнале, Хоць на падмурах гэтых сьцен Другіе наш пасад зянялі.* Кц, 193.

Адз. Н. *падмур*: СНБ, 337. Мн. М. *падмурах*: Кц, 193.

**[ПАДМУРАВАНЬНЕ]** *н. Разм.* Каменная або цагляная кладка пад чым-н. *Сьвяціў шляхецкі хорам, кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, – увесь пабяляны..* ХБ, 28.

Адз. М. *падмаруваньні*: ХБ, 28.

**ПАДМЯНІЦЬ** *зак. перан.* Напоўніць іншым зместам. .. *толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвенцыі змогуць* [контррэвалюцыянеры] *зьнішчыць ненавісную ім дыктатуру пролетарыяту, каб падмяніць яе дыктатурай капіталу.* АЛ.

Інф. *падмяніць*: АЛ.

**[ПАДНАРОД]** *м. Наватв.* Разнавіднасць народа. [Мікіта]: *А ў гэтым.. портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы .. аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў, усіх нацый і паднацый, усіх народаў і паднародаў, усіх моваў і падмоваў – у нашай ядынай і непадзельнай Літбеларускай рэспубліцы.* Т, 46.

Мн. Р. *паднародаў*: Т, 46.

**[ПАДНАЦЫЯ]** *ж. Наватв.* Разнавіднасць нацыі. [Мікіта]: *А ў гэтым .. портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы .. аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў, ўсіх нацый і паднацый, усіх народаў і паднародаў, усіх моваў і падмоваў – у нашай ядынай і непадзельнай Літбеларускай рэспубліцы.* Т, 46.

Мн. Р. *паднацый*: Т, 46.

**[ПАДНАЧАЛЬВАЦЬ]** *незак.* Рабіць падуладным, падпарадкоўваць. *Гэты* [стаханаўскі] *рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду..* СТ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падначальвае*: СТ.

**[ПАНОСІЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Частаваць. *Паважна старыя вітаюць наркома, Падносяць хлеб-соль, караваі і мёд.* НДп, 229.

**2.** Дарыць. *І кветкі-вяночкі дзяўчаты, вядома, Падносяць яму* [наркому] *на шчаслівы прыход.* НДп, 229.

**3.** *перан.* Узнімаць, узносіць. *.. бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь, як то падносілі, то тапталі найменшыя праявы беларускага нацыянальнага духу.* СНБ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *падносяць* (2): НДп, 229 (2). Пр. мн. *падносілі*: СНБ.

**[ПАДНЯБЕССЕ]** *н.* Нябесная высь. *Ці то сушы, ці то моры, Ці то высі паднябесся, Усюды стрэнеш непакораў – Комсамольцаў нашых з песняй.* СА, 179.

Адз. Р. *паднябесся*: СА, 179.

**[ПАДНЯВОЛЕНЫ]**[1] (4) *прым. Тое, што* паднявольны *ў* 1 *знач. Прабудзілася соцыяльная і нацыянальная вызваленчая думка ў падняволеных народаў Расіі.* ДЖ. *Для эндэкаў нічога не значна прымер царскай Расіі, якая пад паліцэйскім і жандарскім кулаком трымала дзесяткі падняволеных народаў..* СНБ.

Мн. Р. *падняволеных* (4): ДЖ; НДН, 18 (2); СНБ.

**ПАДНЯВОЛЕНЫ**[2] (3) *дзеепрым. зал. пр. да* падняволіць. *.. свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх* [іншых нацыянальнасцей], *чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19. *Людзьмі звацца, а не падняволенымі царскімі і панскімі парабкамі – такая была думка думак маіх* [Купалы], *песень маіх.* ДЖ.

Адз. м. Н. *падняволены*: НДН, 19. Мн. Т. *падняволеным*: ДЖ. М. *падняволеных*: ДЖ.

**[ПАДНЯВОЛЕНЬНЕ]** *н. Разм. Тое, што* паднявoлле. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю .. застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмакратызм, выступаючы .. пад сьцягам падняволеньня рабочых і сялянскіх працоўных мас.* АЛ.

Адз. Р. *падняволеньня*: АЛ.

**[ПАДНЯВОЛІВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* падняволіваць. *Разм*. Які становіцца паднявольным. .. [расійскія бальшавікі] *змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў..* СНБ.

Мн. Р. *падняволіваных*: СНБ.

**ПАДНЯВОЛІЦЬ** (3) *зак*. Зрабіць паднявольным. .. [вялікія дзяржавы] *мелі адну ярка зарысаваную мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і падняволіць іх сваёй нацыі..* НДН, 18. *Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы..* Там жа, 18.

Інф. *падняволіць* (2): НДН, 18 (2). Абв. пр. адз. ж. *падняволіла*: НДН, 18.

**ПАДНЯВОЛЛЕ** (5) і **[ПАДНЯВОЛЬЛЕ]** (5) *н. Тое, што* няволя. *Не "незалежнасць" праз час гэты Сваё разводзіла святло, А паднявoлле без прасветы, А рабства Беларусь гняло.* ГП, 8. *Нацыянальная рэволюцыя, паставіўшая сабе мэтай вызваленьне ўсіх нацый, быўшых у паднявольлі ў дужэйшых дзяржаваў, ідзе другімі шляхамі да вызваленьня чалавека з путаў няволі.* СНБ. *Параўн*. падняволеньне.

Адз. Н. *паднявoлле* (2): ГП, 8; НДН, 18. Р. *падняволля* (2): ПЛП; СНБ, 336; *паднявольля*: СНБ. В. *паднявoлле*: ШБСЯ; *паднявольле*: АЛ. Т. *паднявольлем*: СНБ. М. *паднявольлі* (2): СНБ (2).

**[ПАДНЯВОЛЬНІК]** *м. Н准ватв. Тое, што* нявольнік *у* 1 *знач. .. я* [Купала] *пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай "турме народаў" – царскай Расіі, і песні мае былі тады – песні паднявольніка.* ЖН.

Адз. Р. *паднявольніка*: ЖН.

**ПАДНЯВОЛЬНЫ** (11) *прым*. **1.** Залежны; прыгнечаны. *Баіць, гнучы шыі, Паднявольны люд: Мы ў сваім чужыя – Край забраны тут!* МД. *Беларуская мова з пагарджанай і паднявольнай стала раўнапраўнай і дзяржаўнай..* ШБСЯ. *Параўн*. падняволены.[1]

**2.** Які адбываецца прымусова. *Ночка ці дзень, ці марозы ці спекі, – Вечна ў ярме, ў паднявольнай рабоце.* Д, 73.

Адз. м. Н. *паднявольны* (2): МД; ШБСЯ. ж. Р. *паднявольнай* (2): ЖН; ШБСЯ. М. *паднявольнай*: Д, 73. н. Д. *паднявольнаму*: З. В. *паднявольнае*: НДН, 18. Мн. Д. *паднявольным*: ЖН. Т. *прадпявольнымі* (2): БСУ; НДН, 18. М. *паднявольных*: ЗЯЗ, 89.

**ПАДНЯДЗЕЛІЦА** *зак. Абл.* Надаць сабе святочны выгляд; прыбрацца. [Наста]: *На баль як на баль, а з гасцямі спаткацца прыдзецца, дык чаму ж крыху і не паднядзеліцца?* Т, 24.

Інф. *паднядзеліцца*: Т, 24.

**[ПАДНЯТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* падняць: ◊ **З высока паднятай галавой** *гл.* галава.

Адз. ж. Т. *паднятай*: ШБСЯ.

**[ПАДНЯЦЦА]** (5) *зак.* **1.** *Зак. да* падымацца *ў* 2 *знач. Я* [унук] *паваліўся, падняўся. Ах, вочы... Вочы пан выбіў, сляпым я застаўся.* Ун, 73. *Публіка паднялася з месц і наладзіла нам* [дэлегатам] *авацыю*. ПЧ.

**2.** *перан.* Перайсці да якіх-н. актыўных дзеянняў. *Я* [Купала] *шчасліў, што ў час малейшай трывогі беларускі народ паднімецца як адзін на абарону совецкіх межаў.* ДЖ.

**3.** *перан.* Наладзіцца, палепшыцца. [Пан]: *Як з'явіцеся* [Мікіта] *з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэсціж адразу падымецца ў яе вачох на сто процантаў.* Т, 52. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэта яно* [чыноўніцкае становішча] *ляжыць так сабе – да часу, а потым зварухнецца і падымецца.* Там жа, 21.

Абв. пр. адз. м. *падняўся*: Ун, 73. ж. *паднялася*: ПЧ. Буд. адз. 3 ас. *падымецца* (2): Т, 21, 52; *паднімецца*: ДЖ.

**[ПАДНЯЦЦЕ]** (2) *н.* **1.** Перамяшчэнне ўверх. *Пры падняцці заслоны першым праходзіць справа ўлева Лернік з лерай, а пасля Шарманшчык з шарманкай.* Т, 33.

**2.** *перан.* Паляпшэнне, павышэнне чаго-н. заняпалага. *І вось праца гэтых людзей, праца ў страшэнна пякельных варунках.. – гэта праца лепшых беларускіх людзей над падняццем свае роднае культуры не была дарэмнай.* MI, 17.

Адз. М. *падняцці*: Т, 33. М. *падняццем*: MI, 17.

**ПАДНЯЦЬ** (6) *зак.* **1.** Узяць, падабраць што-н. з зямлі. *Далі волю любіць Колю, Цяпер хочуць яе ўняць; Камень кінулі ў палонку, А цяпер цяжка падняць.* ВБЛ, 82. *Я* [унук] *падняў яблык. Тут пан як наскочыў, Крыкнуў ды гікнуў, і выстрал раздаўся.* Ун, 73.

**2.** Перамясціць знізу ўверх. [Мікіта]: *А цяпер, высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.* Т, 28.

**3.** *перан.* Натхняючы, схіліць да якога-н. дзеяння. *Як-жа можа беларускі народ хіліцца да Польшчы, калі ён бачыць у ёй таго самага пана, .. проці каторага ён падняў паўстаньне у часе рэволюцыі.* ОШМ. *Мяне* [Купалу] *зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына ў БССР..* ШБСЯ.

◊ **Вышэй падняць сцяг** – прадоўжыць барацьбу за што-н., у імя чаго-н. *І ворагам за смерць адплацім грознай смерцю, Вышэй падымем сцяг, што выпаў з слаўных рук.* СК, 158.

Інф. *падняць*: ВБЛ, 82. Абв. пр. адз. м. *падняў* (2): ОШМ; Ун, 73. ж. *падняла*: ШБСЯ. Буд. мн. 1 ас. *падымем* (2): СК, 158; Т, 28.

**ПАДОБНА** (2) *прысл. да* падобны *ў* 1 *знач. Падаходны налог падобна простаму выбіраецца с тых, хто болей зарабляе ці хто болей с чаго мае даходу..* ВН. *Калі параўняць часы беларускага нацыянальнага руху ў перыядзе 1905-1917 гадоў і часы пасля расійскай рэвалюцыі 1917 году, дык гэта адно да другога не падобна, як зямля да неба.* МІ, 17.

**[ПАДОБНЫ]** (9) *прым.* **1.** Які нагадвае каго-, што-н. *І куды ж і к чаму ведзяце вы сягодняшнюю гісторыю, усе антанты, проціантанты і вам падобныя?* Тж, 15. *Палажэньне гістарычнае і геаграфічнае Беларусі было і есьць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых падобных да яе, вызваленых з царска-рабскага гнету, дзяржаваў.* БСУ.

**2.** Такі, як гэты. [Наста]: *Вывешвайце хутчэй праз вакно чырвоны сцяг. У падобных несамавітых сытуацыях такое часам памагае.* Т, 59.

◊ **І гэтаму падобнае** (2) – ужываецца ў канцы пералічэння, паказваючы на тое, што яно можа быць прадоўжана. [Мікіта]: .. *рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупа, бульба, сала, масла, цыбуля, рэдзька і гэтаму, медждү протчым, падобнае.* Т, 45. *У іх* [сялян] *цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток, які працуе над усведамленнем сваіх аднасельцаў; наладжывае беларускія прадстаўленні і г.п.* МІ, 17. **Нічога падобнага** *гл.* нішто.

Адз. н. Н. *падобнае* (2): МІ, 17; 45. Р. *падобнага* (2): Т, 51, 60. Мн. Н. *падобныя*: Тж, 15. Р. *падобных* (2): БСУ; Т, 49. В. *падобныя*: НДН, 18. М. *падобных*: Т, 59.

**[ПАДОЛ]** *м.* Ніжні край адзення. *Круціць вецер пласконны падол. Вецер весел ды цёмен дол.* ВБЛ, 82.

Адз. В. *падол*: ВБЛ, 82.

**[ПАДОНКІ]** *мн. перан. Зняважл.* Дэкласаваныя, разбэшчаныя, злачынныя элементы грамадства. *Прайшлі яго* [шлях], *скідаючы з дарогі ўсіх і ўсялякіх ворагаў .. і ўсе падонкі класавага ворага, каторыя сядзелі ці хацелі сесці на шыю працоўных.* ВГР.

В. *падонкі*: ВГР.

**[ПАДОТКНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* падоткнуць. *Разм.* Засунуты, заткнуты пад што-н. *Поп апускае падоткнутыя полы сутаны.* Т, 24.

Мн. В. *падоткнутыя*: Т, 24.

**[ПАДПАЛ]** *м. Тое, што* пажар *у* 1 *знач. Мала падпалаў, ім* [забойцам] *трэба атруты, Дай ім крыві па калені.* СЗГ, 252.

Мн. Р. *падпалаў*: СЗГ, 252.

**[ПАДПАЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* падпаліць: ◊ **Сядзець як на падпаленай бочцы з порахам** *гл.* сядзець.

Адз. ж. М. *падпаленай*: СНБ, 340.

**[ПАДПАСЦІ]** *зак.* Апынуцца ў залежнасці ад чаго-н. .. *я* [Купала] *падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму..* АЛ.

Абв. пр. адз. м. *падпаў*: АЛ.

**[ПАДПІЛЬНОВЫВАЦЬ]** *незак. Разм.* Чакаць з'яўлення чаго-н. *Кожны толькі яе* [судзьбіны] *падпільновываў сьледу, Плакаў, выў, як было што іначай.* Ч, 322.

Абв. пр. адз. м. *падпільновываў*: Ч, 322.

**[ПАДПІСАЦЬ]** *зак.* Прыняць якія-н. абавязацельствы, умовы. .. *у чацьвер, 23 кастрычніка сёлетняга году Польшча падпісала дэкрэт аб фармаваньні Беларускага нацыянальнага войска..* БСУ.

Абв. пр. адз. ж. *падпісала*: БСУ.

**[ПАДПІСКА]** *ж.* Пісьмовае абавязацельства ў чым-н. *З вучыцелёў, што да таго саюза належэли, ўзяли падписку, каб никуды не выежджали без дазваления палиции.* ВД.

Адз. В. *падписку*: ВД.

**[ПАДПІХАЦЬ]** *незак. Разм.* Падпіхваць, падштурхваць. *Паклаўшы бялізну і начоўкі з вадой на каламажку, вывозяць: Гануля цягне, а Мікіта падпіхае.* Т, 50.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падпіхае*: Т, 50.

**[ПАДПОЛЛЕ]** *н.* Тайная, канспірацыйная дзейнасць, якая накіравана супраць улад. *Загнаны ў падполле там* [у Заходняй Беларусі] *лепшыя людзі, на "крэсах усходніх" лютуе жандар.* ПБН.

Адз. В. *падполле*: ПБН.

**ПАДРАБЯЗНА** *прысл.* Грунтоўна, дакладна. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры .. мы з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах у магістратах, на спатканні з міністрам замежных спраў. п. Бенешам, пра якое досыць прадрабязна пісаў совецкі друк..* ПЧ. *Параўн*, шчэгулово.

**[ПАДРАНГА]** *ж. Наватв.* Разнавіднасць ранга. [Мікіта]: .. *начальства .. да маёй рангі рэгістратара дабавіла ганаровую падрангу, якая па-нашаму завецца "Совбур".* Т, 46.

Адз. В. *падрангу*: Т, 46.

**[ПАДРАСА]** *ж. Наватв.* Разнавіднасць расы. [Мікіта]: *А ў гэтым .. портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы .. аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў, усіх нацый і паднацый, усіх народаў і паднародаў, усіх моваў і падмоваў – у нашай*

*ядынай і непадзельнай Літбеларускай рэспублікі.* Т, 46.

Мн. Р. *падрасаў*: Т, 46.

**[ПАДРАСТАЮЧЫ]** *дзеепрым, незал. цяп. да* падрастаць. Які расце. *Час праявіць нам і свае сілы у будаваньні новага жыцьця для сваей бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакаленьня!* БС.

Адз. н. Р. *падрастаючага*: БС.

**[ПАДРАСТАЦІ]** (2) *зак.* Стаць большым, вырасці. *Буду рады татка, мама, Калі падрасту я* [Данілка], *І за Сталіна таксама Я прагаласую.* Вб, 236. *Пройдуць годы, падрастуць сыны і унукі нашы і спытаюць тады нас: "Што зрабілі вы у той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?* БС.

Абв. буд. адз. 1 ас. *падрасту*: Вб, 236. Мн. 3 ас. *падрастуць*: БС.

**ПА-ДРОБНАМЯШЧАНСКУ** *прысл. Разм.* Па-абывацельску. *Даволі абшырны пакой, беднаваты, па-дробнамяшчанску абстаўлены.* Т, 19.

**[ПАДРОБНЫ]** *прым. Руск.* Падрабязны, дакладны. .. *мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час..* ВСп, 89.

Адз. ж. В. *падробную*: ВСп, 89.

**ПА-ДРУГОЕ** *пабочн.* Ужываецца для абазначэння другога пункту пры пералічэнні. [Мікіта]: *Па-першае: на службу і са службы важу патрэбныя сабе афіцыяльныя, меджду протчым, паперы; па-другое: важу, але ўжо толькі са службы, усялякія пайкі..* Т, 45.

**[ПАДРУЧНІК]** *м.* Кніга, па якой вывучаюць які-н. прадмет. *А "Практычныя граматыкі" Я. Лёсіка ужо зрабіліся незамененымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзяніна..* ВСп, 89.

Мн. Т. *падручнікамі*: ВСп, 89.

**[ПАДРУЧНЫ]** *прым.* Які знаходзіцца пад рукамі, заўсёды ёсць. .. ["Мэтодыка арытмэтыкі" Лукашэвіча і Валасковіча] *павінна стацца незамененай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытмэтыку.* ВСп, 89.

**[ПАДРЫВАЦЦА]** *незак., перан.* Умешвацца ва ўнутраныя справы якой-н. дзяржавы. *І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны, Хоць пад права тваё падрываецца шмат хто, як крот, – Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына..* Б, 18.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падрываецца*: Б, 18.

**[ПАДРЫЎНІК]** *м.* Спецыяліст па падрыўных работах. *Падрыўнікі атрада чыста правялі работу.* ПСп.

Мн. Н. *падрыўнікі*: ПСп.

**ПАДРЫХТАВАЦЬ** *зак. да* падрыхтоўваць. *Бацька хацеў падрыхтаваць мяне* [Купалу] *ў рэальнае вучылішча.* А, 328.

Інф. *падрыхтаваць*: А, 328.

**[ПАДРЫХТОЎВАЦЬ]** *незак.* Даваць неабходныя веды. *..нязначны час вучыўся ў Мінску ў прыватнай падрыхтоўчай школе: нейкі стары чалавек падрыхтоўваў групу вучняў у навучальныя ўстановы г. Мінска.* А, 328.

Абв. пр. адз. м. *падрыхтоўваў*: А, 328.

**[ПАДРЫХТОЎЧЫ]** *прым.* Які служыць для падрыхтоўкі, папярэдняга навучання. *.. нязначны час вучыўся* [Купала] *ў Мінску ў прыватнай падрыхтоўчай школе..* А, 328.

Адз. ж. М. *падрыхтоўчай*: А, 328.

**[ПАДСАЧЫЦЬ]** *зак.*: ◊ **З-за вугла падсачыць** – тайком высочваючы, убачыць. *Больш на нас не рыне банда Ашалелай сукай, З-за вугла нас не падсочыць Подлая гадзюка.* НК.

Абв. буд. адз. 3 ас. *падсочыць*: НК.

**[ПАДСКАКІВАЦЬ]** *незак. Разм.* Падскакваць. *Рэдактар пацалаваў мяне, надрукаваў, а я з радасці падскаківаў.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *падскаківаў*: Ан, 19.

**ПАДСКАКІВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* падскаківаць. *Іду я, падскаківаючы, на другі дзень, каб узяць матэрыял для чацвёртай стацці..* Ан, 19.

**[ПАДСОЎВАЦЬ]** *незак. Разм.* Даваць, прапаноўваць. *Прыходжу я, як гэта ўжо было выдрукавана, а рэдактар падсоўвае мне сто і адну свежых газэт.* Ан, 19.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падсоўвае*: Ан, 19.

**[ПАДСТАВІЦЬ]** *зак.*: ◊ **Падставіць грудзі** – прыняць на сябе нейкі ўдар. *Хай пад сонцам знаюць, Чым мы сёння сталі... Мы падставім грудзі За цябе, наш Сталін!* МПв, 220.

Абв. буд. мн. 1 ас. *падставім*: МПв, 220.

**ПАДСТАЎКА** *ж.* Рэч, на якую што-н. ставяць. [Мікіта]: *.. і да ўсяго гэтага яшчэ: селядцы, тараны .. падстаўка для кветак, тры чаркі, а болей, здаецца, нічога няма.* Т, 46.

Адз. Н. *падстаўка*: Т, 46.

**[ПАДСУДЗІМЫ]** *прым. Руск.*: ◊ **Пападаючы на "скам'ю падсудзімых"** *гл.* пападаючы.

Мн. Р. *падсудзімых*: ВН.

**[ПАДСУНУЦЬ]** *зак.* Засунуць пад што-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфэлі – можа, дзе пад комін ці куды іх падсунеце.* Т, 50.

Абв. буд. мн. 2 ас. *падсунеце*: Т, 50.

**[ПАДСЯКАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Падсякаць сук, на каторым сядзіш** – шкодзіць самому сабе. *Мы пішам гэта дзеле таго, каб польская улада паклапацілася выясніць палажэньне, каб яна супыніла сваіх неразумных ураднікаў, каторые падсякаюць той сук, на каторым сядзяць..* ОШМ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *падсякаюць*: ОШМ.

**[ПАДТОЧВАЦЬ]** і **[ПАДТОЧЫВАЦЬ]** *незак., перан.* Аслабіць, падарваць. *А трывога – гэта чэрвяк, які падточывае сілу і ахвоту да жыцьця, да працы на ніве і ў хаце.* РКр. *.. контррэволюцыйные нацыянал-дэмократы спадцішка, але няўхільна, падточвалі соцыялістычныя элемэнты совецкае дзяржаўнасьці..* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падточывае*: РКр. Пр. мн. *падточвалі*: АЛ.

**[ПАДТРЫМАННЕ]** і **[ПАДТРЫМАНЬНЕ]** *н.* Падтрымка, дапамога. [Янка]: *Бо вы* [Мікіта] *ад гэткіх вучоных чэрпаеце сабе ўзяткадайны клёк для падтрымання сваіх рэгістратарскіх кар'ераў у тутэйшым краі.* Т, 39. *.. толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвенцыі змогуць* [контррэвалюцыянеры] *зьнішчыць ненавісную ім дыктатуру пролетарыяту..* АЛ.

Адз. Р. *падтрымання*: Т, 39. М. *падтрыманьні*: АЛ.

**[ПАДТРЫМЛІВАЦЬ]** *незак.* Адобрыць што-н. *.. я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх* [мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве]*, але наадварот моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Абв. пр. адз. м. *падтрымліваў*: АЛ.

**[ПАДТЫКАЦЬ]** *незак.* Засоўваць пад што-н., падабраўшы край чаго-н. *Поп ізноў падтыкае полы, каб выглядаць па-цывільнаму.* Т, 29.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падтыкае*: Т, 29.

**ПАДУМАЎШЫ** *дзеепрысл. да* падумаць *у* 1 *знач. .. пасля з дабраты сваёй і рупнасці гасціннай прынялі* [дрэговічы і крывічы]*, падумаўшы, да сваіх старых багоў і новага Бога..* Кз, 17.

**ПАДУМАЦЬ** (19) *зак.* **1.** *Зак. да* думаць *у* 1 *знач. Калі, пасля падзелу Польшчы, Беларусь адышла к Маскоўшчыне, беларусаў гналі ваяваць, хоць аб беларускім войску ніхто не адважыўся і падумаць.* БВ, 16. [Гануля]: *Мы наракаем, што цяпер цяжка жывецца, а як падумаеш, дык і ўперад не вялікі мёд быў.* Т, 44.

**2.** *Зак. да* думаць *у* 2 *знач. Не старайся зямли, хаця-бы и купиць, бо са стараны часам могуць падумаць, што дамагаешся "зямли и свабоды"..* СП. [Гануля]: *Я так і падумала, але не сказала, бо пабаялася, што не патраплю вучоным па-вучонаму адказаць.* Т, 54.

**3.** *Зак. да* думаць *у* 4 *знач.* [Янка]: *То ж належала і аб падарунку якім падумаць.* Т, 20. *Але аб беларусу селяніне, аб беларусу грамадзяніне ніхто і не падумаў.* Нз, 14. *Параўн.* подумать.

**4.** *У знач. вык. Разм.* Выражае іронію. [Мікіта]: *Пачынаецца! Падумаеш, таварыш! (Да Абарванца.) Выбачайце, я не таварыш, а, меджду протчым, буржуаз..* Т, 43.

Інф. *падумаць* (7): БВ, 16; ВС; ВСп, 90; ПЛП; СА; Т, 20, 55. Абв. пр. адз. м. *падумаў* (2): Нз, 14; Т, 24. ж. *падумала* (2): Т, 54 (2). Мн.

*падумалі*: Т, 54. Буд. адз. 1 ас. *падумаю*: Т, 20. 2 ас. *падумаеш* (2): Т, 43, 44. 3 ас. *падумае* (2): АБ, 16; Т, 34. Заг. мн. 2 ас. *падумайце* (2): НК; Т, 20.

**ПАДФАРБАВАЦЬ** *зак., перан.* Змяніць. *А каб давясьці Думе, што тые каталікі-беларусы – гэта зусім не беларусы, а "чыста-кроўные" варшавякі, іх стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер..* ВР.

Інф. *падфарбаваць*: ВР.

**[ПАДФУФЫРЫЦЦА]** *зак. Разм.* Прыбрацца. [Мікіта]: *Але і мамзэль Наста, меджду протчым, сягоння падфуфырылася, як на баль-маскараду ў Белую залю.* Т, 24.

Абв. пр. адз. ж. *падфуфырылася*: Т, 24.

**[ПАДХВАТЫВАЦЬ]** *незак. Руск.* Падхопліваць. *Гэта ўраз жэ падхватываюць палякі, і "Kurjer Litewski", а за ім двуграшовая "Gozeta Godziennа" на розны тоны галосяць: "вось, бачыце, да чаго даводзіць беларушчына"..* ВР.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *падхватываюць*: ВР.

**[ПАДХОДЗІЦЬ]** (2) *незак. Разм. Тое, што* падыходзіць. [Наста] *Бярэ балалайку і падходзіць да Янкі.* Т, 29. *Падходзь жа, паночку!.. знімі акуляры – Лепш будзе агледзіць пакупку; Ты, барынька, так жа падбліжся!..* Р.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падходзіць*: Т, 29. Заг. адз. 2 ас. *падходзь*: Р.

**[ПАДХОДЗЯЧЫ]** *прым. Разм.* Падыходзячы. [Янка]: *Што ж, можа, гэта акурат падходзячая была б для вас* [Мікіты] *профэсія.* Т, 55.

Адз. ж. Н. *падходзячая*: Т, 55.

**[ПАДХОПЛІВАЦЬ]** *незак.* Падтрымліваць, прадаўжаць. *Гэтыя сімпатыя выказвалася нам* [дэлегатам] *і шматлікай публікай, якая падхоплівала прывітанні, прымала нас як любых гасцей сваей краіны.* ПЧ.

Абв. пр. адз. ж. *падхоплівала*: ПЧ.

**[ПАДЦІНАЦЬ]** *незак. Абл.* Падцягваць, уторыць. *Гудзеў, каціўся звон вячовы, Пужліва бор-лес падцінаў, Ля цёмнай вецьвістай дубровы Народ зьбіраўся і чакаў.* УрП, 47.

Абв. пр. адз. м. *падцінаў*: УрП, 47.

**[ПАДЦЬВЕРДЗІЦЬ]** *зак. Разм. Тое, што* пацвердзіць. *Перш, чым што зрабіць, абываталь любіць распытацца ў людзей і параіцца з суседам; людзі-ж яму скажуць, а сусед падцьвердзіць, што Беларусі няма, есьць толькі Польшча і Расія..* ВМР.

Абв. буд. адз. 3 ас. *падцьвердзіць*: ВМР.

**[ПАДЧАС]** *прысл.* У час. [Заходні вучоны]: *Падчас бадання тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж дажэ*

*тэрыторыум вхланя в себе цалкен провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

**[ПАДЧЫНЕННЕ]** *н. Руск., разм., перан.* Павага. [Мікіта]: *Вашаму родзію пакорны прывет і падчыненне!* Т, 51.

Адз. В. *падчыненне*: Т, 51.

**[ПАДШПІЛЬВАЦЬ]** *незак.* Прышпільваць. *Гануля падшпільвае шпалеры, Мікіта пераварачвае абразы, Наста ім памагае.* Т, 50.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падшпільвае*: Т, 50.

**[ПАДЫЙСЦІ]** *зак. Разм. Тое, што* падысці. *Падыйдзі, дзяўчынка, – Ці-ж мяне* [Янку] *не знаеш?* ЕЯП.

Заг. адз. 2. ас. *падыйдзі*: ЕЯП.

**[ПАДЫМАЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Перамяшчацца куды-н. ўверх, узыходзіць. *Калі падымаецца заслона, Гануля, закасаўшы рукі, мые бялізну ў начоўках, непадалёк сядзіць Гарошка і пыхкае люльку.* Т, 43.

**2.** Устаць на ногі. *Госці падымаюцца, адвітваюцца і апранаюцца..* Т, 29.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *падымаецца*: Т, 43. Мн. 3 ас. *падымаюцца*: Т, 29.

**ПАДЫМАЦЬ** (2) *незак.* **1.** Утрымліваць што-н. цяжкае, аддзяліўшы ад зямлі. [Аленка]: *(прабуючы падымаць паасобку партфелі ў каламажцы) Ну і цяжкія ж гэтыя торбы!* Т, 46.

**2.** Пачынаць якое-н. дзеянне (у спалучэнні з назоўнікамі, якія выражаюць дзеянне або яго вынік). *Стуль выходзілі ветры – і шум падымалі, Туды з неба валіліся зоры..* Ч, 321.

Інф. *падымаць*: Т, 46. Абв. пр. мн. *падымалі*: Ч, 321.

**ПАДЫМАЮЧЫ** (3) *дзеепрысл. да* падымаць. **1.** *Дзеепрысл. да* падымаць *у* 1 *знач.* [Начальнік]: *Добры гандаль! (Падымаючы вядро з патакай.)* Т, 60.

**2.** Перамяшчаючы знізу ўверх. [Мікіта]: *(Падымаючы чарку.) За здароўе дастойных, медждy протчым, гасцей!* Т, 27–28. [Мікіта]: *(то апускаючы, то падымаючы па чарзе рукі..) Гэта .. качарэжкі!* Там жа, 60.

**[ПАДЫСЦІ]** (3) *зак. да* падыходзіць. *Колю знаю па хадзе я* [дзяўчына] *– Вось к вакенцу падышоў.* УрП, 82. *Да багатай пани и афицэра .. падашла дзяўчынка – убогая и працягнула да их руку, каб падарыли.* ПДз. *Параўн.* падыйсці.

Абв. пр. адз. м. *падышоў*: УрП, 82. ж. *падашла*: ПДз. Буд. адз. 1 ас. *падыду*: Пц.

**ПАДЫХОДЗІЦЬ** (3) *незак.* Ідучы, набліжацца да каго-, чаго-н. [Мікіта]: *.. пачалі падыходзіць людзі, дык падзякавалі* [паны] *і пайшлі.* Т, 58. *Янка дае яму* [Мікіту] *грошы, Мікіта падыходзіць да Немца, становіцца на адно калена і падае грошы.* Там жа, 33. *Параўн.* падходзіць.

Інф. *падыходзіць*: Т, 58. Абв. цяп. адз. 3 ас. *падыходзіць* (2):Т, 33, 52.

**ПАДЫШОЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* падысці. [Немец]: *(падышоўшы блізка да Мікіты і прыглядаючыся да формы) О-о! Што я бачу? Рыхтык рускі генэрал.* Т, 32. [Мікіта]: *(да Янкі, падышоўшы да яго пры апошніх словах і не пазнаўшы). Пане мусье, можа, патрабуеце маркі?* Там жа, 35.

**ПАЕЗДКА** (3) *ж.* Выезд куды-н. на некаторы час. *Наша паездка ў Чэхаславакію была сапраўдным трыумфам совецкае культуры..* ПЧ. *Надзвычайна багатыя і разнастайныя ўражанні ад гэтай паездкі.*Там жа.

Адз. Н. *паездка*: ПЧ. Р. *паездкі* (2): ПЧ (2).

**ПАЕХАЦЬ** (16) *зак.* **1.** *Зак. да* ехаць *у* 1 *знач. Гэй, паехаў сын Даніла Ваяваць на вайну, Ад нападу, ад няволі Бараніць старану.* ПСД. [Аленка]: *Як выехалі вы* [Янка] *з Дуброўкі, я ў шапку не спала і паехала ў Вільню!* Т, 30.

**2.** *Зак. да* ехаць *у* 2 *знач. З табою* [трактар] *паедзе Стаханавец новы, Гэткі ўдалы, стройны, Стройны, светлабровы.* ПТ, 208.

**“Гэй паехаў сын Даніла...”.**

Абв. пр. адз. м. *паехаў* (6): ЕЯП; ПСД (3); Т, 57 (2). ж. *паехала* (2): Ан, 19; Т, 30. Мн. *паехалі* (3): Т, 35, 55, 57. Буд. адз. 1 ас. *паеду* (2): Вб, 238; Т, 39. 3 ас. *паедзе* (3): ПС; ПСД; ПТ, 208.

**[ПАЁК]** (4) *м.* Ежа або прадукты, якія выдаюцца ў пэўнай колькасці і на пэўны час. [Янка]: *.. столькі грошай, ды яшчэ дармовыя пайкі!* Т, 46. [Мікіта]: *Мінуўшая палітычная, меджду протчым, сытуацыя нічога падобнага нам у пайкох не давала.* Там жа, 51.

Мн. Н. *пайкі* (2): Т, 46 (2). В. *пайкі*: Т, 45. М. *пайкох*: Т, 51.

**[ПАЖАДАННЕ]** *н.* Выказанае словамі жаданне, часцей чаго-н. добрага, адрасаванае каму-н. *Пажаданні нашы: даць камандзіру годную дома работу і забяспечыць жывы кантакт дома з нашым атрадам работнікаў мастацтваў.* ПГ.

Мн. Н. *пажаданні*: ПГ.

**ПАЖАДАЦЬ** *зак. да* жадаць *у* 1 *знач. Хіба можа цёмны беларускі абываталь пажадаць беларускае школы калі ён ня ведае, ці прынясе яна ему карысьць!* ДК.

Інф. *пажадаць*: ДК.

**[ПАЖАНІЦЦА]** *зак. да* жаніцца. [Янка]: *Узялі ды паміж сабой пажаніліся.* Т, 53.

Абв. пр. мн. *пажаніліся*: Т, 53.

**ПАЖАР** (11) *м.* Агонь, які ахоплівае і знішчае ўсё, што можа гарэць, а таксама сам працэс гарэння. [Янка]: *Што? У Менску пажар?* Т, 50. *Супроць банд фашысцкіх, пагромаў, пажараў Народ беларускі паўстане з табой* [Варашылавым]. НДп, 229. // *перан.*

Вайна, рэвалюцыя. *Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы радасны дзень змучанага аграбленага нашага народу.* ПЛП. *Здавалася, ноч ня пяройдзе, Іржа ня згрызе вечных путаў, – Аж бліснуў пажар на усходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр, 77. // *перан.* Чалавечае пачуцце. *Гудзі над Беларусяй з краю ў край, У сэрцах спячых распалі пажар, Над курганамі перуном зайграй! Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!* Пт.

Адз. Н. *пажар* (3): Кр, 77; Т, 50 (2). Р. *пажару*: ВС. В. *пажар*: Пт. Т. *пажарам* (3): НГ; ПЛП; СНБ. Мн. Н. *пажары*: ПЛП. Р. *пажараў*: НДп, 229. В. *пажары*: Ч, 324.

**ПАЖАРНІК** (2) *м.* Работнік пажарнай каманды. [Мікіта]: *Пажарнік Менскай, меджду протчым, пажарнай дружыны, – дакумант маю на гэта з пячаццю.* Т, 32. [Мікіта]: *А тое, што немцы пажарнікаў на работы не бяруць.* Там жа, 24.

Адз. Н. *пажарнік*: Т, 32. Мн. Р. *пажарнікаў*: Т, 24.

**[ПАЖАРНІЦКІ]** (5) *прым.* **1.** Які належыць пажарніку. [Мікіта]: *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб землю часткі пажарніцкага ўбору). К чорту пажарніцкую кар'еру!* Т, 33. *На сценах у рамах колькі тандэтных абразоў – партрэтаў высокапастаўленых асоб, балалайка, пажарніцкая куртка і каска.* Там жа, 19.

**2.** *Тое, што* пажарны *ў* 2 *знач.* [Мікіта]: *К чорту пажарніцкую каманду!* Т, 33.

Адз. м. Р. *пажарніцкага*: Т, 33. ж. Н. *пажарніцкая*: Т, 19. В. *пажарніцкую* (3): Т, 24, 33 (2).

**ПАЖАРНЫ** (9) *прым.* **1.** Які адносіцца да пажару. *Скончыцца вайна. С панад яе пажарнаго і крывавага дыму выгляне добрае, прыветлівае сонцэ.* РКр.

**2.** Прызначаны для тушэння пажару. [Мікіта]: *Чаму ж ты скрозь дна не праваліліся, мая ты пажарная каманда?* Т, 33. [Мікіта]: *Пажарнік Менскай, меджду протчым, пажарнай дружыны, – дакумант маю на гэта з пячаццю.* Там жа, 33.

**3.** *У знач. наз.* Работнік пажарнай каманды. [Дама]: *Што гэта ў вас, мусье, за такі арыгінальны ўбор? Напамінае сабой форму а-ля-кум пажарны.* Т, 24. [Мікіта]: *Бачыце, я толькі кум пажарны.* Там жа, 33.

Адз. м. Н. *пажарны* (3): Т, 24, 32, 33. Р. *пажарнаго*: РКр. ж. Н. *пажарная* (3): Т, 32, 33 (2). Р. *пажарнай*: Т, 33. В. *пажарную*: Т, 24.

**ПАЖАРЫШЧА** (3) *н.* Месца, дзе быў пажар; тое, што засталося пасля пажару. *Яшчэ дыміць скрозь пажарышча, Растуць магілы скрозь яшчэ, А на магілах крыўда свішча Да кроў гарачая цячэ.* ГП, 8. *Загоены раны, сляды ліхалецця, Руінаў, пагромаў, пажарышч сляды.* ПБН.

Адз. Н. *пажарышча* (2): ГП, 8; НГд, 8. Мн. Р. *пажарышч*: ПБН.

**[ПАЖЫВА]** *ж.* Здабыча, нажыва. *Яны* [нацыяналісты]*, як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць бытцым-то мёртвае цела нашага народу і, убачыўшы, што гэты народ ажывае, спудзіліся, што ім пажывы не хваце!* ВР.

Адз. Р. *пажывы*: ВР.

**ПАЖЫВІЦЦА** (2) *зак. Разм.* Знайсці для сябе якую-н. ежу, пажыву. *І давай паміж сабой* [груганы] *Гутарыць, хваліцца: – Круму! Круму! Што за рай! Есьць чым пажывіцца.* Гр. 215. *.. астаўлялі* [продкі] *ў хатах пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных – гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.* Кз, 17.

Інф. *пажывіцца* (2): Гр, 215; Кз, 17.

**ПАЖЫЧАЦЬ** (2) *незак. Польск.* Даваць каму-н. што-н. у доўг. *Восьжэ калі с толкам пажычаць будзе магазын гэта збожа, то не адна сем'я запаснога будзе як сьлед накормлена.* ВС. *.. тые* [людзі] *рыхтуюцца к абароне ці вайне і так сама пажычаць іншым ня могуць.* ВН.

Інф. *пажычаць* (2): ВН; ВС.

**ПАЖЫЧЫЦЬ** (2) *зак. Польск.* Узяць у каго-н. што-н. у доўг. *Пажычыць у гэту усесьветную завіруху німа дзе..* ВН. *Спосабы ёсьць два: або пажычыць у суседоў, або падвышыць старые ці прыдумаць новые налогі.* Там жа.

Інф. *пажычыць* (2): ВН (2).

**ПАЖЭРТВАВАЦЬ** (2) *зак. Руск.* Ахвяраваць. [Абарванец]: *Заўтра ты* [Мікіта] *ў мяне папросіш пажэртваваць.* Т, 43. [Абарванец]: *Пажэртвуйце, таварыш, безработнаму!* Там жа, 42.

Інф. *пажэртваваць*: Т, 43. Заг. мн. 2 ас. *пажэртвуйце*: Т, 42.

**ПА-ЗА** *прыназ. з Т.* Спалучэнне з прыназоўнікам выражае прасторавыя адносіны: ужываецца для абазначэння месцазнаходжання, руху, або дзеяння за чым-н., па той бок чаго-н. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі па-за пралетарскімі пісьменніцкімі організацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.* ДНСП.

**[ПАЗАЙЗДРОСЦІЦЬ]** (2) *зак.* Адчуць зайздрасць. [Гарошка]: *Мусіць, яны* [людзі] *пазайздросцілі конскаму хлебу.* Т, 45. *У нашым Совецкім Саюзе не мала Хто нам пазайздросціць, вось так, з дабраты, Дык ведайце: маршал даўно ўжо і стала Любіў Беларусь нашу й любіць, браты*. НДп, 229. *Параўн.* воззавідоваць.

Абв. пр. мн. *пазайздросцілі*: Т, 45. Буд. адз. 3 ас. *пазайздросціць*: НДп, 229.

**[ПАЗАЙМАЦЦА]** *зак.* Займацца некаторы час. [Спічыні]: *Але мы* [Мікіта і Спічыні] *затое пазней пазаймаемся.* Т, 31.

Абв. буд. мн. 1 ас. *пазаймаемся*: Т, 31.

**[ПАЗАКЛЯСАВАСЬЦЬ]** *ж.* Непрыналежнасць да якога-н. класа. [Купала:] .. *праступна ўтвараць нацыянальную адмежаванасьць, асноўваючыся на самабытнасьці, гэта значыць, на пазаклясавасьці якой-бы ні было нацыі ці народу.* АЛ.

Адз. М. *пазаклясавасьці*: АЛ.

**[ПАЗАКЛЯСАВЫ]** *прым.* Які не звязаны з якім-н. класам, не выражае яго інтарэсаў. [Купала:] .. *захапіўся гэтымі адраджэнцкімі ідэямі нацыянал-дэмакратычнай дзяржаўнасьці і пачаў іх адбіваць у сваёй далейшай творчасьці, апяваючы, як нешта цэлае пазаклясавае беларускі "народ"* .. АЛ.

Адз. н. В. *пазаклясавае*: АЛ.

**[ПАЗАЛАТЫВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пазалатываць. *Разм. У знач. вык.* Залатаны, палатаны. *Стрэхи саламяные: мох на их парос, шчыты вецер пазрываў, вокны ў хатах лучынками, ды анучами пазалатываны..* ХЛБ.

Кар. мн. Н. *пазалатываны*: ХЛБ.

**[ПАЗАРАСТАЦЬ]** *зак.* Зарасці якой-н. расліннасцю. *.. калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ.

Абв. пр. мн. *пазарасталі*: ПЧ.

**[ПАЗАЧЫНЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пазычыняць. *У знач. вык.* Зачынены. [Гарошка]: *Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску – як у шабас, усе крамы пазачынены.* Т, 39.

Кар. мн. Н. *пазачынены*: Т, 39.

**ПАЗБАВІЦЦА** (2) *зак.* Збавіцца, вызваліцца ад каго-, чаго-н. *Гэтае захапленьне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмакратычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я* [Купала] *ня мог ад іх пазбавіцца..* АЛ. *Змяцём з беларускіх загонаў Паганыя банды прыблуд, Край вызвалім родны з палону, Нямецкіх пазбавімся пут.* ХЛВ, 316.

Інф. *пазбавіцца*: АЛ. Абв. буд. мн. 1 ас. *пазбавімся*: ХЛВ, 316.

**[ПАЗБАЎЛЕНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* пазбавіць. Які застаўся без чаго-н. *Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, п'яныя атрутай нажывы .. з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17. // *У знач. вык. У замучанай царызмам Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то ні было дзяржаўнай рабоце..* ГВУ.

Мн. Н. *пазбаўленыя*: ЗС, 17. Кар. мн. Н. *пазбаўлены*: ГВУ.

**ПАЗБЫЎШЫ** *дзеепрым. незал. пр. да* пазбыць. Які збавіўся, вызваліўся ад чаго-н. *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон. Махае касою касец, Пазбыўшы галодны прыгон.* ТП, 213.

Адз. м. Н. *пазбыўшы*: ТП, 213.

**ПАЗБЫЛІСЯ** *зак.* Збавіцца, вызваліцца ад чаго-н. *Дагэтуль мы плачэм, дагэтуль мы стогнем, Адвечных ня можэм пазбыціся слёз..* В.

Інф. *пазбыціся*: В.

**[ПАЗВАЦЬ]** (3) *зак. Руск. Тое, што* паклікаць. *Пазвалі вас* [бальшавікоў] *на пір піроў, Пазвалі вас за волю стаць...* ПВ.

**Пазвалі вас...**

Абв. пр. мн. *пазвалі* (3): ПВ (3).

**ПА-ЗВЕРСКУ** *прысл*. Люта. *.. п'яныя дзікуны па ўказцы свайго звар'яцелага бандыцкага атамана па-зверску знішчаюць усе тое, што пабудавана намі..* РКП.

**ПАЗВОЛІЦЬ** (7) *зак. Руск.* **1.** Дазволіць. *І вось рэвалюцыйны, дабальшавіцкі ўрад у Расіі змушаны быў пазволіць фармаванне нацыянальных войск.* БВ, 16. [Спічыні]: *Пазвольце, таварыш, я прачытаю.* Т, 61.

**2.** Даць магчымасць што-н. зрабіць. *.. лепей ніхай палякі з'ядуць зусім каталікоў-беларусоў, чым беларускаму народу пазволіць развівацца у сваім національным духу.* ВР.

Інф. *пазволіць* (2): БВ, 16; ВР. Абв. пр. мн. *пазволілі*: Т, 51. Буд. адз. 2 ас. *пазволіш*: Т, 27. Заг. мн. 2 ас. *пазвольце* (3): Т, 21, 60, 61.

**[ПАЗІРАЦЬ]** (4) *незак.* **1.** Накіроўваць позірк куды-н., на каго-, што-н.; глядзець. *І дамоў прыехаў* [Янка] *з тэй вайны, здалёку, А дзяўчына, як маліна, Пазірае збоку.* ЕЯП. *І беларус маўчаў, пазіраў сумным вокам і чакаў...* БВ, 16.

**2.** Адносіцца нейкім чынам да чаго-н. *Наш мужык беларус не пазнаў ешчэ смаку у чытанню газэт, книг и на газэту и книгу ён пазирае, як на пустую забавку..* УП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пазірае* (2): ЕЯП; УП. Мн. 3 ас. *пазіраюць*: УПУВ. Пр. адз. м. *пазіраў*: БВ, 16.

**ПАЗІРАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* пазіраць *у 1 знач. Пани стала даставаць грошы, пазираючы на дзеўчынку.* ПДз.

**[ПАЗІЦЫЯ]** *ж.* Месца распалажэння войск у баі. *Немцы стрымлівалі пазіцыі і вялі агонь з ДЗОТа.* ПСп.

Мн. В. *пазіцыі*: ПСп.

**[ПАЗНАВАННЕ]** *н.* Зразуменне. [Мікіта]: *.. у вас* [Ганулі] *няма зусім гандлярскай жылкі, у вас не хапае чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах, дзе вымагаецца ад прадаўца пэўнай веды ў пазнаванні душы купляючага..* Т, 34.

Адз. М. *пазнаванні*: Т, 34.

**ПАЗНАВАЦЬ** *незак.* Атрымліваць сапраўднае ўяўленне аб чым-н. *Не па нутру, як смерць, яму* [сатрапу], *Што беларускае дзіцё Бяжыць у сцюжную зіму У школку пазнаваць жыццё.* АПЖ.

Інф. *пазнаваць*: АПЖ.

**ПАЗНАЁМІЦЦА** (3) *зак.* Уступіць у знаёмства з кім-н. [Наста]: *(да Янкі). Вельмі цікава з вамі пазнаёміцца!* Т, 23. *Совецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі*

*мастацтва, як драматург Гонзль, Бурыян, пісьменнікі Ольбрахт, Томан..* ПЧ.

Інф. *пазнаёміцца* (2): Т, 23, 30. Абв. пр. мн. *пазнаёміліся*: ПЧ.

**ПАЗНАЁМІЦЬ** (2) *зак.* Прадставіць аднаго другому. [Мікіта]: *Дазвольце пазнаёміць: мамзэль Наста Пабягунская – настаўнік Янка Здольнік..* Т, 23. [Мікіта]: *Маю гонар пазнаёміць – меджду протчым, мая мамаша, а гэта – мамзэль Наста Пабягунская.* Там жа, 24.

Інф. *пазнаёміць* (2): Т, 23, 24.

**ПАЗНАНСКІ** (2) *прым.* Які выраблены ў Познані. [Мікіта]: *(Да Начальніка.) Гэта... гэта не гарэлка, а, меджду протчым, лікер пазнанскі, ваша таварыскасць.* Т, 60. [Мікіта]: *.. нейкія маладыя, меджду протчым, мамзэлі без формы ды выпівалі пазнанскі лікёр.* Там жа, 60.

Адз. м. Н. *пазнанскі*: Т, 60. В. *пазнанскі*: Т, 60.

**ПАЗНАЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* пазнаць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: *(да Янкі, падышоўшы да яго пры апошніх словах і не пазнаўшы). Пане мусье, можа, патрабуеце маркі? (Пазнаўшы.) Ах гэта вы, меджду протчым, пане профэсар!* Т, 35 (2).

**[ПАЗНАЦЦА]** *зак. Разм.* Зазнаць. *На хварбованых лісох даўно ўжо людзі пазналіся.* Тж, 16.

Абв. пр. мн. *пазналіся*: Тж, 16.

**ПАЗНАЦЬ** (7) *зак.* **1.** Прызнаць у кім-н. знаёмага. *Як прышоў дамоў, сярэдні* [сын] *Выгледаў багата, Й не пазнаў, як зьвер пасьледні, Ні мяне* [маці]*, ні брата.* Дз, 190.

**2.** *Зак. да* пазнаваць. *Зірнуць толькі на дзесяткі тысяч школ, дзе беларускія дзеці пазнаюць веды ў сваёй роднай мове..* ШБСЯ. *Наш мужык беларус не пазнаў ешчэ смаку у чытанню газэт, книг..* УП.

**3.** Зведаць. *На пахаванні я* [Купала] *пазнаў усю хціваcць ксяндзоў.* А, 328.

◊ **Пытлю задаццъ, што і сваіх не пазнаеш** *гл.* задаць. **Пазнаць пана па халявах** – з учынкаў, паводзін відаць, што за чалавек. [Спраўнік]: *О, так, так! Пазнаць адразу пана па халявах.* Т, 58.

Інф. *пазнаць* (2): ВСп, 89; Т, 58. Абв. цяп. мн. 3 ас. *пазнаюць*: ШБСЯ. Пр. адз. м. *пазнаў* (3): А, 328; Дз, 190; УП. Буд. мн. 2 ас. *пазнаеце*: Т, 36.

**ПАЗНЕЙ** (8) *прысл. Пар. ст. да* позна. *Лёс кідае майго* [Купалы] *бацьку з месца на месца,..як пазней і мяне.* А, 327. [Спічыні]: *Справы затрымалі. Але мы* [Спічыні і Мікіта] *затое пазней пазаймаемся.* Т, 31. А, 328.

◊ **Раней ці пазней** *гл.* раней.

ВМР; ЗС, 17, 18; Нз, 14 (2).

**[ПАЗНОГАЦЬ]** *м.* Ногаць. *.. уваходзячы ў хату* [Гарошка], *выбівае аб пазногаць попел з люлькі.* Т, 25.

Адз. В. *пазногаць*: Т, 25.

**[ПАЗРЫВАЦЬ]** *зак. да* зрываць. *Стрэхи саламяные: мох на их парос, шчыты вецер пазрываў; вокны ў хатах лучынкамі ды анучами пазалатываны..* ХЛБ.

Абв. пр. адз. м. *пазрываў*: ХЛБ.

**[ПАЗУХА]** (3) *ж.* Прастора паміж грудзямі і адзеннем. [Мікіта]: *(Дастаўшы дакумент з-за пазухі, да Начальніка.) Во ён гэты, меджду протчым, дакумэнт.* Т, 61. [Мікіта]: *(пакапаўшыся ў кішэнях і за пазухай, набок). Оей! Оей! Польскі дакумэнт трэба паказваць.* Там жа, 61.

◊ **Трымаючы за пазухай камень** *гл.* трымаючы.

Адз. Р. *пазухі*: Т, 61. Т. *пазухай* (2): 3; Т, 61.

**[ПАЗЫЧЫЦЬ]** *зак.* Узяць у каго-н. што-н. у доўг. [Мікіта]: *Ой, грошы засталіся ў рэгістратарскіх "меджду протчым"* [кішэнях]. *Пазычце* [Янка] *мне да заўтра.* Т, 33.

Заг. мн. 2 ас. *пазычце*: Т, 33.

**[ПАЗЯМЕЛЬНЫ]** *прым.* Які адносіцца да ўладання і карыстання зямлёй. *Так сама маніцца урад зрабіць новую перэацэнку зямлі і падвышыць, стасоўна да яе вартасьці, гасударственны пазямельны налог.* ВН.

Адз. м. В. *пазямельны*: ВН.

**ПА-ІНШАМУ** (2) *прысл.* На іншы лад. *Сягоння-ж я* [Купала] *шчаслівы, што магу па-іншаму, як вызвалены з нацыянальных і соцыяльных пут, складаць песні-гімны вызвалення.* ЖН. [Мікіта]: *.. як ідуць палякі – вучыся па-польску, а як будуцьісці нейкія іншыя – вучыліся па-нейкаму па-іншаму.* Т, 48.

**ПА-ІХНЯМУ** *прысл.* Так, як прынята ў нейкага іншага. *Заездзжыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі..* Кз, 17.

**[ПАІЦЬ]** *незак., перан.* У спалучэнні з назоўнікамі абазначае дзеянне паводле значэння назоўнікаў. *Нас гадавалі віхры і ночкі, Крыўдай паілі нас ад пялёнкі, – Толькі-ж папросту мы не йшлі ў прочкі З роднай старонкі.* Пп, 5.

Абв. пр. мн. *паілі*: Пп, 5.

**ПАЙГРАЦЬ** (2) *зак. да* граць *у* 1 *знач.* [Янка]: *.. чаму ж бы мне ў гэтым танцклясе і не пайграць.* Т, 52. [Наста]: *(Бярэ балалайку і падходзіць да Янкі.) Сябра беларус, пайграйце нам.* Там жа, 29.

Інф. *пайграць*: Т, 52. Заг. мн. 2 ас. *пайграйце*: Т, 29.

**[ПАЙКОВЫ]** *прым.* Які адносіцца да пайка. [Мікіта]: *.. мамаша, ці там не знойдзецца чаго пайковага закусіць?* Т, 51.

Адз. н. В. *пайковага*: Т, 51.

**ПАЙСЦІ** (81) і **ПАЙСЬЦІ** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* ісці *ў* 1 *знач. Гануля меціцца ісці адчыняць, але заклапочана тым, у якія дзверы ўперад пайсці.* Т, 25. *Грамадзянін іранічна і падазрона змераў яго* [Мікіту] *вачыма да пайшоў.* Там жа, 34.

**2.** *Зак. да* ісці *ў* 2 *знач. Гаспадарка на чужой зямлі апрыкрала. Кінуў* [Купала] *ўсё і пайшоў шукаць "лёгкага" хлеба.* А, 328. *Лета было. Пайшла* [маці] *ў ягады.* Мц, 75. // Выступіць у паход, напасці. *І пайшло ў паходні войска Полем, лугам, борам, А байцоў, як зор на небе, Як пясчын у моры!* ЗЯЗ, 90. *І пайшлі яны* [байцы] *паходам, Дружна смела пайшлі, Каб вон злыбяду прагнаці З беларускай зямлі.* ПСД.

**3.** *перан.* Прыступіць да якой-н. службы; уступіць куды-н. *Ня журбуйце, тата, маці! Я* [Гарбусь] *ўсядзець ня мог у хаце, Сам пайшоў па добрай волі Паспытаць ваеннай долі.* ГЖУ. *У адказ на гэта беларуская моладзь пайшла ў "зялёную армію".* БВ, 16.

**4.** *Зак. да* ісці *ў* 3 *знач. Цяпер за вамі* [жыдамі] *слова ў буру гэту: Пайсьці ці не, з народам нашым да сьвятла?* Ж. *Мы* [беларусы] *не пакінем свае папялішчы, З сьцежкі – наперад, ня пойдзем назад.* Г, 17.

**5.** *Зак. да* ісці *ў* 4 *знач. Ты, мудры, прышоў, правадыр, – Апалі туманы, імгла, Па свеце і ўдоўжкі, і ўшыр Шчаслівая слава пайшла.* ТП, 214. *Замерла песьня. Грозна рэхі, Пашлі па пушчах, па лясох..* УрП, 49.

**6.** *Зак. да* ісці *ў* 9 *знач.* [Гарошка]: *А там – помніш* [Гануля] *– у дзевяцьсот пятым годзе пайшлі забастоўкі ды іншыя непарадкі.* Т, 44. *Бальшавікі павялі свае парадкі .. Пашлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г.д.* БС // Адбыцца, атрымацца, удацца. *Здавалася, што ўсё пойдзе добра. Але вышло ня тое.* СНБ. *Паціху... не бойцеся – пойдзе усё гладка, – Крый, Божа, якога прымуса.* Р.

**7.** *Зак. да* ісці *ў* 14 *знач. Немцы пад прыкрыццём спадніц думалі наладзіць ДЗОТ, а пасля пайсці ў контратаку.* ПСп.

◊ **Пайсці з вадой –** бясследна знікнуць. *Ні святых дуброваў, Зніч пайшоў з вадой; Загасціў лад новы, Ды не той, не свой.* МД. **Пайсці на дно –** пацярпець няўдачу, паражэнне. .. *у гэты год Пашоў на дно ўвесь цяжкі пакебот, Што звалі мы імпэрыяй расійскай..* ВБЛ, 80. **Пайсці па розум да галавы –** паразумнець. [Янка]: *Устаткуецца ваш* [Ганулі] *Мікітка з часам і пойдзе па розум да галавы.* Т, 20. **Пайсці ў госці –** адправіцца на выбары. *– Пайшлі ў госці мама, тата, Голас свой панеслі, Ну, а я* [Галінка] *пільную хату, Сяджу сабе ў крэсле.* Вб, 236. **Пайсці ў няпамяць –** стаць забытым. *Калішніе лёзунгі "за нашу і вашу волю", "вольны з вольным, роўны з роўным" пашлі ў няпамяць..* СНБ. **Пайсці ў свет –** пачаць самастойна развівацца. *Выцерла* [Беларусь] *слёзы, пайшла ў свет дарогаю*

*Побачкі з сонцам, дарогаю слаўнаю.* ДПЛС. **Пайсці ў цары –** прыйсці да ўлады. *І вы* [бальшавікі] *з рабоў пайшлі ў цары. – О, каб не ў краты толькі з крат?!* ПВ. **Пайшла пісаць губэрня** *гл.* губерня. **У рабства пайці –** стаць залежным ад каго-н. *Так грамадзяне свабоднага краю Ёрмы уздзелі, у рабства пайшлі..* Н.

Інф. *пайсці* (8): ББ (3); ВМР; ПСп; Т, 25, 29, 35; *пайсьці* (2): БСУ; Ж. Абв. пр. адз. м. *пайшоў* (7): А, 328; ГЖУ; МД; Т, 34 (2), 57, 58; *пашоў* (3): ВБЛ, 80, 82; ЧС, 50. ж. *пайшла* (5): БВ, 16; ДПЛС; Т, 21, 34; ТП, 214; *пашла*: Мц, 75. н. *пайшло*: ЗЯЗ, 90. Мн. *пайшлі* (14): БС; Вб, 236; Ж; Н; ПВ; ПСД (2); ПТ, 206; Т, 20, 43, 44 (2), 54, 58; *пашлі* (6): БС; Дз, 189; ДК; ЖН; СНБ; УрП, 49. Буд. адз. 1 ас. *пайду* (2): Т, 25, 62. 2 ас. *пойдзеш*: М, 20. 3 ас. *пойдзе* (21): БВ, 17; БСУ (2); ВМР (3); ПС; Р; СНБ; Т, 20, 34, 54 (2), 57, 61; ТП, 217 (2); УПУВ; Ч, 319 (3). Мн. 1 ас. *пойдзем* (9): Г, 17; НДп, 229; НК; Пп (5); ПЛП (2); СЗГ, 252; Т, 23, 31. 2 ас. *пойдзеце*: Т, 37. 3 ас. *пойдуць*: Ж; *пайдуць*: ВМР.

**[ПАЙШЧЫК]** *м.* Той, хто мае свой пай у якой-н. справе. *Шмат дапамагло гэтакай пасьпешнай працы тое, што галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва зьяўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз..* ВСп,91.

Мн. Т. *пайшчыкамі*: ВСп, 91.

**ПАКАЗАЦЬ** (18) *зак.* **1.** *Зак. да* паказваць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: *Дык пакажэце мне, меджду протчым, ваша чырвонае благародзіе, чэк на мой арышт.* Т, 62.

**2.** Прадэманстраваць. *.. аглядалі* [дэлегаты] *ваенны аэрадром, дзе нас сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфр і дзе нам лётчыкі паказалі майстэрства пілатажа.* ПЧ. *І мы ў шапку спаць ня будзем, І пакажам сьвету, людзям, Як баронім межы родны Ад напасьці, ад нягоднай.* ГЖУ.

**3.** *Зак. да* паказваць *у* 2 *знач.* *Мы не будзем забягаць наперад у будучыню і варажыць, якімі шляхамі пойдзе справа. Час і жыццё ..пакажуць гэта.* БВ, 17. *Да хвалы шлях айчыне пакажы* [ваяк], *Змяці з палёў яе чужых бадзяк, На стражы стань гранічнае мяжы...* Пт.

**4.** *Зак. да* паказваць *у* 3 *знач.* *Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты і апьяненыя пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасці.* СНБ. *Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе.* ПЛП.

**5.** Выявіць, зрабіць прыкметным якія-н. уласцівасці, якасці. *Сацыяльные рэволюцыянеры з усходу і нацыянальные "рэволюцыянеры" з заходу ў мінуўшы год паказалі сваю праўдзівую натуру.* СНБ.

**6.** Адлюстраваць. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай*

*форме ўсю беднату, цемнату, нядолю .. бядняцтва беларускае вёскі..* АЛ.

**7.** Выявіць, раскрыць што-н. *Паказала гэта і цяперашняя вайна, тыя сотні тысяч уцекачоў, хлынуўшыя .. ў свой родны край.* ЗС, 18. *Наскольні ёй* [Беларусі] *гэта удаецца – пакажа будучына..* СНБ.

◊ **Паказаць належнае месца (мейсцо) –** асадзіць, прызваць да парадку каго-н. [Мікіта]: .. *абавязак мой – паказаць гэтым новым завадзілам іхняе належнае месца.* Т, 22. *А самі-ж мы і пальцам ня кіўнулі, каб гэтым сваім апякуном паказаць іх належнае мейсцо.* БС. **Сябе паказаць –** выдаць сябе за каго-н. [Гануля]: *Ён* [Мікіта] *гэтак заўсёды хоча сябе паказаць, як бы сам губарнатар.* Т, 20.

Інф. *паказаць* (5): АЛ; БС; ПЧ; Т, 20, 22. Абв. пр. адз. м. *паказаў*: СНБ. ж. *паказала* (2): ЗС, 18 (2). Мн. *паказалі* (3): ПЛП; ПЧ; СНБ. Буд. адз. 3 ас. *пакажа* (2): БСУ; СНБ; *пакажэ*: ВС. Мн. 2 ас. *пакажам*: ГЖУ. 3 ас. *пакажуць*: БВ, 17. Заг. адз. 2 ас. *пакажы*: Пт. Мн. 2 ас. *пакажэце*: Т, 62.

**ПАКАЗВАЦЬ** (12) *незак.* **1.** Даваць на праверку, для азнаямлення, прагляду. [Мікіта]: *Польскі дакумэнт трэба паказваць.* Т, 61.

**2.** Рухам, жэстам вызначаць кірунак, звярнуць чыю-н. увагу на каго-, што-н. *То паказвае* [душа] *на плечы, То капец абойме... Бог яго усё дарэчы Зразумее, пойме!* Дз, 191. [Мікіта]: *Я папрашу гэтага мусье (паказвае на Янку), каб сыграў на балалайцы.* Т, 52. // *перан.* Вызначаць, указваць. .. [стаханаўскі рух] *спарадзіла геніяльнае прадбачанне правадыра ўсіх працоўных – мудрага Сталіна, які паказвае далейшае развіццё гэтага руху аж да комуністычнай грамады.* СТ.

**3.** Даказваць. *Гэты* [стаханаўскі] *рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду..* СТ.

Інф. *паказваць*: Т, 61. Абв. цяп. адз. 3 ас. *паказвае* (10): Дз, 191; МІ, 17; СТ (2); Т, 23, 31, 42 (2), 52, 60; *паказуе*: МІ, 17.

**ПАКАЗВАЮЧЫ** (8) *дзеепрысл. да* паказваць *у* 2 *знач.* [Янка]: *(Паказваючы на Аленку, Гарошку, Ганулю). Во яшчэ адзін беларус і дзве беларускі.* Т, 26. [Янка]: *(паказваючы на вядро.) А гэта што ў вас* [Мікіты] *за такая зацірка?* Там жа, 54. Т, 26, 34, 38 (2), 58, 61.

**ПАКАЗЫВАЦЬ** (3) *незак. Руск.* **1.** *Тое, што* паказваць *у* 2 *знач. Тры паказываў* [чараўнік] *ім* [сынам] *ён на сьвеце дарогі, Тры пуціны іх долі- нядолі..* Ч, 319.

**2.** Дэманстраваць. .. *іх* [беларусаў] *стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер і такі фальшывы "тавар" будуць паказываць Думе.* ВР.

**3.** Указваць. *Усё паказывае, як бытцым палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі і чорнасоценцамі, абы толькі заціснуць беларускі рух..* ВР.

Інф. *паказываць*: ВР. Абв. цяп. адз. 3 ас *паказывае*: ВР. Пр. адз. м. *паказываў*: Ч, 319.

**ПАКАЗЧЫК** *м.* Прыкмета, сведчанне чаго-н. [Спічыні]: *"Паказчык гэтага, Нікіцій Зносілов, служыць у Менскім Камісарыяце паліцыі доношчыкам".* Т, 61.

Адз. Н. *паказчык*: Т, 61.

**ПАКАЛЕННЕ** (7) і **[ПАКАЛЕНЬНЕ]** (4) *н.* **1.** Патомства, нашчадкі. *Ісці ўперад будуць вякі, пакаленні, – Законы-ж твае* [Сталін], *нібы светач нязгласны..* ТП, 216. *Слава аб іх* [папанінцах] *пройдзе ва ўсе годы і вякі і будзе служыць прыкладам для жыцця пакаленняў.* СБ.

**2.** Людзі блізкага ўзросту, якія жывуць ў адзін час. *Час праявіць нам і свае сілы у будаваньні новага жыцьця для сваей бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакаленьня!* БС. *Над пакаленьнем неакрэпшым, Над бедным краем-сіратой Груган з начніцаю сьляпою Банкет спраўляюць чорны свой.* РС, 40. // Сукупнасць людзей з аднолькавымі інтарэсамі, поглядамі. *Наша краіна перавыхавала нас – старэйшае пакаленне пісьменнікаў.* ВГР.

Адз. Н. *пакаленне*: ШБСЯ. Р. *пакаленьня* (2): БС; УрП, 50; *пакалення*: ПЛП. В. *пакаленне* (2): ВГР; ПЛП; *пакаленьне*: УрП, 50. Т. *пакаленьнем*: РС, 40. Мн. Н. *пакаленні*: ТП, 216. Р. *пакаленняў* (2): НК; СБ.

**ПА-КАМПАНЕЙСКУ** *прысл.* Па-сяброўску; па-таварыску. [Гануля]: *Паехаў* [Пан], *а вас* [Спраўніка, Даму] *пакінуў – не па-кампанейску ён зрабіў.* Т, 57.

**ПАКАПАЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* [пакапацца]. Палазіўшы, пашукаўшы. [Мікіта]: *(пакапаўшыся ў кішэнях і за пазухай, набок). Оей! Оей! Польскі дакумэнт трэба паказваць.* Т, 61.

**[ПАКАРАЦЬ]** (2) *зак. да* караць. *Мучыць ворагнас заўзяты: Папаліў нам нашы хаты, Патаптаў нам наша поле, Пакараў людцоў няволяй.* ГЖУ. *Спіце вы, нявінна Згінуўшы, ахвяры! Пакараем катаў Самай лютай карай!* МПв, 219.

Абв. пр. адз. м. *пакараў*: ГЖУ. Буд. мн. 1 ас. *пакараем*: МПв, 219.

**[ПАКАРЫЦЦА]** *зак.* Падпарадкавацца чыёй-н. сіле, уладзе. *Як толькі стаў паміж народам, Заціх вячовы пераклік, І ўзьбегла песьня карагодам, Ёй пакарыўся мал, вялік.* УрП, 47.

Абв. пр. адз. м. *пакарыўся*: УрП, 47.

**[ПАКАРЫЦЬ]** *зак.* Падпарадкаваць сабе. *Хто наперадзе са сцягам, На якім красуе Сталін, Пакарыў сваёй адвагай Неразгаданыя далі?* СА, 178.

Абв. пр. адз. м. *пакарыў*: СА, 178.

**ПАКЕБОТ** *м. Уст., вобразн.* Дзяржава. *Марское паштова-пасажырскае судна. .. у гэты год Пашоў на дно ўвесь цяжкі*

*пакебот, Што звалі мы імпэрыяй расійскай...* ВБЛ, 80.

Адз. Н. *пакебот*: ВБЛ, 80.

**ПАКІДАЦЬ** (3) *незак.* **1.** Спыняць якое-н. дзеянне, занятак. [Гарошка]: *Нашы ўсё роўна не хацелі пакідаць сваіх загаспадараных сяліб.* Т, 43. [Наста]: *Як мне напэўна вядома з пэўных крыніц, то гэта апошні з роду Магіканаў, які .. пакідае сягоння нашы Менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прышоў.* Там жа, 41.

**2.** Перастаць удзяляць увагу каму-н. .. [т. Кальцоў] *ні на хвіліну не пакідаў сваіх таварыскіх клопатаў пра кожнага ўдзельніка дэлегацыі.* ПЧ.

Інф. *пакідаць*: Т, 43. Абв. цяп. адз. 3 ас. *пакідае*: Т, 41. Пр. адз. м. *пакідаў*: ПЧ.

**ПАКІДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* пакідаць *у* 1 *знач. Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючы сваіх брацціяў слабейшых на здзек і паняверку.* Нз, 14.

**[ПАКІНУТЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* пакінуць. **1.** Часова змешчаны дзе-н. *Забірае* [Абарванец] *пакінутае на лаўцы партманэ і выходзіць.* Т, 43.

**2.** Перададзены ў спрадчыну. .. *закон і права народныя вырашаць усе балючыя пытанні, пакінутыя нам у спадчыну маскоўскім царызмам і ўсясветнай вайной, а з тым разам і пытанне аб зямлі.* ЗС, 17.

Адз. н. Н. *пакінутае*: Т, 43. Мн. В. *пакінутыя*: ЗС, 17.

**ПАКІНУЎШЫ** (3) *дзеепрысл.* **1.** *Дзеепрысл. да* пакінуць *у* 4 *знач.* [Гануля]: *(Пакінуўшы вакно.) Куды ж тут цяпер падзецца.* Т, 59.

**2.** *Дзеепрысл. да* пакінуць *у* 9 *знач. Танцуючыя (пакінуўшы танцаваць) Як?.. Што?.. Адкуль?..* Т,53. [Мікіта]: *(пакінуўшы кідаць партфелі). Чаму, меджду протчым?* Там жа, 50. Т, 44.

**ПАКІНУЦЬ** (26) *зак.* **1.** Не ўзяць з сабой. *Я* [трактарыстка] *цябе* [трактар] *пакіну На вольную волю, – Даляцець да сонца Мяне кліча доля.* ТП, 207. [Мікіта]: *Пакіньце* [Гануля] *толькі портфэль з маёй пэнсіяй.* Т, 50.

**2.** Аддаць, перадаць каму-н. *Хто пакінуў свой дом на пасьмешышча нетрам, Дом чужы таму будзе астрогам..* Ч, 323. *Мы не пакінем свае папялішчы, З сьцежкі – наперад, ня пойдзем назад.* Г, 17.

**3.** Выйсці, пайсці адкуль-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, можа, пакінеце на хвіліну гэты пакой, пакуль у нас будуць цягнуцца лекцыі.* Т, 49. // Адказацца ад чаго-н., пайсці з якой-н. пасады. [Янка]: *Дык вы, пане рэгістратар, маніліся пакінуць усе свае руска-ісціныя варты і ўцякаць з роднага гораду?* Т, 55. [Мікіта]: .. *я для стварэння сабе новай кар'еры пакінуў чыноўніцтва і перайшоў на свабодную профэсію.* Там жа, 36. // Перастаць удзяляць

увагу каму-н. *Потым у стычцы пабили часць хунхузоў, другие кинулися ўцекаць и пакинули дзеўчынку, каторую забрали нашы салдаты.* ПДз. // Растацца з кім-н. *Журыцца дзяўчына, Што Янук пакінуў...* ЕЯП.

**4.** Прымусіць застацца дзе-н., працягваць знаходзіцца ў якім-н. месцы. *Няглёдзячы на тое, што дырэктар прымаў мяне* [Купалу] *без экзамена, бацька парашыў не аддаваць мяне ў школу, а пакінуць на гаспадарцы.* А, 328. [Мікіта]: *Ваша таварыская міласць! Пакіньце мяне з мамашай.* Т, 62.

**5.** Прызначыць кім-н. *Вызнай, кім цябе бацька на сьвеце пакінуў, – Станься тым, ды йдзі к меншаму брату...* Ч, 323.

**6.** Спыніць якое-н. дзеянне, занятак. *Ці ня час ужо пакінуць благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць ды чакаць?..* БС. *Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны, І не пакінем біцца з кута ў кут?* Бч, 10.

**7.** Выклікаць што-н. пасля сябе. [Дама]: *.. той вечар у Вас* [Мікіты] *на імянінах, перад выхадам немцаў, такое мілае ўражанне пакінуў, што я вельмі была б шчаслівай, каб сягоння яго паўтарыць.* Т, 51.

**8.** *перан.* Аднавіць. *Пятакоў і Троцкі, Муралаў і Радэк Пакінуць хацелі Царскі нам парадак.* МПв, 219.

**9.** Ужываецца для выражэння просьбы, патрабавання не рабіць чаго-н. *Чаго прышоў, чаго* [прыблуднік] *хочаш, Ад гэтых жыхароў пустынь? Чым нашы душы замарочыш? Пакінь ты лепей нас, пакінь!* УрП, 51.

Інф. *пакінуць* (7): А, 328; БС (2); МПв, 219; Т, 29, 39, 55. Абв. пр. адз. м. *пакінуў* (7): ЕЯП; Т, 36, 51, 55, 57; Ч, 323 (2). Мн. *пакинули*: ПДз. Буд. адз. 1 ас. *пакіну*: ПТ, 207. Мн. 1 ас. *пакінем* (2): Бч, 10; Г, 17. 2 ас. *пакінеце*: Т, 49. Заг. адз. 2 ас. *пакінь* (2): УрП, 51 (2). Мн. 2 ас. *пакіньце* (5): Т, 42, 50, 58, 62 (2).

**ПАКІРАВАЦЬ** *зак. Разм.* Накіраваць. *Але і жандармы і бальшавіцкіе "чрэзвычайкі" не завядуць на зямлі вечнага парадку і ладу, як і нацыянальна-соцыяльных пытаньняў не пакіраваць у свой бок часовым пабеднікам.* СНБ.

Інф. *пакіраваць*: СНБ.

**[ПАКІСНУЦЬ]** *зак.*: ◊ **А бадай вы пакіслі –** ужываецца як нязлосны праклён. [Ганулля]: *А бадай вы пакіслі, мае дзеткі! І старую ў грэх ведзіцё. Давайце лепей аб чым іншым пагамонім.* Т, 54.

Абв. пр. мн. *пакіслі*: Т, 54.

**[ПАКЛАДЗЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пакласці. Змешчаныя для зберажэння. *Бацяўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць процантаў за пакладзеныя грошы замест звычайных чатырох.* ПЧ.

Мн. В. *пакладзеныя*: ПЧ.

**[ПАКЛАДЗІВА]** *ж. Польск.* Пласт, аснова. *Стварылася ў той час польская армія, узышоўшы на землю польскую, стварыла пакладзівы для цяперашняй польскай арміі.* БВ, 16.

Мн. В. *пакладзівы*: БВ, 16.

**ПАКЛАНІЦЦА** (2) *зак.* Зрабіць паклон (як знак прывітання, удзячнасці, павагі і пад.). *Уходзяць тры ганцы ў святліцу, Ідуць суважнаю ступой І князю, й княжне пакланіцца.* Кц, 194. *Ня журбуйце-ж, тата, маці! Буду вас яшчэ вітаці, Як з вайны здароў вярнуся Я вам нізка пакланюся.* ГЖУ.

Інф. *пакланіцца*: Кц, 194. Абв. буд. адз. 1 ас. *пакланюся*: ГЖУ.

**[ПАКЛАПАЦІЦЦА]** *зак.* Патурбавацца, панепакоіцца з выпадку чаго-н. *Мы пішам гэта дзеле таго, каб польская улада паклапацілася выясьніць палажэньне, каб яна супыніла сваіх неразумных ураднікаў..* ОШМ.

Абв. пр. адз. ж. *паклапацілася*: ОШМ.

**[ПАКЛАСЦІСЯ]** *зак.* Палегчы, улегчыся – пра ўсіх, многіх. [Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, пакпаліся ўпоперак вуліцы..* Т, 43.

Абв. пр. мн. *паклаліся*: Т, 43.

**ПАКЛАЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* пакласці. Надаўшы чаму-н. ляжачае становішча, змясціўшы куды-н. у такім становішчы. *Паклаўшы бялізну і начоўкі з вадой на каламажку, вывозяць: Ганупя цягне, а Мікіта падпіхае.* Т, 50. [Мікіта]*: (паклаўшы на стол некалькі тоўстых слоўнікаў) .. я гатоў, мусье прафэсар.* Там жа, 31.

**[ПАКЛІКАЦЬ]** (8) і *разм.* **ПАКЛІКАЦІ** *зак.* **1.** *Зак. да* клікаці *ў* 1 *знач. Прашу паклікаці ганцоў І мейсцэ даці ім па чэсьці.* Кц, 193. [Ганупя]: *Чаму ж мяне не паклікалі?* Т, 53.

**2.** *Зак. да* клікаць *у* 2 *знач. К такому запытаньню трэба нам быць гатовымі. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ.* БС. *Бо час як надыйдзе і гром бітвы ўдара, І трубы затрубяць, паклічуць у бой..* НДп, 229.

Інф. *паклікаці*: Кц, 193. Абв. пр. адз. ж. *паклікала*: ПЛП. Мн. *паклікалі*: Т, 53. Буд. адз. 1 ас. *паклічу* (2): ВБ: Т, 25. 3 ас. *пакліча* (2): БС; ПЛП; *паклічэ*: Чж. 147. Мн. 3 ас. *паклічуць*: НДп, 229.

**[ПАКЛОН]** (10) *м.* **1.** Знак прывітання, павагі, які выяўляецца ў нахіленні галавы або верхняй часткі тулава. *О, Русь! Прымі раба паклон! Табе такой служыць па гроб Не кіну я..* АПЖ. *І сейбіт выйдзе, свабодны, без путаў. Трактарны ў рукі руль возьме з паклонам..* Мц, 75.

**2.** Шчырае, сардэчнае пажаданне шчасця, дабра. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю* [Купала] *д-ру Казубоўскаму..* ЛР.

◊ **Адбіваючы паклон** гл. адбіваючы. **Біць паклон** *гл.* біць. **Паклон аддаць** *гл.* аддаць. **Паклон дарыць** *гл.* дарыць.

Адз. В. *паклон* (5): АПЖ; ЛР; ПВ; УрП, 51; Ч, 321. Т. *паклонам*: Мц, 75. Мн. В. *паклоны* (4): БН, 92; Г, 17; ЗК, 42; Ч, 323.

**ПАКОЙ** (21) *м.* Асобнае памяшканне для жылля ў кватэры, доме. *Дзея трэцяя. Той самы, што ў першай дзеі, Мікітавы пакой.* Т, 43. *Ясьне-вельможны пан рэдактар ясьневельможнай газэты "Kurjer Litewski" сядзеў у сваім пакоі на пуховай пярыне і горка, горка плакаў.* ЧЧШ.

◊ **Вечны пакой –** пажаданне дабра памёршаму чалавеку. [Ганулья]: *Пасля мой* [муж] *памёр, вечны яму пакой, а я засталася адна са сваім Мікіткай.* Т, 20.

Адз. Н. *пакой* (7): Т, 19, 20, 22, 43, 45, 49, 53. В. *пакой* (8): Т, 23, 24 (2), 27, 31, 45, 49, 57. М. *пакоі* (3): Т, 21, 44; ЧЧШ. Мн. Н. *пакоі*: Т, 45. Р. *пакояў*: Т, 43. В. *пакоі*: Т, 31.

**ПАКОЛЬКІ** *злучн.* Ужываецца ў даданых сказах прычыны ў значэнні: так як; таму што. *Паколькі даўно ўстаноўлена, што самая ўдасканаленая спадніца без адпаведных ног не здольна да руху ці якой-небудзь іншай дзейнасці, было відавочна, што гэта фрыцы.* ПСп. *Параўн.* поневаж.

**ПАКОРА** (4) *ж.* Паслушэнства, пакорнае прыняццё лёсу. *Мальбішчам чужым б'е пакора паклоны; Упадку вялічыцца сцяг..* ЗК, 42. *Скалы і долы над Фінскай затокай .. Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф.

Адз. Н. *пакора*: ЗК, 42. Т. *пакорай* (2): Бц, 74; УрП, 49. М. *пакоры*: Ф.

**ПАКОРНА** (2) *прысл.*: ◊ **Пакорна прашу (дзякую) –** ужываецца пры выражэнні ветлівых адносін да каго-н. [Мікіта]: *Міласці прашу! Пакорна прашу!* Т, 24. [Мікіта]: *Дзякую, пакорна дзякую!* Там жа,28.

**[ПАКОРНЫ]** (5) *прым.* Паслухмяны, падатлівы. *І стала так, як старац гэты Сказаў пакорнай грамадзе..* УрП, 51. [Мікіта]: *Толькі прымеце мяне, жыватворнакрынічная мамзэль Наста, у пакорныя і вечныя слугі вашага .. сэрца.* Т, 42.

◊ **Пакорны прывет** *гл.* прывет.

Адз. м. В. *пакорны* (2): Т, 37, 51. ж. Д. *пакорнай*: УрП, 51. Мн. В. *пакорныя*: Т. 42. М. *пакорных*: ПН. 47.

**[ПАКРУЦІЦЬ]** *зак.* Круціць некаторы час. *Рэдактар паглядзеў, пакруціў галавой і нічога не сказаў.* Ан, 18.

Абв. пр. адз. м. *пакруціў*: Ан, 18.

**[ПАКРЫВАЎЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр.* пакрывавіць. *Разм.* Заліты крывёю. *Пакрываўлены грудзі, зблытана каса.. І чаго-ж, і зашто ты* [дзяўчына] *папала сюды?* БН, 92.

Кар. мн. Н. *пакрываўлены*: БН, 92.

**[ПАКРЫТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пакрыць: ◊ **Няпамяці пылам пакрыты –** забыты. *Сотні лет, непрыяцелем-братам прыбітая,*

*Зарастаючы зельлем чужым, як лазой сенажаць, Ты* [Беларусь] *ляжала няпамяці пылам пакрытая..* Б, 18.

Адз. ж. Н. *пакрытая*: Б, 18.

**[ПАКРЫЎДЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пакрыўдзіць. *.. Беларусь атрымала волю і поуную магчымасць быць гаспадарамі у сваім краю, праз вякі пакрыуджаным і уціснутым.* ОШМ. *Параўн.* пакрыўлены.

Адз. м. М. *пакрыуджаным*: ОШМ.

**ПАКРЫЎДЗІЦЬ** *зак.* Прычыніць крыўду каму-н.; несправядліва паставіцца да каго-н. [Гарошка]: *.. каб нашага простага чалавека пакрыўдзіць, дык і польскія і рускія ў адну дудку граюць.* Т, 44.

Інф. *пакрыўдзіць*: Т, 44.

**[ПАКРЫЎЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пакрывіць. *Тое, што* пакрыўджаны. *Пакрыўленыя калісь нашы душы Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ..* Бч, 9.

Мн. В. *пакрыўленыя*: Бч, 9.

**[ПАКРЫЎЛЯЦЬ]** *зак. У безас. знач.* Перакасіць, скрывіць. *Каб таму крукамі Пакрыўляла ногі І да роднай хаты Не знайшоў дарогі, – Хто крыўляў нам праўду..* К.

Абв. пр. адз. н. *пакрыўляла*: К.

**ПАКРЫЦЬ** *зак.* Папоўніць што-н. патрачанае, зрасходаванае. *Цяперака, калі спынена продаж на гарэлку, урад павінен ня толькі дастаць грошы на гасударственные расходы, каб пакрыць гэту акцызную нядоімку, але ешчэ павінен дастаць іх і на ваенные расходы.* ВН.

Інф. *пакрыць*: ВН.

**[ПАКРЫШЫЦЬ]** *зак.* Паламаць што-н. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы, Аковы, дзе йшчэ звоняць трупнай заразай.* ТП, 216.

Абв. буд. мн. 3 ас. *пакрышаць*: ТП, 216.

**ПАКУЛЬ**[1] (13) *прысл.* **1.** (часта ў спалучэнні са словам “што”). На працягу некаторага часу, нейкі час. [Мікіта]: *Якісты рускі патрыот, я змушаны пакуль што стаяць тут на варце сваіх рангавых і руска-ісціных інтарэсаў.* Т, 37. // Цяпер, у гэты момант. *.. пакуль што усе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, ўсімі сіламі стараюцца адхрысьціцца ад гэтага раю.* СНБ. [Спічыні]: *Пакуль што маю гонар выйсці.* Т, 32. ПСС, 231. Т, 30, 33, 49; ХБ, 30. // Да пары, да часу. *Палажэньне гістарычнае і геаграфічнае Беларусі было і ёсьць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых падобных да яе .. дзяржаваў.* БСУ. // Тым часам. [Янка]: *А граніц палітычных не маем, бо і палітыкі сваёй не маем – на чужой палітыцы пакуль што ездзім.* Т, 47.

**2.** *адноснае.* Ужываецца ў якасці злучальнага слова: **а)** у даданых дапаўняльных сказах, якія паясняюць дзеяслоў «чакаць». *Ды йшчэ кажа* [Ганулька], *што малая, Урны не дастану... Што-ж такое, – пачакаю, Пакуль большай стану.* Вб, 236. *Аб гэтым ужо трэба падумаць і не чэкаць, пакуль бязхлебіца загляне ў хату.* ВС. **б)** у сказах, якія ўдакладняюць акалічнасць часу. [Янка]: *Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас* [беларусаў] *ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй.* Т, 35.

**ПАКУЛЬ**[2] (22) *злучн. часавы.* **1.** Ужываецца ў складаназалежных сказах з часавай абмежаванасцю падзей: **а)** падпарадкоўвае даданыя сказы часу, якія ўказваюць на перыяд дзеяння галоўнага сказа; абазначае: на працягу таго часу як. *Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі, кліч "Дзяры, з каго можаш і сколькі можаш, душы слабейшага, пакуль яму звязаны рукі і ногі!"* ЗС, 17. *І пакуль шукалі ў трупярні* [хлопчыка] *Паміж штабеляў сініх цел, – У прамежак ад сьмерці к спальні Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.* ВБЛ, 81. Т, 31. **б)** падпарадкоўвае даданыя сказы часу, якія ўказваюць на момант завяршэння дзеяння галоўнага сказа [звычайна пры адмоўным выказніку]; абазначае: да таго часу як. *І пакуль у зямлю не зарылі, Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі, – На сваіх вісі жылах і сьмейся!* См, 91. *І чэрпае* [чалавек воду], *пакуль ня гляне дно, І ўсё ня можа смагі адалеці.* ВБЛ, 80. Ан, 19; АК (2); Т, 20, 32, 35, 49, 52, 53. // Пры наяўнасці ў галоўным сказе суадноснага слова "датуль". [Гарошка]: .. *Янка .. сячэ: "Пакуль, кажа, не зробімся самі сабе гаспадарамі, датуль ніякага ладу ні складу ў нас* [беларусаў] *не будзе".* Т, 44.

**2.** *Разм.* Ужываецца ў даданых сказах часу, дзеянне якіх адбываецца пасля завяршэння дзеяння галоўнага сказа; абазначае: да таго як; перш чым. *Пара, пара ўжо агарнуцца І гартам высталіць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49. [Янка]: *Пакуль ваша* [Мікіты] *гэта становішча ўстане, то вас саміх чэрві паточаць.* Т, 21. СНБ; Т, 35, 42, 51; ХБ, 28. *Параўн.* покуль.

**[ПАКУПЕЦ]** *м. Разм.* Пакупнік. *Разумеецца, пакупцамі з'яўляюцца толькі тыя, хто мае вялікія грошы.* ЗС, 18.

Мн. Т. *пакупцамі*: ЗС, 18.

**ПАКУПКА** (9) *ж.* Купленая рэч. *Падходзь жа, паночку! .. знімі акуляры – Лепш будзе агледзіць пакупку..* Р. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, не адабралі: бачыце, пакупкі прынёс.* Т, 58.

Δ **Пакупка-гасцінчык:** – *Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі! А жыва да нас на таргоўлю: Пакупка-гасцінчык вам кожнаму будзе Чырвоненькі, хатняй гудоўлі.* Р.

Адз. Н. *пакупка*: Р. В. *пакупку*: Р. Мн. В. *пакупкі* (5): Т, 21, 39, 58 (2), 59. Т. *пакупкамі* (2): Т, 21, 58.

**[ПАКУТА]** *ж.* Вялікая фізічная або душэўная мука; мучэнне. *Хочаш цішы прытульнай і ласкі патольнай, Збудаваць божы быт на пакутах, – Дай другім волі ў волю, і сам будзеш вольны..* Ч, 323.

Мн. М. *пакутах*: Ч, 323.

**[ПАКУТВАЦЬ]** *незак. Разм.* Пераносіць нягоды, цяжкасці. .. [беларуская вёска] *горка пакутвала пад социяльным і нацыянальным гнётам крывавага царызму.* АЛ.

Абв. пр. адз. ж. *пакутвала*: АЛ.

**[ПАЛА]** (2) *ж.* Крысо. *Поп апускае падоткнутыя полы сутаны.* Т, 24. *Поп ізноў падтыкае полы, каб выглядаць па-цывільнаму.* Там жа, 29.

Мн. В. *полы* (2): Т, 24, 29.

**ПАЛАВІНА** (4) *ж.* Адна з дзвюх роўных частак чаго-н. *Такі край, як паўночная палавіна Меншчыны, мог-бы пры дапамозе чалавека абярнуцца ў адзін з найпрыгажэйшых краёў..* ХБ, 29. *.. палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідалі ў сваім часе на гарэлку..* ВН. *Параўн.* палова *ў* 1 *знач.*

Адз. Н. *палавіна*: ХБ, 29. Р. *палавіны*: ВН. М. *палавіне* (2): ВСп, 89; Дз, 190.

**ПАЛАЖЫЎШЫ** (2) *дзееприсл. да* палажыць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: *(палажыўшы, не помнячы, партманэ з грашыма на лаўку). Ну і немец, медждy протчым!* Т, 42. [Начальнік]: *(палажыўшы пагоны на стол, да Спічыні). Чытайце другі дакумэнт.* Там жа, 61.

**[ПАЛАЖЫЦЬ]**[1] (6) *зак.* **1.** *Зак да* лажыць. [Мікіта]: *.. палажыў* [контрабанду]*, медждy протчым, на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы.* Т, 46. [Начальнік патруля]*: Качарэжкі! Ну, палажэце іх на стол.* Там жа, 60.

**2.** Адлажыць што-н., перастаць карыстацца чым-н. *Чырвонаармеец палажыў убок абломак стрэльбы і паглядае, не разумеючы, у чым справа.* Т, 52.

**3.** З некаторымі назоўнікамі ўтварае дзеянне паводле значэння гэтага назоўніка. *Дзякую Сталіну мудраму, роднаму, Што на Расіі жандармскай развалінах Гору канец палажылі народнаму.* ДПЛС. *Шчыры голас і праца ідэёвая людзей .. палажылі свае векапомныя падваліны дзеля адраджэння свайго народу..* СНБ, 336.

Абв. пр. адз. м. *палажыў* (2): Т, 46, 52. Мн. *палажылі* (2): ДПЛС; СНБ, 336. Заг. адз. 2 ас. *палажы*: См, 91. Мн. 2 ас. *палажэце*: Т, 60.

**[ПАЛАЖЫЦЬ]**[2] (4) *пабочн. Руск.* Дапусціць; магчыма, што так. [Спічыні]: *Положым, гэта таксама грабёж.* Т, 60 [Спічыні]: *Положым, не "яко розносіцель", а "яко доносіцель", – чорнае на белым стаіць.* Там жа, 61.

Абв. буд. мн. 1 ас. *положым* (4): Т, 60, 61 (3).

**ПАЛАЖЭННЕ** (2) і **ПАЛАЖЭНЬНЕ** (6) *н. Руск.* **1.** Месцазнаходжанне. *Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі.* Нз, 14. *Палажэньне гістарычнае і географічнае Беларусі было і есьць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых .. дзяржаваў.* БСУ.

◊ **Увайсці ў палажэньне** *гл.* увайсці.

Адз. Н. *палажэньне* (2): БСУ (2); *палажэнне*: Нз, 14. В. *палажэньне* (4): СБНГ (2); ОШМ (2); *палажэнне*: Нз, 14.

**[ПАЛАНІЦЬ]** і **[ПАЛОНІЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Браць у палон. *За катам кат на нашы гоні Прыходзіў, грабіў, зністажаў, Людзей закованых палоніў, На той свет без пары саджаў.* ГП, 8.

**2.** *перан.* Захапіць, падпарадкаваць свайму ўплыву. *Парываючы .. з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, як з нейкай хваробліваи зданьню, якая палоніла мяне* [Купалу] *на працягу доўгіх год майго сьвядомага жыцьця, я шчыра жадаю, каб гэты мой вопыт паслужыў навукай для .. беларускай інтэлігенцыі.* АЛ. *.. незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.* ЖН.

Абв. пр. адз. м. *палоніў*: ГП, 8. н. *палоніла*: АЛ. Мн. *паланілі*: ЖН.

**[ПАЛАТАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* палатаць. З накладзенымі латамі. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы..* Т, 45.

Адз. ж.М. *палатанай*: Т, 45.

**ПАЛАТНЕННЕ** *н. Руск., разм.* Пацясненне [Гануля]: *Бачыце, было тут у нас у Менску апошнім часам нейкае палатненне, дык нас і ўпалатнілі ў адзін пакой, а іншыя – забралі.* Т, 45.

Адз. Н. *палатненне*: Т, 45.

**[ПАЛАТНЯНЫ]** *прым.* Зроблены з палатна. *Вецер блытаў валасы ночкай І нейкія словы сьпяваў, Палатнянай яго* [сына] *сарочкай Выцірала вочы трава.* ВБЛ, 81.

Адз. ж. Т. *палатнянай*: ВБЛ, 81.

**ПАЛАЦЬ** (3) *незак.* **1.** *перан.* Быць ахопленым якім-н. пачуццём. *Чагось чакалі грамадзяне, Ў вачох палаў надзеі жар, – Пад сьмерць, здаецца, кожны стане, Адвагай мятусіўся твар.* УрП, 47.

**2.** *перан.* Праходзіць бурна. *.. нацыянальнае беларускае жыццё пачынае кіпець, палаць праўдзівым, вечным і жыватворным полымем.* МІ, 17. *Соцыяльная рэволюцыя, якая загарэлася крывавым пажарам на усходзе Эўропы – У Расіі, цяпер яшчэ палае усё паядаючым полымем..* СНБ.

Інф. *палаць*: МІ, 17. Абв. цяп. адз. 3 ас. *палае*: СНБ. Пр. адз. м. *палаў*: УрП, 47.

**[ПАЛАЧАНІН]** (3) *м.* Жыхар Полацка. *Не хацелі спачатку прымаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не ад-*

*ставалі.* Кз, 17. *Сцены і запоры Палачан, мянчан Леглі ў разоры Зможаных палян.* МД.

Мн. Н. *палачане* (2): Кз, 17 (2). Р. *палачан*: МД.

**[ПАЛАЧНЫ]** *прым., перан.* Які прыгнятае каго-н.; жорсткі. *Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых .. старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая I.* БВ, 16.

Адз. м. Р. *палачнага*: БВ, 16.

**ПАЛАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* палаць *у* 1 *знач*. *Памерлі яны* [паэты], *палаючы да апошніх скону хвілін вялікай святой ідэяй.* МІ, 17.

**[ПАЛЕГЧЫ]** (3) *зак., перан.* Быць забітым. *І многа палегла адважных герояў у Бітвах з панамі па выспах балот.* ПБН. *Так значыцца, ваша ўсходняя і заходняя культура адплацілася за тыя мільёны ахвяр, што палеглі за вашы дзяржаўныя фальшывыя фетышы.* Тж, 16.

◊ **Касцямі палегчы** – загінуць. *А нашы граніцы бетонам заліты, Мы чуйна вартуем совецкі фарпост, Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты, Касцямі палягуць яны на фарпост.* ПБН.

Абв. пр. адз. н. *палегла*: ПБН. Мн. *палеглі*: Тж, 16. Буд. мн. 3 ас. *палягуць*: ПБН.

**[ПАЛЕЗЦІ]** (4) *зак.* **1.** Узыходзіць куды-н. [Гануля]: *Як толькі немцы вышлі, то ён* [Мікіта] *ужо на другі дзень палез на Трэку недзе на вышкі .. падбухторываць людзей.* Т, 46.

**2.** *Зак. да* лезці *ў* 2 *знач.* [Гануля]: *І чаго бацюшка палез у гэтую палітыку.* Т, 58.

◊ **Палезці ў людзі –** памкнуцца заняць больш высокае становішча. *Слуцак – павятовы гарадок – куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай! Аднак палез.* МІ, 17. **У галаву не палезла** – не засвоілася, не запомнілася што-н. [Мікіта]: *.. з пару дзён хадзіў на такія курсы, але нічога ў галаву не палезла.* Т, 56.

Абв. пр. адз. м. *палез* (3): МІ, 17; Т, 46, 58. н. *палезла*: Т, 56.

**[ПАЛЕПШАННЕ]** і **[ПАЛЕПШЭНЬНЕ]** *н. Тое, што* паляпшае што-н. *Гэты* [стаханаўскі] *рух дае такія магчымасці росквіту нашай радзімы, узбагачэння яе і праз гэта-ж такога палепшання дабрабыта рабочых і калгаснікаў, што цяжка нават прадбачыць зараз у марах.* СТ. *..торпа, праменашы да пясчанай глебы, утварае найлепшае палепшэньне зямлі.* ХБ, 30.

Адз. Р. *палепшання*: СТ. В. *палепшэньне*: ХБ, 30.

**ПАЛЕПШЫЦЬ** *зак.* Зрабіць лепшым па якасцях, уласцівасцях. *І ніхто з гэтых апекуноў навет і пальцам не кіўнуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса..* Нз, 15.

Інф. *палепшыць*: Нз, 15.

**[ПАЛЕСТЫНА]** *ж. перан.* Мясціна, край. [Наста]: *.. гэта апошні з роду Магіканаў, які, згодна з Берасцейскай умовай, пакідае сягоння нашы Менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прышоў.* Т, 41.

Мн. В. *палестыны*: Т, 41.

**ПАЛЕТАК** (9) *м.* Участак поля пад пасевы. *Не жылося мне* [душы] *даўней так, (Льецца гэткі голас), Не такі мой быў палетак, Іншы меў ён колас.* Дз, 188. *Верасень-месяц абходзіў палеткі, Птушкі не пелі, не квакалі жабы..* ВМ, 72.

Адз. Н. *палетак*: Дз, 188. В. *палетак* (2): Ч, 319 (2). М. *палетку*: ВБЛ, 82. Мн. Н. *палеткі*: ССА, 294. В. *палеткі* (2): ВМ, 72; ЗК, 42. Т. *палеткамі*: ПЛ. М. *палетках*: ХБ, 28.

**[ПАЛЕЦ]** (5) *м.*: ◊ **З пальца выссаць** *гл.* выссаць. **Пальцы аблізаць** *гл.* аблізаць. **Пальцам неківаць** *гл.* ківаць. **Пальцам не кіўнуць** *гл.* кіўнуць.

Адз. Р. *пальца*: Т, 23. Т. *пальцам* (3): БС; Нз, 15; Т, 40. Мн. В. *пальцы*: Т, 21.

**[ПАЛІВАЦЬ]** *незак*. *Вобразн*. Працаваць да поту. *На зямлі, што дзед, прадзед слязьмі І гарачай крывёй паліваў, Унук –ужо між чужымі людзьмі – Тэй зямлі трох аршын не дастаў.* ЧС, 51.

Абв. пр. адз. м. *паліваў*: ЧС, 51.

**ПАЛІТЫКА** (14) і **[ПОЛІТЫКА]** (2) *ж.* **1.** Дзейнасць дзяржавы ў галіне ўнутранага жыцця і міжнародных адносін. *Паказала гэта палітыка царскага ўрада, калі змучаныя, абарваныя перасяленцы варочаліся з далёкай чужыны ў сваю .. родную Беларусь.* ЗС, 18. *Наша паездка ў Чэхаславакію была сапраўдным трыумфам совецкае культуры, палітыкі совецкае ўлады, маніфестацыяй дружбы і супрацоўніцтва Чэхаславакіі і СССР.* ПЧ. // Напрамак дзейнасці дзяржавы ў той ці іншай галіне. *Ленінская нацыянальная палітыка дала майму* [Купалы] *народу, побач з іншымі народамі нашай Радзімы, дзяржаўнасць.* А, 328. *Гэта з'яўляецца новым доказам мудрай нацыянальнай політыкі, якая праводзіцца комуністычнай партыяй на чале са слаўным правадыром т. Сталіным.* ЦСБ. // Падзеі і пытанні ўнутранага і міжнароднага грамадскага жыцця. [Ганулял]: *І чаго бацюшка палез у гэтую палітыку.* Т, 58. [Мікіта]: *Меджду протчым, я з ім* [Янкам] *не вадзіўся, а толькі аб палітыцы паспрачаўся.* Там жа, 22.

◊ **Ездзіць на чужой політыцы** *гл.* ездзіць.

Адз. Н. *палітыка* (5): А, 328; ГНД; ЗС, 18; СНБ; СТ; *політыка*: ОШМ. Р. *палітыкі* (3): ПЧ; Т, 47; ШБСЯ. В. *палітыку*: Т, 58; *політыку*: ОШМ. Т. *палітыкай*: СНБ. М. *палітыцы* (4): Т, 22 (2), 37, 47.

**[ПАЛІТЫЧНА-ДЗЯРЖАЎНЫ]** *прым.* Які адносіцца да палітыкі дзяржавы. *Абмінаючы ўсе іншыя недахваткі нашага палітычна-*

*дзяржаўнага і нацыянальнага жыцця, я* [Купала] *хачу тут звярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гімна.* СБНГ.

Адз. н. Р. *палітычна-дзяржаўнага:* СБНГ.

**[ПАЛІТЫЧНЫ**] (7) і **ПОЛІТЫЧНЫ** (24) *прым.* Які адносіцца да палітыкі ў 1 *знач. Рэформа правапіса, праведзеная пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г., мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.* ШБСЯ. *Выбіла* [часіна] *можа ў найцяжэйшую мінюту нашага політычнага жыцьця.* БСУ. // Дзяржаўны. *За 10 год з тэрміналёгічнай камісіі да Акадэміі Навук – гэта размах, на які пры іншым палітычным ладзе патрабаваліся-б не гады, а можа і сотні год.* ГНД. *Мы жывём ў такі час, калі амаль кожны дзень прыносіць падзеі вялікай палітычнай важнасці.* МП. *Параўн.* поліціческій.

2. Звязаны з палітыкай. [Гануля]: *..гэты Гізульскі душа, а не чалавек, – надта політычны і знае ўсялякія свабодныя профэсіі.* Т, 45. [Янка]: *Мусіць, для гэтага політычнага чалавека вы, цётачка, і крэслы свае плюшавыя аддалі..* Там жа, 45.

• **Палітычная смерць** *гл.* смерць.

Адз. м. Н. *політычны*: Т, 45. Р. *політычнага*: Т, 45. М. *палітычным*: ГНД. ж. Н. *політычная* (6): Т, 36(2), 40, 47, 51, 55*; палітычная*: СЧ. Р. *політычнай* (4): ВМР; Т, 48(2), 57; *палітычнай*: МП. Т. *політычнай*: Т, 50. М. *політычнай* (3): ОШМ; Т, 40, 55. н. Р. *палітычнага* (3): БСУ; СЧ; Тж, 15. В. *палітычнае*: ШБСЯ. М. *палітычным*: АЛ. Мн. Н. *політычныя* (2): ОШМ; Т, 23; *політычные*: СНБ. Р. *політычных* (3): Т, 47(2), 55; *палітычных*: СНБ, 337. Д. *політычным*: СБНГ. В. *політычнэ*: Т, 47. Т. *політычнымі*: Т, 55.

**[ПАЛІЦЦА]** *зак. да* ліцца *ў* 1 *знач. І паліліся ізноў па віленскім каркаломным бруку гаротные сьлёзы, сьлёзы кракадылевы..* ЧЧШ.

Абв. пр. мн. *паліліся*: ЧЧШ.

**ПАЛІЦЫЯ** (5) і **ПОЛІЦЫЯ** *ж.* **1.** У дарэвалюцыйнай Расіі – сістэма асобых органаў дзяржаўнага апарату для аховы існуючага ладу. [Спраўнік]: *Ні поліцыі, ні поліцмэйстраў!..* Т, 28. [Гануля]: *Служыў* [Мікіта] *у камісарыяце паліцыі нейкім там разночыкам..* Там жа, 57.

**2.** *зб.* Паліцэйскія. *За "плебісцыт" паліцыя пры помачы сьлёсара улезла у рэдакцыю беларускай газэты і забрала усе канторскіе і рэдакцыйныя матэрыялы.* СНБ.

Адз. Н. *паліцыя*: СНБ. Р. *паліцыі* (5): ВД; Т, 27, 28, 57, 61.

**ПАЛІЦЬ** *незак.* Знішчаць агнём, спальваць. *Як началося атступленне рускаго войска, следам за японскими салдатами набеглі хунхузы и пачали паліць афицэрския кватэры.* ПДз.

Інф. *палиць*: ПДз.

**[ПАЛІЦЭЙСКІ]** *прым.* Які ажыццяўляе ўладу з дапамогай паліцыі. *Для эндэкаў нічога не знача прымер царскай Расіі, якая пад*

*паліцэйскім і жандарскім кулаком трымала дзесяткі падняволеных народаў..* СНБ.

Адз. м. Т. *паліцэйскім*: СНБ.

**[ПАЛІЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* палічыць *у* 1 *знач. Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай .. сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй, добра ведае і адчувае, што справядлівай гісторыяй ужо палічаны апошнія гадзіны яго існаваньня.* АЛ.

Кар. мн. Н. *палічаны*: АЛ.

**[ПАЛІЧЫЦЬ]** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* лічыць *у* 1 *знач. Як напішаш мільён радкоў, то будзеш мець... палічы, колькі выйдзе! Я палічыў.* Ан, 19.

**2.** *Зак. да* лічыць *у* 2 *знач. Годы міналі, жылі яны* [здраднікі] *годы, – Іх за людзей палічылі..* СЗГ, 252. *Няхай не палічаць нашыя словы за покліч к бунтарству, – Божа ухавай нас* [людзей] *ад гэтага кроку!* ДК.

Абв. пр. адз. м. *палічыў*: Ан, 19. Мн. *палічылі*: СЗГ, 252. Буд. мн. 3 ас. *палічаць*: ДК. Заг. адз. 2 ас. *палічы*: Ан, 19.

**[ПАЛКА]** (2) *ж.* **1.** Сродак экзекуцыі. *Добра запомніў я* [бацька] *панскую палку, Панскі бізун, што крывавіў мне плечы.* Бц, 74.

**2.** Палачныя ўдары, пабоі. *.. ўсё жыццё сваё загубілі* [старцы] *пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая I.* БВ, 16.

Адз. В. *палку*: Бц, 74. Мн. Т. *палкамі*: БВ, 16.

**[ПАЛКАВОДЗЕЦ]** *м.* Камандуючы, военачальнік. *Жыць будзе ў свабодным шчаслівым народзе Імя палкаводца ад зорак да зор.* НДп, 230.

Адз. Р. *палкаводца*: НДп, 230.

**[ПАЛОВА]** (3) *ж.* **1.** *Тое, што* палавіна. [Мікіта]: *Далей ідуць .. пайкі: .. селядцы, тараны, сем з паловай фунтаў дроў, пудэлачка, меджду протчым, пудры, а-ля-руж, падстаўка для кветак..* Т, 46.

**2.** Сярэдзіна на якой-н. адлегласці, прамежка часу. *Палову адной зімы вучыўся* [Купала] *ў народнай школе ў Сенніцы, недалёка ад г. Мінска..* А, 328. *.. і праіснаваў ён* [унівэрсітэт] *з лішнім два з паловай сталецьці – да 1842 году..* УПУВ.

Адз. В. *палову*: А, 328. Т. *паловай* (2): Т, 46; УПУВ.

**[ПАЛОЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* палажыць. Размешчаны. *Яны* [бальшавікі] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны..* СНБ, 337.

Мн. В. *паложаныя*: СНБ, 337.

**[ПАЛОМАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* паламаць. *перан.* Парушаны, знішчаны. *Акоў паломаных жандар, Сліўнём зарыўшыся ў нару, Сядзіць расійскі чынадрал, “Слуга ацечаству, цару”.* АПЖ.

**“Акоў паломаных жандар...”**

Мн. Р. *паломаных* (2): АПЖ (2).

**[ПАЛОН]** (20) *м.* **1.** Няволя. *Змяцём з беларускіх загонаў Паганыя банды прыблуд, Край вызвалім родны з палону, Нямецкіх пазбавімся пут.* ХЛВ, 316. *Як на веча сход ззывалі І тварылі свой закон, Як жылі ды панавалі, Покі ўпалі у палон.* М, 20.

2. *перан.* Стан залежнасці, падпарадкаванасці чаму-н. *Стары правапіс, у якім не мала было засмечанасці, нацдэмаўскай "самабытнай" архаічнасці, – трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ.

Адз. Р. *палону* (2): Т, 35; ХЛВ, 316. В. *палон* (17): М, 20; Т, 32 (3), 33 (6), 34, 42, 52 (2), 53, 56, 60. М. *палоне*: ШБСЯ.

**ПАЛОНІЦЬ** *гл.* **ПАЛАНІЦЬ.**

**[ПАЛОНКА]** *ж.* Дзірка, прасечаная ў лёдзе. *Далі волю любіць Колю, Цяпер хочуць яе ўняць; Камень кінулі ў палонку, А цяпер цяжка падняць.* ВБЛ, 82.

Адз. В. *палонку*: ВБЛ, 82.

**[ПАЛОННЫ]** (3) *прым.* *У знач. наз.* Які знаходзіцца ў палоне. [Пан]: *Як з'явіцеся* [Мікіта] *з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэсціж адразу падымецца..* Т, 52. [Мікіта]: *Але й палонных, як уважаю, па дарозе хапае.* Там жа, 41.

Адз. Т. *палонным* (2): Т, 52 (2). Мн. Р. *палонных*: Т, 41.

**[ПАЛОСКА]** (5) *ж.* **1.** Доўгая рыса, лінія на паверхні чаго-н. – *У клетачку... у палоску... блакітнага колеру... Хутка ўсе ўбачылі, як каля нямецкага ДЗОТа капашыліся спадніцы.* ПСп.

**2.** Нешырокі ўчастак ворнай зямлі. *Вашы* [заходнія] *палоскі голым папарам Голад дарылі вам* [заходнім беларусам] *безгранічны.* ССА, 294. *Змяніліся людзі, аблічча зямлі – заместа палосак убогіх і вузкіх, Калгасныя нівы, як мора ляглі.* ПБН.

Адз. В. *палоску*: ПСп. Мн. Н. *палоскі*: ССА, 294. Р. *палосак* (3): АЛ; ВГР; ПБН.

**[ПАЛОХАЦЬ]** (3) *незак.* Наводзіць страх; боязнь. *Хай вас, браты беларусы, не палохае цяперашні бурны крывавы час.* ПЛП. *Ён* [абываталь] *бачыць, што беларушчына нясе новые парадкі.. і гэта яго палохае і адварачае.* ВМР. *Параўн.* пужаць.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *палохае* (3): ВМР; ПЛП (2).

**[ПАЛОХЛІВЫ]** *прым.* Спуджаны, баязлівы. *Але яго* [чалавека] *сьвідруюць праз "цапочку" Палохлівыя шэранькія вочы...* ВБЛ, 80.

Мн. Н. *палохлівыя*: ВБЛ, 80.

**ПАЛЫН** (2) *м.* Пустазелле з моцным пахам і горкім смакам. *З кволых ніў палыны быццам зводзіць, ня зводзіць* [трэці сын] *Часам косьці зачэпіць нарогам..* Ч, 321. // *У параўн. Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, гучыць песня працы калгасніц шчаслівых..* ПБН.

Адз. Н. *палын*: ПБН. Мн. В. *палыны*: Ч, 321.

**[ПАЛЫНОВЫ]** *прам.* Які зарос палыном. *Намі пройдзен вялікі і цяжкі шлях. Ад саматужных майстэрняў да Сталінгрэса, да Гомсельмаша,.. ад палыновых межаў вузкіх палосак да калгасных палёў, каторых не акінуць вокам..* ВГР.

Мн. Р. *палыновых*: ВГР.

**ПАЛЬОНІЗАЦЫЯ** *ж.* Апалячыванне. *Мы толькі зазначаем, што калі ужо нарадзілася беларуская сіла, то ні пальонізацыя, ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі..* ДК.

Адз. Н. *пальонізацыя*: ДК.

**[ПАЛЬТО]** *н. Руск.* Паліто. [Мікіта]: *(У выцвіўшым чыноўніцкім асеннім пальце з настаўленым каўняром, з парасонам уваходзіць справа.. да Ганулі). Медждy протчым, мамаша, прадалі што-небудзь ці не?.* Т, 34.

Адз. М. *пальце*: Т, 34.

**[ПАЛЯВЫ]** *прым.* Які прымяняецца ў баявых умовах. *Усходні вучоны і Заходні вучоны, разглядаючыся: Усходні – праз падзорную палявую трубу, Заходні – праз бінокль..* Т, 25.

Адз. ж. В. *палявую*: Т, 25.

**[ПАЛЯГЧЭЦЬ]** *зак.*: ◊ **Палягчэць на сэрцы** – пра стан душэўнага спакою... *як прыдзе нешта нейкае, дык і гаворыш, і гаворыш; спачатку палягчэе на сэрцы, а пасля і шкадуеш.* Т, 20.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *палягчэе*: Т, 20.

**ПАЛЯК** (40) *м.* Прадстаўнік польскага народа, асноўнага насельніцтва Польшы. *Стагнаў татарын, грузінец, фін, паляк, украінец, беларус.*НДН, 18. *На Вялікдзень палякі забралі Вільню.* СНБ. *Параўн.* поляк.

Δ **Дзеці-палякі** *гл.* дзіця.

Адз. Н. *паляк*: НДН, 18. Р. *паляка*: ДК. Т. *палякам*: ЛПК. Мн. Н. *палякі* (21): БС; ВМР; ВР (4); ДК; ОШМ; СНБ, 340 (3); СНБ (4); Т, 44, 48, 50 (4). Р. *палякоў* (5): ВМР; ДК; ОШМ; УПУВ; ЧЧШ; *палякаў* (3): ЛПК; НДН, 19; СНБ, 338. Д. *палякам* (2): СНБ; У. В. *палякі*: ВР. Т. *палякамі* (5): ЗС, 17; Нз, 14; НДН, 18 (2); ОШМ.

**[ПАЛЯНА]** (4) *ж.* Роўная бязлесная прастора. *Ляглі нязгледжаныя далі (Як сокал бачыць мог я ўсё), Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыцьцё.* УрП, 46. *Хочэм папросту, каб лепш ручыла Нашым хацінам, нашым прыплодам. Каб стаць раўнёю славай і сілай іншым народам.* Пп, 5.

Мн. Н. *паляны*: УрП, 46. Р. *палян*: МД. Д. *палянам* (2): Пп, 5; Ч, 326.

**[ПАЛЯЦЕЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Адправіцца паветраным шляхам куды-н. (у думках, марах). *Паляту я* [трактарыстка]*, трактар, "Сталінец" мой слаўны, Дзе воблакі ходзяць, Плаваюць дзе плаўна.* ПТ, 207.

**2.** *перан.* Хутка пайсці, пабегчы і пад. [Ганулля]: *Паляцеў* [Мікіта] *у горад таго-сяго купіць.* Т, 20.

Абв. пр. адз. м. *паляцеў*: Т, 20. Буд. адз. 1 ас. *паляту*: Пт, 207.

**ПАМАГАЦЬ** (9) *незак*. Аказваць дапамогу, садзеянне, падтрымку ў чым-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, пайду памагаць вам* [бальшавікам] *забіраць Варшаву, толькі не забірайце мяне!* Т, 62. *А брат проць брата стаў варожна І памагае край раскрасці.* НГд, 8.

**2.** Аказваць патрэбнае дзеянне, даваць патрэбны вынік. *Часта, густа з'езд склікаю* [Кавалюк], *Дый нішто не памагае.* ЛПК. [Наста]: *Вывешвайце хутчэй праз вакно чырвоны сцяг. У падобных несамавітых сытуацыях такое часам памагае.* Т, 59.

Інф. *памагаць*: Т, 62. Абв. цяп. адз. 3 ас. *памагае* (7): ВС; ЛПК; НГд, 8; Т, 25, 48, 50, 59. Заг. мн. 2. ас. *памагаймо*: РКр.

**ПАМАГЧЫ** (6) *зак*. **1.** *Зак. да* памагаць *у* 1 *знач*. [Мікіта]: *Ды я ўжо прыдумаў, меджду протчым, толькі вы* [Янка] *мне павінны ў гэтым памагчы.* Т, 55. *Белай шэраняй пасьцель залягла, Ці-ж мая мне прастата памагла?!* ВБЛ, 82.

**2.** *Зак. да* памагаць *у* 2 *знач*. [Янка]: .. *калісь амэрыканцы .. напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: "Амэрыка для амэрыканцаў". І гэта памагло: сягоння Амэрыка вольная.* Т, 35.

Інф. *памагчы*: Т, 55. Абв. пр. адз. ж. *памагла*: ВБЛ, 82. н. *памагло*: Т, 35. Мн. *памаглі* (2): ВМР; Т, 56. Буд. адз. 1 ас. *памагу*: Т, 56.

**ПАМАЛУ** *прысл.* Паступова. *Зноў пошэсць есць стала памалу; Папробуе* [народ] *песьню – йшчэ звоне, як звон, Але ўжо не так, як бывала.* ПН, 47.

**ПА-МАСТАЦКУ** *прысл*. Прыгожа, з густам. [Гарошка]: *(падаючы новую, дзераўляную, па-мастацку зробленую лыжку). А ад мяне прымеце гэта...* Т, 30.

**[ПАМАЎЛІВАСЦЬ]** *ж. Разм.* Падатлівасць. .. *старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся і народу свайму за яго такую нястрыманую памаўлівасць нядобрыя варожбы выражалі.* Кз, 17.

Адз. В. *памаўлівасць*: Кз, 17.

**ПАМЕРЦІ** (15) *зак*. **1.** Перастаць жыць. *Мілы братка ты мой, ці ты жыў, ці памёр?* БН, 92. *Памёр М. Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч і шмат інш. Памерлі яны, палаючы да апошніх скону хвілін вялікай святой ідэяй.* МІ, 17.

**2.** *перан*. Знікнуць, бясследна прапасці. *Хай беларуская армія ня дасьць яму* [беларускаму сьцягу] *болей памерці.* БСУ. *А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу.* Кз, 17.

Інф. *памерці* (3): БСУ; Ч, 319, 322. Абв. пр. адз. м. *памёр* (7): А, 328 (2); БН, 92; МІ, 17; ПДз, ПЧ; Т, 20. ж. *памерла*: Б, 18. Мн. *памерлі* (4): А, 328 (2); Кз, 17; МІ, 17.

**ПАМЕРШЫ** (2) *дзеепрым*. **1.** *Дзеепрым. незал. пр. да* памерці

*ў 1 знач. Працавітаго быў першы* [сын] *Складу і нагібу, Так, здаецца, што й памершы, Ўсё араў, касіў-бы.* Дз, 189.

**2.** *перан.* Заняпаўшы. *Цяжкае ўражанне робіць гэтыя ні то памершая, ні то паміраючая краіна...* ПЧ.

Адз. м. Н. *памершы*: Дз, 189. ж. Н. *памершая*: ПЧ.

**[ПАМЕШЧАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* памясціць. Змешчаны. *З вышэй памешчанай табліцы мы бачым, што агулам надрукавана 268. 050 кніг у ліку 2.036.527 друк. аркушаў.* ВСп, 91. *Найболей пладавітымі..., як бачым з вышэй памешчанай табліцы, аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі і быўшае В-ва "Адраджэньне" – цяпер "Савецкая Беларусь".* Там жа, 90.

Адз. ж. Р. *памешчанай* (2): ВСп, 90, 91.

**[ПАМЕШЧЫК]** (4) *м.* Землеўладальнік, звычайна дваранін. *У 1883 г. ён* [бацька] *служыў у маёнтку Юзэфава ў памешчыка Багдановіча, у 1887 г. – у маёнтку Косіна, у 1889 г. – ў маёнтку Сенніца памешчыка Турчынскага.* А, 327-328. *Яны* [ворагі] *рыхтавалі зноў нам бізун памешчыка, урадніка і кабалу фабрыканта.* ВНЗ.

Δ **Памешчык-фашыст:** *Луцкевічы, Станкевічы і т.д. служаць адзінай мэце – адарваць Совецкую Беларусь ад Совецкага Союза і кінуць яе ў падняволле .. пад ногі нямецкага, польскага, беларускага жандара, памешчыка-фашыста.* ШБСЯ.

Адз. Р. *памешчыка* (3): А, 327; ВНЗ; ШБСЯ. Мн. *памешчыкам*: АЛ.

**[ПАМЕШЧЫЦА]** *ж. Жан. да* памешчык. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328.

Адз. Р. *памешчыцы*: А, 328.

**[ПАМЕШЧЫЦКІ]** *прым.* Які адносіцца да памешчыка. *Намі пройдзен вялікі і цяжкі шлях. Ад саматужных майстэрняў да Сталінгрэса, да Гомсельмаша; .. ад кулацкага і памешчыцкага зняволення да светлага заможнага культурнага калгаснага жыцця – вось вялікі і складаны шлях Совецкае Беларусі.* ВГР.

Адз. н. Р. *памешчыцкага*: ВГР.

**ПАМІЖ** (31) *прыназ. з. Р. і Т.* Спалучэнне з прыназоўнікам "паміж" выражае:

Прасторавыя адносіны (3).

**1.** *з Р.* Ужываецца для ўказання на прадметы, пасярод якіх або ў прамежку між якімі што-н. знаходзіцца, адбываецца. *І пакуль шукалі ў трупярні* [хлопчыка] *Паміж штабеляў сініх цел, – У прамежак ад сьмерці к спальні Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.* ВБЛ, 81. // Тое ж пры ўказанні на групу прадметаў ці асоб. .. *усё маё жыцьцё любаваўся-б* [С. Меч] *гэтымі ляснымі дарожкамі, бягучымі некуды ў цень паміж*

*соснаў..* ХБ, 29. *Па моры плывуць караблі, Плывуць паміж рыфаў і скал.* ТП, 215.

Ч а с а в ы я  а д н о с і н ы.

**2.** *з Т.* Ужываецца для ўказання на з'явы, падзеі, у прамежку ці перапынку між якімі што-н. адбываецца. *А між іншым, у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой – я* [Купала] *перакладаю "Кабзар" Тараса Шаўчэнкі, для юбілейнага зборніка.* МП.

А б ' е к т н ы я  а д н о с і н ы (27).

**3.** *з Р. або Т.* Ужываецца для ўказання на групу прадметаў або асоб, у асяроддзі якіх наглядаюцца ўзаемасувязі, узаемаадносіны, узаемадзеянне. *Яшчэ далятае да нас грознае і жуткае водгулле крывавага змагання на беларускім полі, паміж нашымі суседзямі – палякамі ды маскалямі..* ЗС, 17. *Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя і бяднейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі, і сягодня яны паміж сабой нічога супольнага не маюць.* Нз, 14. Ан, 19; БСУ; ВСп, 89; Г, 215; Кз, 17; Нз, 14; ПЛП; СБНГ; СНБ (4); Т, 22, 28, 34, 52, 53, 54; УрП, 47.

**4.** *з Т.* Служыць для абазначэння якой-н. групы асоб, у межах якой адбываецца размеркаванне чаго-н. *Старшынёй урада быў назначаны Жылуновіч (Ц. Гартны), а рэшта "портфелей" былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным ды іншымі.* СНБ, 338.

◊ **Паміж іншым** *гл.* іншы. Т, 26, 45; УПУВ. **Паміж намі кажучы** *гл.* кажучы. Т, 56. **Паміж тым** *гл.* той. ВБЛ, 80.

**ПАМІНКІ** (3) *толькі мн.* Абрадавы абед у памяць памёршага пасля хаўтур. *Народ спраўляць памінкі будзе – Не свята светлае вясны.* ГП, 8. // *Вобразн. Ты, чужы друг, мне яміну рый, Віхр чужы хай памінкі спяе.* ЧС, 51.

Δ **Гадаўшчына-памінкі.**

Н. *памінкі*: ГП, 8. В. *памінкі* (2): ГП, 8; ЧС, 51.

**[ПАМІРАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал, цяп. да* паміраць. *перан.* Які прыходзіць у заняпад. *Цяжкае ўражанне гэтая ні то памершая, ні то паміраючая краіна...* ПЧ.

Адз. ж. Н. *паміраючая*: ПЧ.

**ПАМІРЫЦЦА** *зак.* Спыніць спрэчку, дайсці да згоды. *Але іхні* [рускі] *"камунізм" не мог памірыцца з "нацыяналізмам" беларускага народа.* СНБ, 338.

Інф. *памірыцца*: СНБ, 338.

**[ПАМКНУЦЦА]** *зак. да* памыкацца. *Мы чуйна вартуем совецкі фарпост, Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты, Касцямі палягуць яны на пагост.* ПБН.

Абв. буд. мн. 3 ас. *памкнуцца*: ПБН.

**ПА-МОЙМУ** (5) *прысл.* На маю думку. [Мікіта]: *А чаму ж бы не так? Па-мойму, зусім свабодная* [прафесія]. Т, 36. *Па-мойму ж*

*не варта, Панкі, так лезць з жылаў...* Х. Т, 27, 28, 34.

**ПАМРОКА** (2) *ж. Польск.* Цемра. *Гібне памрока душыўца ад векаў, Сонца і зоры к сабе сьвет завуць...* Г, 17. *З чорнай памрокі ў праменні зарніцаў Выйдзеш* [Фінляндыя]. Ф.

Адз. Н. *памрока*: Г, 17. Р. *памрокі*: Ф.

**[ПАМЧАЦЦА]** *зак.* Пачаць рухацца з вялікай хуткасцю. *Тысячы Чкалавых, Грачавых, Кокінакі памчацца на сваіх быстракрылых самалётах на абарону мацеры-радзімы.* ВГ.

Абв. буд. мн. 3 ас. *памчацца*: ВГ.

**[ПАМЫКАЦЦА]** *незак.* Намервацца зрабіць што-н. *Цяпер я* [Купала] *бачу ўсю шкоднасьць і гібельнасьць таго шляху, па якім памыкаліся беларускія нацыянал-дэмократы павярнуць ход гісторыі.* АЛ.

Абв. пр. мн. *памыкаліся*: АЛ.

**[ПАМЫЛІЦЦА]** (2) *зак.* Зрабіць памылку. [Янка]: *Выбачайце, пане рэгістратар, – можа, я крыху і памыліўся.* Т, 36. [Мікіта]: *Меджду протчым, не крыху, а зусім памыліўся.* Там жа, 36.

Абв. пр. адз. м. *памыліўся* (2): Т, 36 (2).

**[ПАМЫЛКА]** (3) *ж. перан.* Няправільнасць у дзеянных, учынках. *Памылкі свае, такія ці іншыя, я* [Купала] *збіраўся выправіць, але не паспеў.* СЧ. Я [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год ідэолёгічнымі памылкамі ў сваёй творчасьці .. не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем запаветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ.

Мн. В. *памылкі* (2): АЛ; СЧ. Т. *памылкамі*: АЛ.

**ПАМЫЛКОВА** *прысл.* Няправільна, з памылкай. [Начальнік]: *Мы ўсё-такі маленькія агледзіны зробім вашых рэчаў, каб часам памылкова не запуталіся між імі і чужыя.* Т, 60.

**[ПАМЫЛЯЦЦА]** *незак.* Рабіць памылкі. [Янка]: *Памыляецеся, пане рэгістратар. Ваша лінія не простая, а крывабокая, – цямняцкая ваша лінія..* Т, 22.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *памыляецеся*: Т, 22.

**[ПАМЫЦЦА]** *зак. да* мыцца. *Эх, памыйся, мой дружок, Мылам ды вадою, А так складна, як у нас Першае другое.* $Ш_2$.

Заг. адз. 2 ас. *памыйся*: $Ш_2$.

**[ПАМЯТАЦЬ]** (6) *незак. Тое, што* помніць. *Абываталь жа няхай памятае, што адно беларусы могуць сапраўды любіць свой горад і дбаць аб яго дабрабыце.* ВМР. *Мы памятаем, як польская соймавая камісія была вельмі нездаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыў слова окупацыя.* ОШМ.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *памятаю* (3): ПС (3). 3 ас. *памятае*: ВМР. Мн. 1 ас. *памятаем* (2): ОШМ (2).

**ПАМЯТКА** (2) *ж.* Напамінак пра што-, каго-н. [Спраўнік]: *Спраўніцкія пагоны, гаспадзін таварыш: памятка былога вяліччa.* Т, 61.

*.. толькі аддаючы свае сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна* [беларуская інтэлігенцыя] *ня будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабскага мінулага.* АЛ.

Адз. Н. *памятка* (2): АЛ; Т, 61.

**ПАМЯЦЬ** (12) *ж.* **1.** Запас уражанняў, мінулы вопыт, якія захоўваюцца ў свядомасці і могуць быць адноўлены. *Так грамадзяне свабоднага краю Ёрмы уздзелі, у рабства пайшлі, Прадзедаў слава лазой зарастае, Памяць мінуўшчыны дрэмле ў зямлі.* Н. *Малюнак дзіўны змешчан быў ў газетах, Малюнак, што ў жывых у памяці жыве.* СК, 158.

**2.** Успамін пра каго-, што-н. [Купала:] *Вітаю вас* [грамадзянін] *і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягоняшні дзень мне і маёй пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай!* ПЛП. *Так сказаў чараўнік, і казаў доўга жыці – Спадкі-цень свой на памяць аставіў...* Ч, 320. // Пра тое, што напамінае аб кім-н. *Сына маці выпраўляла, Крыж на памяць дала. Каб матулю родну помніў, Як паедзе з сяла.* ПСД. *А дзяўчына, міла сэрцу, Правяла за сяло І дала на памяць персцень, Каб у бойках вязло.* Там жа. // Успамін аб памёршым. *Наш адказ, наша спачуванне да маці, страціўшай сына, наша пашана да памяці паэта-комуніста як найлепей выказаны былі т. Кальцовым.* ПЧ.

**Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага.**

◊ **Высці з памяці** *гл.* выйсці. **Кароткая памяць** – дрэнная, слабая памяць. *І чаму гэта ў людзей такая кароткая памяць?* ДК. *Няўжо настолькі коратка памяць японскіх ваяк, што яны забылі ўрокі 1921-1922 гг.* ВГ.

Адз. Н. *памяць* (3): ВГ; ДК; Н. Р. *памяці* (2): ВЧ; ПЧ. Д. *памяці*: ПСС, 232. В. *памяць* (4): ПЛП; ПСД (2); Ч, 320. М. *памяці* (2): СК, 158; УПУВ.

**[ПАМЯШКАНЬНЕ]** *н.* Будынак. *Прымерам гэтага можа служыць закрыцьцё Буцлаўскай гімназіі і інш., а пасьля візыты жандармаў у памяшканьне самой рады на Вострабрамскай вуліцы ў Вільні.* СНБ.

Адз. В. *памяшканьне*: СНБ.

**[ПАМЯШЧАЦЬ]** *незак. Руск.* Змяшчаць, друкаваць. *.. мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час..* ВСп, 89.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *памяшчаем*: ВСп, 89.

**ПАН** (162) *м.* **1.** Уладальнік маёнтка, памешчык. *Беларускі пан зрабіўся чужым для беларускага селяніна.* Нз, 14. *Я* [унук] *раскажу, як за хлеб, за зацірку Ў пана служыў пастухом я нядаўна..* Ун, 73.

**2.** Асоба, якая належыць да прывілеяваных слаёў грамадства. *Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй*

*культурай, культурай заходняй, еўрапейскай.* Тж, 15. *Набок з дарогі, панове і гаспадары з Захаду і Усходу! Беларуская моладзь ідзе!* МІ, 17. // *У параўн.* [Мікіта]: *Сам* [Гізульскі] *як пан выехаў, а мяне без "пшэпусткі" пакінуў.* Т, 55.

**3.** Асоба, якая карыстаецца ўладай у адносінах да залежных ад яе людзей. *Цар, пан, і поп і нагайка, здавалася, зноў запанавалі навекі.* Дж. *Спрадвеку ходзім пад панамі і пад царам На недруга й на бліжняга свайго вайной..* НГ.

**4.** *Разм.* Форма ветлівага звароту. *На чале гэтай установы стаяў пан Бэрсан.* СНБ, 338. *Вельмі паважаны Пане Рэдактар. Не адкажэце надрукаваць у Вашай газэце гэтых колькі слоў.* ЛР.

**Лямант пана Кавалюка.**

Δ **Пан-абшарнік:** *Хі-хі! Пасьмяхаецца польскі пан-абшарнік, седзячы на беларускай зямлі.* З. *.. паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17.

◊ **Гуляць панам** *гл.* гуляць **Пазнаць пана па халявах** *гл.* пазнаць.

Адз. Н. *пан* (37): Дз, 73; ДЖ; З; Нз, 14, 15; СНБ, 338 (2); Т, 19, 22 (2), 24, 28 (2), 29, 37 (3), 38, 47 (2), 49 (2), 50, 51 (3), 52, 53 (2), 54, 57 (2); Ун, 73 (2); ЧЧШ. Р. *пана* (9): БН, 92; ЛПК; МІ, 17; МК; ОШМ; Т, 37; 58; Ун, 73 (2). Д. *пану* (6): Бц, 74; Дз, 73; ЛР; Т, 27, 47, 51. В. *пана* (6): Нз, 14; Т, 26, 27, 38, 47; ТП, 213. Т. *панам* (5): Дз, 73; З; Н; ПЧ; Т, 22. Кл. *пане* (74): Ан, 18 (2), 19 (3); ЛР; Пц; Т, 21 (3), 22 (6), 25, 26 (4), 27 (2), 30 (3), 31 (2), 32, 33 (2), 34, 35 (3), 36 (4), 37, 38 (4), 39 (3), 45 (2), 46 (2), 47 (2), 48 (3), 49 (2), 50 (2), 52 (2), 53, 54 (2), 55 (5), 56 (4). Мн. Н. *паны* (11): Ж; ЗС, 17; ССА, 294; Т, 26 (3), 37 (2), 44, 57, 58. Р. *паноў* (4): ЖН; ЗС, 18; Т, 23; Тж, 15. Т. *панамі* (5): ЖН; ЗЯЗ, 89; НГ; ПБН; СНБ. Кл. *панове* (5): Г, 16; МІ, 18; Т, 38, 49; Тж, 16.

**ПАНАВАННЕ** (9) і **[ПАНАВАНЬНЕ]** (8) *н. Дзеянне па дзеяслову* панаваць *у* 1 *знач. Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі, дзе распасціраецца панаванне над часткай Беларусі белага арла, – голад, здзекі..* ЖН. *Дзьве, сказаў-бы* [Купала] *непамерные сілы змагаюцца цяпер паміж сабой за панаваньне над народнымі ідэяламі на ўсім сьвеце..* СНБ. *Параўн.* панства *ў* 2 *знач.*

Адз. Н. *панаванне* (3): БрБ, ЖН; $Ш_3$. Р. *панавання* (3): МІ, 17; Т, 48; Тж, 16; *панаваньня* (2): ВМР; УПУВ. Д. *панаваньню* (2): Г, 17; Дз, 189. В. *панаваньне* (4): АЛ; БСУ; Кц, 196; СНБ; *панаванне*: НДН, 18. Т. *панаваннем*: Нз, 14. М. *панаванні*: МІ, 17.

**[ПАНАВАЦЬ]** (7) і *разм.* **ПАНАВАЦІ** *незак.* **1.** Мець уладу над кім-, чым-н.; уладарыць. *.. са мною* [маці] *будуць разам Жыці, панаваці [дзеці], Славы быць жывым абразам У людзей і ў хаце...* Дз, 188. *Як на веча сход ззывалі І тварылі свой закон, Як жылі ды панавалі, Покі ўпалі у палон.* М, 20.

**2.** *перан.* Захоўвацца. *Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі.. і да ледавітага "пауночнага зіяньня" .. – як есьць усюдах пануе гэты ясьневяльможны бязсьмертны забабон.* З.

**3.** Быць галоўным, першынстваваць. *Прышчэплівалі ім* [народам] *з малых дзён думку, што не права пануе над сілай, а сіла над правам.* НДН, 18. *Асьлепленые часовымі пабедамі, забываюцца* [народы]*, што жывуць не ў сярэдневякоў'і, калі сіла кулака панавала над сілай права.* СНБ.

Інф. *панаваці*: Дз, 188. Абв. цяп. адз. 3 ас. *пануе* (2): З; НДН, 18. Пр. адз. м. *панаваў*: БС. ж. *панавала*: СНБ. Мн. *панавалі* (3): ВМР; З; М, 20.

**ПА-НАД** (3) *прыназ. з Т., Р. і В.* Спалучэнне з прыназоўнікам "па-над" выражае:

П р а с т о р а в ы я  а д н о с і н ы (3).

*з Т. і В.* Ужываецца пры ўказанні на каго-н., над якім што-н. адбываецца. *Каб гукалі совы Па-над вамі, псамі, Косці расцягалі Груганы з ваўкамі!* МПв, 220. *Народ ўсім сэрцам, як роднага брата, Шануе і любіць яго* [дэпутата] *па-над свет.* НДп, 229. // *з Р. Тое, што* з-за. *Скончыцца вайна. С панад яе пажарнаго і крывавага дыму выгляне добрае, прыветлівае сонцэ.* РКр.

**ПА-НАШАМУ** (5) *прысл.* Зразумела, на нашай мове. [Наста]: *Не нямы, а толькі немец і па-нашаму не разумее.* Т, 42. [Мікіта]: *На якую ж халеру пацеў я столькі над шпрэхэндэйчам, калі яны* [немцы] *па-нашаму лепей ад нас саміх шпрэхаюць?* Там жа, 32. Т, 32, 42, 46.

**ПАНЕНКА** *ж. перан.* Дзяцеліна. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, .. Да ніў родных, .. Гдзе дзяцеліна гарыць, вось красна паненка..* ХБ, 28.

Адз. Н. *паненка*: ХБ, 28.

**ПАНЕСЦІ** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* несці *ў* 1 *знач.* [Аўтар] *Панёс* [фельетон] *рэдактару.* Ан, 19.

**2.** *Зак. да* несці *ў* 2 *знач. Сталін бацька знаў аб гэтым, Ды чакаў здарэння, Каб сваім братам панесці Радасць вызвалення.* ЗЯЗ, 89.

◊ **Голас панесці –** прагаласаваць. *– Пайшлі ў госці мама, тата, Голас свой панеслі, Ну, а я* [Галінка] *пільную хату, Сяджу сабе ў крэсле.* Вб, 236. *Свой за Сталіна, за сонца Голас панясём мы.* Там жа, 326.

Інф. *панесці*: ЗЯЗ, 89. Абв. пр. адз. м. *панёс*: Ан, 19. Мн. *панеслі*: Вб, 236. Буд. мн. 1 ас. *панясём*: Вб, 236.

**[ПАНЕСЦІСЯ]** (3) *зак.* **1.** Паімчацца. [Ганулая]: *(гледзячы ў вакно) Нікога не відаць, толькі мамзэль Наста панеслася, як вецер.* Т, 59.

**2.** *Зак. да* несціся. *Панясліся воклічы ўсялякіх свабод і "незалежнасцей".* БВ, 16. *Але рэволюцыя зьмяла у сваім ходзе цара,*

*паняслiся у сьвет новые воклiкi будаваньня новага незалежнага жыцьця усiм народам.* БС.

Абв. пр. адз. ж. *панеслася*: Т, 59. Мн. *паняслiся* (2): БВ, 16; БС.

**ПАНЕЧКА** (6) *ж. Ласк. да* панi *ў* 2 *знач.* [Гануля]: *(да Дамы). Панечка... Мадама музей!* Т, 28. [Гануля]: *(да праходзячай грамадзянкi). Панечка, купеце ў мяне пацеркi, а можа, дамскi нэсэсэр, а можа, во гэта?* Т, 34.

Адз. Н. *панечка* (5): Т, 22, 28, 34 (3). Мн. Н. *панечкi*: Т, 40.

**ПАНI** (7), **П<АНI>** *ж.* **1.** *Жан. да* пан *у* 1 *знач. Пани стала даставаць грошы, пазираючы на дзеўчынку.* ПДз. *Мамкай служыла я* [мацi] *на сваё лiха, Некалi ў панi, так, з ласкi, задарма.* Мц, 74. *Параўн*. паня.

**2.** *Разм*. Форма ветлiвага звароту. *Так сама дзякую* [Купала] *ад усей душы ўсiм сёстрам бальнiчным, асаблiва п<анi> Галене Суднiк,* ЛР.

Адз. Н. *панi* (3): ПДз; Т, 22, 34. Р. *панi* (3): Мц, 75; ПДз (2). Д. *п<анi>*: ЛР. Т. *паняй*: Ч, 322.

**[ПАНIЖЭННЕ]** (2) i **[ПАНIЖЭНЬНЕ]** (2) *н.* **1.** Перавод на больш нiзкую пасаду. [Мiкiта]: .. *адзiн будзе казаць, што па службе атрымаў панiжэнне, другi – што ў карты прагуляўся..* Т, 21.

**2.** *Польск*. Зневажэнне, унiжэнне. *Глянь сьмела, глянь вольна, шчасьлiў, нешчасьлiвы, I далей к жыцьцю с панiжэньня i сна!* В. .. *яны* [дзяржавы] *на сваiх плячах вынеслi чужы здзек i панiжэнне.* НДН, 18.

Адз. Р. *панiжэньня* (2): В; СНБ. В. *панiжэнне* (2): НДН, 18; Т, 21.

**ПАНIКА** *ж.* Жах, разгубленасць. *З практыкi гэтай вайны вядома, што калi вораг прыблiжаецца.., то гэтым нападае на ўсiх жудасць i панiка.* СНБ, 340.

Адз. Н. *панiка*: СНБ, 340.

**ПАНIЧ** (4) *м*. Сын пана; малады пан. *Годы прайшлi. Панiч вырас дубiнай..* Мц, 74. [Янка]: *Трудна такому далiкатнаму панiчу за гэтакую чорную работу ўзяцца.* Т, 20.

Адз. Н. *панiч* (3): Мц, 74 (2), 75. Д. *панiчу*: Т, 20.

**[ПАНОК]** (2) *м.* **1.** *Памянш. да* пан *у* 3 *знач. Прамiнулi дзянькi Роскашы вясёлай, – Уцякалi панкi З нашых нiваў, сёлаў.* ПД.

**2.** *Памянш. да* пан *у* 4 *знач. Па-мойму ж не варта, Панкi, так лезць з жылаў...* Х.

Мн. Н. *панкi* (2): ПД; Х.

**ПАНОЧАК** (6) *м. Памянш. да* пан *у* 4 *знач. Падходзь жа, паночку!.. знiмi акуляры – Лепш будзе агледзiць пакупку..* Р. [Гануля] : *Мае паночкi, мае галубочкi! Хаця не змiкiцьце майго Мiкiткi.* Т, 62.

Адз. Н. *паночак*: Т, 32. Кл. *паночку* (2): Ан, 19; Р. Мн. *паночкi* (3): Т, 40, 57, 62.

**ПАНСКІ** (14) *прым.* Які належыць, уласцівы пану. *Добра запомніў я* [бацька] *панскую палку, Панскі бізун, што крывавіў мне плечы.* Бц, 74. *І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам Варшава панская і царская Масква.* НГ.

Адз. м. Н. *панскі* (3): Бц, 74; Мц, 74; ПВ. В. *панскі*: Т, 57. ж. Н. *панская* (2): ЗС, 18; НГ. В. *панскую* (2): Бц, 74; УР, 215. М. *панскай*: ТЗУ, 293. н. Н. *панскае*: Т, 29. Мн. Н. *панскія*: Дз, 73. В. *панскія* (2): Мц, 75; Ун, 73. Т. *панскімі*: ДЖ.

**[ПАНСТВА]** (2) *н.* **1.** *зб.* Паны. *Такім чынам, усё маё* [Купалы] *юнацтва прайшло на чужой зямлі ў безупыннай залежнасці і пад гнётам польскага панства.* А, 328.

**2.** Улада. *Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы У панстве фашызма, крывавай імглы.* ПБН.

Адз. Р. *панства*: А, 328. В. *панства*: ПБН.

**ПАНУРА** *прысл.* Непрыветліва, сурова. *А там, за Сулою, па той бок граніцы, Дзе звесілі дзюбы панура арлы, Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы..* ПБН.

**ПАНУРЫ** *прым. перан.* Павольны. *Вальц з фігурамі, без шаржу, крыху пануры.* Т, 29.

**[ПАНУЮЧЫ]** (2) *дзеепрым. незал. цяп. да* панаваць *у* 3 *знач. ... расійскі царскі урад задушыў гэту вучэльню, баючыся уплывау заходняе культуры на пануючы у тым часе у Расіі праізвол і адзічэньне.* УПУВ. *.. мы верым, што польскі урад .. забяспечыць Беларусі яе пануючае палажэньне.* ОШМ.

Адз. м. В. *пануючы*: УПУВ. н. В. *пануючае*: ОШМ.

**[ПАНЧОХА]** (4) *ж.* Вязаны трыкатажны выраб, які аблядае нагу. *Гануля Зношчыха – яго* [Мікіты] *маці, у вольны час робіць панчоху.* Т, 19. *Гануля сядзіць на спакаваных вузлох і робіць панчоху.* Там жа, 53.

Адз. В. *панчоху* (4): Т, 19 (2), 46, 53.

**[ПАНШЧЫНА]** *ж. Гіст.* Пры прыгонным праве – дармавая прымусовая праца сялян на пана. *Я* [дзед] *раскажу .. Як адрабляў крукам паншчыну пану... Пан гуляў панам, нявольнікам быў я.* Д, 73.

Адз. В. *паншчыну*: Д, 73.

**[ПАНЬСКІ]** *прым. Польск.* Які належыць пану. [Усходні вучоны]: *Паньске імен і назвіско?* Т, 26.

Адз. н. Н. *паньске*: Т, 26.

**[ПАНЯ]** (3) *ж. Разм. Тое, што* пані *ў* 1 *знач. Некалькі быўшых паняў, стоячы радам, прадаюць усялякія хатнія манаткі. Непадалёк ад паняў такі самы тавар прадае Гануля.* Т, 33.

Мн. Р. *паняў* (2): Т, 33 (2). В. *паняў*: Т, 34.

**[ПАНЯВЕРКА]** (2) *ж. Польск.* Нягода, пакута. *Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым,*

*пакідаючы сваіх брацьцяў слабейшых на здзек і паняверку.* Нз, 14. *Чаму на словах нам* [беларусам] *абяцаюць ласку, прыхільнасьць і дапамогу, а на дзеле – зьдзек і паняверку?* ОШМ.

Адз. В. *паняверку* (2): Нз, 14; ОШМ.

**ПАНЯВОЛІ** *прысл.* Несуперак жаданню, па неабходнасці. *Само сабою разумееца, Што калі мець стрэльбу у руцэ і прыстаць з такімі пытаньнямі, то чалавек паняволі скажа, што – я – не я і хата не мая.* ДК.

**ПА-НЯМЕЦКУ** (3) *прысл.* На нямецкай мове. [Гануля]: *Вучыць* [Спічыні] *Мікітку па-нямецку гергетаць.* Т, 31. *Вычытаў ён* [рэдактар] *у сваей-жэ газэці, што ў Прусах Заходніх бязбожнікі немцы вучаць дзяцей-палякаў па-нямецку..* ЧЧШ. Т, 48.

**[ПАНЯТЛІВЫ]** *прым.* Зразумелы. *Яму* [цудадзею] *слухмяны былі хмары, Народу сказ даваў свайму: Якія мільшыя ахвяры Бегам панятлівым яму.* УрП, 47.

Мн. Д. *панятлівым*: УрП, 47.

**[ПАНЯЦЬ]** (3) *зак. Разм.* **1.** *Тое, што* зразумець *у* 2 *знач. Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ройна, – Не поймеш аткуль узялісь..* ЗК, 42.

**2.** *Тое, што* зразумець *у* 3 *знач. Ой, чалавеча, змярцвелы у сне!.. Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?.. Камень і вольха перш поймуць мяне!..* Н.

◊ **Бог яго зразумее (пойме)** *гл.* бог.

Абв. буд. адз. 2 ас. *поймеш*: ЗК, 42. 3 ас. *пойме*: Дз, 191. Мн. 3 ас. *поймуць*: Н.

**[ПАПАДАЦЦА]** *незак.* Сустракацца, трапляцца. [Мікіта]: *..пападаецца па дарозе якая-небудзь контрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена..* Т, 45.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пападаецца*: Т, 45.

**[ПАПАДАЦЬ]** *незак.* Трапляць у якія-н. абставіны, умовы. *..зямля пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* ЗС, 18.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пападае*: ЗС, 18.

**ПАПАДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* пападаць. *Гэтые падвышкі канечна не павінны нас пужаць, бо і палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідалі у сваім часе на гарэлку, затруваючы у дадатку сваё здароўе і часта-густа пападаючы на «скам'ю падсудзімых».* ВН.

**[ПАПАДГНІВАЦЬ]** *зак. Разм.* Падгнісці. *Стаіць* [Слабода] *у неким балоци; будынки пападгнивали, ў зямлю паўежджали..* ХЛБ.

Абв. пр. мн. *пападгнивали*: ХЛБ.

**ПА-ПАЖАРНІЦКУ** *прысл.* Як пажарнік. *Мікіта варочаецца пераадзеты па-пажарніцку з каскай на галаве..* Т, 32.

**[ПАПАЛІЦЬ]** *зак. да* паліць. *Мучыць вораг нас заўзяты: Папаліў нам нашы хаты..* ГЖУ.

Абв. пр. адз. м. *папаліў*: ГЖУ.

**[ПАПАНІНЕЦ]** *м.* Удзельнік экспедыцыі Папаніна. *І ў гэтыя-ж дні – другая падзея сусветнага значэння: на радзіму вяртаецца гераічная чацвёрка папанінцаў.* МП.

Мн. Р. *папанінцаў*: МП.

**ПА-ПАНСКУ** *прысл.* Як пан. [Гануля]: *Толькі не стукайце* [Янка] *там па-панску ў дзверы, а проста ўваходзьце, і усё тут.* Т, 19.

**[ПАПАР]** (3) *м.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным. *З надзеяй сустрачаем выраі вясной, З надзеяй ўвосень іх праводзім над папарам.* НГ. *Сыны зямлі роднай чужые палеткі Ў чужую карысць засяюць, На родных папарах галодные дзеткі Чужую жывёлу пасуць...* ЗК, 42.

Адз. Т. *папарам* (2): НГ; ССА, 294. Мн. М. *папарах*: ЗК, 42.

**ПАПАРАДКУ** *прысл. Разм.* У сваю чаргу. *Звярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку, Хай .. вочы высмаліць, як кветку ў лільы слабай, Але і крыж мой спапяліць хай папарадку!* СМ.

**[ПАПАРНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да папару. *Усе костачкі тые на гонях папарных, – Жывых, што ў бязпуцьці акуцьцем зьвіняць...* В.

Мн. М. *папарных*: В.

**[ПАПАС]** (2) *м. перан.* **1.** Існаванне, жыццё. *І свае і чужые выцягвае* [Чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, .. Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека Даць папас на магільным папасе..* Ч, 325.

**2.** Могілкі. *І свае і чужые выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, .. Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека Даць папас на магільным папасе..* Ч, 325.

Адз. В. *папас*: Ч, 325. М. *папасе*: Ч, 325.

**[ПАПАСКА]** (2) *ж.* Прыпынак у дарозе; адпачынак. *За ім – за сонейкам мой шлях, Куды яно з сваёю ласкай, Ляцець, плысці, як той жар-птах, На полюсах рабіць папаску.* ПСМ, 187. [Мікіта]: *Ужо нават едзе і старшыня Беларускага Рэўкому Чарвякоў – толькі затрымаўся недзе за Менскам на папаску.* Т, 55.

Адз. В. *папаску* (2): ПСМ, 187; Т, 55.

**ПАПАСЦІ** (8) *зак.* **1.** Трапіць у цэль. *І зробім чуць-чуць астаноўку, Каб сцерве папасці ў папад: Для Гітлера скінем вяроўку Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316.

**2.** Зайсці куды-н., апынуцца дзе-н. [Мікіта]: *Я вельмі рад, што ўсё ж такі вам, гэр прафесар, удалося ка мне папасці.* Т, 40. *Кінуў* [Купала] *і гэтую работу і папаў у Вільню, дзе выходзіла газета "Наша ніва".* А, 328.

**3.** У спалучэнні з папярэднімі займеннікамі і займеннымі прыслоўямі “дзе”, “хто”, “чым”, “як” абазначае няпэўнасць, выпадковасць чаго-н. *Жылі – як і дзе папапала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажывалі сабе сухоты..* МІ, 17. [Гануля] : *Спачатку ўсе здзівіўшыся глядзелі, смяяліся, а пасля давай шпурляць у яго чым хто папала.* Т, 46.

Інф. *папасці* (3): Т, 40 (2), ХЛВ, 316. Абв. пр. адз. м. *папаў*: А, 328. ж. *папала* (2): БН, 92; ПДз. н. *папала* (2): МІ, 17; Т, 46.

**[ПАПАСЦІСЯ]** (2) *зак.* **1.** Апынуцца ў якіх-н. абставінах, умовах. [Мікіта]: *Во, меджду протчым, папаўся, як мурза ў студню.* Т, 32.

**2.** Быць схопленым, злоўленым. [Мікіта]: *(вылазячы з укрыцця, да Чырвонаармейца) А, папаўся, меджду протчым, нарэшце! Складай аружжа!* Т, 52.

Абв. пр. адз. м. *папаўся* (2): Т, 32, 52.

**ПАПАЎНЯЦЦА** *незак*. Павялічвацца. *І чым бліжэй да яе* [камуністычнай грамады], *тым магутней будзе папаўняцца гэты* [стаханаўскі] *рух мільёнамі працоўных*. СТ.

Інф. *папаўняцца*: СТ.

**[ПАПЕРА]** (9) *ж.* **1.** Пісьмовы дакумент афіцыйнага характару. [Мікіта]: *Зірнеце ў гэтыя паперы, ваша таварыскасць. Як прачытаеце, то ўсё роўна не заберыцё мяне..* Т, 62. [Начальнік]: *Гэтыя пісталеты, награбленая гарэлка, патака, .. служба даношчыкам, ўсё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас, можа, і дрэнныя паперы*. Там жа, 62.

**2.** Розныя лісты з рукапісным або друкаваным тэкстам. *.. агулам надрукавана 268.050 кніг у ліку 2.036.527 друк. аркушаў. Гэта складае 2120 рэзаў (стоп) паперы..* ВСп, 91.

Адз. Р. *паперы*: ВСп, 91. Мн. Н. *паперы* (5): Т, 46 (3), 62 (2). В. *паперы* (3): Т, 45, 50, 62.

**[ПАПЕРЦІСЯ]** (2) *зак. Разм.* Хутка, паспешна накіравацца куды-н. *Я* [аўтар], *не ўдаючыся ў далейшую гутарку, схапіў газэты і папёрся дамоў.* Ан, 19. *Я* [аўтар] *змоўчаў, забраў газэты і папёрся пісаць.* Там жа, 19.

Абв. пр. адз. м. *папёрся* (2): Ан, 19 (2).

**ПА-ПЕРШАЕ** *пабочн.* Ужываецца для абазначэння першага пункту пры пералічэнні. [Мікіта]: *Па-першае: на службу і са службы важу патрэбныя сабе афіцыяльныя, меджду протчым, паперы; па-другое: важу, але ўжо толькі са службы, усялякія пайкі..* Т, 45. *Параўн*. першы ў 6 *знач*..

**ПАПЛЕЧНІК** *м.* Саратнік. *Няхай жыве верны вучань і паплечнік таварыша Сталіна Нікалай Іванавіч Ежоў.* НКУС.

Адз. Н. *паплечнік*: НКУС.

**ПА-ПОЛЬСКУ** (14) *прысл.* Размаўляць, пісаць на польскай мове. *Міліцэйскі ураднік просьбы не прыняў, сказаўшы, што усе просьбы да ураду павінны пісацца па-польску.* ОШМ. *Для беларусоў праваслаўных выкладаецца рэлігія па расейску; для каталікоў – па польску.* ВР. ВР (8); ОШМ; Т, 48; УР; ЧЧШ.

**[ПАПОМНІЦЬ]** *зак. да* помніць. *Гэй, выходзіць, бяда, Гэй, выходзь, хто там – Непрыяцель-вораг; Пачастуем так, Што папомніш век, Ды сатром на порах.* ВБ.

Абв. буд. адз. 2 ас. *папомніш*: ВБ.

**[ПАПРАБАВАЦЬ]** (2) і **[ПАПРОБАВАЦЬ]** (2) *зак. Тое, што* паспрабаваць. [Мікіта]: *Што будзе, то будзе, папрабую загаварыць з ім* [немцам] *па-нашаму, можа, зразумее.* Т, 32. *Папробуе песьню* [народ] *– йшчэ звоне, як звон, Але ўжо не так, як бывала*. ПН, 47.

Абв. буд. адз. 1 ас. *папрабую*: Т, 32. 3 ас. *папробуе*: ПН, 47. Заг. мн. 2 ас. *папрабуйце*: Т, 59; *папробуйце*: Т, 40.

**ПАПРАВІЦЬ** (2) *зак.* **1.** Змяніць на лепшае; выправіць. [Дама]: *А ведаеце, мусье Зносілов, – бяду гэту можна лёгка паправіць.* Т, 51.

**2.** Прывесці да належнага выгляду. *Наста паказвае на мігі, што мусіць папудравацца і паправіць валасы.* Т, 23.

Інф. *паправіць* (2): Т, 23, 51.

**ПАПРАЎДЗЕ** (9) *прысл. Разм.* На самай справе, сапраўды. *У часе гэтай маей* [Купалы] *хваробы шмат асоб аказалі мне папраўдзе братнюю помач і апеку.* ЛР. *Хай бяруць з магазыноў толькі тые, хто папраўдзе не мае што купіць, а сем'яніны яго на ваеннай службе.* ВС. МІ, 17; СБНГ; СНБ, 339; Т, 27, 32, 40, 49.

**ПАПРАСІЦЬ** (13) *зак. да* прасіць *у* 1 *знач. Зайшоў гэта я* [аўтар] *неяк к рэдактару, папрасіць у яго, ці не дасць якой работы.* Ан, 18. [Гануля]: *Я папрашу нашага дзядзьку беларуса – ён умее.* Т, 29.

◊ **Папрасіць пардону** – *тое, што* папрасіць прабачэння. [Мікіта]: *А я папрашу пардону ў гасцей і на хвіліну адлучуся змяніць свой знадворны выгляд..* Т, 50. **Папрасіць прабачэння** – прабачыць каго-н. [Мікіта]: *Толькі я мушу папрасіць прабачэння за скромную, вельмі скромну, вячэру*. Т, 28. *Параўн*. папрасіць пардону.

Інф. *папрасіць* (4): Ан, 18; Т, 28, 29, 32. Абв. пр. мн. *папрасілі* (2): Т, 58 (2). Буд. адз. 1 ас *папрашу* (5): Т, 22, 29 (2), 50, 52. 2 ас. *папросіш*: Т, 43. Заг. мн. 2 ас. *папрасіце*: СЧ.

**ПАПРОБАВАЦЬ** *гл.* **ПАПРАБАВАЦЬ**.

**ПАПРОСТУ** (5) *прысл.* Проста, непасрэдна. *Просім папросту, Кіньце нас мучыць, Ляхі, маскалі!* Пп. 5. *Першы – муж вучоны, важны; Носіць чын такі не кажны, Хоць папросту на наш лік Ён ня больш як чараўнік.* $Ш_4$. Пп, 5 (3).

**Папросту.**

**ПА-ПРОСТЭМУ** *прысл. Разм. Тое, што* папросту. – *Ха-ха – узяўшыся за бокі разводзіць перад ягамосьцем у "чорным" сваю падкасьцельную філезофію: Гэтые нашы мужыкі нават з панам "па-прастэму" гавораць.* З.

**ПАПСАВАЦЬ** (2) *зак.* Сапсаваць. [Мікіта]: *Быўшае, цяперашняе і будучае начальства заўсёды і ўсюды трэба шанаваць і мець навоку, калі не хочаш папсаваць свае паперы.* Т, 50.

◊ **Папсаваць рэпутацыю** – знізіць чый-н. аўтарытэт. [Мікіта]: *Перад маімі гасцямі ўсю мне рэпутацыю папсавалі.* Т, 25.

Інф. *папсаваць*: Т, 50. Абв. пр. мн. *папсавалі*: Т, 25.

**ПАПУГА** *ж. Разм.* Папугай. *У параўн.* [Гарошка]: *І цяпер тая* [Аленка] *ўжо, як папуга, паўтарае за ім* [Янкам]: *"Недачаканне іх! – кажа, – будзем самі сабе гаспадарамі!"* Т, 44.

Адз. Н. *папуга*: Т, 44.

**ПАПУДРАВАЦЦА** *зак. Разм.* Папудрыць свой твар. *Наста паказвае на мігі, што мусіць папудравацца і паправіць валасы.* Т, 23.

Інф. *папудравацца*: Т, 23.

**ПАПУСКАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* папускаць. Уступаючы, адмаўляючыся ад чаго-н. *Слабейшыя народы .. змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць, не папускаючы свайго і незахопліваючы чужога.* СНБ.

**ПАПУСЦІЦЬ** *зак.*: ◊ **Папусціць у крыўду** – не заступіцца, не абараніць. [Спраўнік]: *Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі, дык не павінен жа ён папусціць у крыўду такіх вэтэранаў старой гвардыі, як я.* Т, 58.

Інф. *папусціць*: Т, 58.

**[ПАПЯЛІШЧА]** (3) і **ПАПЯЛІШЧЭ** *н.* **1**. Пажарышча. *Замоўк разгул, агонь патух, Старое згасла папялішчэ.* Кц, 197. *Праз два гады на Беларусі Народ аб радасці не сніў, А галасіць і плакаць мусіў На папялішчы хат і ніў.* ГП, 8.

**2.** *перан.* Родны дом, ачаг. *Мы не пакінем свае папялішчы, З сьцежкі – наперад, ня пойдзем назад.* Г, 17.

Адз. Н. *папялішчэ*: Кц, 197. Р. *папялішча*: Кц, 192. М. *папялішчы*: ГП, 8. Мн. В. *папялішчы*: Г, 17.

**[ПАПЯРЭДЗІЦЬ]** *зак.* Загадзя паведаміць каму-н. пра што-н. [Мікіта]: *Мамзэль Наста загадзя папярэдзіла мяне з пэўных крыніц, што .. будуць дабравольна браць маладых мусьі і дабравольна адпраўляць іх на Урангелеўскі фронт.* Т, 55.

Абв. пр. адз. ж. *папярэдзіла*: Т, 55.

**[ПАПЯРЭДНІК]** *м.* Той, хто займаў якую-н. пасаду раней каго-н. *Пасьля царскіх чыноў прышлі бальшавіцкіе чыны ня горш сваіх папярэднікаў..* БС.

Мн. Р. *папярэднікаў*: БС.

**ПА́РА** (8) *ж.* **1.** Дзве асобы, якія дзейнічаюць разам, аб’яднаныя чым-н. агульным. *Янка грае вальца. Танцуюць тры пары.* Т, 52.

**2.** *Разм*. Два прадметы, дзве штукі чаго-н. *Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў..* Т, 19. *Даме, Спраўніку, Спічыні і Грамадзяніну дае* [Начальнік] *несці па пары бутэлек..* Там жа, 62.

**3.** Некалькі. [Мікіта]: *.. з пару дзён хадзіў на такія курсы, але нічога ў галаву не палезла.* Т, 56.

Адз. Н. *пара* (2): ПЧ; Т, 19. В. *пару* (2): ДК; Т, 56. М. *пары* (2): З; Т, 62. Мн. Н. *пары*: Т, 52. В. *пары*: ДК.

**ПАРА́** (17) *ж.* **1.** Час, перыяд. *Сьціхнуць віхры, заціхне пара непагодная, Сілы грозныя ўстануць..* Б, 18. *Адны вас* [жыдоў] *Беларусы шанавалі, Як блізкіх родных – да сьвятлейшае пары.* Ж. // Перыяд года. *Першае – чацьвёртае Жывіць сьвет сабою, Хоць – гультайка шчырая Зімовай пароa.* Ш$_3$.

**2.** *У знач. вык.* Настаў час для чаго-н. *Пара у рукі браць паходні, Уставаць, ісцьці, ноч разсьветляець!* ПБП. *Пара, пара ўжо агарнуцца І гартам высталіць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49.

◊ **Без пары –** рана, дачасна. *Ён* [мужык] *ведаў, што гэтае зерне ўзойдзе, закрасуе, пасьпее. Не патопчуць яго без пары чужые ногі, не спаліць яго чужая рука.* ДД. *За катам кат на нашы гоні Прыходзіў, грабіў, зністажаў, Людзей закованных палоніў, На той свет без пары саджаў.* ГП, 8. **З тэй пары; с пары тэй** – з таго часу, моманту. *Даўно ўжо, даўно з тэй пары адбылой Сталецьцяў мінула нямала..* КП, 170. *Даўно ўжо, даўно ўжо с пары тэй былой Сталецьцяў мінула не мала...* ПН, 46.

Адз. Н. *пара* (9): Б, 18; ВР; ВСп, 90; ДК; Ж; ПБП; Т, 57; УрП, 49 (2). Р. *пары* (7): ГП, 8; ДД; ДЖ; Ж; КП, 170; ПН, 46; ЦСБ. Т. *пароюю*: Ш$_3$.

**ПАРАБАК** (4) *м.* Батрак. *А калісь мусіў паганую лапу – Парабак я* [бацька] *– цалаваці з пакорай.* Бц, 74. *Я* [Купала] *ўжо ўспамінаў, з якой заўзятасцю я слухаў казкі вясковых парабкаў.* ПС.

Адз. Н. *парабак*: Бц, 74. Т. *парабкам*: Бц, 74. Мн. Р. *парабкаў*: ПС. Т. *парабкамі*: ДЖ.

**[ПАРАБЛЯЦЬ]** (2) *незак. Разм.* Займацца чым-н. [Янка]: *А што вы тут парабляеце, пане рэгістратар: маркі людзям раздаяце?* Т, 36. [Мікіта]: *Што ж вы* [Аленка і Янка] *тут прарабляеце?* Там жа, 35.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *парабляеце* (2): Т, 35, 36.

**[ПАРАБЧАНСКІ]** *прым. Польск*. Батрацкі. *Быў* [паніч]*, як бацькі, азвярэлай скацінай, Катаваў, гвалціў дзяўчат парабчанскіх..* Мц, 74.

Мн. В. *парабчанскіх*: Мц, 74.

**[ПАРАДА]** *ж.* Прапанова, рада. *Трох братоў, сваёй кожны дарогай-пуцінай Наблудзіўшыся, выхад спаткалі: Ім парады далі назаўсёды ў судзьбіны, Як трымацца тых радаў сказалі.* Ч, 322.

Мн. В. *парады*: Ч, 322.

**ПАРАДАК** (22) *м.* **1.** Належны стан чаго-н. .. *там* [на градках] *цьвіцець дастатак, праўда і парадак.* ХБ, 28.

**2.** Устаноўлены лад, сістэма кіравання. *Але выбухнула сусветная вайна, а за ёю рэвалюцыя ў Расіі, Нямеччыне і Аўстрыі, і ўвесь стары парадак дзяржаўнага жыцця рухнуў, як падгніўшае ў карэнні адвечнае дрэва.* СНБ, 336. *Пятакоў і Троцкі, Муралаў і Радэк Пакінуць хацелі Царскі нам парадак.* МПв, 219.

**3.** Спосаб. .. [рэдактар] *напісаў ў сваю яснавельможную газэту горка-сьлязьлівую стацьцю пад такім загалоўкам Якім парадкам прымусіць дзяцей-беларусоў вучыцца і маліцца па-польску.* ЧЧШ. // Правілы паводзін, закон. *Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, паіхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі..* Кз, 17.

**4.** Паслядоўнасць, чарговасць. *Але разбяром па парадку.* Нз, 14. *Танцуюць тры пары ў тым самым парадку, што ў першым акце.* Т, 52.

◊ **Сваім (старым) парадкам** – так, як заўсёды, як звычайна. *Крыніцы жыцьця пацякуць сваім спрадвеку вызначаным справядлівым парадкам.* СНБ. *Глуш абнялася з ціўшыной І спавівае ўсё у чары. Паўзуць і сеюць шорах свой Старым парадкам цені-мары.* Кц, 192. **Такім парадкам** – гэтак, так; такім чынам. *А такім парадкам апалячыванньне беларусоў страшэнне пашыраецца..* ВР. **Усё ў парадку** – у добрым стане, у спраўным выглядзе. *Хай-жэ дома знойдуць* [ваякі] *усё ў парадку – неапушчэную хату, хлеб на стале.* РКр.

Адз. Н. *парадак* (2): СНБ, 336; ХБ, 28. Р. *парадку* (2): ЗС, 17; СНБ. Д. *парадку*: Кз, 17. В. *парадак* (2): ЗС, 17; МПв, 219. Т. *парадкам* (7): ВР; Кц, 192; Н; СНБ, 336; СНБ; ХБ, 28; ЧЧШ. М. *парадку* (5): ВС; ДК; Нз, 14; РКр; Т, 52. Мн. В. *парадкі* (2): БС; ВМР. М. *парадках*: СНБ.

**ПАРАДКАВАЦЬ** *незак.* Упарадкоўваць; хаваць. [Мікіта]: *Адварачывайце* [Ганулря] *назад абразы, а я пакупкі буду парадкаваць.* Т, 59.

Інф. *парадкаваць*: Т, 59.

**[ПАРАЗСЯДАЦЦА]** *зак. Разм., перан., неадабр.* Заняць чужую пасаду. *Гэта – маладая, нарастаючая сіла, каторая з часам запануе уладарнай гаспадыняй, – запануе і скажа: "А вы, галубчыкі, чаго-ж тут паразсядаліся?"* ВМР.

Абв. пр. мн. *паразсядаліся*: ВМР.

**[ПАРАЗУМНЕЦЬ]** *зак.* Стаць разумнейшым. *Так, литоўцы (клэўси) цяпер паразумнели и цэлыми вёсками адрэкаюцца пиць гарэлку..* УП.

Абв. пр. мн. *паразумнели*: УП.

**ПАРАІЦЦА** *зак. да* раіцца. *Перш, чым што зрабіць, абываталь любіць распытацца у людзей і параіцца з суседам..* ВМР.

Інф. *параіцца*: ВМР.

**[ПАРАІЦЬ]** (2) *зак. да* раіць. [Аленка]: *Ну што ж? на вёску дык на вёску! Нават хоць у пекла, калі вы* [Янка] *параіце...* Т, 30. [Мікіта]: *Вы* [Янка], *можа, параіце мне яшчэ і вашага Тарашкевіча граматыку зубрыць?* Там жа, 48.

Абв. буд. мн. 2 ас. *параіце* (2): Т, 30, 48.

**ПА-РАСЕЙСКУ** (8) і **ПА-РАСІЙСКУ** *прысл. Тое, што* па-руску. *Для беларусоў праваслаўных выкладаецца рэлігія па расейску; для каталікоў – па польску.* ВРО. *..урадник адказаў, што ён не разумее беларускай мовы і дзеле таго прыняць ня можа і што усе просьбы павінны пісацца па-польску або па расійску.* ОШМ. ВР (6); УР, 215.

**[ПАРАСЁ]** *н.* Дзіцяня свінкі. *.. хто парасё украў, таму и ў вушох пишчыць.* СП.

Адз. В. *парасё*: СП.

**ПА-РАСІЙСКУ** *гл.* **ПА-РУСКУ.**

**[ПАРАСКІДАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* параскідаць. *У знач. наз. Тое, што* раскідана. *Гануля падбірае параскіданае, Аленка штохвіля пырскае смехам..* Т, 33.

Адз. н. В. *параскіданае*: Т, 33.

**ПАРАСКРАСЬЦІ** *зак. да* раскрасці. *Каб таго парвала З сэрцам на тры часьці І зьвяр'ё збрылося Мяса параскрасьці, – Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу..* К.

Інф. *параскрасьці*: К.

**[ПАРАСОН]** (7) *м.* Прыстасаванне ад дажджу і сонца. *Мікіта хапае чырвоную хустачку, чапляе на канец парасона і вывешвае праз ваконную фортачку.* Т, 59. [Мікіта] *Становіцца на лаўцы перад Настай на калені, засланяючы збольшага яе й сябе распушчаным парасонам.* Там жа, 42.

Адз. Р. *парасона* (2): Т, 43, 59. Т. *парасонам* (5): Т, 34, 37, 42 (2), 43.

**[ПАРАСЦІ]** *зак. да* парастаць. Вырасці, павырастаць. *Стрэхи саламяные: мох на их парос, шчыты вецер пазрываў..* ХЛБ.

Абв. пр. адз. м. *парос*: ХЛБ.

**ПАРАЎНЯЦЬ** *зак.* Супаставіць. *Калі параўняць часы беларускага нацыянальнага руху ў перыядзе 1905-1917 гадоў і часы пасля расійскай рэвалюцыі 1917 году, дык гэта адно да другога не падобна, як зямля да неба.* МІ, 17.

Інф. *параўняць*: МІ, 17.

**ПАРАХОДНЫ** *прым.* Які адносіцца да парахода. *Глянь, карабль плыве дасужна, Дыміць комін параходны..* СА, 180.

Адз. м. Н. *параходны*: СА, 180.

**[ПАРАШЫЦЬ]** *зак. Разм.* Рашыць, вырашыць. *Нягледзячы на тое, што дырэктар прымаў мяне* [Купалу] *без экзамена, бацька парашыў не аддаваць мяне ў школу, а пакінуць на гаспадарцы.* А, 328.

Абв. пр. адз. м. *парашыў*: А, 328.

**[ПАРВАНЫ]** (3) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. зал. пр. да* парваць *у* 1 *знач. Перад ім* [рэдактарам] *ляжала сто і адна свежых газэт, адна з іх была парваная..* Ан, 19. *Былых не выклічаш вякоў І ты, Масквы кароннай гразь, Парваных не скуеш акоў, З якой брахнёю не вылазь!* АПЖ.

**2.** *У знач. прым.* Падраны. *Уваходзяць Госці ў парваных верхніх вопратках, якія Мікіта знімае і выносіць у другі пакой.* Т, 24.

Адз. ж. Н. *парваная*: Ан, 19. Мн. Р. *парваных*: АПЖ. М. *парваных*: Т, 24.

**ПАРВАЎШЫ** *дзеепрысл. перан.* Падзяліўшы. *Каб таго парвала З сэрцам на тры часці і зьвяр'ё збрылося Мяса параскрасьці, – Хто быў прачыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы Маці роднай цела.* К.

**ПАРВАЦЬ** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* рваць. *Каб таго парвала З сэрцам на тры часьці І зьвяр'ё збрылося Мяса параскрасьці, – Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу..* К.

**2.** *перан.* Падзяліць. *Спрачаліся* ["Gazeta" і "Вестник"] *доўга, Як край наш раскрасьці, Дый сьпеліся ўрэшце... Парваць на дзьве часьці.* Х.

Інф. *парваць*: Х. Абв. пр. адз. н. *парвала*: К.

**[ПАРДОН]** (4) *м. Разм.* Прабачэнне. [Спічыні]: *Пардон! У мяне разбушаваліся нэрвы.* Т, 41. [Мікіта]: *А я прашу пардону ў гасцей і на хвіліну адлучуся змяніць свой знадворны выгляд..* Т, 50.

Адз. Н. *пардон* (3): Т, 41, 50, 58. В. *пардону*: Т, 50.

**[ПАРК]** *м.* Акультураны ўчастак з насаджэннямі і алеямі. *..лясы* [Меншчыны] *і цяпер, калі іх не чапалі, маюць выгляд прыгажэйшых паркаў, – такія яны чыстыя і харошыя..* ХБ, 29.

Мн. Р. *паркаў*: ХБ, 29.

**[ПАРЛАМЕНТ]** *м.* Вышэйшы заканадаўчы прадстаўнічы орган канстытуцыйнай дзяржавы. *Во каго мы ў дэпутаты Па новым законе У парламент беларускі Выбярэм сягоння!* НК.

Адз. В. *парламент*: НК.

**[ПАРОГ]** (9) *м.* **1.** Месца каля дзвярэй у хаце або за дзвярамі. *Я* [аўтар] *стаю каля парога і трасуся.* Ан, 19. [Начальнік патруля]: *(спаткаўшы на парозе Мікіту з выстаўленымі рэвальверамі) Стаць!* Т, 59.

**2.** *перан.* Родны дом, сям'я, радзіма. *Трох сыноў дала судзьбіна Да майго* [маці] *парога, А такіе – сын у сына, Як нідзе, ні ў кога!*

Дз, 188. *Выходзяць* [прадзедаў косці]*, ідуць ад пагору к парогу; На стогн жывых грозна глядзяць..* ЗК, 43.

Адз. Р. *парога* (2): Ан, 19; Дз, 188; *парогу* (2): ЗК, 43 (2). Т. *парогам*: Ч, 321. М. *парозе* (3): Т, 57, 59 (2). Мн. В. *парогі*: УрП, 48.

**[ПАРОДА]** (3) *ж.* **1.** Разнавіднасць (птушак). *Вясна пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і сьпеву птушак самых разнастайных парод..* ХБ, 29.

**2.** *Разм*. Катэгорыя людзей з якімі-н. характэрнымі рысамі. [Янка]: *Вы* [вучоны] *згадалі: яны* [госці] *самдзеле тожа-беларусы, з пароды рэнэгатаў і дэгэнэратаў.* Т, 26. *Таварыш Сталін знача шлях да перамог у боі, Да перамогі над фашысцкай збэшчанай пародай.* ПНд, 314.

Адз. Р. *пароды*: Т, 26. Т. *пародай*: Пнд, 314. Мн. Р. *парод*: ХБ; 29.

**[ПАРОЖНІ]** *прым.*: ◊ **Пераліванне з пустога ў парожняе** *гл.* пераліванне.

Адз. н. В. *парожняе*: Т, 41.

**[ПАРОЦЦА]** *незак*. Капацца ў чым-н. *Наста порыцца каля абразоў.* Т, 52.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *порыцца*: Т, 52.

**[ПАРТМАНЭ]** *н., нескл.* Кашалёк для грошай. [Мікіта]: *(палажсыўшы, не помнячы, партманэ з грашыма на лаўку) Ну і немец, меджду протчым!* Т, 42. *Мікіта дастае партманэ, а з яго грошы і на мігі паказвае немцу, каб купіў.* Там жа. Т, 43.

**[ПАРТРЭТ]** (2) *м.* Малюнак, рысунак, вялікая фатаграфія каго-н. *Партрэт Варашылава ўбралі дзяўчаты Ў чырвоныя кветкі-вяснянкі.* ВВ, 263. *На сценах у рамках колькі тандэтных абразоў – партрэтаў высокапастаўленых асоб.* Т, 19.

Адз. В. *партрэт*: ВВ, 263. Мн. Р. *партрэтаў*: Т, 19.

**[ПАРТФЕЛЬ]** (13) *м.* Сумка з засцежкай для папер. *Начальнік забірае рэвальверы, адзін парфель і пагоны.* Т, 62. *Пачынае* [Мікіта] *кідаць на зямлю партфелі, апрача партфеля з грашыма.* Там жа , 50. *Параўн*. портфэль.

Адз. Р. *партфеля*: Т, 50. Д. *партфелю*: Т, 62. В. *партфель* (5): Т, 46 (4), 62. Мн. Н. *партфелі*: Т, 45. В. *партфелі* (4): Т, 46, 50 (2), 60. М. *партфелях*: Т, 46.

**[ПАРТЫЗАН]** *м.* Удзельнік узброенай барацьбы на акупіраванай тэрыторыі. *Маўчаць урачыста лясы і курганы, Хаваючы былі пад шатамі хвой. Хадзілі калісьці сюды партызаны, На смерць не глядзелі, кідаліся ў бой.* ПБН.

Мн. Н. *партызаны*: ПБН.

**[ПАРТЫЗАНСКІ]** *прым*. Які складаецца з партызан. *Вось які выпадак здарыўся гэтымі днямі ў партызанскім атрадзе Сцяпана З. з Падлесся.* ПСп.

Адз. м. М. *партызанскім*: ПСп.

**ПАРТЫЯ** (35) *ж.* Дабравольны баявы саюз аднадумцаў-камуністаў. *Комуністычная партыя і совецкая ўлада даравалі мне* [Купалу] *гэтыя грубыя нацыянал-дэмократычныя памкненьні ў маёй творчасьці..* АЛ. *На аснове ўсіх нечуваных дасягненняў вырасла і адточваецца адзін з важнейшых сродкаў партыі ў барацьбе за соцыялізм – беларуская мова.* ШБСЯ.

**Дзякую партыі Леніна-Сталіна.**

• **Партыя Леніна-Сталіна – Камуністычная партыя.** *Беларусь мая* [Купалы] *ўсяго за пятнаццаць год пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна-Сталіна сягнула ў сваім творчым размаху наперад, як-бы 150 год прайшла.* ДЖ. *Дзякую партыі Леніна-Сталіна, Дзякую Сталіну мудраму, роднаму, Што на Расіі жандармскай развалінах Гору канец палажылі народнаму.* ДПЛС.

Адз. Н. *партыя* (10): АЛ (2); ВГР; ДЖ; ЖН; ПБН; СЧ (2); ШБСЯ. Р. *партыі* (14): АЛ (4); ВГР; ДЖ; ДНСП; ЖН; НК; СТ; Т, 37; ШБСЯ (3) Д. *партыі* (6): А, 328; ВГР; ДПЛС (3); СБ. В. *партыю* (2): ЖН; Т, 55. Т. *партыяй* (3): ДНСП; ЖН; ЦСБ.

**[ПАРУПІЦЦА]** *зак.* Паклапаціцца. *Гэтак далей жыць ня можна, і мы верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і парупіцца зрабіць усё, што вымагае ад яго дзяржаўная мудрасьць..* ОШМ.

Абв. буд. адз. 3 ас. *парупіцца*: ОШМ.

**ПА-РУСКУ** *прысл.* На рускай мове. *Па руску я* [Купала] *навучыўся ад сваёй нянькі.* А, 328. *Параўн.* па-расейску, па-расійску.

**[ПАРУЧЧА]** *н. Разм.* Апора для рук. *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву..* Т, 43.

Мн. В. *паруччы*: Т, 43.

**[ПАРЫВАЦЬ]** *незак., перан.* Спыняць, канчаць. *..я* [Купала] *рашуча .. парываю з беларускім нацыянал-дэмократызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.* АЛ.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *парываю*: АЛ.

**ПАРЫВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* парываць. *Парываючы сам катэгорычна і беспаваротна ідэйна і організацыйна з беларускім нацыянал-дэмократызмам .. я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для .. беларускай інтэлігенцыі.* АЛ.

**[ПАРЫЎ]** (8) *м. перан.* Уздым духоўных сіл, энэргіі, імкненне да ажыццяўлення якіх-н. мэт. *Хто найшчыршыя парывы Сваіх думак, свайго сэрца Аддае Совецкім нівам..?* СА, 179. .. [нацыянальная барацьба] *ў гэты перыод, хоць прыдушана, але хвалявалася, узбуралася ў імкненьнях і парывах працоўных мас..* АЛ. // Моцнае праяўленне якога-н. пачуцця. *Эй, годзе ўжо песень маркотных,*

*пясьняр! Дай волю парывам гарачым...* Пр. *Табе, правадыр, мае песні і думы, І шчырыя шчырага сэрца парывы!* ТП, 213.

Мн. Н. *парывы* (5): ТП, 213, 214, 215, 216, 217. Д. *парывам*: Пр. В. *парывы*: СА, 179. М. *парывах*: АЛ.

**[ПАРЫЦЬ]** (2) *незак.*: ◊ **Косці (магілу) парыць**– не жыць, ляжаць у магіле. *Ідзеш у край, дзе сотні летаў Хто толькі хоча гаспадарыць, Але не сын зямліцы гэтай, Які тут косці вечна парыць.* НГд, 8. *Сынам, як кажыць, маім быў ён* [паніч] *млечным, – Хай-бы магілу лепш гэткі сын парыў.* Мц, 74.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *парыць*: НГд, 8. Пр. адз. м. *парыў*: Мц, 74.

**[ПАРЭЗАЦЬ]** *зак., перан.* Падзяліць, раздзяліць. *Ідзеш у край, які бязбожна Жыўцом парэзалі на часці..* НГд, 8.

Абв. пр. мн. *парэзалі*: НГд, 8.

**ПАСАД** (13) *м.* **1.** *Гіст.* Трон як сімвал улады. *Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы, Зіхацела ў ім кожна часьціна, – На пасадзе сядзела цьвет-ночка – царыца...* Ч, 321-322. *Нас не кранулі косы зьмен: Царым мы ў дум жывых гэйнале, Хоць на падмурах гэтых сьцен Другіе наш пасад занялі.* Кц, 193.

**2.** *Гіст.* Прадмесце; пасёлак. *Дом чужы таму будзе астрогам; Хто паклоны біць стаў збоку злыбедным ветрам, Свой пасад таму стане бярлогам.* Ч, 323.

Адз. Н. *пасад* (4): АПЖ; БВ, 16; Ч, 321, 323. В. *пасад* (5): Г, 17; Кц, 193 (2), 196; Ч, 320. М. *пасадзе* (2): Н; Ч, 322. Мн. Н. *пасады*: Кр, 77. В. *пасады*: Ч, 322.

**[ПАСАДА]** (3) *ж.* Месца на службе. *Проша здаць ключы майму кіраўнічаму, а самі пашукайце пасады у іншым месцы.* ВМР. [Мікіта]: *Цяпер я, пане профэсар, маю шаснаццаць дзённых і восем вячэрніх, .. пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрскіх Саўхозах, Нархозах..* Т, 46.

Адз. Р. *пасады* (2): ВМР; ОШМ. Мн. Р. *пасадаў*: Т, 46.

**[ПАСАДКА]** *ж.*: **Цуда, створанае бальшавікамі (Уражанні ад пасадкі на Беламорска-Балтыйскі канал).**

Адз. Р. *пасадкі*: ЦСБ.

**ПА-САМАДЗЯРЖАЎНАМУ** *прысл.* Самаўласна, не параіўшыся з кім-н. *А калі бальшавікі ўзялі верх, то па-самадзяржаўнаму расправіліся з усімі нацыянальнымі арміямі і з усякімі незалежнасцямі.* БВ, 16.

**[ПАСВЕДЧАННЕ]** *н.* Афіцыйны дакумент. [Мікіта]: *У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні..* Т, 46.

Мн. Н. *пасведчанні*: Т, 46.

**[ПАСВІСТВАЦЬ]** *незак.* Час ад часу паціху свістаць. *Мікіта вясёлы, пасвістае і напявае.* Т, 31.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пасвістывае*: Т, 31.

**ПАСВІЦІСЯ** *незак. Разм.* Пасвіцца. *Твае коні, мае коні Пасля дзён трывожных Будуць пасвіціся разам На лугу мурожным.* ТЗУ, 293.

Інф. *пасвіціся*: ТЗУ, 293.

**ПАСВІЦЬ** (5) *незак.* **1.** Наглядаць за жывёлай. *Памятаю* [Купала] *яшчэ ў Прудзішчы, калі бацька пасылаў мяне з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі і пры свеце кастра або месяца чытаў.* ПС. [Янка]: *(перабіваючы) .. на Камароўцы козы пасвіць? І чаму б, сам-дзеле, не так?* Т, 36. *Параўн*. пасціць.

**2.** *перан*. Пільнаваць, каравуліць. [Мікіта]: *.. што вы тут, дабрадзею, робіце з пугай: пасвіце каго?* [Горашка]: *Збіраўся пасвіць тутэйшых чынадралаў..* Т, 37 (2).

Інф. *пасвіць* (3): ПС; Т, 36, 37. Абв. цяп. мн. 2 ас. *пасвіце*: Т, 37. 3 ас. *пасуць*: ЗК, 42.

**ПА-СВОЕМУ** і **ПА-СВОЙМУ** *прысл*. Своеасабліва, адметна. *Разумееццы, свае паступкі ён* [абывацель] *будзе тлумачыць па своему..* ВМР. *.. наехалі там "госьци и па-свойму слабаджанаў абучали нагайками...* ХЛБ.

**ПА-СВОЙСКУ** *прысл. да* свойскі. *Наведзены струны у скрыпках па-свойску Чужая зрывае рука..* ЗК, 43.

**ПА-СВЯТОЧНАМУ** *прысл. перан.* Свабодна, вольна. *Гаспадар той суважна свой шнур па-святочнаму Абыходзіці будзе..* ТС, 74.

**[ПАСЕЎ]** *м. Тое, што* сеюць. *Абсееш пасевам жывучым загоны І сцежкі намеціш да сонца і зораў.* ТП, 217.

Адз. Т. *пасевам*: ТП, 217.

**[ПАСЕЯНЫ]** *дзеепрысл. зал. пр. да* пасеяць. *У знач. вык*. Засеяны. [Янка]: *.. чырвоныя берагі Нямігі не зернем былі пасеяны, а касцямі гэных жа продкаў нашых.* Т, 35.

Мн. Н. *пасеяны*: Т, 35.

**[ПАСЕЯЦЬ]** *зак.*: ◊ **Косці пасеяць** – загінуць. [Янка]: *З гэтага бачым, што яны* [продкі] *за нешта змагаліся, калі пад сценамі роднага гнязда косці свае пасеялі...* Т, 35.

Абв. пр. мн. *пасеялі*: Т, 35.

**[ПАСКАКАЦЬ]** *зак. да* скакаць *у* 1 *знач*. [Янка]: *З ахвотай* [сыграю]. *Хоць раз паскачаце і вы* [госці] *пад маю дудку*. Т, 29.

Абв. буд. мн. 2 ас. *паскачаце*: Т, 29.

**ПАСКАЎЗНУЦЦА** *зак. Разм. Тое, што* паслізнуцца. [Спічыні]: *.. перш чымся араторыць, вы* [Мікіта] *павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну, а не дзве або тры, бо йначай можаце паскаўзнуцца..* Т, 41.

Інф. *паскаўзнуцца*: Т, 41.

**[ПАСКУБАЦЬ]** *зак., перан.* Нанесці ўрон, шкоду. [Гарошка]: *Ну, і што там цікавага? Мала йшчэ вас* [народ] *гэтыя абскубанды паскубалі.* Т, 44.

Абв. пр. мн. *паскубалі*: Т, 44.

**[ПАСКУДНЫ]** *прым. Разм., груб.*: ◊ **Апляваць паскуднай сьлінай** *гл.* апляваць.

Адз. ж. Т. *паскуднай*: 3.

**ПАСЛАНЕЦ** (2) *м.* Ганец, пасыльны. *Я* [чужынец] *з далі дальняй к вам* [людзям] *прыплёўся, – Пасланец бога я свайго.* УрП, 51. *Сярод магіл, на плечы ўзняўшы крыж свой, стану, Як пасланец з магіл ад спячых там прарокаў..* СМ.

Адз. Н. *пасланец* (2): СМ; УрП, 51.

**ПАСЛАЦЬ** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* слаць[1] *у* 1 *знач. Мы гэты рахунак пашлём усім ваяваўшым і ваюючым на нашай зямлі народам..* АБ, 16.

**2.** *Зак. да* слаць[1] *у* 2 *знач. І пашлю* [трактарыстка] *ад сонца Табе* [трактару] *прывітанне Аб маім вялікім Да цябе каханні.* ПТ, 207. [Ануля]: *Пашлі вам* [Аленцы і Янку] *долечка ўсяго найшчаслівейшага.* Т, 53.

◊ **Паслаць к чорту** – прэч, вон. [Мікіта]: *Але вось гэта* [партфелі] *можна і цяпер паслаць, меджду протчым, к чорту.* Т, 50.

Інф. *паслаць*: Т, 50. Абв. буд. адз. 1 ас. *пашлю*: ПТ, 207. 2 ас. *пашлі*: Т, 53. Мн. 1 ас. *пашлём*: АБ, 16.

**[ПАСЛІЗНУЦЦА]** *зак. перан.* Пацярпець няўдачу. [Мікіта]: *Уся бяда была ў тым, што я не ўгадаў. На якую .. стануць* [людзі] *пляцформу, дзеля гэтага паслізнуўся і быў змушаны прымусова зыйсці з трыбуны.* Т, 46. *Параўн.* паскаўзнуцца.

Абв. пр. адз. м. *паслізнуўся*: Т, 46.

**[ПАСЛУГАЧ]** *м. Пагардл.* Саўдзельнік, памочнік у дрэннай справе. *Мяне* [Купалу] *зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы .. раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма ў Заходняй Беларусі.* ШБСЯ.

Мн. Р. *паслугачоў*: ШБСЯ.

**[ПАСЛУЖЫЦЬ]** *зак. да* служыць *у* 1 *знач. .. я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для .. беларускай інтэлігенцыі..* АЛ.

Абв. пр. адз. м. *паслужыў*: АЛ.

**ПАСЛУХАЦЬ** (8) *зак.* **1.** *Зак. да* слухаць *у* 1 *знач. А цяпер паслухаем, што кажуць расейцы пра хараство і багацьце нашага краю.* ХБ, 28. *Ляж, прытуліся да зямлі, Паслухай шчыра, што гавора Табе, сям'і і ўсёй радні, Калі запаліць неба зоры.* БрБ, 6.

**2.** *Зак. да* слухаць *у* 2 *знач.* [Ануля]: *А яму, свайму Мікітку, што я наталкавалася, каб з'ісціў бацькаву думку, – не паслухаў.* Т, 20.

**3.** Пабуджальны зварот да каго-н. [Мікіта]: *Дык вось, паслухайце, меджду протчым: Беларусь, мая старонка..* Т, 56.

**4.** *перан*. Даведацца. [Мікіта]: .. *схаджу на мінуту на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаіць курс на валюту.* Т, 34.

Інф. *паслухаць*: Т, 34. Абв. пр. адз. м. *паслухаў*: Т, 20. Буд. адз. 2 ас. *паслухаеш*: ПБН. Мн. 1 ас. *паслухаем*: ХБ, 28. Заг. адз. 2 ас. *паслухай* (3): БрБ, 6 (2); Н. Мн. 2 ас. *паслухайце*: Т, 56.

**[ПАСЛУШНЫ]** *прым* Пакорны, паслухмяны. *Пачуеш, як шмат лет таму Тваё было тут панаванне; Паслушна голасу твайму, Цябе не кратала скараннне.* БрБ, 6.

Кар. адз. н. Н. *паслушна*: БрБ, 6.

**ПАСЛЯ**[1] (20) і **ПАСЬЛЯ**[1] (8) *прыназ. з. Р.* Спалучэнне з прыназоўнікам "пасля" выражае часавыя адносіны; ужываецца пры назвах адрэзкаў часу, падзей, з'яў, пазней якіх што-н. адбываецца. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328. *Пасьля заняцьця польскімі войскамі Горадня, тамтэйшыя беларусы на разе прасьвятлелі.* СНБ. *У нашы ужо часы (пасьля 1905) зьявілася на сьвет божы некалькі беларускіх гымнаў..* СБНГ. // Пазнаей, па ад'ездзе. *У Вільні працаваў у бібліятэцы і "Нашай ніве", пасля чаго апынуўся* [Купала] *ў Петраградзе..* А, 328. А, 328 (2); АЛ; БВ, 16; БС; БСУ; ВНЗ; ВС; ВСп, 89; МІ, 17 (3); Нз, 14 (3); СНБ, 337; СНБ; Т, 24, 35, 43, 53, 58, 62; ТЗУ, 293.

**ПАСЛЯ**[2] (22) і **ПАСЬЛЯ**[2] *прысл*. Потым, пазней некаторага тэрміну. *Пасля, Жыды, вы зрэкліся народу, Які вам шчыра даў багацьце і прыпын..* Ж. .. *мы спачатку памяшчаем пабробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час, а пасьля, па магчымасьці, пяройдзем да характарыстыкі паасобных кніг і выдавецтваў.* ВСп, 89; А, 328; Ан, 18, 19; Кз, 17; ПСп; СНБ, 336, 340; Т, 20 (3), 31, 33, 40, 43, 46, 53, 54, 59 (2), 61; Тр, 15.

**[ПАСМЕЦЬ]** і **[ПАСЬМЕЦЬ]** *зак. да* смецьу 1 *знач*. Мецьсмеласць, асмеліцца. *Прыстані, выспы Балтыцкага мора Ворагзаморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф. *Ніхто чапіць вас* [людзей] *не пасьмее, Усякі вам дарогу дасьць.* УрП, 50.

Абв. буд. адз. 3 ас. *пасмее*: Ф; *пасьмее*: УрП, 50.

**ПАСОЛ** (3) *м.* **1.** Дыпламатычны прадстаўнік адной дзяржавы ў другой дзяржаве. *Цёплай і прыемнай была сустрэча з совецкім паслом у Чэхаславакіі т. Александроўскім.* ПЧ.

**2.** Пасланец. *Цямрук ілжывы, прайдзісвета, Пасол ты ліса ці ваўка!* УрП, 52.

Δ **Пасол-дэлегат:** *І сэрца аддасць* [народ] *за свайго дэпутата, Пасла-дэлегата ў Вярхоўны Совет.* НДп, 229.

Адз. Н. *пасол*: УрП, 52. В. *пасла*: НДп, 229. Т. *паслом*: ПЧ.

**ПАСОХШЫ** *дзеепрысл. незал. да* пасохці. Завяўшы, засохшы. *Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы*. ВМ, 72.

**ПАСПЕЦЬ** (7) *зак.* Здолець зрабіць што-н. у тэрмін, своечасова. *Я* [Купала] *яшчэ не паспеў сістэматызаваць усяго матэрыялу..* ПЧ. [Ануля]: *І я так падумала, але не паспела гэтага ім* [вучоным] *сказаць.* Т, 54.

Інф. *паспець*: ПЧ. Абв. пр. адз. м. *паспеў* (4): ПЧ; СЧ; Т, 51, 55. ж. *паспела*: Т, 54. Мн. *паспелі*: Т, 51.

**[ПАСПРАБАВАЦЬ]** *зак.* Зрабіць спробу чаго-н. [Спічыні]: *Поступ у навуцы вялікі. Паспрабуем затое з іншай бочкі.* Т, 49. *Параўн.* папрабаваць; папробаваць.

Абв. буд. мн. 1 ас. *паспрабуем*: Т, 49.

**[ПАСПРАЧАЦЦА]** *зак. да* спрачацца. [Мікіта]: .. *я з ім* [Янкам] *не вадзіўся, а толькі аб палітыцы паспрачаўся.* Т, 22.

Абв. пр. адз. м. *паспрачаўся*: Т, 22.

**ПАСПЫТАЎШЫ** *дзеепрысл. да* паспытаць. *Будучы дагэтуль паднявольнымі і паспытаўшы, што за смак гэтае паднявольле, .. нам і ў думку не прыйдзе запрагаць каго б то ні было, жывучага на нашых загонах, у паднявольнае ярмо.* НДН, 18.

**ПАСПЫТАЦЬ** *зак. Разм., перан.* Адведаць, спазнаць, зведаць. *Я* [Габрусь] *ўсядзець ня мог у хаце, Сам пайшоў па добрай волі Паспытаць ваеннай долі.* ГЖУ.

Інф. *паспытаць*: ГЖУ.

**[ПАСПЯШАЦЦА]** *зак.* Пастарацца зрабіць што-н. хутчэй. [Янка]: *Ці не паспяшыліся, пане рэгістратар, пляваць у карытца – каб не прышлося напіцца.* Т, 50.

Абв. пр. мн. *паспяшыліся*: Т, 50.

**[ПАСРАБРАНЫ]** *дзеепрым. Разм.* Пасярэбраны. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, .. Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных, .. жытам пасрабраных..* ХБ, 28.

Мн. Р. *пасрабраных*: ХБ, 28.

**[ПАСТАВА]** *ж.* Поза. [Спічыні]: *Цяпер, калі зрабілі* [Мікіта] *сабе аратарскую паставу, пачынайце прамову.* Т, 40.

Адз. В. *паставу*: Т, 40.

**[ПАСТАВІЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* паставіць. Вызначыўшы. *Нацыянальная рэвалюцыя, паставіўшая сабе мэтай вызваленьне ўсіх нацый .., ідзе другімі шляхамі да вызваленьня чалавека з путаў няволі.* СНБ.

Адз. ж. Н. *паставіўшая*: СНБ.

**[ПАСТАВІЦЬ]** *зак. да* ставіць *у* 1 *знач. Крыж пастаўце, як ставіце ўсім, – Мае путы павесці на ім..* ЧС, 50.

Заг. мн. 2 ас. *пастаўце*: ЧС, 50.

**[ПАСТАНАВІЦЬ]** (3) *зак.* Вырашыць. [Мікіта]: *І я пастанавіў у сваёй аратарскай прафэсіі моцна прытрымлівацца гэтай*

*мудрасці.* Т, 36. [Янка]: *Значыцца, вы* [Мікіта] *цвёрда пастанавілі дабівацца сабе гэтай новай кар'еры?* Там жа, 56.

Абв. пр. адз. м. *пастанавіў* (2): Т, 36, 55. Мн. *пастанавілі*: Т; 56.

**[ПАСТАНАЎЛЯЦЬ]** *незак.* Вырашаць. *Яна* [нацыянальная рэвалюцыя] *змагаецца за тое, каб кожны народ пастанаўляў сам аб сваей долі..* СНБ.

Абв. пр. адз. м. *пастанаўляў*: СНБ.

**ПАСТАНОВА** (6) *ж.* Распараджэнне дзяржаўнай установы. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданных сусьветных посьпехаў.* ДНСП. *Рэформа правапіса, праведзеная пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г., мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.* ШБСЯ.

Адз. Н. *пастанова* (2): ДНСП (2). Р. *пастановы*: ШБСЯ. Т. *пастановай*: ШБСЯ. Мн. Н. *пастановы* (2): Т, 43, 46.

**ПАСТАНОЎКА** (3) *ж.* **1.** Арганізацыя чаго-н. *Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народу..* СБНГ.

**2.** Спектакль. *.. А. Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на совецкай сцэне оперы Смятаны "Праданая нявеста"..* ПЧ. *Мы* [дэлегаты] *наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна, дзе прагледзелі пастаноўку "Удалага салдата Швейка".* Там жа.

Адз. Н. *пастаноўка*: СБНГ. Р. *пастаноўкі*: ПЧ. В. *пастаноўку*: ПЧ.

**[ПАСТАРАЦЦА]** (3) *зак. да* старацца *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: *Вось я, не зважаючы на тое – выеду ці не выеду, і пастараўся не выглядаць маладым.* Т, 55. *Дзеля ясьнейшага ўразуменьня пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму сьпісу згодна і іх зьместам.* ВСп, 89.

Абв. пр. адз. м. *пастараўся*: Т, 55 Буд. адз. 1 ас. *пастараюся*: Т, 23. Мн. 1 ас. *пастараемся*: ВСп, 89.

**ПАСТАЎЛЕНЫ** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* паставіць *у* 2 *знач.* Назначаны на якое-н. месца. *Вось я* [слуга Дажбога] *пастаўлены над вамі* [людзьмі] *Вышэйшай моцай небных сіл, Старэйшы думкай і гадамі, Зьмятаю ашуканства пыл.* УрП, 49. // *У знач. вык. Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы; На стражы пастаўлен сынок..* ЗК, 42.

**2.** *перан.* Выбраны. *Пастаўленые намі (як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое разводзіць, што нам* [беларусам] *цяжка было дыхаць.* БС.

Адз. м. Н. *пастаўлены*: УрП, 49. Мн. Н. *пастаўленые*: БС. Кар. адз. м. Н. *пастаўлен*: ЗК, 42.

**ПАСТАЯННА** *прысл.* Бесперапынна, увесь час. *Праўда, да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі..* ХБ, 29.

**ПАСТАЯЦЬ** *зак. да* стаяць *у* 2 *знач.* [Мікіта]: .. [паны] *папрасілі мяне пастаяць, самі знялі куртачку .. падзякавалі і пайшлі.* Т, 58.

Інф. *пастаяць*: Т, 58.

**[ПАСТКА]** *ж. перан.* Месца, якое не мае выхаду. [Наста]: *Ужо даўно маё сэрца – не маё, а сядзіць у пастцы другога сэрца...* Т, 41.

Адз. М. *пастцы*: Т, 41.

**[ПАСТРАШЫЦЬ]** *зак.* Папужаць. *Смаленцы крыху гэтаму працівіліся, але іх працаўнікі пастрашылі кулямётамі, і справа была выйграна.* СНБ, 337.

Абв. пр. мн. *пастрашылі*: СНБ, 337.

**[ПАСТУПАК]** *м. Руск.* Учынак. *Разумееццa, свае паступкі ён* [абывацель] *будзе тлумачыць па своему, але сэнс у гэтым, і з гэтага карыстаюць усе старые, вядомые і прывычные для яго сілы.* ВМР.

Мн. В. *паступкі*: ВМР.

**[ПАСТУПАЦЬ]** *незак.* Дастаўляцца куды-н. *Пабочные-ж налогі зусім іншые: збіраюцца яны не с таго, хто штось мае, а с таго што паступае на продаж..* ВН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *паступае*: ВН.

**ПАСТУПІЎШЫ** *дзеепрысл. да* паступіць. Уладкаваўшыся. *Па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэтае вучышішча, я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай.* А, 328.

**ПАСТУПОВА** *прысл.* З цягам часу. *Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраці у свае рукі найадказьнейшыя вучасткі савецкага дзяржаўнага апарату, .. контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы .. падточвалі соцыялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці..* АЛ.

**[ПАСТУХ]** (3) *м.* Той, хто пасе статак. *Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у .. выбарах.* ГВУ. *Я* [унук] *раскажу, як за хлеб, за зацірку Ў пана служыў пастухом я нядаўна..* Ун, 73.

Адз. Р. *пастуха*: ГВУ. Т. *пастухом* (2): Т, 37; Ун, 73.

**ПАСТЫР** *м.* Свяшчэннік. [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах..* Т, 38.

Адз. Н. *пастыр*: Т, 38.

**[ПАСУДЗІЦЬ]** *зак.* Уявіць сябе. *Бо самі, грамадзяне, пасудзіце, як я* [аўтар] *ламаў сабе мазгі і ногі праз гэту, згінь-прападзі, Антанту.* Ан, 18.

Заг. мн. 2 ас. *пасудзіце*: Ан, 18.

**ПАСУНУЎШЫ** *дзеепрысл. да* пасунуць. Перамясціўшы. *Калі была якая вайна, то паваюють, колькі трэба,, ды кінуць, пасунуўшы гранічныя слупы ў той ці іншы бок..* СНБ, 336.

**[ПАСУНУЦЦА]** *зак.* Падацца наперад з варожым намерам. *Палякі занялі Вільню, пасунуліся да Маладзечна і пагражалі Менску.* СНБ, 340.

Абв. пр. мн. *пасунуліся*: СНБ, 340.

**ПА-СУСЕДЗКУ** *прысл.* Як суседзі. *І з часам народы патрапяць найці супольную мову, каб па суседзку дагаварыцца паміж сабой..* СНБ.

**[ПАСЦЕЛЬ]** і **ПАСЬЦЕЛЬ** (4) *ж.* **1.** Месца для спання. *Гануля прыбірае стол, пасля ладзіць для Гарошкаў пасцель на падлозе.* Т, 31. // Смертны ложак. *Лёг незнаёмы на пасьцелі, На тэй, дзе ўсе на той сьвет шлі.* УрП, 52.

**2.** *перан.* Душа. *Ой, ты сіняя, ты сьцюжная зіма, Сярод лета прышла к дзеваньцы сама. Белай шэраняй пасьцель залягла..* ВБЛ, 82.

◊ **Ня ўстаць с пасьцелі** *гл.* устаць.

Адз. Н. *пасьцель*: ВБЛ, 82. Р. *пасьцелі*: К. В. *пасцель*: Т, 31. Т. *пасьцельлю*: ВБЛ; 82. М. *пасьцелі*: УрП, 52.

**[ПАСЦІ]** *зак.*: ◊ **У прах пасці** – перастаць існаваць, быць звергнутым. *Не верне былога ніхто і ніколі, У прах яно пала і знікла, як дым.* ПБН.

Абв. пр. адз. н. *пала*: ПБН.

**[ПАСЦІЦЬ]** *незак. Тое, што* пасвіць *у* 1 *знач. Спрадвеку мы ў родным краю гаспадарым, – Свае загоны сеем, пасцім статак свой..* НГ.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *пасцім*: НГ.

**[ПАСЦЯГАЦЬ]** *незак. Разм.* Спасцігаць. *.. тысячы пролетарскага студэнтства пасцягаюць самыя навейшыя здабыткі сусветнай навукі..* ШБСЯ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *пасцягаюць*: ШБСЯ.

**ПАСЬВЕНЧАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* пасьвяціць. *Польск., перан.* Благаславены. *Нявольнікі вы* [жыды] *сёньня з намі разам На беларускай змучанай зямлі, Дзе чорны зьдзек пасьвенчаны абразам Гняце нас разам, як зьвяр'ё, ў крутой пятлі.* Ж.

Адз. м. Н. *пасьвенчаны*: Ж.

**[ПАСЬВІСТ]** *м.* Пра свісцячыя гукі пры хуткім руху чаго-н. *Сьмейся сьмехам-скавытам вядзьмачым, У віхровым пасьвісьце разьвейся..* См, 91.

Адз. М. *пасьвісьце*: См, 91.

**ПАСЬЛЕДНІ** *прым. Руск.* Апошні. *Як прышоў дамоў, сярэдні* [сын] *Выглядаў багата, Й не пазнаў, як зьвер пасьледні, Ні мяне* [маці]*, ні брата.* Дз, 190.

Адз. м. Н. *пасьледні*: Дз, 190.

**ПАСЬМЕЦЬ** *гл.* **ПАСМЕЦЬ**.

**[ПАСЬМЕШЫШЧА]** *н.* Здзек, здзекванне. *Хто пакінуў свой дом на пасьмешышча нетрам, Дом чужы таму будзе астрогам..* Ч, 323.

Адз. В. *пасьмешышча*: Ч, 323.

**[ПАСЬМЯХАЦЦА]** *незак.* Пасмейвацца. *Хі-хі! Пасьмяхаецца польскі пан-абшарнік, седзячы на беларускай зямлі.* З.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пасьмяхацца*: З.

**[ПАСЬПЕЦЬ]** *зак.* Стаць спелым; выспець. *Ён* [мужык] *ведаў, што гэтае зерне ўзойдзе, закрасуе, пасьпее.* ДД.

Абв. буд. адз. 3 ас. *пасьпее*: ДД.

**ПАСЬПЕХ** *гл.* **ПОСПЕХ**.

**[ПАСЬПЕШНЫ]** *прым.* Хуткі, таропкі. *Шмат дапамагло гэтакай пасьпешнай працы тое, што галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва зьяўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз..* ВСп, 91.

Адз. ж. Д. *пасьпешнай*: ВСп, 91.

**ПАСЬЦЕЛЬ** *гл.* **ПАСЦЕЛЬ.**

**[ПАСЫЛАЦЬ]** (2) *незак.* Накіроўваць, выпраўляць каго-н. куды-н. *Памятаю* [Купала]*, яшчэ ў Прудзішчы, калі бацька пасылаў мяне з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі..* ПС. *Пасылай* [Варашылаў] *байцоў адважных, Стрэльбы, кулямёты, Танкі, трактары, гарматы, Птахі-самалёты!* ЗЯЗ, 90.

Абв. пр. адз. м. *пасылаў*: ПС. Заг. адз. 2 ас. *пасылай*: ЗЯЗ, 90.

**ПАСЫНАК** (3) *м., перан.* Хто пераносіць якія-н. нягоды, пра каго мала клапоцяцца. *А ты, змарнелы чалавек, Нікчэмны пасынак былога, Сваю пушчаеш песню ў здзек, Чужою славіш нават Бога!* БрБ, 6. *Яна* [думка] *аглядала бязьмежна прастор, І пасынкаў бачыла долі..* КП, 170.

Адз. Н. *пасынак*: БрБ, 6. Мн. Р. *пасынкаў* (2): КП, 170; ПН, 46.

**[ПАСЫПАЦЦА]** (2) *зак., перан.* Пачаць хутка выходзіць (пра кнігі). *Пасыпаліся з друку адна за аднэй кнігі і ў працягу некалькіх месяцаў вышла ў сьвет 15 кніг..* ВСп, 91.

◊ **Дабро пасыпецца з неба** *гл.* дабро.

Абв. пр. мн. *пасыпаліся*: ВСп, 91. Буд. адз. 3 ас. *пасыпецца*: Т, 20.

**[ПАСЫПАЦЬ]** *незак.* Пакрываць чым-н. сыпкім, усейваць. *Ідзе армія ўладая, Не знае трывогі, Пасыпаюць буйна людзі Кветкамі дарогі..* ЗЯЗ, 90.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *пасыпаюць*: ЗЯЗ, 90.

**ПАСЯДЗЕЦЬ** (2) *зак.* Сядзець некаторы час. [Янка]: *Пакуль прыдзе* [Мікіта]*, можам хвіліну пасядзець.* Т, 35. [Мікіта]: *.. потым* [паны] *папрасілі пасядзець і таксама самі знялі боты, сказаўшы, што гэта з іхняй скуры.* Там жа, 58.

Інф. *пасядзець* (2): Т, 35, 58.

**[ПАСЯДЗІНЫ]** *толькі мн. Разм., перан.* Сход. [Гарошка]: *Як прышпілюць вам* [Янку] *калі-небудзь хвост на гэтых*

*пасядзінах, то прападзе вам ахвота і стаяць, не толькі што сядзець.* Т, 44.

М. *пасядзінах*: Т, 44.

**ПАТАКА** (6) *ж.* Густое, салодкае рэчыва. [Мікіта]: *Не зацірка, дзядзька беларус, а праўдзівая цэнтра-белсаюзаўская, меджду протчым, патака.* Т, 54. [Янка]: *А вы* [Мікіта] *гэта забяспечанне пачалі, як відаць, ад патакі?* Там жа, 55.

Адз. Н. *патака* (3): Т, 54, 60, 62. Р. *патакі*: Т, 55. В. *патаку*: Т, 62. Т. *патакай*: Т, 60.

**ПАТАНЦАВАЦЬ** (2) *зак. да* танцаваць *у* 1 *знач*. [Мікіта]: *Калі ж я сам хачу патанцаваць. Можа, папрасіць* [сыграць] *каго?* Т, 29. [Дама]: *... Патанцуем, мусье Зносілов?* Там жа, 29.

Інф. *патанцаваць*: Т, 29. Абв. буд. мн. 1 ас. *патанцуем*: Т, 29.

**ПАТАПІЦЬ** *зак. да* тапіць *у* 1 *знач*. *Каменні ўстаюць, каб забіць ворага, рэкі выходзяць з берагоў, каб патапіць яго, зямля расступаецца, каб праглынуць яго...* РКП.

Інф. *патапіць*: РКП.

**ПАТАПТАНЫ** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* патаптаць. *перан*. Замардаваны, змучаны, зняважаны, уніжаны. *Панам быў дома і слаўным за домам Мой патаптаны сягоння народ..* Н. *А толькі торг усё ідзе Над іх* [людзей] *душою патаптанай..* Кц, 195.

Адз. м. Н. *патаптаны*: Н. ж. Т. *патаптанай*: Кц, 195.

**[ПАТАПТАЦЬ]** (3) *зак*. **1.** Топчучы, змяць, знішчыць. *Мучыць вораг нас заўзяты: Папаліў нам нашы хаты, Патаптаў нам наша поле...*ГЖУ. *Не патопчуць яго* [зерне] *без пары чужые ногі, не спаліць яго чужая рука.* ДД.

**2.** *перан*. Абвергнуць. *Арліным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, – брахню, што Беларусі не было і няма.* ПЛП.

Абв. пр. адз. м. *патаптаў*: ГЖУ. Мн. *патапталі*: ПЛП. Буд мн. 3 ас. *патопчуць*: ДД.

**[ПАТАЧЫЦЬ]** *зак*. Паесці, згрызці. [Янка]: *Пакуль ваша* [Мікіты] *гэта становішча устане, то вас саміх чэрві паточаць.* Т, 21.

Абв. буд. мн. 3 ас. *паточаць*: Т, 21.

**[ПАТОЛЬНЫ]** *прым*. *Наватв*. Спагадны. *Хочаш цішы прытульнай і ласкі патольнай, Збудаваць божы быт на пакутах, – Дай другім волі ў волю, і сам будзеш вольны..* Ч, 323.

Адз. ж. Р. *патольнай*: Ч, 323.

**[ПАТОМАК]** (8) *м.* **1.** Чалавек у адносінах да продкаў. *Пройдуць годы, падрастуць сыны і унукі нашы і спытаюць тады нас: “Што зрабілі вы у той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?”* БС. *Вашым* [чужым] *патомкам нашыя маткі Казкі складалі..* Чж, 146.

**2.** *Разм.* Наследнік, спадчыннік. *Патомкі вялікіх салдат Суворава, патомкі народных палкоў Хмяльніцкага, патомкі бясстрашных паўстанцаў Каліноўскага, абараняйце сваю зямлю..* РКП.

Мн. Н. *патомкі* (3): РКП (3). Р. *патомкаў* (2): БС; Т, 35. Д. *патомкам* (3): ГВУ; Чж, 146; МІ, 18.

**ПАТОМСТВА** *н.* Людзі будучых пакаленняў. [Мікіта]: *І наша патомства калісь занатуе .. нашы іменні на залатой дошцы.* Т, 49.

Адз. Н. *патомства*: Т, 49.

**[ПАТРАБАВАЦЦА]** (3) *незак.* **1.** Прад'яўляць да каго-н. якія-н. патрабаванні. .. *паступіўшы ў гэтае вучылішча, я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай.* А, 328.

**2.** *зак.* Быць патрэбным. .. *пры над'звычайных здарэньнях, як напрыклад вайна, голад, патрабуюцца і надзвычайные расходы.* ВН. *За 10 год з тэрміналёгічнай камісіі да Акадэміі Навук – гэта размах, на які пры іншым палітычным ладзе патрабаваліся-б не гады, а можа і сотні год.* ГНД.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *патрабуюцца*: ВН. Пр. адз. н. *патрабавалася*: А, 328. Мн. *патрабаваліся*: ГНД.

**[ПАТРАБАВАЦЬ]** (6) *незак.* **1.** Прасіць у катэгарычнай форме, дамагацца чаго-н. – *Так і так, – кажу, – пане рэдактар: боты падзерліся, табакі няма, селядцы дарагія, дык вось патрабую пільна зарабіць якую дытку.* Ан, 18. *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, якія памерлі ў адзін час, ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне.* А, 328.

**2.** Абавязваць да чаго-н. *Вялікую цяпер перэжываем вайну, вялікіх і ахвяр патрабуе яна.* ВН. *Мы ведаем, што вайна, якая-б яна не бы, патрабуе шмат ахвяр..* ВС.

**3.** Мець патрэбу ў чым-н. [Мікіта]: *Пане мусье, можа, патрабуеце маркі?* Т, 35. [Мікіта]: *Мо, шаноўныя мадамы і мусьі, патрабуеце купіць маркі?* Там жа, 43.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *патрабую*: Ан, 18. 3 ас. *патрабуе* (2): ВН; ВС. Мн. 2 ас. *патрабуеце* (2): Т, 35, 43. Пр. адз. м. *патрабаваў*: А, 328.

**[ПАТРАПІЦЬ]** (8) *зак.* Змагчы, здолець зрабіць што-н. [Мікіта]: *Аратар .. заўсёды патрапіць выпутацца з бяды.* Т, 36. *Будучы самі вольнымі, мы* [беларусы] *патрапім ацаніць волю другіх..* БСУ.

Абв. пр. адз. м. *патрапіў*: Ч, 323. Буд. адз. 1 ас. *патраплю* (2): Т, 54, 55. 3 ас. *патрапіць*: Т, 36. Мн. 1 ас. *патрапім*: БСУ. 2 ас. *патрапіце*: Т, 55. 3 ас. *патрапяць*: СНБ; *патрапюць*: БСУ.

**ПАТРАСАЦЬ** (3) *незак. Руск.* **1.** *перан.* Хістаць, узварушваць. *Патрасала* [судзьбіна] *пасады, скідала кароны..* Ч, 322.

**2.** Размахваць чым-н. [Спічыні]: *Правая рука застаецца свабоднай – гэта, каб.. можна было, заціснуўшы кулак, патрасаць ёю над аўдыторыяй.* Т, 40. [Спічыні]: .. *пад канец бухаеце грамабойным*

*голасам і, разумеецца, на чым свет, патрасаеце кулакамі.* Там жа, 40.

Інф. *патрасаць*: Т, 40. Абв. цяп. мн. 2 ас. *патрасаеце*: Т, 40. Пр. адз. ж. *патрасала*: Ч, 322.

**ПАТРОСШЫ** *дзеепрысл. да* патрасаць *у* 2 *знач.* [Абарванец]: *(патросшы кулаком, набок) Пачакай!* Т, 43.

**ПАТРОХУ** *прысл.* **Аб усім патроху.**

**[ПАТРУЛЬ]** (5) *м.* Невялікая група ад вайсковага падраздзялення для нагляду за парадкам. *Начальнік патруля.* Т, 19.

Адз. Р. *патруля* (5): Т, 19, 59 (3), 60.

**ПАТРУЛЬНЫ** (6) *прым. У знач. наз.* Пра чалавека, які мае адносіны да патруля. *Патрульны робіць рэвізію.* Т, 61. [Начальнік]: *(да Патрульнага). Зрабеце рэвізію кішэняў гэтага грамадзяніна.* Там жа, 61.

Адз. м. Н. *патрульны*: Т, 61. Р. *патрульнага*: Т, 61. Мн. Р. *патрульных* (3): Т, 19, 59 (2). Д. *патрульным*: Т, 61.

**[ПАТРЫМАЦЬ]** *зак. да* трымаць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: *Меджду протчым, мадам-сіньёра, патрымайце пісталеты.* Т, 59.

Заг. мн. 2 ас. *патрымайце*: Т, 59.

**ПАТРЫЁТ** (2) *м. Руск.* Той, хто любіць сваю радзіму, свой народ і гатовы для іх на подзвігі. [Мікіта]: *Як ісцы рускі патрыот, я змушаны пакуль што стаяць тут на варце сваіх рангавых і руска-ісціных інтарэсаў.* Т, 37. // *У параўн., іран.* [Янка]: *Яны* [госці], *як праўдзівыя патрыоты, з "царскімі"* [грашымі] *не разлучаюцца.* Т, 38.

Адз. Н. *патрыот*: Т, 37. Мн. Н. *патрыоты*: Т, 38.

**[ПАТРЭБА]** (6) *ж.* Неабходнасць чаго-н., патрэбнасць. *Яна* [беларуская моладзь] *інстынктыўна, обмацкам даходзіла да тэй свядомасці аб патрэбе свайго беларускага войска.* БВ, 16. *Абярнуўбы* [чараўнік] *сялібныя ў полым абшары, І сьвет цэлы спаліў-бы ў патрэбе.* Ч, 324.

Адз. Р. *патрэбы*: ОШМ. М. *патрэбе* (3): БВ, 16; ЕЯ; Ч, 324. Мн. Д. *патрэбам*: Ч, 325. В. *патрэбы*: УПУВ.

**ПАТРЭБНА** *безас. У знач. вык. Тое што* патрэбна [Наста]: *(да Янкі) Вельмі цікава з вамі пазнаёміцца! Нам такіх як найболей патрэбна.* Т, 23.

**ПАТРЭБНЕЙ** *прым. Пар. ст. да* патрэбны. *У знач. вык.* [Янка]: *Там, на вёсцы, я патрэбней, чымся тут, а да таго – не люблю я гораду: вельмі ўжо у ім цяжкае паветра.* Т, 21.

Адз. м. Н. *патрэбней*: Т, 21.

**[ПАТРЭБНЫ]** (13) *прым.* Неабходны, такі, што патрабуецца. *.. Поліграфаддзел ня мог ці не хацеў даць патрэбную колькасьць шрыфтаў і наборшчыкаў..* ВСп, 91. *Гэтым Баця сцягвае патрэбныя яму абаротныя сродкі..* ПЧ.

Адз. ж. Р. *патрэбнай*: ШБСЯ. В. *патрэбную*: ВСп, 91. Мн. В. *патрэбныя* (3): ОШМ; ПЧ; Т, 45. М. *патрэбных*: Т, 40. Кар. адз. м. Н. *патрэбен* (2): ПЧ; Т, 62. ж. Н. *патрэбна*: ЗС, 18. н. Н. *патрэбна* (3): Т, 21, 23, 54. Мн. Н. *патрэбны*: Т, 42.

**ПА-ТРЭЦЯЕ** *пабочн*. Ужываецца для абазначэння трэцяга пункту пры пералічэнні. [Мікіта]: *Па-першае: на службу і са службы важу патрэбныя сабе афіцыяльныя, меджду протчым, паперы; па-другое: важу .. коопэрацыйны тавар і іншае; па-трэцяе: .. рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена..* Т, 45.

**ПАТУПІЎШЫ** *дзеепрысл. да* патупляць. Апусціўшы ўніз (вочы). *Патупіўшы вочы, я ўзняўся за клямку, каб выйсці.* Ан, 19.

**[ПАТУРАЦЬ]** *незак*. Паблажліва, нястрога адносіцца да каго-, чаго-н., рабіць паблажку каму-, чаму-н. – *Хэ-хэ! – патурае яму расійскі чыноўнік, прыдыбаўшы сюды у дзюравых атопках шукаць карьеры..* З.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *патурае*: З.

**ПА-ТУТЭЙШАМУ** (2) *прысл*. Па-мясцоваму. [Мікіта]: *Але, мабыць, гэта мне здаецца, або ён* [немец] *удае, што ўмее па-тутэйшаму.* Т, 32. [Янка]: *Але чаму б вам* [Мікіце] *.. не стацца тым, чым вы самдзеле ёсць: Мікіта Зносак – і мілагучна і па-тутэйшаму..* Там жа, 48.

**[ПАТУХНУЦЬ]** (2) *зак*. **1.** Перастаць гарэць, свяціць. *Замоўк разгул, агонь патух, старое згасла папялішчэ.* Кц, 197.

**2.** *перан*. Знікнуць, знаснуць. *Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы радасны дзень змучанага аграбленага нашага народу.* ПЛП.

Абв. пр. адз. м. *патух*: Кц, 197. Буд. мн. 3 ас. *патухнуць*: ПЛП.

**[ПАТУХШЫ]** *дзеепрысл. зал. пр. да* патухнуць. *перан*. Спустошаны, змучаны. *За сабою валочыць* [чараўнік] *патухшыя душы, Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы..* Ч, 325.

Мн. В. *патухшыя*: Ч, 325.

**[ПАТЫЛІЦА]** *ж.*: ◊ **Церабіць патыліцу** *гл.* церабіць.

Адз. В. *патыліцу*: З.

**[ПАЎВЯКОВЫ]** *прым*. Які працягваецца паўвека, пяцьдзесят гадоў. .. *"Сокі Цаліны" Цішкі Гартнага і "Дудка Беларуская" і "Смык Беларускі", якія, пасьля болей як паўвяковага працягу часу, першы раз надрукаваны "гражданкай"..* ВСп, 89.

Адз. м. Р. *паўвяковага*: ВСп, 89.

**[ПАЎДАРОГІ]** *ж.* ◊ **На паўдарозе затрымацца** *гл.* затрымацца.

Адз. М. *паўдарозе*: ГНД.

**ПАЎДНЯВЫ** *прым*. Які дзьме з поўдня. .. *цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын..* ХБ, 29.

Адз. м. Н. *паўднявы*: ХБ, 29.

**[ПАЎЕЖДЖАЦЬ]** *зак., перан.* Увайсці ў што-н. сыпучае; асесці. *Стаиць* [Слабода] *у нейким балоци; будынки пападгнивали, ў зямлю паўежджали..* ХЛБ.

Абв. пр. мн. *паўежджали*: ХЛБ.

**ПАЎЗА** (18) *ж.* Перапынак у гаворцы. [Янка]: *Э! Ліха перамелецца і мука будзе. (Паўза). А мы вось з Аленкай сумысля зайшліся, цётачка, да вас..* Т, 53. [Гануля]: *(углядаючыся ў вакно, пасля паўзы). Здаецца, ужо пачынаецца.* [Мікіта]: *(устрывожаны) Што пачынаецца?* Там жа, 58.

Адз. Н. *паўза* (15): Т, 19, 22, 26, 27, 28, 29, 30, 32, 34, 38, 42, 43, 44, 52, 63. Р. *паўзы* (3): Т, 35, 58, 62.

**[ПАЎЗЦІ]** (5) *незак.* **1.** Перамяшчацца па паверхні. *Здань за зданьню паўзе; кожна здань – як зьмяя, Там прэцца уверх, тая цісьнецца к дну.* БН, 92.

**2.** *перан*. Распаўсюджвацца, перадавацца (пра з'яву, падзею). *З кашмарамі спадчыны няудачнага мінулага паузе у пары паганы забабон і хіхікае з-за вугла і ў вочы..* З. *З-пад ног, з утоптанай нары Паўзе ўжо збэшчаны павук І ў сто, у сто кагцістых рук Хапае вас, рабы-цары..* ПВ.

◊ **Брысці, паўзці ў свет** *гл.* брысці.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *паўзе* (3): БН, 92; 3; ПВ. Мн. 1 ас. *паўзём*: Бч, 9. 3 ас. *паўзуць*: Кц, 192.

**ПАЎМІЛЬЁНА** *м*. Палавіна мільёна. *Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла.* АБ, 16.

Адз. Н. *паўмільёна*: АБ, 16.

**[ПАЎМІНУТНЫ]** *прым*. Які працягваецца паўмінуты. *Пасля паўмінутнай паўзы, пад сціхаючыя гукі песні, паволі апускаецца заслона.* Т, 62.

Адз. ж. Р. *паўмінутнай*: Т, 62.

**[ПАЎНАЛЕТКА]** *м. Разм.* Паўналетні; дарослы. *З кійком жабрачым там мы, паўналеткі, Брыдзём, паўзём у свет – скрозь неўпапад..* Бч, 9.

Мн. Н. *паўналеткі*: Бч, 9.

**[ПАЎ-МЕНСКУ]** *м.* Палавіна Мінска. [Гарошка]: *Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску – як у шабас, усе крамы пазачыняны.* Т, 39.

Адз. Р. *паў-Менску*: Т, 39.

**ПАЎНАПРАЎНЫ** *прым.* Які мае ўсе правы. [Мікіта]: *А ў гэтым карапузіку важнейшыя дакуманты: .. дамкому, у якім я паўнапраўны сакратар:..* Т, 46.

Адз. м. Н. *паўнапраўны*: Т, 46.

**[ПАЎНОЧНЫ]** (2) *прым.* Які мае адносіны да поўначы; размешчаны, знаходзіцца на поўначы. *Такі край, як паўночная палавіна*

*Меншчыны, мог-бы пры падмозе чалавека абярнуцца ў адзін з найпрыгажэйшыя краёў..* ХБ, 29.

• **Паўночнае зіяньне** *гл.* зіяньне.

Адз. ж. Н. *паўночная*: ХБ, 29. н. Р. *паўночнага*: З.

**[ПАЎСТАВАНЬНЕ]** *н. Разм. Тое, што* паўстанне. *У апошніе годы політычные перамены ў Эўропе, упадкі і паўставаньні малых і вялікіх дзяржаваў праходзілі і праходзяць перад нашымі вачыма, як у калейдаскопе.* СНБ.

Мн. Н. *паўставаньні*: СНБ.

**ПАЎСТАВАЦЬ** (2) *незак.* Выступаць супроць чаго-н. [Янка]: *Мы* [беларусы] *як бы пачынаем ужо адплюшчваць вочы і паўставаць проці тэй паганай маны, што мы не ёсць мы.* Т, 35. *Акрыляў* [брат другі] *сам самога асілкавай славай, Паўставаў проць хапанага клубам.* Ч, 324.

Інф. *паўставаць*: Т, 35. Абв. пр. адз. м. *паўставаў*: Ч, 324.

**[ПАЎСТАНЕЦ]** *м.* Удзельнік паўстання. *Родныя мае, яснавокія багатыры! .. патомкі бясстрашных паўстанцаў Каліноўскага, абараняйце сваю зямлю..* РКП.

Мн. Р. *паўстанцаў*: РКП.

**ПАЎСТАННЕ** і **[ПАЎСТАНЬНЕ]** *н.* Масавае ўзброенае выступленне супроць пануючых класаў у абарону класавых, нацыянальных, дзяржаўных інтарэсаў. [Янка]: *Ды скажэце* [Мікіта]*, калі ласка, каму і нашто патрэбна гэта ваша .. паўстанне?* Т, 21. *Як-жа можа беларускі народ хіліцца да Польшчы, калі ён бачыць у ей таго* [пана] *.. проці каторага ён падняў паўстаньне у часе рэволюцыі.* ОШМ. *Параўн.* паўставаньне.

Адз. Н. *паўстанне*: Т, 21. В. *паўстаньне*: ОШМ.

**[ПАЎСТАЦЬ]** (21) *зак.* **1.** Узняцца на барацьбу. *К жыцьцю новаму клікі пачуліся; Ўсе народы паўсталі на бітву за права сваё.* Б, 18. *Супроць банд фашысцкіх, пагромаў, пажараў Народ беларускі паўстане з табой* [дэпутатам]. НДп, 229.

**2.** Адрадзіцца, адбудавацца. *Дзе вечная пустка была, Там горад паўстаў і расце..* ТП, 215. *Паўстала радзіма, замок Няволі зламала навек, Надзела з пралесак вянок І слёзы сагнала з павек.* ТП, 214.

**3.** З'явіцца, узнікнуць. *Паглядзім, што зробіць у гэтай справе "Белтрэстдрук", які паўстаў ад жаніцьбы Госиздата з Поліграфам.* ВСп, 91. *Паўстань з народу нашага пясняр, Былых і будучых вякоў баян..* Пт.

**Паўстаў народ. Паўстань ...**

Абв. пр. адз. м. *паўстаў* (5): ВСп, 91; ПНд, 314 (3); ТП, 215. ж. *паўстала* (3): БВ, 16; ТП, 214 (2). Мн. *паўсталі* (2): Б, 18; ПНд, 314. Буд. адз. 3 ас. *паўстане*: НДп, 229. Мн. 1 ас. *паўстанем*: УрП, 48. 3 ас. *паўстануць*: ПБН. Заг. адз. 2 ас. *паўстань* (8): Бч, 9; Пт (6); УрП, 48.

**[ПАЎСТАЮЧЫ]** (5) *дзеепрым. незал. цяп. да* паўстаць. **1.** *Дзеепрым. да* паўстаць *у* 1 *знач. Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі..* ЗС, 17. *.. небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі.* БВ, 17.

**2.** *Дзеепрым. да* паўстаць *у* 3 *знач. Чэсць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай стрэхі!* MI, 18.

Адз. ж. Н. *паўстаючая*: MI, 18. Р. *паўстаючай* (4): БВ, 17; З; ЗС, 17; Т, 35.

**ПАЎТАРА** *м. ліч.* Адзін з палавінай. [Мікіта]: *Далей ідуць .. пайкі: .. паўтара фунта з асьмушкай круп, два фунты з чвэрткай гароху..* Т, 46.

Адз. Н. *паўтара*: Т, 46.

**[ПАЎТАРАЦЬ]** (4) *незак.* Казаць або рабіць яшчэ раз тое самае. *Я паўтараю вотклік песняў, Што прадзед з ветрамі складаў..* БрБ, 6. *Але, паўтараем, гэта сіла маладая, сіла будучыны.* ВМР.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *паўтараю*: БрБ, 6. 3 ас. *паўтарае*: Т, 44. Мн. 1 ас. *паўтараем* (2): ВМР; ОШМ.

**ПАЎТАРЫЦЬ** (6) *зак. да* паўтараць. [Мікіта]: *Страшэнна .. адпаведная хвіліна, каб паўтарыць мамзэль Насце сваю адвечную пропозыцыю.* Т, 42. // Аднавіць у памяці раней завучанае. [Спічыні]: *Учора мы збольшага прайшлі аддзел прывітанняў, сягоння павінны іх паўтарыць болей стала.* Т, 31. [Спічыні]: *Паўторым тое, што пачалі. Як будзе: сабачая твая кроў?* Там жа, 49.

Інф. *паўтарыць* (3): Т, 31, 42, 51. Абв. буд. мн. 1 ас. *паўторым* (2): Т, 49, 51. Заг. мн. 2 ас. *паўтарэце*: Т, 31.

**[ПАЎЦАНЫ]** (45) *ж.* Палавіна цаны; цана, ніжэйшая за звычайную. [Мікіта]: *.. кожны падумае, што ў вас* [Ганулі] *зусім дрэнны тавар, якога і за паўцаны не варта купляць.* Т, 34. [Гануля]: *Панечка, купеце ў мяне пацеркі .. – усё за паўцаны аддам, ўсё за паўцаны.* Там жа, 34.

Адз. В. *паўцаны* (5): Т, 34 (5).

**ПАЎЦІНА** *гл.* **ПАВУЦІНА.**

**ПАЎЧВЭРЦІ** *ж. Разм.* Палавіна чвэрці. [Мікіта]: *Далей ідуць .. пайкі: сем фунтаў адборнай атрубянай мукі, .. паўчвэрці фунта і два лоты солі..* Т, 46.

Адз. Н. *паўчвэрці*: Т, 46.

**[ПАХ]** *м. перан.* Бальшавізм. [Мікіта]: *Апрача таго, здаецца, што ад нашага кватаранта бальшавіцкім духам пахне, а мне ад гэтага паху ў носе круціць.* Т, 22.

Адз. Р. *паху*: Т, 22.

**[ПАХА]** *ж.*: ◊ **Лахі пад пахі** *гл.* лахі.

Мн. В. *пахі*: Т, 30.

**[ПАХАВАННЕ]** (2) *н.* Абрад, цырымонія хавання нябожчыка. *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, якія памерлі ў адзін час, ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне.* А, 328. *На пахаванні я* [Купала] *пазнаў усю хцівасць ксяндзоў.* Там жа, 328.

Адз. В. *пахаванне*: А, 328 М. *пахаванні*: А, 328.

**ПАХАВАЦЬ** (7) *зак.* **1.** *Зак. да* хаваць². *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, якія памерлі у адзін час, ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне.* А, 328.

**2.** *перан.* Забыць, адмовіцца ад чаго-н. *Пахавалі гора, Гора ды няволю, Як пайшлі з табою Па шырокім полю.* ПТ, 206. [Ганулля]: *Гэтыя вайна ды бязладдзе .. пахавалі тыя хвіліны, калі людзі маглі думаць і аб падарунках.* Т, 20.

Інф. *пахаваць*: А, 328. Абв. пр. мн. *пахавалі* (6): ПТ, 206 (2), 207 (2), 208; Т, 20.

**[ПАХАДЖВАЦЬ]** *незак., перан.* Ціха ездзіць. *Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся "лапцюжнік" над "крывуляй" сахой, – важна пахаджваюць тысячы трактароў..* ШБСЯ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *пахаджваюць*: ШБСЯ.

**[ПАХАНЬ]** *ж. Нават.* Ворыва. *Ўзніме чорную скібу саха працавітая, Ляжа ўсходнае зерне у пахань сырую..* ТС, 74.

Адз. В. *пахань*: ТС, 74.

**[ПАХАРОННЫ]** *прым. Руск.* Пахавальны. *Царства няволі, турмаў, пахаронных званоў – царства, якое называлася жандармам Еўропы.* ДЖ.

Мн. Р. *пахаронных*: ДЖ.

**ПАХВАЛІЦЦА** (3) *зак. да* хваліцца. *Я хрысціянін, не паганін, Стварыў вобчаства"Крестьянин". Сам Дубровінка-нябожа Пахваліцца гэткім можа.* ЛПК. [Янка]: *І маем чым пахваліцца. Дык слухайце ўважліва, цётачка, рыхтуйцеся віншаваць: Я, настаўнік, Янка Здольнік...* Т, 53.

Інф. *пахваліцца* (3): ЛПК; Т, 53 (2).

**[ПАХЛОПАЦЬ]** *зак.* Хлопнуць некалькі разоў. *Рэдактар пахлопаў мяне* [аўтара] *па плячы і выйшаў.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *пахлопаў*: Ан, 19.

**[ПАХМУРНЫ]** *прым., перан.* Непагодлівы, змрочны. *Паглёд паважны і пахмурны На час адзела старана.* УрП, 52.

Адз. м. В. *пахмурны*: УрП, 52.

**[ПАХНУЦЬ]** (4) *незак.* **1.** Вылучаць, распаўсюджваць пах. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, .. Калі скрозь пшаніцаю Пахне над далінамі...* ПЛ. *Травы пахнуць кветкамі.* Там жа. // *Вобразн. Кветкі пахнуць зорамі, Зоры над палеткамі – Лесам і азёрамі* [пахнуць]. ПЛ.

**2.** *перан. Разм.* Мець прыкметы або рысы чаго-н. [Мікіта]: *Апрача таго, здаецца, што ад нашага кватаранта бальшавіцкім духам пахне..* Т, 22.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пахне* (2): ПЛ; Т, 22. Мн. 3 ас. *пахнуць* (2): ПЛ (2):

**[ПАХОД]** (16) *м.* **1.** Перамяшчэнне якога-н. арганізаванага атрада з пэўнай мэтай. *Войска Усяслава Не ідзе ў паход На той бой крывавы За свой край, народ.* МД. *І пайшло ў паходні войска Полем, лугам, борам, А байцоў, як зор на небе, Як пясчын у моры!* ЗЯЗ, 90.

**2.** *перан.* Арганізаваныя дзеянні, накіраваныя на дасягненне якіх-н. мэт. *І тые і гэтые* [дзяржавы] *ў сваім мілітарна-імпэрыялістычным паходзе стараюцца сьцерці па дарозе ўсё, што ім стаіць на перашкодзе дзеле дасьціжэньня сваіх мэт.* СНБ. *Вы* [паны] *ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сцiралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе..* Тж, 16.

**3.** *перан.* Працяканне, бег (пра час). *Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі ў самасейным паходзе сталецьцяў..* Ч, 322.

Адз. В. *паход* (4): ВБ; ЕЯ; МД; ПБН. Т. *паходам*: ПСД. М. *паходзе* (7): ГНД; НДН, 18; СНБ (2); Т, 35; Тж, 16; Ч, 322. Мн. Р. *паходаў*: ЗЯЗ, 90. В. *паходы* (3): ЗЯЗ, 90; НДп, 229; НК.

**[ПАХОДЗІЦЬ]** *незак.* Належаць па нараджэнню да якога-н. класа, саслоўя. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны, паходзіць з дробных засцянковых арандатараў..* А, 327.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *паходзіць*: А, 327.

**ПАХОДНЯ** (6) *ж. Польск.* Факел, факельнае шэсце. *Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй, – Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць..* Ж. *Пара у ракі браць паходні, Уставаць, ісьці, ноч разсьветляець!* ПБП.

**Пара у рукі браць паходні...**

Адз. Н. *паходня* (2): Ж; Кц, 196. Мн. Н. *паходні*: ТП, 215. Р. *паходняў*: Т, 35. В. *паходні* (2): ПБП (2).

**[ПАХУЧЫ]** *прым.* Духмяны. *Літва і Беларусь спрадвеку славяцца багаццем пахучага мёду.* ХБ, 30.

Адз. м. Р. *пахучага*: ХБ, 30.

**[ПАЦАЛАВАЦЬ]** (2) *зак. да* цалаваць. *Рэдактар пацалаваў мяне, надрукаваў, а я з радасці падскаківаў.* Ан, 19. *Ў канцы узяў* [рэдактар] *пяро, набожна пацалаваў крыж..* ЧЧШ.

Абв. пр. адз. м. *пацалаваў* (2): Ан, 19; ЧЧШ.

**[ПАЦВЕРДЗІЦЬ]** і **[ПАЦЬВЕРДЗІЦЬ]** *зак.* Прызнаць правільнасць чаго-н. *Засядзе народ у Крэмлі Кліч кінуць на цэлы бел-свет, Пацвердзіць для роднай зямлі Свой сталінскі вечны завет.* ТП, 217. *Гэта можа пацьвердзіць хоць-бы нацыянальна-культурная палітыка..* ГНД.

Абв. буд. адз. 3 ас. *пацвердзіць*: ТП, 217; *пацьвердзіць*: ГНД.

**[ПАЦЕРКА]** (2) *ж.* Караля. *Ён* [Даніла] *вязе ўсім падарункі: Маці срэбны абраз, А сваёй дзяўчыне мілай Доўгі пацерак звяз.* ПСД. [Гануля]: *Панечка, купеце ў мяне пацеркі, а можа, дамскі нэсэсэр, а можа, во гэта?* Т, 34.

Мн. Р. *пацерак*: ПСД. В. *пацеркі*: Т, 34.

**[ПАЦЕХА]** (6) *ж.* Забава, забаўка, весялосць. *Гадавала* [маці] *дзетак І чэкала з іх пацехі, Як вясною з кветак.* Дз, 188. *І мілай пацехай зазьяла І доля і слава людзкая..* Кр, 77.

Адз. Р. *пацехі* (2): Дз, 188; НГ. В. *пацеху* (2): ЕЯП; См, 90. Т. *пацехай* (2): Кр, 77; Пц.

**[ПАЦЕЦЬ]** *незак., перан.* Затрачваць на што-н. многа працы. [Мікіта]: *На якую ж халеру пацеў я столькі над шпрэхэндэйчам, калі яны* [немцы] *па-нашаму лепей ад нас саміх шпрэхаюць?* Т, 32.

Абв. пр. адз. м. *пацеў*: Т, 32.

**[ПАЦІСНУЦЦА]** *зак.* Пасунуцца, наблізіцца да каго-н. *А як чапнуў* [ганец] *стралой аб лук, Яны* [людзі] *скрануліся ў прасонні, І столькі, столькі крэпкіх рук К маёй паціснуліся броні.* Кц, 195.

Абв. пр. мн. *паціснуліся*: Кц, 195.

**[ПАЦІСНУЦЬ]** *зак.* Сціснуць (руку) у знак удзячнасці. *Ігнат Булава з падзякай паціснуў ім* [падрыўнікам] *руку.* ПСп.

Абв. пр. адз. м. *паціснуў*: ПСп.

**ПАЦІХУ** (3) *прысл.* **1.** Нягучна, ціха. *Ты гадуй сынка, матуля,У пялёнкі спавівай, Калышы, пей люлі-люлі, Пей паціху баю-бай!* М, 19. // Асцярожна, без шуму. *Аўтарнік тайную малітву Паціху над людзьмі тварыў..* УрП, 51.

**2.** Павольна, не спяшаючыся. *Паціху* [падыйдзі мужык]... *не бойцеся – пойдзе усё гладка, – Крый, Божа, якога прымуса.* Р.

**ПА-ЦЫВІЛЬНАМУ** *прысл.* Як грамадзянін. *Поп ізноў падтыкае полы, каб выглядаць па-цывільнаму.* Т, 29.

**ПАЦЬВЕРДЗІЦЬ** *гл.* **ПАЦВЕРДЗІЦЬ.**

**ПАЦЯГНУЦЬ** (2) *зак. да* цягнуць *у* 1 *знач.* [Янка]: .. *асабліва павінна яго* [Мікіту] *пацягнуць туды, адкуль прышоў, – на вёску, дзе столькі поля някратанага ляжыць. І мне здаецца, што яго туды пацягне.* Т, 20 (2).

Інф. *пацягнуць*: Т, 20. Абв. буд. адз. 3 ас. *пацягне*: Т, 20.

**[ПАЦЯЧЫ]** *зак. перан.* Пачаць праходзіць (пра жыццё). *Крыніцы жыцьця пацякуць сваім спрадвеку вызначаным справядлівым парадкам.* СНБ.

Абв. буд. мн. 2 ас. *пацякуць*: СНБ.

**[ПАЦЯЧЫ-РАЗЛІЦЦА]** *зак., перан.* Распаўсюдзіцца ва ўсе бакі. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з кагласа ў калгас пацёк-разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме.* СТ.

Абв. пр. адз. м. *пацёк-разліўся:* СТ.

**ПАЧАКАЦЬ** (6) *зак.* **1.** *Зак. да* чакаць *у* 1 *знач.* [Аленка]: *Здаецца, мы згаварыліся тут пачакаць на татку?* Т, 35.

**2.** *Зак. да* чакаць *у* 2 *знач. Што-ж такое, – пачакаю* [Ганулька], *Пакуль большай стану.* Вб, 236. [Наста]: *Хапун вас не схопіць, мусье Нікіці, калі яшчэ крыху пачакаеце на мае рукі і на маё сэрца.* Т, 42..

**3.** *У знач. выкл.* Ужываецца як перасцярога, пагроза. [Абарванец]: *(патросшы кулаком, набок) Пачакай! Заўтра ты* [Мікіта] *ў мяне йначай запяеш!* Т, 43.

**4.** *Зак. да* чакаць *у* 5 *знач.* [Гануля]: *Пачакай* [Мікіта]. *А мамачкі ж мае. Завярнуліся сюды да нас.* Т, 59. [Мікіта]: *Пачакайце! А трофэі таксама забраць?* 53.

Інф. *пачакаць*: Т, 35. Абв. буд. адз. 1 ас. *пачакаю*: Вб, 236. Мн. 2 ас. *пачакаеце*: Т, 42. Заг. адз. 2 ас. *пачакай* (2): Т, 43, 59. 2 ас. *пачакайце*: Т, 53.

**ПА-ЧАЛАВЕЦКУ** *прысл.* Гуманна, чалавечна. [Мікіта]: *Можа чалавек, а можа, і не, бо з нашымі рангамі і клясамі абходзіцца* [бальшавік] *зусім не па-чалавецку.* Т, 22.

**ПАЧАСТАВАЦЬ** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* частаваць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: .. *хацелася б дастойна пачаставаць і павесяліць высокіх пэрсон.* Т, 51.

**2.** *Зак. да* частаваць *у* 2 *знач. Гэй, выходзь, бяда, Гэй, выходзь, хто нам – Непрыяцель-вораг; Пачастуем так, Што папомніш век, Ды сатром на порах.* ВБ.

Інф. *пачаставаць*: Т, 51. Абв. буд. мн. 1 ас. *пачастуем*: ВБ.

**[ПАЧАСТУНАК]** *м.* Ежа, пітво, якімі частуюць каго-н. [Мікіта]: *Значыцца, пачынаем ад пачастунку.* Т, 51.

Адз. Р. *пачастунку*: Т, 51.

**ПАЧАТАК** (11) *м.* Першы момант якога-н. дзеяння, працэсу. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ..* ВСп, 89. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ.

**2.** *перан.* Зачаткі. *Вашым* [чужым] *патомкам нашые маткі Казкі складалі: Ў сэрцах дзіцячых праўдаў пачаткі Сеў засявалі.* Чж, 146.

**На пачатку лета.**

◊ **Без канца й пачатку** *гл.* канец.

Адз. Н. *пачатак*: СБНГ. Р. *пачатку* (5): БН, 93; ВСп, 89, 3; НГд, 8; СМ. Т. *пачаткам* (2): ПЧ (2). М. *пачатку* (2): ПЛ; Т, 52. Мн. В. *пачаткі*: Чж, 146.

**[ПАЧАТКОВЫ]** *прым.* Дадзены не ў поўным аб'ёме. .. ["Мэтодыка арытметыкі" Лукашэвіча і Валасковіча] *павінна стацца*

*незамененай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытметыку.* ВСп, 89.

Адз. ж. В. *пачатковую*: ВСп, 89.

**ПАЧАЎШЫ** *дзеепрысл. да* пачаць. *Але, пачаўшы з 1908 г.. у часы самае чорнае рэакцы, працаваць у "Нашай Ніве", я* [Купала] *падпаў пад уплыў.. адраджанізму..* АЛ.

**[ПАЧАЦЦА]** (13) *зак. да* пачынацца *ў* 1 *знач. Суд і расправа пачалася Над тым прарокам прыблудным.* УрП, 52 [Мікіта]: *Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады..* Т, 24. // Наступіць, настаць. *Пачалася на Беларусі бальшавіцкая гаспадарка.* СНБ, 338. *8 жніўня палякі ўвайшлі ў Менск, і для Беларусі пачалася новая эра.* Там жа, 340.

Абв. пр. адз. м. *пачаўся*: ВР. ж. *пачалася* (6): А, 328; БВ, 16; ВР; СНБ, 338, 340; УрП, 52. н. *пачалося* (3): ПДз; Т, 43 (2). Буд адз. 3 ас. *пачнецца*: Т, 39. Мн. 3 ас. *пачнуцца* (2): Т, 21, 24.

**[ПАЧАЦЬ]** (25) *зак. да* пачынаць *у* 1 *знач. Рада пачала працаваць, адкрываць школы, і думаць, што палякі, то гэта не бальшавікі.* СНБ. *Пастаўленые намі (як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое разводзіць, што нам цяжка было дыхаць.* БС.

Абв. пр. адз. м. *пачаў* (6): Ан, 19 (2); АЛ; ДЖ; ЖН; ПС. ж. *пачала* (4): БВ, 16; Нз, 14; СНБ (2). н. *пачало*: Нз, 14. Мн. *пачалі* (12): БС; Нз, 14; ПДз; СНБ, 339, 340; СНБ (2); Т, 49 (2), 55, 58; Тж, 15. Буд. адз. 3 ас. *пачне*: СНБ, 340. Мн. 1 ас. *пачнём*: Т, 32.

**[ПАЧТОВЫ]** *прым. Руск.* Паштовы. *.. на некаторые рэчы падвышэны у нас да канца вайны акцыз, як напр. на табаку, падвышана пачтовая аплата і інш.* ВН.

Адз. ж. Н. *пачтовая*: ВН.

**[ПАЧУВАНЬНЕ]** *н. Разм.* Пачуццё, адчуванне. *Праўда, да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі..* ХБ, 29.

Мн. Р. *пачуваньняў*: ХБ, 29.

**[ПАЧУВАЦЬ]** *незак. Разм.* Адчуваць. *Першыя маюць рэяльную сілу, а другія пачуваюць сябе успамінкамі прамінулага панаваньня..* ВМР.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *пачуваюць*: ВМР.

**ПАЧУЎШЫ** *дзеепрысл. да* пачуць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: (*як бы не пачуўшы, да Ганулі) .. трэба хутчэй залю прывесці да чалавечага падабенства.* Т, 50.

**[ПАЧУЦЦА]** (6) *зак.* **1.** Стаць чутным; загучаць. *Тады ізноў пачуўся голас Дажбога вернага слугі..* УрП, 49. *Але вось пачуліся першыя гарматныя, хоць яшчэ і далёкія, стрэлы.* СНБ, 340.

**2.** *Разм*. Адчуць сябе. [Мікіта]: *.. калі я перайшоў на яе* [прафесію гандляра], *то пачуўся, як птушка тая, зусім свабодным.* Т, 36.

[Спраўнік]: *Там* [у штабе акупацыйных войск] *вы* [Мікіта] *пачуецеся, як вольны з вольным.* Там жа, 53.

Абв. пр. адз. м. *пачуўся* (3): ПСп; Т, 36; УрП, 49. Мн. *пачуліся* (2): Б, 18; СНБ, 340. Буд. мн. 2 ас. *пачуецеся*: Т, 53.

**[ПАЧУЦЦЁ]** (3) *н.* **1.** Усведамленне, адчуванне. *Яны* [паны-абшарнікі] *чуюць сваім абшарніцкім пачуццём што .. ўся зямля пяройдзе да тых, хто яе сваімі рукамі арэ і засякае.* ЗС, 17.

**2.** Псіхічны стан чалавека. *З пачуццём найвялікшага гневу я* [Купала] *прачытаў паведамленне ТАСС аб разбойнічым нападзе японскай ваеншчыны на свяшчэнныя граніцы нашай радзімы.* ВГ.

**3.** Праяўленне душэўнага пад'ёму, усхваляванасці. *Мы ўсе згуртаваны адзінаю воляй Адзіным пачуццем, жаданнем адным.* ПБН.

Адз. Т. *пачуццём* (3): ВГ; ЗС, 17; ПБН.

**ПАЧУЦЬ** (13) *зак.* **1.** *Зак. да* чуць[1] *у* 1 *знач. Хто умее слухаць, – можэ Шмат пачуць чаго там; Як прычытвае нябожэ, Бы Лазар пад плотам.* Дз, 187. *Старым і малым такой песьняй запей, – Хоць раз хай аб шчасьці пачуем!* Пр.

**2.** *Зак. да* чуць[1] *у* 2 *знач. Сабралася многа цикавых и вот яны што пачули.* ПДз. *Пачуеш дзіўную аповесць Мінуўшай славы і жыцця, Аб чым згубіў ты* [брат-беларус] *ўжо даўно весць, Блукаючыся без пуцця.* БрБ, 6.

**3.** *Зак. да* чуць[1] *у* 3 *знач. Гэтага ня чуе хіба той, хто наумысьля затыкае вушы, або ня можа пачуць, упіушыся уладай.* ОШМ. *Яны* [царскія сатрапы] *душылі маю* [Купалы] *песню, баяліся, каб яе не пачуў народ.* ГВУ.

**4.** *Зак. да* чуць[1] *у* 4 *знач. Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым, .. Каб кожны пачуў сваю сілу ў плячох..* Пр. *І тут на нашых плячах мы* [беларусы] *пачулі, што маюць і могуць адны і другіе.* СНБ.

Інф. *пачуць* (2): Дз, 187; ОШМ. Абв. пр. адз. м. *пачуў* (2): ГВУ; Пр. Мн. *пачулі* (5): Кц, 194 (2); ПДз; СНБ, 340; СНБ. Буд. адз. 3 ас. *пачуе*: СА, 179. 2 ас. *пачуеш* (2): БрБ, 6 (2). Мн. 1 ас. *пачуем*: Пр.

**[ПАЧЫНАНЬНЕ]** *н.* Пачатая справа. *Адгэтуль незвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў усім пачынаньням і мерапрыемствам савецкай улады.* АЛ.

Мн. Д. *пачынаньням*: АЛ.

**[ПАЧЫНАЦЦА]** (9) *незак.* **1.** Адбывацца, здзяйсняцца. *Пачынаюцца выбары да Мястовай Рады.* ВМР. // Наступаць. *Вясна пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і сьпеву птушак..* ХБ, 29.

**2.** *Тое, што* пачынаць *у* 1 *знач. Пачынаецца танец: Мікіта – з Дамай, Спраўнік – з Настай..* Т, 29. *Пачынаецца танец Ценяў пад музыку шарманкі.* Там жа, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пачынаецца* (7): Кц, 192; Т, 29, 43 (2), 58 (2); ХБ, 29. Мн. 3 ас. *пачынаюцца* (2): ВМР; Т, 52.

**ПАЧЫНАЦЬ** (16) *незак.* **1.** Прыступаць да якога-н. дзеяння, якой-н. справы. .. *ён* [народ] *, страціўшы прытомнасьць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК. *Пачынае* [Мікіта] *кідаць аб зямлю партфелі, апрача партфеля з грашыма.* Т, 50.

**2.** Праяўляць першыя прыкметы якога-н. дзеяння ці стану. *З гэтага бачым, што эндэцкая рэакцыя якобы пачынае браць верх.* СНБ. // Пачынацца (пра з'явы прыроды); прасціраццa. *Край, дзе жыццё я* [Нёман] *сваё пачынаю, Шмат весялей прыглядаўся на свет..* Н.

**3.** Заняцца чым-н. у першую чаргу. [Мікіта]: *Значыцца, пачынаем ад пачастунку.* Т, 51.

Інф. *пачынаць* (3): Т, 20, 27, 40. Абв. цяп. адз. 1 ас. *пачынаю*: Н. 3 ас. *пачынае* (7): ДК; МІ, 17 (2); ОШМ; СНБ; Т, 33, 50. Мн. 1 ас. *пачынаем* (2): Т, 35, 51. 3 ас. *пачынаюць*: ПЧ. Заг. мн. 2 ас. *пачынайце* (2): Т, 40 (2).

**ПАЧЫНАЮЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* пачынаць. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойму і нацыянальнага войска і канчаючы мясцовымі і валаснымі самаўрадамі, – павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці..* НДН, 19. *Гэтак Расія падняволіла сабе .. слабейшыя суседнія народны, пачынаючы ад манголаў .. і канчаючы славянамі..* Там жа, 18.

**ПАЧЫТАЦІ** *незак. Руск.:* ◊ **Чын чына пачытаці** – пра падпарадкаванне каму-н. *У сваясях Налівайка З вернай служкаю нагайкай Сказ даюць сялянскай браці, Як чын чына пачытаці.* НД.

Інф. *пачытаці*: НД.

**[ПАЧЭРПНУЦЬ]** *зак., перан.* Узяць, пераняць. *Ніяк не мог я* [Купала] *пагадніць акружаючае рэальнае жыццё са светам думак, фантазій, якія пачэрпнуў з кніг.* А, 328.

Абв. пр. адз. м. *пачэрпнуў*: А, 328.

**ПАЧЭСНЫ** (2) *прым.* Які робіць гонар каму-н. *На беласьнежны на пасад Усходзе князь, усходзе княжна; За імі слуг пачэсны рад Стаіць задумчыва, суважна.* Кц, 193. *Не адна жанчына зойме сваё пачэснае месца сярод дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР.* ГВУ.

Адз. м. Н. *пачэсны*: Кц, 193. н. В. *пачэснае*: ГВУ.

**[ПАША]** *ж.* Месца, дзе пасецца жывёла; выпас. *На гэтых папарах, Засевах і пашах Сёння гаспадараць Калгаснікі нашы.* КБ.

Мн. М. *пашах*: КБ.

**ПАШАНА** (8) *ж.* Павага, якая аказваецца каму-н. *Наш адказ, наша спачуванне да маці, страціўшай сына, наша пашана да памяці паэта-комуніста як найлепей выказаны былі т. Кальцовым..*

ПЧ. *Ён* [абываталь] *бачыць што беларушчына не у пашане, і гэтага яму досыць, каб не пайсці за ею.* ВМР.

◊ **У пашане мецць** *гл.* мецць.

Адз. Н. *пашана*: ПЧ. Р. *пашаны* (2): НДН, 19; Т, 27. В. *пашану*: ДК. Т. *пашанай* (2): ЛР; ШБСЯ. М. *пашане* (2): ВМР; М, 19.

**ПАШУКАЦЬ** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* шукаць *у* 2 *знач. Брат скаваны не згіне і так: Ён другіх пашукае братоў.* ЧС, 50.

**2.** *Зак. да* шукаць *у* 3 *знач.* .. [беларусы] *прымушаны будуць пашукаць іншага выхаду, іншых супрацоўнікаў.* ОШМ. *Проша здаць ключы майму кіраўнічаму, а самі пашукайце пасады у іншым месцы.* ВМР.

Інф. *пашукаць*: ОШМ. Абв. буд. адз. 1 ас. *пашукаю*: Т, 32. 3 ас. *пашукае*: ЧС, 50. Заг. мн. 2 ас. *пашукайце*: ВМР.

**[ПАШЧАПАЦЬ]** *зак.* Раскалоць на часткі. *Ідзі на ўзгор на камень сядзь, Што пашчапаў пярун на часці..* БрБ, 6.

Абв. пр. адз. м. *пашчапаў:* БрБ, 6.

**[ПАШЫРАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пашырыць. *У знач. прым.* Шырока вядомы. *Мушу ўспомніць тагочасную адну пашыраную чутку, паводле якое польскія "эндэкі" і расійскія "кадэты" ўжо тады падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя – палякам, усходняя – расійцам.* У.

Адз. ж. В. *пашыраную*: У.

**[ПАШЫРАЦЦА]** (3) *незак.* **1.** Павялічвацца ў колькасці. *А такім парадкам апалячываньне беларусоў страшэнне пашыраецца..* ВР.

**2.** Распаўсюджвацца. *Усяго пятнаццаць год вялікая ідэя вызвалення з падняволля Беларусі лунае і пашыраецца сярод многамільённага беларускага грамадзянства.* ПЛП. *Ні адно на свеце адраджэнне народу, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народу.* Там жа.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пашыраецца* (2): ВР; ПЛП. Пр. адз. ж. *пашыралася*: ПЛП.

**[ПАШЫРАЦЬ]** *незак.* Расшырыць кола дзеяння чаго-н. .. *часопісь з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці "Кветка Папараці", каторая сваю чыннасць пашырала на ўвесь Слуцкі павет і навет далей, за яго межы.* МІ, 17.

Абв. пр. адз. ж. *пашырала*: МІ, 17.

**ПАШЫРЫЦЬ** (2) *зак.* **1.** Расшырыць. .. *кожная такая дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель.* НДН, 18.

**2.** *Зак. да* пашырыць. *Правы свае ён* [новы ўрад] *пашырыў на ўсю Беларусь..* СНБ, 337.

Інф. *пашырыць*: НДН, 18. Абв. пр. адз. м. *пашырыў*: СНБ, 337.

**[ПАШЫРЭНЬНЕ]** *н.* Распаўсюджанне. *Сваёй неразумнай захватнай палітыкай яны* [дзяржавы] *зацягіваюць .. пашырэньне на зямлі нясмертных ідэялаў свабоды, роўнасьці і брацтва.* СНБ.

Адз. В. *пашырэньне*: СНБ.

**ПАШЭНЦІЦЦА** (2) *зак. Разм.* Пашанцаваць. *Па аднэй* [сцяжынцы] *пайсці – Не пашэнціцца, Гэй, гэй, не пашэнціцца!* ББ.

Інф. *пашэнціцца* (2): ББ (2).

**[ПАЭЗІЯ]** *ж.* Мастацкая, пераважна вершаваная, творчасць. *Толькі Савецкай уладзе і роднай Камуністычнай партыі я* [Купала] *абавязан росквітам маёй паэзіі.* А, 328.

Адз. Р. *паэзіі*: А, 328.

**[ПАЭМА]** (3) і **[ПОЭМА]** *ж.* Вершаваны твор з апавядальным або лірычным сюжэтам. *Апрача таго, М. Кудзелька даў паэму "Босыя на вогнішчы"..* ВСп, 89. *Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісання хараства нашага краю. А. Міцкевіча ў яго несьмяротнай паэме "Пан Тадэуш"?* ХБ, 27.

**Урывак з поэмы.**

Адз. Р. *паэмы*: ВСп, 89; *поэмы*: УрП, 46. В. *паэму*: ВСп, 89. М. *паэме*: ХБ, 27.

**ПАЭТ** (21) і *руск.* **[ПОЭТ]** (4), *разм.* **ПАЭТА** (2) і *руск.* **ПОЭТА** *м.* Аўтар вершаваных паэтычных твораў. *Брат, поэт! І ты тут – як быллё, ў ланцугох... Дзе свабодны твой дух, што ня рвеш ты кайдан?* БН, 92. *Я* [Купала]*.., як народны поэта, не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем заветных летуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ. *Такі мае абраз нашая старонка ў вачах вялікага паэты.* ХБ, 28. *Гэтым павінно заняцца само грамадзянство у асобах сваіх ідэёвых прадстаўнікоў – поэтаў і композытараў.* СБНГ.

**Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца. Прамова народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы на ўрачыстым юбілейным сходзе 11 снежня 1935 года. Паэт аб сабе. Што было сном, тое стала явай. Пісьмо народнага паэта БССР Янкі Купалы.**

Δ **Паэт-комуніст:** *Яе* [жанчыны] *сын – паэт-комуніст.* ПЧ. *..наша пашана да памяці паэта-комуніста як найлепей выказаны былі т. Кальцовым..* Там жа.

Адз. Н. *паэт* (7) ГВУ; МП (2); НКУС; ПГ; ПС; ПЧ; *поэт*: БН 92; *поэта*: АЛ. Р. *паэта* (8): ДЖ; ДПЛС; ЖН (3); ПП; ПЧ; ШБСЯ; *поэта*: АЛ; *паэты* (2): АЛ; ХБ, 28. Д. *паэту* (2): ЖН; МП. Т. *паэтам*: ПЧ. Мн. Н. *паэты*: ХБ, 27; *поэты*: СБНГ. Р. *паэтаў* (2): ВГР; ПЧ; *поэтаў*: СБНГ.

**[ПАЭТЫЧНЫ]** (2) *прым.* Які адносіцца да паэзіі. *Дык вось хто, бадай, быў маім* [Купалы] *першым настаўнікам, хутчэй натхніцелем*

*у дачыненні да маёй паэтычнай творчасці.* ПС. *А між іншым, у перапынках паміж адной успышкай і другой – я* [Купала] *перакладаю "Кобзар" Тараса Шэўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП. *Параўн*. поэтыцкі.

Адз. ж. Р. *паэтычнай*: ПС. Т. *паэтычнай*: МП.

**ПЕКЛА** (5) *н.* **1.** Месца, дзе цярпелі вечныя пакуты душы памёршых грэшнікаў. *Ах! што гэта? – Раскрылася неба й зямля, Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну..* БН, 91. [Аленка]: *.. на вёску дык на вёску! Нават хоць у пекла, калі вы* [Янка] *параіце...* Т, 30.

**2.** *перан*. Нясцерпныя ўмовы жыцця, працы. *Гэтак праслужыў тры гады ў броварах. Зазнаў там такога пекла, якога яшчэ дагэтуль не меў.* А, 328.

Адз. Н. *пекла*: БН, 91. В. *пекла* (3): А, 328; См, 90; Т, 30. М. *пекле*: Ан, 19.

**[ПЕНТА]** *ж. Польск.*: ◊ **Крутке пенты** – *тое, што* короткі пяткі. [Заходні вучоны]: *муй інформатор походзонц од бялорусінув ожэкл в огульнопольском мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

Мн. В. *пенты*: Т, 39.

**ПЕРААДЗЕТЫ** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* пераадзець. Адзеты ў іншае адзенне. *Мікіта ўваходзіць пераадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усімі адзнакамі, акручваючыся на пяце.* Т, 50. *Мікіта варочаецца пераадзеты па-пажарніцку з каскай на галаве..* Там жа, 32.

Адз. м. Н. *пераадзеты* (2): Т, 32, 50.

**[ПЕРААДЗЕЦЦА]** *зак*. Зняць з сябе адно адзенне і надзець другое. [Мікіта]: *Ідзеце* [Гануля] *адчынеце дзверы і крыху прытрымайце яго* [немца], *пакуль я пераадзенуся..* Т, 32.

Абв. буд. адз. 1 ас. *пераадзенуся*: Т, 32.

**ПЕРАБІВАЦЬ** *незак.* Не даючы дагаварыць, перарываць. [Аленка]: *Няможна перабіваць, пане настаўнік, калі іншы хто гавора.* Т, 30.

Інф. *перабіваць*: Т, 30.

**ПЕРАБІВАЮЧЫ** (4) *дзеепрысл. да* перабіваць. [Мікіта]: *(перабіваючы) Вы, пане настаўнік, не жартуйце.* Т, 56. [Янка]: *(перабіваючы)... На Камароўцы козы пасвіць?* Там жа, 36. Т, 37, 53.

**[ПЕРАБІРАЦЬ]** *незак*. Быць пераборлівым, патрабавальным пры выбары чаго-н. *Буржуазія, як замежная, так і ўнутраная, не перабірае ніякімі мэтодамі і сродкамі барацьбы супроць СССР.* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *перабірае*: АЛ.

**ПЕРАБІЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* перабіць. Не даўшы дагаварыць. [Мікіта]: *(перабіўшы) І ўсё гэта праклятая .. рэволюцыя нарабіла.* Т, 37. [Янка]: *(перабіўшы). А ў гэным другім лантуху?* Там жа, 46.

**[ПЕРАБЛУТАЦЬ]** (5) *зак. Разм.* Пераблытаць. [Янка]: *Дзядзька Гарошка зусім не пераблутаў.* Т, 37. [Спічыні]: *У сваёй араторыі вы* [Мікіта] *пераблуталі лёгічныя тэрміны..* Там жа, 40.

Абв. пр. адз. м. *пераблутаў*: Т, 37. Мн. *пераблуталі* (4): Т, 37, 40, 61 (2).

**[ПЕРАБОР]** *м.* Частае чаргаванне якіх-н. гукаў. *Гэты шум, з перабораў махрыстых вятроў, Апалымвае сонечна-сьветлую кроў.* АР.

Мн. Р. *пераборaў*: АР.

**ПЕРАВАЖНА** *прысл.* Галоўным чынам, у большасці. *Сеюць* [чэхі] *пераважна хмель і ячмень для вырабу славутага пільзенскага піва.* ПЧ.

**[ПЕРАВАРАЧВАЦЬ]** (3) *незак. Разм.* Паварочваць процілеглым бокам. *Гануля падшпільвае шпалеры, Мікіта пераварачвае абразы..* Т, 50. *Наста пераварачвае абразы.* Там жа, 52.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пераварачвае* (3): Т, 48, 50, 52.

**[ПЕРАВАРОТ]** (2) *м.* Змена існуючага ладу або ўрада сілай. *Калі немцы пасля бальшавіцкага перавароту ў Расіі, занялі большую часць нашай тэрыторыі, кучка бальшавіцкіх камісараў, гаспадарыўшая раней у Менску, уцякла ў Смаленск. Там .. зрабіла маленькі ўнунтраны пераварот.* СНБ, 337 (2).

Адз. Р. *перавароту*: СНБ, 337. В. *пераварот*: СНБ, 337.

**[ПЕРАВЕЗЦІСЯ]** *зак. Разм.* Перавезці свае пажыткі на новае месца жыхарства. [Янка]: *Але ваша хата, цётачка, .. так выглядае.., як бы вы толькі што з іншай кватэры перавезліся.* Т, 45.

Абв. пр. мн. *перавезліся*: Т, 45.

**[ПЕРАВЕРНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* перавярнуць. *У знач. вык.* Павернуты процілеглым бокам. *Абразы і малюнкі – тыя самыя, што ў першай дзеі, – перавернуты тварам да сцяны.* Т, 43.

Кар. мн. Н. *перавернуты*: Т, 43.

**[ПЕРАВОЗКА]** *ж.* Дастаўка, перавоз. *Пэўнага дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай .. выдаць ей дазваленьне на перавозку школьных рэчау з аднаго будынку у другі.* ОШМ.

Адз. В. *перавозку*: ОШМ.

**ПЕРАВЫБАРЫ** *толькі мн.* Паўторныя выбары. *Пашлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г.д.* БС.

Н. *перавыбары*: БС.

**[ПЕРАВЫДАТАК]** *м.* Перарасход. *Мы* [дэлегаты] *былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак..* ПЧ.

Адз. В. *перавыдатак*: ПЧ.

**[ПЕРАВЫХАВАЦЬ]** *зак. да* перавыхоўваць. *Наша краіна перавыхавала нас – старэйшае пакаленне пісьменнікаў.* ВГР.

Абв. пр. адз. ж. *перавыхавала*: ВГР.

**[ПЕРАВЫХОЎВАЦЬ]** *незак*. Выхаваннем прывіць каму-н. новыя звычкі, погляды і пад. *Я* [Купала] *раскажу аб слаўных чэкістах.., аб тым, як яны аддана і разумна будавалі гэты шляхі перавыхоўвалі людзей.* ЦСБ.

Абв. пр. мн. *перавыхоўвалі*: ЦСБ.

**[ПЕРАВЯЗКА]** *ж.* Павязка. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю .. д-ру Маліноўскаму .. за шчыра-бацькоўскі дагляд і перавязкі, якімі стараўся аблягчыць мае цяжкіе мучэньні.* ЛР.

Мн. В. *перавязкі*: ЛР.

**[ПЕРАГАРОДКА]** *ж. перан.* Перашкода. *Сацыяльная рэволюцыя .. стараецца ў сваім пабедным паходзе ніштожыць усялякіе нацыянальные перагародкі і злучыць пад чырвоным знамем усе народы усяго сьвету.* СНБ.

Мн. В. *перагародкі*: СНБ.

**[ПЕРАГЛЯДЗЕЦЬ]** *зак. Разм.* Аглядзець, праверыць, праглядзець. *І я* [аўтар] *пачаў пісаць стацці, пісаць аб Антанце. Пераглядзеў сто і адну газэту..* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *пераглядзеў*: Ан, 19.

**[ПЕРАГЛЯДАЦЦА]** *незак*. Абменьвацца быстрымі позіркамі. *Непрыемная паўза. Усе пераглядаюцца паміж сабой.* Т, 28.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *пераглядаюцца*: Т, 28.

**ПЕРАГНАЦЬ** *зак. перан.* Ператварыць у што-н. іншае. *..паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17.

Інф. *перагнаць*: ЗС, 17.

**ПЕРАД** (35), **ПРАД** (4) і *руск.* **ПЕРЭД** *прыназ. з Т.* выражае:

П р а с т о р а в ы я  а д н о с і н ы (9).

**1.** Ужываецца для вызначэння месца на невялікай адлегласці наперадзе чаго-н. *І хіва мерыць* [абываталь] *шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.* ВБЛ, 81. *Дастае* [Мікіта] *з шуфляды ў стале чыноўніцкія адзнакі і перад люстрам прымяркоўвае іх.* Т, 24. // Уперадзе. *Плывуць таварыш Кіраў і таварыш Сталін, Прад імі даль Зямлі Совецкай і вякоў.* СК, 158. *Параўн*. перада. Ан, 18; БН, 92; СП; Т, 33, 42; ХБ, 28.

А б ‘ е к т н ы я  а д н о с і н ы (19).

**2.** Ужываецца пры вызначэнні асобы, якая знаходзіцца насупраць каго-н. і да якіх накіроўваецца чыя-н. увага. – *Ха-ха – узяўшыся за бокі разводзіць перад ягамосьцем у “чорным” сваю падкасьцельную філезофію* [беларускі шляхціц]: – *Гэтые нашы паны нават з панамі! “па-простэму” гавораць.* З.

**3.** Ужываецца для абазначэння непасрэднай блізкасці адносін да каго-н., якога-н. факта, з’явы. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай*

*форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і паднявольле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі.* АЛ. *У апошніе гады політычные перамены ў Эўропе, упадкі і паўставаньні малых і вялікіх дзяржаваў праходзяць перад нашымі вачыма, як у калейдаскопе.* СНБ. *Караўн.* прада. АЛ; НДН, 19 (3); Т, 40.

**4.** Дзеля каго-н. *Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным.* Кз, 17. *Хай ставяць* [людзі] *цьвёрдыя запоры Перад навалаю чужой..* УрП, 50

**5.** Ужываецца пры вызначэнні асобы ў адносінах да якой выяўляецца стан, пачуццё. [Мікіта]: *Мудрыя людзі – вучоныя. Я заўсёды схіляю перад імі сваю, меджду протчым, галаву.* Т, 39. Я [Купала] *вельмі прасіў бы рэабілітаваць мяне перад працоўнымі Сав. Беларусі.* СЧ. Д, 72; РКр (2); Т, 22, 25, 39, 53.

Часавыя адносіны (11).

**6.** Ужываецца для вызначэння падзеі або моманту, за некаторы час да якіх што-н. адбываецца. *На першай чародзе стаіць у нас пытаньне, як забяспечыцца перэд магчымай нестачай харчоў для сябе і для жывёлы.* ВС. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ. Бч, 9; ДЖ; РКр (2); Т, 29, 48, 51; ХХ; $Ш_3$.

**Перад будучыняй.**

◊ **Перад тым, як** (*у знач. злучн.*) – раней за што-н. *І перад тым, як сыйсці мне ў магілу, Колькі сілы і дум старых хваце, Я пракляну іх* [паноў] *праклятую сілу, Каб і ў магіле іх грызла праклцьце.* Д, 73.

**ПЕРАДА** і **ПРАДА** *прыназ. з Т.* **1.** *Тое, што* перад *у* 1 *знач.* .. *перада мной ляжыць беларуская часопісь "Наша Каляіна".* МІ, 17.

**2.** *Тое, што* перад *у* 3 *знач. Табе, праўадыр, мае песні і думы, І шчырыя шчырага сэрца парывы! Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, Што буду я вольны, што буду шчаслівы. Што гэткае ўстане жыццё прада мною Маё і маёй раскаванай радзімы..* ТП, 215.

**[ПЕРАДАВАЦЬ]** (2) *незак.* Аддаваць у чыё-н. карыстанне. *Бібліятэку сваю перадаю* [Купала] *Бел. Дзярж. Бібліятэцы.* СЧ. *З жалейкай кожны хай сваею Не расстаецца на ўвесь век, .. І з пакалення ў пакаленне Перадавае сваяком.* УрП, 50.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *перадаю*: СЧ. 3 ас. *перадавае*: УрП. 50.

**[ПЕРАДАЦЬ]** (2) *зак.* Аддаць, уручыць каму-н. .. [т. Кальцоў] *перадаў ёй* [маці паэта] *букет кветак з просьбай ускласці на магілу сына.* ПЧ. *Работніцы перадалі старшыні дэлегацыі т. Кальцову букет чырвоных кветак* . Там жа.

Абв. пр. адз. м. *перадаў*: ПЧ. Мн. *перадалі*: ПЧ.

**[ПЕРАДВЫБАРЧЫ]** *прым*. Перадвыбарны. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР, сабраўшыся на свой перадвыбарчы сход, аднагалосна вылучыў сваім кандадытам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч..* НКУС.

Адз. м. В. *перадвыбарчы*: НКУС.

**[ПЕРАДРАЖНІЦЬ]** *зак*. Падрабляючыся пад каго-н., падаць у наўмысна з'едлівым тоне чый-н. голас. – *Іначай! Іначай! – перадражніў мяне* [аўтара] *рэдактар.* Ан, 19. *Параўн*. перакрывіць.

Абв. пр. адз. м. *перадражніў*: Ан, 19.

**ПЕРАДСЬМЕРТНЫ** *гл.* **ПРАДСМЕРТНЫ**.

**[ПЕРАДЫШКА]** *ж*. Перапынак для адпачынку. [Мікіта]: *Вось вам, ясне мусье немец .. контрыбуцыя, заўтра дам энэксыю, .. толькі дайце перадышку, не цягнеце ў палон!* Т, 33.

Адз. В. *перадышку*: Т, 33.

**[ПЕРАЕЗД]** *м*. Перасяленне. [Гануля]: *Для яго* [Гізульскага] *йшчэ пераезду сюды нашы крэслы недзе ў іншае месца спалатнілі.* Т, 45.

Адз. м. Р. *пераезду*: Т, 45.

**[ПЕРАЕХАЦЬ]** (3) *зак*. **1.** Праехаць міма чаго-н. *Вольна ўздыхнулася, калі пераехалі мы* [дэлегаты] *праз мяжу ў СССР..* ПЧ.

**2.** Перамяніць месцапрабыванне. *З Петраграда зноў пераехаў* [Купала] *у Вільню..* А, 328. *У 1916 г. пераехаў* [Купала] *у Мінск, з Мінска ў Полацк, а потым у Смаленск.* Там жа.

Абв. пр. адз. м. *пераехаў* (2): А, 328 (2). Мн. *пераехалі*: ПЧ.

**[ПЕРАЖЫВАЦЬ]** (2) і *разм.* **[ПЕРЭЖЫВАЦЬ]** (3) *незак*. Пражываць які-н. час; знаходзячы сілы, пераносіць цяжкасці. *Вялікую цяпер перэжываем вайну, вялікіх і ахвяр патрабуе яна.* ВН. *Чаму яны* [людзі] *так хутка забылі той жах, які пераживалі ў час соцыяльнай рэволюцыі?* ДК.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *пераживаем* (2): РКр (2). Пр. адз. м. *пераживаў*: РКр.

**ПЕРАІМЕНАВАНЬНЕ** *н*. Называнне чаго-н. новай назвай. *Пераіменаваньне Інстытуту Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Наук – далейшая ступень творчага размаху нашае ўлады ў нацыянальна-культурнай галіне.* ГНД.

Адз. Н. *пераіменаваньне*: ГНД.

**[ПЕРАІНАЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пераіначыць. *Разм*. Перайменаваны. *Яны* [бальшавікі] *.. арганізавалі так званую Западную вобласць, пераіначаную после на "Западную камуну".* СНБ, 337.

Адз. ж. В. *пераіначаную*: СНБ, 337.

**ПЕРАЙСЦІ** (11) *зак*. **1.** Перамясціцца з аднаго месца на другое. [Янка]: *(да Ганулі) Мы пяройдзем у мой пакой..* Т, 27. // *Зак. да* пераходзіць. [Мікіта]: *.. я для стварэння сабе новай кар'еры пакінуў чыноўніцтва і перайшоў на свабодную профэсію.* Т, 36. [Мікіта]:

*Вось хоць бы судзіць з таго, што калі я перайшоў на яе* [свабодную професію], *то пачуўся, як птушка тая, зусім свабодным.* Там жа, 36.

**2.** Пакінуўшы якое-н. становішча, далучыцца да чаго-н. іншага. [Мікіта]: *.. хачу перайсці на ваш беларускі бок, ці як там.* Т, 55. [Мікіта]: *.. я пастанавіў перайсці ў вашу .. партыю.* Там жа, 55.

3. Дастацца каму-н., стаць чыёй-н. уласнасцю. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі..* ЗС, 18. *.. ўся зямля пяройдзе да тых, хто яе сваімі рукамі арэ і засявае.* Там жа, 17.

**4.** Скончыўшы адно, пачаць другое. *.. мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час, а пасьля, па магчымасьці, пяройдзем да характарыстыкі паасобных кніг і выдавецтваў.* ВСп, 89.

**5.** *Разм*. Кончыцца, мінуцца (пра час). *Перайшло, мінула, Што калісь жыло, Ў курганах заснула, Зеллем зарасло*. МД. *Здавалася, ноч ня пяройдзе, Іржа ня згрызе вечных путаў..* Кр, 77.

**6.** *Разм*. Развіцца (пра справу). *Не будзем затрымлівацца на тым, якімі шляхамі павінна была перайсці наша справа да 1919 г.* СНБ, 337.

Інф. *перайсці* (3): СНБ, 337; Т, 55 (2). Абв. пр. адз. м. *перайшоў* (2): Т, 36 (2). н. *перайшло*: МД. Буд адз. 3 ас. *пяройдзе* (3): ЗС, 17, 18; Кр, 77. Мн. 1 ас. *пяройдзем* (2): ВСп, 89; Т, 27.

**[ПЕРАЙШОЎШЫ][1]** *дзеепрым. незал. пр. да* перайці. Які змяніў умовы свайго існавання. *.. шмат якія дзяржавы, перайшоўшыя на мірнае жыццё, прыступілі к адбудове ваенных руін..* АБ, 16.

Мн. Н. *перайшоўшыя*: АБ, 16.

**ПЕРАЙШОЎШЫ[2]** *дзеепрысл. да* перайсці. *перан*. Перамогшы. *На Украіне таксама паўстала ўкраінскае войска, каторае, перайшоўшы розныя цяжкія варункі свайго бытавання, сягоння змагаецца за незалежнасць Украіны з маскоўскім наездам..* БВ, 16.

**[ПЕРАКАНАННЕ], [ПЕРАКАНАНЬНЕ], [ПЕРАКОНАННЕ]** і **[ПЕРАКОНАНЬНЕ]** *н.* Погляд, упэўненасць. *Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да перакананія, што свабодны беларус ў сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19. .. [частка беларускай інтэлігенцыі] *канчаткова ня прышла да перакананьня, што .. толькі аддаючы свае сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна ня будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабскага мінулага.* АЛ. *І будзем сьмела тады глядзець сьвету у вочы са сьвятым пераконаньнем, што і мы, астаўшыеся дома, не спалі у шапку..* РКр. [Янка]: *Вашы* [Мікіты] *дзікія .. пераконанні і новая палітычная сытуацыя?!* Т, 36.

Адз. Р. *перакананія*: НДН, 19; *перакананьня*: АЛ. Т. *пераконаньнем*: РКр. Мн. Н. *пераконанні*: Т, 36.

**ПЕРАКАНАЦЦА** (2) *зак. да* пераконвацца. *І ці не пара ужо пераканацца людзям, што на свой капыл беларускага народу не пераробіш.* ДК. [Мікіта]: *.. па-беларуску, як я пераканаўся, можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы..* Т, 56.

Інф. *пераканацца*: ДК. Абв. пр. адз. м. *пераканаўся*: Т, 56.

**ПЕРАКАНАЦЬ** (2) *зак.* Прымусіць паверыць чаму-н., упэўніць у чым-н. *Як першая так і другая* [краіны] *стараюцца ўсіх пераканаць, што кожная з іх змагаецца за лепшыя ўсясьветныя ідэалы, за сьветлыя дні.* СНБ. [Мікіта]: *І гэтае здарэнне .. пераканала мяне, што кроў свабодных профэсій у маіх жылых яшчэ не цячэ..* Т, 46.

Інф. *пераканаць*: СНБ. Абв. пр. адз. н. *пераканала*: Т, 46.

**ПЕРАКІДВАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* перакідвацца. *перан.* Распаўсюджваючыся. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод .. пацёк – разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме.* СТ.

**ПЕРАКЛАД** (2) *м.* Тэкст, перакладзены з адной мовы на другую. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, .. прыкладам творы: пераклад "Інтэрнацыяналу", "На сьмерць С. Булата", ..* АЛ. *.. А. Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на совецкай сцэне оперы Смятанны "Праданая нявеста"..* ПЧ.

Адз. Н. *пераклад*: АЛ. Т *перакладам*: ПЧ.

**[ПЕРАКЛАДАЦЬ]** *незак.* Перадаваць, выкладаць тэкст сродкамі другой мовы. *.. у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой – я* [Купала] *перакладаю "Кобзар" Тараса Шэўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *перакладаю*: МП.

**ПЕРАКЛАСЦІ** (2) *зак. да* перакладаць. *Я* [Купала] *пераклаў ужо каля пяці тысяч радкоў і мяркую перакласці яшчэ тысяч з пяць.* МП (2).

Інф. *перакласці*: МП. Абв. пр. адз. м. *пераклаў*: МП.

**ПЕРАКЛІК** *м. Наватв.* Размова, гучанне. *Як толькі стаў* [аўтарнік] *паміж народам, Заціх вячовы пераклік..* УрП, 47.

Адз. Н. *пераклік*: УрП, 47.

**ПЕРАКОНАННЕ** *гл.* **ПЕРАКАНАННЕ**.

**ПЕРАКОНАНЬНЕ** *гл.* **ПЕРАКАНАННЕ**.

**[ПЕРАКОЎКА]** *ж. перан.* Перавыхоўванне. .. [будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага воднага шляху] *сведчыць аб непераможнай хадзе соцыялістычнага ладу, соцыялістычнай перакоўцы людзей..* ЦСБ.

Адз. М. *перакоўцы*: ЦСБ.

**[ПЕРАКРЫВАЦЬ]** *зак. Разм. Тое, што* перадражніць. – *Маемся, маемся! – перакрывіў рэдактар.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *перакрывіў*: Ан, 19.

**ПЕРАКУЛІЦЦА** *зак., перан.*Ператварыцца ў каго-н. [Янка]: *Перакуліцца з нічога ў нішто – не вялікая мэтаморфоза!* Т, 50.

Інф. *перакуліцца*: Т, 50.

**[ПЕРАКУЛІЦЬ]** (2) *зак. Разм.* **1.** Перавярнуць, паваліць. [Гарошка]: *Гэты настаўнік .. і маёй Аленцы ў галаве усё дагары нагамі перакуліў.* Т, 44.

**2.** Перакласці. [Спічыні]: *Перакулеце* [Мікіта] *на наш манер такі зварот: ешчэ Польска не згінэла.* Т, 49.

Абв. пр. адз. м. *перакуліў*: Т, 44. Заг. мн. 2 ас. *перакулеце*: Т, 49.

**ПЕРАКУЛЬВАЦЦА** *незак. Разм., перан.* Пераходзіць. *Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі .. пачало выракацца свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую.* Нз, 14.

Інф. *перакульвацца*: Нз, 14.

**[ПЕРАКУЛЬВАЦЬ]** *незак. Разм.* Пераварочваць на другі бок. [Мікіта]: *Мамзэль Наста, перакульвайце задам наперад абразы.* Т, 52.

Заг. мн. 2 ас. *перакульвайце*: Т, 52.

**ПЕРАЛІВАННЕ** *н.*: ◊ **Пераліванне з пустога ў парожняе –** марная трата часу за размовамі. [Мікіта]: *Мітынг .. гэта тое самае, што пераліванне з пустога ў парожняе.* Т, 41.

Адз. Н. *пераліванне*: Т, 41.

**[ПЕРАЛІЎ]** (2) *м. перан.* Бліщчанне, ззянне, калыханне (пра ваду). *Адлогам лягуць скора нівы, Узьняты нашаю рукой, Крыніц жывыя пералівы Закалатушацца крывёй.* УрП, 48. *Стань, нахіліся над ракой. Ў плакучы ўгледзься пералівы.* БрБ, 6.

Мн. Н. *пералівы*: УрП, 48. В. *пералівы*: БрБ, 6.

**[ПЕРАМАЛОЦЦА]** *зак., перан.* Прайсці, мінуцца. [Янка]: *Э! ліха перамелецца і мука будзе.* Т, 53.

Абв. буд. адз. 3 ас. *перамелецца*: Т, 53.

**[ПЕРАМЕНА]** (9) *ж.* Змена, паварот да чаго-н. іншага. *У апошніе годы палітычные перамены ў Эўропе .. праходзяць перад нашымі вачыма, як у калейдаскопе.* СНБ. *Беларуская сіла ня можа запэўніць абываталю таго, да чаго ён звык, а перамен і зьвязанага з імі клопату прынясе шмат.* ВМР.

Адз. Р. *перамены* (3): ДД; Т, 55, 57. Мн. Н. *перамены* (2): СНБ; Ч, 323. Р. *перамен* (4): ВМР; ДД; СНБ, 337; Т, 55.

**ПЕРАМЕННЫ** *прым.* Зменлівы. *Росы ўнізе ірдзелі яскрава, А на вышках, як сон на зямлі, пераменны Залаты месяц радасна плаваў.* Ч, 321.

Адз. м. Н. *пераменны*: Ч, 321.

**[ПЕРАМЕРЫЦЬ]** *зак. Разм., перан.* Прабегці некалькі разоў. *На пустку ўзбрыўшы воўк завыў, Пуціну заяц перамерыў...* Кц, 197.

Абв. пр. адз. м. *перамерыў*: Кц, 197.

**[ПЕРАМОГА]** (14) *ж.* Поспех у змаганні (вайне). *Таварыш Сталін знача шлях да перамог у бої, Да перамогі над фашысцкай збэшчанай пародай.* ПНд, 314. // Поспех у ажыццяўленні чаго-н., дасягнуты ў выніку барацьбы, пераадолення якіх-н. цяжкасцей. *Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых Як гімн перамогі совецкіх жанчын.* ПБН. *Мы прайшлі гэты шлях пад кіраўніцтвам комуністычныя партыі большэвікоў Беларусі, – адзінага кіраўніка, адзінага арганізатара нашых перамог.* ВГР. *Параўн.* пабеда *ў 1 знач.*

Адз. Р. *перамогі* (3): ВМР; ПБН; ПНд, 314. В. *перамогу* (3): АЛ; ДПЛС; ПД. Мн. Р. *перамог* (6): ВГР; ДЖ; ПНд, 314(3); ШБСЯ; *перамогаў*: Ф. В. *перамогі*: ВГР.

**ПЕРАМОЖНА** (2) *прысл. перан.* Упэўнена. *Мы ідзём наперад Пераможна, ў сонцы... Глядзіць яно ярка Ў нашыя аконцы.* МПв, 220. *..рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства ..пераможна, з нявіданым творчым энтузыязмам і запалам будуе соцыялістычнае грамадзтва.* АЛ.

**[ПЕРАМОЖНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да перамогі. *Сёння мы на пярэдадні вялікіх урачыстасцяй – XV гадавіны БССР і XV з'езда нашай слаўнай пераможнай комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.* ШБСЯ.

Адз. ж. Р. *пераможнай*: ШБСЯ.

**[ПЕРАМОЖЦА]** (2) *м.* Пераможац. *Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам ахоплівае народы нашай вялікай радзімы..* ВГР. *Вось гэту вялікую, заслужаную гордую радасць пераможцаў падзяляем з усімі народамі краіны Советаў і мы, ягоныя пісьменнікі..* Там жа.

Мн. Р. *пераможцаў* (2): ВГР(2).

**ПЕРАНАЧАВАЦЬ** *зак.* Застацца дзе-н. на начлег. [Янка]: *..ці няможна будзе ў вас* [Ганулі] *мне з маёй кампаніяй пераначаваць?* Т, 49.

Інф. *пераначаваць*: Т, 49.

**ПЕРАНЕСЦІ** *зак.* Перамясціць, пераставіць. *Вы* [паны-гандляры] *таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месца другіх.* Тж, 16.

Інф. *перанесці*: Тж, 16.

**[ПЕРАНОСІЦЬ]** *незак. перан.* Пераключаць увагу, думкі на што-н. іншае. [Дама]: *Часова пераношу сваю філянтропійную чыннасць на тэрыторыю...* [Мікіта]: *Быўшых нашых ворагаў – гэрманаў.* Т, 37.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *пераношу*: Т, 37.

**[ПЕРАНЯЦЬ]** *зак.* Запомніць, засвоіць. *Сваей рукой я* [аўтарнік] *прызначаю Дванаццаць выбраных між вас, – Жалейку кожны атрымае І перайме такі наказ..* УрП, 49.

Абв. буд. адз. 3 ас. *перайме*: УрП, 49.

**[ПЕРАПІСАЦЬ]** *зак.* Спісаць тэкст нанава. *..вельмі ўжо многа гэтых тэрмінаў чужаземных, якія былі незразумелымі, так і засталіся – іх толькі перапісалі беларускімі літарамі..* ВСп, 89.

Абв. пр. мн. *перапісалі*: ВСп, 89.

**ПЕРАПРАДАЦЬ** *зак.* Прадаць што-н. купленае з мэтай нажывы. *Купляюць спекулянты з мэтай перапрадаць яшчэ даражэй другому спекулянту..* ЗС, 18.

Інф. *перапрадаць*: ЗС, 18.

**ПЕРАПУД** (2) *м. Разм. Тое, што* перапалох. *Паміж Мікітавымі гасцямі перапуд і бегатня.* Т, 52. [Гарошка]: *Я – і такія важныя асобы... яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду.* Там жа, 27.

Адз. Н. *перапуд*: Т, 52. Р. *перапуду*: Т, 27.

**ПЕРАПУЖАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* перапужаць. Спуджаны, перапалоханы. [Мікіта]: *(перапужаны). Аяяй! Оеей! Куды ж я падзенуся?* Т, 32.

Адз. м. Н. *перапужаны*: Т, 32.

**ПЕРАПУЖАЎШЫСЯ** *дзеепрысл.* Спужаўшыся, перапалохаўшыся. *..людзи нейкие абарваные ў лапцёх, зацяганые, згаладалые и перапужаўшыся, – бо трэба табе ведаць.. наехали там "госьци" и па-свойму слабаджанаў абучали нагайками...* ХЛБ.

**[ПЕРАПУСТКА]** (3) *ж. Разм.* Дазвол, накіраванне. [Рэдактар]: *Дзіўлюся, як гэны камісар прыняў тваю* [аўтара] *просьбу і перапустку даў.* Ан, 19. *Пісаў* [аўтар] *навет прашэнне раз на імя павятовага камісара, каб ён даў мне перапустку ў Радашковічы.* Там жа, 18.

Адз. В. *перапустку* (3): Ан, 18(2), 19.

**[ПЕРАПЫНАК]** *м.* Перарыў у якім-н. працэсе. *А між іншым, у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой – я* [Купала] *перакладаю "Кобзар" Тараса Шаўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП.

Мн. М. *перапынках*: МП.

**[ПЕРАРАБІЦЬ]** *зак. да* перарабляць. *І ці не пара ужо перакanацца людзям, што на свой капыл беларускага народу не пераробіш.* ДК.

Абв. буд. адз. 2 ас. *пераробіш*: ДК.

**ПЕРАРОБЛЯЦЬ** *незак., перан.* Ператвараць. *Палякі мелі магчымасьць перарабляць беларусау на палякоу цэлые трыста год..* ДК.

Інф. *перарабляць*: ДК.

**[ПЕРАРЭЗАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* перарэзаць. *Сьмейся сьмехам-хрыпеньнем быдляці З перарэзаным горлам і грэйся Ў гэтым храпе..* См, 91.

Адз. н. Т. *перарэзаным*: См, 91.

**[ПЕРАРЭЗАЦЬ]** *зак.* Разрэзаць надвае. *Ён* [народ] *перарэжа горла людаеду, ўбіўцу, Ён Гітлера павесіць на сухой асіне.* ПНд, 314.

Абв. буд. адз. 3 ас. *перарэжа*: ПНд, 314.

**[ПЕРАСЕКЧЫ]** *зак.* Прайсці, пралегчы па паверхні чаго-н. *Я* [Купала] *віншую Карэльскую аўтаномную сацыялістычную рэспубліку, тэрыторыю якой перасек Беламорска-Балтыйскі шлях.* ЦСБ.

Абв. пр. адз. м. *перасек*: ЦСБ.

**[ПЕРАСЛУХАЦЬ]** *зак.* Паслухаць усё. *Трэці брат ад судзьбіны наказ пераслухаў.* Ч, 323.

Абв. пр. адз. м. *пераслухаў*: Ч, 323.

**[ПЕРАСПАЦЬ]** *зак.* Пераначаваць. [Гануля]: *Ложкаў, праўда, лішніх няма, дык во тут на падлозе што-небудзь падмосцім, і пераспяць ноч.* Т, 23.

Абв. буд. мн. 3 ас. *пераспяць*: Т, 23.

**ПЕРАСТАЎЛЯЮЧЫ** *дзеепрысл. да* перастаўляць. Ставячы што-н. на іншыя месцы. [Мікіта]: *(перастаўляючы то туды, то сюды кошык з пляшкамі). Лепей углядайцеся.* Т, 59.

**[ПЕРАСТАЦЬ]** (2) *зак.* Спыніць якое-н. дзеянне. *Ідзеш у край, дзе пажарышча Яшчэ дымецъ не перастала..* НГд, 8. *Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца, Поўнае шчырых жаданняў, Якое перш разарвецца, Чымся любіць перастане.* ЁЯ.

Абв. пр. адз. н. *перастала*: НГд, 8. Буд. адз. 3 ас. *перастане*: ЁЯ.

**ПЕРАСТУПІЦЬ** *зак.* Перайсці рубеж, мяжу чаго-н. *Для адбудавання вялікай Польшчы "ад мора да мора" трэба пераступіць Беларусь..* Нз, 14.

Інф. *пераступіць*: Нз, 14.

**[ПЕРАСУД]** (2) *м. Руск., неадабр.* Нядобразычлівае абмеркаванне чыіх-н. учынкаў, плёткі. [Мікіта]: *Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды..* Т, 21. *..ня згіне Ўся прысяга твая ў чорнай ціне Перасудаў людзкіх...* См, 91.

Мн. Н. *перасуды*: Т, 21. Р. *перасудаў*: См, 91.

**[ПЕРАСЬВЕТ]** *м. Разм.* Святло. *Аўтар заняўся перасьветам, Ад песьні розгалас ідзе.* УрП, 51.

Адз. Т. *перасьветам*: УрП, 51.

**ПЕРАСЯДЗЕЦЬ** *зак.* Прабыць дзе-н. некаторы час, чакаючы чаго-н. [Чырвонаармеец]: *Ці нямножна ў вас, таварышы, перасядзець, пакуль сцямнее?* Т, 52.

Інф. *перасядзець*: Т, 52.

**[ПЕРАСЯЛЕНЕЦ]** *м.* Той, хто перасяліўся на новае месца. *..змучаныя, абарваныя перасяленцы варочаліся з далёкай чужыны ў сваю, быўшую ім вечна мачыхай, родную Беларусь.* ЗС, 18.

Мн. Н. *перасяленцы*: ЗС, 18.

**[ПЕРАТВАРАЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Змяняцца якім-н. чынам. *Краіна, быўшая ўвасабленьнем рабства, убоства і беспрасьветнай цемры, ператвараецца ў краіну вольнае працы.* АЛ.

**2.** Ажыццяўляцца. *..гэта ідэя сягодня ператвараецца у жыцьцё, становіцца жывым дзелам, цьвёрдым фактам.* БСУ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ператвараецца* (2): АЛ; БСУ.

**ПЕРАТВАРЫЦЬ** (2) *зак.* **1.** Змяніць якім-н. чынам. *Нашу дзівосную Совецкую Беларусь.. трацкісцкія вырадкі хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызма.* ВНЗ.

**2.** Ажыццявіць, увасобіць што-н. у чым-н. *..яваю станецца сон міліёнаў, Цудоўныя казкі ў жыццё ператворыш* [Сталін].. ТП, 217.

Інф. *ператварыць*: ВНЗ. Абв. буд. адз. 2 ас. *ператворыш*: ТП, 217.

**[ПЕРАТЛУМАЧЫЦЬ]** (3) *зак. Разм.* Перакласці. [Мікіта]: *Вы, мусье профэсар, кепска прачыталі і кепска ператлумачылі.* Т, 61. [Начальнік]: *Ператлумачце* [Спічыні] *дакумэнт.*Там жа, 61.

Абв. пр. мн. *ператлумачылі*: Т, 61. Заг. мн. 2 ас. *ператлумачце* (2): Т, 49, 61.

**[ПЕРАХВАЛІЦЬ]** *зак.* Пахваліць больш, чым трэба, расхваліць. [Аленка]: *Перахваліце, пане настаўнік.* Т, 30.

Абв. буд. мн. 2 ас. *перахваліце*: Т, 30.

**[ПЕРАХОД]** *м. перан.* Падзея, дасягненне. *І сёння, прагладаючы з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў-бы сам.* ЖН.

Мн. В. *пераходы*: ЖН.

**[ПЕРАХОДЗІЦЬ]** *незак.* Змяняць месца заняткаў. [Мікіта]: *На зло ім* [людзям] *незадоўга пераходжу яшчэ на адну свабодную профэсію.* Т, 36.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *пераходжу*: Т, 36.

**ПЕРАХОДЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* пераходзіць. Ідучы на процілеглы бок чаго-н. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі.. змагаюцца не пераходзячы на тэрыторыю ворага..* ВГ.

**[ПЕРАЦ]** *м.*: ◊ **Перцу дастаць** *гл.* дастаць.

Адз. Р. *перцу*: Т, 39.

**ПЕРАЦЯРПЕЦЬ** *зак.* Перажыць, перанесці. *І вось трэба увайсці у палажэньне шчырага беларускага грамадзяніна: што такі чалавек павінен быў перацярпець у сваёй душы..* СБНГ.

Інф. *перацярпець*: СБНГ.

**[ПЕРАЧЫТАЦЬ]** *зак.* Прачытаць усё, многае. *Кали гэта ўсё чыста перачытаў, добра ў сваих думках раскалупай, каб ня зьбіўся, што да чаго и к чаму..* СП.

Абв. пр. адз. м. *перачытаў*: СП.

**[ПЕРАШКАДЖАЦЬ]** (2) *незак.* Не даваць магчымасці здзейсніць што-н., замінаць. *І ніхто яму* [народу] *не перашкаджае.* ДК. *..хто*

*не перашкаджае інтарэсам свае бацькаўшчыны і жадае лепшай долі сваей мацеры – Беларусі, – той пойдзе за беларусамі.* ВМР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *перашкаджае* (2): ВМР; ДК.

**[ПЕРАШКОДА]** (3) *ж.* **1.** Замінка. *І тые і гэтые ў сваім мілітарна-імпэрыялістычным паходзе стараюцца сьцерці па дарозе ўсё, што ім стаіць на перашкодзе дзеле дасьціжэньня сваіх мэт.* СНБ.

**2.** *перан.* Цяжкасць. *Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы.* Нз, 14. *..пры тых перашкодах і няміласьцях, якія прыходзілася й прыходзіцца спатыкаць беларускаму друкаванаму слову з боку яго непрыхільнікаў, – такі вынік.. быў проста гэраічным.* ВСп, 91.

Адз. М. *перашкодзе*: СНБ. Мн. В. *перашкод*: Нз, 14. М. *перашкодах*: ВСп, 91.

**ПЕРАШКОДЗІЦЬ** *зак. да* перашкаджаць. *Імпэрыялістычная загранічная буржуазія.. напружвае ўсе свае сілы для таго, каб перашкодзіць гэтай творчай рабоце..* АЛ.

Інф. *перашкодзіць*: АЛ.

**[ПЕРАЯЗДЖАЦЬ]** (3) *незак.* Мяняць месцапрабыванне, перабірацца. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328. *У 1891 г. ён* [бацька] *зноў пераязджае на арандаваную зямлю ў фальварак Селішча.* Там жа, 328.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пераязджае* (3): А, 328(3).

**ПЕР'Е** *н., зб.* Пёры. *Толькі вецер развее пер'е злавесных і крывавых груганоў.* ВГ.

Адз. В. *пер'е*: ВГ.

**[ПЕРЕЦЬ]** *незак. Руск., жарт., перан.* Развівацца. *"Gazeta" бармоча: Нэх бэндзе ён* [беларус] *ляхам, а "Вестник" – пусьць лучша Маскоўскім прот шляхам!* Х.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прот*: Х.

**[ПЕРСПЕКТЫВА]** *ж. перан.* План, віды на будучае. *Ну, як пры такіх справах, пры такіх перспектывах, не захапіцца паэту новай бадзёрай песняй..* ЖН.

Мн. М. *перспектывах*: ЖН.

**[ПЕРСЦЕНЬ]** (2) *м.* Пярсцёнак. *А дзяўчына, міла сэрцу, Правяла за сяло І дала на памяць персцень, Каб у бойках вязло.* ПСД. [Янка]: *Зялёны бор шлюб нам даваў, зоркі дружкамі былі, а расіца срабрыстая шлюбныя персцені свянціла.* Т, 53.

Адз. В. *персцень*: ПСД. Мн. В. *персцені*: Т, 53.

**[ПЕРУНОВЫ]** *прым.* Вельмі моцны. *Перуновым голасам будзем* [беларусы] *гаварыць з суседзямі сваімі..* ПЛП.

Адз. м. Т. *перуновым*: ПЛП.

**[ПЕРЦІ]** *незак. Разм.* Ісці, рухацца вельмі шпарка. [Мікіта]: *..мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па портфэлі, што летась схавалі.* Т, 59.

Заг. мн. 2 ас. *прыце*: Т, 59.

**[ПЕРЦІСЯ]** (8) *незак. Разм.* Дамагацца, накіроўвацца. [Гануля]: *Чагосьці прэцца сюды мамзэль Наста.* Т, 58. *Здань за зданьню паўзе, кожна здань – як зьмяя, Тая прэцца уверх, тая цісьнецца к дну.* БН, 92.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прэцца* (5): БН, 92; ЕЯП; Пп, 5; Т, 37, 58. Мн. 3 ас. *пруцца*: Н. Пр. адз. м. *пёрся* (2): Т, 58; Ч, 323.

**ПЕРШ** (7) *прысл.* Спачатку, раней. *Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца, Поўнае шчырых жаданняў, Якое перш разарвецца, Чымся любіць перастане.* ЁЯ. *Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?.. Камень і вольха перш поймуць мяне!..* Н. ВМР; ВР; Т, 41, 45.

◊ **Перш-на-перш** – спачатку, перш за ўсё. *Мы ня раз даводзілі, што такіе учынкі польскіхураднікаў перш-на-перш шкодзяць самому-ж польскаму ураду..* ОШМ.

**ПЕРШЫ** (77) *ліч.* **1.** *Ліч. парадкавы да* адзін. *Першы падатак будуць уносіць тые, што прызываліся ў апошніе 4 гады.* ВН. *Мая* [Купалы] *першая кніжка "Жалейка" была канфіскавана, а выдаўца яе выклікалі ў суд.* А, 328. // *толькі мн.* Пачатковы ў радзе пералічаных прадметаў. *Першыя дні бальшавіцкай гаспадаркі.. падавалі надзею, што беларуская справа стане на добры дэмакратычны грунт.* СНБ, 339. [Мікіта]: *У гэтым* [партфелі] *толькі грошы – мая пэнсія за першыя дзесяць дзён гэтага ліпня месяца.* Т, 46.

**2.** *У знач. займ.* Ужываецца для абазначэння асобы, прадмета, якія былі названы раней. *Працавітаго быў першы* [сын] *Складу і нагібу, Так, здаецца, што й памершы, Ўсё араў, касіў-бы.* Дз, 189. *Другі за першым* [ганцом] *князю сказ І княжне скажэ міласьцівай: Я абышоў іх* [людзей] *тройчы раз І відзеў, што яны ўсе жывы.* Кц, 194.

**3.** Які з'яўляецца крыніцай або аб'ектам дзеяння раней за іншых. *Чыя кірка ў падзямеллі Першай пласт вугля цярэбіць І чый трактар першым сцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180. *Таксама, як пры Мікалаях першых дзяцей беларускай зямлі гналі за трыдзесяць зямель служыць царам і іх генералам.* БВ, 16.

**4.** Першапачатковы. *Першыя выстралы прынеслі людзям радасць.* СНБ, 340. *Але вось пачуліся першыя гарматныя, хоць яшчэ і далёкія, стрэлы.* Там жа, 340.

**5.** Які раней не існаваў, не ўзнікаў. *Апрача таго, адзначаецца сваёй навізной першая "Беларуская разразная азбука".* ВСп, 89. *Тыя думкі і летуценні, якія прабудзіліся ў нашым народзе ў часе першай расійскай рэвалюцыі (1905 г.), разліліся шырокаю хваляй па неабнятых абшарах нашага краю.* СНБ, 336. // Не спазнаны раней.

[Мікіта]: *..павінен вам* [Янку] *сказаць, што яна* [Наста] *першая ды, мабыць, апошняя слабасць майго сэрца.* Т, 23.

**6.** *У знач. пабочн. Разм. Тое, што і* па-першае. [Спічыні]: *Цяпер выслухайце* [Мікіта] *дзве асцярогі: першае – калі ўзыдзеце на трыбуну, то ёмка зачашэце сабе на галаве думку аб тым, пры якой палітычнай сытуацыі выступаеце з аратарыяй.* Т, 40.

**7.** Самы важны, галоўны. *Зазвінелі яны* [думкі] *ад Белага да Чорнага мора, і ад усходу сонца і да заходу сонца на зямлі першага рускага двараніна Нікалая другога.* ДЖ.

• **Першая помач** *гл.* помач.

◊ **З першага знаёмства** *гл.* знаёмства**. На першай чародзе** *гл.* чарода. **На першы год** *гл.*год. **Першы крок** *гл.* крок. **Першым чынам** *гл.* чын$^2$.

Адз. м. Н. *першы* (12): ВСп, 89(2); Дз, 189; Кц, 194(2); Пц; ВСп; Т, 40; Ч, 319, 322, 324; $Ш_4$. Р. *першага* (4): ВСп, 89; ДЖ; Ч, 320(2). Д. *першаму* (3): ЛР; Т, 51; Ч, 320. В. *першы* (4): АЛ; ВН; НКУС; Т, 46. Т. *першым* (10): ВСп, 98; Кц, 194; ЛР; ПС; СА, 180(2); СНБ; Т, 24, 33, 50. М. *першым*: Т, 52. ж. Н. *першая* (11): А, 328; ВСп, 89(2); ГВУ; СНБ; Т, 19, 23; Ч, 319, 320. $Ш_1$; $Ш_5$. Р. *першай*: СНБ, 336. Д. *першай*: ВД. В. *першую* (4): Кц, 196; ЛР; Т, 22, 51. Т. *першай* (2): СА, 180; Ч, 319. М. *першай* (4): ВС; Т, 43(2), 53. н. Н. *першае* (5): Т, 40(3); $Ш_2$; $Ш_3$. Р. *першага*: Т, 60. В. *першае*: $Ш_3$. Мн. Н. *першыя* (4): ВСп, 89; СНБ, 339, 340(2); *першые*: ВМР. Р. *першых* (3): БВ, 16; ВМР; ПЧ. В. *першыя* (4): АЛ; ЖН; Т, 46(2). М. *першых*: Т, 19.

**[ПЕРШЫНСТВО]** *н.* Першае месца ў чым-н. *..дзьве рэволюцыі выступілі на крывавую арэну за свае праўды, за сваё першынство ў дзеле будаваньня будучага людзкога жыцьця на грэшнай зямлі.* СНБ. *Параўн.* пяршынства.

Адз. В. *першынство*: СНБ.

**ПЕРШЫНЯ** *ж. Наватв.* Першы раз. [Янка]: *Ці ж першыня для Менску гэтыя трывожныя мінуты?* Т, 53.

Адз. Н. *першыня*: Т, 53.

**[ПЕРЫЯД]** (2) *м.* Адрэзак часу, у які што-н. адбываецца. *Гэты перыяд нашых дамаганняў і змаганняў за свае неадменныя правы на ўласнае незалежнае існаванне астаўляем разабраць як следна нашым.. гісторыкам.* СНБ, 337. *Калі параўняць часы беларускага нацыянальнага руху ў перыядзе 1905-1917 гадоў і часы пасля расійскай рэвалюцыі 1917 году, дык гэта адно да другога не падобна, як зямля да неба.* МІ, 17.

Адз. В. *перыяд*: СНБ, 337. М. *перыядзе*: МІ, 17.

**[ПЕРЭАЦЭНКА]** *ж. Разм.* Новая ацэнка. *Так сама маніцца урад зрабіць новую перэацэнку зямлі...* ВН.

Адз. В. *перэацэнку*: ВН.

**ПЕРЭД** *гл.* **ПЕРАД.**

**ПЕРЭЖЫВАЦЬ** *гл.* **ПЕРАЖЫВАЦЬ**.

**ПЕРЭМАГЧЫ** *зак. Разм.* Дасягнуць перамогі ў змаганні. *Бо толькі тое государства зможэ не даца у крыўду або і перэмагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН.

Інф. *перэмагчы*: ВН.

**П'ЕСА** *ж.* Драматычны твор, прызначаны для пастаноўкі на сцэне. *Дзякуючы гэтаму свайму асляпленьню, зьявіліся мае* [Купалы] *такія творы з ярка нацыянал-дэмократычнымі настроямі, як, напрыклад, "Паўстань", "Перад будучыняй", п'еса "Тутэйшыя" і інш.* АЛ.

Адз. Н. *п'еса*: АЛ.

**[ПЕСЕЛЬНЫ]** (2) *прым. Нават.* Песенны. *Пры песельным звоне народ акрылеў, Глядзеў, калыхаўся свабодай..* ПН, 47. *Пры песельным звоне народ акрылеў, Зарухаўся шчасьцем, свабодай...* КП, 171.

Адз. м. М. *песельным* (2): КП, 171; ПН, 47.

**[ПЕСЕНЬКА]** *ж. Ласк. да* песня *ў 1 знач. Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы Заводзе бацькоў сваіх песеньку сын..* В.

Адз. В. *песеньку*: В.

**ПЕСНЯ** (107) і **ПЕСЬНЯ** (30) *ж.* **1.** Невялікі паэтычны твор для спеваў. *Хор Тэраўскага у Менску пяе песьню: "Працуй, беларусе..." і так сама называе гэта гымнам.* СБНГ. *Жывуць* [старыя багі], *як даўней жылі, – у песнях, казках, былінах і чакаюць.. на вешчуноў – прарокаў златавустых.* Кз, 17. // Гучанне такога твора, яго мелодыя, гукі. *Песня чутна ўсюды Ў бязмежным прасторы, Ці то дзень, ці ночка, Ці сонца, ці зоры.*ПСС, 231. *Дык ня плач-жа, брат мой, запей песьню са мной, яшчэ раз; не засьні, не засьні.* ХХ. // Пра спевы птушак. *Хутка жаўранак песняй сваёй галасістаю Прывітае аратых на полі.* ТС, 74. [Мікіта]: *..салавей аднымі песнямі сыт не бывае.* Т, 27. // Пра меладычныя гукі. *Песьню выюць хаўтурна: ты ляж, а ты ўстань!.. Здалі чутна, павоўчаму выюць званы.* БН, 93.

**2.** Паэтычная творчасць, паэзія. *Яны* [царскія сатрапы] *душылі маю* [Купалы] *песню, баяліся, каб яе не пачуў народ.* ГВУ. *Простым мы* [беларусы] *словам з сьветам гаворым, Песьні аб цяжкай творым нягодзі..* Пп, 160.

**Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца. З "Песень вайны". Засталіся нівы, сёлы. Казка аб песьні. Песьні на ваяцкі лад. Песня і народ. Песня трактарысткі.**

Δ **Песня-вяснянка:** *Песні-вяснянкі ў далёкія далі Лунаюць у кожнай прыгодзе.* СС, 301. *Песню ўсім сэрцам складаем аб песні – Аб Сталіне песні-вяснянкі.* Там жа, 301. **Песня-гімн**: *Сягоння-ж я*

[Купала] *шчаслівы, што магу па-іншаму.. складаць песні-гімны вызвалення.* ЖН. **Песня-дума**: *Гналі, высмявалі багачы і князі, – Яго* [Сулеймана Стальскага] *песні-думы былі ім не мілы.* ПСС, 231.**Песня-малітва**: *Песня-малітва.* УрП, 48.

Адз. Н. *песня* (28): ЖН (2); НК (2); ПБН; ПН, 46; ПСС, 231(2); ПТ, 206; СС, 300(4), 301(4), 302(5); Т, 35(2), 62; ТП, 214; УрП, 47, 48; *песьня* (5): СБНГ; УрП, 47, 49, 50, 51. Р. *песні* (4): ПСС, 231; Т, 62; ЧС, 51; ШБСЯ; *песьні* (4): Кц, 195; М, 19; ПН, 47; УрП, 51. В. *песню* (9): БрБ, 6; ГВУ; Кз, 17; ПБН; СК, 158; СМ; СС, 301, 302(2); *песьню* (9): БН, 93; Кц, 195; ПН, 47(2); СБНГ (2); УрП, 50; ХХ; Ш$_1$. Т. *песняй* (6): ГВУ; ЖН; ЗЯЗ, 90; ПТ, 207; СА, 179; ТС, 74; *песьняй* (5): БН, 92; З; Пп; ПН, 47. М. *песні* (4): МІ, 17; СС, 301; Т, 35(2); *песьні*: КП, 170. Мн. Н. *песні* (30): А, 328; АР; ВГР; ДЖ (3); ДПЛС; ЖН (7); ЗЯЗ, 89; НДп, 229, 230; Пп, 5; ПБН; ПЛ; ПСС, 231, 232(2); СС, 301; ТЗУ, 293; ТП, 213, 214, 215, 216, 217; *песьні* (2): ВСп, 90; ГЖУ. Р. *песень* (6): ВВ, 263; ДЖ; ЁЯ; ЖН (2); ПБН; *песен*: СБНГ; *песняў*:БрБ, 6; *песьняў*: ВСп, 90. В. *песні* (12): АЧ; ГВУ; ЖН (2); Н; ПСС, 232; ПТ, 206; СА, 182(2); СС, 301; ТП, 216, 217; *песьні* (2): Пп, 160; Чж, 146. Т. *песнямі*: Т, 27; *песьнямі*: ВСп, 90. М. *песнях* (5): ЖН (2); ЗЯЗ, 89; Кз, 17; ПСС, 232.

**ПЕСНЯР** *гл.* **ПЯСНЯР.**

**[ПЕСЦІЦЬ], [ПЕСЬЦІЦЬ]** (2) і *разм.* **[ПЯСЬЦІЦЬ]** *незак.* **1.** Любоўна даглядаць, гадаваць каго-н. *Ці там вецер водзіць гулі Так па самагубе, – Бы сваё дзіця матуля, Песьціць да галубе?* Дз, 187. *Іх* [сыноў] *пясьціла, як умела, Ласкаю вясёлай; Красак, сонца не жалела Я* [маці] *для іх, саколаў.* Дз, 188.

**2.** *перан.* Здзекавацца. *Добра вядомы і путы, і пугі, Песьціў якімі ваш Захад і Ўсход.* Г, 17.

◊ **Песьціць на шыі** – ствараць каму-н. спрыяльныя ўмовы для жыцця і дзейнасці. *Сотні лет песцілі днямі і ночай Госця на шыі – Змея, што с пуняў скарбы валоча, Скарбы чужыя.* Чж, 147.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *песьціць*: Дз, 187. Мн. 1 ас. *песцім*: Чж, 147. Пр. адз. м. *песьціў*: Г, 17. ж. *пясьціла*: Дз, 188.

**ПЕСЬНЯР** *гл.* **ПЯСНЯР.**

**[ПЕСЯННЫ]** *прым. Разм.* Песенны. *..я* [Купала] *ўсю сваю песянную сілу, усю сваю мужнасць аддаю вам, сыны нашага вялікага народа!* РКП.

Адз. ж. В. *песянную*: РКП.

**[ПЕЦЬ]** (18) *незак.* **1.** Утвараць голасам музычныя гукі; спяваць. *Аж дрыжыць зямля, Як ваякі йдуць Ды пяюць, як бура.* ВБ. *Ты гадуй сынка, матуля, У пялёнкі спавівай, Калышы, пей люлі-люлі, Пей паціху баю-бай!* М, 19.

**2.** Абзывацца галасамі (пра птушак). *Верасень месяц абходзіў палеткі, Птушкі не пелі, не квакалі жабы..*ВМ, 72.

**3.** Апавядаць, услаўляць. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сонца, ад зор залатых, Якую пяе уся наша зямля..* СС, 300.

**4.** Утвараць працяжныя, манатонныя гукі. *Дайце сьмерць, Хай ня чую, што ноч мне пяе! Дайце сілы!.. О, Божа! Нікога кругом!* БН, 91.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *пяю*: СА, 182. 3 ас. *пяе* (8): БН, 91, 92; СБНГ; СС, 300(5). Мн. 1 ас. *пяём*: СА, 182. 3 ас. *пяюць*: ВБ. Пр. адз. м. *пеў*: УрП, 49. ж. *пела* (2): УрП, 47(2). Мн. *пелі* (2): ВМ, 72; Чж, 146. Заг. адз. 2 ас. *пей* (2): М, 19(2).

**[ПЕЦЕРБУРГСКІ]** *прым. да* Пецярбург. *Так першая мая* [Купалы] *кніжка – "Жалейка" была канфіскована двойчы: пецербургскай цэнзурай і віленскім генерал-губернатарам.* ГВУ.

Адз. ж. Т. *пецербургскай*: ГВУ.

**[ПЕЧКА]** (2) *ж.* Цаглянае збудаванне, дзе разводзяць агонь, каб нагрэць памяшканне, згатаваць ежу. *– Куды йдзеш ты, мая бабка, – Кажа ўнук бабулі, – То сядзіць, не злазіць з печкі, Цяпер, во, на гулі.* Вб, 237. [Янка]: *Вы* [Мікіта]*, пэўна б, хацелі і з печкі зваліца і патыліцы не адбіць?* Т, 37.

Адз. Р. *печкі* (2): Вб, 237; Т, 37.

**[ПЁС]** (2) *м. Руск., зняважл.* Пра чалавека (здрадніка). *Каб гукалі совы Па-над вамі, псамі, Косці расцягалі Груганы з ваўкамі!* МПв, 220.

Δ **Рыцар-пёс** *гл.* рыцар.

Мн. В. *псоў*: ХЛВ, 315. Т. *псамі*: МПв, 220.

**ПІВА** (3) *н.* Слабаалкагольны напітак з ячменнага соладу. [Гануля]: *Маладое піва заўсёды шуміць.* Т, 44. *Сеюць* [людзі] *пераважна хмель і ячмень для вырабу славутага пільзенскага піва.* ПЧ.

Адз. Н. *піва*: Т, 42, 44. Р. *піва*: ПЧ.

**[ПІЛАТАЖ]** *м.* Майстэрства кіравання самалётам і яго манеўраванне. *..аглядалі ваенны аэрадром, ..дзе нам* [дэлегатам] *лётчыкі паказалі майстэрства пілатажа.* ПЧ.

Адз. Р. *пілатажа*: ПЧ.

**[ПІЛІГРЫМ]** *м. Кніжн., уст., перан.* Вандроўнік, падарожны. [Аленка]: *А гэта што за такія пілігрымы брыдуць сюды?* Т, 37.

Мн. Н. *пілігрымы*: Т, 37.

**[ПІЛЬЗЕНСКІ]** *прым.* Які прыгатаваны ў Пільзе. *Сеюць пераважна* [людзі] *хмель і ячмень для вырабу славутага пільзенскага піва.* ПЧ.

Адз. н. Р. *пільзенскага*: ПЧ.

**ПІЛЬНА** (5) *прысл.* **1.** *Прысл. да* пільны *ў 1 знач. – Так і так, – кажу, – пане рэдактар:боты падзёрліся.., дык вось патрабую пільна зарабіць якую дытку.* Ан, 18.

**2.** *Прысл. да* пільны *ў 2 знач. Супрацоўнікі прыціснуліся к сцяне і штось нібы вельмі пільна пішуць.* Ан, 19.

3. Уважліва, неаслабна. ..[Чырвоная армія] *пільна сталёвай аховай вартуе совецкія граніцы, вартуе нашу мірную працу..* ЖН. // Зорка, пранікліва. [Дама]: *(углядаючыся пільна цераз акуляры з ручкай на Мікіту). Што гэта ў вас, мусье, за такі орыгінальны ўбор?* Т, 24. [Поп]: *(пільна ўгледзеўшыся ў вакно, потым да танцуючых). Чады мої..* Там жа, 52.

**[ПІЛЬНАВАЦЦА]** *незак.* Асцерагацца. [Ануля]: *Толькі пільнуйся, сынок, каб ён* [немец] *не ўздумаў цягнуць цябе ў палон..* Т, 34.

Заг. адз. 2 ас. *пільнуйся*: Т, 34.

**ПІЛЬНАВАЦЬ** (4) і *разм.* **ПІЛЬНАВАЦІ** *незак.* Наглядаць, назіраць, вартаваць, сцерагчы. [Спічыні]: *Мушу йсці пільнаваць хаты.* Т, 50. *Меў хату, меў поле; – прыйшлі і забралі.. Сам вінен: не ўмеў пільнаваці.* Р.

Інф. *пільнаваць*: Т, 50; *пільнаваці*: Р. Абв. цяп. адз. 1 ас. *пільную*: Вб, 236. 3 ас. *пільнуе*: БрБ, 6. Пр. адз. м. *пільнаваў*: Т, 58.

**[ПІЛЬНЫ]** (2) *прым.* **1.** Неабходны, тэрміновы. [Янка]: *..у вельмі пільнай справе прышлося нам заседзецца крыху.* Т, 44.

**2.** Старанны, руплівы, дбайны. [Мікіта]: *На маю пільную працу нават начальства.. звярнула ўвагу і да маёй рангі.* Т, 46.

Адз. ж. В. *пільную*: Т, 46. М. *пільнай*: Т, 44.

**[ПІПКА]** *ж. Разм.* Люлька для курэння. [Янка]: *Але дзядзька густа іх* [гасцей] *сваёй піпкай падкурваў.* Т, 29.

Адз. Т. *піпкай*: Т, 29.

**[ПІОНЭР]** *м. перан.* Зачынальнік. *Гэтые дзьве рэволюцыі – гэтые піонэры жыцьця на зямлі на новых парадках, найболей праявілі свае добрые і благіе староны, як гэта ня дзіўна – на беларускай зямлі.* СНБ.

Мн. Н. *піонэры*: СНБ.

**[ПІР]** (3) *м. Руск., перан.* Бітва. *Пазвалі вас* [бальшавікоў] *на пір піроў, Пазвалі вас за волю стаць...* ПВ. *Яны* [людзі]*, як цені, ў грамадзе Маўчаць і йдуць на пір паганы.* Кц, 195.

Адз. В. *пір* (2): Кц, 195; ПВ. Мн. Р. *піроў*: ПВ.

**[ПІРАМІДА]** *ж.* Вялікае каменнае збудаванне, якое служыла грабніцай фараонам у старажытным Егіпце. [Янка]: *Бачыў, бачыў. Такая праца йдзе, якраз пры будове егіпецкіх пірамідаў.* Т, 55.

Мн. Р. *пірамідаў*: Т, 55.

**[ПІСАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пісаць: ◊ **Не пры мне пісаны** – аб тым, хто не мае аўтарытэту для каго-н. [Гарошка]: *Не пры мне пісаны гэтыя вашыя вучоныя – вот і ўсё тут!* Т, 27.

Кар. мн. Н. *пісаны*: Т, 27.

**ПІСАЦЬ** (35) *незак.* **1.** Перадаваць на паперы якія-н. графічныя знакі. *Вучоныя канчаюць пісаць адначасова, бяруцца за падзорныя трубы, азіраюцца.* Т, 26. *Супрацоўнікі прыціснуліся к сцяне і штось нібы вельмі пільна пішуць.* Ан, 19.

**2.** Стварацъ, складаць што-н. *Ён* [Сталін] *піша законы стагоддзям, народам.* СС, 303. *Пісаў навет прашэнне раз на імя павятовага камісара, каб ён мне даў перапустку ў Радашковічы.* Ан, 18.

**3.** Паведамляць аб чым-н. [Янка]: *Надовечы я атрымаў ліст з вёскі ад сваёй быўшай вучаніцы, у якім піша яна, што з бацькамі сваімі прыедзе ка мне ў госці.* Т, 23. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны.. мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах у магістратах, на спатканні з міністрам замежных спраў п. Бенешам, пра якое досыць падрабязна пісаў наш совецкі друк, і у кожным горадзе, мястэчку, вёсцы па шляху нашага двухтыднёвага падарожжа.* ПЧ.

**4.** Складаць і запісваць твор. *І я пачаў пісаць стацці, пісаць аб Антанце.* Ан, 19. *І гэтак далей пісаў я і насыпаў аж тысячу радкоў.* Там жа, 19. // Займацца літаратурнай дзейнасцю. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках, і царскія сатрапы секлі яго бізунамі.* ЖН.

◊ **І пайшла пісаць губэрня** *гл.* губэрня.

Інф. *пісаць* (12): Ан, 18(2), 19(3); ЖН; Т, 21, 26, 39(2), 47(2). Абв. цяп. адз. 1 ас. *пішу* (2): Т, 46(2). 2 ас. *пішаш* (2): Ан, 18; СС, 301. 3 ас. *піша* (4): Р; СС, 303(2); Т, 23. Мн. 1 ас. *пішам* (2): ОШМ (2). 3 ас. *пішуць*: Ан, 19. Пр. адз. м. *пісаў* (9): Ан, 18(2), 19; АПЖ; Н; ПЧ; Т, 61(2); ХБ, 29. Мн. *пісалі*: ОШМ. Заг. адз. 2 ас. *пішы* (2): Ан, 19; КЧ.

**ПІСАЦЦА** (2) *незак.* Стварацца, складацца. *Міліцэйскіураднік просьбы не прыняу, сказаушы, што усе просьбы да ураду павінны пісацца па-польску.* ОШМ. *..усе просьбы павінны пісацца па-польску або па-расійску.* Там жа.

Інф. *пісацца* (2): ОШМ (2).

**[ПІСТАЛЕТ]** (3) *м.* Агнястрэльная зброя. [Гануля]: *Гарэлка.. пісталеты.. зусім не сэзонны тавар у гэты час.* Т, 58. [Мікіта]: *..мадам-сіньёра, патрымайце пісталеты.* Там жа, 59.

Мн. Н. *пісталеты* (2): Т, 58, 62. В. *пісталеты*: Т, 59.

**[ПІСУЛЬКА]** *ж. Разм.* Маленькае пісьмо, запіска. [Аленка]: *(узіраючыся ў пісульку) Ці тут жыве дзядзька.. як яго?! Дзядзька Мікіта Зносак?* Т, 25.

Адз. В. *пісульку*: Т, 25.

**ПІСЬМЕННІК** (12) *м.* Той, хто піша літаратурныя творы; для каго літаратурная дзейнасць з'яўляецца прафесіяй. *..гэтай рэформы жадала совецкая грамадскасць, рабочыя, калгаснікі, пісьменнікі, вучоныя і т. д.* ШБСЯ. *Наша краіна, наша партыя выхавала таленавітых маладых паэтаў і пісьменнікаў.* ВГР.

Δ **Пісьменнік-геній**: *Смерць вам, жывыя нябожчыкі-трупы, Смерць за пісьменніка-генія!* СЗГ, 252.

Адз. Н. *пісьменнік*: УПУВ. В. *пісьменніка*: СЗГ, 252. Мн. Н. *пісьменнікі* (4): ВГР; ПЧ (2); ШБСЯ. Р. *пісьменнікаў* (6): ВГР (2); ДНСП; НКУС; ПЧ; ШБСЯ.

**[ПІСЬМЕННІЦКІ]** (2) *прым.* Які адносіцца да пісьменніка. *Я шчаслівы і крыху зайздрошчу, што наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні вялікага Кастрычніка.* ЖН. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі па-за пралетарскімі пісьменніцкімі організацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е..* ДНСП. *Параўн.* пісьменскі.

Адз. ж. Н. *пісьменніцкая*: ЖН. Мн. Т. *пісьменніцкімі*: ДНСП.

**ПІСЬМЕНСКІ** *прым. Разм. Тое, што* пісьменніцкі. – *Іначай! Іначай! – перадражніў мяне* [аўтара] *рэдактар. – А дзе пісьменскі нюх?!* Ан, 19.

Адз. м. Н. *пісьменскі*: Ан, 19.

**ПІСЬМЕНСТВА** (4) *н. Уст.* Пісьменнасць. *У шасьці надрукаваных за мінулы год выпусках "Вестник" удзяліў 186 старонак для беларускага пісьменства.* ВСп, 90.

• **Прыгожае пісьменства** – мастацкая літаратура, белетрыстыка. *Прыгожае пісьменства. Бяру* [Купала] *нумар паводле сьпісу..* ВСп, 89. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінута з-под друкарскай машыны беларускіх кніг для школ, навуковых і прыгожага пісьменства.* Там жа, 89.

Адз. Н. *пісьменства*: ВСп, 89. Р. *пісьменства* (2): ВСп, 89, 90. В. *пісьменства*: ВСп, 89.

**ПІСЬМЕНЫ** *прым. Руск.* Пісьмовы. *Мой* [С. Меча] *пісьмены стол стаяў каля акна..* ХБ, 28.

Адз. м. Н. *пісьмены*: ХБ, 28.

**ПІСЬМО** (4) *н.* **1.** Папера з напісаным тэкстам, якая пасылаецца каму-н., каб паведаміць аб чым-н; ліст. *З пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну.* ТП, 213.

**2.** Сістэма графічных знакаў, якія ўжываюцца для пісання. *Бо бачыш, у нас* [у рэдакцыі] *наборшчыкі наконта беларускага пісьма, дык ні бэ, ні мэ.* Ан, 18.

**Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну. Што было сном, тое стала явай. Пісьмо народнага паэта БССР Янкі Купалы.**

Адз. Н. *пісьмо* (2): ПБН; ШБСЯ. Р. *пісьма* (2): Ан, 18; ТП, 213.

**ПІЦЬ** (10) *незак.* **1.** Глытаць якую-н. вадкасць. *Рэдактар, як бура, лётае па хаце і што мамэнт п'е з бутэлькі халодную ваду.* Ан, 19.

**2.** Ужываць спіртныя напіткі. *..Літоўцы (клэўси) цяпер паразумнели и цэлыми вёсками адрэкаюцца пиць гарэлку..* УП. *Аднак ён* [настаўнік] *піў запоем, так што вучні часта заставаліся без настаўніка.* А, 328.

**3.** Выпіваць спіртныя напіткі ў гонар каго-н. *Бярэ* [князь] *коўш соладка віна, Пье за дружыну маладую, І княжна з князем п'е да дна.* Кц, 193.

◊ **Як піць даць** *гл.* даць.

Інф. *піць* (4): Гр, 215; ПД, 83; Т, 42; УП. Абв. цяп. адз. 3 ас. *п'е* (3): Ан, 19(2); БрБ, 6; *пье* (2): Кц, 193(2). Пр. адз. м. *піў*: А, 328.

**ПІШУЧЫ** *дзеепрысл. да* пісаць. Паведамляючы аб чым-н. у пісьмовай форме. *Вядомы польскі пісьменнік Балеслау Ліманоускі, пішучы аб вялікім праз доугіе годы асьветным значэньні Батараускага Унівэрсытэту, паміж іншым кажа: "Сьвятло, якім прамянілася гэта вучэльня захоплівало сабой.."* УПУВ.

**[ПІШЧАЦЬ]** *незак.* Шумець, звінець. *..хто парасё украў, таму и ў вушах пишчыць.* СП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пішчыць*: СП.

**[ПЛАВАЦЬ]** (2) *незак., перан.* Плаўна перамяшчацца ў паверхні. *Паляту я* [трактарыстка], *трактар, "Сталінец" мой слаўны, Дзе воблакі ходзяць, Плаваюць дзе плаўна.* ПТ, 207. *..на вышках, як сон на зямлі, пераменны Залаты месяц радасна плаваў.* Ч, 321.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *плаваюць*: ПТ, 207. Пр. адз. м. *плаваў*: Ч, 321.

**[ПЛАДАВІТЫ]** *прым., перан.* Які надрукаваў многа мастацкіх ці навуковых твораў. *Найболей пладавітымі* [выдавецтвамі].. *аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі і.. "Савецкая Беларусь".* ВСп, 90.

Мн. Т. *пладавітымі*: ВСп, 90.

**[ПЛАДЗІЦЬ]** *незак., перан.* Параджаць. *Ад хаты да хаты йшла* [крыўда] *з хвалай, ..Нявольнікам путы кавала, Пладзіла сусьветныя стогны.* Кр, 77.

Абв. пр. адз. ж. *пладзіла*: Кр, 77.

**[ПЛАКАТ]** *м.* Насценны малюнак з кароткім агітацыйным тэкстам. *Па ўсіх свабодных мясцох расклеены па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты, ..плакаты.* Т, 43.

Мн. Н. *плакаты*: Т, 43.

**ПЛАКАЦЬ** (19) *незак.* **1.** Праліваць слёзы (ад душэўных перажыванняў). *Плача горка ўдоўка, Плача горка маці Па забітым мужу, Спаленым дзіцяці.* МПв, 219. *Ясьне-вельможны пан рэдактар.. сядзеў у сваім пакоі на пуховай пярыні і горка, горка плакаў.* ЧЧШ.

**2.** *перан.* Сумаваць. *Цяпер то, як ты* [родная старонка] *красна, я чую, я бачу, – І апішу, бо ўсьпяж па табе плачу.* ХБ, 28.

**3.** *перан.* Бедаваць, пакутаваць, мучыцца. *Дагэтуль мы плачэм, дагэтуль мы стогнем, Адвечных ня можэм пазбыціся слёз...* В. *Дык ня плач-жа, брат мой, запей песьню са мной Яшчэ раз; не засьні,*

*не засьні.* ХХ.

**4.** *перан.* Выдаваць жалобныя, працяглыя гукі, падобныя на плач (пра вецер). *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль тваё пачуе выха Комсамольскі гарт юначы.* СА, 179.

◊ **Кроўю плакаць** – гінуць ад бяды, гора. *А ты, змарнелы чалавек.. знаеш толькі там смяяцца, Дзе кроўю плакаў бы другі.*БрБ, 6.

Інф. *плакаць* (2): ГП, 8; ЧЧШ. Абв. цяп. адз. 1 ас. *плачу* (2): Дз, 191; ХБ, 28. 3 ас. *плача* (5): БрБ, 6; ГЖУ; МПв, 219(2); СА, 179; *плачэ*: Дз, 187. Мн. 1 ас. *плачэм*: В. Пр. адз. м. *плакаў* (7): БрБ, 6; Ч, 322; ЧЧШ (5). Заг. адз. 2 ас. *плач*: ХХ.

**[ПЛАКУЧЫ]** *прым. перан.* Раскацісты. *Стань, нахіліся над ракой. Ў плакучы ўгледзься пералівы: Ў іх адаб'ецца воклік твой, І ўбачыш незабыты дзівы.* БрБ, 6.

Кар. мн. В. *плакучы*: БрБ, 6.

**[ПЛАН]** (4) *м.* **1.** Праграма заданняў у гаспадарчай галіне, якая павінна быць выканана ў адпаведны тэтмін. *Вяртаецца яна* [экспедыцыя] *з свайго надзвычайнага дрэйфа.. поўнасцю выканаўшы план навуковых работ..* МП. *Шкодніцтва, дывэрсія.. – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі.. ўзарваць пяцігадовы план..* АЛ.

**2.** Парадак, паслядоўнасць чаго-н. *Я* [дзед] *раскажу ім* [вызваліцелям]*, як следна, па плану, Як мне гаротнаму пот вочы выеў.* Д, 73.

**3.** Месца, якое займае што-н. з пункту гледжання яго значнасці. *Кліч "Зямля і воля працоўнаму люду!", сціхшы сягодня ў нашым краю.. як бы адышоў на другі план, на апошні закутак.* ЗС, 17.

Адз. Д. *плану*: Д, 73. В. *план* (3): АЛ; ЗС,17; МП.

**[ПЛАНЕТНЫ]** *прым. да* планета. *За ім* [сонцам] *ляцеў-бы я ў прастор, Туды – у высь, у стратасферу, Пабыць гасцём у ясных зор, Жыццё планетнае праверыць.* МСП, 187.

Адз. н. В. *планетнае*: МСП, 187.

**[ПЛАСКОННЫ]** *прым.* Які развеваецца. *Круціць вецер пласконны падол.* УрП, 82.

Адз. м. В. *пласконны*: УрП, 82.

**[ПЛАСТ]** *м.* Гарызантальны слой асадачнай горнай пароды. *Чыя кірка ў падзямеллі Першай пласт вугля цярэбіць І чый трактар першым сцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180.

Адз. В. *пласт*: СА, 180.

**[ПЛАТА]** (3) *ж.* **1.** Узнагарода за працу. *А як там, паночку, з платай?* Ан. 19.

**2.** Грашовая кампенсацыя за што-н. *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, якія памерлі ў адзін час, ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне.* А, 328. *Ён* [ксёндз] *сказаў, што адну плату ён бярэ за адну галаву, а зусім іншую за дзве галавы.* Там жа, 328.

Адз. В. *плату* (2): А, 328(2). Т. *платай*: Ан, 19.

**ПЛАЎНА** (2) *прысл.* Роўна, без рэзкіх пераходаў (пра рух). *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды вольнага Нёмана..* Н. *Пяляту я* [трактарыстка], *трактар, "Сталінец" мой слаўны, Дзе воблакі ходзяць, Плаваюць дзе плаўна.* ПТ, 207.

**ПЛАЦІЦЬ** (6) *незак.* **1.** Аддаваць грошы або што-н. каштоўнае, узнагароджваць за выкананую працу. [Мікіта]: *..хто мне лепей плаціць, таму і служу і кіхаць хачу на ўсякія ідэі.* Т, 22.

**2.** Аддаваць грошы або іншыя каштоўнасці ў лік якіх-н. абавязацельстваў. *Гэтые падвышкі канечна не павінны нас пужаць, бо і палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідалі ў сваім часе на гарэлку..* ВН. *Пабочные налогі аднакова плаціюць і бедны і багаты.* Там жа.

Інф. *плаціць*: ВН. Абв. цяп. адз. 3 ас. *плаціць* (4): ВН (2); Т, 22(2). Мн. 3 ас. *плацюць*: ВН.

**[ПЛАЧ]** (3) *м. Дзеянне па дзеяслову* плакаць *у 1 знач. Сёння ўжо стар я* [дзед] *і мне не да плачу..* Д, 72. *Ганулі.. Апускаецца з ціхім плачам на спакаваныя манаткі.* Т, 62.

Адз. Р. *плачу*: Д, 72. Т. *плачам* (2): См, 91; Т, 62.

**ПЛАШМЯ** *прысл. Руск.* Плазам, ніц, ніцма. *Адбіваючы тут-жа паклоны плашмя, Нейкі нехрысьць крапідлам махае..* БН, 92.

**[ПЛЕБІСЦЫТ]** (4) *м.* Рэферэндум. *Польскіе эндэкі.. накінулі нам "плебісцыт" і прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ. *І вось, з нашага беларускага пагляду усе гэтые плебісцыты і сходы бацькоў ёсць нішто іншае, як дэмократычная камэдыя..* ДК.

Адз. В. *плебісцыт* (2): СНБ (2). Мн. Н. *плебісцыты*: ДК. Р. *плебісцытаў*: ДК.

**ПЛЕМЕН** (2) *н. Польск. Тое, што* племя. [Заходні вучоны]: *Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэндзі родовэ: племен бялорусінув і племен тэж-бялорусінув з походзэня рэнэгатув і дэгэнэратув.* Т, 26.

Адз. Н. *племен* (2): Т, 26(2).

**ПЛЕМЯ** (4) *н.* Група народнасцей, звязаная агульным паходжаннем і блізкасцю мовы. [Усходні вучоны]: *Народность ныне распадается на две родовыя ветві: племя – белорусы і племя – тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.*Т, 26. [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Там жа, 39. *Параўн.* племен.

Адз. Н. *племя* (2): Т, 26(2). Р. *племені*: Т, 39. Т. *племенем*: Т, 38.

**[ПЛЕСНЯ]** і **[ПЛЕСЬНЯ]** *ж.* **1.** Грыбок у выглядзе пушыстага налёту на гніючых прадметах. *У параўн. Гібелі зноў людзі у сьпеку,*

*ў мароз, Як чэрві сьляпые у плесьні..* ПН, 47.

**2.** *перан.* Разлажэнне ў псіхіцы, ідэалогіі. *Але паслухай, што лес кажа: Я бараніў твой дух аб плесні, Аб думы шчыра твае дбаў.* БрБ, 6.

Адз. Р. *плесні*: БрБ, 6. М. *плесьні*: ПН, 47.

**[ПЛЕСЦІСЯ]** *назак., перан.* Павольна працякаць (пра час). *На небе зоры ўжо мігцяць, На полі срэбны сьнег іскрыцца; На бел-сьвет дзівы выпраўляць Пляцецца ночка-чараўніца.* Кц, 192.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пляцецца*: Кц, 192.

**ПЛЕСЬНЯ** *гл.* **ПЛЕСНЯ.**

**[ПЛЁТКА]** *ж.* Ілжывая чутка. *Ня слухаймо благіх языкоў, што разсеваюць такіе ці сякіе плёткі, бо, як кажуць, у мор намруцца, а ў вайну налгуцца.* РКр.

Мн. В. *плёткі*: РКр.

**[ПЛОДАТВОРЧЫ]** *прым. Руск.* Плённы. *На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца колгасныя нівы, навейшыя дасягненьні аграноміі, тэхнікі і плодатворчай колектыўнай працы.* АЛ.

Адз. ж. Р. *плодатворчай*: АЛ.

**[ПЛОТ]** (3) *м.* Агароджа. *..за плотам саду было поле, а за полем хваёвы лес.* ХБ, 29. *Хто умее слухаць, – можэ Шмат пачуць чаго там; Як прычытвае нябожэ, Бы Лазар пад плотам.* Дз, 188.

◊ **Плот гарадзіць** *гл.* гарадзіць.

Адз. В. *плот*: Т, 53. Т. *плотам* (2): Дз, 188; ХБ, 29.

**[ПЛУГ]** (6) *м.* Сельскагаспадарчая прылада для ворыва. *Цяперака час жытняй сяўбы. Дык жыва за плуг і севалку!* РКр. *Выходзяць на поле плугі, Ўзнімаюць плугі дзірваны.* ТП, 213.

◊ **Запрэгчы ў (нявольнічы) плуг** *гл.* запрэгчы.

Адз. В. *плуг* (3): Дз, 190; Г, 16; РКр. Мн. Н. *плугі* (3): ПЧ; ТП, 213(2).

**[ПЛУТАКРАТ]** *м. Кніжн.* Прадстаўнік пануючага класа, які карыстаецца ўладай, дзякуючы свайму багаццю. *Скіне* [народная армія] *з тваіх* [Фінляндыя] *плеч ярмо плутакратаў..* Ф.

Мн. Р. *плутакратаў*: Ф.

**ПЛЫСЦІ** (21) *незак.* **1.** Перамяшчацца па вадзе. *Глянь, карабль плыве дасужна, Дыміць комін параходны..* СА, 180. *Ўсе мае* [Нёмана] *скарбы намарна ідуць: Жыта учора вывозілі віці, Родныя хвойкі сягоння плывуць.* Н.

**2.** Ехаць на чым-н. *Плывуць таварыш Кіраў і таварыш Сталін, Прад імі даль Зямлі Совецкай і вякоў.* СК, 158.

**3.** *перан.* Плаўна рухаючыся, перамяшчацца ў паветры. *..даўгое белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося, ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29. // Пра сонца. *За ім – за сонейкам мой шлях, Куды яно з сваёю ласкай, Ляцець, плысці, як той жар-птах,*

*На полюсах рабіць папаску.* МСП, 187. // Пра гукі. *Ад песень ад гулкіх плывуць адгалоскі Па шумных дубровах і нівах.* ВВ, 263. *Народ чагосьці зьнябываўся, Гул недавольства плыў і плыў..* УрП, 47.

**4.** Весціся, раздавацца (пра гутарку, бяседу). *Плыве шумліва, як рэка, Бяседа вольная такая, А ўжо нявідзіма рука На небе поўнач адзначае.* Кц, 197.

**5.** *перан.* Праходзіць, мінаць (пра час). *Шуміць бяседа за сталом, Плыве часіна за часінай.* Кц, 196. [Янка]: *..цяжкія вашы* [Мікіты]*справы, што так цяжка вам час плыве..* Т, 45.

**6.** *Тое, што* цячы *ў 1 знач. А сонейка будзе усходзіць, заходзіць, Плысці будуць рэчкі, шумець будзе бор.* НДп, 230. *Жыві і красуйся нам вечныя векі, Як вечна плывуць жыватворныя рэкі!* СС, 303.

**7.** *перан.* Даносіцца. *Ад рання і да рання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158.

Інф. *плысці* (2): МСП, 187; НДп, 230. Абв. цяп. адз. 3 ас. *плыве* (6): Кц, 196, 197; СА, 180; СК, 158; Т, 45(2). Мн. 3 ас. *плывуць* (9): ВВ, 263; ВМ, 72; Н; СА, 189; СК, 158(2); СС, 303; ТП, 215(2). Пр. адз. м. *плыў* (3): МСП, 187; УрП, 47(2). н. *плыло*: ХБ, 29.

**[ПЛЫТ]** *м.* Бярвенне, звязанае ў адзін або некалькі радоў для сплаву па вадзе. *Некалі бераг мой* [Нёмана] *бачыў і знаў; Іншы меў выгляд – не гэты жабрачы, Іншы я плыт на плячох сваіх гнаў.* Н.

Адз. В. *плыт*: Н.

**ПЛЮНУЦЬ** (2) *зак. Разм., перан.* **1.** Не лічыцца з чым-н. [Янка]: *А вы* [Мікіта] *плюнулі б на тое, хто што кажа, ды жылі сваім адумам.* Т, 21.

**2.** *перан.* Дзейнічаць якім-н. чынам. *Нявольніцтва й жабрацтва нас* [беларусаў] *з'ела І так нам высмактала з сэрца сок, Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела Не смеем, стоптаныя на пясок.* Бч, 9.

Інф. *плюнуць*: Бч, 9. Абв. пр. мн. *плюнулі*: Т, 21.

**[ПЛЮС]** *м. перан.* Дадатны бок, перавага. [Мікіта]: *Беларускае асэсарства, апрача ўсякіх іншых плюсаў, мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік..* Т, 56.

Мн. Р. *плюсаў*: Т, 56.

**[ПЛЮСІК]** *м. Ласк. да* плюс. [Мікіта]: *Беларускае асэсарства, апрача ўсякіх іншых плюсаў, мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік..* Т, 56.

Адз. В. *плюсік*: Т, 56.

**[ПЛЮШАВЫ]** (2) *прым.* Пакрыты плюшам. *Справа ў належным месцы стол. ..крэслы венскія і мяккія плюшавыя.* Т, 19. [Янка]: *Мусіць, для гэтага палітычнага чалавека вы, цётачка, і крэслы свае плюшавыя аддалі..* Там жа, 45.

Мн. Н. *плюшавыя*: Т, 19. В. *плюшавыя*: Т, 45.

**ПЛЯВАЦЬ** (4) *незак.* Выкідваць, выдаляць з рота сліну. [Янка]: *Ці не паспяшыліся, пане рэгістратар, пляваць у карытца – каб не прышлося напіцца.* Т, 50. *Гарошка пыхкае люльку і плюе.* Там жа, 52.

◊ **Чорнай гразьзю пляваць** – зневажаць. *Я веру вам* [Жыдам], *хоць чорнай гразьзю ўсюды Плюе вам цар і раб, стары і малады.* Ж.

Інф. *пляваць*: Т, 50. Абв. цяп. адз. 3 ас. *плюе* (3): Ж; Т, 33, 52.

**[ПЛЯМАЧКА]** *ж. перан. Памянш.-ласк.* Хмара. *..неба было ўсё сіняе бяз ніводнае плямачкі; цёплы паўднёвы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын..* ХБ, 29.

Адз. Р. *плямачкі*: ХБ, 29.

**[ПЛЯНЭТА]** *ж.*: ◊ **З іншай плянэты** – другі, не падобны на каго-н. [Янка]: *А праўда, імяніннік, толькі з іншай плянэты.* Т, 34.

Адз. Р. *плянэты*: Т, 31.

**[ПЛЯЦЁНКА]** *ж.* Што-н. сплеценае з пасмаў, кавалкаў. *I сьцібрае* [чараўнік] *на путы струхлеўшыя косьці, I пляцёнкі з асьлепленых шые.* Ч, 325.

Мн. В. *пляцёнкі*: Ч, 325.

**[ПЛЯЦ]** (3) *м.* Плошча. *Месца дзеі – кусок Катадральнага пляца, называнага іначай мянчанамі "Брахалка"..* Т, 33. *Па пляцы колькі дрэў без лісцяў, некалькі садовых лавак.* Там жа, 33.

Адз. Р. *пляца*: Т, 33. М. *пляцы* (20: Т, 19, 33.

**[ПЛЯЦФОРМА]** (3) *ж.* Праграма дзеянняў, сістэма поглядаў. [Спічыні]: *Дзеля гэтага, перш, чымся араторыць, вы* [Мікіта] *павінны выбраць сабе стойкую пляцформу..* Т, 41. [Спічыні]: *Другое – найбліжэйшая палітычная сытуацыя.. апіраецца на пэўных пляцформах.* Там жа, 41.

Адз. В. *пляцформу* (2): Т, 41, 46. Мн. М. *пляцформах*: Т, 41.

**ПЛЯЧО** (18) *н.* **1.** Частка тулава ад шыі да рукі. *То паказвае* [душа] *на плечы, То капец абойме... Бог яго ўсё дарэчы Зразумее, пойме!* Дз, 191. *Рэдактар пахлопаў мяне* [аўтара] *па плячы і выйшаў.* Ан, 19.

**2.** Спіна. *Нявольнік пабратаўся з крыўдай I ў помач ёй даў свае плечы.* Кр, 78. *I тат на нашых плячах мы пачулі, што маюць і могуць адны і другіе.* СНБ.

**3.** *перан.* Хваля. *Іншы меў выгляд – не гэткі жабрачы, Іншы я* [Нёман] *плыт на плячох сваіх гнаў.* Н.

◊ **Браць за плечы** *гл.* браць. **Вынесці на сваіх плячах** *гл.* вынесці. **Даць свае плечы** *гл.* даць. **Плячо ў плячо** – разам. *Станем к змаганьню мы з ведзьмаю-крыўдай Дружна, адважна, плячо у плячо..* Г, 17. **Скінуць з плеч** *гл.* скінуць.

Адз. Н. *плячо*: Г, 17. Д. *плячу*: З. В. *плячо*: Г, 17. М. *плячы*: Ан, 19. Мн. Н. *плечы*: ТП, 214. Р. *плеч*: Ф. В. *плечы* (5): Бц, 74; Дз, 191; Кр, 78; Н; СМ. Т. *плечамі*: Кц, 194; *плячыма*: Т, 37. М. *плячах* (3): АБ, 15; НДН, 18; СНБ; *плячох* (2): Н; Пр.

**ПЛЯШКА** (6) *ж. Разм. Тое, што* бутэлька. *Мікіта стаўляе набок пляшку.* Т, 21. [Мікіта]: *Я растыцкаю куды-небудзь пляшкі.* Там жа, 59.

Адз. Н. *пляшка*: Т, 45. В. *пляшку* (2): Т, 21 (2). Мн. В. *пляшкі*: Т, 59. Т. *пляшкамі* (2): Т, 58, 59.

**ПО** (2) *прыназ. Руск. Тое, што* па *ў 9 знач.* [Заходні вучоны]: (*да Янкі*). *Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яке собе закрэсляце граніцэ політычнэ.* Т, 47. [Усходні вучоны]: *О, Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют і помышляць не жэлают, ібо по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Там жа, 47.

**ПОБАЧ** (7) *прысл.* Адзін каля аднаго, па суседству. *З дзедам унук, побач бацька і маці Селі, гамоняць, а з імі – надзея...* ВМ, 72. *Параўн.* радам.

◊ **Побач з** (*у знач. прыназ. з Т.*) – а) зусім блізка ля каго-, чаго-н. *Ленінская нацыянальная палітыка дала майму народу, побач з іншымі народамі нашай Радзімы, дзярдаўнасць.* А, 328. *Лёсік, надрукаваўшы яго* [верш] *побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму, а чым я* [Купала] *не ведаў, бо быў у вёсцы.* СЧ. б) адначасова з кім-н., разам з кім-н. *Побач з Госиздатом дрэмле й наша “Палітпрасьвета”..* ВСп, 91. [Спраўнік]: *Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі...* Т, 58. ВН; $Ш_2$. *Параўн.* побачкі з.

**ПОБАЧКІ** *прыназ. Разм.*: ◊ **Побачкі з** – *тое, што* побач з. *Выцерла слёзы* [Баларусь], *пайшла ў свет дарогаю Побачкі з сонцам, дарогаю слаўнаю.* ДПЛС.

**[ПОВАД]** *м.* Тое, што можа паслужыць асновай, зачэпкай для чаго-н. *Гэтым Баця сцягвае патрэбныя яму абаротныя сродкі, гэта дае яму повад гаварыць пра ўдзел рабочых у прыбытках..* ПЧ.

Адз. В. *повад*: ПЧ.

**[ПОВЕЯТЬ]** *зак. Руск., перан.* Настаць, надысці. [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают, ібо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47. *Параўн.* повяць.

Абв. буд. адз. 3 ас. *повеет*: Т, 47.

**[ПОВЯЦЬ]** *зак. Польск., перан. Тое, што* повеять. [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі твердзон, маён гдзе топіць сень і бэз можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47.

Абв. буд. мн. 3 ас. *повеён*: Т, 47.

**[ПОГЛЯД]** *м.* Пункт гледжання. [Мікіта]: *Не магу ж я.. набраць у губу вады і маўчаць, калі ён* [Янка] *бэсціць мае жыццёвыя погляды.* Т, 22. *Параўн.* пагляд *у 2 знач.*

Мн. В. *погляды*: Т, 22.

**[ПОДВІГ]** *м. Руск.* Подзвіг. *Слава таварышу Сталіну, чые клопаты натхняюць совецкіх людзей да такіх гераічных подвігаў.* СБ.

Мн. Р. *подвігаў*: СБ.

**[ПОДЛАСЦЬ]** *ж.* Подлы ўчынак. *Гэтакай подласці, гэтакай здрады Свет і не чуў і не бачыў.* СЗГ, 252.

Адз. Р. *подласці*: СЗГ, 252.

**ПОДЛУГ** *прыназ. з Р. Польск.* Па, згодна. *На зробленую увагу, што яго* [урадніка] *вымова нарушае прыказ вышэйшай улады, подлуг каторага беларуская мова ужываецца нарауне з польскай, –ураднік адказаў, што ён не разумее беларускай мовы..* ОШМ.

**ПОДЛЫ** (2) *прым.* Ганебны, несумленны. *З ім* [камсамольцам] *не жарты, з ім не гулі, – Сцеражыся подлы вораг!* СА, 181. *Больш на нас не рыне банда Ашалелай сукай, З-за вугла нас не падсочыць Подлая гадзюка.* НК.

Адз. м. Н. *подлы*: СА, 181. ж. Н. *подлая*: НК.

**[ПОДМУХ]** *м. Разм., перан.* Пра набліжэнне наступленне чаго-н. ..[царская Расія] *рухнула, як падгніўшы слуп, пры першым сільнейшым подмуху вольнага ветру.* СНБ.

Адз. М. *подмуху*: СНБ.

**[ПОДПІС]** і **[ПОДПІСЬ]** *м.* Прозвішча, напісанае ўласнаручна. *Я* [Купала].. *рад шчыра далучыць свой подпіс да гэтага сардэчнага прывітання.* ШБСЯ. [Мікіта]: *..я сам пісаў, сам рукою уласнай пісаў, а начальства подпісь дало і не прачытала, мабыць.* Т, 61.

Адз. В. *подпіс*: ШБСЯ; *подпісь*: Т, 61.

**[ПОДРАТЬ]** (2) *зак. Руск.*: ◊ **Чорт подзеры** *гл.* чорт.

Заг. адз. 2 ас. *подзеры* (2): Т, 38, 47.

**ПОДУМАЦЬ** *зак. Руск. Тое, што* падумаць *у 3 знач.* [Поп]: *Не врэмя лі подумаць нам і о ложэ в очаге домашнем.* Т, 28.

Інф. *подумаць*: Т, 28.

**ПОДЫХ** *м.* Лёгкі, слабы парыў ветру. *Але новы сёлета Подых на аселіцах: Юны чэрвень молада Больш за май вяселіцца.* ПЛ.

Адз. Н. *подых*: ПЛ.

**ПОЖЭГНАЦЬ** *зак. Польск.* Развітацца. [Заходні вучоны]: *Мам гонар пожэгнаць пана!* Т, 27.

Інф. *пожэгнаць*: Т, 27.

**[ПОЗА]** (2) *ж.* Становішча цела, пастава. *Мікіта становіцца ў позу і напявае.* Т, 32. [Спічыні]: *Цяпер зрабеце* [Мікіта] *позу. Крыху не так – прасцей фігуру і вышэй галаву, вочы – удаль.* Там жа, 40.

Адз. В. *позу* (2): Т, 32, 40.

**ПОЗНА** *прысл.*: ◊ **Рана ці позна** *гл.* рана. ВМ, 72.

**[ПОЗНАНЬСКО-ГУРАЛЬСКІ]** *прым. Польск.* Які мае адносіны да этнічных грап палякаў: пазнанцаў і гураляў. [Заходні вучоны]:

*Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познагьско-гуральскей.* Т, 26.

Адз. ж. Р. *познаньско-гуральскей*: Т, 26.

**[ПОЗНІ]** *прым.* Які набліжаецца да канца. *Позняя восень. Сцюдзёна. Пад вечар.* Т, 33.

Адз. ж. Н. *позняя*: Т, 33.

**ПОЗНЫ** *прым.* Які прыйшоў позна. [Янка]: *А гэта што яшчэ за такі позны госць?* Т, 31.

Адз. м. Н. *позны*: Т, 31.

**[ПОІМЕНОВАННЫЙ]** *дзеепрым. пр. зал. да* поіменоваць. *Руск.* Названы. [Усходні вучоны]: *Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное імелось, но благодара врэдным клімацічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Т, 47.

Адз. н. Н. *поіменованное*: Т, 47.

**ПОІНФОРМОВАЦЬ** (3) *зак. Польск.* Паведаміць. [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яке собе закрэсляце граніцэ політычнэ.* Там жа, 47.

Інф. *поінформоваць* (2): Т, 26, 39. Абв. буд. адз. 3 ас. *поінформуе:* Т, 47.

**ПОКІ** (2) *прысл. Абл.* Пакуль. *Як на веча сход ззывалі І тварылі свой закон, Як жылі ды панавалі, Покі ўпалі у палон.* М, 20. *Недаўна Грыцко памёр, а беднаму дзицяци прышлося исьци на вулицу поки доля изноў не зьвяла яе з бацькам и маткаю.* ПДз.

**[ПОКЛІЧ]** *м.* Кліч, заклік. *Няхай не палічаць нашые словы за покліч к бунтарству, – Божа ухавай нас ад гэтага кроку!* ДК.

Адз. В. *покліч*: ДК.

**ПОКОРНО** *прысл. Руск.* Пакорна. [Усходні вучоны]: *Благодару покорно!* Т, 39.

**ПОКУЛЬ** *злучн. Разм. Тое, што* пакуль[2] *у* 2 *знач. А покуль поўнач не прыйшла, Вясьці бяседу будзем далей..* Кц, 196.

**[ПОЛАГ]** *м. перан.* Тое, што ахутвае што-н. *Агонь аўтарны разлажыце, Ахвяру небу аддадзім, Няпраўды толькі ня будзіце, – Хай сьпіць пад полагам сваім.* УрП, 50.

Адз. Т. *полагам*: УрП, 50.

**ПОЛЕ** (55) *н.* Абшар зямлі для ворыва. *Родзіць буйна наша поле, Сады нашы, агароды, Гудуць гулка з добрай волі Нашы фабрыкі, заводы.* СА, 182. *Калісь у гэтым часе, выходзіў селянін у поле і кідаў зерне ў сьвежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні.* ДД.

◊ **Поле бітвы** – месца, дзе адбываецца бітва. *Вось-жэ усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на поле бітвы, павінны.. дружна ісьці да працы на сваіх загонах..* РКР. **У чыстае поле** – невядома куды. [Мікіта]: *..па дарозе адзін мой знаёмы пёрся з імі* [рэвальверамі] *недзе ў чыстае поле і са страху сунуў іх мне, меджду протчым, дарма.* Т, 58.

Адз. Н. *поле* (7): ВБ; ДЖ; ЖН; ПБН; СА, 182; ТС, 74; ХБ, 29. Р. *поля* (5): Т, 20; Ун, 73(2); ХБ, 30; Чж, 146. В. *поле* (18): БЗ; В; ВБ; ГЖУ; ДД; ЕЯП; М, 75; НГд, 8; ПС; ПСД (2); Р; РКр; ССА, 294; Т, 47, 58; ТЗУ, 293; ТП, 213. Т. *полем* (3): ЗЯЗ, 90; СС, 302; ХБ, 29. М. *полі* (15): АБ, 16; БВ, 16; ГП, 8; Дз, 187, 189, 190; Ж; ЗС, 17; Кц, 7; КЧ; ПНБ; СС, 302; ТП, 214; ТС, 74; Ч, 321; *поле*: РКр; *полю*: ПТ, 206. Мн. Н. *палі* (2): ЖН; ПБН. Р. *палёў* (2): ВГР; Пт. Т. *палямі*: ХБ, 28.

**ПОЛІТЫКА** *гл.* **ПАЛІТЫКА.**

**[ПОЛІТЫЧНА-ЭКОНОМІЧНЫ]** *прым.* Які адносіца да палітыкі і эканомікі. [Мікіта]: *..уперад была іншая політычна-экономічная сытуацыя..* Т, 22.

Адз. ж. Н. *політычна-экономічная*: Т, 22.

**ПОЛІТЫЧНЫ** *гл.* **ПАЛІТЫЧНЫ** .

**[ПОЛІЦІЧЭСКІЙ]** *прым. Руск. Тое, што* політычны *ў 1 знач.* [Усходні вучоны]: *Что касается поліцічэскіх граніц обласці, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очэнь туманны.* Т, 47.

Мн. Р. *поліцічэскіх*: Т, 47.

**ПОЛІЎКА** (2) *ж. перан.* Паліўка. *Як чорная поліўка, ліліся яго* [рэдактара] *буйные сьлёзы на васкаваную падлогу..* ЧЧШ.

◊ **Запрадаць за лыжку поснай поліўкі** *гл.* запрадаць.

Адз. Н. *поліўка*: ЧЧШ. Р. *поліўкі*: ПЛП.

**[ПОЛІЦМЭЙСТАР]** *м. Разм.* Паліцэйскі. [Спраўнік]: *Ні поліцыі, ні поліцмэйстраў!..* Т, 28.

Мн. Р. *поліцмэйстраў*: Т, 28.

**ПОЛІЦЫЯ** *гл.* **ПАЛІЦЫЯ.**

**ПОЛК** (4) *м.* Самастойная вайсковая адзінка ў складзе дывізіі або брыгады. *Зварухнуўся полк, А за ім – другі, Толькі сцяг міргае.* ВБ. *Па ўсім тагачасным расійска-нямецкім фронце былі беларускія палкі, дывізіі і г. д.* БВ, 16.

Адз. Н. *полк*: ВБ; Т, 53. Мн. Н. *палкі*: БВ, 16. Р. *палкоў*: РКП.

**[ПОЛЫМ]** *м. Разм.* Полымя. *Абярнуў-бы* [першы брат] *сяліб-ныя ў полым абшары, І сьвет цэлы спаліў-бы ў патрэбе.* Ч, 324.

Адз. В. *полым*: Ч, 324.

**ПОЛЫМЯ** (2) *н. перан.* Запал, уздым. *..нацыянальнае беларус-кае жыццё пачынае кіпець, палаць праўдзівым, вечным і жыват-ворным полымем.* МІ, 17. *Соцыяльная рэволюцыя, якая загарэлася*

*крывавым пажарам на усходзе Эўропы – у Расіі, цяпер яшчэ палае усё паядаючым полымем..* СНБ.

Адз. Т. *полымем* (2): МІ, 17; СНБ.

**[ПОЛЬСКА-НЯМЕЦКІ]** *прым.* Які адносіцца да палякаў і немцаў. *Мяне* [Купалу] *зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада.. раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма ў Заходняй Беларусі.* ШБСЯ. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня, падагрэтая злотымі і маркамі польска-нямецкай дыфензывы, разаб'ецца..* Там жа.

Адз. м. Р. *польска-нямецкага*: ШБСЯ. ж. Р. *польска-нямецкай*: ШБСЯ.

**[ПОЛЬСКА-ПАНСКІ]** *прым.* Які належыць польскім панам. *Прыбыла толькі к польска-панскаму бізуну чыноўніцка-жандармская нагайка.* Нз, 14.

Адз. м. Д. *польска-панскаму*: Нз, 14.

**ПОЛЬСКІ** (76) *прым.* Які мае адносіны да палякаў, да Польшчы. *Гэтак далей жыць ня можна, і мы* [беларусы] *верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і парупіцца зрабіць усе, што вымагае ад яго дзяржаўная мудрасьць..* ОШМ. *Стварылася ў той час польская армія, узышоўшы на землю польскую..* БВ, 16.

**Уваскрашэнне Польскага Універсітэту у Вільні.**

Адз. м. Н. *польскі* (11): З; ЗС, 17; Нз, 14; ОШМ; СНБ (2); Т, 60, 61(3); УПУВ. Р. *польскага* (10): АЛ; БН, 92; ДК; МК; Нз, 14; СНБ; УПУВ (3); ШБСЯ. Д. *польскаму* (2): ОШМ; СНБ. В. *польскі*: Т, 19. Т. *польскім*: А, 327. ж. Н. *польская* (7): БВ, 16; ВР; ЗС, 17; МІ, 17; ОШМ (2); СНБ, 340. Р. *польскай* (11): БВ, 16; ВР (2); ДК; З; ОШМ (2); СБНГ; СНБ (3); *польскей*: Т, 47. В. *польскую* (4): БВ, 16; ВР; ДК; Нз, 14. Т. *польскай* (2): ОШМ; СНБ, 339. н. Р. *польскага* (2): А, 328; СНБ. Т. *польскім*: Нз, 14. Мн. Н. *польскія* (4): СНБ (2); Т, 44; У; *польскіе* (3): ВР (2); ОШМ. Р. *польскіх* (9): ВР; НКУС (2); ОШМ; СНБ (2); СНБ, 339; Т, 44, 56. Д. *польскім*: ВР. В. *польскія* (2): Нз, 14; Т, 44; Т. *польскімі* (3): ВСп, 89; СНБ (2). М. *польскіх*: Т, 39.

**[ПОЛЬШЧЫНА]** *ж. Разм.* Апалячванне. *..калі-ж беларусы, аткідваючы польшчыну, дамагаюцца правоў для беларушчыны, цёплая "хаўрузія" кажэ: не, вы павінны зрабіцца расейцамі, а ня быць беларусамі!* ВР.

Адз. В. *польшчыну*: ВР.

**[ПОЛЮС]** (2) *м.* Пункт перасячэння з зямной паверхняй уяўнай восі вярчэння Зямлі. *..з пургою, з завірухай разам Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць.* ПСС, 231. *За ім – за сонейкам мой шлях, Куды яно з сваёю ласкай, Ляцець, плысці, як той жар-птах, На полюсах рабіць папаску.* МСП, 187.

Адз. Р. *полюса*: ПСС, 231. Мн. М. *полюсах*: МСП, 187.

**[ПОЛЯК]** *м. Польск. Тое, што* паляк. [Заходні вучоны]: *Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральскей.* Т, 26.

Адз. Р. *поляка*: Т, 26.

**ПОМАЧ** (10) *ж.* Дапамога, падмога. *На земствах ляжыць ешчэ іншы важны абавязак – гэта агранамічная і лекарская помач селянам.* ВС. *Нявольнік пабратаўся з Крыўдай І ў помач ёй даў свае плечы.* Кр, 78.

Адз. Н. *помач*: ВС. Р. *помачы* (2): ВС; Т, 23. В. *помач* (5): ВС (2); Кр, 78; ЛП (2). М. *помачы* (2): НДН, 18; СНБ.

**ПОМНІЦЦА** *незак. У знач. пабочн.* Захоўвацца ў памяці, не забывацца. *Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі "Наша Ніва" ўрываліся жандармы і "ахраннікі", здзекаваліся над людзьмі, працуючымі там..* МІ, 17.

Інф. *помніцца*: МІ, 17.

**ПОМНІЦЬ** (7) *незак.* Захоўваць у памяці, не забываць. *І трэба нам помніць тое, што гэта вялікая, культурная і творчая беларуская праца.. зроблена ў Беларусі Савецкай і пры дапамозе Улады Савецкай.* ВСп, 91. *Сына маці выпраўляла, Крыж на памяць дала, Каб матулю родну помніў, Як паедзе з сяла.* ПСД.

Інф. *помніць*: ВСп, 91. Абв. цяп. адз. 1 ас. *помню* (2): Т, 60(2). 2 ас. *помніш* (2): ВБЛ, 81; Т, 44. Мн. 2 ас. *помніце*: Т, 60. Пр. адз. м. *помніў*: ПСД.

**ПОМНЯЧЫ** *дзеепрысл. да* помніць. [Мікіта]: *(палажсыўшы, не помнячы, партманэ з грашыма на лаўку). Ну і немец, меджду протчым!* Т, 42.

**[ПОМСТА]** (2) *ж.* Жаданне адпомсціць. *Людзкое помсты дух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым..* УрП, 52.

**Радзіма кліча да помсты!**

Адз. Р. *помсты* (2): РКП; УрП, 52.

**ПОМСТВА** *н. Разм.* Пачуццё, цяга. *У нявольніка заўсёды ёсць больш помства нянавісці к другім, чымся ў чалавека вольнага.* НДН, 19.

Адз. Н. *помства*: НДН, 19.

**ПОМЫШЛЯЦЬ** (2) *незак. Руск. Тое, што* думаць *у* 3 *знач.* [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют і помышляць не жэлают, ібо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47.

Інф. *помышляць*: Т, 47. Абв. цяп. мн. 3 ас. *помышляют*: Т, 47.

**ПОНЕВАЖ** *злучн. Польск. Тое, што* паколькі. [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі твердзон, маён гдзе топіць сень і без можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47.

**ПОНЕЖЭ** *злучн. Руск., уст.* Паколькі, бо. [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27.

**ПОП** (29) *м. Разм.* Сяшчэннік. *Цар, пан, поп і нагайка, здavалася, зноў запанавалі навекі.* ДЖ. [Мікіта]: *Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце* [Гануля] *– панечка, а мадам-сіньёра, калі з папом, то- не бацюшка, а ацец духоўны..* Т, 22.

Адз. Н. *поп* (26): ДЖ; Т, 22, 24(2), 27(2), 28(4), 37(3), 38(3), 50, 51(5), 52(3), 53. Р. *папа* (2): Т, 28, 38. Т. *папом*: Т, 22.

**[ПОПЕЛ]** *м.* Пылападобная маса пасля згарання чаго-н. [Гарошка] *..уваходзячы ў хату, выбівае аб пазногаць попел з люлькі.* Т, 25.

Адз. В. *попел*: Т, 25.

**[ПОПУЛЯРНАСЬЦЬ]** *ж.* Вядомасць. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год ідэолёгічнымі памылкамі ў сваёй творчасьці, популярнасьцю і аўторытэтам, як народны поэта, не дапамагаў.. ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ.

Адз. Т. *популярнасьцю*: АЛ.

**ПОРАХ** (4) *м.* Выбухное рэчыва для вырабу зарадаў агнястрэльнай зброі. *Дынаміт і порах Запускалі ў дзела, – На шматкі хай рвецца народнае цела!* МПв, 219.

◊ **Змалоць на порах** *гл.* змалоць. **Сцерці на порах** *гл.* сцерці. **Сядзець як на падпаленай бочцы з порахам** *гл.* сядзець.

Адз. Н. *порах*: МПв, 219. В. *порах* (2): ВБ; СА, 181. Т. *порахам*: СНБ, 340.

**[ПОРТФЕЛЬ]** *м. Руск.* Пасада міністра. *Старшынёй урада быў назначаны Жылуновіч (Ц. Гартны), а рэшта "портфелей" былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным ды іншымі.* СНБ, 338.

Мн. Р. *портфелей*: СНБ, 338. *Параўн*. партфэль.

**[ПОРТФЭЛЬ]** (4) *м. Польск. Тое, што* портфель. [Мікіта]: *Пакіньце* [мамаша] *толькі портфэль з маёй пэнсіяй.* Т, 50. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфэлі можа дзе пад комін ці куды іх падсунеце.* Там жа, 50.

Адз. В. *портфэль*: Т, 50. Мн. В. *портфэлі* (2): Т, 50, 59. М. *портфэлях*: Т, 62.

**[ПОРТФЭЛЬЧЫК]** (3) *м. Памянш.-ласк. да* портфэль. [Мікіта]: *(дастаючы першы партфель). У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні..* Т, 46. [Мікіта]: *Якія – старыя ці новыя? старыя во дзе – у гэтых портфэльчыках.* Там жа, 60.

Адз. М. *портфэльчыку* (2): Т, 46(2). Мн. М. *портфэльчыках*: Т, 60.

**ПОРУЧ** *прысл.* Побач. *Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць.* Ф.

**[ПОСКУДЗЬ]** *ж. Разм., пагардл.* Пра каго-н. агіднага, паскуднага. *Дзерава адкіне Дзерава сухое, Сябе не спаганіць Поскуддзю такою.* МПв, 218.

Адз. Т. *поскуддзю*: МПв, 218.

**ПОСЛЕ** *прысл. Руск. Тое, што* пасля². *Яны* [бальшавікі].. *арганізавалі так званую Западную вобласць, пераіначаную после на "Западную камуну".* СНБ, 337.

**[ПОСНЫ]** *прым.:* ◊ **Западаць за лыжку поснай поліўкі** *гл.* западаць.

Адз. ж. Р. *поснай*: ПЛП.

**[ПОСПЕХ]** (2), **[ПОСЬПЕХ]** (4) і **[ПАСЬПЕХ]** *м.* **1.** Удача ў дасягненні чаго-н. *Пад Вашым* [Ежова] *кіраўніцтвам совецкая зямля.. з поспехам ачышчаецца ад германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў.* НКУС. *Цяпер на мейсцы "Адраджэння" беларускую выдавецкую справу ў складзе тых самых супрацоўнікаў і з такім жа пасьпехам вядзе В-ва "Савецкая Беларусь".* ВСп, 91

**2.** *толькі мн.* Добрыя вынікі ў рабоце, вучобе. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* ДНСП.

**Дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.**

Адз. Т. *поспехам*: НКУС; *пасьпехам*: ВСп, 91. Мн. Н. *посьпехі*: ЖН. Р. *посьпехаў* (4): ДНСП (4).

**ПОСТ** (2) *м. Абрад.* Перыяд устрымання ад скаромнай ежы. *А уся – знаёмая: Мае панаванне У посьце прад Вялікаднямі У сялянскім стане.* $Ш_3$. // *Іран.* [Аленка]: *Гэта ж як у таткі пачнецца вялікі табачны пост..* Т, 39.

Адз. Н. *пост*: Т, 39. М. *посьце*: $Ш_3$.

**ПОСТАЦЬ** *ж.* Стан, аблічча. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце.. не давалі мне* [С. Мечу] *гэтулькі асалоды і прыёмнасьці, як постаць гэтых дрэў..* ХБ, 29.

Адз. Н. *постаць*: ХБ, 29.

**ПОСТУП** *м. перан.* Рух наперад, прагрэс. [Спічыні]: *Зусім добра. Поступ у навуцы вялікі.* Т, 49.

Адз. Н. *поступ*: Т, 49.

**[ПОСЦІЖЭНІЕ]** *н. Руск.* Зразуменне. [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

Адз. Р. *посціжэнія*: Т, 39.

**ПОСЬПЕХ** *гл.* **ПОСПЕХ**.

**[ПОСЯДАЦЬ]** (2) *незак. Польск.* Мець, валодаць чым-н. [Заходні вучоны]: *На запытане, як сень далеко распостшэня ове "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульно-польскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39. [Заходні вучоны]: *Край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэтэ пшэісточыло сень в Пінске блото.* Там жа, 47.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *посяда*: Т, 39. Пр. адз. м. *посядал*: Т, 47.

**ПОТ** (4) *м.* **1.** Празрыстая вадкасць, якая выдзяляецца асобымі падскурнымі залозамі. *Таўкуцца душы скамянелы, Крывавы пот цячэ са шчок.* РС, 40. *Закалосіцца поле, слязой, потам злітае, Зашуміць сваю думу старую..* ТС, 74.

**2.** *перан.* Праца. *Я* [дзед] *раскажу ім* [вызваліцелям], *як следна, па плану, Як мне гаротнаму пот вочы выеў.* Д, 73. *Быдлам зрабілі нас панскія здзекі, Век марнаваліся ў слёзах і поце.* Там жа, 73.

Адз. Н. *пот* (2): Д, 73; РС, 40. Т. *потам*: ТС, 74. М. *поце*: Д, 73.

**[ПОТШЭБНЫ]** *прым. Польск.* Неабходны, патрэбны. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Для взбогацэня нашэй ведзы польскей потшэбнэ сон ешчэ нектурэ шчэгулы о нібы вашым краю.* Т, 47.

Мн. Н. *потшэбнэ*: Т, 47.

**ПОТЫМ** (12) *прысл.* Праз некаторы час. *У 1916 г. пераехаў* [Купала] *у Мінск, з Мінска ў Полацк, а потым у Смаленск.* А, 328. *"Ідзеце за намі, каб не сказалі вам потым: чаму не памаглі нам* [людзям], *як мы былі слабые..* ВМР. // Пасля чаго-н., затым. [Аленка]: *А цяпер я хачу вучыцца на курсістку, потым на доктара..* Т, 30. ВБЛ, 81; К; ПДз; Т, 21, 54(2), 58, 60; ХБ, 29.

**[ПОЎДЗЕНЬ]**[1] *м.* Адзін з чатырох напрамкаў свету, супрацьлеглы поўначы. *Меншчына ляжыць трошкі на поўдзень за Маскву...* ХБ, 29.

Адз. В. *поўдзень*: ХБ, 29.

**[ПОЎДЗЕНЬ]**[2] *м.* Сярэдзіна дня. *Дзея чацвёртая. Час пасля паўдня.* Т, 53.

Адз. Р. *паўдня*: Т, 53.

**ПОЎНАСЦЮ** і **ПОЎНАСЬЦЮ** *прысл.* Цалкам. *Вяртаецца яна* [экспедыцыя] *з свайго надзвычайнага дрэйфа не толькі поўнасцю выканаўшы план навуковых работ..* МП. *..наш Камісарыят Земляробства абавязан не спаць у шапку, а падумаць аб тым, каб поўнасьцю задаволіць літаратурай аб сельскай гаспадарцы нашых земляробаў..* ВСп, 90.

**ПОЎНАЧ**[1] *ж.* Краіны, якія знаходзяцца ў гэтым напрамку свету. *Не называўся забыты мой* [Нёман] *край: "Поўнач" не раз у ім схову шукала, "Захад" знаў сілу яго неўнарай.* Н.

Адз. Н. *Поўнач*: Н.

**[ПОЎНАЧ]**[2] і **ПОЎНАЧЬ** *ж.* Сярэдзіна ночы. *А покуль поўначь не прыйшла, Вясьці бяседу будзем далей..* Кц, 196. *Плыве шумліва, як рэка, Бяседа вольная такая, А ўжо нявідзіма рука На небе поўнач адзначае.* Там жа, 197.

Адз. Н. *поўначь*: Кц, 196. В. *поўнач*: Кц, 197.

**[ПОЎНІЦЬ]** *незак. Тое, што* напаўняць. *Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, Гучыць песня працы..* ПБН.

Абв. пр. мн. *поўнілі*: ПБН.

**[ПОЎНЫ]** (12) *прым.* **1.** Які ўмясціў у сябе многа каго-, чаго-н. *За вольнае слова катуюць і судзяць, Астрогі там поўны нявінных ахвяр.* ПБН. *З табою* [Сталін] *дабром у нас поўны засекі, З табою не страшны для нас небяспекі..* СС, 303.

**2.** *перан.* Цалкам ахоплены чым-н., прасякнуты чым-н. *Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца, Поўнае шчырых жаданняў..* ЁЯ. *Песьні рвуцца з трывожных, бунтарскіх грудзей, Поўны мараў ружовых і сьветлых надзей..* АР.

**3.** Які праяўляецца поўнасцю. [Янка]: *..прытым ваша* [Мікіты] *поўнае дагэтуль ігнараванне гэтай справы й несвядомасць...* Т, 56. *Мы так сама памятаем, што вядомая адозва Пілсудзкага.. гаворыць пра тое, што з прыходам палякоу Беларусь атрымала волю і поуную магчымасьць быць гаспадарамі у сваім краю..* ОШМ.

Адз. ж. Н. *поўная:* Нз, 15. В. *поўную*: ОШМ. Т. *поўнай* (2): Нз, 14; ВБЛ, 83. н. Н. *поўнае* (2): ЁЯ; Т, 56. Р. *поўнага*: ВГР. Мн. В. *поўных*: ЁЯ. М. *поўных*: ЗК, 42. Кар. мн. Н. *поўны* (3): АР; ПБН; СС, 303.

**[ПОЎХУ]** *прысл.* ◊ **Дастаць поўху** *гл.* дастаць.

**ПОХМУР** *м. Разм.* Пахмурнасць. *Ад рукі сына першага вісельні гнуцца, У зямлю йдуць маладыя галовы. Захапіў яго похмур лядачны, крывавы..* Ч, 320.

Адз. Н. *похмур*: Ч, 320.

**ПОХОДЗОНЦЫ** *дзеепрым. Польск.* Які вядзе ад каго-н. сваё паходжанне. [Заходні вучоны]: *На запытане, як сень далеко распостшэня ове "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

Адз. м. Н. *походзонцы*: Т, 39.

**[ПОХОДЗЭНЕ]** *н. Польск.* Паходжанне. [Заходні вучоны]: *Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэнзі родовэ: племен бялорусінув і племен тэж-бялорусінув з походзэня рэнэгатув і дэгэнэратув.* Т, 26.

Адз. Р. *походзэня*: Т, 26.

**ПОЧЕМУ-ТО** *прысл. Руск. Тое, што* чамусьці. [Усходні вучоны]: *..вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

**ПОЧЭРПНУЦЬ** *зак., перан.* Пачарпнуць, узяць. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Необходзімо почэрпнуць от вас сведенія касацельно церрыторыальных данных обласці, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38.

Інф. *почэрпнуць*: Т, 38.

**ПОШАСЦЬ** (2) і **ПОШЭСЦЬ** *ж.* Хвароба, эпідэмія. *Як сільным, магучым праз песню стаў ён* [народ], *– Зноў пошэсць есць стала памалу..* ПН, 47. // Напасць, насланнё. *Грудзі здавілі мне* [Нёману] *хмары навалай, Пошасць уелася ў матку-зямлю.* Н. [Янка]: *Нам і без мора.. хапае дзе тапіцца, як павее пошасцяй праз усходнія ці заходнія "акошкі".* Т, 47.

Адз. Н. *пошасць*: Н; *пошэсць*: ПН, 47. Т. *пошасцяй*: Т, 47.

**ПОЭМА** *гл.* **ПАЭМА.**

**ПОЭТ** *гл.* **ПАЭТ.**

**ПОЭТА** *гл.* **ПАЭТ.**

**[ПОЭТЫЦКІ]** *прым. Разм. Тое, што* паэтычны. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю.. паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату.. беларускай вёскі..* АЛ.

Адз. ж. Т. *поэтыцкай*: АЛ.

**ПОЯС** (4) *м.* Рэмень, шнур. [Янка]: *Праўдзівая кашуля, праўдзівы пояс і праўдзівая лыжка.* Т, 31. *Аленка дастала з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае Янку..* Там жа, 30.

Адз. Н. *пояс*: Т, 30, 31. В. *пояс*: 30. М. *поясе*: Т, 32.

**ПРА** (15) *прыназ. з В.* Выражае аб'ектныя адносіны; ужываецца пры абазначэнні прадмета размовы, пачуцця. *А цяпер паслухаем, што кажуць расейцы пра хараство і багацьце нашага краю.* ХБ, 28. *Свайго вызвалення мы* [беларусы] *дзень услаўляем І песню пра шчасце прыносім табе* [Сталіну]. ПБН.

◊ **Ні за што ні пра што** – нізавошта, без прычыны. *У нас* [беларусаў] *усё спіць, ніхто не падае голасу, ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з падмогай дзеля яго адбудавання..* АБ, 16.

А, 328; ОШМ; ПЧ (7); ХБ, 27, 29; ХЛВ, 316.

**[ПРАБАВАЦЬ]** *незак.* Рабіць спробу чаго-н. *Проста жывём мы* [беларусы], *як доля лучыць, І крывадушыць не прабавалі...* Пп, 5.

Абв. пр. мн. *прабавалі*: Пп, 5.

**[ПРАБАЧЭННЕ]** *н.*: ◊ **Папрасіць прабачэння** *гл.* папрасіць.

Адз. Р. *прабачэння*: Т, 28.

**ПРАБІВАЦЬ** *незак.*: ◊ **Галавой мур прабіваць** – пра марныя намаганні дабіцца чаго-н. *Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галавамі мур прабіваць – адбудоўваць сваю закованую ў многавяковыя кайданы бацькаўшчыну..* ПЛП.

Інф. *прабіваць*: ПЛП.

**[ПРАБІТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* прабіць. Прадзіраўлены. *Грудзі прабіты* [у хлопчыка] *штыхом..* ВБЛ, 82.

Кар. мн. Н. *прабіты*: ВБЛ, 82.

**[ПРАБУДЗІЦЦА]** (2) *зак., перан.* Узнікнуць, з'явіцца (пра пачуцці, думкі). *Прабудзілася соцыяльная і нацыянальная вызваленчая думка ў падняволеных народаў Расіі.* ДЖ. *Тыя думкі і летуценні, якія прабудзіліся ў нашым народзе ў часе першай расійскай рэвалюцыі (1905 г.), разліліся шырокаю хваляй па неабнятых абшарах нашага краю.* СНБ, 336.

Абв. пр. адз. ж. *прабудзілася*: ДЖ. Мн. *прабудзіліся*: СНБ, 336.

**[ПРАБУДНЫ]** *прым.* Які будзіць. *Забьюць ім зычныя званы Прабудным звонам на прадвесьні.* Кц, 196.

**ПРАБУЮЧЫ** *дзеепрысл. да* прабаваць. [Аленка]: *(прабуючы падымаць паасобку партфелі ў каламажцы). Ну і цяжкія ж гэтыя торбы!* Т, 46.

**ПРАВА** (35) і **ПРАВО** *н.* **1.** Заканадаўства. *Прышчэплівалі ім* [падняволеным народам] *з малых дзён думку, што не права пануе над сілай, а сіла над правам.* НДН, 18. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: ..уваскрасіць стары Менск, калі панавалі тут продкі нашы, калі прыгожа зычэла мова наша і справавало беларускае право.* ВМР.

**2.** Узаконеная магчымасць што-н. рабіць, ажыццяўляць, якая ахоўваецца дзяржавай; правамоцтва. *Мы прывялі адзін з нязьлічаных выпадкаў няпрызнаньня права беларускага народу на яго родную мову.* ОШМ. *..вы беларусы – ісконі-рускіе людзі з сваім неразьвітым языком, можаце і нашай* [рускай] *культурай карміцца, але калі так хочаце – можна і вам даць правы, але толькі у... сенях.* З.

**3.** Магчымасць рабіць што-н. [Наста]: *Я ж вам* [Мікіту] *ужо цяперся забараніла думаць аба мне, пакуль не зробіцеся асэсарам! Значыцца, і не маеце права думаць.* Т, 42. [Мікіта]: *(да Чырвонаармейца). Абвяшчаю вас сваім палонным. Без майго, меджду протчым, дазволу не маеце права даць і кроку.* Там жа, 52.

Адз. Н. *права* (2): ЗС, 17; НДН, 18; *право*: ВМР. Р. *права* (13): ГВУ; ДК; Нз, 14(3); НДН, 18, 19(2); ОШМ; СНБ; Т, 40, 42, 52. Д. *праву* (2): ЗС, 18; ПЛП. В. *права* (5): Б, 18(2); ГВУ; Т, 35, 46. Т. *правам* (3): НДН, 18, 19(2). Мн. Р. *правоў* (4): ВР (2); УПУВ (2). В. *правы* (6): З; СНБ, 337(2); СНБ (2); УПУВ.

**ПРАВАДЖАЦІ** *незак. Разм.* Праводзіць. *Едзе Янка ў поле, Едзе ваяваці, А дзяўчына, як маліна, Выйшла праваджаці!* ЕЯП.

Інф. *праваджаці*: ЕЯП.

**ПРАВАДЫР** (27) *м.* Ідэйны, палітычны кіраўнік (партыі, класа). *Табе, правадыр, мае песні і думы, І шчырыя шчырага сэрца парывы!* ТП, 215. *У СССР.. рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства.. рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы найгеніяльнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду – Маркса і Леніна..* АЛ.

**Маё мне сонца правадыр... Табе, правадыр...**

Адз. Н. *правадыр* (18): АЛ; ЖН; МСП, 187(3); НКУС; ПНд, 314; ТП, 213(3), 214(2), 215(2), 216(2), 217(2). Р. *правадыра* (3): НКУС; СТ; ЦСБ. Д. *правадыру*: ШБСЯ. Т. *правадыром* (2): АЛ; ЦСБ. Мн. Н. *правадыры*: СНБ. В. *правадыроў* (2): СНБ (2).

**[ПРАВАКАТАРСКІ]** (2) *прым.* Які мае адносіны да правакатара. [Янка]: *Асабліва, мабыць, добра знаёмы* [Гізульскі] *з профэсіяй правакатарскага мастацтва?* Т, 45. [Янка]: *О, гэта ўжо правакатарскімі прынцыпамі запахла ад вас* [Мікіты]*!* Там жа, 56.

Адз. н. Р. *правакатарскага*: Т, 45. Мн. Т. *правакатарскімі*: Т, 56.

**[ПРАВАКАЦЫЙНЫ]** *прым.* Які змяшчае правакацыю. *Шыла.. асвятляў Дзям'яну Беднаму гэты верш у правакацыйным сэнсе.* СЧ.

Адз. м. М. *правакацыйным*: СЧ.

**[ПРАВАЛІЦЦА]** (3) *зак. Разм., перан.* Пацярпець няўдачу. *Бліскуча распрацаваная немцамі спаднічная аперацыя таксама бліскуча праваліласся.* ПСп.

◊ **Скрозь дна праваліцца** (2) – бясследна знікнуць, прапасці. [Мікіта]: *Польскі дакумэнт трэба паказваць. Каб я лепей скрозь дна праваліўся.* Т, 64. [Мікіта]: *Чаму ж ты скрозь дна не праваліліся, мая ты пажарная каманда?* Там жа, 33.

Абв. пр. адз. м. *праваліўся*: Т, 64. ж. *правалілася* (2): ПСп; Т, 33.

**[ПРАВАПАРАДАК]** *м. Скар.* Прававы парадак. *..гэтыя дзяржавы.. мелі адну ярка зарысованую мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і паднявоўліць іх.. свайму дзяржаўнаму правапарадку.* НДН, 18.

Адз. Д. *правапарадку*: НДН, 18.

**ПРАВАПІС** (4) *м.* Сістэма правіл напісання слоў; арфаграфія. *Стары правапіс.. трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ. *Рэформа правапіса, праведзеная пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г., мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.* Там жа.

Адз. Н. *правапіс*: ШБСЯ. Р. *правапіса* (3): ШБСЯ (3).

**[ПРАВАСЛАЎНЫ]** *прым.* Які належыць да праваслаўя. *Для беларусоў праваслаўных выкладаецца рэлігія па расейску..* ВР.

Мн. Р. *праваслаўных*: ВР.

**[ПРАВА-ТРАЦКІСЦКІ]** *прым.* Які належыць правым трацкістам. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў, агентаў царскай ахранкі, аб'яднаных у адной смярдзючай кучцы "права-трацкісцкага блока"?* МП.

Адз. м. Р. *права-трацкісцкага*: МП.

**[ПРАВЕДЗЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* правесці *ў* 1 *знач. Рэформа правапіса, праведзеная пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г., мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.* ШБСЯ.

Адз. ж. Н. *праведзеная*: ШБСЯ.

**ПРАВЕДНЫ** *прым.*: ◊ **Божа праведны** *гл.* бог.

Адз. м. Н. *праведны*: БН, 92.

**ПРАВЕРЫЦЬ** *зак., перан.* Пабачыць што-н.; панаглядаць за чым-н. *За ім* [сонцам] *ляцеў-бы я ў прастор, Туды – у высь, у стратасферу, Пабыць гасцём у ясных зор, Жыццё планетнае праверыць.* МСП, 187.

Інф. *праверыць*: МСП, 187.

**ПРАВЕСЦІ** (9) *зак.* **1.** Ажыццявіць, зрабіць што-н. [Мікіта]: .. *сягоння ў дабавак нейкі выключны дзень, і вам* [Ганулі] *ніякай гандлёвай "здзелкі", бадай, не ўдасца ўжо правесці.* Т, 34. *Падрыўнікі атрада чыста правялі работу.* ПСп.

**2.** *Зак. да* праводзіць *у* 1 *знач.* [Наста]: *А вось гэтага* [немца] – *дык я толькі ахвяравалася правесці да Брахалкі.* Т, 41. [Мікіта]: *Мадамы і мусьі! мы з мамашай, меджду протчым, вас нямножка правядзём.* Там жа, 29.

**3.** *Зак. да* праводзіць *у* 2 *знач.* ..*яны* [паны] *таксама ведаюць, што калі збярэцца ўсебеларускі Устаноўчы сойм, то зямельную рэформу ён правядзе, і правядзе яе напэўна не на карысць паноў-абшарнікаў.* ЗС, 18.

**4.** Пражыць, перабыць які-н. час дзе-н. *Усе дзіцячыя гады і маладосць* [Купала] *правёў, бадзяючыся па Барысаўскаму і Мінскаму паветах.* А, 327. *А якая тут восень, які верасень я* [С. Меч] *правёў у Меншчыне!* ХБ, 29.

Інф. *правесці* (2): Т, 34, 41. Абв. пр. адз. м. *правёў* (2): А, 327; ХБ, 29. ж. *правяла*: ПСД. Мн. *правялі*: ЖН. Буд. адз. 3 ас. *правядзе* (2): ЗС, 18(2). Мн. 1 ас. *правядзём*: Т, 29.

**[ПРАВІЛЬНЫ]** *прым.* Які прыводзіць да патрэбных вынікаў. *Рэформа правапіса.. з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы.* ШБСЯ.

Адз. м. Т. *правільным*: ШБСЯ.

**[ПРАВІНА]** *ж. Разм.* Правіннасць, віна, дрэнны ўчынак. *Ці апомняцца сыночкі ў сваёй правіне?* Дз, 191.

Адз. М. *правіне*: Дз, 191.

**[ПРАВІНЦЫЯ]** *ж.* Мясцовасць, аддаленая ад сталіцы. *Чытаў я* [Купала] *без разбору ўсё, што трапляла пад рукі ў глухой правінцыі..* ПС.

Адз. М. *правінцыі*: ПС.

**[ПРАВІНЦЫЯЛІЗМ]** *м. перан.* Адсталасць, кансерватызм. *Стары правапіс.. трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізма, ў рамках нацыяналістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ.

Адз. Р. *правінцыялізма*: ШБСЯ.

**ПРАВІЦЬ** (2) *незак.* Рамантаваць, папраўляць. *Не працуйся, кали гоняць дарогу правиць не сваю дый дарма..* СП.

◊ **Сваё правіць** – рабіць па-свойму. [Мікіта]: *Медждy протчым, мамаша, я вас прасіў не запрашаць іх* [Гарошку і Аленку], *а вы ўсё сваё правіце.* Т, 27.

Інф. *правиць*: СП. Абв. цяп. мн. 2 ас. *правіце*: Т, 27.

**ПРАВОДЗІЦІ** *гл.* **ПРАВОДЗІЦЬ.**

**[ПРАВОДЗІЦЦА]** (2) *незак.* Ажыццяўляцца. *Гэта з'яўляецца новым доказам мудрай нацыянальнай палітыкі, якая праводзіцца комуністычнай партыяй на чале са слаўным правадыром т. Сталіным.* ЦСБ. *Гэта можа пацьвердзіць хоць-бы нацыянальна-культурная палітыка, якая праводзіцца недалёка ад нас – за пагранічнымі слупамі..* ГНД.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *праводзіцца* (2): ГНД; ЦСБ.

**ПРАВОДЗІЦЬ** (6) і *разм.* **ПРАВОДЗІЦІ** *незак.* **1.** Прасачыць позіркам за чым-н. *З надзеяй сустракаем выраі вясной, З надзеяй увосень іх праводзім над папарам.* НГ. *Узяўся трэці* [сын] *на трэцяй* [сьцежцы], *як грыб-сыраежка, Спатыкаці, праводзіці ночку.* Ч, 320.

**2.** Суправаджаць каго-н. на развітанне. *Мікіта, кланяючыся, праводзіць іх* [вучоных] *да дзвярэй..* Т, 27. *Параўн.* провожаць.

**3.** Дамагацца ажыццяўлення чаго-н. [Мікіта]: *..і па-беларуску, як я пераканаўся, можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, медждy протчым, імпэрыі.* Т, 56. ..[беларускія нацыянал-дэмократы] *праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмократычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

◊ **Праводзіць у жыцьцё** – ажыццяўляць. *Польскіе эндэкі заместа праводзіць у жыцьцё даўнейшы лёзунг: "вольны з вольным, роўны з роўным", накінулі нам "плебісцыт" і прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ.

Інф. *праводзіць* (2): СНБ; Т, 56; *праводзіці*: Ч, 320. Абв. цяп. адз. 3 ас. *праводзіць* (2): ВН; Т, 27. Мн. 1 ас. *праводзім*: НГ. Пр. мн. *праводзілі*: АЛ.

**[ПРАВУЧЫЦЦА]** *зак.* Правесці некаторы час за вучэннем. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і "Нашай ніве", пасля чаго апынуўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, на якіх правучыўся чатыры гады.*А, 328.

Абв. пр. адз. м. *правучыўся*: А, 328.

**[ПРАВЫ]**[1] (3) *прым.* Размешчаны з таго боку, які з'яўляецца процілеглым леваму. *З правага боку - ..адны дзверы, з левага двое.* Т, 19. [Спічыні]: *Правая рука застаецца свабоднай..* Там жа, 40.

Адз. м. Р. *правага*: Т, 19. ж. Н. *правая*: Т, 40. Мн. Р. *правых*: Т, 23.

**[ПРАВЫ]**[2] *прым.* Справядлівы, праўдзівы. *Знайце правых дэпутатаў.* НД.

Мн. В. *правых*: НД.

**[ПРАГАВАРЫЦЬ]** *зак.* Прамовіць, сказаць. – *Як маемся, пане – пане рэдактар? – прагаварыў я, заікаючыся.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *прагаварыў*: Ан, 19.

**[ПРАГАВІЦЬЦЕ]** *н. Разм.* Прагнасць, жаданне. *Асьвяціў сваё чорнае першы* [брат] *сумленьне Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю..* Ч, 324.

Адз. Т. *прагавіцьцем*: Ч, 324.

**[ПРАГАЛАСАВАЦЬ]** (2) *зак. да* галасаваць. *За яго* [Сталіна] *я* [Купала] *прагаласую не толькі выбарчым бюлетэнем, але і сваёй песняй.* ГВУ. *І за Сталіна таксама Я* [Галіна] *прагаласую.* Вб, 236.

Абв. буд. адз. 1 ас. *прагаласую* (2): Вб, 236; ГВУ.

**[ПРАГАНДЛЯВАЦЬ]** *зак. да* гандляваць. *перан.* Прамяняць. [Гануля]: *Гэтыя рэчы Мікітка мой сёлета на тавараабмен прагандляваў.* Т, 45.

Абв. пр. адз. м. *прагандляваў*: Т, 45.

**ПРАГЛЫНУЦЬ** *зак., перан.* Пахаваць. *Камennі ўстаюць, каб забіць ворага, рэкі выходзяць з берагоў, каб патапіць яго, зямля расступаецца, каб праглынуць яго...* РКП.

Інф. *праглынуць*: РКП.

**[ПРАГЛЯДАЦЬ]** *незак. Разм., перан.* Быць гледачом. *Праглядалі мы* [дэлегаты] *таксама оперу кампазітара Смятаны "Праданая нявеста" ў тэатры "Народнае дзівадла".* ПЧ.

Абв. пр. мн. *праглядалі*: ПЧ.

**ПРАГЛЯДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* праглядаць. *перан.* Азіраючы, успамінаючы. *І сёння, праглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў-бы сам.* ЖН.

**[ПРАГЛЯДЗЕЦЬ]** *зак. да* праглядаць. *Мы* [дэлегаты] *наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна, дзе праглядзелі*

*пастаноўку "Удалага салдата Швейка".* ПЧ.

Абв. пр. мн. *пpaглядзeлi*: ПЧ.

**[ПРАГНАЦЬ]** і *разм.* **ПРАГНАЦІ** *зак.* Прымусіць пайсці адкуль-н. *І пайшлі яны* [жаўнеры] *паходам, Дружна смела пайшлі, Каб вон злыбяду прагнаці З беларускай зямлі.* ПСД. *..мы* [беларусы] *глядзелі і чакалі, што нехта прыдзе ды бальшавікоў прагоніць.* БС.

Інф. *прагнаці*: ПСД. Абв. буд. адз. 3 ас. *прагоніць*: БС.

**[ПРАГРАМА]** і **[ПРОГРАМА]** *ж.* **1.** Парадак правядзення чаго-н. [Дама]: *..паўторым сягоння толькі другую частку програмы таго вечару.* Т, 51.

**2.** Сукупнасць дысцыплін, якія выкладаюцца ў навучальнай установе. *Па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэтае вучылішча, я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай.* А, 328.

Адз. Р. *програмы*: Т, 51. Т. *праграмай*: А, 328.

**[ПРАГУЛЯЦЦА]** *зак.* Патраціцца на гулянне. [Мікіта]: *Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды: адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі – што ў карты прагуляўся, а трэці – што скнэра..* Т, 21.

Абв. пр. адз. м. *прагуляўся*: Т, 21.

**[ПРАГУЧЭЦЬ]** *зак. Разм., перан.* Праявіцца, выявіцца. *..ў песнях маіх* [Купалы] *прагучэла надзея і заклік да барацьбы з царатам і панамі.* ЖН.

Абв. пр. адз. ж. *прагучэла*: ЖН.

**ПРАД** *гл.* **ПЕРАД.**

**[ПРАДАВАЦЦА]** *незак. Зал. да* прадаваць *у* 1 *знач. Прадаецца ўсё гэта па спекуляцыйных цэнах.* ЗС, 18.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прадаецца*: ЗС, 18.

**ПРАДАВАЦЬ** (9) *незак.* **1.** Аддаваць за плату. *І яны* [паны-абшарнікі] *спяшаюцца прадаваць* [зямлю]... ЗС, 18. *Непадалёк ад паняў такі самы тавар прадае Гануля.* Т, 33.

**2.** Здраджваць чаму-, каму-н. *..шыпіць* [нехрысць]*, як гадзюка, Хрыстова імя, І за золата гэта імя прадае...* БН, 92. *Дзе больш званілі золатам, там вышэйшыя станы тагачаснага грамадзянства і служылі, і прадавалі сябе, свой народ, сваю бацькаўшчыну.* Нз, 14.

Інф. *прадаваць*: ЗС, 18. Абв. цяп. адз. 1 ас. *прадаю*: Т, 36. 3 ас. *прадае* (2): БН, 92; Т, 33. Мн. 3 ас. *прадаюць* (2): ЗС, 18; Т, 39. Пр. мн. *прадавалі* (3): ВНЗ; МПв, 218; Нз, 17.

**[ПРАДАВЕЦ]** *м.* Той, хто прадае што-н. [Мікіта]: *..у вас* [Ганулі] *не хапае нават чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах, дзе вымагаецца ад прадаўца пэўнай веды ў пазнаванні душы купляючага і яго грамадзянскага і соцыяльнага становішча.* Т, 34.

Адз. Р. *прадаўца*: Т, 34.

**ПРАДАДЗЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* прадаць *у* 1 *знач. Прададзены ўжо.. двор Беларучы ў Менск. павеце.* ЗС, 18.

Адз. м. Н. *прададзены*: ЗС, 18.

**[ПРАДАЖА]** *ж. Руск.*: Δ **Купля-прадажа** *гл.* купля.

Адз. В. *прадажу*: ЗС, 18.

**[ПРАДАЖНІЦКІ]** *прым.* Здрадніцкі. *Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі Хеўрай прадажніцкіх юдаў.* СЗГ, 252.

Мн. Р. *прадажніцкіх*: СЗГ, 252.

**[ПРАДАЖНЫ]** (4) *прым. перан.* Каго можна падкупіць, хто здольны за грошы да ганебных учынкаў. *На зьдзек прадажныя пракрокі І на гніцьцё у царстве цьмы Вядуць аплучаныя тоўпы Пад стогны вечныя турмы.* РС, 40. *Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць пабожаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць..* ПЛП.

Мн. Н. *прадажныя* (2): РС, 40; ШБСЯ. Р. *прадажных*: Ф. Т. *прадажнымі*: ПЛП.

**[ПРАДАННЕ]** *н. Наватв.* Продаж. [Мікіта]: *А ці не ведаеце, мамзэль Наста, можа, яму* [немцу] *на дарогу маркі патрэбны, бо я маю да прадання?* Т, 42.

Адз. Р. *прадання*: Т, 42.

**[ПРАДАЦЬ]** (3) і *разм.* **ПРАДАЦІ** *зак.* **1.** *Зак. да.* прадаваць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, прадалі што-небудзь ці не?* Т, 34. [Мікіта]: *“Рускія”* [грошы] *– кажуць – давай, а нямецкія, кажуць, меджду протчым, немцу прадай.* Там жа, 34.

**2.** *Зак. да* прадаваць *у* 2 *знач. Збяры* [прарок] *ў адну ўсю Беларусь сям’ю, Вазьмі з яе прысягу і зарок, Што не прадасць сябе, сваю зямлю...* Пт.

Інф. *прадаці*: Р. Абв. пр. мн. *прадалі*: Т, 34. Буд. адз. 3 ас. *прадасць*: Пт. Заг. адз. 2 ас. *прадай*: Т, 34.

**ПРАДБАЧАННЕ** *н.* Здольнасць прадбачыць. *..яго* [стаханаўскі рух] *спарадзіла геніяльнае прадбачанне правадыра ўсіх працоўных – мудрага Сталіна..* СТ.

Адз. Н. *прадбачанне*: СТ.

**ПРАДБАЧЫЦЬ** *зак.* Убачыць наперад, угадаць. *Гэты* [стаханаўскі ] *рух дае такія магчымасці росквіту нашай радзімы, узбагачэння яе і праз гэта-ж такога палепшання добрабыта рабочых і калгаснікаў, што цяжка нават прадбачыць зараз у марах.* СТ.

Інф. *прадбачыць*: СТ.

**[ПРАДВЕСНЕ]** (2) і **ПРАДВЕСЬНЕ** (3) *н.* Час, які папярэднічае вясне. *Гэта было цяжкае галоднае прадвесьне, як і кожнае прадвесьне у гаспадара-беларуса.* БСУ. *Песні сонцам не яснелі Ў вясну, ў прадвесне..* ЗЯЗ, 89.

Адз. Н. *прадвесьне* (2): БСУ (2). В. *прадвесне*: ЗЯЗ, 89. Т. *прадвеснем*: СС, 301. М. *прадвесьні*: Кц, 196.

**ПРАДЗЕД** (7) *м.* **1.** Бацька дзеда або бабулі. *Я паўтараю воклік песняў, Што прадзед з ветрам складаў.* БрБ, 6. *На зямлі, што дзед, прадзед слязьмі І гарачай крывёй паліваў, Унук – ужо між чужымі – Тэй зямлі трох аршын не дастаў.* ЧС, 50–51.

**2.** *толькі мн.* Продкі. *А чыстае, відаць, сумленне мелі прадзеды нашы.* Кз, 17. *Простая нашых прадзедаў слава..* Пп, 5.

Адз. Н. *прадзед* (2): БрБ, 6; ЧС, 50–51. Мн. Н. *прадзеды* (2): Кз, 17; Ф. Р. *прадзедаў* (3): ЗК, 43; Н; Пп, 5.

**[ПРАДЗІЎНЫ]** *прым. Наватв.* Вельмі дзіўны. *І вось у гэтую часіну Да іх* [людзей] *там дыбаў цудадзей, Слуга пратайнасці прадзіўнай, Надчалавек, хоць і з людзей.* УрП, 47.

Адз. ж. Р. *прадзіўнай*: УрП, 47.

**[ПРАДМЕТ]** *м.* Вучэбная дысцыпліна. *Вучні працуюць на заводзе, наведваюць лекцыі, але ў школьных прадметах вы не знойдзеце гуманітарных навук.* ПЧ.

Мн. М. *прадметах*: ПЧ.

**[ПРАДПРЫЕМСТВА]** *н.* Вытворчая ўстанова. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне, Брно, Пільзене, Вітковіцах..* ПЧ.

Мн. Р. *прадпрыемстваў*: ПЧ.

**[ПРАДСМЕРТНЫ]** (2) і **[ПЕРАДСЬМЕРТНЫ]** *прым. Руск., разм.* Перадсмяротны. *Сьмейся сьмехам-сычэньнем праз скрогат Перадсьмертны зубоў..* См, 90. *Ён* [бесхацінец] *цябе* [чужы край]*, як і роднай мяжы, Не забудзе ў прадсмертнай кляцьбе.* ЧС, 50–51.

Адз. м. В. *перадсьмертны*: См, 90. ж. Т. *прадсмертнаю*: См. М. *прадсмертнай*: ЧС, 50–51.

**ПРАДОЎЖЫЦЬ** *зак.* Працягнуць якое-н. дзеянне. *..каб гэту вайну прадоўжыць для гэтых самых кішанёвых спраў, выкінулі вы* [паны гандляры] *лозунг, што ваюеце за вызваленне народаў..* Тж, 15.

Інф. *прадоўжыць*: Тж, 15.

**[ПРАДСТАВІЦЬ]** *зак.* Заявіць аб якіх-н. патрабаваннях; прад'явіць. *..мы* [беларусы] *гэты рахунак прадставім той дзяржаве, якая будзе ў нас гаспадарыць – ці то свая, ці чужая.* АБ, 16.

Абв. буд. мн. 1 ас. *прадставім*: АБ, 16.

**[ПРАДСТАЎЛЕННЕ]** *н.* Тэатральны спектакль. ..[беларускі прасветны гурток] *наладжывае беларускія прадстаўленні..* МІ, 17.

Мн. В. *прадстаўленні*: МІ, 17.

**[ПРАДСТАЎНІК]** (2) *м.* Хто прадстаўляе сабой пэўную групу людзей або якую-н. галіну дзейнасці, выразнік чыіх-н. інтарэсаў. *На мяжы і на Пражскім вакзале нас* [дэлегатаў] *сустракалі і бурна віталі лепшыя людзі краіны – прадстаўнікі літаратуры, мастацтва,*

*грамадскасці.* ПЧ. *Гэтым павінно заняцца само грамадзянство у асобах сваіх ідэёвых прадстаўнікоў – поэтаў і композытараў.* СБНГ.

Мн. Н. *прадстаўнікі*: ПЧ. Р. *прадстаўнікоў*: СБНГ.

**[ПРАДУКТЫ]** (2) *толькі мн.* Харчовыя прыпасы. *Не касавалі* [бальшавікі] *дробнага гандлю і не забаранялі прывозіць прадукты з вёскі ў места.* СНБ, 339. *..пад імі* [партфелямі]*: колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы, звязаныя лыкам, тры воблы..* Т, 45.

В. *прадукты*: СНБ, 339. Т. *прадуктамі*: Т, 45.

**[ПРАДЧУВАНЬНЕ]** (2) *н.* Пачуццё чакання чаго-н. *А паміж тым, у прадчуваньні рымскіх ласк, Свой разрахунак меркантыльна зьнізіў* [Новачаркаск].. ВБЛ, 80. *Яны* [бежанцы] *на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях. У прадчуваньні, але йшчэ ня верачы ані, Што гэта ўжо сапраўды эпілёг дасяг..* Там жа, 80.

Адз. М. *прадчуваньні* (2): ВБЛ, 80(2).

**ПРАЕКТ** *м.* Папярэдні тэкст дакумента. *..праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы..* ВН.

Адз. Н. *праект*: ВН.

**[ПРАЖОРЛІВЫ]** *прым. Разм.* Сквапны, ненасытны. *Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф.

Адз. н. Т. *пражорлівым*: Ф.

**[ПРАЖЫТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* пражыць. *У знач. наз. Тое, што* пражыта. *Ніва! Як ня любіць мне таемны твой шум? У ім і ціхая па пражытым журба.* АР.

Адз. н. М. *пражытым*: АР.

**ПРАЗ** (39) *прыназ. з. В.* выражае:

П р а с т о р а в ы я  а д н о с і н ы (19).

**1.** Ужываецца пры назвах прасторы, прадмета цераз які хто-, што-н. праходзіць, пранікае. *Мы* [дэлегаты] *праязджалі толькі праз Польшчу.* ПЧ. *Мікіта хапае чырвоную хустачку, чапляе на канец парасона і вывешвае праз ваконную фортачку.* Т, 59. // Ужываецца пры ўказанні на акалічнасці, якія пераадольваюцца. *За ім* [азіятам] *Еўропы жыхары Шлі к вам* [бальшавікам] *праз морскія віры...* ПВ. *А нашы дарогі! Праз немарач, нетры На радасць людскую, як стрэлы, ляглі.* ПБН.

**2.** Ужываецца пры абазначэнні прадмета, паверх якога накіраваны рух. *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, пакладіся ўпоперак вуліцы: ..”Хай праз нашы галовы ўвойдуць* [казакі] *у нашы родныя хаты!” Рынулі ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ, а за імі прыстаў на сваёй варанай тройцы.* Т, 43.

ВБЛ, 80; ПВ; ПЧ; СНБ; Т, 25 (2), 27, 38, 47, 54, 58, 59(2).

Ч а с а в ы я  а д н о с і н ы (12).

**3.** Ужываецца пры ўказанні на адрэзак часу, пасля якога штон. адбываецца, наступае. *Праз нейкую хвіліну ўваходзяць: Дама, Поп, Спраўнік, Пан.* Т, 50. *Праз два гады на Беларусі Народ аб радасці не сніў, А галасіць і плакаць мусіў На папялішчы хат і ніў.* ГП, 8.

**4.** Ужываецца пры ўказанні на адрэзак часу, на працягу якога што-н. існуе ці адбываецца. *Вядомы польскі пісьменнік Балеслау Ліманоускі, пішучы аб вялікім праз доугіе годы асьветным значэньні Батораускага Унівэрсытэту, паміж іншым кажа: “Сьвятло, якім прамянілася гэта вучэльня, захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, ..але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...”* УПУВ. *Здарма ж двуглавы твой* [Русі] *арол Праз векі ў кіпцюрох трымаў Мільёны ўбогіх хат і сёл, Рабоў мільёны?.. Не, здарма!* АПЖ; ГП, 8; ЛР; ОШМ (2); ПЧ; Т, 21, 33, 50.

А б’ е к т н ы я  а д н о с і н ы (4).

**5.** Паказвае на выкарыстанне якога-н. спосабу. *Я* [Купала] *падаваў свой голас супроць тыраніі царызма праз песні..* ГВУ. [Гануля]: *..хлопца свайго праз усялякія там навукі да чыноўніцтва давялі.* Т, 20; СТ; ПН, 47.

П р ы ч ы н н ы я  а д н о с і н ы (3).

**6.** Ужываецца пры ўказанні на таго, хто з’яўляецца віноўнікам, прычынай чаго-н. *І мудрым словам скінь* [прарок] *з народу ўрок, Якім быў век праз ворагаў спавіт!* Пт.

**7.** Ужываецца для ўказання на прычыну чаго-н. *Кліч “Зямля і воля працоўнаму люду!”, сціхшы сягодня ў нашым краю праз варункі ваеннай завірухі, як бы адышоў на другі план, на апошні закутак.* ЗС, 17. *Бо самі, грамадзяне, пасудзіце, як я ламаў сабе мазгі і ногі праз гэту, згінь-прападзі, Антанту.* Ан, 18.

А к а л і ч н а с н ы я  а д н о с і н ы.

**8.** Ужываецца для ўказання на акалічнасці, якія суправаджаюць якое-н. дзеянне. *Сьмейся сьмехам-сычэньнем праз скрогат Перадсьмертны зубоў..* См, 90.

**[ПРАЖЫЦЬ]** (2) *зак. да* жыць *у 3 знач. Ліпень, жнівень і верасень я* [С. Меч] *пражыў у Меншчыне на беразе Сьвіслачы...* ХБ, 28. *..я* [Купала] *пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай “турме народаў” – царскай Расіі.* ЖН.

Абв. пр. адз. м. *пражыў* (2): ЖН; ХБ, 28.

**[ПРАІЗВОЛ]** *м. Руск.* Дэспатызм. *..расійскі царскі урад задушыў гэту вучэльню* [Віленскі Унівэрсытэт], *баючыся уплываў заходняе культуры на пануючы у тым часе у Расіі праізвол і адзічэньне.* УПУВ.

Адз. В. *праізвол*: УПУВ.

**[ПРАІСНАВАЦЬ]** *зак. да* існаваць. *..праіснаваў ён* [Віленскі Унівэрсытэт] *з лішнім два з паловай сталецьці – да 1842 году..* УПУВ.

Абв. пр. адз. м. *праіснаваў*: УПУВ.

**[ПРАЙГРАЦЬ]** *зак.* Пацярпець паражэнне ў судзе. [Гарошка]: *..як нашы* [сяляне] *гэткім чынам апошні суд з князем прайгралі, пачалося тое высяленне.* Т, 43.

Абв. пр. мн. *прайгралі*: Т, 43.

**ПРАЙДЗІСЬВЕТА** *м. Разм.* Пранырлівы, хітры, лоўкі чалавек. *Цямрук ілжывы, прайдзісьвета, Пасол ты ліса ці ваўка!* УрП, 52.

Адз. Н. *прайдзісьвета*: УрП, 52.

**ПРАЙСЦІ** (24) *зак* **1.** Пераадолець, перайсці што-н. *О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!* НДн, 229. *А ў часе трывогі паўстануць мільёны, І вораг не пройдзе совецкай мяжы.* ПБН. // *Зак. да* праходзіць *у* 1 *знач. Вайна і рэвалюцыя выкінулі лозунг: “свабода і самаазначэнне народаў”, і гэты лозунг.. не прайшоў непачутым.* СНБ, 336. *Бясстрашныя сыны вялікага совецкага народа вярнуліся на сваю Радзіму. Слава аб іх пройдзе ва ўсе годы і вякі..* СБ.

**2.** Прамінуць што-н. [Гануля]: *Ідуць, ідуць* [бальшавікі]*! Не! Міма прайшлі.* Т, 59.

**3.** Пражыць, зведаць. *Трудны і цярністы шлях прыйшлося прайсці нам, беларусам, за гэты час змагання за лепшую долю, за лепшую славу для свае Бацькаўшчыны!* ПЛП. *Мы прайшлі гэты шлях, як казачныя асілкі – сямімільнымі, ленінскімі крокамі.* ВГР.

**4.** Пазнаёміцца з чым-н., вывучыць. [Спічыні]: *Учора мы збольшага прайшлі аддзел прывітанняў, сягоння павінны іх паўтарыць болей стала.* Т, 31. [Мікіта]: *А як жа, мусье прафэсар, з гэтым “двадзесце пенць”?* [Спічыні]: *Заўтра, мусье рэгістратар, пройдзем на практычнай лекцыі.* Там жа, 50.

**5.** *Разм.* Атрымаць, набыць. [Дама]: *Я заўважыла адразу, што вы прайшлі добрую адукацыю.* Т, 29.

**6.** *Зак. да* праходзіць *у* 3 *знач. Маладыя гады мае* [Купалы] *прайшлі страшэнна пагана.* А, 328. *Пройдуць гады, падрастуць сыны і унукі нашы і спытаюць тады нас: “Што зрабілі вы у той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?”* БС.

Інф. *прайсці* (2): ПЛП; Т, 35. Абв. пр. адз. м. *прайшоў*: СНБ, 336. ж. *прайшла*: ДЖ. н. *прайшло* (2): А, 328; МД. Мн. *прайшлі* (11): А, 328; Вб, 236; ВГР (4); Мц, 44; Т, 29, 31, 49, 59. Буд. адз. 3 ас. *пройдзем*: Т, 50. 3 ас. *пройдуць* (2): БС; Ф.

**[ПРАКЛАДВАЦЬ]** *незак., перан.* Ствараць умовы для чаго-н. *У гэтай контрэволюцыйнай рабоце беларускія нацыянал-дэмократы апіраліся, з аднаго боку на кулацтва, ..а з другога боку, на зарубежныя сілы, і гэтым пракладвалі шлях для інтэрвэнцыі..* АЛ.

Абв. пр. мн. *пракладвалі*: АЛ.

**ПРАКЛЁН** (2) *м.* **1.** Лаянка, абурэнне. *Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых..* ПБН. *Параўн.* праклядцце *ў* 1 *знач.*

**2.** *перан.* Крайняе асуджэнне. *І як шчаслівы паэт, калі ён можа ў той-жа дзень прачытаць на мітынгу гневу і нянавісці да гэтых адкідаў чалавецтва – свае вершы, у кожным радку якіх – праклён агідным здраднікам радзімы.* МП. *Параўн.* праклядцьце *ў* 2 *знач.*

Адз. Н. *праклён*: МП. Мн. Р. *праклёнаў*: ПБН.

**[ПРАКЛІНАЦЬ]** *незак.* Падвяргаць праклёну. *Вы* [заходнія беларусы] *над сахою гнуліся крукам І праклінала свой лёс пракляты.* ССА, 294.

Абв. пр. мн. *праклінала*: ССА, 294.

**[ПРАКЛЯСЦІ]** *зак. да* праклінаць. *Я пракляну іх* [паноў] *праклятую сілу...* Д, 73.

Абв. буд. адз. 1 ас. *пракляну*: Д, 73.

**ПРАКЛЯТЫ** (9) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. зал. пр. да* праклясці. *Няхай гэтыя здраднікі будуць пракляты навекі.* ВНЗ.

**2.** *У знач. прым.* Ненавісны. *Я пракляну іх праклятую сілу, Каб і ў магіле іх* [паноў] *грызла праклядцце.* Д, 73. *Заглянула сонца Да хат, сутарэнь, Праклятых дзён прошлых Развеяўся цень.* СС, 301. // *Разм.* Ужываецца як лаянкавае слова. *Ён* [пан] *і дачку мне маю абясчэсціў Непаўналетнюю, дзеспат пракляты.* Бц, 74.

Адз. м. Н. *пракляты* (2): Бц, 74; Бч, 16. В. *пракляты*: ССА, 294. ж. Н. *праклятая* (2): Т, 37; УП. В. *праклятую*: Д, 73. н. Н. *праклятае*: Т, 20. Мн. Р. *праклятых*: СС, 301. Кар. мн. Н. *пракляты*: ВНЗ.

**ПРАКЛЯДЦЦЕ** (3) і **ПРАКЛЯДЦЬЦЕ** (4) *н.* **1.** *Тое, што* праклён *у* 1 *знач. Я пракляну іх праклятую сілу, Каб і ў магіле іх* [паноў] *грызла праклядцце.* Д, 73. *Сьмейся сьмехам-хрыпеньнем быдляці З перарэзаным горлам і грэйся Ў гэтым храпе скрозь стогн і праклядцьце..* См, 91.

**2.** *Тое, што* праклён *у* 2 *знач. Ня прыслужнем будзь ласцы прыблуднага сына, Будзь праклядцьцем яму – свайму кату.* Ч, 323.

◊ **Праклядццем успамінаць** *гл.* успамінаць.

Адз. Н. *праклядцце*: Д, 73; *праклядцьце*: Ч, 320. В. *праклядцьце*: См, 91. Т. *праклядццем*: Бч, 9; *праклядцьцем*: Ч, 323. М. *праклядцьці*: Дз, 192. Мн. Т. *праклядццямі*: ГНД.

**[ПРАКОС]** (2) *м.* **1.** Пракошаная паласа шырынёй у адзін узмах касы. *Хто йдзе першым у пракосах Што і ветру не дагнаці?* СА, 180.

**2.** Доўгая града скошанай травы. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў..* ХБ, 28.

Мн. Р. *пракосаў*: ХБ, 28. М. *пракосах*: СА, 180.

**ПРАКТЫКА** (6) *ж.* **1.** Скарыстанне якіх-н. ведаў, навыкаў на справе. [Мікіта]: *Аратар, маючы кожны раз напагатове адшліфаваны практыкай язык, заўсёды патрапіць выпутацца з бяды.* Т, 36. *З гэтага боку мінуўшы год быў вельмі для нас цікавы і шмат чаму на практыцы нас навучыў.* СНБ, 337.

**2.** Набыты вопыт. *..ідэалы – адно, а практыка жыцьцёвая – другое.* СНБ. *З практыкі гэтай вайны вядома, што калі вораг прыбліжаецца к якому месцу і пачне даносіцца да вуха жыхароў страляніна, то гэтым нападае на ўсіх жудасць і паніка.* СНБ, 340.

Адз. Н. *практыка* (2): НДН, 18; СНБ. Р. *практыкі* (2): Нз, 15; СНБ, 340. Т. *практыкай*: Т, 36. М. *практыцы*: СНБ, 337.

**[ПРАКТЫЧНЫ]** (3) *прым.* Які з'яўляецца прымяненнем ведаў на практыцы. [Мікіта]: *..выступаць, меджду протчым, з трыбуны без практычнай лекцыі неяк ні сёе ні тое.* Т, 40. [Мікіта]: *..яго* [Спічыні] *чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва..* Там жа, 34.

Адз. ж. Р. *практычнай*: Т, 40. В. *практычную*: Т, 34. М. *практычнай*: Т, 50.

**[ПРАЛЕЖЫЦЬ]** *зак. Разм.* Праляжаць. *9 студзеня г. г. я* [Купала] *цяжка захварэў і 13-га студзеня я ўжо быў у Земскай бальніцы, дзе пралежыў да 20 сакавіка.* ЛР.

Абв. пр. адз. м. *пралежыў*: ЛР.

**[ПРАЛЕСКА]** *ж.* Травяністая расліна сямейства казяльцовых. *Надзела* [Радзіма] *з пралесак вянок І слёзы сагнала з павек.* ТП, 214.

Мн. Р. *пралесак*: ТП, 214.

**ПРАЛІВАЦЬ** (2) *незак.*: ◊ **Праліваць (гарачую) кроў** – быць параненым ці забітым, змагаючыся за што-н. *Хай-жа Беларусь пакажа, што яе верные сыны здольны праліваць сваю гарачую кроў ня толькі за чужую карысьць і панаваньне, але таксама патрапюць здабыць і для сваей зямлі лепшую долю.* БСУ. *Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў..* БВ, 16.

Інф. *праліваць*: БСУ. Абв. пр. мн. *пралівалі*: БВ, 16.

**[ПРАЛІЦЦЁ]** *н. Дзеянне па дзеяслову* праліваць. *Першыя выстралы прынеслі людзям радасць. Усе пачулі ў гэтым вызваленне ад здзеку і грамадзянскага праліцця крыві.* СНБ, 340.

Адз. Р. *праліцця*: СНБ, 340.

**[ПРАМЕНЬ]** (5) *м.* **1.** Вузкая паласа святла, якая ідзе ад якой-н. крыніцы святла або прадмета, які свеціцца. *Скончыцца вайна. С панад яе пажарнага і крывавага дыму выгляне добрае, прыветлівае сонцэ і*

*ажывіць сваімі праменямі нашы загоны і сенажаці.* РКр. // *У параўн. А першы* [ганец] *гэткі сьветлы быў, Як небам сланные прамені..* Кц, 194. // *Вобразн. З чорнай пamрокі ў праменні зарніцаў Выйдзеш, Фінляндыя, чараў краіна!* Ф.

**2.** *перан.* Уплыў, уздзеянне. *Святло, якім прамянілася гэта вучэльня* [Батораўскі Унівэрсытэт] *захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, ..але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...* УПУВ.

**3.** *Вобразн.* Сімвал шчасця. *Слава сокалу, што родам З-пад Каўказскіх скалаў, Што з Крамля праменні сее З юнацкім запалам.* СТ.

Мн. Н. *прамені*: Кц, 194; *праменьні*: УПУВ. В. *праменні* (2): СТ; Ф. Т. *праменямі*: РКр.

**[ПРАМІНУЛЫ]** *прым. Разм. Тое, што* прамінуўшы. *Першые* [палякі] *маюць рэальную сілу, а другія* [расійцы] *пачуваюць сябе дужымі успамінкамі прамінулага панаваньня..* ВМР.

Адз. н. Р. *прамінулага*: ВМР.

**ПРАМІНУЎШЫ** *дзеепрым зал. пр. да* прамінуць. *Гэй, ты, гэй, прамінуўшы мой час!* ЧС, 50–51. *Параўн.* прамінулы.

Адз. м. Н. *прамінуўшы*: ЧС, 50–51.

**[ПРАМІНУЦЬ]** (4) *зак.* Прайсці, мінуць (пра час). *Прамінулі дзянькі Роскашы вясёлай – Уцякалі панкі З нашых ніваў, сёлаў.* Мц, 83. *Праміне віхор, патухнуць пажары, ..і настане светлы радасны дзень змучанага аграбленага нашага народу.* ПЛП.

**Прамінулі дзянькі...**

Абв. пр. мн. *прамінулі* (2): Мц, 83; ПД. Буд. адз. 3 ас. *праміне* (2): ПЛП; СНБ.

**ПРАМОВА** (3) *ж.* Публічнае выступленне. [Спічыні]: *Цяпер, калі зрабілі сабе аратарскую паставу, пачынайце* [Мікіта] *прамову.* Т, 40. *..выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай.* ПЧ.

**Прамова на 15-годдзі літаратурнай працы.**

Адз. Н. *прамова*: ПЛП. В. *прамову*: Т, 40. Т. *прамовай*: ПЧ.

**[ПРАМУДРЫ]** *прым. Уст.* Вельмі мудры. *..былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры багам прамудрым.* Кз, 17.

Мн. Д. *прамудрым*: Кз, 17.

**[ПРАМЧАЦЦА]** *зак., перан.* Распаўсюдзіцца, зрабіцца вядомым многім. *Прамчыцца бурна ваша* [беларусаў] *слава На ўсе чатыры стараны.* УрП, 50.

Абв. буд. адз. 3 ас. *прамчыцца*: УрП, 50.

**ПРАМЫСЛОВАСЦЬ** *ж.* Галіна матэрыяльнай вытворчасці па здабычы, перапрацоўцы прыродных рэсурсаў і прадуктаў сельскай гаспадаркі, забеспячэнню ўсіх галін эканомікі сродкамі вытворчасці.

*Значна кантрастуе з сельскай гаспадаркай Чэхаславацкая прамысловасць.* ПЧ.

Адз. Н. *прамысловасць*: ПЧ.

**[ПРАМЫСЛОВЫ]** *прым.* Які мае адносіны да прамысловасці. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне, Брно, Пільзене, Вітковіцах..* ПЧ.

Мн. Р. *прамысловых*: ПЧ.

**[ПРАМЯНЕЦЬ]** *незак., перан.* Выяўляць радасць, задавальненне. *Маладой юнацкай славай, Ці то ўзімку, ці то летам, Нібы сонца, цуднай з'явай Прамянееш ты* [камсамолец] *ў сусветах.*СА, 178.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *прамянееш*: СА, 178.

**[ПРАМЯНІЦЦА]** *незак., перан.* Распаўсюджваць, вылучаць. *Святло, якім прамянілася гэта вучэльня, захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, ..але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...* УПУВ.

Абв. пр. адз. ж. *прамянілася*: УПУВ.

**[ПРАНЕСЦІСЯ]** *зак.* Разнесціся, раздацца (пра гукі). *Пара, пара ўжо агарнуцца І гартам выстаціць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49.

Абв. буд. мн. 3 ас. *пранясуцца*: УрП, 49.

**ПРАНІКАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* пранікаць. Трапляючы куды-н. нелегальна. *Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраць у свае рукі найадказьнейшыя вучасткі савецкага дзяржаўнага апарату (Наркамасьветы, Наркомзем, БДВ і г. д.), контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты спадцішка, але няўхільна, падточвалі соцыялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці..* АЛ.

**ПРАНІКНУТЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* пранікнуць. *перан.* Які зразумеў сутнасць чаго-н. *Сёньня, пранікнуты ясна сьвядомасьцю поэта і грамадзяніна, я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды.. парываю з беларускім нацыянал-дэмократызмам..* АЛ.

Адз. м. Н. *пранікнуты*: АЛ.

**ПРАНІКНУЦЬ** (2) *зак.* Прабрацца куды-н. *..пранікнуць яна* [судзьбіна] *можа ў тайныя далі І адкрыць сьветы новая ў сьвеце.* Ч, 322. // *перан.* Запасці (у душу). *У самую гушчу Чэхаславацкага народу пранікла і глыбока ўмацавалася надзея на Савецкі Саюз як на адзіны аплот міру.* ПЧ.

Інф. *пранікнуць:* Ч, 322. Абв. пр. адз. ж. *пранікла*: ПЧ.

**[ПРАПАДАЦЬ]** *незак.* Знікаць. *Але гэта адначасне паказвае, як кінутае здаровае зерне дарма не прападае.* МІ, 17.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прападае*: МІ, 17.

**[ПРАПАНАВАЦЬ]** (2) *незак.* Выказаць прапанову. [Мікіта]: *Цяпер я, высокія госці мае, прапаную тоста...* [Наста]: *Не, не! Я цяпер тоста прапаную. За немцаў.* Т, 28.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *прапаную* (2): Т, 28 (2).

**ПРАПАРЦЫЯНАЛЬНА** (2) *прысл.* У пэўных колькасных адносінах з чым-н. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах... павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці, разумеецца,.. прапарцыянальна беларускай большасці.* НДН, 19. *Дзеля гэтага вось права нацыянальнай меншасці павінна стаяць у нас нараўне (прапарцыянальна) з правам нашай беларускай большасці.* Там жа, 19.

**[ПРАПАСЦІ]** (3) і **ПРАПАСЬЦІ** *зак.* **1.** *Зак. да* прападаць. *Хай багацейшыя укладаюць у гэта свае грошы, (каторые.. ніякім спосабам прапасьці ня могуць), каб бяднейшыя маглі з іх у гэты цяжкі час карыстаць.* ВС. [Гарошка]: *Пайшлі і прапалі, а мне сядзі тут у чужой хаце і чакай на іх.* Т, 44.

**2.** Страціцца. [Гарошка]: *Як прышпілюць вам калі-небудзь хвост на гэтых пасядзінах, то прападзе вам ахвота і стаяць, не толькі што сядзець.* Т, 44.

**3.** Трапіць у цяжкае, бязвыхаднае становішча. [Мікіта]: *Оеей! Оеей! зусім прапаў.* Т, 60.

Інф. *прапасьці*: ВС. Абв. пр. адз. м. *прапаў*: Т, 60. Мн. *прапалі*: Т, 44. Буд. адз. 3 ас. *прападзе*: Т, 44.

**[ПРАПАЎШЫ]** *прым.*: **Прапаўшае дзіця.**

Адз. н. Н. *прапаўшае*: ПДз.

**[ПРАПІВАЦЬ]** *незак.* Траціць на выпіўку. *Гдзе мужыки больш свядомы и громатны, там шмат меней прапиваюць грошай и больш чытаюць книг и газэт.* УП.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *прапиваюць*: УП.

**ПРАПІТА** *дзеепрысл. да* прапіць. Патрачана на выпіўку. *Так, у сяле Микалаеўшчыне, Мин. губ. прапита грошай ад новага года да 1 аўгуста (за 6 мес.) 5012 руб. 94$^{1}/_{2}$ кап.* УП.

**[ПРАПІЦЬ]** *зак.* Выпіць. *А чарку першую ўзнясём За цень мінуўшчыны у сеці, Другой к цяпершчыне прапьём, Праславім будучыну трэйцяй.* Кц, 196.

Абв. буд. мн. 1 ас. *прапьём*: Кц, 196.

**ПРАРОК** (9) *м. Рэл.* Прапаведнік волі бога, пасланы богам. *Сярод магіл, на плечы ўзняўшы крыж свой, стану, Як пасланец з магіл ад спячых там пракокаў..* СМ. *Будзем верыць, што і ў нас, беларусоў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне пракляццямі ўспамінаць.* ПЛП.

Адз. Н. *прарок* (3): Пт (2); ПВ. Т. *прарокам*: УрП, 52. Мн. Н. *прарокі* (2): ПЛП; РС, 40. Р. *прарокаў* (2): ПЛП; СМ. Т. *прарокамі*: ПЛП.

**[ПРАРОЧЫЦЬ]** *незак.* Прадказваць, прадракаць. *Ён* [Сталін] *новую долю бяздольным прароча..* СС, 302.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прароча*: СС, 302.

**[ПРАСВЕТ]** *м. перан.* Радасць, шчасце ў бязрадасным жыцці. *Гэй, ты, гэй, прамінуўшы мой час! Гэй, ты, гэй, мой цяперашні дзень! Што я меў, што я маю ад вас? Дзе прасвету хоць цень – бледны цень?* ЧС, 50–51. *Параўн.* прасвета *ў 2 знач.*

Адз. Р. *прасвету*: ЧС, 50–51.

**[ПРАСВЕТА]** (2) *ж.* **1.** *Уст. Тое, што* асвета. *Пры менскім каміса-рыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел..*СНБ, 339.

**2.** *Тое, што* прасвет. *А падняволле без прасветы, А рабства Беларусь гняло.* ГП, 8.

Адз. Р. *прасветы* (2): ГП, 8; СНБ, 339.

**ПРАСВЕТНЫ** *прым. да* прасвета *ў 1 знач. У іх* [сялян-беларусаў] *цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток..* МІ, 17.

Адз. м. Н. *прасветны*: МІ, 17.

**[ПРАСВЯТЛЕННЕ]** *н.* Здольнасць правільна мысліць. *Каб таму маланкай Асляпіла вочы І блукаў абмацкам Ён удзень і ўночы, – Хто для нашых дзетак Хоча асляплення, – Бэсціць чужаніцай Думак прасвятленне.* К.

Адз. В. *прасвятленне*: К.

**[ПРАСІЦЦА]** (2) *незак.*: ◊ **Прасіцца на вусны** – вельмі хочацца спяваць. *Жыццё наша такое бадзёрае, вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.* ЖН.

**Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.**

Абв. цяп. мн. 3 ас. *просяцца* (2): ЖН (2).

**ПРАСІЦЬ** (27) *незак.* **1.** Звяртацца з просьбай да каго-н. *Прашу паклікаці ганцоў І мейсца даці ім па чэсьці..* Кц, 193. [Мікіта]: *Ды я ж прасіў вас, мамаша, не ўспамінаць мне аб гэтай трагедыі майго жыцця.* Т, 34.

**2.** Запрашаць, клікаць. [Ганупя]: *Калі ласка, прашу за стол.* Т, 27. [Наста]: *(высоўваючы галаву з правых дзвярэй). Ці можна?* [Мікіта]: *Калі ласка. Медждў протчым, просім, просім!* Там жа, 23.

**3.** *Разм.* Жабраваць. *..абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць..*АБ, 16.

◊ **Міласці прашу; пакорна прашу** – ветлівае запрашэнне зрабіць што-н. [Мікіта]: *(як госці ўвайшлі і раздзеліся..). Міласці прашу! Пакорна прашу!* Т, 24.

Інф. *прасіць*: Т, 23. Абв. цяп. адз. 1 ас. *прашу* (9): АЛ; Кц, 193; Т, 24(2), 27, 33, 62(2); УрП, 50. 3 ас. *просе*: УР; *проша*: ВМР. Мн. 1 ас. *просім* (4): НКУС; Пп, 5; Т, 23(2). 3 ас. *просяць* (2): АБ, 16; ДК. Пр. адз. м. *прасіў* (5): СЧ (2); Т, 27, 34, 56. ж. *прасіла*: Вб, 236. Мн. *прасілі* (2): ВР; ОШМ. Заг. мн. 2 ас. *прасіце*: ВР.

**[ПРАСЛА]** *ж. перан. Тое, што* кайданы. *Нішчаць* [законы Сталіна] *рабаўласніцтва трухлыя праслы.* ТП, 216.

Мн. В. *праслы*: ТП, 216.

**[ПРАСЛАВІЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Зрабіць вядомым. *Сваё, іх* [людзей] *праславіла* [песня] *імя.* ПНд, 47.

**2.** *Зак. да* славіць. *А чарку першую ўзнясём За цень мінуўшчыны у сеці, Другой к цяперышчыне прапьём, Праславім будучыну трэйцяй.* Кц, 196.

Абв. пр. адз. ж. *праславіла*: ПНд, 47. Буд. мн. 1 ас. *праславім*: Кц, 196.

**[ПРАСЛУЖЫЦЬ]** *зак. да* служыць *у 2 знач. Гэтак праслужыў* [бацька Купалы] *тры гады ў броварах чорнарабочым.* А, 328.

Абв. пр. адз. м. *праслужыў*: А, 328.

**[ПРАСЛУХАЦЬ]** *зак.* Прайсці курс якой-н. навукі. [Аленка]: *Там* [у Вільні] *праслухала настаўніцкія курсы...* Т, 30.

Абв. пр. адз. ж. *праслухала*: Т, 30.

**[ПРАСПАЦЬ]** *зак. Разм.* Страціць што-н. [Мікіта]: *..рэволюцыйная самадысцыпліна не мае права спаць, меджду протчым, у шапку, бо йначай праспіць усю сваю гаспадарку.* Т, 40.

Абв. буд. адз. 3 ас. *праспіць*: Т, 40.

**ПРАСТАТА** (2) *ж.* **1.** Уласцівасць простага *ў 5 знач. Ой, ты сіняя, ты сьцюжная зіма, Сярод лета прышла к дзеваньцы сама. Белай шэраняй пасьцель залягла, Ці-ж мая мне прастата памагла?!* ВБЛ, 82.

**2.** Уласцівасць простага *ў 6 знач.* [Мікіта]: *Усё гэта вымагала тое-сёе змяніць і ў хатніх абставінах, каб такім спосабам надаць, меджду протчым, дэмократычнасці і прастаты.* Т, 48.

Адз. Н. *прастата*: ВБЛ, 82. Р. *прастаты*: Т, 48.

**[ПРАСТАЦЬ]** *незак. Разм.* Выпрамляць. *Каб таго скруціла Гадзінавым скрутам I прастала потым Сухажыльным кнутам, Хто круціў нам сьцежкі Да жыцьця і славы, Засьцілаўшы вочы туманом крывавым.* К.

Абв. пр. адз. ж. *прастала*: К.

**[ПРАСТОР]** (14) *м.* **1.** Неабмежаваная працягласць. *Зямля ёй* [песні] *зацесна, Ёй трэба прастору..* АК. *За ім* [сонцам] *ляцеў-бы я ў прастор, Туды – у высь, у стратасферу, Пабыць гасцём у ясных зор, Жыццё планетнае праверыць.* МСП, 187.

**2.** Свабоднае вялікае месца, абшар. *Між небам лазурным і чорнай зямлёй Прывольная думка лунала. Яна агледала бязмерны прастор, I пасынкаў бачыла долі..* ПН, 46.

**3.** *перан.* Свабода. *Хай жыве і красуе ленінска-сталінская партыя, якая адна толькі магла вывесці Беларусь на вольны шырокі прастор шчаслівага жыцця.* ЖН.

Адз. Р. *прастору*: АК. В. *прастор* (5): ЖН; КП, 170; МСП, 187; ПН, 46; СК, 158. М. *прасторы*: ПСС, 231. Мн. В. *прасторы* (7): СА, 178, 179(2), 180(2), 181(2).

**[ПРАСТУПАК]** *м.* Дрэнны ўчынак, віна. *Людзі чужые! Хтос калісь злічэ Вашу нам* [беларусам] *шкоду: Злічэ праступкі.. к суду паклічэ Крыўда народу.* Чж, 147.

Мн. В. *праступкі*: Чж, 147.

**ПРАСТУПНА** (2) *прысл. да* праступны. *У нашу векапомную эпоху.. змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму.. праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі традыцыямі, праступна ўтвараць нацыянальную адмежаванасьць, асноўваючыся на самабытнасьці..* АЛ.

**ПРАСТУПНЫ** (3) *прым. Руск.* Злачынны. *І душыць гэты усясільны праступны забабон беларускую акрываўленую зямлю.* З. *Творыць* [забабон] *праступные легэнды, творыць праступные веры, творыць крыўду і няславу людзкую.* Там жа.

Адз. м. Н. *праступны*: З. Мн. В. *праступные* (2): З (2).

**[ПРАСТУПСТВА]** *н. Польск.* Злачынства, крамола. *..кожнае жывое беларускае слова расійскі ўрад лічыў праступствам..* МІ, 17.

Адз. Т. *праступствам*: МІ, 17.

**[ПРАСТЫЦЬ]** *зак.*: ◊ **І след прастыў** *гл.* след.

Абв. пр. адз. м. *прастыў*: Ан, 19.

**ПРАСЦЕЙ** і **ПРАСЬЦЕЙ** *прысл.* **1.** *Пар. ст. да* проста *ў 1 знач. А ня шкодзіла-б ужыць крыху сьмеласьці й замяніць гэтыя чужатворы.. болей зразумелымі беларускімі наватворамі – было-б прасьцей і мілагучней.* ВСп, 89.

**2.** Менш мудрагеліста. [Спічыні]: *Крыху не так – прасцей фігуру і вышэй галаву, вочы – удаль.* Т, 40.

**[ПРАСЬВЯТЛЕЦЬ]** *зак.* Стаць больш свядомым. *Пасьля заняцьця польскімі войскамі Горадня, тамтэйшыя беларусы на разе прасьвятлелі. Заварушылася беларускае нацыянальнае жыцьцё.* СНБ.

Абв. пр. мн. *прасьвятлелі*: СНБ.

**ПРАСЬЦЕЙ** *гл.* **ПРАСЦЕЙ.**

**ПРАСЯКНУТЫ** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* прасякнуць. Напоўнены якой-н. ідэяй. *..праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі традыцыямі..* АЛ. *Нелегальная літаратура, якую я* [Купала] *тады чытаў, была прасякнута нянавісцю да царызма і любоўю да свабоды і незалежнасці.* ПС.

Адз. м. Н. *прасякнуты*: АЛ. н. В. *прасякнутае*: АЛ. Кар. адз. ж. Н. *прасякнута*: ПС.

**[ПРАТАЙНАСЬЦЬ]** *ж. Н准ватв.* Вялікая тайна. *І вось у гэтую часіну Да іх* [людзей] *там дыбаў цудадзей, Слуга пратайнасьці прадзіўнай, Надчалавек, хоць і з людзей.* УрП, 47.

Адз. Р. *пратайнасьці*: УрП, 47.

**ПРАТАКОЛ** (2) *м.* Акт аб парушэнні парадку. *Дый штось зблышыла нагайка, Цягнуць к ўласцям Налівайку. Пратакол ідзе на хвата , На ваяку-дэпутата.* НД.

◊ **Па пратаколе** – па традыцыі, як заўсёды. *Але з ёмкаю нагайкай Знае дзела Налівайка, Гайда ў шынк па пратаколе І шумі яшчэ там болей.* НД.

Адз. Н. *пратакол*: НД. М. *пратаколе*: НД.

**[ПРАТАЛІНА]** *ж. Вобразн.* Краіна, вызваленая ад прыгнёту. *Нашы мінуліся дні беспрасветныя, Леглі ад сонца на свеце праталіны, Будзем спраўляць перамогу ўсясветную.* ДПЛС.

Мн. Н. *праталіны*: ДПЛС.

**[ПРАТУХЛЫ]** *прым. перан.* Застойны, бяздзейсны. *Балюча і цяжка усьведамляць мне сёньня, што я* [Купала], *адарваўшыся ад здаровага творчага асяродзішча рэволюцыйных пролетарскіх працоўных мас і ўвесь час утапаючы ў пратухлым балоце абкружаючых мяне контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных дзеячоў, я.. не дапамагаў.. ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ.

Адз. н. М. *пратухлым*: АЛ.

**[ПРАТЭСТАВАЦЬ]** *незак.* Заяўляць пратэст. *..разам з беднатой беларускай вёскі я* [Купала] *горача пратэставаў супроць паноў і царата..* ЖН.

Абв. пр. адз. м. *пратэставаў*: ЖН.

**ПРАЎДА** (39) *ж.* **1.** Тое, што адпавядае рэчаіснасці; ісціна. *Але ці-ж гэта праўда, што ў нас няма людзей, ведаючых і ўмеючых цаніць хараство і багацьце роднага краю?..* ХБ, 30. [Начальнік]: *Не загаварывайце* [Мікіта] *зубоў, а кажэце праўду.* Т, 60.

**2.** Справядлівасць. *Нідзе ні ладу, ані праўды, Званы хаўтурныя звіняць...* РС, 40. *Вы ўжо забылі, людзі здарэння, Дзе ваш прыпынак, – Вывелі ў гандаль славу, Сумненне – Праўду на рынак.* Чж, 147.

**3.** *У знач. вык.* Ужываецца для пацвярджэння слоў субяседніка, азначае: сапраўды, на самой справе так. [Спічыні]: *Нехта ці нешта, здаецца, як бы недзе стукае?* [Мікіта]: *А праўда, меджду протчым, стукае.* Т, 32. *І праўда вечна хто-нібудзь і як-нібудзь, а прыходзіў і намі* [беларусамі] *апекаўся, хоць нашага ліха і не забіраў.* БС.

**4.** *У знач. пабочн.* Сапраўды, на самой справе. *Не было, праўда, ўзнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных..* Кз, 17. [Ануля]: *Ложкаў, праўда, лішніх няма, дык во тут на падлозе што-небудзь падмосцім, і пераспяць* [госці] *ноч.* Т, 23.

Δ **Праўда-няпраўда**: *А сыны сталі праўдзе-няпраўдзе служыць..* Ч, 320.

◊ **Па праўдзе кажучы; паўду кажучы** *гл.* кажучы. **Праўду казаць** *гл.* казаць.

Адз. Н. *праўда* (18): БВ, 16; БС (2); Кз, 17; Т, 23, 31, 32, 35, 50(2), 53(2), 57; Тж, 15; ХБ, 28, 29, 30. Р. *праўды* (3): Г, 16; ПЛП; РС, 40. Д. *праўдзе*: Ч, 322. В. *праўду* (13): А, 328; Д, 42; З; К; НДН, 18; Т, 53, 60(2); Тж, 15; ТП, 217; ХЛБ; ЦСБ; Чж, 147. М. *праўдзе* (2): А, 328; Ч, 320. Мн. Р. *праўдаў*: Чж, 146. В. *праўды*: СНБ.

**[ПРАЎДАНЬКА]** (2) *жс. Ласк. да* праўда *ў 1 знач. Ад хваль, што шэпчуцца так міла, Ты* [беларус] *дойдзеш праўданькі усей, Што рэчкі – гэта зямлі жылы, Вада ў іх – кроў зямлі тваёй.* БрБ, 6.

• **Праўданька сьвятая** – ісціна, якая не падлягае сумненню. *Ходзюць, гонюць сухавеі Праўданьку сьвятую...* Дз, 191.

Адз. Р. *праўданькі*: БрБ, 6. В. *праўданьку*: Дз, 191.

**ПРАЎДЗІВА** *прысл.* Папраўдзе, напраўду. *Раскажам табе* [Сталіну] *мы* [беларусы] *праўдзіва быліны Аб тым, як жылі мы і сталі мы чым..* ПБН.

**[ПРАЎДЗІВА-ДЭМОКРАТЫЧНЫ]** *прым. Разм.* Сапраўды дэмакратычны. *Сваёй неразумнай захватнай палітыкай яны* [сацыяльныя рэвалюцыянеры з усходу і нацыянальные “рэвалюцыянеры” з заходу] *толькі зацягіваюць процэс праўдзіва-дэмократычнага разьвіцьця нацыянальна-культурных ідэй..* СНБ.

Адз. н. Р. *праўдзіва-дэмократычнага*: СНБ.

**ПРАЎДЗІВЫ** (16) *прым.* **1.** Які любіць, схільны гаварыць праўду. [Янка]: *Праўдзівая Пабягунская. Хто яна такая?* Т, 23.

**2.** *Разм.* Сапраўдны. [Дама]: *Тут у Менску трудна спаткаць праўдзівага вучонага.* Т, 27. *І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.* Нз, 15.

Адз. м. Н. *праўдзівы* (4): Т, 27, 29, 31; УрП, 47. В. *праўдзівага*: Т, 27. ж. Н. *праўдзівая* (4): Т, 23, 31(2), 54. В. *праўдзівую* (2): Нз, 15; СНБ. н. Н. *праўдзівая*: Т, 46. В. *праўдзівае*: Кз, 17. Т. *праўдзівым*: МІ, 17. Мн. Н. *праўдзівыя:* Т, 38. Р. *праўдзівых*: Т, 26.

**[ПРАЎЛЕННЕ]** *н.* Выбарны орган. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР, сабраўшыся на свой перадвыбарны сход, аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч* [Ежоў].. НКУС.

Адз. Р. *праўлення*: НКУС.

**[ПРАФЕСАР]** (4) *м.* Вышэйшае вучонае званне. *Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у адзіна дэмакратычных у свеце выбарах.* ГВУ. *Кіраўніка гэтага* [літаратурна-выдавецкага] *аддзела – вядомага, паважанага беларуса, праф. Ігнатоўскага – бальшавікі па нагавору польскіх віленскіх камуністаў арыштавалі і вывезлі ў Смаленск, як заложніка.* СНБ, 339.

Адз. Р. *прафесара*: ГВУ; *праф<есара>* (3): ВСп, 89(2); СНБ, 339.

**[ПРАХ]** *м.*: ◊ **У прах пасці** *гл.* пасці.

Адз. В. *прах*: ПБН.

**[ПРАХОД]** (2) *м.*: ◊ **Не даваць праходу** *гл.* даваць.

Адз. Р. *праходу* (2): НК; ПС.

**[ПРАХОДЗІЦЬ]** (7) *незак.* **1.** Ступаць, перамяшчацца. *Пры падняцці заслоны першым праходзіць справа ўлева Лернік з лерай, а пасля Шарманшчык з шарманкай.* Т, 33. *Праз усю дзею праходзяць то сюды, то туды рознага калібру грамадзяне, грамадзянкі..* Там жа, 33.

**2.** *перан.* Распаўсюдзіцца (пра чуткі). *Слых адно праходзе Калінікалі У жывым народзе На жывой зямлі.* МД. *Параўн.* проходзіць.

**3.** Адбывацца, адзначацца. *У апошнія годы палітычныя перамены ў Эўропе, упадкі і паўставаньні малых і вялікіх дзяржаваў праходзілі і праходзяць перад нашымі вачыма, як у калейдаскопе.* СНБ.

**4.** Мінуць, адысці ў мінулае (пра час). *Слаўна мы жылі ўдваём, Сыта дні праходзяць, – Так сабе груган з ваўком Гутарку разводзяць.* Пц.

◊ **Выразнай ніткай "шчасця" праходзіць** – вылучацца, падкрэсліваццa. *Баця тчэ сваю павуціну ўсімі сродкамі. Вы можаце, напрыклад, убачыць вясёлы, камедыйны фільм, праз які выразнай ніткай "шчасця" праходзяць бацявы боты.* ПЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *праходзіць* (2): МД; Т, 33. Мн. 3 ас. *праходзяць* (3): Пц; ПЧ; Т, 33. Пр. мн. *праходзілі* (2): СНБ (2).

**[ПРАХОДЗЯЧЫ]** (4) *дзеепрым. незал. цяп. да* праходзіць. Які прамінае каго-н. [Янка]: *(да праходзячага міма яго Мікіты). У вас сягоння, пане рэгістратар, праўдзівы арыстакратычны баль...* Т, 27. [Ануля]: *(да праходзячай грамадзянкі). Панечка, купіце ў мяне пацеркі, а можа, дамскі нэсэсар, а можа, во гэта?* Там жа, 34.

Адз. м. Р. *праходзячага* (2): Т, 34(2). ж. Р. *праходзячай* (2): Т, 34, 43.

**ПРАЦА** (45) *ж.* **1.** Чалавечая дзейнасць, накіраваная на стварэнне матэрыяльных і культурных каштоўнасцей. *Гэты* [стаханаўскі] *рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду, але той чалавек, які вырваўся з нядолі і ланцугоў старога ладу і разгарнуў арліныя крыллі вызваленай працы.* СТ. ..[Чырвоная армія] *надзейна і пільна сталёвай аховай вартуе нашу мірную працу..* ЖН.

**2.** Работа, якая патрабуе затраты фізічнай ці разумовай энергіі. *А трывога – гэта чэрвяк, які падточывае сілу і ахвоту да жыцьця, да працы на ніве і ў хаце..* РКр. *Вітаю Вас і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягоняшні дзень мне* [Купалу] *і маёй пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай!* ПЛП. // Род дзейнасці. *Пачынаюцца выбары да мястовай Рады. Ужо распачата падрыхтоўчая праца і адбываецца агітацыя.*

ВМР. *Прасякнуты нацыянал-дэмократычнай заразай, прышчэпленай мне нашаніўскім пэрыодам маёй літаратурнай працы, я* [Купала] *і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся... абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнага асяродзішча..* АЛ. *Параўн.* труд.

**3.** *Тое, што* работа *ў* 4 *знач. Яны* [жанчыны] *– трактарысткі, яны – брыгадзіры, З іх многа ў нашых советах старшынь... Іх тысячы стала адданых і шчырых На працы на кожнай, дзе вокам ні кінь.* ПБН.

◊ **Прамова на 15-годдзі літаратурнай працы.**

• **Біржа працы** *гл.* біржа.

Адз. Н. *праца* (14): ВМР; ВСп, 91; ЖН; Мц, 75(2); МІ, 17(3); ПЧ (2); СНБ, 336, 340; СНБ, Т, 55. Р. *працы* (19): АЛ (3); ВС; ВСп, 91; ВР; ЖН; МІ, 17; ПБН; ПЛП; РКр (4); СНБ, 338; СТ; Т, 20, 46; ТП, 216. Д. *працы* (2): ВСп, 91; ПЛП. В. *працу* (5): ЖН; СНБ, 340(2); Т, 40, 46. Т. *працай* (3): ЗС, 18; УП; Ф. М. *працы* (2): НДН, 19; ПБН.

**ПРАЦАВАЦЬ** (22) *незак.* **1.** Займацца якой-н. працай. *Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла.* АБ, 16. *З малых год ён* [бацька Купалы] *працаваў на арандаванай зямлі (на запашках).* А, 327. // Быць занятым дзе-н. працай, знаходзіцца на службе. *Вучні працуюць на заводзе..* ПЧ. *У Вільні* [Купала] *працаваў у бібліятэцы і "Нашай ніве"..* А, 328.

**2.** Ствараць, вывучаць. *..А. Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на совецкай сцэне оперы Смятаны "Праданая нявеста"..* ПЧ. *Што значыць – над чым я* [Купала] *працую?* МП.

**3.** Дзейнічаць сумесна з кім-н.; супрацоўнічаць. *..такіе учынкі польскіх ураднікау перш-на-перш шкодзяць самому-ж польскаму ураду, бо што тычыцца беларусаў, то – голы разбою не баіцца: калі ня можна ім працаваць з палякамі, дык яны прымушаны будуць пашукаць іншага выхаду, іншых супрацоунікау.* ОШМ.

**4.** Быць у дзеянні (аб установах). *Дзень і ноч працуюць дружна Фабрыкі, заводы..* НК.

Інф. *працаваць* (7): АЛ; ЖН; ОШМ; ПЧ; РКр; СНБ; Т, 30. Абв. цяп. адз. 1 ас. *працую* (2): МП (2). 3 ас. *працуе* (4): АБ, 16; МІ, 17; Н; Т, 48. Мн. 3 ас. *працуюць* (2): НК; ПЧ. Пр. адз. м. *працаваў* (4): А, 327, 328; Т, 40; ХБ, 29. Мн. *працавалі* (3): ВСп, 91; МІ, 17; Т, 22.

**[ПРАЦАВІТЫ]** (5) *прым.* Які многа, ахвотна, шчыра працуе. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі І аб сьценку біўся Ад балеснай мукі, – Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты..* К. *..трэба ..паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі, загадаўшы ім, прышчапляць вучням любасьць да роднага краю, ..гатаваць з іх*

*добрых, сумленных, працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры.* ДК.

Адз. м. Р. *працавітаго*: Дз, 189. В. *працавіты*: К. ж. Н. *працавітая*: ТС, 74. Мн. В. *працавітых*: ДК. Т. *працавітым*: ЗС, 18.

**[ПРАЦІВІЦЦА]** (2) *незак.* Выказваць нязгоду, супраціўляцца. *Смаленцы крыху гэтаму працівіліся, але іх праціўнікі пастрашылі кулямётамі, і справа была выйграна.* СНБ, 337. *Не прациўся, кали гоняць дарогу правиць не сваю дый дарма..* СП.

Абв. пр. мн. *працівіліся*: СНБ, 337. Заг. адз. 2 ас. *працийся*: СП.

**[ПРАЦІЎНІК]** (5) *м.* **1.** Чалавек, які адносіцца варожа ці адмоўна да чаго-н. *Беларускі народ самабытны – гэта прызнаюць ужо навет і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагеру.* Нз, 14. *Смаленцы крыху гэтаму працівіліся, але іх праціўнікі пастрашылі кулямётамі, і справа была выйграна.* СНБ, 337.

**2.** Варожыя ўзброеныя сілы; вораг. *..толькі тое государство зможэ не дацца ў крыўду або і перэмагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН. *Устанавілі назіранне за праціўнікам.* ПСп.

Адз. Р. *праціўніка*: ВН. Т. *праціўнікам*: ПСп. Мн. Н. *праціўнікі* (3): Нз, 14; СНБ, 337; СНБ.

**[ПРАЦІЎНЫ]** (4) *прым. Разм.* **1.** Процілеглы. *Абодва* [вучоныя] *раскланьваюцца і выходзяць – кожны ў праціўны бок, з якога прыйшоў быў.* Т, 39. *Уваходзяць з дваіх праціўных дзвярэй Вучоныя.* Там жа, 47.

**2.** Які карэнным чынам адрозніваецца ад чаго-н. ; варожы. *Цяпер мы павінны звярнуць увагу на праціўны лагер, на правадыроў нацыянальнай рэволюцыі – на Польшчу..* СНБ.

Адз. м. В. *праціўны* (3): СНБ; Т, 38, 39. Мн. Р. *праціўных*: Т, 47.

**[ПРАЦОЎНЫ]** (24) *прым.* Які жыве сваёй працай. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [нацыянал-дэмократы] *разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якое працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцей СССР зьлітнымі колёнамі ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялянбеднякоў і сераднякоў розных нацыянальнасьцей Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, контррэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супрацьставілі лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі, сэпаратысцкага разьяднаньня, ..каб гэтым самым аблягчыць сваёй нацыянальнай буржуазіі перамогу, панаваньне і ўгняценьне беларускіх працоўных мас.* Там жа. // *У знач. наз. У нашу векапомную эпоху гэроічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму.. праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі*

*традыцыямі..* АЛ. ..[пралетарская рэвалюцыя] *адна несла сапраўднае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне працоўным былой царскай Расіі, у тым ліку і Беларусі.* Там жа.

Адз. м. Р. *працоўнага* (4): АЛ; ДЖ; ЖН (2). Д. *працоўнаму* (2): ЗС, 17; МПв, 17. В. *працоўны*: ГВУ. Т. *працоўным*: ЖН. н. Р. *працоўнага*: СТ. Мн. Н. *працоўныя* (2): АЛ; ГВУ. Р. *працоўных* (11): АЛ (7); ВГР; ЖН; СТ (2). Д. *працоўным*: АЛ. Т. *працоўнымі*: СЧ.

**[ПРАЦУЮЧЫ]**[1] *дзеепрым. незал. цяп. да* працаваць *у 1 знач. Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі "Наша ніва" ўрываліся жандармы і "ахраннікі", здзекаваліся над людзьмі, працуючымі там, забіралі рукапісы і ўрэшце цягнулі ў вастрог у нічым невіноўных людзей.* МІ, 17.

Мн. Т. *працуючымі*: МІ, 17.

**ПРАЦУЮЧЫ**[2] (2) *дзеепрысл. да* працаваць *у 1 знач. Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан.., бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з інтарэсамі беларускіх працоўных мас і запатрабаваньнямі партыі і савецкае ўлады ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але, наадварот, моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ. *Парываючы.. з беларускім нацыянал-дэмакратызмам.., я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі.., якая канчаткова ня прышла да перакана磨ньня, што толькі працуючы пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі.., толькі аддаючы свае сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна ня будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабскага мінулага.* Там жа.

**[ПРАЦЯГ]** (8) *м. Разм.* Прамежак. ..["Сокі Цаліны" Цішкі Гартнага, "Дудка беларуская" і "Смык беларускі"] *пасля болей як паўвяковага працягу часу першы раз надрукаваны гражданкай..* ВСп, 89. *Каб лягчэй было абхапіць і разабрацца ў тым, што зроблена за такі кароткі працяг часу, якім з'яўляецца адзін год, мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час..* Там жа, 89.

◊ **На працягу** (5) – пакуль цягнецца што-н. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год ідэолёгічнымі памылкамі ў сваёй творчасьці, популярнасьцю і аўторытэтам, як народны поэта, не дапамагаў.. ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ. *У сваім вялікім паходзе па адбудаваньні культуры на руінах былое царскае Расіі савецкая ўлада на працягу ўжо 11 год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паў-дарозе.* ГНД.

Адз. Р. *працягу*: ВСп, 89. В. *працяг*: ВСп, 89. М. *працягу* (6): АЛ (3); ВСп, 91; ГНД; ДК.

**[ПРАЦЯГАЦЬ]** (2) *незак. Разм.* Працягваць. *Яна* [песьня] *аглядала бязьмерны прастор, І пасынкаў бачыла долі, Як рукі з зямлі працягалі да зор І ў цемры каналі паволі.* ПН, 46.

Абв. пр. мн. *працягалі* (2): КП, 170; ПН, 46.

**[ПРАЦЯГНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* працягнуць. [Абарванец]: *(увайшоўшы з таго боку, куды Наста вышла, да кленчачага з працягнутымі рукамі Мікіты). Пажэртвуйце, таварыш, беззработнаму.* Т, 42.

Мн. Т. *працягнутымі*: Т, 42.

**ПРАЦЯГНУЎШЫ** *дзеепрысл да* працягнуць. [Мікіта]: *(яшчэ кленчачы і працягнуўшы з парасонам рукі ўслед Насце). О, рангa мая асэсарская!* Т, 42.

**[ПРАЦЯГНУЦЬ]** *зак.* Выцягнуць (руку). *Да багатай пани и афицэра, каторые только што вышли с карэты, падашла дзеўчынка – убогая и працягнула да их руку, каб падарыли.* ПДз.

Абв. пр. адз. ж. *працягнула*: ПДз.

**[ПРАЧАКАЦЦА]** *зак.* Доўга чакаць; зачакацца. [Янка]: *А дзядзька Гарошка прачакаўся, мабыць, на нас?* Т, 44.

Абв. пр. адз. м. *прачакаўся*: Т, 44.

**[ПРАЧНУЦЦА]** *зак., перан.* Стаць актыўным, выйсці са стану спакою. *Ты* [Беларусь] *– як спала – ўскрасла, Твае дзеці прачнуліся, Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыцьцё.* Б, 18.

Абв. пр. мн. *прачнуліся*: Б, 18.

**ПРАЧЫТАЦЬ** (13) *зак. да* чытаць. *..я* [Купала] *прачытаў амаль усе этнаграфічныя беларускія зборнікі.* ПС. *І пішаш ты разборчыва? Малаграматны прачытае? Бо, бачыш, у нас наборшчыкі наконт беларускага пісьма, дык ні бэ, ні мэ.* АН, 18.

Інф. *прачытаць* (3): МП; ОШМ; Т, 61. Абв. пр. адз. м. *прачытаў* (4): Ан, 19; ВГ; ПС; ШБСЯ. н. *прачытала*: Т, 61. Мн. *прачыталі*: Т, 61. Буд. адз. 1 ас. *прачытаю*: Т, 61. 3 ас. *прачытае*: Ан, 18. Мн. 2 ас. *прачытаеце*: Т, 62. Заг. мн. 2 ас. *прачытайце*: Т, 61.

**[ПРАШКОДА]** *ж. Разм.* Перашкода. *Не зналі* [людзі] *змагаць грамадою прашкод І Бога хваліць грамадою..* ПНд, 46.

Мн. Р. *прашкод*: ПНд, 46.

**[ПРАШЧАЛЬНЫ]** *прым. Руск.* Развітальны. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга, ніякія малюнкі, ніякі спэктакль не давалі мне гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага васеньняга сонца.* ХБ, 29.

Адз. м. Т. *прашчальным*: ХБ, 29.

**[ПРАШЧАНЬНЕ]** *н. Руск.*: ◊ **На прашчаньне** – перад развітаннем, растаючыся. *І песьню сьпейце на прашчаньне, Мы, старцы, будзем слухаць вас..* УрП, 50.

Адз. В. *прашчаньне*: УрП, 50.

**[ПРАШЧУР]** (2) *м.* Далёкі продак. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз, 17. *..не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным..* Там жа, 17.

Мн. Н. *прашчуры* (2): Кз, 17(2).

**[ПРАШЭННЕ]** (2) *н. Уст.* Пісьмовае хадатайніцтва. *Пісаў навет прашэнне раз на імя павятовага камісара, каб ён даў мне перапустку ў Радашковічы.* Ан, 18. *Прашэнне* [павятовы камісар] *прыняў і даў перапустку.* Там жа, 18.

Адз. В. *прашэнне* (2): Ан, 18(2).

**ПРАЯВА** (9) *ж.* З'ява, праяўленне. *Так, сябры, гэта вялікая праява! Адбудаванне Дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь.* МІ, 18. ..[Расійская імпэрыя] *душыла пад сваёй нагой усе праявы вольнага духу..* БСУ.

Адз. Н. *праява* (2): МІ, 18; УПУВ. Мн. Р. *праяваў*: Пт. В. *праявы* (5): БСУ; ВС; СНБ, 337; СНБ; СС, 301. Т. *праявамі*: СНБ, 338.

**[ПРАЯВІЦЦА]** *зак.* Стаць яўным. *Хай жыве сьветлая культурная праява, на чыей бы зямлі і ў якім бы народзе яна не праявілася.* УПУВ.

Абв. пр. адз. ж. *праявілася*: УПУВ.

**ПРАЯВІЦЬ** (4) *зак.* **1.** Выявіць якую-н. якасць, уласцівасць. *Час праявіць нам і свае сілы у будаваньні новага жыцьця для сваей бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакаленьня!* БС. *Гэтые дзьве рэволюцыі – гэтые піонэры жыцьця на новых парадках найболей праявілі свае добрые і благіе староны.. на беларускай зямлі.* СНБ.

**2.** Паказаць. *Але сваёй карыснай працы гэты аддзел не мог як след праявіць.* СНБ, 339. *Наладжанае ў красавіку мінулага году коопэрацыйнае В-ва "Адраджэньне" шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91.

Інф. *праявіць* (2): БС; СНБ, 339. Абв. пр. адз. ж. *праявіла*: ВСп, 91. Мн. *праявілі*: СНБ.

**[ПРАЯЗДЖАЦЬ]** *незак.* Мінаваць, пакідаць ззаду. *Мы* [дэлегаты] *праязджалі толькі праз Польшчу.* ПЧ.

Абв. пр. мн. *праязджалі*: ПЧ.

**[ПРАЯЎЛЕННЕ]** і **[ПРАЯЎЛЕНЬНЕ]** (2) *н.* Выяўленне. *..і пасьля рэвалюцыі гэтага* [1905] *году.. душылася кожнае праяўленне беларускай нацыянальнай самабытнасці.* МІ, 17. *..Расійскіе бальшавікі, гэтые заўзятые праціўнікі найменшага праяўленьня нацыянальнага будаўніцтва, і яны змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў...* СНБ. // Разнавіднасць,

форма. *..парываю* [Купала] *з беларускім нацыянал-дэмакратызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.* АЛ.

Адз. Н. *праяўленне*: МІ, 17. Р. *праяўленьня*: СНБ. Мн. М. *праяўленьнях*: АЛ.

**[ПРЕДСТАВЛЕНІЕ]** *н. Руск.* Уяўленне. [Усходні вучоны]: *Что касется поліцічэскіх граніц області, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очэнь туманны.* Т, 47.

Адз. М. *представленні*: Т, 47.

**ПРОБІЦЬ** *зак. Руск.*: ◊ **Пробіць окошко** – атрымаць свабодны доступ куды-н. [Усходні вучоны]: *..Вашы* [Янкі] *землякі не собіра-ются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

Інф. *пробіць*: Т, 47.

**[ПРОВАД]** *м.* Лінія тэлефоннай або тэлеграфнай сувязі. *Гудуць правады над шляхамі ў паветры, Што жыць стала лепей на нашай зямлі.* ПБН.

Мн. Н. *правады*: ПБН.

**[ПРОВІНЦЫЯ]** *ж. Польск. Тое, што* вобласць. [Заходні вучоны]: *Подчас бадання тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму застало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

Адз. В. *провінцыен*: Т, 39.

**[ПРОВОЖАЦЬ]** *незак. Руск. Тое, што* праводзіць *у* 2 *знач.* [Поп]: *..я толькі провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.* Т, 38.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *провожаю*: Т, 38.

**ПРОВОЗГЛАШАЦЬСЯ** *незак. Руск.* Абвяшчацца, устанаўлівацца. [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27.

Інф. *провозглашацься*: Т, 27.

**ПРОГРАМА** *гл.* **ПРАГРАМА.**

**[ПРОГРЭШЭНІЕ]** *н. Рэліг., руск.* Грэх. [Поп]: *Ох, дзелеса-чудзеса! Прогрэшэнія нашы неісчыслімыя.* Т, 37.

Мн. Н. *прогрэшэнія*: Т, 37.

**[ПРОДАЖ]** (2) *м.* Гандаль, тавараабарот. *Цяперака, калі спынена прадаж на гарэлку, урад павінен ня толькі дастаць грошы на гасударственные расходы.* ВН. *..збіраюцца яны* [пабочныя налогі] *не с таго, хто штось мае, а с таго, што паступае на продаж..* Там жа.

Адз. В. *продаж* (2): ВН (2).

**ПРОДКІ** (6) *мн.* Людзі, якія жылі задоўга да цяперашняга часу. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: ..уваскрасіць стары Менск, калі панавалі тут продкі нашы, калі прыгожа зычэла мова наша і справавало беларускае права.* ВМР. *Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяпераka, бо не аднаго бога мелі, а некалькі..* Кз, 17.

Н. *подкі* (2): ВМР; РКП. Р. *продкаў* (4): ЕЯ; Кз, 18; Т, 35(2).

**[ПРОЗВІШЧА]** (3) *н.* **1.** Найменне, агульнае для ўсёй сям'і. *Калі мы* [сям'я Купалы] *жылі ў Прудзішчах.., у нас служыў рабочы нехта Пасляк (нават прозвішча памятаю).* ПС. [Гануля]: *..абодва гэныя пакоі заняў нейкі іхні рэдактар, па прозвішчы Гізульскі.* Т, 45.

**2.** Імя, назва. *..і прозвішчы багі мелі не такія, як цяпер; называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды іншыя яшчэ.* Кз, 17. *Параўн.* назвіско.

Адз. В. *прозвішча*: ПС. М. *прозвішчы*: Т, 45. Мн. В. *прозвішчы*: Кз, 17.

**[ПРОЙДЗЕНЫ]** (5) *дзеепрым. зал. пр. да* прайсці. *У знач. прым.* Мінулы. *Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам ахоплівае народы нашай вялікай радзімы, калі яны глядзяць на пройдзены шлях..* ВГР. *Намі пройдзены вялікі і цяжкі шлях.* Там жа.

Адз. м. В. *пройдзены*: ВГР. М. *пройдзеным*: ДЖ. Мн. В. *пройдзеныя*: ШБСЯ. Кар. адз. м. Н. *пройдзен* (2): АЛ; ВГР.

**ПРОЛЕТАРСКІ** (8) *прым.* Які мае адносіны да пралетарыя. *..я* [Купала] *і ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі ня змог.. ўразумець і ўсьвядоміць усю веліч і гісторычную нямінучасьць пролетарскае рэволюцыі..* АЛ. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі па-за пролетарскімі пісьменніцкімі арганізацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е..* ДНСП. // Уласцівы пралетарыю. *Гнеў пролетарскі мог і зможа змесці З зямлі ўсіх падкалодных яшчарыц, гадзюк..* СК, 158.

Адз. м. Н. *пролетарскі*: СК, 158. Р. *пролетарскага*: ШБСЯ. ж. Н. *пролетарская*: АЛ. Р. *пролетарскай*: АЛ; *пролетарскае*: АЛ. н. Р. *пролетарскага*: ШБСЯ. Мн. Р. *пролетарскіх*: АЛ. Т. *пролетарскімі*: ДНСП.

**ПРОЛЕТАРЫЙ** *м.*: Δ **Пролетарый-рабочы**: *..там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на буйных пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ.

Адз. Н. *пролетарый*: ШБСЯ.

**ПРОЛЕТАРЫЯТ** (11) *м.* Клас наёмных рабочых. *Імпэрыялістычная заграннічная буржуазія.. напружвае ўсе свае сілы для таго, ..каб зьнішчыць соцыялістычную дзяржаву, апору сусьветнага рэволюцыйнага пролетарыяту..* АЛ. *У нашу векапомную эпоху*

*гэроічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму, калі пролетарыят усё старое ніштожыць і на руінах гэтага старога будуе новае соцыялістычнае існаваньне, – праступна ўваскрашаць мінулае..* АЛ.

• **Дыктатура пролетарыяту** *гл.* дыктатура.

Адз. Н. *пролетарыят* (5): АЛ; Т, 40(4). Р. *пролетарыяту* (4): АЛ (4); *пролетарыята*: ЦСБ. Т. *пролетарыятам*: ЖН.

**ПРОМЕНЬ** *м. Разм., перан.* Пра што-н. радаснае, светлае. *Воля ідзе цераз горад і вёску, Сталінскі промень у хату заглянуў.* Мц, 75.

Адз. М. *промень*: Мц, 75.

**[ПРОПОЗЫЦЫЯ]** (2) *ж. Польск.* Прапанова. [Спраўнік]: *Выражаючыся на сучасны лад, бяру сабе слова і ўношу пропозыцыю пакінуць спрэчкі і без рэзолюцыі пайсці дамоў.* Т, 29. [Мікіта]: *Страшэнна, меджду протчым, адпаведная хвіліна, каб паўтарыць мамзэль Насце сваю адвечную пропозыцыю.* Там жа, 42.

Адз. В. *пропозыцыю* (2): Т, 29, 42.

**ПРОСТА** (13) *прысл.* **1**. *Прысл. да* просты *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: *Як гэта разумець, меджду протчым?* [Янка]: *А надта проста:* [трэба] *стаць на свой тутэйшы грунт, на той грунт, на якім узраслі вашы бацькі, дзяды.* Т, 48.

**2.** *Прысл. да* просты *ў* 2 *знач. Проста жывем мы* [беларусы], *як доля лучыць..* Пп, 5. *Проста жылося, проста жывецца, Красці ж не пойдзем, хоць у каморы Кожны к нам* [беларусам] *прэцца.* Там жа, 5.

**3.** Адразу, без цырымоній. [Гануля]: *Толькі не стукайце* [Янка] *там па-панску ў дзверы, а проста ўваходзьце, і ўсё тут.* Т, 19.

**4.** *У знач. абмежавальнай часціцы. Разм.* Усяго толькі, толькі. [Мікіта]: *А па-мойму, зусім не панечка, а самае меншае – мадама, нават і мадам-сіньёра.* [Гануля]: *Ды якая там яна мадама? Проста нейкая... нейкая...* Т, 34. [Мікіта]: *Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце – панечка, а мадам-сіньёра, ..а калі з панам, то не проста пане, а – ясне пане грабя.* Там жа, 22. Т, 31.

**5.** *У знач. узмацняльнай часц. Разм.* Аж, зусім, сапраўды. *А вось нашы "Правда" і "Известия" у Чэхаславакіі ідуць проста нарасхват.* ПЧ. *..такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці "Адраджэньня" быў проста гэраічным.* ВСп, 91. Ан, 19; ПЧ (2); ХБ, 28.

◊ **Проста з моста** – адразу, не падумаўшы. [Мікіта]: *..кажаце* [мамаша] *проста з моста: панечка, меджду протчым!* Т, 34.

**ПРОСТЫ** (19) *прым.* **1.** Не складаны, не цяжкі для разумення. *Ці магчыма будзе гэтак устроіцца з галоднымі на зямлю людзьмі? Але адказ на яго вельмі просты.* ЗС, 18.

**2.** Звычайны. *Здаецца, сонца яе* [песню] *чула, І просты зьвер, і ваўкалак, Усіх здаецца, ускалыхнула...* УрП, 47. *Простая нашых*

*прадзедаў слава, хоць апаганена мудрым чужынцам...* Пп, 5.

**3.** Зразумелы, ясны. [Мікіта]: *Мая лінія жыцця вельмі простая.* [Янка]: *Ваша лінія не простая, а крывабокая, – цямняцкая ваша лінія.*Т, 27. // Даходлівы. *Мы* [беларусы] *ніколі не заяўлялі, каб нашым дзецям выкладалі рэлігію простымі словамі роднай гутаркі беларускай.* ВР.

**4.** Прастадушны, адкрыты, не ганарлівы. *Просты быў народ, і крывадушыць не ўмеў ён у веры сваёй.* Кз, 17.

**5.** *Разм.* Наіўны, даверлівы. *Калішніе лёзунгі "За нашу і вашу волю", "вольны з вольным, роўны з роўным" пашлі ў няпамяць, а калі яшчэ дзе-не-дзе і зьвіняць яны, то толькі, як байкі для простых людзей, як абяцанкі, якім ужо ніхто ня верыць.* СНБ.

**6.** Які належыць да непрывілеяванага класа, саслоўя. [Гарошка]: *Паны былі польскія, законы – рускія; польскія лаюць рускіх, рускія лаюць польскіх, а як прыдзе што да чаго, каб нашага простага чалавека пакрыўдзіць, дык і польскія і рускія ў адну дудку граюць.* Т, 44. *У мяне* [беларускага шляхціца] *простая мова толькі на.. штодзень і для простых людзей.* З.

**7.** *перан.* Размоўны, гутарковы. [Мікіта]: *Вось, калі хто з іх* [гасцей] *звернецца да вас* [Ганулі] *з якімі словамі, то вы старайцеся адказваць у нос і меней ужывайце простых выразаў.* Т, 22.

**8.** *перан.* Прамы, роўны. [Янка]: *Вам* [Мікіту] *простая дарога цяпер*: *запісацца на курсы беларусазнаўства.* Т, 56.

• **Просты налог** *гл.* налог.

Адз. м. Н. *просты* (3): ЗС, 18; Кз, 17; УрП, 47. Р. *простага*: Т, 44. Д. *простаму*: ВН. Т. *простым*: Пп, 5. ж. Н. *простая* (5): З; Пп, 5; Т, 22(2), 56. н. Т. *простым*: Пп, 5. Мн. Н. *простые* (3): ВН (3). Р. *простых* (3): З; СНБ; Т, 22. Т. *простымі*: ВР.

**ПРОСЬБА** (10) *ж.* **1.** Зварот да каго-н. з заклікам задаволіць якія-н. патрэбы, жаданні. *Яшчэ адна просьба да Вас* [т. Чарвякова]. СЧ. [Мікіта]: *Вось я й надумаўся звярнуцца, меджду протчым, з просьбай да вас, каб вы* [Янка] *мне ў гэтым памаглі.* Т, 56.

**2.** Пісьмовае хадатайніцтва аб чым-н.; прашэнне. *Пэўнага дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску..* ОШМ. *Міліцэйскі ўраднік просьбы не прыняў, сказаўшы, што усе просьбы да ураду павінны пісацца папольску.* Там жа.

Адз. Н. *просьба*: СЧ. Р. *просьбы* (2): ОШМ (2). В. *просьбу*: Ан, 19. Т. *просьбай* (4): ОШМ; ПЧ; Т, 49, 56. Мн. Н. *просьбы* (2): ОШМ (2).

**ПРОТЧЫМ** (262) *пабочн. Руск., разм.*: ◊ **Меджду протчым** *гл.* меджду.

**[ПРОТЭКЦЫЯ]** *ж.* Падтрымка з боку ўплывовай асобы. [Дама]: *..бацюшка, які з намі ў вас* [Ганулі] *гасціў, абяцаў, калі што*

*якое мяне прыцісне, дык зробіць протэкцыю ў Прэображэнскі жаночы манастыр.* Т, 58.

Адз. В. *протэкцыю*: Т, 58.

**[ПРОТЭСТ]** *м.* Пярэчанне супраць чаго-н. *Аб гэтым штодня ідуць скаргі, жальбы, протэсты..* ОШМ.

Мн. Н. *протэсты*: ОШМ.

**ПРОФЭСАР** (27) *м. Польск., разм.* Настаўнік. [Мікіта]: *Меджду протчым, пане профэсар, новая палітычная сытуацыя і ўсё такое прымусілі мяне падумаць аб гэтай кар'еры.* Т, 55. [Мікіта]: *Калі спаткаеце* [Гануля] *профэсара гэр Спічыні, то напомніце яму, што я ўжо яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва..* Там жа, 34.

Адз. Н. *профэсар* (23): Т, 21, 22, 31(2), 32, 35, 36, 40, 41, 45(2), 46(2), 48(2), 50(2), 54, 55(2), 61. Д. *профэсару* (2): Т, 31, 49. В. *профэсара* (2): Т, 34, 56.

**ПРОФЭСІЯ** (22) і **[ПРОФЭСЫЯ]** *ж.* Род заняткаў. [Янка]: *Асабліва, мабыць, добра знаёмы* [Мікіта] *з профэсіяй правакатарскага майстэрства?* Т, 45. [Мікіта]: *Ад заўтрашняга дня займуся свабоднай профэсыяй – буду на Койданаўскай вуліцы гандляваць нямецкімі рублямі.* Там жа, 33.

Адз. Н. *профэсія* (7): Т, 36(4), 55(3). Р. *профэсіі* (2): Т, 39, 46. В. *профэсію* (3): Т, 36(2), 55. Т. *професіяй*: Т, 45; *профэсыяй*: Т, 33. М. *профэсіі* (4): Т, 30, 36, 39, 40. Мн. Н. *профэсіі*: Т, 43. Р. *профэсій*: Т, 46. В. *профэсіі* (2): Т, 45, 46. М. *профэсіях*: Т, 38.

**[ПРОХОДЗ¤ЦЬ]** *незак. Руск. Тое, што* праходзіць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: *(..напявае) Под звукі ліхіх трубачэй, Па уліцам пыль подымая, Проходзіл полк гусар усачэй...* Т, 53.

Абв. пр. адз. м. *проходзіл*: Т, 53.

**[ПРОЦАНТ]** (2) *м. Разм.* Працэнт. *Бацяўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць процантаў за пакладзеныя грошы замест звычайных чатырох.* ПЧ.

◊ **На сто процантаў** – цалкам. [Янка]: *Як з'явіцеся з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэсціж адразу падымецца ў яе вачох на сто процантаў.* Т, 52.

Мн. Р. *процантаў* (2): ПЧ; Т, 52.

**ПРОЦІ** (6) і **ПРОЦЬ** (5) *прыназ. з Р. Разм.* **1.** Указвае на прадмет, перад якім на процілеглым баку што-н. знаходзіцца. *Дзьве вялікіе, ня нашы арміі стаяць адна проці другой на беларускіх гонях.* БСУ.

**2.** Ужываецца пры ўказанні на асобу, для барацьбы з якой ці для пазбаўлення ад якой ужываюцца адпаведныя захады, прымяняюцца якія-н. сродкі. *Як-жа можа беларускі народ хіліцца да Польшчы, калі ен бачыць у ей таго самага пана, каторы праз вякі зьдзекауся з яго і проці каторага ен падняу паўстаньне у часе рэволюцыі.* ОШМ.

*Проць сваіх, проць чужых* [другі сын] *крывадушыць і грэшыць..* Ч, 321. ЗС, 17; НГ, 8; ОШМ; Т, 35; УрП, 48; Ч, 324.

◊ **Пагладзіць проці шэрсці** *гл.* пагладзіць.

**[ПРОЦІ-АНТАНТА]** *ж.* Хто процістаіць чаму-н. *І куды ж і к чаму ведзяце вы сягодняшнюю гісторыю, усе антанты, проці-антанты і вам падобныя?* Тж, 15.

Мн. Н. *проці-антанты*: Тж, 15.

**ПРОЦЬ** *гл.* **ПРОЦІ.**

**[ПРОЦЬМА]** *ж. Уст.* Бездань, прорва. *Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну..* БН, 91.

Адз. В. *процьму*: БН, 91.

**[ПРОЦЭС]** (2) *м.* **1.** Ход развіцця чаго-н. *Сваёй неразумнай захватнай палітыкай яны* [соцыяльные рэволюцыянеры з усходу і нацыянальные "рэволюцыянеры" з захаду] *толькі зацягіваюць працэс праўдзіва-дэмократычнага разьвіцьця нацыянальна-культурных ідэй і пашырэньне па зямлі нясьмертных ідэалаў свабоды, роўнасьці і брацтва.* СНБ.

**2.** *Спец.* Судовая справа. *..забабон у наш XX-ты век апляваў паскуднай сьлінай увесь культурны сьвет, кінуўшы яму ў вочы працэс Бэйліса.* З.

Адз. В. *працэс* (2): З; СНБ.

**[ПРОЦЯЖЭНІЕ]** *н. Руск.* Працягласць. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

Адз. М. *процяжэніі*: Т, 39.

**ПРОЧ** (5) *прысл. Руск. Тое, што* прэч. *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зьбліжаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51. *Я змагаюся з ей* [бяссоннай ноччу], *ад сябе Ганю проч..* БН, 91. БН, 93(2); ВМР.

**[ПРОЧКІ]** (2) *толькі мн. Разм.*: ◊ **(Йсці) у прочкі** – пакідаць родныя мясціны. *Нас гадавалі віхры і ночкі, Крыўдай паілі нас ад пялёнкі – Толькі-ж папросту мы* [беларусы] *не йшлі ў прочкі З роднай старонкі.* Пп, 5. [Гарошка]: *А вы, бацюшка, таксама за імі (махнуўшы пугай) туды – у прочкі?..* Т, 38.

В. *прочкі* (2): Пп, 5; Т, 38.

**[ПРОШЛЫ]** (3) *прым. Руск.* **1.** *Тое, што* мінулы ў 1 *знач. Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясьніў, на сколькі гэта магчыма было ў кароткай газэтнай стацьці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь..* СНБ. *Заглянула сонца Да хат, сутарэнь, Праклятых дзён прошлых Развеяўся цень.* СС, 301.

**2.** *Тое, што* мінулы ў 2 *знач.* [Мікіта]: *Вам* [Янку] *чалавеку без рангаў і клясаў у прошлым і без надзеі на асэсарства ў*

*будучым, пэўна, што ўсё роўна, але для мяне, меджду протчым... Гэ-гэ!* Т, 50.

Адз. м. В. *прошлы*: СНБ. н. М. *прошлым*: Т, 50. Мн. Р. *прошлых*: СС, 301.

**[ПРУТ]** *м.* Тонкая доўгая гладкая палка. *У параўн. Каб таго скруціла Гадзінавым скрутам І прастала потым Сухажыльным прутам, – Хто круціць нам сцежкі Да жыцця і славы, Засцілаўшы вочы Туманом крывавым.* К.

Адз. Т. *прутам*: К.

**ПРЫ** (54) *прыназ. з М.* выражае:

П р а с т о р а в ы я а д н о с і н ы (6).

**1.** Ужываецца для ўказання на непасрэдную блізкасць ад якога-н. месца. *Між такімі палямі – намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам..* ХБ, 28. // Паблізу ад чаго-н., побач з чым-н. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку. Зато гумно – важна! Пры ім стажкі ўжатку..* ХБ, 28. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві, Чорны крыж, якбы змора лунае ў высі..* БН, 93. // Ужываецца з назвай ракі, каля якой што-н. адбываецца. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў, што дыванамі пры Нёмне сьвецяць з-пад нябёсаў.* ХБ, 28.

**2.** Ужываецца для ўказання на ўстанову, якая ўключае ў свой склад што-н. дапаможнае. *Пры ўрадзе быў створаны камісарыят нацыянальных меншасцей (літвінаў, палякаў, латышоў, жыдоў), апрача беларусаў.* СНБ, 337–338. *Пры менскім камісарыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел, які папраўдзе шчыра заняўся падгатоўкай літаратурнага беларускага матэрыялу.* Там жа, 339. *Параўн.* пшы *ў 1 знач.*

Ч а с а в ы я а д н о с і н ы (25).

**3.** Ужываецца для ўказання на падзею, у момант якой што-н. адбываецца. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, Я песня з душы і гартоўна, як сталь, Якую пяе арлоў горных сям'я, Якую пяе пры кавадле каваль.* СС, 300. *Пры падняцці заслоны першым праходзіць справа ўлева Лернік з лерай, а пасля Шарманшчык з шарманкай.* Т, 33. *Параўн.* пшы *ў 2 знач.*

**4.** Ужываецца для ўказання на асобу, у перыяд дзейнасці ці прысутнасці якой што-н. адбываецца. *Пры Сталіне ў бежанцах гінуць не будзем, Совецкіх людзей ён выводзіць у людзі.* СС, 303. [Янка]: *Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі.* Т, 53.

БВ, 16; ВН (2); ГНД; СНБ; Т, 22(2), 23, 26, 27, 34, 35, 36, 39, 40(2), 45, 51, 55, 56, 62.

А б’ е к т н ы я а д н о с і н ы (5).

**5.** Ужываецца для ўказання на наяўнасць у каго-н. якой-н. пасады. [Гануля]: *Я мыла людзям бялізну, а ён* [муж] *прыстроіўся ў акружным судзе: быў там пры вешалках і кур’ерам.* Т, 20.

**6.** *Разм.* Ужываецца для ўказання на асобу, якая што-н. мае ў гэты момант. *Я прыкінуўся, што не чую, бо якраз дробных* [грошай] *пры сабе тады не меў, і вылецеў гарматняй куляй з рэдакцыі.* Ан, 19. *А наперадзе ўсіх едзе Наш Даніла з вайны. Шабля бліскае пры боку, Конь пад ім буланы.* ПСД.

**7.** Ужываецца для ўказання на асобу, з якой хто-н. знаходзіцца, жыве. [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, я толькі провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.* Т, 38. [Гануля]: *Мой нябожчык гаспадар жыў пры бацькох на маленькім надзеле.* Там жа, 20.

А к а л і ч н а с н ы я а д н о с і н ы (4).

**8.** Ужываецца для ўказаня на якую-н. з’яву, акалічнасць, якая суправаджае што-н. *І хціва* [абываталь] *мерыць шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.* ВБЛ, 81. *..я* [Купала] *браў з сабой кнігі* [на начлег] *і пры свеце кастра або месяца чытаў.* ПС.

**9.** Ужываецца для ўказання на асобу, у прысутнасці якой што-н. адбываецца. [Янка]: *(да Аленкі і Гарошкі). Як жа вам спадабаліся гэтыя, не пры людзёх кажучы, вучоныя?* Т, 27.

**10.** Ужываецца для ўказання на стан, у якім хто-н. знаходзіцца. [Гануля]: *Дзе там тое шчасце пры маёй старасці?* Т, 57.

П р ы ч ы н н ы я а д н о с і н ы (7).

**11.** Ужываецца для ўказання на прычыну, падставу чаго-н. *Пры песельным звоне народ акрылеў, Глядзеў, калыхаўся свабодай..* ПН, 47. *Такі край, як паўночная палавіна Меншчыны, мог-бы пры падмозе чалавека абярнуцца ў адзін з найпрыгажэйшых краёў..* ХБ, 29.

А, 328; АЛ; ВСп, 91; НДН, 18; СНБ.

У м о ў н ы я а д н о с і н ы (5).

**12.** Ужываецца для ўказання на падзею, факт або абставіны, якія з’яўляюцца ўмовай для ажыццяўлення чаго-н. *Яго* [паўночнага краю Меншчыны] *нівы ўраджайныя, дзякуючы вельмі добраму клімату і пры рацыянальнай гаспадарцы маглі-б карміць вялікае насяленьне.* ХБ, 29–30. *Як водзіцца пры добрым дэмократычным парадку, пускаюцца у дзело агітатары.* ДК. ВС; ЖН (2).

У с т у п а л ь н ы я а д н о с і н ы (2).

**13.** Ужываецца для ўказання на абставіны, нягледзячы на якія што-н. адбываецца. *Пры вельмі цяжкіх тэхнічных варунках, ..пры тых перашкодах і няміласьцях, якія прыходзілася і прыходзіцца спатыкаць беларускаму друкаванаму слову з боку яго*

*няпрыхільнікаў, – такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці "Адраджэньня" быў проста гэраічным.* ВСп, 91.

◊ **Ні пры чым** *гл.* што. **Пры чым тут...** (2) *гл.* што.

**ПРЫБІРАЦЬ** (2) *незак.* Прыводзіць у парадак. *Ганула прыбірае стол..* Т, 31.

◊ **Прыбіраць у свае рукі** – падпарадкоўваць сабе што-н. *Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраць у свае рукі найадказьнейшыя вучасткі Савецкага дзяржаўнага апарату.., контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмократы спадцішка.. падточвалі соцыялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці.* АЛ.

Інф. *прыбіраць*: АЛ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *прыбірае*: Т, 31.

**[ПРЫБІТЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* прыбіць. *перан.* **1.** *Разм.* Прытоптаны. *...ўсё мяжой прыбіта быццам істужкай...* ХБ, 28.

**2.** *перан.* Падняволены, прыгнечаны. *Сотні лет, няпрыяцелем-братам прыбітая, Зарастаючы зельлем чужым, як лазой сенажаць, Ты* [Беларушчына] *ляжала няпамяці пылам пакрытая, А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.* Б, 18.

**3.** *У знач. прым.* Прыніжаны, запалоханы, цёмны. *Заместа прыбітых балесных жанок Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне.* ПБН.

Адз. ж. Н. *прыбітая*: Б, 18. Р. *прыбітых*: ПБН. Кар. адз. н. Н. *прыбіта*: ХБ, 28.

**[ПРЫБЛІЖАНЫ]** *прым.* Такі, якому пакланяюцца. *Адны* [людзі] *трымалі дары Сваім прыбліжаным багам, Другія ўспаміналі чары, Шоў гоман сьцішны сям і там.* УрП, 47.

Мн. Д. *прыбліжаным*: УрП, 47.

**[ПРЫБЛІЖАЦЦА]** *незак.* Набліжацца, падыходзіць. *..калі вораг прыбліжаецца к якому месцу і пачне даносіцца да вуха жыхароў страляніна, то гэтым нападае на ўсіх жудасць і паніка.* СНБ, 340.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прыбліжаецца*: СНБ, 340.

**[ПРЫБЛУДА]** (8) *м. Разм.* Чужынец, прышэлец. *Змяцём з беларускіх загонаў Паганыя банды прыблуд..* ХЛВ, 315. *Годзе нам* [беларусам] *сілу прыблудаў вялічыць Дзецьмі, багацьцем радзімай зямлі!* Г, 17. // *У параўн. ..вёска глядзіць на пана, як на прыблуду з чужацкай стараны, які захапіў яго, селяніна, зямлю ды йшчэ здзекуецца над ім самім.* Нз, 14. *Параўн.* прыблудак, прыблуднік.

Адз. В. *прыблуду*: Нз, 14. Мн. Н. *прыблуды*: Ж. Р. *прыблудаў* (5): Б, 18; Г, 17; НГ, 8; ПД, 83; Ч, 323; *прыблуд*: ХЛВ, 316.

**ПРЫБЛУДАК** *м. Тое, што* прыблуда. *Дрыжыць прыблудак ачарнелы.* Кц, 197.

Адз. Н. *прыблудак*: Кц, 197.

**ПРЫБЛУДНІК** (2) *м. Тое, што* прыблуда. *Цярэбіць стальнаю сякерай Прыблуднік нашы лясы..* УрП, 48.

• **Прыблуднік ночы** – чараўнік. *Так гаварыў прыблуднік ночы, Народ і слухаў і маўчаў..* УрП, 52.

Адз. Н. *прыблуднік* (2): УрП, 48, 52.

**[ПРЫБЛУДНЫ]** (2) *прым. Разм.* **1.** Які прыйшоў невядома адкуль. *Суд і расправа пачалася Над тым прарокам прыблудным.* УрП, 52.

**2.** *перан.* Блудны. *Ня прыслужнем будзь ласцы прыблуднага сына, Будзь пракляцьцем яму, – свайму кату.*Ч, 322.

Адз. м. Р. *прыблуднага*: Ч, 322. Т. *прыблудным*: УрП, 52.

**ПРЫБОЧНІК** *м. Польск., уст.* Прыбліжаны. – *Скажы: скуль ты? якому сонцу Твая паклон б'е старана? – Зьвярнуўся так да незнаёмца Прыбочнік верны Пяруна.* УрП, 51.

Адз. Н. *прыбочнік*: УрП, 51.

**[ПРЫБЫТАК]** (2) *м. Спец.* **1.** Даход, крыніцай якога з'яўляецца прыбавачная вартасць. *Гэтым Баця сцягвае патрэбныя яму абаротныя сродкі, гэта дае яму повад гаварыць пра ўдзел рабочых у прыбытках, пра сваё "акцыянерства" з рабочымі.* ПЧ.

**2.** *Разм.* Пра з'яўленне патомства. *І расьлі яны, расьлі так Мае княжэнята* [сыны] *На багацьце, на прыбытак, На вось тое сьвята..* Дз, 188.

Адз. В. *прыбытак*: Дз, 188. Мн. М. *прыбытках*: ПЧ.

**ПРЫБЫЦЬ** (2) *зак.* **1.** Прыйсці, прыехаць куды-н. [Мікіта]: *Якімі такімі шляхамі пазволілі* [Дама, Поп, Спраўнік, Пан] *сабе прыбыць?* Т, 51.

**2.** Дабавіцца. *Прыбыла толькі к польска-панскаму бізуну чыноўніцка-жандармская нагайка.* Нз, 14.

Інф. *прыбыць*: Т, 51. Абв. пр. адз. ж. *прыбыла*: Нз, 14.

**[ПРЫВАБНЫ]** *прым.* Які выклікае цікавасць, інтарэс. *Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым, Вясёлым, прывабным, як сонейка жар, Каб бліснула яснасьць і сьпячым!* Пр.

Мн. Д. *прывабным*: Пр.

**[ПРЫВАТНЫ]** (2) *прым.* Які належыць пэўнай асобе. *..польскі сойм выказаўся процi прыватнай вялікай уласнасці на зямлю..* ЗС, 17. *..нязначны час вучыўся* [Купала] *ў Мінску ў прыватнай падрыхтоўчай школе..* А, 328.

Адз. ж. Р. *прыватнай*: ЗС, 17. М. *прыватнай*: А, 328.

**[ПРЫВЕЗЦІ]** (3) *зак. да* прывозіць. *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, ..ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне.* А, 328. [Гарошка]: *А ты, сарока, калі ўжо адсакатала сваё, аддала б настаўніку тое, што прывезла.* Т, 30.

Абв. пр. адз. м. *прывёз*: А, 328. ж. *прывезла*: Т, 30. Мн. *прывезлі*: Кз, 17.

**ПРЫВЕСЦІ** (4) *зак.* **1.** Надаць які-н. выгляд. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, трэба хутчэй залю прывесці да чалавечага падабенства.* Т, 50.

**2.** Давесці да якога-н. стану. *Гэтыя ваенныя няўдачы прывялі бальшавікоў у дзікую злосць.* СНБ, 340.

**3.** Спаслацца на што-н., працытаваць. *Мы прывялі адзін з нязьлічоных выпадкаў няпрызнаньня права беларускага народу на яго родную мову.* ОШМ. [Купала:] *Прывяду рэзультат маленькай цыфравой спраўкі.* ВСп, 91.

Інф. *прывесці*: Т, 50. Абв. пр. мн. *прывялі* (2): ОШМ; СНБ, 340. Буд. адз. 1 ас. *прывяду*: ВСп, 91.

**ПРЫВЕТ** (4) *м.* **1**. *Тое, што* прывітанне *ў* 2 *знач.* [Мікіта]: *Вашаму родзію пакорны прывет і падчыненне!* Т, 51. [Мікіта]: *Вашародзіе, прымеце пакорны прывет!* Там жа, 37.

**2.** Сяброўскае пажаданне каму-н. ад каго-н. *Вы, другі верные, ганцы, Як летась, сёлета, на лета Усе пагранічные капцы Абходзьце зноў з маім* [князя] *прыветам.* Кц, 196.

Адз. Н. *прывет* (2): Т, 37, 51. Т. *прыветам* (2): Кц, 196; Пт, 207.

**ПРЫВЕТЛІВА** *прысл.* Добразычліва, гасцінна. *Спаткае* [хлопчыка і лётчыка] *таварыш наш Сталін Прыветліва ў самым Крэмлі..* ХЛВ, 316.

**[ПРЫВЕТЛІВЫ]** *прым., перан.* Цёплы, ласкавы. *Скончыцца вайна. С панад яе пажарнаго і крывавага дыму выгляне добрае, прыветлівае сонцэ і ажывіць сваімі праменямі нашы загоны і сенажаці.* РКр.

Адз. н. Н. *прыветлівае*: РКр.

**ПРЫВІТАННЕ** (12) *н.* **1.** *Дзеянне паводле дзеяслова* прывітаць *у* 1 *знач. Пасля прывітання госці рассаджваюцца..* Т, 24.

**2.** Словы, звернутыя да каго-н. пры сустрэчы, як знак добразычлівасці. [Мікіта]: *Вельмі паважанаму профэсару маё шчырае, меджду протчым, прывітанне!* Т, 49. [Спічыні]: *Учора мы збольшага прайшлі аддзел прывітанняў, сягоння павінны іх паўтарыць болей стала.* Там жа, 31. *Параўн.* прывет *у 1 знач.*

**3.** Зварот да каго-н. з выказваннем добразычлівасці, адабрэння. *Прывітанне будаўнікам! Прывітанне нашым камандзірам!* ПГ. *Я* [Купала] *з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых* [беларускіх] *пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру.. тав. Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну, і рад шчыра далучыць свой подпіс да гэтага сардэчнага прывітання.* ШБСЯ.

Адз. Н. *прывітанне* (3): ПГ (2); Т, 49. Р. *прывітання* (2): Т, 24; ШБСЯ. В. *прывітанне* (3): ВГР; ПТ, 207; ШБСЯ. Мн. Р. *прывітанняў*: Т, 31. В. *прывітанні* (3): ПЧ; Т, 32, 49.

**ПРЫВІТАЦЬ** (8) *зак.* **1.** Выказаць прывітанне пры сустрэчы. [Пан]: *Ваша гасціннасць у тыя, цяжкія для нашага стану, часы, абавязвала мяне як найхутчэй прывітаць вас* [Мікіту] *ад сябе і ад маіх...* Т, 51. [Спічыні]: *..як вы* [Мікіта] *прывітаеце, спаткаўшы немку?* Там жа, 31.

**2.** Звярнуцца да каго-н. са словамі прывітання. *..у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне час хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай..* ЖН.

**3.** Выказаць адабрэнне. *..кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленьнем прывітае новую кветку ў бясьсьмертным вянку культурнага будаўніцтва ў БССР – Беларускую Акадэмію Навук.* ГНД.

**4.** *перан.* Сустрэць, спаткаць. *Хутка жаўранак песьняй сваей галасістаю Прывітае аратых на полі.* ТС, 74.

Інф. *прывітаць* (2): ЖН; Т, 51. Абв. буд. адз. 3 ас. *прывітае* (2): ГНД; ТС, 74. Мн. 2 ас. *прывітаеце* (3): Т, 31(3). 3 ас. *прывітаюць*: ПТ, 207.

**ПРЫВІТЫ** *дзеепрым. зал. да* прывітаць. Які прымусілі засвоіць. *Здавалася, той мэсыянізм, які быў прывіты польскаму народу, у часе яго паднявольля, лепшымі польскімі мысьліцелямі, павінен быў выгадаваць у гэтым народзе штось ці сьветлае, разумнае..* СНБ.

Адз. м. Н. *прывіты*: СНБ.

**[ПРЫВОДЗІЦЬ]** *незак.* Указваючы дарогу, даставіць куды-н. *Гануля выходзіць і прыводзіць з сабой Аленку і Гарошку..* Т, 25.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прыводзіць*: Т, 25.

**ПРЫВОЗІЦЬ** (2) *незак.* Везучы, дастаўляць што-н. куды-н. *Не касавалі* [бальшавікі] *дробнага гандлю і не забаранялі прывозіць прадукты з вёскі ў мястэчка.* СНБ, 339. // Прыехаўшы адкуль-н., дастаўляць што-н. новае, раней невядомае. *Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя..* Кз, 17.

Інф. *прывозіць* (2): Кз, 17; СНБ, 339.

**[ПРЫВОЛЛЕ]** і **[ПРЫВОЛЬЛЕ]** *н.* Шырока адкрытае месца, прастора. *Лунае груганнё ў прыволлі..* ГП, 8. *Сонцэ з ласкай ажыўчай гуляе ў прывольлі..* ТС, 74.

Адз. М. *прыволлі*: ГП, 8; *прывольлі*: ТС, 74.

**[ПРЫВОЛЬНЫ]** *прым., перан.* Вольны, нічым не абмежаваны. *Між небам лазурным і чорнай зямлёй Прывольная думка лунала.* ПНд, 46.

Адз. ж. Н. *прывольная*: ПНд, 46.

**[ПРЫВУЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* прывучаць. Прымушаны прывыкнуць да чаго-н. *Прывучан* [беларус] *кланяцца, уніжацца..* БрБ, 6.

Кар. адз. м. Н. *прывучан*: БрБ, 6.

**ПРЫВУЧАЦЬ** *незак.* Абуджаць інтарэс да чаго-н. [Янка]: *На маю думку, найлепей пакуль што ехаць на вёску і там прывучаць да навукі людзей і самой* [Аленцы] *ад іх вучыцца.* Т, 30.

Інф. *прывучаць*: Т, 30.

**[ПРЫВУЧЫЦЬ]** *зак.* Выпрацаваць які-н. навык. *Ведама, што даць беларусу-каталіку вольны выбар: ці вучыцца рэлігіі па польску, ці па расейску, забараніўшы перш навуку па беларуску, дык ён выбярэ польскую мову, ...якой прывучылі маліцца.* ВР.

Абв. пр. мн. *прывучылі*: ВР.

**[ПРЫВЫКНУЦЬ]** (5) *зак.* **1.** Засвоіць што-н. як звычайнае. *Я мець ад кагосьці І штосьці прывык..* МК. *Яны* [польскіе і расейскіе націоналісты]*, як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць бытцам-то мёртвае цела нашага народу і, убачыўшы, што гэты народ ажывае, спудзіліся, што ім пажывы не хваце!* ВР.

**2.** Асвоіцца з чым-н. [Янка]: *Ці ж першыя для Менску гэтыя трывожныя мінуты? Час было б, цётачка, і прывыкнуць да іх.* Т, 53. // Адчуць сімпатыю да каго-н. [Гануля]: *Мы ўжо да вас так прывыклі, што мне здавалася, ніколі не разлучымся* Т, 21.

Інф. *прывыкнуць*: Т, 53. Абв, пр. адз. м. *прывык* (2): ВМР; МК. Мн. *прывыклі* (2): ВР; Т, 21.

**[ПРЫВЫЧКА]** (2) *ж.* Звычка. *..павінны пакінуць мы* [беларусы] *благую прывычку думаць, што нехта прыдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі.* БС. *Ці ня час ужо пакінуць* [беларусам] *благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць ды чакаць.* Там жа.

Адз. В. *прывычку* (2): БС (2).

**[ПРЫВЫЧНЫ]** *прым.* Звыклы, звычны. *..свае паступкі ён* [абываталь] *будзе тлумачыць па своему, але сэнс у гэтым, і з гэтага карыстаюць усе старые, вядомые і прывычные для яго сілы.* ВМР.

Мн. Н. *прывычные*: ВМР.

**[ПРЫВЯЗАЦЬ]** *зак.*: ◊ **К зямлі прывязаць** – вярнуць да рэальнага жыцця. *Лунай жа, саколе, У гэтых міражах, Пакуль цябе Доля К зямлі не прывяжа.* АК.

Абв. буд. адз. 3 ас. *прывяжа*: АК.

**[ПРЫВЯЗВАЦЬ]** *незак.* Звязаўшы вузлом, прымацаваць да чаго-н. ..[Мікіта] *выцягвае з кішэні чырвоную хустачку, прывязвае да парасона..* Т, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прывязвае*: Т, 43.

**[ПРЫВЯЗЫВАЦЬ]** *незак. Руск., перан.* Выклікаць у каго-н. прывязанасць. *Вучыць* [рэлігіі] *па расейску – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўселякіх Солоневічоў, бо яна толькі мацней прывязывае цёмнага беларуса да польскай мовы..* ВР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прывязывае*: ВР.

**[ПРЫГАДЗІЦЦА]** *зак. Руск.* Спатрэбіцца, стаць карысным. *Тая трэццяя* [літара]*, а з ёй І другая с чыну Прыгадзіцца мне на стол І на дамавіну.* $Ш_1$.

Абв. буд. адз. 3 ас. *прыгадзіцца*: $Ш_1$.

**[ПРЫГАЖЭЙШЫ]** (2) *прым. Пар. ст. да* прыгожы *ў* 2 *знач.* *..наш* [беларускі] *край адзін з прыгажэйшых краёў у сьвеце.* ХБ, 27. *Такі край, як паўночная палавіна Меншчыны, мог-бы пры падмозе чалавека абярнуцца ў адзін з найпрыгажэйшых краёў, яго лясы і цяпер... маюць выгляд прыгажэйшых паркаў..* Там жа, 29.

Мн. Р. *прыгажэйшых* (2): ХБ, 27, 29.

**ПРЫГЛЕДЗЕЎШЫСЯ** (2) *дзеепрысл. да* прыгледзецца. Уважліва паглядзеўшы. [Начальнік]: *(да Спраўніка і Дамы). Вашы дакумэнты. (Прыгледзеўшыся). І вы, здаецца, мае старыя знаёмыя?* Т, 61. [Начальнік патруля]: *(..прыглядзеўшыся да Мікіты). Але мы, здаецца, з вамі знаёмы?* Там жа, 60.

**ПРЫГЛЕДЗЕЦЦА** *зак.* Паназіраць за чым-н. [Аленка]: *Трэба ж было, татачка, прыгледзецца, як рыхтуюцца менчукі спатыкаць новых акупантаў.* Т, 44.

Інф. *прыгледзецца*: Т, 44.

**[ПРЫГЛЯД]** *м.* Клопат. *..мы* [беларусы] *разагнулі прыгнутыя спіны, Сагрэтыя чулым прыглядам тваім* [Сталін]. ПБН.

Адз. Т. *прыглядам*: ПБН.

**[ПРЫГЛЯДАЦЦА]** (3) *незак.* **1.** Уважліва глядзець, разглядаць. *Прыглядаецца* [Гануля] *на браму.* Т, 59. *Прыглядаецца* [Мікіта] *на зямлю, на лаўку.* Там жа, 43.

**2.** *Разм., перан.* Мець нейкі выгляд; выглядаць. *Край, дзе жыццё я* [Нёман] *сваё пачынаю, Шмат весялей прыглядаўся на свет..* Н.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прыглядаецца* (2): Т, 43, 59. Пр. адз. м. *прыглядаўся*: Н.

**ПРЫГЛЯДАЮЧЫСЯ** (2) *дзеепрысл. да* прыглядацца *ў* 1 *знач.* [Немец]: *(падышоўшы блізка да Мікіты і прыглядаючыся да формы). О-о! Што я бачу? Рыхтык рускі генэрал.* Т, 32. [Дама]: *(прыглядаючыся праз лёрнэтку на Мікіту). У вас.. фасон касцюму.. а ля-ба-сяк.* Там жа, 58.

**[ПРЫГНАЦЬ]** *зак.* Гонячы, даставіць куды-н. *Неяк прыгнаў я* [хлопец]*, змарыўшыся, з поля Іхнія, панскія, з поля авечкі.* Ун, 73.

Абв. пр. адз. м. *прыгнаў*: Ун, 73.

**[ПРЫГНЕЧАННЕ]** *н.* Уціск, прыгнёт. *Нашу дзівосную Совецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх стагоддзяў рабства і нацыянальнага прыгнечання, трацкісцкія вырадкі хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызма.* ВНЗ.

Адз. Р. *прыгнечання*: ВНЗ.

**[ПРЫГНУТЫ]** *дзеепрым зал. пр. да* прыгнуць.: ◊ **Разагнуць прыгнутыя спіны** *гл.* разагнуць.

Мн. В. *прыгнутыя*: ПБН.

**ПРЫГОДА** (4) *ж.* **1.** Непрыемнае здарэнне, небяспечная для каго-н. падзея. [Мікіта]: *Мне толькі што спаткалася ў дарозе смешная прыгода. ..спаткалі мяне два паны.., знялі куртачку, ..боты..* Т, 58.

**2.** Падзея, з'ява. *Вялікая сталася ў свеце прыгода Пад Сталінскім сцягам удалым: Заззяла ўрачыстае свята народаў, Якога ў вяках не бывала.* ВВ, 263. *Як песня, жыве яго імя ў народзе, У кожным здарэнні, у кожнай прыгодзе, Ці майскае свята ў жывым карагодзе, Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць..* СС. 302. // Выпадак. *Песні-вяснянкі ў далёкія далі Лунаюць у кожнай прыгодзе.* СС, 301.

Адз. Н. *прыгода* (2): ВВ, 263; Т, 58. М. *прыгодзе* (2): СС, 301, 302.

**ПРЫГОЖА** (2) *прысл.* **1.** *Прысл. да* прыгожы ў 1 *знач. Дастае* [Аленка] *з торбы прыгожа вышытую кашулю..* Т, 30.

**2.** Мілагучна. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засільля чужынцаў і уваскрасіць стары Менск, калі панавалі тут продкі нашы, калі прыгожа зычэла мова наша і справавало беларускае права.* ВМР.

**ПРЫГОЖАНЬКІ** (4) *прым. Ласк. да* прыгожы ў 1 *знач. Тудой шоў жаўнер Наш прыгожанькі. Гэй гэй, гэй, наш прыгожанькі!* ББ. *І запеў жаўнер Той прыгожанькі. Гэй, гэй, гэй,Той прыгожанькі!* Там жа.

Адз. м. Н. *прыгожанькі* (4): ББ(4).

**[ПРЫГОЖЫ]** (12) *прым.* **1.** Які прыносіць асалоду сваім знешнім выглядам. [Гарошка]: *А ты, сарока, калі ўжо адсакатала сваё, аддала б настаўніку тое, што прывезла.* [Аленка]: *Калі я саромлюся.* [Янка]: *Мабыць, нешта надта брыдкое.* [Аленка]: *І зусім не брыдкое, а нават, як цётка Агата казала, дужа прыгожае.* Т, 30. [Янка]: *Праўдзівая кашуля, праўдзівы пояс і праўдзівыя лыжкі.* [Ануля]: *Якія ж прыгожыя.* Там жа, 31.

**2.** Маляўнічы, жывапісны. *Прырода Чэхаславакіі надзвычай прыгожая.* ПЧ. *Далі такія ў нас ясныя і прыгожыя, людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх можа стаць героем у любы час, у любы міг..* ЖН.

**3.** *Неадабр.* Эфектны, але беззмястоўны. *І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей – усё гэта будзе абманам.* НДН, 18.

• **Прыгожае пісьменства** *гл.* пісьменства.

Адз. м. М. *прыгожым*: Бц, 74. ж. Н. *прыгожая* (2): ПЧ; ХБ, 30. н. Н. *прыгожае* (2): ВСп, 89; Т, 30. Р. *прыгожага*: ВСп, 89. В.

*прыгожае*: ВСп, 89. Мн. Н. *прыгожсыя* (3): ЖН; ПЧ; Т, 31. Р. *прыгожых*: ХЛВ, 315. Т. *прыгожымі*: НДН, 18.

**[ПРЫГОЖЫЦЬ]** *незак.* Упрыгожваць. *Спі, пясняр наш родны! Ты жыццё прыгожыў, Аб табе таксама Народ песні зложа.* ПСС, 232.

Абв. пр. адз. м. *прыгожыў*: ПСС, 232.

**ПРЫГОН** (6) *м.* **1.** *Тое, што* прыгонніцтва. *Махае касою касец, Пазбыўшы галодны прыгон.* ТП, 213. *Каб таму крукамі Пакрыўляла ногі да роднай хаты Не знайшоў дарогі, – Хто крыўляў нам праўду, Застаўляў ў прыгоне Бежанцамі гінуць На бацькоўскіх гонях.* К. // *У параўн. Тое, што ўзята маною дачэсьне, Вечна ня будзе душыць, як прыгон..* Г, 17.

**2.** *перан.* Панаванне, уладанне. *І тут і тамка свой прыгон Распасьцірае царство ночы..* Кц, 192.

Адз. Н. *прыгон* (2): Г, 17; МК. В. *прыгон* (3): Кц, 192, 197; ТП, 213. М. *прыгоне*: К.

**[ПРЫГОННЫ]** *прым. да* прыгон *у* 1 *знач. Горды народ твой* [Фінляндыі] *не будзе згібацца Ў ёрмах прыгонных, ў здрадніцкіх лапах.* Ф.

Мн. М. *прыгонных*: Ф.

**ПРЫДАЎШЫ** *дзеепрысл. да* прыдаць. Надаўшы чаму-н. якое-н. значэнне. *Я* [Купала] *сам (справакаваў верш), змясціўшы яго ў зборніку, не прыдаўшы гэтаму палітычнага значэння.*СЧ.

**ПРЫДБАЦЬ** *зак.* Атрымаць што-н.; дабіцца чаго-н. *Пайшлі прыдбаць сабе вы* [Жыды] *чэсьць, выгоду Да сільных тых, хто даў вам вісельню і чын.* Ж.

Інф. *прыдбаць*: Ж.

**ПРЫДВОРНЫ** *прым. перан.* Які служыць у каго-н. [Мікіта]: ..[касцюм] *прынёс мне мой прыдворны кравец для меркі..* Т, 24.

Адз. м. Н. *прыдворны*: Т, 24.

**ПРЫДУМАЦЬ** (2) *зак.* **1.** Думаючы, прыйсці да якога-н. рашэння. [Янка]: *Цяпер вам, пане рэгістратар, застаецца толькі прыдумываць новую свабодную профэсію ці новую клясавую рангу.* [Мікіта]: *Ды я ўжо прыдумаў..* Т, 55.

**2.** *Разм., перан.* Увесці, устанавіць. *Спосабы* [дабыць грошы] *ёсьць два: або пажычыць у суседоў, або падвышыць старые ці прыдумаць новуе налогі.* ВН.

Інф. *прыдумаць*: ВН. Абв. пр. адз. м. *прыдумаў*: Т, 55.

**ПРЫДУМЫВАЦЬ** *незак. Руск.* Прыдумляць. [Янка]: *Цяпер вам, пане рэгістратар, застаецца толькі прыдумываць новую свабодную профэсію ці новую клясавую рангу.* Т, 55.

Інф. *прыдумываць*: Т, 55.

**ПРЫДУШАНА** *прысл.* Скрыта, падпольна. ..[соцыяльная і нацыянальная барацьба] *і ў гэты пэрыод, хоць прыдушана,*

*але хвалявалася, узбуралася ў імкненьнях і парывах працоўных мас..* АЛ.

**ПРЫДЫБАЎШЫ** *дзеепрысл. да* прыдыбаць. *Разм.* Прыйшоўшы, прыбыўшы. *Хэ-хэ! – патурае яму* [польскаму пану] *расійскі чыноўнік, прыдыбаўшы сюды* [на Беларусь] *у дзюравых атопках шукаць карьеры..* З.

**ПРЫЗНАЦЦА** *зак.* Адкрыта сказаць. *Трэба прызнацца, што якое бы ліхо навокал нас і з намі самімі не рабілося, якіх бы мы* [беларусы] *не перажывалі нягод і крыўд – мы гэтага як бы ня бачым..* БС.

Інф. *прызнацца*: БС.

**[ПРЫЕЗД]** (3) *м. Дзеянне па дзеяслову* прыехаць. *З прычыны прыезду Начальніка Польскай Дзяржавы у Менск, у гарадзкім тэатры адбыўся спэктакль..* СБНГ. *Ці-ж можа паэт не адгукнуцца на іх* [папанінцаў] *радасны прыезд вершамі, вартымі гэтых вялікіх людзей?* МП.

Адз. Р. *прыезду*: СБНГ. В. *прыезд*: МП. М. *прыездзе*: Т, 51.

**ПРЫЕМНА** (2) *прысл да* прыемны. [Янка]: *Вельмі прыемна пазнаёміцца з новым канкурэнтам у маёй профэсіі.* Т, 30. [Дама]: *Вельмі прыемна з вашага* [Янкі] *боку!* Там жа, 52.

**[ПРЫЕМНАСЬЦЬ]** *ж.* Пачуццё задавальнення ад чаго-н. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга, ніякі малюнак, ніякі спэктакль не давалі мне* [С. Мечу] *гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага васеньняга сонца.* ХБ, 29.

Адз. Р. *прыемнасьці*: ХБ, 29.

**ПРЫЕМНЫ** (4) *прым.* Які прыносіць задавальненне, радасць. *Цёплай і прыемнай была сустрэча з совецкім паслом у Чэхаславакіі т. Александроўскім.* ПЧ. [Мікіта]: *Якое прыемнае, меджду протчым, спатканне, таварыш профэсар!* Т, 45.

Адз. м. Н. *прыемны*: ХБ, 29. ж. Т. *прыемнай*: ПЧ. н. Н. *прыемнае*: Т, 45. В. *прыемнае*: ПЧ.

**ПРЫЕХАЎШЫ** *дзеепрысл. да* прыехаць. *Прыехаўшы у Беларусь савецкую я* [Купала] *раскажу.. большэвіцкую праўду аб гэтым гераічным будаўніцтве..* ЦСБ.

**[ПРЫЕХАЦЬ]** (9) *зак.* Прыбыць куды-н. *І дамоў прыехаў* [Янка] *З тэй вайны, здалёку, А дзяўчына, як маліна, Пазірае збоку.* ЕЯП. [Гануля]: *Добра дзеткі, прыеду да вас на вяселле.* Т, 57.

Абв. пр. адз. м. *прыехаў* (3): ЕЯП; СНБ, 338; Т, 43. Мн. *прыехалі* (2): СНБ, 338; Т, 35. Буд адз. 1 ас. *прыеду*: Т, 57. 3 ас. *прыедзе* (2): НДп, 229; Т, 23. Мн. 2 ас. *прыедзеце*: Т, 25.

**[ПРЫЁМ]** *м.* Збор, сход запрошаных афіцыйных асоб у гонар каго-н. *Гэтую прыязнь.. да нашае краіны.. мы* [дэлегаты] *з хваляваннем*

*адчувалі на афіцыйных прыёмах у магістратах, на спатканні з міністрам замежных спраў п. Бенешам..* ПЧ.

Мн. М. *прыёмах*: ПЧ.

**[ПРЫЁМНЫ]** *прым. У знач наз.* Пакой, у якім прымаюць наведвальнікаў. *У прыёмных нямецкіх і японскіх контрразведак трацкісцкія шпіёны і здраднікі гандлявалі нашаю крывёю і нашым нацыянальным гонарам.* ВНЗ.

Мн. М. *прыёмных*: ВНЗ.

**ПРЫЗВАННЕ** і **ПРЫЗВАНЬНЕ** *н.* **1.** Схільнасць да якой-н. справы, прафесіі. [Мікіта]: *..маё праўдзівае прызванне вось у гэтым (хлопаючы па партфелях): паперы, паперы й паперы.* Т, 46.

**2.** *Разм.* Прызыў, заклік да чаго-н. *Прызваньне чулася ня ў часе..* УрП, 47.

Адз. Н. *прызванне*: Т, 46; *прызваньне*: УрП, 47.

**[ПРЫЗНАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* прызнаць. *У знач. прым.* Які карыстаецца агульным прызнаннем. *І вось з гэтага вялікага ліку "гымнаў" мы ўсё такі ня маемо – сказаў бы я* [Купала] *прызнанага і усьвенчанага – беларускага нацыянальнага гымну.* СБНГ. *..няма прызнанага – гэтым жа беларускім грамадзянствам – свайго нацыянальнага гымну.* Там жа.

Адз. м. Р. *прызнанага* (2): СБНГ (2).

**ПРЫЗНАЦЦА** *зак.* Адкрыта сказаць, сазнацца. *Мушу вам, сябры, прызнацца, што гэта Антанта сядзіць ужо ў мяне соляй у воку, косткай у горле, калоццем у баку.* Ан, 18.

Інф. *прызнацца*: Ан, 18.

**ПРЫЗНАЦЬ** (5) *зак.* **1.** Палічыць каго-н. здольным да чаго-н. *Антанта, прымаючы пад увагу ўсялякія разбойствы і бяспраўі бальшавікоў, прызнала Калчака, Дэнікіна і Юдэніча царамі Расіі..* Ан, 19. *..Антанта прызнала Пятлюру, Ульманіса, Тарыбу, навет беларускую раду і загадала ім усім скасаваць Калчака, Дэнікіна, Юдэніча, Леніна, Троцкага і Калмановіча.* Там жа, 19.

**2.** Зацвердзіць сваёй згодай права на існаванне чаго-н. *Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г. д. – ..усіх іх можна прызнаць, ..і незалежнасць гэтых дзяржаў не выклікае ніякіх вялікіх спрэчак.* Нз, 14.

**3.** Згадзіцца з чым-н. *Беларускі народ самабытны – гэта прызнаюць ужо навет і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагеру.* Нз, 14. // Прыйсці да якога-н. заключэння. *І расейскіе нацыяналісты, і ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас: лепей ніхай палякі з'ядуць зусім каталікоў-беларусоў, чым беларускаму народу пазволіць развівацца у сваім нацыональным духу.* ВР.

Інф. *прызнаць*: Нз, 14. Абв. цяп. мн. 3 ас. *прызнаюць*: Нз, 14. Пр. адз. ж. *прызнала* (2): Ан, 19(2). Мн. *прызнавалі*: ВР.

**[ПРЫЗНАЧАЦЬ]** *незак.* Даць назначэнне каму-н. *Сваей рукой я* [аўтарнік] *прызначаю Дванаццаць выбраных між вас..* УрП, 49.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *прызначаю*: УрП, 49.

**[ПРЫЗЫВАЦЦА]** *незак.* Быць прыцягнутым для адбывання воінскай павіннасці. ..[асабісты ваенны налог] *будуць уносіць тые, што прызываліся у апошнія 4 гады.* ВН.

Абв. пр. мн. *прызываліся*: ВН.

**[ПРЫЗЫЎНЫ]** *прым.* Які нясе ў сабе прызыў, заклік. *Зазвінелі прызыўныя песні аб вызваленні.. на зямлі першага рускага двараніна Нікалая другога.* ДЖ.

Мн. Н. *прызыўныя*: ДЖ.

**[ПРЫЙСЦІ]** (14), **ПРЫЙСЬЦІ** і *разм.* **[ПРЫСЦІ]** (37) *зак.* **1.** *Зак. да* прыходзіць *у* 1 *знач.* [Гануля]: *Пане настаўнік! Да вас госьці прышлі.* Т, 25. [Начальнік]: *Чэк* [на арышт] *атрымаеце* [Мікіта], *як прыдзеце на места.* Там жа, 62. // З’явіцца куды-н. з якой-н. мэтай. [Мікіта]: *..крыху прытрымайце яго* [немца], *пакуль я пераадзенуся, бо чаго добрага, прыйшоў на работу хапаць.* Т, 32. *У нас* [беларусаў] *усё спіць, ..ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з падмогай дзеля яго адбудавання.* АБ, 16. // Вярнуцца куды-н. *Як прыйшоў дамой, сярэдні* [сын] *Выглядаў багата, Й не пазнаў, як зьвер пасьледні, Ні мяне* [маці], *ні брата.* Дз, 190.

**2.** *Зак. да* прыходзіць *у* 2 *знач. А покуль поўнач не прыйшла, Вясьці бяседу будзем далей..* Кц, 196. *Віхор праміне і прыдзе ясная жыватворчая пагода для ўсіх.* СНБ.

**3.** З’явіцца ў каго-н. *Ды мінулі годы Бедаў і кайданаў, Прыйшла радасць, воля Ў хату Сулеймана.* ПСС, 232. *Хай кожны беларус цьвёрда верыць, што завяруха ваенная так ці сяк скончыцца, і што для яго самаго і для яго бацькоўшчыны прыдзе лепшая доля, лепшая слава.* ВС.

**4.** *перан.* Аказацца прызначаным, абраным куды-н.; заняць якую-н. пасаду. *Ты, мудры, прышоў, правадыр, – Апалі туманы, імгла, Па свеце і ўздоўжкі, і ўшыр Шчаслівая слава пайшла.* ТП, 214.

**5.** *перан.* Выйсці (пра паходжанне). [Янка]: *..асабліва павінна яго* [Мікіту] *пацягнуць туды, адкуль прыйшоў – на вёску, дзе столькі поля някратанага ляжыць.* Т, 20.

**6.** Дасягнуць чаго-н. шляхам якіх-н. намаганняў. ..[частка беларускай інтэлігенцыі] *канчаткова ня прышла да перакананьня, што толькі працуючы пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, ..што толькі аддаючы свае сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна ня будзе адмецена жыцьцём як агідная памятка рабскага мінулага.* АЛ. *У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў. Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да перакананьня,*

*што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19.

◊ **У думку прыйсці** – з’явіцца ў думках. *Будучы дагэтуль падняволънымі і паспытаўшы, што за смак гэтае падняволле, само сабой разумеецца, нам* [беларусам] *і ў думку не прыйдзе запрагаць каго б то ні было, жывучага на нашых загонах, у паднявольнае ярмо.*

Інф. *прыйсьці*: ВС. Абв. пр. м. *прыйшоў* (11): Дз, 190; ДЖ; Т, 19, 20, 32, 39, 41, 47; ТП, 214; УрП, 51, 52; *прышэд*: Т, 51. ж. *прышла* (4): АЛ; ДД (2); ВБЛ, 82; *прыйшла* (3): Кц, 196; Нз, 14; ПСС, 232. Мн. *прышлі* (7): БС (3); ДЖ; Т, 25, 26, 38; *прыйшлі* (6): АБ, 16; БС (2); НДН, 19; ПБН; Р. Буд. адз. 2 ас. *прыйдзеш*: Бч, 9. 3 ас. *прыдзе* (9): БС (2); ВС; НК; СНБ; Т, 20, 35, 44; $Ш_1$; *прыйдзе* (3): БС; ЛПК; НДН, 18. Мн. 2 ас. *прысці* (2): Т, 31, 62. 3 ас. *прыдуць* (3): Д; НК; СС, 303; *прыйдуць*: ПЛП.

**[ПРЫЙСЦІСЯ]** (2), *разм.* **[ПРЫЙСЬЦІСЬ]** і **[ПРЫСЦІСЯ]** (16) *зак. да* прыходзіцца. *З Петраграда прыехаў* [Купала] *у Вільню, дзе прыйшлося рэдагаваць “Нашу ніву”.* А, 328. [Наста]: *..з гасцямі спаткацца прыдзецца, дык чаму ж крыху і не паднядзеліцца.* Т, 24.

Абв. пр. адз. н. *прышлося* (10): ПДз; ССА, 294; Т, 37(2), 44, 50, 57(4); *прышлось*: Дз, 189; *прыйшлося* (2): А, 328; ПЛП. Буд. адз. 3 ас. *прыдзецца* (5): ВН; Т, 19, 20, 24, 53.

**ПРЫКАВАНЫ** *дзеепрым. зак. пр. да* прыкаваць. Прымацаваны чым-н. да чаго-н. *У краіне гордай, горы дзе пад неба, Дзе быў прыкаваны Праметэй да скалы, Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС, 231.

Адз. м. Н. *прыкаваны*: ПСС, 231.

**[ПРЫКАЗ]** *м. Руск.* Загад, патрабаванне. *На зробленую увагу, што яго вымова нарушае прыказ вышэйшай улады, ..ураднік адказаў, што ен не разумее беларускай мовы..* ОШМ.

Адз. В. *прыказ*: ОШМ.

**[ПРЫКАЗАЦЬ]** *зак. Руск.* Загадаць. *Болей не будзе ён* [народ Фінляндыі] *з торбай жабрацкай Жыць, як прыкажа з-пад Тэмзы сатрапа.* Ф.

Абв. буд. адз. 3 ас. *прыкажа*: Ф.

**ПРЫКАЗКА** (2) *ж.* Устойлівае выслоўе павучальнага зместу. *Нешчасьце людзей лучыць – кажэ прыказка. Хай-жэ гэта прыказка і тут сябе пакажэ, каб у супольнай згодзе забаспечыць сябе ад голаду і холаду.* ВС.

Адз. Н. *прыказка* (2): ВС (2).

**[ПРЫКІНУЦЦА]** *зак.* Прытварыцца. *Я прыкінуўся, што не чую* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *прыкінуўся*: Ан, 19.

**[ПРЫКЛАД]** (4) *м.* **1.** Яркі ўзор чаго-н. *Слава аб іх* [папанінцах] *пройдзе ва ўсе годы і вякі і будзе служыць прыкладам для жыцця пакаленняў. Параўн.* прымер *у 1 знач.*

**2.** Факт, які прыводзіцца як доказ чаго-н. *Гэта наша знаёмства з культурнымі дзеячамі з Чэхаславакіі з'яўляецца пачаткам цеснай культурнай сувязі абодвух краін. Можна для прыкладу паказаць хоць-бы на тое, што А. Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на совецкай сцэне оперы Смятаны "Праданая нявеста"..* ПЧ. *Ды і сотні такіх прыкладаў паказуе, як гэта наша моладзь пачынае сама па сабе, не раз абмацкам, нацянькі будаваць сваё роднае, светлае, народнае жыццё.* МІ, 17. *Параўн.* прымер *у 2 знач.*

Адз. Р. *прыкладу* (2): МІ, 17; ПЧ. Т. *прыкладам*: СБ. Мн. Р. *прыкладаў*: МІ, 17.

**ПРЫКЛАДАМ** (2) *пабочн. Тое, што* напрыклад. *Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісаньня хараства нашага* [беларускага] *краю А. Міцкевіча ў яго несьмяротнай паэме "Пан Тадэуш"?* ХБ, 27. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага социялістычнага будаўніцтва.., прыкладам, творы: "На сьмерць С. Булата", "Безназоўнае", "Арлянятам".. і інш.* АЛ.

**ПРЫКЛАДЫ** *мн.* Прадметы для выканання аднаго напрамку работ. *Жалейкі, дуды красавалі – Прыклады свойскія музык..* УрП, 47.

Н. *прыклады*: УрП, 47.

**[ПРЫКРЫ]** *прым.* Непрыемны. *Такая пастаноўка гэтай справы.. ня раз ставіць публіку ў прыкрае палажэньне, як і было гэта ня вельмі даўно.* СБНГ.

Адз. н. В. *прыкрае*: СБНГ.

**[ПРЫКРЫВАЦЦА]** *незак., перан.* Хаваць свае намеры. *І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, – усё гэта будзе абманам.* НДН, 18.

Абв. пр. мн. *прыкрываліся*: НДН, 18.

**[ПРЫКРЫВАЦЬ]** *незак.* Хаваць, пакрываць што-н. нядобрае. *І вось, з нашага, беларускага пагляду усе гэтые плебісцыты і сходы бацькоў ёсьць нішто іншае, як дэмократычная камэдыя, катораю людзі прыкрываюць сваё нячыстае сумленьне.* ДК.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *прыкрываюць*: ДК.

**ПРЫКРЫВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* прыкрываць. *Так хітра прыкрываючы эксплуататарства, Бацян закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ.

**ПРЫКРЫВАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* прыкрывацца. ..[беларускія нацыянал-дэмократы] *прыкрываючыся хлусьліва заслонай*

*фальшывых крывадушных дэкларацый і запэўненьнем, праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмакратычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

**[ПРЫКРЫЦЦЁ]** (2) *н.* Маскіроўка, ахова. *Немцы пад прыкрыццём спадніц думалі наладзіць ДЗОТ, а пасля пайсці ў контратаку.* ПСп.

**Пад прыкрыццём спадніц.**

Адз. Т. *прыкрыццём* (2): ПСп (2).

**[ПРЫЛАЖЫЦЬ]** *зак.* Накіраваць дзеянне чаго-н. на што-н. *..у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне* [Купалы] *час хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай, Беларуссю вольнай нацыянальна і соцыяльна.* ЖН.

Абв. пр. мн. *прылажылі*: ЖН.

**ПРЫЛІПШЫ** *дзеепрысл. незал. пр. да* прыліпнуць. *Разм., перан.* Пайшоўшы якім-н. шляхам. *Трэці* [сын], *смаўжом прыліпшы да трэцяй пуціны, Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці..* Ч, 321.

**[ПРЫЛУЧАЦЬ]** *незак.* Уключаць у склад чаго-н., далучаць. *Польскія эндэкі.. накінулі нам "плебісцыт" і прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прылучае*: СНБ.

**ПРЫЛУЧЫЦЬ** *зак. да* прылучаць. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў.* Нз, 14.

Інф. *прылучыць*: Нз, 14.

**[ПРЫЛУЧЭННЕ]** *н. Дзеянне паводле значэння дзеяслова* прылучаць. *Спачатку зрабілі* [бальшавікі] *"прылучэнне" Літ-Бел. рэспублікі да Расіі..* СНБ, 340.

Адз. В. *прылучэнне*: СНБ, 340.

**ПРЫЛЮДНА** *прысл. Разм.* Пры ўсіх; адкрыта. *Яны* [беларусы] *мусяць цьверда зазначыць свае дамаганьні, асьвяціць тые свае мэты і заданьні, і сказаць усім, хто мае вочы бачыць, а вушы слухаць: "Чаму ня вызнавалі імя яго* [беларускага народу] *прылюдна і выракліся роду свайго дзеля суседзяў?"* ВМР.

**[ПРЫЛЯГАЦЬ]** *незак.* Прымыкаць да чаго-н. ..[сохі] *бадзяцца Па шырокіх палетках, проста чарназёму, Каторы прылягаець к беленькаму дому..* ХБ, 28.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прылягаець*: ХБ, 28.

**[ПРЫЛЯЦЕЦЬ]** (2) *зак.* Лецячы, прыбыць куды-н. *Адзін з захаду груган, А другі з усходу Прыляцелі на сяло, На чужую шкоду.* Гр. *А як згіну, то зязюля Прыляціць да вас* [бацькоў] *адтуль І ля вокнаў, ля хаціны Закукуе, што я* [Габрусь] *згінуў.* ГЖУ.

Абв. пр. мн. *прыляцелі*: Гр. Буд. адз. 3 ас. *прыляціць*: ГЖУ.

**ПРЫМАЦЬ** (7) *незак.* **1.** Браць, атрымліваць. *Дужыя* [народы] *не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць, а давалі ім, не пытаючыся, тое, што яны не заўсёды хацелі прымаць.* НДН, 18.

**2.** Залічваць, уключаць у склад чаго-н. *Нягледзячы на тое, што дырэктар прымаў мяне* [Купалу] *без экзамена, бацька парашыў не аддаваць мяне ў школу, а пакінуць на гаспадарцы.* А, 328.

**3.** Сустракаць, аказваць прыём. [Мікіта]: *Чым жа я буду гасцей высокадастойных прымаць?* Т, 51. *Гэтая сімпатыя выказвалася нам* [дэлегатам] *і шматлікай публікай, якая падхоплівала прывітанні, прымала нас як любых гасцей сваёй краіны.* ПЧ.

**4.** Успрымаць. [Наста]: *А іншых залётаў ды іншых каханняў мой організм не прымае.* Т, 42.

**5.** У спалучэнні з назоўнікам абазначае дзеянне па значэнню гэтага назоўніка. *Шкадую* [Купала] *талькі, што не змагу болей прымаць удзел у вялікім будаўніцтве, якое разгарнула партыя і Сав. улада ў БССР.* СЧ.

Інф. *прымаць* (3): НДН, 18; СЧ; Т, 51. Абв. цяп. адз. 3 ас. *прымае*: Т, 42. Пр. адз. м. *прымаў* (2): А, 328; Т, 25. ж. *прымала*: ПЧ.

**[ПРЫМАШЫРАВАЦЬ]** *зак. Разм.* Прыйсці, вярнуцца. [Спраўнік]: *Разам з новай уладай прымашыравалі ў Менск.* Т, 51.

Абв. пр. мн. *прымашыравалі*: Т, 51.

**ПРЫМАЮЧЫ** (4) *дзеепрысл да* прымаць. Пагаджаючыся з чым-н. *Уміраю* [Купала], *прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная.* СЧ.

◊ **Прымаючы пад увагу** (4) – улічваючы. *Антанта, прымаючы пад увагу ўсялякія разбойствы і бяспраўі бальшавікоў, прызнала Калчака, Дэнікіна і Юдэніча царамі Расіі..* Ан, 19. *Антанта, прымаючы пад увагу, што захварэла на вар'яцыю ад дыпламацыі, тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца.* Там жа, 19. Ан, 19(2).

**ПРЫМЕР** (5) *м. Руск.* **1.** *Тое, што* прыклад *у* 1 *знач. Для эндэкаў нічога не знача прымер царскай Расіі, якая пад паліцэйскім і жандармскім кулаком трымала дзесяткі падняволеных народаў..* СНБ. *Здавалася, той мэсыянізм, які быў прывіты польскаму народу, у часе яго паднявольля, павінен быў выгадаваць у гэтым народзе штосьці сьветлае, разумнае, што магло-бы служыць прымерам і для другіх быўшых у паднявольлі народаў.* Там жа.

**2.** *Тое, што* прыклад *у* 2 *знач. Прымерам гэтага можа служыць закрыцьцё Буцлаўскай гімназіі..* СНБ.

Адз. Н. *прымер*: СНБ. В. *прымер*: НДН, 18. Т. *прымерам* (3): НДН, 18; СНБ (2).

**[ПРЫМЕСЬ]** (2) *ж.* Дадатковы элемент у складзе чаго-н. [Усходні вучоны]: *Іоан Здольніков. Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Обласці і безусловно з прымесью монгольско-фінской крові.* Т, 26. [Усходні вучоны]: *Родной язык – обшчэрускій, веліколепно усовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов.* Там жа, 26. *Параўн.* домешка.

Адз. Т. *прымесью* (2): Т, 26 (2).

**[ПРЫМЕЧАТЬСЯ]** *незак. Руск.* Наглядацца, заўважацца. [Усходні вучоны]: *Всё жэ прымечается стрэмленіе расшырыць эці граніцы на Запад.* Т, 47. *Параўн.* спотшэга сень.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прымечается*: Т, 47.

**ПРЫМЕШАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* прымяшаць. Даданы да чаго-н. *..торпа, прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае паляпшэньне зямлі.* ХБ, 30.

Адз. м. Н. *прымешаны*: ХБ, 30.

**ПРЫМІТЫЎНА** *прысл.* Проста, нескладана. *Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна...* ПЧ.

**[ПРЫМНОЖЫЦЬ]** *зак.* Памножыць, павялічыць. *Радасці і шчасця Краіне прымножым.* ПТ, 206.

Абв. буд. мн. 1 ас. *прымножым*: ПТ, 206.

**[ПРЫМОЎКНУЦЬ]** *зак.* Прыціхнуць, замоўкнуць. *Прымоўклі гоманы дружыны..* Кц, 193.

Абв. пр. мн. *прымоўклі*: Кц, 192.

**[ПРЫМУС]** (2) *м.* Прымушэнне; уціск. *Паціху. ..не бойцеся – пойдзе ўсё гладка, – Крый, Божа, якога прымуса.* Р. *Жаднаго прымусу ці, барані Божа, гвалту: сам народ робіць усё так, як яму жадаецца, як ён падабае.* ДК.

Адз. Р. *прымуса*: Р; *прымусу*: ДК.

**ПРЫМУСІЦЬ** (4) *зак.* Абавязаць, патрабаваць зрабіць што-н. ..[рэдактар] *напісаў у сваю яснавельможную газэту горка-сьлязьлівую стацьцю пад такім загалоўкам Якім парадкам прымусіць дзяцей-беларусоў вучыцца і маліцца па-польску.* ЧЧШ. *..вось, бачыце, да чаго даводзіць беларушчына: вас прымусяць вучыцца па расейску!* ВР. // Выклікаць што-н. у каго-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, пане профэсар, новая палітычная сытуацыя і ўсё такое прымусілі мяне падумаць аб гэтай кар'еры.* Т, 55. *Але ёсьць яшчэ і чацьвёртая сіла, каторая прымусіць з сабою лічыцца. Гэта сіла беларуская.* ВМР.

Інф. *прымусіць*: ЧЧШ. Абв. пр. мн. *прымусілі*: Т, 55. Буд. адз. 3 ас. *прымусіць*: ВМР. Мн. 3 ас. *прымусяць*: ВР.

**ПРЫМУСОВА** *прысл.* Па-прымусу. [Мікіта]: *Уся бяда ў тым, што я.. паслізнуўся і быў змушаны прымусова зыйсці з трыбуны.* Т, 46.

**[ПРЫМУШАНЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* прымушаць. *У Бельгіі таксама кіпіць работа ў гэтым напрамку, якой прыму-*

*шаны дапамагаць немцы..* АБ, 16. *..беларусы прымушаны будуць шукаць іншага, спагаднейшага выхаду.* ОШМ.

Кар. мн. Н. *прымушаны* (3): АБ, 16; ОШМ (2).

**[ПРЫМЫКАВАЦЬ]** *незак. Разм.* Гатаваць, рыхтаваць. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, прымыкуйце закуску, бо незадоўга і госці збяруцца.* Т, 21.

Заг. мн. 2 ас. *прымыкуйце*: Т, 21.

**[ПРЫМЯРКОЎВАЦЬ]** *незак. Разм.* Прымяраць. *Дастае* [Мікіта] *з шуфляды ў стале чыноўніцкія адзнакі і перад люстрам прымяркоўвае іх.* Т, 24.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прымяркоўвае*: Т, 24.

**[ПРЫНАДА]** (2) *ж.* Тое, што прыцягвае, вабіць. *Будзе* [другі сын] *сонца шукаці сабе, як прынады..* Ч, 319.

Δ **Мёд-прынада** *гл.* мёд.

Адз. Р. *прынады*: Ч, 319. В. *прынаду*: Дз, 189.

**[ПРЫНЕСЕНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да.* прынесці *ў* 1 *знач. Госці.. апранаюцца ў прынесеныя Мікітам вопраткі.* Т, 29. *Паказвае* [Мікіта] *на прынесеныя к таму часу Гануляй партфелі.* Там жа, 60.

Мн. В. *прынесеныя* (2): Т, 29, 60.

**ПРЫНЕСЦІ** (7) і **ПРЫНЕСЬЦІ** *зак.* **1.** Даставіць куды-н. [Мікіта]: *..гэта ..меджду протчым, прынёс мне* [касцюм] *мой прыдворны кравец для меркі..* Т, 24. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, не адабралі* [грошы]*: бачыце, пакупкі прынёс.* Там жа, 58.

**2.** *Зак. да* прыносіць *у* 2 *знач. Першыя выстралы прынеслі людзям радасць.* СНБ, 340. *Хіба можа цёмны беларускі абыватаць пажадаць беларускай школы, калі ен ня ведае, ці прынясе яна ему карысьць!* ДК.

**3.** У спалуч. з назоўнікам абазначае дзеянне, названае назоўнікам. *..дазвольце мне, шчасліваму народнаму паэту, прынесці сваё гарачае прывітанне гаспадара зямлі беларускай – XI з'езду КПБ(б).., камуністычнай партыі, Іосіфу Вісарыёнавічу таварышу Сталіну.* ВГР. *Апрача хаўруснага закупу харчоў, шмат можэ прынесьці у гэтым помачы наша воласьць.* ВС.

Інф. *прынесці*: ВГР; *прынесьці*: ВС. Абв. пр. адз. м. *прынёс* (2): Т, 24, 58. Мн. *прынеслі* (2): СНБ, 340; Т, 36. Буд. адз. 3 ас. *прынясе* (2): ВМР; ДК.

**ПРЫНІМАЦЬ** *незак. Руск.* Прымаць. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы..* Кз, 17.

Інф. *прынімаць*: Кз, 17.

**[ПРЫНОСІЦЬ]** (8) *незак.* **1.** Паведамляць што-н. [Наста]: *Смутную вам* [Ганулі і Мікіту] *прыношу навіну.* Т, 59. *Ад нашых стоптаных капцоў Якія нам прыносяць* [ганцы] *весьці?* Кз, 193. // Абвяшчаць. *Мы жывём у такі час, калі амаль кожны дзень*

*прыносіць падзеі вялікай палітычнай важнасці.* МП. *Кожны дзень штось прынося, кожны дзень творыць штось новае, вялікае.* БСУ.

**2.** Выклікаць што-н. *Сталін друг наш, друг народаў, Друг людзей свабоды, Колькі радасці прыносіць, Шчасця ў нашы годы!* НК. [Янка]: *Ды каму, якую карысць вы* [чыноўнікі] *прыносілі..* Т, 21.

**3.** Складаць. *Свайго вызвалення мы* [беларусы] *дзень услаўляем І песню пра шчасце прыносім табе* [Сталіну]. ПБН.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *прыношу*: Т, 59. 3 ас. *прыносіць* (3): БН, 91; МП; НК; *прынося*: БСУ. Мн. 1 ас. *прыносім*: ПБН. 3 ас. *прыносяць*: Кц, 193. Пр. мн. *прыносілі*: Т, 21.

**[ПРЫНУКА]** *ж.* Прымус, прымушэнне. *Сталінец-трактар нам без прынукаў Поле араў і сеяў зярняты..* ССА, 294.

Мн. Р. *прынукаў*: ССА, 294.

**[ПРЫНЦЫП]** (2) *м.* **1.** Асноўнае, зыходнае палажэнне чаго-н. [Мікіта]: *..і па-деларуску, як я пераканаўся, можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, меджду протчым, імпэрыі.* Т, 56.

**2.** Норма паводзін. [Янка]: *О, гэта ўжо правакатарскімі прынцыпамі запахла ад вас* [Мікіты]*!* Т, 56.

Мн. В. *прынцыпы*: Т, 56. Т. *прынцыпамі*: Т, 56.

**[ПРЫНЯТЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* прыняць. Зацверджаны. *Польскіе эндэкі, заместа праводзіць у жыцьцё даўнейшы лёзунг: "вольны з вольным, роўны з роўным", накінулі нам "плебісцыт", і прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ. *Я* [Купала] *з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру..* ШБСЯ.

Адз. ж. В. *прынятую*: СНБ. н. В. *прынятае*: ШБСЯ.

**ПРЫНЯЦЬ** (15) *зак.* **1.** *Зак. да* прымаць *у 1 знач.* [Аленка]: *Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу* [вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс] *ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы.* Т, 30. [Гарошка]: *(падаючы новую, дзераўляную, па-мастацку зробленую лыжку). А ад мяне прымеце вось гэта...* Там жа, 30.

**2.** *Зак. да* прымаць *у 3 знач.* [Мікіта]: *..хацеў прыняць іх* [гасцей]*, як і калісь прымаў розных дастойных асоб.* Т, 25. *Мы* [беларусы] *вас прынялі хлебам і соляй, Людзі чужые..* Чж, 146.

**3.** *Зак. да* прымаць *у 4 знач. ..а пасля з дабраты сваёй і рупнасці гасціннай прынялі* [продкі]*, падумаўшы, да сваіх старых багоў і новага Бога...* Кз, 17. [Мікіта]: *Толькі прымеце мяне, жыватворнакрынічная мамзэль Наста, у пакорныя і вечныя слугі вашага, меджду протчым, сіньёрыстага сэрца.* Т, 42.

**4.** *Зак. да* прымаць *у 5 знач. ..прыняў* [Купала] *самы блізкі ўдзел у контррэволюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмакратаў..* АЛ. *Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай бацькаўшчыны!* МІ, 17.

**5.** Успрыняць. [Рэдактар:] *Дзіўлюся, як гэны камісар прыняў тваю просьбу і перапустку даў.* Ан, 19. *Прашэнне прыняў* [камісар] *і даў перапустку.* Там жа, 18.

◊ **Прыняць пад увагу** – улічыць. [Дама]: *А вы, мусье рэгістратар, калі прыняць пад увагу довады мусье беларуса, то пэўна заставацца тут не будзеце і нашым шляхам пойдзеце?* Т, 37.

Інф. *прыняць* (2): Т, 25, 37. Абв. пр. адз. м. *прыняў* (5): Ан, 18, 19; АЛ; ОШМ (2). ж. *прыняла*: МІ, 17. Мн. *прынялі* (2): Кз, 17; Чж, 146. Заг. адз. 2 ас. *прымі*: АПЖ. Мн. 2 ас. *прымеце* (4): Т, 30(2), 37, 42.

**ПРЫОБРЭСЦІ** *зак. Руск.* Займець, набыць. [Усходні вучоны]: *Ешчо адзін маленькій вопрос: Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ.* Т, 47.

Інф. *прыобрэсці*: Т, 47.

**[ПРЫПАМІНАЦЬ]** *незак.* Аднаўляць у памяці, успамінаць. *А другі* [хлопчык] *– ты прыпамінаеш?* ВБЛ, 81.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *прыпамінаеш*: ВБЛ, 81.

**ПРЫПАМІНАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* прыпамінаць. [Гануля]: *(прыпамінаючы). Лявон Гарошка ... Ці вы не з Дуброўкі?* Т, 25.

**[ПРЫПАСЦІ]** *зак. да* прыпадаць. *А як пойдзе другім хто гасьцінцам-дарогай, Што на захад кладзецца вужакай, – Свой палетак любіць стане горай чужога, Прыпадзе к чужой рэчцы, як п'яўка.* Ч, 319.

Абв. буд. адз. 3 ас. *прыпадзе*: Ч, 319.

**[ПРЫПАСЫ]** *мн.* Запасы чаго-н. *Схову новую ладзь* [трэці брат], *больш твае скуль прыпасы-б Не валок зводны зьмей і начніцы..* Ч, 323.

В. *прыпасы*: Ч, 323.

**[ПРЫПЛЕСЦІСЯ]** *зак.* Ідучы павольна, прыйсці куды-н. *Я з далі дальняй к вам* [людзям] *прыплёўся, – Пасланец бога я свайго.* УрП, 51.

Абв. пр. адз. м. *прыплёўся*: УрП, 51.

**[ПРЫПЛОД]** *м.*Нованароджанае патомства ў каго-н. *Хочам папросту, каб лепш ручыла Нашым хацінам, нашым прыплодам..* Пп, 5.

Мн. Д. *прыплодам*: Пп, 5.

**[ПРЫПОМНІЦЬ]** *зак. да* прыпамінаць. *А ўспомні-прыпомні шчасьліў, нешчасьлівы, Аб тых, што ў сьвітаньні навек адыйшлі.. Прыпомні, дай слова ня счэзнуці марна..* В.

Заг. адз. 2 ас. *прыпомні*: В.

**[ПРЫПЫН]** *м. Разм. Тое, што* прыпынак. *Пасьля, Жыды, вы зрэкліся народу, Які вам шчыра даў багацьце і прыпын...* Ж.

Адз. В. *прыпын*: Ж.

**ПРЫПЫНАК** (2) *м. перан. Тое, што* прытулак. *Вы ўжо забылі, людзі здарэньня, Дзе ваш прыпынак..* Чж, 147. *Аграбленыя* [беларусы] *з гонару й кашулі, З свайго прыпынку выгнаныя вон..* Бч, 9. *Параўн.* прыпын.

Адз. Н. *прыпынак*: Чж, 147. Р. *прыпынку*: Бч, 9.

**ПРЫПЫНІЦЬ** *зак.* Перастаць рабіць што-н.; спыніць. *...ня раз ужо беларускія палітычныя кругі прасілі уладу зрабіць патрэбныя крокі, каб прыпыніць злачынствы проці яе-ж уласных законаў..* ОШМ.

Інф. *прыпыніць*: ОШМ.

**ПРЫПЯВАЮЧЫ** *прысл.* Спакойна, бестурботна. [Мікіта]: *Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленска да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы.*Т, 48.

**ПРЫРОДА** (8) *ж.* **1.** Усё існае на зямлі, не створанае чалавекам. *Гэты* [стаханаўскі] *рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду..* СТ. *Вясна ў прыродзе..* ДД. // Асаблівасць якой-н. мясцовасці. *Прырода Чэхаславакіі надзвычай прыгожая.*ПЧ. [Янка]: *Прырода наша, пане вучоны, прыродная.* Т, 47. *Параўн.* пшырода.

**2.** Натура, характар. *..ці ж знойдзецца на свеце болей дэмакратычны па сваёй прыродзе і ўжыўчывы народ, як народ беларускі?* НДН, 19.

◊ **Ад прыроды** – ад пачатку існавання. *Здушылі, збэсьцілі* [свае і чужыя] *усё чыста У чорнай яве, ў зводных снах, Што ад прыроды шлях свой мела, Што к сонцу мела вольны шлях.* РС, 40.

Адз. Н. *прырода* (3): ПЧ; Т, 47(2). Р. *прыроды*: РС, 40. В. *прыроду*: СТ. Т. *прыродай*: ПНд, 47. М. *прыродзе* (2): ДД; НДН, 19.

**[ПРЫРОДНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да прыроды *ў 1 знач.* [Янка]: *Прырода наша, пане вучоны, прыродная.* Т, 47.

Адз. ж. Н. *прыродная*: Т, 47.

**[ПРЫСАК]** *м.* Гарачы, распалены попел. *У параўн. Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым...* БН, 92.

Адз. Т. *прыскам*: БН, 92.

**[ПРЫСВЕЧАНЫ]** *дзеепрым. зак. пр. да* прысвяціць. Напісаны у гонар каго-н. *Верш мой* [Купалы] *справакавалі: І. Лёсік, надрукаваўшы яго побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму..* СЧ.

Адз. м. Т. *прысвечаным*: СЧ.

**[ПРЫСЕЛЛЕ]** *н. Абл.* Край, зямля. *Годзе піць, балязаць, На чужым преселлі, Наш народ частаваць Атручаным зеллем.* ПД, 73.

Адз. М. *прыселлі*: ПД, 73.

**[ПРЫСЛАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* прыслаць. Даставіць што-н. поштай. *На гэты нарыс зьвярнулі ўвагу, нават, у Маскве, скуль была прыслана і надрукавана.. ў.. газэце "Звязда" напісаная т. Кнорыным антыкрытыка на гэты крытычны нарыс.* ВСп, 89–90.

Кар. адз. ж. Н. *прыслана*: ВСп, 89.

**[ПРЫСЛАЦЬ]** *зак.* Мэтава накіраваць каго-н. куды-н. *І калі з Масквы прыслалі чалавека.. арганізаваць.. беларускі аддзел пры камісарыяце, то п. Бэрсан так спужаўся гэтага, што.. скасаваў увесь камісарыят нацыянальных меншасцей.*СНБ, 338.

Абв. пр. мн. *прыслалі*: СНБ, 338.

**[ПРЫСЛУЖАНЬ]** *м. Разм.* Прыслужнік. *Ня прыслужнем будзь ласцы прыблуднага сына, Будзь пракляцьцем яму – свайму кату.* Ч, 323.

Адз. Т. *прыслужнем*: Ч, 323.

**[ПРЫСЛУХАЦЦА]** *зак., перан.* Прыняць да ведама што-н. ..[газета] *"Caz. Codz." у № 67 клічэ, каб усе, хто хочэ, каб яго дзеці вучыліся ў школі рэлігіі па польску, запісывалі сябе ў палякі. А цёмны народ да гэтага прыслухаецца.* ВР.

Абв. буд. адз. 3 ас. *прыслухаецца*: ВР.

**ПРЫСЛУХОЎВАЦЦА** *незак.* Услухоўвацца. *Гаспадар той суважна свой шнур па святочнаму Абыходзіць будзе, ..Прыслухоўвацца шэлесту нівы няўрочнаму..* ТС, 74.

Інф. *прыслухоўвацца*: ТС, 74.

**[ПРЫСПАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* прыспаць. *перан.* Супакоены, прыглушаны. *І вось гэтыя сотні тысяч кніг рассыпяцца па ўсёй Беларусі, каб навучаць там і будзіць беларускую прыспаную думку.* ВСп, 91.

Адз. ж. В. *прыспаную*: ВСп, 91.

**[ПРЫСТАНЬ]** (2) *ж.* Збудаванне для прычальвання і стаянкі суднаў. *Не вам, інтэрвенты, Шпегі, дыверсанты, На прыстані нашы Выпускаць дэсанты.* МПв, 219. *Скалы і долы над Фінскай затокай, Прыстані, выспы Балтыцкага мора Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф.

Мн. В. *прыстані* (2): МПв, 219; Ф.

**ПРЫСТАЎ** *м. Уст.* Начальнік мясцовай паліцыі ў дарэвалюцыйнай Расіі. [Гарошка]: *Рынулі* [казакі] *ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ, а за імі прыстаў на сваёй вараной тройцы.* Т, 43.

Адз. Н. *прыстаў*: Т, 43.

**ПРЫСТАЦЬ** (2) *зак. Разм.* Звярнуцца да каго-н. з неадчэпным пытаннем. *Само сабою разумеецца, што калі мець стрэльбу у руцэ і прыстаць з такімі пытаньнямі, то чалавек паняволі скажа, што– я – ня я і хата ня мая.* ДК.

◊ **Як прыстала на добры лад і парадак** *гл.* лад.

Інф. *прыстаць*: ДК. Абв. пр. адз. н. *прыстала*: ЗС, 18.

**[ПРЫСТРОІЦЦА]** *зак. Разм.* Уладкавацца на работу; заняць якое-н. становішча ў жыцці. [Ануля]: *Я мыла людзям бялізну, а ён* [муж] *прыстроіўся ў акружным судзе: быў там пры вешалках і кур'ерам.* Т, 20.

Абв. пр. адз. м. *прыстроіўся*: Т, 20.

**ПРЫСТУПІЦЦА** *зак.* Наблізіцца, падысці да каго-н. *Чорнабожнік над ім* [хорамам] *непрагляды завесіў, Каб нялёгка было прыступіцца.* Ч, 321.

Інф. *прыступіцца*: Ч, 321.

**ПРЫСТУПІЦЬ** (2) *зак.* Пачаць што-н. выконваць. *..шмат якія дзяржавы, перайшоўшы на мірнае жыццё, прыступілі к адбудове ваенных руін..* АБ, 16. // Узяцца за вучобу. [Спічыні]: *Можам прыступіць* [да заняткаў], *мусье рэгістратар!* Т, 49.

Інф. *прыступіць* (2): Т, 31, 49. Абв. пр. мн. *прыступілі*: АБ, 16.

**[ПРЫСУТНЫ]** (5) *прым. У знач. наз.* Той, хто прысутнічае. [Дама]: *(Да прысутных). Я думаю, што шаноўнае таварыства са мною згодна?* Т, 51. *Абодва* [вучоныя] *кланяюцца адзін аднаму і прысутным.* Там жа, 26.

Мн. Р. *прысутных* (2): ПЛП; Т, 51. Д. *прысутным* (3): Т, 26, 38, 47.

**ПРЫСЦІ** *гл.* **ПРЫЙСЦІ.**

**ПРЫСЦІСЯ** *гл.* **ПРЫЙСЦІСЯ.**

**ПРЫСЯГА** (2) *ж.* Клятва, абяцанне захаваць вернасць, выканаць якія-н. абавязкі. *Душу сваю выні, Палажы на далонь і надзейся, Што паверäць табе, Што ня згіне ўся прысяга твая ў чорнай ціне Перасудаў людзкіх..* См, 91. *Збяры* [прарок] *ў адну ўсю Беларусь сям'ю, Вазьмі з яе прысягу і зарок, Што не прадасьць сябе, сваю зямлю..* Пт.

Адз. Н. *прысяга*: См, 91. В. *прысягу:* Пт.

**[ПРЫСЯГАЦЬ]** *незак.* Даваць прысягу, клясціся. *І прысягаем, клічам Бога ў сведкі, Што мы* [беларусы] *– не мы, што нехта вінават..* Бч, 9.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *прысягаем*: Бч, 9.

**[ПРЫТАРАБАНІЦЬ]** *зак. Разм.* Прывезці, даставіць куды-н. [Аленка]: *Але дзеля гэтай мэты мяне татка і ў Менск да вас* [Янкі] *прытарабаніў.* Т, 30.

Абв. пр. адз. м. *прытарабаніў*: Т, 30.

**[ПРЫТОМНАСЬЦЬ]** *ж.* Здольнасць усведамляць свае учынкі. *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасьць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК.

Адз. В. *прытомнасьць*: ДК.

**[ПРЫТРЫМАЦЬ]** *зак.* Затрымаць на некаторы час. [Мікіта]: *Ідзеце* [мамаша] *адчынеце дзверы і крыху прытрымайце яго* [немца], *пакуль я пераадзенуся..* Т, 32.

Заг. мн. 2 ас. *прытрымайце*: Т, 32.

**ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА** (2) *незак.* Кіравацца чым-н. [Мікіта]: *І я пастанавіў у сваёй аратарскай прафэсіі моцна прытрымлівацца гэтай мудрасці.* Т, 36. *..выдаўцы ня прытрымліваліся, каб друкаваць або толькі шкодныя кнігі, або прыгожае пісьменства..* ВСп, 89.

Інф. *прытрымлівацца*: Т, 36. Абв. пр. мн. *прытрымліваліся*: ВСп, 89.

**[ПРЫТУЛІЦЦА]** (2) *зак.* **1.** Прыгарнуцца, прыхіліцца да каго-н. з ласкай, пяшчотай. *Ляж* [беларус]*, прытуліся да зямлі, Паслухай шчыра, што гавора..* БрБ, 6.

**2.** Знайсці прытулак. *А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу.* Кз, 17.

Абв. пр. мн. *прытуліліся*: Кз, 17. Заг. адз. 2 ас. *прытуліся*: Кз, 6.

**[ПРЫТУЛІЦЬ]** *зак.* Даць прытулак. *Гэй, ты, краю халодны, чужы, Прытулі бесхацінца к сабе..* ЧС, 50–51.

Заг. адз. 2 ас. *прытулі*: ЧС, 50-51.

**ПРЫТУЛЬНЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* прытульна. Утульней. [Спраўнік]: *Эвакуемся туды – на Захад, дзе сэрцу прытульней і грудзям дышыцца "вальготней".* Т, 37.

**[ПРЫТУЛЬНЫ]** *прым.* Які дае прытулак; утульны. *Хочаш* [першы брат] *цішы прытульнай і ласкі патольнай, Збудаваць божы быт на пакутах – Дай другім волі ў волю, і сам будзеш вольны.* Ч, 323.

Адз. ж. Р. *прытульнай*: Ч, 323.

**[ПРЫТУХШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* прытухнуць. *перан.* Без жыцця. *Дай* [пясьняр] *волю парывам гарачым, Вясёлым, прывабным, як сонейка жар, Каб бліснула яснасьць і сьпячым! Каб бліснулі іскры ў прытухшых вачох..* Пр.

Мн. М. *прытухшых*: Пр.

**ПРЫТЫМ** (3) *злучн. далучальны.* Да таго ж, акрамя. [Мікіта]: *Гэта таксама даходная стацця, прытым яны* [качарэжкі] *мне нічога не каштуюць..* Т, 58. [Янка]: *Баюсь я толькі, каб вы* [Мікіта] *не вышлі на ёй* [новай кар'еры] *як залетась на аратарстве; прытым ваша поўнае дагэтуль ігнараванне гэтай справы й несвядомасць..* Там жа, 56. Т, 21.

**[ПРЫТЫЧКА]** *ж. Разм.* Насмешка, кпін. [Янка]: *..кожны жук і жаба хоча на беларушчыне рабіць сабе кар'еру.* [Мікіта]: *(як бы не зразумеўшы прытычкі). Меджду протчым, пане профэсар, новая палітычная сытуацыя і ўсё такое прымусілі мяне падумаць аб гэтай кар'еры.* Т, 55.

Адз. Р. *прытычкі*: Т, 55.

**[ПРЫХІЛЬНАСЬЦЬ]** *ж.* Добразычлівасць. *Чаму на словах нам* [беларусам] *абяцаюць ласку, прыхільнасьць і дапамогу, а на дзеле – зьдзек і паняверку?* ОШМ.

Адз. В. *прыхільнасьць*: ОШМ.

**ПРЫХІЛЬНЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* прыхільна. Добразычлівей. *У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў. Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19.

**[ПРЫХІЛЬНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* прыхільны. *перан.* Лепшы. *Хай жа гэтая думка, што мы* [беларусы] *будуем сваю Бацькаўшчыну ня толькі для сягодняшняга бурлівага часу, але і для будучых прыхільнейшых вякоў, павядзе нас "к свабодзе", "роунасьці і знаньню"* БСУ.

Мн. Р. *прыхільнейшых*: БСУ.

**[ПРЫХІЛЬНІК]** (6) *м.* **1.** Паслядоўнік чаго-н. *І вось, бачыма, што і соцыяльная і нацыянальная рэволюцыя мае сваіх прыхільнікаў, якія і змагаюцца шчыра за свае ідэалы.* СНБ.

**2.** Той, хто прыхільна адносіцца да чаго-н. *Гэтак-жа ня можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам для нас, як мы самі для сябе.* БС. *І вось прыхільнікі расійскага агітатара просяць сабе расійскай школы, прыхільнікі польскага – польскай, а прыхільнікі беларускага настаўніка – беларускай.* ДК.

Адз. Т. *прыхільнікам*: БС. Мн. Н. *прыхільнікі* (3): ДК (3). Р. *прыхільнікаў* (2): ДК; СНБ.

**[ПРЫХОД]** (2) *м.* **1.** *Дзеянне па дзеяслову* прыходзіць *у* 1 *знач. Мы так сама памятаем, што вядомая адозва Пілсудзкага.. гаворыць пра тое, што з прыходам палякоу Беларусь адтрымала волю і поуную магчымасьць быць гаспадарамі ў сваім краю, праз вякі пакрыўджаным і уціснутым.* ОШМ.

**2.** *Дзеянне па дзеяслову* прыйсці *ў 5 знач. Паважна старыя вітаюць наркома, Падносяць хлеб-соль, караваі і мёд. І кветкі-вяночкі дзяўчаты, вядома, Падносяць яму на шчаслівы прыход.* НДп, 229.

Адз. В. *прыход*: НДп, 229. Т. *прыходам*: ОШМ.

**[ПРЫХОДЗІЦЦА]** (4) *незак., безас.* **1.** Быць вымушаным што-н. рабіць. [Гарошка]: *Значыцца, паны, даіцё лататы?* [Пан]: *А так, прыходзіцца..*Т, 37. // Даводзіцца. *Пры вельмі цяжкіх тэхнічных варунках, ..пры тых перашкодах і няміласцях, якія прыходзілася й прыходзіцца спатыкаць беларускаму друкаванаму слову з боку яго непрыхільнікаў, – такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці "Адраджэньня" быў проста гэраічным.* ВСп, 91.

**2.** *перан.* Неабходна, патрэбна. *З іншых выдавецтваў прыходзіцца ўспомніць Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва – "Госиздат", якое за ўвесь год вылучыла дзьве кніжачкі..* ВСп, 91.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прыходзіцца* (4): ВСп, 91(3); Т, 37. Пр. адз. н. *прыходзілася*: ВСп, 91.

**[ПРЫХОДЗІЦЬ]** (11) *незак.* **1.** Прыбываць куды-н. *Прыходжу я, ..а рэдактар падсоўвае мне сто і адну свежых газэт.* Ан, 19. [Гануля]: *А вядома, у судзе: народу ўсялякага прыходзіць шмат..* Т, 20.

**2.** Наступаць, наставаць. *Ці майскае свята ў жывым карагодзе, Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць, Як песня жыве яго* [Сталіна] *імя ў народзе.* СС, 302.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *прыходжу* (3): Ан, 19(3). 3 ас. *прыходзіць* (4): СС, 302; Т, 20, 36, 48. Мн. 3 ас. *прыходзяць* (2): Т, 24(2). Пр. адз. м. *прыходзіў* (2): БС; ТП, 8.

**[ПРЫЦІСНУЦЦА]** *зак.* Наблізіцца да чаго-н. *Супрацоўнікі прыціснуліся к сцяне і штось нібы вельмі пільна пішуць.* Ан, 19.

Абв. пр. мн. *прыціснуліся*: Ан, 19.

**[ПРЫЦІСНУЦЬ]** (2) *зак. Разм., перан.* Спасцігнуць. [Гануля]: *Як падумаю, што бяда зноў прыцісне..., дык аж рукі вянуць ад нейкага жалю горкага.* Т, 20. [Дама]: *.. бацюшка.. абяцаў, калі што якое мяне прыцісне, дык зробіць протэкцыю ў Прэображэнскі жаночы манастыр.* Там жа, 58.

Абв. буд. адз. 3 ас. *прыцісне* (2): Т, 20, 58.

**[ПРЫЦІХНУЦЬ]** (2) *незак.* Сцішыцца. *Закалыхалося тады могутнае балото расійскай непрагляднай сучаснасьці,закалыхалося і ... прыціхло.* З. *А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу.* Кз, 17.

Абв. пр. адз. н. *прыціхло*: З. Мн. *прыціхлі*: Кз, 17.

**[ПРЫЦЯГВАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Прыцягваць увагу** – выклікаць цікавасць. *У часе свайго падарожжа мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў.* ПЧ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *прыцягваюць*: ПЧ.

**[ПРЫЦЯГНУЦЬ]** *зак. да.* цягнуць *у* 4 *знач.* [Начальнік]: *І вы тых рэчаў к сабе ў хату не цягалі?* [Мікіта]: *Ані падвязачкі не прыцягнуў!* Т, 60.

Абв. пр. адз. м. *прыцягнуў*: Т, 60.

**[ПРЫЧАКАЦЬ]** (2) *зак. да* чакаць *у* 1 *знач. І беларус маўчаў, пазіраў сумным вокам і чакаў... Чакаў і прычакаў... 1917 году.* БВ, 16. *..мы* [беларусы] *глядзелі і чакалі, што нехта прыдзе ды бальшавікоў прагоніць. І прычакалі!* БС.

Абв. пр. адз. м. *прычакаў*: БВ, 16. Мн. *прычакалі*: БС.

**[ПРЫЧЫНА]** (8) *ж.* Падстава, зачэпка для якіх-н. дзеянняў, учынкаў. *І сярэдні, і малодшы, Родные дзяціны, Як мая –пашлі к салодшай Ласцэ без прычыны.* Дз, 189. *Асабісты ваенны налог будзе выбірацца з тых, хто па якой колечы прычыне увольнены для адбываньня воінскай павіннасьці..* ВН.

◊ **Без дай прычыны** *гл.* даць. **З прычыны чаго** (5) – у выніку чаго-н., з-за чаго-н. [Гануля]: *Што ж гэта вам так прышлося абяднець?*

[Дама]: *Гэта мы так сабе... з прычыны перамены палітычнай сітуацыі.* Т, 57. *З прычыны прыезду Начальніка Польскай Дзяржавы у Менск, у гарадзкім тэатры адбыўся спэктакль...* СБНГ.

Адз. Р. *прычыны* (7): БВ, 16; Дз, 189; СБНГ; Т, 40, 54, 57; ШБСЯ. Д. *прычыне*: ВН.

**[ПРЫЧЫНІЦЦА]** (2) *зак.* **1.** Стаць прычынай чаго-н. *Каб таго парвала З сэрцам на тры часці І звяр'ё збрылося Мяса параскрасці, – Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы Маці роднай цела.* К.

**2.** Адбыцца, здарыцца. *Гэтае захапленьне дробнабуржуазнымі, нацыянал-дэмакратычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я* [Купала] *і ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі ня змог.. ўсьвядоміць усю веліч .. пролетарскае рэволюцыі ..* АЛ.

Абв. пр. адз. м. *прычыніўся*: К. ж. *прычынілася*: АЛ.

**[ПРЫШОЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* прысці. *У знач. наз.* Той, хто прыйшоў куды-н. *Прышоўшыя сядаюць.*Т, 37.

Мн. Н. *прышоўшыя*: Т, 37.

**[ПРЫШПІЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* прышпіліць. *У знач. вык.* Прымацаваны. *А ўсё мяжой прыбіта бачыцца істужкай, Там, сям, быццам к адзежцы прышпілена йгрушкай.* ХБ, 28.

Кар. адз. н. Н. *прышпілена*: ХБ, 28.

**[ПРЫШПІЛІЦЬ]** *зак.*: ◊ **Прышпіліць хвост** – паставіць каго-н. у цяжкае, безвыходнае становішча. [Гарошка]: *Як прышпілюць вам* [Янку і Аленцы] *калі-небудзь хвост на гэтых пасядзінах, то прападзе вам ахвота і стаяць, не толькі што сядзець.* Т, 44.

Абв. буд. мн. 3 ас. *прышпілюць*: Т, 44.

**[ПРЫШПІЛЬВАЦЬ]** (2) *незак.* Прымацоўваць шпількай. *Дастае* [Мікіта] *з кішэні пагоны і прышпільвае.* Т, 25. [Мікіта]: *..прышпільвайце* [мамаша] *чым-небудзь адвіснутыя матузы ад шпалераў..* Там жа, 50.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *прышпільвае*: Т, 25. Заг. мн. 2 ас. *прышпільвайце*: Т, 50.

**ПРЫШЧАПЛЯЦЬ** *незак. Разм., перан.* Прывіваць. *..трэба ..паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі, загадаўшы ім прышчапляць вучням любасьць да роднага краю..* ДК. *Параўн.* прышчэпліваць.

Інф. *прышчапляць*: ДК.

**[ПРЫШЧЭПЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* прышчапіць. *перан.* Навязаны (пра перакананне). *Прасякнуты нацыянал-дэмократычнай заразай, прышчэпленай мне нашаніўскім пэрыодам маёй літаратурнай працы, ..я* [Купала] *і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся.. абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнага асяродзішча..* АЛ.

Адз. ж. Т. *прышчэпленай*: АЛ.

**[ПРЫШЧЭПЛІВАЦЬ]** *незак. Руск.* Тое, што прышчапляць. *Прышчэплівалі* [дужэйшыя народы] *ім* [слабейшым народам] *з малых дзён думку, што не права пануе над сілай, а сіла над правам.* НДН, 18.

Абв. пр. мн. *прышчэплівалі*: НДН, 18.

**ПРЫЯЗДЖАЦЬ** (2) *незак.* Прыбываць куды-н. *..прыязджалі* [да прашчураў нашых] *па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі – шоўкам, бісерам, янтаром ды драгацэннымі скарбамі.* Кз, 17. [Аленка]: *Як вам, цётачка, будзе надта маркотна, прыязджайце да нас на вёску, там сонца весялей свеціць, і людзі там лепшыя.* Т, 57.

Абв. пр. мн. *прыязджалі*: Кз, 17. Заг. мн. 2 ас. *прыязджайце*: Т, 57.

**ПРЫЯЗНЬ** (3) *ж. Руск.* Прыязнасць. *Адсюль такая прыязнь, любоў, глыбокая сімпатыя да нас – людзей совецкай краіны.* ПЧ. *З першых-жа крокаў у Чэхаславакіі, наша дэлегацыя апынулася ў атмасферы надзвычай шчырай прыязні і сімпатыі да нас, да нашай бацькаўшчыны..* Там жа.

Адз. Н. *прыязнь*: ПЧ. Р. *прыязні*: ПЧ. В. *прыязнь*: ПЧ.

**ПРЫЯЦЕЛЬ** (3) *м.* Сябра, блізка знаёмы чалавек. *Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця – гэта мы* [беларусы] *самі.* БС. // *Іран.* [Янка]: *Рэвалюцыя, пане мае, не цётка – па галоўцы гэткіх сваіх прыяцеляў не гладзіць.* Т,37.

**Прыяцелі.**

Адз. Н. *прыяцель*: БС. Мн. Н. *прыяцелі*: Пц. В. *прыяцеляў*: Т, 37.

**ПРЭВАСХАДЗІЦЕЛЬСТВА** (4) *н.*: ◊ **Ваша прэвасхадзіцельства** – тытулаванне некаторых асоб. [Немец]: *Ваша прэвасхадзіцельства! Я вас* [Мікіту] *павінен, як верны нямецкі салдат, забраць у палон.* Т, 32. [Немец]: *(хаваючы грошы). Загаварылі б адразу такім языком, ваша прэвасхадзіцельства...* Там жа, 33.

Адз. Н. *прэвасхадзіцельства* (4): Т, 32 (2), 33 (2).

**[ПРЭЗІДЭНТ]** *м.* Кіраўнік дзяржавы. *Кінуты нядаўна амерыканскім прэзідэнтам лозунг – мір на аснове самаазначэння народаў – не быў выдуманы так сабе.* НДН, 18.

Адз. Т. *прэзідэнтам*: НДН, 18.

**[ПРЭМІЯ]** *ж.* Грашовая або іншая ўзнагарода. *Дзякуй за прэмію, Сталіна роднага, Дзякую Сталіну, сокалу яснаму!* ДПЛС.

Адз. В. *прэмію*: ДПЛС.

**ПРЭОСВЯШЧЭНСТВО** *н. Руск.*: • **Его прэосвяшчэнство** – тытулаванне епіскапа. [Поп]: *В нынешнія врэмена дажэ его прэосвяшчэнство воззавідовало бы сіім блюдам.* Т, 28.

Адз. Н. *прэосвяшчэнство*: Т, 28.

**ПРЭСЦІЖ** *м. Руск.* Прэстыж. [Пан]: *Як з’явіцеся з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэсціж адразу падымецца ў яе вачох на сто процантаў.* Т, 52.

Адз. Н. *прэсціж*: Т, 52.

**ПРЭЧ** (2) *прысл. У знач. выкл.* Патрабаванне пазбавіцца ад чаго-н. *Прэч, прэч! З сваёй сьвятой павагай Прышоў* [аўтарнік] *нас* [людзей] *толькі зьневажаць!* УрП, 52.

**[ПСАВАЦЬ]** (4) *незак.* **1.** Рабіць непрыемным. *Верасень – мой* [С. Меча] *любімы месяц, але ў нас (у Расеі) звычайна псуюць яго дажджы..* ХБ, 29.

**2.** Дрэнна ўплываць на каго-н. *Тут рада адна: трэба адцяць доугія рукі турка, каб ня псаваў ён хрысьціянскіх дзяцей..* ДК.

◊ **Псаваць кроў** (2) – раздражняць каго-н. [Гануля]: *Гэтымі сваімі спрэчкамі людзям толькі кроў псуеш.* [Мікіта]: *Псуюць і яны мне*. Т, 22.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *псуеш*: Т, 22. Мн. 3 ас. *псуюць* (2): Т, 22; ХБ, 29. Пр. адз. м. *псаваў*: ДК.

**[ПСАЛОМ]** (2) *м. Рэл.* Рэлігійныя і маральна-навучальныя спевы ў саставе псалтыра. *У адным з псалмаў біблейскіх сказана: “стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць”.* ПЛП. – *Ух-ці! – выйшаў на царкоуны дзядзінец беларускі дзяк “расійскай культуры” напханы за клірасам славянскімі псальмамі Давідавымі.* З.

Мн. Р. *псалмаў*: ПЛП. Т. *псальмамі*: З.

**ПСІ** (4) *прым. Польск.*: ◊ **Пся крэв** *гл.* крэв.

Адз. ж. Н. *пся* (3): Т, 26, 38, 47, 49.

**[ПСІНЫ]** *прым. Груб., зневаж.* Агідны. *Дык хай-жа кроў чорная льецца, Іх* [немцаў] *псіная кроў ручаём*. ХЛВ, 315.

Адз. ж. Н. *кроў*: ХЛВ, 315.

**[ПТАХА]** *ж. Разм.*: Δ **Птаха-самалёт**: *Пасылай* [Варашылаў] *байцоў адважных Стрэльбы, кулямёты, Танкі, трактары, гарматы, Птахі-самалёты..* ЗЯЗ, 90.

Мн. В. *птахі*: ЗЯЗ, 90.

**ПТУШКА** (5) *ж.* Пазваночная жывёліна з пухам і пер’ем. *Верасень месяц абходзіў палеткі, Птушкі не пелі, не квакалі жабы...* ВМ, 72. *Вясна* [на Меншчыне] *пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і сьпеву птушак самых разнастайных парод..* ХБ, 29. // *У параўн. Бо хто калі думаў, што я жыці буду, Як птушка, як вецер над нівай квяцістай...* ТП, 213. [Мікіта]: *..калі я перайшоў на яе* [свабодную прафэсію], *то пачуўся як птушка тая, зусім свабодным.* Т, 36. *Параўн.* пціца.

Адз. Н. *птушка* (2): Т, 36; ТП, 213. Мн. Н. *птушкі* (2): ВМ, 72; Чж, 146. Р. *птушак*: ХБ, 29.

**[ПТУШЧЫНЫ]** *прым. Разм.* Птушыны. *..сьціхлі птушчыныя сьмехі..* УрП, 49.

Мн. Н. *птушчыныя*: УрП, 49.

**ПУБЛІКА** (4) *ж., зб.* Слухачы, гледачы, наведвальнікі. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў.. Публіка паднялася з месц і наладзіла нам авацыю..* ПЧ. // *Разм.* Людзі, народ. *..сустракаўшая нас* [дэлегатаў] *на вакзале публіка спявала "Інтэрнацыянал"..* ПЧ. *Гэтая сімпатыя выказвалася нам* [дэлегатам] *і шматлікай публікай, якая падхоплівала прывітанні, прымала нас як любых гасцей сваей краіны.* Там жа.

Адз. Н. *публіка* (2): ПЧ (2). В. *публіку*: СБНГ. Т. *публікай*: ПЧ.

**ПУБЛІЧНА** (2) *прысл.* Адкрыта, пры людзях. *Калі-ж яму* [урадніку] *зауважылі, што раз ён не разумее беларускай мовы, дык і не павінен займаць урадовай пасады на Беларусі, то ураднік публічна адказаў літэральна вось што:"Му – окірапсі па szeњж тіеsікcy", а дзеле таго, ня маем патрэбы разумець беларускай мовы.* ОШМ. [Спічыні]: *..найбліжэйшая палітычная сытуацыя, пры якой першы раз прыдзецца выступаць вам* [Мікіту] *публічна, апіраецца на пэўных пляцформах.* Т, 40–41.

**[ПУГА]** (6) *ж.* Прымацаваны да пугаўя кавалак вяроўкі або сырамяці, якім паганяюць хатнюю жывёлу. [Гарошка]: *А вы, бацюшка, таксама за імі (махнуўшы пугай) туды – у прочкі?..* Т, 38. [Мікіта]: *Меджду протчым, што вы тут, дабрадзею, робіце з пугай: пасвіце каго?* Там жа, 37.

◊ **Няма на іх доўгай пугі** *гл.* няма.

Адз. Р. *пугі*: Т, 29. Т. *пугай* (4): Т, 37(2), 38(2). Мн. Н. *пугі*: Т, 17.

**[ПУД]** *м. Уст.* Мера вагі, роўная 40 фунтам (каля 16,3 кг). *..лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стапу, атрымаем 2650 пуд.<оў> г. ё. каля трох вагонаў беларускіх выданьняў.* ВСп, 91.

Мн. Р. *пуд.<оў>*: ВСп, 91.

**ПУДЗІЛА** *н.* Чучала. *Адны кажуць, што гэта* [Антанта] *наравісты конь, другія кажуць, што гэта пудзіла на вераб'ёў..* Ан, 18.

Адз. Н. *пудзіла*: Ан, 18.

**[ПУДЛАВАЦЬ]** *незак. Польск., разм.* Прамахвацца. *Тут пудлуе зноў нагайка, Улілі штось Налівайку.* НД.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пудлуе*: НД.

**[ПУДРА]** (2) *ж.* Гігіенічны і касметычны парашок. [Мікіта]: *..да ўсяго гэтага яшчэ: селядцы, тараны, сем з паловай фунтаў дроў, пудэлачка, меджду протчым, пудры..* Т, 46. ..[ляжыць] *пад імі* [партфелямі]: *пудэлка з пудрай, некалькі сучкоў дроў, букецік для кветак, тры чаркі.* Там жа, 45.

Адз. Р. *пудры*: Т, 46. Т. *пудрай*: Т, 45.

**ПУДЭЛАЧКА** *ж. Польск. Памянш. да* пудэлка. [Мікіта]: *..да ўсяго гэтага яшчэ: селядцы, тараны, сем з паловай фунтаў дроў, пудэлачка, меджду протчым, пудры..* Т, 46.

Адз. Н. *пудэлачка*: Т, 46.

**ПУДЭЛКА** *ж. Польск.* Каробка. ..[ляжыць] *пад імі* [партфелямі]: *пудэлка з пудрай, некалькі сучкоў дроў, букецік для кветак, тры чаркі.* Т, 45.

Адз. Н. *пудэлка*: Т, 45.

**ПУЖАЦЬ** (2) *незак. Тое, што* палохаць. *Гэтые падвышкі канечна не павінны нас пужаць..* ВН. [Мікіта]: *Так бы адразу, меджду протчым, і сказалі, а то толькі пужаеце...* Т, 58.

Інф. *пужаць*: ВН. Абв. цяп. мн. 2 ас. *пужаеце*: Т, 58.

**[ПУК]** *м.* Звязак, ахапак аднародных прадметаў. *У руцэ меў* [другі ганец] *стрэл жалезных пук.* Кц, 194.

Адз. В. *пук*: Кц, 194.

**[ПУЛЬХНЫ]** *прым.* Лёгкі, пушысты. *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон.*

Адз. м. В. *пульхны:* ТП, 213.

**[ПУНЯ]** *ж.* Будынак для захоўвання сена; адрына. *Сотні лет песьцілі* [беларусы] *днямі і ночай Госьця на шыі Зьмея, што з пуняў валочэ, Скарбы чужые.* Чж, 147.

Мн. Р. *пуняў*: Чж, 147.

**ПУРГА** (2) *ж.* Мяцеліца, завея. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль тваё пачуе вуха Камсамольскі гарт юначы.* СА, 179. *Ці там, дзе з пургою, з завірухай разам Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць, – Песня чутна ўсюды У бязмежным прасторы.* ПСС, 231.

Адз. Н. *пурга*: СА, 179. Т. *пургою*: ПСС, 231.

**[ПУРЫШКЕВІЧЫ]** *мн.* Агульнае да Пурышкевіч. *Ох, видаци, вельми хочацца Пурышкевичам, Дубровинцам Ковы новые каваць, Изноў турмы напаўняць.* ВЧ.

Д. *Пурышкевичам*: ВЧ.

**[ПУСКАЦЦА]** (3) *незак.*: ◊ **Пускацца ў дзело (ход)** – *тое, што* пускаць у ход. *А той "дэмократызм", які пускаецца ў дзело цяпер, нічога іншага выклікаць ня можа, апрача нацыянальной рэволюцыі.* ДК. *Шкодніцтва, дыверсія, шпігоўства, інтэрвенцыя, – ўсё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя..* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пускаецца* (2): АЛ; ДК. Мн. 3 ас. *пускаюцца*: ДК.

**[ПУСКАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Дапускаць. *..беларускі народ застаўся беларускім народам, ня гледзячы на усе падашуканство, якое пускау маскоускі урад, каб абмаскаліць наш народ.* ДК.

◊ **Пускаць у ход** – выкарыстоўваць які-н. прыём. *Вылазе з цемры бледны звод. Глядзіць сьліўнём на долы, горы І тут і там пускае ў ход Свае нямыя загаворы.* Кц, 192. *Параўн.* пускацца ў дзело (ход).

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пускае*: Кц, 192. Пр. адз. м. *пускаў*: ДК.

**ПУСКАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* пускаць. *перан.*Кідаючы, шпурляючы. [Мікіта]: *К чорту пажарніцкую кар'еру! (Пускаючы аб зямлю кнігамі).*Т, 33.

**ПУСТА** *прысл.* : ◊ **У галаве пуста** – без розуму. [Янка]: *А во, сын ваш не забыўся, аднак, аб імянінах?* [Гануля]: *Не забыўся, бо малады яшчэ і ў галаве пуста.* Т, 20.

**ПУСТАЗЕЛЛЕ** *н., зб.* Бурьян. *У параўн.* [Янка]: *Паддаецца эвакуацыі ў сягонешні час толькі той, у каго або нячыстае сумленне, або ён сядзеў тут з боку-прыпёку, нераўнуючы, як пустазелле на сялянскай градзе.* Т, 37.

Адз. Н. *пустазелле*: Т, 37.

**ПУСТКА** (2) *ж.* Бязлюднае месца, пусташ. *Дзе вечная пустка была, Там горад паўстаў і расце..* ТП, 215. *На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў..* Кц, 197. *Параўн.* пустыр.

Адз. Н. *пустка*: ТП, 215. В. *пустку*: Кц, 197.

**[ПУСТЫ]** (2) *прым., перан.* Непатрэбны, лішні, бескарысны. *..на газэту и книгу ён* [мужык-беларус] *пазирае, як на пустую забавку..* УП.

◊ **Пераліванне з пустога ў парожняе** *гл.* пераліванне.

Адз. ж. В. *пустую*: УП. н. Р. *пустога*: Т, 41.

**[ПУСТЫНЯ]** (3) *ж. перан.* Неўрадлівая прастора. *Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыццё.* УрП, 46. *Чаго прыйшоў, чаго ты* [чараўнік] *хочаш, Ад гэтых жыхароў пустынь?* Там жа, 51.

◊ **Лямэнт, галосячы ў пустыні** *гл.* лямэнт.

Адз. М. *пустыні*: ОШМ. Мн. Н. *пустыні*: УрП, 46. Р. *пустынь*: УрП, 51.

**[ПУСТЫР]** *м. Тое, што* пустка. *..там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ.

Мн. М. *пустырах*: ШБСЯ.

**[ПУСЦІЦЬ]** (2) і **[ПУСЬЦІЦЬ]** *зак. да* пускаць. [Гануля]: *Рабіце* [Гарошка] *што хочаце, а толькі з хаты не пушчу!* Т, 27.

◊ **Кліч пусціць** – *тое, што* клікнуць кліч. *І кліч пушчу скрозь ад кургану да кургану...* СМ. **Пусьціць чарку ў ход** – выпіць. *Пусьцім чарачку у ход, Песьню засьпяваем.* $Ш_1$.

Абв. буд. адз. 1 ас. *пушчу* (2): СМ; Т, 27. Мн. 1 ас. *пусьцім*: $Ш_1$.

**ПУСЬЦЬ** *часц. Руск. Тое, што* няхай. *"Gazeta" бармоча: Нех бэндзе ён ляхам, А "Вестник" – пусьць лучша Маскоўскім прот шляхам!* Х.

**ПУТЫ** (24) *мн.* **1.** Кайданы, ланцугі. *Путы звонка бразджаць і ўгары, і ўнізу..* БН, 92. *Пад звоны зброі, путаў звоны, Пад свіст*

*раз'юшаных прыблудаў Брыдзеш* [Новы год] *з няведамых старонаў, Як здань няведамага цуду.* НГ, 8. // Тое, што пазбаўляе волі, прыгнятае. *І сейбіт выйдзе, свабодны, без путаў.* Мц, 75.

2. *перан.* Няволя. *Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны – Кліч бураломны: вызваленне з пут?!* БЧ, 10. *Родныя з пут вызваляці загоны, Сонцам развідніваць мутныя ночы, Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць.* Ф.

◊ **Валачыць путы** *гл.* валачыць. **Зняць путы** *гл.* зняць.

Н. *путы* (3): БН, 92; Г, 17; Ч, 319. Р. *пут* (6): Бч, 10; ЖН; СНБ; СС, 301; Ф; ХЛВ, 316; *путаў* (3): Кр, 77; Мц, 75; НГд, 8. В. *путы* (8): Кр, 77; Пт; ПВ; ТП, 217; Ч, 319, 325; ЧС, 50–51(2). Т. *путамі*: СНБ, 336. М. *путах* (3): В; Ч, 323, 324.

**ПУТНІК** *м. Руск.* Падарожнік, вандроўнік. *Аставалася адна я* [маці]*, Сын адзін са мною, Як той путнік на разстаю, Летам і зімою.* Дз, 190.

Адз. Н. *путнік*: Дз, 190.

**ПУХ** *м.* Пухавік, пярына. *Пух і аўчынкі нашага хову Грэлі зімою* [людзей чужых].. Чж, 146.

Адз. Н. *пух*: Чж, 146.

**[ПУХОВЫ]** *прым.* Напханы пухам. *Ясьне-вельможны пан рэдактар ясьневельможнай газэты "Kurjer Litewski" сядзеў у сваім пакоі на пуховай пярыні і горка, горка плакаў.* ЧЧШ.

Адз. ж. М. *пуховай*: ЧЧШ.

**ПУЦІНА** (3) *ж. Паэт.* Шлях, напрамак дзейнасці каго-н. *Трэці* [сын]*, смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны, Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці...* Ч, 321. *Тры паказаваў ім* [сынам] *ён* [чараўнік] *на сьвеце дарогі, Тры пуціны іх долі-нядолі..* Ч, 319. *Трэці* [сын], *смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны, Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці..* Там жа, 319. *Параўн.* пуць, пуцявіна.

Адз. Р. *пуціны* (2): Ч, 319, 321. В. *пуціну*: Кц, 197.

**[ПУЦЦЁ]** і **[ПУЦЬЦЁ]** *н. Разм.* 1. Толк, карысць. – *Ён* [першы сын] *і рад і ня рад, а пуцьця меней штодзень На тэй выбранай сьцежцы, і ные..* Ч, 320.

◊ **Без пуцця** – марна, дарэмна. *Пачуеш дзіўную аповесць Мінуўшай славы і жыцця, Аб чым згубіў ты ўжо даўно весць, блукаючыся без пуцця.* БрБ, 6.

Адз. Р. *пуцця*: БрБ, 6; *пуцьця*: Ч, 320.

**[ПУЦЬ]** (2) *м. Руск. Тое, што* пуціна. [Поп]: *..я только провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.* Т, 38. *Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў, Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў..* Ч, 322.

Адз. В. *пуць*: Т, 38. Мн. В. *пуць*: Ч, 322.

**ПУЦЬЦЁ** *гл.* **ПУЦЦЁ.**

**[ПУЦЯВІНА]** *ж. Паэт. Тое, што* пуціна. [Аленка]: *А чаму б вам, пане Нікіці, замест коўзацца па слізкіх і небяспечных для вашай асобы пуцявінах, не заняцца чым-небудзь больш рэальным і грунтоўным.* Т, 36.

Мн. М. *пуцявінах*: Т, 36.

**[ПУШНЫ]** *прым.* Які мае каштоўнае футра. *..навет калі выхадзілі* [прашчуры нашы] *з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17.

Адз. м. В. *пушнага*: Кз, 17.

**[ПУШЧА]** (6) *ж.* Вялікі масіў лесу. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага..* ПЛ. *Грозна рэхі Пашлі па пушчах, па лясох..* УрП, 49.

Адз. Р. *пушчы*: Мц, 75. М. *пушчы*: Ч, 325. Мн. Н. *пушчы*: ПЛ. Р. *пушчаў*: ПБН. М. *пушчах* (2): Дз, 128; УрП, 49.

**[ПУШЧАНЫ]** *дзеепрым зал. пр. да* пусціць: ◊ **У ход пушчаны** – выкарыстаны які-н. прыём. *І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны , Хоць пад права тваё падрываецца шмат хто, як крот, – Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына..* Б, 18.

Кар. мн. Н. *пушчаны*: Б, 18.

**[ПУШЧАЦЬ]** (2) *незак. Разм.:* ◊ **З торбай пушчаць** – даводзіць да жабрацтва. [Янка]: *У лапці абувалі* [беларусаў]*, з торбамі пушчалі ды ў сібірскія катаргі вывозілі.* Т, 21. **Пушчаць у здзек** – бэсціць, ганьбіць. *А ты змарнелы чалавек, Нікчэмны пасынак былога, Сваю пушчаеш песню ў здзек, Чужою славіш нават бога.* БрБ, 6.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *пушчаеш*: БрБ, 6. Пр. мн. *пушчалі*: Т, 21.

**ПХНУЦЦА** *незак. Разм.:* ◊ **Пхнуцца ў людзі** –ісці да людзей. *Аддыхала-б* [бабуля] *лепей дома, Чымся пхнуцца ў людзі.* Вб, 237.

Інф. *пхнуцца*: Вб, 237.

**[ПЦІЦА]** *н. Руск. Тое, што* птушка. [Поп]: *(ідучы ўслед за адходзячымі..) Акі пціцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

Мн. Н. *пціцы*: Т, 38.

**[ПЧАЛА]** (5) *ж.* Насякомае, якое перапрацоўвае кветкавы нектар на мёд. *Гэта – старасьвецкай будовы вульлі для пчол.* ХБ, 30. *Аб гэтых вульлёх, аб гэтых пчолах ніхто не клапоціцца..* Там жа, 30. // *У параўн. А як ударыў* [ганец] *па струне, заметушыліся* [людзі]*, як пчолы.* Кц, 195. *Вольныя людзі, як пчолы руплівыя, Твораць быт новы, абвеяны славаю.*ДПЛС.

Мн. Н. *пчолы* (2): Кц, 195; ДПЛС. Р. *пчол* (2): ПСД; ХБ, 30. М. *пчолах*: ХБ, 30.

**[ПЧАЛІНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да пчалы. *..а яшчэ астаўлялі ў хатах* [прашчуры нашы] *пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных – гэта каб госць*

*меў чым з дарогі пажывіцца.* Кз, 17.

Мн. Р. *пчаліных*: Кз, 17.

**ПШАНІЦА** (5) *ж.* Хлебны злак, зерне якога ідзе на выраб белай мукі і іншых прадуктаў. *На гонях красуе пшаніца і жыта...* ТП, 217. *..скрозь пшаніцаю Пахне над далінамі...* ПЛ.

Адз. Н. *пшаніца* (2): ВВ, 263; ТП, 217. В. *пшаніцу*: ТЗУ, 293. Т. *пшаніцай*: ХБ, 28; *пшаніцаю*: ПЛ.

**[ПШАНІЧНЫ]** (3) *прым.* Які мае адносіны да пшаніцы. *Нашы палеткі буйным абшарам Нас гадавалі хлебам пшанічным..* ССА, 294. *Пячом караваі З пшанічнага цеста..* АЧ.

Адз. м. Р. *пшанічнага*: Кз, 17. Т. *пшанічным*: ССА, 294. н. Р. *пшанічным*: АЧ.

**[ПШЫ** (2) *прыназ.* **1.** *Тое, што* пры *ў* 2 *знач.* [Спічыні]: *(Чытае.) "Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі служы пшы Комісарыяце поліцыі мяста Мінска, яко доносіцель".* Т, 61.

**2.** *Тое, што* пры *ў* 3 *знач.* [Заходні вучоны]: *Пры бадaню бялорусіна высветлёно надзвычайнон особлівосць, а мяновіце: ..ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.* Т, 26.

**ПШЫРОДА** (2) *ж. Польск. Тое, што* прырода *ў* 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *Пшырода на Польскіх Крэсах Всходніх надзвычай буйна і богата..* Т, 47. [Заходні вучоны]: *Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яке собе закрэсляце граніцэ полiтычнэ.* Там жа, 47.

Адз. Н. *пшырода*: Т, 47. М. *пшыродзе*: Т, 47.

**ПШЭДСТАВЕНЕ** *н. Польск.* Уяўленне. [Заходні вучоны]: *Цо сень тычы граніц політычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людності вшэхпольскей пшэдставене бардзо не яснэ.* Т, 47.

Адз. Н. *пшэдставене*: Т, 47.

**ПШЭЗ** *прыназ. Польск.* Указанне на дзеючую асобу. [Заходні вучоны]: *Падчас бадaня тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей..* Т, 39.

**[ПШЭІСТАЧАЦЬ СЕНЬ]** *незак. Польск.* Пераўтварацца, змяняцца. [Заходні вучоны]: *..край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэтэ пшэісточыло сень в Пінске болото.* Т, 47.

Абв. пр. адз. н. *пшэісточыло сень*: Т, 47.

**[ПШЭПРОШАЦЬ]** (3) *незак. Польск.* Прасіць прабачэння. [Заходні вучоны]: *Пшэпрашам пана!* Т, 26.

Заг. мн. 2 ас. *пшэпрашам*: Т, 26.

**[ПШЭПУСТКА]** (6) *ж. Польск. Тое, што* пропуск. [Мікіта]: *..рэдактар Гізульскі, што жыў да апошняга часу ў нашай кватэры,*

*абяцаў мне вылатвіць "пшэпустку" на выезд..* Т, 55. [Спраўнік]: *Пшэпустак усім не хапіла.* Там жа, 57.

Адз. Р. *пшэпусткі* (2): Т, 55, 57. В. *пшэпустку* (2): Т, 55, 57. Мн. Р. *пшэпустак*: Т, 57. В. *пшэпусткі*: Т, 57.

**[ПШЭЦЁНГ]** *м. Польск.* Скразняк. [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі твердзон, маён гдзе топіць сень і без можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47.

Мн. Н. *пшэцёнгі*: Т, 47.

**[ПЫЛ]** (3) *м.* **1.** Найдрабнейшыя цвёрдыя часцінкі, якія лятаюць у паветры або аселі на паверхні рэчаў. *Над курганамі галасілі Сіроты, удовы, жабракі, Над імі ж у крывавым пыле Луналі груганы-крукі.* ГП, 8.

**2.** *Вобразн.* Пра тое, што выклікае нездавальненне, прыкрасць. *Вось я пастаўлены над вамі* [людзьмі] *вышэйшай моцай небных сіл, Старэйшы думкай і гадамі, Зьмятаю ашуканства пыл.* УрП, 49. *Сотні лет, непрыяцелем-братам прыбітая, Зарастаючы зеллем чужым, як лазой сенажаць, Ты* [Беларушчына] *ляжала няпамяці пылам пакрытая..* Б, 18.

Адз. В. *пыл*: УрП, 49. Т. *пылам*: Б, 18. М. *пыле*: ГП, 8.

**ПЫЛАЦЬ** *незак. Руск., перан.* Палаць; выражаць моцнае пачуццё. *Асьвяціў сваё чорнае першы* [брат] *сумленьне Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю, Ў путах сьцюжу трымаць, меці жараў насеньне, Тлець, пылаць над людзьмі, над сабою.* Ч, 324.

Інф. *пылаць*: Ч, 324.

**[ПЫЛЬ]** *ж. Руск.* Пыл. *Под звукі ліхіх трубачэй, Па уліцам пыль подымая, Проходзіл полк гусар усачэй...* Т, 53.

Адз. В. *пыль*: Т, 53.

**[ПЫРСКАЦЬ]** (2) *незак.* Не стрымаўшыся, пачаць смяяцца. *Аленка пырскае здушаным смехам.* Т, 52. *Аленка штохвіля пырскае смехам.* Там жа, 33.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пырскае* (2): Т, 33, 52.

**ПЫРСНУЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* пырснуць. Засмяяўшыся. *Грамадзяне й грамадзянкі, пырснуўшы смехам, пайшлі.* Т, 43. [Аленка]: *(пырснуўшы смехам). Ха-ха-ха! Ну і панскае ігрышча дык ігрышча!* Там жа, 29.

**[ПЫСК]** *м. Польск., разм.*: ◊ **Достаць по пыску** *гл.* достаць.

Адз. М. *пыску*: Т, 49.

**ПЫТАЛЬ** *м.*: ◊ **Пытлю задаць** *гл.* задаць.

Адз. В. *пытлю*: Т, 36.

**ПЫТАННЕ** (9) і **ПЫТАНЬНЕ** (5) *н.* **1.** Зварот да каго-н. з чакаемым адказам. *Што значыць – над чым я* [Купала] *працую? Задаць такое пытанне паэту рызыкоўна?* МП. *..калі мець стрэльбу ў руцэ*

*і прыстаць з такімі пытаньнямі, то чалавек паняволі скажа, што – я-ня я і хата ня мая.* ДК. *Параўн.* запытанне.

2. *перан.* Праблема. *Зямельнае пытанне, каторае і дагэтуль было так запутаным у нашым краю, яшчэ больш запутываецца з зямельнай спекуляцыяй у нашыя дні.* ЗС, 18. [Мікіта]: *Пане настаўнік, гэта – паны вучоныя, якія вельмі цікавяцца вашым, хэ-хэ-хэ! беларускім пытаннем.* Т, 26.

Адз. Н. *пытанне* (3): МП; ЗС, 18(2); *пытаньне*: ВС. Р. *пытання*: НДН, 18. В. *пытанне* (2): ЗС,17; Т, 41; *пытаньне* (2): ВР; ДК. Мн. Р. *пытанняў*: Т, 41; *пытаньняў*: СНБ. В. *пытанні*: ЗС, 17. Т. *пытаньнямі*: ДК.

**ПЫТАЦЦА** (5) *незак. Тое, што* пытаць. *..ніхто ня мае ніякага “дэмократычнага” права залазіць да яе* [Беларусі] *у хату і пытацца: ці гэта твая хата, ці мая?* ДК. [Гануля]: *Былі ж і сягоння гэныя нібы вучоныя Мікітавы. Аб вас, пане настаўнік, пыталіся.* Т, 54.

Інф. *пытацца* (2): ВСп, 90; ДК. Абв. пр. мн. *пыталіся* (3): НДН, 18; Т, 54(2).

**[ПЫТАЦЬ]** (4) *незак.* Звяртацца да каго-н. з пытаннем. – *А што такое Антанта? – пытаю яго* [рэдактара]. Ан, 18. *Ци ты бачыў кали слабоду? – пытае адзин мужык другога.* ХЛБ. *Параўн.* пытацца.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *пытаю* (2): Ан, 18; ХЛБ. 3 ас. *пытае*: ХЛБ. Пр. адз. м. *пытаў*: БрБ, 6.

**ПЫТАЮЧЫСЯ** (2) *дзеепрысл.да* пытацца. Просячы дазволу. *Дужыя* [дзяржавы], *не пытаючыся, забіралі ў слабейшых* [народаў] *усё, што маглі толькі забраць, а давалі ім, не пытаючыся, тое, што яны не заўсёды хацелі прымаць.* НДН, 18.

**[ПЫХКАЦЬ]** (3) *незак.*: ◊ **Пыхкаць люлькай (люльку)** – курыць. *Непадалёк сядзіць Гарошка і пыхкае люльку..* Т, 43. *Гарошка пыхкае мацней люлькай..* Там жа, 33.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пыхкае* (3): Т, 33, 43, 52.

**ПЫХКАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* пыхкаць. [Гарошка]: *(уваходзіць з пугай, пыхкаючы люлькай). Во, добра, што застаў вас* [Аленку і Янку]*!* Т, 36–37.

**[ПЫШНЫ]** *прым.* Густы (пра крону). *..якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводзьдзе вадою..* ХБ, 29.

Мн. Н. *пышныя*: ХБ, 29.

**ПЭНСІЯ** (2) *ж. Уст.* Заработная плата. [Мікіта]: *У гэтым* [портфэлі] *толькі грошы – мая пэнсія за першыя дзесяць дзён гэтага ліпня месяца..* Т, 46. [Мікіта]: *Пакіньце толькі портфэль з маёй пэнсіяй.* Там жа, 50.

Адз. Н. *пэнсія*: Т, 46. М. *пэнсіяй*: Т, 50.

**[ПЭРСОНА]** (4) *ж. Кніжн.* Асоба. [Мікіта]: *Хоць, можа, я гэтак рызыкую сваёй пэрсонай, але місію сваю мушу стойка выпаўняць.* Т, 37–38. [Дама]: *Вы, мусье рэгістратар, зрабілі нам сягоння*

*папраўдзе мілую неспадзеўку гэнымі дзвюма пэрсонамі, якія толькі што вышлі.* Там жа, 27.

Адз. Т. *пэрсонай*: Т, 38. Мн. Н. *пэрсоны*: Т, 37. В. *пэрсон*: Т, 51. Т. *пэрсонамі*: Т, 27.

**[ПЭРСОНАЛЬНЫ]** *прым. Кніжн.* Асабісты. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне.. падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі, так што калі і скромная вячэра, то не па маёй пэрсональнай віне.* Т, 28.

Адз. ж. М. *пэрсональнай*: Т, 28.

**[ПЭРЫОД]** (2) *м. Разм.* Адрэзак часу. ..[соцыяльная і нацыянальная барацьба] *і ў гэты перыод, хоць прыдушана, але хвалявалася, узбуралася ў імкненьнях і парывах працоўных мас...* АЛ. *Прасякнуты нацыянал-дэмократычнай заразай, прышчэпленай мне нашаніўскім пэрыодам маёй літаратурнай працы, ..я* [Купала] *і пасля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся.. абкружаючага мяне нацыянал-дэмакратычнага асяродзішча..* Там жа.

Адз. В. *пэрыод*: АЛ. Т. *пэрыодам*: АЛ.

**ПЭЎНА** (8) *прысл. У знач. пабочн.* Мабыць, мусіць, відаць. [Дама]: *А вы, мусье рэгістратар, калі прыняць пад увагу довады мусье беларуса, то пэўна заставацца тут не будзеце і нашым шляхам пойдзеце.* Т, 37. [Аленка]: *Тузін – не тузін, а штук з сем* [люлек] *то пэўна ж татка выпыкаў.* Там жа, 44. Т, 37, 38, 41, 44, 50, 54.

**[ПЭЎНАСЬЦЬ]** *ж.* Упэўненасць, надзейнасць. *Мы з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць – ці быў тады гымн нацыянальны, ці ня быў.* СБНГ.

Адз. Т. *пэўнасьцяй*: СБНГ.

**[ПЭЎНЫ]** (25) *прым.* **1.** Вызначаны, дакладны. [Мікіта]: *Меджду протчым, я заказаў сабе гэты віц-мундзір з пэўнай мэтай...* Т, 24.

**2.** Адпаведны. *Само сабою разумеецца, што кожны агітатар набірае сабе пэўны лік прыхільнікаў.* ДК. *Пэўная часьць польскага грамадзянства.., асьлепленая пабедамі польскага салдата, сышла з тэй дарогі, якую паляком намецілі сьвятлейшые іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славацкіе і інш.* СНБ.

**3.** Надзейны. [Мікіта]: *Мамзэль Наста, якія ж гэта няпэўныя вашы пэўныя крыніцы..* Т, 52. [Наста]: *З пэўных крыніц я напэўна даведалася, што ўжо "нашы" занялі Менск.* Там жа, 49.

Адз. м. Р. *пэўнага* (2): ДК; ОШМ. В. *пэўны*: ДК. ж. *пэўная*: СНБ. Р. *пэўнай*: Т, 34. В. *пэўную*: Т, 42. Т. *пэўнай*: Т, 24. Мн. Н. *пэўныя*: Т, 52. Р. *пэўных* (12): Т, 23, 24(4), 29, 41(2), 42(2), 49, 55(2), 59. В. *пэўныя* (4): ВН; Т, 23, 24, 59. М. *пэўных*: Т, 41.

**[ПЯВУЧЫ]** (2) *прым.* **1.** Напеўны. *Прышла вясна, вясёлая, пявучая, цьвітучая.* ДД.

**2.** *перан.* Вясёлы, прыемны. *..кідае* [забабон] *балотам на адвечнае цярпеньне, на крывавые сьлёзы, на сум бяскрыудны, на радасьць пявучую вялікага і добрага Беларускага Народу.* З.

Адз. ж. Н. *пявучая*: ДД. В. *пявучую*: З.

**[ПЯДЗЬ]** *ж. Уст.* Старая мера даўжыні, роўная адлегласці паміж вялікім і ўказальным пальцамі. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі.. мужна адстойваюць кожную пядзь свяшчэннай зямлі.* ВГ.

Адз. В. *пядзь*: ВГ.

**ПЯКЕЛЬНЫ** (2) *прым. Разм.* **1.** *перан.* Нязносны, нясцерпны. *І вось праца гэтых людзей, праца ў страшэнна пякельных варунках, ..праца лепшых беларускіх людзей над падняццем свае роднае культуры не была дарэмнай.* МІ, 17.

**2.** *Разм*. Страшэнны, жудасны. *Чытанне ўсякіх кніжак без разбору... разбудзіла маю* [Купалы] *фантазію; у душы маёй заўсёды быў нейкі пякельны разлад.* А, 328.

Адз. м. Н. *пякельны*: А, 328. Мн. М. *пякельных*: МІ, 17.

**[ПЯЛЁНКА]** (2) *ж.* Прасцінка для спавівання грудных дзяцей. *Ты гадуй сынка, матуля, У пялёнкі спавівай..* М, 19.

◊ **Ад пялёнкі** – з ранняга дзяцінства. *Нас гадавалі віхры і ночкі, Крыўдай паілі нас ад пялёнкі – Толькі ж папросту мы* [беларусы] *не йшлі ў прочкі З роднай старонкі.* Пп, 5.

Адз. Р. *пялёнкі*: Пп, 5. Мн. В. *пялёнкі*: М, 19.

**[П'ЯНЫ]** (3) *прым. перан.* Адурманены. *Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, п'яныя атрутай нажывы і самалюбствам, ..з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17. *Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія* [Фінляндыі] *крочыць. Край свой ачысціць ад хэўры драпежнай, Ад гандляроў, п'яных славай атруты.* Ф.

Мн. Н. *п'яныя* (2): ЗС, 17; РКП. Р. *п'яных*: Ф.

**[ПЯРО]** (2) *н.* **1.** Прылада для пісання чарнілам, тушшу. *І рэдактар плакаў, плакаў і ... думаў. Ў канцы ўзяў пяро, набожна пацалаваў крыж і напісаў у сваю.. газэту горка-сьлязлівую стацьцю пад такім загалоўкам Якім парадкам прымусіць дзяцей-беларусоў вучыцца і маліцца па-польску.* ЧЧШ.

**2.** *перан.* Сімвал прафесіі пісьменніка, яго працы. *..яна, гэта моладзь – мае дарагія таварышы па пяру – усё сэрца аддае ў сваёй творчасці вялікім дням нашага маладога гераічнага слаўнага жыцця.* ЖН.

Адз. Д. *пяру*: ЖН. В. *пяро*: ЧЧШ.

**ПЯРУН** (11) *м.* **1.** Аглушальны ўдар грому. *Ідзі* [беларус] *на ўзгор, на камень сядзь, Што пашчапаў пярун на часці..* БрБ, 6. *..лета* [на Меншчыне] *гарачае, але яно асьвяжаецца такімі навальніцамі з пярунамі, якіх я* [С. Меч] *ня бачыў у Расеі..* ХБ, 29. *У параўн. У сэрцах спячых распалі* [пясняр] *пажар, Над курганамі перуном зайграй!* Пт.

**2.** *перан.* Выбух, узрыў. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука – яе лапата, яе гарматні пярун.* АБ, 16.

◊ **Каб яго (іх) (калядны) пярун спаліў** – праклён. [Мікіта]: *Во ён гэты, меджду протчым, дакумэнт. (Набок.) Каб яго калядны пярун спаліў!* Т, 61. [Мікіта]: *Каб іх пярун спаліў, такія слоўнікі!* Там жа, 32.

Адз. Н. *пярун* (5): АБ, 16; БрБ, 6; Т, 32, 61; УрП, 48. Т. *перуном*: Пт. Мн. В. *пяруны*: Ч, 322. Т. *пярунамі* (4): БрБ, 6; Кц, 194; ХБ, 29; Ч, 322.

**ПЯРУНОВЫ** *прым. Разм., перан.* Гучны, моцны, гулкі. *І дрогнула Крыўды ўсяўлада, Разьлёгся скрозь кліч пяруновы; Апалі кароны, пасады, З нявольнікаў спалі аковы.* Кр, 77.

Адз. м. Н. *пяруновы:* Кр, 77

**[ПЯРШЫНСТВА]** *н. перан.* Перавага. *Дык не кідайце ж вялікіх абманных лозунгаў аб сваіх заходніх ці ўсходніх пяршынствах.* Тж, 16.

Мн. М. *пяршынствах*: Тж, 16.

**[ПЯРЫНА]** *ж.* Вялікая насыпка, напоўненая пер’ем, на якой спяць або якой накрываюцца. *Ясьне-вельможны пан рэдактар ясьневельможнай газэты “Kurjer Litewski” сядзеў у сваім пакоі на пуховай пярыні і горка, горка плакаў.* ЧЧШ.

Адз. М. *пярыні*: ЧЧШ.

**ПЯСНЯР** (6) і **ПЯСЬНЯР** (4) *м. Паэт.* Выдатны народны паэт. *Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр!* Пр. *Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС, 231. // *перан.* Той, хто праслаўляе што-н. *Вось гэту вялікую, заслужаную, гордую радасьць пераможцаў падзяляем з усімі народамі краіны Советаў і мы, ягоныя пісьменнікі, ягоныя песьняры.* ВГР.

**Песьняру.**

∆ **Пясняр-паэт**: *Дзяўчына, кветкамі абсып курган вялікі, А песню вечную злажы, пясняр-паэт.* СК, 158.

Адз. Н. *пясняр* (5): Пт (2); ПСС, 231, 232; СК, 158; *пясьняр* (3): Пр; КЧ (2). Д. *песьняру*: Пр. Мн. Н. *песняры*: ВГР.

**[ПЯСОК]** (5) *м.* **1.** Горная парода з дробных цвёрдых часцінак. *Шуршаць залатыя пяскі.* ТП, 215.

**2.** *мн.* Пясчаныя прасторы. *Распасьцер свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон.. па усім нязьмераным сьвеце.. Ад гарачых пяскоу агністай Афрыкі.. да ледавітага “пауночнага зіяньня”..* З. // Глеба з вялікай колькасцю такой пароды. *Нашы маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра “беднасьць, пра.. гразь, балота і пясок” у Беларусі.* ХБ, 27.

◊ **Пад чужым пяском** – на чужыне, у чужой зямлі. *Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у*

*Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў, складалі свае буйныя галовы пад чужым пяском.* БВ, 16. **Стоптаны на пясок** *гл.* стоптаны.

Адз. В. *пясок* (2): Бч, 9; ХБ, 27. Т. *пяском*: БВ, 16. Мн. Н. *пяскі*: ПТ, 215. Р. *пяскоў*: З.

**[ПЯСЧАНЫ]** і **[ПЯШЧАНЫ]** *прым.* **1.** Які складаецца з пяску, пакрыты пяском. *Ён* [сын] *насыпе пяшчаны узгор нада мною* [чараўніком], *І таптаці узгор гэты будзе.* Ч, 320.

**2.** З вялікай прымессю пяску; пескаваты. *...торпа, прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае паляпшэньне зямлі.* ХБ, 30.

Адз. м. В. *пяшчаны*: Ч, 320. ж. Р. *пясчанай*: ХБ, 30.

**[ПЯСЧЫНА]** *ж.* Крупінка пяску. *У параўн. І пайшло ў паходы войска Полем, лугам, борам, А байцоў, як зор на небе, Як пясчын у моры!* ЗЯЗ, 90.

Мн. Р. *пясчын*: ЗЯЗ, 90.

**ПЯСЬЦІЦЬ** *гл.* **ПЕСЬЦІЦЬ**.

**[ПЯТА]** (2) *ж.* Задняя частка ступні. [Мікіта]: *(уваходзіць перадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усякімі адзнакамі, акручваючыся на пяце). Ну, як, шаноўныя, меджду протчым, мамзэлі і мусьі?* Т, 50.

◊ **Закараткі пяты** – без магчымасці і права зрабіць што-н. [Янка]: *О, наша тэрыторыя, пане вучоны, вельмі вялікая – і вокам не дастаць! Уся Менская Брахалка, на якой вы, як бачу, гэтай тэрыторыі шукаеце, ды яшчэ далей. ..абхапіць гэтае "далей" закараткі вашы пяты.* Т, 39.

Адз. М. *пяце*: Т, 50. Мн. Н. *пяты*: Т, 39.

**[ПЯТКА]** *ж. Памянш.-ласк. да* пята.: ◊ **Кароткі пяткі** – *тое, што* закараткі пяты. [Усходні вучоны]: *Пры опросе оборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себя всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей... ..для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

Мн. Н. *пяткі*: Т, 39.

**ПЯТЛЯ** (5) *ж.* Кальцо з вяроўкі. *Жутка вісельні граюць, сьлізгоча пятля..* БН, 92. *Вырывай з сябе жылу па жыле, Ві ў вяроўку, ў пятлю і павесься..* См, 91.

◊ **Гнесці ў крутой пятлі** *гл.* гнесці.

Адз. Н. *пятля*: БН, 92. В. *пятлю*: См, 91. М. *пятлі*: Ж. Мн. В. *петлі* (2): Ч, 319, 321.

**[ПЯТНАЦЦАЦІГАДОВЫ]** (2) *прым.* Які працягваецца пятнаццаць гадоў. *Але толькі павінен я* [Купала] *тут адзначыць, што гэта пятнаццацігадовая гадаўшчына не да мяне аднаго адносіцца, яна адносіцца да шмат каго з прысутных тут, адносіцца да ўсяго апошніх часаў руху ў беларускім адраджэнні.* ПЛП. *Вітаю Вас і*

*дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягоняшні дзень мне* [Купалу] *і маёй пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай.* Там жа.

Адз. ж. Н. *пятнаццацігадовая*: ПЛП. Д. *пятнаццацігадовай*: ПЛП.

**[ПЯТНАЦЦАЦЬ]** (5) *ліч.* Лік 15. *Усяго пятнацаць год вялікая ідэя вызвалення з падняволля Беларусі лунае і пашыраецца сярод многамільённага беларускага грамадзянства.* ПЛП. *Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць было небяспечна.* Там жа.

Адз. В. *пятнаццаць* (5): ДЖ; ПЛП (4).

**ПЯТУХ** *м. Руск. Тое, што* певень. *Захлопаў крыльлямі пятух, – І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы..* Кц, 197.

Адз. Н. *пятух*: Кц, 197.

**П'ЯЎКА** (3) *ж.* Прэснаводны чарвяк-крывасмок. *У параўн. А як пойдзе другім хто гасцінцам-дарогай, Што на захад кладзецца вужакай, – Свой палетак любіць стане горай чужога, Прыпадзе к чужой рэчцы, як п'яўка.* Ч, 319.

2. *перан.* Пра чалавека, які жыве за кошт іншых; крывапіец, паразіт. *Шчаслівы наблізіцца век, І над чалавекам ужо Не будзе стаяць чалавек Гадзюкаю, п'яўкай, смаўжом.* ТП, 216.

◊ **Чорнай п'яўкай слізгаць** *гл.* слізгаць.

Адз. Н. *п'яўка*: Ч, 319. Т. *п'яўкай* (2): ТП, 216; ЧС, 50-51,

**[ПЯЦІГАДОВЫ]** *прым.* Які працягваецца пяць гадоў. *Шкодніцтва, дывэрсія, шпігоўства, інтэрвэнцыя, – ўсё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя, абы толькі ўзарваць пяцігадовы план…* АЛ.

Адз. м. В. *пяцігадовы*: АЛ.

**[ПЯЦЬ]** (2) *ліч.* Лік 5. *Я* [Купала] *пераклаў ужо каля пяці тысяч радкоў і мяркую перакласці яшчэ тысяч з пяць.* МП.

Адз. Р. *пяці*: МП. В. *пяць*: МП.

**[ПЯЧАЦЬ]** *ж. Руск.* Пячатка. [Мікіта]: *Пажарнік Менскай, меджду протчым, пажарнай дружыны, – дакумант маю на гэта з пячаццю.* Т, 32–33.

Адз. Т. *пячаццю*: Т, 33.

**[ПЯЧЫ]** (2) *незак.* **1.** Гатаваць ежу сухім награваннем, на адкрытым агні. *Пячом караваі З пшанічнага цеста І спяваем песні Сталінскага зместу.* АЧ.

**2.** *перан.* Трывожыць. *Снуёмся* [беларусы]*, у думках зводных затануўшы, А хтось, а штось і мучыць, і пячэ.* Бч, 9.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *пячэ*: Бч, 9. Мн. 1 ас. *пячом*: АЧ.

**ПЯШЧАНЫ** *гл.* **ПЯСЧАНЫ.**

**ПЯЯННЕ** *н. Абл.* Смутак, жалоба. *Плыве з Масквы жалобнае пяянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158.

Адз. Н. *пяянне*: СК, 158.

# Р

**РАБ** (11) *м.* **1.** Чалавек без правоў і сродкаў вытворчасці ў поўнай уласнасці гаспадара. *У параўн. Дыхнуць свабоднымі грудзямі Й зірнуць арліна не дадуць* [свае і чужыя], *– На ўзлёты дум кладуць аковы, Як на рабоў сляпых кладуць.* РС, 39.

**2.** *перан.* Паднявольны, бяспраўны чалавек. *Пазналі вас* [бальшавікоў] *на пір піроў, Пазвалі вас за волю стаць І далі ўладу путы рваць, І далі ўладу біць цароў, – Зрабілі з вас гаспадароў. І вы з рабоў пайшлі ў цары...* ПВ. *І калі ня хочам* [беларусы] *загінуць, калі ня хочам быць вечнымі рабамі, – павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі.* БС.

**3.** Бязвольны чалавек. *А трэйці* [ганец] *быў і раб, і цар І слаб, і дуж ва ўсякім дзеле, Як вечнасьць, молад быў і стар; Меў гусьлі – на грудзях віселі.* Кц, 194. // Духоўна залежны чалавек. *Ён* [жандар] *сніць былую моц і шыр: Цары, царыцы, цэрквы, троны, Пагромы, катаргі, Сібір... О, Русь! Прымі раба паклон.* АПЖ.

Δ **Раб-цар:** *І ў сто, у сто кагцістых рук Хапае вас рабы-цары, – Як бы ўжо вы не ўладары...* ПВ.

◊ **Цар і раб** *гл.* цар.

Адз. Н. *раб.* (3): Ж; Кр, 78; Кц, 194. Р. *раба* (2): АПЖ; СМ. Мн. Н. *рабы*: ПВ. Р. *рабоў* (2): АПЖ; ПВ. В. *рабоў* (2): РС, 39; Тж, 16. Т. *рабамі*: БС.

**[РАБАЎЛАСНІЦТВА]** *н., перан.* Падняволенне, бяспраўе. *Законы-ж твае* [правадыра], *нібы светач нязгаслы, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненнем, Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.* ТП, 216.

Адз. Р. *рабаўласніцтва*: ТП, 216.

**[РАБІЦЦА]** (11) *незак.* **1.** Станавіцца. *Так, знясільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай, .. бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* ПЧ. *Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай.* Тж, 15.

**2.** Тварыцца, адбывацца. *Дзеле чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб палітычнай лучнасьці з Польшчай, калі усё робіцца на задор, на сварку, на калатню і варажнечу.* ОШМ. *Ужо раз палякі загналі Беларусь у рукі маскоўскага барбара, – Ці ня робіцца гэта й цяпер?* Там жа.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *робіцца* (9): АБ, 16; ОШМ (3); ПСп; ПЧ (2); Т, 33; Тж, 15. Пр. адз. н. *рабілася*: МІ, 17; *рабілося*: БС.

**РАБІЦЬ** (35) *незак.* **1.** Займацца чым-н. [Наста]: *А, па-мойму, што-небудзь ды ёсць, напрыклад, свабода, што хачу, тое раблю.* Т, 28 [Ганулял]: *Рабіце* [госці]*, што хочаце, а толькі з хаты не пушчу!* Там жа, 27.

**2.** Вырабляць, майстраваць. *Гануля сядзіць на спакаваных вузлох і робіць панчоху.* Т, 53.

**3.** Паводзіць, дзейнічаць якім-н. чынам. [Мікіта і Гануля]: *(разам). Што рабіць? Што тут рабіць? Райце, мамзэль Наста!* Т, 59. *Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў.. і канчаючы славянамі – палякамі, украінцамі, беларусамі і іншымі. Тое самае рабіла Нямеччына з палякамі, эльзасцамі ды ўсялякімі заморскімі калёнямі.* НДН, 18.

**4.** *перан.* Прадстаўляць, уяўляць. *Цяжкае ўражанне робіць гэтая ні то памершая, ні то паміраючая краіна...* ПЧ.

◊ **Рабіць від** – прыкідвацца, прытварацца. [Гануля]: *Ды якая там яна* [грамадзянка] *мадама? Проста нейкая... нейкая...* [Мікіта]: *.. У гандлёва-прамысловых адносінах мы павінны рабіць від, што яна і не такая, і не нейкая.* Т, 34.

Інф. *рабіць* (15): ВС (2); ЗС, 17; МСП, 187; Т, 20, 34, 36, 41, 48, 50, 55, 59 (4). Абв. цяп. адз. 1 ас. *раблю*: Т, 28. 3 ас. *робіць* (6): ДК; ПЧ; Т, 19 (2), 53, 61. Мн. 2 ас. *робіце* (2): Т, 24, 37; *рабеце*: Т, 22. 3 ас. *робяць* (5): ВР; Т, 33, 42, 55, 60. Пр. адз. м. *рабіў*: Т, 23. ж. *рабіла*: НДН, 18. Мн. *рабілі* (2): БС; ДК. Заг. мн. 2 ас. *рабіце*: Т, 27.

**РАБОТА** (24) *ж.* **1.** *Дзеянне па дзеяслову* рабіць *у* 1 *знач.* [Янка]: *Трудна такому далікатнаму панічу за гэтакую чорную работу ўзяцца.* Т, 20. *Ночка ці дзень, ці марозы, ці спекі, – Вечна ў ярме, ў паднявольнай рабоце.* Д, 73.

**2.** Круг заняткаў, абавязкаў; справа. [Мікіта]: *.. усёй работы яго* [пралетарыяту] *было, што толькі, меджду протчым, працаваў..* Т, 40. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, не ламеце рук, а бярэцеся хутчэй за работу.* Там жа, 59. // Пэўны род дзейнасці. *.. група контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратычных інтэлігентоў, у хаўрусе і пад кіраўніцтвам заходне-беларускага нацыянал-фашызму, гэтай агентуры польскаго імпэрыялізму, на працягу раду год вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва..* АЛ. *У замучанай царызмам Беларусі, як і ва ўсёй*

*Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то ні было дзяржаўнай рабоце.* ГВУ.

**3.** *толькі мн.* Навуковая дзейнасць па стварэнню чаго-н. [Наста]: .. *немцы як прыходзяць, то першым чынам направа і налева хапаюць усіх на работы – капаць акопы, а гэта не губарнатарская канцылярыя.* Т, 24.

**4.** Праца. *Гэтак праслужыў* [Купала] *тры гады ў броварах чорнарабочым.. Кінуў і гэтую работу і папаў у Вільню, дзе выходзіла газета "Наша ніва".* А, 328. *Параўн.* праца.

**5.** Вынік разумовай дзейнасці. *Вяртаецца яна* [чацвёрка папанінцаў] *з свайго надзвычайнага дрэйфа не толькі поўнасцю выканаўшы план навуковых работ, але і яшчэ раз давёўшы ўсяму свету, хто такія большэвікі..* МП.

◊ **За чужой жыць работай** *гл.* жыць.

Адз. Н. *работа*: АБ, 16. Р. *работы* (3): Ан, 18; ПГ; Т, 40. Д. *рабоце*: АЛ. В. *работу* (11): А, 328; АБ, 16; АЛ; ПГ; ПСп; Т, 20, 32 (2), 59; ХБ, 29; Ч, 146. Т. *работай*: Дз, 189. М. *рабоце* (4): АЛ (2): ГВУ; Д, 73. Мн. Р. *работ*: МП. Р. *работ*: МП. В. *работы* (2): Т, 24 (2).

**[РАБОТНІК]** (2) *м.* Чалавек, заняты работай; працаўнік. *Пажаданні нашы: даць камандзіру годную дома работу і забяспечыць жывы кантакт дома з нашым атрадам работнікаў мастацтваў.* ПГ. .. *трэба .. гатаваць з іх* [вучняў] *добрых, сумленных, працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры.* ДК.

Мн. Р. *работнікаў*: ПГ. В. *работнікаў*: ДК.

**[РАБОТНІЦА]** (2) *ж. Жан. да* работнік. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага социялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне, прыкладам творы: пераклад "Інтэрнацыяналу", "На сьмерць С. Булата", "Безназоўнае", "Арлянятам", "Дзьве сястры" (аб работніцы і сялянцы) ..* АЛ. *Работніцы перадалі т. Кальцову букет чырвоных кветак.* ПЧ.

Адз. М. *работніцы*: АЛ. Мн. Н. *работніцы*: ПЧ.

**[РАБОТНІЦКІ]** *прым. Тое, што* рабочы[2] *ў* 1 *знач. "Антанта .. крычыць: "Хай жыве савет салдацкіх, работніцкіх, сялянскіх ды іншых дэпутатаў!.."* Ан, 19.

Мн. Р. *работніцкіх*: Ан, 19.

**РАБОЧЫ[1]** (15) *м. У знач. наз.* **1.** Прадстаўнік эксплуатуемага класа, працоўны на прамысловым прадпрыемстве. *Учора паднявольны згорблены рабочы і селянін-бедняк, сёння з высока паднятай галавой вольны грамадзянін і будаўнік вялікага Совецкага Саюза.* ШБСЯ. *Баця рыхтуе для сябе "кадры" рабочых..* ПЧ.

**2.** Наёмны работнік. *Калі мы* [сям'я Купалы] *жылі ў Прудзішчах..., у нас служыў рабочы нехта Пасляк..* ПС.

Δ **Пралетарый-рабочы** *гл.* пролетарый.

Адз. Н. *рабочы* (2): ПС; ШБСЯ. Д. *рабочаму*: ПЧ. Мн. Н. *рабочыя*: ШБСЯ. Р. *рабочых* (8): АЛ (2); ПЧ (4); СТ; ШБСЯ. В. *рабочых* (2): ЖН; ПЧ. Т. *рабочымі*: ПЧ.

**РАБОЧЫ**[2] (14) *прым.* **1.** Які складаецца з рабочых. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства, устоі векавечнай цемры, няволі.* ДЖ. *Яго* [стаханаўскі рух] *спарадзіла мудрая палітыка партыі рабочага класа..* СТ. *Параўн.* работніцкі. // Прызначаны для рабочых. *Мы сёння з гордасцюназіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі.. на рост рабочых клубаў, на тысячы ясляй і дзіцячых садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне ..* ШБСЯ. *.. Баця закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ.

**2.** Працоўны, працавіты. *Той, хто з няволі рабочы люд вывеў, новыя вызваліў свету скрыжалі, Той, хто народ абудзіў, ашчасліві́ў, У доміку гэтым убачыў свет Сталін.* СД. *Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым народам свабоды што раз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі.* ДЖ.

Адз. м. Н. *рабочы* (3): ЗЯЗ, 90; НК; ПБН. Р. *рабочага* (2): ДЖ; СТ. В. *рабочы*: СД. Т. *рабочым*: ВГР. ж. Н. *рабочая*: АЛ. Р. *рабочай*: АЛ; *рабочае*: АЛ. М. *рабочай*: Тж, 15. Мн. Р. *рабочых* (2): ПЧ; ШБСЯ. Т. *рабочым*: ДЖ.

**[РАБСКІ]** (2) *прым. да* раб *ў* 1 *знач. .. толькі працуючы пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, .. яна* [інтэлігенцыя] *ня будзе адмецена жыцьцем, як агідная памятка рабскага мінулага.* АЛ. *Аж бліснуў пажар на усходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр, 77.

Адз. н. Р. *рабскага*: АЛ. Мн. Н. *рабскія*: Кр, 77.

**[РАБСТВА]** (9) *н.* **1.** *перан.* Залежнае становішча чалавека. *Бухнула ў Расіі рэвалюцыя. .. Загаманілі аб федэрацыі вызваленых з царскага рабства народаў.* БВ, 16. *Нашу дзівосную Совецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх стагоддзяў рабства і нацыянальнага прыгнечання, трацкісцкія вырадкі хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызма.* ВНЗ.

**2.** *перан.* Палітычна залежнае становішча чалавека. *Такі-ж лёс рабства і гібелі яны* [трацкісцкія дыверсанты] *рыхтавалі нашаму беларускаму народу і нашай Совецкай Беларусі.* ВНЗ. *На беларускай зямлі было і ёсць шмат фальшывых пракрокаў, шмат рэгенацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам..* ПЛП.

Адз. Р. *рабства* (5): АЛ (2); БВ, 16; ВНЗ (2). Д. *рабству*: Ч, 322. В. *рабства* (3): ГП, 8; Н; ПЛП.

**[РАБЫНЯ]** *ж. Жан. да* раб *у* 2 *знач. Няма больш забітай нядоляй рабыні, Заместа прыбітых балесных жанок Стаханаўкі*

*выраслі ў нашай краіне, Іх ведае поле, рабочы станок.* ПБН.

Адз. Р. *рабыні*: ПБН.

**РАГАТКА** (2) *ж.* Прыстасаванне для перагароджвання доступу куды-н. *З неадступнаю нагайкай Едзе, сыпе Налівайка, Едзе з шыкам і няціха, Тут рагатка – што за ліха?* НД. *Вось, матаючы нагайкай Загамоне Налівайка: – Гэй, рагатка, чорт рагаты, Жыва месца дэпутату*. Там жа.

Адз. Н. *рагатка* (2): НД (2).

**РАГАТЫ** *прым.*: ◊ **Чорт рагаты** *гл.* чорт.

Адз. м. Н. *рагаты*: НД.

**РАД** (8) *м.* **1.** Сукупнасць асоб або прадметаў, размешчаных адзін каля аднаго. *На беласьнежны на пасад Усходзе князь, усходзе княжна; За імі слуг пачэсны рад Стаіць задумчыва, суважна.* Кц, 193. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад, – Рака шуміць так у разводзьдзе, Так стогне ў буру сосен рад.* УрП, 49.

**2.** Сукупнасць з'яў, якія ідуць адна за другой. .. *група контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратычных інтэлігентоў .. на працягу раду год вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва ..* АЛ. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год .. як народны поэта, не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму.* Там жа.

Адз. Н. *рад* (2): Кц, 193; УрП, 49. Р. *раду* (3): АЛ (2); $Ш_2$. В. *рад*: ПЧ. Мн. В. *рады*: НКУС. Т. *радамі*: ВМР.

**РАДА** (11) *ж.* **1.** Парада, павучэнне. *Тут рада адна: трэба адцяць доўгіе рукі турка, каб ня псаваў ён хрысьціянскіх дзяцей..* ДК. // Задума, думка. *Сваякі – ўсе і суседзі – Ніхто дома з іх ня ўседзеў, Выйшлі ўсе з аднэю радай – Бараніцца ад нападу.* ГЖУ.

**2.** *Гіст.* Народны сход. *Рада пачала працаваць..* СНБ. *Пачынаюцца выбары да мясцовай Рады.* ВМР.

**Выбары да мясцовай рады.**

◊ **Даць раду** *гл.* даць.

Адз. Н. *рада* (3): ДК; СНБ, 338; СНВ. Р. *рады* (3): ВМР (2); СНБ. В. *раду* (3): Ан, 19; ЛПК; СНБ, 338. Т. *радай*: ГЖУ. Мн. Р. *радаў*: Ч, 322.

**РАДАВАЦЦА** (3) *незак.* Праяўляць радасць, быць у радасным, вясёлым настроі. .. *калі яны* [вершы] *ўносяць сваю долю ў крэпасць дружбы народаў, - дазвольце мне* [Купалу] *радавацца разам з вамі гэтай дружбе вялікай радасцю паэта.* ЖН. *І сёння, праглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў бы сам.* Там жа.

Інф. *радавацца*: ЖН. Абв. цяп. адз. 1 ас. *радуюся*: ЖН. Заг. адз. 2 ас. *радуйся*: Т, 31.

**[РАДАВАЦЬ]** *незак*. Выклікаць радасць. *Слава іх* [бясстрашных людзей] *радуе сэрцы мільёнаў..* СБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *радуе*: СБ.

**РАДАМ** *прысл. Руск.* Побач. *Некалькі быўшых паняў, стоячы радам, прадаюць усялякія хатнія манаткі.* Т, 33.

**РАДАСНА** (3) *прысл. да* радасны *ў* 1 *знач*. *Радасна жыць пад Крэмлёўскімі зорамі, Сталінскай цешыцца ўвагаю, ласкаю.* ДПЛС. *Яшчэ хачу* [Купала] *сказаць словамі Іосіфа Вісарыёнавіча: радасна жыць, весела жыць, весела працаваць.* ЖН. Ч, 321.

**РАДАСНЫ** (18) *прым*. **1.** Які адчувае радасць. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі .. на тысячы ясляй і дзіцячых садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне..* ШБСЯ. // Які выяўляе радасць. *Хай-жа жыве, расце і ўзносіцца ў высь радасная песня ў гонар і славу нашай арміі..* ЖН. *Сеў Данілка, выразае Коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Вб, 238.

**2.** Які выклівае, прыносіць радасць. *Ці-ж можа паэт не адгукнуцца на іх* [папанінцаў] *радасны прыезд, вартымі гэтых вялікіх людзей?* МП. *Мы толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.* БВ, 17. // Якому ўласціва радасць. *І я* [Купала] *ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэспублікі.* ЖН.

Адз. м. Н. *радасны*: ПЛП. В. *радасны* (3): ДПЛС; ЖН; МП. ж. Н. *радасная* (2): ЖН (2). В. *радасную*: БВ, 17. н. Н. *радаснае*: ШБСЯ. Р. *радаснага* (2): АЛ; ВСп, 91. В. *радаснае* (2): ЖН; СТ. Т. *радасным*: ВНЗ. Мн. Н. *радасныя*: ДЖ. Р. *радасных* (2): СЗГ, 252; СС, 301. В. *радасныя* (2): ВГР; Вб, 238.

**РАДАСЦЬ** (29) і **[РАДАСЬЦЬ]** (4) *ж.* **1.** Пачуццё вялікай асалоды, задаволенасці. *Будзеш векі жыці, Зямелька советаў, На радасць, на шчасце Працоўнаму свету.* МПв, 220. *Я* [Купала] *з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру..* ШБСЯ. // Весялосць, трыумф. *Чаму скрозь на Беларусі польскіе ураднікі не спаўняюць загадаў свайго начальства? Што гэта – згавор, або "абяцанка-цацанка, а дурному радасць"?* ОШМ. *Вось гэту вялікую, заслужаную, гордую радасць пераможцаў падзяляем з усімі народамі краіны Советаў і мы, ягоныя пісьменнікі, ягоныя песняры.* ВГР.

**2.** Шчаслівыя падзеі, абставіны. *І наўсцяж краінаю, Радасць услаўляючы, Песні салаўіныя Льюцца несціхаючы.* ПЛ.. *Дык наперад, таварышы, да новых перамог, да новых радасцей, да соцыялізму!* ДЖ.

**Вялікая, гордая радасць.**

Адз. Н. *радасць* (5): ВГР (3); ПСС, 232; ССА, 294. Р. *радасці* (6): Ан, 19; НК; НДп, 229; ПТ, 206; СС, 302; ТП, 216; *радасьці*: Кц, 196. В. *радасць* (10): ВБЛ, 82; ВГР; ГВУ; ЖН; ЗЯЗ, 89; ПБН; ПЛ; СНБ, 340; СС, 301; ТП, 220; *радасьць* (3): БСУ; З; ОШМ. Т. *радасцю* (4): ВГР; ДЖ; ЖН; ШБСЯ. М. *радасці* (2): БрБ, 6; ГП, 8. Мн. Р. *радасцей*: ДЖ. Т. *радасцямі*: НК.

**РАЗДЗІМА** (17) *ж. Тое, што* бацькаўшчына. *Паўстала радзіма, замок Няволі зламала навек, Надзела з пралесак вянок І слёзы сагнала з павек.* ТП, 214. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з калгаса ў калгас пацёк-разліўся стаханаўскі рух нашай радзіме.* СТ. // Месца нараджэння, пражывання каго-н. *І ў гэтыя-ж дні – другая падзея сусветнага значэння: на радзіму вяртаецца гераічная чацвёрка папанінцаў.* МП. *Бясстрашныя сыны вялікага савецкага народа вярнуліся на сваю радзіму.* СБ.

**Радзіма кліча да помсты!**

Δ **Мацер-радзіма** *гл.* мацер. **Радзіма-краіна:** *Народ беларускі, таптаны вякамі, Навекі пабратаўся з шчасцем, Радзіму-краіну ўпрыгожыў садамі, Варожыя знішчыў напасці.* ВВ, 263.

Адз. Н. *радзіма* (3): МПв, 220; РКП; ТП, 214. Р. *радзімы* (9): А, 328; ВГ (2); ВГР (2); МП; СБ; СТ; ТП, 215. В. *радзіму* (4): ВВ, 263; МП; МПв, 218; СБ. М. *радзіме*: СТ.

**[РАДЗІМЫ]** (3) *прым. Паэт. Тое, што* родны *ў* 4 *знач. Годзе нам сілу прыблудаў вялічыць, Дзецьмі, багацьцем радзімай зямлі!* Г, 17. *Радзімым словам у цярпеньні Зьвініць пагудкаю братом, І з пакаленьня ў пакаленьне Перадавае сваяком.* УрП, 50.

Адз. ж. Р. *радзімай*: Г, 17. н. Т. *радзімым*: УрП, 50. Кар. адз. ж. Н. *радзіма*: МП.

**[РАДЗІЦЦА]** *незак. Руск., перан.* З'явіцца, узнікнуць. *Мімаволі родзіцца трывога перад заўтрашнім днём.* РКр.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *родзіцца*: РКр.

**[РАДЗІЦЬ]** (2) *незак.* Даваць ураджай (пра зямлю). *Родзіць буйна наша поле, Сады нашы, агароды..* СА, 182. *.. Землі родзяць ураджайна, Буйней з кожным годам.* НК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *родзіць*: СА, 182. Мн. 3 ас. *родзяць*: НК.

**РАДНЯ** (4) *ж.* Родныя, сваякі. [Мікіта]: *Усё гэта тутэйшыя грата-пэрсоны, меджду протчым, людзі аднолькавага са мной светапогляду і амаль што не аднолькавых рангаў, так што хачу я, каб яны ведалі, што і радня мая не ніжэй стаіць ад іхняй радні.* Т, 22. *Хай ставяць цьвёрдыя запоры Перад навалаю чужой, Глядзяць і моляцца на зоры Усёй раднёй, усёй сям'ёй.* УрП, 50.

Адз. Н. *радня*: Т, 22. Р. *радні* (2): БрБ, 6; Т, 22. Т. *раднёй*: УрП, 50.

**[РАДОК]** (8) *м.* Частка тэксту, надрукаваная ў адну лінію. *Рэдактар закашляўся, пасля кажа: – Будзеш атрымліваць, хлопец, па $4^1/_2$ капейкі ад радка.* Ан, 19. *Я* [Купала] *пераклаў ужо каля пяці тысяч радкоў і мяркую перакласці яшчэ тысяч з пяць.* МП.

Адз. Р. *радка*: Ан, 19. М. *радку*: МП. Мн. Р. *радкоў* (6): Ан, 18, 19 (4); МП.

**РАДЫ** (16) *прым.* **1.** Задаволены. [Мікіта]: *Я вельмі рад, што ўсё ж такі вам, гэр прафэсар, удалося ка мне папасці.* Т, 40. *Будуць рады, татка, мама, Калі падрасту я* [Галінка], *І за Сталіна таксама Я прагаласую.* Вб, 237.

**2.** *у знач. вык. з інф.* Пра жаданне, гатоўнасць зрабіць што-н. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку, Азіраўся назад, А Даніла ўсюды ўперад Выступаці быў рад.* ПСД. *Я* [Купала] .. *рад шчыра далучыць свой подпіс да гэтага* [прынятага на сходзе пісьменнікаў] *сардэчнага прывітання.* ШБСЯ.

◊ **І рад і ня рад –** паняволі, хочаш не хочаш. *Ён* [першы сын] *і рад і ня рад, а пуцця меней штодзень На тэй выбранай сьцежцы, і ные..* Ч, 320.

Адз. м. Н. *рады*: ПТ, 208. Кар. адз. м. Н. *рад* (12): ЖН (3); ПСД; Т, 29, 40, 54 (2), 60; Ч, 320 (2); ШБСЯ. ж. Н. *рада* (2): Т, 53; ХБ, 28. Мн. Н. *рады*: Вб, 327.

**РАДЫЕ** *н.* Радыёпрыёмнік. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР.. аб жудасных кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, забойцаў.* МП.

Адз. Н. *радыё*: МП.

**[РАЁН]** *м.* Частка тэрыторыі як адзінае цэлае ў геаграфічных адносінах. *Краіна ўзгоркаватая, нагадвае некаторыя раёны нашай Беларусі.* ПЧ.

Мн. В. *раёны*: ПЧ.

**РАЗ**[1] (35) *м.* **1.** З колькаснымі лічэбнікамі або без іх абазначае аднакратнасць дзеяння. [Трэці ганец:] *Я абышоў іх* [людзей] *тройчы раз І відзеў, што яны ўсе жывы.* Кц, 195. // З парадкавымі лічэбнікамі ўказвае, каторы раз адбываецца дзеянне. .. *першы раз надрукаваны* [беларускі раман] *"гражданкай", г.ё. рускімі літарамі..* ВСп, 89.

**2.** З прыметнікамі і ўказальнымі займеннікамі ўказвае на час дзеяння ў адносінах да раду падобных. *Але на гэты раз нас цікавяць ня так самые выпадкі нарушэньня дробныміураднікамі распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкаў афарбоўка..* ОШМ. *Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясьніў, .. як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь..* СНБ.

◊ **Іншы раз** (2) – часам, выпадкам. *Векавечна ў руцэ аднэй сонца трымала* [судзьбіна], *Пяруны у другой руцэ мела: Іншы раз ціхім*

*сонцам зямлю абнімала, Іншы раз пярунамі шумела.* Ч, 322. **І раз назаўсёды –** канчаткова, рашуча. *Сёньня..я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды ..парываю з беларускім нацыянал-дэмакратызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.* АЛ. **На разе** – адразу. *Пасьля заняцьця польскімі войскамі Горадня, тамтэйшыя беларусы на разе прасьвятлелі.* СНБ. **Не (ня) раз** (9) – неаднаразова. *Каб яго* [Пасляка] *падбадзёрыць, не раз краў я* [Купала] *ў маці сала або сыр..* ПС. *Мы ня раз даводзілі, што такіе учынкі польскіх ураднікау перш-наперш шкодзяць самому-ж польскаму ураду..* ОШМ. **Раз, два і гатова** – вельмі хутка. [Мікіта]: *Глядзеце.* (*Пераварочвае абразы). Раз, два і гатова.* Т, 48. **Сам-раз** – якраз. *Мой мілы таварыш, мой лётчык, Вазьмі мяне ўрэшце з сабой, Цяпер не малы я ўжо хлопчык – Сам-раз ляцець разам у бой.* ХЛВ, 315. **У другі раз** – калі-небудзь, не цяпер. *..ці польская ўлада павяла ў нашым краі гаспадарку так, як гэтага вымагаюць культурна-нацыянальныя інтарэсы нашай бацькаўшчыны, – аб гэтым у другі раз.* СНБ, 340.

Адз. Н. *раз* (3): ВГ; Кц, 193; Т, 48. Р. *разу*: АЛ. В. *раз* (30): АЛ; ВСп, 89, 90; Кц, 194 (2), 195 (2); МІ, 17; МП; Н; НДп, 229; ОШМ (4); СНБ; СНБ, 340; СЧ; Т, 23, 34, 36, 40; ХЛВ, 315,316; ХХ, 128 (2); Ч, 322 (2); ЧС, 50; $Ш_5$. М. *разе*: СНБ.

**РАЗ²** (5) *прысл.* Аднойчы. *Ужо раз палякі загналі Беларусь у рукі маскоўскага барбара, – ці ня робіцца гэта й цяпер?* ОШМ. *Два дружкі – груган з ваўком Неяк раз сышліся..* Пц. Ан, 18; Н; Т, 29.

**РАЗ³** Ужываецца ў даданых умоўных сказах, у якіх умова абгрунтоўвае тое, аб чым гаворыцца ў галоўным сказе (часта ў адпаведнасці з суадносным “то”). *.. раз ён* [урaднік] *не разумее беларускай мовы, дык і не павінен займаць урадовай пасады на Беларусі..* ОШМ.

**РАЗАБРАЦЦА** *зак.* Усвядоміць. *Каб лягчэй было абхапіць і разабрацца ў тым, што зроблена за такі кароткі працяг часу, якім з’яўляецца адзін год, мы спачатку памяшчаем табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час..* ВСп, 89.

Інф. *разабрацца*: ВСп, 89.

**[РАЗАБРАЦЬ]** (4) *зак.* Разгледзець. *Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў. Але разбяром па парадку.* Нз, 14. [Начальнік]*: Ну, досыць! Пасля разбяром.* Т, 61.

◊ **Хто яго разбярэ** *гл.* хто.

Інф. *разабраць*: СНБ, 338. Абв. буд. адз. 3 ас. *разбярэ*: Т, 45. Мн. 1 ас. *разбяром* (2): Нз, 14; Т, 61.

**РАЗАГНАЦЬ** *зак., перан.* Распусціць. *Як ня выйдуць чорнасотнікі На благое ўсё ахвотнікі, Дый на ўсю моц закрычаць: “Думу трэба разагнаць!”* ВЧ.

Інф. *разагнаць*: ВЧ.

**[РАЗАГНУЦЬ]** *зак.*: ◊ **Разагнуць прыгнутыя спіны** – вызваліцца ад прыгнёту. *Раскажам табе* [Сталіну] *мы* [Савецкай краіны сыны] *праўдзіва быліны Аб тым, .. Як мы разагнулі прыгнутыя спіны, Сагрэтыя чулым прыглядам тваім.* ПБН.

Абв. пр. мн. *разагнулі*: ПБН.

**РАЗАМ** (35) *прысл.* **1.** Сумесна, у сукупнасці з кім-, чым-н. *.. я* [Купала] *шчаслiў, што дажыў тэй пары, калі мая Беларусь разам з усімі рэспублікамі Совецкага Саюза творыць новае шчаслівае жыццё.* ДЖ. *І сёння, праглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў бы сам.* ЖН.

**2.** *Разм.* Адначасова. [Спічыні]: *.. перш чымся араторыць, вы* [Мікіта] *павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну, а не дзве або тры, бо йначай можаце паскаўзнуцца і зваліцца з усіх трох разам.* Т, 41. *Гэткай паняй ясьнела* [судзьбіна] *у хораме зорным Цараўладнай і разам няўладнай..* Ч, 322. БН, 92; Вб, 237; ВС; ВСп, 91; Дз, 188; Ж (2); ЖН (3); З (2); ЗС, 17; М, 20; НК; ПДз; ПДС, 231; ППС (2); ПЧ; СА; Т, 51, 59; ТЗУ, 293 (3); ХЛВ, 315, 316; Ч, 322; $Ш_2$; ШБСЯ.

**[РАЗАРВАЦЦА]** *зак. перан.* Спыніцца. *Есць жа яшчэ ў мяне сэрца, Поўнае шчырых жаданняў, Якое перш разарвецца, Чымся любіць перастане.* ЁЯ.

Абв. буд. адз. 3 ас. *разарвецца*: ЁЯ.

**[РАЗАРВАЦЬ]** *зак.* Разадраць. *Разарваў-бы, здаецца, я грудзі свае, Сэрца-б вырваў і кінуў на ўцеху ўрагом...* БН, 91.

Абв. пр. адз. м. *разарваў*: БН, 91.

**[РАЗАСЛАЦЦА]** *зак., перан.* З’явіцца (пра магчымасць рабіць што-н.). *Толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэволюцыі разаслалася шырокае поле да новых вольных песень, да новых думак.* ЖН.

Абв. пр. адз. н. *разаслалася*: ЖН.

**[РАЗБАЎЛЯЦЬ]** *незак.* Тапіць. *За сабою валочыць* [чараўнік] *патухшыя душы, Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы..* Ч, 325.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *разбаўляе*: Ч, 325.

**[РАЗБЕГЧЫСЯ]** *зак.* Паспешна пакінуць што-н., накіраваўшыся ў розныя бакі. *Як днём начніцы, разбегліся госці, Што з беларуса смакталі кроў ласа.* Мц. 75.

Абв. пр. мн. *разбегліся*: Мц, 75.

**РАЗБЕЖНАСЦЬ** *ж.* Супярэчнасць. *Там чутна: Беларусь! Там – Незалежнасць! А там – “Паўстань пракляццем”... Ну, а мы? Мы ў страху... дум крутня... разбежнасць...* Бч, 19.

Адз. Н. *разбежнасць*: Бч, 19.

**[РАЗБІВАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Разбіваць кайданы** – прыносіць свабоду. *Сурмы зайгралі. Чырвонае войска Горда ідзе, разбівае кайданы.* Мц, 75.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *разбівае*: Мц, 75.

**РАЗБІВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* разбіваць. Расколваючы. .. *абрабляюць глебу сяляне старанна: за баронамі ідуць з адмысловымі даўбежкамі, разбіваючы імі ўсе груды.* ПЧ.

**[РАЗБІРАЦЬ]** *незак. Разм.* Ахопліваць, апаноўваць. [Мікіта]: *Зайздрасць яго* [Янку] *так і разбірае, меджду протчым.* Т, 24.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *разбірае*: Т, 24.

**РАЗБІТЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* разбіць. Расколаты, раструшаны. .. *Звярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку, Хай спаліць мне душу, як ствол разбіты граба..* СМ.

Адз. м. Н. *разбіты*: СМ.

**[РАЗБІЦЦА]** *зак., перан.* Расстроіцца. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня.. разаб'ецца, як аб недаступную скалу, аб магутнасць і з'яднанасць рабочых і калгаснікаў Совецкай Беларусі..* ШБСЯ.

Абв. буд. адз. 3 ас. *разаб'ецца*: ШБСЯ.

**[РАЗБОЙ]** (2) *м. Разм., перан.* Прыцясненне, рабаванне. *Мы ня раз даводзілі, што такіе учынкі польскіхураднікау перш-на-перш шкодзяць самому-ж польскаму ураду, бо што тычыцца беларусау, то – голы разбою не баіцца..* ОШМ. *Параўн.* разбойства.

Адз. Р. *разбою* (2): ОШМ (2).

**[РАЗБОЙНІЦКІ]** *прым., перан.* Прыгнятальніцкі. *Замежны сатрапа судоў не насудзіць, Разбойніцкім ладам не высуша грудзі..* СС, 303.

Адз. м. Т. *разбойніцкім*: СС, 303.

**[РАЗБОЙНІЧЫ]** *прым. Разм., перан.* Агрэсарскі. *З пачуццём найвялікшага гневу я* [Купала] *прачытаў паведамленні ТАСС аб разбойнічым нападзе японскай ваеншчыны на свяшчэнныя граніцы нашай радзімы.* ВГ.

Адз. м. М. *разбойнічым*: ВГ.

**[РАЗБОЙСТВА]** *н. Разм., перан. Тое, што* разбой. *"Антанта", прымаючы пад увагу ўсялякія разбойствы і бясправуі бальшавікоў, прызнала Калчака, Дэнікіна і Юдэніча царамі Расіі і загадала ім адбудаваць вялікую Расію...* Ан, 19.

Мн. В. *разбойствы*: Ан, 19.

**[РАЗБОР]** (4) *м.* **1.** *Разм*. Выбар, адбор. *Чытанне ўсякіх кніжак без разбору .. разбудзіла маю* [Купалы] *фантазію..* А, 328. *Чытаў я* [Купала] *без разбору усё, што трапляла пад рукі ў глухой правінцыі...* ПС.

**2.** Разгляд судовай справы. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць, як то кажуць – "да разбору дзела", цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту бессістэмную куплю-прадажу.* ЗС, 18.

Адз. Р. *разбору* (3): А, 328; ЗС, 18; ПС. В. *разбор*: УПУВ.

**РАЗБОРЧЫВА** *прысл. Руск.* Выразна, зразумела. [Рэдактар:] *І пішаш ты* [хлопец] *разборчыва? Малаграматны прачытае?* Ан, 18.

**[РАЗБУДЗІЦЬ]** (3) *зак., перан.* Абудзіць, актывізаваць. *Чытанне ўсялякіх кніжак без разбору .. разбудзіла маю* [Купалы] *фантазію..* А, 328. *Спаў народ, і ты* [Беларушчына] *спала, і ворагі верылі, Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула на век.* Б, 18.

Абв. пр. адз. ж. *разбудзіла*: А, 328. Буд. адз. 3 ас. *разбудзіць*: Б, 18. Заг. адз. 2 ас. *разбудзі*: Ч, 323.

**[РАЗБУРАЦЬ]** *незак., перан..* Знішчаць; прымушаць распасціся. *Гэта можа пацьвердзіць хоць-бы нацыянальна-культурная палітыка, якая праводзіцца недалёка ад нас – за пагранічнымі слупамі, дзе ня толькі не ствараюць акадэмій, а разбураюць нават беларускія школы, пабудаваныя на апошнія капейкі саміх-жа грамадзян.* ГНД.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *разбураюць*: ГНД.

**РАЗБУРЫЦЬ** *зак.* Узарваць, ператварыць у руіны. *Было два выхады: разбурыць ДЗОТ разам з фашыстамі ці знішчыць фашыстаў разам з ДЗОТам.* ПСп.

Інф. *разбурыць*: ПСп.

**[РАЗБУРЭННЕ]** (2) і **[РАЗБУРЭНЬНЕ]** *н.* **1.** Разруха. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука – яе лапата, яе гарматні пярун.* АБ, 16. *Таргуюцца* [паны гандляры] *за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца, каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку..* Тж, 15.

**2.** *перан.* Разлад. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [соцыял-дэмократы] *разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якое працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй СССР зьлітнымі колёнамі ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ.

Адз. Р. *разбурэння*: АБ, 16. Д. *разбурэньню*: АЛ. М. *разбурэнні*: Тж, 15.

**[РАЗБУШАВАНЫ]** *прым. Разм.* Растрывожаны. *Стагнаў татарын ..украінец, беларус. Стагнала ўся “руская” зямля, шалёна п’яная, разбушаваная, захліпаючыся “чырвоным смехам”, Расійская імперыя..* НДН, 18.

Адз. ж. Н. *разбушаваная*: НДН, 18.

**[РАЗБУШАВАЦЦА]** *зак. Разм., перан.* Усхадзіцца. [Спічыні]: *(ускочыўшы з лаўкі). Пардон! У мяне разбушаваліся нэрвы.* Т, 41.

Абв. пр. мн. *разбушаваліся*: Т, 41.

**[РАЗВАЖАЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Выказваць свае думкі, меркаванні. [Аленка]: *Як вы заўсёды, дзядзька настаўнік, мудра разважаеце, ажно часам страх бярэ!* Т, 35.

**2.** Аддавацца роздумам. *Аб жыцці беспраглядным сваім Разважаю я ў гэтай цішы.* ЧС, 50–51. [Янка]: *Вось мілыя, дарагія госцікі! А я ўсё разважаў, ці прыедзеце сягоння, ці не.* Т, 25.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *разважаю*: ЧС, 50. Мн. 2 ас. *разважаеце*: Т, 35. Пр. адз. м. *разважаў*: Т, 25.

**[РАЗВАЛ]** *м., перан.* Зніштажэнне. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця паднявольнымі народамі, якая зарагэлася вечным жывым агнём пасьля развалу Расійскай самауласнай імпэрыі.. – гэта ідэя сягодня ператварылася у жыцьцё, становіцца жывым дзелам, цьвёрдым фактам.* БСУ.

Адз. Р. *развалу*: БСУ.

**[РАЗВАЛІНА]** *ж. Разм., перан.* Рэштка чаго-н. *Дзякую партыі Леніна-Сталіна, Дзякую Сталіну мудраму, роднаму, Што на Расіі жандармскай развалінах Гору канец палажылі народнаму..* ДПЛС.

Мн. М. *развалінах*: ДПЛС.

**[РАЗВАЛІЦЦА]** *зак., перан.* Разбурыцца. *На шчасце, на радасці ўзлёт Збуцвелы разваліцца тын, Адчыняцца дзверы варот Да працы, да веды вышынь.* ТП, 216.

Абв. буд. адз. 3 ас. *разваліцца*: ТП, 216.

**[РАЗВЕРЗІЦЦА]** *зак. Руск., уст., высок.* Шырока расчыніцца. [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* Т, 28.

Абв. пр. мн. *разверзіся*: Т, 28.

**[РАЗВЕЯЦЦА]** і **[РАЗЬВЕЯЦЦА]** *зак., перан.* Знікнуць, прапасці. *Заглянула сонца Да хат, сутарэнь, Праклятых дзён прошлых Развеяўся цень.* СС, 301. *Сьмейся сьмехам-скавытам вядзьмачым, У віхровым пасьвісьце разьвейся..* См, 91.

Абв. пр. адз. м. *развеяўся*: СС, 301. Заг. адз. 2 ас. *разьвейся*: См, 91.

**[РАЗВЕЯЦЬ]** (2) і **[РАЗЬВЕЯЦЬ]** *зак., перан.* Знішчыць, рассеяць. *Засядаць, панаваць на хватаным багацьці Ня кідае* [другі сын] *за дзьверы надзеі, Хоць мінула даўно яго сьвята па сьвеце, Хоць пасад свой на выдмах разьвеяў.* Ч, 320. *І тысячы сьветычаў сонц залатых Яна* [думка] *разлілася між імі; Развеяла цемру, ўзлячыла сьляпых, Сваё, іх праславіла іме.* ПН, 47.

Абв. пр. адз. м. *разьвеяў*: Ч, 320. ж. *развеяла*: ПН, 47. Буд. адз. 3 ас. *развее*: ВГ.

**РАЗВІВАЦЦА**[1] (2) *незак.* **1.** Знаходзіцца ў працэсе росту, развіцця. *І расейскіе націоналісты, і ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас: лепей ніхай палякі з'ядуць зусім каталікоў-беларусоў, чым беларускаму народу пазволіць развівацца у сваім національным духу.* ВР.

**2.** *перан.* Распаўсюджвацца. *Думка гэта* [аб незалежнасці народаў] *ўжо даўно жыла і развівалася на цэлым свеце..* НДН, 18.

Інф. *развівацца*: ВР. Абв. пр. адз. ж. *развівалася*: НДН, 18.

**[РАЗВІВАЦЦА]**[2] *незак. Руск.* Калыхацца, хваляваца ад ветру. *Я* [Купала] *ганаруся і гарджуся, што.. над маёй хатай .. развіваецца чырвоны непер襲можны сцяг.* ДЖ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *развіваецца*: ДЖ.

**[РАЗВІВАЦЬ]** і **РАЗЬВІВАЦЬ** *незак.* **1.** Даводзіць да высокай ступені развіцця. .. *усе* [народы] *вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць і кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны – Беларусі.* НДН, 19.

**2.** Даваць магчымасць раскрыцца духоўным і разумовым здольнасцям каго-н. .. *трэба .. паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі, загадаўшы ім, прышчапляць вучням любасьць да роднага краю, разьвіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны жывуць..* ДК.

Інф. *разьвіваць*: ДК. Абв. цяп. мн. 3 ас. *развіваюць*: НДН, 19.

**РАЗВІДНІВАЦЬ** *незак., перан.* Знішчаць. *Родныя з пут вызваляці загоны, Сонцам развідніваць мутныя ночы, Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць.* Ф.

Інф. *развідніваць*: Ф.

**[РАЗВІТВАЦЦА]** *незак., перан.* Адмаўляцца ад чаго-н. *У 1890 г. ён* [бацька] *развітваецца часова са становішчам найміта ў маёнтках..* А, 328.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *развітваецца*: А, 328.

**[РАЗВІТЫ]** і **РАЗЬВІТЫ** (2) *прым.* **1.** Які дасягнуў высокай ступені развіцця. *Значна кантрастуе з сельскай гаспадаркай чэхаславацкая прамысловасць, моцна развітая ў краіне.* ПЧ.

**2.** Адукаваны, з шырокім кругаглядам. *Ух-ці! бармоча* [беларускі дзяк], *цалуючыся з сялянамі сваей вёскі, – які не разьвіты народ вы, мужыкі!* З. *Меншчына магла-б быць вельмі багатая і вельмі прыгожая. Але дзеля таго трэба, каб там жылі людзі з разьвітым розумам, ведаючыя і ўмеючыя цаніць хараство.* ХБ, 30.

Адз. м. Н. *разьвіты*: З. Т. *разьвітым*: ХБ, 30. ж. Н. *развітая*: ПЧ.

**[РАЗВІЦЦА]** *зак.* Дасягнуць высокай ступені развіцця. *Наша Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка .. развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН.

Абв. пр. адз. ж. *развілася*: ЖН.

**[РАЗВІЦЦЕ]** (3) і **[РАЗЬВІЦЦЁ]** (3) *н.* Працэс пераходу з аднаго стану ў другі, больш дасканалы. *Да гэтага* [здзеку і паніжэння] *давяла доўгая практыка гістарычнага развіцця народаў і дзяржаў.* НДН, 18. .. *даў* [Беламорска-Балтыйскі водны шлях] *надзвычай вялікія магчымасці для яе* [Карэльскай аўтаномнай рэспублікі] *далейшага бурнага эканамічнага і культурнага развіцця.* ЦСБ.

Адз. Р. *развіцця* (2): НДН, 18; ЦСБ; *разьвіцця* (3): АЛ; ДНСП; СНБ. В. *развіццё*: СТ.

**[РАЗВОДДЗЕ]** і **[РАЗВОДЗЬДЗЕ]** (2) *н.* Вясенні разліў. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад, – Рака шуміць так у разводдзе, Там стогне ў буру сосен рад.* УрП, 49. *.. скрозь.. каля лугоў, што заліваюцца ў разводзьдзе, стаяць вялікія цяжкія калоды.* ХБ, 30.

Адз. В. *разводдзе* УрП, 49; *разводзьдзе* (2): ХБ, 29, 30.

**РАЗВОДЗІЦЬ** (4) *незак. Разм., перан.* **1.** Рабіць, дзейнічаць. *Пастаўленыя намі (як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое разводзіць, што нам цяжка было дыхаць.* БС.

**2.** Весці (пра гаворку). *– Слаўна мы жылі ўдваём, Сыта дні праходзяць, – Так сабе груган з ваўком Гутарку разводзяць.* Пц.

◊ **Разводзіць святло** – даваць пачатак чаму-н. *Не "незалежнасць" праз час гэты Сваё разводзіла святло, А падняволле без прасветы, А рабства Беларусь гняло.* ГП, 8. **Разводзіць падкасьцельную філезофію –** адцягнена і шматслоўна разважаць. *Ха-ха – узяўшыся за бокі разводзіць* [шляхціч] *перад ягамосьцем у "чорным" сваю падкасьцельную філезофію..* З.

Інф. *разводзіць*: БС. Абв. цяп. адз. 3 ас. *разводзіць*: З. Мн. 3 ас. *разводзяць*: Пц. Пр. адз. ж. *разводзіла*: ГП, 8.

**РАЗВУГЛЁНЫ** *прым. Наватв.* Чырвоны, яркі. *.. Краса бье с князеўных зраніц, Як блеск маланак развуглёны.* Кц, 194.

Адз. м. Н. *развуглёны*: Кц, 194.

**[РАЗВЯЗЫВАЦЬ]** *незак. Руск., перан.* Вырашаць. *Калішні расійскі ўрад гэту справу* [зямельнае пытанне] *развязываў вельмі лёгка.* ЗС, 18.

Абв. пр. адз. м. *развязываў*: ЗС, 18.

**[РАЗГАМАНІЦЦА]** *зак. Разм.* Гаворачы, падняць шум. *Так гаварыў прыблуднік ночы, Народ і слухаў і маўчаў, Але як скончыў, люд не змоўчаў: Разгаманіўся, закрычаў..* УрП, 52.

Абв. пр. адз. м. *разгаманіўся*: УрП, 52.

**[РАЗГАРАЦЦА]** *незак., перан.* Узмацняючыся, дасягаць вялікай сілы. *І разгараецца ясьней Паходня радасьці забытай..* Кц, 196.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *разгараецца*: Кц, 196.

**[РАЗГАРНУЦЬ]** (2) *зак.* Арганізаваць што-н. у шырокім маштабе. [Купала:] *Шкадую толькі, што не змагу болей прымаць удзел у вялікім будаўніцтве, якое разгарнула партыя і Сав<ецкая> улада ў БССР.* СЧ. // *Вобразн.* Даць чаму-н. свабодна і поўна праявіцца. *Гэты рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду, але той чалавек, які.. разгарнуў арліныя крыллі вызваленай працы.* СТ.

Абв. пр. адз. м. *разгарнуў*: СТ; ж. *разгарнула*: СЧ.

**РАЗГЛЕДЗЕЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* разгледзецца. Прыгледзеўшыся. [Мікіта]: *.. вы* [Гануля]*, як, напрыклад, только што, не раз-*

*гледзеўшыся дакладна, хто які йдзе, кажаце проста з моста: панечка, меджду протчым!* Т, 34.

**[РАЗГЛЯД]** *м.* Абмеркаванне. .. *праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы..* ВН.

Адз. В. *разгляд*: ВН.

**РАЗГЛЯДАЮЧЫ** (3) *дзеепрысл. да* разглядаць. *Разглядаючы гэты сьпіс (табліцу) мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай ..* ВСп, 89. *Уваходзяць Вучоныя – адзін з аднаго боку, другі з другога, разглядаючы праз свае падзорныя трубы.* Т, 38. Т, 61.

**РАЗГЛЯДАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* разглядацца. *Уваходзяць адначасова з абаіх дзвярэй Усходні вучоны і Заходні вучоны, разглядаючыся: Усходні – праз падзорную палявую трубу, Заходні – праз бінокль..* Т, 25.

**РАЗГОН** (2) *м.* **1.** Рух з пастулова нарастаючай хуткасцю. *Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасьне на яе аграбленые абшары з вялікім разгонам рынуліся з усходу – расійскіе бальшавікі, з захаду – польскіе нацыяналісты.* СНБ.

**2.** *перан*. Раздолле. *Ракочуць гусьлі звон-у-звон, На мір-сьвет розгалас нясецца, Як мір-сьвет, коціцца разгон І ў думцэ казкай раздаецца.* Кц, 197.

Адз. Н. *разгон*: Кц, 197. Т. *разгонам*: СНБ.

**[РАЗГОРТВАЦЦА]** *незак., перан.* Прынімаць шырокі размах. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага социялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне..* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *разгортваецца*: АЛ.

**РАЗГРАМІЦЬ** (2) *зак.* **1.** *перан*. Разваліць, разбурыць. *Яны* [трацкісцкія вырадкі] *хацелі разграміць нашы фабрыкі і цудоўныя калгасы, якія зажылі светлым, радасным сталінскім жыццём.* ВНЗ.

**2.** Разбіць, знішчыць у баі .. *няхай скажа партыя.. і нашы байцы насцігнуць зарваўшагася ворага і разгромяць яго на ўласнай яго зямлі.* ВГ.

Інф. *разграміць*: ВНЗ. Абв. буд. мн. 3 ас. *разгромяць*: ВГ.

**РАЗГУЛ** *м.* Буйна-вясёлае правядзенне часу. *Залопаў крыльлямі пятух, – І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы; Замоўк разгул, агонь патух Старое згасла папяліішчэ.* Кц, 197.

Адз. Н. *разгул*: Кц, 197.

**[РАЗГУЛІВАЦЬ]** *незак*. Разбойнічаць. *Што-ж? – разгулівай сыты чужак, Між забраных крыжоў, курганоў..* ЧС, 50–51.

Заг. адз. 2 ас. *разгулівай*: ЧС, 50.

**[РАЗДАВАЦЦА]** *незак.* Гучаць, чуцца. *Ракочуць гусьлі звон-у-звон, На мір-сьвет розгалас нясецца, Як мір-сьвет, коціцца разгон І ў думцэ казкай раздаецца.* Кц, 197.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *раздаецца*: Кц, 197.

**[РАЗДАВАЦЬ]** (2) *незак.* Размяркоўваць што-н. каму-н. [Янка]: *А што вы тут парабляеце, пане рэгістратар: маркі людзям раздаяце?* [Мікіта]: *Меджду протчым, не раздаю, а прадаю..* Т, 36.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *раздаю*: Т, 36. Мн. 2 ас. *раздаяце*: Т, 36.

**РАЗДАВІЦЬ** *зак., перан.* Знішчыць. *Іх* [троцкісцкіх вырадкаў] *трэба раздавіць*. ВНЗ.

Інф. *раздавіць*: ВНЗ.

**[РАЗДАЦЦА]** *зак.* Прагучаць, пачуцца. *Тут пан як наскочыў, Крукнуў ды гікнуў, і выстрал раздаўся.* Ун, 73.

Абв. пр. адз. м. *раздаўся*: Ун, 73.

**[РАЗДЗЕЦЦА]** *зак. да* раздзявацца. [Мікіта]: *(як госці ўвайшлі і раздзеліся..). Міласці прашу!* Т, 24.

Абв. пр. мн. *раздзеліся*: Т, 24.

**РАЗДОЛЬЛЕ** *н., перан.* Воля, свабода. *Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым, .. Каб бліснулі іскры ў прытухшых вачох І вечнай свабоды раздольле..* Пр.

Адз. Н. *раздольле*: Пр.

**РАЗЛАД** *м.* Адсутнасць адзінства, згоднасці. *Чытанне ўсякіх кніжак без разбору .. разбудзіла маю* [Купалы] *фантазію; у душы маёй заўсёды быў нейкі пякельны разлад.* А, 328.

Адз. Н. *разлад*: А, 328.

**[РАЗЛАЖЫЦЬ]** *зак.* Запаліць, развесці (агонь). [Аўтарнік:] *Цяпер прашу вас адабрацца Ў вянок адборных галасоў: Дзяўчат дванаццаць па дванаццаць І столькі сама дзяцюкоў. Агонь аўтарны разлажыце, Ахвяру небу аддадзім..* УрП, 50.

Заг. мн. 2 ас. *разлажыце*: УрП, 50.

**[РАЗЛІЦЦА]** (3) *зак.* **1.** *перан.* Разнесціся. *І тысячы сьветычаў сонц залатых Яна* [песьня] *разлілася між імі* [людзьмі].. ПН, 47.

**2.** *перан.* Распаўсюдзіцца. *Шырокаю фаляй разлілося морэ вайны па цэлым сьвеці.* РКр.

Абв. пр. адз. ж. *разлілася*: ПН, 47; н. *разлілося*: РКр. Мн. *разліліся*: СНБ, 336.

**[РАЗЛУЧАЦЦА]** *незак., перан.* Адмаўляцца ад чаго-н. [Янка]: *Яны* [Дама, Поп, Спраўнік, Пан], *як праўдзівыя патрыоты, з "царскімі"* [грашыма] *не разлучаюцца.* Т, 38.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *разлучаюцца*: Т, 38.

**[РАЗЛУЧЫЦЦА]** (2) *зак.* Расстацца, перастаць быць разам. *Ты з Заходняй, я з Усходняй Нашай Беларусі, Больш з табою ўжо ніколі Я не разлучуся.* ТЗУ, 293. [Гануля]: *Мы ўжо да вас*

[настаўніка] *так прывыклі, што мне здавалася, ніколі не разлучымся.* Т, 21.

Абв. буд. адз. 1 ас. *разлучуся*: ТЗУ, 293. Мн. 1 ас. *разлучымся*: Т, 21.

**[РАЗЛЯГАЦЦА]** і **[РАЗЬЛЯГАЦЦА]** *незак., перан.* Разносіцца, раздавацца звонкімі пералівістымі гукамі. *Пры апошніх Ганулiных словах пралягаецца за вокнамі на вуліцы харавая песня.* Т, 62. .. *Кожны строіў, наводзіў цябе* [Беларушчыну] *на свой строй, на свой лад; Ажно часам жальба, як кляцьба разьлягалася, Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.* Б, 18.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *разлягаецца*: Т, 62. Пр. адз. ж. *разьлягалася*: Б, 18.

**РАЗМАХ** (5) *м., перан.* Шырыня, прастора. *Сягодня кожны.. адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай бацькаўшчыны!* МІ, 17. *У размаху і велічы соцыялістычнага будаўніцтва ўся грандыёзная ленінская сутнасць нацыянальнай палітыкі нашай партыі.* ШБСЯ.

Адз. Н. *размах*: ГНД. Р. *размаху*: ГНД. В. *размах*: МІ, 17. М. *размаху* (2): ДЖ; ШБСЯ.

**[РАЗМЕР]** і **[РАЗЬМЕР]** *м.* **1.** *Руск.* Памер. *№12. Усяго адна кніжка і тая маленькая, усяго 16 страніц малога разьмеру.* ВСп, 90.

**2.** Ступень развіцця; маштаб якой-н. з'явы. *Наша Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка .. развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН. *Параўн.* розмяр.

Адз. Р. *разьмеру*: ВСп, 90. Мн. Р. *размераў*: ЖН.

**РАЗМНАЖАЦЦА** *незак.* Памнажацца. *Даўно было .. як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз, 17.

Інф. *размнажацца*: Кз, 17.

**[РАЗМОВА]** *ж.* Гутарка. *..польская соймавая камісія была вельмі нездаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыў слова окупацыя.* ОШМ.

Адз. М. *размове*: ОШМ.

**[РАЗНАСТАЙНЫ]** (2) *прым.* Неаднастайны, усялякі. *Надзвычайна багатыя і разнастайныя ўражанні ад гэтай паездкі.* ПЧ. *Вясна пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і сьпеву птушак самых разнастайных парод..* ХБ, 29.

Мн. Н. *разнастайныя*: ПЧ. Р. *разнастайных*: ХБ, 29.

**[РАЗНОСІЦЦА]** *незак.* Распаўсюджвацца, пашырацца. *Хай-жа жыве, расце і ўзносіцца ў высь радасная песня.. у гонар і славу нашых герояў – совецкіх людзей, якіх слава разносіцца па ўсяму свету!* ЖН. *Параўн*. разлівацца.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *разносіцца*: ЖН.

**РАЗНОСІЦЬ** (3) *незак.* **1.** Носячы, дастаўляць кожны прадмет у пэўнае месца. [Гануля]: *Служыў* [Мікіта] *у камісарыяце паліцыі нейкім там разношчыкам; нейкія "пшэпусткі" іхнія ды іншыя дакумэнты разносіў.* Т, 57.

**2.** *Разм., перан.* Распаўсюджваць. .. *сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму* [Богу] *курыць; тысячы з медзі літых званоў хвалу яму разносіць..* Кз, 17. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў..* МП.

Інф. *разносіць*: Кз, 17. Абв. цяп. адз. 3 ас. *разносіць*: МП. Пр. адз. м. *разносіў*: Т, 57.

**РАЗНОСЯЧЫ** *дзеепрысл. да* разносіць *у* 2 *знач. Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сонца, ад зор залатых, Якую пяе уся наша зямля, Аб сейбіту светлы разносячы слых.* СС, 300.

**[РАЗНОШЧЫК]** (4) *м.* Той, хто разносіць што-н. [Спічыні]: *"Паказчык гэтага, Нікіцій Зносілов, служыць у Менскім Камісарыяце паліцыі даношчыкам".* [Мікіта]: *"Разношчыкам", Гэнрых Мотавіч!* [Спічыні]: *Не "разношчыкам", а "даношчыкам"..* Т, 61.

Адз. Т. *разношчыкам* (4): Т, 57, 61 (3).

**[РАЗОРА]** (3) *ж.* Доўгая канаўка на паверхні зямлі, праведзеная плугамі. *Нашы* [беларускія] *сасонкі шумнага бора Далі вам* [людзям чужым] *хаты, Далі загонаў нашых разоры Гонар багаты.* Чж, 146. *Ўспомні* [трэці брат], *выклічы розныя ўсе загаворы І зводзь імі прыблудаў заломы, Што ляглі на твае крывасейна разоры..* Ч, 323.

Мн. Н. *разоры*: Чж, 146. В. *разоры* (2): МД; Ч, 323.

**[РАЗРАХУНАК]** *м. Польск.* Разлік. *А паміж тым, у прадчуваньні рымскіх ласк, Свой разрахунак мерконтыльна зьнізіў І як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80.

Адз. В. *разрахунак*: ВБЛ, 80.

**РАЗРУХА** (2) *ж.* Разрушэнне. *Тая вялікая разруха і тое страшэннае зніштажэнне, выкліканыя вайной, найцяжэй адбіліся на нашай бацькаўшчыне, на нашым полі і на нашых сялібах.* АБ, 16. *Але вось надыйшоў час вялікай усесьветнай рахрухі, час вялікіх змаганьняў за лепшыя ідэалы..* УПУВ.

Адз. Н. *разруха*: АБ, 16. Р. *разрухі*: УПУВ.

**[РАЗРУШЫЦЬ]** *зак. Руск.* Разбурыць. *Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла.* АБ, 16.

Абв. пр. адз. ж. *разрушыла*: АБ, 16.

**РАЗРЫВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* разрываць. *перан.* Раздзелены, раз'яднаны. *Край разрываны ўвесь на часці – Народ аграблены яго – Не ўбараніўся ад напасці І ад пагібелля свайго.* ГП, 8.

Адз. м. Н. *разрываны*: ГП, 8.

**РАЗРЭЗАЦЬ** *зак., перан.* Падзяліць. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.* Нз, 14.

Інф. *разрэзаць*: Кз, 14.

**[РАЗСЬВЕТЛЯЦЬ]** *незак. Разм.* Пазбаўляцца чаго-н. смутнага, бязрадаснага. *"Пара у рукі браць паходні, Уставаць, ісьці, ноч разсьветляець!* ПБП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *разсьветляець*: ПБП.

**[РАЗСТАЙ]** *м. Настатв.* Раздарожжа. [Матка:] *Аставалася адна я, Сын адзін са мною, Як той путнік на разстаю, Летам і зімою.* Дз, 190.

Адз. М. *разстаю*: Дз, 190.

**РАЗУМЕЕЦЦА** (20) *незак. Руск. У знач. пабочн.* Канешне, вядома. *Разумеецца, пакупцамі з'яўляюцца толькі тыя, хто мае вялікія грошы.* ЗС, 18. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах .. павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці, разумеецца, як ужо і зазначана, прапарцыянальна беларускай большасці.* НДН, 19.

Інф. *размееццa* (20): ВМР; ВН; ВСп, 91; ДК (2), ЗС, 18; НДН, 18, 19; ПС; СНБ. 336, 340; СНБ; Т, 20, 34, 36, 40, 44 (2), 50, 53.

**РАЗУМЕЦЬ** (16) *незак.* **1.** Усведамляць, спасцігаць. *За беларускаю сілай пайдуць тые, хто, наогул, ідзе уперад і рухае жыцьцё. Той, хто разумее, дзе жыве..* ВМР. *Сягодня кожны.. адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай бацькаўшчыны!* МІ, 17.

**2.** Ведаць. *.. ён* [ураднік] *не разумее беларускай мовы, дык і не павінен займаць урадовай пасады на Беларусі..* ОШМ.

Інф. *разумець* (3): М, 19; ОШМ; Т, 48. Абв. цяп. адз. 1 ас. *разумею* (3): Т, 27, 36, 52. 3 ас. *разумее* (7): ВМР; Дз, 191; МІ, 17; ОШМ (2); Т, 42 (2). Мн. 2 ас. *разумееце*: Т, 41. Пр. мн. *разумелі*: Кз, 17. Заг. адз. 2 ас. *разумей*: УрП, 46.

**РАЗУМЕЮЧЫ** *дзеепрысл. да* разумець *у* 1 *знач. Чырвонаармеец палажыў набок абломак стрэльбы і паглядае, не разумеючы, у чым справа.* Т, 52.

**РАЗУМНА** *прысл. да* разумны *ў* 2 *знач. Я* [Купала] *раскажу аб слаўных чэкістах.. , аб тым, як яны аддана і разумна будавалі гэты шлях і перавыхоўвалі людзей.* ЦСБ.

**РАЗУМНЫ** (5) *прым.* **1.** Разважлівы, кемлівы, надзелены жыццёвай мудрасцю. [Гарошка]: *Гэты настаўнік добры і дужа разумны чалавек, але трохі галава яго нечым заведзена..* Т, 44. // *У знач. наз. Хіхікаюць дурні, хіхікаюць нягодные. Але чаму-ж разумные і чэсные маучаць?* З.

**2.** Багаты, змястоўны, лагічны. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі .. на тысячы яслей і дзіцячых садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне і рыхтуецца стаць будаўнікамі разумнага і шчаслівага жыцця.* ШБСЯ. *Здавалася, той мэсыянізм, які быў прывіты польскаму народу, у часе яго паднявольля, лепшымі польскімі мысьліцелямі, павінен быў выгадаваць у гэтым народзе штосьці сьветлае, разумнае, што магло-бы служыць прымерам і для другіх быўшых у паднявольлі народаў.* СНБ.

Адз. м. Н. *разумны*: Т, 44. В. *разумны*: ПГ. н. Р. *разумнага* (2): СНБ; ШБСЯ. Мн. Н. *разумные*: З.

**[РАЗЫГРАЦЦА]** *зак.* Усхадзіцца. *Разыграліся гурмай за зданяю здань, Як вужакі ў гаршку мятусяцца яны..* БН, 93.

Абв. пр. мн. *разыграліся*: БН, 93.

**[РАЗЫСЦІСЯ]** (2) *зак. да* разыходзіцца *ў* 2 *знач. Усе, надрукаваныя ўперад сьпеўнікі з нотамі разышліся.. і “Лірнік”, безумоўна, хутка разойдзецца па Беларусі..* ВСп, 90.

Абв. пр. мн. *разышліся*: ВСп, 90. Буд. адз. 3 ас. *разойдзецца*: ВСп, 90.

**[РАЗЫХОДЗІЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Ісці ў розныя бакі. [Аўтарнік:] *Чакай* [народ], *чакай, так не разходзься! Ня трэба слова мне твайго..* УрП, 51.

**2.** *перан.* Рэалізівацца, мець попыт сярод каго-н. *Мае* [Купалы] *кнігі разыходзяцца ў дзесятках і сотнях тысяч экземпляраў..* А, 328.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *разыходзяцца*: А, 328. Заг. адз. 2 ас. *разходзься*: УрП, 51.

**РАЗЬБІРАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* разбіраць. *Разм.* Выбіраючы. *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да вар’яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасьць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК.

**РАЗЬВЕЯЦЦА** *гл.* **РАЗВЕЯЦЦА**.

**РАЗЬВЕЯЦЬ** *гл.* **РАЗВЕЯЦЬ**.

**РАЗЬВІВАЦЬ** *гл.* **РАЗВІВАЦЬ**.

**РАЗЬВІТЫ** *гл.* **[РАЗВІТЫ].**

**[РАЗЬВЯЗ]** *м. Наватв.* Развязванне. *Цяпер бабія ў разьвяз вузелкі, Ўсе з вайной у расходзе мужыкі..* ВБЛ, 83.

Адз. В. *разьвяз*: ВБЛ, 83.

**[РАЗЬЛЕГЧЫСЯ]** *зак., перан.* Раздацца. *І дрогнула Крыўды ўсяўлада, Разьлёгся скрозь кліч пяруновы; Апалі кароны, пасады, З нявольнікаў спалі аковы.* Кр, 77.

Абв. пр. адз. м. *разьлёгся*: Кр, 77.

**[РАЗЬЛІВАЦЦА]** *незак., перан. Тое, што* разносіцца. *“Вясна народаў”, аб каторай так разьліваліся воклікі па цэлым сьвеце, ня была да апошняга часу вясной для буларусау.* БСУ.

Абв. пр. мн. *разьліваліся*: БСУ.

**[РАЗЬЛІК]** *мн., перан.* Узаемныя крыўды, непаразуменні. *Князі, накліканыя намі, Разьлікі між сабой вядуць..* УрП, 48.

В. *разьлікі*: УрП, 48.

**РАЗЬЛІЎ** (3) *м. Вобразн.* Расхваляваныя пачуцці. *Сьветларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліў.* АР. *Песьні рвуцца з трывожных, бунтарных грудзей, Поўны мараў ружовых і сьветлых надзей, І шаўковую гладзь расхвалёваных ніў, Што ўліла мне ў душу адчуваньняў разьліў.* Там жа.

**Адчуваньняў разьліў.**

Адз. Н. *разьліў*: АР. В. *разьліў* (2): АР (2).

**РАЗЬЛЯГАЦЦА** *гл.* **РАЗЛЯГАЦЦА.**

**РАЗЬМЕР** *гл.* **РАЗМЕР.**

**[РАЗЬЯДНАНЬНЕ]** *н.* Раздзел, размежаванне. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян-беднякоў і серадднякоў розных нацыянальнасцяй Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, контр-рэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супроцьставілі лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі, сэпаратысцкага разьяднаньня, нацыянальнага антагонізму..* АЛ.

Адз. Р. *разьяднаньня*: АЛ.

**[РАЗ'ЮШАНЫ]** (5) і **[РАЗЬЮШАНЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* раз'юшыць. Разлютаваны. *Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым народам свабоды штораз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі.* ДЖ. *Мяне* [Купалу] *зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада.. раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма ў Заходняй Беларусі.* ШБСЯ.

**Сярод разьюшаных сатрапаў..**

Адз. ж. Н. *раз'юшаная* (3): ДЖ; ШБСЯ (2). Мн. Р. *раз'юшаных*: НГд, 8; *разьюшаных* (2): РС, 39 (2). Д. *раз'юшаным*: СЗГ, 252. Т. *разьюшанымі*: См, 91.

**[РАЖКА]** *ж. Разм.* Вядро. [Янка]: *(паказваючы на вядро). А гэта што ў вас* [Ганулі] *за такая зацірка ў ражцы?* Т, 54.

Адз. М. *ражцы* Т, 54.

**[РАІЦЬ]** *незак.* Даваць якую-н. параду. [Мікіта і Ануля]: *Што рабіць? Што тут рабіць? Райце, мамзэль Наста!* Т, 59.

Заг. мн. 2 ас. *райце*: Т, 59.

**РАЙ** (4) *м.* **1.** *Рэл.* Месца, дзе знаходзяць шчаслівае існаванне душы праведнікаў пасля смерці. *Ах! што гэта – Раскрылася неба й зямля, Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну..* БН, 91. // Пра месца, дзе можна шчасліва і прывольна жыць. *І давай паміж сабой Гутарыць* [груганы], *хваліцца: – Круму! Круму! Што за рай! Есьць чым пажывіцца!* Гр, 215. // *У параўн.*

*“Родная зямелька! Ты, маўляў, здароўе, – Той цябе ашанцуе, каму безгалоўе, Хто жыў калісь на ніўцы тваёй, як у раю.* ХБ, 28.

**2.** *перан. Іран.* Сацыяльная рэвалюцыя. *Наскольки ёй* [соцыяльнай рэволюцыі] *гэта удаецца – пакажа будучына, але пакуль што усе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, ўсімі сіламі стараюцца адхрысьціцца ад гэтага раю.* СНБ.

Адз. Н. *рай* (2): БН, 91; Гр, 215. Р. *раю*: СНБ. М. *раю*: ХБ, 28.

**РАКА** (10) *ж.* **1.** Прыродны праточны вадаём. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад, – Рака шуміць так у разводзьдзе, Так стогне ў буру сосен рад.* УрП, 49. *Каменні ўстаюць, каб забіць ворага, рэкі выходзяць з берагоў, каб патапіць яго..* РКП. // *У параўн. Плыве шумліва, як рака, Бяседа вольная такая, А ўжо нявідзіма рука На небе поўнач ад’значае.* Кц, 197.

**2.** *У знач. прысл.* Няспынным патокам, шмат. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з калгаса ў калгас пацёк-разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме..* СТ.

Δ **Вуокса-рака** *гл.* Вуокса.

Адз. Н. *рака* (2): Кц, 197; УрП, 49. Т. *ракой*: СТ; *ракою*: БрБ, 6. Мн. Н. *рэкі* (2): РКП; СС, 303. Р. *рэк*: УрП, 48. В. *рэкі* (2): Мц, 75; Нз, 15. Т. *рэкамі*: БВ, 16.

**[РАКАТАЦЬ]** *незак.* Абзывацца дробным раскацістым гулам, звонам. *Ракочуць гусьлі звон-у-звон, На мір-сьвет розгалас нясецца..* Кц, 197.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *ракочуць*: Кц, 197.

**[РАЛЛЯ]** і **[РАЛЬЛЯ]** *ж.* Узараная глеба. *Вялі, пасохшы пад вокнамі кветкі, дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72. *Калісь у гэтым часе, выходзіў селянін у поле і кідаў зерне у сьвежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні.* ДД.

Адз. Р. *раллі*: ВМ, 72. В. *ральлю*: ДД.

**[РАМА]** *ж.* Аправа для ўстаўкі ў яе карцін, партрэтаў. *На сценах у рамах колькі тандэтных абразоў – партрэтаў высокапастаўленых асоб..* Т, 19

Мн. М. *рамах*: Т, 19.

**[РАМАН]** *м.* Літаратурна-мастацкі апавядальны твор са складаным і развітым сюжэтам. *.. трэба адзначыць выхад у сьвет першага беларускага рамана – гэта “Сокі Цаліны” Цішкі Гартнага і “Дудка Беларуская”..* ВСп, 89.

Адз. Р. *рамана*: ВСп, 89.

**[РАМКА]** *ж. перан.* Межы, у якіх адбываецца што-н. *Стары правапіс .. трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ.

Мн. М. *рамках*: ШБСЯ.

**[РАМПА]** (2) *ж*. Невысокі бар'ер уздоўж авансцэны для прыкрывання ад гледачоў прыбораў, асвятляючых сцэну. *З правага боку – бліжэй да рампы – адны дзверы, з левага – двое.* Т, 19. *.. чувацьстук у дзверы з левага боку, што далей ад рампы.* Там жа, 19.

Адз. Р. *рампы* (2): Т, 19 (2).

**[РАМЯ]** *м. Разм.* Рамень. [Мікіта]: *(з абломкам стрэльбы на рамі, напявае).* Т, 53.

Адз. М. *рамі*: Т, 53.

**[РАНА]**[1] (3) *ж.* **1.** Пашкоджанне тканак жывога арганізма. *Загоены раны, сляды ліхалецця, Руінаў, пагромаў, пажарышч сляды.* ПБН. *Над старэйшым братам ставіў* [меншы брат] *Стражы і запоры, Цела ранамі крывавіў, Зьдзекаваўся ў горы.* Дз, 190.

**2.** *перан*. Душэўны боль, пакуты. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі.. Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты, Задаваў вужача Раны непазбыты.* К.

Мн. Н. *раны*: ПБН. В. *раны*: К. Т. *ранамі*: Дз, 190.

**РАНА**[2] (5) *прысл.* **1.** *Тое, што* раніцай. [Мікіта]: *.. У гэтым портфэльчыку .. дакуманты на права ўставаць рана і не ўставаць рана, хадзіць на службу і не хадзіць на службу..* Т, 46 (2).

**2.** Да ўстаноўленага або патрэбнага часу. *Чытаць кнігі я* [Купала] *пачаў рана.* ПС. *Вясна пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і сьпеву птушак самых разнастайных парод..* ХБ, 29.

◊ **Рана ці позна** – тое, што раней ці пазней. *Вераць* [народы] *а шчыра, што рана ці позна, – З Заходу голас іх трапіць да Ўсходу.* ВМ, 72.

**[РАНГ]** (10) *м.* Ступень адрознення, чын, спецыяльнае званне каго-н. [Мікіта]: *Вам* [Янку], *чалавеку без рангаў і клясаў у прошлым і без надзеі на асэсарства ў будучым, пэўна, што ўсё роўна..* Т, 50. [Янка]: *Мне здаецца, пане рэгістратар, што вы так запуталіся ў сваіх рангах, клясах і свабодных профэсіях, што ўжо не здольны да ніякай місіі..* Там жа, 38. *Параўн*. ранга.

Мн. Н. *рангі* (4): Т, 20, 22, 34, 43. Р. *рангаў* (4): Т, 22, 28 (2), 50. Т. *рангамі*: Т, 22. М. *рангах*: Т, 38.

**РАНГА** (6) *ж. Разм. Тое, што* ранг. [Мікіта]: *О, ранга мая асэсарская! О, кляса мая бонтонная, беспардонная!* Т, 42. [Янка]: *Цяпер вам, пане рэгістратар, застаецца толькі прыдумываць новую свабодную профэсію ці новую клясавую рангу.* Там жа, 55.

Адз. Н. *ранга*: Т, 42. Р. *рангі* (2): Т, 39, 46. В. *рангу* (2): Т, 23, 55. Т. *рангай*: Т, 36.

**[РАНГАВЫ]** *прым.* Які адносіцца да рангу. [Мікіта]: *Як істы рускі патрыот, я змушаны пакуль што стаяць тут на варце сваіх рангавых і руска-ісціных інтарэсаў.* Т, 37.

Мн. Р. *рангавых*: Т, 37.

**РАНЕЙ** (9) *прысл.* **1.** Да пэўнага, указанага моманту. [Янка]: *Шкада, што я раней аб гэтым не ведаў.* Т, 20. [Мікіта]: *.. немцы пажарнікаў на работы не бяруць. Ну, вось я і падумаў аб гэтым раней і ўпісаўся ў Менскую пажарную дружыну.* Там жа, 24. ВМР; ЗС, 17; Нз, 14; СНБ, 337.

**2.** Спачатку, найперш. *Брат памёр на тыдзень раней, чым сёстры.* А, 328.

◊ **Раней ці пазней** (2) – калі-н. (пра тое, што абавязкова павінна здарыцца). *А Беларусь .. даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.* Нз, 14. *.. панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго* [земляроба] *рукі..* ЗС, 18. *Параўн.* рана ці позна.

**[РАНЕЙШЫ]** *прым.* Былы, мінулы. *Комуністычная партыя і совецкая ўлада .. за мае ранейшае заслугі перад беларускім працоўным людам надалі мне высокую годнасьць народнага поэты.* АЛ.

Мн. В. *ранейшае*: АЛ.

**[РАНЕНЫ]** (2) *прым.* Які атрымаў раненне. *Раненаго яго* [Грыцько] *атправілі у Маскву.* ПДз. *Вайна вечна трываць не будзе; вернуцца нашы браты і сыны дамоў, можэ некаторые раненые, ня здольные да працы.* РКр.

Адз. м. В. *раненаго*: РДз. Мн. Н. *раненые*: РКр.

**[РАНІЦА]** *ж.* Час сутак ад канца ночы да пачатку дня, першыя гадзіны дня. *– Глыток вады, – Нядьга, запёрта будка. – Глыток вады. – Нам на сям'ю вядро, Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка...* ВБЛ, 80. *Параўн.* ранне.

Адз. Р. *раніцы*: ВБЛ, 80.

**РАНІЦАЙ** *прысл.* У ранішні час, ранішняй парою. [Ганулля]: *Той пакой, дзе жылі вы* [Янка]*, аддалі нейкаму ў скураной жакетцы, – паміж іншым, ён сягоння раніцай ужо выехаў ад нас..* Т, 45. *Параўн.* рана[2] ў 1 знач.

**[РАННЕ]** (3) *н. Разм. Тое, што* раніца. *Сёння што? Ад рання і да рання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158. [Ганулля]: *Можаце гасціць* [Янка] *у мяне хоць кожны дзень ад рання да вечара – мне самой весялей..* Т, 19.

Адз. Р. *рання* (3): СК, 158 (2); Т, 19.

**[РАНЯЦЬ]** *незак.:* ◊ **Крывавы сьлёзкі раняць** (*руск*). – гараваць. *..Хто жыў калісь на ніўцы тваёй* [роднай зямелькі]*, як у раю. І вось крывавы сьлёзкі роніць у чужым краю.* ХБ, 28.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *роніць*: ХБ, 28.

**РАПТАМ** *прысл.* Нечакана, нeспадзявана. *Пайшла* [маці] *ў ягады. Раптам Рынуўся знекуль паніч сумазбродзень, Высыпаў ягады, збіў, клікнуў варту..* Мц, 75. *Параўн.* раптоўна, удруг.

**РАПТОЎНА** *прысл. Тое, што* раптам. *Пасля некалькіх мінут раптоўна ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі..* Т, 43.

**[РА́СА]** *ж.* Група людзей, якая склалася гістарычна на пэўнай тэрыторыі і характарызуецца некаторымі спадчыннымі асаблівасцямі. [Мікіта]: *А ў гэтым, меджду протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, .. інструкцыі аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў, усіх нацый і паднацый..* Т, 46.

Мн. Р. *расаў*: Т, 46.

**[РАСА́]** (6) *ж.* Вадзяныя кроплі на паверхні раслін. *Так гаспадарым мы і дома і за домам, Усё ждучы пацехі з севу і жніва, Ждучы дарма, як летам жджэ расы трава.* НГ. *А вецер гуляе, Абівае росы..* ПТ, 206.

Адз. Р. *расы* (2): Кц, 196; НГ. Т. *расой*: ЧС, 51. М. *расе*: ТП, 214. Мн. Н. *росы*: Ч, 324. В. *росы*: ПТ, 206.

**РАСЕЕЦ** *гл.* **РАСІЕЦ.**

**РАСЕЙСКІ** *гл.* **РАСІЙСКІ.**

**[РАСІЙСКА-НЯМЕЦКІ]** *прым.* Які адносіцца да Расіі і Германіі. *Па ўсім тагачасным расійска-нямецкім фронце былі беларускія палкі, дывізіі і г.д.* БВ, 16.

Адз. м. М. *расійска-нямецкім*: БВ, 16.

**[РАСІЙСКА-ЦАРСКІ]** *прым.* Які адносіцца да царскай Расіі. *Успамінаюцца страшэнна цяжкія варункі працы на беларускай вызваленай ніве ў часе панавання ў нашым краі расійска-царскага самаўласця.* МІ, 17.

Адз. н. Р. *расійска-царскага:* МІ, 17.

**[РАСІЕЦ]** (6) *і разм.* **[РАСЕЕЦ]** (2) *м.* Рускі. *Вызначаюцца дзьве сілы у нашым месьце, каторые распачнуць борку на выбарах. Гэта – палякі і расійцы.* ВМР. *.. калі-ж беларусы.. дамагаюцца правоў для беларушчыны, цёплая "хаўрузія" кажэ: не, вы павінны зрабіцца расейцамі, а ня быць беларусамі!* ВР.

Адз. В. *расійца*: ДК. Мн. Н. *расійцы* (3): ВМР; ДК; З; *расейцы*: ХБ, 28. Р. *расійцаў* (2): ВМР; НДН, 19. Т. *расейцамі*: ВР.

**РАСІЙСКІ** (35) *і разм.* **РАСЕЙСКІ** (8) *прым. Тое, што* рускі[1] ў 1 знач. *Калішні расійскі ўрад гэту справу развязываў вельмі лёгка. Ён беларусаў-хлебаробаў зманіваў за Урал, у Сібір, у Туркестан..* ЗС, 18. [Мікіта]: *Мы цвёрда стаялі на варце святога расейскага самаўладзтва..* Т, 21.

Адз. м. Н. *расійскі* (5): АПЖ; З; ЗС, 18; МІ, 17; УПУВ; *расейскі* (2): ВН; ХБ, 30. Р. *расійскага* (3): ДК; МІ, 17; Нз, 14. Т. *расійскім*: ДЖ. ж. Н. *расійская* (4): ВСп, 90 (2); МІ, 17; НДН, 18; *расейская*: ХБ, 28. Р. *расійскай* (9): БСУ; ДК; З (2); МІ, 17; СНБ, 336 (2); Т, 45, 56. В. *расійскую* (2): ДК; ЗС, 18. Т. *расійскай* (2): ВБЛ, 80; СНБ, 339. М.

*расійскай* (2): ВСп, 89, 90. н. Р. *расійскага* (5): БВ, 16-17; ВН; З; Нз, 14; Т, 21. Мн. Н. *расійскія*: СНБ; *расійскіе*: СНБ; *расейскіе* (3): ВР (3). Р. *расійскіх*: СНБ; *расейскіх*: ХБ, 27. Т. *расейскімі*: ВР.

**[РАСІНА]** *ж.* Кропля якой-н. вадкасці. *Крыві расіны забліщчэлі На чорнай стоптанай зямлі..* УрП, 52.

Мн. Н. *расіны*: УрП, 52.

**[РАСІНКА]** *ж. Памянш. да* расіна. *Заплача ў пагоду канюх па расінцы, – "Забраны край" жаліцца з ім.* ЗК, 42.

Адз. М. *расінцы*: ЗК, 42.

**РАСІЦА** *ж. Памянш. да* раса[2]. [Янка]: *Зялёны бор шлюб нам* [з Аленкай] *даваў, зоркі дружкамі былі, а расіца срабрыстая шлюбныя персцені свянціла.* Т, 53.

Адз. Н. *расіца*: Т, 53.

**[РАСІЦЬ]** *незак. Вобразн.* Пакрываць кроплямі (слёз). *Хай смутак вачэй тваіх* [правадыра] *добрых не росіць Ці не сонейка захад, ці сонейка ўсход...* ТП, 213.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *росіць*: ТП, 213.

**[РАСКАВАНЫ]** (3) і **РАСКОВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* раскаваць. *перан. У знач. прым.* Вызвалены ад прыгнёту, вольны. *Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, .. Што гэткае ўстане жыццё прада мною Маё і маёй раскаванай радзімы..* ТП, 215. *Працай збіраці з зямлі будуць дары Самі сабе раскаваныя людзі.* Ф.

Адз. м. Н. *раскованы*: Кр, 78. ж. Р. *раскаванай* (2): ПДС, 231; ТП, 215. Мн. Н. *раскаваныя*: Ф.

**РАСКАЗАЦЬ** (11) *зак. да* расказваць. *Яшчэ і цяпер старыя людзі раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая I.* БВ, 16 // Апісаць, выкласці пісьмова. *Я* [Купала] *яшчэ не паспеў сістэматызаваць усяго матэрыялу, таму толькі з большага раскажу пра чутае, бачанае.* ПЧ. *Гэтаму з'яўляюцца сведкамі мае творы, аб гэтым раскажуць вам крытыкі.* ДЖ.

Інф. *расказаць*: ДК. Абв. буд. адз. 1 ас. *раскажу* (6): Бц, 73; Д, 73; Ун, 73; ПЧ; ЦСБ (2). 3 ас. *раскажа*: Ф. Мн. 1 ас. *раскажам*: ПБН. 3 ас. *раскажуць* (2): БВ, 16; ДЖ.

**РАСКАЗВАЦЬ** (3) *незак.* Вусна паведамляць пра якія-н. падзеі. [Гануля]: *Але затое татка твой* [Аленкі] *хоць свету пабачыць – пад старасць будзе мець што ўнукам расказваць.* Т, 54. // Пераказваць пачутае. *І вось, ён* [Пасляк] *быў, як мне тады здавалася, надзвычайны майстра расказваць казкі..* ПС. *Расказваў ён* [Пасляк казкі] *захапляюча.* Там жа.

Інф. *расказваць* (2): ПС; Т, 54. Абв. пр. адз. м. *расказваў*: ПС.

**[РАСКАЛУПАЦЬ]** *зак. Разм., перан.* Асэнсаваць; разабрацца ў чым-н. *Кали гэта ўсё чыста перачытаў, добра ў сваих думках*

*раскалупай, каб ня зьбіўся, што чаго и к чаму; людзей слухай и свой розум мей!* СП.

Заг. адз. 2 ас. *раскалупай*: СП.

**[РАСКВІТНЕЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* расквітнець. *Нашу дзівосную Совецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх стагоддзяў рабства і нацыянальнага прыгнечання, трацкісцкія вырадкі хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызма.* ВНЗ.

Адз. ж. В. *расквітнеўшую*: ВНЗ.

**[РАСКВІТНЕЦЬ]** *зак. перан.* Дасягнуць росквіту. *Багата ўраджаем Зямля расквітнела. У будучнасць людзі Узіраюцца смела.* СС, 300.

Абв. пр. адз. ж. *расквітнела*: СС, 300.

**РАСКІДАЦЦА** (2) *незак. Разм., перан.* Не цэнячы чаго-н., дарэмна траціць што-н. *Той, хто разумее, дзе жыве; хто слухае голасу жыцьця і не змагаецца з ім.. – той пойдзе за беларусамі. А беларусы, ведаючы гэта, не павінны раскідацца.* ВМР.

Інф. *раскідацца* (2): ВМР (2).

**[РАСКІДАЦЦА]** *незак. Разм., перан.* Разладжвацца; пераставаць існаваць. [Мікіта]: *А, меджду протчым, нічога не выходзіць: вашы сходкі ці там з'езды раскідаюцца, а саміх на казённы хлеб садзяць.* Т, 21.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *раскідаюцца*: Т, 21.

**РАСКІДАЦЬ** (4) *зак.* **1.** *перан.* Прымусіць распасціся; разагнаць. [Мікіта]: *.. вашы сходкі ці там з'езды раскідаюцца, а саміх на казённы хлеб садзяць. Хэ-хэ-хэ! Раскідаюць – во, і ўсё тут.* [Янка]: *Але, раскідаюць, але! Толькі ж думак нашых і сам люцыпар не раскідае..* Т, 21–22.

**2.** *перан.* Сеяць. *Зрабіць, раскідаць мог ён* [цудадзей] *дзівы, Накінуць чары сяк і так..* УрП, 47.

Інф. *раскідаць*: УрП, 47. Абв. цяп. адз. 3 ас. *раскідае*: Т, 22. Мн. 3 ас. *раскідаюць* (2): Т, 21, 22.

**[РАСКЛАДАЦЬ]** *незак.* Размяшчаць на чым-н. *Гарошка дастае з торбы сваю закуску і раскладае на століку.* Т, 27.

Абв. цяп адз. 3 ас. *раскладае*: Т, 27.

**[РАСКЛАНЬВАЦЦА]** (3) *незак.* Кланяцца (пры сустрэчы і раставанні). *Дама, Поп, Спраўнік, Пан – устаюць, раскланьваюцца і шнурам выходзяць у праціўны бок, з якога прышлі былі.* Т, 38. *Янка і Аленка выходзяць і спатыкаюць на парозе ў напаўбасяцкім абарваным адзенні Даму і Спраўніка, з якімі раскланьваюцца.* Там жа, 57.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *раскланьваюцца* (3): Т, 38, 39, 57.

**[РАСКЛЕЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* расклеіць. Наклееныя ў многіх месцах. *Па ўсіх свабодных мясцох расклееныя па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты, лозунгі, загалоўкі тагачасных газет, плакаты.* Т, 43.

Кар. мн. Н. *расклеены*: Т, 43.

**РАСКОВАНЫ** *гл.* **РАСКАВАНЫ.**

**[РАСКОША]** *ж.* Празмерны дастатак, багацце. [Янка]: *Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас не надзялілі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй.*Т, 35. *Параўн*. роскаш.

Мн. Т. *раскошамі*: Т, 35.

**РАСКРАСЦІ** (2) і **РАСКРАСЬЦІ** *зак. перан.* Крадучы па частках, расцягваць што-н. *Трэці* [сын]*, смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны, Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці: Уздыхае, чакае збаўленчай дзяніны, Не дае, што ня мае, раскрасьці.* Ч, 321. // *перан.* Спустошыць, абрабаваць. *Ідзеш у край, які бязбожна Жыўцом парэзалі на часці, А брат проць брата стаў варожна І памагае край раскрасці.* НГд, 8. *Спрачаліся* [“Gazeta Godziena”] *і “Виленский Вестник” доўга, Як край наш раскрасьці..* Х.

Інф. *раскрасці* (2): НГд, 8; Х; *раскрасьці*: Ч, 321.

**[РАСКРЫТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* раскрыць. *перан*. Зроблены даступным, магчымым для каго-н. *Нам новыя далі раскрыты сягоння, Вялікія сілы сабраны табой* [Сталіным].. ПБН.

Кар. мн. Н. *раскрыты*: ПБН.

**[РАСКРЫЦЦА]** *зак. перан.* Рассунуцца. *Ах! што гэта? – Раскрылася неба й зямля, Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну..* БН, 91.

Абв. пр. адз. ж. *раскрылася*: БН, 91.

**[РАСКУМЕКАЦЬ]** *зак. Разм.* Разабраць. [Начальнік]: *Старыя* [дакумэнты] *потым раскумекаем – давайце* [Мікіта] *новыя.* Т, 60.

Абв. буд. мн. 1 ас. *раскумекаем*: Т, 60.

**[РАСПАДАТЬСЯ]** *незак. Руск.* Падзяляцца на састаўныя часткі. [Усходні вучоны]: *Народность ныне распадается на две родовые ветві: племя – белорусы і племя – тожэ бялорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.* Т, 26. *Параўн*. розкшэвляць сень.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *распадается*: Т, 26.

**[РАСПАЗНАЦЬ]** *зак*. Пазнаць, вызначыць па якіх-н. прыкметах. *Скора сын бацьку, а бацька сыночка Не распазнаюць адзін аднаго..* Н.

Абв. буд. мн. 3 ас. *распазнаюць*: Н.

**[РАСПАЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* распаліць. Напалены. *Хай хлеба вашага кусок распаленым жалезам Абернецца ў ворагавым горле крывасмочым..* ПНд, 314.

Адз. н. Т. *распаленым*: ПНд, 314.

**[РАСПАЛІЦЦА]** *зак*. Моцна ўзрушыцца. *Яны* [зоры] *агністымі іскрамі Ў душы распаляцца, як сталь..* БрБ, 6.

Абв. буд. мн. 3 ас. *распаляцца*: БрБ, 6.

**[РАСПАЛІЦЬ]** (2) *зак. перан.* Запаліць якім-н. жаданнем. [Аленка]: *Скіне сваю дрымоту і душа. Абы толькі гэтыя адзінкі, што ўжо змагаюцца, больш ясных паходняў распалілі і асвяцілі сцежкі для паўстаючай грамады.* Т, 35. *Гудзі пясняр над Беларусяй з краю ў край, У сэрцах спячых распалі пажар..* Пт.

Абв. пр. мн. *распалілі*: Т, 35. Заг адз. 2 ас. *распалі*: Пт.

**[РАСПАЛЯЧЭНЬНЕ]** *н.* Адмаўленне ад польскай мовы і польскай культуры. *Тутака пачалася благая камэдыя: Солоневічы, Ковалюкі, Тепловы і ўся іх "хаўрузія" крычаць аб " распалячэньні" Беларусі..* ВР.

Адз. М. *распалячэньні*: ВР.

**[РАСПАПЕЛІЦЬ]** *зак. Наватв.* Знішчыць. *Зірнеце* [богі рэк, лясоў і ніваў] *міласьцяй сваею, Ўсе моцы вышлеце на бой, Хай распапеляць зла навею Над упадаўшай старaной.* УрП, 48.

Абв. буд. мн. 3 ас. *распапеляць*: УрП, 48.

**РАСПАРАДЖАЦЦА** *незак.* Абыходзіцца якім-н. чынам. [Янка]: *Мы павінны душу нашу народную выявіць у сваім "я", у сваёй самабытнасці і смела сягнуць па сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім "я".* Т, 35.

Інф. *распараджацца*: Т, 35.

**[РАСПАРАДЖЭНЬНЕ]** *н.* Указанне; загад. *Але на гэты раз нас цікавіць ня так самыя выпадкі нарушэньня дробныміураднікамі распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкаў афарбоўка..* ОШМ. *Параўн.* загад.

Мн. Р. *распараджэньняў*: ОШМ.

**РАСПАСЦЕРЦІ** і **[РАСПАСЬЦЕРЦІ]** (2) *зак. да* распасьціраць. *Каб вады гарачай На таго нагрэлі І ня ўстаў ён болей Са сваёй пасьцелі, – Хто над Беларусяй Хоча распасьцерці Свой бізун чужацкі І народ усьмерціць.* К. *Распасьцер сваё усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да краю, па усім нязьмераным сьвеце..* З.

Інф. *распасцерці*: ОШМ; *распасьцерці*: К. Абв. пр. адз. м. *распасьцёр*: З.

**[РАСПАСЦІРАЦЦА]** *незак. перан.* Існаваць. *Там, .. дзе распасціраецца панаванне над часткай Беларусі белага арла, – голад, здзекі, катаванне працоўнага народу, як і за царом Нікалаем.* ЖН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *распасціраецца*: ЖН.

**[РАСПАСЬЦІРАЦЬ]** (3) *перан.* Пашыраць дзейнасць. *І так і гэтак свой прыгон Распасьцірае царства ночы; Салодкі сон, магільны сон Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.* Кц, 197.

◊ **Распасьціраць павучыные, неразблытные сеці** – адурманьваць. *А забабон далей ідзе і распасьцірае свае павучыные, неразблытные сеці, у якіх душыць і вольнага духа, і сьветлую прауду, і сумленьне людзкое.* З.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *распасьцірае* (3): З; Кц, 192, 197.

**[РАСПАЎСЮДЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* распаўсюдзіць. Перададзены многім. *Была зараз жа распаўсюджана вядомая адозва Начальніка Польскай дзяржавы Язэпа Пілсудскага..* СНБ, 340.

Кар. адз. ж. Н. *распаўсюджана*: СНБ, 340.

**[РАСПАЧАТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* распачаць. *Ужо распачата падгатоўчая праца і адбываецца агітацыя.* ВМР.

Кар. адз. ж. Н. *распачата*: ВМР.

**[РАСПАЧАЦЬ]** *зак.* Пачаць. *Вызначаюцца дзьве сілы у нашым месьце, каторые распачнуць борку на выбарах. Гэта – палякі і расійцы.* ВМР.

Абв. буд. мн. 3 ас. *распачнуць*: ВМР.

**[РАСПЛАДЗІЦЦА]** *зак. Разм., перан.* Паявіцца ў вялікай колькасці. *.. калі-ж будуць спаць* [беларусы] *і верыць розным баламутням, іх заклююць тые груганы, каторые у нас за час сну народнаго вельмі распладзіліся!* ВР.

Абв. пр. мн. *распладзіліся*: ВР.

**[РАСПЛАТА]** *ж. перан.* Помста, кара. *І пабачыў ён* [Сталін] *магутны, Сваім вокам ясным, Што надходзіць час расплаты За людзей няшчасных.* ЗЯЗ, 89.

Адз. Р. *расплаты*: ЗЯЗ, 89.

**[РАСПЛЯТАЦЬ]** *незак.* Распускаць што-н. сплеценае. *А вецер гуляе, Абівае росы, Косы расплятае, Мае* [трактарысткі] *русы косы.* ПТ, 206.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *расплятае*: ПТ, 206.

**[РАСПОСТШЭЦЬ СЕНЬ]** *зак. Польск.* Распаўсюдзіцца. [Заходні вучоны]: *На запытанне, як сень далеко распостшэня овэ "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

Абв. пр. адз. н. *распостшэня сень:* Т, 39.

**РАСПРАВА** *ж.* Жорсткае прымяненне сілы, пакарання або прымусу. *Людзкое помсты дух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым, Суд і расправа пачалася Над тым пракорам прыблудным.* УрП, 52.

Адз. Н. *расправа*: УрП, 52.

**[РАСПРАВІЦЦА]** (2) *зак.* Пазбавіцца ад каго-н., знішчыўшы або абясшкодзіўшы. *Слава нашаму Ежову З Ленінграда родам, Што расправіўся, як следна, З дыверсанцкім збродам!* НК. *А калі бальшавікі ўзялі верх, то па-самадзяржаўнаму расправіліся з усімі нацыянальнымі арміямі і усялякімі незалежнасцямі.* БВ, 16.

Абв. пр. адз. м. *расправіўся*: НК. Мн. *расправіліся*: БВ, 16.

**[РАСПРАДАВАЦЦА]** *незак. Разм.* Прадаваць (маёмасць). *Прададзены ўжо .. двор Беларучы ў Менск<ім> павеце, распрадаецца ўразброд вялікі двор Косіна ў Барыс<аўскім> павеце і г.д.* ЗС, 18.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *распрадаецца*: ЗС, 18.

**[РАСПРАЖЫЦЬ]** *зак. Польск.* Распаліць, запаліць якім-н. жаданнем. *Гэткіх думаў сягнуць* [першы брат] *недасягнутых чынаў... Аж сябе сам сабою распражыў: Сонца сэрца яго растапіла, як льдзіну, А душу спапяліла на сажу.* Ч, 324.

Абв. пр. адз. м. *распражыў*: Ч, 324.

**[РАСПРАЦАВАНЫ]** *дзеепрым зал. пр. да* распрацаваць. Падрыхтаваны; усебакова вывучаны. *Бліскуча распрацававананая немцамі спаднічная аперацыя таксама бліскуча правалілася.* ПСп.

Адз. ж. Н. *распрацаваная*: ПСп.

**[РАСПРОСТРАНЯТЬСЯ]** *незак. Руск.* Распаўсюджвацца. [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *распространяется*: Т, 39.

**[РАСПУЦІНЫ]** *толькі мн.* Прыхільнікі Распуціна. [Янка]: *Для вашага* [Мікіты] *гонару падавай вам мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў, Распуцінаў, Афэзаў і ўсяе кампаніі падобных ім..* Т, 49.

Р. *Распуцінаў*: Т, 49.

**[РАСПУШЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* распусціць. Раскрыты, разгорнуты. *Становіцца* [Мікіта] *на лаўцы перад Настай на калені, засланяючы збольшага яе й сябе распушчаным парасонам.* Т, 42.

Адз. м. Т. *распушчаным*: Т, 42.

**РАСПЫТАЦЦА** *зак. Разм.* Пытаючы ў каго-н., даведацца, высветліць што-н. *Перш, чым што зрабіць, абываталь любіць распытацца у людзей і параіцца з суседам..* ВМР.

Інф. *распытацца*: ВМР.

**[РАССАДЖВАЦЦА]** *незак.* Садзіцца, размяшчацца дзе-н. (пра многіх). *Пасля прывітання госці рассаджваюцца і крытычным вокам аглядаюць кватэру.* Т, 24. *Параўн.* рассядацца.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *рассаджваюцца*: Т, 24.

**[РАССЕКАЦЬ]** *незак.* Разбіваць ударам вострага прадмета. *Ямчэй нацягваецца лук, Цэль рассекаюць агнестрэлы, Дрыжыць паўціна і павук. Дрыжыць прыблудак ачарнелы.* Кц, 196.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *рассекаюць*: Кц, 196.

**[РАССТАВАЦЦА]** *незак. перан.* Адмаўляцца ад чаго-н. *З жалейкай кожны хай сваею Не расстаецца на ўвесь век..* УрП, 49.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *расстаецца*: УрП, 49.

**[РАССТРЭЛ]** *м.* Смяротная кара выстралам з агнястрэльнай зброі. *.. спачатку і расстрэлы рэдка былі чутны.* СНБ, 339.

Мн. Н. *расстрэлы*: СНБ, 339.

**[РАССТРЭЛЯНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* расстраляць. *У знач. наз.* Пра застрэленага чалавека. *Курганы сотняў нявінна расстрэляных аб гэтым і цяпер сведчыць.* СНБ, 340.

Мн. Р. *расстрэляных*: СНБ, 340.

**[РАССТУПАЦЦА]** *незак. перан.* Шырока раскрывацца, разыходзіцца ў бакі (пра зямлю). *Каменні ўстаюць, каб забіць ворага, рэкі выходзяць з берагоў, каб патапіць яго, зямля расступаецца, каб праглынуць яго...* РКП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *расступаецца*: РКП.

**[РАССЫЛАЦЬ]** *незак.* Пасылаць, адпраўляць у розныя месцы. *.. начальнікі "вучэбных" вокругаў рассылалі цыркуляры, каб барані Божа народныя настаўнікі не чыталі беларускай газэты "Наша Ніва"..* МІ, 17.

Абв. пр. мн. *рассылалі*: МІ, 17.

**[РАССЫПАЦЦА]** (2) *зак.* **1.** *перан.* Распасціся. *І літаратурна-выдавецкі аддзел рассыпаўся.* СНБ, 339.

**2.** *перан.* Распаўсюдзіцца. *І вось гэтыя сотні тысяч кніг рассыпяцца па ўсёй Беларусі..* ВСп, 91.

Абв. пр. адз. м. *рассыпаўся*: СНБ, 339. Буд. мн. 3 ас. *рассыпяцца*: ВСп, 91.

**[РАССЬВЯТЛЯЦЬ]** *незак. Вобразн.* Даваць пачатак чаму-н. *Багі другіе верх бяруць, Суды вядуць над нашым краем, Сьвяцільні-ж нашы не замруць, Што ў сэрцах вольных рассьветляем.* Кц, 193.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *рассьветляем*: Кц, 193.

**[РАССЯДАЦЦА]** *незак. Тое, што і* рассаджвацца. *Выходзяць* [госці] *з-за стала і рассядаюцца.* Т, 28.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *рассядаюцца*: Т, 28.

**РАСТАПІЦЦА** *зак. Вобразн.* Знікнуць, прапасці. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, .. Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека Даць папас на магільным папасе, І так хэўраю будучых, быўшых адвекаў Расьцьвісьці, растапіцца ў бясчасьсі.* Ч, 325.

Інф. *растапіцца*: Ч, 325.

**[РАСТАПІЦЬ]** *зак. Вобразн.* Расчуліць. *Гэткіх думаў сягнуць* [Другі брат] *недасягнутых чынаў... Аж сябе сам сабою распражыў: Сонца сэрца яго растапіла, як льдзіну, А душу спапяліла на сажу.* Ч, 324.

Абв. пр. адз. н. *растапіла*: Ч, 324.

**РАСТАПТАЦЬ** (4) *зак. перан.* Знішчыць. *Для адбудавання вялікай Польшчы "ад мора да мора" трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама*

*трэба растаптаць Беларусь.* Нз, 14. [Янка]: *.. мы павінны растаптаць, зніштожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе.* Т, 35.

Інф. *растаптаць* (3): МПв, 219; Нз, 14; Т, 35. Абв. буд. адз. 3 ас. *растопча*: АК.

**[РАСТЫЦКАЦЬ]** *зак. Разм., перан.* Размясціць куды-н., парассоўваць. [Мікіта]: *Медждy протчым, мадам-сіньёра, патрымайце пісталеты. Я растыцкаю куды-небудзь пляшкі.* Т, 59.

Абв. буд. адз. 1 ас. *растыцкаю*: Т, 59.

**[РАСХВАЛЁВАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* расхваляваць. *перан.* Які моцна раскалыханы (ад ветру). *Сьветларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліў.* АР.

Мн. Р. *расхвалёваных* (2): АР (2).

**[РАСХВАЛЬВАЦЬ]** *незак.* Празмерна хваліць; высока ацэньваць. *Як водзіцца пры добрым дэмократычным парадку, пускаюцца у дзело агітатары, каторые стараюцца давесьці бацьком, што самая лепшая школа есьць тая, каторую ён, агітатар, расхвальвае.* ДК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *расхвальвае*: ДК.

**[РАСХЛЯПАНЫ]** *прым. Разм.* Гразкі. *Як чорная поліўка, ліліся яго* [пана рэдактара] *буйные сьлёзы на васкаваную падлогу, каціліся за дзьверы на вуліцу, і, як свой с сваім, мешаліся з расхляпаным балотам віленскіх каркаломных брукоў.* ЧЧШ.

Адз. н. Т. *расхляпаным*: ЧЧШ.

**[РАСХОД]** (7) *м.* Выдаткі. *.. грамадзянство, павінна яшчэ так ці іначэй даваць грошы на ваенные расходы.* ВН. *Але як бы казна не была багата, то пры над'звычайных здарэньнях, як напрыклад вайна, голад, патрабуюцца і над'звычайные расходы.* Там жа.

◊ **У расходзе –** не на месцы (быць, знаходзіцца). *Цяпер бабія ў разьвяз вузелкі, Ўсе з вайной у расходзе мужыкі..* ВБЛ, 83.

Адз. М. *расходзе*: ВБЛ, 83. Мн. В. *расходы* (6): ВН (6).

**[РАСХОДЗІСТЫ]** *прым.* Які расносіцца, звініць. *Чую, ах чую цяпер яшчэ ясна Той неўгамонны, расходзісты звон...* Н.

Адз. м. В. *расходзісты*: Н.

**РАСЦІ** (15) і **[РАСЬЦІ]** (4) *незак.* **1.** Станавіцца больш сталым, дарослым. *Я* [Купала] *нарадзіўся і рос у цёмнае царскае ліхалецце..* ЖН. *І расьлі яны, расьлі так Мае* [маткі] *княжэната На багацьце, на прыбытак, На вось тое сьвята..* Дз, 188. // Станавіцца большым, вышэйшым (пра расліны). *.. паглядзеце, якія пышныя дубы растуцьу Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводзьдзе вадою..* ХБ, 29.

**2.** Павялічвацца колькасна. *Дзе вечная пустка была, Там горад пустаў і расце, А стужкай чыгунка лягла, Дзе ўчора стаяў лес яшчэ.*

ТП, 215. *Яшчэ дыміць скрозь пажарышча, Растуць магілы скрозь яшчэ, А на магілах крыўда свішча Ды кроў гарачая цячэ.* ГП, 8. // *перан*. Узмацняцца. *.. мы чакаем таго, каб яна* [польская ўлада] *станоўча зазначыла сваю палітыку на Беларусі, бо час не чакае, нездавальненьне расьце з кожным днём..* ОШМ. *Так расьце нездавольства ў сыноў чарадзея – Ў іх саміх і на іх, на ўсім сьвеце..* Ч, 321.

**3.** *перан*. Удасканальвацца, развівацца. *Вырасла і далей бурна расце індустрыяльна-калгасная Беларусь.* ШБСЯ. *Яе* [Беларусі] *шырокія калгасныя палі буйна рунеюць, яе фабрыкі і заводы растуць і жывуць новым соцыялістычным жыццём.* ЖН.

Інф. *расці*: Кз, 17. Абв. цяп. адз. 3 ас. *расце* (3): ЖН; ТП, 215; ШБСЯ; *расьце* (2): ОШМ; Ч, 321. Мн. 3 ас. *растуць* (5): ГП, 8; ЖН; ПБН; ХБ, 29; ШБСЯ. Пр. адз. м. *рос* (4): ЖН; ПВ; ПДС; Т, 40. ж. *расла*: Т, 40. Мн. *раслі*: ПВ; *расьлі* (2): Дз, 188 (2).

**[РАСЦЯГАЦЬ]** *зак.* Разнесці ў розныя бакі. *Каб гукалі совы Панад вамі, псамі, Косці расцягалі Груганы з ваўкамі.* МПв, 220.

Абв. пр. мн. *расцягалі*: МПв, 220.

**РАСЦЯРЗАЦЬ** *зак. Руск., перан.* Знішчыць. *Табе* [Русі] *такой служыць па гроб Не кіну я, і расцярзаць Не дам дзяржаўнасці "аплот", Цябе, "единую", о, маць!* АПЖ.

Інф. *расцярзаць*: АПЖ.

**РАСЦЯРЭБЛІВАЦЬ** *незак.*: ◊ **Расцярэблівацъ дарогу** – ствараць умовы для дасягнення чаго-н. [Мікіта]: *Мой профэсар гэр Спічыні .. памагае мне расцярэбліваць дарогу да маёй будучай кар'еры ў губарнатарскай канцылярыі.* Т, 48.

Інф. *расцярэблівацъ*: Т, 48.

**РАСЧУЛЕНЫ** *прым*. Прыемна ўсхваляваны. [Янка]: *(расчулены). Дзякую, ад усёй душы дзякую*! Т, 30.

Адз. м. Н. *расчулены*: Т, 30.

**[РАСЧЫСЦІЦЬ]** *зак. перан.* Зрабіць свабодным. *Слава нашаму Ежову, З Ленінграда родам, .. Што шляхі расчысціў у нашым Ясным падарожжы..* НК.

Абв. пр. адз. м. *расчысціў*: НК.

**РАСШЫРАЦЬ** *незак*. Паглыбляць, павялічваць. *Прыпомні, дай слова ня счэзнуці марна, Пачатую справу шырыць, расшыраць!* В.

Інф. *расшыраць*: В.

**РАСШЫРЫЦЬ** *зак*. Пашырыць. [Усходні вучоны]: *Всё жэ прымечается стрэмленіе расшырыць эці граніцы на Запад.* Т, 47. *Параўн*. розшэжыць.

Інф. *расшырыць*: Т, 47.

**[РАСЬКІДАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* раскідаць. *Разм., перан.* Размешчаны на вялікай тэрыторыі далёка адзін ад аднаго. *Раськіданыя гібнуць па ўсім сьвеце Вы Мэсыі чакаеце яшчэ, Жыды..* Ж.

Мн. Н. *раськіданыя*: Ж.

**[РАСЬПІНАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Расьпінаць на крыжы** – мучыць, абяздольваць. *Першы брат ад яе* [судзьбіны] *меў наказ незабыты: – Не здарма быць хацеў царам ночы, І сваіх і чужых расьпінаў на крыжы ты; Крыўдай праўдзе сьмяяўся ў вочы.* Ч, 322.

Абв. пр. адз. м. *расьпінаў*: Ч, 322.

**[РАСЬПЯЦЬ]** *зак.*: ◊ **Расьпяць на крыжу** – расьпінаць на крыжы. *Зьдзекі далей строіць* [меншы сын] *дай-жэ, Ласку с сэрца выжыў: Суд судзіў, што я, не я ўжо, І расьпяў на крыжу.* Дз, 190.

Абв. пр. адз. м. *расьпяў*: Дз, 190.

**[РАСЬСЕЯЦЦА]** *зак. перан.* Знікнуць, прапасці. *Сьмейся сьмехам-сычэньнем праз скрогат Перадсьмертны зубоў і расьсейся Ў гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат!* См, 90.

Заг. адз. 2 ас. *расьсейся*: См, 90.

**РАСЬЦВІСЬЦІ** *зак. Вобразн.* Узмацнець. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, .. Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека Даць папас на магільным папасе, І так хэўраю будучых быўшых адвекаў Расьцвісьці, растапіцца ў бясчасьсі.* Ч, 325.

Інф. *расьцвісьці*: Ч, 325.

**[РАСЬЦВІТАЦЬ]** *незак. перан.* Прыгажэць, харашэць. *Заседала* [матка]*, расьцвітала За гадамі годы; Залатые думкі ткала С шчасьця і свабоды.* Дз, 188.

Абв. пр. адз. ж. *расьцвітала*: Дз, 188.

**РАСЬЦІ** *гл.* **РАСЦІ.**

**[РАСЬЦІЛАЦЦА]** *незак.* Размяшчацца на вялікай прасторы. *Навакола далёка-далёка расьцілаецца раўніна, ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...* ХБ, 29.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *расьцілаецца*: ХБ, 29.

**[РАТАВАННЕ]** *н.* Збаўленне, паратунак. *У нас усё спіць, ніхто не падае голасу, ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з дапамогай дзеля яго адбудавання, дзеля яго ратавання ад галоднай і халоднай смерці.* АБ, 16. *Параўн.* ратунак.

Адз. Р. *ратавання*: АБ, 16.

**РАТАВАЦЬ** (3) *незак.* Пазбаўляць ад якой-н. небяспекі, пагрозы, гібелі; выратоўваць. [Аленка]: *.. у мяне адзін татка на цэлым свеце, павінна ратаваць!* Т, 35. [Ганупя]: *.. (Стукае ў Янкавы дзверы.) Пане настаўнік! Дзядзька беларус! Ратуйце! Немец Мікітку ў палон цягне!* Там жа, 33.

Інф. *ратаваць*: Т, 35. Заг. мн. 2 ас. *ратуйце* (2): Т, 33 (2).

**[РАТУНАК]** (2) *м. Разм. Тое, што* ратаванне. [Мікіта]: *Оеей! Оеей! Як жа яму* [Немцу] *тлумачыць, што я не генэрал, а калежскі рэгістратар? Пашукаю яшчэ ратунку ў слоўніках.* Т, 32. [Мікіта]:

*Аяяй! Аяяй! А ратунку аднекуль, а збаўлення аднекуль. Забярэ* [Немец] *ў палон, у нямецкі палон, і жыві там як хочаш.* Там жа, 32.

Адз. Р. *ратунку* (2): Т, 32 (2).

**[РАТУША]** (2) *ж.* Будынак, дзе размяшчаецца орган самакіравання ў гарадах феадальнай Заходняй Еўропы. *У Прасценаве нас* [дэлегатаў] *ля будынку ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых воклічамі ў гонар СССР..* ПЧ. *Нас* [дэлегатаў] *надзвычай узрушыла адна сустрэча, на абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай.* Там жа.

Адз. Р. *ратушы*: ПЧ. М. *ратушы*: ПЧ.

**[РАУТ]** (2) *м. Уст.* Урачысты, званы вечар, прыём. [Мікіта]: *Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады, а ў мяне во і гатоў маскарадны касцюм.* Т, 24. [Пан]: *Ні маёнткаў, ні бравароў!* [Дама]: *Ні раутаў, ні журфіксаў!..* Там жа, 28.

Мн. Н. *рауты*: Т, 24. Р. *раутаў*: Т, 28.

**РАЎНАПРАЎЕ** (6) *н.* Валоданне роўнымі, аднолькавымі правамі. *І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, – усё гэта будзе абманам.* НДН, 18. [Мікіта]: *Цяпер так: калі конь можа цягаць павозку, то чалавек і пагатове. На тое ж у нас і абсалютная свабода, каб усё жывое мела абсалютнае раўнапраўе.* Т, 45. *Параўн.* роўнасьць.

Адз. Н. *раўнапраўе* (3): НДН, 18; Т, 45 (2). В. *раўнапраўе* (2): З; Т, 45. М. *раўнапраўі*: Т, 46.

**[РАЎНАПРАЎНЫ]** *прым. да* раўнапраўе. *Беларуская мова з пагарджанай і паднявольнай стала раўнапраўнай і дзяржаўнай, як і мовы ўсіх народаў Савецкага Саюза.* ШБСЯ.

Адз. ж. Т. *раўнапраўнай*: ШБСЯ.

**РАЎНІНА** (3) *ж.* Роўная зямная паверхня. *Навакола далёка-далёка расьцілаецца раўніна, ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...* ХБ, 29. *.. на сьцюдзёных галодных раунінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоу сваіх ..* З.

Адз. Н. *раўніна*: ХБ, 29. Мн. Р. *раўнін*: ЗС, 18. М. *раўнінах*: З.

**[РАЎНЯ]** (2) *ж. Разм.* Роўны каму-, чаму-н. *Хочам папросту, каб лепш ручыла Нашым хацінам, нашым палянам, Каб стаць раўнёю славай і сілай Брацьцям-Славянам.* Пп, 5. *Асьвяціў сваё чорнае першы* [брат] *сумленьне Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю, Ў путах сьцюжу трымаць, меці жараў насеньне, Тлець, пылаць над людзьмі, над сабою.* Ч, 324.

Адз. Т. *раўнёю* (2): Пп, 5; Ч, 324.

**[РАХУНАК]** (5) *м.* Дакумент, у якім вызначана сума грошай, якая павінна быць выплачана за што-н. *Трэба стварыць камісію, каторая б аб'ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы, пад-*

*лічыла ўсе страты і падала рахунак. Мы гэты рахунак пашлём усім ваяваўшым і ваюючым на нашай зямлі народам..* АБ, 16.

◊ **У рахунак не йсці** *гл.* ісці.

Адз. В. *рахунак* (5): АБ, 16 (3); НДН, 18; Т, 56.

**[РАЦЫЯНАЛЬНЫ]** *прым.* Разумны, мэтазгодны. *Яго* [краю] *нівы ураджайныя.. пры рацыянальнай гаспадарцы маглі-б карміць вялікае насяленьне.* ХБ, 29–30.

Адз. ж. М. *рацыянальнай*: ХБ, 30.

**РАШУЧА** *прысл.* Катэгарычна. *Сёньня .. я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды.. парываю з беларускім нацыянал-дэмакратызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.* АЛ.

**[РВАЦЦА]** (9) *незак.* **1.** Разрывацца з выбухам. *Дынаміт і порах Запускалі ў дзеле, – На шматкі хай рвецца Народнае цела!* МПв, 219.

**2.** *перан.* Прагна імкнуцца дасягнуць чаго-н. *Хоць за хмараю хмара плыве чарадой Сільней хмар – гэта сонца агні. І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой, Яшчэ раз засьні, не засьні!* ХХ. *Бачыш* [першы брат] *зоры сонца, вясёлае бачыш? З імі рвіся ўсім сэрцам зраўняцца..* Ч, 323.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *рвецца* (2): МПв, 219; СА, 179. Мн. 1 ас. *рвёмся* (2): Пп, 5 (2). 3 ас. *рвуцца* (2): АЛ; ПЛ. Пр. адз. м. *рваўся*: УрП, 47. Заг. адз. 2 ас. *рвіся* (2): ХХ; Ч, 323.

**РВАЦЬ** (7) *незак.* **1.** Разрываць. *Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх* [здані] *у жалезны ржавелы ланцуг, Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.* БН, 92. *Сьмейся сьмехам-скавытам вядзьмачым, У віхровым пасьвісьце разьвейся, І над сьветам разьюшаным, сьпячым, Над жывымі трупамі і плачам Ты лунай, вочы рві сабе ... й сьмейся!* См, 91.

**2.** Кусаць, грызці (пра драпежных жывёл). [Воўк]: *Я з ваўчыцай рву сцягно, Мяса тнём па клоку.* Пц.

**3.** *перан.* Падзяляць. *Хай Вас* [братоў беларусаў] *не палохае, што рвуць нашу зямлю на часці..* ПЛП.

◊ **Рваць кайданы (путы) –** вызваляцца ад прыгнёту. *Брат, поэт! І ты тут – як быллё, ў ланцугох... Дзе свабодны твой дух, што ня рвеш ты кайдан?* БН, 92. *Пазвалі вас* [бальшавікоў] *на пір піроў, Пазвалі вас за волю стаць І далі ўладу путы рваць, І далі ўладу біць цароў..* ПВ.

Інф. *рваць* (2): ПВ; См, 90. Абв. цяп. адз. 1 ас. *рву*: Пц. 2 ас. *рвеш*: БН, 92. 3 ас. *рве*: БН, 92. Мн. 3 ас. *рвуць*: ПЛП. Заг. адз. 2 ас. *рві*: См, 91.

**РДЗЕЦЬ** *гл.* **ІРДЗЕЦЬ.**

**[РЖАВЕЛЫ]** *прым. Разм.* Пакрыты ржой; заржавелы. *І там здань, і тут здань, закружыліся ў круг, Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг..* БН, 92.

Адз. м. В. *ржавелы*: БН: 92.

**[РОБОТ]** *м. Руск., перан.* Пра чалавека, які працуе механічна, падпарадкоўваючыся чужой волі. *Ён* [Баця]*, вядома, не хоча рыхтаваць адукаваных, соцыяльна-свядомых людзей, яму патрэбен чалавек-машына, “робот”.* ПЧ.

Адз. В. *робот*: ПЧ.

**[РОГ]** (4) *м.* Цвёрды выраст з касцявога рэчыва на галаве ў некаторых жывёл. [Янка]: *Бачыў бог, што не даў свінні рог, а рэгістратару панавання.* Т, 48.

◊ **Загнаць у казіны рог** *гл.* загнаць. **Збіць рогі** *гл.* збіць.

Адз. В. *рог* (3): МІ, 17; Т, 48, 57. Мн. В. *рогі*: Т, 56.

**[РОГАТ]** (2) *м.* Гучны, нястрыманы смех. *Сьмейся сьмехамсычэньнем праз скрогат Перад сьмертны зубоў і расьсейся У гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат!* См, 90. // *перан.* Трыумф. *Яшчэ жар-цвет Бунтарскіх дум у вас не згас: Еўропа кліча ў госці вас: Пад рогат Пірравых пабед Саветы кліча на “савет”.* ПВ.

Адз. В. *рогат* (2): ПВ; См, 90.

**РОД** (12) *м.* **1.** Прыналежнасць да пэўнай нацыі, саслоўя. *Чаму ня вызнавалі* [абываталі] *імя яго* [народа] *прылюдна і выракаліся роду свайго дзеля суседзяў?* ВМР. [Янка]: *Не была б* [Аленка] *то мая найздальнейшая вучаніца.* [Аленка]: *Ды яшчэ, як вы казалі, – беларускага роду.* Т, 30.

**2.** *У знач. прысл.* Быць ураджэнцам якой-н. мясцовасці. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны..* А, 327. *Слава сокалу, што родам З-пад Каўкаўскіх скалаў.* СТ.

◊ **Апошні з роду Магіканаў** *гл.* апошні. **Весці род** *гл.* весці. **Высці родам** *гл.* высці.

Адз. Н. *род*: Бч, 9. Р. *роду* (4): ВМР; НГд, 8; Т, 30, 41. В. *род*: УрП, 49. Т. *родам* (6): А, 327; ЗЯЗ, 89; НК; СТ, Т, 20, 31.

**РОДЗІЕ** (7) *н. Тое, што* благародзіе. [Мікіта]: *(.. вітаючыся з гасцямі). Меджду протчым, мадам-сіньёра, цалую ручкі! Іх родзію чэсць!* Т, 58. [Дама]: *У вас, мусье рэгістратар, фасон касцюму, як і ў мяне з іх родзіем, – а ля-ба-сяк.* Там жа, 58.

◊ **Ваша (таварыскае) родзіе –** пачцівы зварот да каго-н: [Мікіта]: *Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце* [Ганулядзя] *– панечка, мадам-сіньёра.. калі з спраўнікам, то – не пан спраўнік, а ваша родзіе...* Т, 22. [Мікіта]: *А як жа, помню, меджду прочым, помню! Хто ад каго не ўцякае? І вы, ваша таварыскае родзіе, уцякалі, меджду протчым.* Т, 60.

Адз. Н. *родзіе* (4): Т, 22, 52, 59, 60. Д. *родзію* (2): Т, 51, 58. Т. *родзіем*: Т, 58.

**[РОДНЕНЬКІ]** *прым. Ласк. да* родны *ў* 1 *знач.* [Гануля]: *Ён* [Мікіта] *жа мае родненькае дзіцё, ды адзін, як той васілёк у жыце.* Т, 20.

Адз. н. Н. *родненькае*: Т, 20.

**[РОДНОЙ]** *прым. Руск. Тое, што* родны *ў 3 знач.* [Усходні вучоны]: *Родной язык – обшчэрусскій, веліколепно усовершенствованный, но с большой прымесью непонятных слов.* Т, 26.

Адз. м. Н. *родной*: Т, 26.

**РОДНЫ** (88) *прым.* **1.** Які знаходзіцца ў кроўнай роднасці па прамой лініі. *Атплацілі роднай матцэ Княжэняты-дзеці: Відмай кінулі бадзяцца, Сіратой гібеці.* Дз, 191. [Ганулья]: *Гэта ж мы блізкія сваякі: твой* [Гарошкі] *дзед і мая бабка былі родныя брат і сястра.* Т, 25.

**2.** *У знач. наз.* Родныя, сваякі. *Вось-жэ усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны .. дружна ісьці да працы на сваіх загонах..* РКр // *У параўн. Шлі дні. І вас* [жыдоў] *у ланцугі скавалі Бязбожны каралі і дэспаты-цары. Адны вас Беларусы шанавалі, Як блізкіх родных – да сьвятлейшае пары.* Ж. *Ён ідзе ўжо ў сям'ю нашу, Наш народ свабодны, Да рэспублікаў совецкіх Як да сваіх родных.* ЗЯЗ, 90.

**3.** Свой па месцы нараджэння. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасьць, пра "гразь, балота і пясок" у Беларусі.* ХБ, 27. *І ніхто з гэтых апекуноў навет і пальцам не кінуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса, каб падбаць аб яго родным краю.* Нз, 15. // *У знач. наз. Тут навет, скажу для прыкладу, недалёка ад Менску, у вёсцы Блонь, каторая калісь належала да двара вядомага расійскага эсэра п. Бонч-Асмалоўскага, сяляне-беларусы не забылі ўсяго свайго роднага.* МІ, 17. *Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую.* Нз, 14. *Параўн.* родной.

**4.** Дарагі, блізкі сэрцу. *Ну, як пры такіх справах, пры такіх перспектывах не захапіцца новай бадзёрай песняй, не запець яе разам з усім родным працоўным калектывам.* ЖН. *У Доме Чырвонай Арміі мы нібы ўбачылі разумны, культурны твар камандзіра нашай роднай Чырвонай Арміі.* ПГ. *Параўн.* радзімы. // (у звароце). Любы, дарагі, мілы. *Спі, пясняр наш родны! Ты жыццё прыгожыў, Аб табе таксама Народ песні зложа.* ПСС, 232. *Родныя мае, яснавокія багатыры! .. абараняйце сваю зямлю, .. не давайце літасці ворагу!..* РКП.

Адз. м. Н. *родны* (5): НК; ПНд, 314; ПД, 83; ПДС, 232; СС, 302. Р. *роднага* (7): ДК; ДПЛС; Н; НДП, 229; Т, 55; ХБ, 27, 30. Д. *роднаму*: ДПЛС. В. *родны* (5): ЁЯ; ЗС, 18; КЧ; Т, 49; ХЛВ, 316. Т. *родным* (2): ЖН; ХБ, 27. М. *родным* (3): НГ; Нз, 14, 15. ж. Н. *родная* (4): ВР; ЛР; ПБН; ХБ, 28. Р. *роднай* (13): ВР (2); ЗК, 42; К (2); М, 19, 20; ПГ; Пп, 5;

Т, 20, 38; ЧС, 51 (2); *роднае* (2): МІ, 17; ПСС, 232. Д. *роднай* (4): А, 328; Дз, 191; М, 20; ТП, 217. В. *родную* (3): БрБ, 6; ЗС, 18; ОШМ. Т. *роднай* (4): БН, 92; ПБН; Ч, 319; ШБСЯ. М. *роднай* (6): АПЖ; ВР (2); ЧС, 50; ЧЧШ; ШБСЯ. н. Р. *роднага* (3): МІ, 17; Нз, 14; Т, 35. Д. *роднаму*: Н. В. *роднае*: МІ, 17. Мн. Н. *родныя* (5): Б, 19; Н; РКП; Т, 25, 33; *родные*: Дз, 189. Р. *родных* (7): БВ, 16 (2); Бч, 9; Ж; ЗЯЗ, 90; ХЛВ; ХБ, 28. В. *родныя* (3): Т, 44; Ф; Ч, 323. Т. *роднымі*: РКр. М. *родных* (3): ЗК, 42; ПНд, 314 (2). Кар. адз. ж. В. *родну* (3): ББ (2); ПСД. Мн. Н. *родны*: Дз, 189. В. *родны*: ГЖУ.

**[РОДОВОЙ]** *прым. Руск., перан.* Блізкі, роднасны. [Усходні вучоны]: *Народность ныне распадается на две родовыя ветві: племя – белорусы і племя – тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.* Т, 26. *Параўн*. родовы.

Мн. В. *родовыя*: Т, 26.

**[РОДОВЫ]** *прым. Польск. Тое, што* родовой. [Заходні вучоны]: *Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэнзі родовэ: племен бялорусінув і племен тэж-бялорусінув з походзэня рэнэгатув і дэгэнэратув.* Т, 26.

Мн. В. *родовэ*: Т, 26.

**[РОЗ]** *м.* Раз. [Спічыні]: *Паложым, пры чым тут мая навука, калі вы* [Мікіта] *самі пераблуталі! “до” з “роз’ам”. А можа, вы й не пераблуталі?* [Мікіта]: *Увесь Менск ведае, што я служыў разношчыкам, а не даношчыкам.* Т, 61.

Адз. Т. *роз’ам*: Т, 61.

**РОЗГАЛАС** (3) *м. Абл.* Рэха, адгалоскі. *Ракочуць гусьлі звон-узвон. На мір-сьвет розгалас нясецца..* Кц, 197. *І стала так, як старац гэты Сказаў пакорнай грамадзе, – Аўтар заняўся перасьветам, Аж песьні розгалас ідзе.* УрП, 51.

Адз. Н. *розгалас* (3): Кц, 197; УрП, 51, 52.

**[РОЗКШЭВЯЦЬ СЕНЬ]** *незак. Польск Тое, што* распадаться. [Заходні вучоны]: *Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэнзі родовэ..* Т, 26.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *розкшэвя сень*: Т, 26.

**[РОЗМЯР]** *м. Польск.* Памер, працягласць чаго-н. [Заходні вучоны]: *Падчас бадання тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкен провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

Мн. М. *розмярах*: Т, 39.

**[РОЗНІЦА]** *ж.* Адрозненне ў чым-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, не раздаю* [маркі]*, а прадаю, а гэта вялікія дзве розніцы.* Т, 36.

Мн. Н. *розніцы*: Т, 36.

**РАЗНОСІЦЕЛЬ** (2) *м. Руск. Тое, што* разношчык. [Спічыні]: *Пазвольце, таварыш, я прачытаю. (Чытае.) "Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі службы пшы Комісарыяце паліцыі мяста Мінска, яко "доносіцель".* [Мікіта]: *"Яко розносіцель", Гэнрых Монтавіч!* Т, 61.

Адз. Н. *розносіцель* (2): Т, 61 (2).

**[РОЗНЫ]** (15) *прым.* **1.** Неаднолькавы, непадобны. *Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя і бяднейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі, і сягоння яны паміж сабой нічога супольнага не маюць.* Нз, 14.

**2.** Разнастайны. *На Украіне таксама паўстала ўкраінскае войска, каторае, перайшоўшы розныя цяжкія варункі свайго бытавання, сягоння змагаецца за незалежнасць Украіны з маскоўскім наездам – з бальшавікамі і дзянікінцамі.* БВ, 16. *.. яны* [беларусы] *могуць дабіцца свайго; калі-ж будуць спаць і верыць розным баламутням, іх заклююць тые груганы, каторые у нас за час сну народнага вельмі расплодзіліся!* ВР.

◊ **Гаварыць рознымі языкамі** *гл.* гаварыць. **Рознага калібру** *гл.* калібр.

Адз. м. Р. *рознага* (3): ВСп, 89, 91; Т, 33. Мн. Р. *розных* (5); АЛ; ВСп, 89 (4). Мн. Д. *розным*: ВР. В. *розных*: Т, 25; *розныя*: БВ, 16. Т. *рознымі* (2): Нз, 14; СНБ, 336. М. *розных*: Т, 46. Кар. мн. В. *розны*: ВР.

**[РОЗПРАВА]** *ж. Польск.* Трактат; навуковы твор. [Заходні вучоны]: *.. вбрэв гісторычным, еографічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.* Т, 26.

Мн. Д. *розправом*: Т, 26.

**[РОЗУМ]** (8) *м.* **1.** Вышэйшая ступень пазнавальнай дзейнасці чалавека, здольнасць лагічна мысліць, асэнсоўваць навакольную рэчаіснасць. *.. мы верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і паруліцца зрабіць усё, што вымагае ад яго дзяржаўная мудрасць, справядлівасць і яго уласны інтарэс..* ОШМ. *Меншчына магла-б быць вельмі багатая і вельмі прыгожая. А дзеля таго трэба, каб там жылі людзі з разьвітым розумам, ведаючыя і ўмеючыя цаніць хараство.* ХБ, 30.

**2.** Здольнасць мысліць, разумець. *Парабкам пану служыў я* [бацька] *з дзён малку, Розум і сілы свае абязвечыў..* Бц, 74. *Кали гэта ўсё чыста парачытаў, добра ў сваих думках раскалупай, каб ня зьбіўся, што да чаго и к чаму; людзей слухай и свой розум мей!* СП.

◊ **Пайсці па розум да галавы** *гл.* пайсці. **Убрацца ў розум** *гл.* убрацца.

Адз. Р. *розуму*: ВСп, 89. В. *розум* (6): Бч, 10; Бц, 74; М, 20; ОШМ; СП; Т, 20. Т. *розумам*: ХБ, 30.

**[РОЗШЭЖЫЦЬ]** *зак. Польск. Тое, што* расшырыць. [Заходні вучоны]: *Еднак, спостшэга сень донжэне розшэжыць овэ граніцэ на Всхуд.* Т, 47.

Інф. *розшэжыць*: Т, 47.

**[РОЗШЭЖЭНЕ]** *н. Польск*. Пашырэнне. [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон* [беларусы] *і мажыць собе не жычон..* Т, 47.

Адз. М. *розшэжэню*: Т, 47.

**[РОЗЬНІЦЦА]** (2) *незак. Разм.* Адрозніваецца. *Розьнімся мы* [сацыял-дэмакраты] *ад іншых добрых людзей толькі тым, што мы беларусы.* ДК. *Аказываецца мэтоды дзяржаўнай гаспадаркі польскіх эндэкаў мала чым розьняцца ад мэтодаў расійскіх бальшавікоў.* СНБ.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *розьнімся*: ДК. 3 ас. *розьняцца*: СНБ.

**РОЙ** (3) *м.* **1.** Сям'я пчол. *У параўн*. *Як ачысцілі ваякі Край ад ворага свой, Важна ехалі дадому, Як тых пчол буйных рой*. ПСД. *Думы цяжкія роем снуюць, Капашацца чмяльмі ў галаве..* ЧС, 51.

**2.** *перан*. Мноства, вялікая колькасць каго-н., чаго-н. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад, – Рака шуміць так у разводзьдзе. Так стогне ў буру сосен рад.* УрП, 49.

Адз. Н. *рой* (2): ПСД; УрП, 49. Т. *роем*: ЧС, 51.

**РОЙНА** *прысл. Разм.* У вялікай колькасці. *Хоць сохі, хоць косы гуляць там ройна, – Ня поймеш аткуль узялісь; Людзей запытаем, – аткажуць спакойна: "Забраны край" гэты калісь*. ЗК, 42.

**[РОЙНЫ]** *прым. перан.* Поўны. *Мая песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандадытаў У Совет Вярхоўны.* НК.

Адз. ж. Т. *ройнай*: НК.

**[РОЛЯ]** (3). *ж.* Значэнне ў якой-н. справе. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і арганізатара контр-рэвалюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму узяў на сябе беларускі нацыянал-дэмакратызм.* АЛ.

◊ **Адыграць ролю** *гл.* адыграць.

Адз. В. *ролю* (3): АЛ (3).

**[РОСКАШ]** (3) *ж. Руск. Тое, што* раскоша. *Прамінулі дзянькі Роскашы вясёлай, – Уцякалі панкі З нашых ніваў, сёлаў.* ПД. [Гануля]: *I вось з усяёй .. роскашы засталася толькі балалайка..* Т, 45.

Адз. Р. *роскашы* (3): ПД; Т, 40, 45.

**РОСКВІТ** (7) *м. перан.* Найвышэйшая ступень развіцця, уздыму чаго-н. *У Савецкай Беларусі росквіт культуры такі магутны, пра які я* [Купала] *і не мог сніць у дарэвалюцыйныя часы.* А, 328. *Мінулы 1922 год быў самым ураджайным годам у справе росквіту беларускага друкаванага слова.* ВСп, 89.

Адз. Н. *росквіт* (4): А, 328; ДЖ; ЖН; ШБСЯ. Р. *росквіту* (2): ВСп, 89; СТ. Т. *росквітам*: А, 328.

**[РОСТ]** *м. перан.* Павелічэнне колькасці. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі .. на дасягненні нашай мастацкай літаратуры, нашых тэатраў, нашай кінематаграфіі, на рост рабочых клубаў..* ШБСЯ.

Адз. В. *рост*: ШБСЯ.

**[РОТА]** *ж.* Вайсковае падраздзяленне, якое ўваходзіць у склад батальёна. *Ў час ляоянскай битвы афицэр камандаваў ротаю и жыў з жонкаю и дачкою ў китайским доме (фаизе).* ПДз.

Адз. Т. *ротаю*: ПДз.

**[РОЎ]** *м.* Канава; доўгае паглыбленне, выкапанае ў зямлі. *– Глыток вады. – Нельга, запёрта будка. – Глыток вады, – Нам на сям'ю вядро, Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка... – А нашая чарга во ў гэты чорны роў?* ВБЛ, 80.

Адз. В. *роў*: ВБЛ, 80.

**РОЎНА** (12) *прысл.* ◊ **Усё роўна як** *гл.* увесь.

Т, 34, 37, 43, 50 (2), 54, 56 (3), 61, 62 (2).

**[РОЎНАСЦЬ]** (2) і **[РОЎНАСЬЦЬ]** *ж. Тое, што* раўнапраўе. *Хай жа гэтая думка, што мы будуем сваю Бацькаўшчыну ня толькі для сягодняшняга бурлівага часу, але і для будучых прыхільнейшых вякоў, павядзе нас "к свабодзе, роунасьці і знаньню".* БСУ. *Тыя шчыра дэмакратычныя думкі.. аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай, найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН, 19.

Адз. Р. *роўнасьці*: СНБ. Д. *роўнасьці*: БСУ. М. *роўнасці*: НДН, 19.

**РОЎНЫ** (18) *прым.* **1.** Прамы, без выгібаў. *.. роўныя сосны стаяць бы колёны гішпанскага храма.* ХБ, 29.

**2.** Падобны. *.. няма роўнага таму здрадніцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкісцкіх нягоднікаў..* ВНЗ.

**3.** Раўнапраўны. *Стаўшы самі нараўне паміж усіх народаў, Мы* [беларусы] *зможам ім сказаць: ідзём з вамі "як роўны з роўным".* БСУ. *Усе* [народы] *роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам..* НДН, 19.

Адз. м. Н. *роўны* (5): БВ, 17; БСУ; СНБ (2); Т, 53. Р. *роўнага*: ВНЗ. Т. *роўным* (5): БВ, 17; БСУ; СНБ (2); Т, 53. ж. Р. *роўнай* (2): НДН, 19 (2). Мн. Н. *роўныя* (4): НДН, 19 (3); ХБ, 29. Р. *роўных*: УПУВ.

**[РУБЕЖ]** (5) *м.* **1.** *перан.* Грань, мяжа. *Наша Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка, як бы фарпост на рубяжы двух социяльных сістэм – развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН.

**2.** Дзяржаўная граніца. *.. разам са сваёй роднай Чырвонай арміяй грозна стаяць* [рабочыя і калгаснікі] *на варце заходняга рубяжа Совецкага Саюза.* ШБСЯ. *І мірныя людзі – іх сотні імёнаў – Вартуюць нядрэнна свае рубяжы.* ПБН.

**3.** Лінія абаронных збудаванняў. *Калі ён* [Варашылаў]*, бывала, да нас на манеўры Прыедзе агледзець капцы, рубяжы, – О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!* НДп, 229.

Адз. Р. *рубяжа*: ШБСЯ. М. *рубяжы*: ЖН. Мн. В. *рубяжы* (3): НДп, 229; ПБН; ТП, 217.

**[РУБЕЛЬ]** (12) *м.* Металічны або папяровы знак роўны 100 капейкам, які служыць мерай вартасці пры куплі-прадажы. ... *расейскі урад у сваім часе шмат зьбіраў (каля тысячы мільёнаў рубл.<ёў>) налогаў з акцызу на гарэлку.* ВН. *Ён* [рэдактар] *прачытаў* [рукапіс]*, даў 3 рублі і 27 капеек задатку..* Ан, 19. // Грошы. .. *паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17. [Мікіта]: *Ад заўтрашняга дня.. буду на Койданаўскай вуліцы гандляваць нямецкімі рублямі.* Т, 33.

Мн. Р. *рублёў* (3): Ан, 19; ВН; Тж. 15; *р<ублёў>:* ВН; *руб<лёў>* (2): УП (2); *рубл<ёў>*: ВН. В. *рублі* (4): Ан, 19 (2); ЗС, 17; Т, 33. Т. *рублямі*: Т, 33.

**РУЖОВЫ** (2) *прым.* **1.** Светла-чырвонага колеру. *Шумяць аб іх* [адважных героях] *долі кашлатыя хвоі, Ды верас ружовы іх славіць паход.* ПБН.

**2.** *перан.* Нічым не азмрочаны, радасны, светлы. *Песьні рвуцца з трывожных, бунтарных грудзей, Поўны мараў ружовых і сьветлых надзей..* АР.

Адз. м. Н. *ружовы*: ПБН. Мн. Р. *ружовых*: АР.

**[РУІНА]** (4) *звыч. мн.* Рэшткі разбуранага збудавання, паселішча. *І калі цяпер.. прыступілі к адбудове ваенных руін, – у нашым краю .. нічога аб гэтым не чуваць, нічога не робіцца..* АБ, 16. *Загоены раны, сляды ліхалеццяў, Руінаў, пагромаў, пажарышч сляды.* ПБН. // *Вобразн.* Старое, аджыўшае. .. *пралетарыят усё старое ніштожыць і на руінах гэтага старога будуе новае соцыялістычнае існаваньне..* АЛ.

◊ **Устаць з руін** *гл.* устаць.

Мн. Р. *руін* (2): АБ, 16; ПВ; *руінаў*: ПБН. М. *руінах*: АЛ.

**РУКА** (104) *ж.* **1.** Верхняя канечнасць чалавека ад плечавога сустава да канца пальцаў. *Мікіта, адступіўшы колькі крокаў назад, выцягвае ўверх рукі.* Т, 59. *А быў другі* [ганец] *і з ног, і з рук, Як гром з жывымі пярунамі..* Кц, 194. // Кісць. *Газэта вываліся ў мяне* [хлопца] *з рук.* Ан, 19. *Ігнат Булава з падзякай пацiснуў ім* [падрыўнікам атрада] *рукі.* ППС.

**2.** Верхняя канечнасць чалавека як прылада працы. [Аленка]: .. *З нашага лёну гэта кашуля і з нашай воўны гэты пояс. А сама я ўласнымі рукамі ад шчырага сэрца для вас выткала і вышыла.* Т, 30.

**3.** *толькі мн.* Сілы, намаганні. *Сягоння ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі..* МІ, 17. *Ты* [беларуская моладзь] *сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і святлейшую будучыну.* Там жа, 18.

**4.** Пра краіну, чалавека, як уладу над кім-н., як уладальніка чаго-н. *.. рукою яе* [Польшчы] *цяперашняга Гаспадара Язэпа Пілсудскага вырвана ад маскалёў Вільня..* УПУВ. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі..* ЗС, 18. // *Вобразн*. Нябесныя сілы. *Плыве шумліва, як рака, Бяседа вольная такая, А ўжо нявідзіма рука На небе поўнач адзначае.* Кц, 194.

**5.** *перан*. Ужываецца для абазначэння ўласцівасці і якасці характару чалавека. *Жалезнай рукой вы* [Ежоў] *грамілі і граміце змяіныя гнёзды трацкісцкай, бухарынскай і нацыянал-фашыстцкай контррэволюцыі..* НКУС. *Мы самі сведкамі таго, што кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты зарунелі на нашых вачах буйнай квяцістай руняй..* ПЛП.

**На ўсе рукі.**

• **Народная рука –** народ. *Дакуль свайго не здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк не сьцягне і лістка.* УрП, 50.

◊ **Адцяць доўгіе рукі** *гл.* адцяць. **Апускаць (апушчаць) рукі** *гл.* апускаць. **Браць у свае рукі** *гл.* браць. **Выпусціць з рук** *гл.* выпусціць. **Загнаць у рукі** *гл.* загнаць. **Звязаны рукі і ногі** *гл.* звязаны. **Злажыўшы рукі** *гл.* злажыўшы. **Ламаць рукі** *гл.* ламаць. **Лезці ў рукі** *гл.* лезці. **Ломячы рукі** *гл.* ломячы. **Махнуць рукой** *гл.* махнуць. **На руку –** выгадна, зручна з чыімі-н. інтарэсамі. *Яны* [паны абшарнікі] *не чакаюць варункаў нармальных, варункаў грамадзянска-палітычнага жыцця ў краю, калі закон і права народныя вырашаць усе балючыя пытанні, пакінутыя нам у спадчыну маскоўскім царызмам і ўсясветнай вайной, а з тым разам і пытанне аб зямлі. Гэта ім не на руку.* ЗС, 17. **Не будзе за што і рук зачапіць** *гл.* зачапіць. **Пагрэць рукі** *гл.* пагрэць. **Падараваць абымальную руку (трапятлівае сэрца)** *гл.* падараваць. **Пападаць у рукі** *гл.* пападаць. **Прыбіраць у свае рукі** *гл.* прыбіраць. **Рукі вянуць –** пра нежаданне рабіць што-н. [Гануля]: *Як падумаю, што бяда зноў прыцісне, што зноў прыдзецца людзям бялізну мыць, дык аж рукі вянуць ад нейкага жалю горкага.* Т, 20. **Сядзяць, злажыўшы рукі** *гл.* сядзяць. **Трапляць пад рукі** *гл.* трапляць. **Трапляць у рукі** *гл.* трапляць. **Трымаць у сваіх руках** *гл.* трымаць.

Адз. Н. *рука* (6); АБ, 16; ДД; ЗК, 43; Кц, 196; Т, 40; УрП, 50. Р. *рукі* (2): СК, 158; Ч, 320. В. *руку* (9): ЗС, 17; ПДз; Т, 23, 24, 30, 40, 42, 50; УрП, 46. Т. *рукой* (9): Кц, 194; НКУС; ПБН; ПЛП; Т, 22, 38, 46;

УрП, 48, 49; *рукою* (4): Ан, 19; НК; Т, 61; УПУВ. М. *руцэ* (5): ДК; Кц, 194 (2); Ч, 322 (2). Мн. Н. *рукі* (5): ВБЛ, 81; ЗС, 17; К; Т, 20, 59. Р. *рук* (9): Ан, 19; ВС; Кц, 194, 195; ПВ; СК, 158; Т, 43, 59; ХЛВ, 315. В. *рукі* (34): АЛ; БН, 92; БС; БСУ; ВБЛ, 83; Дз, 191; ДК; ЗС, 18 (2); КП, 170; Кц, 194; МІ, 18; Мц, 75; Нз, 14; ОШМ; ПБН (2); ПНд, 46; ПСп; ПС (2); Т, 32, 33, 42 (2), 43 (2), 59 (3), 60; УР, 215 (2). Т. *рукамі* (10): ЗС, 17; ЛР; МІ, 17 (2), 18; Т, 20, 30 (2), 42; ЦСБ. М. *руках* (11): БВ, 16; БН, 92; ВР; Нз, 15; ПДз; Т, 37, 52, 58, 60, 61; УрП, 47.

**[РУКАПІС]** (2) *м.* Арыгінал, тэкст з якога робяць набор. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўнікам С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў рознага зьместу рукапісаў..* ВСп, 91. *.. ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі "Наша Ніва" ўрываліся жандармы і "ахраннікі", здзекаваліся над людзьмі, працуючымі там, забіралі рукапісы..* МІ, 17.

Мн. Р. *рукапісаў*: ВСп, 91. В. *рукапісы*: МІ, 17.

**[РУЛЬ]** *м.* Прыстасаванне для кіравання рухам самаходных машын. *І сейбіт выйдзе, свабодны, без путаў. Трактарны ў рукі руль возьме з паклонам..* Мц, 75.

Адз. В. *руль*: Мц, 75.

**[РУЛЬКА]** *ж. Разм.* Дула (рэвальвера). *Мікіта хапае ў Дамы рэвальверы ў абедзве рукі за рулькі, секунду-другую бегае па хаце..* Т, 59.

Мн. В. *рулькі*: Т, 59.

**[РУНЕЦЬ]** *незак.* Зелянець. *Яе* [Беларусі] *шырокія калгасныя палі буйна рунеюць..* ЖН.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *рунеюць*: ЖН.

**[РУНЫ]** (2) *мн. Паэт., перан.* Словы. *Будзеш, Суомі, йсці яснай дарогай, Новага будзеш складаць Калевалу З рунаў красы, барацьбы, пераменаў.* Ф. [Янка]: *Павінны пайсці і мы па яе* [Амерыкі] *слядох і напісаць агністымі рунамі на сваім сцягу: "Беларусь..."* Т, 35.

Р. *рунаў*: Ф. Т. *рунамі*: Т, 35.

**РУНЬ** (4) *ж.* Маладыя ўсходы азімых культур. *Хай, як і летась, закрасуе і сёлета рунь.* РКр. // *Вобразн. ..кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты зарунеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.* ПЛП.

**Хай рунь красуе.**

Адз. Н. *рунь* (3): РКр (3). Т. *руняй*: ПЛП.

**[РУПЛІВЫ]** *прым.* Дбайны, старанны. *.. Вольныя людзі, як пчолы руплівыя, Твораць быт новы, абвеяны славаю.* ДПЛС. *Параўн.* рупны.

Мн. Н. *руплівыя*: ДПЛС.

**[РУПНАСЦЬ]** *ж.* Дбайнасць, стараннасць. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, да палачане ад іх не адставалі, а пасля з дабраты сваёй і рупнасці гасціннай прынялі, падумаўшы, да сваіх старых багоў і новага Бога..* Кз, 17.

Адз. Р. *рупнасці*: Кз, 17.

**РУПНЫ** *прым. Разм. Тое, што* руплівы. *Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначаўся...* Кз, 17.

Адз. м. Н. *рупны*: Кз, 17.

**[РУСАЛКА]** *ж.* Міфалагічны вобраз ў выглядзе жанчыны з доўгімі распушчанымі валасамі. *Як там* [у рацэ] *русалкі – твае* [брата-беларуса] *дзеці – Днём аддыхаюць у жальбе, Каб ночкай, блудзячы па свеце, Шукаці долі для цябе.* БрБ, 6.

Мн. Н. *русалкі*: БрБ, 6.

**РУСАЦЯП** *м. Censure., іран.* Расіец. [Янка]: *Для вашага* [Мікіты] *гонару падавай вам мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў, Распуцінаў, Азэфаў і ўсяе кампаніі падобных іх, а на свой, папраўдзе для вас родны, як вы кажаце, язык, вам напляваць. Эх русацяп вы, русацяп!* Т, 49.

Адз. Н. *русацяп* (2): Т, 49.

**[РУСКА-ІСЦІНЫ]** (3) *прым. Тое, што*ісціна-рускі. [Мікіта]: *.. вы* [Янка] *хацелі б заставіць нас, руска-ісціную тутэйшую, между протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім* [беларускім языком] *свае апошнія мазгі.* Т, 48-49. [Янка]: *Дык вы, пане рэгістратар, маніліся пакінуць усе свае руска-ісціныя варты і ўцякаць з роднага гораду?* Там жа, 55.

Адз. ж. В. *руска-ісціную*: Т, 49. Мн. Р. *руска-ісціных*: Т, 37. В. *руска-ісціныя*: Т, 55.

**РУСКІ**[1] (24) *прым.* **1.** Які адносіцца да Расіі. *Стагнала ўся "руская" зямля, шалёна п'яная, разбушаваная, захліпаючыся "чырвоным смехам"..* НДН, 18. [Мікіта]: *Мы цвёрда.. баранілі тутэйшую рускую народнасць ад "інародчаскага засілля".* Т, 21. *Параўн.* велікарускі.

**2.** Які належыць рускім, мае адносіны да іх. [Мікіта]: *Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы.* Т, 48. *Большасць* [чэхаў] *добра ведае рускую мову, надзвычай цікавяцца яны і любяць совецкую літаратуру.* ПЧ.

Адз. м. Н. *рускі* (7): АПЖ (2); ПНд, 314; Т, 32 (2), 37, 48. Р. *рускага* (2): ДЖ; Т, 38. В. *рускі* (2): Нз, 14; Т, 49. ж. Н. *руская*: НДН, 18. Р. *рускай* (2): Т, 28, 48. В. *рускую* (2): ПЧ; Т, 21. н. В. *рускага*: Т, 56; *рускаго*: ПДз. Мн. Н. *рускія* (5): Т, 34, 43, 44 (3); *рускіе*: З. Р. *рускіх*: Т, 44. Т. *рускімі*: ВСп, 89.

**[РУСКІ]**[2] *м.* Прадстаўнік усходнеславянскага народа, які складае асноўнае насельніцтва Расіі. [Купала:] *З рускіх павінен адзначыць М. Горкага, які зрабіў на мяне вялікае ўражанне.* ПС. *Параўн.* расіец, расеец.

Мн. Р. *рускіх*: ПС.

**[РУСЫ]** *прым.* Светла-карычневага з шараватым ці жаўтаватым адценнем колеру (пра валасы). *А вецер гуляе, Абівае росы, Косы расплятае, Мае* [трактарысткі] *русы косы.* ПТ, 206.

Кар мн. В. *русы*: ПТ, 206.

**РУСЫФІКАЦЫЯ** *ж.* Насільнае ўвядзенне рускай мовы і культуры ў быт іншых нацыянальнасцей. *.. калі ужо нарадзілася беларуская сіла, то ні пальонізацыя, ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі..* ДК.

Адз. Н. *русыфікацыя*: ДК.

**РУХ** (12) *м. перан.* **1.** Перамяшчэнне ў прасторы ў якім-н. кірунку. *Паколькі даўно ўстаноўлена, што самая ўдасканаленая спадніца без адпаведных ног не здольна да руху ці якой-небудзь іншай дзейнасці, было відавочна, што гэта фрыцы.* ПСп.

**2.** *перан*. Грамадская дзейнасць, масавыя выступленні, якія ставяць пэўныя мэты. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з калгаса ў калгас пацёк-разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме.* СТ. *Яна* [15-гадовая гадаўшчына] *.. адносіцца да ўсяго апошніх гадоў руху ў беларускім адраджэнні.* ПЛП.

Адз. Н. *рух* (5) : ВР; СТ (4). Р. *руху* (5): ВСп, 89; МІ, 17; ПЛП; ПСп; СТ. В. *рух*: ВР. Т. *рухам*: У.

**[РУХАВЫ]** *прым.* Хуткі, скоры. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар'ялу й друкаваньні, як бачым у вашэй памешчанай табліцы, аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі і быўшае В-ва "Адраджэнне" – цяпер "Савецкая Беларусь".* ВСп, 90–91.

Мн. Т. *рухавымі*: ВСп, 90.

**[РУХАЦЬ]** *незак. перан.* Садзейнічаць развіццю чаго-н. *За беларускаю сілай пайдуць тые, хто, наогул, ідзе уперад і рухае жыцьцё.* ВМР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *рухае*: ВМР.

**[РУХНУЦЬ]** (6) *зак. перан.* Перастаць існаваць, знікнуць. *.. прышоў 1917 год, прышлі большэвікі і адвечная турма народаў рухнула.* ДЖ. *Станем к змаганьню мы з ведзьмаю-крыўдай Дружна, адважна, плячо ў плячо: Рухне старое, хоць крэпкае з віду, Яснае, вольнае створым жыцьцё.* Г, 17.

Абв. пр. адз. м. *рухнуў*: СНБ, 336. ж. *рухнула* (3): ДЖ; СБНГ; СНБ. Буд. адз. 3 ас. *рухне*: Г, 17. Мн. 3 ас. *рухнуць*: СС, 301.

**[РУХОМЫ]** *прым.*: • **Рухомая маёмасць** *гл.* маёмасць

Адз. ж. В. *рухомую*: Т, 60.

**[РУЧАЙ]** (2) *м.* Невялікі вадзяны паток, утвораны выхадам на паверхню падземных вод або сцёкам снегавых ці дажджавых вод. *Між такімі палямі – намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам..* ХБ, 28. // *У знач. прысл.* Пра любую вадкасць, якая моцна цячэ. *Мне* [хлопчыку] *мамку зарэзалі немцы, Сястрычку спалілі жыўём, Дык хай-жа кроў чорная льецца, Іх псіная кроў ручаём.* ХЛВ, 315.

Адз. Т. *ручаём*: ХЛВ, 315. М. *ручаі*: ХБ, 28.

**[РУЧКА]** (4) *ж.* Частка прадмета, за якую бяруцца рукой пры карыстанні ім. [Дама]: *(углядаючыся пільна цераз акуляры з ручкай на Мікіту). Што гэта ў вас, мусье, за такі арыгінальны ўбор?* Т, 24.

◊ **Цалаваць ручкі** *гл.* цалаваць.

Адз. Т. *ручкай*: Т, 24. Мн. В. *ручкі* (3): Т, 37, 51, 58.

**[РУЧЫЦЬ]** (2) *незак. Разм.* Выпадаць, шэнціць. *Хочэм папросту, каб лепш ручыла Нашым хацінам, нашым палянам, Каб стаць раўнёю славай і сілай Брацям-Славянам.* Пп, 161. *І ручыла, шанцавала ў бітвах цяжкіх яму* [Даніле]*, Ажна вораг напужаны Дзіваваўся таму.* ПСД.

Абв. пр. адз. н. *ручыла* (2): Пп, 161; ПСД.

**[РУШЫЦЦА]** *незак*. Рухацца. *Народ зьдзівіўся, як заглядзеў, Заварушыўся, зашумеў: Вы так ня рушыцесь, мядзьведзі, Ты так ня страшны, сільны леў!* УрП, 51.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *рушыцесь*: УрП, 51.

**[РЫБА]** (3) *ж. Заал.* Вадзяная пазванковая жывёліна, якая дыхае жабрамі і мае плаўнікі. *.. Мела ў пушчах многа зьвера, Многа ў водах рыбы.* Дз, 188. *.. навет калі выхадзілі* [прашчуры] *з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17.

◊ **У мутнай вадзе рыбу лавіць** *гл.* лавіць.

Адз. Р. *рыбы*: Дз, 188. В. *рыбу* (2): Кз, 17; Тж, 16.

**[РЫЗЫКАВАЦЬ]** *незак*. Рабіць рызыкоўны ўчынак. [Мікіта]: *.. я змушаны пакуль што стаяць тут на варце сваіх рангавых і руска-ісціных інтарэсаў. Хоць, можа, я гэтак рызыкую нават сваёй, меджду протчым, пэрсонай..* Т, 37–38. *Параўн*. рыскаваць.

Абв. цяп адз. 1 ас. *рызыкую*: Т, 37.

**РЫЗЫКОЎНА** *прысл*. Смела. *Што значыць – над чым я* [Купала] *працую? Задаць такое пытанне паэту – рызыкоўна.* МП.

**[РЫЛА]** *н. Груб.* Твар, аблічча чалавека. *Па-мойму ж не варта, Панкі, так лезць з жылаў... Як свінням – не глянуць Вам дальш свайго рыла.* Х.

Адз. Р. *рыла*: Х.

**[РЫМСКІ]** *прым.*: • **Рымскія ласкі** *гл.* ласка.

Мн. Р. *рымскіх*: ВБЛ, 80.

**[РЫНУЦЦА]** (2) *зак.* **1.** Імкліва кінуцца куды-н. *Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасьне на яе аграбленые абшары з вялікім разгонам рынуліся з усходу – расійскіе бальшавікі, з захаду – польскіе нацыяналісты.* СНБ. *Параўн*. рынуць.

**2.** Нечакана з'явіцца. *Лета было. Пайшла* [маці] *ў ягады. Рaптам Рынуўся знекуль паніч сумазбродзень, Высыпаў ягады, збіў, клікнуў варту..* Мц, 75.

Абв. пр. адз. м. *рынуўся*: Мц, 75. Мн. *рынуліся*: СНБ.

**[РЫНУЦЬ]** (3) *зак.* **1.** *Тое, што* рынуцца *ў* 1 *знач*. [Гарошка]: *Рынулі* [казакі] *ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ..* Т, 43.

**2.** Раптоўна напасці. *Больш на нас не рыне банда Ашалелай сука..* НК.

**3.** *Разм., перан.* Знікнуць. *Бухнула ў Расіі рэвалюцыя. Рынуў царскі пасад.* БВ, 16.

Абв. пр. адз. м. *рынуў*: БВ, 16. Мн. *рынулі*: Т, 43. Буд. адз. 3 ас. *рыне*: НК.

**РЫСК** *м. Руск.* Рызыка. *.. адвага есьць рыск, а абыватаь рыскаваць ня будзе.* ВМР.

Адз. Н. *рыск*: ВМР.

**РЫСКАВАЦЬ** *незак. Руск. Тое, што* рызыкаваць. *.. адвага есьць рыск, а абыватаь рыскаваць ня будзе.* ВМР.

Інф. *рыскаваць*: ВМР.

**[РЫФ]** (2) *м.* Падводнае ці надводнае ўзвышэнне марскога дна. *Ніпачым ім* [камсамольцам] *рыфы, скалы, Ані смерчы, ні бураны..* СА, 180. *Па моры плывуць караблі, Плывуць паміж рыфаў і скал.* ТП, 215.

Мн. Н. *рыфы*: СА, 180. Р. *рыфаў*: ТП, 215.

**РЫХТАВАЦЦА** (5) *незак.* Рабіць усё неабходнае для здзяйснення чаго-н., прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення чаго-н. *Пажычыць у гэту усесьветную завіруху німа дзе, бо тые* [суседзі] *ваююць і самі павінны дабываць грошы на расходы, а тые* [суседзі] *рыхтуюцца к абароне ці вайне і так сама пажычаць іншым ня могуць.* ВН. [Аленка]: *Трэба ж было, татачка, прыглядзецца, як рыхтуюцца менчукі спатыкаць новых акупантаў.* Т, 44.

Інф. *рыхтавацца*: УрП, 49. Абв. цяп. адз. 3 ас. *рыхтуецца*: ШБСЯ. Мн. 3 ас. *рыхтуюцца* (2): ВН; Т, 44. Заг. мн. 2 ас. *рыхтуйцеся*: Т, 53.

**РЫХТАВАЦЬ** (4) *незак.* **1.** Вучыць для якой-н. мэты. *Ён* [Баця], *вядома, не хоча рыхтаваць адукованых, соцыяльна-свядомых людзей, яму патрэбен чалавек-машына, "робот".* ПЧ. *Баця рыхтуе для сябе "кадры" рабочых, арганізаваўшы для падлеткаў заводскіе школы.* Там жа.

**2.** Збірацца зрабіць што-н., задумваць што-н. *Такі-ж лёс рабства і гібелі яны* [трацкісцкія дыверсанты] *рыхтавалі нашаму беларускаму народу.* ВНЗ. *Яны* [трацкісцкія вырадкі] *рыхтавалі зноў нам бізун памешчыка, ураднікa і кабалу фабрыканта.* Там жа.

Інф. *рыхтаваць*: ПЧ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *рыхтуе*: ПЧ. Пр. мн. *рыхтавалі* (2): ВНЗ (2).

**РЫЦАР** (2) *м.* Сярэдневяковы феадал, які належаў да ваенназемлеўладальніцкага саслоўя. *У параўн. З ім* [стаханаўцам] *ты* [трактар] *будзеш скарбы Здабываць з зямелькі, А ён будзе рады, Як той рыцар нейкі.* ПТ, 208.

Δ **Рыцар-пёс:** *Давіць мы* [хлопчык і лётчык] *іх будзем, як вошаў, Як гадкіх смярдзючых клапоў, Караць штораз караю горшай Сягонняшніх рыцараў-псоў.* ХЛВ, 315.

Адз. Н. *рыцар*: ПТ, 208. Мн. В. *рыцараў*: ХЛВ, 315.

**[РЫЦЬ]** *незак.* Выкідваць зямлю, рабіць яму. *Ты, чужы друг: мне яміну рый, Віхр чужы хай памінкі спяе.* ЧС, 51.

Заг. адз. 2 ас. *рый*: ЧС, 51.

**РЭАБІЛІТАВАЦЬ** *зак.* Аднавіць чысціню чыйго-н. імя, рэпутацыі, абвяргаючы ілжывыя абвінавачванні. *Я* [Купала] *вельмі прасіў бы рэабілітаваць мяне перад працоўнымі Сав<ецкай> Беларусі.* СЧ.

Інф. *рэабілітаваць*: СЧ.

**[РЭАКЦЫЙНЫ]** *прым.* Які дзейнічае ў інтарэсах рэакцыі; варожы прагрэсу. *Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая нябеспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі.* БВ, 16–17.

Адз. ж. Р. *рэакцыйнай*: БВ, 16.

**РЭАКЦЫЯ** (9) *ж.* Палітыка жорсткага падаўлення рэвалюцыйнага руху і грамадскага прагрэсу, якую вядуць эксплуататарскія класы ў барацьбе за захаванне або зварот сваіх правоў і палітычнага панавання. *Віхор праміне і прыдзе ясная жыватворчая пагода для ўсіх. Абы толькі рэакцыя урадавая не зьмянілася на рэакцыю грамадзянства.* СНБ. // *зб.* Рэакцыянеры, рэакцыйныя сілы. *Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай бацькаўшчыны!* МІ, 17. *Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі, кліч “Дзяры, з каго можаш і сколькі можаш, душы слабейшага, пакуль яму звязаны рукі і ногі!”* ЗС, 17.

Адз. Н. *рэакцыя* (5): ДЖ (2); МІ, 17; СНБ (2). Р. *рэакцыі* (2): АЛ; ЗС, 17. В. *рэакцыю*: СНБ. Т. *рэакцыяй*: СНБ.

**[РЭАЛІЗАЦЫЯ]** *ж.* Ажыццяўленне, здзейсненне, правядзенне ў жыццё чаго-н. *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, .. бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з*

*інтарэсамі беларускіх працоўных мас і запатрабаваньнямі партыі і савецкае ўлады ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, маральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Адз. Д. *рэалізацыі*: АЛ.

**РЭАЛЬНА** *прысл. да* рэальны. *У СССР .. рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы найгеніяльнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду – Маркса і Леніна..* АЛ.

**[РЭАЛЬНЫ]** (4) і **[РЭЯЛЬНЫ]** *прым.* Які існуе ў рэчаіснасці; не ўяўны. *Ніяк не мог я* [Купала] *пагадніць акружаючае рэальнае жыццё са светам думак, фантазіі, якія пачэрпнуў з кніг.* А, 328. [Аленка]: *А чаму б вам, пане Нікіці, замест коўзацца па слізкіх небяспечных для вашай асобы пуцявінах, не заняцца чым-небудзь больш рэальным і грунтоўным.* Т, 36.

• **Рэальнае вучылішча** *гл.* вучылішча.

Адз. ж. Н. *рэальная*: Т, 22. В. *рэяльную*: ВМР. н. В. *рэальнае* (2): А, 328 (2). Т. *рэальным*: Т, 36.

**[РЭВАЛЬВЕР]** (9) *м.* Ручная агнястрэльная наразная зброя з рухомым барабанным магазінам. [Мікіта]: *(стаўляючы кошык з пакупкамі і кладучы на стале рэвальверы, вітаючыся з гасцьмі).* Т, 58. [Начальнік патруля]: *(спаткаўшы на парозе Мікіту з выстаўленымі рэвальверамі). Стаць!* Там жа, 59.

Мн. В. *рэвальверы* (7): Т, 58 (3), 59 (3), 62. Т. *рэвальверамі* (2): Т, 59 (2).

**[РЭВАЛЮЦЫЙНЫ]** (3) і **РЭВОЛЮЦЫЙНЫ** (7) *прым.* Які адносіцца да рэвалюцыі, накіраваны на яе ажыццяўленне. *Балюча і цяжка усьведамляць мне* [Купалу] *сёньня, што я, адарваўшыся ад здаровага творчага асяродзішча рэволюцыйных пролетарскіх працоўных мас, .. не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі цараты вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых ..* ЖН.

Адз. м. Н. *рэвалюцыйны*: БВ, 16. Р. *рэволюцыйнага*: АЛ. ж. Н. *рэволюцыйная* (5): АЛ; Т, 50 (4). н. Н. *рэвалюцыйнае*: Т, 28. Мн. Р. *рэволюцыйных*: АЛ. В. *рэвалюцыйных*: ЖН.

**РЭВАЛЮЦЫЯ** (19) і **РЭВОЛЮЦЫЯ** (17) *ж.* Насільнае звяржэнне старога і ўстанаўленне новага, прагрэсіўнага грамадскага ладу. *Бухнула ў Расіі рэвалюцыя.* БВ, 16. *.. рэволюцыя зьмяла ў сваім ходзе цара..* БС.

Адз. Н. *рэвалюцыя* (10): БВ, 16 (2); СНБ, 336 (2), 337; СНБ (2); Т, 20, 37 (2); *рэволюцыя* (8): БС; СНБ (6); Т, 41. Р. *рэвалюцыі* (7): МІ, 17

(4); СНБ, 336 (2); Т, 28; *рэволюцыі* (6): АЛ; ДК (2); ОШМ; СНБ (2). В. *рэволюцыю* (2): ЗС, 18 (2). Т. *рэвалюцыяй*: Нз, 14; *рэволюцыяй*: З. Мн. Н. *рэволюцыі* (2): СНБ (2).

**РЭВІЗІЯ** (4) *ж.* Агляд чаго-н. з мэтай праверкі. [Начальнік]: *(да Патрульнага). Зрабеце рэвізію кішэняў гэтага грамадзяніна.* Т, 61. *Патрульны робіць рэвізію, знаходзіць у кішэнях Спраўніка пагоны і падае іх Начальніку.* Там жа, 61.

Адз. Н. *рэвізія*: Т, 62. В. *рэвізію* (3): Т, 60, 61 (2).

**[РЭВІР]** *м. Польск.* Паліцэскі ўчастак, акалотак. [Спічыні]: *У гэтым напісана: "рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Мінска".* Т, 61.

Адз. Р. *рэвіру*: Т, 61.

**РЭВІРОВЫ** *прым. Польск. У знач. наз.* Акалотачны. [Спічыні]: *У гэтым напісана: "рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Мінска".* Т, 61.

Адз. м. Н. *рэвіровы*: Т, 61.

**РЭВОЛЮЦЫЯ** *гл.* **РЭВАЛЮЦЫЯ.**

**[РЭВОЛЮЦЫЯНЕР]** (2) *м.* Удзельнік рэвалюцыйнага руху, дзеяч рэвалюцыі. *Соцыяльные рэволюцыянеры з усходу і нацыянальные "рэволюцыянеры" з захаду ў мінулы год паказалі сваю праўдзівую натуру.* СНБ.

Мн. Н. *рэволюцыянеры* (2): СНБ (2).

**[РЭВЭРАНС]** *м. Уст.* Пачцівы паклон з прысяданнем, прыняты ў буржуазна-дваранскім побыце як знак прывітання. [Мікіта]: .. *як будзеце вітацца* [Ганулю]*, то адну нагу назад адцягвайце – рабеце рэвэранс*. Т, 22.

Адз. В. *рэвэранс*: Т, 22.

**[РЭГЕНАЦКІ]** *прым. Разм.* Здрадніцкі, адступніцкі. *На беларускай зямлі было і ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэгенацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца.* ПЛП.

Мн. Р. *рэгенацкіх*: ПЛП.

**РЭГІСТРАТАР** (56) і **РЭГІСТРАТОР** *м.* Службовая асоба ва ўстанове, якая праводзіць рэгістрацыю каго-, чаго-н. [Янка]: *Ён* [Мікіта] *гэтак заўсёды хоча сябе паказаць, як бы сам губарнатар.* [Ганулю]: *Гэта, мабыць, ён наглядзеўся, бо служыў у губарнатарскай канцэлярыі за нейкага там рэгістратара.* Т, 20. [Поп]: *І прышэд я с німі, дабы одним веселіем возвеселіцеся з вамі, чадо мое, рэгістратор!* Там жа, 51.

Адз. Н. *рэгістратар* (48): Т, 19, 21. 22, 24, 25, 27 (2), 29 (2), 31, 32, 35, 36 (3), 37 (2), 38, 39, 40 (2), 41 (3), 42, 45, 48, 49 (2), 50 (2), 51 (2), 52, 54, 55 (3), 56 (3), 57 (3), 58, 60 (2), 61; *рэгістратор*: Т, 51. Р. *рэгістратара* (3): Т, 36, 38, 46. Д. *рэгістратару*: Т, 48. В. *рэгістратара* (3): Т, 20, 23, 46. Т. *рэгістратарам*: Т, 37.

**[РЭГІСТРАТАРСКА-СОВБУРСКІ]** *прым.* Які адносіцца да рэгістратара і совбура. [Мікіта]: *Бяда толькі, меджду протчым, што вось новая, па ліку трэцяя, палітычная сытуацыя спыняе на няведамы час маю рэгістратарска-совбурскую кар'еру.* Т, 46–47.

Адз. ж. В. *рэгістратарска-совбурскую:* Т, 47.

**[РЭГІСТРАТАРСКІ]** (3) *прым.* **1.** Які адносіцца да рэгістратара. [Янка]: .. *вы* [Мікіта] *ад гэткіх вучоных чэрпаеце сябе ўдзяткадайны клёк для падтрымання сваіх рэгістратарскіх кар'ераў у тутэйшым краі.* Т, 39.

**2.** Які належыць рэгістратару. [Мікіта]: *(Мацае па кішэні.) Ой, грошы засталіся з рэгістратарскіх, меджду протчым.* Т, 33.

Адз. м. Р. *рэгістратарскага*: Т, 36. Мн. Р. *рэгістратарскіх*: Т, 39. М. *рэгістратарскіх*: Т, 33.

**[РЭГІСТРАТАРСТВА]** *н., зб.* Дзейнасць рэгістратара. [Янка]: *Ідзе народ, беларускі сярмяжны народ ідзе, а ён вашаму* [Мікіты] *руска-ісцінаму рэгістратарству саб'е рогі.* Т, 56.

Адз. Д. *рэгістратарству*: Т, 56.

**[РЭГІСТРАЦЫЯ]** *ж.* Запіс, адзначэнне з мэтай уліку. *Надовечы Беларуская Вайсковая Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў-афіцэраў, дактароў і інш...* БВ, 16.

Адз. В. *рэгістрацыю*: БВ, 16.

**РЭДАГАВАЦЬ** *незак.* Праводзіць літаратурную апрацоўку якога-н выдання. *З Петраграда зноў пераехаў* [Купала] *у Вільню, дзе прыйшлося рэдагаваць "Нашу ніву".* А, 328.

Інф. *рэдагаваць*: А, 328.

**РЭДАКТАР** (31) *м.* Кіраўнік выдання, які зацвярджае яго змест. *Паважаны тав. рэдактар, прашу зьмясьціць у вашай газэце наступнае ..* АЛ. *І гэтак далей пісаў я* [хлопец] *і насыпаў аж тысячу радкоў. Рэдактар надрукаваў.* Ан, 19.

Адз. Н. *рэдактар* (26): АЛ; Ан, 18 (6), 19 (13); ЛР; Т, 45, 55; ЧЧШ (3). Р. *рэдактара* (3): Ан, 19 (3). Д. *рэдактару* (2): Ан, 18, 19.

**[РЭДАКЦЫЙНЫ]** *прым.* Які адносіцца да рэдакцыі. *За "плебісцыт" паліцыя пры помачы сьлёсара улезла у рэдакцыю беларускай газэты і забрала усе канторскіе і рэдакцыйные матэрыялы.* СНБ.

Мн. В. *рэдакцыйныя*: СНБ.

**[РЭДАКЦЫЯ]** (5) *ж.* Памяшканне, дзе працуюць рэдакцыйныя работнікі. *Я прыкінуўся, што не чую, .. і вылецеў гарматняй куляй з рэдакцыі.* Ан, 19. *За "плебісцыт" паліцыя пры помачы сьлёсара улезла у рэдакцыю беларускай газэты..* СНБ.

**Ліст у рэдакцыю.**

Адз. Р. *рэдакцыі*: Ан, 19. В. *рэдакцыю* (4): Ан, 19; ЛР; МІ, 17; СНБ.

**РЭДЗЬКА** *ж.* Плод агароднай караняплоднай расліны сямейства крыжакветных з гаркавым вострым смакам і пахам. [Мікіта]: ..

*вось пападаецца па дарозе якая-небудзь контрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупы, .. рэдзька і гэтаму, меджду протчым, падобнае.* Т, 45.

Адз. Н. *рэдзька*: Т, 45.

**РЭДКА** *прысл. да* рэдкі. *Праз вялікія прамежкі часу, не часта. .. спачатку і расстрэлы рэдка былі чутны.* СНБ, 339.

**РЭДКІ** *прым.* Які складаецца з аднародных прадметаў, часцінак, размешчаных не блізка адзін ад другога. *Круціць вецер пласконны падол. Вецер весел ды цёмен дол. Ой, і рэдкі ў палетку лён.* ВБЛ, 82.

Адз. м. Н. *рэдкі*: ВБЛ, 82.

**[РЭЖЫСЁР]** *м.* Мастацкі кіраўнік, пастаноўшчык спектакля. *Мы* [дэлегаты] *наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна, дзе прaглядзелі пастаноўку "Удалага салдата Швейка".* ПЧ.

Адз. Р. *рэжысёра*: ПЧ.

**[РЭЗ]** *м.* Стопка паперы. *.. мы бачым, што агулам надрукавана 268.050 кніг у ліку 2.036.527 друк. аркушаў. Гэта складае 2120 рэзаў (стоп) паперы..* ВСп, 91.

Мн. Р. *рэзаў*: ВСП, 91.

**[РЭЗАЛЮЦЫЯ]** (2) і **[РЭЗОЛЮЦЫЯ]** *ж.* Рашэнне, пастанова. *Польскія эндэкі .. накінулі на "плебісцыт", прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ. [Мікіта]: *А ў гэтым, меджду протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы, загады, рэзалюцыі, інструкцыі аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў..* Т, 46.

Адз. Р. *рэзалюцыі*: Т, 29. В. *рэзолюцыю*: СНБ. Мн. Н. *рэзалюцыі*: Т, 46.

**[РЭЗАЦЬ]** *незак. перан.* Імклівым рухам рассякаць (ваду). *Глянь, карабль плыве дасужна, Дыміць комін параходны, – Комсамольцы сям'ёй дружнай Рэжуць хвалі ў шляху водным.* СА, 180.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *рэжуць*: СА, 180.

**РЭЗОЛЮЦЫЯ** *гл.* **РЭЗАЛЮЦЫЯ.**

**РЭЗУЛЬТАТ** (6) *м. Руск. Тое, што* вынік. *..В-ва "Адраджэньне" шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91. *Пашлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г.д. А ў рэзультаце што-ж?* БС.

Адз. Н. *рэзультат* (2): ВСп, 91; ВР. В. *рэзультат*: ВСп, 91. М. *рэзультаце*: БС. Мн. Р. *рэзультатаў*: Т, 36. В. *рэзультаты*: ВСп, 91.

**[РЭЙ]** *м.*: ◊ **Рэй вадзіць** *гл.* вадзіць.

Адз. В. *рэй*: ЗК, 42.

**РЭКА** *гл.* **РАКА.**

**[РЭКТАР]** *м.* Кіраўнік навучальнай установы. *Кс.<яндзу> рэктару Абрантовічу, п. <ану> Гіркант, п.<ану> Якобіні, п.<ану> Вайтовіч прыношу* [Купала] *сваю шчырую падзяку за іх добрую апеку ў трудные дні маей хваробы.* ЛР.

Адз. Д. *рэктару*: ЛР.

**[РЭЛІГІЙНЫ]** *прым.* Які верыць у бога, набожны. *Праўду сказаць, я* [Купала] *і да гэтага не быў вельмі рэлігійным..* А, 328.

Адз. м. Т. *рэлігійным*: А, 328.

**РЭЛІГІЯ** (9) *ж.* Адна з форм грамадскай свядомасці – сукупнасць містычных уяўленняў, якія грунтуюцца на веры ў звышнатуральныя сілы і істоты (багоў, духаў). *.. навука рэлігіі, па польску – гэта моцнае аружжэ ў руках польскіх націоналістоў.* ВР. *Мы ніколі не заяўлялі, каб нашым дзецям выкладалі рэлігію простымі славамі роднай гутаркі беларускай.* Там жа.

**Як вучыць рэлігіі.**

Адз. Н. *рэлігія*: ВР. Р. *рэлігіі*: ВР. Д. *рэлігіі* (5): ВР (5). В. *рэлігію* (2). ВР (2).

**[РЭМЕНЬЧЫК]** *м. Памянш. да* рэмень.: ◊ **Аддаць рэменьчыкам за лычка** *гл.* аддаць.

Адз. Т. *рэменьчыкам*: СП.

**[РЭНЕГАТ]** і **[РЭНЭГАТ]** (2) *м.* Чалавек, які адмовіўся ад сваіх поглядаў і перайшоў у лагер праціўніка: здраднік, [Янка]: *Вы* [Усходні вучоны] *згадалі: яны* [Мікіта, Дама, Поп, Спраўнік, Пан] *самдзеле тожа-беларусы, з пароды рэнэгатаў і дэгэнэратаў.* Т, 26. [Усходні вучоны]: *Народность ныне распадается на две родовыя ветві: племя – белорусы і племя – тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.* Там жа, 26.

Мн. Р. *рэнэгатаў*: Т, 26; *рэнэгатув*: Т, 26; *рэнегатов*: Т, 26.

**[РЭАРГАНІЗАЦЫЯ]** *ж.* Перабудова, ператварэнне чаго-н. *Гістарычная пастанова ЦК КП(б) аб рэарганізацыі літаратурна-мастацкіх арганізацый мае ня толькі ўсесаюзнае, але і сусьветнае значэнне.* ДНСП.

Адз. М. *рэарганізацыі*: ДНСП.

**[РЭПА]** *ж.*: ◊ **Як рэпу сячы** *гл.* сячы.

Адз. В. *рэпу*: Т, 42.

**[РЭПАРАЦЫЯ]** *ж. перан.* Выплата як кампенсацыя. [Мікіта]: *Грамафон ... грамафон ... меджду протчым, грамафон, мадамсіньёра, у...у рэпарацыі.* Т, 51.

Адз. М. *рэпарацыі*: Т, 51.

**[РЭПКА]** *ж. Памянш.-ласк. да* рэпа. Агародная караняплодная расліна. [Ганулля]: *Усё роўна як той дзед з бабай рэпку сваю – цягнулі-цягнулі, ды ніяк не маглі выцягнуць.* Т, 54.

Адз. В. *рэпку*: Т, 54.

**[РЭПУТАЦЫЯ]** *ж.*: ◊ **Папсаваць рэпутацыю** *гл.* папсаваць.

Адз. В. *рэпутацыю*: Т, 25.

**[РЭСПУБЛІКА]** (18) *ж.* Краіна з формай дзяржаўнага кіравання, пры якой вярхоўныя дзяржаўныя ўлады выбіраюцца на пэўны

тэрмін. .. *я* [Купала] *шчасліў, што дажыў тэй пары, калі мая Беларусь разам з усімі рэспублікамі Совецкага Саюза творыць новае шчаслівае жыццё.* ДЖ. *Упартая, але радасная праца працоўнага народу маёй* [Купалы] *бацькаўшчыны ў саюзе з усімі брацкімі рэспублікамі дала вынікі незвычайныя.* ЖН.

Адз. Р. *рэспублікі* (7): АЛ; ДЖ; ЖН; НКУС; ПГ; СНБ, 338, 340. В. *рэспубліку* (3): СНБ, 338; 339 (2). М. *рэспубліцы*: Т, 46. Мн. Р. *рэспублік*: АПЖ; *рэспублікаў*: ЗЯЗ, 90. В. *рэспублікі* (2): СНБ (2). Т. *рэспублікамі* (2): ДЖ; ЖН. М. *рэспубліках*: НК.

**[РЭСПУБЛІКАНЕЦ]** *м.* Прыхільнік рэспубліканскага ладу. [Мікіта]: *А што вы* [Янка]*, наваспечаныя рэспубліканцы, хэ-хэ-хэ! беларусы ці як там... што вы маніцёся бараніць, бо дагэтуль, меджду протчым, вы яшчэ нічога не ўбаранілі!* Т, 21.

Мн. Н. *рэспубліканцы*: Т, 21.

**[РЭСТАЎРАЦЫЯ]** *ж.* Аднаўленне ранейшага, звергнутага палітычнага ладу. .. *ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмакратызм, выступаючы пад сьцягам ліквідацыі ўсіх заваяваньняў Кастрычнікавай рэволюцыі, пад сьцягам рэстаўрацыі буржуазнага ладу..* АЛ.

Адз. Р. *рэстаўрацыі*: АЛ.

**РЭФОРМА** (7) *ж.* Змена, пераўтварэнне чаго-н. *Рэформа правапіса .. з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы па шляху пролетарскага інтэрнацыяналізма..* ШБСЯ. .. *калі збярэцца ўсебеларускі Устаноўчы сойм, то зямельную рэформу ён правядзе, і правядзе яе напэўна не на карысць паноў-абшарнікаў.* ЗС, 18.

Адз. Н. *рэформа* (2): ШБСЯ(2). Р. *рэформы* (2): ШБСЯ (2). В. *рэформу* (3): ЗС, 18; ШБСЯ (2).

**РЭХА** (4) *н.* **1.** Адбіццё гукавога сігналу ад пэўнай перашкоды. *Я шчаслівы, што я разам Пяю песні з комсамолам, Пяём песні складным сказам, Ажно рэхі йдуць вакола.* СА, 182. *Замерла песьня, Грозна рэхі, Пашлі па пушчах, па лясох, Аж сьціхлі птушчыныя сьмехі, Аж вецер сьцішыцца ня мог.* УрП, 49.

**2.** *перан.* Водгалас, водгук. *Былі твае песні, ашуг Дагестана, А ў тых песнях гоман зямлі нашай чуўся, І рэха ляцела дарогаю слаўнай, Ажно з-пад Эльбруса і да Беларусі.* ПСС, 232. *А сёння... Сёння што? Ад рання і да рання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158.

Адз. Н. *рэха* (2): ПСС, 232; СК, 158. Мн. Н. *рэхі* (2): СА, 182; УрП, 49.

**РЭЧ[1]** (25) *ж.* **1.** Усякі неадушаўлёны прадмет. *І вось мы бачым, што ужо на некаторые рэчы падвышэны у нас да канца*

*вайны акцыз..* ВН. [Мікіта]: *(Дастаючы іншыя рэчы з каламажкі.)* Т, 46.

**2.** Твор літаратуры, мастацтва, навукі і пад. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, .. само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.* ДНСП.

**3.** Штосьці, нейкая з'ява, абставіны. [Гануля]: *Звычайная рэч, мой сваток.* Т, 44. *Але як-бы сабе там не было, мы ва ўсім гэтым бачым адну вельмі карысную для ўсіх рэч – гэта падаходны налог.* ВН.

Адз. Н. *рэч* (5): Ан, 18; Р; СНБ, 340; Т, 42, 44. В. *рэч*: ВН. Мн. Н. *рэчы* (2): Т, 53, 55. Р. *рэчаў* (5): ОШМ; Т, 43, 60 (2), 62. В. *рэчы* (9): ВН; ДНСП; Т, 45 (2), 46, 57, 60 (2); УП. Т. *рэчамі*: Т, 55. М. *рэчах*: Ч, 325.

**[РЭЧ]²** (2) *ж. Руск.* Размова. *Брат другі яе* [судзьбіны] *мудрыя выслухаў рэчы: – Ня туды цэлы век пёрся здуру..* Ч, 323.

◊ **І рэчы быць не можа** *гл.* магчы.

Адз. Р. *рэчы*: Т, 30. Мн. В. *рэчы*: Ч, 323.

**[РЭЧАІСНАСЦЬ]** *ж.* Рэальнасць, сапраўднасць. *Азірнуўшыся ясным вокам .. на пройдзеныя гэтыя 15 год, мы бачым якіх .. дасяглі мы перамог у вялікім соцыялістычным будаўніцтве: што было сном, тое стала явай, што было казкай, тое стала рэчаіснасцю.* ШБСЯ.

Адз. Т. *рэчаіснасцю*: ШБСЯ.

**РЭЧКА** (13) *ж.* Нешырокая, невялікая рака. *Той шлях трэці і трэцяя рэчка сьляпою Ласкай-крыўдай апутаюць грудзі...* Ч, 320. *А сонейка будзе ўсходзіць, заходзіць Плысці будуць рэчкі, шумець будзе бор.* НДп, 230. // *У знач. прысл. Кроў лілася рэчкай Арміі Чырвонай Па дарогах-сцежках, Па глухіх загонах.* ІП.

Адз. Н. *рэчка* (3): Ч, 319 (2), 320. Р. *рэчкі*: $Ш_4$. Д. *рэчцы*: Ч, 319. В. *рэчка*: $Ш_4$. Т. *рэчкай*: ІП; *рэчкаю*: $Ш_5$. М. *рэчцы*: Ч, 319. Мн. Н. *рэчкі* (3): БрБ, 6; НДп, 230; ТП, 215. В. *рэчкі*: Т, 47.

**РЭШТА** (2) *ж.* Астача. *Рэшта яго* [рабочага] *грошай, што хаваецца ў Бацяўскай "ашчадкасе" – пад суровым кантролем.* ПЧ. *Параўн*. рэштка.

◊ **Да рэшты –** поўнасцю, да канца. *Нідзе ні ладу, ані праўды, званы хаўтурныя зьвіняць... О Божа! ты хоць заступіся Й ня дай да рэшты нам сканаць!* РС, 40.

Адз. Н. *рэшта*: ПЧ. Р. *рэшты*: РС, 40.

**[РЭШТКА]** (3) *ж. Тое, што і* рэшта. *.. я* [Купала] *і да гэтага не быў вельмі рэлігійным, але гэты цынічны торг ксяндза канчаткова выбіў з мяне рэшткі веры.* А, 328. *Імпэрыялістычная загранічная буржуазія адзіным фронтам з рэшткамі капіталістычных элементаў у СССР напружвае ўсе свае сілы для*

*таго, .. каб знішчыць социялістычную дзяржаву..* АЛ.

Мн. В. *рэшткі* (2): А, 328; Пр. Т. *рэшткамі*: АЛ.

**РЭХТ** *прысл. да* рыхтык. [Немец]: *Я чакаю, ваша прэвасхадзіцельства!* [Мікіта]: *Рыхтык, рэхт, меджду протчым, шабас гут, фрау ... фатэрлянд. .. Зараз, зараз!* Т, 32.

**РЭЯЛЬНЫ** *гл.* **РЭАЛЬНЫ.**

**РЫХТЫК** *прысл. Ням., разм.* Правільна. [Мікіта]: *Рыхтык, рэхт, меджду протчым, шабас гут, фрау... фатэрлянд...* Т, 32.

**РЫХТЫК** *прым. Ням.* Сапраўдны. [Немец]: *(падышоўшы блізка да Мікіты..). О-о! Што я бачу? Рыхтык рускі генэрал.* Т, 32.

Даведачнае выданне

# Слоўнік мовы Янкі Купалы

У васьмі тамах

## Том 8
## Кніга 1
К–Р
(дадатак)

Адказны рэдактар *У. А. Бобрык*

Падпісана ў друк 16.05.2012. Фармат 60х84 1/16.
Папера афсетная. Рызаграфія. Умоўн. друк. арк. 32,3.
Улік.-выд. арк. 35,3. Тыраж 100 экз. Заказ № 343.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі □Гомельскі дзяржаўны
ўніверсітэт імя Францыска Скарыны□.
ЛИ № 02330/0549481 ад 14.05.2009.
Вул. Савецкая, 104, 246019, г. Гомель.

Слоўнік мовы Янкі Купалы. У 8 т. Т. 8. Кн. 1:
С 48 К–Р (дадатак) / склад.: У. В. Анічэнка [і інш.]; рэдкал.: У. А. Бобрык (адказны рэд.) [і інш.]; М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзярж. ўн-т імя Ф. Скарыны. – Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны, 2012. – 564 с.
ISBN 978-985-439-638-5 (Т. 8)
ISBN 978-985-439-639-2 (Кн. 1)

У восьмы том выдання ўключаны апісанні слоў з купалаўскіх літаратурна-мастацкіх і публіцыстычных твораў на беларускай мове, якія ў свой час не ўвайшлі ў сямітомны збор твораў (Мн., 1972–1976). Прыведзена частотнасць ужывання і вызначаны граматычныя формы і семантычны аб'ём кожнага рэестравага слова, пададзены стылістычныя паметы і прыклады з твораў паэта.

Папярэднія 6 тамоў выйшлі ў выдавецтве "Беларуская навука" (Т. 1 – 1997 г., Т. 2 – 1999 г., Т. 3 – 2001 г., Т. 4 – 2002 г., Т. 5 – 2003 г., Т. 6 – 200 г.). Том 7 выдадзены ГДУ імя Ф. Скарыны ў 2012 г.

Разлічаны на моваведаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, а таксама на ўсіх, хто шануе і паважае беларускае слова.

УДК 811.161.3'374:012 Купала
ББК 81.411.3–4